# Гарады і вёскі Беларусі

## МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

кніга

I



ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»

# МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга I




Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2008

УДК 94 (476.7)
ББК 63.3 (4 Беи)
Г 20



Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І.Лакоткі.

Выпуск выдання ажыццёулены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**Гарады і вёскі Беларусі** : Энцыклапедыя. Т 5. кн.1. Магілёўская вобласць / рэдкал. : Г.П.Пашкоў (дырэктар) [і інш.] — Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі. — 2008. — 728 с.: іл.

**Г 20**

ISBN 978-985-11-0409-9.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і іншых крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі — 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Пяты том выдання прысвечаны населеным пунктам 8 раёнаў Магілёўскай вобласці.

**УДК** 94(476.7)
**ББК** 63.3(4 Беи)

ISBN 978-985-11-0409-9 (т. 5, кн. 1)
ISBN 978-985-11-0411-2


МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
Маштаб 1:1 500 000
УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ
НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
Паводле колькасці жыхароў
ад 100 000 да 500 000
ад 50 000 да 100 000
ад 10 000 да 50 000
менш за 10 000
Паводле адміністрацыйнага значэння і тыпу паселішча
МАГІЛЁЎ Цэнтр вобласці
СЛАЎГАРАД Іншыя гарады
Хоцімск Пасёлкі гарадскога тыпу
Ліпаўка Сельскія населеныя пункты
Цэнтры раёнаў выдзелены пунсонамі чырвонага колеру
ГРАНІЦЫ
дзяржаў
абласцей
раёнаў (на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь)
ШЛЯХІ ЗНОСІН
Чыгункі
Аўтамабільныя дарогі
рэспубліканскія магістральныя
рэспубліканскія іншыя
мясцовага значэння
Аэрапорт
Рачныя порты і прыстані
Рэкі і меліярацыйныя каналы
Азёры і вадасховішчы
МАГІЛЁЎ
БАБРУЙСК
ОРША
ШКЛОЎ
ГОРКІ
МСЦІСЛАЎ
ЧАВУСЫ
КРЫЧАЎ
КЛІМАВІЧЫ
ЧЭРЫКАЎ
СЛАЎГАРАД
КАСЦЮКОВІЧЫ
БЫХАЎ
КЛІЧАЎ
КІРАЎСК
АСІПОВІЧЫ
КРУПКІ
ДУБРОЎНА
БАРАНЬ
ПАЧЫНАК
МАРІНА ГОРКА
СТАРЫЯ ДАРОГІ
ЛЮБАНЬ
ЖЛОБІН
РАГАЧОЎ
ЧАЧЭРСК
БУДА-КАШАЛЁВА
СВЕТЛАГОРСК
СУРАЖ
УНЕЧА
КЛІНЦЫ
СТАРАДУБ
ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛ.
СМАЛЕНСКАЯ ВОБЛ.
БРАНСКАЯ ВОБЛ.
ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛ.
МІНСКАЯ ВОБЛ.
Р А С І Я
Дняпро
Сож
Бярэзіна
Друць
Проня
Беседзь
Іпуць



# МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

Магілёўская вобл. размешчана на У Беларусі. Працягласць з З на У 325 км і з Пн на Пд 187 км. Пл. 29,1 тыс. км². На У мяжуе са Смаленскай і Бранскай абласцямі. Рас. Федэрацыі, на Пн, З і Пд — з Віцебскай, Мінскай і Гомельскай абласцямі Рэспублікі Беларусь. Утворана 15.1.1938 г. Насельніцтва 1146,8 тыс. чал. (на 1.1.2006). Цэнтр — г. Магілёў. У вобласці 21 раён: Асіповіцкі, Бабруйскі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Глускі, Горацкі, Дрыбінскі, Касцюковіцкі, Кіраўскі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Крычаўскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Слаўгарадскі, Хоцімскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі; 15 гарадоў, 6 пасёлкаў гар. тыпу, 3 рабочыя пасёлкі, 3081 сельскі населены пункт. Асн. насельніцтва вобласці паводле перапісу 1999 г. — беларусы (86,1%). Жывуць таксама рускія (10,9%), украінцы (1,7%) і інш. Сярэдняя шчыльнасць насельніцтва 39,4 чал. на 1 км², сельскага — 10,3 чал. на 1 км. Гар. насельніцтва 73,9%. Буйнейшыя гарады: Магілёў (367,7 тыс. чал.), Бабруйск (219,1 тыс.), Асіповічы (34,3 тыс.), Горкі (34,3 тыс.), Крычаў (27,7 тыс.), Быхаў (26,7 тыс.), Касцюковічы (15,6 тыс.), Шклоў (15,6 тыс.), Клімавічы (15,4 тыс.), Мсціслаў (11,7 тыс.), Чавусы (10,6 тыс. чал.).

Рэльеф пераважна раўнінны. На ПнУ Аршанска-Магілёўская, на ПдЗ Цэнтральнабярэзінская раўніны. Паўн. частка ўзгорыстая — сюды даходзяць адгор'і Смаленска-Маскоўскага ўзвышша. На У ад Магілёва добра захаваліся ўзгоркі ледавіковага паходжання. Сярэдняя вышыня над узроўнем мора 180 м, вышэйшая кропка 240 м. Глебы дзярнова-падзолістыя (53,5%), дзярнова-падзолістыя забалочаныя (23,7%), дзярновыя і дзярнова-карбанатныя забалочаныя (6,8%), тарфяна-балотныя (8,3%), алювіяльныя дзярнова-балотныя (6,4%), дзярнова-карбанатныя (6,2%). Суглінкавыя глебы займаюць 55,6%, супясчаныя — 37,2%, пясчаныя — 7,2% тэр. Ворыўная зямля якасна ацэньваецца 42, кармавыя ўгоддзі — 27, усе ў агульнай складанасці с.-г. угоддзі — 35 баламі.

Пад лесам 36,8% тэр. вобласці. Пераважаюць сасновыя (48,8%), бярозавыя (20%), яловыя (17,1%), чорнаальховыя (6,2%), дубовыя (3,6%) лясы. Пад балотамі 3,5% тэр. (1650 балот). Гідралагічныя заказнікі рэсп. значэння Заазёр'е і Астравы Дулебы, 181 заказнік і 99 помнікаў рэсп. і мясц. значэння. Найбольшая лясістасць у Асіповіцкім, Быхаўскім, Бялыніцкім і Клічаўскім р-нах. Клімат умерана-кантынентальны з мяккай зімой

*Краявід Магілёўшчыны.*



і цёплым умерана вільготным летам. У вобласці 578 рэк, 73 возеры, 20 вадасховішчаў. Буйнейшая р. Дняпро з прытокамі Бярэзіна (са Свіслаччу, Ольсай), Сож, Друць. На ПдЗ працякае р. Пціч (прыток Прыпяці). Буйнейшыя вадасховішчы Чыгірынскае на р. Друць і Асіповіцкае на р. Свіслач. Найбольшыя азёры Выгада, Няропля, Чорнае. Жывёльны свет прадстаўляюць лось, казуля, дзік, ліс, лясная куніца, барсук, вавёрка, заяц-бяляк і інш., каля вадаёмаў — бабёр, выдра, норка; птушкі — рабчык, глушэц, цецярук і інш.; рыбы — лешч, карась, язь, акунь, судак, шчупак і інш. Карысныя выкапні: торф (запасы каля 2,7 млрд. $м^3$, радовішчы пераважна ў Асіповіцкім, Бабруйскім, Быхаўскім і Бялыніцкім р-нах), будаўнічыя матэрыялы. Каля Касцюковіч, Клімавіч, Крычава і Чэрыкава радовішчы цэментнай і вапнавай сыравіны, цагельна-чарапічнай гліны (Бабруйскі, Горацкі, Кіраўскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Шклоўскі, Чавускі р-ны), у Кіраўскім і Магілёўскім р-нах — будаўнічага пяску і пясчана-жвіровага матэрыялу. Ёсць значныя запасы фасфарытаў (Крычаўскі і Мсціслаўскі р-ны) і мінеральнай вады (Бабруйск, Магілёў).

Чалавек на тэр. сучаснай Магілёўскай вобл. пранік у эпоху сярэдняга палеаліту (100—40 тыс. гадоў таму назад), аб чым сведчаць адзінкавыя знаходкі стараж. прылад працы (адшчэпы, востраканечнікі, скрэблы) у адкладах 2-й надпоймавай тэрасы Дняпра каля вёсак Абідавічы Быхаўскага і Клеявічы Касцюковіцкага р-наў. Знойдзеныя ў адкладах 2-й надпоймавай тэрасы Дняпра рэшткі паўд. слана і цеплалюбівай флоры сведчаць аб тым, што басейн яго вярхоўяў быў спрыяльным для засялення чалавекам у эпоху ніжняга палеаліту. У верхнім палеаліце сюды праніклі плямёны, якія палявалі на мамантаў і шарсцістых насарогаў; паселішчы знойдзены ў басейне р. Сож, на мяжы з Магілёўшчынай. Фундамент паўзямлянкавых жытлаў гэтых паселішчаў складаўся з круглых і плоскіх касцей і чарапоў мамантаў. Жыхары выраблялі крамянёвыя бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя разцы, канцавыя скрабкі, наканечнікі коп'яў, нажы, прылады з косці, рогу, займаліся акрамя палявання рыбалоўствам і збіральніцтвам.



*Магілёўскія буслы.*

У 9-м — сярэдзіне 8-га тысячагоддзя да н.э., калі адышоў апошні ледавік, а прыродныя ўмовы сталі блізкімі да сучасных, на тэр. Магілёўшчыны пачалася эпоха мезаліту. Зніклі такія млекакормячыя, як мамант і шарсцісты насарог, чалавек паляваў на зубра, лася, касулю, зайца, птушак, лавіў рыбу. З'явіліся лук і стрэлы, якія зрабілі здабычу мясной ежы рэгулярнай; атрымалі пашырэнне такія прылады працы, як грубаабабітыя трапецападобныя і авальныя сякеры, трохгранныя пілападобныя прылады, долаты, разцы, скрэблы, разакі. Развіваўся родаплемянны лад, акрэсліліся межы плямён, умацоўвалася парная сям'я. Кіруючая роля ў гасп. і грамадскім жыцці належала жанчыне.

У гэты час была ў асн. заселена ўся тэр. сучаснай вобласці. З ПдЗ прыйшлі нашчадкі так званых свідэрскіх плямён, ад якіх да нас дайшлі рэшткі паселішчаў на 2-й надпоймавай тэрасе Дняпра каля вёсак Янава, Лудчыцы, Далёкае Ляда Быхаўскага р-на. Для гэтых пасяленняў характэрны знаходкі крамянёвых наканечнікаў стрэл, чаранкі якіх адзначаліся крутой рэтушшу спінкі і плоскай брушка,

разцы сярэдзінныя, вуглавыя, бакавыя. Побач з канцавымі скрабкамі з крамянёвых пласцін сустракаюцца скрабкі на адшчэпах, пласціны-ўкладышы, мікрапласціны з прытупленым рэтушшу краем, скошаным рэтушшу канцом.

Другую групу насельніцтва складалі плямёны грэнскай культуры, якія займалі Пд і ПдУ. Іх пасяленні вядомы каля в. Бароўка Быхаўскага р-на, дзе знойдзены крамянёвы інвентар — грэнскія наканечнікі стрэл на адшчэпах, бакавыя, вуглавыя, сярэдзінныя разцы, праколкі, свёрлы, прызматычныя адна- і двухпляцовачныя нуклеусы. Культура грэнскага тыпу прасочана таксама ў інвентары паселішча каля в. Хвойнае Магілёўскага р-на (наканечнікі стрэл, праколкі, скобелі, пласціны-ўкладышы яніславіцкага тыпу і інш.). Знаходкі крамянёвага інвентару, вастрыёў яніславіцкага тыпу, акруглых скрабкоў з адшчэпаў сведчаць аб генетычных сувязях раннемезалітычнага насельніцтва з плямёнамі яніславіцкай культуры, якія жылі на тэр. Палескай нізіны.

У 6—5-м тысячагоддзях да н.э. на тэр. Магілёўшчыны склалася верхнедняпроўская познемезалітычная культура, генетычна звязаная з больш раннімі культурамі. Яе паселішчы выяўлены каля вёсак Тайманава Быхаўскага, Стасеўка Бабруйскага, Гайшын Слаўгарадскага, Горкі Чэрыкаўскага, Печанеж Касцюковіцкага р-наў. Насельніцтва гэтай культуры карысталася познасвідэрскімі сіметрычнымі і асіметрычнымі наканечнікамі стрэл на пласцінах, бакавымі, вуглавымі, сярэдзіннымі разцамі, прыладамі-ўкладышамі (трапецыі, сячэнні пласцін і інш.). На 1-й і 2-й надпоймавых тэрасах Дняпра і яго прытокаў знойдзены рэшткі мезалітычных пасяленняў. Гэта пераважна доўгачасовыя паселішчы. Сустракаюцца і часовыя стаянкі (Гайшын, Стасеўка). Жытлы, заглыбленыя ў пясок на 0,5 м, якія мелі акруглую або авальную форму (3—4 м у папярочніку), былі абкружаны гасп. ямамі, вогнішчамі. Для вырабу прылад працы выкарыстоўваўся мясц. мелавы крэмень, выхады якога сустракаюцца ў Пасожжы.

У канцы 5-га — пач. 4-га тысячагоддзя да н.э. пачаўся неаліт (новы каменны век), для якога характэрны прымяненне шліфоўкі і свідравання пры вырабе прылад працы, гліняны посуд, авалоданне (у канцы эпохі) навыкамі земляробства і жывёлагадоўлі, а таксама прадзення, пляцення і, магчыма, ткацтва. Плямёны, якія засялялі ў гэты час тэр. Магілёўшчыны, адносяцца да верхнедняпроўскай неалітычнай культуры. Іх паселішчы размяшчаліся ў басейне Дняпра, на ПнУ ад рэк Друць і Іпуць, на дзюнных узгорках поймаў рэк і на краі першых надпоймавых тэрас. Жытлы драўляныя, наземныя, ледзь заглыбленыя ў мацярык, авальнай або круглай формы, сярэднія памеры 3,5 × 3 м. У цэнтры жытлаў знаходзіліся вогнішчы і ямы-паграбы.

На раннім этапе неаліту насельніцтва выраблялa таўстасценны вастрадонны гліняны посуд, у матэрыял якога дадаваліся раслінныя дамешкі і тоўчаны кварц, паверхня часам упрыгожвалася арнаментам у выглядзе глыбокіх падоўжных ямак або адбіткаў буйнога грэбеня. Пазней з'явіліся шыракагорлыя пасудзіны з вострым, радзей круглым дном. Адначасова выраблялiся прамасценныя невысокія акруглыя пасудзіны з падоўжнымі, пукатымі, адагнутымі венчыкамі. У гліну дадаваліся пясок, дробны кварц, радзей раслінныя рэшткі. Асн. элементамі арнаменту былі адбіткі грабеньчатага штампа, разнастайныя ямкавыя ўзоры з акруглых, падоўжных, трохвугольных, яйкападобных, ромбападобных і іншых форм ямак, нарэзкі, насечкі, лапчастыя наколы, якія ўтваралі дыяганальныя, гарызантальныя, зігзагападобныя рады, вертыкальныя кампазіцыі, паясы з павернутых вяршыняй уніз трохвугольнікаў і інш. Інвентар паселішчаў складалі крамянёвыя лістападобныя і ромбападобныя наканечнікі стрэл, шырокія нажы з завостраным канцом, дзюбападобныя разакі, разцы, скрабкі, нажападобныя пласцінкі, ско-

белі, сякеры (в. Гронаў Чэрыкаўскага, Лубяны Бялыніцкага р-наў). У 2-й пал. 3-га тысячагоддзя да н.э. з волжскага міжрэчча ў басейн верхняга Дняпра пранiклі плямёны культуры ямачна-грабеньчатай керамікі, частка якіх дасягнула сярэдняга Сожа і Дзісны.

Гал. заняткам насельніцтва ў неалітычную эпоху было рыбалоўства, паляванне і збіральніцтва. Шэраг новых прылад і прыстасаванняў (сеці, восці, чаўны і г.д.) дазваляюць адносіць лоўлю рыбы да ліку асн. заняткаў. Вялікая колькасць і разнастайнасць фауны дазваляла ствараць запасы ежы. Пры будаўніцтве жытлаў і гасп. пабудоў шырока выкарыстоўвалася дрэва. Здабыча сродкаў існавання і іх спажыванне былі калектыўнымі, усе асн. матэрыяльныя каштоўнасці лічыліся агульнай уласнасцю. Родавыя абшчыны, як і раней, былі мацярынскімі, але асобныя сем'і ўжо мелі больш выразную эканам. незалежнасць.

Бронзавы век на тэр. Магілёўскай вобл. пачаўся ў 2-м тысячагоддзі да н.э. Аддаленасць ад стараж. цэнтраў металургіі абумовіла панаванне тут у гэты час каменных прылад працы, аднак зробленых значна лепш: пры іх апрацоўцы шырока прымянялася шліфаванне, свідраванне, пілаванне. Развіваліся жывёлагадоўля і земляробства, паступова ператвараючыся ў асн. формы гаспадарання. Пашыраўся тавараабмен паміж плямёнамі, паступова мацярынска-родавыя адносіны замяняліся патрыярхальнымі. Жывёлагадоўча-земляробчыя плямёны сярэднедняпроўскай культуры, якія ў канцы 3-га тысячагоддзя да н.э. перайшлі з Пд у Верхняе Падняпроўе і асімілявалі мясц. насельніцтва, жылі тут у невялікіх паселішчах у поймах рэк і міжрэччах, на краях і астанцах першых надпоймавых тэрас, радзей на мысах. Жытлы былі наземныя, слупавой канструкцыі, з адкрытымі, заглыбленымі ў зямлю і абкладзенымі камянямі вогнішчамі ў цэнтры. Выраблялiся гліняныя ляпныя гаршкі, якія мелі акруглае тулава, адагнуты вонкі венчык і плоскае днішча, былі арнаментаваны адбіткамі перавітай вяровачкі, лінейнага і зубчастага штампа, наразнымі лініямі. Знойдзены таксама пласкадонныя неарнаментаваныя пасудзіны слоікавай формы з прамымі сценкамі, якія звужаюцца ў ніжняй частцы, і танкасценныя, добра абпаленыя гаршкі з круглым або патоўшчаным дном, высокай прамой або адогнутай вонкі шыйкай і шарападобным тулавам (урочышча Ксяндзова Гара каля Быхава, вёскі Барысаўшчына Глускага, Вець Быхаўскага р-наў і інш.). Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў мацерыковых ямах авальнай формы. На познім этапе вядомы бескурганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення і трупапалажэння (вёскі Вейна Магілёўскага, Гарожа Асіповіцкага, Кліны і Старая Каменка Слаўгарадскага р-наў). Пры раскопках могільнікаў трапляюцца каменныя, свідраваныя і клінападобныя сякеры, крамянёвыя наканечнікі стрэл, дроцікаў і коп'яў, нажы, скрабкі, бурштынавыя падвескі і пацеркі, медныя ўпрыгожанні (бранзалеты, грыўні), гліняны ляпны посуд. У плямён сярэднедняпроўскай культуры існавала маёмасная няроўнасць, культ продкаў, сонца і агню, вера ў замагільнае жыццё.

У сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н.э. Пд сучаснай Магілёўскай вобл. насялялі плямёны сосніцкай культуры, якая ўтварылася ў выніку зліцця сярэднедняпроўскіх плямён з мясц. неалітычным насельніцтвам. Жылі яны ў паўзямлянкавых жытлах з глінабітнымі вогнішчамі ў сярэдзіне, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам і паляваннем, а таксама бронзаліцейнай справай, карысталіся каменнымі і крамянёвымі прыладамі, чаранковымі наканечнікамі стрэл. Акругладонныя, рабрыстыя і пласкадонныя гаршкі па ўсёй паверхні ўпрыгожваліся зігзагападобнымі і гарызантальнымі палосамі нарэзак або адбіткамі прамавугольнага штампа, ружанцавым, шнуравым або пракрэсленым арнаментам.

Жал. век на тэр. Магілёўшчыны пачаўся ў 7 ст. да н.э. З жалеза, здабытага сыра-

дутным спосабам у печах-домніцах з балотных руд, рабіліся прылады працы і зброя. Жал. прылады спрыялі развіццю земляробства і жывёлагадоўлі, атрыманню прыбавачнага прадукту. Маёмасная няроўнасць вяла да распаду першабытнаабшчынных адносін, абвастрэння супярэчнасцей паміж плямёнамі і родамі. Плямёны мілаградскай культуры, якія насялялі Магілёўшчыну ў 7—3 ст. да н.э., жылі на гарадзішчах круглай, трохвугольнай, прамавугольнай з акруглымі вугламі, трапецападобнай і яйкападобнай формы, размешчаных на высокіх і стромкіх мысах берагоў рэк. З 3 бакоў яны абмяжоўваліся абрывамі і глыбокімі ярамі, а з напольнага ўмацоўваліся землянымі дугападобнымі валамі і равамі (г. Быхаў, вёскі Баркалабава, Хамічы, Янава Быхаўскага, Цэль Асіповіцкага, Халопенічы Глускага, Царковішча Шклоўскага, Мазалава Мсціслаўскага р-наў, г.п. Хоцімск і інш.). Неўмацаваныя паселішчы размяшчаліся на невысокіх узвышшах у поймах рэк, часцей за ўсё ў паўд. раёнах. Часам яны суседнічалі з гарадзішчамі (в. Шчаткава Бабруйскага р-на). Асн. тыпам жылля былі паўзямлянкі пл. да 50 м$^2$, заглыбленыя ў зямлю на 1 м, пазней — наземныя або злёгку заглыбленыя ў грунт, разлічаныя на адну сям'ю, пл. 10—15 м$^2$. Зямлянкі, як правіла, у плане прамавугольныя, мелі слупавую канструкцыю. У цэнтры пабудоў размяшчаліся слупы — апоры перакрыцця даху. Вогнішчы знаходзіліся ў круглых або авальных ямах паміж цэнтр. слупом і сценкай. Асаблівасцю такіх жытлаў была наяўнасць выступа ў адной са сцен або вуглоў. Для гасп. мэт выкарыстоўваліся пабудовы тыпу хлявоў і ямы-паграбы. Трапляюцца гарадзішчы-сховішчы, дзе ў час ваеннай небяспекі ратаваліся жыхары навакольных паселішчаў (вёскі Міхалёва 2, Перасова, Пятровічы Бабруйскага р-на).

Асн. заняткамі мілаградскіх плямён былі земляробства і жывёлагадоўля, дапаможнымі — паляванне і рыбалоўства. Вялася таксама здабыча і апрацоўка жалеза, развіваліся бронзаліцейная вытв-сць, апрацоўка дрэва, косці і рогу, прадзенне і ткацтва. Выраблялiся гаршкі з прамым адагнутым вонкі венчыкам, яйкападобным і шарападобным тулавам, а таксама паўсферычныя пасудзіны без вылучанага венчыка. Частка керамікі ўпрыгожвалася ямкавымі або пазногцевымі ўцісканнямі, нанесенымі на венчыку або шыйцы, радзей у верхняй частцы тулава. Часам уцісканні групаваліся ў сістэмы (па 2—3 у кожнай) або складалі трохвугольныя фігуры. Насельніцтва карысталася жал. сякерамі, сярпамі, наканечнікамі коп'яў, дроцікаў і стрэл, нажамі з гарбатай спінкай, долатамі, пасудападобнымі арнаментаванымі праслiцамі, шматлікімі ўпрыгожаннямі (жал. і бронзавыя бранзалеты, шыйныя грыўні, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, падвескі, фібулы, завушніцы, посахападобныя і цвікападобныя шпількі, шкляныя, бурштынавыя, гліняныя, бронзавыя пацеркі), мела сувязь з суседнімі плямёнамі днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур і скіфамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў курганах і трупаспаленне на бескурганных могільніках. Плямёны мілаградскай культуры знаходзіліся на пач. стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу.

У сярэдзіне 3 ст. да н.э. на тэр., дзе жылі плямёны мілаградскай культуры, склалася зарубінецкая культура. Вядомы верх-

*Рака Бярэзіна на Магілёўшчыне.*



недняпроўскі лакальны варыянт гэтай культуры. На раннім этапе (сярэдзіна 3 ст. да н.э. — пач. 2 ст. н.э.) насельніцтва плямён зарубінецкай культуры жыло на гарадзішчах, якія ўмацоўваліся шляхам дасыпкі старых валоў і збудавання новых. Асн. жылымі пабудовамі былі аднакамерныя наземныя жытлы слупавой канструкцыі, прамавугольнай або квадратнай формы з двухсхільным дахам, пл. 10—24 м². У адным з вуглоў або каля сцяны жытла размяшчаліся адкрытыя каменныя вогнішчы на глінянай пляцоўцы. Плямёны займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, здабычай і апрацоўкай жалеза, каляровых металаў, выраблялі жал. нажы з прамой і гарбатай спінкай, клінападобныя сякеры-кельты, сярпы з чаранком, лістападобныя і ўтулкавыя наканечнікі коп'яў, двухшыпавыя дроцікі, а таксама жал. і бронзавыя падкавападобныя фібулы, сярэднелатэнскія фібулы з плоскім трохвугольным шчытком, познелатэнскія фібулы, шпількі з кольцападобнай галоўкай, спіралепадобныя, з завязанымі канцамі, падкавападобныя і кручонага дроту бранзалеты, скроневыя кольцы, завушніцы, пярсцёнкі. Посуд — пласкадонныя грубаляпныя гаршкі з адагнутым вонкі краем, дакладна выражанай шыйкай і плаўна акруглым тулавам, часам упрыгожаныя ў верхняй частцы арнаментам у выглядзе насечак, ямак, зашчыпаў; біканічныя глянцавыя гаршкі; грубаляпныя і глянцаваныя неарнаментаваныя міскі (вёскі Абідавічы, Вязьма, Дабужа Быхаўскага, Халапенічы Глускага, Мазалава Мсціслаўскага, пас. Дальні Бялыніцкага р-наў, г. Быхаў). Побач з гарадзішчамі ўзнікалі неўмацаваныя паселішчы і бескурганныя могільнікі-некропалі з пахавальным абрадам трупаспалення (вёскі Тайманава, Ніжняя Тошчыца Быхаўскага р-на). Плямёны зарубінецкай культуры мелі сувязі са скіфамі і кельтамі, гарадамі Паўн. Прычарнамор'я, аб чым сведчаць знаходкі своеасаблівых наканечнікаў-дроцікаў, стрэл, падкавападобных фібул, бранзалетаў, падвесак, пярсцёнкаў, сякер-кельтаў, наканечнікаў коп'яў, грэчаскіх амфар, шкляных пацерак і інш.

У пач. 2—5 ст. н.э. насельніцтва жыло толькі на селішчах, якія размяшчаліся на нізкіх берагах рэк і азёр. На ўзвышаных месцах паселішчаў узводзіліся квадратныя ці прамавугольныя ў плане паўзямлянкі пл. 8—24 м², заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1 м з адкрытымі каменнымі вогнішчамі, пазней — глінабітнымі печамі. На нізкіх месцах будаваліся наземныя дамы слупавой канструкцыі. Выраблялiся жал. нажы, сярпы, нажніцы, крэсівы, шматлікія ўпрыгожанні (жал. і бронзавыя посахападобныя з плоскімі і кольцападобнымі галоўкамі шпількі, трапецападобныя падвескі, бранзалеты, шасціражковыя лунніцы і круглыя ажурныя фібулы, упрыгожаныя выемчатай чырвонай эмаллю, плоскія чырвоныя і шкляныя пазалочаныя пацеркі). Посуд — грубаляпныя гладкасценныя гаршкі з адагнутым вонкі краем, слабавыражанай шыйкай і акруглым тулавам, часам упрыгожаныя расчосамі, а таксама глянцаваныя пасудзіны (вёскі Адаменка, Віхляёўка, Сялец, Янава Быхаўскага, Жалвінец, Сіманавічы Глускага р-наў). Грамадскі лад — развіты патрыярхат. Плямёны зарубінецкай культуры знаходзіліся на стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу і складвання тэрытарыяльнай абшчыны. Існавала патрыярхальнае рабства. Частка даследчыкаў лічыць зарубінецкую культуру старажытнаславянскай, але многія факты гавораць на карысць яе прыналежнасці да балцкага этнасу.

У паўдн.-зах. частцы Магілёўскай вобл. сустракаюцца гарадзішчы ўсх. варыянту культуры штрыхаванай керамікі. Тут знойдзены жал. сярпы, нажы і, побач з керамікай мілаградскай і зарубінецкай культур, абломкі штрыхаваных пасудзін, па форме і прапорцыях падобных да посуду мілаградскай культуры (вёскі Зборск, Свіслач, Смык Асіповіцкага, Царковішча Шклоўскага, пас. Дальні Бялыніцкага, в. Палыкавічы Магілёўскага р-наў). У паўн. і паўн.-ўсх. частках вобласці знай-

дзены гарадзішчы, на якіх трапляюцца матэрыялы днепра-дзвінскай культуры (вёскі Гарадок Горацкага, Каробчына, Усполле Мсціслаўскага р-наў). Кераміка гэтых гарадзішчаў аналагічная посуду паселішчаў на тэр. Смаленшчыны (слабапрафіляваныя гаршкі са звужаным горлам і пасудзіны слоікавых форм). У эканам. і сац. адносінах плямёны гэтых культур былі аднолькавымі з плямёнамі мілаградскай і зарубінецкай культур.

У 6—8 ст. тэр. Магілёўшчыны насялялі плямёны банцараўска-тушамлінскай культуры (калочынскі варыянт). Яны жылі ў адкрытых паселішчах, якія размяшчаліся на пакатых узвышшах у поймах рэк, або займалі мысападобныя выступы надпоймавых тэрас. Многія з іх узніклі на ранейшых гарадзішчах, якія дадаткова ўмацоўваліся землянымі валамі і ператвараліся ў крэпасці-сховішчы. Жытлы паўзямлянкавыя зрубнай канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,8 м, і наземныя слупавой канструкцыі пл. ад 7 да 20 м$^2$ з печамі-каменкамі, радзей — вогнішчамі. Пахаванні — курганныя і бескурганныя могільнікі, абрад — трупаспаленне. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, паляванне і рыбалоўства мелі дапаможны характар. Былі развіты здабыча і апрацоўка жалеза, дрэва і косці, бронзаліцейная справа, ганчарства і інш. Посуд — слабапрафіляваныя пласкадонныя ляпныя гаршкі з адагнутым венчыкам, слабавыражанай шыйкай, моцна апушчаным плечыкам і злёгку пукатым тулавам. У гліну дадавалася жарства і буйназярністы пясок, часам шамот (тоўчаныя чарапкі). Трапляюцца круглабокія, цыліндрычныя і міскападобныя пасудзіны (пас. Май, вёскі Тайманава, Сялец, Камарычы Быхаўскага, Зелянковічы, Кастрычнік, Паблін Глускага, Ліпень, Чучча Асіповіцкага р-наў). На У ад Дняпра дамінавалі паўзямлянкі слупавой канструкцыі. Паселішчы 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. (калочынскія, тушамлінска-банцараўскія) некаторыя даследчыкі лічаць цалкам, або часткова славянскімі. Аднак ёсць многа доказаў таго, што носьбіты культуры гэтых плямён адносіліся да плямён балцкай моўнай групы. Толькі з цягам часу гэта насельніцтва ў выніку ўнутрырэгіянальнага ўзаемадзеяння са славянамі ўвайшло ў склад усх.-слав. племянных саюзаў і стараж.-рус. народнасці.

У 6—9 ст. адбываўся пераход ад першабытнаабшчыннага ладу да феадалізму. Члены родаў сяліліся асобнымі сем'ямі ў найбольш зручных месцах. Кроўныя сувязі страчвалі ранейшую сілу, саступалі месца эканам. і тэрытарыяльным сувязям. Пашыралася сельская (тэрытарыяльная) абшчына з манагамнымі сем'ямі. Індывідуальная вытв-сць стала зыходным пунктам узнікнення і развіцця класавага грамадства. Узнікла новая форма грамадскай арганізацыі — саюзы плямён, асн. задачай якіх была ўзброеная абарона агульных інтарэсаў.

У 8—10 ст. тэр. вобласці насялялі слав. плямёны дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў. Археолагамі знойдзены іх гарадзішчы, паселішчы, курганныя могільнікі. Асн. заняткамі гэтых плямён былі земляробства, жывёлагадоўля, дапаможнымі — рыбалоўства, паляванне, бортніцтва, гандаль. Далейшае пашырэнне атрымалі апрацоўка жалеза, дрэва, косці, каляровых металаў, ювелірнае і ганчарнае рамёствы. Археал. помнікі дрыгавічоў, якія жылі на З Магілёўшчыны, у басейне Бярэзіны, на правым беразе Дняпра, — курганныя могільнікі спачатку з пахавальным абрадам трупаспалення, а з канца 10 ст. — трупапалажэння. У пахаваннях разам з прыладамі працы, керамікай, упрыгожаннямі, зброяй трапляюцца драўляныя зрубы з двухсхільным дахам. Этнавызначальныя адзнакі дрыгавічоў — зярнёныя пацеркі. Упамінаюцца дрыгавічы ў «Аповесці мінулых гадоў» у сувязі з падзеямі, якія папярэднічалі 9 ст. Дрыгавічы належалі да найбольш развітых у сац. адносінах плямёнаў, знаходзіліся на заключнай стадыі распаду родаплемяннога ладу, мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне».

Крывічы насялялі паўн. і паўн.-ўсх. часткі вобласці. Ад іх засталіся доўгія курганы з пахавальным абрадам трупаспалення. У пахаваннях трапляюцца жаночыя ўпрыгожанні, прылады працы і ляпная кераміка. На мяжы 10—11 ст. паяўляюцца круглыя курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння. Характэрная племянная адзнака крывічоў — бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. У сац. адносінах крывічы вызначаліся як саюз плямён, у якім фарміраваліся класы, дзяржаўнасць («княжанні»), народнасць. Апошні раз упамінаюцца ў летапісе пад 1162 г.

У паўд. і паўд.-ўсх. частцы вобласці, у басейне Сожа, жылі радзімічы. У сярэдзіне 9 ст. яны плацілі даніну Хазарскаму каганату. Пасля паходаў на драўлян і северан у 885 г. кіеўскі кн. Алег накіраваў сваю дружыну на радзімічаў. Вынікам гэтага паходу было вызваленне ад даніны хазарам. Узаемаадносіны радзімічаў з кіеўскімі князямі абмяжоўваліся выплатай даніны і ўдзелам у ваенных паходах. Этнавызначальная племянная адзнака — срэбраныя або бронзавыя 7-прамянёвыя скроневыя кольцы. У 984 г. радзімічы адмовіліся плаціць даніну кіеўскаму князю, але былі разбіты княжацкім ваяводам па мянушцы Воўчы Хвост на р. Пяшчане каля Прапошаска (Слаўгарад). Апошні раз упамінаюцца ў летапісе пад 1169 г. як этнаграфічная адзінка ўсх. славянства, а не як асобнае племя.

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. на змену ляднаму земляробству прыйшло ворнае. Сельскія пасяленні ўзнікалі ў асн. па берагах рэк і азёр, у першую чаргу там, дзе меліся прыдатныя для карыстання землі, лугі. Такія пасяленні, як правіла, найбольш старажытныя; мелі аднарадную забудову. Двары ставіліся ланцужком уздоўж берага, які і вызначаў характар планіроўкі. З пераходам да падсечнага земляробства звязана ўзнікненне кучавой (бессістэмнай) забудовы, пры якой кожны двор быў адасоблены і не ўтвараў у адносінах да другіх структурнага элемента рэгулярнай планіроўкі.

Аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі садзейнічала ўзнікненню і хуткаму росту гарадоў. Часцей за ўсё гарады размяшчаліся па берагах буйных рэк. Асаблівасцю развіцця гар. паселішчаў Магілёўшчыны была адсутнасць на гэтай тэр. значных палітычных і арх.-мастацкіх цэнтраў, роўных па значэнні такім, як Полацк, Тураў, Віцебск, Гродна, Мінск, Навагрудак і інш. Нярэдка гарады складваліся вакол дзядзінцаў, ролю якіх выконвалі нанава ўмацаваныя гарадзішчы жал. веку. Тапаграфію і асаблівасці планіроўкі гар. паселішчаў Магілёўшчыны вызначалі асн. шляхі зносін таго часу — рэкі Дняпро і Сож з прытокамі, а важнейшыя рысы гар. планіроўкі вызначалі абарончыя збудаванні — валы, равы, драўляныя сцены і вежы. Забудова была цалкам драўляная. Замак і навакольны горад (пасад) заставаліся важнейшымі структурнымі адзінкамі. Рамеснікі, якія складалі асн. частку гараджан, паступова выдзяляліся са складу земляробаў і хутка ператварыліся ў самастойную групу. Прымяненне ганчарнага круга дало магчымасць арганізаваць масавы выраб быт. посуду, аказала станоўчы ўплыў на яго мастацкае аздабленне. Распаўсюджанне ў 12—13 ст. такарнага станка дазволіла пашырыць кустарную вытв-сць, палепшыць мастацкія якасці вырабаў з дрэва. У пач. 2-га тысячагоддзя пачынае развівацца шкларобства.

У перыяд феад. раздробленасці тэр. сучаснай Магілёўскай вобл. была падзелена паміж рознымі княствамі. Частка, уключаючы Крычаў, Чавусы і Магілёў, уваходзіла ў 12 ст. ў Мсціслаўскае княства, другая знаходзілася ў валоданні віцебскіх князёў. У 12—13 ст. тэр. паміж Дняпром і сярэднім цячэннем Сожа належала Смаленскаму княству. З 1-й пал. 14 ст. Магілёўшчына ў складзе ВКЛ. У выніку 1-га і 2-га падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793) далучана да Рас. імперыі. 28.5.1772 г. створана Магілёўская губ. ў складзе 4 правінцый, якая ў 1778 г. пе-

ратворана ў Магілёўскае намесніцтва. З 1796 г. Магілёўшчына ў Беларускай губ., якая ў 1802 г. падзелена на Магілёўскую і Віцебскую губерні. Частка тэр. сучаснай Магілёўскай вобл. ўваходзіла ў склад створанай у 1796 г. Мінскай губ.

У сярэдзіне 16 ст. юрыдычна афармляецца цэхавая рамесніцкая арганізацыя. Цэхі аб'ядноўвалі майстроў, чаляднікаў і вучняў, мелі свае ўставы і прывілеі. Запісы 15 магістрацкіх кніг Магілёва за 1577—1649 гг. сведчаць пра наяўнасць у горадзе 80 прафесій. Шмат рамеснікаў працавала пры манастырах і кляштарах, замках і маёнтках. Магнаты, зацікаўленыя ў развіцці рамесніцкай вытв-сці, часам давалі майстрам пэўныя ільготы. «Устава на валокі» заахвочвала рамеснікаў асядаць пры замках і дварах і забараняла скарыстоўваць іх на іншых работах. Гарбары, хлебнікі, мельнікі, бондары працавалі не толькі на заказчыка, але і для масавага пакупніка. Рамеснікі забяспечвалі вытв., гасп. і асабістыя патрэбы насельніцтва, фарміравалі гар. рынак. У шэрагу гарадоў ствараліся спец. гандл. рады, якія атрымлівалі назвы ад відаў тавараў, такія, напрыклад, як шубны, чабатарскі, калачны, хлебны, крупяны, мясны, ганчарны, шавецкі, панчошны, рыбны рады ў Магілёве. Гарады Магілёўшчыны мелі гандл. сувязі з гарадамі Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны. Яны з'яўляліся транзітнымі пунктамі гандлю купцоў з краінамі Зах. Еўропы. Магілёўскі ген.-губернатар выдаў у 1772 г. распараджэнне аб бесперашкодным гандлі па рэках Дняпро і Дзвіна.

У формах кіраўніцтва гарадамі нормы магдэбургскага права арганічна спалучаліся з мясц. традыцыямі. Паводле магдэбургскага права гараджане атрымлівалі юрыд. аснову для ўзаконьвання свайго становішча ў якасці самастойнага саслоўя. Гараджане вызваляліся ад некаторых павіннасцей, пабораў. Адказнасць за свае ўчынкі яны неслі перад радай, якая выбіралася прывілеяванай вярхушкай горада.

У 16—17 ст. склаліся новыя ўмовы для фарміравання гар. структур. Перамогі, атрыманыя над крыжакамі і татарамі, адкрылі шляхі на З, Уд і Пд, спрыялі ажыўленню эканам. і культ. сувязей зямель ВКЛ з іншымі краінамі. Пераважна з Захаду пранікалі ў Беларусь такія арх.-мастацкія плыні, як готыка і рэнесанс. У бел. горадабудаўнікоў з'явіліся больш шырокія магчымасці для знаёмства з дзейнасцю майстроў, што прыязджалі з Італіі, Германіі, Нідэрландаў і іншых краін, а таксама самім вывучаць горадабудаўнічае майстэрства Зах. Еўропы.

Горадабудаўніцтва 16—17 ст. развівалася на базе росту эканомікі гарадоў і ператварэння іх гандл.-рамесніцкага саслоўя не толькі ў эканам., але і палітычную сілу. Важнейшым і найбольш даступным будаўнічым матэрыялам па-ранейшаму заставалася дрэва. З яго ўзводзіліся не толькі звычайныя жылыя пабудовы, але і замкі, палацы, храмы, манастыры. З цягам часу гал. элементам гар. структуры зрабілася гандл. плошча, вакол якой будаваліся ратушы, крамы, каморы, саляныя склады і інш. Тут жа размяшчаліся корчмы і аўстэрыі, гасціныя двары і заезныя дамы, працавалі васкабойні, мерніцы і важніцы. Гандл. плошча факусіравала асн. промні горадабудаўнічай структуры — важнейшыя вуліцы, якія разыходзіліся ад яе па радыяльна-веернай сістэме, а за межамі горада пераходзілі ў найбольш важныя дарогі. Першапачаткова забудова канцэнтравалася абапал рынку і ўздоўж магістральных вуліц. Але калі гэтыя гар. артэрыі ўшчыльняліся да такой ступені, што іх далейшая забудова станавілася немагчымай, узнікалі новыя вуліцы, якія злучалі гал. магістралі паміж сабой, або адыходзілі ад іх у розных напрамках — да могілак, царквы або касцёла, шпіталя, школы і г.д. Складвалася квартальная планіроўка. Паступова структура горада істотна ўскладнялася. Калі раней параметры горада больш-менш строга фіксаваліся лініямі абарончых збудаванняў і

новая забудова павінна была ўшчыльняцца ў межах валоў і гар. сцен, то ў 16—17 ст. горад пачынае адступаць ад такога рэгламенту, па-за межамі асн. гар. тэрыторыі складваліся разнастайныя прадмесці, слабоды, фальваркі і г.д.

У гар. структуры па-ранейшаму заставалася вельмі важнай роля замка. У гарадах, дзе замкі развіваліся са стараж. дзядзінцаў, яны, звычайна разам з гандл. плошчамі, вызначалі арх.-планіровачнае ядро. Сувязь замка і гандл. плошчы выяўлялася ў арыентацыі гал. уязной замкавай брамы ў бок рынку. У некаторых прыватнаўласніцкіх гарадах замкі не ўваходзілі ў ядро паселішча, і тады роля гар. цэнтра цалкам належала рынку. Замак, які раней быў гал. умацаваннем, у 2-й пал. 17 ст. страціў сваё стратэгічнае значэнне і ператварыўся ў звычайны ўмацаваны двор, а знешняя лінія абарончых умацаванняў папоўнілася шэрагам валоў, бастыёнаў і брам.

Пад уплывам уключэння феад. памесця і сял. гаспадаркі ў працэс гандл. абмену складваліся мястэчкі, якія ў сваёй большасці адначасова былі адм. і эканам. цэнтрамі феад. уладанняў. Сфарміраваліся яны ў 15—16 ст. і ў асн. былі прыватнаўласніцкімі, ствараліся магнатамі, каб ажывіць у сваіх вотчынах рамяство і гандаль, прыцягнуць гандл.-рамесніцкае насельніцтва. Слова «мястэчка» з'яўляецца памяншальнай формай назоўніка «места», якім у Беларусі абазначалі тып вял. гар. пасялення. Адрознівалася мястэчка ад горада меншай колькасцю насельніцтва, адсутнасцю абарончых збудаванняў, а ад сяла і вёскі — наяўнасцю гандлю і рамяства як сталых заняткаў часткі жыхароў. Карты ВКЛ сведчаць, што ў басейне Дняпра ў 1613 г. было 12 гарадоў і 62 мястэчкі, а ў 1669 г. колькасць мястэчак павялічылася да 71. Насельніцтва іх вагалася ў межах 200—1500 чал. Гэтыя населеныя пункты вызначаліся стракатым нац. складам насельніцтва (беларусы, яўрэі, татары). У працэсе гіст. развіцця і змянення сац.-эканам. умоў шмат якія мястэчкі сталі гарадамі (Бялынічы, Крычаў, Шклоў і г.д.), а некаторыя гарады — мястэчкамі, частка з іх з цягам часу ператварылася ў вёскі.

Некаторыя мястэчкі выраслі са старадаўніх паселішчаў і захоўвалі іх стараж. арх.-планіровачную структуру. Іх асн. і адзіным арх.-планіровачным цэнтрам з'яўлялася гандл. плошча, на якой размяшчаліся крамы, корчмы, дамы гандляроў і рамеснікаў. Дарогі, што перакрыжоўваліся на плошчы, вызначалі вулічную сетку. У 16—17 ст. у большасці мястэчак квартальнай забудовы ў сучасным ўяўленні яшчэ не было, планіроўка мела радыяльна-веерны характар. Вуліцы падзяляліся на магістральныя (дарогі) і мясцовыя. Апошнія вялі да сядзібы, ракі, с.-г. угоддзяў і г.д. На адной ці некалькіх магістральных вуліцах, ужо па-за межамі асн. сядзібнай тэр., размяшчаліся гуменныя пляцы, якія ўтваралі своеасаблівыя вуліцы. За імі (звычайна каля рэк, балот) распасціраліся ворныя валокі і моргі, засценкі, сенажаці і г.д. Агр. характар эканомікі ў мястэчках быў больш выразным, чым у гарадах, бо асн. частку іх насельніцтва складалі сяляне, тым ці іншым чынам залежныя ад феадала. Асн. мястэчкі ў 17 ст. ствараліся на свабодных тэр., каля важнейшых дарог. Іх планіроўка не скоўвалася існаваннем стараж. паселішчаў, таму развівалася на рэгулярнай аснове. Папярэднікамі такіх мястэчак звычайна былі слабоды.

З 2-й пал. 17 ст. развіццё гар. пасяленняў Магілёўшчыны сур'ёзна затармазілася эканам. упадкам, які ахапіў Рэч Паспалітую. Войны Расіі з Рэччу Паспалітай і Паўночная прынеслі вялікія разбурэнні. Рэгрэс перажывалі многія гарады, у т.л. Магілёў і Бабруйск.

19 ст. адзначана больш хуткім, чым у іншых губернях Беларусі, ростам насельніцтва падняпроўскіх гарадоў. У 1864 г. ў Магілёве было 35 504 жыхары, у Шклове — 12 421, у Крычаве — 3749, у Краснаполлі — 2163 жыхароў. Гарады мелі ярка вызначаныя рысы рамесніцка-гандл. цэн-

траў. У 1864 г. ў губерні дзейнічала 667 фабрык і заводаў (4361 рабочы). Большасць прадпрыемстваў спецыялізавалася на перапрацоўцы прадуктаў жывёлагадоўлі і раслінаводства. Меліся 5 цукровых з-даў, 102 маслабойні, 3 канатныя, 27 крупарушных, тытунёвы, а таксама 5 чыгуналіцейных, 3 медзеплавільныя, 162 цагельныя, 3 экіпажныя, 3 лесапільныя з-ды. Перад пачаткам 1-й сусветнай вайны ўжо мелася 3480 невялікіх прадпрыемстваў і майстэрань, дзе працавала 12 709 рабочых. На 14 прадпрыемствах колькасць рабочых перавышала 100 чал. У іх ліку акц. т-вы «Дняпроўская мануфактура» і Шклоўская папяровая ф-ка Рус. акц. т-ва картонна-папяровай вытв-сці. На агульнарас. рынак губерня пастаўляла лес і прадукцыю з дрэва, сукно, скуру і скураныя вырабы, шкло, шкіпінар, пяньку, лён, гародніну, садавіну. Выраблялася 52% запалак і 25% паперы ад агульнага аб'ёму ў Расіі. За мяжу ў 1840-я г. з губерні штогод вывозілася амаль на 300 тыс. руб. лесу. Хутка развіваўся чыг. і рачны транспарт.

Для архітэктуры гарадоў гэтага часу характэрна зніжэнне ролі абарончых збудаванняў і амаль поўнае ачышчэнне ад іх гар. цэнтраў. Тыя ўчасткі гар. тэрыторый, якія займалі абарончыя збудаванні, паступова набывалі іншы выгляд. У буйных гарадах на іх месцы ўзнікалі новыя ансамблі. Так, у Магілёве ў 18 ст. цэнтр ператварыўся ў ансамбль адм.-грамадскіх будынкаў. У некаторых невялікіх прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках замкі хоць і захоўваліся, аднак не адыгрывалі ранейшай ролі і з'яўляліся парchoднымі палацавымі рэзідэнцыямі. Важнейшым арх.-планіровачным элементам у такіх паселішчах па-ранейшаму з'яўлялася гандл. плошча. Большае, чым раней, значэнне належала гар. прадмесцям, якія часам ператвараліся ў самастойныя арх. арганізмы.

У некаторых гарадах і мястэчках акрамя радыяльна-веернай у 18 ст. складвалася падоўжна-восевая планіровачная сістэма. Яна была найбольш характэрнай для прыватнаўласніцкіх паселішчаў, дзе сядзіба магната адасаблялася ад асн. тэр. горада, аднак гал. воссю з'яўлялася магістраль, якая звязвала сядзібны комплекс з гандл. плошчай. На такім прынцыпе пабудаваны Шклоў. У якасці асн. восі, якая звязвала сядзібу з ратушнай плошчай, быў адрэзак дарогі Магілёў—Орша. Гэтаму кірунку падпарадкоўвалася і астатняя забудова.

Геаграфічная сетка сельскіх паселенняў на тэр. сучаснай Магілёўскай вобл. склалася ў асн. параметрах да сярэдзіны 16 ст. Кожны тып сельскага пасялення меў сваё выразна акрэсленае гістарычна абумоўленае вызначэнне, якое несла не толькі інфармацыю аб адм.-тэр. статусе, але і пра занятак і сац. прыналежнасць жыхароў. Шырока вядомы былі такія тыпы сельскіх пасяленняў, як сяло, пагост, вёска, аколіца, засценак, хутар, фальварак.

Найбольш старaж. тыпам пасялення з'яўлялася сяло. Узнікла яно з зараджэннем феад. адносін як сядзіба землеўласніка. Першыя пісьмовыя звесткі аб ім адносяцца да 10 ст. Складалася сяло з гаспадарскай рэзідэнцыі і навакольных хат чэлядзі. У 19 ст. сёлы сталі буйнымі пасяленнямі, у пераважнай большасці з царквою.

Па меры росту насельніцтва частка сем'яў выходзіла з сяла і ўтварала выселкі, новыя вёскі. Напачатку вёска складалася з 2—3 двароў, а затым пашыралася і ўзбуйнялася, станавілася асн. відам землеробчага паселішча. У 16—18 ст. магнаты для прыцягвання насельніцтва на свае землі заклалі шмат новых вёсак. Частка з іх стала называцца слабодамі, волямі і вулькамі. Паходжанне гэтых назваў звязана з тым, што навасёлы на некалькі гадоў вызваляліся ад падаткаў. Староста Крычаўскі, напрыклад, выдаў у 1752 г. загад, згодна якому кожны, хто пажадае пасяліцца на пустуючай зямлі якой-небудзь вёскі, вызваляецца на 3 гады ад падаткаў і ад пастаўкі падвод.

Да стараж. пасяленняў належыць і пагост. Як і сяло, ён упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 947 г. у апісанні пахода Вольгі на Ноўгарад. Першапачаткова пагосты былі цэнтр. сядзібамі сельскіх абшчын, а з 10—11 ст. — адм.-тэр. адзінкамі. З распаўсюджаннем хрысціянства ў пагостах будаваліся цэрквы і пагостамі сталі называцца невялікія пасяленні з царквой і могілкамі. Паступова пагосты страчвалі сваю першапач. ролю і пераутвараліся ў мястэчкі, сёлы, вёскі, а слова «пагост» стала звычайнай назвай (часткай назвы) сельскага пасялення (Пагост, Зарэчны Пагост, Пагост-Загарадскі і г.д.). У 19—20 ст. пагостамі называлі ўжо царк. могілкі.

У 1884 г. ў Магілёўскай губ. мелася 6341 жылое пасяленне, у т.л. 11 павятовых і 3 заштатныя гарады (Бабінавічы, Беліца, Копысь), 83 мястэчкі, 9 пагостаў, 31 слабада, 407 сёл, 3931 вёска, 1866 невялікіх пасёлкаў.

У ВКЛ і Рэчы Паспалітай атрымалі распаўсюджанне фальваркі, якія ўяўлялі сабой двор феадала з развітым комплексам жылых, гасп., вытв. і гандл. пабудоў. Да 15 ст. існавалі гал. чынам дробныя фальваркі, якія забяспечвалі ўладальнікаў прадуктамі. Зямлю ў фальварках апрацоўвалі нявольная чэлядзь і залежныя ад феадалаў сяляне. Павелічэнне панскіх пасеваў адбывалася за кошт лепшых зямель. Фальваркі мелі некаторыя агульныя рысы з гаспадарскімі дварамі (маёнткамі). Фальварковая сістэма землекарыстання была ліквідавана рэформай 1861 г.

Пасля адмены прыгоннага права склалася хутарская форма землекарыстання. Як від сельскага паселішча хутар уяўляў сабой адасоблены зямельны ўчастак з сядзібай уладальніка. У 16 — 1-й пал. 19 ст. гэта назва нярэдка ўжывалася і ў дачыненні да фальваркаў. Колькасць хутароў з 2-й пал. 19 ст. істотна павялічылася. У канцы 19 ст. ў губерні існавала права свабоднага выхаду з абшчыны і замацавання за сабою зямельнага надзелу. Указам ад 9.11.1906 г., які адлюстроўваў агр. ідэі П.А.Сталыпіна, такое звычаёвае права атрымала статус дзяржаўнага. Да 1.1.1916 г. ў губерні было перaселена і намечана да перасялення на хутары каля 15% сял. гаспадарак.

Да сельскіх пасяленняў адносіліся таксама панскія маёнткі (двары), аколіцы.

Засценак як тып пасялення атрымаў назву ад месца размяшчэння зямлі. Пры трохполлі кожнае з 3 сял. палёў мела свае «сцены», г.зн. дакладна вызначаныя межы. Усе сял. землі, якія знаходзіліся за гэтымі межамі, называліся засцянковымі землямі, ці засценкамі. Звычайна засцянковыя землі аддаваліся дробнай шляхце, якая сялілася там адным або некалькімі дварамі. Невялікія пасяленні (засценкі, выселкі, хутары) часта былі параскіданы сярод лясоў і служылі сховішчам ад ваеннай небяспекі і грабяжоў.

Гістарычна сельскія пасяленні Магілёўшчыны вызначаліся маладворнасцю, у пераважнай большасці мелі ад 3 да 10 двароў. Устойліва на працягу некалькіх стагоддзяў захоўвалася розніца ў 1,5 раза паміж памерамі пасяленняў Пн і Пд б. Мсціслаўскага і Магілёўскага ваяводстваў, а пазней Магілёўскай губ. Пасля рэформы 1861 г. назіраецца імклівы рост памераў сельскіх пасяленняў. Да пач. 20 ст. па колькасці двароў яны павялічыліся ў 2—3 разы. Аднак ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Беларусі падняпроўская вёска заставалася адносна маладворнай і ў 1-й чвэрці 20 ст. Паводле дадзеных Е.Раманава, у 1912 г. з 59 вёсак Быхаўскага павета 20 мелі да 10 двароў, 5 — ад 10 да 20, 11 — ад 50 да 88, і толькі ў 7 вёсках было больш за 100 двароў. Асн. частка лепшых зямель належала памешчыкам, манастырам і цэрквам. У 1917 г. манастыры і цэрквы Магілёўскай епархіі мелі 18 334 дзес. пашні, якую апрацоўвалі збяднелыя і малазямельныя сяляне.

З с.-г. культур, якія вырошчваліся на Магілёўшчыне ў 13—14 ст., галоўным было жыта. У меншых памерах высяваліся авёс, ячмень і некаторыя іншыя куль-

туры. Атрымлівалі распаўсюджанне лён і каноплі. У 16—17 ст. пасевы пашыраліся гал. чынам за кошт асваення свабодных земляў і лясных масіваў. Апрацоўвалася зямля драўлянай сахой з жал. наканечнікам і драўлянай бараной. Асновай эксплуатацыі сялян з'яўлялася феад. ўласнасць. Вял. князі ВКЛ выдавалі феадалам граматы аб замацаванні за імі правоў валодання і свабоднага распараджэння вотчыннымі маёнткамі. У 14—15 ст. феадалы дабіліся ад вял. князёў прывілеяў, якія гарантавалі імунітэт зямельных уладанняў і права вотчыннага суда над сялянамі. Да канца 16 ст. на бел. землях было юрыдычна афармлена прыгоннае права. Цэрквы, манастыры, іншыя духоўныя каталіцкія і праваслаўныя ўстановы таксама з'яўляліся землеўладальнікамі, мелі сваіх прыгонных, карысталіся імунітэтам і іншымі льготамі.

Пратэст супраць прыгнёту праяўляўся ў самых розных формах (непадпарадкаванне загадам феадалаў, пашкоджанне іх маёмасці, хваляванні, паўстанні). Працоўныя нізы Магілёўшчыны актыўна ўдзельнічалі ў антыфеад. вайне 1648—51 гг. Паўстанцы і казацкія атрады асадзілі Быхаўскую крэпасць, але пасля няўдалых спроб узяць яе вымушаны былі адступіць. У кастр. 1648 г. паўсталі жыхары Бабруйска і разам з казацкімі загонамі Паддубскага перабілі заможную шляхту, утапілі ў Бярэзіне гар. старосту. У пач. 1649 г. да горада падышлі войскі. Пачаліся цяжкія баі. У 1649 г. ўспыхнула паўстанне каля Чэрыкава. У 1651 г. паўстанне ахапіла Мсціслаўскае ваяв. Сяляне вёсак Дубейцы і Крывая Ніва, што каля Крычава, у 1690 г. выступілі супраць узброенага польскага атрада і не дазволілі яму рабаваць вяскоўцаў, а ў 1696 г. супраць гетманскай харугвы выступілі жыхары Крычава і суседніх вёсак. Падчашы ВКЛ І.Радзівіл у 1741 г. загадаў крычаўскаму намесніку «дастойна караць сваявольных, адсылаць бунтаўшчыкоў у Слуцкую маю крэпасць». Буйнае антыфеад. выступленне сялян Крычаўскага староства адбылося ў 1743—44 гг. Яго ўзначаліў Васіль Вашчыла. Паўстанцы нападалі на дамы купцоў і ліхвяроў, знішчалі судовыя і даўгавыя кнігі, разганялі адміністрацыю. Гар. бедната Крычава падтрымала сялян. Улады бязлітасна расправіліся з непакорнымі.

Значныя спусташэнні нанесены Магілёўшчыне ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. У Мсціслаўскім павеце, напрыклад, колькасць насельніцтва ў 1667 г. была меншай, чым у 1648 г., на 71,4%. Арэнай ваенных дзеянняў паміж рус. і шведскімі войскамі стала тэр. Магілёўшчыны ў Паўн. вайну 1700—21 гг. 7.7.1708 г. шведскія войскі захапілі і абрабавалі Магілёў. 28.9(9.10).1708 г. рус. войскі каля в. Лясная ў выніку 5-гадзіннага бою разграмілі шведскі корпус А.Левенгаўпта, які ішоў на дапамогу Карлу XII. Страты, панесеныя ў выніку нашэсця шведаў, адчуваліся шмат гадоў. У Шклоўскім графстве за 3 гады пасля разгрому шведаў вымерла ад голаду і хвароб 22% сямей, а 241 сям'я пакінула яго межы. У 1724 г. ўладальнік Шклоўскага графства аддаў мяшчанам Шклова ў залог і арэнду 11 пустуючых вёсак.

Буйныя перамены ў эканам. і палітычным жыцці Магілёўшчыны, развіцці гар. і сельскіх пасяленняў адбыліся ў 2-й пал. 18 ст. Паводле адм. рэформы 1564—66 гг. землі значнай часткі Магілёўшчыны ўваходзілі ў склад Мсціслаўскага ваяв. Невялікая частка сучаснай вобласці ўваходзіла ў Віцебскае і Навагрудскае ваяводствы. 3.11.1772 г. сенат выдаў Указ аб утварэнні Магілёўскай губ., у якую ўвайшлі Аршанская, Віцебская, Магілёўская, Мсціслаўская, Полацкая і Рагачоўская правінцыі, а з 1776 г. паветы: Аршанскі, Бабінавіцкі, Беліцкі, Клімавіцкі, Капыскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Старабыхаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі. Паветы дзяліліся на воласці. Магілёў стаў губ. горадам, мястэчкі Чэрыкаў і Быхаў, а таксама вёскі Клімавічы, Бабінавічы і Чавусы — пав. цэнтрамі (1777). На ўтрыманне і добраўпарадка-

ванне губ. і пав. гарадоў выдзяляліся значныя сродкі. У 1781 г. былі зацверджаны іх гербы. Жыхары ўсх. часткі Беларусі ў снеж. 1772 г. былі вызвалены ад падаткаў на паўгода, а паводле ўказа Кацярыны II ад 17.4.1773 г. дзярж. падаткі з насельніцтва на тэр., якая ўвайшла ў склад Расіі пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай, збіраліся на працягу 2 гадоў у палавінным памеры. У 1778 г. губерня была пераўтворана ў Магілёўскае намесніцтва з тымі ж паветамі. Указам 1779 г. памер падаткаў з 1780 г. ў Магілёўскім намесніцтве зноў быў устаноўлены меншы, чым на тэр. Расіі. У крас. 1793 г. было вызвалена ад уплаты дзярж. подацей на 2 гады насельніцтва той часткі Беларусі, якая ўвайшла ў склад Расіі пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай. Бабруйскі павет уваходзіў у створаную ў 1793 г. Мінскую губ. Паводле адм. рэформы 1802 г. ў Магілёўскую губ. ўваходзілі 12 паветаў: Аршанскі, Бабінавіцкі (скасаваны ў 1840 г.), Беліцкі (з 1852 г. Гомельскі), Капыскі (з 1861 г. Горацкі), Клімавіцкі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Старабыхаўскі (з 1852 г. Быхаўскі), Чавускі і Чэрыкаўскі.

Некаторыя гарады, у т.л. Магілёў і пав. цэнтры Быхаў, Клімавічы, Мсціслаў, Чавусы, Чэрыкаў, атрымалі ў 1778 г. ген. планы арх.-планіровачнага развіцця. У 1800 г. быў распрацаваны план Бабруйска. Складанне гэтых планаў супала з часам панавання ў рус. горадабудаўніцтве класіцызму. Паводле тагачасных канцэпцый горад павінен быў мець добра акрэсленую геаметрычную структуру з сістэмай квадратных ці прамавугольных кварталаў. У цэнтры — гал. плошча з грамадскімі будынкамі, якую дапаўнялі некалькі плошчаў на перыферыйных участках паселішча. Памеры горада строга фіксаваліся знешнім перыметральным валам, які прарэзвалі гал. ўезды з важнейшых дарог. У горадзе забаранялася ўзводзіць заводы. Такая лінія горадабудаўніцтва вызначалася пэўным захаваннем і пераемнасцю старaж. традыцый і разам з тым вяла да карэннай перабудовы некаторых гарадоў. Старaж. гар. цэнтры з замкамі паступова страчвалі сваю арганізуючую ролю. На месцы старaж. паселішчаў узнікалі новыя ансамблі грамадскіх, культавых і жылых будынкаў.

У эканам. жыцці гарадоў 2-я пал. 18 ст. адзначана ўздымам рамеснай вытв-сці. У 1772—95 гг. у гарадах і вёсках губерні ўзніклі 10 новых суконных прадпрыемстваў. Фаварыт Кацярыны II ген. С.Зорыч, які атрымаў Шклоўскі маёнтак з 12 300 прыгоннымі, адкрыў у 1781 г. ў в. Путнікі суконную мануфактуру, а ў 1793 г. ў фальварку Сямёнаўскі — залаташвейную ф-ку па вырабе шарсцяных сукенак і камзолаў, вышытых золатам і шоўкам. У 1770-х г. Кацярына II падаравала графу П.В.Завадоўскаму Магілёўскую эканомію з 25 860 сялянамі, Р.А.Пацёмкіну — Крычаўскае староства з 14 250 сялянамі. У Крычаве разгарнулася будаўніцтва адміралцейства, судаверфі, ветразевай ф-кі, канатнага з-да і іншых прадпрыемстваў. Кіраваў будаўніцтвам стрыечны дзед А.С.Пушкіна Іван Ганібал. Суконныя прадпрыемствы ўзніклі ў Магілёве, Горках, вёсках Салтанаўка Чавускага, Старыя Буйнічы Магілёўскага, Канічы Клімавіцкага паветаў і інш. Развіваліся дрэваапрацоўчыя промыслы — выраб посуду, с.-г. прылад і прадметаў першай неабходнасці. Пашырыліся пасевы лёну і развядзенне авечак, што дазваляла амаль кожнай сял. сям'і ткаць палатно і сукно. Распаўсюджваліся ганчарны і кавальскі промыслы, апрацоўка скур. У апошняй чвэрці 18 ст. ў Крычаве, Шклове, Горках, Старых Буйнічах узніклі палатняна-ветразевыя мануфактуры. Канатныя і гарбарныя мануфактуры з'явіліся ў Шклове, прадпрыемства па вырабе шкла — у Крычаве. У 1864 г. ў гарадах губерні мелася 5737 рамеснікаў. Прадпрыемствы па вырабе шкла працавалі ў вёсках Барсукі, Нікалаеўка (засн. да 1854 г.), Елізаветава (1844 г.) Клімавіцкага, Батаева, Малінаўка, Гута, Лешчанка (да 1832 г.), Пятруліна Чэрыкаўскага, Гута Быхаўскага (1813), Гута Магілёўскага, Загорын Чавускага,

Качэрычы (да 1845 г.) Бабруйскага паветаў. Майстэрні па апрацоўцы скуры меліся ў вёсках Беліца, Гута Чэрыкаўскага павета, Клімавічах; парусінавыя і суконныя прадпрыемствы — у Горках (каля 1790 г.), вёсках Благоева, Канічы (1810) Клімавіцкага, Баравое, Хоцімск (1828), Гута, Зябень (1828) Чэрыкаўскага, Грудзінава Быхаўскага паветаў (каля 1809 г.). Вінагарэлачныя прадпрыемствы працавалі ў Прапойску (1805), вёсках Адапава Мсціслаўскага (1795), Анчымец, Архіпаўка (да 1837 г.), Елізавеціна (1822), Аборава (да 1813 г.) Чэрыкаўскага павета; Крычаве (да 1796 г.). Рагожная ф-ка дзейнічала ў Быхаве, цагельны з-д — у в. Воранава Клімавіцкага, меднагузікавая ф-ка — у в. Угон Быхаўскага (каля 1795 г.), вапнавы з-д у в. Гарбацэвічы Бабруйскага (да 1851 г.), паташны — у фальварку Гербава Горацкага, чыгуналіцейны ў Горках, медзеапрацоўчы — у в. Гарадок Бабруйскага, цукровы ў в. Добасна Бабруйскага (1839), медзеплавільны — у в. Досава Быхаўскага паветаў. Мануфактурная вытв-сць складвалася на базе феад. гаспадаркі, але паступова набывала і капіталістычныя элементы. У 1864 г. з 905 594 жыхароў губерні ў гарадах жыў 95 661 чал. Распаўсюджваліся, асабліва пачынаючы з 18 ст., мануфактуры з наёмнай працай. У 1860-я г. Магілёўская губ. вырабляла больш шкляных вырабаў, чым усе прадпрыемствы Украіны. Буйныя мануфактуры адкрывалі ў гарадах свае магазіны.

Прац. насельніцтва цярпела цяжкія пакуты ад эксплуатацыі, частых неўраджаяў і эпідэмій. Толькі з 1820 да 1850 г. неўраджаі і галодныя гады паўтараліся на Магілёўшчыне 10 разоў. У 1871—72 гг. пракацілася эпідэмія халеры. І ў наступныя гады (1873, 1874, 1875) смяротнасць перавышала нараджальнасць. Вял. шкоду наносілі пажары. Так, у 1882 г. ў Магілёўскай губ. згарэла 2673, у 1883 г. — 1938 пабудоў.

Спусташальнаму нашэсцю падверглася Магілёўшчына ў 1812 г. Напалеон намерваўся адрэзаць каля Магілёва шляхі адступлення 2-й рус. арміі пад камандаваннем Баграціёна і разграміць яе. Раніцай 11.7.1812 г. каля в. Салтанаўка адбыўся бой паміж 7-м пяхотным корпусам ген. М.М.Раеўскага і напалеонаўскімі войскамі маршала Даву. Вораг страціў больш за 4 тыс. чал. забітымі і параненымі. Дзякуючы поспеху войск ген. М.М.Раеўскага 2-я рус. армія пераправілася каля Новага Быхава цераз Дняпро і рушыла на Смаленск. 12.7.1812 корпус Раеўскага таксама пераправіўся цераз Дняпро каля Старога Быхава. Намер французаў знішчыць 2-ю рус. армію быў сарваны. І пасля акупацыі імі Магілёўшчыны народ аказваў супраціўленне грабяжам, рэквізіцыям, зрываў планы захопнікаў па нарыхтоўцы харчавання. З набліжэннем французскіх атрадаў насельніцтва пакідала свае хаты і цэлымі вёскамі накіроўвалася ў лясы. У ліст. 1812 г. тут дзейнічаў партыз. атрад Дзяніса Давыдава, які захапіў Шклоў і Галоўчын, а потым Бялынічы. На Магілёўшчыне дзейнічаў у гэты час і партыз. атрад Сяславіна.

Яскравым сведчаннем высокага ўзроўню сац. арганізацыі грамадства з'яўляліся шляхі зносін і транспартныя сродкі. Яны ж выступалі важным фактарам развіцця гар. і сельскіх пасяленняў. За 1811—48 гг. працягласць дарог дзярж. значэння павялічылася ў губерні ў 2 разы і склала 2 тыс. вёрст. У 1823 г. на Дняпры паявіўся першы параход, а ў 1859 г. ўзнікла Дняпроўскае параходнае т-ва, якое мела 11 параходаў. Асн. транспартнымі воднымі артэрыямі былі Дняпро і Сож. Найбольш буйныя прыстані знаходзіліся ў Бабруйску, Магілёве, Крычаве, Шклове. У 1859— 62 гг. на дняпроўскіх прыстанях штогод грузілася розных тавараў на 206 060 руб., у іх ліку лес і прадукты дрэваапрацоўкі, смала, дзёгаць, вапна, скура, шкло, спірт, жыта і жытняя мука. Па Сожы перавозілася ў год тавараў на 238 420 руб., у т.л. збожжа, спірт, канаплянае насенне, алей, пянька, шкло, лес і лясныя вырабы, смала, дзёгаць, вапна, палатно. У пач. 19 ст. праз Магілёўшчыну прайшла Пецярбург-



*Магілёўскі касцёл кармелітаў.*

ска-Кіеўская дарога, якая пралягала праз Оршу, Александрыю, Шклоў, Дабрэйку, Магілёў, Кутню, Рабавічы, Прапойск. Дзейнічаў губ. тракт Магілёў—Чавусы—Чэрыкаў—Крычаў—Мсціслаў. У 1830—40 гг. пракладзена Пецярбургска-Кіеўская шашэйная дарога праз Віцебск, Оршу, Магілёў, Гомель. Маскоўска-Варшаўская шашэйная дарога прайшла праз Крычаў, Чэрыкаў, Прапойск, Рагачоў, Бабруйск. Працягам яе стала шаша Бабруйск—Слуцк і далей да Брэста, будаўніцтва якой вялося з 1843 да 1850 г. У 1873 і 1902 гг. па тэр. губерні прайшлі Лібава-Роменская і Пецярбургска-Адэская чыгункі. У 1896 г. закончана будаўніцтва чыг. Асіповічы—Старыя Дарогі. У 1913 г. на 1000 км$^2$ тэр. прыходзілася 17,5 км чыгункі. У 1916 г. ўведзены ў эксплуатацыю ўчастак чыг. Бабруйск—Ратміравічы.

Чыгункі, водныя і шашэйныя шляхі ўмацоўвалі эканам. сувязі з Масквой, Пецярбургам, Кіевам, а таксама з Варшавай, балтыйскімі партамі Лібава і Рыга. Тавараабарот 37 кірмашоў губерні ў 1860 г. перавысіў 1 млн. руб. Амаль ва ўсіх гарадах і многіх мястэчках праводзіліся штотыднёвыя таржкі і кірмашы. Развіваўся лавачны гандаль. У Магілёве ў 1861 г. меліся 942 лаўкі. Пашыраўся гандаль з гарадамі іншых губерняў. У 1913 г. на губерню прыходзілася 15,6% вывазу лесу з Беларусі.

Памешчыкі, якія ў 1825 г. складалі каля 0,5% насельніцтва, валодалі больш за 90% усёй зямлі. Лік памешчыцкіх сялян рэзка пераважаў над колькасцю сялян дзярж. Выключэннем былі толькі Чавускі і Горацкі паветы, дзе было даволі многа пасяленняў дзярж. сялян. Баршчына даходзіла да 5 дзён у тыдзень. У 1890-я г. 6,7% сял. гаспадарак зусім не мела зямлі. Асн. заняткам сялян было земляробства. Жывёлагадоўля адыгрывала другарадную ролю. Больш высокім узроўнем вызначалася земляробства на дняпроўскім левабярэжжы, асабліва на Горацка-Мсціслаўскай раўніне. Тут даўно склалася сістэма трохполля, у структуры пасяўных плошчаў пераважала жыта. У той жа час на шырокіх лясных прасторах у 19 — пач. 20 ст. нярэдка прымянялася падсечная сістэма. З тэхн. культур апрача ільну сеялі каноплі, найбольшыя плошчы якой знаходзіліся ў Быхаўскім, Клімавіцкім і Чавускім паветах. У ліку пабочных прам. заняткаў былі рыбалоўства, паляванне. Развіваліся цагельная і чарапічная вытв-сць, ганчарнае, мукамольнае, крупарушнае, кавальскае, сталярнае, цясярскае рамёствы. Жанчыны займаліся вытв-сцю ільняных і пяньковых вырабаў, кустарна-карункавым і вышывальным промысламі. Пашыраліся ў выглядзе адыходных будаўнічыя промыслы. Нар. майстры-дойліды ўзводзілі не толькі жылыя і гасп. памяшканні, але і культавыя будынкі, палацы, прам. аб'екты, плаціны, масты і г.д. Развівалася пчалярства. У 1881 г. ў Магілёўскай губ. было 11 961 вулляў, з якіх штогод атрымлівалі 44,1 тыс. пудоў мёду і больш за 5 тыс. пудоў воску. Асабліва шырокія памеры набыло пчалярства ў Чэрыкаўскім, Быхаўскім і Клімавіцкім паветах. У 1897 г. ў Магілёўскай губ. было 10 608 населеных месц. На адно сяленне прыходзілася 3,9 кв. вярсты і 159 жыхароў. Сельскае насельніцтва складала 91,3%. 82,9% насельніцтва гаварыла на бел. мове.

Структурнай адзінкай планіроўкі сельскіх пасяленняў быў сял. двор з жыллём і комплексам гасп. пабудоў. Як жылыя, так і гасп. пабудовы заможных сялян размяшчаліся па перыметры замкнутай чатырохвугольнай пляцоўкі і былі накрыты адной суцэльнай, звычайна са-

ламянай страхой. Свабодныя прамежкі паміж варотамі з веснiцамі і пабудовамі з аднаго або абодвух бакоў, а таксама паміж асобнымі будынкамі, закрываліся замётам — высокім (да 2 м) плотам з гарызантальна закінутых бярвён. У сярэдзіне забудовы знаходзіўся двор, а ўся забудова складалася з хаты, клеці, павеці, сцепкі, сянніцы, некалькіх хлявоў — для кароў, авечак, свіней, каня. У некаторых месцах Падняпроўя апрача знадворных меліся ўнутраныя дзверы паміж хлявамі, што дазваляла пераходзіць з адной гасп. пабудовы ў другую, не выходзячы на двор. Гумно і лазня выносіліся з супрацьпажарнай засцярогі за межы двара, у канец сядзібы. Такая ж сістэма дваровай забудовы назіралася і ў шляхецкіх аколіцах, засценках.

Да 1860—70-х г. шырока бытавала курная хата без дымахода. У дзярж. сялян яна знікла раней, у памешчыцкіх — пазней. Эвалюцыя жылля сельскага пасялення развівалася ў тым жа напрамку і ў іншых рэгіёнах Беларусі: 1-, 2-, 3-камернае. Аднакамернае жыллё — найбольш просты тып сял. хаты без сенцаў. Звычайна гэта была рубленая клець у форме квадрата або прамавугольніка. Задавальняла яна гал. чынам гасп. і быт. патрэбы сям'і. У 19 ст. яна разглядалася як жыллё беднякоў і бабылёў, як прыстанішча пасля пажару. Найбольш распаўсюджаным было 2-камернае жыллё, якое складалася з хаты і прырубленых да яе сенцаў (хата + сенцы). У сенцах, як правіла, мелася камора, стаялі жорны, ступы і іншае начынне. Распаўсюджана было і 3-камернае жыллё, вядомае на Падняпроўі з 16 ст. Найбольш пашыраны былі 2 планіровачныя тыпы 3-камернага жылля падняпроўскай вёскі: двухбаковая (хата + сенцы + хата) і аднабаковая (хата + хата + сенцы). У цэнтр. раёнах губерні найбольш распаўсюджанай была аднабаковая планіроўка. Фундамент у хатах звычайна адсутнічаў, замест яго пазней падкладвалі пад вуглы ніжняга вянка зруба камяні, або ўкопвалі дубовыя штандары. Ніз завальваўся зямлёй, утвараючы прызбу. Дах быў пераважна двухскатны з саломы, цёсу або дранкі. Печ і спальнае месца (палок і палаці) знаходзіліся ў першай ад сенцаў хаце, а другая хата выкарыстоўвалася як чыстая палавіна жылля. Печ знаходзілася ў куце справа або злева ад дзвярэй. У супрацьлеглым ад яе па дыяганалі куце, які называўся «красным», стаяў стол, за печчу, ля глухой сцяны, размяшчаліся палаці, каля другой падоўжнай сцяны — шырокая лава. У хаце, як правіла, былі 2 невялікія акны — на вуліцу і на двор. Інтэр'ер вызначаўся строгай функцыянальнасцю, кожная рэч мела сваё канкрэтнае месца, а кожнае месца — сваё прызначэнне.

З развіццём капіталізму ўзнікалі новыя сац. групы сельскага насельніцтва: з аднаго боку сельскі пралетарыят, а з другога — сельская буржуазія, кулацтва. У 1-й трэці 19 ст. на Магілёўшчыне адбылося 13 сял. хваляванняў. З 1829 да 1834 г. працягвалася хваляванне быхаўскіх сялян, якія патрабавалі вызвалення ад прымусаў і здзекаў кн. Сапегі. У 1830 г. хваляваннямі было ахоплена больш за 900 сялян вёсак Белая Дубрава, Зелянковічы, Прудкова, Клетні, Клеевічы, Гайнаўка, Рынск, Хоцімск Чэрыкаўскага павета. Масавым рухам была адзначана сял. рэформа 1861 г. У сак.—снеж. 1861 г. адбыліся хваляванні ў 50 маёнтках губерні, а ў 11 маёнтках для падаўлення хваляванняў уводзіліся вайск. каманды. Сяляне пратэставалі супраць устаўных грамат, якія вызначалі меншыя, чым да рэформы, памеры сял. надзелаў. У 1863 г. на Магілёўшчыне дзейнічаў шэраг паўстанцкіх атрадаў.

Магілёўшчына вядома многімі рэв. выступленнямі. У лютым 1826 г. ў Бабруйску здзейснена апошняя спроба ажыццявіць рэв. задумы дзекабрыстаў — афіцэры Палтаўскага палка спрабавалі захапіць крэпасць. Пасля падаўлення гэтага выступлення Бабруйская крэпасць стала месцам зняволення многіх дзекабрыстаў. У студз. 1826 г. ў Магілёве, у будынку штаба 1-й арміі (цяпер абутковая ф-ка «1 Мая») праводзіўся допыт кіраўнікоў

Паўд. т-ва дзекабрыстаў П.І.Пестэля, А.П.Бястужава-Руміна і М.М.Мураўёва-Апостала. У 1870-я г. ў Магілёве ўзнік народніцкі гурток, які вёў прапаганду сярод навучэнцаў. У 1875 г. паліцыя арыштавала членаў гуртка — студэнтаў Магілёўскай гімназіі. Дзейнічаў народніцкі гурток і ў Горках, у яго ўваходзілі навучэнцы земляробчага вучылішча. Вядомым народнікам быў С.Ф.Кавалік — ураджэнец в. Сваткавічы Крычаўскага р-на. У 1878 г. ў Магілёве ўзнік народніцкі гурток мясц. інтэлігенцыі «Зямля і воля», які па даносе правакатара быў раскрыты, а многія яго ўдзельнікі сасланы. Нарадавольцам быў ураджэнец Бабруйска І.І.Грынявіцкі. 1.3.1881 г. кінутай ім бомбай быў забіты цар Аляксандр II. У в. Судзілы Клімавіцкага павета нарадзіўся нарадаволец Н.К.Судзілоўскі. Ратуючыся ад праследаванняў царскага ўрада, ён выехаў за мяжу, жыў і працаваў у Румыніі, Балгарыі, Швейцарыі, Францыі, Іспаніі, ЗША, Японіі, памёр у Кітаі.

Цэнтрамі рабочага руху былі гарады, дзе становішча прац. люду было вельмі цяжкім, нават больш гаротным, чым у многіх іншых губернях Рас. імперыі. Калі сярэднегадавая зарплата рабочых у краіне ў 1914 г. складала 271 руб. 45 кап., то ў Магілёўскай губ. — 184 руб. 22 кап. Па справаздачах фабрычнай інспекцыі за 1904—06 гг. сярэдняя падзённая заработная плата рабочых на Магілёўшчыне складала 55 кап. для мужчын, 37 кап. — для жанчын, 21 кап. — для хлопчыкаў, 12 кап. — для дзяўчынак. У Магілёве ў 1898 г. 110 рабочых 9 гарбарных з-даў выступілі ў абарону сваіх таварышаў, якім пагражала звальненне, і патрабавалі дадатковую плату за звышурочную працу. У Быхаўскім павеце ў 1899 г. адбылася забастоўка на шклозаводзе. У 1903 г. ў Магілёве прайшло 18 эканам. стачак, большасць з якіх была арганізавана рамеснымі рабочымі. У 1901—04 гг. адбыліся буйныя стачкі і дэманстрацыі рабочых у некаторых гарадах і хваляванні сялян у вёсках Мсціслаўскага, Клімавіцкага, Быхаўскага, Горацкага і іншых паветаў. Для расправы над рабочымі і сялянамі ўлады выкарыстоўвалі войскі.

У канцы 19 ст. ўзнікла с.-д. арг-цыя ў Бабруйску, у 1899 г. аформіўся Магілёўскі к-т РСДРП, у 1903 г. с.-д. арг-цыі ў Лупалаве, Шклове, Мсціславе, Быхаве. Карэспандэнцыі аб жыцці і барацьбе рабочых і сялян губерні, аб дзейнасці мясц. сацыял-дэмакратаў друкаваліся ў газеце «Искра». У 1903 г. ў Магілёве, Шклове і інш. актыўна праяўлялі сябе іскраўскія групы, якія распаўсюджвалі газету і накіроўвалі ў яе свае карэспандэнцыі. Вял. работу па распаўсюджванні газ. «Искра» і падрыхтоўцы II з'езда РСДРП праводзіў ураджэнец в. Студзянец Касцюковіцкага р-на П.Н.Лепяшынскі. Прафес. рэвалюцыянер Г.Л.Шклоўскі актыўна працаваў у іскраў-

*Від на Магілёў з боку Свята-Мікольскага манастыра.*



скай групе ў сябе на радзіме — у Бабруйску. Тут быў надрукаваны маніфест I з'езда РСДРП і выдадзена кніга У.І.Леніна «Что делать?» У 1904 г. ў першамайскіх сходках Бабруйска ўдзельнічала каля 800 рабочых.

З узнікненнем у студз. 1904 г. Палескага к-та РСДРП і ў сак. 1904 г. Паўн.-зах. к-та РСДРП с.-д. арг-цыі Магілёўшчыны працавалі пад іх кіраўніцтвам. Палескі к-т меў сваю друкарню, дзе выходзілі лістоўкі, пракламацыі, брашуры. Работу сярод салдат вяла спецыяльна створаная для гэтага ваенна-рэв. арг-цыя. Летам 1905 г. Магілёўская с.-д. арг-цыя налічвала каля 300 членаў.

Моцным рухам рабочага класа і прац. сялянства быў адзначаны 1905 г. Забастоўкі і дэманстрацыі прайшлі ў Магілёве, Бабруйску, Быхаве, Крычаве і інш. У снеж. 1905 г. Магілёўская арг-цыя РСДРП выдала зварот да рабочых падтрымаць снежаньскую забастоўку чыгуначнікаў Масквы. Ураджэнец Краснаполля, у будучым бакінскі камісар, Я.Зевін за ўдзел у рэв. падзеях 1905 г. быў сасланы на катаргу. Выхадзец з Краснапольскага р-на М.К.Курака вядомы не толькі як першы рус. канструктар доменных печаў, але і як актыўны ўдзельнік 1-й рус. рэвалюцыі.

Сял. выступленні і забастоўкі батракоў летам 1905 г. ахапілі 10 з 11 паветаў губерні. У студз.—жн. у губерні адбылося 119 сял. выступленняў. У Чэрыкаўскім павеце сяляне разграмілі маёнткі Сілічы, Вядуйцы, Ясінка, у в. Прыпечына разрабавалі дом кн. Абаленскага. Каля 600 сялян з Забычання і іншых вёсак Клімавіцкага павета спынілі работу памешчыцкага вінаробчага з-да. У снеж. 1905 г. — студз. 1906 г. выступленні сялян, якія суправаджаліся пагромамі памешчыцкіх сядзіб і захопам іх маёмасці, адбыліся ў Чэрыкаўскім і Клімавіцкім паветах. У в. Кішчыцы Чэрняўскай вол. Чавускага павета ў выніку сутычкі з паліцыяй было забіта 8 і цяжка паранена 15 сялян.

З 8.8.1915 г. Магілёў стаў месцам знаходжання Стаўкі Вярх. галоўнакамандуючага, канцэнтрацыі вял. сіл паліцыі і войск, што ўскладніла дзейнасць рэв. арг-цый. Пасля звяржэння самадзяржаўя ў лютым 1917 г. антырэв. сілы Расіі групіраваліся вакол Стаўкі. Нягледзячы на гэта рэв. працэс набіраў сілу. У сак. 1917 г. адбылася дэманстрацыя салдат. Працоўныя Бабруйска, Шклова, Магілёва, салдаты батальёна георгіеўскіх кавалераў выступілі супраць карнілаўшчыны. У сак.—крас. 1917 г. ўзніклі Саветы рабочых і сял. дэпутатаў у Магілёве, Бабруйску, Горках, Шклове і інш. У ліп. 1919 г. ў Бабруйску была створана арг-цыя РСДРП(б).

Культура дарэв. гарадоў і вёсак Магілёўшчыны характарызуецца самабытнай творчасцю нар. умельцаў. Плённыя творчыя пошукі мастакоў рэгіёна канца 17 —



*Магілёўскі Мікольскі манастыр.*



*Агульны выгляд і іканастас царквы святога Мікалая Цудатворца Свята-Мікольскага манастыра ў Магілёве.*

1-й трэці 18 ст., што атрымалі ўвасабленне ў гравюры па медзі і дрэве, іканапісе, склалі своеасаблівую школу, якая вядома ў мастацтвазнаўстве як магілёўская.

У 1809 г. ў Магілёве адкрылася гімназія, а ў 1865 г. ў Бабруйску — 4-класная прагімназія. У 1875 г. пачала дзейнічаць першая ў Расіі цэнтр. фельч. школа. У той жа час амаль 83% насельніцтва было непісьменным, а ў вёсках пісьменнымі былі адзінкі. Ахоп дзяцей навучаннем у школах граматы, земскіх і царк.-прыходскіх школах, дзе даваліся першапач. навыкі пісьма і чытання, складаў у 1909—12 гг. каля 30%. Толькі ў Магілёве меўся тэлефон (83 абаненты). Ва ўсёй губерні ў 1910 г. было 650 бальнічных ложкаў, 168 урачоў і 258 фельчараў.

У кастр. 1917 г. — студз. 1918 г. сав. ўлада ўстаноўлена ва ўсіх гарадах і вёсках Магілёўшчыны. Віцебская, Магілёўская і неакупіраваныя паветы Мінскай і Віленскай губерняў былі аб'яднаны ў Зах. вобл. з цэнтрам у Мінску (у сак. 1918 г. у Смаленску). У вер. 1918 г. вобласць перайменавана ў Зах. камуну. 19.11.1917 г. ліквідавана Стаўка, а на пасаду Вярх. галоўнакамандуючага ўступіў прызначаны Сав. урадам М.В.Крыленка. 26.11.1917 г. пачала выдавацца газ. «Революционная ставка» — першая бальшавіцкая газета ў Магілёве. І з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Магілёўскай губ. (15—18.11.1917) зацвердзіў тэзісы аб арганізацыі сав. улады ў губерні. Былі ліквідаваны губ. камісарыят і іншыя дарэв. органы ўлады. Улада перайшла да Саветаў рабочых, салдацкіх і сял. дэпутатаў. 15—18.12.1917 г. адбыўся І з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў губерні. 14.1.1918 г. пасля аб'яднання Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў і Савета сял. дэпутатаў сфарміраваўся адзіны губ. рабоча-сял. орган, які праводзіў у жыццё дэкрэты Сав. ўрада. Са студз. 1918 г. дзейнічалі Магілёўскі губернскі, у Быхаве, Горках, Клімавічах, Чавусах, Чэрыкаве павятовыя, у мястэчках — местачковыя саветы. 28.1.1918 г. агульны сход членаў РСДРП(б) Магілёва выбраў новы парт. к-т. Пры Савеце была створана бальшавіцкая фракцыя.

Аднак рабочым і сялянам Магілёўшчыны хутка давялося сустрэцца з цяжкімі выпрабаваннямі. 11.1.1918 г. ген. Доўбар-Мусніцкі аб'явіў вайну Сав. Расіі. Карыстаючыся колькаснай перавагай сваіх войск, палякі захапілі Рагачоў, Бабруйск. Але пад ударамі Чырвонай Арміі і рэв. часцей польскі корпус быў вымушаны адысці.

У сувязі з наступленнем герм. войск Магілёўскі губвыканком 22.2.1918 г. ўвёў ваеннае становішча ў губерні і аб'явіў мабілізацыю ў Чырвоную Армію. У лютым 1918 г. войскі Германіі акупіравалі значную частку Магілёўшчыны. Сав. ўлада захавалася толькі ў Клімавіцкім, Мсціслаўскім, Чавускім, Чэрыкаўскім і часткова ў Горацкім, Магілёўскім і Быхаўскім паветах. 22.2.1918 г. створаны Ваенна-рэв. к-т, да якога перайшла ўся ўлада ў губерні. У Чырвоную Армію ў гэты дзень уступілі 2 тыс. рабочых і сялян губерні. 30.3.1918 г. Горацкае інфармацыйнае бюро паведаміла ў штаб галоўнакамандуючага Зах. фронтам, што ва ўсіх акупіраваных па-

ветах створаны партыз. атрады. У маі—чэрв. 1918 г. пачалі дзейнічаць падп. парт. арг-цыі ў Магілёве і Бабруйску. Магілёўскі падп. к-т РКП(б), які дзейнічаў з мая да кастр. 1918 г., кіраваў Магілёўскай гар., Быхаўскай і Шклоўскай падп. арг-цыямі. У кастр. 1918 г. Бабруйская арг-цыя мела ў сваім складзе 10 гар. і 156 вясковых ячэек. Разам з чырвонагвардзейцамі партызаны вызвалілі ад герм. войск Лупалава. 31.10.1918 г. Чырвоная Армія ўступіла ў Магілёў. 24.11.1918 г. адбыўся першы пасля выгнання з горада ням. акупантаў парт. сход Магілёўскай арг-цыі РКП(б), які выбраў гар. к-т. З партыз. атрадаў Магілёўскага павета ў 1918 г. сфарміраваўся 3-і Магілёўскі батальён Чырвонай Арміі. 25.11.1918 г. армія вызваліла г. Бабруйск.

1.1.1919 г. Часовы рабоча-сял. ўрад абвясціў стварэнне Сав. Сацыяліст. Рэспублікі Беларусь. У хуткім часе ў сувязі з акупацыяй часткі цэнтр. Беларусі польскімі войскамі Віцебская, Магілёўская і зах. паветы Смаленскай губерняў адышлі да РСФСР. У крас. 1919 г. згодна з пастановай Нар. камісарыята унутраных спраў і па ўзгадненні з прадстаўнікамі літ.-бел. і укр. ўрадаў з частак тэр. Магілёўскай, Мінскай і Чэрыкаўскай губерняў створана Гомельская губ. з цэнтрам у Гомелі. З 11.7.1919 г. Мсціслаўскі, з 27.7.1922 г. Горацкі паветы ўвайшлі ў склад Смаленскай губ. У снеж. 1923 г. Клімавіцкі і Чэрыкаўскі паветы аб'яднаны ў Калінінскі павет з цэнтрам у г. Клімавічы. Далучэнне да БССР гэтых паветаў адбылося 7.3.1924 г. Тэр. сучаснай Магілёўскай вобл. (Клімавіцкі, Быхаўскі, Магілёўскі, Чавускі паветы), якая ўваходзіла ў Гомельскую губ., далучана да БССР у 1924—26 гг.

Барацьба супраць контррэвалюцыі і інтэрвентаў, ажыццяўленне сац. і эканам пераўтварэнняў былі ў цэнтры ўвагі Сав. ўрада і мясц. органаў улады. У чэрв. 1919 г. Магілёў і Бабруйск наведаў агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя». У Магілёве на мітынгу, які адбыўся 14 чэрв. на Тэатральнай плошчы, выступіў М.І.Калінін. У Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета М.І.Калінін гутарыў з сялянамі. З вял. цікавасцю была сустрэта яго прамова на першым выпуску Магілёўскай школы чырвоных камандзіраў.

У студз. 1918 г. губ. з'езд сял. дэпутатаў намеціў меры па ажыццяўленні закона аб зямлі, прынятага II Усерас. з'ездам Саветаў. На не акупіраванай герм. войскамі частцы Магілёўшчыны канфіскацыя памешчыцкіх зямель была ў асн. закончана да сярэдзіны 1918 г. Многія пытанні жыцця вёскі, у т.л. аб адводзе сялянам памешчыцкай зямлі, аб стварэнні землеразмеркавальных камісій, памерах зямельных надзелаў і чарговасці надзялення зямлёй, вырашаліся на вясковых сходах. Сяляне атрымалі вялікую колькасць канфіскаваных у памешчыкаў жывёлы, землеапрацоўчых прылад і машын, жылля, збожжа і гасп. пабудоў. У памешчыцкіх маёнтках адкрываліся школы, бальніцы, клубы, дзіцячыя ўстановы. Паяўляліся першыя калект. гаспадаркі. Да канца мая 1919 г. ў губерні налічвалася 114 камун і 12 с.-г. арцеляў.

З жн. 1919 да ліп. 1920 г. частка Магілёўшчыны была акупіравана войскамі Польшчы. Працоўныя Магілёва і іншых гарадоў і вёсак разам з часцямі Чырвонай Арміі арганізавалі моцную абарону, а на акупіраванай тэр. разгортвалася партыз. барацьба. У снеж. 1919 г. партызаны на чале з С.Вілюгай зрабілі глыбокі рэйд у тыл ворага, разграмілі гарнізон на ст. Ратміравічы, захапілі шмат трафеяў. Актыўныя баявыя дзеянні вялі і іншыя партыз. атрады. Новыя сілы ўліваліся ў Чырвоную Армію. У маі 1920 г. на Зах. фронт пайшла амаль чвэрць Горацкай пав. партарганізацыі. Накіроўвалі на фронт сваіх членаў камсамольскія і прафс. арг-цыі.

У спадчыну новай уладзе дасталася разбураная эканоміка, голад, непісьменнасць і бескультур'е. У такіх умовах разгортвалася будаўніцтва новага жыцця. У снеж. 1917 г. былі нацыяналізаваны 2 валь-

цавыя млыны ў Мсціслаўскім павеце, у студз. 1918 г. — лесапільны з-д у Быхаўскім павеце. У канцы 1917 г. ў Магілёве ў падпарадкаванне дзяржавы перайшлі чыг. майстэрні, друкарня і шэраг іншых прадпрыемстваў. Уводзіліся 8-гадзінны рабочы дзень, абавязковае сац. страхаванне, ажыццяўляўся рабочы кантроль.

Колькасць і памеры калект. гаспадарак у вёсцы былі ў тыя гады невялікімі. У Магілёўскім павеце ў 1922 г. дзейнічалі 42 калект. гаспадаркі, на кожную з якіх прыходзілася ў сярэднім 106 га зямлі, 10 коней, 15 галоў буйной рагатай жывёлы. У Бабруйскім павеце ў 1923 г. было 14 арцеляў, 23 с.-г. каап. т-вы. У кастр. 1924 г. колькасць кааператываў у Калінінскім павеце дасягнула 121, у Бабруйскім — 50, у Горацкім — 22. Ствараліся к-ты сял. узаемадапамогі, колькасць якіх толькі ў Магілёўскім павеце ў 1924 г. склала 416. Меліярацыйныя т-вы «Астрэні» Чавускага р-на і «Васількі» Бялыніцкага р-на за паспяховае правядзенне меліярацыйных работ былі ўзнагароджаны ў 1924 г. ордэнамі Прац. Чырвонага Сцяга БССР.



*Сабор Трох Свяціцеляў у Магілёве.*

Як у гарадах, так і ў вёсках шырокім фронтам ішло аднаўленне гаспадаркі. У лютым 1919 г. Сав. ўрад выдзеліў губерні значную грашовую дапамогу і накіраваў на пастаянную работу вопытных работнікаў з цэнтра. Перабудоўваліся арганізацыя вытв-сці, сістэма аплаты працы і кіраўніцтва дзярж. прадпрыемствамі. У пач. 1919 г. ў Магілёве аднавілі дзейнасць чыгуналіцейны і механічны з-ды, шэраг прадпрыемстваў лёгкай прам-сці, працавала гар. электрастанцыя. У студз. 1920 г. ў губерні былі адкрыты 52 майстэрні па рамонце с.-г. інвентару. У Бабруйску ў 1921 г. аднавілі працу 2 лесапільныя з-ды, 9 млыноў, швейныя, абутковыя і металічныя майстэрні. Аднавіла работу Шклоўская папяровая ф-ка. 9.8.1920 г. ва ўсіх установах культуры быў арганізаваны суботнік на карысць хворых і параненых чырвонаармейцаў. Аднак агульны аб'ём прам. прадукцыі заставаўся невялікім. У Магілёўскім павеце, напрыклад, у 1922 г. выпуск прам. прадукцыі складаў толькі 18% да ўзроўню 1914 г. Пераважная колькасць рабочых была занята ў дробнай кустарнай вытв-сці. Удзельная вага гар. насельніцтва да 1926 г. амаль не павялічылася, але сац. структура істотна змянілася. Пераважную частку гар. насельніцтва складалі рабочыя і дробныя вытворцы.

У сярэдзіне 1920-х г. пачало разгортвацца будаўніцтва новых прадпрыемстваў. У Бабруйску ў 1926 г. быў закладзены буйнейшы ў Еўропе механізаваны дрэваапрацоўчы камбінат, а ў кастр. 1929 г. газ. «Правда» паведамляла, што 1 кастр. пачаў працаваць лесазавод дрэваапрацоўчага камбіната, цэхі якога былі абсталяваны навейшымі па тым часе машынамі. У маі 1927 г. Савет Працы і Абароны СССР прыняў пастанову аб узвядзенні раённай электрастанцыі на Асінаўскім балоце магутнасцю 22 тыс. кВт, якая з уводам у дзеянне забяспечвала электраэнергіяй прам. раён Асінбуда і гарады Віцебск, Орша, Шклоў, Магілёў. Набывала моц вытв-сць будаўнічых матэрыялаў. У жн. 1928 г. здадзены ў эксплуата-

цыю Клімавіцкі сілікатны з-д. Першую прадукцыю — водаправодныя і каналізацыйныя трубы — даў у 1933 г. Магілёўскі трубаліцейны з-д. На базе мясц. сыравіны стваралася цэментная вытв-сць — у Крычаве быў пабудаваны цэментны з-д. У прам. будаўніцтве ўсё шырэй выкарыстоўваліся метал і жалезабетон, што якасна змяняла і арх. выгляд будынкаў. У першамайскія святы 1930 г. ў Крычаве ўступіў у строй фасфарытны з-д. 7.11. 1930 г., на 3 месяцы раней вызначанага тэрміну, уступіла ў строй 1-я чарга ф-кі штучнага валакна ў Магілёве. Была пабудавана швейная ф-ка імя Дзяржынскага ў Бабруйску. У Задняпроўі (каля Магілёва) у 1932 г. распачата і ў ліп. 1935 г. скончана будаўніцтва аўтарамонтнага з-да. Былі ўзведзены з-ды па вытв-сці ацэтонавых растваральнікаў у Быхаве, каніфолі ў Бабруйску, Бабруйская ЦЭЦ і інш. Да канца 2-й пяцігодкі валавая прадукцыя прам-сці Магілёва перавысіла ўзровень 1913 г. ў 100 разоў, а ўдзельная вага ў прам. вытв-сці рэспублікі ў параўнанні з 1913 г. павялічылася з 1,9 да 11,5%. У 1940 г. дзейнічалі 9454 прам. прадпрыемствы, на якіх працавалі 60 593 рабочыя. Апрача старых прам. цэнтраў, такіх як Магілёў, Шклоў, Бабруйск, узніклі новыя — Крычаў, Клімавічы. 23,2% насельніцтва жыло ў гарадах.

Адбываліся змены ў адм. падзеле і класіфікацыі населеных пунктаў. 3.3.1924 г. ЦВК РСФСР выдаў дэкрэт аб перадачы БССР са складу Гомельскай губ. Магілёўскага, Быхаўскага, Клімавіцкага, Чэрыкаўскага, Чавускага паветаў, а са складу Смаленскай губ. — Горацкага і шэрагу валасцей Мсціслаўскага павета з г. Мсціслаўль. У чэрв. 1924 г. сесія ЦВК БССР скасавала існуючае на тэр. Беларусі дзяленне на паветы і воласці. 17.7.1924 г. былі ўтвораны Магілёўская, Калінінская, Бабруйская акругі, якія падзяляліся на раёны. Многія з былых мястэчак сталі раённымі цэнтрамі. Пастановай ЦВК і СНК БССР з ліп. 1925 г. да гарадоў былі аднесены Магілёў, Бабруйск, Мсціслаў, Горкі, Клімавічы, Стары Быхаў, Чавусы, Чэрыкаў, Шклоў, да мястэчак — Асіповічы, Бялынічы, Глуск, Касцюковічы, Краснаполле, Крычаў, Хоцімск. У 1927 г. ліквідуецца Калінінская акруга, яе тэр. далучаецца да Магілёўскай і Аршанскай акруг, а ў 1930 г. ліквідуюцца ўсе акругі. Асн. адм. адзінкай стаў раён. У 1935 г. да ліку гарадоў былі дадаткова аднесены Асіповічы, Крычаў, да мястэчак — Дрыбін, Нова-Быхаў. Сярод населеных пунктаў з'явіліся рабочыя пасёлкі пры прам. прадпрыемствах, будоўлях, чыг. станцыях. У 1938 г. ўтворана Магілёўская вобл. у складзе 21 раёна (Асіповіцкі, Бабруйскі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Глускі, Горацкі, Дрыбінскі, Касцюковіцкі, Кіраўскі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Крычаўскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Прапойскі, Хоцімскі, Чавускі, Чэрыкаўскі). Прэзідыум Вярх. Савета БССР 27.9.1938 г. аднёс Магілёў і Бабруйск да гарадоў абл. падпарадкавання, а Асіповічы, Быхаў, Горкі, Касцюковічы, Клімавічы, Крычаў, Мсціслаў, Чавусы, Чэрыкаў, Шклоў — да гарадоў раённага падпарадкавання, населеныя пункты Глуша, Градзянка, Ялізава і Ясень — да рабочых пасёлкаў, Беразіно, Бялынічы, Глуск, Капысь, Клічаў, Краснаполле, Прапойск, Хоцімск — да гар. пасёлкаў. Двакі шлях развіцця прайшлі мястэчкі: адны з іх, як і раней, заставаліся адм.-тэр. і культурнымі цэнтрамі с.-г. раёнаў, другія ў су-

*Інтэр'ер Сабора Трох Свяціцеляў у Магілёве.*



*Агульны выгляд (злева) і ўнутраная размалёўка касцёла святога Станіслава ў Магілёве.*





вязі з ростам прам-сці пераўтвараліся ў гарады. Спецыфічныя рысы мястэчак паступова сціраліся. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 27.9.1938 г. большая частка мястэчак была аднесена да катэгорыі гар. пасёлкаў, а астатнія перайшлі ў разрад сельскіх пасяленняў.

Вырашэннем пытанняў адбудовы і развіцця спаленых і разбураных у час 1-й сусветнай і грамадз. войн пасяленняў займаўся створаны ў 1920 г. К-т дзярж. збудаванняў пры СНК БССР. У 1924 г. Магілёўскі пав.-гар. выканаўчы к-т прыняў пастанову «Аб мерах па паляпшэнні добраупарадкавання гарадоў», у якім вызначыў шэраг першачарговых праблем і шляхі іх вырашэння.

У 1930-я г. ў архітэктуры Беларусі распачаўся працэс фарміравання новых ансамблевых прынцыпаў горадабудаўніцтва. У 1936—39 гг. быў складзены план рэканструкцыі Магілёва. Закладзеныя ў ім прынцыпы (заніраванне гар. тэр., улік гіст. арх.-планіровачнай структуры, актыўны пошук шляхоў далейшага развіцця горадабудаўніцтва і інш.) выкарыстоўваліся пры фарміраванні планаў іншых гарадоў. Рэканструяваліся гал. вуліцы Магілёва і Бабруйска, на якіх размясціліся новыя будынкі адм.-гасп. прызначэння.

Развіццё населеных месц Магілёўшчыны цесна звязана з пракладкай у 1923 г. чыгунак Орша—Крычаў—Клімавічы, у 1927—29 гг. Магілёў—Слуцк і ў 1927—33 гг. Асіповічы—Рослаў. Для павышэння прапускной здольнасці на асобных участках чыг. Магілёў—Орша былі пракладзены другія пуці. Вялося будаўніцтва другога пуці на ўчастку Асіповічы—Слуцк. Рэканструяваліся Магілёўскі і Асіповіцкі чыг. вузлы. У 1926—32 гг. пабудавана 179,2 км новых аўтадарог для лясной, тарфяной і будаўнічых матэрыялаў прам-сці. У 1936 г. закончана будаўніцтва вельмі важных для рэспублікі і вобласці шашэйных дарог Магілёў—Мінск і Магілёў—Бабруйск. У канцы 1929 г. арганізавана Дняпроўска-Дзвінскае рачное параходства, у распараджэнні якога мелася 15 самаходных, 21 буксірнае судна і 187 несамаходных барж. У наступныя 3 гады параходства атрымала некалькі новых буксірных суднаў, паступілі ў эксплуатацыю яшчэ 124 несамаходныя баржы. Быў механізаваны рачны порт у Бабруйску. У Магілёве і Бабруйску пачалі працаваць

новыя прам. магутнасці па рамонце суднаў.

Шэраг гарадоў і вёсак інтэнсіўна развіваліся ўздоўж аўтамагістраляў, адрэзкі якіх сталі іх гал. вуліцамі, планіровачнымі восямі (г. Чэрыкаў, в. Свіслач Асіповіцкага р-на). Планіроўка населеных месц, размешчаных на рэках, набывала працяглую кампазіцыю ўздоўж берагоў (Быхаў, Глуск, Клічаў, Шклоў). Адрадзілася грамадская функцыя цэнтр. плошчы. Аднак многія гіст. плошчы ўжо не адпавядалі новым умовам. У 1938 г. ў Магілёве пачалося стварэнне новага адм. ансамбля і Цэнтр. плошчы. У яе забудову ўвайшлі Дом Саветаў (архітэктар І.Лангбард, 1937—38 гг.), жылы шматкватэрны дом і адм. будынак. Упарадкоўвалася набярэжная, прыводзілася ў належны стан камунальная гаспадарка.

Паступова жыллёвае будаўніцтва набывала ўсё больш шырокія маштабы. Пабудаваны ў 1937—40 гг. жылы дом па вул. Першамайскай у Магілёве характарызаваўся манументальнасцю, дынамічным і строгім рытмам. З'яўляюцца новыя тыпы жылых будынкаў — дом-камуна, дом калектыву, якія ўяўлялі сабой шматпавярховыя секцыйныя будынкі з шматпланавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй. Першыя жылыя дамы-камуны былі ўзведзены ў Бабруйску. Паблізу прам. прадпрыемстваў вялося будаўніцтва рабочых пасёлкаў. Паказальным з'яўляецца комплексная забудова рабочых пасёлкаў аўта-



Размалёўка Магілёўскага архікафедральнага касцёла святога Станіслава.

рамонтнага з-да і ф-кі штучнага валакна ў Магілёве. Такія пасёлкі складаліся пры чыг. вузле і цэментным з-дзе ў Крычаве. Шырылася індывідуальнае будаўніцтва, чаму садзейнічалі ільготы індывідуальным забудоўшчыкам і меры, якія былі вызначаны пастановай ЦВК і СНК СССР ад 16.5.1924 г., па развіцці каап.-жыллёвага будаўніцтва і стварэнні жыллёвай кааперацыі. Рэалізаваліся новыя планіровачныя рашэнні: групавое размяшчэнне жылых дамоў, вылучэнне месц адпачынку, забеспячэнне насельніцтва дзіцячымі ўстановамі і быт. абслугоўваннем, улічваліся наяўнасць транспартных сувязяў з месцамі працы і грамадскімі цэнтрамі. Да ліку першых буйных грамадскіх будынкаў адносяцца палацы культуры ў Бабруйску, Крычаве, кінатэатры «Радзіма», «Чырвоная Зорка», гасцініца «Дняпроўская» і іншыя будынкі ў Магілёве; гал. корпус с.-г. акадэміі і шэраг іншых будынкаў у Горках. Першы ў сав. час на Магілёўшчыне і ў рэспубліцы тэатр. будынак узведзены ў Бабруйску ў 1927—30 гг. па праекце ленінградскага архітэктара Г.Оля, а затым у горадзе пабудаваны Дом Чырвонай Арміі.



Царква ў імя святых пакутнікаў Барыса і Глеба ў г. Магілёў.



Паясы Магілёўшчыны.

У архітэктуры некаторых грамадскіх будынкаў захоўваўся стыль канструктывізму з яго лаканічнымі геаметрычнымі формамі і аб'ёмамі, функцыянальна-рацыянальнай планіровачнай арганізацыяй (Дом Саветаў і кінатэатр «Чырвоная Зорка» ў Магілёве). Узводзіліся і будынкі ў стылі неакласіцызму (кінатэатр «Радзіма» ў Магілёве). Беручы ад класікі асн. прыёмы, дойліды ішлі па шляху спрашчэння яе форм. Шэраг дамоў, пабудаваных у 1930-я г., вылучаўся даволі высокім арх. узроўнем.

Змянялася і аблічча вёскі. На працягу 1918—22 гг. сяляне ў асн. абнавілі забудову сваіх сядзіб. Болей 60% гаспадарак узвялі новыя жылыя і гасп. пабудовы. Новыя хаты рабіліся больш прасторнымі, светлымі, абавязкова на фундаменце. Традыц. колькасць вокнаў захоўвалася, але памеры іх павялічваліся больш чым удвая.

Значную ролю ў жыцці вёскі адыграла стварэнне трактарных калон і МТС. Першай на Магілёўшчыне была створана Горацкая МТС, затым — Клімавіцкая, Бел. (Бялыніцкі р-н), Цялушская (Бабруйскі р-н) і інш. Клімавіцкая МТС у хуткім часе стала вопытна-паказальнай. У 1933 г. ў МТС і найбольш буйных саўгасах былі створаны палітаддзелы, якія выдавалі шматтыражкі, арганізоўвалі ў вёсках гурткі і курсы па авалоданні с.-г. ведамі. У ліст. 1934 г. рашэннем Пленума ЦК ВКП(б) палітаддзелы МТС былі пераўтвораны ў звычайныя парт. органы шляхам іх зліцця з райкомамі партыі. У саўгасах яны існавалі да 1940 г.

З дапамогай калектываў прам. прадпрыемстваў да пачатку палявых работ 1930 г. ў Бабруйскай акрузе былі арганізаваны 22 майстэрні па рамонце с.-г. інвентару. У Магілёўскай акрузе дзейнічала 87 такіх майстэрань. Над калгасам «Камунар Магілёўшчыны» шэфствавала Бел. с.-г. акадэмія. Аграномы, агратэхнікі, выкладчыкі, практыканты прыязджалі ў калгас, каб даследаваць умовы земляробства і жывёлагадоўлі, дапамагалі ўвесці севазвароты, распрацаваць вытв. план, выступалі з лекцыямі і дакладамі, арганізоўвалі мастацкую самадзейнасць. У 1930 г. над Магілёўшчынай пачаў шэфстваваць 20-тысячны калектыў з-да «Чырвонае Сормава» (г. Ніжні Ноўгарад). З 63 сармавічоў, якія прыбылі ў Магілёўскую акругу, 40 узначалілі калгасы. Магілёўская шаўковая ф-ка шэфствавала над калгасамі Княжыцкага с/с.

На 1-й Усесаюзнай с.-г. выстаўцы ў 1939 г. ад Беларусі ўдзельнічалі 281 калгас, 30 саўгасаў, 2 МТС, 262 калгасныя жывёлагадоўчыя фермы і жывёлагадоўчыя брыгады саўгасаў і 4066 перадавікоў сельскай гаспадаркі. Сярод іх было шмат прадстаўнікоў Магілёўшчыны. Да 1941 г. 2505 перадавікоў сельскай гаспадаркі вобласці прынялі ўдзел у выстаўцы, а калгас імя Валадарскага Магілёўскага р-на 20.2.1940 г. быў узнагароджаны ордэнам Леніна.

У Магілёўскай вобл. ў 1940 г. мелася 2746 калгасаў, 10 600 жывёлагадоўчых ферм, 54 МТС. У калгасах працавалі 2344 трактары, 428 камбайнаў, 1450 грузавых аўтамабіляў. Істотныя змены ўносіла ў жыццё вёскі электрыфікацыя. Толькі ў

Шклоўскім р-не ў 1940 г. электрычнасцю карысталіся каля 90 калгасаў.

У 2-й пал. 1930-х г. разгарнулася перасяленне хутароў у цэнтры гаспадарак. У 1940 г. на Магілёўшчыне было перасялена 43 717 хутароў. Як від пасялення хутар станавіўся з'явай вельмі рэдкай і не тыповай.

У лютым 1919 г. ў Магілёве адкрыўся ін-т нар. адукацыі. У тым жа годзе быў адноўлены Горы-Горацкі с.-г. ін-т, які ў 1925 г. пераўтвораны ў Бел. с.-г. акадэмію. У стараж. Мсціслаўлі адкрылася пед. вучылішча, працавалі 5 сярэдніх і вячэрняя школы, раённая школа брыгадзіраў трактарных брыгад. 26.4.1919 г. ў Магілёве на базе духавога аркестра пачала дзейнічаць першая рабочая муз. студыя, якая паклала пачатак сучаснай Магілёўскай дзіцячай муз. школе-сямігодцы імя Рымскага-Корсакава. У яе стварэнні ўдзельнічаў бел. кампазітар М.М.Чуркін. На базе экспанатаў царк.-археал. музея створаны Магілёўскі краязнаўчы музей, які размясціўся ў будынку былога сял. банка і напярэдадні Вял. Айч. вайны меў шмат каштоўных экспанатаў. Пры музеі працавала б-ка з фондам каля 60 тыс. кніг.

Сетка культ.-асв. устаноў хутка пашыралася. У 1920 г. ў вёсках Бабруйскага павета працавалі 25 хат-чытальняў, 2 нар. дамы, 10 б-к, у Бабруйску — нар. ун-т, 2 нар. дамы, маладзёжны клуб, тэатр. і муз. гурткі, 14 бібліятэк-чытальняў. Ствараліся новыя школы і курсы па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослых. У Пашкаве, Пячэрску і ў іншых маляўнічых месцах пачалі дзейнічаць дзіцячыя лагеры, дзе ўжо летам 1919 г. адпачывалі 500 дзяцей рабочых і служачых Магілёва. У 1940 г. ў вобласці працавалі 2 тэатры, 3 вышэйшыя і 25 сярэдніх спец. навучальных устаноў, 1936 школ і 251 дашкольная ўстанова. Насельніцтва абслугоўвалі 823 б-кі, 757 хат-чытальняў, клубаў і дамоў культуры, 125 кінаўстановак, 3 музеі і шэраг іншых устаноў культуры. Магілёўская саўпартшкола, ператвораная затым у палітасветтэхнікум, была першай у рэспубліцы навучальнай установай, якая рыхтавала кадры культасветработнікаў. Адначасова з палітасветтэхнікумам у 1930-я г. ў Магілёве працаваў культасветінстытут. Восенню 1936 г. яны былі рэарганізаваны ў Мінскую двухгадовую палітсветшколу.

Шырокае распаўсюджанне атрымалі цэнтр і рэсп. часопісы, была створана сетка мясц. перыядычных выданняў. У студз.—лютым 1918 г. ў Магілёве выходзіла газ. «Известия Могилёвского губернского исполнительного комитета Советов крестьянских, солдатских и рабочих депутатов», а ў ліст.—снеж. 1918 г. — «Известия Могилёвского губернского революционного комитета», перайменаваная ў студз. 1919 г. ў «Саху і Молат». У Клімавічах у 1918 г. выдавалася газ. «Известия Климовичского исполнительного комитета Совета крестьянских и красноармейских депутатов», перайменаваная ў 1924 г. ў газ. «Наш працаўнік». У Бабруйску выдавалася газ. «Камуніст». Са стварэннем акруг выходзілі акруговыя, пасля арганізацыі раёнаў — раённыя газеты, а са стварэннем вобласці — абл. газета. Магілёўскае і Мсціслаўскае аддзяленні РОСТА у пач. 1920-х г. выдавалі спец. насценныя газеты. Філіялы літ. аб'яднання «Маладняк» выдавалі альманахі «Маладняк Калінiншчыны» (Клімавічы) і «Уздым» (Бабруйск).

*Фрагмент экспазіцыі Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея.*



Буйныя міграцыйныя патокі былі выкліканы патрэбамі эканам. развіцця краіны. Павялічваўся прыток насельніцтва ў гарады. Пэўная колькасць магілёўчан выязджала на асваенне новых зямель, на буйнейшыя будоўлі краіны.

З нападам фаш. Германіі на Сав. Саюз працоўныя Магілёўшчыны адразу ж уключыліся ў барацьбу супраць захопнікаў. 25.6.1941 г. штаб Зах. фронта, ЦК КП(б)Б і ўрад рэспублікі пераехалі з Мінска ў Магілёў. Штаб фронту размясціўся ў лесе, за 12 км на У ад горада, ЦК і СНК БССР — у самім горадзе. 30.6.1941 г. тут была прынята дырэктыва №1 ЦК КП(б)Б «Аб пераходзе на падпольную работу партарганізацый раёнаў, занятых ворагам», а 1.7.1941 г. — дырэктыва №2 «Па разгортванні партызанскай барацьбы ў тыле ворага». 1.7.1941 г. ў штабе Зах. фронту адбылася нарада з удзелам маршалаў Сав. Саюза К.Я.Варашылава, Б.М.Шапашнікава і 1-га сакратара ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнкі, на якой былі выпрацаваны меры па ўзмацненні абароны горада і арганізацыі адпору ворагу. У раёнах ствараліся знішчальныя батальёны. Дзейнічалі абл. і гар. штабы нар. апалчэння. У Магілёве з апалчэнцаў было сфарміравана 14 батальёнаў агульнай колькасцю каля 12 тыс. чал. На абарончых работах штодзённа працавала да 40 тыс. чал. Рыхтаваліся кадры для барацьбы ў тыле ворага. З пачаткам вайны выпуск баявой тэхнікі ў Магілёве арганізавалі трубаліцейны, маш.-буд., аўтарамонтны і іншыя з-ды, у Бабруйску — дрэваапрацоўчы камбінат і прам. арцель «Чырвоны металіст», у Шклове — ільнозавод. Лёгкая прам-сць давала фронту вайск. абутак, абмундзіраванне, бялізну; прадпрыемствы харч. прам-сці — канцэнтраты, галеты, сухары, сушаную гародніну. На Магілёўскай абутковай ф-цы выпуск абутку адразу павялічыўся ўдвая. 26.6—14.7.1941 г. ў сав. тыл было эвакуіравана 14 фабрык і заводаў, у тым ліку скурзавод імя Сталіна, швейная ф-ка імя Валадарскага, з-ды авіяц. маторабудавання, Крычаўскі цэментны, ф-ка штучнага валакна, Шклоўская папяровая ф-ка. У тыл было накіравана 956 вагонаў прам. абсталявання і сыравіны, 2065 трактароў, 100 470 галоў жывёлы, 710 т зерня. Эвакуіраваліся выхаванцы дзіцячых дамоў, тысячы кваліфікаваных рабочых, дзесяткі тыс. мірных жыхароў.

Абарона Магілёва ўвайшла ў гісторыю Вял. Айч. вайны яркай старонкай гераізму і мужнасці воінаў 172-й стралк. дывізіі пад камандаваннем ген.-маёра М.Т.Раманава, атрада пагранічнікаў, курсантаў школы НКУС, нар. апалчэнцаў і добраахвотнага батальёна міліцыі. 11—13.7.1941 г. жорсткія баі ішлі каля в. Буйнічы. Сустрэўшы ўпартае супраціўленне, гітлераўцы пачалі акружэнне горада. Абаронцы Магілёва адцягнулі на сябе вял. сілы ворага — 4 пях. і танкавую дывізіі, матары-

*Фрагменты экспазіцыі Музея этнаграфіі ў Магілёве.*





заваны полк «Вялікая Германія». 4 ліп. ням.-фаш. войскі захапілі Быхаў, 6 ліп. — Бялынічы, 11 ліп. — Шклоў, 15 ліп. — Чавусы. Магілёў абараняўся да 28.7. 1941 г. У жн. 1941 г. ням.-фаш. захопнікі прарвалі абарону войск Цэнтр. фронту і захапілі 10 жн. — Клімавічы, 14 жн. — Касцюковічы, 15 жн. — Хоцімск.

Настаўнікі і ўрачы, інжынеры і тэхнікі, рабочыя і калгаснікі, воіны Сав. Арміі, якія па розных прычынах засталіся на акупіраванай тэр., ужо летам 1941 г. разгарнулі дзейнасць па стварэнні партыз. атрадаў і падп. груп.

У Асіповіцкім р-не ў ліп.—вер. 1941 г. дзейнічалі 6 дыверсійна-разведвальных груп, а ў канцы 1941 г. — 12 нелегальных парт., парт.-камсамольскіх і патрыят. груп, у якія ўваходзілі 70 падпольшчыкаў. На другі дзень пасля захопу гітлераўцамі Клічава ў лесе каля вёсак Разводы і Доўгае на пасяджэнні Клічаўскага райкома партыі было зацверджана 5 партыз. груп, якія ў хуткім часе аб'ядналіся ў атрад пад кіраўніцтвам старшага лейт. Барадзіна. Пазней камандзірам атрада стаў былы дырэктар мясц. сярэдняй школы І.Ізох. 7.4.1942 г. адбыўся сход камуністаў Клічаўскага р-на, на якім быў выбраны райком партыі і афіцыйна адноўлена сав. ўлада. Барацьбу супраць акупантаў вялі падп. групы ў Горках, Крычаве, Чэрыкаве, Клімавічах, Круглым і іншых раённых цэнтрах і вёсках. На тэр. вобласці ўжо ў 1941 г. дзейнічала да 40 партыз. атрадаў і груп. Гараджане накіроўвалі партызанам зброю, медыкаменты, важную інфармацыю; жыхары вёсак, каля якіх базіраваліся партыз. атрады, забяспечвалі нар. мсціўцаў харчаваннем, аказвалі іншую дапамогу.

У чэрв. 1942 г. ЦК КП(б)Б накіраваў у Быхаўскі, Чэрыкаўскі, Прапойскі, Крычаўскі і Бабруйскі р-ны 15 спецгруп. З чэрв. 1942 г. аднавіў сваю дзейнасць у Маскве Магілёўскі абком КП(б)Б. 11.8. 1942 г. ЦК КП(б)Б зацвердзіў Бабруйскі міжраённы парт. к-т, дзейнасць якога распаўсюджвалася на Бабруйскі, Бярэзінскі, Асіповіцкі, Клічаўскі і Кіраўскі р-ны. 25.10.1942 г. ЦК КП(б)Б усклаў кіраўніцтва парт. падполлем і партыз. рухам у вобласці на свайго ўпаўнаважанага І.М.Кардовіча, а 2.4.1943 г. зацвердзіў падп. абком КП(б)Б, сакратаром якога быў Д.С.Маўчанскі, з 23.4.1944 г. — М.В.Шпак.

Пад ударамі нар. мсціўцаў распадаліся варожыя гарнізоны і пад кантроль партызан пераходзілі ўсё новыя населеныя пункты. З кастр. 1941 г. пачалося стварэнне Клічаўскай партыз. зоны. У кастр.— снеж. 1941 г. былі разгромлены гарнізоны ў населеных пунктах Бёрда, Ваевічы, Вял. Дзімітраўка, Гонча, Драні, Іжар, Канстантаў, Малая Дзімітраўка, Паплавы, Смалярня, Стаялава, Суша, Убалацце. У студз.—сак. 1942 г. разгромлена больш за 70 ням. гарнізонаў і паліцэйскіх участкаў. У зону ўваходзіла ўся тэр. Клічаўскага і часткова Бярэзінскага, Кіраўскага, Магілёўскага, Бялыніцкага, Бабруйскага, Быхаўскага, Асіповіцкага р-наў агульнай пл. да 1900 км². Частка населеных пунктаў Краснапольскага р-на ўваходзіла ў Чачэрскую партыз. зону.

У сувязі з партыз. дыверсіямі з пач. 1942 г. і да канца вайны акупанты не маглі ажыццяўляць перавозкі на ўчастку чыг. Бабруйск—Рабкор. Больш бяздзейнічала, чым працавала чыг. Асіповічы—Магілёў. У ноч на 3.8.1943 г. партызаны правялі сумесную аперацыю на чыгунках

*Экспазіцыя музея В.К. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве.*



Орша—Жлобін, Магілёў—Асіповічы, Орша—Мінск, Мінск—Бабруйск—Жлобін, а затым нанеслі моцныя ўдары па гэтых чыгунках ў ноч на 15 і 29 жн.

Магілёўскі падп. абком КП(б)Б выпускаў газ. «За Радзіму» (рэдактары А.А.Юшкевіч, з мая 1943 А.В.Яблонскі), меў ваенна-аператыўную групу для кіраўніцтва партыз. фарміраваннямі (створана 6.4.1943 г.). У ліп.—вер. 1943 г. былі створаны ваенна-аператыўныя групы пры 12 падп. райкомах КП(б)Б. Дзейнічала 18 райкомаў КП(б)Б, якія аб'ядноўвалі 164 пярвічныя арг-цыі, 1897 чл. і каля 1775 кандыдатаў у чл. партыі. 16 райкомаў выдавалі газеты, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. У атрадах, палках і брыгадах выходзілі «баявыя лісткі», рукапісныя часопісы. Пад кіраўніцтвам Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б дзейнічаў падп. абком камсамола, Магілёўскі і Бабруйскі гаркомы, 21 райком камсамола, больш за 500 пярвічных арг-цый, 8,5 тыс. камсамольцаў. Партызаны і падпольшчыкі пусцілі пад адхон 1847 варожых эшалонаў, знішчылі 1793 паравозы, больш за 14 тыс. вагонаў, узарвалі каля 1500 мастоў, знішчылі, паранілі і ўзялі ў палон тысячы гітлераўцаў і паліцэйскіх, выратавалі 110 тыс. савецкіх грамадзян ад згубы і ўгону ў Германію.

Страты, якія нанеслі ням.-фаш. захопнікі нар. гаспадарцы Магілёўшчыны, перавысілі 12,5 млрд. руб. Былі знішчаны 1172 прадпрыемствы, 92 электрастанцыі, 218 тыс. м² жылля ў гарадах, спалены сотні вёсак, разбураны 56 МТС, пабудовы і інвентар калгасаў. Пасяўныя плошчы скараціліся на 60%. У час вызвалення ў вобласці засталося 27%, а ў гарадах — толькі 18,3% ад даваеннай колькасці насельніцтва. З 100 тыс. жыхароў даваеннага Магілёва да вызвалення горада засталося толькі 13 тыс. чал.

*Комплекс «Беларуская сядзіба» ў Магілёве.*



Калі Сав. Армія набліжалася да граніц Беларусі, у вобласці дзейнічалі 24 партыз. брыгады, у якіх налічвалася 55 тыс. чал. 26.9.1943 г. першым з раённых цэнтраў Магілёўшчыны быў вызвалены г.п. Хоцімск. Затым акупанты былі выгнаны з Мсціслаўскага, Клімавіцкага, Касцюковіцкага, Чэрыкаўскага, Крычаўскага, Краснапольскага, Слаўгарадскага р-наў. У кастр. 1943 г. ў раёне пас. Леніна Горацкага р-на цяжкія баі супраць ням.-фаш. захопнікаў вялі сав. войскі разам з воінамі польскай дывізіі імя Т.Касцюшкі. Вёска Трыгубава, якая была вызвалена з яе удзелам, перайменавана ў в. Касцюшкава. Да 1944 г. поўнасцю былі вызвалены 8 і часткова 4 раёны вобласці. 26.6.1944 г. перадавыя злучэнні 49-й арміі пры падтрымцы 4-й паветр. арміі фарсіравалі Дняпро, а 28 чэрв. злучэнні 49-й і 50-й армій штурмам авалодалі Магілёвам. Бабруйская аперацыя 1944 г. ўвайшла ў летапіс Вял. Айч. вайны яркім прыкладам акружэння і знішчэння праціўніка за кароткі тэрмін — усяго за 6 сутак. Гітлераўцы страцілі тут 50 тыс. забітымі і 23 тыс. палоннымі. Жорсткія баі адбываліся на Быхаўшчыне. За выключную мужнасць і адвагу ў баях за вышыню каля в. Лудчыцы 8 воінам было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Вызваленне вобласці завяршылася 29.6.1944 г. Памяць сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях за свабоду Радзімы, увекавечваюць мемарыяльныя комплексы, манументы, абеліскі. Імёны герояў гучаць у назвах вёсак, вуліц. За мужнасць, праяўленую ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў на магілёўскай зямлі, 101 сав. воін і партызан удастоены высокага звання Героя Сав. Саюза. Гэтага

звання ў Вял. Айч. вайну ўдастоіліся 36 ураджэнцаў Магілёўшчыны.

У хуткім часе пасля вызвалення была створана Бабруйская вобл. (20.9.1944), у якую ўвайшлі раёны зах. часткі сучаснай Магілёўскай вобл. Паўсюль вялася работа па аднаўленні гарадоў і сельскіх населеных пунктаў. Ужо да сак. 1944 г. ў той частцы вобласці, якая была вызвалена раней, дзейнічалі 63 прадпрыемствы, 37 прам. арцеляў. Каля 60 тыс. дзяцей вярнуліся ў школы, разгортвалі работу сотні б-к, хат-чытальняў, клубаў. З усх. раёнаў краіны паступіла 728 трактароў, 48 камбайнаў і шмат іншай с.-г. тэхнікі і інвентару. За 10 месяцаў 1944 г. толькі Удмурцкая АССР прыслала ў Беларусь 137 вагонаў з прам. абсталяваннем, інструментамі, будаўнічымі матэрыяламі. Калектывы Пермскай і Разанска-Уральскай чыгунак шэфствавалі над Бел. чыгункай. Яраслаўскі сілікатны з-д перадаў частку абсталявання заводу ў Клімавічах. Масквічы, ленінградцы, свердлаўчане прыслалі тысячы тамоў мастацкай, палітычнай, с.-г. і тэхн. л-ры. У 1945 г. дзейнічалі 57 МТС, у якіх меліся 831 трактар, 109 камбайнаў, 191 грузавая аўтамашына. У 1946—50 гг. пабудавана 49 тыс. дамоў. Знішчаныя вёскі ў асн. былі адноўлены да 1948 г. Будаваліся дамы культуры, клубы, дзіцячыя сады і яслі, школы і магазіны. У 1946 г. ў Магілёве пачалі выпускаць прадукцыю 12 нанава збудаваных і адноўленых прам. прадпрыемстваў. Найбуйнейшым з іх стаў лакамабільны з-д, які ў маі 1947 г. выпусціў першы лакамабіль. У 1948 г. пачала даваць прадукцыю адноўленая ф-ка штучнага валакна. Амаль у кожным раёне пачалі ўзводзіцца цагельныя з-ды, павялічваўся выпуск піламатэрыялаў, цэменту, вапны. У 1950 г. выпуск прам. прадукцыі перавысіў даваенны ўзровень.

8.1.1954 г. да Магілёўскай вобл. былі далучаны Бабруйскі, Кіраўскі, Клічаўскі, Асіповіцкі р-ны б. Бабруйскай вобл., што павялічыла тэр. і насельніцтва вобласці, павысіла яе эканам. патэнцыял. У 1961 г. ў вобласці мелася 1533 буйных і дробных прам. прадпрыемстваў, а таксама 1289 прадпрыемстваў калгасаў і 300 — спажывецкай кааперацыі. Колькасць рабочых перавысіла 78 тыс. чал. У буйныя прам. цэнтры ператварыліся Магілёў і Бабруйск.

Зруйнаваныя ў вайну гарады за кароткі час былі не толькі адноўлены, але і атрымалі значнае развіццё. Распрацоўваліся новыя ген. планы. У ліку першых гарадоў, якія атрымалі новыя праекты планіроўкі, былі Шклоў і Чэрыкаў. Для дапамогі бел. дойлідам у вер. 1944 г. ў рэспубліку прыехала група архітэктараў з Масквы. Над ген. планам Магілёва ў ін-це «Белдзяржпраект» працавала спец. група, якую кансультаваў акадэмік архітэктуры В.Сямёнаў.

Гал. кірункам пасляваеннага горадабудаўніцтва стала забудова на свабодных тэр. вял. жылых масіваў. У канцы 1950-х — сярэдзіне 1960-х г. асн. структурнымі элементамі гарадоў сталі жылыя раёны і мікрараёны: Мір і Юбілейны ў Магілёве, Сож і Камсамольскі ў Крычаве, па вул. Сумчанкі ў Асіповічах, на тэр. Бел. с.-г. акадэміі і па вул. Вакзальнай у Горках. Комплексная забудова новых жылых раёнаў надала гарадам новую якасць. Узводзіліся 5—9-павярховыя жылыя дамы. У цэнтрах гарадоў значная ўвага надавалася арх. вырашэнню гал. уездаў у іх. Групы высотных дамоў выразна афармілі «вароты» Бабруйска і Асіповіч з мінскага напрамку. Мікрараёны забяспечаны дзі-



*Будынак Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.*



*Сцэна са спектакля «Вясёлы цырк» Ан.Ляляўскага ў Магілёўскім абласным тэатры лялек. 1997 г.*

цячымі садамі, школамі, аб'ектамі культ.-быт. абслугоўвання і інш.

У 1945—55 гг. склаліся прынцыпы ансамблевай манум. забудовы гал. гар. вуліц і цэнтр. плошчаў. У шэрагу гарадоў узніклі даволі ўражлівыя арх. ансамблі (г. Бабруйск). Завершаны ансамбль вул. Першамайскай у Магілёве. У 1955—57 гг. ажыццёўлены праектныя работы па фарміраванні цэнтраў малых гарадоў. У адпаведнасці з гэтымі планамі на цэнтр. плошчах узводзіліся грамадскія будынкі. У многіх раённых цэнтрах ствараліся адм.-грамадскія плошчы, цэльныя па арх.-стылёвых якасцях ансамблі.

Вял. ўвага надавалася захоўванню гістарычнай планіровачнай структуры. Перапрацоўка планаў Быхава (1960-я г.) і Шклова (1965) зводзілася гал. чынам да рэканструкцыі асн. магістралей і вуліц, арг-цыі грамадскага цэнтра, да больш прадуманага размяшчэння вытв. зон.

У планіровачную структуру актыўна ўключаліся рэкі. Так, развіццё агульнагар. цэнтра Бабруйска ішло ў бок Бярэзіны і ўяўляла сабой спалучэнне арх. ансамбляў, сквераў і паркавых зон. Грамадскі цэнтр, гал. вуліца, жылыя масівы пас. Леніна Горацкага р-на арганічна спалучыліся з каскадам вадасховішчаў вакол яго. Для індывідуальнай забудовы тут адводзіліся раёны, дзе ўзвядзенне сядзібных дамоў вялося комплексна, кварталамі. Сядзібная забудова разбівалася ў сваёй большасці на дробныя кварталы, абмежаваныя вуліцамі з транзітным рухам, якія стваралі даволі густую сетку. Яскравым прыкладам такой планіроўкі з'яўляецца г. Быхаў.

У далейшым працягваўся дынамічны працэс рэканструкцыі цэнтраў буйных гарадоў. Абумоўлена гэта было перш за ўсё неадпаведнасцю маштабаў цэнтраў, якія склаліся гістарычна, сучаснаму функцыянальнаму іх прызначэнню. У 1969 г. распрацаваны праект дэталёвай забудовы цэнтра Магілёва (архітэктары Ю.Глінка, Н.Гардзіенка і інш.), у 1968 і 1974 гг. — Асіповіч (архітэктары Р.Д.Шэліхава,

*Сцэна са спектакля «І сніўся мне сад у шлюбным уборы» паводле А.Чэхава. Магілёўскі абласны драматычны тэатр. 1995 г.*



*Сцэна са спектакля «Канец свету» паводле М.Горкага. Магілёўскі абласны драматычны тэатр. 1999 г.*



Л.М.Гітлін), у 1973 г. — Краснаполля і Слаўгарада, у 1974 і 1980 гг. — Бялыніч. У 1970-я г. ў Магілёве пачалася рэканструкцыя цэнтр. вуліц — Першамайскай і Міру (архітэктары І.Фралоў, Н.Янчык). Тут узведзены будынак абкома КПБ (архітэктары Ю.Шпіт, А.Кучарэнка), Дом быту, некалькі буйных жылых дамоў, гасцініца «Магілёў», Палац піянераў і школьнікаў, кінатэатр «Кастрычнік». Асн. грамадскія будынкі ствараюць адзіны ансамбль з выхадам да Дняпра і парка па берагах р. Дубровенка. Завершана фарміраванне цэнтр. плошчы Бабруйска з будынкам Дома Саветаў. Рэалізуецца падрыхтаваны ў 1974 г. Мінскім філіялам ЦНДІП горадабудаўніцтва праект дэталёвай планіроўкі Быхава. Развіццё грамадскага цэнтра на аснове плошчы, што склалася гістарычна, ажыццяўляецца ў Глуску. Забудоўваюцца цэнтры Асіповіч, Крычава, Слаўгарада, Горак, Чэрыкава. Часцей за ўсё арганізацыя грамадскіх цэнтраў ажыццяўляецца шляхам рэканструкцыі існуючых плошчаў і суседніх вуліц і кварталаў. Там жа, дзе цэнтры раней склаліся каля чыг. вакзалаў, узнікла неабходнасць у новых гар. плошчах. Так адбылося ў Асіповічах, дзе прывакзальная плошча доўгі час з'яўлялася кампазіцыйным цэнтрам планіровачнай структуры горада, а ў пасляваенны час гар. цэнтр размясціўся ў новым жылым раёне. У Быхаве, Круглым, Шклове, Слаўгарадзе, в. Ясень Асіповіцкага р-на грамадскія цэнтры планіровачна развіваліся ўздоўж асн. гар. магістралей. У тых жа гарадах, якія маюць выцягнутую форму плана, гал. гар. магістраль выступала звяном, што злучала асн. элементы горада ў падоўжным напрамку. Планіровачна рабочыя пасёлкі аб'ядноўвае рэгулярная комплексная забудова. Сіметрычна-восевая планіроўка пас. Сасновы Асіповіцкага р-на была арганізавана ўздоўж адной вуліцы, перспектыва якой завершана адм. будынкам. Аналагічна быў спланаваны р.п. Татарка гэтага ж раёна. Строгую рэгулярную планіроўку



*Майстар-кераміст з Магілёва Н.Русіян.*



*Г.Аўсяннікаў у ролі Цярэшкі Калабка.*



*Сцэна са спектакля «Рыгорка — Ясная зорка» А.Вярцінскага. Магілёўскі абласны тэатр лялек. 1990 г.*

Краявід Магілёўшчыны.

Майстар саломапляцення з Магілёва Н.Панцялеева.





роўку атрымала жылая забудова раёна газавікоў у Лапічах, дзе ўзведзены 2—4-павярховыя жылыя дамы, двухпавярховы гандл. цэнтр, Дом культуры.

Пашырэнне жылога фонду ў першыя пасляваенныя гады ішло пераважна за кошт індывідуальнага будаўніцтва. Да 1970-х г. на малыя гарады прыходзілася больш за 80% гар. жылля. Асн. тыпам індывідуальнай забудовы быў аднакватэрны жылы дом з прысядзібным участкам. Архітэктуры індывідуальнага жылога дома былі ўласцівы рысы традыц. сельскага дойлідства. Толькі ў цэнтрах гарадоў узводзіліся 2—4-павярховыя мураваныя дамы. Тэмпы дзярж. жыллёвага будаўніцтва нарошчваліся паступова, а маштабы індывідуальнага будаўніцтва зніжаліся. Побач з традыц. будаўнічым матэрыялам — цэглай — у жыллёвым будаўніцтве ўкаранялася індустр. буйнапанэльнае і аб'ёмна-блочнае будаўніцтва. Узводзяцца камбінаты будаўнічых матэрыялаў (Кіраўск, Круглае, Чавусы, Шклоў), з-ды жалезабетонных канструкцый (Магілёў, Шклоў, Бабруйск, Асіповічы, Горкі, Слаўгарад). Шырокамаштабнасць і высокія тэмпы будаўніцтва забяспечвалі домабудаўнічыя камбінаты ў Бабруйску і Магілёве, пабудаваныя ў 1960-я г. Прадпрыемствы па выпуску керамічнай пліткі і вырабе металаканструкцый пачалі працаваць ў Магілёве. Новыя жылыя раёны і мікрараёны паступова сталі адрознівацца ад ранейшай забудовы (комплексы па адкорме буйной рагатай жывёлы ў в. Батвінаўка Крычаўскага, пас. Пціч Глускага, жывёлагадоўчы комплекс саўгаса «Дабраволец» у в. Арэхаўка Клічаўскага р-наў і інш.).

Будынак Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П.В.Масленікава.



У якасці зыходнай у планіровачнай распрацоўцы населеных пунктаў выступала гіст. забудова. Цэнтр. планіровачны раён Бабруйска ў адпаведнасці з генпланам 1977 г. поўнасцю захаваў гістарычную радыяльна-паўкальцавую схему вуліц вакол былой крэпасці. Пры складанні новага генплана Магілёва было вырашана арганізаваць грамадска-адм. цэнтр паміж старой часткай горада і чыг. вакзалам на неасвоенай тэр. Стараж. гандл. плошча засталася некранутай. Гарманічна ўпісваецца ў гіст. структуру горада і новы жылы раён у Быхаве. У Слаўгарадзе горадафарміруючую ролю захоўвае гіст. забудова вул. Ленінскай. Для Мсціслаўля з яго багатай гіст.-арх. і археал. спадчынай распрацаваны праект рэгенерацыі гіст. часткі.

У 1969 г. ЦК КПБ і СМ БССР прынялі пастанову «Аб комплексным эксперыментальна-паказальным будаўніцтве ў

калгасах і саўгасах рэспублікі». У адпаведнасці з ёю пачалася новая забудова на Магілёўшчыне вёсак Леніна Горацкага і Мышкавічы Кіраўскага р-наў. Па сутнасці, на месцы старой з'яўлялася новая вёска з яе грамадска-гасп. пабудовамі, клубамі, кіно, школамі, б-камі, дзіцячымі садамі і яслямі. Так, цэнтр. сядзіба калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага ў в. Мышкавічы (архітэктар Г.У.Заборскі) — добраўпарадкаваны населены пункт гар. тыпу, у якім апрача сучасных жылых дамоў узведзены адм.-культ. цэнтр з Палацам культуры і гандл. цэнтрам. Тут ёсць цэнтр. ацяпленне, халоднае і гарачае водазабеспячэнне, каналізацыя.

Асн. ідэя планіроўкі в. Леніна Горацкага р-на заключаецца ў кампазіцыйным падпарадкаванні яго планіровачнай структуры мемарыяльнаму комплексу сав.-польскай садружнасці (архітэктары А.Калніньш, Т.Бяганская). Адначасова вырашалася задача стварэння кампактнага пасёлка новага тыпу з усімі відамі інжынернага забеспячэння, добраўпарадкавання і культ.-быт. абслугоўвання насельніцтва. Забудова гэтай вёскі адзначана дыпломам і медалём ВДНГ СССР.

Ін-там «БелНДІПгорадабудаўніцтва» ў 1975—76 гг. распрацавана схема раённай планіроўкі Магілёўскай вобл. (архітэктары Т.Каманіна, І.Сінкевіч). Ажыццёўлена комплексная планіроўка забудовы 76 сельскіх населеных пунктаў вобласці. Разнастайная па тыпалогіі катэджная забудова з поўным комплексам сял. надворных пабудоў узнікла ў вёсках Стасёўка Бабруйскага, Сакольнічы і Маляцічы Крычаўскага, Заполле і Доўгае Клічаўскага, Клетнае Глускага, Ліпень Асіповіцкага р-наў. Шэраг вёсак па ўзроўні добраўпарадкавання і камфорту ўзняліся да гар. дабрабыту: забяспечаны ўсімі відамі інжынернага абсталявання, школамі, клубамі, камбінатамі быт. абслугоўвання, гандл. цэнтрамі, спарт. комплексамі. Забудова аднакватэрнымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу ў в. Чаромушкі Магілёўскага р-на, распрацаваная Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект», удастоена прэміі Савета Міністраў СССР за 1983 г. У 1960-я — 1970-я г. асабліва інтэнсіўна развіваліся цэнтры калгасаў і саўгасаў. Назіраўся адыход насельніцтва ў гарады з вёсак, што вяло да іх памяншэння, заняпаду і нават знікнення. Калі ў 1940 г. гар. насельніцтва складала ў вобласці 23,2%, то ў 1970 г. — 42,6%, а ў 1984 г. — 62,7%.

Прам-сць Магілёўшчыны выпрабляе даволі шырокі асартымент прадукцыі — водаправодныя трубы, электрарухавікі, насосы, скрэперы, піламатэрыялы, фанеру, паперу, зборныя жалезабетонныя канструкцыі, цэглу, шыфер, трыкатаж, абутак, штучнае валакно, прадукты харчавання. Уступілі ў строй такія буйныя прадпрыемствы, як Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна (1-я чарга пушчана 30.12.1971 г.), Бабруйскі шынны камбінат (1-я чарга ўведзена ў эксплуатацыю 18.1.1973 г.). У 1966—70 гг. у вобласці пабудавана 53,4 тыс. кватэр, у 1971—75 гг. —

*Аркестр народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі.*

*Заслужаны аматарскі ансамбль беларускай песні «Медуніца» Палаца культуры і тэхнікі ААТ «Магілёўхімвалакно».*





*Гарадская скульптура ў Магілёве.*

*Скульптурны комплекс «Астраном» у Магілёве.*





56,7 тыс., у 1976—80 гг. — 52,4 тыс. Жылы фонд Магілёва ў 1983 г. перавысіў узровень 1960 г. ў 4,9 раза, а ў Бабруйску ён павялічыўся за гэты час у 3,5 раза. У 1958 г. раённы цэнтр Круглае пераўтвораны ў пасёлак гар. тыпу, у 1959 г. пасёлкамі гар. тыпу сталі Дрыбін і Кіраўск. Працэс міграцыі ўзмацняе шматнацыянальнасць гарадоў, гар. пасёлкаў і нават некаторых вёсак.

У сельскіх населеных пунктах вытв. дзейнасць насельніцтва ў 1983 г. канцэнтравалася ў 141 саўгасе і 254 калгасах. Асн. вытв. фонды і абаротныя сродкі калгасаў на канец 1982 г. складалі 1169,8 млн. руб., саўгасаў — 761,8 млн. руб., міжгасп. прадпрыемстваў — 360 млн. руб. Пасяўная пл. ва ўсіх катэгорыях гаспадарак у 1983 г. павялічылася ў параўнанні з 1970 г. на 22,7 тыс. га і склала 1054,1 тыс. га. У калгасах і саўгасах у 1983 г. працавалі 19 496 трактароў, 4989 збожжаўборачных камбайнаў, 11 012 грузавых аўтамашын. Да паслуг сельскага насельніцтва ў 1960 г. мелася 228 прадпрыемстваў быт. абслугоўвання, у 1985 г. іх колькасць павялічылася да 410.

*Сцэна са спектакля «Пятля часу» Р.Баравіковай. Магілёўскі народны тэатр Цэнтра культуры і вольнага часу чыгуначнікаў.*

*Ансамбль «Весялуха» Магілёўскай абласной філармоніі.*





Павышаўся культурны ўзровень народа. У 1982 г. ў вобласці працавалі 4 вышэйшыя навуч. ўстановы, колькасць студэнтаў у якіх перавышала ўзровень 1940 г. ў 7,6 раза, а ў 17 сярэдніх спец. навуч. установах займалася ў 2,7 раза больш навучэнцаў, чым у 1940 г. На кожную тысячу чал. насельніцтва ў 1979 г. прыходзілася 600 чал. з вышэйшай і сярэдняй (поўнай і няпоўнай) адукацыяй. У вобласці дзейнічалі 2 тэатры, 10 музеяў, 963 школы (12,8 тыс. настаўнікаў), 927 б-к з кніжным фондам 13,4 млн. экз., 904 клубныя ўстановы, 1071 кінаўстаноўка. На кожныя 10 тыс. чал. насельніцтва прыходзілася 36,9 бальнічных ложкаў, 28,5 урачоў і 99,4 чал. сярэдняга мед. персаналу. Па вобласці праходзіла 818 км чыг., 5 тыс. км аўтадарог, у т.л. 4,3 тыс. км з цвёрдым пакрыццём. Для перавозкі будматэрыялаў і драўніны шырока выкарыстоўваўся транспарт на рэках Дняпро, Бярэзіна, Сож. Авіялініямі Магілёў быў звязаны з Мінскам і інш., а таксама з многімі раённымі цэнтрамі. Працягласць тралейбусных ліній у Магілёве ў 1983 г. дасягала 80 км, а колькасць тралейбусаў — 129. У Бабруйску працавалі 53 тралейбусы, а працягласць ліній складала 29 км.

Важную значнасць у горадабудаўніцтве набыла арганізацыя месц кароткатэрміновага масавага і зон працяглага адпачынку. Цэнтр. вуліцы ўсё часцей праектуюцца з зялёнымі скверамі і бульварамі (Бабруйск, Магілёў, р.п. Татарка Асіповіцкага р-на). Азеляняюцца і добраўпарадкоўваюцца грамадскія цэнтры і прастора вакол культ.-быт. установ. Пашыраюцца магчымасці зон адпачынку, сеткі ўстаноў аховы здароўя, прафілакторыяў, піянерскіх лагераў. У Бабруйску ўздоўж Бярэзіны створаны водна-зялёны дыяметр з сістэмай паркаў і спарт. комплексаў, а ў паўн. частцы горада пад лесапарк адведзены вялікі лясны масіў. На тэр. вобласці дзейнічаюць курорт мясц. значэння Бабруйск, зона адпачынку рэсп. значэння Чыгірынка, 26 зон адпачынку мясц. значэння, 3 санаторыі, 13 санаторыяў-прафілакторыяў, 4 санаторна-аздараўленчыя комплексы, 13 баз адпачынку і інш. У мэтах турызму выкарыстоўваецца 271 прыродаахоўны аб'ект. На тэр. вобласці 962 аб'екты спадчыны ўключаны ў Дзярж. спіс гіст.-культ. спадчыны Рэспублікі Беларусь, у т.л. 221 аб'ект архітэктуры, 124 — гісторыі, 13 — мастацтва, 334 — археалогіі.

Вядучая галіна эканомікі — прам-сць. У вобласці ў 2006 г. 264 прам. прадпрыемствы, якія сканцэнтраваны гал. чынам у Магілёве (каля 45% прадукцыі) і Бабруйску (каля 25%), а таксама ў Крычаве, Асіповічах, Касцюковічах, Шклове і інш.



*Бюст П.В.Масленікава ў Магілёве.*



*Аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам Л.Іванова ў Магілёве.*




*Газета «Могилёвская правда».*

У 2005 г. ў вобласці выраблена прадукцыі на 4993 млрд. руб. (8% ад агульнарэсп. аб'ёму). Па аб'ёме прадукцыі вядучае месца займае хім. і нафтахім. прам-сць. Развіты таксама машынабудаванне і металаапрацоўка, харч., лёгкая прам-сць, электраэнергетыка, вытв-сць будаўнічых матэрыялаў, а таксама лясная, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая прам-сць. У Магілёўскай вобл. вырабляюцца шыны аўтамаб. і для с.-г. машын, ліфты, трактарныя прычэпы, дахавыя матэрыялы, сталёвыя трубы, трактарныя касілкі, шаўковыя тканіны, электрарухавікі пераменнага току, цэмент і інш. Доля вобласці ў агульнарэсп. вытв-сці асобных відаў прадукцыі складае: хімвалакна і ніцей — 40,7%, цэменту — 54%, электрарухавікоў пераменнага току — 61,3%, аўтамабільных прычэпаў — 95,2%, цюлегардзінных вырабаў — 96,3%, дрэваапрацоўчых станкоў — 97,8%, шын аўтамабільных і для с.-г. машын — 100%, ліфтаў — 100%. Буйнейшыя прадпрыемствы — «Магілёўхімвалакно», «Магілёўскі завод штучнага валакна», «Белшына», Крычаўскі з-д гумавых вырабаў, Магілёўскі аўтамабільны з-д імя Кірава, Магілёўскі з-д транспартнага машынабудавання, Магілёўскі з-д ліфтавага машынабудавання, Магілёўскі з-д «Электрарухавік», Бабруйскі з-д трактарных дэталей і агрэгатаў, Бабруйскі з-д вагавымяральных прыбораў, Асіповіцкі з-д аўтамабільных агрэгатаў, Магілёўскі металургічны з-д, Бел. цэментны з-д у Касцюковічах, «Крычаўцэменташыфер», Шклоўская папяровая ф-ка «Спартак», Бабруйскі гарбарны камбінат, Бабруйская абутковая ф-ка і інш. У вобласці працуюць 4 камбінаты хлебапрадуктаў, 3 мясакамбінаты, 2 малочныя камбінаты, 5 масласырзаводаў і інш. Сельская гаспадарка вобласці спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі, свінагадоўлі, вырошчванні бульбы і лёну. На развіццё галіны ўплываюць негатыўныя наступствы катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у выніку якой было забруджана 30,9% тэр. вобласці, у т.л. 22% с.-г. зямель. Вырошчваюць ячмень, жыта, пшаніцу, авёс, рапс, лён, бульбу, гародніну, кармавыя культуры. Найбольшая ураджайнасць зерня ў гаспадарках Кіраўскага, Бабруйскага, Горацкага, Магілёўскага р-наў; бульбы — Бабруйскага, Кіраўскага, Крычаўскага, Чэрыкаўскага р-наў; гародніны — Кіраўскага, Чэрыкаўскага, Магілёўскага р-наў. Разводзяць буйную рагатую жывёлу, авечак і коз, коней, птушку. Развіты зверагадоўля і рыбаводства.

*Інфармацыйна-даведачны аддзел Магілёўскай абласной бібліятэкі.*



Гал. від транспарту ў вобласці — чыгуначны. Працягласць чыг. пуцей 823,4 км. На тэр. вобласці знаходзіцца Магілёўскае аддз. Бел. чыгункі. Праходзяць трансеўрапейскі калідор № 9 (Хельсінкі—Санкт-Пецярбург—Віцебск—Магілёў—Жлобін—Гомель—Кіеў), адгалінаванне калідора № 9В (Гомель—Жлобін—Мінск—Маладзечна—Вільнюс), а таксама чыгункі Орша—Крычаў—Унеча, Крычаў—Магілёў—Асіповічы. Буйнейшыя чыг. вузлы Магілёў, Крычаў, Бабруйск,

Асіповічы. Працягласць аўтадарог 12,1 тыс. км. Гал. магістралі Санкт-Пецярбург—Магілёў—Кіеў, Рослаўль—Бабруйск—Брэст, Магілёў—Беразіно—Брэст, Магілёў—Бабруйск—Мінск. Эксплуатацыйная працягласць водных шляхоў 436 км. Суднаходства па рэках Дняпро, Бярэзіна, Сож. Дзейнічаюць порты ў Магілёве і Бабруйску. Аэрапорт у Магілёве. Па тэр. вобласці праходзяць магістральны нафтаправод «Дружба» (Унеча—Полацк), адгалінаванне нафтаправода Таржок—Мінск—Івацэвічы.

У 2005 г. ў вобласці функцыяніравалі 87 бальнічных устаноў на 12,2 тыс. ложкаў, 216 амбулаторна-паліклінічных устаноў. У галіне адукацыі ў 2006 г. ў вобласці дзейнічалі 545 дашкольных устаноў, 534 установы агульнай сярэдняй адукацыі (148,3 тыс. вучняў), у т.л. 90 базавых, 346 сярэдніх, 13 вячэрніх школ, 14 гімназій, 6 ліцэяў, у якіх працавалі 16,7 тыс. педагогаў. Дзейнічалі 38 устаноў праф.-тэхн., 33 сярэдняй, 4 вышэйшай адукацыі. У вобласці 1200 устаноў культуры, 542 публічныя б-кі, 548 устаноў клубнага тыпу, 3 тэатры — Магілёўскія абласныя драматычны, тэатр драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча ў г. Бабруйск, тэатр лялек, а таксама Магілёўская абл. філармонія. Дзейнічаюць 17 кінатэатраў, 24 музеі. Традыцыйным стала правядзенне ў вобласці міжнар. фестываляў: муз. «Залаты шлягер», нар. творчасці «Вянок дружбы», дзіцячай творчасці «Залатая пчолка», анімацыйнага фільма «Анімаёўка».

Магілёўшчына — радзіма нар. мастака Беларусі і Расіі, акадэміка Акадэміі мастацтваў В.К.Бялыніцкага-Бірулі. У Бялынічах і Магілёве працуюць музеі яго імя. Вёска Панюшкавічы Бабруйскага р-на — радзіма бел. пісьменніка В.І.Дуніна-Марцінкевіча, в. Самацеевічы Касцюковіцкага р-на бел. паэта А.А.Куляшова. На Магілёўшчыне нарадзіліся таксама П.Н. Лепяшынскі, О.Ю.Шміт, В.Д.Бонч-Бруевіч, першы рускі металург-доменшчык М.К.Курака, першая ў Расіі жанчына — доктар мед. навук Нафанава-Кашаварава, 2 з 26 бакінскіх камісараў — М.В.Басін і Я.Д.Зевін, легендарны разведчык Л.Маневіч, Герой Сав. Саюза В.З.Харужая, Герой Сав. Саюза і Герой Сац. Працы К.П.Арлоўскі, Маршал Сав. Саюза І.І.Якубоўскі, маршал авіяцыі С.А.Красоўскі, генералы арміі В.А.Пяньkоўскі, І.І.Гусакоўскі і інш.

За актыўны ўдзел у партыз. руху, мужнасць і гераізм працоўных у барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну і за поспехі ў аднаўленні і развіцці нар. гаспадаркі Магілёўская вобл. 8.7. 1967 г. ўзнагароджана ордэнам Леніна. 15.1.2008 г. споўнілася 70 гадоў з дня стварэння вобласці. 12 студз. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным юбілею, Прэм'ер-міністр Беларусі С.Сідорскі ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі ўручыў вобласці Ганаровы сцяг — у сувязі з 70-годдзем утварэння і за асаблівыя поспехі ў гасп. развіцці.

*М.Манасзон. Раніца. 1958 г.*

*Н.Воранаў. Ад'езд Я.Коласа са школы. 1959 г.*





**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 1, спр. 553; ф. 60, воп. 3, спр. 417; ф. 517, воп. 1, спр. 1—15; ф. 1828, воп. 1, спр. 3, 4, 8, 13, 15; ф. 3500, воп. 12, спр. 10.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 6, воп. 1, спр. 541; ф. 334, воп. 1, спр. 237.
Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, Ф. ДП, 00, спр. 2550. Ч. 2.
Целинский Б. Агрономические путешествия по России // Журн. М-ва гос. имуществ. 1848. Ч. 26, № 1—6.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 год. Могилев, 1861.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1862 год. Могилев, 1862.
Кукольник П.В. Исторические заметки о Литве. Вильна, 1864.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси... Т. 2. СПб., 1867.
Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1874 год. Могилев, 1874.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2—3. Могилев, 1884.
Викторов А. Описание записных книг и бумаг старинных дворцовых приказов. М., 1883.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Завитневич В.З. Область Дреговичей как предмет археологического исследования // Труды Киевской духовной академии. 1886. Кн. 8.
Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской... Вып. 17. Витебск, 1888.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. [Вып. 23]. Могилевская губерния. СПб., 1903.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Статистический сборник Министерства путей сообщения. Вып. 124. СПб., 1914.
Рыбакоў Б.А. Радзімічы // Працы сэкцыі археалёгіі. Т. 3. Мн., 1932.
Народное хозяйство Белорусской ССР за 40 лет. Мн., 1957.
Достижения Советской Белоруссии за 40 лет: стат. сб. Мн., 1958.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Белорусская ССР. Очерки экономической истории. Мн., 1963.
Народное хозяйство Белорусской ССР: стат. сб. Мн., 1963.
Романовский Н.Т. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII — первая половина XIX в.). Мн., 1966.
Сборник законов БССР и Указов Президиума Верховного Совета БССР, 1918—1967 гг. Т. 1. Мн., 1968.
Очерки по археологии Белоруссии. Т.1. Мн., 1970.
Калинин П.З. Партизанская республика. 3 изд. Мн., 1973.
Древнее жилище народов Восточной Европы. М., 1975.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1975.
Митрофанов А.Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Мн., 1978.
Седов В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982.
Народное хозяйство Белорусской ССР в 1983 г. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Мн., 1985—87.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944). Мн., 1995.
Памяць: гіст.-дак. хроніка Магілёўскага р-на. Мн., 1996.
Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі: энцыкл. давед. 2 выд. Мн., 2001.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: энцыкл. давед. 2 выд. Мн., 2007.
Могилевские губернские ведомости. 1859. № 73.
Временник Центрального статистического комитета. 1894. № 83.
Северо-Западный край. 1905. 10 июня.
Могилевский вестник. 1917. 7 марта.
Пролетарская революция. 1927. № 4.



# МАГІЛЁЎ

Горад абл. падпарадкавання, адм., эканам. і культурны цэнтр вобласці. Сетка чыг. і шашэйных дарог злучае яго з буйнейшымі прам. і культурнымі цэнтрамі краіны. Рака Дняпро дзеліць горад на 2 часткі. Правы бераг — карэнны, разрэзаны глыбокімі ярамі, вышыня над летнім межавым узроўнем вады ў рацэ 35—40 м. Адсюль адкрываецца маляўнічы краявід на задняпроўскую пойму, якая ў час паводак поўнасцю заліваецца. У глыбіні даліны цячэ р. Дубровенка — правы прыток Дняпра. Левабярэжную частку займаюць пясчаныя дняпроўскія тэрасы з невялікімі ярамі і лагчынамі. Насельніцтва 367,7 тыс. чал. (2006). За 2 км на Пн ад горада знаходзіцца найвышэйшы пункт Магілёўскага р-на (200 м).

На тэр. сучаснага горада існавалі паселішчы яшчэ ў эпоху каменнага веку. За 0,5 км на Пн ад чыг. маста праз Дняпро захаваліся рэшткі стаянкі эпохі мезаліту. Вядомы таксама гарадзішчы ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. Адно з іх — Пелагееўскае ва ўрочышчы Змяёўка, другое пры ўпадзенні Дубровенкі ў Дняпро на тэр. сучаснага парка імя М.Горкага, якое мае пл. 1 га і з'яўляецца рэшткамі замка, пабудаванага ў 1526 г. Вышэй па цячэнні Дняпра знойдзены рэшткі паселішча з керамікай эпохі Кіеўскай Русі, а каля вусця Дубровенкі існаваў стараж. курганны могільнік, зрыты ў канцы 19 ст.

Існуе шэраг легенд аб узнікненні назвы горада. Адна з іх звязвае назву з імем кн. Льва Данілавіча Могія, які ў 1267 г. пабудаваў замак у сутоцы Дубровенкі і Дняпра. Другая легенда сцвярджае, што назва «Магілёў» паходзіць ад імя полацкага кн. Льва Уладзіміравіча (Льва Магутнага). Існуе таксама паданне, што назва горада звязана з імем асілка Машэкі, над магілай якога быў насыпаны курган. Захавалася назва гары Машэкаўка, дзе цяпер гар. могілкі.

У канцы 15 ст. Магілёў быў невялікім паселішчам у складзе ВКЛ. Магілёўскае староства складалася з каралеўскіх валасцей. У пач. 16 ст. староства з воласцю належала вял. княгіні Алене Іванаўне, жонцы вял. кн. Аляксандра, а пасля яе смерці аддадзена Георгію Дэспату-Зяновічу, затым зноў стала каралеўскім уладаннем. Закладзены ў 1526 г. Магілёўскі замак хутка рос, што пацвярджаецца выразам у пісьмовых крыніцах «мужы магілёўцы» — падобны выкарыстоўваўся толькі для характарыстыкі полацкіх уплывовых купцоў. У 1561 г. кароль Жыгімонт-Аўгуст дараваў Магілёву малое магдэбургскае права, паводле якога юрысдыкцыя горада аддавалася войту, а касацыя спраў была пакінута за старостам. Жыхары абавязаны былі клапаціцца аб умацаваннях горада, утрыманні варты і замкавых пушкароў. У 1577 г. кароль Стэфан Баторый даў гораду поўнае магдэбургскае права, што вызваляла жыхароў ад улады і суда ваявод і кашталянаў і сведчыла аб высокім узроўні развіцця горада. На чале горада стаў выбарны орган самакіравання — магістрат. Магілёў атрымаў пячатку: на блакітным полі мураваная вежа з надпісам «печать места Могилевского», было дазволена пабудаваць ратушу (1578), адкрыць школу, праводзіць 2 кірмашы ў год і штотыднёвыя таржкі па пятніцах. Купцы без пошліны маглі гандляваць за 200 км ад горада. Жыхары вызваляліся ад феад. павіннасцей. На правах уладання магіст-



Талерка 2-й паловы 17 ст. з Магілёва.

рат меў некалькі сёл. На карысць горада сяляне выконвалі розныя павіннасці (плацілі чынш і аброк, рамантавалі вуліцы і г.д.). У пач. 16 ст. ў Магілёве былі кавалі, слесары, збройнікі, мечнікі, кацельнікі, майстэрства якіх высока ацэньвалася і іх вырабы вывозіліся на продаж далёка за межы края.

У 1577 г. ў Магілёве налічвалася каля 10 тыс. жыхароў, мелася 157 гандл. памяшканняў, 1261 дом. У 1588 г. Магілёў упамінаецца ў архіўных крыніцах як мястэчка. Да 16 ст. адносіцца забудова Задубровенскага раёна і часткова Лупалава. У 2-й пал. 16 ст. ўзнікаюць цэхі рамеснікаў, якія аб'ядноўваліся па спецыяльнасцях (кушняры, пекары, алейнікі, цесляры, шаўцы, краўцы, мечнікі, мяснікі, залатых спраў майстры, срэбнікі, фарбоўшчыкі). Статуты рамесніцкіх цэхаў зацвярджаліся магістратам, а ў асобных выпадках і каралём. У 1590 г. магілёўскія цесляры выбралі са свайго складу старосту Хорка Нестаровіча і стварылі асобнае «дойлідскае староства». У кнігах магілёўскай магдэбургіі знаходзіліся дакументы аб тым, што Магілёў пастаўляў у Маскву адзенне. У 1609 г. рамеснікі склалі «кравецкі цэх», які атрымаў у 1634 г. каралеўскі прывілей. Для розных гарадоў прывілеі паводле Магдэбургскага права былі не аднолькавыя. Менавіта таму магістрат Магілёва прасіў караля параўнаваць яго правы з правамі магістрата Вільны, каб «шляхта і просты люд адносіліся з большай павагай». У сувязі з такой просьбай кароль у 1633 г. параўнаваў Магілёў у правах і прывілеях са сталіцай ВКЛ. Гэта было прызнаннем таго, што па гасп. і гандл. значэнні Магілёў выходзіў на 2-е месца пасля Вільны.



Герб Магілёва. 1661 г.

Пасля прыняцця Брэсцкай царк. уніі (1596) сталі абмяжоўвацца правы праваслаўных жыхароў, узмацніўся феад.-прыгонны прыгнёт. Адказам на гэта былі шматлікія выступленні пратэсту. На Магілёўшчыну прыходзілі атрады ўкр. казакоў, якія сумесна з мясц. жыхарамі разбуралі сядзібы феадалаў (у 1588 г. — атрад Гултая). У 1595 г. з'явіўся атрад Севярына Налівайкі, кіраўніка антыфеад. паўстання на Украіне, да якога далучыліся мясц. сяляне і мяшчане. Войска паўстанцаў 13.12.1595 г. заняло Магілёў. Казакі і сяляне перабілі шляхту, вызвалілі вязняў, разграмілі і спалілі касцёлы, дамы і крамы заможных грамадзян. Супраць паўстанцаў рушыла 22-тысячнае войска на чале з Буйвідам. Пасля няроўнага бою на Буйніцкім полі, што пад Магілёвам, паўстанцы адступілі. Шляхецкія войскі ўварваліся ў горад, абрабавалі і спалілі яго, жорстка пакаралі жыхароў. 20.6.1606 г. гар. нізы ўзнялі паўстанне, на чале якога стаў Стахор Мітковіч. Паўстанцы занялі ратушу, разагналі магістрат і выбралі новую раду, куды ўвайшла пераважна рамесніцкая бедната. Два гады новая рада трымала кіраванне горадам у сваіх руках. Але ў выніку дзейнасці заможнай часткі гараджан згодніцкая частка новай рады за-



Паліваная кафля з Магілёва. 18 ст.

ключыла «ўгодлівы ліст» са старой радай, паводле якога ўлада перадавалася старому магістрату. Кіраўнік радыкальнага крыла новай рады Ходка Багдановіч быў пакараны смерцю. Вяртанне да старых парадкаў выклікала новыя выступленні гар. нізоў. Буйнейшым з іх было выступленне 1610 г., якое перарасло ва ўзбр. паўстанне. Магістрат падавіў яго з дапамогай войска, а 5 кіраўнікоў паўстанцаў былі пакараны смерцю. Рашучы пратэст у 1636 г. выклікала спроба магістрата выканаць рашэнне Віленскага суда аб спагнанні 10 тыс. злотых штрафу з жыхароў Лупалаўскага, Зарачанскага і Дубровенскага прадмесцяў. Рамеснікі ўварваліся ў ратушу і заявілі, што штраф плаціць не будуць, спрабавалі сарваць судаводства. Арышт кіраўнікоў і вынясенне ім смяротнага прысуду не дазволілі гэтаму выступленню перарасці ва ўзбр. паўстанне. З дапамогай войска было падаўлена выступленне гараджан і ў 1638 г. ў прадмесці Кабыліна Слабада.

Хуткаму росту Магілёва садзейнічала развіццё цэхаў, пашырэнне гандл. сувязей з Расіяй, Польшчай, Прыбалтыкай. У 1-й пал. 17 ст. ў горадзе налічваўся 21 цэх, які аб'ядноўваў больш за 50 рамесніцкіх спецыяльнасцей. Найбольш распаўсюджанымі былі кавальская, слясарная, збройная, ювелірная, масларобчая, кравецкая, шавецкая і інш. Узмацняўся працэс ператварэння рамяства ў таварную вытв-сць. Лік кустароў павялічваўся за кошт сялян, якія ўцякалі ад феадалаў. Аўтар Баркулабаўскага летапісу паведамляе, што «место Могилев заселили... прихожие люди — селяне с Княжич, с Головчина, з сёл многих». Паводле перапісу 1577 г. ў Магілёве быў 1261 дым, больш за 30 вуліц, паводле інвентару 1604 г. — 2121 дым. У адным з запісаў магілёўскага магістрата за 1638 г. адзначалася, што ў прадмесці Кабылля Слабада і за гар. валам жыло шмат былых прыгонных, якія прыбылі ў горад без дазволу сваіх гаспадароў.

Значную частку насельніцтва Магілёва складалі купцы. Яны адрозніваліся па



Мемарыяльная дошка С.Собалю на перакрыжаванні вуліц Болдзіка і Першамайскай у Магілёве.

сваму статусу: «старэйшыя», больш багатыя, трымалі ў сваіх руках гандаль з іншымі гарадамі Беларусі і за мяжой; «меншыя» (сярэднія) гандлявалі ў горадзе; дробныя крамнікі, перакупшчыкі складалі самую шматлікую частку гандлярскага насельніцтва. Вялікая колькасць крам (у 1604 г. — 240, у 1609 г. — 361) сведчыла аб ажыўленым гар. гандлі. Гар. гандл. плошча ў 1604 г. мела памер больш за 2 га, а ў 1645 г. лаўкі будаваліся нават за межамі рынка. Для купцоў быў пабудаваны гасціны двор. Два разы ў год адбываліся 3-тыднёвыя кірмашы. Для абароны гандл. інтарэсаў купецкай вярхушкі ў 1636 г. было арганізавана купецкае брацтва са сваім статутам, які абмяжоўваў гандаль іншагародніх купцоў, дазваляў прадаваць тавары толькі членам брацтва.

Магілёўскія купцы падтрымлівалі сувязі больш чым з 60 гарадамі (Віцебскам, Мінскам, Полацкам, Оршай, Дуброўна, Шкловам, Мсціславам, Брэстам, Быхавам, Бабруйскам, Крычавам, Гомелем, Чавусамі і інш.). Выгаднае геагр. становішча горада каля перасячэння важных сухапутных і водных шляхоў давала магчымасць гандляваць і з больш далёкімі гара-

дамі: Масквой, Смаленскам, Вязьмай, Калугай, Псковам і інш., куды магілёўскія купцы вазілі прадукцыю мясц. рамеснікаў. У прыбалтыйскія гарады Коўна, Рыга, Вільна яны вазілі пяньку, лён, воск, мёд, сала, раслiннае масла, дублёныя скуры, лес, лесаматэрыялы, у Польшчу — дарагую пушніну, футра, скуру і скураныя вырабы, а ў абмен атрымлівалі сукно, шоўк, палатно, металічныя вырабы, прыправы, шкло, фарбы, селядзец, соль, віно.

Найбольш заможную вярхушку насельніцтва складалі свецкія і духоўныя феадалы. У іх руках была ворыўная зямля, сядзібы, сенажаці, дамы, млыны, гасп. пабудовы. Тая ж частка гараджан, якая жыла на зямельных участках феадалаў, павінна была адбываць на карысць гаспадара натуральныя і грашовыя павіннасці. Феадалы карысталіся каралеўскімі прывілеямі і не падпарадкоўваліся магістрату. Блізкімі да іх па сваўму становішчу былі буйныя купцы і цэхавая вярхушка. Самую шматлікую і бяспраўную частку насельніцтва складала большасць рамеснікаў (чаляднікі і вучні), дробныя гандляры, агароднікі і іншая бедната. Яны неслі асн. цяжар розных павіннасцей і падаткаў. Гараджане часта разам з магістратам выступалі супраць засілля феадалаў, якія імкнуліся павялічыць свае ўладанні за кошт горада, умешваліся ў яго гасп. жыццё (бралі з гандл. людзей грашовыя зборы на рынку, парушалі правы гараджан, дадзеныя магдэбургскім правам і г.д.).

*Магілёў. Малюнак Н.Орды.*



У рэліг. жыцці значнае месца займалі праваслаўныя брацтвы. У 1589 г. ўзнікла першае ў горадзе брацтва кушнярoў, у 1597 г. — брацтва пры Спаса-Прэабражэнскай царкве, у 1633 г. — пры Богаяўленскім манастыры (засн. ў 1620 г.), у 1634 г. — пры Крыжаўзвіжанскай царкве. Брацтвы выступалі супраць нац. прыгнёту і акаталічвання, абаранялі мову і культуру бел. народа. У 1599 г. магіляўчане не пусцілі ў горад полацкага уніяцкага архіепіскапа Загорскага (меў намер закрыць праваслаўныя цэрквы), а ў 1618 г. — полацкага уніяцкага архіепіскапа Кунцэвіча.

Брацтвы садзейнічалі разгортванню асветніцтва. У 1590 г. пачала дзейнічаць агульнасаслоўная бясплатная брацкая школа, якая ў сярэдзіне 17 ст. была прыраўнавана да Кіева-Магілянскай акадэміі. У школе выкладаліся слав., грэчаская, лацінская, бел. мовы, граматыка, рыторыка, музыка, асновы арыфметыкі, астраноміі, геаграфіі і геаметрыі. У 1757 г. гэта школа пераўтворана ў духоўную семінарыю. Да 16 ст. адносіцца пачатак складання хронікі Магілёва купецкім старостам Т.Суртам (1526—1701), якое затым працягвалася рэгентам Магілёўскага магістрата Ю.Трубніцкім (да 1746 г.), яго сынам А.Трубніцкім (да 1788 г.) і ўнукам Міхаілам (1842—56). Асновай хронікі з'явіліся запісы складальнікаў, дакументы з архіва магістрата, летапісы і інш. Найбольш каштоўныя звесткі адносяцца да 16 — 1-й пал. 18 ст. У 1616 г. пачала дзейнічаць Магілёўская брацкая друкарня, якая выпускала ў асн. царк., палемічныя і павучальныя кнігі на бел., польскай і старaслав. мовах: «Служэбнік» (1616), «Евангелле вучыцельскае» (1619), «Псалтыр» і «Апостал» (1693), «Акафісты» (1693), «Малітваслоў» (1695), «Дыёптра» (1698), «Неба новае» (1699), «Трыфалагіён» (1754). У друкарні працавалі выдатныя бел. друкары і гравёры М.Е. Вашчанка, В.М.Вашчанка, Ф.Ангілейка, Антушкевіч і інш. Пры брацтве ў 1636 г.

адкрыўся манастыр, на тэр. якога ў 17—18 ст. былі ўзведзены Мікалаеўская (1672) і Ануфрыеўская (1798) цэрквы.

У жн. 1654 г. рус. войскі падышлі да горада. Магіляўчане адчынілі вароты і здалі горад. Цар Аляксей Міхайлавіч, які наведаў Магілёў, пацвердзіў усе прывілеі гораду, даў купцам права свабоднага гандлю з рас. гарадамі. Шляхта і духавенства захавалі свае саслоўныя прывілеі. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. магілёўцы ў жн. 1654 г. здаліся рус. войску. Магілёў і Магілёўскі павет былі перададзены ў часовае кіраванне К.Ю.Паклонскаму. У 1655 г. ў ходзе аблогі войскамі ВКЛ горад, нягледзячы на здраду Паклонскага, які ўпусціў войска ВКЛ за вонкавы земляны вал, аблогу вытрымаў. У 1658 г. горад беспаспяхова спрабаваў узяць казацкі палкоўнік І.Нячай. З цягам часу настроі магіляўчан змяніліся, што прывяло да паўстання, калі 2.2.1661 г. шляхта і гар. вярхі на чале з бургамістрам Леановічам здалі Магілёў гетману ВКЛ К.Сапегу, за што атрымалі такія ж правы, як і мяшчане Вільні, а члены магістрата былі ўзведзены ў дваранства. Гораду быў дараваны герб: на блакітным полі 3 вежы, у сярэдняй з якіх адкрытыя дзверы, дзе стаіць рыцар з мячом, наверсе — коннік з узнятым мячом. У 1668 г. пачата будаўніцтва мураванай Узнясенска-Пакроўскай царквы, у 1670 г. — Успенскай царквы. У 1680 г. засн. Магілёўскі езуіцкі калегіум, які валодаў сёламі Цёплае і Ямніца. У 1692 г. гараджане ўзвялі касцёл Прасвятой Багародзіцы.

У 2-й пал. 17 ст. ў Магілёве налічвалася каля 3 тыс. дамоў (больш чым у Мінску ці Смаленску). У запісе расходнай кнігі Купецкай палаты Сібірскага прыказа аб продажы і абмене пушніны значацца 7 магілёўскіх купцоў, якія здзяйснялі ў Маскве гандл. аперацыі ў жн. 1672 г. і 18 купцоў, якія купілі пушніну ў жн. 1673 г. Асобныя галіны вытв-сці сталі цалкам залежаць ад эканам. сувязей з Расіяй. Аднак у пач. 18 ст. эканам. становішча горада пагоршылася. Паўн. вайна прынесла яму, як і многім іншым гарадам Беларусі, поўнае разбурэнне. У пач. ліп. 1708 г. горад заняла шведская армія Карла XII. Гараджане павінны былі з кожнага з 15 кварталаў штодзённа здаваць акупантам 312 пудоў хлеба і 3 тыс. літраў піва. Хто не мог гэтага зрабіць, абавязаны быў заплаціць грашыма. На горад была накладзена вялікая грашовая кантрыбуцыя. Па загаду Карла XII рабаваліся цэрквы і манастыры, з горада было вывезена больш за 9 пудоў нарабаванага срэбра.

У выніку грабяжоў і пажару Магілёў прыйшоў у заняпад. У 1745 г. тут быў толькі 1301 дом. Магістрат, маючы вял. патрэбу ў грошах, быў вымушаны здаваць феадалам у арэнду зямельныя ўчасткі. Адначасова феадалы і каталіцкае духавенства пашыралі свае ўладанні шляхам даўгавых абавязацельстваў, завяшчанняў, даравальных грамат. Асобныя феадалы сілай захоплівалі зямельныя ўчасткі, дамы, прамысл. будынкі, якія належалі гораду. Абураныя феад. дэспатызмам гараджане ў 1733 г. ўзнялі ўзбр. паўстанне.

У арх. плане Магілёў з'яўляецца прыкладам хуткага развіцця горада ад невялікага паселішча да буйной і складанай горадабудаўнічай структуры. Горад развіваўся на пландроўвачных прынцыпах старажытнарус. гарадоў і складаўся з 3 частак: умацаванага замка (дзядзінца), рамесніцка-гандл. пасада і гандл. плошчы. Замак і Нагорскі пасад займалі ў 15 ст. адносна невялікую тэр. паміж рэкамі Дняпро і Дубровенка. Умацаванні замка складаліся з землянога вала, драўляных сцен і шмат'ярусных вежаў, якія ўяўлялі ў плане замкнёны пяцівугольнік. Паміж вежамі рабілі гародні. На замкавай тэр. знаходзіліся жылыя, гасп., культавыя і адм. драўляныя будынкі. Жылая тэр. Магілёва складалася з Нагорскага пасада (Стары горад), з зах. і ўсх. бакоў была абмежавана схіламі Дняпра і Дубровенкі, а з паўн. — замкавым ровам. Замак з пасадам звязвала гандл. плошча, якая ў 1604 г. займала больш за 2 га, мела форму няправільнага шматвугольніка. Тут размя-



*Палац архіепіскапа Станіслава Богуш-Сестранцэвіча ў Магілёве. 18 ст.*



шчаліся 26 радоў крам (шаўцы, ганчары, краўцы, кушняры, рыбнікі, мяснікі і інш.). У 17 ст. на плошчы была ўзведзена мураваная брама. У далейшым забудова горада выйшла на процілеглыя бакі Дняпра і Дубровенкі. Былы Нагорскі пасад атрымаў назву Стары горад, а новы, перспектыўны для далейшага развіцця раён — Новы горад.

Росту Магілёва адпавядала яго абарончая сістэма. Калі ў 16 ст. ён меў толькі ўмацаваныя замак і астрог, то ў 1630-я г. абарончая сістэма складалася ўжо з 3 паясоў: Замкавага, Кругавога (уздоўж Старога горада) і Палявога валоў (уздоўж Новага горада). Кожная структурная частка была добра ўмацавана і магла самастойна супраціўляцца нападу ворага. Вядомы пасады таго часу: Нагорскі, Шклоўскі, Віленскі, Задубровенскі, Папінскі, Пакроўскі, Траецкі, Лупалаўскі. Да сярэдзіны 17 ст. вакол пасадаў сфарміраваліся прадмесці: Шклоўскае (з Пд), Віленскае (з ПдЗ), Задубровенскае (з З), Пакроўскае (з У), Лупалава (на Пд, за Днепром, у 1558 г. дзякуючы ўзведзенаму масту злучана з горадам).

У 17 ст. былі ўзведзены новыя земляныя ўмацаванні вакол замка і пасадаў. У 1609—63 гг. насыпаны 3 земляныя валы: Замкавы, які абкружыў тэр. замка, меў даўжыню каля 613 м; Кругавы (Бліжні), што ахопліваў Стары горад, меў выгляд трапецыі, 4 брамы (Ветраная, Дубровенская, Каралеўская, Алейная), даўжыню каля 1449 м, завяршаўся ў паўн. частцы глыбокім ровам, які аддзяляў Стары горад ад Новага; Палявы (Дальні), што абкружаў Новы горад, пачынаўся ад яра каля р. Дзебра, перасякаў Дубровенку, яе прыток р. Струшня і падыходзіў да Дняпра, меў 8 драўляных брам (Папінская, Быхаўская, Трысненская, Уструшненская, Віленская, Шклоўская, Лязвеява, Курдзянеўская), даўжыню 5242 м.

Сістэма асн. вуліц склалася пад уплывам гандл. шляхоў, якія падыходзілі да горада і працягваліся за брамамі як гар. вуліцы. Так, гандл. шлях са Шклова падыходзіў да Каралеўскай брамы і працягваўся як Шклоўская вул., з З ад Віленскай брамы пачыналася Віленская вул., ад Быхаўскай брамы брала пачатак Быхаўская вул. Усе яны сыходзіліся на гандл. плошчы, утвараючы радыяльную сістэму планіроўкі. Вылучаліся Шклоўская і Ветраная вуліцы, якія перасякалі тэр. горада з Пн на Пд.

Высокі ўзровень эканам. патэнцыялу, шырокія гандл. і культ. сувязі, развіццё рамесніцтва са своеасаблівымі традыцыямі, мясц. прыёмамі і формамі праявіліся ў архітэктуры, манументальным жывапісе, разьбе па дрэве, гравюры па медзі. У Магілёве ў 17—18 ст. існавала мясц. школа мастацтва і дойлідства. У Задуб-

ровенскай частцы горада захаваўся аднапавярховы мураваны жылы дом 17 ст., які пазней быў перароблены пад царкву (зараз Барысаглебская царква). Яго вонкавыя сцены былі ўпрыгожаны роспісам па тынкоўцы (захаваліся часткова). Мураваная ратуша будавалася ў 1679—81 гг. і часткова перабудоўвалася ў 1772—73 гг. (не захавалася). Яе аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя грунтавалася на кантрастным супастаўленні двухпавярховага выцягнутага корпуса і высокай дамінанты — шмат'яруснай вежы, што прылягала да гал. фасада корпуса. Быў узведзены шэраг культавых будынкаў: фарны касцёл (1594—1672), Мікалаеўская царква (1669—72) Мікалаеўскага манастыра, езуіцкія касцёл і калегіум (1686—1725), Успенскі касцёл (пазней Станіслаўскі, 1738—52 гг.) кляштара кармелітаў, Спаская царква (1740—62) Спаскага манастыра. З 1755 г. епіскапам у Спаскім манастыры быў Георгій Каніскі, укр. і бел. пісьменнік, царк.-палітычны і культ. дзеяч. Па яго загаду ў 1756—62 гг. віленскі архітэктар Я.К.Глаўбіц перабудаваў мураваную Спаскую царкву (не захавалася). Да нашага часу захаваліся мураваны двухпавярховы палац Г.Каніскага (1762—63 гг., архітэктар Глаўбіц) і Мікалаеўская царква, якія з'яўляюцца помнікамі бел. барока. Пры Богаяўленскім манастыры існавала друкарня, спачатку драўляная, а з 1737 г. мураваная (не захавалася). Друкарня богаяўленскага брацтва, якая дзейнічала з 1616 да 1773 г. (з перапынкамі), выпусціла больш 40 выданняў. Пераважная іх большасць ілюстравана. Лепшыя работы мастакоў гэтай друкарні сведчаць аб існаванні асобай, адрознай ад іншых школы мастацка-графічнага афармлення кніг. Сярод імён стваральнікаў кніжных гравюр Максім і Васіль Вашчанкі, Фёдар Ангілейка, Афанасій Пігарэвіч і інш. У 1780 г. ў Магілёве адкрыты прыгонны тэатр. З 1897 г. да 1918 г. дзейнічаў створаны па ініцыятыве Е.Р. Раманава Магілёўскі царк.-археал. музей, які размяшчаўся ў



*Магілёўская школа гравюры. Ф.Ангілейка «Успенне Багародзіцы». Дрэварыт з кнігі «Ирмолой сиречь Осмогласнік» Іаана Дамаскіна. Магілёў. 1700 г.*

будынку былога кляштара бернардзінцаў і меў больш за 6 тыс. экспанатаў.

Далучаныя да Расіі пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) землі склалі асобнае ген.-губернатарства з 2 губернямі — Пскоўскай і Магілёўскай. У чэрв. 1778 г. было ўтворана Магілёўскае намесніцтва, а ў жн. 1798 г. — Бел. губ. з цэнтрам у Віцебску, якая ў 1802 г. падзелена на 2 губерні: Магілёўскую і Віцебскую. У 1773 г. горад атрымаў герб: у верхняй частцы шчыта палова рас. герба (двухгаловы арол), у ніжняй — коннік. У 1780 г. ў го-

*Палац архіепіскапа Георгія Каніскага ў Магілёве. 18 ст.*



радзе адбылася сустрэча імператрыцы Кацярыны II з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II, з нагоды якой на гал. вуліцы быў закладзены Іосіфаўскі сабор па праекце архітэктара М.А.Львова (не захаваўся).

Агульная пл. горада ў 1783 г. складала 600 дзес. і 5 сажняў. Мелася таксама 5145 дзес. і 669 сажняў выгоннай зямлі, 2783 мяшчан займаліся апрацоўкай глебы. Гал. апорай царызму былі памешчыкі і праваслаўнае духавенства. У канцы 18 ст. пачала дзейнічаць базыльянская школа, у 1797 г. школа пры езуіцкім калегіуме, дзе навучалася 90 дзяцей шляхціцаў.

Эканам. развіццё горада ў складзе Расіі праходзіла ў больш спрыяльных умовах, чым раней. У 1784 г. дзейнічалі 33 прам. прадпрыемствы, у т.л. 22 гарбарні, 7 піваварань, 2 цагельныя з-ды, 2 вадзяныя млыны, з-д па ліцці званоў. Апрацоўка сырамятных скур вялася на рубяжы 18 і 19 ст. у 188 прыватных дамах. Гарбары (240 чал.) жылі ў асн. у Лупалаве. У 30 прыватных дамах выраблялася да 10 тыс. гліняных гаршкоў, на 2 ганчарных з-дах выраблялася штогод да 6 тыс. пячных кафляў. Побач з вотчыннымі мануфактурамі, якія грунтаваліся на прыгоннай працы, узнікалі купецкія мануфактуры з наёмнай працай. Дзейнічалі 748 майстроў-рамеснікаў: кавалёў, слесараў, меднікаў, шаўцоў, кушняроў, краўцоў, гаршэчнікаў і інш. Калі ў 1745 г. мелася 10 кавалёў, то ў 1780 г. — 58. Колькасць майстроў залатых спраў за гэты час павялічылася з 1 да 8, слесараў з 4 да 71, шаўцоў з 6 да 77, краўцоў з 1 да 87. У 1786 г. ў горадзе дзейнічалі 20 гарбарных, 7 піварных і 2 цагельныя прам. прадпрыемствы. Актыўную дзейнасць вялі 560 купцоў, 160 крам, гар. вагі, вінны магазін. Тры дні ў тыдзень праводзіліся таргі. Штогадовы гандл. абарот толькі з Прыбалтыкай складаў 200 тыс. руб. У Магілёве размяшчаліся рэзідэнцыі праваслаўнага і каталіцкага архіепіскапаў. Пры двары архіепіскапа С.Богуш-Сестранцэвіча дзейнічала друкарня. 28.3.1789 г. адкрыта Гал. нар. вучылішча. З 1795 г. дзейнічала тэатральная трупа А.Ш.Жукоўскага. У 1780 г. па заказу губернатара З.Р.Чарнышова каля яго палаца было пабудавана спец. памяшканне, дзе выступалі оперныя трупы ў суправаджэнні прыгоннага аркестра (27 музыкантаў). Дзейнічаў прыгонны тэатр. У 1809 г. адкрыта мужчынская гімназія, у якой у 1883 г. было 525 вучняў.

У вайну 1812 г. Магілёў 8 ліп. быў захоплены французамі. Гараджане ўпарта супраціўляліся акупантам, зрывалі пастаўкі харчу і фуражу, ухіляліся ад рэкруцтва ў французскую армію. 12.11.1812 г. рус. войскі пад камандаваннем ген. Ажароўскага ў выніку хуткага наступлення вызвалілі Магілёў.

У 19 ст. найбольш значнае месца ў прам-сці горада па-ранейшаму займалі

*Магілёў. Гравюра 18 ст.*



гарбарныя, ганчарныя і цагельныя прадпрыемствы. У 1854 г. налічвалаася 69 гарбарань, дзе амаль трэць складалі наёмныя рабочыя. Дзейнічала 57 ганчарных майстэрань (1859), 27 цагельных з-даў (1854). Колькасць рамеснікаў у 1861 г. дасягнула 2538 чал. (118 цесляроў, 91 ганчар, цагельнік, 40 кавалёў, 156 гарбароў, 291 шавец, 337 краўцоў і інш.). У пач. 1880-х г. дзейнічалі 4 буйныя і да 60 невялікіх гарбарных майстэрань, тытунёвая ф-ка, 3 піваварныя, 3 дражджавыя з-ды, паравы млын, 8 крупарушак, гарэлачны, 4 свечкавыя і 3 пенькатрапальныя з-ды. Да 1881 г. колькасць прам. прадпрыемстваў павялічылася на 77%, занятых на іх рабочых — на 192%, а гадавы аб'ём вытв-сці ўзрос на 244%. Афіц. статыстыкай у 1900 г. быў улічаны 71 гарбарны з-д (224 рабочыя), 45 хлебапякарань (100 рабочых), 3 тытунёвыя ф-кі (71 рабочы), 3 друкарні (52 рабочыя). Функцыяніравалі 7 аддзяленняў банкаў (Азова-Донскі камерцыйны банк, Аб'яднаны банк, Мінскі камерцыйны банк). У 1856 г. налічвалася 601 крама і магазін. Магілёўскія кірмашы славіліся вял. абаротнымі сродкамі і багатым асартыментам тавараў, што прывозілі з іншых гарадоў. Насельніцтва ў 1861 г. дасягнула 30 800 чал., з якіх 6920 складалі мяшчане-рамеснікі, дробныя гандляры, а таксама людзі, якія жылі выпадковай працай. У 1856 г. было 2339 двароў, у 1860 г. пабудаваны мост праз Дняпро, які злучыў 2 разрозненыя часткі губ. горада. У 1869 г. пабудавана мураваная Барысаглебаўская царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры. Летам 1881 г. ў гар. садзе пачаў дзейнічаць фантан — адно са збудаванняў Дняпроўскага водаправода.

З 1805 г. дзейнічала вучылішча для дзяцей «ніжэйшага маёмаснага стану». На базе вучылішча ў 1809 г. створана мужчынская гімназія. З 1830 г. працавала пав. 3-класнае вучылішча для дзяцей мяшчан, купцоў і рамеснікаў, а таксама гімназія для дзяцей дваран і чыноўнікаў. Працавалі таксама прыватныя пансіёны і школы для дзяцей багатых (2 прыватныя пансіёны і 4 жаночыя школы). Функцыяніравалі яўр. пач. вучылішча 1-га разраду (з 1849 г.), духоўная семінарыя (з 1757 г.), духоўнае вучылішча і 7 прыватных навуч. устаноў. У 1866 г. створана Магілёўская дырэкцыя нар. вучылішчаў. 15.6.1863 г. пачала дзейнічаць 6-класная гімназія, у 1865 г. жаночая 7-класная гімназія, у 1873 г. рамеснае аддз. пры прыходскім вучылішчы, у 1875 г. першая ў Расіі цэнтр. фельч. школа (цяпер медыцынскае вучылішча), у 1885 г. рэальнае вучылішча, якое з 1894 г. стала 7-класным. У 1867 г. адкрыты музей, у 1886 г. тэатр, мураваны будынак якога зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры. У горад зрэдку прыязджалі тэатральныя трупы з іншых гарадоў. У 1901 г. засн. Магілёўскае настаўніцкае т-ва, якое выдавала часопіс «Белорусский учитель-

*Будынак пазямельна-сялянскага банка ў Магілёве. 19 ст.*

*Будынак Магілёўскага крэдытнага таварыства.*







*Будынак жаночага епархіяльнага вучылішча ў Магілёве. 19 ст.*



*Будынак жаночай гімназіі ў Магілёве. 19 ст.*



*М.К.Судзілоўскі.*

ский вестник». 20.10.1859 г. пачала працаваць тэлегр. станцыя. У 1861 г. ў горадзе было 29 цэркваў і збораў, 2 праваслаўныя манастыры, 2 часоўні, 3 касцёлы, 2 кляштары, капліца, пратэстанцкая царква, 2 сінагогі, 31 малітоўны дом. У 1802 г. пабудавана бальніца, якая ў 1812 г. была спустошана французамі. У 1822 г. адкрыты інвалідны, у 1842 г. сіроцкі дамы, у 1830 г. яўр. бальніца, 23.11.1876 г. пачало дзейнічаць мясц. упраўленне Чырвонага Крыжа. У 1880 г. налічвалася 40 536 жыхароў, 263 мураваныя і 3243 драўляныя дамы, 21 мураваная і 8 драўляных цэркваў, 3 касцёлы, 2 сінагогі, 36 малітоўных школ, 3 друкарні. У 1897 г. насельніцтва горада дасягнула 43 119 чал. У 1889—91 гг. узведзены будынак жаночага епархіяльнага вучылішча, у 1902 г. — мураваны будынак чыг. вакзала, якія зараз з'яўляюцца помнікамі архітэктуры.

У 1778 г. складзены ген. план Магілёва, мэтай якога было ўпарадкаванне арх.-планіровачнай структуры горада, наданне ёй рэгулярнага характару. У той час у горадзе мелася 2003 дамы (амаль усе драўляныя), 22 вуліцы, 32 завулкі, 9340 жыхароў. Планам прадугледжвалася стварэнне строгай геаметрычнай вулічнай сеткі, узбуйненне некаторых жылых раёнаў і прадмесцяў. Аднак ажыццявіць такі план было нялёгка. Складаны рэльеф, перапад вышынь цэнтр. і поймавых частак, земляны вал, што абкружаў горад, з'яўляліся перашкодай на шляху стварэння рэгулярнай вулічнай сеткі. Асабліва вял. цяжкасці былі звязаны з перапланіроўкай старога горада, шчыльная забудова якога мела нерэгулярны характар і таму была пакінута без значных змен. Стараж. абарончыя ўмацаванні, якія страцілі сваё значэнне, ліквідаваліся, а ў 1809 г. быў засыпаны роў і знішчаны Кругавы вал, што дазволіла спраміць гал. вуліцы — Шклоўскую і Ветраную. У 1829 г. ад гандл. плошчы да Быхаўскага выезду пракладзена новая дарога і зроблены больш зручны з'езд з Замкавай гары. У 1833, 1851, 1862 гг. планы горада пераглядаліся і перапрацоўваліся. У 1849—50 гг. пасля заканчэння будаўніцтва Бабруйскай шашы, на месцы, дзе раней праходзіў Замкавы вал з Алейнай брамай, быў пракладзены шлях — Дняпроўскі пад'ём.

*Будынак Магілёўскага акруговага суда.*



У канцы 18 — пач. 19 ст. створаны ансамблі на Губернатарскай (былая гандл. плошча каля стараж. замка) і Саборнай плошчах, якія па-новаму вызначылі арх. аблічча горада. Ансамбль Губернатарскай плошчы меў форму няправільнага шматвугольніка і па перыметры быў забудаваны адм. будынкамі ў стылі класіцызму. Гал. элементам ансамбля з'яўлялася ратуша (18 ст.), каля якой размяшчаліся губернатарскі дом і будынак губ. праў-

лення. З пабудоў Губернатарскай плошчы захаваўся будынак ніжняга суда, урачэбнай управы і архіва, які ў 1883 г. рэканструяваны пад акругові суд (цяпер Магілёўскі краязнаўчы музей). Ансамбль Саборнай плошчы сфарміраваўся на Шклоўскай вул. па праектах рус. дойлідаў М.А.Львова і В.П.Стасава. Цэнтрам яго з'яўляўся Іосіфаўскі сабор (1780—98 гг., архітэктар Львоў). Насупраць сабора знаходзіўся ваенны будынак — экзерцыргаўз (1820—30 гг., архітэктар Стасаў, захаваўся часткова). У цэнтр. частцы горада ўзнік шэраг жылых і адм. будынкаў: архірэйскі палац і будынак духоўнай семінарыі, архіепіскапскі палац і будынак духоўнай кансісторыі, Спаская царква, Станіславаўскі касцёл кармелітаў, мураваныя жылыя дамы. Пры ўездзе ў горад па вуліцах Шклоўскай, Быхаўскай, Віленскай, Чарнігаўскай узвышаліся мураваныя брамы з аднайменнымі назвамі.

З'явіўся шэраг новых грамадскіх будынкаў. У 1789 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1809 г. пераўтворана ў мужчынскую гімназію і размясцілася ў новым мураваным будынку па вул. Ветранай). У 1865 г. адкрыта жаночая гімназія. У 1884—85 гг. узведзены будынак Аляксандраўскага рэальнага вучылішча (у 1967 г. рэканструяваны). У 1889—92 гг. узведзены будынак жаночага вучылішча духоўнага ведамства. У 1864 г. ў горадзе было 2907 дамоў, у т.л. 285 мураваных. У 1869 г. ўзведзена новая мураваная Барысаглебская царква. У 1904 г. мелася 4043 драўляных і 640 мураваных дамоў, але толькі 3 вуліцы былі забрукаваны.

У пач. 20 ст. горад займаў 1794 дзес. зямлі (заселеная частка), меў 38 вуліц, 51 завулак агульнай працягласцю 62 вярсты, з якіх 19 вёрст былі забрукаваны. Мелася 5 садоў (6,5 дзес.), 4574 жылыя забудовы, 34 гасцініцы, 91 тракцір. Асвятляліся вуліцы 592 газавымі ліхтарамі, дзейнічаў водапровод (з 1878 г.), меліся электрычнасць і тэлеф. сувязь (у 1904 г. 83 абаненты). У 1902 г. праз Магілёў пракладзена Пецярбургска-Адэская чыг. У 1905 г. паявілася чыг. дэпо (135 рабочых). Па-ранейшаму па аб'ёме прадукцыі 1-е месца займала гарбарная прам-сць. Найбольш буйнымі былі маслабойна-мукамольны, лесапільны, піваварны, жалезнамедна-кацельны з-ды. Насельніцтва ў 1910 г. дасягнула 52,5 тыс. чал., у 1913 г. — 67 707 чал. У 1909 г. было 9 бальніц, 7 аптэк, 12 аптэкарскіх магазінаў, 34 урачы, 22 зубныя ўрачы, 34 акушэркі, 26 фельчараў.



*Будынак Магілёўскага банка.*



*П.В.Шэйн.*

Адначасова з «Могилевскими губернскими ведомостями» (1901—16) і «Могилевскими епархиальными ведомостями» (1901—14) выходзілі: у 1901 г. «Могилевский листок объявлений» і «Сельскохозяйственный листок», у 1901—16 гг. «Могилевский листок сельского хозяйства и охоты», у 1906—16 гг. «Могилевский вестник», у 1910—11 гг. «Белорусский учительский вестник», у 1910—11 гг. «Белорусский учительский вестник»,



*Будынак гарадской управы ў Магілёве. 19 ст.*



Мемарыяльная дошка на доме № 23 па вуліцы Ленінскай, дзе ў 1915—17 гг. знаходзілася Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага.

у 1911—12 гг. «Могилевский курьер», у 1914—16 гг. «Вестник Могилевского земства», у 1915—17 гг. «Наш вестник».

У пач. 1900-х г. дзейнічалі мужчынская і 3 прыватныя жаночыя гімназіі, 2 вышэйшыя пач. вучылішчы, 12 прыходскіх вучылішчаў (7 мужчынскіх і 5 жаночых), 5 царк.-прыходскіх школ, 2 духоўныя вучылішчы, 3 падрыхтоўчыя школы, а таксама 3 новыя спец. вучэбныя ўстановы: камерцыйнае вучылішча, настаўніцкі ін-т (1913), прыватная муз. школа, фельч. і павівальная школы, двухгадовыя пед. курсы (з 1900), губ. і царк.-археал. музеі, 8 б-к, 5 друкарань.

Першыя выступленні рабочых Магілёва ў барацьбе за паляпшэнне свайго становішча адносяцца да 1886 г. Аб гэтым сведчыць загад магілёўскага губернатара аб узмацненні паліцэйскага нагляду ў прам. раёнах губерні. У 1878 г. дзейнічалі 3 гурткі арг-цыі «Зямля і воля», у якіх займалася 50 чал. У хуткім часе з'явіліся гурткі марксісцкага напрамку, якія ў 2-й пал. 1890-х г. аб'ядналіся ў Магілёўскую с.-д. групу. Рабочыя знаёміліся з газ. «Искра», якая распаўсюджвалася ў горадзе.

У вер. 1898 г. баставалі рабочыя на 9 гарбарных з-дах (110 удзельнікаў). 1901—03 гг. адзначаны палітычнымі стачкамі і святкаваннямі 1 Мая. У 1901—04 гг. адбылося 39 эканам. стачак (1,2 тыс. рабочых), 5 дэманстрацый (2 тыс. удзельнікаў).

У Лупалаве склалася агульнагар. група РСДРП, якая працавала пад началам Палескага к-та РСДРП на правах раённай арг-цыі. Да лета 1903 г. афармілася с.-д. арг-цыя навучэнцаў, якая аб'яднала прадстаўнікоў навуч. устаноў горада. Гектаграфічным спосабам яна выдавала друкаваныя часопісы «Пробуждение» і «Рассвет». У лют. 1904 г. ў друкарні Магілёўскага к-та РСДРП надрукавана пракламацыя «Товарищи солдаты», якая заклікала да выступленняў супраць вай-



Фрагмент забудовы 18—19 ст. па вуліцы Ленінскай.



ны і царызму. Пасля рэарганізацыі Палескага к-та РСДРП (вер. 1905 г.) пачаў дзейнічаць Магілёўскі раённы к-т РСДРП. У 1905 г. баставалі цырульнікі, шаўцы, краўцы, якія патрабавалі ўстанаўлення 9-гадзіннага працоўнага дня, адбываліся сходкі рабочых і інтэлігенцыі горада, забастоўка рабочых сталеліцейнай майстэрні, 30.10.1905 г. прайшла нелегальная нарада настаўнікаў, якая абмеркавала пытанне аб стварэнні саюза настаўнікаў Магілёўскай губ. У выніку забастоўкі ў кастр. 1905 г. ў Магілёве спынілі работу чыгунка, сярэднія навуч. ўстановы, семінарыя. 5 ліст. ў Магілёве ўзбунтаваліся салдаты 1-га і 2-га батальёнаў Каднікаўскага палка і 163-га запаснога батальёна. Яны патрабавалі адмены вучэнняў, адмаўляліся ад выканання загадаў па падаўленні рэв. выступленняў. Забастоўкі рабочых адбываліся ў Магілёве ў 1908, 1910 і 1914 гг. У ліп. 1914 г. ў сувязі з пачаткам 1-й сусветнай вайны горад быў на ваенным становішчы. З 8.8.1915 г. тут размясцілася Стаўка Вярх. галоўнакамандуючага. За 1913—17 гг. насельніцтва горада скарацілася з 69 707 чал. да 55 951 чал. Змяніўся склад прам. рабочых (40% з іх забралі ў армію).

У час Лютаўскай рэвалюцыі 4.3.1917 г. «Могилевский вестник» надрукаваў паведамленне аб пераходзе 27 лютага петраградскага гарнізона на бок рэвалюцыі. 5 сак. адбылася агульнагар. дэманстрацыя рабочых і салдат, былі вызвалены з турмы палітычныя вязні. 3 сак. створана аб'яднаная арг-цыя РСДРП, у якую ўвайшлі бальшавікі, меншавікі і бундаўцы. 4 сак. пасяджэнне Магілёўскай гар. думы заклікала насельніцтва падтрымаць Часовы ўрад. Працягвалі дзейнічаць старыя органы ўлады. Пры Стаўцы быў створаны Саюз упаўнаважаных афіцэраў і салдат часцей і ўстаноў Стаўкі, які 8 сак. заклікаў салдат да поўнага падпарадкавання афіцэрам і вайны да пераможнага канца. Савет рабочых і салдацкіх дэпу-

*Мемарыяльная арка па вуліцы Першамайскай у Магілёве.*



*О.Ю.Шміт.*



*І.М.Нядзвецкі.*



*Панарама забудовы г. Магілёў.*





*Дом Саветаў у Магілёве.*

*Схема абароны горада Магілёва. Барэльеф на мемарыяльным комплексе «Буйніцкае поле».*



*М.М.Крэсцінскі.*

татаў пачаў дзейнічаць у Магілёве 22 сак. 1917 г.

7 ліп. выйшаў 1-ы нумар газеты «Крестьянское слово» — органа губ. Савета сял. дэпутатаў.

Пасля звяржэння Часовага ўраду і перамогі ў Петраградзе 25.10.1917 г. Кастрычніцкай рэвалюцыі Стаўка на чале з Духоніным адмовілася прызнаць Сав. ўрад, які 9.11.1917 г. змясціў ген. Духоніна з пасады галоўнакамандуючага, на якую быў прызначаны М.В.Крыленка. 18.11. 1917 г. на пашыраным пасяджэнні Магілёўскага Савета быў выбраны бальшавіцкі склад выканкома, які прызнаў законным урадам Савет Нар. Камісараў, стварыў Ваенна-рэв. к-т і перадаў яму ўсю ўладу ў горадзе і кантроль над Стаўкай.

20 ліст. ў Магілёў прыбылі рэв. войскі з Петраграда і занялі Стаўку. 26.11.1917 г. пачала выходзіць газ. «Революционная ставка». 28.11.1917 г. ВРК выдаў дэкрэт аб нацыяналізацыі памешчыцкіх маёнткаў у губерні і перадачы іх зямельным к-там. II губ. з'езд Саветаў выбраў Губ. бюро Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, прыняў рашэнне аб аб'яднанні яго з губ. бюро сял. дэпутатаў, выбраным 22.12. 1917 г. на III з'ездзе сял. дэпутатаў губерні. Аб'яднанае бюро стала вышэйшым часовым органам улады ў губерні. III губ. з'езд Саветаў (5—10.1.1918) прыняў рашэнне аб аб'яднанні Савета сял. дэпутатаў з Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 14 студз. 1918 г. на сумесным пасяджэнні выканкомаў Саветаў быў выбраны выканком Магілёўскага губ. Савета рабочых, салдацкіх і сял. дэпутатаў, чым завяршылася ўстанаўленне сав. улады ў горадзе і губерні. 10.1.1918 г. выйшаў 1-ы нумар газ. «Известия Могилёвского совета рабочих и солдатских депутатов», якая потым выходзіла пад назвай «Известия Могилёвского губревкома», а з 1.1.1919 г. — «Соха и молот».

*Панарама забудовы г. Магілёў.*







*Камень у памяць аб Канстанціне Сіманаве ў мемарыяльным комплексе «Буйніцкае поле».*

*Знак адліку кіламетраў на плошчы Леніна ў Магілёве.*

У пач. 1918 г. магіляўчане ўдзельнічалі ў ліквідацыі мяцяжу корпуса польскіх легіянераў пад камандаваннем Доўбар-Мусніцкага і спынілі яго на подступах да горада. Да 22.2.1918 г. ў Чырвоную Армію ўступілі 2 тыс. магіляўчан. Быў сфарміраваны 1-ы Магілёўскі полк рабоча-сял. Чырвонай Арміі. 12 сак. горад занялі польскія войскі і атрады польскіх легіянераў. 26.5—31.10.1918 г. Магілёў быў акупіраваны герм. войскамі.

Ва ўмовах акупацыі разгортвалася партыз. барацьба. У маі 1918 г. сіламі некалькіх партыз. атрадаў польскія войскі былі выгнаны з прыгарада Магілёва — Лупалава, дзе адразу пачаў дзейнічаць пав. к-т рабочых, сял. і салдацкіх дэпутатаў. Пасля ўступлення ў Магілёў войск Чырвонай Арміі ўлада перайшла да губ. рэв. к-та, 23 снеж. пачаў працаваць гар. Савет.

Ням. акупанты разрабавалі горад, вывезлі шмат каштоўнасцей, разбурылі гар. гаспадарку. Для кіраўніцтва прам-сцю і гасп. будаўніцтвам быў створаны губ. Савет нар. гаспадаркі, які правёў нацыяналізацыю друкарань і электрастанцый, большасці прадпрыемстваў металаапрацоўчай, скураной, харч. прам-сці. У пач. 1919 г. пачалі дзейнічаць чыгуналіцейна-механічны і масларобчы з-ды, электрастанцыя, шэраг майстэрань. 3.8.1919 г. адбыўся першы гар. суботнік, 28.11—28.12.1919 г. адбылося яшчэ 8 такіх суботнікаў на чыгунцы і лесанарыхтоўчых участках. У 1918 г. ў горадзе адкрыты першы дзіцячы сад.

У сярэдзіне студз. 1919 г. пачаў працаваць пав. камісарыят па ваенных справах, у сак. 1919 г. сфарміравана рота (200 байцоў і камандзіраў), якая была накіравана ў распараджэнне Самарскага ваеннага камісарыята. У крас. 1919 г. губваенкамат сфарміраваў 2 запасныя стралк. батальёны, 14.5.1919 г. на Зах. фронт выехала 4-я маршавая рота (252 чал.), у 2-й пал. мая 1919 г. сфарміравана 5-я маршавая рота, а таксама батальён ВЧК. У чэрв. 1919 г. з агітпоездам «Кастрычніцкая рэвалюцыя» горад наведаў М.І.Калінін. З 26.4.1919 г. да 3.3.1924 г. Магілёў з'яўляўся пав. цэнтрам Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. пасля 1-га ўзбуйнення БССР Магілёў у складзе БССР. З 17.7.1924 г. да 26.7.1930 г. цэнтр Магілёўскай акругі і Магілёўскага р-на (з 17.7.1924 г.). У 1922 г. адкрыты дашкольны дом, пачало дзейнічаць пчалаводчае каап. аб'яднанне (150 пайшчыкаў), 26.1.1924 г. — с.-г. крэдытнае т-ва. Складвалася сетка культ.-асв. устаноў. Пачалі дзейнічаць пед. курсы, у снеж. 1918 г. настаўніцкі ін-т пераўтвораны ў педага-



*Л.І.Мандэльштам.*

*Мемарыяльны комплекс «Змагарам за савецкую ўладу» ў Магілёве.*





*Завод арганічнага сінтэзу вытворчага аб'яднання «Магілёўхімвалакно».*



*Будынак ААТ «Магілёўскі тэкстыль».*

гічны, 5.10.1920 г. адкрыты Магілёўскі ін-т нар. асветы, затым — педтэхнікум. У 1923 г. ў горадзе працавала 7 9-гадовых, 7-гадовая, 5-гадовая і 6 чатырохгадовых школ. У іх навучаліся 4095 дзяўчынак і хлопчыкаў. Дзейнічалі акушэрска-фельч. і фармацэўтычны тэхнікумы. 19.2.1919 г. засн. першая ў Беларусі дзярж. муз. школа імя М.А.Рымскага-Корсакава, у якой у 1923 г. навучалася 138 чал. Узнік першы ў краіне тэхн. клуб, у якім моладзь вывучала асновы электра- і радыётэхнікі, набывала практычныя веды па электрыфікацыі. Пачалі дзейнічаць сімфанічны аркестр, студыя выяўл. мастацтва, кінатэатр. У 1920—22 гг. у Магілёве палітаддзел



*Панарама плошчы Леніна ў Магілёве.*



*Чыгуначны вакзал у Магілёве.*





Будынак Магілёўскага мясакамбіната.

Галоўны корпус Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта харчавання.

16-й арміі сфарміраваў з прафес. акцёраў і ўдзельнікаў самадзейнасці Першы чырвонаармейскі паказальны тэатр. 31.1.1919 г. адкрыўся краязнаўчы музей. У 1919 г. выходзіў часопіс «Новое хозяйство», у 1920 г. — вячэрняя насценная газета Магілёўскага аддз. РОСТА, 10.10. 1924 г. пачала выдавацца акруговая газ. «Магілёўскі селянін», якая ў 1930—41 гг. выходзіла пад назвай «Камунар Магілёўшчыны», у 1925—26 гг. выходзіў «Могилёвский коммерческий бюллетень». Дзейнічаў філіял літ. аб'яднання «Маладняк», які выдаў у 1927 г. альманах «Дняпроўскія ўсплёскі». У 1929 г. выходзіў альманах акруговага філіяла



Панарама Магілёва з боку р. Дняпро.





Мемарыяльны комплекс «Буйніцкае поле».

БелАПП «Ранне». Пад кіраўніцтвам магілёўскага «Пралеткульта» ў 1919—20 гг. склалася сетка самадзейных тэатральных гурткоў, у 1924 г. пастаўлена першая бел. опера «Вызваленне працы» М.Чуркіна. У ліст. 1924 г. ствараецца краязнаўчае т-ва, пачаў працаваць с.-г. музей пры Магілёўскім Доме селяніна. У 1925 г. ў горадзе дзейнічалі 3 вячэрнія школы, 3 цэнтр. б-кі, парт.-рабочы клуб, клубы гар. камсамольскай арг-цыі і піянераў, кінатэатр «Чырвоная зорка». У 1928 г. адкрыта педвучылішча, у 1930 г. настаўніцкі ін-т ператвораны ў педінстытут.

*Магілёўскі завод «Строммашына».*



*Магілёўскі завод ліфтавога машынабудавання.*



*Панарама вытворчага аб'яднання «Магілёўхімвалакно».*



У 1927 г. горад налічваў 50,2 тыс. чал. На працягу 1926—27 гг. рэканструяваны шэраг прадпрыемстваў, пачалі дзейнічаць кандытарская ф-ка «10 гадоў Кастрычніка», скура-абутковая ф-ка імя 1 Мая. Удзельная вага дзярж. сектара ў прам-сці горада ў 1927—28 гг. складала 88,2%, каап. — 6,2%. Хуткімі тэмпамі будавалася ф-ка штучнага валакна, пуск якой адбыўся 7.11.1930 г. У 1929 г. ўступілі ў строй швейная ф-ка, з-д па апрацоўцы скур. Непадалёку ад горада ў 1930 г. пачала дзейнічаць Магілёўская МТС, якая ў 1931 г. мела 18 трактароў, у 1936 г. 51 трактар і шмат іншай тэхнікі. Палітаддзел МТС у 1933—34 гг. выпускаў шматтыражную газ. «Сцяг Леніна». Другая МТС была створана ў Лупалаве на базе саўгаса «Новы шлях». У 1937 г. яна налічвала 45 трактараў. Трэцяя МТС знаходзілася ў в. Казімірава (зараз у складзе горада), у 1938 г. яна мела 23 трактары.

З удзелам моладзі ў пач. 1930-х г. хуткімі тэмпамі ўзводзіўся аўтарамонтны з-д. Адзначаючы вял. прац. заслугі моладзі, ЦВК БССР у 1935 г. ўзнагародзіў камсамольскую арг-цыю горада Ганаровай граматай. Былі ўзведзены трубаліцейны з-д, ф-ка па пераапрацоўцы костак, шмат новых цэхаў, участкаў, карпусоў на існуючых прадпрыемствах. Горад атрымаў дадатковую электраэнергію ад БелГРЭС, а таксама ад ЦЭЦ шаўковай ф-кі. З 15.1.1938 г. Магілёў стаў абл. цэнтрам. Яго насельніцтва ў 1939 г. складала 99,4 тыс. чал. У пач. 1940 г. ў горадзе было 210 прадпрыемстваў (12 950 рабочых). З цэнтрам у г. Магілёў дзейнічаў саўгас «Зара», які ўваходзіў у Гомельскі малочна-прам.

трэст. У 1938—39 гг. распрацоўваўся праект пераносу сталіцы Беларусі ў Магілёў у сувязі з тым, што Мінск знаходзіўся за 30 км ад зах. граніцы. 19.4.1939 г. СНК СССР і ЦК ВКП(б) прынялі пастанову «Аб гар. будаўніцтве ў Магілёве ў сувязі з пераводам сталіцы Беларускай ССР». Аднак пасля далучэння зах. бел. зямель да БССР у вер. 1939 г. неабходнасць у пераносе сталіцы адпала.

У 1920-х—30-х г. істотным чынам мянялася арх. аблічча горада. Толькі на працягу 1922—23 гг. адрамантавана 1500 м$^2$ гар. вуліц. Да 1923 г. закончана будаўніцтва мастоў праз рэкі Дубровенка і Дзебра, якія злучылі цэнтр горада з усх. і зах. раёнамі. Сфарміраваўся новы грамадскі цэнтр — плошча імя Леніна, размешчаная на скрыжаванні праспекта Міра і вул. Першамайскай. Гал. яго элемент — Дом Саветаў (1938—40 гг., архітэктар І.Лангбард). На супрацьлеглым баку — адм. будынак (1938—40 гг., архітэктар П.Абросімаў). У ансамбль плошчы ўвайшлі 5-павярховыя жылыя дамы (1938—40 гг., архітэктары А.Воінаў, А.Брэгман, В.Батоева, В.Мураўёў). На цэнтр. вуліцах актыўна вялося жыллёвае і грамадскае будаўніцтва. Былі ўзведзены гасцініца «Дняпроўская» (1938 г., архітэктар А.Воінаў), кінатэатр «Радзіма» (1939 г., архітэктар В.Вараксін) і інш. На беразе Дняпра быў створаны Цэнтр. парк культуры і адпачынку.

За 1928—33 гг. ўведзены ў эксплуатацыю 20 тыс. м$^2$ жылой пл., будынкі газетнага тэхнікума, палітасветінстытута, кінатэатра. Пачала дзейнічаць пед. вопытна-практычная школа. Прафсаюзы ў 1931 г. аб'ядноўвалі больш за 20 тыс. рабочых. Колькасць бальнічных ложкаў у 1932—37 гг. павялічылася з 328 да 575, амбулаторый — з 7 да 13, а клубаў — з 10 да 14. У 1930-я г. ў горадзе выходзіў шэраг шматтыражных газет, дзейнічаў радыёвузел (у 1937 г. было 5,5 тыс. радыёкропак). У 1938 г. пачала выходзіць абл. газета. У 1934 г. пабудавана аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1940 г. ў горадзе працавалі 22 агульнаадукац. школы, пед. і настаўніцкі ін-ты, 5 тэхнікумаў, 42 дзіцячыя сады, 12 клубаў, 2 кінатэатры, драматычны тэатр, 13 б-к, музей, 3 бальніцы, 3 дыспансеры, 6 амбулаторый. Дзейнічаў абл. навукова-мета-



*У цэху завода поліэфірных нітак вытворчага аб'яднання «Магілёўхімвалакно».*



*Забудова цэнтра г. Магілёў.*



*Вуліца Ленінская ў Магілёве.*



*Я.І.Злацін.*

дычны цэнтр самадзейнай творчасці і культ.-асв. работы.

З першых дзён Вял. Айч. вайны Магілёў стаў прыфрантавым горадам. У пач. вайны значная частка прам. абсталявання з-даў і ф-к была эвакуіравана. Патрэбную для Чырвонай Арміі прадукцыю пачалі выпускаць многія прадпрыемствы. 40 тыс. жыхароў працавалі над умацаваннем абарончай паласы. За 1 км на У ад аўтазавода імя С.М.Кірава, каля Чавускай шашы 24.6—3.7.1941 г. размяшчаўся штаб Зах. фронту. Першым сакратаром абкома з 1939 г. працаваў І.М.Макараў, які шмат зрабіў для абароны горада. Былі сфарміраваны 10 знішчальных атрадаў, якія склалі аснову нар. апалчэння. Абарону Магілёва вялі часці 61-га стралк. корпуса (ген.-маёр Ф.А.Бакунін) 13-й арміі (ген.-лейт. П.М.Філатаў, з 9 ліп. ген.-лейт. Ф.М.Рэмізаў, з 14 ліп. ген.-лейт. В.П.Герасіменка). Непасрэдна ў горадзе змагалася 172-я дывізія пад камандаваннем ген.-маёра М.П.Раманава. Яе штаб знаходзіўся ў будынку сярэдняй школы па вул. Мянжынскага. Сав. воіны і апалчэнцы гераічна абаранялі горад. Яны адцягнулі на сябе 4 пяхотныя, 3-ю танкавую, 10-ю матарызаваную варожыя дывізіі. Магілёўскае нар. апалчэнне 3—27.7.1941 г. разам з рэгулярнымі часцямі Чырвонай арміі ўдзельнічала ў гераічнай абароне Магілёва. Найбольш жорсткія баі разгарнуліся на Буйніцкім полі. У баях пад Магілёвам удзельнічаў рус. пісьменнік К.Сіманаў, які быў ваенным карэспандэнтам газ. «Известия». Згодна з яго апошнім жаданнем яго прах развеяны над Буйніцкім полем. Пад Магілёвам гітлераўцы панеслі значныя страты, абаронцы горада дапамаглі выйграць час для мабілізацыі сіл і сродкаў краіны для адпору захопнікам. 25 ліп. кіраўнікі абароны прынялі рашэнне аб выхадзе з горада і злучэнні з войскамі Чырвонай Арміі. Падраздзяленні Чырвонай Арміі і апалчэнцы, якія прыкрывалі іх адыход, вялі на вуліцах горада жорсткія баі з акупантамі да позняй ночы 27 ліп. Цяжкімі былі страты сав. воінаў і апалчэнцаў. Тысячы сав. людзей сталі ахвярамі фашызму. Толькі ў скверы па вул. Лазарэнкі пахавана каля 50 байцоў нар. апалчэння, якіх гітлераўцы расстралялі 25.7.1941 г. 27 ліп. Магілёў быў акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі і ўключаны ў зону 286-й ахоўнай дывізіі тылавога раёна групы армій «Цэнтр». Захопнікі праводзілі палітыку масавага знішчэння мясц. насельніцтва і ваеннапалонных. Былі створаны Лупалаўскі і Грабянёўскі лагеры смерці, гета ў раёне Дубровенкі, 341-ы перасыльны лагер для сав. ваеннапалонных. Каля 30 тыс. магіляўчан былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. Акупанты знішчылі ў Магілёве 70 тыс. чал., усе прам. прадпрыемствы і культ.-асв. ўстановы. З 6653 будынкаў былі разбураны ці спалены 3220.

*Забудова вуліцы Першамайскай у Магілёве.*



*Кінатэатр «Чырвоная зорка» ў Магілёве.*



Пасля заняцця ворагам горада пачало разгортваць сваю дзейнасць падполле. Сакратары гаркома партыі А.І.Марозаў і І.Л.Лаўкін, якія засталіся ў горадзе, у першы ж дзень акупацыі былі схоплены фашыстамі. Многія жыхары горада па ўласнай ініцыятыве станавіліся арганізатарамі барацьбы супраць акупантаў. З першых дзён дзейнічала падп. група ўрачоў у ваенным шпіталі, у якую ўваходзілі У.П. Кузняцоў, А.І.Паршын, Ф.І.Пашанін. Падпольшчыкі ратавалі параненых чырвонаармейцаў, перапраўлялі іх ў партыз. атрады. Здраднік выдаў патрыётаў, і яны былі павешаны на Савецкай плошчы. На чыг. вузле падп. групы ўзначалілі А.В.Гарошка, М.В.Гарбачоў і П.І.Бялько, на хлебазаводзе — М.М.Яўціхіеў, у гар. бальніцы — урач, кандыдат мед. навук М.П.Куўшынаў, на ф-цы штучнага валакна — С.С.Сабалеўскі. Ініцыятарамі стварэння падп. групы на аўтарамонтным з-дзе сталі электраманцёр В.І.Батура і бухгалтар М.І.Харкевіч. Удзельнік грамадз. вайны А.І.Шубадзёраў і шафёр В.П.Станкевіч арганізавалі баявую групу з работнікаў бліжэйшых да Магілёва МТС. Групу камандзіраў Чырвонай Арміі, якія апынуліся на акупіраванай тэр., узначаліў В.Дз.Швагрынаў. Актыўна дзейнічалі падп. групы І.С.Малашкевіча, В.М.Жывапісцавай, В.І.Базылевай, П.В.Дракава, М.В.Гарбачова. Да канца 1941 г. ў горадзе сфарміравалася шырока разгалінаваная падп. арг-цыя «Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі», якая да вясны 1942 г. аб'яднала вакол сябе большасць падп. груп. З крас. 1942 г. к-т выдаваў створаную на машынках і гектографе газ. «За Родину» (з восені 1942 г. «За Советскую Родину»). У сярэдзіне 1942 г. ў Магілёве дзейнічалі 42 падп. групы (больш за 250 патрыётаў). Праз «Камітэт садзейнічання Чырвонай Арміі» партызаны атрымалі вял. колькасць зброі і боепрыпасаў, медыкаменты, хірургічны інструмент і інш. Гераічны ўчынак здзейсніў В.І.Варчук. Яму ўдалося прабрацца ў турму, дзе знаходзіліся арыштаваныя падпольшчыкі, знішчыць ахову і вывесці вязняў да партызан. На канспіратыўных кватэрах у магілёўскіх падпольшчыкаў знаходзіліся прысланыя з-за лініі фронту разведчыцы М.Зотава (Вера), А.Анісімава, Г.Карманнікава, В.Кудзінская, В.Каласкова і інш. Магілёўскі падп. райком КП(б)Б (сакратары І.С.Зычкоў, В.І.Падаляка, І.П.Станкевіч, 9.3.1943—30.6.1944 гг.) і Магілёўскі падп. райком ЛКСМБ (сакратар В.І.Новікаў, люты 1943—30.6.1944 гг.) базіраваліся ў партыз. атрадзе № 113, а затым у Магілёўскай ваенна-аператыўнай групе. Друкаваным органам райкома партыі была газ. «Партизанская правда» (рэдактар С.І.Каўрыгін). Падпольшчык, а затым партызан 600-га атрада, ураджэнец Магілёва А.Д.Лорчанка ўдастоены звання Героя Сав. Саюза.



*Я.Л.Мінкін.*



*М.В.Лусто.*



*Будынак Магілёўскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі.*



*Гандлёвы цэнтр «Панарама» ў Магілёве.*

28.6.1944 г. злучэнні 49-й арміі ва ўзаемадзеянні са злучэннямі 50-й арміі ў выніку Магілёўскай аперацыі 2-га Бел. фронту штурмам авалодалі Магілёвам. 21 часці і злучэнню, якія вызначыліся ў гэтых баях, было прысвоена найменне «Магілёўскіх». У баях за вызваленне Магілёва 31 чал. атрымаў званне Героя Сав. Саюза. У гонар воінаў-вызваліцеляў на плошчы Перамогі ў 1967 г. пастаўлены помнік — танк на п'едэстале.



*М.І.Цвяткоў.*

Пасля вызвалення ў горадзе засталося менш за 10 тыс. жыхароў (перад вайной было 112 тыс.). Былі разбураны амаль усе прам. прадпрыемствы, камунальная гаспадарка, культурныя ўстановы, школы, жылы фонд, энергасістэма, водаправод. Адразу ж была адноўлена тэлегр. і тэлеф. сувязь, якая з кожным годам пашыралася. Пачала выходзіць абл. газ. «За Радзіму» (зараз «Магілёўская праўда»). За кароткі час былі адноўлены электрастанцыя, водаправод, каналізацыя. Пачалі працаваць школы, культ.-асв. і медыцынскія ўстановы. Уступіў у строй гар. радыёвузел, што дазволіла апрача горада радыёфікаваць у 1946 г. 13 бліжэйшых вёсак. Ужо ў 1945 г. пачалі даваць прадукцыю 25 прам. прадпрыемстваў. 1.5.1948 г. здадзена ў эксплуатацыю адноўленая ф-ка штучнага шоўку імя В.У.Куйбышава, на якой выходзіла шматтыражка «Сцяг працы». Аб'ём прам. прадукцыі горада за 1945—50 гг. павялічыўся ў 10 разоў. 30.9.1957 г. даў першы пракат Магілёўскі металургічны з-д імя А.Ф.Мяснікова. На базе пераведзенага з Пінска тэатра 29.10. 1954 г. адкрыты Магілёўскі абл. тэатр. Сіламі літ. аб'яднання ў 1950-я г. выдаваўся альманах «Днепр». У 1968 г. магілёўскі паэт А.В.Пысін за зборнік вершаў «Твае далоні» ўдастоіўся Дзярж. прэміі Беларусі імя Я.Купалы, а нар. агіттэатр «Усмешка» ў 1967 г. — прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. У 1959 г. ў Магілёве 121,7 тыс. жыхароў, у 1970 г. — 202,3 тыс. жыхароў.

У 1-е пасляваеннае дзесяцігоддзе горад развіваўся паводле генплана аднаўлення і рэканструкцыі 1947—50 гг. («Белдзяржпраект», архітэктары М.Андросаў, Г.Парсаданаў, інжынеры М.Гарэлік, В.Кандратовіч). Перабудоўвалася цэнтр. частка горада і яе асн. магістраль — вул. Першамайская. У пач. 1950-х г. тут узведзены жылыя дамы з гандл. ўстановамі на 1-м паверсе. Была завершана рэканструкцыя плошчы імя Леніна, устаноўлены помнік У.І.Леніну. Значна пашыралася тэр. паўд.-зах. прам. раёна на правым беразе Дняпра. У 1960-я г. 5—9-павярховымі жылымі дамамі забудаваны мікраараёны ў зах. частцы горада: Магілёў-2 (з 1962 г.), Мір-1, Мір-2 (з 1964 г.). У 1965 г. на Пд Магілёва пачалося будаўніцтва буйнейшага ў краіне камбіната сінтэтычнага валакна. У 1970 г. ўступіла ў строй яго 1-я чарга, а ў 1972 г. — 2-я. Новае прам. бу-



*Будынак дыягнастычнага цэнтра ў Магілёве.*



*Будынак медыцынскага вучылішча ў Магілёве.*





*Помнік воінам-афганцам у Магілёве.*

*Магілёўскія фантаны.*

даўніцтва разгарнулася і ва ўсх. раёне, дзе размясціліся з-ды ліфтабудаўнічы, прылад пярвічнай інфармацыі, камбінат шаўковых тканін і інш.

Хуткі рост горада патрабаваў распрацоўкі новага ген. плана, які быў складзены ў 1970 г. калектывам «Белдзяржпраекта» (архітэктары Ю.Глінка, М.Трыгубовіч, М.Семяненка, інжынеры Р.Абласава, У.Фядотаў). Новае жыллёвае будаўніцтва генпланам было прадугледжана на свабодных тэр. і на месцы рэканструкцыі кварталаў з драўлянымі малапавярховымі дамамі. Адным з такіх раёнаў стала былая ўскраіна Магілёва — Лупалава (сучасны Паўд., Задняпроўскі раёны), на тэр. якога сфарміраваліся новыя жылыя мікрараёны: Задняпроўскі-1, Задняпроўскі-2, Задняпроўскі-3 і інш. Тут узводзіліся буйнапанельныя жылыя дамы (ад 5 да 16 паверхаў). Гал. магістралі гэтага раёна — праспект Пушкіна і вул. Астроўскага. Другім буйным масівам, дзе вялося жыллёвае будаўніцтва, быў усх. планіровачны раён. Праз Дзебру быў пабудаваны пешаходны мост, які звязваў гэты раён з цэнтрам горада. Адначасова працягвалася рэканструкцыя цэнтра, дзе былі ўзведзены Дом палітасветы, лабараторны корпус маш.-буд. ін-та, кінатэатр «Кастрычнік», універмаг, гасцініца «Магілёў», абл. Палац піянераў і школьнікаў, будынак абкома КПБ, гал. корпус пед. ін-та, вучэбны корпус буд. тэхнікума, будынак аблсаўпрофа, Дом быту, 9—12-павярховы жылы дом з рэстаранам «Габрава» і магазінам «Універсам» па вул. Першамайскай і інш. У 1982 г. на Савецкай плошчы створаны мемарыяльны комплекс «Змагарам за Савецкую уладу» (скульптар А.Гумілеўскі, архітэк-

*Спартыўны комплекс «Алімпіец» у Магілёве.*



тары К.Аляксееў, А.Іваноў). 27.3.1973 г. ў склад горада ўвайшлі пасёлкі Гомельская шаша, Слаўгарадская шаша, Доўгае, Дубінец, у 1979 г. — вёскі Малая Бароўка, Дары 2.

Паводле генплана 1981 г. (БелНДІП-горадабудаўніцтва, архітэктары Ю.Глінка, А.Горб, М.Мызнікаў, інжынеры Р.Абласава, А.Валовіч) было прадугледжана развіццё горада ў паўн.-ўсх. і паўн. напрамках, стварэнне 5 планіровачных раёнаў: цэнтр., паўн., паўд., усх., зах. Было намечана далейшае развіццё грамадскага цэнтра (вул. Першамайская з сістэмай плошчаў — Савецкай, Леніна, Прывакзальнай і праспект Міру), дзе ствараўся новы грамадска-гандл. цэнтр. Прам. зона размяшчалася ў паўдн. і ўсх. частках горада. Генплан 2003 г. (архітэктар А.Горб) распрацаваны ў сувязі са значнымі зменамі сац.-эканам. умоў, новых прыярытэтаў у жыллёвым будаўніцтве, новых буд. норм і інш. Пры стварэнні генплана быў праведзены аналіз гіст. развіцця Магілёва і яго планіровачнай структуры, тэндэнцый развіцця горада. У 2006 г. быў зацверджаны дэталёвы план цэнтр. часткі горада з праектам рэгенерацыі гіст. зоны (гал. архітэктар Горб). Былі распрацаваны комплексныя рашэнні па забеспячэнні аховы, рэстаўрацыі і эфектыўнага выкарыстання помнікаў архітэктуры, добраўпарадкаванні тэр. прыроднага ландшафту, арганізацыі іх сувязі з сучаснай і перспектыўнай арх.-планіровачнай структурай горада.



В.А.Пяньkоўскі.



А.М.Гаранін.

Магілёўскія фантаны.



У 1980-я г. Магілёў з'яўляўся буйным індустр. і культурным цэнтрам. Ён даваў амаль палову прам. прадукцыі вобласці. Буйнейшымі прадпрыемствамі з'яўляліся вытв. аб'яднанне «Хімвалакно», з-ды аўтамабільны імя С.М.Кірава, ліфтабудаўнічы, «Строммашына», «Чырвоны металіст», тэхналагічнай аснасткі, «Электрарухавік», металургічны імя А.Ф.Мяснікова, жалезабетонных канструкцый, тэхналагічных металаканструкцый, камбінаты будаўнічых матэрыялаў і сілікатных вырабаў, домабудаўнічы, хімкамбінат «Зара». Шырокае развіццё ў горадзе атрымала лёгкая (камбінат шаўковых тканін, які ўступіў у строй у 1974 г., швейная і абутковая ф-кі, гарбарны з-д), харч. і мясамалочная прамысловасць, дзейнічала ф-ка мастацкіх вырабаў. Рашаючым фактарам развіцця эканомікі горада стала шырокае ўкараненне ў вытв-сць дасягненняў навукова-тэхн. прагрэсу. Раслі тэмпы будаўніцтва жылля. Узведзены шэраг значных аб'ектаў сац.-культурнага прызначэння.

У 1983 г. ў Магілёве дзейнічалі 35 агульнаадукац., 10 вячэрніх сярэдніх школ, 99 дзіцячых устаноў, 12 ПТВ, 8 сярэдніх спец. устаноў — політэхн., будаўнічы, бібліятэчны, хіміка-тэхналагічны тэхнікумы, пед., медыцынскае, муз. і культ.-асв. вучылішчы, 6 муз. і адна мастацкая школа. Працавалі ін-ты: маш.-буд. (з 1.9.1961 г.), пед. імя А.А.Куляшова (з 1918 г.), тэхналагічны (з 1973 г.), філіялы ін-та фізікі і фізіка-тэхналагічнага ін-та Акадэміі навук Беларусі (з 1970 г.), абл. імя Леніна (з 1938 г.), 94 масавыя б-кі, 32 клубныя ўстановы, 23 кінаўстаноўкі, абл. краязнаўчы музей, абл. драмтэатр. У 1968 г. створаны Дом самадзейнай творчасці і міжсаюзны Дом самадзейнай творчасці аблсаўпрофа. У вер. 1976 г. з выпускнікоў Магілёўскага культ.-асв. вучылішча створаны Магілёўскі абл. тэатр лялек. Самадзейным калектывам: Магілёўскай харавой капэле медыцынскіх работнікаў,




На фестывалі «Залаты шлягер» у Магілёве. 2005 г.

тэатру клуба чыгуначнікаў, тэатру і агіттэатру «Усмешка» Палаца культуры з-да штучнага валакна, Гарадской харавой капэле, ансамблю танца «Вяснянка», дзіцячаму духавому аркестру, ансамблю песні і танца «Прасніца», духавому аркестру і дзіцячаму ансамблю гісторыка-быт. танца «Менуэт», ансамблю танца, дзіцячаму харэаграфічнаму ансамблю «Радасць», дзіцячаму харавому калектыву Дома культуры з-да штучнага валакна, духавому аркестру Палаца піянераў і школьнікаў, аркестру нар. інструментаў, харавой капэле і сімфанічнаму аркестру гар. Дома культуры, магілёўскаму танцавальнаму калектыву «Дружба» і хору нар. песні Дома культуры швейнай ф-кі прысвоены званні народных. Дзейнічаюць аддзяленні Саюза пісьменнікаў, Саюза журналістаў, Саюза мастакоў Беларусі. Выдаваліся газеты: абл. «Магілёўская праўда», раённая «Сацыялістычная праца», шматтыражкі шэрагу буйных прадпрыемстваў. Дзейнічалі рэдакцыі абл., гар. і раённага радыёвяшчання, радыёвяшчання ў вытв. аб'яднаннях «Хімвалакно», шаўковых тканін, на аўтазаводзе імя С.М.Кірава, 3-праграмны тэлевізійны рэтранслятар. Гарадскі радыёвузел з 1962 г. вёў 3-праграмнае радыёвяшчанне. Працавалі 9 бальніц, 9 паліклінік, 7 дыспансераў, 92 фельч. пункты, 5 урачэбных пунктаў, 2 санстацыі, 20 аптэк. Зона адпачынку — лесапаркі Пячэрскі са штучным возерам і Любушкі, Цэнтр. парк культуры і адпачынку ўздоўж правага берага Дняпра.

Зараз Магілёў з'яўляецца буйным прам. цэнтрам Беларусі. У 2006 г. ў горадзе дзейнічалі 64 прам. прадпрыемствы, якімі выраблена 4% ад агульнарэсп. аб'ёму прам. прадукцыі, 46% ад аб'ёму прадукцыі, выпрабленай у Магілёўскай вобл. У горадзе дзейнічаюць 340 будаўнічых арг-цый, 20 прадпрыемстваў транспарту, 6 устаноў сувязі. Вядучая галіна прам-сці — хім., на якую прыпадае 23,7% ад аб'ёму прам. вытв-сці горада. Яна прадстаўлена ААТ «Хімвалакно», Магілёўскім з-дам штучнага валакна і інш. Вядучыя прадпрыемствы ў галіне машынабудавання і металаапрацоўкі: Магілёўскі з-д ліфтавога машынабудавання, Магілёўскі з-д «Электрарухавік», Магілёўскі з-д «Строммашына», Магілёўскі металургічны з-д, Магілёўскі аўтамабільны з-д і інш. Лёгкую прам-сць прадстаўляюць прадпрыемства «Магілёўскі тэкстыль» і ЗАТ «Сопотэкс», якія выпускаюць больш за 60 найменняў тканін. Працуюць таксама Магілёўская швейная фірма «Вяснянка», швейная ф-ка «АКМО», ААТ «Абутак», Магілёўскае прадпрыемства «Лента» і



А.М.Рубінаў.



Ю.І.Меранцоў.

Будынак «Тэлерадыёкампаніі «Магілёў».







*У студыі канала «Радыё-Магілёў».*

*У студыі тэлебачання «Тэлерадыёкампанія «Магілёў».*

інш. Дзейнічаюць прадпрыемствы харч. прам-сці — ААТ «Бабуліна крынка», мясакамбінат і камбінат хлебапрадуктаў, жэлацінавы з-д, прадпрыемства «Вейнянскі раднік», Магілёўская бройлерная птушкафабрыка і інш. З 2002 г. дзейнічае свабодная эканам. зона «Магілёў», якая ўключае 12 прадпрыемстваў-рэзідэнтаў.



*В.Ц.Турай.*



*Г.С.Аўсяннікаў.*

У 2007 г. ў Магілёве дзейнічалі: 92 дашкольныя ўстановы, 13 устаноў пазашкольнага навучання і выхавання, 40 агульнаадукац. школ, 4 ліцэі, 5 гімназій, 2 спецылізаваныя школы для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Працавалі 6 муз., 23 дзіцяча-юнацкія спарт. школы, 13 ПТВ, 8 сярэдніх спец. навуч. устаноў, у ліку якіх арх.-будаўнічы каледж, бібліятэчны тэхнікум, каледж МУС Рэспублікі Беларусь, політэхн. каледж, хіміка-тэхналагічны тэхнікум, медыцынскае вучылішча, муз. вучылішча і вучылішча культуры. Дзейнічалі 5 ВНУ: Бел.-Рас. ун-т, ун-т імя Куляшова, ун-т харчавання, філіялы Бел. ін-та правазнаўства і Бел. акадэміі музыкі. У горадзе было 15 устаноў культуры, 3 кінатэатры, 49 аматарскіх аб'яднанняў, 230 клубных устаноў, 164 калектывы мастацкай самадзейнасці. Функцыяніравалі 19 масавых б-к, музеі: абл. краязнаўчы, абл. мастацкі імя П.В.Масленікава, этнаграфіі, мастацкі В.К.Бялыніцкага-Бірулі (філіял Нац. мастацкага музея Беларусі), гісторыі Магілёва і яго філіял на Буйніцкім полі. Дзейнічаюць Магілёўскі абл. драматычны тэатр, Магілёўскі абл. тэатр лялек, аматарскія драматычныя калектывы. Штогод у Магілёве праводзіцца больш за 3 тыс. культ. мерапрыемстваў, сярод якіх фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа», муз. «Залаты шлягер», анімацыйнага кіно «Анімаёўка» і інш.

У горадзе друкаваліся 10 газет, у ліку якіх «Магілёўская праўда», «Магілёўскія ведамасці», «Прыдняпроўская ніва», «Вячэрні Магілёў», «Веснік Магілёва» і інш. З 2003 г. дзейнічае «Тэлерадыёкампанія «Магілёў».

Магілёў — радзіма Герояў Сав. Саюза Я.І.Злаціна (1913—65) і М.В.Лусты (1921—89), члена экіпажа ледакола «Георгій Сядоў», палярніка, Героя Сав. Саюза В.М.Нядзведскага (1908—65); ген.-лей. артылерыі А.М.Гараніна (1898—1970), ген. арміі В.А.Пянькоўскага (1904—69), віцэ-адмірала М.І.Цвяткова (1904—55), ген.-маёра Ю.І.Меранцова (н. 1954); рэвалюцыянера-народніка, аднаго з кіраўнікоў «Народнай волі» Р.П. Ісаева (1857—86), дзеяча міжнар. рэв. руху, вучонага М.К.Судзілоўскага (1850—1930), парт. і дзярж. дзеяча, дыпламата М.М.Крэсцінскага (1883—1938); вучонага-фізіка, акадэміка Акадэміі навук Расіі Л.І.Мандэльштама (1879—1944), бел. геолага, чл.-кар. Акадэміі навук Беларусі А.М.Розіна (1881—1942), бел. фізіка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, 1-га нам. кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.М.Рубінава (н. 1939), сав. вучонага ў галіне матэматыкі, астраноміі і геафізікі, даследчыка Арктыкі, акадэміка Акадэміі навук Расіі, героя Сав. Саюза О.Ю.Шміта (1891—1956), фалькларыста і этнографа П.В.Шэйна (1826—1900); аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр.

Віцебскай вобл. ў Вял. Айч. вайну В.М. Фралова (1904—71), аднаго з кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. М.В.Шпака (1903—54); бел. мастакоў Н.М.Воранава (1916—78), Л.П.Дубара (1925—78), М.І.Манасзона (1907—80); скульптара П.П.Яцыны (1906—64); бел. акцёраў, нар. артыстаў Беларусі М.С.Бялінскай (1906—90) і Г.С.Аўсяннікава (н. 1935); бел. кінарэжысёра, нар. артыста Беларусі В.Ц.Турава (1936—96) і інш.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 28, спр. 67, 102.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1, воп. 5, спр. 177. 639; ф. 31, воп. 1, спр. 92; воп. 3, спр. 10; ф. 42, воп. 1, спр. 115б, 730, 1127, 1344; ф. 48, воп. 1, спр. 2123; ф. 141, воп. 1, спр. 206; ф. 200, воп. 1, спр. 190; ф. 300, воп. 1, спр. 1, 226; ф. 694, воп. 1, спр. 1316; ф. 1024, воп. 1, спр. 682; воп. 5, спр. 179.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 6, воп. 1, спр. 1.
Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, ф. 102, 4 сп-ва, 1907 г., спр. 41, ч. 2; ф. 102, 4 сп-ва, 1914 г., спр. 108, ч. 41; ф. 10400, 1905 г., спр. 1877, ч. 39; ф. 1165, воп. 1, спр. 245.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1350, воп. 312, спр. 94.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 273, воп. 12, спр. 330; ф. 389, воп. 1, спр. 330.
Архіў Акадэміі навук Расійскай Федэрацыі ў Санкт-Пецярбургу, ф. 30, воп. 2, спр. 110.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 1280, воп. 1, спр. 27.
Рукапіснае аддзяленне бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. А-4914.
Экономические примечания к генеральному межеванию Могилевской губернии. План Могилева по межеванию. 1783.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1862 год. Могилев, 1862.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западного края России. Т. 2. СПб., 1867.
Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. 1. Витебск, 1871.
Русский архив. 1873. Вып. 20, 24.
Памятная книжка Могилёвской губернии на 1874 год. Могилев, 1874.
Русская старина. Т. 2. СПб., 1877.
Северо-Западный край. 1905. 10 июня.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1—2. Могилев, 1882.
Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.
Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905.
Могилевский вестник. 1907. 3, 4, 5, 11 окт.; 13 нояб.
Список населенных мест Могилёвской губернии. Могилёв, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 год. Могилев, 1911.
Акты, документы и материалы истории 1812 г. Т. 3. СПб., 1912.
Романов Е.Г. Археологические разведки в Могилевской губернии. Вильна, [1912].
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 год. Вильна, 1915.
Известия Могилевского Губернского Исполнительного комитета Советов Крестьянских, Солдатских и Рабочих депутатов. 21.2.1918.
Путь Советов. 1920. 14 апр.
Беларускі архіў. Т. 1. (XVI—XVII ст.). Мн., 1927.
Віткоўскі Я. Рэвалюцыйныя гурткі 70-х г. на Беларусі // Полымя. 1929. № 4.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3—4. Мн., 1953—54.
Каменская Н. Первые социалистические преобразования в Белоруссии (25 окт. 1917 — июль 1919 г.). Мн., 1957.

Закалинская Е.П. Вотчинные хозяйства Могилевской губернии во второй половине XVIII в. Могилев, 1958.
Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 1. Мн., 1959.
Игнатенко А.П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв. Мн., 1963.
Русско-белорусские связи: сб. документов (1570—1667 гг.). Мн., 1963.
Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972.
Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667—1686 гг.). Мн., 1972.
Селиванов П.А. Военное строительство в Белоруссии в период разгрома походов Антанты. Мн., 1973.
Полное собрание русских летописей. Т. 32. Баркулабовская летопись. М., 1975.
Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско-литовские. М., 1980.
Бич М.О. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг. Мн., 1983.
Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са стараж. часоў да 1917 г. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Мелешко В.И. Могилев в XVI — середине XVII в. Мн., 1988.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.
Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. 2 изд. Мн., 1995. СПб., 1855.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944). Мн., 1995.
Памяць: гіст.-дак. хроніка Магілёва. Мн., 1998.
Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі: энцыкл. давед. 2 выд. Мн., 2000.
Памяць Беларусі. Мн., 2005.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі. Мн., 2007.



# АСІПОВІЦКІ РАЁН

Размешчаны на ПдЗ вобласці. Пл. 1,9 тыс. км². Насельніцтва (2006) 53,5 тыс. чал., гарадскога 71,2%. У складзе насельніцтва беларусы (83,6%), рускія (12,4%), украінцы (2,8%), палякі (0,3%) і інш. (0,9%). Сярэдняя шчыльнасць 28,2 тыс. чал. на 1 км². Цэнтр — г. Асіповічы; у складзе раёна рабочыя пасёлкі Ялізава і Татарка; 158 сельскіх населеных пунктаў, 10 сельсаветаў: Вяззеўскі, Градзянскі, Дараганаўскі, Дрычынскі, Карытненскі, Лапіцкі, Ліпеньскі, Пратасевіцкі, Свіслацкі, Ясеньскі; Ялізаўскі і Татарскі пас. Саветы. Па тэр. раёна праходзяць чыг. Мінск—Бабруйск, Магілёў—Баранавічы, аўтадарога Мінск—Гомель.

Утвораны 17.7.1924 г. Да 26.7.1930 г. ў складзе Бабруйскай акругі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На тэр. раёна дзейнічалі Асіповіцкае антыфашысцкае падполле, партызаны Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы (з ліп. 1943), брыгад 1-й Асіповіцкай, 1-й Бабруйскай, 161-й імя Катоўскага. Акупанты знішчылі ў раёне (з Асіповічамі) 1979 сав. грамадзян, разам з жыхарамі вёскі Бортнае, Весялова, Макоўе, Старонка (пасля вайны не адноўлены). Вызвалены ў чэрв. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту ў ходзе Бабруйскай аперацыі 1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Магілёўскай абласцях. 25.12.1962 г. Асіповіцкі р-н скасаваны, яго тэр. перададзена ў Бабруйскі р-н. 6.1.1965 г. адноўлены. У 1978 г. ў раёне 176 населеных пунктаў, 12 сельсаветаў, на 1.1.1989 г. — 165 населеных пунктаў, 12 сельсаветаў.

Тэр. раёна ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Пераважаюць высоты 150—170 м над узроўнем мора; самы высокі пункт 206,5 м (за 4 км на З ад в. Пратасевічы). Карысныя выкапні: торф, будаўнічыя пяскі, гліны. Сярэдняя т-ра студз. -6,8 °С, ліп. 17,9 °С. Ападкаў выпадае 640 мм у год. Найбольш буйныя рэкі Бярэзіна з прытокамі Свіслач (з Сіняй, Ботчай, Жыцінкай, Калінкай), Пціч. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя і інш. Каля 57% тэр. раёна займаюць лясы. Пад балотамі 32 тыс. га. Помнікі прыроды рэсп. значэння — дубы-волаты ў Брыцалавіцкім і Кастрычніцкім лясніцтвах. Сельгасугоддзі займаюць 30% тэр. раёна. Працуюць прадпрыемствы харч., паліў-





*Рака Свіслач у Асіповіцкім раёне.*

*«Тут карані, адсюль вытокі...».*



Кавярня «Транзіт».



Асіповіцкі завод аўтамабільных агрэгатаў.

най, шкляной прам-сці. Дзейнічаюць бел. гімназія, прафес. ліцэй №8, 23 сярэднія, 6 базавых, 1 пач. школа-сад, 28 дашкольных устаноў, спец. школа-інтэрнат, муз. школа, школа мастацтваў, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, клуб дзіцячага і юнацкага турызму і краязнаўства, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Ёсць 33 клубныя ўстановы, Цэнтр нар. рамёстваў, 35 б-к. Выдаецца газ. «Асіповіцкі край». Працуюць 5 бальніц, 5 амбулаторый, 21 фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы санаторый «Свіслач», аздараўленчы лагер «Вяззе», база адпачынку «Бярозка». Зона адпачынку Асіповічы. У раёне 18 рэліг. абшчын, у т. л. 9 праваслаўных, 6 пратэстанцкіх, 3 рымска-каталіцкія.



Сучасны герб г. Асіповічы.

**АСІПОВІЧЫ** — горад абл. падпарадкавання, цэнтр раёна, за 133 км на ПдЗ ад Магілёва. Чыг. вузел 4 напрамкаў — на Мінск, Гомель, Магілёў, Баранавічы. На Пд і У р. Сіняя (прыток Свіслачы), на ПдЗ мяжуе з лесам. 34,3 тыс. жыхароў (2006).

Чыгуначны вакзал у г. Асіповічы.



На месцы сучаснага горада ў 18 ст. была вёска, якая ў 1787 г. налічвала 17 дымоў, у складзе фальварка Пратасевічы, уладанне Д.Радзівіла ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле інвентару 1805 г. 22 дымы, 146 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 26 двароў. Апрача земляробства і жывёлагадоўлі вяскоўцы займаліся ткацкім, рыбалоўным і дрэваапрацоўчым промысламі. У 1885 г. засн. лесапільнае і мукамольнае прадпрыемствы. За 2 км ад вёскі сярод ляснога масіву на Лібава-Роменскай чыгунцы ў 1872 г. была засн. станцыя 2-га класа Асіповічы (у 1872 — 4 драўляныя дамы, 20 жыхароў). Чыгунка спрыяла пашырэнню лесараспрацовак, развіццю рамёстваў. У канцы 1880-х — 1-й пал. 1990-х г. былі ўзведзены 2 лесапільныя з-ды, млын, некалькі жылых дамоў, меліся паштовае аддз., заезны дом. У 1896 г. пракладзена вузкакалейка Асіповічы—Дараганава. Паводле перапісу 1897 г. вёска (78 двароў, 449 жыхароў), чыг. станцыя (11 двароў, 99 жыхароў), пасёлак пры станцыі (38 двароў, 190 жыхароў, заезны дом, 4 крамы, у Замошскай вол. Бабруйскага павета. У 1900 г. засн. шпаланасычальны з-д. Пасёлак у пач. 20 ст.ператварыўся ў гар. пасяленне з хлебапякарняй, майстэрнямі па вырабе і рамонце колаў, саней, с.-г. прылад (сох, плугоў, кос, сярпоў, розных хатніх рэчаў). У 1904 г. ў пасёлку і на станцыі каля 150 двароў, больш за 1000 жыхароў, 41 вуліца і завулак агульнай працягласцю 31,3





*На раённым фестывалі «Вясновыя колеры» ў Асіповічах.*

*Крыжаўзвіжанская царква ў Асіповічах.*

вярсты, 4 плошчы, заезны дом, паштовае аддз., млын, аптэчны магазін, 3 з-ды, 13 рамесных майстэрняў (47 рамеснікаў), прыёмны пакой, акушэрка, фельчар.

У 1905—07 гг. у Асіповічах прайшлі буйныя выступленні працоўных. 17.9. 1905 г. адбылася дэманстрацыя, 17.3.1908 г. — забастоўка на шпаланасычальным з-дзе, якую ўладальнікі з-да падавілі ваеннай сілай. Чыгунка Асіповічы—Дараганава ў 1905—07 гг. была падоўжана да ст. Урэчча. Асіповічы ператварыліся ў чыг. вузел, адкуль штогод адгружалася больш за 1 млн. пудоў лясных грузаў. Дзейнічалі 2 школы граматы, у 1908 г. пабудаваны паравы млын, у 1909 г. засн. смалакурня, устаноўлена сувязь з Мінскам, Магілёвам і інш. У 1913 г. пачало дзейнічаць паравознае дэпо. Чыгунка Асіповічы—Урэчча ў 1915 г. падоўжана да г. Слуцка і перароблена на шырокую каляю. У жн.—вер. 1915 г. адбыліся хваляванні салдат Асіповіцкага гарнізона. У 1917 г. на станцыі 20 двароў, 224 жыхары, у вёсцы 112 двароў, 601 жыхар, прыстанцыйны пасёлак ператвораны ў мястэчка (354 двары, 4178 жыхароў). 21.11.1917 г. надрукавана паведамленне аб устанаўленні сав. улады, у снеж. 1917 г. сфарміраваны чырвонагвардзейскі атрад (1 тыс. чал.), які ў студз.—лютым 1918 г. прымаў удзел у разгроме контррэв. корпуса ген. Доўбар-Мусніцкага. З 19.2 да ліст. 1918 г. акупіравана германскімі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1919—20 гг. у наваколлі дзейнічалі партыз. атрады (узначальвалі Я.Багдановіч, А.Каралёк, Дз.Х. Трубачоў). У 1921 г. пачала працаваць аптэка, адноўлены тэлеграф, адкрыты 2 школы, клуб чыгуначнікаў, у 1923 — б-ка. Са студз. 1922 г. Асіповічы — цэнтр воласці. 17.1.1922 г. створаны кааператыў, 4.5.1922 — с.-г. т-ва. У 1922 г. пачала дзейнічаць электрастанцыя, у 1923 г. — смалакурная арцель «Чырвоны хімік». У 1924 г. адкрыты нар. дом і бальніца, у 1925 г. — 2 амбулаторыі. Былі адноўлены паравознае дэпо, лесапільныя з-ды, млын, некалькі кустарных майстэрняў, у 1925 г. засн. пчалаводчы кааператыў. У 1926 г. засн. метэаралагічная станцыя. З 17.7.1924 г. да 25.12.1962 г. і з 6.1.1965 г. цэнтр Асіповіцкага р-на Бабруйскай (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. зноў Бабруйскай, з 16.7.1954 г. Магілёўскай абл. З 20.8.1924 г. да 1.1.1925 г. цэнтр Асіповіцкага-1 і Асіповіцкага-2 сельсаветаў, з 1.1.1925 Асіповіцкага с/с. У канцы 1925 г. з'явілася радыё. У 1926 г. ў гар. пасёлку 450 гаспадарак, 3504 жыхары, у вёсцы — 113 двароў, 616



*М.Р.Абросімаў.*

*Паравоз-помнік каля вакзала ў г. Асіповічы.*





*На Асіповіцкім малочным камбінаце.*

жыхароў, на чыг. станцыі — 141 жыхар. У 1931 г. створана МТС (у 1938 — 51 трактар, 4 камбайны, 9 складаных малатарань). У 1932 г. створаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, пачала выходзіць раённая газета. У 1933—34 гг. палітаддзел МТС выпускаў шматтыражную газ. «Палітаддзельская праўда». Для рабочых лесарапрацовак у 1934 г. выпускалася шматтыражная газ. «Чырвоны лесаруб». 15.7.1935 г. Асіповічы пераўтвораны ў горад. Узведзены будынкі сярэдняй школы,

*Баскетбольная каманда «АЗАК» (г. Асіповічы).*



радзільнага дома, грамадскай лазні. У 1940 г. — 961 дом, каля 14 тыс. жыхароў.

У Вял. Айч. вайну 30.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. і жн. 1941 на тэр. раёна дзейнічалі сав. кавалерыйскія і дэсантныя часці. Адну з першых падп. груп арганізаваў у 1941 г. на чыг. вузле машыніст паравознага дэпо М.С.Шведаў. Падпольшчыкі дзейнічалі таксама на радыёвузле, у чыг. і грамадскай бальніцах і іншых месцах. З гар. друкарні ў 1942 г. патрыёты вынеслі шрыфт для партыз. друкарні. Камсамолец-падпольшчык Ф.А.Крыловіч 30.7.1943 г. зрабіў на чыг. вузле дыверсію, у выніку якой былі ўзарваны 4 эшалоны з боепрыпасамі, палівам і тэхнікай, у т.л. з танкамі «Тыгр». За гэты подзвіг Крыловіч узнагароджаны ордэнам Леніна. 24.10.1943 г. падпольшчыкі спалілі маслазавод. Усяго за час акупацыі яны вывелі са строю больш за 70 паравозаў, каля 30 чыг. эшалонаў з баявой тэхнікай і жывой сілай праціўніка. Напярэдадні вайны старшыня сельсавета М.Ф.Каралёў быў прызначаны на пасаду старшыні райвыканкама. На акупіраванай тэр. ён сфарміраваў і ўзначаліў партыз. атрад. За праяўлены гераізм і мужнасць быў удастоены звання Героя Сав. Саюза і воінскага звання ген.-маёр.

28.6.1944 г. часці 1-га Бел. фронту і партызаны Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы вызвалілі горад. У баі каля Асіповіч 30.6.1944 г. вызначыўся яфрэйтар М.Р.Абросімаў, удастоены звання Героя Сав. Саюза. Яго імя носіць вуліца ў горадзе. Сав. воіны і партызаны, якія загінулі ў баях за вызваленне Асіповіч, пахаваны ў брацкіх магілах па вул. Сумчанкі, на могілках па вуліцах Піянерскай, Крупскай і Гармашава. У скверы па вул. Абросімава пахаваны 5 партызан. Сярод іх Герой Сав. Саюза Б.М.Дзмітрыеў, імем якога названа адна з вуліц горада і сярэдняя школа №1. На могілках па вул. Крупскай пахаваны Герой Сав. Саюза П.І.Марозаў (1.7.1924—26.12.1952). У гонар вызвалення горада ад ням.-фаш. захопні-

каў у 1984 г. па вул. Рабоча-сялянскай пастаўлены помнік — гармата на пастаменце.

З вер. 1944 г. Асіповічы ў Бабруйскай, са студз. 1954 г. зноў у Магілёўскай абл. У хуткім часе пасля вызвалення аднавілі работу леспрамгас, млын, маслазавод, арцелі «Чырвоны хімік», «Прагрэс», «Сацпраца», узнавілася тэлеф. і тэлегр. сувязь, якая з кожным годам пашыралася. Пачаў дзейнічаць радыёвузел. Падняліся з руін дэпо і чыг. станцыя. У наступныя гады рэканструяваліся і пашыраліся прадпрыемствы, узводзіліся новыя. У 1953 г. ў ваколіцах горада пабудавана вадасховішча і ГЭС. У 1959 г. ў горадзе 15 777 тыс. жыхароў. Са снеж. 1962 г. да студз. 1965 г. ў складзе Бабруйскага р-на, потым зноў цэнтр раёна. З 7.3.1963 г. — горад абл. падпарадкавання. У 1979 г. да горада далучана в. Перамога (былая в. Асіповічы).

У 1990 г. дзейнічаў кардонна-рубіройдавы завод (пабудаваны ў 1972). Працавалі з-д жалезабетонных канструкцый, прамкамбінат, леспрамгас, лягсас, лясніцтва, з-д аўтамабільных агрэгатаў, камбінаты хлебапрадуктаў, быт. абслугоўвання насельніцтва, маслазавод, кансервавы з-д, фабрыкі канцтавараў і канцэнтратаў. За высокія вытв. поспехі дарожны майстар А.А.Прановіч у 1981 г. ўдастоены звання Героя Сацыяліст. Працы.

У 2006 г. працавалі прадпрыемствы машынабудавання і металаапрацоўкі, буд.



У радзільным аддзяленні цэнтральнай раённай бальніцы г. Асіповічы.

матэрыялаў, харч. прам-сці. Дзейнічалі прафес. ліцэй, бел. гімназія, 4 сярэднія школы, спец. школа-інтэрнат, дзіцячаюнацкая спарт. і муз. школы, школа мастацтваў, 12 дзіцячых дашкольных устаноў, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Працавалі раённы Цэнтр культуры, 5 б-к, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, клуб дзіцячага і юнацкага турызму і краязнаўства, раённы Цэнтр нар. рамёстваў, 2 бальніцы, паліклініка, аптэкі і аптэчныя пункты, раённыя тэр. цэнтры абслугоўвання насельніцтва. У горадзе 2



Узвіжанская царква ў г. Асіповічы.



У цэнтральным парку г. Асіповічы.

гасцініцы, 2 Дамы быту, камбінат быт. абслугоўвання, 2 пункты калектыўнага карыстання, камп'ютэрны клуб, аўташколы і клубы ДТСААФ, стадыёны, спарт. залы і комплексныя спарт. пляцоўкі, рэстараны, кафэ, гар. рынак, 5 аддзяленняў сувязі і інш. Асіповіцкі гісторыка-краязнаўчы музей. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магілы ахвяр фашызму. Помнік Вызвалення. Помнік архітэктуры — Крыжаўзвіжанская царква.



*У плавальным басейне «Дэльфін» г. Асіповічы.*

У горадзе нарадзіліся: М.К.Ананьеў (н. 12.4.1949), дзярж. дзеяч Рэспублікі Беларусь; Н.В.Каменская (10.1.1914—22.3.1986), бел. гісторык, чл.-кар. Акадэміі навук Беларусі, доктар гіст. навук, праф., засл. дзеяч навукі Беларусі; Г.А. Мятлюк (н. 14.10.1936), бел. мовазнавец, доктар філалагічных навук, праф.; А.А. Чванкін (н. 18.3.1948), ген.-маёр унутранай службы, дзярж. дзеяч Рэспублікі Беларусь; Шпак Г.І. (н. 8.9.1943), расійскі ваен. дзеяч, ген.-палкоўнік.



*М.К.Ананьеў.*



*Н.В.Каменская.*

**АГУЛА** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 5 км на У ад Асіповіч, 1,5 км ад чыг. ст. Асіповічы-2 на лініі Асіповічы—Магілёў, 135 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. Аўтадарогай звязана з раённым цэнтрам. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1897 г. ўрочышча (1 двор, 8 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета. У 1907 г. засценак, 6 двароў, 47 жыхароў, у 1907 г. 9 двароў, 54 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 17.7.1924 г. ў Асіповіцкім р-не (да 16.7.1930 Бабруйскай акругі), з 15.1. 1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. Бабруйскай абл. У 1926 г. 65 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Новая зара». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 25.12.1965 г. да 6.1.1965 г. ў Бабруйскім р-не. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары, у 1970 г. 44 жыхары, у 1986 г. 16 гаспадарак, 24 жыхары. У 2002 г. ў А. 9 гаспадарак, 16 жыхароў. Прамалінейная вуліца, трасіраваная перпендыкулярна да чыгункі Асіповічы—Ялізава, забудавана двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.



*Вуліца Сумчанкі ў Асіповічах.*

**АЗЯРЫШЧА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйчы—Градзянка, 151 км ад Магілёва, на левым беразе р. Свіслач (прыток Бярэзіны), на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 20 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдУ ад вёскі на беразе Асіповіцкага вадасховішча захаваўся курганны могільнік (130 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. 25 двароў, 156 жыхароў. На пач. 20 ст. 28 двароў, 238 жыхароў, у 1917 г. 37 двароў, 189 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 17.7.1924 г. ў Свіслацкім (да 26.7.1930 Бабруйскай акругі), з 8.7.1931 г. ў Асіповіцкім р-нах, з 15.1.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. Бабруйскай абл. У 1930 г. ство-



Рэстаран «Пралеска» ў г. Асіповічы.

раны калгас «Зара камунізму». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 вяскоўцаў. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Бабруйскім р-не. Паводле перапісу 1959 г. 218 жыхароў, у 1970 г. 172 жыхары, у 1986 г. 47 гаспадарак, 87 жыхароў. У 2002 г. ў А. 24 гаспадаркі, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай уздоўж ракі вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 19 км на У ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Бабруйск, 115 км ад Магілёва, на аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1987 г. пасёлак ва ўрочышчы Александрова (12 двароў, 86 жыхароў), у Замошскай вол. Бабруйскага павета. У 1907 г. 19 двароў, 130 жыхароў, у 1917 г. — 23 двары, 143 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 28 двароў, 156 жыхароў. У 1932 г. створаны калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 34 жыхары, у 1986 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2002 г. ў А. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Планіровачна складаецца з кароценькай плаўна выгнутай вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**АМІНАВІЧЫ** — вёска ў Пагарэльскім с/с, за 38 км на Пн ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Вярэйцы—Градзянка, 171 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Лапічы—Градзянка. 28 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1614 г. як вёска ў складзе маёнтка Жыцін Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, прыватнафеадальнае уладанне. У 1827 г. ў Ігуменскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол. 39 двароў, 266 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паблізу быў аднайменны засценак (11 двароў, 87 жыхароў). У 1907 г. ў вёсцы 48 двароў, 377 жыхароў, у засценку 12 двароў, 101 жыхар, у 1917 г. вёска налічвала 88 двароў, 501 жыхара, засценак — 9 двароў, 51 жыхара. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камунар». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў, загубілі 9 жыхароў. Дзейнічала падп. антыфашысцкая група. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Ураджэнец вёскі М.П.Каралёў за заслугі ў арганізацыі партыз. руху (камандаваў 1-й Асіповіцкай партыз. брыгадай, ператоранай у ліп. 1943 у Асіповіцкую ваенна-аператыўную групу) і асабісты гераізм, праяўлены ў баях супраць гітлераўцаў, удастоены звання Героя Сав. Саюза і воінскага звання ген.-маёра. У 1981 г. на зах. ускраіне вёскі яму пастаўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. 201 жыхар, у 1970 г. — 21 жыхар, у 1986 г. 64 гаспадаркі, 149 жыхароў. Размешчаны клуб і магазін. У 2002 г. ў А. 39 гаспадарак, 77 жыхароў.



Г.А.Мятлюк.



А.А.Чванкін.

Фрагмент забудовы г. Асіповічы.



Планіроўка Т-падобная. На перакрыжаванні аўтадарогі Лапічы—Градзянка і вясковай вуліцы грамадскі цэнтр. Забудова драўляная, па абодва бакі вуліцы, трасіраванай паралельна да аўтадарогі.

**АМЯЛІШЧА** — пасёлак у Лапіцкім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 161 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Мінск—Бабруйск і Лапічы—Градзянка. Не існуе.

У 1897 г. засценак Амелішча (ён жа Жукі-Апалонаўка) — 3 двары, ферма Амелішча (яна ж Бярозаўка) — 1 двор, 10 жыхароў, у Пагарэльскай вол. Ігуменскага пав. У 1907 г. ў засценку 4 двары, 47 жыхароў, у 1917 г. 5 двароў, 49 жыхароў, у лясной вартоўні 3 двары, 11 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. польскімі войскамі. У 1926 г. 8 двароў, 3 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 61 жыхар, у 1970 г. 35 жыхароў, у 1986 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2002 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.



*Г.І.Шпак.*

**АСАВОК** — вёска ў Каменіцкім с/с, за 37 км на Пн ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 181 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Танспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Градзянка—Сычкава. 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

У 1897 г. засценак (7 двароў, 54 жыхары) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 4 двары, 18 жыхароў, у 1917 г. 6 двароў, 52 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 15 гаспадарак, 110 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Трактар». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў снеж. 1943 г. спалілі 2 двары, загубілі 141 вяскоўца і жыхара суседніх пасяленняў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў, у 1970 г. 177 жыхароў, у 1986 г. 38 гаспадарак, 110 жыхароў. Былі размешчаны клуб і магазін. У 2002 г. ў А. 29 гаспадарак, 61 жыхар. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**АСІПОВІЧЫ-2** — чыг. станцыя на лініі Асіповічы—Магілёў, у Асіповіцкім с/с, за 4 км на У ад Асіповіч, 130 км ад Магілёва. 24 гаспадаркі, 72 жыхары (2007).

Узнікла ў канцы 19 ст. ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1940 г. 17 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. 27 гаспадарак, 81 жыхар. Ёсць 2 магазіны. Драўляная сядзібная забудова выцягнута ўздоўж паўд. боку чыгункі, у цэнтры — мураваныя будынкі вакзала і двухпавярховага жылога дома.

**АСІПОВІЧЫ-3** — чыг. станцыя на лініі Асіповічы—Бабруйск, у Асіповіцкім с/с, за 7 км на У ад Асіповіч, 128 км ад Магілёва. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2007).

Узнікла ў канцы 19 ст. ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1940 г. 7 двароў, 31 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароценькай вуліцы ўздоўж чыгункі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСТРОЎКІ** — вёска ў Дрычынскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Асіповіч, 19 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 173 км ад Магілёва, на Пн і У мяжуе з лесам, на Пд р. Пціч, на аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы. 12 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх зем-

лях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 41 двор, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 2002 г. ў А. 16 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з адасобленых участкаў драўлянай забудовы сядзібнага тыпу.

**АСЯРОДАК** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 32 км на У ад Асіповіч, 11 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 101 км ад Магілёва, на П р. Калчанка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 48 гаспадарак, 86 жыхароў (2007).

У 1897 г. в. Асяродак (яна ж Татаркавічы Казённыя) у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 46 двароў, 274 жыхары, хлебазапасны магазін, вінная лаўка. У 1906 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1922 г. навучаліся 90 хлопчыкаў і дзяўчынак, мелася б-ка. У 1922 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 130 двароў, 598 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1940 г. 154 двары, 616 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў чэрв. 1941 г. спалілі 126 двароў, загубілі 27 жыхароў. 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 518, у 1970 г. 425 жыхароў, у 1986 г. 174 гаспадаркі, 339 жыхароў. У 1971 г. да вёскі далучана в. Заельнік. У 2002 г. ў А. 60 гаспадарак, 109 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. Планіроўка набліжана да рэгулярнай, квартальнай. Асн. плаўна выгнутая вуліца — участак прасёлачнай дарогі, з 2 бакоў забудаваны драўлянымі сял. сядзібамі.

Радзіма бел. вучонага ў галіне педыятрыі, доктара медыцынскіх навук, праф. І.Н.Усава (13.10.1921—19.1.1994).

**БАЗОК** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Асіповіч, 150 км ад Магілёва, на П і У р. Батча, мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 20 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. 53 двары, 324 жыхары, царква. Побач аднайменныя засценак (4 двары, 30 жыхароў), лясная вартоўня і вадзяны млын (1 двор, 5 жыхароў), карчма (1 двор, 7 жыхароў). У 1907 г. ў вёсцы 55 двароў, 411 жыхароў, у засценку 4 двары, 31 жыхар, ва ўрочышчы 2 двары, 15 жыхароў. Школа граматы была ператворана ў царкоўнапрыходскую. У 1917 г. ў вёсцы 83 двары, 459 жыхароў, у аколіцы 4 двары, 24 жыхары, у лясной вартоўні 2 двары, 12 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 47 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1926 г. 85 гаспадарак, 490 жыхароў. У 1927 г. для школы ўзведзены ўласны будынак. У 1931 г. створаны калгас імя С.М.Будзённага і прамысловая арцель «Перамога», мелася кузня. У 1940 г. 103 двары, 521 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфашысцкая група, каля вёскі знаходзілася партыз. застава. Гітлераўцы ў маі 1944 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 496 жыхароў. Ахвяры фашызму пахаваны ў магіле ў цэнтры вёскі. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў, у 1970 г. 180 жыхароў, у 1986 г. 37 гаспадарак, 73 жыхары. Былі клуб і магазін. У 2002 г. ў Б. 27 гаспадарак, 51 жыхар. Планіроўка Г-падобная з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАРАНЦЫ** (да 1960 вёскі Баранцы-1 і Баранцы-2) — вёска ў Свіслацкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст.

Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 164 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Свіслач. Не існуе.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1897 г. ўрочышча (2 двары, 17 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 22 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1923 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 32 гаспадаркі, 61 жыхар і хутар (2 гаспадаркі, 22 жыхары). У 1931 г. створаны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 52 жыхары, у 1986 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2002 г. ў Б. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Планіроўка лінейная (адрэзак аўтадарогі Асіповічы—Свіслач), забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**БРАДЗІШЧА** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Бабруйск, 120 км ад Магілёва. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. 11 двароў, 67 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 15 двароў, 96 жыхароў.

З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. польскімі войскамі. У 1926 г. 15 двароў, 94 жыхары. У 1931 г. створаны калгас імя В.І.Чапаева. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары, у 1970 г. 53 жыхары, у 1986 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. У складзе саўгаса «Асіповіцкі» (цэнтр — г. Асіповічы). У 2002 г. ў Б. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіровачна арганізавана ў адну кароткую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БРАДОК** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Асіповіч, 25 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 160 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Лапічы—Градзянка. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 10 двароў, 43 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 52 жыхары, у 1970 г. 34 жыхары, у 1986 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2002 г. ў Б. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. Планіроўка лінейная, з двухбаковай рэдкай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БРЫЦАЛАВІЧЫ** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 115 км ад Магілёва, на ПнУ р. Свіслач (прыток Бярэзіны), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарогах Асіповічы—Свіслач і Асіповічы—Бабруйск. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Паміж вёскамі Брыцалавічы і Малая Гарожа, на правым беразе Свіслачы, захаваўся могільнік 10—13 ст. (5 курганоў, належаў дрыгавічам), які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. У 1513 г. вёска ў Свіслацкай вол., уласнасць каз-



*Дуб-волат каля в. Брыцалавічы.*

ны. У 1560 г. 24 двары. Па звестках 1689 г. ў складзе маёнтка Свіслач Мінскага павета Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1838 г. 67 жыхароў мужчынскага полу. У 1847 г. цэнтр маёнтка ў Бабруйскім павеце, 16 зямельных участкаў, карчма, вадзяны млын. У 1883 г. ў Замошскай вол. 24 двары, 240 жыхароў, царква на могілках. Паводле перапісу 1897 г. 343 жыхары, хлебазапасны магазін і маёнтак (1 двор, 2 жыхары). У 1907 г. ў вёсцы 77 двароў, 440 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 5 жыхароў, лесапільны з-д, хлебазапасны магазін. У 1908 г. адкрыта царкоўнапрыходская школа. У 1917 г. ў вёсцы 83 двары, 549 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 8 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе навучаліся ў 1922 г. 49 хлопчыкаў і дзяўчынак, мелася б-ка. 6.2.1922 г. заснавана с.-г. т-ва «Сноп». У 1923 г. да вёскі быў далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1923 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 89 гаспадарак, 591 жыхар. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоная ніва», працавала кузня. У 1940 г. 144 двары, 753 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 40 вяскоўцаў. Акупанты ў студз. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 702 жыхароў. У памяць аб ахвярах фашызму і 44 загінуўшых сав. воінах і партызанах у 1977 г. ўзведзены мемарыяльны комплекс. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў, у 1970 г. 185 жыхароў, у 1986 г. 53 гаспадаркі, 102 жыхары. Размешчаны клуб, б-ка, магазін. У 2002 г. ў Б. 21 гаспадарка, 33 жыхары. Планіроўка ў 2 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БУДА** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 48 км на У ад Асіповіч, 14 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 151 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1907 г. фальварак (46 жыхароў) у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1921 г. 7 двароў, 41 жыхар. На месцы колішняга фальварка склаўся пасёлак. У 1925 г. для пасёлка дадаткова выдзелены вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У 1940 г. 18 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў студз. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 42 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў, у 1970 г. 57 жыхароў, у 1986 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2002 г. ў Б. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БУЛГАРЫ** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 7 км на У ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Асіповічы-2 на лініі Асіповічы—Магілёў, 126 км ад Магілёва, побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 14 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Засн. ў 19 ст. У 1897 г. фальварак (1 двор, 16 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 10 двароў, 61 жыхар, у 1917 г. 16 двароў, 82 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 18 двароў, 96 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 75 жыхароў, у 1986 г. 23 двары, 47 жыхароў. У 2002 г. ў Б. 16 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ВАЙНІЛАВА** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 106 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

У 1897 г. ўрочышча Вайнілава (3 двары, 26 жыхароў) у Свіслацкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1907 г. 8 двароў, 47 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары, у 1970 г. 108 жыхароў, у 1986 г. 39 двароў, 60 жыхароў. У 2002 г. ў В. 21 гаспадарка, 30 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ВЕРХІ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 20 км на З ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Вярэйцы на лініі Асіповічы—Мінск, 153 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Аўтадарогай звязана з раённым цэнтрам. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1862 г. прыселак (10 двароў) у складзе маёнтка Глуск Рэчыцкага павета Мінскай губ. Рас. імперыі, шляхецкая ўласнасць. У 1917 г. ў Чычэрынскай вол. Бабруйскага павета, 26 двароў, 171 жыхар, школа граматы. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 25 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1926 г. 42 двары, 209 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 266 жыхароў, у 1970 г. 180 жыхароў, у 1986 г. 30 гаспадарак, 68 жыхароў. У 2002 г. ў В. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіроўка ў адну мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі. Частка забудовы адасоблена на Пн вёскі.

**ВОСАВА** — вёска ў Асіповіцкім с/с, за 6 км на Пд ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Асіповічы, 139 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Дараганава. 68 гаспадарак, 177 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 10 двароў, 100 жыхароў. У 1917 г. 23 двары, 130 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», мелася кузня. У 1940 г. 36 двароў, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, загубілі 3 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 204 жыхары, у 1970 г. 172 жыхары, у 1986 г. 66 гаспадарак, 168 жыхароў. У 2002 г. ў В. 59 гаспадарак, 187 жыхароў. Размешчаны клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з адасобленых паўн. і паўд. частак каля дарогі. Прамалінейная вуліца паўн. часткі трасіравана перпендыкулярна да дарогі і забудавана двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі. Забудова паўд. часткі па абодва бакі дарогі.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 163 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Старыя Дарогі. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1897 г. ўрочышча Доўгі Востраў (4 двары, 27 жыхароў) у Новадарожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 5 двароў, 33 жыхары, у 1917 г. 7 двароў, 32 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 29.6.1944 г. Гітлераўцы спалілі 6 двароў, загубілі 12 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 2002 г. ў В. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіроўка ў адну вуліцу з рэдкай драўлянай сядзібнай забудовай.

**ВУГЛАТА** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 33 км на ПнУ ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 160 км ад Магілёва, на правым беразе р. Бярэзіна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Свіслач—Асіповічы. 61 гаспадарка, 126 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Свіслацкай вол., 11 двароў, 74 жыхары. Побач было аднайменнае ўрочышча (1 двор, 12 жыхароў). У 1917 г. 13 двароў. У 1920 г. каля вёскі чырвонаармейцы вялі баі супраць польскіх акупантаў. На вясковых могілках пахавана 36 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў гэтых баях. У 1926 г. 17 гаспадарак, 104 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У 1940 г. 29 двароў, 137 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях супраць гітлераўцаў загінулі 30 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 257 жыхароў, у 1970 г. 282 жыхары, у 1986 г. 85 двароў, 185 жыхароў. У 2002 г. ў В. 70 гаспадарак, 153 жыхары. Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе сабой блізкую да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЗАЎНІЦА** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Асіповіч, 21 км ад чыг. ст. Асіповічы, 148 км ад Магілёва, на правым беразе р. Ботча (прыток Свіслачы), на аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 147 гаспадарак, 387 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. У 1594 г. ў складзе маёнтка Жыцін Мінскага павета, уласнасць памешчыка, 28 жыхароў мужчынскага полу. У 1640 г. сяло і маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1883 г. сяло ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета, млын з двума паставамі, сукнавальня, хлебны магазін. У 1884 г. адкрыта школа (у 1890 — 18 вучняў). У 1897 г. 75 двароў, 423 жыхары. У 1907 г. ў сяле 86 двароў, 439 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 55 жыхароў, у калоніі 1 двор, 32 жыхары. У 1917 г. 96 двароў, 557 жыхароў, у маёнтку 57 жыхароў, у калоніі 6 двароў, 20 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1924 г. вучыліся 40 хлопчыкаў і дзяўчынак, мелася б-ка. У 1926 г. 88 гаспадарак, 510 жыхароў. Для школы ў 1928 г. ўзведзены новы будынак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску. 41 вясковец загінуў на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 494 жыхары, у 1970 г. 405 жыхароў, у 1986 г. 121 гаспадарка, 300 жыхароў. У 2002 г. ў В. 146 гаспадарак, 410 жыхароў. Размешчаны базавая школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны, сталовая, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, АТС. Схема планіроўкі распрацавана БелНДІдзіпрасельбудам у 1965 г. Планіроўка лінейная, уздоўж прасёлачнай дарогі, з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр вакол плошчы, забудаванай грамадскімі будынкамі пры ўездзе ў вёску з боку в. Малінаўка.

Радзіма сав. лётчыка, Героя Сав. Саюза Я.М.Стэльмаха.

**ВЯЗЗЕ** — вёска, цэнтр Вяззеўскага с/с, за 7 км на Пн ад Асіповіч, за 7 км ад чыг. ст. Асіповічы, 140 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Свіслач, на беразе Асіповіцкага вадасховішча. 271 гаспадарка, 686 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. У 1560 г. ў Свіслац-

*Асіповіцкае вадасховішча.*



кай вол., уласнасць казны, 20 гаспадарак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1847 г. в. Вяжна (43 двары, 275 жыхароў) у складзе маёнтка Лядцы Бабруйскага павета, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета, 341 жыхар, 2 млыны, карчма, паромная пераправа, хлебны магазін, царкоўнапрыходская школа, піцейны дом. З вёскай звязана дзяцінства беларускага паэта М.Багдановіча, які вясной і летам 1895 г. прыязджаў сюды да сваёй цёткі С.А.Секяржыцкай (на яе доме ў цэнтры вёскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка). У 1907 г. 53 двары, 408 жыхароў. Побач былі аднайменны маёнтак (52 жыхары) і вадзяны млын (1 двор, 17 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы 77 двароў, 469 жыхароў, у маёнтку 60 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1925 г. ў вясковай школе навучаліся 81 хлопчык і дзяўчынка. У 1926 г. 95 гаспадарак, 490 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Авангард». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфашысцкая група. 75 вяскоўцаў змагаліся на франтах, 27 з іх загінулі. З 21.1.1966 г. цэнтр Вяззеўскага с/с Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 460 жыхароў, у 1970 г. 566 жыхароў, у 1986 г. 266 гаспадарак, 683 жыхары. У 1940 г. ў вёску пераселены хутар Лянёўка, у 1967 г. далучана в. Каменка. У 2002 г. ў В. 262 гаспадаркі, 695 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, рыбгас «Свіслач», Асіповіцкая ГЭС, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, 2 магазіны, Дом жывёлавода, аддз. ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры з краязнаўчым музеем, АТС, дзіцячы артапедычны санаторый «Вяззе», база адпачынку «Бярозка» спарт. т-ва «Буравеснік», гідраметэапост. Планіроўка рэгулярная, квартальная з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр пры ўездзе ў вёску з боку в. Цяплуха. Сучасная мураваная забудова вядзецца на У ад грамадскага цэнтра.

У склад Вяззеўскага с/с уваходзілі да 1940 г. хутар Лянёўка, да 1967 г. вёскі Зялёная Дубрава, Каменка, да 1975 г. — пас. Орча, да 1976 г. в. Селішча (зараз не існуюць).

**ВЯЗЫЧЫН** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 29 км на ПнУ ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 122 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Ялізава—Градзянка, на Пн р. Бярэзіна (прыток Дняпра). 48 гаспадарак, 109 жыхароў (2007).

У сярэдзіне 1830-х гг. вёска, больш за 60 жыхароў. У 1847 г. 14 двароў, 82 жыхары, у складзе маёнтка Свіслач Бабруйскага павета. У 1886 г. адкрыта школа граматы (у 1890 — 15 вучняў). У 1897 г. 44 двары, 284 жыхары, у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета. Побач быў аднайменны фальварак (3 двары, 52 жыхары). У 1906 г. засн. вінакурны з-д (у 1913 — 7 рабочых). У 1917 г. ў вёсцы 59 двароў, 399 жыхароў, у фальварку 146 жыхароў. Вяскоўцы ў 1917 г. зрабілі захоп памешчыцкіх пасеваў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1923 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У вясковай школе навучаліся ў 1925 г. 84 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1926 г. 70 двароў, 449 жыхароў. У лютым 1930 г. арганізаваны калгас «Новая ніва». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 42 двары. У баях каля вёскі загінулі 13 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 296 жыхароў, у 1970 г. 271 жыхар, у 1986 г. 92 гаспадаркі, 188 жыхароў. У 1967 г. да вёскі далучана в. Прудзішча. Былі размешчаны б-ка, клуб, магазін. У 2002 г. ў В. 60 гаспадарак, 135 жыхароў. Планіроўка ў адну прама-

лінейную вуліцу, паўд. ўскраіна якой далучаецца да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка А.М.Налівайкі.

**ВЯЛІКАЯ ГАРОЖА** — вёска ў Асіповіцкім с/с, за 14 км на У ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 140 км ад Магілёва, побач аўтадарога Мінск—Бабруйск, на Пн мяжуе з лесам. 29 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска Гарожа (35 двароў, 236 жыхароў, заезны дом) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Дзейнічаў смалярна-смалакурны з-д (2 двары, 22 жыхары). У 1907 г. 52 двары, 325 жыхароў, у 1917 г. 73 двары, 427 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 37 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1926 г. 86 двароў, 435 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 118 двароў, 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Карнікі ў студз. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 219 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 23 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 278 жыхароў, у 1970 г. 205 жыхароў, у 1986 г. 57 гаспадарак, 103 жыхары. Былі размешчаны пачатковая школа, клуб, магазін. У 2002 г. ў В.Г. 29 гаспадарак, 54 жыхары. Планіроўка рэгулярная, у 3 вуліцы, забудаваныя драўлянымі сял. сядзібамі. На скрыжаванні вуліц — грамадскі цэнтр.

**ВЯЛІКАЯ ГРАВА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 160 км ад Магілёва, на Пн р. Граўка, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 60 гаспадарак, 129 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома як сяленне ў ВКЛ. У 1560 г. с. Грава (28 гаспадарак) у Свіслацкай вол., уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 91 двор, 542 жыхары, вадзяны млын. У 1907 г. 109 двароў, 633 жыхары, у 1917 г. 120 двароў, 691 жыхар. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 63 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1926 г. в. Вялікая Граўка, 127 двароў, 960 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У пач. 1950-х г. пабудаваны радыёвузел. Паводле перапісу 1959 г. 530 жыхароў, у 1970 г. 402 жыхары, у 1986 г. 94 гаспадаркі, 240 жыхароў. У 2002 г. ў В.Г. 77 гаспадарак, 140 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка набліжана да Г-падобнай з драўлянай сядзібнай забудовай, расчлянёнай завулкамі.

**ВЯЛІКІ БОР** — вёска ў Дрычынскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Асіповіч, 17 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 170 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы, на З мяжуе з лесам. 69 гаспадарак, 215 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка, 41 рэвізская душа. У 1847 г. 19 двароў, 103 жыхары, у складзе маёнтка Парычы. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». З канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У баях каля вёскі загінулі 11 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). У 1986 г. 71 гаспадарка, 179 жыхароў. У 2002 г. 25 гаспадарак, 79 жыхароў. Размешчаны дзіцячы сад, сталовая, магазін, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка ў адну вуліцу з перпендыкулярна падыходзячымі да яе за-

вулкамі. Грамадскі цэнтр на ўсх. ускраіне аўтадарогі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная. Схемай планіроўкі, распрацаванай БелНДІдзіпрадсельбудам у 1964 г., развіццё сядзібнай тэр. прадугледжана на У і З ад гал. вуліцы.

**ВЯРБІЛАВА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 155 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск, што побач з вёскай. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў студз. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 45 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў, у 1970 г. 60 жыхароў, у 1986 г. 20 двароў, 33 жыхары. У 2002 г. ў В. 15 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу, трасіраваную паралельна да аўтадарогі і з 2 бакоў забудаваную драўлянымі сял. хатамі.

**ВЯРЭЙЦЫ** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 11 км на Пн ад Асіповіч, 11 км ад чыг. ст. Асіповічы, 145 км ад Магілёва, на З Асіповіцкае вадасховішча, на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

*Будынак чыгуначнага вакзала на ст. Вярэйцы. 1899 г.*



Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло (21 гаспадарка) у Свіслацкай вол. ВКЛ, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1896 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 37 двароў, 244 жыхары. У 1907 г. 46 двароў, 326 жыхароў, у 1917 г. 55 двароў, 349 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1919 г. адкрыта школа (у 1926 — 78 вучняў). У 1926 г. 68 двароў, 360 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 145 жыхароў, у 1970 г. 85 жыхароў, у 1986 г. 13 двароў, 33 жыхары. У 2002 г. ў В. 13 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы ўздоўж вадасховішча. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯРЭЙЦЫ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Асіповічы—Мінск, у Пратасевіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Асіповіч, 147 км ад Магілёва. 177 гаспадарак, 247 жыхароў (2007).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст., калі тут было маленькае пасяленне, у сувязі з будаўніцтвам чыг. Мінск—Асіповічы пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1907 г. ў вёсцы 8 двароў, 54 жыхары, у пасяленні пры станцыі 11 двароў, 52 жыхары. У 1917 г. на станцыі 29 двароў, 235 жыхароў, у вёсцы 13 двароў, 66 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1920 г. адкрыта школа (у 1926 — 78 вучняў). З 20.8.1924 г. да 1939 г. цэнтр Вярэйцаўскага с/с Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1941 г. 40 двароў, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У брацкай магіле, што непадалёку ад чыг. станцыі, пахаваны 72

сав. воіны і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1941—44 гг. У іх ліку Герой Сав. Саюза, гвардыі яфрэйтар М.А.Абросімаў. Паводле перапісу 1959 г. 586 жыхароў, у 1970 г. 624 жыхары, у 1986 г. 147 гаспадарак, 344 жыхары. У 2002 г. ў В. 137 гаспадарак, 297 жыхароў. Ёсць базавая школа, б-ка, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, дзіцячы сад. Планіроўка рэгулярная, квартальная — 3 вуліцы (Вакзальная, Шутава, Абросімава) трасіраваны паралельна да чыгункі і аб'яднаны папярочнай вуліцай. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца аднапавярховы будынак чыг. вакзала. Супрацьлеглая частка (за чыгункай) мае сядзібную забудову ўздоўж чыгункі і ў цэнтры размежавана скверам.

**ГАЛЫНКА** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 45 км на У ад Асіповіч, 15 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Мінск—Бабруйск, 105 км ад Магілёва, на аўтадарозе Свіслач—Сычкава, на З мяжуе з лесам, на ПнУ р. Бярэзіна (прыток Дняпра). 21 гаспадарка, 34 жыхары (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі захаваўся курганны могільнік (10 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1802 г. вёска ў Бабруйскім павеце, уладанне памешчыка. Мелася пабудаваная з дрэва царква. У 1847 г. ў складзе маёнтка Дурынічы, 9 двароў, 33 жыхары. У 1863 г. ўзведзены новы драўляны будынак Пакроўскай царквы. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 191 жыхар. У пач. 20 ст. адкрыта казённая вінная лаўка, у 1906 г. — школа. У 1907 г. 26 двароў, 252 жыхары, у 1917 г. 28 двароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 68 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 31 вясковец загінуў на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў, у 1970 г. 154 жыхары, у 1986 г. 44 гаспадаркі, 83 жыхары. У 2002 г. ў Г. 24 гаспадаркі, 44 жыхары. Ёсць магазін і клуб. Планіровачнай асновай з'яўляецца плаўна выгнуты адрэзак аўтадарогі, трасіраваны ўздоўж правага берага р. Бярэзіна. Пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу. Непадалёку адасоблена размешчана база адпачынку Бабруйскага гідролізнага з-да.

**ГАЛЬЧАЎКА** — вёска ў Карытненскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Бабруйск, 146 км ад Магілёва, на ПнЗ мяжуе з лесам, побач аўтадарога Асіповічы—Глуша.

У 1897 г. вёска ў Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 84 жыхары. У 1907 г. 98 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 14 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 56 жыхароў, у 1970 г. 38 жыхароў, у 1986 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ГОМАНАЎКА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Гарадзянка, 165 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. ў ВКЛ. У 1760 г. засценак (4 двары) у складзе маёнтка Лапічы Бабруйскага павета, уласнасць казны. У 1768 г. 6 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1884 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 24 двары, 165 жыхароў. У 1907 г. 26 двароў, 252 жыхары, у 1917 г. 40 двароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіра-

вана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1926 г. навучаліся 37 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. У 1940 г. 66 двароў, 338 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія поўнасцю спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. Дзейнічала падп. антыфашысцкая група. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 80 жыхароў, у 1986 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2002 г. ў Г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Планіроўка лінейная, з драўлянай забудовай сял. хатамі.

**ГРАДЗЯНЕЦ** — вёска ў Пагарэльскім с/с, за 46 км на Пн ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 181 км ад Магілёва. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1941 г. 26 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 11 двароў, загубілі 24 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў, у 1970 г. 133 жыхары, у 1986 г. 34 гаспадаркі, 61 жыхар. У 2002 г. ў Г. 22 гаспадаркі, 51 жыхар. Прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана з абодвух бакоў, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ГРАДЗЯНКА** — вёска і чыг. станцыя на лініі Градзянка—Вярэйцы, за 45 км на Пн ад Асіповіч, 180 км ад Магілёва, цэнтр с/с, на аўтадарогах Градзянка—Лапічы і Мінск—Бабруйск. 213 гаспадарак, 464 жыхары (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. ў сувязі з разгортваннем лесараспрацовак у навакольных лясах і будаўніцтвам чыгункі. У 1907 г. невялікае ўрочышча (1 двор, 7 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. пасёлак (67 двароў, 359 жыхароў) і чыг. ст. (10 двароў, 35 жыхароў). Працаваў лесапільны з-д. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У пасялковай школе ў 1925 г. навучаліся 94 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 24.9.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Градзянкаўскага с/с Свіслацкага, з 8.7.1931 г. Асіповіцкага, з 26.7.1930 г. зноў Свіслацкага, з 8.7.1931 г. Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абл. У 1926 г. 70 двароў, 400 жыхароў. Да пасёлка быў далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 15.7.1935 г. рабочы пасёлак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі пасёлак і загубілі 350 жыхароў. Дзейнічала падп. антыфашысцкая група (кіраўнік В.У.Іваноў), у навакольных лясах — 1-я Асіповіцкая партыз. брыгада. У канцы 1941 г. партызаны разграмілі гарнізон акупантаў, які размяшчаўся ў пасёлку. У баях каля вёскі загінулі 25 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Адна з пасялковых вуліц носіць імя ўдзельніка партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. М.П.Андрыевіча, які загінуў пры падрыве варожага эшалона. Паводле перапісу 1959 г. 1326 жыхароў, у 1986 г. 380 гаспадарак, 970 жыхароў. Размешчаны лесапункт Асіповіцкага леспрамгаса, філіял Асіповіцкай ф-кі канцтавараў, лясніцтва, лесасклад, чыг. і аўтамабільная станцыі, аптэка, амбулаторыя, бальніца, сярэдняя школа, б-ка, клуб, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, АТС, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, радыёвузел, сталовая, 4 магазіны. У 2006 г. 224 гаспадаркі, 471 жыхар. Планіроўка рэгулярная, квартальная з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ГРЫНЁЎКА** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 27 км на У ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 105

км ад Магілёва, на аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 26 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. вёска (25 двароў, 156 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 32 двары, 219 жыхароў, у Чычэрынскай вол. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 41 двор, 275 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У 1940 г. 53 двары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары, у 1970 г. 154 жыхары, у 1986 г. 44 гаспадаркі, 99 жыхароў. У 2002 г. 26 гаспадарак, 43 жыхары. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай, расчлянёнай завулкамі.

**ГУМНІШЧА** — вёска ў Карытненскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 130 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Асіповічы—Глуша.

У 1897 г. хутар Гульнішча (ён жа Зузняцін) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 7 двароў, 53 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў, у 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**ДАРАГАНАВА** — вёска, цэнтр Дараганаўскага с/с, за 20 км на ПдЗ ад Асіповіч, чыг. станцыя на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 153 км ад Магілёва, на р. Пціч. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 175 гаспадарак, 339 жыхароў (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі, на левым беразе Пцічы, захавалася стаянка бронзавага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст., калі тут складваўся пасёлак пры аднайменнай чыг. станцыі (пабудавана ў 1896). У 1898 г. засн. лесапільня. У 1907 г. ў Навадарожскай вол. Бабруйскага павета, 37 двароў, 256 жыхароў, лесазавод (65 жыхароў) і фальварак (4 двары, 32 жыхары). На пач. 20 ст. адкрыта школа. У 1917 г. ў пасёлку 79 двароў, 617 жыхароў, на чыг. станцыі 3 двары, 12 жыхароў, у фальварку 1 двор, 41 жыхар. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. 1.6.1922 г. створана с.-г. т-ва. У 1923 г. адкрыты фельч. пункт. З 20.8.1924 г. цэнтр Дараганаўскага с/с Старадарожскага, з 25.12.1962 г. Слуцкага, з 6.1.1965 г. Асіповіцкага р-наў Слуцкай, з 9.6.1927 г. Бабруйскай (да 26.7. 1930) акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 6.1.1965 г. Магілёўскай абл. У 1926 г. ў вясковай 7-гадовай школе навучаліся 183 хлопчыкі і дзяўчынкі, дзейнічала хата-чытальня. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 213 двароў, 852 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў, загубілі 102 жыхароў. У баі каля вёскі загінулі 6 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 55 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 2002 г. ў Д. 203 гаспадаркі, 388 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, АТС, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, бальніца, амбулаторыя, аптэка, сярэдняя школа, краязнаўчы музей, сталовая, аддз. сувязі, санаторна-лясная школа-інтэрнат, б-ка, дзіцячы сад, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, 5 магазінаў, сталовая, аддз. ашчаднага банка. Планіроўка радыяльная, падзелена чыгункай на зах. і ўсх. часткі. На скрыжаванні вуліц зах. часткі грамадскі цэнтр. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. паэтэсы і літаратуразнаўцы Г.П.Твärановіч, бел. гісторыка і філа-

сафа, доктара гіст. і філасофскіх навук, праф. Г.М.Ліўшыца.

У склад Дараганаўскага с/с уваходзілі да студз. 1943 г. в. Бортнае (разам з жыхарамі была знішчана ням. карнікамі і не аднавілася), да 1967 г. в. Каменка, да 1971 г. в. Мачынск, да 1976 г. в. Халькі.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Дрычынскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Асіповіч, 15 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 169 км ад Магілёва, на ПнУ ручай. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. ў Д. 22 гаспадаркі, 30 жыхароў. Ёсць пач. школа і магазін. Планіроўка ў 3 кароткія вуліцы з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ДЗЕМЕНКА** — вёска ў Карытненскім с/с, 25 км на ПдУ ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 165 км ад Магілёва, на ПнУ р. Валачанка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Глуша. 16 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

У 1897 г. вёска (12 двароў, 76 жыхароў) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. вёска (90 жыхароў) і пасёлак (1 двор, 10 жыхароў). З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 16 двароў, 121 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны май», мелася кузня. У 1941 г. 28 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 76 жыхароў, у 1970 г. 103 жыхары, у 1986 г. 29 гаспадарак, 78 жыхароў. У 2002 г. 26 гаспадарак, 67 жыхароў. Ёсць пач. школа і магазін. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, трасіраваную з паўд.-ўсх. боку прасёлачнай дарогі. Забудавана двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ДЗЕРАЎЦЫ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 145 км ад Магілёва, на З чыгунка. 16 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1524 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка, 8 рэвізскіх душ. У 1845 г. 5 двароў, 12 жыхароў. У 1907 г. вёска (8 двароў, 48 жыхароў) і аднайменнае пасяленне (21 двор, 147 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета. У 1931 г. адкрыта школа. У 1917 г. ў вёсцы 29 двароў, 172 жыхары, у фальварку 1 двор, 79 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 109 хлопчыкаў і дзяўчынак, мелася б-ка. 19.4.1924 г. створана меліярацыйнае таварыства. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Дзераўцоўскага с/с Асіповіцкага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 16.7.1954 г. Магілёўскай абл. У 1926 г. 33 двары, 192 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Казарма. Паводле перапісу 1959 г. 220 жыхароў, у 1970 г. 155 жыхароў, у 1986 г. 47 гаспадарак, 99 жыхароў. Размешчаны клуб, базавая школа, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. ў Д. 20 гаспадарак, 49 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДЗЕРАЎЦЫ** — пасёлак і чыг. станцыя на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, у Пратасевіцкім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Асіповіч, 144 км ад Магілёва. 9 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. ў сувязі з будаўніцтвам Лібава-Роменскай чыгункі. Назва ад размешчанай паблізу вёскі. У 1907 г. чыг. раз'езд у Замошскай вол. Бабруйскага павета, 1 двор, 7 жыхароў. У 1917 г. 10 жыхароў. У 1940 г. 15 двароў, 37 жыхароў, раз'езд ператвораны ў чыг. станцыю. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары, у 1970 г. 56 жыхароў, у 1986 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў. Ёсць базавая школа, аддз. сувязі. У 2002 г. 11 гаспадарак, 38 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, па абодва бакі чыгункі. Станцыйныя будынкі мураваныя.

**ДРАЖНЯ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Вярэйцы на лініі Асіповічы—Мінск, 149 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. Аўтадарогай звязана з раённым цэнтрам. 30 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. вёска (153 жыхары мужчынскага полу) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла. У 1847 г. 50 двароў, 338 жыхароў, заезны дом, млын, вінакурня, уладанне кн. Вітгенштэйна. У 1905 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1908 г. для яе ўзведзены ўласны будынак. У 1907 г. ў в. Дражня Старая (9 двароў, 71 жыхар) і Дражня Новая (18 двароў, 123 жыхары), крама і карчма, у Замошскай вол. У 1917 г. ў Дражні Старой 13 двароў, 85 жыхароў, у Дражні Новай 25 двароў, 146 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У час польскай акупацыі быў спалены будынак школы. У хуткім часе ён быў нанава адбудаваны (у 1925 — 94 вучні, дзейнічала б-ка). У 1926 г. ў Дражні Старой 22 двары, 127 жыхароў, у Дражні Новай 28 двароў, 168 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У 1940 г. вёскі склалі адзін населены пункт, у якім 44 двары, 199 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 236 жыхароў, у 1970 г. 215 жыхароў, у 1986 г. 51 гаспадарка, 120 жыхароў. У 2002 г. ў Д. 37 гаспадарак, 82 жыхары. Ёсць клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, трасіраваную перпендыкулярна да чыгункі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У паўд.-зах. частцы забудова расчлянёна праездам, а на Пн адасоблены ўчастак вясковых будынкаў.

**ДРЫЧЫН** — вёска, цэнтр Дрычынскага с/с, за 33 км на ПдЗ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 166 км ад Магілёва, на У і Пд мяжуе з лесам, на Пн р. Пціч. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 98 гаспадарак, 269 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска (92 двары, 594 жыхары) у Жыцінскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., царква, хлебазапасны магазін. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 22 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. З 23.7.1957 г. цэнтр Дрычынскага с/с Старадарожскага, з 25.12.1962 г. Слуцкага, з 6.1.1965 г. Асіповіцкага р-наў Магілёўскай вобл. У 2002 г. ў Д. 101 гаспадарка, 270 жыхароў. Размешчаны амбулаторыя, дзіцячы сад, ветэрынарны ўчастак, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, магазін, АТС, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Цэнтр СПК «Калгас «Пціч». Планіровачна складаецца з падзеленых аўтадарогай 2 частак, аб'яднаных перпендыкулярнай да дарогі галоўнай вуліцай. Пераважная частка забудовы сканцэнтравана на Пд і зах. баку галоўнай вуліцы. На У асн. грамадскія будынкі.

У склад Дрычынскага с/с да 1967 г. ўваходзіла в. Юравічы (не існуе).

**ДУБАВОЕ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 10 км на З ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Вярэйцы на лініі Мінск—Асіповічы, 143 км ад Магілёва, на ПнУ і ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 14 двароў, 85 жыхароў. 4.6.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва, у 1931 г. — калгас «Бальшавік». У 1940 г. 11 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 2002 г. ў Д. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка лінейная з пераважна аднабаковай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**ДУБРАЛЕБАВА** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 148 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1907 г. засценак (11 двароў, 145 жыхароў) у Жыцінскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 20 двароў. У 1926 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У 1940 г. 38 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 2002 г. ў Д. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Градзянка—Вярэйцы, 162 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Градзянка—Лапічы і Мінск—Бабруйск. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар (1 двор, 8 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 29 жыхароў. У 1967 г. да вёскі далучана в. Восава. Паводле перапісу 1970 г. 105 жыхароў, у 1986 г. 27 гаспадарак, 48 жыхароў. У 2002 г. ў Д. 11 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна склалася па абодва бакі чыгункі і забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 25 км на Пн ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Вярэйцы—Градзянка, 158 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Градзянка—Лапічы і Мінск—Бабруйск. 31 гаспадарка, 84 жыхары (2007).

У пач. 20 ст. вядома як фальварак Дуброва (ён жа Жорнаўка) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 20 жыхароў. Побач быў чыг. раз'езд Дуброва. У хуткім часе тут склаўся пасёлак, які затым перарос у вёску. У 1926 г. 7 гаспадарак, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 7 вяскоўцаў. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Жорнаўка. Размешчаны Жорнаўскае лясніцтва, дзіцячы сад, магазін, парк-дэндрарый (каля 1,5 га), дзе расце больш за 100 відаў дрэў і кустоў, інтрадукаваных з Паўн. Амерыкі, Далёкага Усходу, Сярэдняй Азіі, Зах. Еўропы. У 2002 г. ў Д. 37 гаспадарак, 100 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, трасіраванай паралельна да аўтадарогі і двухбакова забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Частка забудовы размешчана на супрацьлеглым (паўн.-зах.) баку дарогі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 26 км на У ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 107

км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. вёска (99 жыхароў мужчынскага полу) у Бабруйскім павеце, уладанне Д.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. ў Замошскай вол., 8 двароў, 26 жыхароў, У 1907 г. 62 жыхары, у 1917 г. 9 двароў. 26.2.1925 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 12 двароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары, у 1986 г. 1 гаспадарка, 4 жыхары. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖОРНАЎКА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 28 км на Пн ад Асіповіч, 161 км ад Магілёва, 2,5 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Вярэйцы—Градзянка, каля аўтадарогі Лапічы—Градзянка, на Пн мяжуе з лесам. 164 гаспадаркі, 420 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Свіслацкай вол., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1827 г. сяло і фальварак у Ігуменскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 — 15 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. сяло (34 двары, 247 жыхароў) і фальварак (1 двор, 57 жыхароў), у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 42 двары, 278 жыхароў, школа граматы ператворана ў нар. вучылішча. У фальварку 82 жыхары. У 1917 г. ў сяле 49 двароў, 347 жыхароў, у фальварку 162 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У вясковай школе ў 1923 г. 41 вучань, мелася б-ка. У 1924 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. ў вёсцы 48 двароў, 780 жыхароў, у былым фальварку 34 жыхары. 1.10.1926 г. адкрыта лесатэхнічная школа з 3-гадовым навучаннем, у якую прымаліся навучэнцы з 7-гадовай адукацыяй. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 273 жыхары, у 1970 г. 366 жыхароў, у 1986 г. 144 гаспадаркі, 359 жыхароў. У 1967 г. да вёскі далучаны вёскі Чырвоная Ніва, Падброддзе, Заброддзе. У 2002 г. ў Ж. 161 гаспадарка, 432 жыхары. Размешчаны вопытна-паказальны лясгас, лясніцтва і цэх па перапрацоўцы драўніны, лясная вопытная станцыя, сярэдняя школа, сталовая, б-ка, 2 дзіцячыя яслі-садкі, музей, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, АТС, Дом культуры, Дом жывёлавода, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Цэнтр СПК «Калгас «Чырвоны Ударнік». Планіроўка рэгулярная. Тры вуліцы з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу трасіраваны перпендыкулярна да аўтадарогі. Пры ўездзе ў вёску з боку в. Лапічы грамадскі цэнтр. Сучасная забудова катэджнага тыпу ўзводзіцца на Пн. На ПнУ адасоблены ўчастак забудовы і стары парк.

**ЖУКАЎКА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Вярэйцы—Градзянка, 162 км ад Магілёва, на ПнУ і ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1760 г. засценак (3 двары) у складзе маёнтка Лапічы Бабруйскага павета, уласнасць казны. У 1768 г. 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. засценак Жукаўка (ён жа Апальнаўка) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 51 жыхар. У 1907 г. 78 жыхароў, у 1917 г. 27 двароў, 155 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 22 двары,

144 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары, у 1970 г. 86 жыхароў, у 1986 г. 20 гаспадарак, 36 жыхароў. У 2002 г. ў Ж. 8 гаспадарак, 9 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЖУРАВЕЦ** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 26 км на У ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Асіповічы, 106 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1897 г. пасёлак (4 двары, 26 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. вёска, 7 двароў, 59 жыхароў, у 1917 г. 10 двароў, 67 жыхароў. У 1926 г. 15 двароў, 71 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 37 жыхароў, у 1970 г. 43 жыхары, у 1986 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2002 г. ў Ж. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую лінейную вуліцу з драўлянай забудовай сял. хатамі.

**ЖЫЦІН** — вёска ў Дрычынскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Асіповіч, 21 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 173 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам, на У р. Пціч. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 39 гаспадарак, 89 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст., калі ў вёсцы было 48 дымоў, з'яўлялася цэнтрам прыватнафеадальнага ўладання ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. ў Бабруйскім павеце, уладанне Д.Радзівіла, 246 жыхароў. У 1827 г. сяло ва ўладанні кн. Вітгенштэйна, пабудавана драўляная царква. У 1938 г. 70 двароў, 234 жыхары, магазін, карчма. У 1866 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1891 — 41 вучань). У 1886 г. цэнтр Жыцінскай вол., 76 двароў, 602 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 137 двароў, 1006 жыхароў, хлебазапасны магазін, лаўка, заезны дом, піцейны дом. У аднайменным фальварку 2 двары, 57 жыхароў. У 1907 г. 185 двароў, 1135 жыхароў, у 1917 г. 232 двары, 1331 жыхар. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У час грамадз. вайны і замежнай інтэрвенцыі дзейнічаў вал. рэв. к-т. У 1922 г. ў вясковай школе 55 вучняў, адкрыта хата-чытальня, у 1923 г. — урачэбны ўчастак. З 20.8.1924 г. да 23.7.1957 г. цэнтр сельсавета. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Жыцін». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 10 двароў, загубілі 20 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 19 вяскоўцаў. У 1986 г. 76 гаспадарак, 160 жыхароў. У 2002 г. ў Ж. 55 гаспадарак, 113 жыхароў. Размешчаны магазін, б-ка, базавая школа. Цэнтр СПК «Калгас імя Чарняхоўскага». Планіроўка ў 2 узаемнаперпендыкулярныя вуліцы з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Гал. вуліца плаўна выгнута з улікам накіраванасці левага берага ракі. У цэнтры — грамадскія будынкі.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, 4 км на З ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Асіповічы, 137 км ад Магілёва, непадалёку аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы, на ПнУ чыгунка, на Пн мяжуе з лесам. 123 гаспадаркі, 352 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1692 г. прыселак (23 дымы) у складзе маёнтка Глуск Мінскага ваяв., затым у маёнтку Пратасевічы, уладанне Д.Радзівіла. У 1787 г. 11 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1840 г. ў складзе маёнтка Пратасевічы Бабруйскага павета Мінскай губ., валоданне кн. Вітгенштэйна, 13 двароў, 91 жыхар. У 1860 г. цэнтр маёнтка, 29 два-

роў, 238 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Замошскай вол., 38 двароў, 255 жыхароў. У 1917 г. 56 двароў, 303 жыхары, у 1917 г. 69 двароў, 387 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1926 г. 73 двары, 372 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная слабада». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 30 вяскоўцаў. Жыхарка вёскі П.Т.Казлоўская была партыз. сувязной, збірала і перадавала партызанам звесткі пра ворага, зберагла сцяг адной з часцей Чырвонай Арміі. Гітлераўцы арыштавалі патрыётку і пасля жорсткіх катаванняў павесілі. Яе імя носіць адна з вуліц у Асіповічах. Паводле перапісу 1959 г. 481 жыхар, у 1970 г. 429 жыхароў, у 1986 г. 118 гаспадарак, 286 жыхароў. Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сталовая, АТС. У 2002 г. ў З. 128 гаспадарак, 357 жыхароў. Цэнтр КСУП «Пратасевічы». Планіроўка Т-падобная, з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі, парк і вытв. сектар на паўн.-ўсх. ускраіне.

**ЗАДНЯЯ ГРАДА** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, каля чыгункі Асіповічы—Старыя Дарогі, 148 км ад Магілёва, побач аўтадарога Асіповічы—Дараганава. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. ў Чычэрынскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 20 двароў, 137 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа (у 1922 — 24 вучні), дзейнічала б-ка. У 1926 г. 23 двары, 211 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Н.К.Крупскай. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 8 двароў, загубілі 10 жыхароў. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 51 жыхар, у 1986 г. 10 гаспадарак, 23 жыхары. У 2002 г. ў З. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу, трасіраваную перпендыкулярна да чыгункі і забудаваную драўлянымі сял. хатамі.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Ясеньскім с/с, 20 км на У ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Бабруйск, 113 км ад Магілёва, побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 26 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі ў студз. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 14 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары, у 1970 г. 51 жыхар, у 1986 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары. У 2002 г. ў З. 7 гаспадарак, 9 жыхароў. Планіроўка Т-падобная з драўлянай забудовай сял. хатамі. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы А.М.Гарбацэвіча.



*А.М.Гарбацэвіч.*

**ЗАМОШША** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 5 км на У ад Асіповіч, 0,5 км ад чыг. ст. Асіповічы-2 на лініі Асіповічы—Магілёў, 130 км ад Магілёва. Аўтадарогай звязана з раённым цэнтрам. 101 гаспадарка, 269 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло (6 дымоў), у складзе прыватнафеадальнага ўладання Глуск Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1839 г. цэнтр маёнтка, езуіцкая ўласнасць. У 1845 г. 15 двароў, 74 жыхары. У сярэдзіне 19 ст. належала Шышкам. У 1885 г. цэнтр воласці Бабруйскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 208 жыхароў. У 1866 г. адкрыта школа граматы (у 1891 — 36 вучняў), мелася царква (у 1946 перанесена ў г. Асіповічы). Паводле перапісу 1897 г. вёска (57 двароў, 340 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын, заезны дом), сядзіба (1 двор, 4 жыхары) і фальварак (3 двары, 19 жыхароў, вадзяны млын, заезны дом, лаўка). У 1917 г. 99 двароў, 578 жыхароў. У 1922 г. ў вясковай школе 50 вучняў, мелася хатачытальня. З 21.8.1925 г. цэнтр Замошска-

га с/с Асіповіцкага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая зара», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 54 жыхары. У баях каля З. загінулі 32 сав. воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У памяць аб 173 жыхарах з сяленняў Замошскага с/с, якія загінулі ў баях за Радзіму, у цэнтры вёскі ў 1974 г. пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. 355 жыхароў, у 1970 г. 368 жыхароў, у 1986 г. 108 двароў, 261 жыхар. У 2002 г. ў З. 99 гаспадарак, 260 жыхароў. Размешчана базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, клуб. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца трасіравана перпендыкулярна да чыгункі. Пераважае драўляная сядзібная забудова. У цэнтры грамадскія будынкі.

У склад Замошскага с/с уваходзілі да канца 1930-х г. вёскі Барок, Дубавое, да 1943 г. пас. Май (зараз не існуюць).

**ЗАНЯЦЕЧЧА** – вёска ў Дрычынскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Асіповіч, 15 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 169 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, непадалёку аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар (4 двары, 31 жыхар) у Жыцінскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1940 г. 63 двары, 235 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 7 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. У 2002 г. ў З. 23 гаспадаркі, 34 жыхары. Планіроўка П-падобная з драўлянай забудовай сял. хатамі. На паўд. ускраіне адасоблены ўчастак забудовы.

**ЗАРУЧЭЎЕ** – вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 142 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Дараганава. 11 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 49 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 95 жыхароў. У 1922 г. адкрыта школа (у першы год было 15 вучняў). У 1926 г. 18 двароў, 108 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях». У 1940 г. 23 двары. У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў, у 1970 г. 71 жыхар, у 1986 г. 16 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2002 г. ў З. 15 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу (участак дарогі Асіповічы—Дараганава), забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЗАСЯЛЕЧЧА** – вёска ў Вяззеўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Бабруйск, 123 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

У 1897 г. засценак (10 двароў, 91 жыхар) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. вёска, 23 двары, 154 жыхары, у 1917 г. 27 двароў, 162 жыхары. У 1922 г. адкрыта школа (у першы год быў 21 вучань). 2.3.1925 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 35 двароў, 176 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Энергія», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары, у 1970 г. 126 жыхароў, у 1986 г. 30 двароў, 68 жыхароў. У 2002 г. ў З. 13 гаспадарак, 26 жыхароў. Прамалінейная вуліца, арыентаваная мерыдыянальна, забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЗБОРСК** – вёска ў Вяззеўскім с/с, за 15 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Асіповічы, 145 км ад Магілёва, на ПдЗ Асіповіцкае вадасховішча. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 37 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

У вёсцы, на стрэлцы мыса, утворанага р. Свіслач (левы бераг) і безназоўным

ручаём, захавалася гарадзішча мілаградскай, штрыхаванай керамікі і зарубінецкай культур, а таксама эпохі Кіеўскай Русі; за 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Ранняя Рэчка, на левым беразе р. Свіслач — гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі; за 0,9 км на ПнЗ і 0,2 км на ПдУ ад вёскі — курганныя могільнікі (па 6 насыпаў). Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. с. Зборск (яно ж Ізбораск), у Свіслацкай вол., уласнасць казны, 9 дымоў. Мелася царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. У 1826 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. 1.1.1882 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1891 — 20 вучняў). У 1886 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 108 жыхароў. Два разы ў год праводзіліся кірмашы. У 1897 г. 23 двары, 153 жыхары. У 1907 г. 25 двароў, 182 жыхары, карчма і крама. У 1917 г. 37 двароў, 209 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 1931 г. цэнтр Зборскага с/с. У 1926 г. 41 гаспадарка, 262 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сноп». Мелася кузня. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 64 двары, 305 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфашысцкая група. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 250 жыхароў, у 1970 г. 185 жыхароў, у 1986 г. 65 гаспадарак, 120 жыхароў. У 2002 г. ў З. 42 гаспадаркі, 90 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сял. хатамі. На паўн. ускраіне адасоблены ўчастак забудовы, на Пд — сквер.

**ЗНАМЕНКА** (да 30.7.1964 Кабылянка) — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 130 км ад Магілёва, на ПдУ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Свіслач. 26 гаспадарак, 53 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска Кабылянка (яна ж Халуй) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 38 двароў, 292 жыхары. У 1907 г. 61 двор, 390 жыхароў. У 1926 г. 411 жыхароў. 8.2.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 21 двор. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 16 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 277 жыхароў, у 1970 г. 200 жыхароў, у 1986 г. 57 двароў, 105 жыхароў. У 2002 г. ў З. 27 гаспадарак, 62 жыхары. Падзелена ручаём на паўн. і паўд. часткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ЗОРКА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 30 км на Пн ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Вярэйцы—Градзянка, 163 км ад Магілёва, на аўтадарозе Лапічы—Градзянка, на ПнЗ мяжуе з лесам. У вёсцы ніхто не жыве. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «3-і Інтэрнацыянал». Вялікай папулярнасцю карыстаўся вясковы харавы самадзейны калектыў, які ў 1939 г. выступаў на Усесаюзнай с.-г. выстаўцы. У 1941 г. 18 двароў, 82 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 5 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Планіровачна арганізавана ўздоўж аўтадарогі і забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ІГНАТОЎКА** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Асіповіч, 9 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 151 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

У 1808 г. сяло (15 двароў, 51 жыхар) у складзе маёнтка Загараддзе Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1889 г. адкрыта школа граматы (у 1890 — 15 вучняў). У 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 39 двароў, 283 жыхары. У 1907 г. 48 двароў, 361 жыхар, у 1917 г. 69 двароў, 445 жыхароў. З лютага

да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1925 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. Дзейнічалі курсы па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 12.4.1931 г. арганізаваны калгас імя В.Валадарскага. У канцы 1930-х г. у вёску перасяліліся жыхары з хутара Барок, вёсак Каменка, Красналеск і Калінінск. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы дзейнічала падп. антыфашысцкая група. Ням.-фаш. карнікі спалілі 19 двароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 52 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 236 жыхароў, у 1970 г. 206 жыхароў, у 1986 г. 60 двароў, 96 жыхароў. У 2002 г. ў І. 32 гаспадаркі, 49 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 адасобленых участкаў драўлянай сядзібнай забудовы.

**КАЗІМІРАВА** — вёска ў Градзянскім с/с, за 30 км на Пн ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 140 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

У 1907 г. засценак у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 10 двароў, 37 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа. У 1917 г. 18 двароў, 116 жыхароў. 15.6. 1923 г. створана с.-г. т-ва «Працаўнік». У 1925 г. ў вясковай школе 39 вучняў. У 1926 г. хутар (2 двары, 15 жыхароў) і аколіца (18 двароў, 180 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», мелася кузня. У 1940 г. 33 двары. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы знаходзілася партыз. застава. Ням.-фаш. карнікі спалілі 28 двароў. На фронце загінулі 10 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў, у 1970 г. 56 жыхароў, у 1986 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2002 г. ў К. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіроўка лінейная, у адну вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**КАМАРЫНА** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 5 км на Пн ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Асіповічы, 130 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Мінск—Бабруйск, на У р. Сіняя (прыток Свіслачы). 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

За 0,8 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Вусце, каля ўпадзення р. Сіняя ў Свіслач захавалася селішча ранняга жал. веку. Тут жа курган эпохі Кіеўскай Русі, які належаў дрыгавічам (11—13 ст.), за 0,5 км на Пд ад вёскі — другі старажытны курган. Помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. засценак (3 двары, 25 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 9 двароў, 42 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У 1940 г. 19 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 16 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары, у 1970 г. 47 жыхароў, у 1986 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 адасобленых частак. Сядзібная драўляная забудова арганізавана па абодвух баках прамалінейнай вуліцы.

**КАМАРЫНА** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 155 км ад Магілёва, на р. Пціч (прыток Прыпяці), на ПдУ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 12 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. пасёлак, 23 двары, 89 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У 1940 г. вёска, 30 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 2 жыхароў, 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Размешчаны гідраметэапост. У 2002 г. ў К. 15 гаспадарак, 21 жыхар. Планіроўка набліжана да радыяльнай. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**КАМЕНІЧЫ** (да 1967 вёскі Вялікія Каменічы і Малыя Каменічы) — вёска ў Градзянскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 168 км ад Магілёва, на аўтадарозе Ялізава—Градзянка і р.

Каменка (прыток Свіслачы), на У і Пд мяжуе з лесам. 128 гаспадарак, 321 жыхар (2007).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся могільнік (14 курганоў), за 250 м на З ад вёскі, ва ўрочышчы Лядзецкае — 2-і могільнік (20 насыпаў), за 1—1,5 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна — 3-і могільнік (85 насыпаў). Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1513 г. сяло ў Свіслацкай вол. ВКЛ, уласнасць казны. У 1560 г. 14 дымоў. У 1516 г. ў складзе маёнтка Свіслач Мінскага павета Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1885 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 30 двароў, 345 жыхароў, млын. Раз у год (23 крас.) праводзіўся таржок. Паводле перапісу 1897 г. вёскі: Каменічы Вялікія (68 двароў, 449 жыхароў, вятрак, школа граматы, хлебазапасны магазін, царква) і Каменічы Малыя (19 двароў, 113 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом). У 1917 г. ў Каменічах Вялікіх 76 двароў, 534 жыхары, у Каменічах Малых 22 двары, 140 жыхароў, у фальварку Каменічы 1 двор, 17 жыхароў. У 1917 г. ў Каменічах Вялікіх 92 двары, 512 жыхароў, у Каменічах Малых 30 двароў, 192 жыхары, у фальварку 2 двары, 21 жыхар. 28.11.1924 г. створана с.-г. т-ва «Плуг». У 1926 г. ў Вялікіх Каменічах 94 двары, 540 жыхароў, у Малых Каменічах 28 двароў, 108 жыхароў. У 1929 г. адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы доўгі час знаходзілася партыз. застава. У баі каля вёскі ў 1943 г. партызан Б.М.Дзмітрыеў змагаўся да апошняга, а калі скончыліся патроны, узарваў гранатай сябе і наблізіўшыхся да яго гітлераўцаў. Тройчы карнікі спальвалі вёску (студз. 1943, люты, май 1944), загубілі 25 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 55 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі ў 1985 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены абеліск. З 16.7.1954 г. цэнтр Каменіцкага с/с Асіповіцкага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. зноў Асіповіцкага р-наў Магілёўскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 487 жыхароў, у 1970 г. 412 жыхароў, у 1986 г. 120 гаспадарак, 303 жыхары. У 2002 г. ў К. 132 гаспадаркі, 378 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, магазін, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад. Планіровачна арганізавана па абодва бакі ракі, у 2 плаўна выгнутыя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр — у левабярэжнай частцы, каля аўтадарогі.

**КАНЦЫ** — вёска ў Дрычынскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Асіповіч, 13 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 161 км ад Магілёва, каля р. Пціч. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 33 гаспадаркі, 55 жыхароў (2007).

На ўсх. ускраіне вёскі ва ўрочышчы Пагарэліцкі Брод захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. ў Жыцінскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 25 двароў, 149 жыхароў. У 1917 г. 43 двары, 280 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможца». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 4 жыхароў. На фронце загінулі 22 вяскоўцы. Ёсць магазін. У 2002 г. ў К. 39 гаспадарак, 64 жыхары. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, з 2 бакоў няшчыльна забудаваную драўлянымі сял. хатамі. На З адасобленая частка забудовы. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы М.Дз.Вараб'я (24.4.1930—6.1.1994).



*М.Дз.Варабей.*

**КАРАНЫ** — вёска ў Карытненскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Асіповічы, 137 км ад Магілёва, на З і Пд мяжуе з лесам, на аўтадарозе Асіповічы—Глуша. 52 гаспадаркі, 83 жыхары (2007).

У 1890 г. пачала працаваць школа граматы (у першы год 10 вучняў). У 1897 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета

Мінскай губ., 42 двары, 265 жыхароў. У 1907 г. 49 двароў, 274 жыхары, у 1917 г. 66 двароў, 397 жыхароў. У вясковай школе ў 1926 г. 59 вучняў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1940 г. 102 двары, 407 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 3 двары і загубілі 7 жыхароў. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 340 жыхароў, у 1970 г. 326 жыхароў, у 1986 г. 87 гаспадарак, 191 жыхар. У 2002 г. ў К. 61 гаспадарка, 106 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, клуб, б-ка, магазін. Планіроўка Т-падобная, сфарміравана па абодва бакі аўтадарогі. Забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**КРАМА** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 36 км на ПнУ ад Асіповіч, 11 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 169 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. У вёсцы ніхто не жыве.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1940 г. 24 двары, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары, у 1970 г. 112 жыхароў, у 1986 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары. Планіроўка лінейная, у адну вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай.

**КАРЫТНАЕ** — вёска, цэнтр Карытненскага сельсавета, за 21 км на ПдУ ад Асіповіч, 13 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 130 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Глуша. 184 гаспадаркі, 429 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Глускай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1597 г. 37 дымоў, у 1602 г. 34 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1857 г. с. Карытна ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне памешчыка. Дзейнічала царква. Паводле перапісу 1897 г. сёлы Карытна (4 двары, 23 жыхары, заезны дом) і Задарожжа-Карытна (39 двароў, 268 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У канцы 19 ст. развіццё вёскі было звязана з будаўніцтвам Лібава-Роменскай чыг. і буйнымі лесараспрацоўкамі ў навакольных лясах. Пачалі працаваць смалакурня і майстэрні па вырабу клёпак і абадоў. Побач была сядзіба з паркам. У 1900 г. ў с. Задарожжа-Карытна адкрыта царкоўнапрыходская школа. У 1907 г. ў с. Задарожжа-Карытна 52 двары, 384 жыхары, у фальварку Карытна 2 двары, 136 жыхароў. У 1917 г. ў с. Карытна 63 двары, 393 жыхары, у фальварку 120 жыхароў. У 1923 г. ў вясковай школе 50 вучняў, мелася б-ка. 2.12.1923 г. створана с.-г. т-ва «Чырвоны Кастрычнік». У гэтым жа годзе пачаў працаваць фельч. пункт. У 1924 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 20.8.1924 г. цэнтр Карытненскага с/с Асіповіцкага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. зноў Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абл. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня і с.-г. школа з 3-гадовым навучаннем (у 1926 — 74 вучні). У 1926 г. пасёлак (20 двароў, 101 жыхар) і сяло (54 двары, 230 жыхароў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», у 1931 г. яшчэ адзін калгас «Рассвет». У 1940 г. 88 двароў, 437 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 15 двароў, загубілі 8 жыхароў. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Карытнае. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў, у 1970 г. 452 жыхары, у 1986 г. 163 гаспадаркі, 440 жыхароў. У 2002 г. ў К. 193 гаспадаркі, 471 жыхар. Размешчаны механічная майстэрня, лесапільня, сярэдняя школа, стадыён, сталовая, дзіцячы сад-яслі, аптэка, бальніца, магазін, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, АТС, Дом культуры. Аснову планіроўкі складае прамалінейны адрэзак аўтадарогі. Пераважае драўляная забудова. У цэнтры — двухэтажная мураваная жылая забудова і сквер.

У склад Карытненскага с/с уваходзілі в. Старонка (знішчана ў 1943 гітлераў-

цамі і не адноўлена), да 1967 г. в. Білоб, да 1986 г. в. Максімаўка, да 1967 г. пас. Карытнае (зараз не існуюць).

**КАСТРЫЧНІК** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 10 км на У ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Асіповічы-3 на лініі Мінск—Бабруйск, 130 км ад Магілёва, на ПдУ мяжуе з лесам. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Засн. ў 1925 г. перасяленцамі з суседніх вёсак як пасёлак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У 1941 г. 35 двароў, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. 30.6.1944 г. ў баі за вызваленне вёскі ад ням.-фаш. захопнікаў гераічна загінуў С.В.Пяцелін, якому прысвоена званне Героя Сав. Саюза пасмяротна. У 2002 г. ў К. 16 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіроўка лінейная, у адну вуліцу з двухбаковай драўлянай няшчыльнай забудовай, расчлянёнай у цэнтры прасёлачнай дарогай.

**КАЎГАРЫ** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 157 км ад Магілёва, на У чыгунка Асіповічы—Слуцк. Побач аўтадарога Асіповічы—Дараганава. 157 гаспадарак, 348 жыхароў (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі захаваўся курганны могільнік (5 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1860 г. ў складзе аднайменнага маёнтка Бабруйскага павета Мінскай губ., уладанне памешчыка, 32 двары, 237 жыхароў. У 1901 г. засн. вінакурня (у 1913 — 6 рабочых). У пач. 1920-х г. у былым маёнтку была створана нар. гаспадарка. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 70 двароў, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 18 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў 2 брацкіх магілах у цэнтры вёскі і на могілках). 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1976 г. да вёскі далучана в. Хальні. У 2002 г. ў К. 189 гаспадарак, 438 жыхароў. Размешчаны клуб, б-ка, дзіцячы сад-яслі, пач. школа, ветэрынарная лячэбніца, магазін. Цэнтр СПК «Калгас «Калгарскі». Планіроўка лінейная, у адну вуліцу, забудаваную з 2 бакоў драўлянымі сял. хатамі. Грамадскія будынкі ў цэнтры вёскі. На ўсх. ускраіне сад.

**КЛЯПЧАТЫ МОСТ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 7 км на Пд ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Асіповічы, 130 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Дараганава. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 147жыхароў, у 1970 г. 113 жыхароў, у 1986 г. 22 двары, 41 жыхар. У 2002 г. ў К.М. 6 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіроўка ў 3 кароценькія, узаемнаперпендыкулярныя вуліцы, забудаваныя няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.



*С.В.Пяцялін.*

**КОПЧА** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 48 км на У ад Асіповіч, 14 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 181 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Ялізава—Сычкава. 27 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска (23 рэвізскія душы) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Свіслацкай вол. Бабруйскага павета, 15 двароў, 97 жыхароў. У 1907 г. 130 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 124 жыхары. У 1926 г. 22 двары, 150 жыхароў. У 1940 г. 41 двор, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 69 жыхароў, у 1970 г. 133 жыхары, у 1986 г. 36 гаспадарак, 83 жыхары. У 2002 г. ў К. 31 гаспадарка, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. хатамі.

**КОХАНАЎКА** — вёска ў Карытненскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Мінск, 120 км ад Магілёва, побач аўтадарога Асіповічы—Глуша. 24 гаспадаркі, 31 жыхар (2007).

У 1897 г. ўрочышча (1 двор, 8 жыхароў) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага





*Агульны выгляд і фрагмент інтэр'ера царквы ў гонар іконы Маці Божай Жываносная Крыніца ў в. Коханаўка.*

павета Мінскай губ. У 1907 г. засценак (4 двары, 23 жыхары). У 1917 г. хутар (4 двары, 30 жыхароў) і фальварак (1 двор, 15 жыхароў). У 1926 г. хутары, 10 двароў, 96 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас імя А.А.Андрэева. У 1940 г. 65 двароў, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 2 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучана в. Білоб. Паводле перапісу 1959 г. 107 жыхароў, у 1970 г. 211 жыхароў, у 1986 г. 49 двароў, 103 жыхары. Ёсць магазін. У 2002 г. ў К. 29 гаспадарак, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з адасобленых паўн. і паўд. частак, аб'яднаных прамалінейнай вуліцай. Планіроўка паўн. часткі лінейная, у адну вуліцу. Паўд. частка Г-падобная. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**КРАІ** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 163 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Дараганава. 59 гаспадарак, 110 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла, 64 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў Новадарожскай вол. Бабруйскага павета, 38 двароў, 288 жыхароў. У 1907 г. 45 двароў, 340 жыхароў, у 1917 г. 75 двароў, 464 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа (50 вучняў у 1922). У 1930 г. створаны калгас «Чырвоныя Краі». У 1940 г. 124 двары, 513 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 5 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Размешчаны базавая школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 83 гаспадаркі, 142 жыхары. Планіроўка наближана да квартальнай з пераважна драўлянай, няшчыльнай забудовай сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на ўсх. ускраіне.

**КРАМОК** — вёска ў Дрычынскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Асіповіч, 19 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 163 км ад Магілёва, на З і Пд р. Пціч, на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 76 гаспадарак, 111 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. вёска (177 жыхароў мужчынскага полу) у Бабруйскім павеце, уладанне Д.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. ў Жыцінскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 108 двароў, 640 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1907 г. 142 двары, 771 жыхар. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 159 двароў, 892 жыхары. У вясковай школе ў 1923 г. 47 вучняў, мелася

б-ка. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Ільіча». У 1967 г. да вёскі далучана в. Юравічы. Былі размешчаны майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры, б-ка. У 2002 г. ў К. 95 гаспадарак, 154 жыхары. Планіроўка складаецца з нерэгулярна трасіраваных вуліц і завулкаў, забудаваных двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі. Падзяляецца на паўн. і паўд. часткі, паміж якімі знаходзіцца грамадскі цэнтр.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Градзянскім с/с, за 45 км на ПнУ ад Асіповіч, 15 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 175 км ад Магілёва, на У р. Каменка, на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск.

У 1907 г. засценак (8 двароў, 48 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 54 жыхары. У 1926 г. 9 гаспадарак, 64 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. У 1940 г. 10 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 24 жыхары, у 1986 г. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў. Забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 29 км на У ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 120 км ад Магілёва, на правым беразе р. Бярэзіна (прыток Дняпра) і аўтадарозе Градзянка—Сычкава. 143 гаспадаркі, 330 жыхароў (2007).

За 0,7 км на З ад вёскі, на другой надпойменнай тэрасе правага берага р. Бярэзіна захавалася стаянка каменнага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У 1897 г. хутар (1 двор, 6 жыхароў) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. ў Свіслацкай вол. Бабруйскага павета, 8 жыхароў, у 1917 г. 2 двары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 10 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). У 1967 г. да вёскі далучана в. Рыдлё, у 1976 г. — в. Кассё. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў, у 1970 г. 178 жыхароў, у 1986 г. 201 гаспадарка, 409 жыхароў. Размешчаны базавая школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Схема планіроўкі распрацавана БелНДІдзіпрасельбудам у 1964 г. У 2002 г. ў К. 158 гаспадарак, 350 жыхароў. Планіровачна арганізавана ўздоўж аўтамабільнай дарогі. Пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу.



*Міхайлаўская царква ў в. Крамок.*

**КРАСНІК** — вёска ў Карытненскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Асіповічы, 112 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Глуша. У вёсцы ніхто не жыве.

У 1897 г. пас. Краснік (ён жа Царабеж) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 8 двароў, 62 жыхары. У 1907 г. 81 жыхар, у 1917 г. 18 двароў, 83 жыхары. У 1926 г. 17 двароў, 94 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э. Дзяржынскага. У 1941 г. 25 двароў, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 21 двор. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў, у 1970 г. 40 жыхароў, у 1986 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіроўка лінейная, у адну кароткую вуліцу, забудаваную няшчыльна, драўляным сял. хатамі.

**КРЫНКА** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 160 км ад Магілёва, на ПдЗ

р. Пціч, на ПдУ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 57 гаспадарак, 73 жыхары (2007).

За 0,5 км ад вёскі, ва ўрочышчы Сечышча, каля р. Пціч, захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1651 г. фальварак у Бабруйскім павеце, вакол якога складвалася сяленне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1838 г. 142 рэвізскія душы. У 1840 г. 33 двары. У 1841 г. пабудавана драўляная царква. У 1847 г. ў складзе маёнтка Майсеевічы Бабруйскага павета, уладанне кн. Вітгенштэйна, 42 двары, 335 жыхароў. У 1885 г. ў Жыцінскай вол. Бабруйскага павета, 49 двароў, 340 жыхароў, млын. У 1886 г. засн. смалакурна-шкіпінарны з-д (у 1890 — 2 рабочыя). Паводле перапісу 1897 г. вёска (103 двары, 643 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма), аднайменны фальварак (1 двор, 14 жыхароў, 2 вадзяныя млыны, ваўначоска), пасёлак (4 двары, 36 жыхароў, заезны дом), царк. сядзіба (2 двары, 12 жыхароў). У 1905 г. адкрыта земская школа і ўзведзены для яе будынак. У 1907 г. 128 двароў, 729 жыхароў, у 1917 г. ў сяле 163 двары, 917 жыхароў, у фальварку 76 жыхароў, у пасёлку 5 двароў, 22 жыхары. У 1921 г. ў былым фальварку была створана нар. гаспадарка. У вясковай школе ў 1923 г. былі 43 вучні і б-ка. Дзейнічала хата-чытальня. У 1926 г. 175 двароў, 888 жыхароў. З 1927 г. пачала працаваць метэаралагічная станцыя. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Крынка». У 1933 г. вёска электрыфікавана. У 1940 г. 171 двор. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі загубілі 88 жыхароў. У 1942 г. акупанты расстралялі 82 дзяцей з дзіцячага санаторыя «Крынкі» (пахаваны ў магіле за 1,5 км на З ад вёскі). 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Былі размешчаны клуб, б-ка, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 2002 г. ў К. 73 гаспадаркі, 95 жыхароў. Планіроўка набліжана да Т-падобнай з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. У зарэчнай частцы адасоблены фрагмент забудовы. На скрыжаванні вуліц грамадскія будынкі.



А.Г.Слука.

**КРЫЧАВЕЦ** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Градзянка—Вярэйцы, 165 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Лапічы—Градзянка. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1907 г. засценак (5 двароў, 58 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 11 двароў, 62 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, у якім з 1938 г. дзейнічала хата-лабараторыя. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты расстралялі 2 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары, у 1970 г. 67 жыхароў, у 1986 г. 14 гаспадарак, 33 жыхары. У 2002 г. ў К. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую, прамалінейную вуліцу, з 2 бакоў забудаваную драўлянымі сял. хатамі.

**ЛАПКОВІЦА** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Асіповіч, 15 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 160 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе Асіповічы—Свіслач. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. перасяленцамі з суседніх вёсак у 1923 г. як пасёлак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». У 1940 г. 18 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 7 двароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. Планіровачна ўяўляе адну кароткую прамалінейную вуліцу з двухбаковай, няшчыльнай забудовай. Радзіма доктара гіст. навук, праф. А.Г.Слукі (н. 12.7.1941).

**ЛАЗОВАЕ** — вёска ў Градзянскім с/с, за 30 км на Пн ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Вярэйцы—Градзянка, 164 км ад Магілёва, на аўтадарозе Лапічы—Градзянка, на З мяжуе з лесам. 25 гаспадарак, 59 жыхароў (2007).

У 1827 г. вёска (7 жыхароў мужчынскага полу), уласнасць памешчыка. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 — 12 вучняў). У 1896 г. школа граматы ператворана ў земскую. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 46 двароў, 325 жыхароў. Побач была царк. сядзіба (1 двор, 6 жыхароў). У 1907 г. 56 двароў, 378 жыхароў, смалакурня. У 1917 г. 88 двароў, 495 жыхароў, лясная вартоўня (1 двор, 6 жыхароў), урочышча (2 двары, 8 жыхароў) і хутар (1 двор, 2 жыхары). У 1925 г. пры вясковай школе дзейнічалі курсы ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 80 двароў, 450 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, мелася кузня. У 1940 г. 94 двары. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы знаходзілася партыз. застава. Ням.-фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 47 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 22 вяскоўцы. За 1 км на З ад вёскі пахаваны 79 жыхароў в. Паляткі (не існуе з 1985), якіх у маі 1944 г. спалілі акупанты разам з вёскай (41 двор). Ва ўрочышчы Рассоха, што непадалёку ад вёскі, базіраваліся Асіповіцкая ваенна-аператыўная група і Асіповіцкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, у гонар якіх у 1975 г. ўзведзены мемарыяльны комплекс — 5 прамавугольных стэл з мемарыяльнымі надпісамі і рэльефнымі выявамі, прысвечанымі партыз. будням. Перад стэламі — 40 магіл, у якіх пахаваны 80 партызан Асіповіцкага партыз. злучэння, што загінулі ў баях супраць акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 202 жыхары, у 1970 г. 96 жыхароў, у 1986 г. 49 гаспадарак, 96 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. ў Л. 26 гаспадарак, 57 жыхароў. Планіроўка лінейная, уздоўж аўтадарогі, абодва бакі якой забудаваны драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — адасоблены ўчастак індывідуальнай забудовы. Радзіма сав. парт. і дзярж. дзеяча П.А.Лявіцкага і аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. ў Вял. Айч. вайну А.К. Стэльмаха.

**ЛАПІЧЫ** — вёска, цэнтр Лапіцкага с/с, за 15 км на ПнЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 148 км ад Магілёва, на аўтадарозе Мінск—Бабруйск, каля Асіповіцкага вадасховішча. 387 гаспадарак, 946 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло (39 дымоў) у Свіслацкай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1768 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, 31 двор. У 1861 г. мястэчка (60 двароў, 396 жыхароў) у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1856 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1891 — 41 вучань). У 1868 г. пабудавана з дрэва царква. У 1886 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 62 двары, заезны дом, 3 лаўкі. Адзін раз у год праводзіўся кірмаш. У 1893 г. засн. мукамольна-крупяное прадпрыемства з паравой машынай. Паводле перапісу 1897 г. побач з мястэчкам (114 жыхароў, 20 дробных лавак, 4 піцейныя дамы, вінагарэлачны аптовы склад) знаходзілася аднайменнае сяло (108 двароў, 672 жыхары, школа, хлебазапасны магазін). Непадалёку былі вадзяны млын (1 двор, 6 жыхароў), маёнтак (1 двор, 15 жыхароў) і выселак (1 двор, 8 жыхароў). Жыхары мястэчка і сяла апрача земляробства займаліся ткацкім, лубяным, рагожным і дрэваапрацоўчым промысламі. У 1907 г. ў мястэчку 98 двароў, 695 жыхароў, у сяле — 138 двароў, 784 жыхары, у маёнтку — 1 двор, 5 жыхароў. З 1913 г. дзейнічала паштова-тэлегр. аддз. У 1917 г. ў мястэчку 113 двароў, 809 жыхароў, у сяле 854 жыхары, у маёнтку — 1 двор, 12 жыхароў, у лясной вартоўні 1 двор, 2 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Лапіцкага с/с Асіповіцкага, з 25.12. 1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. зноў Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў Магілёўскай абл. У 1925 г. адкрыты 2 хаты-чытальні. У 1926 г. ў мястэчку 818 жыхароў, у сяле 160 двароў, 807 жыха-



*П.А.Лявіцкі.*



*І.М.Стэльмах.*



*У наваколлі в. Лапічы.*



*Гандлёвы цэнтр у в. Лапічы.*



*С.П.Уласенка.*

роў. У канцы 1920-х г. мястэчка і сяло склалі адзін населены пункт. Для школы ў 1927 г. пабудавана новае памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец». У наступныя гады ўзведзены шэраг грамадскіх будынкаў, у тым ліку радзільны дом, грамадская лазня. У Вял. Айч. вайну партызаны ў жн. 1942 г. разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 819 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 60 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях ці памерлі ад ран у 1941 і 1944 гг. У баі за вызваленне вёскі вызначыўся камандзір гарматы старшы сяржант С.П.Уласенка (удастоены звання Героя Сав. Саюза). На франтах загінулі 47 вяскоўцаў. У пасляваенны час у вёсцы размясціўся дзіцячы дом. Паводле перапісу 1959 г. 487 жыхароў, у 1970 г. 702 жыхары, у 1986 г. 330 гаспадарак, 860 жыхароў. У 2002 г. ў Л. 352 гаспадаркі, 857 жыхароў. Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, млын, хлебапякарня, станцыя падземнага захавання газу, лясніцтва, аптэка, сярэдняя школа, амбулаторыя, бальніца, дзіцячы сад, дзіцячая муз. школа, аддз. ашчаднага банка, ветэрынарная лячэбніца, аддз. сувязі, АТС, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, Дом культуры, 2 сталовыя, 6 магазінаў, Дом быту, абласны дзіцячы санаторый «Лапічы». Цэнтр СПК «Калгас «Лапкавічы». Планіроўка рэгулярная, засн. на ўзаемна перпендыкулярных прамых вуліцах з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Ручаём Лапка вёска падзелена на паўд.-зах. і паўн.-ўсх. часткі. Гістарычная паўд.-зах. частка захоўвае лінейную планіроўку ўздоўж аўтадарогі з пераважна драўлянай сядзібнага тыпу забудовай. У паўн.-ўсх. часткі, схема планіроўкі якой распрацавана БелДзІПрасельбудам у 1984 г., фарміруецца квартальная забудова з плошчай і грамадскімі будынкамі. Непадалёку, на свабоднай тэр. правага берага р. Граўка, склаўся пасёлак газавікоў са сваім гандл. цэнтрам, мураванай забудовай 2—4-павярховымі шматкватэрнымі дамамі і аднапавярховымі катэджамі.

У склад Лапіцкага с/с да мая 1943 г. ўваходзіла в. Весялова (спалена акупантамі і не адноўлена), да 1967 г. пасёлкі Жорнаўка, Падброддзе (зліліся з в. Жорнаўка), вёскі Зарэчча, Лапічы-1, Лапічы-2, Цалянка, Палянская Слабада, Папоўка, Навіна-1, Навіна-2, Восава, Прытыка, Заброддзе, Блыхава, Папоўка, Віктарава, Пад'ясень (не існуюць).

**ЛАПІЧЫ** — чыг. станцыя на лініі Градзянка—Вярэйцы, у Лапіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Асіповіч, 154 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 36 гаспадарак, 78 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. ў сувязі з будаўніцтвам чыг. лініі Вярэйцы—Градзянка. У 1921 г. 20 двароў, 81 жыхар. У 1940 г. 20 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі станцыю. 14 ураджэнцаў ст. Лапічы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары, у 1970 г. 977 жыхароў. У 1986 г. 86 гаспадарак, 195 жыхароў. У 2002 г. ў Л. 44 гаспадаркі, 91 жыхар. Ёсць сярэдняя школа,

сталовая, б-ка, стадыён, аптэка, магазін. Сфарміравалася на ўсх. баку чыгункі, паралельна да якой трасіравана гал. вуліца. У цэнтры яе драўлянай забудовы прывакзальная плошча з будынкамі вакзала.

**ЛЕНІНА** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 10 км на Пн ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст. Асіповічы, 143 км ад Магілёва, непадалёку ад паўн. берага Асіповіцкага вадасховішча. Транспартныя сувязі па дарозе Асіповічы—Свіслач. 32 гаспадаркі, 56 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «Авангард». У 1940 г. 26 двароў, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфашысцкая група. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучана в. Зялёная Дубрава. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары, у 1970 г. 194 жыхары, у 1986 г. 61 гаспадарка, 121 жыхар. У 2002 г. ў Л. 41 гаспадарка, 71 жыхар. Планіроўка рэгулярная, у адну прамалінейную вуліцу, забудаваную драўлянымі сял. хатамі.

**ЛІПЕНЬ** (да 1920 Халуі) — вёска, цэнтр Ліпеньскага с/с, за 20 км на ПнУ ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 126 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Свіслач, на ПдУ р. Свіслач, на У мяжуе з лесам. 361 гаспадарка, 905 жыхароў (2007).

За 1 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Стараселле, на левым беразе р. Свіслач захавалася гарадзішча культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 ст.) і эпохі Кіеўскай Русі (10—13 ст.), якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1637 г. як прыватнафеадальнае ўладанне ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1793 г. побач быў маёнтак Халуйкі, дзейнічаў касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1861 г. мястэчка ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. Меліся царква і малітоўная школа. У 1885 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 563 жыхары, школа (нар. вучылішча), піцейны дом, 7 лавак, царква, малітоўны дом. У маёнтку 115 жыхароў. У пач. 20 ст. пабудаваны лесапільня і млын. Атрымалі развіццё дрэваапрацоўчы і лубяны промыслы. У 1907 г. ў мястэчку 74 двары, 561 жыхар, у маёнтку 118 жыхароў, у 1917 г. ў мястэчку 84 двары, 568 жыхароў, у маёнтку 119 жыхароў, у лясной вартоўні 1 двор, 6 жыхароў. У вясковай школе ў 1926 г. 32 вучні. У 1926 г. 98 двароў, 690 жыхароў, млын, лесапільны з-д. З 1927 г. цэнтр Ліпеньскага с/с Свіслацкага, з 8.7.1931 г. Асіповіцкага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. зноў Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў Магілёўскай абл. 10.4.1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1939 г. створана МТС. У 1940 г. 284 двары, 852 жыхары. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфашысцкая група (кіраўнікі М.У.Кунько і М.П.Гоцін). У кастр.—ліст. 1941 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 210 жыхароў. Група партызан 26.11.1942 г. вяла ў вёсцы цяжкі бой супраць акупантаў. Было знішчана шмат гітлераўцаў, але і партызаны панеслі значныя страты. У баях каля вёскі загінулі 28 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 69 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 894 жыхары, у 1970 г. — 1123 жыхароў, у 1986 г. 406 гаспадарак, 951 жыхар. У 1967 г. да вёскі далучаны вёскі Крынічкі, Новае Жыццё, Валадарск, Стараселле, Акоп, Тодараў Кут. У 2002 г. ў Л. 385 гаспадарак, 872 жыхары. Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, цэх па перапрацоўцы драўніны, лясніцтва і лесапункт Асіповіцкага лесрамгаса, сярэдняя школа, стадыён, сталовая, краязнаўчы музей, вучэбна-вытв. камбінат, дзіцячы сад-яслі, бальніца, амбулаторыя, аптэка, б-ка, Дом культуры, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, грамадская лазня, 5 магазінаў, сталовая, Дом быту, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Дзейнічае

філіял ТАА «Белшына».Схема планіроўкі распрацавана БелДзІПрасельбудам у 1966 г. Планіроўка прамавугольна-радыяльная, квартальная. Жылы фонд у асн. драўляны сядзібнага тыпу. Мураваныя будынкі на паўн. ускраіне. Адм.-грамадскі цэнтр на скрыжаванні 2 гал. вуліц, вакол сквера. Развіццё жыллёвага будаўніцтва прадугледжана ў зах. напрамку, на Пн ад аўтадарогі.

У склад Ліпеньскага с/с уваходзілі да 1966 г. пас. Зашывы, да 1967 г. вёскі Стараселле, Тодараў Кут, Валадарск, Крынічкі, Новае Жыццё, Акоп, Заграддзе (зараз не існуюць).



*Ю.К.Кедзіч.*

**ЛІЦВІНАВА** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 5 км на У ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Асіповічы-2 на лініі Асіповічы—Магілёў, 130 км ад Магілёва. 21 гаспадарка, 44 жыхары (2007).

У 1917 г. пас. Ліцвінава (ён жа Замошша), у Замошскай вол. Бабруйскага павета, 99 жыхароў. У 1926 г. 17 двароў, 90 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 31 двор, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў, у 1970 г. 81 жыхар, у 1986 г. 25 гаспадарак, 55 жыхароў. У 2002 г. ў Л. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу шыротнай арыентацыі, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЛОЧЫН** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 40 км на Пн ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Градзянка—Вярэйцы, 173 км ад Магілёва, на беразе воз. Лочынскае. Транспартныя сувязі па дарозе Лапічы—Градзянка. 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

У 1816 г. вёска і фальварак у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1887 г. адкрыта школа граматы (у 1890 навучаліся 4 хлопчыкі). У 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета, ў вёсцы 30 двароў, 205 жыхароў, хлебазапасны магазін, у фальварку 4 двары, 20 жыхароў. У 1899 г. засн. лесапільнае, мукамольнае і крухмальнае прадпрыемствы. У 1907 г. ў вёсцы 38 двароў, 361 жыхар, у фальварку 38 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 39 двароў, 242 жыхары, у фальварку 64 жыхары. У 1924 г. адкрыта 4-гадовая школа і збудавана для яе памяшканне (у 1926 было 100 вучняў). У 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 360 жыхароў, у былым фальварку 12 двароў, 84 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Слава», працавала кузня. У 1940 г. 77 двароў, 436 жыхароў. У Вял. Айч. вайну працяглы час у вёсцы знаходзілася партыз. застава. У маі 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі больш за 200 яе жыхароў (пахаваны ў магіле ў цэнтры вёскі). 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучана в. Віктарава. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў, у 1970 г. 130 жыхароў, у 1986 г. 32 двары, 72 жыхары. Ёсць магазін. У 2002 г. ў Л. 19 гаспадарак, 34 жыхары.

Радзіма бел. дзярж. дзеяча Ю.К.Кедзіча (н. 15.3.1933). Планіроўка Т-падобная, з няшчыльнай драўлянай забудовай. На ПнЗ, на беразе возера — торфаўчастак.

**ЛУКА** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 25 км на Пд ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 148 км ад Магілёва, на р. Пціч (прыток Прыпяці), на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Дараганава. 31 гаспадарка, 52 жыхары (2007).

За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Дрындзінаў Хутар, на правым беразе р. Пціч захаваўся могільнік (3 курганы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. ўрочышча (1 двор, 10 жыхароў) у Навадарожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. засценак (15 двароў, 102 жыхары). Побач была лесапільня (60 жыхароў). У 1917 г. ў засценку 27 двароў, 178 жыхароў, на лесапільні 1 двор, 2 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна». У 1941 г. 65 двароў, 262 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў снеж. 1943 г. спалілі 63 двары і загубілі 10 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 5 сав.

воінаў і 2 партызаны (пахаваны на магілках). 23 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 2002 г. ў Л. 43 гаспадаркі, 74 жыхары. Ёсць магазін. Маляўнічая планіроўка вёскі абумоўлена падпарадкаванасцю гал. вуліцы берагавой лініі ракі. Ад гал. вуліцы на Пд адгаліноўваюцца 3 паралельныя паміж сабой завулкі. Забудавана аднабакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ЛУЧЫЦЫ** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 8 км на У ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Асіповічы-3 на лініі Асіповічы—Бабруйск, 130 км ад Магілёва, побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 52 гаспадаркі, 129 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце, ва ўладанні памешчыка. У 1897 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 62 двары, 376 жыхароў. Побач была аднайменная сядзіба (1 двор, 3 жыхары). У 1907 г. 75 двароў, 342 жыхары, у 1917 г. 91 двор, 538 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа (у 1926 — 75 вучняў). З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр Лучыцкага с/с Асіповіцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рассвет», працавала кузня. У 1938 г. адкрыта хата-лабараторыя. Бліжэйшыя да вёскі хутары былі перасялены ў 1939—40 гг. у вёску. У 1940 г. 96 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі ў студз. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 249 жыхароў, у 1970 г. 215 жыхароў, у 1986 г. 62 гаспадаркі, 105 жыхароў. У 2002 г. ў Л. 42 гаспадаркі, 126 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну Г-падобную вуліцу і 2 завулкі з двухбаковай драўлянай сядзібнай забудовай. На У адасоблены ўчастак вёскі.

**ЛЮЛЕВА** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 113 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 81 жыхар. У 1917 г. 15 двароў, 122 жыхары. У 1926 г. 23 двары, 146 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў. У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 143 жыхары, у 1970 г. 67 жыхароў, у 1986 г. 19 двароў, 32 жыхары. У 2002 г. ў Л. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіроўка кампактная, у адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**МАЙСЕЕВІЧЫ** — вёска ў Дрычынскім с/с, 29 км на ПдЗ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 162 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы, на поўначы р. Пціч (прыток Прыпяці). 82 гаспадаркі, 136 жыхароў (2007).

За 4 км на З ад вёскі, на беразе р. Пціч, каля моста захавалася стаянка бронзавага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., ва ўладанні памешчыка, 151 рэвізская душа. Паводле перапісу 1897 г. ў Жыцінскай вол., 61 двор, 975 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. Побач быў аднайменны маёнтак (1 двор, 15 жыхароў). У 1907 г. 86 двароў, 500 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1917 г. 101 двор, 629 жыхароў. У вясковай школе ў 1926 г. навучаліся 50 хлопчыкаў і дзяўчынак, мелася б-ка. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. У 1940 г. 160 двароў, 753 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 6 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-ўсх. ускраіне). 18 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Адзін з іх — С.М.Каданчык, які вызначыўся ў баях супраць гітлераўцаў пры вызваленні г. Новарасійска, удастоены звання Героя Сав. Саюза. У 2002 г. ў М. 99 гаспадарак, 172 жыхары. Размешчаны магазін, базавая школа, б-ка. Плаўна выгнутая аўта-

дарога падзяляе вёску на паўн. і паўд. часткі. Адм. цэнтр у паўн. частцы. Ад яго праменіста адгаліноўваюцца 2 вуліцы. Паўд. частка — уздоўж аўтадарогі, перпендыкулярна да якой падыходзіць каротка вуліца. Пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ ГАРОЖА** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Асіповічы-2 на лініі Асіповічы—Магілёў, 130 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам, на аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 78 гаспадарак, 168 жыхароў (2007).

Паміж вёскамі Брыцалавічы і Малая Гарожа, на правым беразе р. Свіслач, захаваўся могільнік (5 курганоў), які належаў дрыгавічам (10—13 ст.) і сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. в. Гарожка (29 двароў, 198 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 43 двары, 284 жыхары, у 1917 г. 64 двары, 373 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 80 двароў, 398 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. гітлераўцы спалілі 74 двары, загубілі 3 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі вызначыўся камандзір супрацьтанкавай гарматы Б.Д.Раманаў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 36 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 329 жыхароў, у 1970 г. 329 жыхароў, у 1986 г. 93 гаспадаркі, 213 жыхароў. У 2002 г. ў М.Г. 77 гаспадарак, 206 жыхароў. Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Брыцалавіцкае лясніцтва, дзіцячы сад-яслі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін, клуб. Пла́ніровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, забудаванай з 2 бакоў драўлянымі сял. хатамі. Вызначаюцца паўн., цэнтр. і паўд. жылыя масівы. У цэнтр. масіве — парк і грамадскія будынкі. Для новага жыллёвага будаўніцтва схемай планіроўкі, распрацаванай БелНДІдзіпрасельбудам у 1965 г., намечана тэр. на У ад існуючай забудовы.

**МАЛАЯ ГРАВА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Асіповіч, 9 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 153 км ад Магілёва, на Пн р. Граўка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 48 гаспадарак, 101 жыхар (2007).

У 1897 г. в. Малаграўка (53 двары, 341 жыхар) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 68 двароў, 460 жыхароў. У 1917 г. 59 двароў. У 1926 г. 77 двароў, 400 жыхароў. Дзейнічалі 4-гадовая школа і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 274 жыхары, у 1970 г. 238 жыхароў, у 1986 г. 68 гаспадарак, 159 жыхароў. У 2002 г. ў М.Г. 54 гаспадаркі, 118 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, з 2 бакоў забудаваную драўлянымі сял. хатамі.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Ліпеньскім с/с, 22 км на ПнУ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 129 км ад Магілёва, на Пн меліярацыйны канал, на З р. Ботча, побач аўтадарога Асіповічы—Свіслач. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 7 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Малінаўка». У 1940 г. 27 двароў, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 36 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 11 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў, у 1970 г. 118 жыхароў, у 1986 г. 27 гаспадарак, 67 жыхароў. У 2002 г. ў М. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**МАЛОЦІНА** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 5 км на Пд ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Асіповічы, 138 км ад Магілёва, каля

аўтадарогі Асіповічы—Дараганава. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 75 жыхароў. У 1917 г. 13 двароў, 83 жыхары. У 1926 г. 15 двароў, 91 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Селянін». У 1940 г. 25 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 17 двароў, загубілі 12 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў, у 1970 г. 88 жыхароў, у 1986 г. 20 гаспадарак, 34 жыхары. У 2002 г. ў М. 6 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАТАВІЛА** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 25 км на У ад Асіповіч, 11 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 108 км ад Магілёва, на ПнУ р. Ваўчанка. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 13 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

У 1858 г. ў складзе казённага маёнтка Брыцалавічы Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. в. Матавіла (яна ж Таркавічы Казённыя), 6 двароў, 31 жыхар у Свіслацкай вол. У 1922 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 20 гаспадарак, 69 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 108 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1947 г. да вёскі далучаны хутар Перадзіла. Ёсць магазін. У 2002 г. ў М. 12 гаспадарак, 34 жыхары. У аснове планіроўкі плаўна выгнутая вуліца, забудаваная двухбакова, драўлянымі сял. хатамі. На паўн. і зах. ускраінах — адасобленыя ўчасткі забудовы.

**МЯЗОВІЧЫ** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 153 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы. 42 гаспадаркі, 57 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1517 г. сяло ў Глускай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1830-я г. ўладанне памешчыка, 11 двароў, больш за 60 жыхароў. У 1897 г. ў Жыцінскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 47 двароў, 289 жыхароў, царква. У 1907 г. 58 двароў, 449 жыхароў, у 1917 г. 79 двароў. У пач. 1920-х г. адкрыта школа (у 1926 — 45 вучняў). Меўся гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 93 гаспадаркі, 419 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «8-е Сакавіка». У 1940 г. 106 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 7 двароў, загубілі 2 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 27 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкіх магілах на зах. ускраіне). На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 29 вяскоўцаў. Ёсць клуб, магазін, бальніца. У 2002 г. ў М. 53 гаспадаркі, 75 жыхароў. Планіроўка склалася на паўд. баку аўтадарогі, забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**МЯЖНОЕ** — вёска ў Карытненскім с/с, за 15 км на Пд ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 148 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Глуша.

У 1897 г. пасёлак (8 двароў, 46 жыхароў) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 12 двароў, 71 жыхар, у 1917 г. 13 двароў, 81 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя КіМ. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі 20.1. 1943 г. спалілі 60 двароў і загубілі 86 жыхароў (пахаваны на вясковых могілках). Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар, у 1970 г. 70 жыхароў, у 1986 г. 3 двары, 7 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Асіповіч, 13 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 120 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Градзянка—Сычкава, на ПдЗ мяжуе з лесам, на ПнУ ручай. 44 гаспадаркі, 77 жыхароў (2007).

За 3 км на У ад вёскі, на беразе р. Бярэзіна захавалася гарадзішча, якое дату-

ецца 4—5, 11—13 ст., што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1640 г. сяло ў складзе маёнтка Вязаўніца Мінскага павета Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1827 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1884 г. адкрыта школа (у 1890 — 14 вучняў). У 1897 г. ў Пагарэльскай вол., 48 двароў, 294 жыхары, у фальварку 49 жыхароў, у Пагарэльскай вол. У 1907 г. 54 двары, 376 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 71 двор, 417 жыхароў, у маёнтку 98 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта працоўная школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 57 вучняў. У 1923 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 90 гаспадарак, 530 жыхароў, у вясковай школе 57 вучняў. 13.6.1931 г. арганізаваны калгас імя К.В. Гея. У 1940 г. 76 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 311 жыхароў, у 1970 г. 326 жыхароў, у 1986 г. 98 гаспадарак, 168 жыхароў. У 2002 г. ў Н. 56 гаспадарак, 111 жыхароў. Ёсць пач. школа, ветучастак, магазін. Праект планіроўкі распрацаваны БелНДІдзіпрасельбудам у 1964 г. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, трасіраваную паралельна да аўтадарогі. Забудова ў асн. драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Адна з вуліц носіць імя Героя Сав. Саюза Д.Ц.Леўчанкі, які загінуў у жніўні 1941 г. ў баі каля вёскі.

**НЯЧЧО** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 145 км ад Магілёва, на Пд р. Свіслач, на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Свіслач.

За 70 м ад левага берага р. Свіслач захаваўся курганны могільнік (9 насыпаў, належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 ст.), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. фальварак пры дарозе м. Свіслач — чыг. ст. Асіповічы (26 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1920 г. пасёлак, да якога ў 1926 г. далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 16 двароў, 96 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 15 двароў. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучана в. Падзіра. Паводле перапісу 1959 г. 70 жыхароў, у 1970 г. 36 жыхароў, у 1986 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2002 г. ў Н. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з аднабаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На У і Пд участкі калектыўных садоў Асіповіцкага з-да «Аўтаагрэгат».

**ОРЧА** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 130 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Свіслач. 42 гаспадаркі, 105 жыхароў (2007).

За 1,5 км на З ад вёскі захаваўся курганны могільнік (9 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1827 г. вёска (7 жыхароў мужчынскага полу) у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уладанне памешчыка. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 — 17 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол., 48 двароў, 309 жыхароў. У 1907 г. 58 двароў, 446 жыхароў, у 1917 г. 72 двары. У 1926 г. 74 двары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 69 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі спалілі 47 двароў, загубілі 5 жыхароў. На фронце загінулі 33 вяскоўцы. У 1975 г. да вёскі далучаны пас. Орча. Паводле перапісу 1959 г. 227 жыхароў, у 1970 г. 167 жыхароў, у 1986 г. 59 гаспадарак, 121 жыхар. Ёсць магазін. У 2002 г. ў О. 45 гаспадарак, 105 жыхароў. Ручай падзяляе вёску на паўн.-ўсх. (планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, трасіраваную перпендыкулярна да аўтадарогі і з 2 бакоў забудаваную драўлянымі сял. сядзібамі) і паўд.-зах. (аднарадная сядзібнага тыпу забудова ўздоўж ручая) часткі.

**ПАБОКАВІЧЫ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 145 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., ва ўладанні князя Вітгенштэйна, 13 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. засценак ва ўрочышчы Пабокавічы (15 двароў, 75 жыхароў) у Жыцінскай вол. У 1907 г. 25 двароў, 233 жыхары, у 1917 г. вёска, 45 двароў, 294 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 — 45 вучняў). У 1926 г. 46 двароў, 250 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 63 двары, 378 жыхароў. У Вял. Айч. вайну каля вёскі базіраваўся партыз. атрад імя П.К.Панамарэнкі. У кастр. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 63 двары, расстралялі 9 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў, у 1970 г. 59 жыхароў, у 1986 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2002 г. ў П. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПАГАРЭЛАЕ** — вёска ў Градзянскім с/с, за 36 км на Пн ад Асіповіч, 9 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Вярэйцы—Градзянка, 169 км ад Магілёва, на аўтадарозе Лапічы—Градзянка, на ПдУ і ПнЗ мяжуе з лесам.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло, у Свіслацкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1594 г. ў складзе маёнтка Жыцін, 42 жыхары мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1827 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1891 — 53 вучні). У 1866 г. пабудавана драўляная царква. У 1885 г. цэнтр воласці, 39 двароў, 360 жыхароў, 2 разы ў год (летам і восенню) праводзіліся кірмашы. Паводле перапісу 1897 г. 81 двор, 460 жыхароў, вятрак, піцейны дом. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 7 жыхароў). У 1907 г. 92 двары, 576 жыхароў. У вер. 1917 г. ў ліку іншых сяленняў гэтай мясцовасці было ахоплена сял. хваляваннямі, адбыўся захоп памешчыцкіх пасеваў і сенакосаў. З 20.8.1924 г. цэнтр Пагарэльскага с/с Свіслацкага, з 8.7.1931 г. Асіповіцкага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. зноў Асіповіцкага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў Магілёўскай абл. Працавала 4-гадовая школа, у 1925 г. адкрыта хата-чытальня. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 97 гаспадарак, 629 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камунар». У 1940 г. 129 двароў, 645 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў канцы 1941 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Дзейнічала падп. антыфашысцкая група. У наваколлі базіравалася 1-я Асіповіцкая партыз. брыгада (з ліп. 1943 Асіповіцкая ваенна-аператыўная група). У лютым 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 187 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 8 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 25 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 357 жыхароў, у 1970 г. 383 жыхары, у 1986 г. 146 гаспадарак, 390 жыхароў. У 2002 г. ў П. 129 гаспадарак, 373 жыхары. Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі і сталярня, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны пункт, б-ка, аддз. сувязі, АТС, клуб, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, 2 сталовыя. Праект планіроўкі распрацаваны БелНДІдзіпрасельбудам у 1966 г. Аснову планіроўкі складае гал. вуліца, скрыжаваная з аўтадарогай. Пераважае драўляная сядзібная забудова.

У склад сельсавета да 1967 г. ўваходзілі вёскі Чарот, Колас, да 1986 г. вёскі Воля, Паляткі, да 1971 г. пас. Партызан (не існуюць).

**ПАЛІЦКАЕ** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Асіповіч, 11 км ад чыг.

ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 130 км ад Магілёва, на аўтадарозе Ялізава—Градзянка, на ПдУ мяжуе з лесам. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. сяляне ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў, у 1970 г. 59 жыхароў, у 1986 г. 14 гаспадарак, 30 жыхароў. У 2002 г. ў П. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіроўка лінейная, уздоўж аўтадарогі, абодва бакі якой забудаваны драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛЯДДЗЁ** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 158 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты расстралялі 2 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 2002 г. ў П. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу, трасіраваную паралельна да чыгункі і забудаваную няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ПАЛЯНА** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 5 км на У ад Асіповіч, 1,5 км ад чыг. ст. Асіповічы-2 на лініі Асіповічы—Магілёў, 135 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Мінск—Бабруйск.

У 1897 г. ўрочышча (1 двор, 16 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 3 двары, 42 жыхары. У 1926 г. 5 двароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 1 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 13 жыхароў, у 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАПЛАВЫ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 141 км ад Магілёва, побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. На З пачынаецца р. Сіняя. 39 гаспадарак, 89 жыхароў (2007).

У 1907 г. 34 двары, 218 жыхароў, у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 257 жыхароў. У 1926 г. 49 двароў, 284 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Н.К.Крупскай. У 1940 г. 51 двор. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 6 двароў і загубілі 17 жыхароў. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 264 жыхары, у 1970 г. 249 жыхароў, у 1986 г. 64 двары, 153 жыхары. У 2002 г. ў П. 60 гаспадарак, 130 жыхароў. Ёсць клуб, пач. школа, магазін. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПАСЕКІ** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 155 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 16 двароў, 75 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары, у 1970 г. 102 жыхары, у 1986 г. 17 гаспадарак, 41 жыхар. У 2002 г. ў П. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай.

**ПАТАШНЯ** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 13 км на Пн ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 156 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

У 1897 г. фальварак пры паштовай дарозе м. Свіслач — чыг. ст. Асіповічы (1 двор, 29 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 20 жыхароў. У 1923 г. пасёлак, які пашыраўся за кошт былых памешчыцкіх земляў. У 1926 г. 8 гаспадарак, 56 жыхароў.

1.3.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва». У 1940 г. 18 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў, у 1970 г. 86 жыхароў, у 1986 г. 25 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2002 г. ў П. 17 гаспадарак, 27 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу (участак аўтадарогі), з усіх бакоў забудаваную драўлянымі сял. сядзібамі. Вуліца на паўн.-ўсх. ускраіне трасіравана перпендыкулярна да дарогі.

**ПЕРАРОЖКІ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Вярэйцы на лініі Асіповічы—Мінск, 145 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы. 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

У 1907 г. вёска (11 двароў, 62 жыхары) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Па звестках 1917 г. 29 двароў, 122 жыхары. У 1926 г. 22 двары, 161 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях бедняка». У 1940 г. 34 двары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 3 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 5 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 127 жыхароў, у 1970 г. 117 жыхароў, у 1986 г. 35 гаспадарак, 85 жыхароў. У 2007 г. ў П. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў. Планіроўка набліжана да радыяльнай з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПРАТАСЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Пратасевіцкага с/с, за 4 км на З ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Асіповічы, 137 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Асіповічы—Шышчыцы, на ПнЗ мяжуе з лесам. За 4 км на З ад вёскі найвышэйшы пункт раёна (206,5 м). 142 гаспадаркі, 332 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. У 1513 г. с. Прадашэвічы ў Свіслацкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1739 г. працаваў бровар, затым вадзяны млын. У 1772 г. збудавана капліца. У 1787 г. цэнтр маёнтка, уладанне Д.Радзівіла, 16 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. ў Бабруйскім павеце, уладанне Радзівіла, 71 жыхар мужчынскага полу. Па матэрыялах 1805 г. 24 дымы, 129 жыхароў, карчма. Паводле інвентару 1830 г. 150 жыхароў. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце, уладанне кн. Вітгенштэйна, 74 рэвізскія душы. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 17 двароў, 73 жыхары. Побач быў фальварак Радзівілаў з хлебазапасным магазінам і карчмой. Паводле перапісу 1897 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ., 55 двароў, 365 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны маёнтак (1 двор, 15 жыхароў, царква). У 1907 г. 97 двароў, 513 жыхароў, аддз. сувязі. У 1903 г. адкрыта школа. У 1917 г. 110 двароў, 678 жыхароў. У 1926 г. вёска Пратасевічы-1, 145 двароў, 801 жыхар. У вясковай школе ў 1925 г. 77 вучняў, б-ка. У 1927 г. для школы ўзведзены новы будынак. У 1930 г. створаны калгас «Перадавік». Да вёскі ў 1940 г. далучаны рабочы пас. Валычоўшчына.

У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 г. калгасніца П.Т.Казлоўская знайшла на полі бою сцяг адной з часцей Чырвонай Арміі, прынесла яго дамоў і з дапамогай сына Мікалая схавала. У хуткім часе сын пайшоў у партызаны, а маці стала партыз. сувязной. У лютым 1943 г. падчас вобыску гітлераўцы знайшлі сцяг і закатавалі патрыётку. У 1943 г. карнікі спалілі 21 двор і загубілі 5 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 13 вяскоўцаў. З 25.12. 1964 г. цэнтр Пратасевіцкага с/с Бабруйскага, з 6.1.1965 г. Асіповіцкага р-наў Магілёўскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 716 жыхароў, у 1970 г. 751 жыхар, у 1986 г. 210 гаспадарак, 536 жыхароў. У 2002 г. ў П. 170 гаспадарак, 388 жыхароў. Размешчаны базавая школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, АТС, магазін, 2 сталовыя, Дом культуры. Планіровачная структура набліжана да рэгулярнай. Паўн.-зах. частка вызначаецца лінейна-прамавугольнай квартальнай планіроўкай, паўд.-ўсх. частка блізкая да радыяльна-прамяністай планіроўкі. У цэнтры — плошча з асн. грамадскімі будынкамі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад сельсавета ўваходзілі да 1943 г. в. Рэпішча (знішчана ням.-фаш. захопнікамі і не адноўлена), да 1974 г. в. Зашыбіна (не існуе).

**ПРАТАСЕВІЧЫ-2** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 5 км на З ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Асіповічы, 138 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 49 жыхароў. У 1917 г. 9 двароў, 83 жыхары. У 1926 г. 11 двароў, 62 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перадавік». У 1940 г. 16 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары, у 1970 г. 63 жыхары, у 1986 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары. Планіровачна складаецца з выгнутай аўтадарогі з двухбаковай забудовай драўлянымі сял. хатамі. На ПдУ чыг. Асіповічы—Старыя Дарогі. У 2002 г. ў П. 11 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ПРУДОК** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 3 км на У ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Асіповічы-3, 133 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Асіповічы—Глуша. 35 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 75 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 146 жыхароў. У 1927 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1933 г. арганізаваны калгас «17 гадоў Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 190 жыхароў, у 1970 г. 160 жыхароў, у 1986 г. 47 гаспадарак, 108 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. ў П. 46 гаспадарак, 84 жыхары. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, якая пад вуглом далучаецца да аўтадарогі, забудавана двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ПРЫЦЕРПА** — вёска ў Градзянскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Асіповіч, 15 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 150 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам, на У р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Градзянка—Сычкава і Асіповічы—Свіслач. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 92 жыхары. У 1907 г. ў вёсцы 10 двароў і 25 двароў выселены на хутары. У 1917 г. 15 двароў, 114 жыхароў. У 1926 г. 20 двароў, 140 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 33 двары. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары, у 1970 г. 80 жыхароў, у 1986 г. 18 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2002 г. 10 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з аднабаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПТУШЫЧЫ** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 153 км ад Магілёва, на Пд р. Пціч. Побач аўтадарога Асіповічы—Дараганава. 27 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла, 21 жыхар мужчынскага полу. У 1838 г. ва ўладанні кн. Вітгенштэйна, 22 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. ў Новадарожскай вол. Бабруйскага павета, 18 двароў, 128 жыхароў. У 1907 г. 23 двары, 140 жыхароў, у 1917 г. 27 двароў, 184 жыхары. У 1926 г. 155 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новыя Птушычы». У 1940 г. 28 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 4 двары і загубілі 11 жыхароў. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў. У 2002 г. ў П. 33 гаспадаркі, 56 жыхароў. Планіроўка квартальная, у 3 кароткія, узаемна перпендыкулярныя вуліцы з няшчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на паўн. ускраіне.

**ПЯСЧАНКА** — вёска ў Дрычынскім с/с, за 40 км на З ад Асіповіч, 19 км ад чыг. ст. Фалічы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 173 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па

аўтадарозе Асіповічы—Шышчыцы. 19 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 4 двары і загубілі 6 вяскоўцаў. У 2002 г. ў П. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**РАДУЦІЧЫ** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Асіповіч, 153 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, на Пн р. Пціч. Побач аўтадарога Асіповічы—Старыя Дарогі. 119 гаспадарак, 297 жыхароў (2007).

На зах. ускраіне, на правым беразе ракі захавалася стаянка бронзавага веку, за 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне — могільнік (33 курганы), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1549 г. сяло ў Глускай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла, 64 жыхары мужчынскага полу. У 1838 г. 69 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Навадарожскай вол., 55 двароў, 374 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач былі лесазавод (4 двары, 67 жыхароў), фальварак (3 двары, 25 жыхароў). У 1907 г. 79 двароў, 407 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 109 двароў, 613 жыхароў. У 1923 г. ў вясковай школе 84 вучні, дзейнічала хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 30 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 27 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх у цэнтры вёскі ў 1976 г. пастаўлена стэла. У 1967 г. да вёскі далучана в. Каменка. Ёсць базавая школа, клуб, б-ка. У 2002 г. ў Р. 144 гаспадаркі, 346 жыхароў. Планіроўка квартальная з пераважна сядзібнай забудовай, драўляная, няшчыльная. Грамадскі цэнтр на паўн. ускраіне, на скрыжаванні асн. вуліц, уключае школьны ўчастак, будынкі праўлення калгаса і клуба.

**РАЖНЕТАВА** (да 17.7.1967 в. Ражнетава-1 і Ражнетава-2) — вёска ў Ясеньскім с/с, за 18 км на У ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Бабруйск, 120 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

У 1838 г. засценак у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка., 18 рэвізскіх душ. У 1897 г. засценак Ражнетаў-1 (7 двароў, 60 жыхароў) і пас. Ражнетаў-2 (6 двароў, 30 жыхароў) у Замошскай вол. У 1917 г. ў Ражнетаве-1 — 11 двароў, 109 жыхароў, у Ражнетаве-2 — 8 двароў, 61 жыхар. У 1921 г. адкрыта школа (у 1926 — 45 вучняў), мелася б-ка. 10.4.1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я. Варашылава. У 1940 г. ў абодвух населеных пунктах 21 двор. У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1967 г. в. Ражнетава-1 і Ражнетава-2 склалі адзін населены пункт. Паводле перапісу 1970 г. 45 жыхароў, у 1986 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2002 г. ў Р. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу з двухбаковай драўлянай няшчыльнай забудовай сядзібнага тыпу.

**РАЖЫШЧА** — вёска ў Лапіцкім с/с, 25 км на ПнЗ ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Градзянка—Вярэйцы, 157 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска (8 двароў, 64 жыхары) і маёнтак (1 двор, 7 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 9 двароў, 79 жыхароў. У 1926 г. 13 двароў, 88 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Дубраўка). У 1940 г. 30 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала антыфаш. падп. група. У студз. 1943 г.



*Замчышча каля в. Свіслач.*

карнікі спалілі вёску і загубілі 50 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў, у 1970 г. 49 жыхароў, у 1986 г. 15 двароў, 18 жыхароў. У 2002 г. ў Р. 5 гаспадарак, 5 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай, няшчыльнай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**РАФАЛІН** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 131 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 26 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

У 1897 г. фальварак (1 двор, 19 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 2 двары, у 1917 г. 98 жыхароў. У 1926 г. 20 гаспадарак, 140 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў, у 1970 г. 150 жыхароў, у 1986 г. 35 гаспадарак, 78 жыхароў. Ёсць магазін. У 2007 г. 29 гаспадарак, 51 жыхар. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**РУЧАЙ** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 153 км ад Магілёва, на ПдЗ ручай. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. У 2007 г. 83 гаспадаркі, 179 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы мір». У 1941 г. 66 двароў, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 16 двароў і загубілі 63 жыхароў. На фронце загінулі 12 вяскоўцаў. У 1967 г. далучаны вёскі Цалянка, Папоўка, Цалянская Слабада. У 2002 г. 105 гаспадарак, 210 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

За 3 км на У ад вёскі знаходзіцца радовішча пяскоў (разведаныя запасы 374 тыс. м$^3$).

**САСНОВЫ** — пасёлак у Лапіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 153 км ад Магілёва, на аўтадарозе Мінск—Бабруйск, вакол лес. 130 гаспадарак, 263 жыхары (2007).

Засн. ў 1960-я г. Сваю назву атрымаў згодна Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 13.8.1966 г. У час Вял. Айч. вайны ням.-фаш. карнікі расстралялі ў гэтых месцах 108 жыхароў з бліжэйшых вёсак (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд. ускраіне). У баях тут загінулі 12 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). У 1967 г. да пасёлка далучаны пас. Лесазавод. У 2002 г. 130 гаспадарак, 258 жыхароў. Ёсць аптэка, амбулаторыя, аддз. сувязі, клуб, б-ка, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, магазін, АТС, сталовая, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых аўтадарогай частак: зах. (забудавана мураванымі жылымі дамамі і адм. будынкамі) і ўсх. (драўляная сядзібная забудова ўздоўж аўтадарогі). Радзіма фізіка-хіміка, акадэміка Расійскай акадэміі навук, ген.-лейт., Героя Сацыяліст. Працы А.Дз.Кунцэвіча.

**СВІСЛАЧ** — вёска, цэнтр Свіслацкага с/с, за 30 км на ПнУ ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 113 км ад Магілёва, на скрыжаванні аўтадарог Градзянка—Сычкава і Асіповічы—Свіслач, пры ўпадзенні р. Свіслач у Бярэзіну. 314 гаспадарак, 760 жыхароў (2007).

На паўн. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Свіслач, захавалася гарадзішча ранняга жал. веку (6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э., культура штрыхаванай керамікі) і перыяду Кіеўскай Русі. На мяжы 11—12 ст. тут узнікла паселішча замкавага тыпу, абнесенае валам і ровам, з'яўлялася цэнтрам Свіслацкага княства (упамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 14 ст., складалася, магчыма, ў 11—12 ст.). У 1360-я г. Свіслацкім князем быў унук Гедзіміна Сямён Аўнуцьевіч, які ўдзельнічаў у барацьбе паміж Ягайлам і Вітаўтам на баку Ягайлы. У 1387 г. Ягайла аддаў вёску свайму брату Скіргайлу. У 1497 г. мястэчка, цэнтр воласці, уласнасць казны. У 1506 г. Свіслацкі замак быў разбураны татарамі. У 15—16 ст. велікакняжацкае ўладанне. Ва «Уставе на валокі» 1557 г. пазначана як гаспадарская «дзяржава». Каля 1600 г. аддадзена Мінскаму кашталяну М.Галабурдзе. У 1666 г. цэнтр феад. валодання, уласнасць магната Б.Радзівіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1861 г. 576 жыхароў, у 1871 г. 739 жыхароў. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1891 — 71 вучань). Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку і вёсцы 266 жылых дамоў, 1759 жыхароў, 2 царквы, касцёл (з 1786), 2 малітоўныя школы, параходная прыстань, заезны дом, хлебазапасны магазін, 23 лаўкі, 4 разы ў год праводзіліся таржкі. У 1899 г. засн. млын і крупарушка. У 1906 г. адкрыта аптэка. У 1907 г. ў мястэчку 190 двароў, 1970 жыхароў, у маёнтку — 52 жыхары. У 1916 г. адкрыта паштова-тэлегр. аддз. У 1917 г. ў мястэчку 1289 жыхароў, у маёнтку — 135, у вёсцы 166 двароў, 938 жыхароў. У 1917 г. адкрыта працоўная 7-гадовая школа (у 1922 — 301 вучань). У 1923 г. адкрыта бальніца. Да вёскі ў 1923 г. далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1924 г. ў былым маёнтку пачаў працаваць саўгас імя Я.М.Свярдлова. 13.3.1924 г. засн. с.-г. т-ва «Чырвоны селянін», адкрыты нар. дом. З 17.7.1924 г. да 8.7.1931 г. цэнтр Свіслацкага р-на. З 20.8.1924 г. цэнтр Свіслацкага с/с Свіслацкага, з 8.7.1931 г. Асіповіцкага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. зноў Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў Магілёўскай абл. Працавалі б-ка, хата-чытальня, 2 пач., 7-гадовая дзённая і 6-гадовая вячэрняя школы. У 1926 г. ў мястэчку 306 гаспадарак, 1662 жыхары. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. 5.10.1929 г. арганізаваны калгас «Усход». У 1931 г. створаны саўгас «Свіслач»



*А.Дз.Кунцэвіч.*





*Рака Бярэзіна каля в. Свіслач.*

*Макет Свіслацкага замка.*



*А.А.Матросаў.*



*М.В.Рамашка.*



*М.І.Кліменка.*

(ліквідаваны ў 1937). У 1933 г. адкрыты дзіцячыя яслі. На пач. 1930-х г. меліся хлебапякарня, з-д фруктовых вод, шавецкая, кошыкавая, смалярная і шорная майстэрні, кузня. У 1934 г. саўгас атрымаў радыёўстаноўку. У 1940 г. 317 двароў, 1418 жыхароў.

У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты 12—14.10.1941 г. загубілі 791 жыхара, у чэрв. 1943 г. спалілі вёску. У баях за пераправу цераз р. Свіслач каля вёскі ў чэрв. 1944 г. вызначыўся разведвальны атрад узвода ст. сяржанта А.А.Матросава (удастоены звання Героя Сав. Саюза). У баях за вёску вызначыўся таксама зам. камандзіра артыл. палка па палітчастцы М.В.Рамашка, удастоены звання Героя Сав. Саюза. У баях каля вёскі загінулі 86 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Сярод пахаваных — Героі Сав. Саюза Д.Ц.Леўчанка, М.І.Кліменка. 35 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У пасляваенны час у Свіслачы размясціўся дзіцячы дом. Паводле перапісу 1959 г. 1230 жыхароў, у 1970 г. 1029 жыхароў, у 1986 г. 390 гаспадарак, 839 жыхароў. У 2002 г. ў С. 325 гаспадарак, 727 жыхароў. Ёсць сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, аптэка, амбулаторыя, бальніца, школа-інтэрнат, АТС, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, дзіцячы сад, ветпункт, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, 2 сталовыя, 5 магазінаў, санаторны піянерскі лагер «Свіслач» з базавай школай пры ім. Схема планіроўкі распрацавана ў БелНДІдзіпрасельбудзе у 1964 г. Гал. прамалінейная вуліца (участак аўтадарогі Градзянка—Сычкава) мерыдыянальнай арыентацыі, забудавана двухбакова мураванымі дамамі і драўлянымі сял. хатамі. На скрыжаванні вуліц асн. грамадскія будынкі, шматкватэрныя мураваныя жылыя дамы, на беразе р. Свіслач — зона адпачынку. Сучасная мураваная жылая забудова вядзецца на паўн.-зах. ускраіне.

У склад Свіслацкага с/с да 1960 г. ўваходзіла в. Баранцы-2, да 1967 г. в. Прудзішча (зараз не існуюць).

**СВІХАНАВА** — вёска ў Дарагапаўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 148 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Асіповічы—Шышчыцы. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 16 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 3 жыхароў, 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 2002 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**СЕМІРОВІЧЫ** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 130 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 16 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. с. Серамовічы ў Мінскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1640 г. ў складзе маёнтка Вязоўніца Мінскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. в. Семіровічы (яна ж Серамовічы) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 4 двары, 31 жыхар. Побач быў засценак Сяміровічы (ён жа Рафалін, Серамовічы), 11 двароў, 57 жыхароў. У 1907 г. ў вёсцы 11 двароў, 81 жыхар, у засценку 5 двароў, 41 жыхар. У 1917 г. ў вёсцы 25 двароў, 129 жыхароў, у засценку 4 двары, 30 жыхароў. У 1926 г. 169 жыхароў. У 1934 г. створаны калгас «Ударнік», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 16 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар, у 1970 г. — 89 жыхароў, у 1986 г. 24 гаспадаркі, 51 жыхар. Ёсць магазін. У 2002 г. ў С. 18 гаспадарак, 35 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**СЁМКАВА СЛАБАДА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Вярэйцы—Градзянка, 167 км ад Магілёва, з ПдУ аб-

межавана ручаём. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Лапічы—Градзянка і Мінск—Бабруйск.

У 1897 г. аколіца (25 двароў, 197 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 310 жыхароў, у 1917 г. 45 двароў. У 1920 г. адкрыта школа і пабудавана для яе памяшканне (у 1926 было 56 вучняў, мелася б-ка). У 1930 г. арганізаваны калгас «За ўраджай», меліся кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 5 двароў, загубілі 18 жыхароў, на фронце загінулі 19 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 194 жыхары, у 1970 г. 131 жыхар, у 1986 г. 30 гаспадарак, 61 жыхар. Планіровачна арганізавана ў адну прамалінейную вуліцу, трасіраваную перпендыкулярна да дарогі Лочын—Жорнаўка. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 140 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Градзянка—Сычкава, на р. Бярэзіна, на поўначы р. Свіслач (прыток Бярэзіны). 48 гаспадарак, 105 жыхароў.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1816 г. як вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 33 двары, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі ў чэрв. 1943 г. спалілі 30 двароў і загубілі 1 жыхара. На фронце загінулі 15 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 199 жыхароў, у 1986 г. 60 гаспадарак, 131 жыхар. Размешчаны цэх Асіповіцкай ф-кі канцтавараў. У 2002 г. ў С. 54 гаспадаркі, 129 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай.

**СЛОПІШЧА** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 150 км ад Магілёва, на Пн р. Пціч. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Старыя Дарогі. 27 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Пціч захавалася стаянка бронзавага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У 1845 г. ў складзе маёнтка Радуцічы Бабруйскага павета Мінскай губ., уладанне кн. Вітгенштэйна, 7 двароў, 58 жыхароў. У 1897 г. ў Новадарожскай вол. Бабруйскага павета, 22 двары, 165 жыхароў. У 1907 г. 31 двор, 206 жыхароў, у 1917 г. 42 двары, 255 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік». У 1940 г. 62 двары. У Вял. Айч. вайну 25 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 2002 г. 41 гаспадарка, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна трасіраванай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**СМЫК** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 12 км на Пн ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Асіповічы, 145 км ад Магілёва, на зах. беразе Асіповіцкага вадасховішча, на ПдЗ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Мінск. 43 гаспадаркі, 90 жыхароў (2007).

За 2 км на Пн ад вёскі, на мысе, утвораным р. Свіслач і яе прытокам р. Жазлянка, захавалася гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі ранняга жал. веку (3—4 ст.). За 2 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Жазлянка, каля паўд. боку гарадзішча захавалася селішча эпохі Кіеўскай Русі, на зах. баку гарадзішча — селішча пражскай культуры (тыпу корчак, 6—7 ст.) і эпохі Кіеўскай Русі. Гэтыя помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Паводле інвентару 1787 г. в. Смык-Слабада, у складзе фальварка Пратасевічы, ва ўладанні Радзівілаў, 10 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1902 г. 15 дымоў, 67 жыхароў. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне кн. Вітгенштэйна, 59 рэвізскіх душ. У 1847 г. 105 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. в. Смык-Слабада (43 двары, 299 жыхароў, хлебазапасны магазін) у Замошскай вол. Побач быў аднайменны маёнтак. У 1907 г. ў вёсцы 54 двары, 326 жыхароў, у маёнтку — 33 жыхары, у 1917 г. ў вёсцы 66 два-

роў, 393 жыхары, у маёнтку 77 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа (у 1926 — 50 вучняў, мелася б-ка). У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях волі», працавала кузня. У 1940 г. 101 двор, 478 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 4 двары, загубілі 16 жыхароў. 25 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў, у 1970 г. 228 жыхароў, у 1986 г. 69 гаспадарак, 116 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. ў С. 49 гаспадарак, 103 жыхары. Планіроўка ў адну выцягнутую вуліцу з завулкам, забудаваную драўлянымі сял. хатамі. На ПдЗ калгасны сад.

**СТАВІШЧА** — вёска ў Асіповіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 145 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Старыя Дарогі. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. в. Стаўкава ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла. У 1907 г. в. Ставішча (15 двароў, 113 жыхароў) у Замошскай вол., у 1917 г. 33 двары, 234 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта школа (у 1925 — 57 вучняў і б-ка). У 1926 г. 41 двор, 238 жыхароў. 6.2.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва». У 1940 г. 55 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 18 двароў. На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары, у 1970 г. 229 жыхароў, у 1986 г. 56 гаспадарак, 107 жыхароў. У 2002 г. ў С. 30 гаспадарак, 39 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну мерыдыянальную вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**СТАЛЯРЫ** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 37 км на ПнУ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 170 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, на У р. Бярэзіна (прыток Дняпра). Побач аўтадарогі Градзянка—Сычкава і Мінск—Бабруйск. 15 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

У 1897 г. в. Сталяры (яна ж Вербішча), 10 двароў, 69 жыхароў, у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 15 двароў, 98 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 10 двароў. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 74 жыхары, у 1986 г. 26 гаспадарак, 62 жыхары. У 2002 г. ў С. 16 гаспадарак, 35 жыхароў. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую ўздоўж берага ракі вуліцу з аднабаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу і 2 кароткія завулкі з двухбаковай забудовай.

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Карытненскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Асіповіч, 11 км ад чыг. ст. Татарка на лініі Асіповічы—Бабруйск, 144 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Глуша. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1907 г. засценак (93 жыхары) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 14 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Будаўнік». Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў, у 1970 г. — 127 жыхароў, у 1986 г. 28 гаспадарак, 61 жыхар. У 2002 г. ў вёсцы 13 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіроўка крыжападобная з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Каля аўтадарогі адасоблены ўчастак забудовы.

**СУХЛАВА** — вёска ў Карытненскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 120 км ад Магілёва, на З р. Вайчанка і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Глуша. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1897 г. в. Сухлава (яна ж Дзямянка) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 115 жыхароў. У 1907 г. 18 двароў, 166 жыхароў, у 1917 г. 27 двароў, 180 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 107 жыхароў, у 1986 г. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў. У 2002 г. ў С. 11 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную, меры-

дыянальнай арыентацыі вуліцу з двухбаковай забудовай сядзібнага тыпу.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 158 км ад Магілёва, на ПнУ р. Пціч і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Старыя Дарогі. 41 гаспадарка, 69 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1571 г. с. Сяльцо (6 дымоў) у складзе маёнтка Глуск Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны, 16 двароў, 115 жыхароў. У 1897 г. ў Навадарожскай вол., 21 двор, 152 жыхары. У 1907 г. 31 двор, 171 жыхар. У 1911 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 41 двор, 279 жыхароў. У вясковай школе ў 1926 г. 46 вучняў, б-ка. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сялец». У 1940 г. 75 двароў, 342 жыхары. У Вял. Айч. вайну 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 2002 г. 55 гаспадарак, 76 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў 2 радыяльныя вуліцы, забудаваныя драўлянымі хатамі. Грамадскі цэнтр на паўн.-зах. ускраіне.

**ТАРАСАВІЧЫ** (да 17.7.1967 Старыя Тарасавічы і Новыя Тарасавічы) — вёска ў Карытненскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Асіповіч, 14 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 125 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Асіповічы—Глуша. 32 гаспадаркі, 51 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла. У 1818 г. пабудавана царква. У сярэдзіне 1830-х г. 18 двароў, 140 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Тарасевічы Бабруйскага павета, 21 двор, 147 жыхароў. У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета, 48 двароў, 330 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач была сядзіба (2 двары, 43 жыхары), паравы млын. У 1907 г. ў вёсцы 66 двароў, 424 жыхары, у пасёлку Тарасавічы Новыя — 40 двароў, 226 жыхароў. У снеж. 1912 г. сяляне забілі сельскага старасту, які нават за невялікія правіннасці жорстка штрафаваў вяскоўцаў. У 1917 г. ў в. Тарасавічы 72 двары, 443 жыхары, у в. Тарасавічы Новыя 66 двароў, 382 жыхары. У 1925 г. ў вясковай 4-гадовай школе 50 вучняў, б-ка. У 1926 г. ў Старых Тарасавічах 85 двароў, 475 жыхароў, у Новых Тарасавічах — 60 гаспадарак, 400 жыхароў. З в. Новыя Тарасавічы ў 1926 г. 13 сямей пераехалі з мэтай асваення новых зямель на Паўн. Каўказ. У 1929 г. адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавала кузня. У 1932 г. пабудавана памяшканне для школы. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 42 двары, загубілі 136 жыхароў. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 2 магілах, што на могілках і за 3 км на ПнУ ад вёскі, пахаваны сав. ваеннапалонныя, расстраляныя гітлераўцамі ў 1942 г., і партызан, які загінуў у баі супраць акупантаў. Паводле перапісу 1970 г. 364 жыхары, у 1986 г. 87 гаспадарак, 168 жыхароў. Планіровачна складаецца з двух адасобленых участкаў забудовы — паўд. (былая в. Новыя Тарасавічы) і паўн. (былая в. Старыя Тарасавічы). У 2002 г. ў Т. 49 гаспадарак, 83 жыхары. Планіроўка паўд. ўчастка набліжана да Г-падобнай. Планіроўка паўн. ўчастка лінейная, уздоўж аўтадарогі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ТАТАРКА** — рабочы пасёлак, чыг. ст. на лініі Бабруйск—Мінск, цэнтр пас. Савета, за 12 км на ПдУ ад Асіповіч, 123 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 0,9 тыс. жыхароў (2007).

У 1848 г. вёска (6 двароў, 17 жыхароў) у складзе маёнтка Татарка Бабруйскага павета Мінскай губ. З пач. дзейнасці Лібава-Роменскай чыгункі засн. чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. ў Замошскай вол., 3 двары, 40 жыхароў. У 1917 г. прыстанцыйны пасёлак, 7 двароў, 36 жыхароў. У сувязі з будаўніцтвам у 1930 г. торфазавода пасёлак атрымаў новыя імпульсы для свайго развіцця. На з-дзе ў 1940 г.

працавалі 414 рабочых. У Вял. Айч. вайну 31 пасялковец загінуў на фронце і ў партыз. барацьбе. У баях каля вёскі загінулі 270 сав. воінаў і 39 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 14.5.1949 г. вёска пераўтворана ў рабочы пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 1753 жыхары. У 2002 г. 449 гаспадарак, 1325 жыхароў. Размешчаны торфапрадпрыемства «Татарка», лясніцтва, шавецкі і кравецкі цэхі Асіповіцкага камбіната быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад-яслі, б-ка, амбулаторыя, аптэка, бальніца, клуб, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, АТС, сталовая, 3 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня.

**ТАТАРКАВІЧЫ** — вёска ў Ясеньскім с/с, за 29 км на У ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 118 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 20 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Свіслацкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1651 г. сяло Татаркаўшчына ў складзе прыватнафеадальнага ўладання Свіслач. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1837 г. 127 рэвізскіх душ. У 1847 г. ў складзе казённага маёнтка Брыцалавічы Бабруйскага павета Мінскай губ. Меліся карчма, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 236 жыхароў, хлебазапасны магазін, драўляная Пакроўская царква, вінная лаўка. У 1907 г. 45 двароў, 414 жыхароў. У 1913 г. нар. вучылішча. У 1925 г. ў вясковай школе 143 вучні, б-ка і вячэрняя школа. Для школы ў 1926 г. пабудаваны новы будынак. У 1926 г. 52 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, мелася кузня. У 1940 г. 83 двары. У Вял. Айч. вайну 77 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 269 жыхароў, у 1970 г. 191 жыхар, у 1986 г. 43 гаспадаркі, 86 жыхароў. Ёсць магазін, клуб. У 2002 г. ў Т. 27 гаспадарак, 35 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ і забудаваную двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ТРОЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Асіповіч, 7 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 160 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 37 двароў, 250 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У 1940 г. 50 двароў, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты расстралялі 4 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 224 жыхары, у 1970 г. 167 жыхароў, у 1986 г. 47 гаспадарак, 85 жыхароў. У 2002 г. ў Т.С. 27 гаспадарак, 46 жыхароў. Планіроўка квартальная з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**УБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Карытненскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Асіповіч, 12 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 125 км ад Магілёва, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Глуша. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска (51 рэвізская душа) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол., 35 двароў, 267 жыхароў. У 1907 г. 51 двор, 356 жыхароў, у 1917 г. 58 двароў, 373 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 — 50 вучняў, б-ка). У 1924 г. да вёскі далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 75 двароў, 310 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Чырвонай Арміі, мелася кузня. У 1940 г. 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 1 двор і загубілі 6 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 202 жыхары, у 1970 г. 159 жыхароў, у 1986 г. 49 гаспадарак, 89 жыхароў. У 2002 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары. Планіроўка ў адну прамалінейную вулі-

цу шыротнай арыентацыі, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**УБОРАК** — вёска ў Лапіцкім с/с, 28 км на Пн ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Градзянка—Вярэйцы, 161 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Градзянка—Лапічы і Мінск—Бабруйск. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

У 1897 г. сядзіба (1 двор, 10 жыхароў, вятрак) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. пасёлак, 2 двары. У 1926 г. аколіца, 47 гаспадарак, 360 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.В.Гея, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі ў 1943 г. 14 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 165, у 1970 г. 108 жыхароў, у 1986 г. 31 гаспадарка, 66 жыхароў. Ёсць клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2002 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары. Планіроўка прамавугольная з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На галоўнай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі.

**УБОРАК** — чыг. станцыя на лініі Вярэйцы—Градзянка, у Лапіцкім с/с, за 28 км на Пн ад Асіповіч, 162 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 20 ст. ў сувязі з будаўніцтвам чыг. Вярэйцы—Градзянка. У 1917 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 3 двары, 16 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1925 — 46 вучняў, б-ка). У 1926 г. 13 двароў, 90 жыхароў. У снеж. 1929 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», які ў 1931 г. меў 512 га зямлі і патачны з-д. У Вял. Айч. вайну 13 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 159 жыхароў, у 1970 г. 98 жыхароў, у 1986 г. 19 гаспадарак, 39 жыхароў. Мураваныя станцыйныя будынкі размешчаны ўздоўж паўн.-зах. боку чыгункі. Жылая забудова сядзібнага тыпу размешчана ўздоўж чыгункі і кароткай, перпендыкулярнай да яе вуліцы.

**УЛЬЯНАЎКА** — вёска ў Дараганаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 159 км ад Магілёва, на Пн р. Пціч. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Старыя Дарогі. 4 гаспадаркі, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1926 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на землях былога ўрочышча. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная праца». У 1940 г. 18 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 3 жыхароў. На фронце загінулі 13 вяскоўцаў. Ёсць клуб. У 2002 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу шыротнай арыентацыі з драўлянай, няшчыльнай забудовай сядзібнага тыпу.

**УСЦІЖ** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Асіповіч, 10 км ад чыг. ст. Брыцалавічы на лініі Асіповічы—Магілёў, 126 км ад Магілёва, на р. Свіслач (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 25 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Капылец, на левым беразе р. Свіслач захавалася селішча 1-га тысячагоддзя н.э., за 1 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе Свіслачы — курганны могільнік (2 насыпы), які належаў дрыгавічам і датуецца 10—13 ст. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Брыцалавічы Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў Свіслацкай вол., 13 двароў, 95 жыхароў. У 1907 г. 17 двароў, 168 жыхароў, у 1917 г. 20 двароў. У 1926 г. 31 гаспадарка. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 78 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 46 двароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 15 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 306 жыхароў, у 1970 г. 232 жыхары, у 1986 г. 55 гаспадарак, 96 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. 35 гаспадарак, 52 жыхары. Планіроўка набліжана да квартальнай з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ХІМНОЕ** — вёска ў Ліпеньскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Асіповіч, 16 км ад чыг. ст. Асіповічы, 140 км ад Магілёва, на У безыменны ручай. Побач аўтадарога Асіповічы—Свіслач. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Каля ўсх. ускраіны вёскі, на левым беразе р. Жыцінка захаваўся могільнік (5 насыпаў), які належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 ст., што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1637 г. ў складзе маёнтка Халуі Мінскага павета Мінскага ваяв., прыватнафеадальнае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1827 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1885 г. адкрыта школа граматы (у 1890 — 24 вучні). Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол., 48 двароў, 358 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1907 г. 70 двароў, 406 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма. У 1917 г. 77 двароў, 445 жыхароў. У 1926 г. 470 жыхароў, да вёскі быў далучаны вялікі ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфашысцкая група, ням.-фаш. акупанты спалілі 46 двароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 16 вяскоўцаў. Ёсць магазін. У 2002 г. 21 гаспадарка, 28 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з двухбаковай няшчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЦАЛЯНСКАЯ БУДА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 158 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Мінск—Бабруйск.

Засн. ў 19 ст. У 1897 г. засценак Буда-Цялянская (ён жа Буда) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 59 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 18 двароў, загубілі 6 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 2002 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную шыротную вуліцу з двухбаковай няшчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЦЭЗАРАВА** — вёска ў Каменіцкім с/с, за 30 км на Пн ад Асіповіч, 8 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 163 км ад Магілёва, на У і ПнЗ мяжуе з лесам, на Пн р. Каменка. Побач аўтадарога Градзянка—Свіслач. 23 гаспадаркі, 53 жыхары (2007).

У 1907 г. фальварак (3 двары, 18 жыхароў) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 21 жыхар. У 1926 г. пасёлак, 4 двары, пераўтвораны пазней у вёску. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 240 жыхароў, у 1970 г. — 166 жыхароў, у 1986 г. 37 гаспадарак, 72 жыхары. Ёсць магазін. У 2002 г. ў Ц. 29 гаспадарак, 62 жыхары. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу ўздоўж аўтадарогі з двухбаковай няшчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЦЭЛЬ** — вёска ў Пратасевіцкім с/с, 16 км на ПдЗ ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Асіповічы—Мінск, 149 ад Магілёва, на правым беразе р. Свіслач (прыток Бярэзіны), вакол лес. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 43 гаспадаркі, 62 жыхары (2007).

На ўсх. ускраіне вёскі, на высокім мысе, утвораным з зах. і паўд. бакоў ярам, а з паўн. — высокім абрывістым берагам р. Свіслач, захавалася селішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло (24 дымы) у Свіслацкай воласці Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1599 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў Бабруйскім старостве Мінскай губ., 122 жыхары, карчма. У 1857 г. ў Ігуменскім павеце, уласнасць казны. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 — 12

вучняў). Паводле перапісу 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета, 34 двары, 329 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1907 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета, 62 двары, 353 жыхары, у 1917 г. 79 двароў. У вясковай школе ў 1925 г. 47 вучняў. Дзейнічала б-ка і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 27 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 431 жыхар, у 1986 г. 110 гаспадарак, 184 жыхары. У 2002 г. ў Ц. 59 гаспадарак, 78 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Планіроўка квартальная з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На Пд адасоблены ўчастак жылой забудовы.

**ЦЯПЛУХІ** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 3 км на Пн ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Асіповічы, 136 км ад Магілёва, непадалёку на У аўтадарогі Асіповічы—Свіслач і Мінск—Бабруйск. 110 гаспадарак, 219 жыхароў (2007).

За 1—1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе Асіповіцкага вадасховішча захаваўся могільнік (19 курганоў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло (13 дымоў) у Свіслацкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 27 двароў, 219 жыхароў. У 1907 г. 35 двароў, 344 жыхары, у 1917 г. 50 двароў. У вясковай школе ў 1925 г. 50 вучняў, б-ка. У 1926 г. 360 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Селькор». У 1940 г. 62 двары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 18 двароў, загубілі 3 жыхароў. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. У 1976 г. да вёскі далучана в. Селішча. Паводле перапісу 1959 г. 263 жыхары, у 1970 г. 245 жыхароў, у 1986 г. 154 гаспадаркі, 299 жыхароў. У 2002 г. ў Ц. 112 гаспадарак, 230 жыхароў. Ёсць клуб, магазін. Планіроўка Г-падобная, з двухбаковай муравана-драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЧУЧЧА** — вёска ў Свіслацкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 158 км ад Магілёва, на правым беразе р. Беразіна (прыток Дняпра). Побач аўтадарога Свіслач—Сычкава. 63 гаспадаркі, 110 жыхароў (2007).

На правым беразе р. Бярэзіна захавалася селішча культуры верхняга пласта Банцараўшчыны, на паўд. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна — могільнік (4 насыпы). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У сярэдзіне 1830-х г. больш за 50 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Брыцалавічы Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць казны. Дзейнічалі карчма і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Свіслацкай вол. Бабруйскага павета, 35 двароў, 243 жыхары. У 1907 г. 41 двор, 307 жыхароў. У 1908 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 57 двароў, 343 жыхары. У вясковай школе ў 1926 г. 50 вучняў, мелася б-ка. У 1926 г. 67 двароў, 379 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму». У 1940 г. 72 двары. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 347 жыхароў, у 1970 г. 333 жыхары, у 1986 г. 112 гаспадарак, 227 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. ў Ч. 75 гаспадарак, 146 жыхароў. Планіроўка засн. на 2 узаемна перпендыкулярных вуліцах, адна з якіх выцягнута ўздоўж аўтадарогі. Пераважае драўляная сядзібнага тыпу забудова. Мураванае будаўніцтва вядзецца на ПдЗ.

**ШЫПЫ** — вёска ў Карытненскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Асіповіч, 5 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 118 км ад Магілёва, на ПдЗ р. Ваўчанка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Глуша. У вёсцы ніхто не жыве.

У 1907 г. пасёлак (13 двароў, 120 жыхароў) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага

павета Мінскай губ. У 1926 г. вёска, 163 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 19 двароў. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў, у 1970 г. 34 жыхары, у 1986 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. Планіроўка ў адну кароценькую вуліцу, арыентаваную шыротна і забудаваную рэдка, драўлянымі сял. хатамі.

**ШЭЙПІЧЫ** – вёска ў Свіслацкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Асіповіч, 3 км ад чыг. ст. Ялізава на лініі Асіповічы—Магілёў, 133 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, на Пд р. Дзесяціна. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Градзянка—Сычкава і Мінск—Бабруйск. 42 гаспадаркі, 75 жыхароў (2007).



*І.У.Кірыновіч.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло (14 дымоў) у Свіслацкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1689 г. ў складзе прыватнафеадальнага валодання Свіслач. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. У сярэдзіне 30-х г. 19 ст. 15 двароў і каля 100 жыхароў. У 1857 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1884 г. сяляне зрабілі самавольную высечку казённага лесу і аказалі супраціўленне ўладам. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 196 жыхароў, царква. У 1907 г. 38 двароў, 310 жыхароў. У 1926 г. 57 гаспадарак, 313 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса. У 1940 г. 93 двары, 392 жыхары. У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 401 жыхар, у 1970 г. 329 жыхароў, у 1986 г. 110 гаспадарак, 187 жыхароў. Ёсць б-ка, клуб, магазін. У 2002 г. ў Ш. 50 гаспадарак, 95 жыхароў. Планіроўка ў адну шыротную вуліцу з завулкамі, забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯГАДНАЕ** (да 30.7.1964 Драчава) — вёска ў Пратасевіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Дзераўцы на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 143 км ад Магілёва, на аўтадарозе Асіповічы—Старыя Дарогі. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1917 г. вёска (30 двароў, 196 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1922 г. адкрыта школа (20 вучняў, б-ка). У 1926 г. 43 двары, 285 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 59 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 13 двароў і загубілі 12 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Ёсць магазін. У 2002 г. ў Я. 21 гаспадарка, 32 жыхары. Планіроўка лінейная, у адну вуліцу (участак аўтадарогі), з двух бакоў забудаваную драўлянымі сялянскімі хатамі.

**ЯЛІЗАВА** – рабочы пасёлак, чыг. ст. (да 1955 Свіслач) на лініі Асіповічы—Магілёў, цэнтр пас. Савета, за 30 км на ПнУ ад Асіповіч, 135 км ад Магілёва, на р. Бярэзіна (прыток Дняпра), на аўтадарозе Градзянка—Сычкава. 2,9 тыс. жыхароў (2007).

На ўскраіне пасёлка, на правым беразе р. Бярэзіна захавалася гарадзішча (умацаванае 2 равамі і 2 валамі) ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У 1900 г. тут была засн. лесапільня і пачаў складвацца пасёлак, які ў 1907 г. ўваходзіў у Свіслацкую вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., налічваў 5 двароў, 56 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа. У 1912 г. пабудаваны шклозавод «Ялізава», на якім каля 60 рабочых выраблялі аконнае і лампавае шкло, бутэлькі. У чэрв. і вер. 1914 г. рабочыя баставалі. У 1917 г. 50 двароў, 247 жыхароў. У грамадзянскую вайну шклозавод быў разбураны і адноўлены ў ліст. 1921 г. У 1923 г. адкрыты фельч. пункт і дзіцячыя яслі пры з-дзе. У вясковай школе ў 1926 г. 106 вучняў, мелася б-ка. У 1926 г. ў пасёлку 347 жыхароў. На шклозаводзе ў 1927 г. працавала каля 500 рабочых, з 1930 г. выходзіла шматтыражная газ. «Чырвоны гутнік» (у 1937—40 «Акцябр»). У 1931 г. праз Ялізава пракладзена чыг. Асіповічы—Магілёў, пачала дзейнічаць ст. Свіслач (з 1955 Ялізава). З 15.7.1935 г. рабочы пасёлак. На шклозаводзе ў 1935 г. пачала працаваць электрастанцыя, якая дала асвятленне для завода і пасёлка. У 1939 г. ў пасёлку 4502 жыхары, на шклозаводзе

ў 1940 г. 750 рабочых. У Вял. Айч. вайну ў пасёлку дзейнічала падп. антыфашысцкая група (кіраўнік У.Панцэвіч). Патрыёты вялі агітацыю сярод насельніцтва, падтрымлівалі сувязь з партызанамі, здабывалі і перадавалі ім зброю і звесткі пра ворага. Гітлераўцы загубілі каля 300 жыхароў. 325 пасялкоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У брацкіх магілах пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях, у тым ліку Герой Сав. Саюза С.В. Пацялін. Паводле перапісу 1959 г. 2541 жыхар. Размешчаны шклозавод «Ялізава» (1785 рабочых), лясніцтва, сярэдняя школа, дзіцячая, пас. і тэхнічная б-кі, аддз. сувязі, амбулаторыя, бальніца, аптэка, дзіцячы сад-яслі, клуб, стадыён, спарт. пляцоўкі, Дом быту, 11 магазінаў, сталовая, аддз. ашчаднага банка, грамадская лазня. У 2002 г. 3,3 тыс. жыхароў. Чыгунка падзяляе пасёлак на 2 часткі. Планіроўка квартальная. Гал. вуліца (участак аўтадарогі) арыентавана перпендыкулярна да чыгункі і забудавана 1—2-павярховымі муравáнымі жылымі дамамі і грамадскімі будынкамі. Значную частку пасёлка займаюць драўляныя дамы сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. вучонага ў галіне цеплаэнергетыкі, доктара тэхн. навук, праф., засл. дзеяча навукі і тэхнікі БССР У.П. Сцепанчука; бел. паэтэсы Л.Ф.Паўлікавай (дзявочая Хейдарава); бел. дзярж. дзеяча У.І.Зіноўскага.

**ЯЛЦОЎКА** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Асіповіч, 1 км ад чыг. ст. Лапічы на лініі Вярэйцы—Градзянка, 154 км ад Магілёва. Побач аўтадарогі Градзянка—Лапічы і Мінск—Бабруйск. 34 гаспадаркі, 80 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1923 г. адкрыта хата-чытальня. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 9 двароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1967 г. да вёскі далучана в. Курган. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў, у 1970 г. 159 жыхароў, у 1986 г. 58 гаспадарак, 125 жыхароў. У 2002 г. ў Я. 45 гаспадарак, 95 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПнЗ на ПдУ і забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯМПАЛЬ** — вёска ў Лапіцкім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Асіповіч, 6 км ад чыг. ст. Уборак на лініі Градзянка—Вярэйцы, 170 км ад Магілёва, на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Градзянка—Лапічы і Мінск—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1897 г. ўрочышча ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 16 жыхароў. Побач было ўрочышча Ямполь (яно ж Станюк), 1 двор, 7 жыхароў. У 1907 г. 6 двароў, 38 жыхароў, у 1917 г. 7 двароў, 46 жыхароў. У 1926 г. вёска, 8 гаспадарак, 50 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 50 жыхароў, у 1970 г. 41 жыхар, у 1986 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2002 г. ў Я. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіроўка ў адну прамалінейную шыротную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.



*У.І.Зіноўскі.*

**ЯНОЎКА** — вёска ў Градзянскім с/с, за 30 км на Пн ад Асіповіч, 17 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Вярэйцы, 173 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Асіповічы—Свіслач. 23 гаспадаркі, 58 жыхароў (2007).

У 1897 г. засценак (12 двароў, 101 жыхар) у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. вёска (8 двароў, 50 жыхароў) і засценак (6 двароў, 32 жыхары), у 1917 г. ў вёсцы 8 двароў, 41 жыхар, у засценку 11 двароў, 59 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце (у 1926 — 70 вучняў, дзейнічалі курсы па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых). У 1926 г. 25 гаспадарак, 170 жыхароў. З 24.9.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Яноўскага с/с Свіслацкага, з 8.7.1931 г. Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў

Магілёўскай абл. У 1929 г. адкрыта хата-чытальня. У 1928 г. для школы ўзведзены ўласны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавала кузня. У 1940 г. 54 двары, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 22 жыхароў. У 1941 г. партызаны разграмілі ў вёсцы паліцэйскі гарнізон. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 159 жыхароў, у 1970 г. 157 жыхароў, у 1986 г. 45 гаспадарак, 96 жыхароў. Ёсць магазін, б-ка, пач. школа. У 2002 г. ў Я. 28 гаспадарак, 69 жыхароў. Планіроўка ў 2 вуліцы, якія перпендыкулярна праходзяць да прасёлачнай дарогі і з 2 бакоў забудаваны драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯСЕНЬ** — вёска, цэнтр Ясеньскага с/с, за 24 км на У ад Асіповіч, 109 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск. 169 гаспадарак, 471 жыхар (2007).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Белая Лужа захаваўся могільнік (20 насыпаў) 11—13 ст., які належаў дрыгавічам і сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1524 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1579 г. мелася царква. У 1581 г. ў складзе маёнтка Глуск Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1824 г. замест састарэлага ўзведзены новы будынак царквы. Паводле перапісу 1897 г. ў Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 77 двароў, 306 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын (у 1898 устаноўлены паравы рухавік), вінная лаўка. Побач была аднайменная сядзіба (4 двары, 29 жыхароў). У 1907 г. 83 двары, 565 жыхароў, адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 89 двароў, 658 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Ясеньскага с/с Асіповіцкага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 6.1.1965 г. зноў Асіповіцкага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў Магілёўскай абл. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. У вясковай школе ў 1928 г. 96 вучняў. У 1926 г. 118 двароў, 644 жыхары. Для школы ў 1927 г. пабудавана ўласнае памяшканне, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Энергія». У 1940 г. 120 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў маі 1942 г. спалілі 108 двароў, загубілі 11 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 74 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 376 жыхароў, у 1970 г. 375 жыхароў, у 1986 г. 180 гаспадарак, 443 жыхары. У 2002 г. 177 гаспадарак, 464 жыхары. Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, б-ка, аптэка, амбулаторыя, бальніца, аддз. сувязі, АТС, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, аддз. ашчаднага банка, дзіцячы сад, 2 магазіны, сталовая, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва. Цэнтр СПК «Калгас «Ясень». Планіроўка квартальная, з пераважна драўлянай сядзібнай забудовай. Грамадскі цэнтр сфарміраваны вакол звернутай да аўтадарогі плошчы. Арх. акцэнтам плошчы з'яўляецца будынак Дома культуры. Асноўная забудова на ПнУ ад аўтадарогі. Жылую забудову складаюць двухпавярховыя 16- і 18-кватэрныя мураваныя дамы. Для перспектыўнага жыллёвага будаўніцтва прадугледжана тэр. на ПдУ.

У склад Ясеньскага с/с уваходзілі да 1967 г. вёскі Рыдлё, Ражнетава-2, да 1971 г. в. Заельнік, да 1976 г. в. Кассё, да 1932 г. — вёскі Гай, Ляхава Града, Свабода, Ліпніца, Перадзела (зараз не існуюць).

**ЯСЕНЬ** — чыг. ст. на лініі Асіповічы—Бабруйск, у Ясеньскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Асіповіч, 111 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 139 гаспадарак, 257 жыхароў (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. ў сувязі з будаўніцтвам Лібава-Роменскай чыгункі. У 1894 г. збудаваны паравы млын. У 1897 г. чыг. станцыя (4 двары, 50 жыхароў) і аднайменны пасёлак (29 двароў, 167 жыхароў, лесапільня, паравы млын, лаўка, заезны дом) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. ў пасёлку 70 двароў, 377 жыхароў, у 1917 г. 99 два-

роў, 827 жыхароў, на чыг. ст. 5 двароў, 60 жыхароў. 24.1.1918 г. каля чыг. станцыі адбыўся жорсткі бой паміж войскамі Чырвонай Арміі і легіянерамі Доўбар-Мусніцкага. У 1923 г. пачала дзейнічаць хата-чытальня, адкрыты фельч. пункт. На пач. 1930-х г. працавалі мэблевая майстэрня, лесазавод, паравы млын. У 1930—40-я г. дзейнічала торфапрадпрыемства «Свабода». З 15.7.1935 г. рабочы пасёлак. У 1940 г. — 180 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 10 двароў, загубілі 215 жыхароў. На фронце загінулі 24 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. рабочы пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 869 жыхароў, у 1970 г. 687 жыхароў, у 1986 г. 215 гаспадарак, 392 жыхары. Размешчаны філіял Бабруйскай мэблевай ф-кі №2, цэхі кандытарскі і безалкагольных напіткаў, швейная майстэрня. Ёсць б-ка, клуб, аптэка, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, 2 магазіны, сталовая. У 2002 г. ў Я. 153 гаспадаркі, 295 жыхароў.

Радзіма доктара тэхн. навук, праф. В.М.Сурына (н. 17.1.1940).

**ЯСЯНЕЦ** — вёска ў Вяззеўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Асіповіч, 4 км ад чыг. ст. Асіповічы-2 на лініі Асіповічы—Магілёў, 128 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Мінск—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1897 г. хутары Ясянец-1 (2 двары, 25 жыхароў) і Ясянец-2 (1 двор, 10 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. вёска, 7 двароў, 42 жыхары, паводле перапісу 1917 г. 13 двароў, 71 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. У 1940 г. 15 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 12 двароў, загубілі 5 жыхароў. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў, у 1970 г. 51 жыхар, у 1986 г. 14 гаспадарак, 17 жыхароў. У 1002 г. ў Я. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы забудаваны драўлянымі сял. хатамі.

**ЯСЯНОЎКА** — вёска ў Ясенскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Асіповіч, 2 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Асіповічы—Бабруйск, 109 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У 1907 г. вёска (11 двароў, 68 жыхароў) у Замошскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Па перапісе 1917 г. 13 двароў, 100 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1940 г. 14 двароў. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 88 жыхароў, у 1970 г. 59 жыхароў, у 1986 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар. У 2002 г. ў Я. 9 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ з няшчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.



*В.М.Сурын.*

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 28, спр. 196; ф. 6, воп. 1, спр. 2516, 2531; ф. 30, воп. 2, спр. 1432, 4631, 4635, 4778, 6758; воп. 5, спр. 2392, 2531, 6760; воп. 9, спр. 2392; ф. 31, воп. 1, спр. 23/17; ф. 42, воп. 1, спр. 162, 687, 942, 1007, 1033, 1746, 1756, 2271; воп. 2, спр. 72, 111, 157, 200—204, 576, 580; ф. 46, воп. 18, спр. 421; ф. 48, воп. 1, спр. 659, 2271, 2928, 2962, 4024, 5147, 5382; ф. 49, воп. 2, спр. 74; ф. 130, воп. 1, спр. 11; ф. 141, воп. 21, спр. 144; ф. 258, воп. 1, спр. 67; ф. 300, воп. 1, спр. 73; ф. 338, воп. 1, спр. 232, 323; ф. 3500, воп. 4, спр. 99.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-1, воп. 1, спр. 3400; КМФ-5, воп. 1, спр. 3335, 3341, 3345; ф. 21, воп. 1, спр. 21; ф. 27, воп. 1, спр. 5; воп. 2, спр. 14, 180; воп. 5, спр. 43, 602, 603; ф. 30, воп. 2, спр. 4775, 4778; ф. 45, воп. 1, спр. 146; ф. 142, воп. 1, спр. 40, 131, 142, 178; ф. 333, воп. 2, спр. 2184, 2185; воп. 9, спр. 516, 517; ф. 334, воп. 1, спр. 500; воп. 2, спр. 31; ф. 694, воп. 2, спр. 8208; воп. 4, спр. 936; воп. 5, спр. 51, 74, 163; воп. 7, спр. 846, 936; ф. 822, воп. 12, спр. 3245; ф. 823, воп. 1, спр. 211; ф. 1737, воп. 1, спр. 6, 7.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1294, 1305, 1306, 1433.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, спр. 41, 272.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 11, воп. 2, спр. 232; ф. 459, воп. 1, спр. 159, 594.
Архіў Расійскай акадэміі навук, ф. 30, воп. 2, спр. 29.
Фонд Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны: Анкеты рэдактараў падпольных газет.
Приложения к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. СПб., 1860.
Городские поселения в Российской империи. Т. 3. Минская губерния; Могилевская губерния. СПб., 1863.
Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 3. СПб., 1866; Т. 5. СПб., 1885.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Памятная книжка Минской губернии на 1878. Ч. 2. Мн., 1878.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1884—85 учебный год. Вильна, 1885.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Губернии Литовской и Белорусской областей. СПб., 1886.
Минские епархиальные ведомости. Мн., 1886.
Отчет о церковноприходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Мн., 1891.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1891/92 учебный год. Мн., 1892.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1891/92 учебный год. Могилев, 1892.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. 3 изд. СПб., 1894.
Историко-статистический словарь Российской империи. Т. 3. СПб., 1903.
Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Памятная книжка Минской губернии на 1906 г. Мн., 1905.
Города России в 1904 г. СПб., 1906.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список фабрик и заводов России 1910 г. [2 изд.]. М., [1910].
Памятная книжка Минской губернии на 1913. Мн., 1913.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912.
Список населенных мест Б.С.С.Р (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Даўгяла З.І. Сьвіслацкая воласьць у 1560 г. // Наш край. 1927. № 12.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: хроніка падзей. Мн., 1934.
Майзель Л.Н. 1905—07 гг. на Беларусі. Хроніка падзей. Мн., 1934.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1. Мн., 1935.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3. Мн., 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Марцелев С.В. Печать Советской Белоруссии. (Исторический очерк). Мн., 1967.
Зорин В.П. и Ершова Г.Н. Осиповичи. Историко-экономический очерк. Мн., 1972.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Литвин А.М. Гэта было ў Асіповічах. «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мн., 1993.
Памяць: Асіповіцкі р-н. Мн., 2002.
Республика Беларусь. Т. 5. Мн., 2007.



# БАБРУЙСКІ РАЁН

Утвораны 4.8.1927 г. на ПдЗ вобласці ў выніку аб'яднання створаных 17.7.1924 г. Бабруйскага 1-га і Бабруйскага 2-га раёнаў, да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл.). Пл. 1,6 тыс. км$^2$. Насельніцтва 22,7 тыс. чал. (без Бабруйска; 2005). Сярэдняя шчыльнасць 14,2 чал. на км$^2$. Уключае горад абл. падпарадкавання Бабруйск з 2 гар. адм. раёнамі (Ленінскі і Першамайскі), р.п. Глуша, 216 сельскіх населеных пунктаў, 12 сельсаветаў (Бортнікаўскі, Брожскі, Варатынскі, Вішнёўскі, Восаўскі, Гарбацэвіцкі, Гарохаўскі, Кавалёўскі, Слабодкаўскі, Сычаўскі, Хімоўскі, Цялушскі).

Большая частка раёна ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Пераважаюць вышыні 150—170 м над узроўнем мора, найвышэйшая кропка 183,5 м (каля р.п. Глуша). Карысныя выкапні: торф, гліна, будаўнічыя і сілікатныя пяскі; маюцца крыніцы мінеральных вод. Сярэдняя тэмпература студз. -6,8 °С, ліпеня 18,0 °С. Ападкаў 631 мм за год. 49,9% плошчы займаюць с.-г. ўгоддзі. Сярэдняя ўрадлівасць ворыва — 37 балаў. Рэкі: Бярэзіна (суднаходная), Ала, Бабруйка, Беліца,Ваўчанка, Вір, Продзвінка, воз. Вяхава. Балоты займаюць 11,4% тэр. раёна, буйнейшыя — Ваўчанскае, Юрзаўка. Праходзяць чыгунка і аўтадарога Мінск—Гомель, чыг. ветка Бабруйск—Рабкор. Аўтадарогамі і чыгункай звязаны з Мінскам, Магілёвам, Гомелем, Рагачовам, Мазыром, Пінскам і іншымі гарадамі.

У гаспадарцы вядучае месца належыць с.-г. вытв-сці, прадпрыемствы АПК спецыялізуюцца на мясамалочнай жывёлагадоўлі, птушкагадоўлі (РУСП «Бабруйская птушкафабрыка»). Прамысловасць (хім., маш.-буд., металаапрацоўчая, дрэваапрацоўчая, лёгкая і харчовая) сканцэнтравана пераважна ў Бабруйску. За межамі горада найбольш значныя прадпрыемствы — шклозавод «Кастрычнік» (р.п. Глуша) і торфазавод «Рэдкі Рог» (пас. Рэдкі Рог).

У раёне (без уліку Бабруйска) 10 комплексаў дзіцячы сад-школа, 7 сярэдніх, 1 пачатковая, 2 муз., 1 дзіцяча-спартыўная школы, 7 дашкольных і 28 клубных устаноў, 30 бібліятэк, псіханеўралагічны дом-інтэрнат (в. Слабодка), 4 бальніцы, 5 амбулаторый, 21 фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы аздараўленчы лагер «Рамонак (каля в. Сычкава). Выдаецца газета «Трыбуна працы».

**БАБРУЙСК** — горад абл. падпарадкавання, цэнтр раёна, 110 км ад Магілёва, вузел чыг. ліній на Асіповічы, Жлобін, Акцябрскі і аўтадарог у Мінск, Гомель, Магілёў, Калінкавічы, Рагачоў, Слуцк. На р. Бярэзіна пры ўпадзенні ў яе р. Бабруйка порт. 220,1 тыс. жыхароў (2005). Назва ад р. Бабруй (цяпер Бабруйка).

У 5—6 ст. каля сучаснага горада існавала слав. гарадзішча, а ў час Кіеўскай Русі — вёска, жыхары якой займаліся земляробствам і рознымі промысламі, галоўнымі з якіх былі бабровы (паляванне на бброў) і рыбалоўны. У летапісах пазначаны пад назвамі Баброўск, Бабруеск, Бабрусек. Першыя пісьмовыя звесткі адносяцца да сярэдзіны 14 ст. Пад 1387 г. упамінаецца ў грамаце караля Уладзіслава кн. Скіргайлу. У ВКЛ цэнтр воласці. У 1502 г. войска кн. С.М.Алелькавіча разбіла каля Бабруйска крымскіх і акер-

манскіх татар. У 1540 г. пазначаны на карце Еўропы, выдадзенай у Базелі. У 1562 г. Бабруйск атрымаў наказ аб адпраўцы ў Кіеў 40 чал. на будаўніцтва замка. У 1566 г. дзярж. ўладанне, цэнтр староства Рэчыцкага павета, уладанне вял. князя ВКЛ, потым належала Радзівілам, Гаштольдам, Трызнам. У 1615 г. засн. Петрапаўлаўскі касцёл (архітэктар Пётр Трызна). У 1620 г. — 15 вуліц, 2 завулкі, 409 дымоў, замак, млын, 75 крам. У 1639 г. аддадзены польскай каралеве Цэцыліі Рэнаце. У 16—17 ст. на ўзвышшы правабярэжжа Бярэзіны размяшчаўся драўляны замак (згарэў у 1649 г.), каля якога знаходзілася гандл. плошча і былі ўзведзены Мікалаеўская царква, Петрапаўлаўскі касцёл, шпіталь, замкавы суд, дамы рамеснікаў і купцоў. У радыяльных напрамках ад замка разыходзіліся вуліцы Свіслацкая, на якой размяшчаліся касцёл і кляштар езуітаў, Прачысценская царква (1-я пал. 16 ст.), і Парыцкая за р. Баброўка. У 1621 г. 427 дымоў, у замку — 18 двароў, 3 кляштары, касцёл, царква, плябанія, карчма, млын. У вызваленчую вайну 1648—54 гг. у Бабруйску адбылося адно з буйнейшых на Беларусі выступленняў гараджан, выклікане ўзмацненнем феад.-прыгонніцкага і нац.-рэлігійнага ўціску, злоўжываннямі феадалаў і шляхты. Разам з казацкім атрадам (загонам) Паддубскага гараджане ў кастр. 1648 г. разагналі і часткова перабілі замкавую адміністрацыю і шляхту, разграмілі шляхецкі атрад Паца, які прыбыў для падаўлення паўстання. У пачатку студз. 1649 г. Бабруйск асадзілі шляхецкія войскі пад камандаваннем У.Валовіча і Я.Радзівіла. Багатыя гараджане (духавенства, гандляры) перайшлі на бок феадалаў. У ноч на 21.2.1649 г. яны адчынілі вароты, найміты і шляхта ўварваліся ў Бабруйск і жорстка падавілі паўстанне — 400 казакоў былі забіты, у 150 адсечаны галовы, у 800 — рукі, больш за 100 пасаджаны на кол, у т.л. палкоўнік Паддубскі. Горад быў спалены. У 1671 г. ў Бабруйску 170 дамоў, 23 вуліцы і завулкі, 16 лавак, 2 царквы, касцёл, манастыр, 2 карчмы. У 1684 г. 186 двароў, 2 млыны. У 1694 г. адкрыта школа. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) казённае мястэчка. З 1795 г. горад, павят. цэнтр Мінскай губ., якому ў 1796 г. дадзены герб — на срэбраным полі карабельная мачта, да якой прыстаўлены 2 перакрыжаваныя драўляныя брусы, прыгатаваныя для мачтаў. У 1790 г. 206 двароў, у 1798 г. 274 двары, 2072 жыхары, 4 млыны, цагельны з-д. Развіваліся кравецкі, шавецкі, ганчарны, пякарскі, залатых спраў і кузнечны промыслы. Тры разы на год праводзіўся кірмаш.

Горад меў кампактную квартальную планіровачную структуру, аснову якой складалі 2 працяглыя вуліцы, пракладзеныя паралельна р. Бярэзіна. Асноўныя вуліцы і завулкі накіроўваліся да цэнтр.

*Адзін з бастыёнаў Бабруйскай крэпасці.*



*У сутарэннях Бабруйскай крэпасці.*





*Георгіеўская («белая») царква ў Бабруйску.*

плошчы. Праз галоўную — Мінскую вуліцу плошча звязвалася з іншым гар. цэнтрам, што складваўся на паўн. ускраіне. Трэцяя плошча знаходзілася на зах. ускраіне. У цэнтры паўд. часткі — драўляная уніяцкая капліца. На Пд, за млыном на р. Бабруйка, — двор гар. старосты. Пры уездзе ў горад з боку Рагачова знаходзілася карчма Зялёная.

Першы ген. план Бабруйска быў створаны ў 1800 г., у адпаведнасці з ім забудова ажыццяўлялася па рэгулярнай квартальнай планіроўцы з захаваннем гістарычна сфарміраванай схемы вуліц, трасіраваных у напрамках да Слуцка і Мінска. Буйнейшымі будынкамі з'яўляліся мураваны езуіцкі кляштар з касцёлам (засн. ў 1747 г.), плябанія і парафіяльны касцёл (засн. ў 1615 г.), якія фарміравалі адну з гал. плошчаў. Вылучаліся таксама драўляная Мікалаеўская (1600), Успенская (1628) і Ільінская (1614) цэрквы, яўр. школа, драўляныя казённы дом, гандл. рады (гасціны двор), багадзельня, млын з плацінай на р. Бабруйка, 2 хлебазапасныя магазіны. Жылую забудову складалі 274 драўляныя дамы. На Пд за р. Бабруйка размяшчалася слабада, дзе працаваў цагельны з-д. Каля пераправы цераз Бярэзіну знаходзіліся магазіны па продажу харчоў, а на ўзвышшы — драўляная царква. Далейшае развіццё горада звязана з будаўніцтвам у 1807—37 гг. моцнай па тым часе крэпасці. Узводзілася яна з цэглы, на ўзвышаным плато, пры ўпадзенні Бабруйкі ў Бярэзіну. У 1810 г. створаны сітуацыйны і праектны ген. планы горада з паказаннем «пражэктаваных» умацаванняў і асноўных для ўзвядзення будынкаў — сабornай царквы, каменданцкага дома, казармы, афіцэрскіх дамоў, правіянцкіх магазінаў, шпіталя, цэйгаўза. У 1819 г. з улікам праведзеных работ быў зацверджаны план крэпасці, складзены Бабруйскай інжынернай камандай. У паўн. частцы, пры ўездзе з боку Мінска, вакол праваслаўнага сабора фарміравалася новая плошча. Архітэктар А.Штаўберт спраектаваў у 1823 г. мураваную царкву, але яна так і не з'явілася, бо каля моста цераз Бабруйку ўзвялі лазарэт, каля пераправы — правіянцкія магазіны. Езуіцкі кляштар прыстасавалі пад артыл. склады (1810), а ў 1822 г. ўзвялі новы будынак з турмой у стылі позняга класіцызму. Частку драўлянай жылой забудовы знеслі. Да сярэдзіны 19 ст. драўляная забудова вялася ў чатырох фарштатах: Мінскім, Слуцкім, Бярэзінскім і Парыцкім, якія акружалі крэпасць. На зах. і паўд. ускраінах склаліся салдацкія слабоды. Крэпасць была ўзведзена па ўсіх патрабаваннях та-



*Фрагмент забудовы канца 19 ст. ў Бабруйску.*

*Бабруйская крэпасць.*



гачаснай фартыфікацыйнай тэхнікі і адыграла важную ролю ў Айчыннай вайне 1812 г. Тут знаходзіліся склады забеспячэння рас. арміі. Пасля жорсткіх баёў прайшла перафарміраванне 2-я рус. армія пад камандаваннем П.І.Баграціёна, пакінуўшы гарнізон з 5 тыс. чал. пад камандаваннем ген.-маёра Г.А.Ігнацьева. 4 месяцы рус. воіны мужна трымалі абарону супраць 20-тысячнага напалеонаўскага войска і нанеслі ворагу вял. страты. Значнае месца належала крэпасці і ў гісторыі рэв. руху. У 1823 г. тут была расквatarавана 9-я пяхотная дывізія, у якой служылі будучыя дзекабрысты М.П.Бястужаў-Румін, С.І.Мураўёў-Апостал, В.С. Нораў, І.С.Павала-Швяйкоўскі. Яны распрацавалі план паўстання, вядомы пад назвай Бабруйскага, якім прадугледжваліся арышт імператара Аляксандра І у час запланаванага ім агляду войск Бабруйскага гарнізона, ліквідацыя самадзяржаўя, стварэнне Часовага рэв. ўрада і ўсталяванне ў Расіі буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. Аднак з-за рознагалоссяў паміж змоўшчыкамі, а таксама непадрыхтаванасці да паўстання салдат гарнізона план не быў прыняты кіраўнікамі тайных таварыстваў. Пасля падаўлення дзекабрысцкага паўстання крэпасці трымаліся ў зняволенні П.А.Бястужаў, В.К.Тызенгаўзен і многія іншыя яго ўдзельнікі. У лютым 1826 г. ў Палтаўскім палку Бабруйскага гарнізона спрабаваў узняць паўстанне С.І.Трусаў — член Таварыства з'яднаных славян.

У 1829 г. ў горадзе 601 дом, 6829 жыхароў; пабудавана драўляная царква. У 1848 г. праз Бабруйск пракладзена Маскоўска-Варшаўская шаша. У 1863 г. 1301 дом, з іх 23 цагляныя, 18 938 жыхароў, меліся дваранскае павятовае, яўр. казённае і прыходскае пач. вучылішчы; у 1865 г. адкрыта прагімназія, якая ў ліп. 1903 г. ператворана ў мужчынскую гімназію. З канца 19 ст. дзейнічалі школа садаводства, агародніцтва і пчалярства, прыватны жаночы пансіён, цагельны і 3 заводы па вырабе свечак, 173 рамесныя майстэрні, у якіх працавалі 53 шаўцы, 17 хлебнікаў, 7 булачнікаў, 22 мяснікі, 4 мадзісткі, 14 капялюшнікаў, 38 шаўцоў, 9 гадзіннікавых майстроў, 3 шорнікі і інш.; 193 крамы, 11 корчмаў, 13 піцейных дамоў, 4 царквы, 13 малітоўных дамоў. Узведзены шэраг новых прам. прадпрыемстваў: вінакурнае (1869), вінадрожджавое (1870), цагельныя (1840, 1873, 1879, 1960), лесапільныя (1892, 1893, 1895, 1897), мэблевае (1893), маслабойнае (1890), машынабудаўнічае (1898), мукамольныя (1873, 1874, 1875, 1879). З 1898 г. запрацавала друкарня. Развіццю горада садзейнічала пракладзеная ў 1873 г. Лібава-Роменская чыгунка. Па праектах архітэктара М.П.Чахоўскага ўзведзены цагляныя будынкі казначэйства, гар. ўпраўлення, дваранскага сходу, некалькі новых крапасных пабудоў. Насельніцтва ў 1897 г. дасягнула 34 330 чал., а ў 1907 г. ў Бабруйску налічвалася 39 816 жыхароў.

*Фрагмент забудовы канца 19 ст. ў Бабруйску.*



Галоўнае месца ў прам-сці займалі дрэваапрацоўчыя, цагельныя, вінакурныя, тытунёвыя, маслабойныя, мукамольныя, крупарушныя, чыгуналіцейныя прадпрыемствы. Развіваліся ткацкія, агародныя промыслы. У 1905 г. — 8 лесапільных і дрэваапрацоўчых з-даў, да 2,2 тыс. чал. заняты ў стужачнай вытв-сці; 2 бальніцы на 70 ложкаў, ваенны шпіталь на 300 месцаў, 5 аптэк і 8 аптэчных кіёскаў; працавалі 15 урачоў, 8 акушэрак, 7 фельчараў, 2 ветэрынары, тэатр, 13 пач. школ (38 настаўнікаў, 1757 вучняў), гімназія (14 настаўнікаў, 236 вучняў); 6 фатаграфій, літаграфія, 3 друкарні, бібліятэка-чытальня. Меліся 2 аддз. банка, 2 натарыяльныя канторы, гасцініца, 5 пастаялых двароў, 19 корчмаў, 26 храмаў, малітоўных дамоў і капліц, паштова-тэлегр. кантора, 100 тэлефонаў.

У росце палітычнай свядомасці пралетарыяту важнае месца займала марксісцкая л-ра, што паступала з буйных цэнтраў Расіі і з-за мяжы. У 1901—04 гг. адбыліся 35 масовак і маніфестацый. У чэрв. 1903 г. з вучнёўскай моладзі склаўся іскраўскі гурток. За кошт злучэння рабочых да жн. 1903 г. ён вырас да 25 чал., а ў вер. ўзнікла арг-цыя РСДРП, стваральнікамі якой былі Ф.В.Сімончык, Л.С.Галынскі, Г.Л.Шклоўскі. З сак. 1904 г. Бабруйская арг-цыя ўваходзіла ў склад Паўн.-Заходняга к-та РСДРП. У снеж. таго ж года ўзнік шэраг рабочых гурткоў. Дзейнічала падп. друкарня. Арг-цыя падтрымлівала сувязі з замежным бальшавіцкім цэнтрам, Пецярбургскім і Палескім к-тамі і інш., мела нелегальную б-ку, вяла прапаганду і агітацыю сярод рабочых, салдат, сялян, рамеснікаў, навучэнцаў, служачых, друкавала і распаўсюджвала лістоўкі, пракламацыі і адозвы, у якіх тлумачыла задачы РСДРП, заклікала да барацьбы супраць царызму, памешчыкаў і капіталістаў. 16.1.1905 г. пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратаў адбылася ўсеагульная стачка супраць расстрэлу пецярбургскіх рабочых 9.1.1905 г., у якой удзельнічала каля 1000 рабочых. З кастр. 1905 г. да кастр. 1906 г. пры Бабруйскай арг-цыі РСДРП дзейнічала ваенна-рэв. арг-цыя (кіраўнікі Галынскі, К.Ісаева, Н.Пагадзіцкая). 22—25.11.1905 г. пад яе кіраўніцтвам адбылося выступленне дысцыплінарнага батальёна Бабруйскай крэпасці ў ліку 900 салдат, якое ўзначаліў матрос Якушаў. У кастр. 1906 г. ваенна-рэв. арг-цыя была разгромлена паліцыяй, актыўныя яе члены арыштаваны, а 24.11. 1906 г. раскрыта і ліквідавана друкарня. Аднак барацьба рабочых не спынялася. У сак. 1917 г. ўзнікла Бабруйская аб'яднаная арг-цыя РСДРП, а ў ліп. бальшавікі стварылі самастойную арг-цыю РСДРП(б). 15.10.1917 г. пры партыйным к-це была створана чырвонагвардзейская камендатура на чале з Брэгманам. 15.11.1917 г. быў абраны новы бальшавіцкі склад Савета



*Царква стараверaў у Бабруйску.*



*Былы «дом купчыхі», у якім размяшчаўся Бабруйскі рэўком.*



Чыгуначная станцыя Бярэзіна ў Бабруйску.



Плошча Леніна ў Бабруйску.

рабочых і салдацкіх дэпутатаў; нацыяналізаваны банкі, заводы і фабрыкі, канфіскаваны памешчыцкія землі. 20.1.1918 г. Бабруйск захоплены польскім контррэв. корпусам ген. І.Р.Доўбар-Мусніцкага, а 23.5.1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У канцы ліст. 1918 г. горад вызвалены Чырвонай Арміяй; створаны павятовы рэв. к-т, які ўзначаліў бальшавік П.Ф. Равінскі. У хуткім часе была ўведзена ў строй першая электрастанцыя магутнасцю 750 кВт. Рэўком у 1918—19 гг. выдаваў газ. «Известия». Важнай падзеяй у грамадска-палітычным жыцці Бабруйска першых гадоў сав. улады было наведванне яго 18—19.6.1919 г. старшынёй ЦВК М.І.Калініным з агітпоездам «Кастрычніцкая рэвалюцыя». На агульнагарадскім сходзе парт., сав. і прафс. актыву Калінін выступіў з прамовай аб унутраным і знешнім становішчы краіны.

З жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. горад акупіраваны польскімі войскамі. На тэр. крэпасці акупанты стварылі канцлагер, у якім загубілі тысячы захопленых у палон чырвонаармейцаў. Інтэрвенты расстралялі актыўных удзельнікаў падполля, у тым ліку Г.П.Адзярыху. Пасля вызвалення Бабруйска ад акупантаў шырока разгарнуліся работы па аднаўленні эканомікі, грамадскіх пабудоў, жылля, культурнабыт., навучальных і мед. устаноў. 15.4.1920 г. прынята рашэнне Бабруйскага аддзела аховы здароўя аб нацыяналізацыі аптэк. 30.8.1920 г. адбылася 1-я пав. канферэнцыя прафсаюзаў. Да ліст. 1920 г. адкрыты 12 школ 1-й і 2-й ступеней, 6 школ граматы, 2 нар. і 2 дзіцячыя дамы, 11 бібліятэкчытальняў, цэнтр. б-ка, нар. ун-т. Аднавілі работу 9 млыноў, 2 лесапільныя з-ды, швейная, абутковая і металаапрацоўчая майстэрні, хлебапякарні, у 1922 г. запрацавалі маслабойня, 2 электрастанцыі. У 1920-я г. здадзены ў эксплуатацыю 12 прадпрыемстваў, з якіх найбольш буйнымі былі ф-кі «Чырвоны харчавік»,



Вуліца Бахарава ў Бабруйску.



Будынак Бабруйскага гарвыканкама.





*Помнік Бабру ў Бабруйску.*

*Помнік на магіле Б.С. Бахарава ў скверы Перамогі ў Бабруйску.*

мэблевая імя С.М.Халтурына, лесапільныя з-ды імя В.Вароўскага, імя М.В.Фрунзе, хімлесгас. У 1923 г. — 39 816 жыхароў. Да пачатку 1927 г. выпуск прам. прадукцыі перавысіў дарэв. ўзровень. Адкрыты сацыяльна-эканам. тэхнікум, педтэхнікум. У 1921 г. пачало дзейнічаць пав. аддзяленне дзярж. выд-ва БССР, выходзілі штомесячны часопіс пав. аддзела нар. асветы і саюза работнікаў асветы «Просвещение и труд», у 1921—22 гг. — выданне работнікаў дашкольнага выхавання «Наш дневник», у 1924—25 гг. — «Бюлетэнь Бабруйскага павятовага аддзела народнай асветы», у 1926 г. — «Бюллетень Бобруйского окружного исполнительного комитета», у 1928—29 гг. — дадатак да газ. «Камуніст» пад назвай «За калектыў». Пры ўдзеле краязнаўца Ц.Я.Славіна ў 1924 г. створаны музей. Функцыяніравала гар. праўленне т-ва па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод насельніцтва, у горадзе выступала са спектаклямі і канцэртамі трупа Галубка (1926); працавалі метэаралагічная станцыя, цэнтр. рабочая амбулаторыя, дзіцячая кансультацыя, санітарная інспекцыя, туберкулёзны дыспансер, аптэка, бальніца, Дом дзіцяці.

З 17.7.1924 г. Бабруйск — цэнтр акругі і адначасова цэнтр 1-га і 2-га Бабруйскіх р-наў, якія ў 1927 г. аб'ядналіся ў адзін Бабруйскі р-н. У 1927 г. — 50,4 тыс. чалавек. У 1930-я г. ўзводзяцца дрэваапрацоўчы камбінат, маш.-буд. і гідролізны з-ды, швейная ф-ка імя Ф.Э.Дзяржынскага, у 1932 г. створана МТС, дзейнічаў радыёвузел. У 1940 г. ў Бабруйску больш за 100 прадпрыемстваў (каля 10 тыс. рабочых), дзе выраблялiся стандартныя дамы, цэгла, чарапіца, гідратурбіны, агрэгаты для цагельнай прам-сці, скрэперы, шаравыя і стрыжнёвыя млыны, запчасткі для с.-г. машын і іншая прадукцыя. Значныя поспехі былі дасягнуты ў развіцці культуры, паляпшэнні ўмоў працы і быту насель-

*Кафэ «Чырвоная вежа» ў Бабруйску.*

*Вуліца Дзяржынскага ў Бабруйску.*





ніцтва, якое ў 1939 г. складала 84,1 тыс. чалавек. На прадпрыемствах, у арг-цыях і ўстановах, пры школах дзейнічалі пункты па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. меліся 17 клубаў, 2 кінатэатры, краязнаўчы музей, 13 масавых б-к, 30 агульнаадукац. школ, 38 дашкольных установаў, 3 бальніцы, 19 іншых мед. установаў. Выходзілі шматтыражныя газеты «За ўдарныя тэмпы» (лесакамбінат, 1931—40 гг.), «Чырвоны гутнік» (шклозавод «Кастрычнік», 1930 г.), «Стаханавец» (з-д № 4 Галоўлесспірта), «За сацыялістычны лес і сплаў» (лесасплаў, 1934—40 гг.), «Пралетарская піла» (дрэваапрацоўчы камбінат, 1929—31 гг.), «Чырвоны друкар» (друкарня, 1934—35 гг.), «Чырвоны швейнік» (швейная ф-ка, 1931—32 гг.). У 1931 г. выдавалася газ. «Рабочы кааператар» (№ 1 — 25.2.1931 г.) і газета бабруйскага райпрамсавета «Сацыялістычным шляхам». Філіял «Маладняка» выдаваў альманах «Уздым» (1926—28 гг.). Бабруйская газ. «Камуніст», якая выходзіла з 1918 г., выдавала ў 1928—31 гг. літаратурныя дадаткі «Вясна» і «Ударнік». З лютага 1938 г. да пач. 1941 г. на базе мясц. трама працаваў калгасна-саўгасны тэатр.



*Вакзал чыгуначнай станцыі Бабруйск.*



*Прывакзальная плошча каля чыгуначнай станцыі Бярэзіна ў Бабруйску.*

З 15.1.1938 г. Бабруйск у складзе Магілёўскай вобл., з 27.9.1938 г. горад абл. падпарадкавання. Архіт.-планіровачнае яго развіццё ішло па гістарычна складзенай радыяльна-паўкальцавой схеме. Забудоўвалася тэр. былых фарштатаў вакол крэпасці і ўздоўж асн. магістраляў — вуліц Мінскай, Бахарава, Рагачоўскай. Грамадскі цэнтр сфарміраваўся на скрыжаванні вуліц Сацыялістычнай і М.Горкага. Архітэктура таго часу, якая адлюстроўвала працэс асваення антычнай спадчыны, прадстаўлена кінатэатрам «Таварыш» па вуліцы Інтэрнацыянальнай, а таксама адм. будынак па вуліцы Савецкай і першы ў рэспубліцы Дом культуры (1927—30 гг., архітэктар Г.Оль). У ліку найбольш значных будынкаў таго часу быў і Дом Чырвонай Арміі.

З 28.6.1941 г. да 29.6.1944 г. Бабруйск акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З першых дзён акупацыі гітлераўцы стварылі для згубы сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў 4 лагеры смерці з 4 філіяламі і 8 аддзяленнямі. У горадзе дзейнічала патрыят. падполле. Узначальвалі падп. групы І.В.Стомаў, П.Ф.Маслёнак, В.І.Бутараў, І.А.Хімічаў, Д.М.Лемяшонак, А.К.Калеснікаў, В.С.Калеснікаў, В.І.Лівенцаў, М.А.Баўкун, С.З.Крамнёў, М.Р.Баглай, Я.І.Савацееў, П.М.Сцяржанаў, П.С.Вашукевіч, К.М.Якаўлеў. Падпольшчыкі падтрымлівалі цесныя сувязі з партызанамі, праводзілі дыверсіі, друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, соль, дакументы акупац. улад (пашпарты, про-

пускі і інш.), звесткі аб размяшчэнні ням.-фаш. войскаў, складоў, абарончых збудаванняў ворага, руху яго сіл і грузаў па чыг. і шашэйных дарогах і інш. У 1942 г. яны вывезлі з фаш. друкарні шрыфт для выпуску падпольнай газ. «Бобруйский партизан» (рэдактар Крамнёў). За час акупацыі падпольшчыкі накіравалі ў партыз. атрады каля 4 тыс. чалавек. У снеж. 1941 г. — студз. 1942 г. арганізаваны 752-і партыз. атрад, разгорнуты потым у 1-ю Бабруйскую партыз. брыгаду, дзе базіраваўся падп. райком КП(б)Б. У Бабруйску і яго ваколіцах гітлераўцы стварылі глыбока эшаланіраваную сістэму абароны. Бабруйскі ўмацаваны раён займала 9-я ням. армія, у якую ўваходзілі 12 пях., 1 танкавая дывізіі і іншыя падраздзяленні (каля 130 тыс. гітлераўцаў). Уранку 24.6.1944 г. пасля моцнай артпадрыхтоўкі войскі 1-га Бел. фронту (камандуючы ген. арміі К.К.Ракасоўскі) пачалі наступленне з мэтай разгрому гэтай групоўкі праціўніка, якая спадзявалася ў ноч на 28.6.1944 г. вырвацца з акружэння, але ў канцы дня 27 чэрвеня армада сав. авіяцыі (526 самалётаў) нанесла ворагу сакрушальны ўдар. 29.6.1944 г. горад быў вызвалены. 20 часцей Сав. Арміі ўдастоіліся наймення «Бабруйскіх». У баях вызначыліся старшы лейтэнант Дз.П.Грыгор'еў, старшына Г.Ф.Канцаў, падпалкоўнік Ф.М.Кустоў, палкоўнік М.П.Масонаў, якія ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. На франтах, у партыз. і падп. барацьбе ўдзельнічалі тысячы бабруйчан. За бая-



*Бярэзіна ў межах Бабруйска.*



*Гасцініца «Бабруйск».*



*Георгіеўская капліца на Мінскім праспекце ў Бабруйску. 2001 г.*

вый заслугі ўраджэнцам Бабруйска С.А. Гарэліку, М.П.Мебшу, С.І.Сікорскаму, В.З.Харужай прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Пасля вызвалення горада ад акупантаў аднавілі работу тэлегр. і тэлефонная сувязь, многія прадпрыемствы. 20.9.1944 г. стаў цэнтрам вобласці (да 8.1.1954 г.). Выдаваліся абл. газета «Савецкая Радзіма» (1944—54 гг.), раённая «Ленінскі шлях». У 1949—54 гг. дзейнічаў настаўніцкі ін-т. Паступова Бабруйск ператварыўся ў буйны індустрыяльны і культ. цэнтр краіны. Зараз тут працуе каля 40 буйных прам. прадпрыемстваў, у тым ліку вытв. аб'яднанні «Бабруйскшына», «Беларусьгуматэхніка», «Бабруйскгідролізпром», дрэваапрацоўчае аб'яднанне, машынабудаўнічы, суднарамонтны і іншыя з-ды. Значнае месца займаюць лёгкая (Бабруйскае вытв. аб'яднанне мастацкіх вырабаў, швейная, валюшна-лямцавая, трыкатажная, абутковая ф-кі і інш.), харч. (камбінаты хлебапрадуктаў, мясаперапрацоўчы, з-ды малочны, маслабойны імя Г.П.Адзярыхі, кансервавы, кандытарская ф-ка «Чырвоны харчавік» і інш.) галіны прам-сці. Дзейнічаюць з-ды буйнапанэльнага домабудавання, зборнага жалезабетону, камбінат будматэрыялаў, ЦЭЦ. Паводле перапісу 1959 г. 97 530 чал., у 1989 г. тут 223 тыс. чалавек. 18.8.1972 г. ў склад горада ўключаны вёскі Дзеднава, Кісялевічы, Яловікі. 27.10.1980 г. Бабруйск падзелены на 2 раёны — Ленінскі і Першамайскі.

Станоўчыя пераўтварэнні адбыліся ў культуры. У 1940—60-я г. працавалі тэатры: абласны драматычны, калгасна-саўгасны перасоўны, абласны муз. камедыі, з 1970 г. Магілёўскі абл. тэатр драмы і камедыі імя В.І.Дуніна-Марцінкевіча. Самадзейныя тэатры гар. Дома культуры і Дома афіцэраў, харавыя капэлы ВА «Беларусьгуматэхніка» і настаўнікаў, ансамблі танца «Юнацтва» гар. Дома культуры, танца і хор дрэваапрацоўчага аб'яднання, вакальны «Вяснянка» механіка-тэхн. тэхнікума, духавы аркестр гар. Палаца піянераў і школьнікаў, дзіцячы хор «Чырвоны гваздзік» сярэдняй школы № 20 носяць званне «народны». Дзейнічаюць аўтатранспартны і аграрна-эканам. каледжы, лесатэхнічны і механіка-тэхналагічны тэхнікумы, мед. вучылішча, 8 ПТВ, 27 агульнаадукац., 3 муз., мастацкая, 6 дзіцяча-юнацкіх спарт. школ, 3 дамы піянераў і школьнікаў, станцыі юных натуралістаў і юных тэхнікаў, 77 дашкольных устаноў. Ёсць 4 кінатэатры, 20 клубных устаноў, 12 бібліятэк, 3 стадыёны, краязнаўчы музей, 12 музеяў на грамадскіх пачатках, філіял дзярж. архіва Магілёўскай вобл., 3 бальнічныя ўстановы, 4 дыспансеры, радзільны дом, 11 паліклінік, 50 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 2 санітарна-эпідэміялагічныя станцыі,



*Бабруйск. Порт на Бярэзіне.*



*Секцыя юных байдарачнікаў у Бабруйску.*

станцыя пералівання крыві, 15 аптэк, гідраметэастанцыя, санаторый імя У.І.Леніна, Дом санітарнай асветы. Выдаецца газ. «Бабруйскае жыццё» — орган гар. Савета, выходзіць шэраг іншых перыядычных выданняў. Працуюць гар. і раённая рэдакцыі радыёвяшчання, рэтранслятар 2 тэлевізійных праграм. З 1967 г. радыёвузел перайшоў на трохпраграмнае радыёвяшчанне. Уласныя радыёвузлы мае шэраг прадпрыемстваў, на ВА «Бабруйскферммаш» дзейнічае фабрычна-заводская рэдакцыя радыёвяшчання. У горадзе 63 помнікі, у тым ліку Герою Сав. Саюза В.З.Харужай, ген.-маёру танкавых войск Б.С.Бахараву, воінам 1-га Бел. фронту — вызваліцелям Бабруйска ад ням.-фаш. захопнікаў, рэвалюцыянеру-народавольцу С.М.Халтурыну. Планіровачна цэнтр горада захаваў рэгулярную дробнаквартальную радыяльна-паўкальцавую сістэму вуліц (ген. план 1936 г.) вакол крэпасці. Забудовы размешчаны па абодва бакі р. Бярэзіна. На З і У горад перасякае чыгунка. Асн. ўезды ў Бабруйск з'яўляюцца яго гал. вуліцамі. У 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навук.-даследчага і праектнага ін-та па горадабудаўніцтве ажыццёўлена чарговая карэкцыроўка генплана. Чарговы ген. план складзены ў 1978 г. (БелНДІПгорадабудаўніцтва). Былыя прыгарады Крывы Крук, вёска і пасёлак Дзеднава, Новы Свет, Цітаўка, Лагерная Слабада, Бярэзінскі фарштат, Кісялевічы, Яловікі, Цагляная Слабада зліліся ў адзіны горадабудаўнічы кангламерат. Паводле новага ген. плана 2005 г. вядзецца комплексная забудова мікрараёнаў жылымі дамамі ў 5 і 9 паверхаў. У паўн. частцы горада фарміруецца буйны жылы масіў, які ўключае студэнцкі гарадок, бальнічны комплекс, спартыўныя збудаванні. Прадугледжваецца засваенне былога ваен. гарадка Кісялевічы, рэстаўрацыя Бабруйскай крэпасці, рэканструкцыя цэнтра горада. Сярод збудаванняў апошніх гадоў



*Ганчар з Бабруйска Ю.Бойда.*





*У час свята «Дажынкі-2006» у Бабруйску.*

*«Дажынкі» ў г. Бабруйск. 2006 г.*



будынак аддзялення Нац. Банка па Магілёўскай вобл., мост праз Бярэзіну і інш. Выразна вызначаюцца 4 раёны: цэнтральны, паўночны, паўн.-ўсходні і ўсходні. На скрыжаванні вуліц Савецкай і Горкага — плошча Леніна і адм.-грамадскі цэнтр. У межах горада на ПнЗ участак лесу. Ёсць рэгулярны парк культуры і адпачынку, дзіцячы парк па вуліцы Пушкіна, парк «Арэхава Града» (на левабярэжжы Бярэзіны), скверы. Бабруйск — радзіма поўнага кавалера ордэна Славы А.Ф.Сямёнава, бел. пісьменнікаў М.Герчыка, Б.Мікуліча, Ю.Рудзько, Г.Шведзіка, кампазітара У.У.Алоўнікава, спевакоў І.М.Балоціна і В.І.Глушакова, скрыпача Л.Д.Гарэліка, рэжысёра С.С.Казіміроўскага, мастакоў У.А.Дамарада, І.А.Давідовіча, Г.П.Івакіна, І.Х.Капеляна, А.А.Малішэўскага, У.К.Міхайлоўскага, А.К.Боглая, С.І.Нартавай, філосафаў С.Я.Вальфсона і Б.Э.Быхоўскага, спартсменаў, майстроў спорту СССР С.Я.Прыходзькі, В.І.Рэнейскага і Т.Р.Рэнэля і засл. майстра спорту Беларусі А.І.Рэнейскага. У розны час у горадзе жылі і працавалі бел. савецкі пісьменнік М.Лынькоў, нар. артысты СССР Я.К.Цікоцкі і У.І.Уладамірскі, нар. артыст БССР Ц.М.Вяргейчык, нар. мастак БССР А.А.Бембель, акадэмік АН БССР А.Н. Сеўчанка, засл. дзеяч навукі БССР У.В. Марзон.



*У.М.Міхалкін.*

За поспехі, дасягнутыя ў гаспадарчым і культ. будаўніцтве, уклад у барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну Бабруйск 9.7.1987 г. ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

За 1,5 км на У ад горада знаходзіцца Бярэзінскае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 15,6 млн. $м^3$, распрацоўваецца Бабруйскім з-дам жалезабетонных вырабаў). У 1929 г. на правым беразе ракі адкрыты мінеральныя воды, якія выкарыстоўваюцца ў Бабруйскім санаторыі імя У.І.Леніна.

**АЗЁРЫ** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 30 км на У ад Бабруйска, 14 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 80 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Бабруйск—Рагачоў. 28 гаспадарак, 61 жыхар (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 8 двароў, 63 жыхары. У 1907 г. 6 двароў, у 1917 г. 56 жыхароў. У 1926 г. 12 двароў, 65 жыхароў. У ліп. 1931 г. арганізаваны калгас імя «Трэцяга рашаючага года».

*У час свята «Дажынкі-2006» у Бабруйску.*



*Пераможцы спаборніцтваў сярод механізатараў на свяце «Дажынкі». 2006 г.*



У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 21 вясковец. Паводле перапісу 1959 г. — 169, у 1970 г. — 167 жыхароў. У 1986 г. ў вёсцы 35 гаспадарак, 102 жыхары, у складзе калгаса «Гігант». Ёсць клуб. Адна вуліца, арыентаваная мерыдыянальна і двухбакова, забудаваная драўлянымі хатамі сядзібнага тыпу.

**АКОЛІЦА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Бабруйска, 17 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 125 км ад Магілёва, на У р. Брожа (левы прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі захаваўся стараж. курганны могільнік (40 насыпаў), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых месц у далёкай старажытнасці. Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 38 двароў, 182 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Н.К.Крупскай. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 23 двары і загубілі 6 жыхароў, 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 168, у 1970 г. — 95 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы». 2 кароткія вуліцы з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**АКЦЯБР** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Бабруйска, 1 км ад чыг. ст. Мікулічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 82 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 44 гаспадаркі, 125 жыхароў (2007).

Заснавана ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1924 г. пасёлку дадаткова выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 17 двароў, 70 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 172, у 1970 г. 182 жыхары. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе калгаса імя А.Неўскага. Ёсць клуб і б-ка. 4 кароткія вуліцы, 2 з якіх трасіраваны перпендыкулярна да чыгункі. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу, драўляная, на паўд. ускраіне мураваная.

**АМЯЛЕНСКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Варатынскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 74 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Жлобін. 21 гаспадарка, 34 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. паводле перапісу 1897 г. вёска, 42 двары, 266 жыхароў, у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Меўся заезны двор. У 1907 г. 50 двароў, 345 жыхароў, у 1917 г. 63 двары, 363 жыхары. У 1926 г. 72 двары. У 1932 г. арганізаваны калгас «Гвардзеец». У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 15 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 171, у 1970 г. — 169 жыхароў. У 1986 г. 47 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе калгаса «Прагрэс». Працуе магазін. Адна вуліца, арыентаваная з З на У, трасіраваная пад вуглом да чыгункі і забудаваная з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза К.П.Чарнова.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 4 км на Пн ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 114 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (7 двароў, 21 жыхар), цэнтр маёнтка ў Бабруйскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 45 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. У 1907 г. 55 жыхароў, у 1917 г. 14 двароў, 74 жыхары. У 1926 г. 14 двароў, 82 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Партызан». У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. — 57, у 1970 г. — 65 жыхароў. У 1986 г. 17 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе цяплічнага саўгаса-камбіната «Бабруйскі». 2 вуліцы з адна- і двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.



*А.Ф.Сямёнаў.*



*К.П.Чарной.*

**АРЭХАВА** (да 30.7.1964 г. Пішчакі) — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Бабруйск, 116 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 55 гаспадарак, 95 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1857 г. вёска Пішчакі (яна ж Дзямідкавічы) у Бабруйскім павеце Мінскай губ. У 1907 г. ў Гарбацэвіцкай вол., 30 двароў, 232 жыхары, у 1917 г. 55 двароў, 282 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 85 гаспадарак, 182 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Г-падобная вуліца забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСТРАВЫ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Бабруйска, 18 км ад чыг. ст. Бабруйск, 128 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. хутар, 3 двары, 16 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губерніі. У 1907 г. 21 жыхар. У 1926 г. 5 двароў, 30 жыхароў, пазней хутар ператвораны ў вёску. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 50, у 1970 г. — 54 жыхары. У 1986 г. 16 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы». Адна плаўна выгнутая вуліца з завулкам, арыентаваная шыротна і забудаваная двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**АТРОШКАВІЧЫ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 15 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 125 км ад Магілёва. Каля вёскі пачынаецца р. Ваўчанка (правы прыток Бярэзіны). Побач аўтадарогі Бабруйск—Слуцк і Бабруйск—Глуск. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1838 г. вёска (49 рэвізскіх душ) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 159 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Гарбацэвіцкай вол. У 1907 г. 28 двароў, 217 жыхароў, крама, у 1917 г. 47 двароў, 300 жыхароў. У 1926 г. 63 двары, 344 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Якаўлева. У Вял. Айч. вайну загінулі на франтах 20 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 172, у 1970 г. — 143 жыхары. У 1986 г. 41 гаспадарка, 102 жыхары, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Адна плаўна выгнутая вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ і двухбакова забудаваная драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЎСІМАВІЧЫ** — вёска ў Варатынскім с/с, за 37 км на ПдУ ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 73 км ад Магілёва, на р. Ала (левы прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 26 гаспадарак, 55 жыхароў (2007).

Вядомы з 16 ст. У 1541 г. сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г., 10 двароў, 14 жыхароў мужчынскага полу, 6 валокаў зямлі, з якіх 3 пустыя. У 1647 г. 21 двор, у Рэчыцкім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 186 жыхароў, цэнтр маёнтка Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1847 г. 34 двары, у складзе маёнтка Баляцін. У 1888 г. адкрыта школа граматы, у 1890 г. яе наведвалі 11 вучняў. Паводле перапісу 1897 г. ў Туркаўскай вол., 63 двары, 472 жыхары, ветраны млын, хлебазапасны магазін. Побач была сядзіба (2 двары, 9 жыхароў, вадзяны млын, крупадзёрка, сукнавальня). У 1907 г. 76 двароў, 599 жыхароў. У 1912 г. школа граматы ператворана ў земскую, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 85 двароў, 611 жыхароў. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 55 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 36 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). 29 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 208, у 1970 г. — 152 жыхары. У 1986 г. 45 гаспадарак, 105 жы-

хароў, у складзе калгаса імя А.С.Пушкіна. Працуе клуб. 4 вуліцы, забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза лётчыка Ф.Ф.Архіпенкі і ўдзельніка партыз. руху на Магілёўшчыне У.А.Парахневіча.

**БАБІНА 1** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 7 км на У ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 103 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 107 гаспадарак, 268 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1838 г. вёска Бабін (23 рэвізскія душы) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У 1847 г. 10 двароў, 53 жыхары, у складзе маёнтка Вавулічы. Паводле перапісу 1897 г. ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол., 13 двароў, 66 жыхароў. Побач былі аднайменныя хутар (3 двары, 9 жыхароў) і маёнтак (5 двароў, 26 жыхароў, заезны двор). У 1907 г. ў вёсцы 14 двароў, 112 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 23 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 32 двары, 171 жыхар, у маёнтку — 73 жыхары. У 1926 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ультыматум». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 9 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне), 7 землякоў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 211, у 1970 г — 200 жыхароў. У 1986 г. 106 гаспадарак, 290 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Працуюць пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з паўн. (уздоўж аўтадарогі) і паўд. (перпендыкулярна аўтадарозе) частак. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАБІНА 2** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 10 км на У ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 100 км ад Магілёва, на ПнУ і ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарогах Бабруйск—Рагачоў і Бабруйск—Гомель. 38 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Засн. ў 1922 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 4 двары, 18 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 6 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), 23 землякі — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 317, у 1970 г. — 1281 жыхар. У 1986 г. 65 гаспадарак, 150 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Ёсць магазін. 2 вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На У і ПдЗ частка дамоў адасоблена.

**БАБОЎЕ** — вёска ў Восаўскім с/с, за 19 км на З ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Асіповічы, 129 км ад Магілёва, на аўтадарозе Навасёлкі—Бабруйск. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., хутар (6 двароў) і ўрочышча (1 двор, 11 жыхароў) Бабовішча 2. У 1908 г. вёска (35 жыхароў) і хутар (2 двары, 21 жыхар). У 1917 г. ў Бабовішчы 1 — 53, у Бабовішчы 2 — 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. — 122, у 1970 г. — 96 жыхароў. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Восава». 2 паралельныя паміж сабой мерыдыянальныя вуліцы з адна- і двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАГУСЛАЎКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 19 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 129 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. У вёсцы ніхто не жыве (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 25 двароў, 146 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 38 двароў, 174 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа. У 1926 г. 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 75, у 1970 г. — 45 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Адна кароткая арыентаваная з З на У вуліца, забудаваная двухбакова драўлянымі сял. хатамі.



*Ф.Ф.Архіпенка.*

**БАГУШОЎКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 19 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 129 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк, на З р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). 22 гаспадаркі, 108 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1838 г. 52 жыхары мужчынскага полу, у Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У 1846 г. ў складзе маёнтка Дварэц. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарбацэвіцкай вол., 37 двароў, 237 жыхароў, піўная крама. У 1907 г. мелася царква, пры ёй была адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў памяшканні шашэйна-дарожнага ведамства. У 1917 г. 49 двароў, 288 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Багушоўскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 15.1.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей. У 1925 г. ў вясковай школе займаўся 91 вучань. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны лётчык». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінуў 21 сав. воін (пахаваны ў 2 брацкіх магілах на вясковых могілках), 25 землякоў — на франтах і ў партыз. барацьбе. Тут таксама пахаваны 121 сав. ваеннапалонны, якіх акупанты расстралялі ў 1942 г. Паводле перапісу 1959 г. — 172, у 1970 г. — 143 жыхары. У 1986 г. 70 гаспадарак, 178 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Працуюць базавая школа, б-ка, клуб. Планіроўка квартальная з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт. Гал. вуліца — адрэзак аўтадарогі. Радзіма дзярж. дзеяча БССР А.Я.Каліткі.

**БАНЁЎКА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 14 км на З ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва, на З і У мяжуе з лесам, на ПдУ р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 20 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

За 0,3 км на Пн ад вёскі захаваўся стараж. курганны могільнік (32 насыпы) і за 1 км на У ад яе, ва ўрочышчы Казённы Лес — стараж. курган, якія сведчаць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1922 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. пасёлак, 14 двароў, 93 жыхары. У маі 1931 г. арганізаваны калгас «Клім Варашылаў». У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 161, у 1970 г. — 122 жыхары. У 1986 г. 68 гаспадарак, 143 жыхары, у складзе саўгаса «Восава». Г-падобная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**БАНЁЎКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 13 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 123 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).



*Будынак былой паштовай станцыі (19 ст.) у в. Багушоўка.*



*Царква стараавераў у в. Багушоўка.*

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 79 жыхароў. Побач быў хутар Банёўка 2 — 4 двары, 30 жыхароў. У 1907 г. ў вёсцы 16 двароў, 107 жыхароў, на хутары 1 двор, 11 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 39 двароў, 181 жыхар, на хутары 5 двароў, 34 жыхары. У 1934 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі на фронце 7 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 107, у 1970 г. — 71 жыхар. У 1986 г. 15 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна. Адна прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ і двухбакова забудаваная драўлянымі сял. хатамі.

**БАРАВАЯ** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 19 км на Пд ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 129 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Мазыр, на Пн мяжуе з лесам. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар Баравая (ён жа Лубная Дубрава), 5 двароў, 39 жыхароў, у Брожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Побач каля паштовай дарогі Бабруйск—Парычы былі аднайменныя карчма і лясная старожка (3 двары, 13 жыхароў), казённая паштовая станцыя. У 1907 г. 8 двароў, 50 жыхароў, у 1917 г. 14 двароў. У 1926 г. 21 двор, 129 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 25 двароў. 15 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 109, у 1970 г. — 86 жыхароў. У 1986 г. 30 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе. Планіровачна склалася ўздоўж аўтадарогі, адрэзак якой з'яўляецца гал. вуліцай. 2 другарадныя вуліцы трасіраваныя перпендыкулярна да дарогі. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**БАРАК** — пасёлак у Бортнікаўскім с/с, за 19 км на У ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 81 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 11 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1907 г. хутар у Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 6 жыхароў. У 1921 г. 3 двары, 16 жыхароў. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 63 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Л.Б. Красіна. У Вял. Айч. вайну 8 землякоў загінулі на фронце, у баях каля пасёлка — 7 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры пасёлка). Паводле перапісу 1959 г. — 84, у 1970 г. — 77 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Працуе магазін. Планіровачна ўяўляе сабой адну прамалінейную вуліцу, трасіраваную перпендыкулярна да аўтадарогі, забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная.

**БАРАНАВІЧЫ 1** — вёска ў Восаўскім с/с, за 14 км на З ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва, на У ад вёскі р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 31 гаспадарка, 42 жыхары (2007).

Вядомы з 17 ст. У 1626 г. сяло ў складзе маёнтка Глуск-Дубровіцкі Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. 15 двароў, 103 жыхары, цэнтр маёнтка ў Бабруйскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Баранавічы 1 (24 двары, 143 жыхары, хлебазапасны магазін) і Баранавічы 2 (яна ж Вірышы, 25 двароў, 151 жыхар, хлебазапасны магазін) у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Побач былі сядзіба Баранавічы-1 (3 двары, 25 жыхароў), сядзіба Баранавічы-2 (яна ж Вірышы, 5 двароў, 38 жыхароў) і 3 хутары Баранавічы (разам 15 двароў, 70 жыхароў). У 1917 г. існавалі вёскі Баранавічы 1 (478 двароў, 288 жыхароў), Баранавічы 2 (39 двароў, 211 жыхароў), Баранавічы (28 двароў, 168 жыхароў), маёнтак Баранавічы (113 жыхароў), засценак Баранавічы (1 двор, 6 жыхароў). У пач. 1920-х г. адкрыта школа, меўся гурток па ліквідацыі

непісьменнасці сярод дарослых. У 1929 г. арганізаваны калгас «Колас», працавалі кузня і цагельная арцель «Перамога». У Вял. Айч. вайну дзейнічала антыфаш. падп. група. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 17 землякоў. У 1967 г. вёскі Баранавічы, Баранавічы 1 і Баранавічы 2 зліліся ў адзін населены пункт. Паводле перапісу 1970 г. 271 жыхар. У 1986 г. 91 гаспадарка, 169 жыхароў, у складзе саўгаса «Восава». Меліся машынны двор і рамонтныя майстэрні, б-ка, магазін. Планіровачна ўяўляе сабой адну прамалінейную шыротную вуліцу, забудаваную драўлянымі сял. хатамі (грамадскія будынкі ў цэнтры вёскі).

**БАРАНАВІЧЫ 3** — вёска ў Восаўскім с/с, за 13 км на З ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, з Пд і У агінае р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

За 1,5 км на Пн ад вёскі захаваўся курганны могільнік (53 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. хутар у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 38 жыхароў. У 1926 г. 31 двор, 181 жыхар. 15.8.1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё № 3». У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 183, у 1970 г. — 143 жыхары. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 61 жыхар, у складзе саўгаса «Восава». Планіроўка квартальная з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАРБАРОВА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 128 км ад Магілёва, на Пн і З ад вёскі меліярацыйны канал. Побач аўтадарогі Сычкава—Свіслач і Мінск—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1844 г. фальварак, цэнтр маёнтка Барбарова Бабруйскага павета Мінскай губ. Меліся вінакурня, млын, малатарня. Паводле перапісу 1897 г. засценак у Свіслацкай вол., 5 двароў, 38 жыхароў. У 1905 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1907 г. засценак, 12 двароў, 141 жыхар. У 1917 г. 22 двары, 115 жыхароў. У пач. 1920-х г. для школы ўзведзены асобны будынак, у 1925 г. ў ёй займаліся 73 вучні. З 1922 г. працавала хата-чытальня. У 1926 г. вёска, 34 двары, 155 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас імя В.Вароўскага. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 87, у 1970 г. — 58 жыхароў. У 1986 г. 17 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАРКІ** — вёска ў Восаўскім с/с, за 18 км на З ад Бабруйска, 12 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 128 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Слуцк. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядомы з 17 ст. У 1626 г. сяло ў складзе маёнтка Глуск-Дубровіцкі Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска Боркі 1 (21 двор, 175 жыхароў) і хутар Боркі 2 (2 двары, 18 жыхароў) у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 169 жыхароў, у 1917 г. 37 двароў, 249 жыхароў, пачалі працаваць школа (у 1925 г. 50 вучняў), драматычны і харавы гурткі, б-ка. У жн. 1931 г. арганізаваны калгас імя Газеты «Орка». Паводле перапісу 1959 г. — 175, у 1970 г. — 109 жыхароў. У 1986 г. 21 гаспадарка, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Дойнічава». Планіровачна ўяўляе сабой адну крывалінейную вуліцу, арыентаваную шыротна, з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАРОК** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 17 км на З ад Бабруйска, 13 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 127 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. На ўсх. ускраіне ручай. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1907 г. хутар у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 6 жыхароў. У 1917 г. 2 двары, 10 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 землякі. Паводле перапісу 1959 г. 65 жыхароў. У 1986 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой блізкую да прамалінейнай вуліцу з аднабаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАРСУКІ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 16 км на З ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 126 км ад Магілёва, на ПдУ ад вёскі р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Слуцк—Бабруйск. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. хутар у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 52 жыхары. У 1907 г. вёска, 12 двароў, 79 жыхароў. У 1917 г. 24 двары, 137 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 117, у 1970 г. — 70 жыхароў. У 1986 г. 21 гаспадарка, 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой адну арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАРШЧОВА** — пасёлак да 1988 г. ў Бортнікаўскім с/с, за 15 км на У ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 95 км ад Магілёва, побач з аўтадарогай Бабруйск—Рагачоў.

Засн. ў 1922 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 9 двароў, 34 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. — 40, у 1970 — 35 жыхароў. У 1986 г. 4 гаспадаркі,5 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна ўяўляла сабой кароткую мерыдыянальную вуліцу, забудова драўляная, сядзібнага тыпу. У 1988 г. апошні жыхар пераселены ў в. Іванаўка.

**БАРШЧОЎКА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 15 км на У ад Бабруйска, 15 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 95 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 102 жыхары. У 1907 г. 17 двароў, 112 жыхароў. У 1917 г. 25 двароў, 115 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 16 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), на фронце — 5 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 141, у 1970 г. — 111 жыхароў. У 1986 г. 31 гаспадарка, 67 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Планіроўка П-падобная, гал. вуліца трасіравана пад вуглом да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРОК** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 17 км на З ад Бабруйска, 13 км ад чыг. ст. Мірадзмна на лініі Бабруйск—Мінск, 127 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. На ўсх. ускраіне ручай. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2007 г.).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1907 г. хутар у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 6 жыхароў. У 1917 г. 2 двары, 10 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 землякі. Паводле перапісу 1959 г. 65 жыхароў. У 1986 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой блізкую да прамалінейнай вуліцу з аднабаковай драўлянай забудовай драўлянага тыпу.

**БАЯРШЧЫНА** — вёска да 1987 г. ў Восаўскім с/с, за 25 км на З ад Бабруйска, 19 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 135 км ад Магілёва.

Вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. фальварак у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. 36 жыхароў. У 1922 г. на вял. участку былой памешчыцкай зямлі ва-

кол фальварка пачаў складвацца пасёлак. У 1926 г. 14 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 8 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 92, у 1970 г. — 71 жыхар, у складзе саўгаса «Дойнічава». Планіровачна ўяўляла сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. З 1987 г. не існуе.

**БАЯРЫ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Мінск. На Пн ад вёскі працякае р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). 43 гаспадаркі, 64 жыхары (2007).

За 0,2 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся стараж. курганны могільнік (3 насыпы) і за 1,5 км на У ад яе, ва ўрочышчы Рыгораў Хутар — другі стараж. могільнік (19 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Вядома з 19 ст. У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 35 жыхароў мужчынскага полу, памешчыцкая ўласнасць. У 1847 г. 19 двароў, 91 жыхар, у складзе маёнтка Восава Бабруйскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 183 жыхары, хлебазапасны магазін, у Гарбацэвіцкай вол. У 1917 г. 52 двары, 258 жыхароў. У 1924 г. побач з вёскай на хутары Падтакары адкрыта школа (у 1925 г. 75 вучняў). У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя баяры». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 36 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле, што каля будынка амбулаторыі). У ліку пахаваных гвардыі капітан, камандзір танкавага батальёна 16-й гв. танкавай брыгады 1-га гв. танкавага корпуса, Герой Сав. Саюза М.А.Ізюмаў. 23 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 218, у 1970 г. — 201 жыхар. У 1980 г. далучана в. Ваўчанка. У 1986 г. 92 гаспадаркі, 187 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Ёсць сталярна-цяслярскія майстэрні, клуб, б-ка, амбулаторыя, кніжны, прамтаварны, харчовы і гасп. магазіны. Меліярацыйным каналам падзяляецца на паўн. і паўд. часткі. Планіроўка квартальная пераважна з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БЕЛАРУСЬ** — пасёлак да 1991 г. ў Бортнікаўскім с/с, за 14 км на У ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 96 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. Каля пасёлка пачынаецца р. Беліца (правы прыток р. Ала).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. Паводле перапісу 1959 г. — 39, у 1970 г. — 25 жыхароў. У 1986 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. У 1991 г. апошні жыхар перасалены ў в. Іванаўка.

**БІБКАЎШЧЫНА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 11 км на З ад Бабруйска, 1 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 121 км ад Магілёва, на У ад вёскі р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1857 г. фальварак Бібкаўшчына ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарбацэвіцкай вол., 4 двары, 38 жыхароў, побач існаваў хутар Бібкаўшчына (ён жа Гарадок), 2 двары, 10 жыхароў. У 1907 г. ў фальварку 3 двары, 16 жыхароў, на хутары 6 двароў, 27 жыхароў. У 1917 г. ў фальварку 38 жыхароў, на хутары 11 двароў, 46 жыхароў. У 1926 г. 19 двароў, 92 жыхары. 1.8.1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік № 2». У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 68, у 1970 г. — 52 жыхары. У 1986 г. 13 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіроўка ўключае 2 кароткія, перакрыжаваныя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БІРЧА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 25 км на У ад Бабруйска, 7 км ад чыг.

ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 85 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 119 гаспадарак, 246 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1639 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 90 жыхароў мужчынскага полу, у Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У 1847 г. 27 двароў, 209 жыхароў, цэнтр маёнтка. У 1897 г. — 56 двароў, 478 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква; раз у год (1 кастр.) праводзіўся таржок. Побач быў маёнтак — 1 двор, 25 жыхароў; заезны двор, карчма. У 1907 г. ў вёсцы 80 двароў, 499 жыхароў, у маёнтку — 38 жыхароў, царква, карчма, заезны двор. У 1917 г. ў вёсцы 94 двары, 638 жыхароў, у маёнтку 93 жыхары. У 1921 г. ў былым памешчыцкім будынку адкрыта школа (у 1925 г. 50 вучняў). У 1926 г. 92 двары, 470 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну ў баі каля вёскі загінулі 4 сав. воіны (пахаваны на могілках), 49 землякоў — на франтах і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 357 жыхароў. У 1967 г. далучаны в. Кухенка і пасёлкі Бірча 3, Бірча 4. У 1970 г. 614 жыхароў. У 1986 г. 180 гаспадарак, 430 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, б-ка, пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з паўд., цэнтр. і паўн. частак. Паўднёвая мае крыжападобную планіроўку, цэнтральная — прамалінейную ў адну вуліцу, паўночная — Т-падобную. Грамадскія будынкі ў паўн. частцы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**БІРЧА 1** — пасёлак у Бортнікаўскім с/с, за 27 км на У ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 83 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарогах Бабруйск—Рагачоў і Бабруйск—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У пач. 20 ст. тут быў маёнтак. Пасёлак засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 16 двароў, 77 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 44, у 1970 г. — 47 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Планіровачна ўяўляе сабой адну кароткую шыротную прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БІРЧА 2** — пасёлак у Бортнікаўскім с/с, за 26 км на У ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 84 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарогах Бабруйск—Рагачоў і Бабруйск—Гомель. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 13 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 50, у 1970 г. — 41 жыхар. У 1986 г. 10 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Планіровачна ўяўляе сабой адну плаўна выцягнутую вуліцу, арыентаваную з У на З, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БРОЖА** — вёска ў Брожскім с/с, за 19 км на Пд ад Бабруйска, 2 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 129 км ад Магілёва, на У працякае р. Брожа (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 34 гаспадаркі, 52 жыхары (2007 ).

Вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г., 15 двароў, 60 валок зямлі, з якіх 45 пустых, гасп. двор і засценак. У 1738 г. 28 двароў, у Бабруйскім старостве. У 1773 г. 36 двароў, цэнтр ключа Бабруйскага староства-воласці. Пасля 2-га падзелу Рэчы

Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1849 г. пабудавана драўляная царква. У 1858 г. ў складзе казённага маёнтка. Паводле перапісу 1897 г. вёска, цэнтр Брожскай вол. (да 17.7.1924 г.), 31 двор, 208 жыхароў, хлебазапасны магазін, побач існаваў маёнтак — 2 двары, 15 жыхароў. У 1907 г. 41 двор, 236 жыхароў. У 1917 г. вёска (68 двароў, 346 жыхароў) і сяло (12 двароў, 74 жыхары). Мелася школа граматы. У пач. 1920-х г. вясковай школе перададзены 2 нацыяналізаваныя будынкі (у 1925 г. 120 вучняў). З 1922 г. дзейнічала хата-чытальня і школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1920-я г. ў лесе побач з вёскай была смалакурня. У 1932 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну 32 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 330, у 1970 г. — 269 жыхароў. У 1986 г. 68 гаспадарак, 120 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ленінскага камсамола. Планіроўка квартальная. Гал. вуліца прамалінейная, мерыдыянальнай арыентацыі, падзелена ручаём на 2 часткі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**БРОЖА** — пасёлак, цэнтр Брожскага с/с, чыг. ст. на лініі Бабруйск—Рабкор, за 22 км на Пд ад Бабруйска, 132 км ад Магілёва, на р. Брожа (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 315 гаспадарак, 626 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1621 г. сяло, 20 двароў, млын, уласнасць казны, у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. Непадалёку быў аднайменны фальварак. У 1639 г. 55 жыхароў мужчынскага полу, 2 млыны на р. Брожа. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 127 жыхароў, дзейнічала царква. У 1847 г. 23 двары, уласнасць казны. У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча, мелася крама. У 1916 г. заснавана лесапільня. У час грамадз. вайны і замежнай інтэрвенцыі дзейнічаў вал. рэвалюцыйны к-т. У 1922 г. адкрыта хатачытальня. Школе ў 1923 г. перададзены нацыяналізаваны будынак (89 вучняў, б-ка). З 20.8.1924 г. да 20.2.1938 г. і з 16.7.1954 г. цэнтр Брожскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцях. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 г. і да вызвалення дзейнічала падп. антыфаш. група (кіраўнік В.А. Шчэрбіч). Падпольшчыкі прымалі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, псавалі ваенную тэхніку ворага, знішчалі гітлераўскіх прыслужнікаў. Калі акупанты натрапілі на след падпольшчыкаў, значная іх частка пайшла ў партызаны. Партызаны разграмілі гарнізон, які размяшчаўся ў пасёлку. 6.12.1942 г. акупанты расстралялі 9 жыхароў. У баях каля пасёлка загінулі 380 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). Паводле перапісу 1959 г. — 490, у 1970 г. — 641 жыхар. У 1980 г. створаны Бабруйскі лясны гадавальнік для вырошчвання сеянцаў і саджанцаў. У 1986 г. 196 гаспадарак, 730 жыхароў, цэнтр саўгаса імя Ленінскага камсамола. Ёсць рамонтная майстэрня, лесапільня, хлебапякарня, лесаўчастак Бабруйскага леспрамгаса, лясніцтва, сярэдняя школа, краязнаўчы музей, дзіцячы сад-яслі, клуб-б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка і сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аптэка, сталовая, 4 магазіны, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка квартальная. Гал. вуліца прамалінейная, мерыдыянальная. У яе цэнтр. частцы грамадскія будынкі. Пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу. На У — адасобленая частка забудовы (былая в. Слабодка — радзіма Героя Сав. Саюза, удзельніка сав.-фінляндскай і Вял. Айч. войнаў А.К.Болбаса).

У склад Брожскага с/с уваходзілі да 1967 г. вёска Мельнікі, да 1977 г. хутар Брожа і в. Прудзішча, да 1978 г. вёскі Слабодка, Смаласкін, да 1980 г. Раскачы (не існуюць). За 3,5 км на ПнУ ад вёскі

радовішча пяскоў (перспектыўныя запасы 8,2 млн. м$^3$).

**БРОЖКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Бабруйск, 122 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска Брожка (яна ж Таканаўка) у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 19 двароў, 156 жыхароў. У 1907 г. — 22, у 1917 г. — 23 двары. У 1918 г. адкрыта школа (у 1925 г. 35 вучняў), працаваў драматычны гурток. У ліп. 1931 г. арганізаваны калгас «Полымя рэвалюцыі». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 113, у 1970 г. — 132 жыхары. У 1986 г. 43 гаспадаркі, 105 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Працуюць аддз. сувязі, клуб, магазін. Планіровачна ўяўляе сабой 2 прамалінейныя скрыжаваныя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БУДА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 18 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 128 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска Буда-Астравок, 14 двароў, 97 жыхароў, вятрак, і казённая варта Буда, 2 двары, 21 жыхар, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. ў вёсцы 18 двароў, 147 жыхароў, на казённай варце 1 двор, 15 жыхароў, на смалакурным з-дзе 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 33 двары, 236 жыхароў, на казённай варце 2 двары, 12 жыхароў, на смалакурным з-дзе 2 двары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 7 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 155, у 1970 г. — 124 жыхары. У 1986 г. 41 гаспадарка, 92 жыхары, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе адну паралельную да аўтадарогі вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БУДЧЫН** — пасёлак да 1991 г. ў Варатынскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Мікулічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 80 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін.

Засн. ў 1921 г. на былых памешчыцкіх землях жыхарамі з в. Аўсімавічы. У 1926 г. 5 двароў, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 62, у 1970 г. — 27 жыхароў. У 1986 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса імя Пушкіна.

**БЯРОЗАВІЧЫ** — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 3 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 113 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк.

Вядомы з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 18 двароў, 139 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1907 г. 20 двароў, 155 жыхароў, у 1917 г. 34 двары, 236 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа (у 1925 г. 48 вучняў). У 1926 г. 32 двары, 205 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «За ўладу Саветаў». У Вял. Айч. вайну ў баі каля вёскі загінулі 6 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). Больш за 20 землякоў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. — 419, у 1970 г. — 444 жыхары. У 1986 г. 144 гаспадаркі, 405 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС, дзейнічалі пач. школа, клуб-б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна ўяўляе сабой 3 узаемаперпендыкулярныя вуліцы, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАРАНОВІЧЫ** — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 6 км на Пд ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 116 км ад Магілёва, на Пд і У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 137 гаспадарак, 298 жыхароў (2007).

Вядомы з 18 ст. У 1789 г. вёска ў Бабруйскім старостве Бабруйскага павета Мінскага ваяв., уласнасць казны, 16 двароў, 123 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. ў складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Варанові-

чы (яна ж Дзямідкавічы) у Гарбацэвіцкай вол., 21 двор, 130 жыхароў. У 1907 г. 172 жыхары. У 1908 г. адкрыта школа, для якой у 1914 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1917 г. 45 двароў, 241 жыхар. У школе ў 1925 г. займаўся 61 вучань. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці. У 1926 г. 56 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 345, у 1970 г. 159 жыхароў. У 1986 г. 81 гаспадарка, 173 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Працуе магазін. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАРАТЫНЬ** — вёска, цэнтр Варатынскага с/с, за 36 км на ПдУ ад Бабруйска, 2,5 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 74 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 209 гаспадарак, 571 жыхар (2007).

Вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 7 двароў, у Бабруйскім старостве. Паводле інвентару 1639 г. 7 жыхароў мужчынскага полу, 13 валок зямлі, з якіх 8 пуставалі. У 1738 г. 10 двароў. У 1765 г. 17 двароў, у 1773 г. — 18, у 1790 г. 29 двароў, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. 30 двароў, 290 жыхароў, цэнтр маёнтка. У 1887 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 105 двароў, 756 жыхароў, меліся млын і крупадзёрка, хлебазапасны магазін і заезны двор, цэнтр Туркаўскай вол. (да 17.7.1924 г.) Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1902 г. школа граматы ператворана ў земскую, для якой у 1904 г. пабудавана сваё памяшканне. У 1907 г. 103 двары, 920 жыхароў, у 1917 г. 152 двары, 1006 жыхароў. У б. маёнтку Бяляцін, што знаходзіўся непадалёку, у 1922 г. была створана с.-г. арцель «Пчолка» (115 га зямлі). У вясковай школе ў 1923 г. займаліся 63, у 1925 г. — 107 вучняў. Працавала хата-чытальня. З 20.8.1924 г. цэнтр Варатынскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага раена Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцях. У 1925 г. меліся 3 млыны, 2 кузні, крупадзёрка. У чэрв. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Варатынь № 1». У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфаш. група (кіраўнік В.Т.Пракопчык). У баях каля вёскі загінулі 11 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле). Сярод пахаваных Герой Сав. Саюза, камандзір батарэі 102-й стралк. дывізіі І.Я.Арол. 38 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. На ўшанаванне памяці 227 землякоў, жыхароў вёсак сельсавета, у цэнтры вёскі ў 1971 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 234 жыхары. У 1967 г. далучаны вёскі Бяляцін і Паляддзе. У 1970 г. 388 жыхароў. У 1986 г. 465 жыхароў, цэнтр калгаса імя Пушкіна. Дзейнічаюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, Дом культуры, урачэбная амбулаторыя, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, б-ка, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Планіроўка квартальная, аснову якой складае прамалінейная, мерыдыянальнай арыентацыі вуліца. Жылая забудова пераважна драўляная, у цэнтр. частцы і на паўн. ускраіне мураваная 1—2-павярховая.

У склад Варатынскага с/с уваходзілі да 1966 г. пасёлкі Малая Кантора, Глухое Ляда, да 1967 г. вёскі Бяляцін і Паляддзе, да 1980 г. пас. Дулева.

**ВЕРБКІ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 15 км на Пн ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 125 км ад Магілёва, пры ўпадзенні р. Ваўчанка ў р. Бярэзіна, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Свіслач—Сычкава і Мінск—Бабруйск. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

За 0,3 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Ваўчанка, захавалася стараж. паселішча, за 1 км на У ад яе, на надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна

— паселішча каменнага веку. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. фальварак у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 3 двары, 49 жыхароў. У 1917 г. хутар, 8 двароў, 46 жыхароў. У 1926 г. вёска, 13 двароў, 66 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Гігант». У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 86, у 1970 г. — 61 жыхар. У 1986 г. 16 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе прамалінейную мерыдыянальную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ВІКТАРАЎКА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 15 км на З ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 125 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск.

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 6 жыхароў. У 1907 г. 2 двары, 5 жыхароў. У 1922 г. пасёлак. У 1926 г. вёска, 24 двары, 138 жыхароў. У вер. 1929 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. Паводле перапісу 1959 г. — 49, у 1970 г. — 24 жыхары. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе саўгаса «Восава». Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВІЛЫ** — пасёлак у Варатынскім с/с, за 35 км на ПдУ ад Бабруйска, 2 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 75 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1924 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 14 двароў, 76 жыхароў. У чэрв. 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 80, у 1970 г. — 66 жыхароў. У 1986 г. 21 гаспадарка, 47 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой мерыдыянальную вуліцу з драўлянымі сял. хатамі.

**ВІНАГРАДАЎКА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 119 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1934 г. арганізаваны калгас «Вінаградаўка». У Вял. Айч. вайну 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 83, у 1970 г. — 84 жыхары. У 1986 г. 21 гаспадарка, 54 жыхары, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой Г-падобную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.



*У.І.Лемяшонак.*

**ВІШНЁЎКА** — вёска, цэнтр Вішнёўскага с/с, за 15 км на Пд ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 125 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Калінкавічы. 165 гаспадарак, 392 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г., 26 двароў, 71 жыхар мужчынскага полу, 27 валок зямлі, меліся млын і рудня. У 1790 г. 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. ў складзе маёнтка Брожа Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 39 двароў, 259 жыхароў, у Брожскай вол. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. Паводле перапісу 1917 г. 50 двароў, 300 жыхароў. У школе ў 1923 г. займаліся 35, у 1925 г. 47 вучняў. У 1926 г. 61 двор, 317 жыхароў. У Вял. Айч. вайну карнікі спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 7 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 38 землякоў не вярнуліся з фронту. На ўшанаванне памяці 239 вяскоўцаў сельсавета ў скверы ў 1976 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых. Паводле перапісу 1959 г. 393 жыха-

ры. З 29.1.1968 г. цэнтр Вішнёўскага с/с Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. У 1970 г. 390 жыхароў. У 1986 г. 169 гаспадарак,415 жыхароў, цэнтр. сядзіба птушкафабрыкі «Бабруйская», майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, базавая школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, сталовая, 2 магазіны, аўтаматычная тэлеф. станцыя, стадыён, спарт. пляцоўкі, ляснііцтва. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Цэнтр забудаваны 1—2-павярховымі шматкватэрнымі і аднакватэрнымі жылымі дамамі і грамадскімі будынкамі. У паўн. частцы пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу.

На тэр. Вішнёўскага с/с існавалі да 1937 г. вёскі Бокія, Кабылічы, Кукаванка, да 1950 г. — в. Даманавічы 2.

**ВОСАВА** — вёска, цэнтр Восаўскага с/с, за 17 км на З ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 127 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Навасёлкі. 191 гаспадарка, 588 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1524 г. сяло ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1597 г. 25 дымоў. У 1602 г. ў складзе маёнтка Глуск Пагарэлы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 53 двары, 326 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменныя фальварак (13 двароў, 78 жыхароў) і хутар (2 двары, 5 жыхароў, вадзяны млын). У 1913 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы 71 двор, 444 жыхары, у засценку 9 двароў, 74 жыхары, на хутары 4 двары, 37 жыхароў, у маёнтку 4 двары, 28 жыхароў. У 1923 г. адкрыты фельчарскі ўчастак. Вясковай школе ў 1923 г. быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 51 вучань, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых). З 20.8.1924 г. цэнтр Восаўскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцях. У 1926 г. адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну дзейнічала антыфаш. падполле (больш за 30 чал., кіраўнік Д.М.Лемяшонак). У памяць аб дзейнасці падпольшчыкаў на будынку сельсавета ў 1976 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У баях каля вёскі загінулі 27 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля будынка сельсавета). З франтоў не вярнуліся 40 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 129, у 1970 г. — 359 жыхароў. У 1986 г. 180 гаспадарак, 480 жыхароў, цэнтр саўгаса «Восава». Працуюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, машынны двор, сярэдняя школа, урачэбная амбулаторыя, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, ветучастак, сталовая, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, грамадская лазня, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва. Прамалінейныя вуліцы шыротнай арыентацыі маюць двухбаковую, пераважна драўляную забудову сядзібнага тыпу. Асн. грамадскія будынкі ў цэнтры вёскі.

У склад Восаўскага с/с уваходзілі да 1967 г. вёскі Аляксандраўка, Заніўе, Старое Сяло, Палоскі, Баранавічы 1, Баранавічы 2, хутар Ляды, да 1977 г. — пас. Рубяжы, да 1980 г. вёскі Канстанцінаўка, Юзафін, пасёлкі Восава, Навасёлкі, Падверб'е (не існуюць).

**ВОСАВА** — пасёлак у Варатынскім с/с, за 34 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 76 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1922 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У Вял. Айч. вайну 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959

г. — 61, у 1970 г. — 54 жыхары. У 1986 г. 13 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудова драўляная, аднабаковая (з усх. боку).

**ВОЎЧАЯ ГАРА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 22 км на У ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 88 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 25 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Калініна. Пазней пасёлак ператвораны ў вёску. У Вял. Айч. вайну 13 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 162, у 1970 г. — 132 жыхары. У 1986 г. 40 гаспадарак, 97 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу шыротнай арыентацыі, забудова двухбаковая, драўляная.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 17 км на Пд ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 137 км ад Магілёва, на р. Бярэзіна (бас. Дняпра), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей цераз паромную пераправу па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 43 гаспадаркі, 73 жыхары (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1837 г. вёска (41 рэвізская душа) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У 1907 г. ў Туркаўскай вол., 60 двароў, 440 жыхароў. У пач. 20 ст. пабудавана царква (помнік драўлянага дойлідства). У 1917 г. 72 двары, 447 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 457, у 1970 г. — 397 жыхароў. У 1986 г. 81 гаспадарка, 192 жыхары, у складзе калгаса імя Фрунзе. Працуюць б-ка, клуб, магазін. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу ўздоўж левага берага р. Бярэзіна. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. У цэнтры грамадскія будынкі. Радзіма бел. мастака К.І.Аляксеева.

**ВЯЛІКАЯ КАНТОРА** — пасёлак у Варатынскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Мікулічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 80 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. жыхарамі в. Аўсімавічы на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 14 двароў, 88 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну 10 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 53, у 1970 г. — 57 жыхароў. У 1986 г. 15 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПнУ на ПдЗ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ БОРТНІКІ** — вёска, цэнтр Бортнікаўскага с/с, за 25 км на У ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 85 км ад Магілёва, на р. Ала (прыток Бярэзіны), на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 379 гаспадарак, 837 жыхароў (2007).

Вядомы з 16 ст. У 1540 г. сяло Бортнікі ў Мінскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1566 г. 32 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле гасп. перапісу 1834 г. 35 двароў, 350 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1863 г. адкрыта школа (у 1894 г. 74 вучні). У 1885 г. 47 двароў, 342 жы-

*Аўтадарога Бабруйск—Рагачоў.*





*Калаўрот-стаяк з в. Вялікія Бортнікі Бабруйскага раёна. Пач. 20 ст.*

хары, цэнтр Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. (да 17.7.1924 г.) Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 93 двары, 858 жыхароў, 2 крамы, 2 ветракі, крупадзёрка, заезны двор, кузня, працаваў 1 фельчар; раз на год праводзіўся кірмаш. Побач быў маёнтак Бортнікі, 1 двор, 48 жыхароў. У 1907 г. 144 двары, 951 жыхар, у 1917 г. ў сяле 167 двароў, 1038 жыхароў, у маёнтку 92 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1918 г. яе жыхары актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе супраць польскіх войскаў І.Р.Доўбар-Мусніцкага. Дзейнічаў Бортнікаўскі вал. рэўком. У 1922 г. адкрыты ўрачэбны ўчастак і хата-чытальня, меўся пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 13.3.1924 г. арганізавана с.-г. т-ва. У 1926 г. 205 двароў, 1050 жыхароў. 3.4.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан № 1», які ў 1939 г. аб'ядноўваў 233 гаспадаркі. Вясной 1931 г. каля вёскі размяшчалася МТС. У Вял. Айч. вайну 124 вяскоўцы загінулі на фронце. На ўшанаванне памяці 351 земляка з вёсак сельсавета ў 1970 г. пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. — 1055, у 1970 г. — 1047 жыхароў. У 1986 г. 309 гаспадарак, 996 жыхароў, цэнтр калгаса «Гігант». Ёсць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сталярна-цяслярскія майстэрні, лесапільня, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, муз. школа, 5 магазінаў, урачэбная амбулаторыя, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, сталовая, аддз. сувязі, комплексны-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая. Планіроўка квартальная, уздоўж аўтадарогі, з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. У 1990-я г. ўзведзены двухпавярховыя блакіраваныя і секцыйныя дамы.

У склад Бортнікаўскага с/с уваходзілі да 1967 г. вёскі Кухенка, Новы Гарадок, пасёлкі Бірча 3, Бірча 4, Дзесяты Акцябр, Культура, Селянін (не існуюць).

**ВЯЛІЧКАВА** (да 1967 г. Старое Вялічкава і Новае Вялічкава) — вёска ў Хімоўскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Бабруйска, 11 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 100 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Магілёў. 25 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Вядома з 19 ст. У 1857 г. вёска Вялічкі ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол., 12 двароў, 73 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 9 жыхароў. У 1907 г. 14 двароў, 66 жыхароў, у 1917 г. 17 двароў, 122 жыхары. З пач. 1920-х г. вядома пад назвай Старое Вялічкава. У 1923 г. перасяленцы заснавалі пас. Новае Вялічкава. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Э.Тэльмана. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 15 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-зах. ускраіне), 9 землякоў — на фронце. У 1967 г. вёска і пасёлак зліліся. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 82 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Меліярацыйны канал падзяляе вёску на паўн. (плаўна выгнутая вуліца) і паўд. (прамалінейная вуліца) часткі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАНЧАРОЎКА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Бабруйска, 10 км

ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 100 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Магілёў. 40 гаспадарак, 64 жыхары (2007).

Заснавана перасяленцамі з суседніх вёсак у 1925 г. як пасёлак. У 1926 г. 5 двароў, 23 жыхары. У 1934 г. арганізаваны калгас «Сталінская перамога». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 36 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), на фронце — 16 землякоў. У 1967 г. далучана в. Новая Вёска. Паводле перапісу 1959 г. — 106, у 1970 г. — 205 жыхароў. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 135 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдЗ на ПнУ прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ГАРБАЦЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр Гарбацэвіцкага с/с, за 15 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 125 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк, вакол лес. 210 гаспадарак, 590 жыхароў (2007).

Вядомы з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. сяло (9 двароў) і засценак. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г., 9 двароў, 28 жыхароў мужчынскага полу, 17 валок зямлі, з якіх 10 пуставалі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У час нашэсця Напалеона на Расію праз вёску ў пачатку ліп. 1812 г. адступала 2-я рус. армія на чале з ген. Баграціёнам. Некаторы час вёскай валодалі езуіты, потым Грыневічы. У 1860 г. ў складзе аднайменнага маёнтка Бабруйскага павета Мінскай губ., 32 двары, 210 жыхароў, мелася вапнавая вытв-сць. З 1860-х г. да 17.7.1924 г. цэнтр Гарбацэвіцкай вол. У 1869 г. адкрыта школа (у 1891 г. 53 вучні), для якой у 1908 г. ўзведзены асобны будынак. У 1879 г. пабудавана царква. Паводле перапісу 1897 г. пагост і сядзібы землеўладальнікаў (16 двароў, 53 жыхары), адасоблена размяшчалася вал. праўленне (3 двары, 23 жыхары, царква, школа, лячэбніца, штогод 2 чэрв. праводзіўся таржок), побач існавалі маёнтак (4 двары, 30 жыхароў) і хутар Гарбацэвічы (ён жа Елагін, 1 двор, 8 жыхароў). У 1917 г. ў сяле 47 двароў, 242 жыхары, у маёнтку 5 двароў, 48 жыхароў. У час грамадз. вайны і замежнай інтэрвенцыі дзейнічаў вал. рэўком. 19.6.1919 г. вёску наведаў М.І. Калінін з групай прадстаўнікоў агітпоезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» і правёў двухгадзінную гутарку з сялянамі, тлумачыў палітыку РКП(б) па сял. пытанні, цікавіўся жыццём і бытам вяскоўцаў, іх інтарэсамі і патрэбамі. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. 20.9.1920 г. створана с.-г. каап. т-ва «Муравей», 27.12.1922 г. — с.-г. т-ва «Земляроб». У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. У 1923 г. ў школе займаліся145 вучняў, у вёсцы адкрыты ўрачэбны ўчастак. З 20.8.1924 г. цэнтр Гарбацэвіцкага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей. 1.1.1932 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 кузні, паравы млын. У Вял. Айч. вайну дзейнічала антыфаш. падполле. Партызаны разграмілі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 32 землякі. 14 жыхароў расстраляны карнікамі. У баях каля вёскі загінулі 14 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля будынку выканкома сельсавета; тут жа пахаваны 49 сав. ваеннапалонных, расстраляных гітлераўцамі ў 1942 г.). Паводле перапісу 1959 г. — 255, у 1970 г. — 383 жыхары. У 1986 г. 126 гаспдарак, 398 жыхароў, цэнтр саўгаса «Бабруйскі». Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, цэх Бабруйскай футравай ф-кі, пілarама, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, ветэрынарны пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 магазіны, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна вёска арганізавана ўздоўж аўтадарогі, складаецца з 2 адасобленых частак. Заходняя (2 вуліцы) мае

рэгулярную планіроўку і мураваную забудову, тут размяшчаецца грамадскі цэнтр. Усх. частка складаецца з адной крывалінейнай вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

У склад Гарбацэвіцкага с/с уваходзіў да 1980 г. пас. Багушоўка.

**ГАРОДЧЫНА** – вёска ў Гарохаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 135 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск.

За 0,8 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Канцы, захаваўся курганны могільнік (5 насыпаў), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 17 двароў, 100 жыхароў. Дзейнічала школа граматы, якая ў канцы 19 ст. была закрыта. У 1917 г. 24 двары, 134 жыхары. У 1926 г. 27 двароў, 141 жыхар. У ліп. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Звязда». Дзейнічала кузня. Паводле перапісу 1959 г. – 99, у 1970 г. – 35 жыхароў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРОХАЎКА** – вёска, цэнтр Гарохаўскага с/с, за 21 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 131 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 150 гаспадарак, 395 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска (12 двароў, 150 жыхароў) у складзе маёнтка Дуброва, у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1917 г. ў Гарбацэвіцкай вол., 19 двароў. У 1926 г. 24 двары, 142 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 10 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі), на франтах і ў партыз. барацьбе – 26 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. – 241, у 1970 г. – 443 жыхары. У 1986 г. 156 гаспадарак, 415 жыхароў, цэнтр саўгаса «Гарохаўскі». Ёсць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, сталовая, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, б-ка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 3 магазіны, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, стадыён, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка квартальная. Гал. вуліца арыентавана перпендыкулярна да аўтадарогі. Грамадска-гандл. цэнтр пры ўездзе ў вёску з боку дарогі. Сучасныя будынкі па вуліцы Школьнай у асн. 2—3-павярховыя мураваныя. Астатняя забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Гарохаўскага с/с уваходзілі да 1967 г. пасёлкі Багушоўка, Чырвоная Дубрава, Чырвоная Ніва, Заручэўе, Падчэрня, в. Сулева.

**ГАРОХАЎКА** – вёска ў Хімоўскім с/с, за 13 км на У ад Бабруйска, 13 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 97 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Магілёў. За 1,2 км на ПнУ ад вёскі пачынаецца р. Рылейка (правы прыток Алы, басейн Бярэзіны). 14 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. – 123, у 1970 г. – 109 жыхароў. У 1986 г. 29 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу, якая расчлянёна прасёлачнай дарогай.

**ГЛЕБАВА РУДНЯ** – вёска ў Вішнёўскім с/с, за 19 км на Пд ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 119 км ад Магілёва, на р. Брожа (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Бабруйск—Мазыр. 27 гаспадарак, 46 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1789 г. вёска, 7 двароў, 41 жыхар, меліся млын, жал. вытв-сць; уласнасць казны, у Бабруйскім старостве

Бабруйскага павета Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. 9 двароў, 44 жыхары, у складзе маёнтка Брожа Бабруйскага пав. Мінскай губ., уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Брожскай вол., 19 двароў, 142 жыхары. У 1907 г. 28 двароў, 177 жыхароў. У 1917 г. 30 двароў, 183 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа (у 1923 г. 20 вучняў). У 1926 г. 48 двароў, 187 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «14 гадоў Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 149, у 1970 г. — 126 жыхароў. У 1986 г. 45 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе птушкафабрыкі «Бабруйская». Дзейнічае лясніцтва. Планіроўка Т-падобная з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу, невялікая частка якой размешчана адасоблена на правым беразе ракі. За 1 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца Глебава-руднянскае радовішча пяску (перспектыўныя запасы 43,2 млн. м³).

**ГЛУША** — вёска ў Восаўскім с/с, за 25 км на З ад Бабруйска, 14 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 135 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 34 гаспадаркі, 51 жыхар (2007).

Вядома з 16 ст. як вёска (8 двароў) у Глускай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, у складзе прыватнафеад. валодання Глуск. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка, дзейнічалі мураваны кляштар бернардзінцаў, медны з-д графа І.Едзіцкага. Праводзіліся кірмашы, на якіх сяляне з навакольных вёсак гандлявалі рознымі харч. прыпасамі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць, 68 жыхароў мужчынскага полу. У 1844 г. 20 двароў, 141 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадоцкай вол., 46 двароў, 284 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменныя сядзіба (7 двароў, 131 жыхар), 3 хутары (7 двароў, 36 жыхароў), застаўны дом (1 двор, 8 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы 101 двор, 474



Майстар-керамiст з в. Глуша Бабруйскага раёна А.Арлоў.

жыхары, пры карчме 6 двароў, 32 жыхары, у маёнтку 1 двор, 83 жыхары, у засценку 1 двор, 9 жыхароў. 1.11.1918 г. адкрыта школа, для якой вяскоўцы ў 1923 г. ўзвялі асобны будынак (у 1925 г. 57 вучняў). У 1923 г. адкрыты фельчарскі пункт. У 1926 г. 73 двары, 340 жыхароў. У гэтым жа годзе адбылося выступленне канцэртнай трупы Галубка. 15.5.1928 г. арганізаваны калгас «Глуша». З пач. 1930-х г. дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну 20 землякоў загінулі на фронце. У пасляваенны час у вёсцы працаваў дзіцячы дом. Паводле перапісу 1959 г. — 276, у 1970 г. — 230 жыхароў. У 1986 г. 68 гаспадарак, 140 жыхароў, у складзе саўгаса «Дойнічава». Ёсць клуб, магазін. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



А.Адамовіч.

**ГЛУША** — рабочы пасёлак, цэнтр Глушанскага пас. Савета, за 22 км на ПдЗ ад Бабруйска, 17 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 32 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. За 2 км на Пд вышэйшы пункт раёна (183,5 м). 1,4 тыс. жыхароў (2007).

Узнік сярод лясных масіваў у сувязі з будаўніцтвам у 1887 г. шклозавода. У 1907 г. ў Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 354 жыхары. Дзейнічала лесапільня, смалярны і шкляны з-ды, карчма. У 1913 г. адкрыта паштова-тэлегр. аддзяленне. Рабочыя прымалі ўдзел у рэв. руху. У сак. 1917 г. створаны рабочы савет. У канцы мая 1917 г. шклозавод спынены, 150 рабочых атрымалі разлік. У 1917 г. 96 двароў, 581 жыхар. У 1921 г.



*Будынак былой паштовай станцыі (19 ст.) у в. Глуша.*

адкрыта школа, у 1924 г. — хата-чытальня. З 1931 г. да 11.4.1960 г. цэнтр Рымавецкага с/с Бабруйскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцях. З 15.7.1935 г. рабочы пасёлак (з 15.1.1963 г. абласнога, з 27.1.1965 г. раённага падпарадкавання). У Вял. Айч. вайну са студз. 1942 г. да сак. 1943 г. дзейнічала падп. група (больш за 40 чал., кіраўнік І.Р.Гарнастай). Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, здабывалі боепрыпасы, зброю, медыкаменты, паперу, харчы і перадавалі партызанам. Яны двойчы выводзілі са строю абсталяванне гуты. Многія падпольшчыкі ў 1942—43 гг. пайшлі ў партызаны. У баях каля пасёлка загінулі 43 сав. воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). 112 пасялкоўцаў не вярнуліся з франту. У 1976 г. ў цэнтры пасёлка, на вуліцы Кастрычніцкай, пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. Некаторы час пасля вайны дырэктарам шклоз-да працаваў адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вял. Айч. вайну, ганаровы грамадзянін г. Ліда С.П.Васільеў. Яго імем названа адна з вуліц. У 1948—49 гг. дзейнічаў торфазавод «Звязда». Паводле перапісу 1959 г. 1898 жыхароў. Планіроўка квартальная. Гал. вуліцы Кастрычніцкая (адрэзак аўтадарогі Бабруйск—Слуцк) і Чангарская (выезд у в. Рымаўцы). Грамадска-гандл. цэнтр вакол невялікай плошчы. У цэнтр. частцы пераважае мураваная забудова, на ўскраінах — драўляная, сядзібнага тыпу. На Пд размешчаны шклозавод «Камінтэрн». Працуюць лесацэх Бабруйскага камбіната быт абслугоўвання насельніцтва і яго філіял надомнай працы, кандытарскі цэх райспажыўсаюза, хлебапякарня, лясніцтва, бальніца, аптэка, сярэдняя школа, яслі-сад, муз. школа, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, б-ка, Дом культуры, МТС, стадыён, спарт. пляцоўкі, Дом быту.

**ГРАБАВА** — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 7 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 117 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 37 гаспадарак, 84 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1760 г. вёска (32 дымы, 85 рэвізскіх душ) у Бабруйскім павеце Мінскага ваяв., уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 23 двары, 147 жыхароў. У 1907 г. 25 двароў, 215 жыхароў, у 1917 г. 41 двор, 259 жыхароў. У лютым 1931 г. арганізаваны калгас «13 гадоў Чырвонай Арміі», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 10 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 182, у 1970 г. — 159 жыхароў. У 1986 г. 47 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Працуе магазін. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, якая перакрыжоўваецца завулкамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. На Пд сажалка. На паўн. ускраіне таполевая алея былога ўезду ў вёску з боку Бабруйска.

**ДАМАНАВА** (да 1950 г. Даманава 1) — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 12 км на Пд ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 122 км ад Магілёва. На У р. Бярэзіна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 31 гаспадарка, 40 жыхароў (2007).

Вядома з 1798 г. як вёска Даманаўцы ў Бабруйскім старостве Бабруйскага павета Мінскай губ., 3 двары, 20 жыхароў, уласнасць казны, пасесія. У 1838 г. вёскі Даманава (32 жыхары) і Даманава 1 (11 зямельных участкаў) у складзе казённага маёнтка Брожа. У 1847 г. 6 двароў, 79 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў

Брожскай вол., в. Даманава 1 (23 двары, 160 жыхароў), калонія Даманава 2 (25 двароў, 150 жыхароў), казённая лясная старожка (1 двор, 7 жыхароў) і хутар (2 двары, 21 жыхар). У 1907 г. ў Даманава 1 — 34 двары, 230 жыхароў, у Даманава 2 — 31 двор, 190 жыхароў, на хутары — 5 двароў, 28 жыхароў, у казённай сядзібе 1 двор, 7 жыхароў. У 1917 г. ў Даманава 1 54 двары, 282 жыхары, у Даманава 2 — 40 двароў, 229 жыхароў, на хутары 5 двароў, 41 жыхар, у казённай сядзібе 1 двор, 8 жыхароў. 17.12.1924 г. створана рыбалоўна-прам. арцель. У 1926 г. 58 двароў, 295 жыхароў. Дзейнічаў гурток, а ў 1930-я г. школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Даманава». У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1950 г. далучана в. Даманава 2. Паводле перапісу 1959 г. — 300, у 1970 г. — 208 жыхароў. У 1986 г. 55 гаспадарак, 120 жыхароў, у складзе птушкафабрыкі «Бабруйская». Працуюць лясніцтва, лесапільня, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную мерыдыянальную вуліцу, забудаваную з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАМАНАВА** (да 1950 г. Даманава 2) — пасёлак у Вішнёўскім с/с, за 13 км на Пд ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 123 км ад Магілёва. на р. Бярэзіна (прыток Дняпра). Побач аўтадарога Бабруйск—Мазыр. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1838 г. мелія 3 зямельныя ўчасткі, у складзе казённага маёнтка Брожа. У 1847 г. калонія (6 двароў, 79 жыхароў), у Брожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 10 двароў. Пасялкоўцы ў 1930 г. аб'ядналіся ў калгас імя Энгельса. У Вял. Айч. вайну 5 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары. У 1986 г. 55 гаспадарак, 119 жыхароў, клуб, б-ка, магазін. У складзе птушкафабрыкі «Бабруйская». Планіровачна ўяўляе мерыдыянальную, уздоўж берага ракі вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ДАНІЛАЎ МОСТ** — вёска ў Варатынскім с/с, за 38 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 148 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 12 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Засн. ў 1924 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях як пасёлак. У 1926 г. 12 двароў, 68 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны мост». У Вял. Айч. вайну 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 127, у 1970 г. — 109 жыхароў. У 1986 г. 27 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ДАЧНАЕ** (да 30.7.1964 г. Карчма) — пасёлак у Глушанскім пас. Савеце, за 27 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 137 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

Вядома з пач. 1920-х г. У 1926 г. хутар, 3 двары, 11 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 60, у 1970 г.— 38 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіроўка Т-падобная, у 2 кароткія вуліцы, адна з якіх — адрэзак аўтадарогі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДВОР ГАРБАЦЭВІЧЫ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 121 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на месцы колішняга маёнтка Гарбацэвічы. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 3 землякі загінулі на фронце. Паводле перапі-

су 1959 г. — 54, у 1970 г. — 47 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДВОР ГЛУША** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Бабруйска, 19 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 135 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. — 53, у 1970 г. 30 жыхароў. У 1986 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую плаўна выгнутую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі (перпендыкулярна да дарогі), забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 133 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. ўрочышча ў Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 11 жыхароў. У 1921 г. 5 двароў, 19 жыхароў. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 77 жыхароў, ператвораны затым у вёску. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1934 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучаны хутар Заручэўе. Паводле перапісу 1959 г. — 96, у 1970 г. — 90 жыхароў. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу шыротнай арыентацыі з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ДЗЯЎЧЫН** — пасёлак у Гарохаўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 131 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк.

Вядомы з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча ў Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 23 жыхары. У 1926 г. 8 двароў, 47 жыхароў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Паводле перапісу 1959 г. — 62, у 1970 г. — 30 жыхароў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой шыротнай арыентацыі вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ДОЙНІЧАВА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 24 км на З ад Бабруйска, 134 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 141 гаспадарка, 338 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. фальварак у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 53 жыхары. У 1901 г. заснавана лесапільня, у 1905 г. — спіртзавод. У 1917 г. ў фальварку 137 жыхароў, на заводзе 14 двароў, 77 жыхароў. У 1921 г. на базе фальварка створаны саўгас «Камуна» (пазней «Дойнічава»), які ў 1926 г. меў 700 га зямлі; дзейнічаў паравы млын. У 1921 г. адкрыта школа (у 1925 г. 22 вучні, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых). З 1922 г. працавала хата-чытальня, пазней — клуб. З 1928 г. дзейнічала электраўстаноўка. У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі, саўгас атрымаў радыёўстаноўку і тэлеф. сувязь. Паводле перапісу 1959 г. — 112, у 1970 г. — 369 жыхароў. У 1986 г. 132 гаспадаркі, 317 жыхароў, цэнтр саўгаса «Дойнічава». Ёсць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, спіртзавод (30 рабочых), клуб-б-ка, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, ветлячэбніца, аддз. сувязі, радыёвузел, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка квартальная, 5 вуліц з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На У раён сучаснай мураванай жыллёвай забудовы.

**ДОЎГАЯ** — пасёлак да 1991 г. ў Бортнікаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Баб-

руйска, 5 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 125 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Жлобін.

Засн. ў 1925 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. Паводле перапісу 1959 г. — 41, у 1970 г. — 47 жыхароў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна ўяўляў кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ і забудаваную драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОЎГІ КЛІН** — вёска ў Варатынскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 80 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 36 гаспадарак, 111 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну 19 жыхароў загінулі на фронце. У 1960 г. да вёскі далучана чыг. ст. Амельня і ў 1967 г. — в. Малая Кантора. Паводле перапісу 1959 г. — 84, у 1970 г. — 154 жыхары. У 1986 г. 47 гаспадарак, 118 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Ёсць клуб, магазін. Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. У цэнтры — аднапавярховыя мураваныя жылыя дамы. У 1991 г. памёр апошні жыхар пасёлка.

**ДУБАЎКА** — вёска ў Цялушскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Бабруйска, 1 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 100 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Бабруйск—Жлобін. 68 гаспадарак, 116 жыхароў (2007).

Засн. ў 1921 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 15 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 330, у 1970 г. — 350 жыхароў. У 1986 г. 86 гаспадарак, 254 жыхары, у складзе калгаса імя Мічурына. Меліярацыйным каналам вёска падзелена на паўн. і паўд. часткі. Планіроўка квартальная, забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 4 км на Пд ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 114 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Бабруйск—Глуск. 25 гаспадарак, 54 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 89 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Планіроўка лінейная, уздоўж аўтадарогі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУМАНОЎШЧЫНА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 9 км на Пн ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 119 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Магілёў. 44 гаспадаркі, 79 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1844 г. вёска Думаншчына ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць, 8 двароў, 49 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Качэрыцкай вол., 21 двор, 157 жыхароў. Побач існаваў аднайменны фальварак, 4 двары, 14 жыхароў. У 1917 г. 33 двары, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфаш. група. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 278, у 1970 г. — 263 жыхары. У 1986 г. 89 гаспадарак, 163 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Ёсць магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЕМЯЛЬЯНАЎ МОСТ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 122 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 42 гаспадаркі, 83 жыхары (2007).

Вядомы з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 33 двары, 194 жыхары. У 1917 г. 50 двароў, 266 жыхароў. У 1926 г. 57 двароў, 271 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу

1959 г. — 197, у 1970 г. — 157 жыхароў. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 99 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Меліярацыйным каналам вёска падзелена на паўн.-ўсходнюю (Т-падобная планіроўка) і паўд.-заходнюю (прамалінейная вуліца) часткі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖАЎРАНКІ** — пасёлак у Бортнікаўскім с/с, за 26 км на У ад Бабруйска, 11 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 84 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 9 двароў, 48 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 27, у 1970 г. — 18 жыхароў. У 1986 г. 16 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, паралельная паўн. боку аўтадарогі.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Цялушскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Бабруйска, 89 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, на аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 55 гаспадарак, 120 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца пад 1727 г. як вёска ў складзе маёнтка Глуск, памешчыцкая ўласнасць, 31 жыхар мужчынскага полу. У 1738 г. 18 двароў, 152 жыхары, у 1756 г. вёска ў Бабруйскім павеце, 25 двароў, мелася царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. 76 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Д.Радзівіла. У 1838 г. 31 двор, 178 жыхароў. З 1890 г. працавала вінакурня. У 1967 г. далучаны пасёлкі Бярацін, Рэпішча, Чырвоная Горка. У 1986 г. ў вёсцы 93 гаспадаркі, 246 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу, трасіраваную перпендыкулярна да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАБУДЗЬКІ** — вёска ў Восаўскім с/с, за 24 км на З ад Бабруйска, 12 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 134 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць, 56 рэвізскіх душ. У 1844 г. 16 двароў, 116 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадоцкай вол., 33 двары, 261 жыхар. Побач існавала аднайменная сядзіба (3 двары, 22 жыхары). У 1907 г. ў вёсцы 44 двары, 379 жыхароў, у фальварку 29 жыхароў. 14.10.1907 г. адкрыта школа, для яе ў тым жа годзе ўзведзены асобны будынак. У 1917 г. ў вёсцы 69 двароў, 374 жыхары, у фальварку 29 жыхароў. У вясковай школе ў 1925 г. займаліся 45 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». У Вял. Айч. вайну 13 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 223, у 1970 г. — 179 жыхароў. У 1986 г. 57 гаспадарак, 107 жыхароў, у складзе саўгаса «Дойнічава». Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАГЛЫБОКАЕ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 14 км на З ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 10 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 56 жыхароў. У 1907 г. вёска, 10 двароў, 105 жыхароў. У 1917 г. 28 двароў, 142 жыхары. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Заглыбокае». У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 99, у 1970 г. — 89 жыхароў. У 1986 г. 16 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіроўка Г-падобная з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 6 км на Пд ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 116 км ад Магілёва. Побач аўтада-

рога Бабруйск—Глуск. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. — 82, у 1970 г. — 81 жыхар. У 1986 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Планіровачна ўяўляе сабой шыротна арыентаваную кароткую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЗАРА** — пасёлак да 1992 г. ў Кавалёўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 134 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Гомель.

Засн. ў 1919 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 17 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 47 жыхароў. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе калгаса імя А.Неўскага. Планіровачна ўяўляў сабой кароткую вуліцу з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. У 1992 г. далучаны да в. Кавалі.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 16 км на З ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 126 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 10 двароў, 78 жыхароў. У 1926 г. 15 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 28.6.1944 г. каля вёскі група сав. салдат на чале са старшым лейтэнантам М.І.Кліменка знішчыла 400 і ўзяла ў палон 80 гітлераўцаў. Кліменка ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. Паводле перапісу 1959 г. — 59, у 1970 г. — 45 жыхароў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Восава». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна.

**ЗВЯЗДА** — вёска ў Цялушскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Бабруйска, 1 км ад чыг. ст. Плёсы на лініі Бабруйск—Жлобін, 90 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 29 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. 70 жыхароў. У 1967 г. далучаны пасёлкі Чырвоны Востраў і Чырвоны Араты. У 1970 г. 178 жыхароў. У 1986 г. 45 гаспадарак, 118 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную шыротна, уздоўж шашы, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІВАНАЎКА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Бабруйска, 2 км ад чыг. ст. Плёсы на лініі Бабруйск—Жлобін, 94 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 147 гаспадарак, 324 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. фальварак у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 27 жыхароў. У 1917 г. маёнтак, 37 жыхароў. З 1922 г. пасёлак. 4.3.1924 г. ў былым фальварку створана с.-г. арцель. У 1926 г. 13 двароў, 65 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны, у цэнтры вёскі ў 1976 г. пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. 204 жыхары. У 1967 г. далучаны вёскі Дзесяты Кастрычнік, Культура, пас. Селянін. У 1970 г. 509 жыхароў. У 1986 г. 167 гаспадарак, 384 жыхары, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, б-ка, 3 магазіны, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлефонная станцыя. Галоўная прамалінейная вуліца арыентавана з Пн на Пд і з абодвух бакоў забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІЗЮМАВА** (да 30.7.1964 г. Дурынічы) — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 14 км

на ПнЗ ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва, на У ад вёскі р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1834 г. вядома як сяло Дурынічы ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць, 40 рэвізскіх душ. У 1847 г. 11 двароў. У 1860 г. цэнтр аднайменнага маёнтка. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Свіслацкай вол., 23 двары, 163 жыхары. Побач існавалі аднайменныя фальварак (8 двароў, 72 жыхары, вадзяны млын) і пасёлак (2 двары, 9 жыхароў, паравы млын). У 1907 г. ў вёсцы 23 двары, 118 жыхароў, у фальварку 68 жыхароў, на хутары 5 двароў, 61 жыхар. У 1917 г. ў вёсцы 31 двор, 176 жыхароў, у фальварку 172 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа, якой у 1924 г. перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 60 вучняў). У 1926 г. 40 двароў, 203 жыхары. У 1928 г. пачала дзейнічаць электраўстаноўка, вёска была электрыфікавана. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну 14 землякоў не вярнулія з фронту. Вёска ў 1964 г. атрымала імя Героя Сав. Саюза М.А. Ізюмава, які загінуў тут у баі 28.6.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. — 173, у 1970 г. — 134 жыхары. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 68 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна і двухбакова забудаваную сял. сядзібамі. Паўн. частка забудовы адасоблена.



*М.Р.Пінчук.*

У былой в. Будзёнаўка, якая далучылася да в. Ізюмава, нарадзіўся Герой Сав. Саюза М.Р.Пінчук, які ў Вял. Айч. вайну зрабіў 307 баявых вылетаў, асабіста збіў 22 варожыя самалёты.

**КАВАЛІ** — вёска, цэнтр Кавалёўскага с/с, за 22 км на ПдУ ад Бабруйска, 88 км ад Магілёва, на р. Беліца (прыток р. Ала, басейн Бярэзіны), чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін. Побач аўтадарога Бабруйск—Жлобін. 307 гаспадарак, 786 жыхароў (2007).

У 1560 г. сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. сяло Кавалёва (7 дымоў), у Бабруйскім старостве. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г., 8 валок зямлі, з якіх 5 пуставалі. У 1786 г. 18 дымоў, у складзе маёнтка Міхалёва, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. 556 жыхароў, царква. У чэрв. 1886 г. сяляне выраўшылі пасвіць сваю жывёлу на лугах памешчыка, што прывяло да сутыкненняў з памешчыцкай аховай. З 1891 г. дзейнічалі млын і суканавальня (у 1895 г. 3 рабочыя). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 125 двароў, 867 жыхароў, мелія царква, крама, заезны двор, штогод 30 жн. адбываўся таржок; на чыг. станцыі — 5 двароў, 65 жыхароў. У 1904 г. адкрыта школа. У 1907 г. 898 жыхароў, у 1917 г. 173 двары, 977 жыхароў. У вясковай школе ў 1925 г. займаліся 128 вучняў, працаваў драматычны гурток. Быў адкрыты пункт, а ў 1930-я г. школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. цэнтр Кавалёўскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-на Бабруйскай (да 20.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцях. У 1925 г. дзейнічалі 2 ветраныя і паравы млыны, крупадзёрка. У канцы 1920-х г. пачалі працаваць тарфяная арцель «Прагрэс», затым кузня. У жн. 1931 г. арганізаваны калгас «Зара рэвалюцыі», у хуткім часе ўзнік другі калгас — «Пралетарый». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 24 сав. воіны і партызаны (пахаваны ў 2 брацкіх магілах на могілках і ў цэнтры вёскі). 101 зямляк не вярнуўся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 579 жыхароў. У 1967 г. да вёскі далучана чыг. ст. Цялуша. У 1970 г. 912 жыхароў. У 1986 г. ў вёсцы 299 гаспадарак, 639 жыхароў, цэнтр калгаса імя А.Неўскага. Дзейнічаюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, школа, дзіця-

чы сад, Дом культуры, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, участковая бальніца, аптэка, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў ін-це «БелНДІгіпрасельбуд» у 1982 г. Пераважная частка жылой забудовы драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж узаемаперпендыкулярных вуліц. Грамадскі цэнтр у паўд.-ўсх. частцы вёскі. Радзіма дзярж. дзеяча, удзельніка грамадз. вайны і барацьбы за сав. ўладу на Беларусі М.А.Ляўкова, Героя Сац. Працы М.П.Кавалёва, вучоных М.К.Балыкіна, В.М.Борац, В.Ф.Цікавага.

У склад Кавалёўскага с/с уваходзілі да 1967 г. вёска Нівішча, хутар і пас. Шчыгельскі, чыг. ст. Цялуша, да 1970 г. чыг. раз'езд Амельня, да 1971 г. пас. Дубкі, да 1980 г. пас. Гарадок-Возера.

**КАЗАКОВА** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 13 км на Пд ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 123 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Мазыр. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1924 г. дарожная старожка, 1 двор, 4 жыхары. У 1926 г. 2 двары, 12 жыхароў. У наступныя гады вёска хутка расла. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў кастр. 1943 г. спалілі 38 двароў і загубілі 10 жыхароў. Дзейнічала падп. антыфаш. група (кіраўнік І.А.Калпакоў). 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 173, у 1970 г. — 139 жыхароў. У 1986 г. 41 гаспадарка, 72 жыхары, у складзе калгаса імя Фрунзе. Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна, пад вуглом да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 11 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 121 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Бабруйск—Слуцк. 51 гаспадарка, 73 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 10 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі). Каля вёскі пахаваны таксама 41 сав. ваеннапалонны, расстраляныя ў 1942 г. гітлераўцамі. 15 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 380, у 1970 г. — 338 жыхароў. У 1986 г. 93 гаспадаркі, 205 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Працуе магазін. Мае 2 вуліцы прамалінейнай і Т-падобнай планіроўкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНІНА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 116 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 61 гаспадарка, 133 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1933 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 52 сав. воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 29 землякоў не вярнуліся з фронту. У 1986 г. 68 гаспадарак, 209 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую і арыентаваную мерыдыянальна (пад вуглом да аўтадарогі) вуліцу, якая на паўд. ускраіне разгаліноўваецца і стварае квартальную зону забудовы драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛЬЦО** — пасёлак у Бортнікаўскім с/с, за 19 км на У ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 91 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. — 52, у 1970 г. — 50 жыхароў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна складаўся з кароткай мерыдыянальнай вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай.

**КАМЕНКА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бабруйска, 18 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 134 км ад Магілёва, на Пд мяжуе

з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі захаваўся стараж. курган, які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Гарадоцкай вол., 17 двароў, 124 жыхары. Існавалі ўрочышча (1 двор, 10 жыхароў) і смалярны з-д. У 1907 г. 20 двароў, 217 жыхароў, у 1917 г. 28 двароў. У 1919 г. адкрыта школа (у 1925 г. 41 вучань). У час польскай акупацыі вяскоўцы стварылі партыз. атрад. 5.3.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Каменка». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 35 двароў, загубілі 2 жыхароў. 6 землякоў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. — 101, у 1970 г. — 66 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ паралельна да аўтадарогі, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі. Радзіма ген.-лейтэнанта, удзельніка грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў М.І.Глінскага.

**КАМЕНКА** (да 1967 г. вёскі Вялікая Каменка і Малая Каменка) — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 8 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Бабруйск, 118 км ад Магілёва, побач з аўтадарогай Бабруйск—Слуцк. Каля вёскі пачынаецца р. Бабруйка (правы прыток Бярэзіны). 247 гаспадарак, 610 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Вялікая Каменка (яна ж Адэль, 28 двароў, 186 жыхароў) і Малая Каменка (29 двароў, 199 жыхароў) у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. ў Вялікай Каменцы 33 двары, 313 жыхароў, у Малой Каменцы 30 двароў. У 1917 г. ў Вялікай Каменцы 57 двароў, 380 жыхароў; у Малой Каменцы 59 двароў, 346 жыхароў, школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1923 г. 58 вучняў). З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Каменскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-на. У 1927 г. для школы ўзведзены ўласны будынак. Мелися кузня, паштова-тэлегр. кантора. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Каменка». У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 30 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 591 жыхар. У 1967 г. Вялікая Каменка і Малая Каменка аб'ядналіся ў адну вёску Каменка. У 1970 г. 763 жыхары. У 1986 г. 262 гаспадаркі, 684 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, з-д жалезабетонных вырабаў, сталярна-цяслярскія майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад-яслі, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, вучэбна-вытв. камбінат, 2 магазіны. Планіроўка рэгулярна-прамяністая. Гал. прамалінейная вуліца звязвае цэнтр вёскі з аўтадарогай і арыентавана з ПдЗ на ПнУ. У цэнтры грамадскія будынкі. Аснову жылой забудовы складаюць драўляныя дамы сядзібнага тыпу. Узведзены таксама шэраг 1—2-павярховых мураваных жылых дамоў.

**КАНЧАНЫ** — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 7 км на Пд ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 117 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 40 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. вёска (5 дымоў, 34 жыхары) у Бабруйскім старостве Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць казны, пасесія. У 1834 г. 34 жыхары. У 1847 г. 8 двароў, 58 жыхароў, у складзе маёнтка Дварэц, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска Канчаны (яна ж Дзямідкавічы) у Гарбацэвіцкай вол., 21 двор, 146 жыхароў. У 1907 г. 23 двары, 215 жыхароў. У 1917 г. 62 двары, 292 жыхары. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 340, у 1970 г. — 153 жыхары. У 1986 г. 69 гаспадарак, 147 жыхароў, у складзе

калгаса імя XXII з'езда КПСС. Планіровачна ўяўляе сабой 4 прамалінейныя вуліцы, 3 з іх разыходзяцца з адной кропкі на ПнЗ, Пд і ПнУ, ад сярэдзіны апошняй на ПнЗ адыходзіць яшчэ адна, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРАБОЎШЧЫНА** — вёска ў Глушанскім пас. Савеце, за 25 км на З ад Бабруйска, 18 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 135 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Слуцк—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1923 г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 19 двароў, 83 жыхары, пазней ператвораны ў вёску. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Леніна. У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 99, у 1970 г. — 48 жыхароў. У 1986 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой выгнутую вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна, перпендыкулярна да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КІНАЎКА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 20 км на З ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 130 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Навасёлкі—Бабруйск.

Паводле перапісу 1897 г. вёска Кінаўка (яна ж Уюнішча) у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 17 двароў, 98 жыхароў. У 1907 г. 16 двароў, 95 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 77, у 1970 г. — 44 жыхары. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Дойнічава». Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КІСЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бабруйска, 19 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Мінск—Бабруйск, 134 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 80, у 1970 г. — 39 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 50 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з У на З, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КЛІНЫ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бабруйска, 20 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 134 км ад Магілёва. Непадалёку аўтадарога Бабруйск—Слуцк.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. — 24, у 1970 г. — 14 жыхароў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу з аднабаковай (паўн.-ўсх.) драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**КОЙМІНА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 14 км на У ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 96 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 18 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 12 двароў, 54 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1932 г. пачала працаваць тарфяная арцель «Койміна». Паводле перапісу 1959 г. — 164, у 1970 г. — 104 жыхары. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 43 жыхары, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіроўка лінейная з двухбаковай забудовай сядзібнага тыпу. У паўн. частцы каля перакрыжавання вуліц — сажалка.

**КОЎРЫН** — вёска ў Варатынскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 74 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 60 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У

1887 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 13 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Тураўскай вол., 72 двары, 514 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач існаваў аднайменны фальварак, 2 двары, 11 жыхароў, вятрак. У 1907 г. 75 двароў, 731 жыхар, крама. У 1909 г. школа граматыператворана ў земскую (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). У 1917 г. 111 двароў, 683 жыхары. У вясковай школе ў 1925 г. 48 вучняў. У 1926 г. 138 двароў, 740 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Звязда» і «1 Мая», якія ў 1933 г. аб'ядналіся ў адну гаспадарку «1 Мая»; працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 594, у 1970 г. — 429 жыхароў. У 1986 г. 122 гаспадаркі, 252 жыхары, у складзе калгаса імя Пушкіна. Ёсць клуб, б-ка, магазін. Планіроўка рэгулярная, аснову якой складае працяглая прамалінейная вуліца. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАПІЎКА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 5 км на У ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 105 км ад Магілёва, вакол лес. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 3 двары, 22 жыхары. У 1986 г. 7 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 122 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Сычкава—Свіслач. 9 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1615 г. вёска, уласнасць Бабруйскай плябаніі ў Мінскім ваяв. З 1782 г. дзейнічала карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. 10 двароў, 40 жыхароў, уключана ў маёнтак Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. перададзена казённаму маёнтку Панюшкавічы. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарбацэвіцкай вол., в. Красная (яна ж Панюшкавічы, Саломенка), 26 двароў, 210 жыхароў, побач засценак Красная (12 двароў, 88 жыхароў). У 1907 г. ў вёсцы 261, у засценку 113 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 36 двароў, 287 жыхароў, у засценку 20 двароў, 136 жыхароў. У 1920—30-я г. дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. фаш. карнікі спалілі 23 двары. Вызвалена 30.6.1944 г., у гэты ж дзень пры адбіцці спроб гітлераўцаў вырвацца каля вёскі з акружэння вызначыўся наводчык гарматы сяржант І.Р.Усабдзюк, удастоены звання Героя Сав. Саюза. На фронце загінулі 12 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У 1986 г. 20 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую, арыентаваную з ПнЗ на ПдУ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЯ ДУБРОВА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 13 км на У ад Бабруйска, 97 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 50 гаспадарак, 81 жыхар (2007).

За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, захаваўся курганны могільнік (38 насыпаў), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1885 г. вёска Дуброва ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 29 двароў, 187 жыхароў, малітоўны дом. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 334 жыхары, 2 крамы, малітоўная школа. У 1907 г. 473 жыхары. У 1917 г. 77 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму». У Вял. Айч. вайну ў баях супраць акупантаў загінулі 10 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 263, у 1970 г. — 256 жыхароў. У 1986 г. 70 гаспадарак, 180 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Калгасны сад і сажалка падзяляюць вёску на

ўсх., цэнтр. і зах. часткі, злучаныя дугападобнай вуліцай, ад якой у цэнтр. частцы адыходзіць на Пн кароткая вуліца і якая ў зах. частцы перасякае пасярэдзіне пад прамым вуглом яшчэ адну вуліцу.

**КРАСНАЯ ЗАРА** — пасёлак у Гарохаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Бабруйска, 17 км ад чыг. ст. Міраdзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 130 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У 1986 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу з двухбаковай няшчыльнай драўлянай забудовай.

**КРАСНЫ ЛЕС** — пасёлак у Слабодкаўскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 115 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. — 80, у 1970 г. 61 жыхар. У 1986 г. 19 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з У на З. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАСНОВІЧЫ** (да 30.7.1964 г. Воўчая Яма) — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Бабруйска, 20 км ад чыг. ст. Міраdзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 136 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1922 г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 8 двароў, 41 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 54, у 1970 г. — 51 жыхар. У 1986 г. 10 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з У на З. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, толькі на паўд. баку вуліцы.

**КРУГЛАНІВА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Бабруйска, 19 км ад чыг. ст. Міраdзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 132 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Кругланіва (яна ж Стаўпцы) у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 25 двароў, 192 жыхары. У 1907 г. 26 двароў, у 1917 г. 31 двор, 203 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа. У 1926 г. 36 двароў, 172 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Кругланіва». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 80, у 1970 г. — 56 жыхароў. У 1986 г. 19 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Працуе магазін. Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**КРУПІЧЫ** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 19 км на У ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 91 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 45 гаспадарак, 71 жыхар (2007).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 4 жыхары. У 1907 г. 5, у 1917 г. 11 жыхароў. 22.7.1925 г. створаны с.-г. кааператыў. У 1926 г. пасёлак, 31 двор, 148 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У 1930-я г. пасёлак ператвораны ў вёску. У Вял. Айч. вайну 8 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 280, у 1970 г. 250 жыхароў. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 146 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Ёсць клуб. Планіровачна ўяўляе сабой крывалінейную мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**КРУШЫНКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 20 км на З ад Бабруйска, 16 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 130 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. хутар у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 3 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. 6 двароў, 30 жыхароў. У 1924 г. пасёлак. У 1926 г. 17 двароў, 69 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 132, у 1970 г. 86 жыхароў. У 1986 г. 28 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную мерыдыянальнай арыентацыі (перпендыкулярна да аўтадарогі) вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЛАГОДАЎКА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Бабруйска, 17 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 130 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Глуск, на У мяжуе з лесам. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 54 жыхары, побач існавала карчма, 1 двор, 18 жыхароў. У 1907 г. пасёлак, 7 двароў, 60 жыхароў. У 1917 г. 12 двароў, 46 жыхароў. У 1926 г. вёска, 13 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 4 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 53, у 1970 г. 38 жыхароў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную перпендыкулярна да аўтадарогі, з двухбаковай драўлянай забудовай.

**ЛАМБАВА** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін. 91 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 86 гаспадарак, 212 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. маёнтак у Тураўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 15 жыхароў, млын. У 1907 г. 35 жыхароў, у 1917 г. 29 двароў, 234 жыхары. У 1926 г. 60 двароў, 363 жыхары. У канцы 1920-х г. пасёлак ператвораны ў вёску. У лютым 1929 г. арганізаваны калгас «Прагрэс». Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну 23 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.2.1964 г. да 20.12.1982 г. цэнтр Ламбаўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 293, у 1970 г. 220 жыхароў. У 1986 г. 98 гаспадарак, 252 жыхары, цэнтр калгаса «Сцяг камуны». Ёсць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, клуб-б-ка, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў БелНДІгіпрасельбудзе ў 1978 г., у яго аснове 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя мерыдыянальна, з двухбаковай забудовай сядзібнага тыпу. У цэнтры — грамадскія будынкі.

**ЛАМЫ** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 7 км на Пд ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 137 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 34 гаспадаркі, 56 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 54 жыхары. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоны востраў». У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 78, у 1970 г. 76 жыхароў. У 1986 г. 31 гаспадарка, 68 жыхароў, у складзе птушкафабрыкі «Бабруйская». Мае Т-падобную планіроўку. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛАСІ** — вёска ў Брожскім с/с, за 18 км на Пд ад Бабруйска, 3,5 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 128 км ад Магілёва. На У працякае р. Брожа (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 75 гаспадарак, 126 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. вёска, 7 двароў, 63 жыхары, пасесія, у Бабруйскім старостве

Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць казны. З 1838 г. памешчыцкая ўласнасць. У 1847 г. 13 двароў, 108 жыхароў, у складзе маёнтка Брожа. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Брожскай вол., 31 двор, 201 жыхар. У 1907 г. 42 двары, 240 жыхароў. У 1917 г. 56 двароў, 304 жыхары. У 1920-я г. дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну 38 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 304, у 1970 г. 411 жыхароў. У 1986 г. 150 гаспадарак, 298 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ленінскага камсамола. Ёсць клуб. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую ўздоўж ракі вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЛЕБЯДЗЁЎКА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 21 км на У ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 131 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 8 двароў, 29 жыхароў. У 1930-я г. пасёлакператвораны ў вёску. У 1931 г. арганізаваны калгас «2-і з'езд калгаснікаў-ударнікаў». У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 153, у 1970 г. 147 жыхароў. У 1986 г. 37 гаспадарак, 97 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную мерыдыянальна вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЛЕЙЧЫЦЫ** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 18 км на У ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 92 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 45 гаспадарак, 81 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1621 г. сяло (6 двароў) у Бабруйскім старостве Мінскага ваяв., уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 32 двары, 224 жыхары. У 1907 г. 44 двары, 290 жыхароў, у 1917 г. 46 двароў, 340 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа (у 1925 г. 35 вучняў). У 1926 г. 68 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.І.Ягорава. У Вял. Айч. вайну 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 248, у 1970 г. 250 жыхароў. У 1986 г. 68 гаспадарак, 155 жыхароў, клуб, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Вёска арыентавана з У на З уздоўж аўтадарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕКЕРТА** — пасёлак у Слабодкаўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 114 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 58 гаспадарак, 134 жыхары (2007).

За 0,3 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся курганны могільнік (14 насыпаў), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну 10 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 215, у 1970 г. 258 жыхароў. У 1986 г. 74 гаспадаркі, 200 жыхароў, клуб, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** (да 1924 г. Дурынічы) — пасёлак у Сычкаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 126 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. На ПнУ працякае р. Ясенка (прыток р. Раўчанка). Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 235 гаспадарак, 616 жыхароў (2007).

У 19 ст. маёнтак. У 1888 г. пачаў працаваць млын, у 1900 г. засн. крухмальны з-д і віназавод. У 1907 г. ў Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 68 жыхароў. У пач. 1920-х г. тут пачаў складвацца пасёлак. У 1920 г. створаны саўгас «Дурынічы», які ў 1925 г. меў 567 га вор-

най зямлі. З 1922 г. працавала хата-чытальня. У сярэдзіне 1920-х г. у былым памешчыцкім маёнтку адкрыта школа (у 1925 г. 45 вучняў), у 1926 г. для яе ўзведзены асобны будынак. Дзейнічалі паравы млын, невялікая электрастанцыя (для асвятлення пасёлка). У Вял. Айч. вайну фаш. акупанты ў 1944 г. спалілі пасёлак. Вызвалены 28.6.1944 г. 129-й стралк. дывізіяй. У баях загінулі 66 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў парку). З франтоў не вярнуліся 5 пасялкоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 579, у 1970 г. 675 жыхароў. У 1986 г. 240 гаспадарак, 600 жыхароў, цэнтр калгаса імя Леніна. Дзейнічаюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, цэх па перапрацоўцы гародніны, крухмальны з-д, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка, клуб, амбулаторыя, фельч.-акушэрскі пункт, ветлячэбніца, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, сталовая, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, спарт. пляцоўка. Планіроўка квартальная, забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** — пасёлак у Гарбацэвіцкім с/с, за 13 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 123 км ад Магілёва, на У і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. — 122, у 1970 г. 102 жыхары. У 1986 г. 27 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу. Двухбаковая драўляная забудова сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНЦЫ** — пасёлак у Гарохаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бабруйска, 19 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 134 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 47 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, забудаваную па паўд.-ўсх. баку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПНЯКІ** — пасёлак у Бортнікаўскім с/с, за 19 км на У ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 91 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1922 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 10 двароў, 56 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 48, у 1970 г. 36 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, трасіраваную з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярную да аўтадарогі, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛУЖАНЕЦ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Бабруйска, 130 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск.

Паводле перапісу 1897 г. хутар Лужанец (ён жа Магалішча) у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. засценак, 9 двароў, 123 жыхары, у 1917 г. 72 жыхары. У 1926 г. вёска, 13 двароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны асветнік». Паводле перапісу 1959 г. — 31, у 1970 г. 15 жыхароў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую, плаўна выгнутую, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу, забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЫСАЯ ГОРКА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 10 км на З ад Бабруйска, 2 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 120 км ад Магілёва. На У працякае р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны), на Пн чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе

Мінск—Бабруйск. 39 гаспадарак, 72 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 15 двароў, 106 жыхароў. У 1907 г. 16 двароў, 120 жыхароў. У 1917 г. 32 двары, 175 жыхароў. У 1935 г. арганізаваны калгас «Прагрэс». У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 298, у 1970 г. 219 жыхароў. У 1986 г. 46 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіроўка блізкая да П-падобнай, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЯДЫ** — пасёлак у Гарохаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Бабруйска, 18 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 133 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

У 1907 г. пасёлак, 6 двароў, 44 жыхары, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 7 двароў. У Вял. Айч. вайну 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 25 жыхароў. У 1986 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную, арыентаваную з У на З вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЛЯСІШЧА** — пасёлак у Варатынскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 78 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 37 жыхароў. У 1926 г. 19 двароў, 100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 6 пасялкоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 74, у 1970 г. 62 жыхары. У 1986 г. 20 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАКАРАВІЧЫ** — вёска ў Брожскім с/с, за 25 км на Пд ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 135 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 25 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

За 3 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, захавалася стараж. гарадзішча. За 2 км на Пд, каля перакрыжавання лясной прасекі з дарогай, знаходзіцца курганны могільнік (2 насыпы); за 0,4 км на З, ва ўрочышчы Старыя Кладкі — 2-і курганны могільнік (31 курган) і за 0,5 км на Пд — стараж. курган. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні чалавекам тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. У 1560 г. сяло Макаравічы (яно ж Варсічы) у Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 8 двароў, у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета. Паводле інвентару 1639 г. 29 жыхароў мужчынскага полу, 24 валокі зямлі, з якіх 19 пуставалі. У 1684 г. 12 двароў, у 1798 г. 32 двары, мелася карчма. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Брожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 90 жыхароў, побач існаваў аднайменны хутар, 6 двароў, 54 жыхары. У 1907 г. ў вёсцы 16 двароў, 131 жыхар, на хутары — 10 двароў, 77 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 18 двароў, 152 жыхары, на хутары — 17 двароў, 123 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа (у 1923 г. 24 вучні). 27.12.1922 г. створана с.-г. т-ва. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVI партз'езд». У 1940 г. 49 двароў, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1942 г. гітлераўцы спалілі 46 двароў і загубілі 8 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 281, у 1970 г. 205 жыхароў. У 1986 г. 51 гаспадарка, 85 жыхароў, магазін, у складзе саўгаса імя Ленінскага камсамола. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з 3 завулкамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАКАРАЎКА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Бабруйска, 14 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 131 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 15 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1897 г. хутар у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 47 жыхароў. У 1907 г. пасёлак, 11 двароў, 72 жыхары. У 1913—16 гг. дзейнічаў паравы млын. У 1917 г. вёска, 20 двароў, 128 жыхароў. У 1926 г. 30 двароў, 134 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Саюзхлеб». З пач. 1930-х г. працаваў гонтавы з-д. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 7 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 177, у 1970 г. 132 жыхары. У 1986 г. 51 гаспадарка, 84 жыхары, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**МАЛЕВА** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Бабруйска, 12 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 91 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У маі 1886 г. сяляне самавольна пасвілі жывёлу на памешчыцкіх лугах. Адбыліся сутычкі з памешчыцкай аховай. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 89 жыхароў. У 1917 г. 17 двароў, 122 жыхары. З 20.8.1924 г. да 25.2.1964 г. цэнтр Малеўскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-на. 26.10.1924 г. адкрыта школа (у 1925 г. 63 вучні), якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1926 г. 25 двароў, 129 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ідэі Леніна». Меўся млын. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 12 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках) 33 землякі — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 161, у 1970 г. 133 жыхары. У 1986 г. 38 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг камуны». Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую і арыентаваную мерыдыянальна вуліцу з двухбаковай няшчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 28 км на У ад Бабруйска, 16 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 82 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. 21.7.1922 г. створана с.-г. каап. т-ва «Плуг і серп», якому першапачаткова для развіцця было выдзелена ў якасці пазыкі 55 пудоў грэчкі і аўса. У 1926 г. 3 двары, 11 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Армія». У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 13 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 161, у 1970 г. 116 жыхароў. У 1986 г. 28 гаспадарак, 41 жыхар, клуб, магазін, у складзе калгаса «Гігант». Планіроўка крыжападобная, у 2 вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. За 1,2 км на Пд і ПдУ ад вёскі знаходзіцца Малінаўскае радовішча суглінкаў (разведаныя запасы 286 тыс. $м^3$).

**МАЛІННІКІ** — пасёлак і чыг. ст. (на лініі Бабруйск—Жлобін) у Цялушскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Бабруйска, 90 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Жлобін. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

За 0,4 км на У ад пасёлка захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 34 жыхары. У 1907 г. — 46, у 1917 г. 64 жыхары. 1.6.1921 г. была створана с.-г. арцель, якая мела 139 га зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Свабода». У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфаш. група (кіраўнік К.Г. Маўрыновіч), якая ў 1943 г. падарвала варожы цягнік з гарматай. У вер. 1943 г. карнікі спалілі 8 двароў. Паводле перапі-

су 1959 г. — 73, у 1970 г. 76 жыхароў. У 1986 г. 17 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна, перпендыкулярную да чыгункі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ БОРТНІКІ** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 24 км на У ад Бабруйска, 11 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 86 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 183 гаспадаркі, 370 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце, 218 рэвізскіх душ. У 1884 г. пабудавана драўляная царква. У 1885 г. сяло ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 45 двароў, 327 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 98 двароў, 839 жыхароў, ветраны млын, хлебазапасны магазін, крама; 2 разы на год (24 ліп. і 26 кастр.) праводзіліся таржкі. У 1907 г. 138 двароў, 952 жыхары. У ліст. 1911 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 163 двары, 1075 жыхароў. У вясковай школе ў 1923 г. 78 вучняў. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 118 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). З фронту не вярнуліся 74 землякі. Паводле перапісу 1959 г. — 891, у 1970 г. 729 жыхароў. У 1986 г. 230 гаспадарак, 560 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Ёсць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, магазін. Планіроўка квартальная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Л.П.Цэд, ген.-маёра І.Дз.Балыкі.

**МАЛЫЯ БОРТНІКІ** — пасёлак у Бортнікаўскім с/с, за 24 км на У ад Бабруйска, 12 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 86 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 16 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 130, у 1970 г. 110 жыхароў. У 1986 г. 26 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу, арыентаваную з У на З з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**МАРТЫНАЎКА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 25 км на У ад Бабруйска, 17 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 85 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1922 г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 20 двароў, 108 жыхароў. 2.7.1931 г. арганізаваны калгас «Абарона СССР». У 1930-я г. пасёлак пераўтвораны ў вёску. У Вял. Айч. вайну 15 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 112, у 1970 г. 78 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з У на З з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**МАРТЫНАЎКА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 129 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 35 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Дуброва Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць казны, 2 двары, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну 15 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 256, у 1970 г. 255 жыхароў. У 1986 г. 65 гаспадарак, 150 жыхароў, магазін, у складзе саўгаса «Пятровічы». Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліца арыентавана з У на З. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАСТЫ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бабруйска, 20 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 134 км ад Магілёва. Побач аўтадарога

Бабруйск—Слуцк. 23 гаспадаркі, 51 жыхар (2007).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 7 жыхароў. У 1917 г. 8 двароў, 30 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У сярэдзіне 1920-х г. пасёлак ператвораны ў вёску. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 91, у 1970 г. 107 жыхароў. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 70 жыхароў, клуб, б-ка, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Дзейнічае аддз. сувязі. Планіровачна ўяўляе сабой 2 кароткія, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЧУЛКІ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 128 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 36 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Упершыню згадваюцца пад 1684 г. як вёска (9 двароў) у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., уласнасць казны, пасесія. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 12 двароў, 77 жыхароў. У 1838 г. 82 жыхары, памешчыцкае ўладанне. У 1847 г. ў складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 114 жыхароў. У 1858 г. вёска далучана да казённага маёнтка Брожа Бабруйскага павета. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол., 39 двароў, 281 жыхар. У 1907 г. 366 жыхароў. У 1917 г. 73 двары, 436 жыхароў. У 1926 г. 92 двары, 516 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Мачулкі». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў чэрв. 1944 г. спалілі 32 двары, загубілі 2 жыхароў. На фронце загінулі 20 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 325, у 1970 г. 252 жыхары. У 1986 г. 66 гаспадарак, 155 жыхароў, клуб і магазін, у складзе саўгаса «Пятровічы». Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую мерыдыянальную вуліцу, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма вучонага Р.В.Булацкага.

**МАШКІ** — пасёлак у Хімоўскім с/с, за 14 км на У ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 96 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Магілёў. 9 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У пач. 20 ст. хутар у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 50 жыхароў. У 1917 г. 6 двароў, 54 жыхары. У канцы 1920-х г. пасёлак ператвораны ў вёску. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 18 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЯК** — пасёлак у Гарбацэвіцкім с/с, за 10 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 120 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

За 0,25 км на ПнУ ад пасёлка захаваўся курганны могільнік (8 насыпаў), за 0,3 км на У — 2-і курганны могільнік (130 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Сучасны пасёлак вядомы з канца 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 3 жыхары. У 1907 г. хутар, 5 двароў, 45 жыхароў. У 1917 г. 18 двароў. У 1926 г. 70 жыхароў. У канцы 1920-х г. ператвораны ў пасёлак. У 1933 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 82, у 1970 г. 83 жыхары. У 1986 г. 21 гаспадарка, 62 жыхары, лесапільня, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, трасіраваную паралельна да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІКУЛІЧЫ** — вёска і чыг. раз'езд (на лініі Бабруйск—Жлобін) у Кавалёўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Бабруйска, 83 км ад Магілёва, на Пд абмежавана чыгункай. На Пн працякае р. Беліца (прыток р. Ала). Побач аўтадарога Бабруйск—Жлобін. 64 гаспадаркі, 109 жыхароў (2007).

У 1560 г. сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. ў Бабруйскім старостве, 4 двары. У 1639 г. 8 двароў, 40 жыхароў мужчынскага полу. У 1786 г. 19 гаспадарак, у складзе маёнтка Міхалёва, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 22 двары, 122 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 88 двароў, 627 жыхароў, вятрак, крупадзёрка, 2 хлебазапасныя магазіны, заезны двор. У 1907 г. 111 двароў, 741 жыхар. У 1913 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 129 двароў, 743 жыхары. 13.12.1922 г. створана с.-г. каап. т-ва «Ураджай». У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Мікулічы», працавалі ваўначоска, кузня, млын. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 9 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), 43 землякі — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 554, у 1970 г. 432 жыхары. У 1986 г. 136 гаспадарак, 263 жыхары, у складзе калгаса імя А.Неўскага. Ёсць машынны двор, клуб, 2 магазіны. Планіроўка рэгулярна-прамянёвая. Гал. вуліца Чыгуначная арыентавана з У на З. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза М.Дз.Капусціна.

**МІРАДЗІНА** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Бабруйск—Мінск) у Сычкаўскім с/с, за 9 км на З ад Бабруйска, 119 км ад Магілёва, вакол сасновы лес. На З працякае р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 44 гаспадаркі, 102 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць, 12 двароў, 81 жыхар. У 1926 г. заснавана лесапільня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 98 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне), 4 землякі — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 201, у 1970 г. 194 жыхары. У 1986 г. 50 гаспадарак, 164 жыхары, у складзе саўгаса імя Леніна. Дзейнічаюць лясніцтва і яго хімлесаўчастак, магазін. Планіроўка квартальная, забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне побач з чыг. станцыяй аздараўленчы дзіцячы лагер «Спадарожнік». На Пн, за рэчкай, у сасновым бары, — лагеры «Чайка» і «Змена».

**МІРАЦІНА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 122 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Мінск. 26 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска Мірацін (яна ж Панюшкавічы) у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 29 двароў, 225 жыхароў. У 1907 г. 20 двароў, 212 жыхароў. У 1917 г. 33 двары, 236 жыхароў. У 1926 г. 36 двароў, 231 жыхар. У 1934 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 190, у 1970 г. 156 жыхароў. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 92 жыхары, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. У цэнтры вёскі сквер.

**МІРОНАВА** (да 1966 г. Глухое Ляда) — пасёлак у Варатынскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 74 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле пера-

пісу 1959 г. — 10, у 1970 г. 41 жыхар. У 1986 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, трасіраваную з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАЎКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 121 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск.

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Каралеўская Слабада Бабруйскага павета Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць, 16 двароў, 83 жыхары. У 1917 г. 21 двор, 95 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1926 г. 23 двары, 113 жыхароў. У жн. 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 83, у 1970 г. 34 жыхары. У 1986 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую, плаўна выгнутую, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 16 км на З ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 126 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. засценак у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 8 двароў, 54 жыхары. У 1917 г. 10 двароў, 72 жыхары. У 1926 г. 12 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 73, у 1970 г. 60 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Восава». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з У на З. Шчыльная двухбаковая драўляная забудова сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЁВА 1** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 22 км на У ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 88 км ад Магілёва, на р. Ала (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 211 гаспадарак, 675 жыхароў (2007).

Вядома з 1560 г. як с. Міхалёва ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1621 г. 13 дымоў, 2 млыны, у Бабруйскім старостве. Паводле інвентару 1639 г. 18 валок зямлі, з якіх 10 пусталі. У 1784 г. пабудавана з дрэва царква. У 1786 г. 26 дымоў, цэнтр маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. сяло ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 44 двары, 320 жыхароў, млын. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак (у 1890 г. 37 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. 122 двары, 984 жыхары, меліся 2 крамы, млын, заезны двор, побач існаваў аднайменны маёнтак, 1 двор, 40 жыхароў. У жн. 1905 г. ў маёнтку адбылася забастоўка батракоў. У 1907 г. 167 двароў, 1013 жыхароў. У 1917 г. 172 двары, 1232 жыхары. У 1920-я г. дзейнічаў гурток, а ў 1930-я г. школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Мелася б-ка. 14.8.1923 г. створана с.-г. арцель. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Міхалёўскага с/с Бабруйскага 2-га, з 4.3.1927 г. Бабруйскага р-на. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 67 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне), 47 землякоў — на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці ў 1973 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск з імёнамі тых, хто загінуў. У 1947 г. далучана в. Новы Гарадок. Паводле перапісу 1959 г. — 666, у 1970 г. 583 жыхары. У 1986 г. 230 гаспадарак, 632 жыхары, цэнтр калгаса імя Дзяржынскага, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, свінагадоўчы комплекс, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка, участковая бальніца, Дом культуры, Дом

механізатара, Дом жывёлавода, бальніца, аптэка, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 магазіны, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, стадыён. Планіроўка квартальная. Дзве галоўныя, паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЁВА 2** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 22 км на У ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 88 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 40 гаспадарак, 69 жыхароў (2007).

На паўд. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Ала (прыток Бярэзіны), захавалася гарадзішча (мясц. назва Гарадок) ранняга жал. веку (датуецца пач. 2-га тыс. — 1-м тыс. да н.э.), якое сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 1920-х г. У 1923 г. для будучай вёскі выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 32 двары, 146 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 200, у 1970 г. 175 жыхароў. У 1986 г. 58 гаспадарак, 140 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-маёра Ф.С.Шырокага.

**МІХАЛЁВА 3** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 90 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 39 гаспадарак, 80 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак, пераважна з в. Міхалёва, на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 41 двор, 195 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 26 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 327, у 1970 г. 274 жыхары. У 1986 г. 77 гаспадарак, 155 жыхароў, клуб, магазін, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Планіроўка квартальная. Тры злучаныя паміж сабой вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне невялікі адасоблены ўчастак жылой забудовы.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Восаўскім с/с, за 22 км на З ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 132 км ад Магілёва. Непадалёку аўтадарога Навасёлкі—Бабруйск. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1847 г. згадваюцца як в. Навасёлкі 1 (10 двароў, 40 жыхароў) у складзе маёнтка Ахоцічы Бабруйскага павета Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. Побач існавала в. Навасёлкі 2 (6 двароў, 44 жыхары). Пазней вёскі зліліся ў адну. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадоцкай вол., 25 двароў, 190 жыхароў, вінная крама. У 1907 г. 204 жыхары. У 1917 г. 32 двары, 211 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Красіна. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 178, у 1970 г. 145 жыхароў. У 1986 г. 40 гаспадарак, 72 жыхары, магазін, у складзе саўгаса «Дойнічава». Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную з У на З. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАВІКІ** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Бабруйска, 5 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 85 км ад Магілёва. На У працякае р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Згадваюцца пад 1639 г. як сяло ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 43 двары, 367 жыхароў, мелася крама. У 1907 г. 53 двары, у 1917 г. 72 двары,

394 жыхары. У час акупацыі герм. войскамі вясковец Г.Шаўцоў арганізаваў у сак. 1918 г. партыз. атрад, які налічваў у чэрв. 1918 г. 150 чалавек і дзейнічаў у раёне чыгункі Бабруйск—Жлобін. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1925 г. 52 вучні). 28.1.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 68 двароў, 370 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», працаваў млын. У Вял. Айч. вайну 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 258, у 1970 г. 201 жыхар. У 1986 г. 57 гаспадарак, 104 жыхары, клуб, у складзе калгаса імя А.Неўскага. На З ад вёскі быў калгасны сад. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ, з двухбаковай забудовай сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ БЕЛАРУСЬ** — пасёлак у Слабодкаўскім с/с, за 4 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 114 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1929 г. ў сувязі з будаўніцтвам торфазавода аднайменнай назвы. Паводле перапісу 1959 г. — 134, у 1970 г. 72 жыхары. У 1986 г. 6 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Кісялевічы». Мае кароткую прамалінейную вуліцу з аднабаковай драўлянай забудовай.

**НОВАЯ ШАРАЁЎШЧЫНА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 13 км на У ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 97 км ад Магілёва, на З ад вёскі меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў.

У 1907 г. вёска ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 28 двароў, 210 жыхароў. У 1917 г. 44 двары, 266 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Молатава. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 27 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). З фронту не вярнуліся 27 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 157, у 1970 г. 135 жыхароў. У 1986 г. 42 гаспадаркі, 72 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную, арыентаваную мерыдыянальна вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ОБЧА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Бабруйска, 11 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 125 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Глуск, на З мяжуе з лесам. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

За 1 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Акопы, захаваўся курганны могільнік (73 насыпы), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1838 г. вёска Обчын у Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска Обчын (яна ж Брожка) у Гарбацэвіцкай вол., 16 двароў, 128 жыхароў. У 1907 г. 186 жыхароў. У 1913 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 27 двароў. У 1926 г. 39 двароў, 195 жыхароў. У жн. 1931 г. арганізаваны калгас «Сцяг працы». У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. карнікі спалілі ў вёсцы 12 двароў. На фронце загінулі 13 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 185, у 1970 г. 159 жыхароў. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 86 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, падзеленую аўтадарогай на 2 часткі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ОРСІЧЫ** — вёска ў Брожскім с/с, за 25 км на Пд ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 135 км ад Магілёва. На Пн ад вёскі працякае ручай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 92 гаспадаркі, 139 жыхароў (2007).

Згадваюцца пад 1560 г. як с. Ворсічы Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1671 г. 8 двароў, у Бабруйскім старостве, у 1773 г. 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. вёска далучана да маёнтка Брожа Бабруйскага павета Мінскай губ., 24 двары, 108 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Брожскай вол., 53 два-

ры, 362 жыхары. У 1907 г. 70 двароў, 488 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 96 двароў, 584 жыхары. У вясковай школе ў 1925 г. 47 вучняў, мелася б-ка. У 1926 г. 118 двароў, 616 жыхароў. Побач з вёскай існаваў аднайменны пасёлак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праўда», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі варожы гарнізон, які знаходзіўся ў вёсцы. 66 землякоў загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Орсічы. Паводле перапісу 1959 г. — 833, у 1970 г. 703 жыхары. У 1986 г. 187 гаспадарак, 380 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ленінскага камсамола. Працуюць б-ка, магазін. Планіроўка квартальная. Частка забудовы размешчана ўздоўж чыгункі, якая праходзіць побач з вёскай. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАБОКАВІЧЫ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 11 км на З ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 121 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 51 гаспадарка, 85 жыхароў (2007).

Згадваецца пад 1586 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1615 г. ў валоданні каталіцкай плябаніі. У 1782 г. 38 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 77 рэвізскіх душ. У 1847 г. ў складзе маёнтка Дварэц, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол., 53 двары, 366 жыхароў, хлебазапасны магазін, піўная крама, царква. У 1907 г. 70 двароў, 528 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1917 г. 94 двары, 654 жыхары. У 1926 г. 143 двары, 707 жыхароў, паравы млын. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Андрэева. У Вял. Айч. вайну актыўна дзейнічалі падпольшчыкі. У баях каля вёскі загінулі 8 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 31 зямляк не вярнуўся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. — 576, у 1970 г. 465 жыхароў. У 1986 г. 138 гаспадарак, 296 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Ёсць б-ка, клуб, магазін. Планіроўка квартальная, з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Дзве гал., паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ. Радзіма бел. пісьменніка П.Р.Галавача.

За 1,5 км на У ад вёскі знаходзіцца Пабокавіцкае радовішча глін (перспектыўныя запасы 317 м$^3$), якое распрацоўваецца Бабруйскім камбінатам будаўнічых матэрыялаў.

**ПАДЛІП'Е** — пасёлак, да 1992 г. ў Кавалёўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Бабруйска, 2 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 84 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Гомель.

Засн. ў 1919 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 11 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 48, у 1970 г. 28 жыхароў. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе калгаса імя А.Неўскага. Планіровачна ўяўляў сабой кароткую вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ. У 1992 г. далучаны да в. Кавалі.

**ПАДСОБНАЕ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 130 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У Вял. Айч. вайну 6 землякоў загінулі на фронце. У 1986 г. 19 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПАД'ЯСЕНКА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 125 км ад Магілёва. Побач аўта-

дарога Мінск—Бабруйск. На З ад вёскі меліярацыйны канал, на Пн працякае р. Ясенка (прыток Ваўчанкі), на У – р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны), на Пд мяжуе з лесам. 27 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

У 1907 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 134 жыхары. У 1917 г. 22 двары, 163 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа. У 1926 г. 37 двароў, 184 жыхары. У 1934 г. арганізаваны калгас «Пад'ясенскі». У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 115 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАКРОЎКА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 20 км на З ад Бабруйска, 14 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 130 км ад Магілёва. Непадалёку аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 98 жыхароў. У 1907 г. 19 двароў, 108 жыхароў. У 1917 г. 23 двары, 138 жыхароў, цэнтр воласці. У 1921 г. адкрыта школа. У 1926 г. 26 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Кірава. Паводле перапісу 1959 г. — 152, у 1970 г. 92 жыхары. У 1986 г. 30 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Дойнічава». Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе сабой 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і забудаваныя двухбакова драўлянымі дамамі. Частка забудовы адасоблена на ПдЗ і ПнУ.

**ПАЛОШКАВА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Бабруйска, 19 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 133 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 47, у 1970 г. 44 жыхары. У 1986 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з няшчыльнай двухбаковай драўлянай забудовай.

**ПАЛЯНКІ** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Бабруйска, 13 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 87 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 17 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча Палянка ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 10 жыхароў, дзейнічала лесапільня. У 1907 г. 10 двароў, 34 жыхары, у 1917 г. 56 жыхароў. У 1926 г. 40 двароў, 224 жыхары. 16.4.1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 255, у 1970 г. 158 жыхароў. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 107 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг камуны». Планіроўка Т-падобная з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу, гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ.

**ПАНКРАТАВІЧЫ** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 83 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 115 гаспадарак, 239 жыхароў (2007).

Згадваюцца пад 1560 г. як с. Панкратавічы ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 12 дымоў, у Бабруйскім старостве. Паводле інвентару 1639 г. 41 жыхар мужчынскага полу, 5 службаў. У 1765 г. 17 дымоў, карчма, у 1773 г. 20 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 16 дымоў. У 1885 г. 31 двор, 324 жыхары, царква. У 1887 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 9 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. вёска

ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 56 двароў, 487 жыхароў, штогод (22 снеж.) праводзіўся таржок. У 1907 г. 76 двароў, 603 жыхары. Школа граматы ў 1910 г. ператворана ў земскую. У 1917 г. 108 двароў, 772 жыхары. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У вясковай школе ў 1925 г. 76 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень камуны». У Вял. Айч. вайну 104 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 880, у 1970 г. 788 жыхароў. У 1986 г. 193 гаспадаркі, 490 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг камуны». Працуюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, базавая школа, магазін. Планіроўка квартальная, уключае 3 паралельныя і злучаныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя мерыдыянальна і забудаваныя двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне грамадскі цэнтр. На ПдЗ адасобленая вуліца арыентавана з У на З.

**ПАНЮШКАВІЧЫ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 119 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядомы з 17 ст. У 1615 г. фальварак, які староста бабруйскі аддаў бабруйскай каталіцкай плябаніі. У 1779 г. ўзведзена драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. фальварак, цэнтр маёнтка ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1876 г. сяляне канфліктавалі з памешчыкам і правялі самавольную высечку казённага лесу. У 1891 г. адкрыта школа, пераўтвораная ў 1915 г. ў царк.-прыходскую. У 1897 г. на месцы старой узведзена новая царква. У 1907 г. сяло (11 двароў, 30 жыхароў), аднайменныя з ім пагост (4 двары, 28 жыхароў) і маёнтак (2 двары, 12 жыхароў). У 1917 г. ў сяле 8 двароў, 40 жыхароў, у маёнтку 47 жыхароў. 25.2.1919 г. на базе былога памешчыцкага маёнтка сяляне вёсак Сычкава і Ціўнавічы стварылі адну з першых калектыўных гаспадарак на Бабруйшчыне — Панюшкавіцкую с.-г. камуну. У вясковай школе ў 1925 г. 166 вучняў. У 1935 г. арганізаваны калгас «Пераможца». У Вял. Айч. вайну ў вёсцы дзейнічала падп. група. На фронце загінулі 3 землякі. Паводле перапісу 1959 г. — 49, у 1970 г. 37 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе цяплічнага саўгаса-камбіната «Бабруйскі». На У ад вёскі знаходзіцца сад. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую, прамалінейную вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма (б. фальварак Панюшкавічы) бел. пісьменніка і тэатральнага дзеяча В.І.Дуніна-Марцінкевіча.

**ПАРАСЛЯ** — пасёлак у Варатынскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Бабруйска, 12 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 80 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 2 гаспадаркі, 11 жыхароў (2007).

У 18 ст. пазначана як маёнтак Амельня. У пач. 1920-х г. пачаў складвацца пасёлак, якому быў выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 10 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 43, у 1970 г. 19 жыхароў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна. Забудова нядшчыльная, драўляная. На У ад вёскі чыг. ст. Амельня.

**ПАСЕКА** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Бабруйска, 20 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 135 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк.

Вядома з 18 ст. У 1797 г. фальварак, уладанне Д.Радзівіла, 16 жыхароў мужчынскага полу. Пазней ва ўладанні Слуцкага Троіцкага манастыра. У 1838 г. 62

рэвізскія душы, у валоданні казны. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 54, у 1970 г. 48 жыхароў. У 1986 г. 16 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ, з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПАСЕКА** — пасёлак у Варатынскім с/с, за 35 км на ПдУ ад Бабруйска, 18 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 75 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 6 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў 1922 г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 94 жыхары. У 1986 г. 27 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную, арыентаваную мерыдыянальна вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПЕРАСОВА** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 127 км ад Магілёва, вакол лес. На З працякае р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, паромнай пераправе цераз Бярэзіну і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

*Рака Бярэзіна на Магілёўшчыне. Бабруйскі раён.*



На паўд. ускраіне вёскі, на левым беразе старыцы р. Бярэзіна (мясц. назва воз. Падкова), захавалася гарадзішча пад мясц. назвай Гарадок, якое сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай мінуўшчыне. У 1923 г. тут перасяленцамі з суседніх вёсак засн. пасёлак. У 1926 г. 14 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 187, у 1970 г. 162 жыхары. У 1986 г. 28 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе калгаса імя Фрунзе. Планіровачна ўяўляе сабой 2 кароткія вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЛЁСЫ** — вёска і чыг. раз'езд (на лініі Бабруйск—Жлобін), у Цялушскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Бабруйска, 89 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 140 гаспадарак, 322 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца пад 1560 г. як с. Плоса ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 40 дымоў, у Бабруйскім старостве, пасесія. Паводле інвентару 1639 г. 60 жыхароў мужчынскага полу, 30 валок зямлі, з якіх 20 пуставалі. У 1738 г. сяло Плосы, 46 дымоў, у 1765 г. — 52 дымы, карчма і млын. У 1779 г. 57 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1883 г. заснавана вінакурня. У 1907 г. вёска ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 149 двароў, 1214 жыхароў, царк.-прыходская школа, заезны двор, млын, крама. У 1917 г. 239 двароў, 1488 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, для якой вяскоўцы ў 1924 г. пабудавалі ўласнае памяшканне (215 вучняў). 2.1.1925 г. створаны масларобчы кааператыў «Праца». У 1930 г. арганізаваны калгас «13 гадоў Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 611 жыхароў. У 1967 г. да Плёсаў далучаны вёскі Жылінцы, Новы Быт, Слабада. У 1970 г. 543 жыхары. У 1986 г.

176 гаспадарак, 451 жыхар, у складзе калгаса імя Мічурына. Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, цэх па вырабе розных дэталей з драўніны, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі, аддз. ашчаднага банка, клуб-б-ка, Дом быту, прамтаварны, прадуктовы і гасп. магазіны. Планіроўка квартальная; 2 галоўныя, злучаныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПнЗ на ПдУ пад вуглом да аўтадарогі, забудаваны двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр на скрыжаванні вуліц з дарогай. Радзіма бел. паэта М.Аўрамчыка і Героя Сац. Працы А.Р.Сакун.

**ПОСТРАШ** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 83 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 41 гаспадарка, 73 жыхары (2007).

За 0,8 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Жукавец, знаходзіцца могільнік (7 насыпаў), за 0,2 км на ПдУ ад яго — 2-і (5 курганоў). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні чалавекам тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1907 г. хутар Постраж у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 31 жыхар. У 1917 г. 36 жыхароў. У 1926 г. хутары, 13 двароў, 91 жыхар. У канцы 1920-х г. аб'яднаны ў вёску. У 1931 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1967 г. далучана в. Нівішча. Паводле перапісу 1959 г. — 211, у 1970 г. 252 жыхары. У 1986 г. 74 гаспадаркі, 139 жыхароў, у складзе калгаса імя А.Неўскага. Ёсць магазін. Планіроўка блізкая да П-падобнай. Гал. вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРАГРЭС** — пасёлак у Восаўскім с/с, за 13 км на З ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 97 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 48 жыхароў, у складзе саўгаса «Восава». Працуюць магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка блізкая да П-падобнай, мае 2 вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРАГРЭС** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 84 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 27 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Засн. ў 1924 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 24 двары, 126 жыхароў. У канцы 1920-х г. пасёлак ператвораны ў вёску. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прагрэс» і арцель па здабычы торфу. У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 183, у 1970 г. 158 жыхароў. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 95 жыхароў, у складзе калгаса імя А.Неўскага. Ёсць клуб, магазін. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу, арыентаваную з У на З.

**ПРАЛЕТАРСКІ** — пасёлак у Цялушскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Бабруйска, 3 км ад чыг. раз'езда Плёсы на лініі Бабруйск—Жлобін, 93 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Бабруйск—Жлобін. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў 1924 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 14 двароў, 66 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Свабода». У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 83, у 1970 г. 59 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 57 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы



*М.Аўрамчык.*

з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПРОДЗВІНА** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 17 км на Пд ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 127 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. На Пн працякае р. Брожка (прыток Бярэзіны). 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома ў 18 ст. як паселішча ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. аколіца Прудвіна (яна ж Ляўкі) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., дзярж. ўласнасць, пасесія, 5 двароў, 26 жыхароў. У 1847 г. 18 двароў, 93 жыхары, у складзе казённага маёнтка Брожа. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Брожскай вол., пры паштовай дарозе Бабруйск—Парычы, 36 двароў, 224 жыхары. У 1907 г. 39 двароў. У 1916 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 43 двары, 256 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 29.1.1968 г. цэнтр Продзвінскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-наў. На базе вясковай школы ў 1925 г. працавала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 58 двароў, 300 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас імя Чкалава. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 153, у 1970 г. 95 жыхароў. У 1986 г. 29 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе. Планіроўка блізкая да П-падобнай. Планіровачна мае 2 мерыдыянальныя вуліцы, забудаваныя двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу; галоўная далучаецца да аўтадарогі. Радзіма засл. дзеяча мастацтваў Беларусі Л.П.Асецкага і бел. мастака І.І.Бокія.

**ПУСТОШКА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 28 км на У ад Бабруйска, 14 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 82 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 65 жыхароў мужчынскага полу, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол., 55 двароў, 472 жыхары, вятрак, школа граматы, заезны двор. У 1906 г. школа граматы ператворана ў царк.-прыходскую і для яе ўзведзены будынак. У 1907 г. 65 двароў, 512 жыхароў. У 1913 г. частка жыхароў перасялілася на хутары. У 1917 г. 67 двароў. У вясковай школе ў 1925 г. 64 вучні. 16.4.1925 г. створаны пчалаводчы с.-г. кааператыў «Прасвет», у 1931 г. — калгас «Асаавіяхім», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 303, у 1970 г. 194 жыхары. У 1986 г. 50 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе калгаса «Гігант». Ёсць магазін. Планіроўка крыжападобная. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЯТРОВІЧЫ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 18 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Каля вёскі пачынаецца р. Брожа (Продзвінка, Брожка) — правы прыток р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 110 гаспадарак, 225 жыхароў (2007).

За 2 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Брожка, ва ўрочышчы Падкаленца захавалася гарадзішча ранняга жал. веку; за 1 км на У — другое. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні чалавекам тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Вядомы ў 1560 г. як с. Пятровічы-Ляхавічы ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 12 дымоў, у Бабруйскім старостве. Паводле інвентару 1639 г. 30 жыхароў мужчынскага полу, 17 валок зямлі, з якіх 12 пуставалі. У 1756 г. мелася карчма. У 1773 г. 13 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 13 зямельных участкаў, сяло далучана да казённага маёнтка Брожа Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1888 г. адкрыта школа граматы (у

1890 г. 19 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол., 40 двароў, 354 жыхары, хлебазапасны магазін; побач існавалі аднайменныя аколіца (24 двары, 195 жыхароў, паравы млын) і фальварак (1 двор, 7 жыхароў). У 1907 г. ў вёсцы 395 жыхароў, у аколіцы 30 двароў, 240 жыхароў. Меліся млын і лесапільня (1895). У 1907 г. школа граматы ператворана ў земскую, для якой у 1913 г. ўзведзены будынак. У 1917 г. ў вёсцы 71 двор, 439 жыхароў, у аколіцы 44 двары, 242 жыхары. У вясковай школе ў 1925 г. 108 вучняў. Працавала смалакурня. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Крупскай. У 1933 г. адкрыта бандарная арцель «Чырвоны бондар». У 1940 г. 100 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 46 двароў і загубілі 11 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 108 землякоў, на ўшанаванне іх памяці каля будынка школы ў 1967 г. ўзведзены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. — 500, у 1970 г. 514 жыхароў. У 1986 г. 145 гаспадарак, 300 жыхароў, цэнтр саўгаса «Пятровічы». Дзейнічаюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лясніцтва, 8-гадовая школа, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, ветэрынарны пункт, магазін, Дом культуры, спарт. пляцоўкі. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Мураванае жыллёвае будаўніцтва вядзецца вакол грамадскага цэнтра на зах. ускраіне.

**РАГАЛІ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Бабруйска, 9 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 122 км ад Магілёва, вакол лес. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

За 1 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Максімаў Хутар, захаваўся курганны могільнік (6 насыпаў), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 19 ст. Па рэвізскіх матэрыялах 1857 г. вёска, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 88 жыхароў. У 1907 г. 16 двароў, 157 жыхароў. У 1917 г. 24 двары, 170 жыхароў. У 1926 г. 29 двароў, 166 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 13 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 168, у 1970 г. 120 жыхароў. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 88 жыхароў, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіроўка лінейная, уключае адасобленыя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАГАСЕЛЛЕ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 126 км ад Магілёва, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся курганны могільнік (мясц. назва Шведскія Курганы, 11 насыпаў), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 19 ст. У 1838 г. езуіцкае (23 рэвізскія душы), затым памешчыцкае ўладанне (40 рэвізскіх душ) у Бабруйскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарбацэвіцкай вол., 9 двароў, 58 жыхароў. Побач быў фальварак Рагаселле (ён жа Брожкі), 1 двор, 2 жыхары. У 1907 г. 12 двароў, 80 жыхароў, у 1917 г. 15 двароў. У 1926 г. 83 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рагаселле». У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 74, у 1970 г. 52 жыхары. У 1986 г. 19 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАКСАЛЯНКА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Бабруйска, 9 км ад

чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва. На Пд працякае р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мінск. 14 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 7 двароў, 60 жыхароў, у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Побач існавала аднайменнае ўрочышча (1 двор, 5 жыхароў). У 1907 г. вёска, 16 двароў, 119 жыхароў, у 1917 г. 18 двароў. 13.5.1922 г. створана с.-г. каап. т-ва «Багацце», з 1923 г. дзейнічаў фельчарскі ўчастак. 24.9.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва, у 1925 г. Раксалянска-Вербкаўскае с.-г. каап. т-ва. У 1933 г. арганізаваны калгас «Гігант». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 97 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), 9 землякоў — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 98, у 1970 г. 73 жыхары. У 1986 г. 27 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЫМАЎЦЫ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Бабруйска, 20 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 135 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1725 г. вёска Рымавічы ў складзе маёнтка Глуск, 8 двароў, 7 жыхароў мужчынскага полу. У 1838 г. 118 рэвізскіх душ, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 80 двароў, 606 жыхароў, хлебазапасны магазін, заезны двор. У 1907 г. 114 двароў, 881 жыхар, крама і заезны двор. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 137 двароў, 839 жыхароў. У час польска-сав. вайны 1919—20 гг. быў створаны партыз. атрад, які актыўна дзейнічаў супраць акупантаў. У 1924—31 гг. цэнтр Рымавецкага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі. У вясковай школе ў 1925 г. 104 вучні. У 1926 г. 183 двары, 814 жыхароў. Працавала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 177 жыхароў. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Падчэрня. У 1970 г. 124 жыхары. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 70 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ і забудаваную двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЫННЯ** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 21 км на У ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 89 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

З 1639 г. сяло ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. памешчыцкая ўласнасць. У 1839 г. цэнтр маёнтка Бабруйскага павета Мінскай губ. Некаторы час была ў валоданні езуітаў. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак пры Маскоўска-Варшаўскай шашы (25 жыхароў, кузня) у Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У маі і кастр. 1905 г. сяляне зрабілі патравы памешчыцкіх пасеваў. У 1907 г. 36 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе былога маёнтка складваўся пасёлак. У 1926 г. 22 двары, 122 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рыня». У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 129 жыхароў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Дзейнічае лесапільня. Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу, трасіраваную мерыдыянальна, перпендыкулярна да аўтадарогі і забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЭДКІ РОГ** — пасёлак у Брожскім с/с, за 24 км на Пд ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор,

134 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мазыр. 199 гаспадарак, 422 жыхары (2007).

Засн. ў 1946 г. ў сувязі з торфараспрацоўкамі. Паводле перапісу 1959 г. — 834, у 1970 г. 790 жыхароў. У 1986 г. 213 гаспадарак, 505 жыхароў. Працуюць торфазавод «Рэдкі Рог», Макаравіцкае лясніцтва, пач. школа, аптэка, бальніца, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, лазня, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, харч. і прамтаварны магазіны, аддз. ашчаднага банка. Планіроўка квартальная; 2 гал. вуліцы арыентаваны мерыдыянальна і забудаваны пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На скрыжаванні вуліц — грамадскі цэнтр, па вул. Савецкай — гандл. цэнтр.

**САВІЧЫ** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Бабруйск—Жлобін), у Цялушскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Бабруйска, 89 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 99 гаспадаркі, 226 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 30 двароў, 291 жыхар, вятрак. У 1907 г. 43 двары, 341 жыхар. У 1917 г. 59 двароў, 403 жыхары. Сяляне ў жн. 1917 г. падзялілі суседнія памешчыцкія землі, якія адносіліся да маёнтка Вакулічы. У кастр. 1920 г. створана с.-г. арцель. У вер. 1924 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1925 г. 105 вучняў, працавала б-ка). У 1926 г. 73 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», у 1931 г. — прам. арцель «Чырвоны тарфянік». У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. група (кіраўнік М.Ткач). Падпольшчыкі здзейснілі шмат дыверсій, у тым ліку пусцілі пад адхон 2 фаш. ваенныя эшалоны. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 508, у 1970 г. 417 жыхароў. У 1986 г., 123 гаспадаркі, 378 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Ёсць пач. школа, магазін. Планіроўка блізкая да Г-падобнай. Гал. вуліца арыентавана з У на З, пад вуглом да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**САЛОМЕНКА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 122 км ад Магілёва, на Пд і ПнУ мяжуе з лесам, каля аўтадарогі Мінск—Бабруйск. 23 гаспадаркі, 33 жыхары (2007).

У 18 ст. паселішча ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. вёска Салома (62 жыхары мужчынскага полу) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. казённая варта пры былым мінскім паштовым тракце, у Гарбацэвіцкай вол. У 1907 г. 2 двары. У 1916 г. ўрочышча (1 двор, 7 жыхароў) і казённая варта (1 двор, 6 жыхароў). У 1926 г. вёска, 50 двароў, 267 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 158, у 1970 г. 160 жыхароў. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 100 жыхароў, у складзе цяплічнага саўгаса-камбіната «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і двухбакова забудаваную драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САСНОВАЯ** (да 30.7.1964 г. Каты) — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 121 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Сычкава—Свіслач. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць, 5 двароў, 34 жыхары. У 1897 г. вёска Каты (яна ж Панюшкавічы), 15 двароў, 94 жыхары, у Гарбацэвіцкай вол. У 1907 г. 20 двароў, 123 жыхары, у 1917 г. 23 двары, 159 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «70-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну 18 вяскоў-

цаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 123, у 1970 г. 113 жыхароў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 92 жыхары, у складзе цяплічнага саўгаса-камбіната «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную з У на З і забудаваную двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІМГАРАВІЧЫ** — вёска ў Цялушскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Бабруйска, 2 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 88 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Жлобін. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

За 0,4 км на Пд ад вёскі захаваўся курганны могільнік (42 насыпы), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 19 ст. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У 1848 г. ў складзе маёнтка Плёсы. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Туркоўскай вол., 10 двароў, 93 жыхары. У 1907 г. 14 двароў, 121 жыхар, у 1917 г. 16 двароў. У 1926 г. 23 двары, 118 жыхароў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «3-і рашаючы год». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 207, у 1970 г. 141 жыхар. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 73 жыхары, у складзе калгаса імя Мічурына. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую, арыентаваную мерыдыянальна вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 22 км на З ад Бабруйска, 11 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 132 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 9 двароў, 47 жыхароў. У 1930-я г. пасёлак ператвораны ў вёску. У 1986 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Дойнічава». Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з У на З. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 13 км на У ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 97 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 126 гаспадарак, 296 жыхароў (2007).

У 1621 г. сяло ў Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., уласнасць казны, пасесія. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. сяло Слабада Даўгарожская ў Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 39 двароў, 345 жыхароў. У 1907 г. 57 двароў, 381 жыхар. У 1917 г. 50 двароў, 338 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным памяшканні (у 1925 г. 64 вучні), дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У жн. 1931 г. арганізаваны калгас імя Блюхера. У Вял. Айч. вайну 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 138 гаспадарак, 400 жыхароў, у складзе саўгаса «Шлях Леніна». Працуюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, аддз. сувязі, пач. школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад-яслі, магазін. Планіроўка квартальная; тры гал. вуліцы арыентаваны з ПнЗ на ПдУ пад вуглом да аўтадарогі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА-БАГУШОЎКА** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 17 км на З ад Бабруйска, 12 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 127 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 36 гаспадарак, 77 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. слабада старавераў у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 29 двароў, 200 жыхароў, меліся заезны двор, піўная крама, малельня. Побач існавала паштовая станцыя — 3 двары, 18 жыхароў. У 1907 г. 32 двары, 243 жыхары. У 1917 г. 65 два-

роў, 390 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны лётчык». У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 243, у 1970 г. 189 жыхароў. У 1986 г. 58 гаспадарак, 142 жыхары, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай.

**СЛАБОДКА** — вёска, цэнтр Слабодкаўскага с/с, за 6 км на З ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 116 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 178 гаспадарак, 482 жыхары (2007).

У 1560 г. сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 7 двароў, 69 жыхароў, млын, у Бабруйскім павеце Мінскай губ., пасесія. У 1844 г. ў складзе маёнтка Качай-Балота, памешчыцкая ўласнасць, 9 двароў, 65 жыхароў. У канцы 19 ст. перастала існаваць. Зноў узнікла ў 1922 г. як пасёлак на колішніх памешчыцкіх землях. У 1926 г. 8 двароў, 33 жыхары. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. пасёлак ператвораны ў вёску. З 20.2.1938 г. цэнтр Брожскага, з 16.7.1954 г. Слабодкаўскага сельсаветаў Бабруйскага р-на. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1941 г. гітлераўцы на паўн.-зах. ускраіне вёскі загубілі больш за 10 тыс. сав. ваеннапалонных і мірных грамадзян. У баях за вызваленне вёскі загінуў 81 сав. воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Больш за 20 землякоў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У 1967 г. да Слабодкі далучана в. Малая Каменка, у 1977 г. — в. Заціша. У 1970 г. 1014 жыхароў. У 1986 г. 136 гаспадарак, 319 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Ёсць лесапільня, 8-гадовая школа-інтэрнат, клуб, б-ка, сельскае ПТВ, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 4 магазіны, кафетэрый, Дом быту. Планіровачна ўяўляе сабой доўгую вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна, перпендыкулярна да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр і сучасная мураваная жылая забудова ўздоўж аўтадарогі. Радзіма Героя Сав. Саюза А.К.Болбаса.

У склад Слабодкаўскага с/с уваходзілі да 1972 г. пас. Дзеднава (цяпер у межах Бабруйска), в. Кісялевічы.



*А.К.Болбас.*

**СПОРНАЕ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Бабруйска, 13 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 128 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Глуск, на Пн мяжуе з лесам. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. хутар, 12 двароў, 106 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 14 двароў, 111 жыхароў. У 1926 г. 26 двароў, 122 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 19 двароў. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 97, у 1970 г. 93 жыхары. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную, арыентаваную мерыдыянальна, пад вуглом да аўтадарогі вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай.

**СТАНЫ** — вёска ў Гарбацэвіцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Бабруйска, 11 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва. На Пд і З працякае р. Ваўчанка (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 45 гаспадарак, 113 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. вёска, 18 двароў, 130 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 25 двароў, 193 жыхары, у 1917 г. 48 двароў, 225 жыхароў. 30.3.1931 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 289, у 1970 г. 295 жыхароў. У 1986 г. 64 гаспадаркі, 202 жы-

хары, у складзе саўгаса «Бабруйскі». Планіроўка набліжана да П-падобнай. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ ШАРАЁЎШЧЫНА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 12 км на У ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, на З і Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 40 гаспадарак, 76 жыхароў (2007).



*А.К.Шмыгун.*

За 0,4 км на ПнЗ ад вёскі захаваўся курганны могільнік (19 насыпаў, належаў дрыгавічам, датуецца 11—13 стст.), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вядома з 19 ст. У 1897 г. пазначана як с. Шараёўшчына, 26 двароў, 226 жыхароў, у Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Мелася царква. Побач быў фальварак, 13 двароў, 112 жыхароў. У 1907 г. 50 двароў, у 1917 г. ў в. Старая Шараёўшчына 60 двароў, 280 жыхароў, а фальварак стаў звацца Шараёўшчына Новая (44 двары, 266 жыхароў). У 1917 г. адкрыта школа (у 1925 г. 43 вучні). 26.2.1925 г. створана каап. аб'яднанне «Маслароб». У жн. 1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 248, у 1970 г. 199 жыхароў. У 1986 г. 65 гаспадарак, 135 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна. Працуюць камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва і магазін. Планіровачна ўяўляе шыротна арыентаваную вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза А.К.Шмыгуна.

**СТАРЫ ДВОР** — вёска ў Варатынскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Амельня на лініі Бабруйск—Жлобін, 74 км ад Магілёва, на р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Сучасная вёска вядома з 19 ст. У 1897 г. маёнтак, 1 двор, 16 жыхароў, у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1923 г. сюды, на былыя памешчыцкія землі, перасяліліся частка сялян з в. Варатынь. У хуткім часе склаўся пасёлак. У 1926 г. 14 двароў, 76 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая ніва». У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 80, у 1970 г. 68 жыхароў. У 1986 г. 20 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой мерыдыянальна арыентаваную вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Восаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 126 км ад Магілёва, на ПдУ і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2007).

За 1,8 км на У ад вёскі захаваўся курганны могільнік (30 насыпаў), які сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вядома з 19 ст. У 1838 г. вёска (68 рэвізскіх душ) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1847 г. 12 двароў, 70 жыхароў, у складзе маёнтка Восава. У 1897 г. 28 двароў, 177 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. У 1907 г. 269 жыхароў, у 1917 г. 42 двары, 288 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1926 г. 60 двароў, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 208, у 1970 г. 178 жыхароў. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 95 жыхароў, у складзе саўгаса «Восава». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную, арыентаваную шыротна пад вуглом да чыгункі вуліцу. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАСЕЎКА** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Бабруйска, 13 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Рабкор, 140 км ад Магілёва, на р. Бярэзіна (басейн Дняпра), на якой дзейнічае паромная пераправа. Побач аўтадарога Баб-

руйск—Мазыр. 157 гаспадарак, 338 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1844 г. вёска, 25 двароў, 213 жыхароў, у складзе маёнтка Каралеўская Слабада Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. 91 двор, 564 жыхары, у Парыцкай вол. У 1907 г. 110 двароў, 919 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу 1917 г. 114 двароў. У вясковай школе ў 1925 г. 88 вучняў. У 1926 г. 171 двор, 957 жыхароў; для школы пабудавана новае памяшканне, а ў 1932 г. — яшчэ адно. Дзейнічаў гурток, у 1930-я г. працавалі школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, гужавая арцель «Лазакрут». У 1930 г. арганізаваны калгас «На варце», меліся кузня і млын. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 66 сав. воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. — 786, у 1970 г. 659 жыхароў. У 1986 г. 210 гаспадарак, 487 жыхароў, цэнтр калгаса імя Фрунзе. Ёсць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, цэх па вырабе кошыкаў і мётлаў, лесапільня, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, ветучастак, 2 магазіны, Дом культуры, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка квартальная; 2 гал. вуліцы арыентаваны шыротна, уздоўж ракі, забудаваны двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Каля ўсх. ускраіны знаходзіцца Стасеўскае радовішча пяскоў (перспектыўныя запасы 27,3 млн. $м^3$).

**СТУПЯНІ** — вёска ў Цялушскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Савічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, на ПнУ чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 98 гаспадаркі, 193 жыхары (2007).

Вядомы з 17 ст. У 1639 г. сяло (23 жыхары мужчынскага полу) у Бабруйскім старостве Мінскага ваяв., уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 81 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, у Бабруйскім павеце Мінскай губ. У 1847 г. 23 двары, 146 жыхароў, у складзе маёнтка Вавулічы. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 449 жыхароў, вятрак, у Туркоўскай вол. У 1907 г. 88 двароў, 536 жыхароў, у 1917 г. 92 двары, 687 жыхароў. У 1926 г. 122 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», працаваў млын. Паводле перапісу 1959 г. — 736, у 1970 г. 628 жыхароў. У 1986 г. 497 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Галоўная плаўна выгнутая вуліца арыентавана шыротна. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЫЧКАВА** — вёска, цэнтр Сычкаўскага с/с, за 8 км на ПнЗ ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 118 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Мінск, на Пн і Пд мяжуе з лесам. 182 гаспадаркі, 394 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1615 г. вёска ва ўладанні Бабруйскай каталіцкай плябаніі. У 1782 г. мелася карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. 26 двароў, 183 жыхары, у складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ. уласнасць памешчыка. У 1858 г. далучана да казённага маёнт-

*Алея герояў у в. Сычкава.*



ка Панюшкавічы. У 1885 г. 33 двары, 180 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. вёска Сычкава (яна ж Панюшкавічы), 59 двароў, 435 жыхароў, хлебазапасны магазін, вінная крама. У 1907 г. 539 жыхароў. У 1909 г. з вёскі было выдзелена 80 хутароў і адрубаў. Паводле перапісу 1917 г. 101 двор, 614 жыхароў. У час польскай акупацыі 1919—20 гг. быў створаны партыз. атрад, які актыўна дзейнічаў супраць акупантаў. 25.2.1919 г. ў маёнтку Панюшкавічы створана с.-г. камуна. У 1925 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі; арганізаваны масларобчы кааператыў «Маланка». У 1926 г. 155 двароў, 752 жыхары. Працавалі вясковая школа, гурток, а ў 1930-я г. — школа па ліквідацыі непісьменнаці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. цэнтр Сычкаўскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-наў. У 1933 г. засн. цагельная арцель «Прагрэс», у 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Сычкава». У Вял. Айч. вайну вызвалена ад акупантаў 27.6.1944 г. 399-й стралк. дывізіяй. У баях за вёску загінулі 183 сав. воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы), сярод іх сяржант, камандзір стралк. аддзялення 399-й стралк. дывізіі, Герой Сав. Саюза М.Р.Селязнёў, які паўтарыў подзвіг А.Матросава. Яго імем названы школа, парк і цэнтр. вуліца вёскі. У гонар воінаў 1-га Бел. фронту, якія ў чэрв. 1944 г. разграмілі Бабруйскую варожую групоўку гітлераўцаў, у 1986 г. ўзведзены мемарыяльны комплекс. 78 землякоў загінулі на фронце. У 1967 г. да вёскі далучаны пасёлак цагельнага з-да «Сычкава». Паводле перапісу 1959 г. — 622, у 1970 г. 763 жыхары. У 1986 г. 302 гаспадаркі, 709 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Працуюць племстанцыя, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 магазіны, клуб, школа вышэйшага спарт. майстэрства, стадыён, спарт. пляцоўкі, дзіцячы сад, музей рэв., баявой і працоўнай Славы, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка квартальная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна, перпендыкулярна да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр і мураваная забудова на Пн. Радзіма журналіста, лаўрэата Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь У.А.Салановіча.

*Мемарыяльны комплекс у в. Сычкава ў гонар воінаў 1-га Беларускага фронту і партызан.*





У склад Сычкаўскага с/с уваходзілі да 1967 г. — г.п. Сычкава, да 1971 г.п. Лучкі, да 1972 г. вёска Яловікі, да 1980 г. вёска Ваўчанка (не існуюць).

**СЯЛІБА** — вёска ў Вішнёўскім с/с, за 7 км на Пд ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 117 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. На У працякае р. Бярэзіна (басейн Дняпра). Побач аўтадарога Бабруйск—Мазыр. 67 гаспадарак, 131 жыхар (2007).

У цэнтры вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, за-

хавалася стаянка эпохі неаліту, якая сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Шміта. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 84 гаспадаркі, 188 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе. Планіровачна ўяўляе сабой вуліцу, мерыдыянальна трасіраваную ўздоўж правага берага ракі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЯЛІБКА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 7 км на У ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 103 км ад Магілёва. На З працякае р. Крапіўка (прыток Бярэзіны), на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Рагачоў. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар Сялібка Ясна-Лясная, 5 двароў, 32 жыхары, у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 9 двароў, 48 жыхароў, у 1917 г. 61 жыхар. У 1926 г. 11 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». Паводле перапісу 1959 г. 43, у 1970 г. 40 жыхароў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ, з двухбаковай драўлянай забудовай.

**ТАЖЫЛАВІЧЫ** — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 87 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 65 гаспадарак, 145 жыхароў (2007).

Вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 15 двароў, у Бабруйскім старостве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентару 1639 г. 47 жыхароў мужчынскага полу, 14 валок зямлі, з якіх 8 пуставалі. У 1838 г. 70 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. На пач. 20 ст. 62 двары, 500 жыхароў, вадзяны млын, у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. Паводле перапісу 1917 г. 74 двары, 513 жыхароў. У вясковай школе ў 1925 г. 91 вучань. У 1926 г. 109 двароў, 569 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 477, у 1970 г. 439 жыхароў. У 1986 г. 115 гаспадарак, 250 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг камуны», клуб, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 8-гадовая школа. Планіровачна ўяўляе сабой 3 плаўна выгнутыя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай.

**ТАКАРЫ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 124 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. хутар, 2 двары, 22 жыхары, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. вёска, 23 двары, 141 жыхар. У 1917 г. аднайменныя вёска (26 двароў, 177 жыхароў) і хутар (11 двароў, 38 жыхароў). У 1926 г. 38 двароў, 194 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 143, у 1970 г. 127 жыхароў. У 1986 г. 36 гаспадарак, 70 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ, з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ТАКАРЫ** — хутар у Сычкаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 125 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар, 11 двароў, 38 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол.

Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 7 двароў, 30 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Чапаева. Паводле перапісу 1959 г. — 36, у 1970 г. 30 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу, забудаваную двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ТАПАРКІ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 127 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1907 г. вёска, 14 двароў, 119 жыхароў, у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 19 двароў, 151 жыхар. У 1926 г. 26 двароў, 159 жыхароў. У 1935 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Тапаркі». У Вял. Айч. вайну 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 128, у 1970 г. 89 жыхароў. У 1986 г. 31 гаспадарка, 42 жыхары, у складзе саўгаса імя Леніна. Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ТРУД** — пасёлак у Варатынскім с/с, за 34 км на ПдУ ад Бабруйска, 16 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 76 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1925 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 12 двароў, 70 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 60, у 1970 г. 45 жыхароў. У 1986 г. 16 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса імя Пушкіна. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ТРУСАЎШЧЫНА** — пасёлак у Гарохаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Бабруйска, 19 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 135 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Слуцк. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. ўрочышча, 3 двары, 16 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У пач. 1920-х г. тут, на былых памешчыцкіх землях, пачаў складвацца пасёлак. У 1926 г. 7 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 36, у 1970 г. 28 жыхароў. У 1986 г. 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ТУГОЛІЦА** — пасёлак у Слабодкаўскім с/с, за 8 км на Пд ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 118 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бабруйск—Глуск, з якой звязана прасёлачнай дарогай. 508 гаспадарак, 1270 жыхароў (2007).

Засн. ў 1928 г. ў сувязі з распрацоўкай у наваколлі залежаў торфу. Адначасова з пашырэннем вытв-сці складваўся жылы пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. — 735, у 1970 г. 946 жыхароў. У 1986 г. 345 гаспадарак, 976 жыхароў. Забудова ўздоўж вул. Імя 60-годдзя Кастрычніка, у пачатку якой размешчаны торфабрыкетны з-д з вытворчымі і адм. будынкамі. Грамадска-гандл. цэнтр складаюць 2-павярховыя будынкі універмага, сярэдняй школы, перасовачная механізаваная калона, 2—3-павярховыя жылыя дамы. У завершы Клубнага завулка размешчаны Дом культуры і дзіцячы сад. Драўляная, сядзібнага тыпу забудова сканцэнтравана па вул. Дуброўнай. У пасёлку размешчаны таксама цагельны з-д, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва,

аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны, сталовая. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 60 кватэр для перасяленцаў з месцаў, забруджаных радыяцыяй у выніку чарнобыльскай катастрофы.

**ТУРКІ** — вёска ў Варатынскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Бабруйска, 6 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 80 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. На З працякае р. Ала (прыток Бярэзіны). 142 гаспадаркі, 360 жыхароў (2007).

Вядома з 1639 г. як сяло Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1970 г. ва ўладанні Булгака. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1804 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, узведзена драўляная царква. У 1838 г. 170 жыхароў мужчынскага полу. У 1871 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў будынку вал. ўпраўлення, а ў 1896 г. для яе пабудавана новае памяшканне (у 1891 г. 57 вучняў). У 1885 г. 526 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 90 двароў, 598 жыхароў, 2 ветракі, 2 крамы, лячэбны пакой, заезны двор; раз на год адбываўся кірмаш. Побач быў маёнтак, 2 двары, 34 жыхары. У 1898 г. замест састарэлага ўзведзены новы будынак царквы. У 1907 г. ў сяле 104 двары, 679 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 32 жыхары. У 1917 г. ў сяле 119 двароў, 761 жыхар, у маёнтку 37 жыхароў. У грамадз. вайну дзейнічаў валасны рэўком. У 1922 г. ў маёнтку створана с.-г. арцель «Месяц», якая мела 160 га зямлі, пачала дзейнічаць бальніца. Да вёскі ў 1923 г. далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У студз. 1924 г. адкрыта хата-чытальня і створана крэдытнае т-ва. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Туркоўскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцях. У вясковай школе ў 1925 г. 118 вучняў. У жн. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Туркі», працавалі млын, кузня, тарфяная арцель «Агеньчык». У Вял. Айч. вайну 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 612, у 1917 г. 510 жыхароў. У 1986 г. 179 гаспадарак, 397 жыхароў, цэнтр калгаса «Прагрэс». Ёсць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, сярэдняя школа, сталовая, клуб-б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка, 2 магазіны, Дом быту. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, трасіраваную мерыдыянальна, перпендыкулярна да аўтадарогі. Пераважае драўляная жылая забудова сядзібнага тыпу. Мураваныя будынкі — уздоўж дарогі. Радзіма бел. пісьменніка А.Дзятлава.

**ТУРКАЎСКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Варатынскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Цялушка на лініі Бабруйск—Жлобін, 77 км ад Магілёва, каля аўтадарогі Бабруйск—Жлобін. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. Слабада Туркі, 71 двор, 386 жыхароў, у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 75 двароў, 445 жыхароў. У цэнтры вёскі ў пач. 20 ст. пабудавана з дрэва царква (зараз помнік драўлянага дойлідства). У



*Панарама в. Туркоўская Слабада з царквой Пакрова Прасвятой Багародзіцы.*

1926 г. 101 двор, 500 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», працаваў млын. У Вял. Айч. вайну 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1967 г. далучаны хутар Шчыгельскі. Паводле перапісу 1959 г. — 310, у 1970 г. 282 жыхары. У 1986 г. 69 гаспадарак, 156 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс». Планіровачна ўяўляе сабой 2 узаемаперпендыкулярныя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**УБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Слабодкаўскім с/с, за 5 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Бабруйск, 115 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск, з якой звязана прасёлачнай дарогай. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома 19 ст. У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. — 62, у 1970 г. 55 жыхароў. У 1986 г. 17 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Планіровачна ўяўляе сабой шыротна арыентаваную кароткую вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай.

**УЗНОГА** — вёска ў Бортнікаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 86 км ад Магілёва. На У р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 35 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска, 53 двары, 385 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 66 двароў, 432 жыхары. У 1919 г. адкрыта школа, для якой у 1923 г. ўзведзены будынак (у 1925 г. 51 вучань). У 1926 г. 70 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Літвінава, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 349, у 1970 г. 265 жыхароў. У 1986 г. 80 гаспадарак, 150 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. Ёсць лесапільня, клуб, б-ка, магазін. Планіроўка квартальная. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**УСХОД** — вёска ў Цялушскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Бабруйска, 7 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бабруйск—Жлобін, 93 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў 1924 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 19 двароў, 105 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 107, у 1970 г. 93 жыхары. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ФАРТУНЫ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Бабруйска, 18 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 133 км ад Магілёва, непадалёку аўтадарога Бабруйск—Глуск. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст., калі ў вёсцы мелася школа граматы, у 1890 г. была закрыта. У 1897 г. 17 двароў, 114 жыхароў, у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 22 двары, 137 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 162 жыхары. У 1926 г. 23 двары. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. антыфашысцкая група. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 70, у 1970 г. 38 жыхароў. У 1986 г. 19 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ХАРОШЫЯ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Бабруйска, 14 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 128 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Глуск. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар Харошае (ён жа Чатыраўвалокі), 5 двароў, 32

жыхары, у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 49 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол., у 1917 г. 12 двароў, 88 жыхароў. У 1926 г. пасёлак, 30 двароў, 133 жыхары. У канцы 1920-х г. ператвораны ў вёску. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны май», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 73, у 1970 г. 51 жыхар. У 1986 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна і забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ХІМЫ** — вёска, цэнтр Хімоўскага с/с, за 12 км на ПнУ ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, на ПнУ меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 125 гаспадарак, 324 жыхары (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1838 г. вёска (115 рэвізскіх душ) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. 74 двары, 658 жыхароў, хлебазапасны магазін і вінная крама, у Бортніцкай (Бортнікаўскай) вол. У 1904 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1907 г. 98 двароў, 726 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 124 двары, 804 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Хімоўскага с/с Бабруйскага 2-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-наў. У 1925 г. далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У вясковай школе ў 1925 г. 108 вучняў. У 1926 г. для яе пабудавана памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1941 г. партызаны разграмілі вал. ўправу акупантаў, якая размяшчалася ў вёсцы. 28.6.1944 г. ў баі за вызваленне былой в. Зарэчча (у 1967 г. далучана да в. Хімы) вызначыўся старшы лейтэнант М.І.Кліменка (удастоены звання Героя Сав. Саюза). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 24 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 121, у 1970 г. 193 жыхары. У 1986 г. 84 гаспадаркі, 205 жыхароў, цэнтр калгаса «Шлях Леніна». Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, асфальтабетонны з-д, сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, клуб, 2 магазіны, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Планіровачна ўяўляе сабой 3 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і забудаваныя драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У склад Хімоўскага с/с да 1967 г. ўваходзілі вёскі Зарэчча, Рэкорд, Новая Вёска, да 1976 г. вёскі Новае Вялічкава і Старое Вялічкава (не існуюць).

**ЦІЎНАВІЧЫ** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Бабруйска, 45 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 118 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Мінск—Бабруйск. 37 гаспадарак, 64 жыхары (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1847 г. вёска, 8 двароў, 57 жыхароў, у складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1857 г. ўласнасць казны. У 1867 г. сяляне правялі самавольную парубку казённага лесу. У 1897 г. вёска Ціўнавічы (яна ж Панюшкавічы), 23 двары, 156 жыхароў. У 1907 г. 180 жыхароў, у Гарбацэвіцкай вол. У 1915 г. з вёскі былі выдзелены 23 хутары. Паводле перапісу 1917 г. 39 двароў, 234 жыхары. У 1926 г. 43 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 161, у 1970 г. 159 жыхароў. У 1986 г. 58 гаспадарак, 109 жыхароў, у складзе саўгаса імя Леніна. Ёсць магазін, спарт. пляцоўка. Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЦЯЛУША** — вёска, цэнтр Цялушскага с/с, за 16 км на ПдУ ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Цялуша на лініі Бубруйск—Жлобін, 94 км ад Магілёва, на аўтадарозе


Царква ў в. Цялуша.

Бабруйск—Жлобін. 241 гаспадарка, 559 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1830 г. пабудавана з дрэва царква. У 1838 г. 141 жыхар мужчынскага полу. У 1863 г. адкрыта школа, для якой у 1866 г. пабудавана памяшканне (у 1891 г. 44 вучні). У 1885 г. сяло, 57 двароў, 564 жыхары, у Туркоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 713 жыхароў, крама, 2 ветракі, заезны двор; раз на год (9 мая) праводзіліся таржкі. На мяжы 19—20 ст. у цэнтры вёскі замест састарэлай пабудавана мураваная царква (помнік архітэктуры псеўдарускага стылю). У 1907 г. 123 двары, 874 жыхары. 2.1.1914 г. вяскоўцы забілі лесніка эканоміі ў адплату за здзекі над сялянамі. У вёсцы пахавана П.А.Варанцова-Вельямінава — унучка А.С.Пушкіна, дачка старэйшага сына паэта, якая некаторы час жыла ў маёнтку Вавулічы і памерла 3.12.1912 г. У 1917 г. ў вёсцы 161 двор, 1134 жыхары. У вясковай школе ў 1923 г. 107 вучняў. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі, адкрыты фельчарскі пункт, у 1926 г. — хата-чытальня. З 20.8.1924 г. цэнтр Цялушскага с/с Бабруйскага 1-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага р-наў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. На пач. 1930-х г. створана Цялушская МТС, якая ў 1936 г. мела 46 трактароў і іншую тэхніку, абслугоўвала калгасы сельсаветаў. Дзейнічалі машынна-трактарная майстэрня, кузня і млын. Палітаддзел Цялушскай МТС у 1933—34 гг. выпускаў газ. «Палітаддзельская праўда» і газету для дзяцей «Піянерская звязда» (№1 выйшаў 1.8.1934 г.). У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны 1943 г. да вызвалення сав. войскамі актыўна дзейнічалі антыфаш. падполле і дыверсійная група (36 патрыётаў, кіраўнік А.В.Руднёў). У баях каля вёскі загінулі 9 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 58 землякоў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1946—63 гг. у вёсцы працаваў дзіцячы дом. Паводле перапісу 1959 г. — 1211, у 1970 г. 987 жыхароў. У 1986 г. 261 гаспадарка, 815 жыхароў, цэнтр калгаса імя Мічурына. Дзейнічаюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, машынны двор, цэх па вырабе дэталей з дрэва, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, участковая бальніца, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, ветэрынарны ўчастак, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, 2 б-кі, клуб, 2 магазіны. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

Сучасная забудова в. Цялуша.


У склад Цялушскага с/с уваходзілі да 1966 г. вёскі Жалінцы, Новы Быт, Зялёны Гай, да 1967 г. пасёлкі Слабада, Бярацін, Культура, Рэпішча, Чырвоны Востраў, Чырвоная Звязда і Чырвоны Араты, в. Чырвоная Горка (не існуюць).

**ЦЯРЭШКАВА** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 122 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 17 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 44 жыхары. У 1930 г. ператвораны ў вёску, арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 3 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЧАРНІЦА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 8 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Бабруйск, 118 км ад Магілёва, на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 10 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак.У 1926 г. хутар, 7 двароў, 36 жыхароў, пазней ператвораны ў вёску. У 1935 г. арганізаваны калгас «Пераможца». У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 37 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Сярод пахаваных Герой Сав. Саюза, капітан, камандзір стралк. роты 457-га стралк. палка 129-й стралк. дывізіі А.І.Чарныш. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 101, у 1970 г. 76 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе цяплічнага саўгаса-камбіната «Бабруйскі». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЧЫРВОНЫ** — пасёлак ў Цялушскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Бабруйска, 4 км ад чыг. ст. Плёсы на лініі Бабруйск—Жлобін, 92 км ад Магілёва. Недалёка ад дарогі Бабруйск—Рагачоў.

Засн. ў 1922 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 10 двароў, 61 жыхар. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 52, у 1970 г. 36 жыхароў. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына. Забудова драўляная.

**ЧЫРВОНЫ АГАРОД** — пасёлак у Гарохаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Бабруйска, 21 км ад чыг. ст. Мірадзіна на лініі Бабруйск—Мінск, 136 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Слуцк. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

За 0,6 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Востраў, захаваўся стараж. могільнік (46 насыпаў); за 0,5 км на ПнЗ, на левым беразе р. Красная (прыток р. Пціч) — другі (7 насыпаў). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні чалавекам тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 15 двароў, 62 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. — 32, у 1970 г. 30 жыхароў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ і забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЧЫРВОНЫ БРОД** — чыг. станцыя на лініі Бабруйск—Рабкор у Вішнёўскім с/с, за 13 км на Пд ад Бабруйска, 123 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Бабруйск—Мазыр. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1916 г. раз'езд на чыгунцы, 1 двор, 8 жыхароў, у Брожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1921 г. 4 двары, 23 жыхары. У 1940 г. 17 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вай-

ну ў чэрв. 1944 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі станцыю. Паводле перапісу 1959 г. — 13, у 1970 г. 27 жыхароў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. Забудавана ўздоўж чыгункі, уключае станцыю з пабудовамі і жылыя дамы сядзібнага тыпу.

**ШЧАТКАВА** — вёска ў Сычкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад горада і чыг. ст. Бабруйск, 119 км ад Магілёва, на р. Бярэзіна (басейн Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 76 гаспадарак, 172 жыхары (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі, на беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарадок, захавалася гарадзішча ранняга жал. веку (мілаградская і зарубінецкая культуры, датуецца канцом 6 ст. да н.э. — 1—2 ст. н.э.). Каля ўсх. боку гарадзішча захавалася селішча, якое датуецца 3—7 ст. н.э. За 0,5—0,8 км на ПдЗ ад гарадзішча, на правым беразе р. Панюшкавічы, каля яе ўпадзення ў Бярэзіну — селішча эпохі Кіеўскай Русі. За 0,2—0,3 км на Пн ад яго ёсць яшчэ адно паселішча. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні чалавекам тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 1834 г., калі тут было 20 двароў, каля 80 жыхароў, ва ўладанні памешчыка. У 1897 г. 25 двароў, 180 жыхароў, вятрак, карчма, хлебазапасны магазін, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Побач існавала аднайменная сядзіба. У 1907 г. ў вёсцы 210 жыхароў, у маёнтку 16 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. ў вёсцы 62 двары, 297 жыхароў, у маёнтку 26 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1931 г. арганізаваны калгас імя ГПУ. У Вял. Айч. вайну з вер. 1941 г. да вызвалення дзейнічала падп. арганізацыя (27 чал., кіраўнік А.А.Маеўскі). Падпольшчыкі падбіралі і перапраўлялі ў партыз. атрады людзей, дапамагалі партызанам зброяй, боепрыпасамі, прадуктамі, медыкаментамі, вялі сярод насельніцтва масава-палітычную работу, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. Акупанты загубілі 11 падпольшчыкаў. Вызвалена 28.6.1944 г. 129-й стралк. дывізіяй. У баях каля вёскі вызначыліся лейтэнант С.А.Палавін, старшы лейтэнант В.М.Пятроў, старшына А.А.Бурнашаў, яфрэйтар І.М.Карніенка (прысвоены званні Героя Сав. Саюза). Загінулі 124 сав. воіны (пахаваны ў 2 брацкіх магілах на могілках). Сярод пахаваных — Героі Сав. Саюза нам. камандзіра батальёна 129-й стралк. дывізіі, старшы лейтэнант М.А.Калодка і камандзір батарэі той жа дывізіі, старшы лейтэнант І.Ф.Маслоўскі. 47 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе Паводле перапісу 1959 г. — 232, у 1970 г. 248 жыхароў. У 1986 г. 105 гаспадарак, 310 жыхароў, у складзе цяплічнага саўгаса-камбіната «Бабруйскі». Ёсць пач. школа, клуб-бібліятэка, дзіцячы сад-яслі, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка вёскі набліжана да П-падобнай. Галоўная плаўна выгнутая вуліца забудавана двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮБІЛЕЙНЫ** — пасёлак у Слабодкаўскім с/с, за 4 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Бабруйск, 114 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Бабруйска. 121 гаспадарка, 343 жыхары (2007).

Засн. ў 1969 г. як цэнтр сядзібы толькі што створанага на меліяраваных землях саўгаса «Кісялевічы». 21.1.1969 г. атрымаў назву Юбілейны ў гонар 25-годдзя перамогі савецкага народа над гітлераўскай Германіяй у Вял. Айч. вайне. У 1986 г. 102 гаспадаркі, 350 жыхароў, цэнтр саўгаса. Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, лазня, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая. Планіроўка з узаемаперпендыкулярнымі прамымі вуліцамі. Жылую

забудову складаюць пераважна мураваныя 1—2-павярховыя дамы.

**ЮР'ЕВА** (да 30.7.1964 г. Жарабцы) — вёска ў Кавалёўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Бабруйска, 2 км ад чыг. ст. Мікулічы на лініі Бабруйск—Жлобін, 81 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 59 гаспадарак, 119 жыхароў (2007).

Вядома з 1560 г. як с. Жарабцы ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 8 дымоў, у Бабруйскім старостве. У 1786 г. 14 дымоў, у складзе маёнтка Міхалёва, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 86 рэвізскіх душ. У 1844 г. 19 двароў, 204 жыхары, у складзе маёнтка Ямін Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 2-й пал. 19 ст. мелася школа граматы (у 1890 г. закрыта). Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 556 жыхароў, заезны двор, у Туркоўскай вол. У 1907 г. 93 двары, 617 жыхароў. У 1908 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. У 1917 г. 119 двароў, 660 жыхароў. У вясковай школе ў 1923 г. 91, у 1925 г. — 165 вучняў. У 1926 г. 139 двароў, 699 жыхароў. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 474, у 1970 г. 372 жыхары. У 1986 г. 113 гаспадарак, 240 жыхароў, у складзе калгаса імя А.Неўскага. Ёсць клуб і магазін. Планіровачна ўяўляе сабой 2 узаемаперпендыкулярныя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ.

**ЯЛЕНАЎКА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 22 м на З ад Бабруйска, 8 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 132 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Мінск.

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска Яленаўка (яна ж Уюнішча), 17 двароў, 102 жыхары, у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 23 двары, 117 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Крупскай. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 84, у 1970 г. 72 жыхары. У 1986 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Дойнічава». Планіровачна ўяўляе сабой прамалінейную вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна, з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЯСЕНЬ-КАМЕНКА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 19 км на З ад Бабруйска, 3 км ад чыг. ст. Ясень на лініі Бабруйск—Мінск, 129 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Бабруйск. 27 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска Каменка-Ясеньская, 38 двароў, 254 жыхары, у Гарбацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. — 324, у 1917 г. 390 жыхароў. У 1922 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1924 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1925 г. 49 вучняў і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых). У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 16 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), 10 землякоў — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 254, у 1970 г. 202 жыхары. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 111 жыхароў, у складзе саўгаса «Восава». Працуе магазін. Планіровачна ўяўляе сабой плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную шыротна і падзеленую на зах. і ўсх. часткі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯСЁНЫ** — вёска ў Гарохаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Бабруйска, 16 км ад чыг. ст. Чырвоны Брод на лініі Бабруйск—Рабкор, 130 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бабруйск—Глуск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядомы з 16 ст. як в. Ясёна, 5 двароў, у складзе маёнтка Глуск Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1907 г. 11 двароў, 110 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 14 двароў, у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 18 двароў, 84 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. — 44, у 1970 г. 29 жыхароў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарохаўскі». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую, плаўна выгнутую, арыентаваную шыротна вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЯСНЫ ЛЕС** — вёска ў Хімоўскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Бабруйска і чыг. ст. Бярэзіна на лініі Бабруйск—Жлобін, 101 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бабруйск—Магілёў. 62 гаспадаркі, 135 жыхароў (2007).

Вядомы з 18 ст. Прывілеем караля Станіслава Аўгуста ў 1777 г. аддадзена памешчыку І.В.Воўк-Левановічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. 33 двары, 202 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Побач існаваў маёнтак, 2 двары, 15 жыхароў. У 1907 г. 205 жыхароў, у 1917 г. 34 двары, 237 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якой у 1921 г. перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 49 вучняў). У 1921 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 53 двары, 274 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 92 сав. воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 33 землякі не вярнуліся з фронту. У 1967 г. далучана в. Рэкорд. Паводле перапісу 1959 г. — 209 жыхароў. У 1986 г. 111 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Дзейнічаюць прамтаварны і прадуктовы магазіны, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка П-падобная. Гал. вуліца арыентавана шыротна. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 28, спр. 243; ф. 6, воп. 1, спр. 2444; воп. 2, спр. 1433; воп. 6, спр. 6061; ф. 30, воп. 1, спр. 6758; воп. 2, спр. 5, 104, 1432, 1433, 1435, 6061, 6753, 6758; воп. 9, спр. 2387, 2392; ф. 31, воп. 1, спр. 59, 920; ф. 42, воп. 1, спр. 658, 687, 1007, 1064, 1306, 1756, 1833, 2072, 2135; воп. 2, спр. 35, 40, 41, 43, 45, 46, 59—61, 91, 155, 180, 181, 186, 2042, 2049, 2052, 2054, 2061, 2065, 2066, 2068, 2069, 2071—2076, 2078—2082, 2084—2086, 2089—2098, 2100—2103, 2105—2107; ф. 46, воп. 1, спр. 142; воп. 18, спр. 421; ф. 48, воп. 1, спр. 641, 659, 2135, 2271, 2861, 2881, 2962, 3412, 4024, 4026, 4432, 4935, 4962, 6589; ф. 53, воп. 1, спр. 15; ф. 60, воп. 1, спр. 51; ф. 141, воп. 1, спр. 454; ф. 251, воп. 1, спр. 264, 265, 2070; ф. 258, воп. 1, спр. 5; воп. 2, спр. 5; ф. 300, воп. 1, спр. 73, 226; ф. 334, воп. 1, спр. 71, 323, 470, 500; воп. 2, спр. 31, 33, 37; ф. 338, воп. 1, спр. 140, 323; воп. 3, спр. 11; ф. 1024, воп. 5, спр. 176; ф. 3500, воп. 4, спр. 98.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (у Мінску), ф. 26, воп. 5, спр. 645; ф. 27, воп. 1, спр. 9; воп. 5, спр. 606, 645; воп. 6, спр. 14; ф. 52, воп. 1, спр. 15; ф. 120, воп. 1, спр. 3; ф. 142, воп. 1, спр. 1, 7, 45, 47, 50, 69, 73, 117, 172, 178; ф. 150, воп. 1, спр. 1840; ф. 183, воп. 2, спр. 1975; ф. 333, воп. 1, спр. 527; воп. 2, спр. 2180, 2185; воп. 9, спр. 527; ф. 694, воп. 1, спр. 177; воп. 2, спр. 744, 745, 2410; воп. 7, спр. 220, 221; ф. 1737, воп. 1, спр. 6; ф. 1781, воп. 27, спр. 217; ф. 1783, воп. 1, спр. 10; ф. 2151, воп. 1, спр. 108; КМФ-5, воп. 1, спр. 2477.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 11, воп. 2, спр. 60, 65; ф. 1135, воп. 17, спр. 148; ф. 459, воп. 1, спр. 594; ф. ДА, спр. 3378, 3774, 3801, 3876.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 6636, воп. 1, спр. 1.

Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 295, воп. 1, спр. 325; ф. 311, воп. 1, спр. 113.
Філіял Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці ў Бабруйску, ф. 447, воп. 1, спр. 9.
Дзяржаўны архіў горада Мазыра, ф. 30, воп. 1, спр. 1.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 27, 73, 229, 261.
Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў, ф. 349, воп. 3, спр. 5141, 5889, 5894, 5904, 5906, 5999, 6092, 6093, 6456, 6457; ф. ВУА, спр. 18840.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 333, воп. 2, спр. 2185; ф. 823, воп. 1, спр. 211; ф. 1290, воп. 11, спр. 1244, 1294, 1394.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 1350, воп. 312, спр. 89.
Топографическое описание Минской губернии 1800 г.
Бутурлин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 г. Ч. 1. СПб., 1823.
Приложения к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. Минская губерния. СПб., 1860.
Зеленский И. Материалы для географии и статистики России... Минская губерния. Ч. 2. СПб., 1864.
Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1865 г. Мн., 1864.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1878 г. Ч. 2. Мн., 1878.
Статистические сведения о церквях и причтах Минской епархии. Мн., 1880.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Отчет о церковноприходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Мн., 1891.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1891/92 учебный год.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1894/95 учебный год.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 25, вып. 6. Вильна, 1898.
Товаров А.В. Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии. Мн., 1903.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. [Т.] 22. Минская губерния. СПб., 1904.
Города России в 1904 г. СПб., 1906.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1913 г. Мн., 1912.
Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1917 г. Мн., 1916.
Красноармеец. 1920. 14 нояб.
Полесская правда. 1920. 16 нояб.
Список населенных мест Б.С.С.Р. (б. Минская губерния). Мн., 1924.
Майзель Л.Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: хроніка падзей. Мн., 1934.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Шекун О. Отечественная война против немецких захватчиков в 1918 году в Белоруссии. Мн., 1944.
В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте. Мн., 1957.
Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 1. Мн., 1957.
Лукьянов Е.П. Крестьянское движение в Белоруссии накануне Великой Октябрьской социалистической революции. Мн., 1958.
Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 3—4, Мн., 1961—79.
Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии и. Ч. 1 (1883—1918 гг.). Мн., 1962; Ч. 2 (1919 г. — июнь 1941 г.). Мн., 1970.
Итоги Всесоюзной переписи населения 1959 г.: Белорусская ССР. М., 1963.
Бобруйск: историко-эконом. очерк. Мн., 1965.
Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII. Мн., 1966.
Магілёўская праўда. 1968. 15 чэрв.
Яцкевіч І. М.І.Калінін у Савецкай Беларусі. Мн., 1970.

Селиванов П.А. Военное строительство в Белоруссии в период разгрома походов Антанты. Мн., 1973.
Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд. М., 1974.
За Советскую Родину!: о коммунист. подполье, действовавшем в Бобруйске и Бобруйском районе в годы Вел. Отечеств. войны (июль 1941 — июнь 1944 гг.) // Советская Белоруссия. 1975. 19—20 апр.
Навечно в сердце народном. 3 изд. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944. Мн., 1984.
Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са старажыт. часоў да 1917 г. Мн., 1985.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 3. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Башко П.К. Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март—октябрь 1917 г.). Мн., 1987.
Литовская метрика. Кн. 564 (1553—1567). Книга публичных дел 7 / Подготовил А.Балюлис. Вильнюс, 1996.
Гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць». Бабруйск. Мн., 1998.



# БЫХАЎСКІ РАЁН



Рака Дняпро каля Быхава.

Размешчаны на Пд Магілёўскай вобласці. Утвораны 17.7.1924 г. ў Магілёўскай акрузе (да 26.7.1930 г.). З 15.1.1938 г. ў складзе Магілёўскай вобласці. Пл. раёна 2,3 тыс. $км^2$. Насельніцтва 20 684 тыс. чал. (2007). Сярэдняя шчыльнасць 9 чал. на 1 $км^2$. Цэнтр — г. Быхаў. У раён уваходзяць 193 населеныя пункты. Адміністрацыйна падзяляецца на 15 сельсаветаў: Абідавіцкі, Баркалабаўскі, Верхнятошчыцкі, Гарадзецкі, Глухскі, Грудзінаўскі, Дунайкаўскі, Лудчыцкі, Навабыхаўскі, Следзюкоўскі, Смаліцкі, Холстаўскі, Чарнаборскі, Чырвонаслабодскі, Ямніцкі.

Тэрыторыя раёна ляжыць у межах Цэнтральнабярэзінскай і Аршанска-Магілёўскай раўнін. Паверхня раўнінная. Пераважаюць вышыні 150—160 м, найвышэйшы пункт 183,5 м знаходзіцца каля в. Трылесіна. З карысных выкапняў ёсць торф, мел, пясчана-жвіровы матэрыял, керамічныя гліны. Сярэдняя тэмпература студз. -7,2 °C, ліп. 18 °C. Ападкаў 650 мм за год. Вегетацыйны перыяд 189 сутак. З рэк, што працякаюць па тэр. раёна, найбольшая р. Дняпро з прытокамі Чарнаўка, Бабро́ўка, Трасна, Ухлясць, Тошчыца, Адаменка, Лахва, Рдзіца, Макранка, па зах. частцы — р. Друць з прытокам Грэза, на якой на мяжы з Кіраўскім р-нам створана Чыгірынскае вадасховішча. Па Дняпры суднаходства. Пашыраны дзярнова-падзолістыя і дзярнова-падзолістыя забалочаныя глебы. Пад лясамі 45% плошчы, пераважаюць хваёвыя, яловыя, бярозавыя. У раёне створаны ландшафтны заказнік рэсп. значэння Старыца. Помнікі прыроды рэсп. значэння: Грудзінаўскі

*Чыгірынскае вадасховішча ў Быхаўскім раёне.*

*Аўтадарога Быхаў—Кіраўск.*







*Лес у Быхаўскім раёне.*

парк у в. Грудзінаўка, хвоі-гіганты каля в. Барсукі.

Пл. с.-г. угоддзяў (2005) складае 43,6% тэрыторыі. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі (СВК «Следзюкі»). Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу. Працуюць саўгасы «Вараніна» і «Халстава», ААТ «Быхаўмалако», фермерскія гаспадаркі; прадпрыемствы харч., паліўнай, швейнай прам-сці; вытв-сць будматэрыялаў. У раёне (2005) 16 сярэдніх, 6 базавых, 12 комплексаў школа-сад, ліцэй, гімназія, 18 дашкольных і 47 клубных устаноў, 23 кінаўстаноўкі, 40 б-к, 4 бальніцы на 265 ложкаў, 7 амбулаторый, 36 фельч.-акушэрскіх пунктаў і інш. Працуюць (2008) 2 цэнтры культуры, 16 дамоў культуры, 17 клубных устаноў, 35 публічных б-к, 18 комплексна-прыёмных пунктаў быт. абслугоўвання насельніцтва, 31 фельч.-акушэрскі пункт, 42 аддз. сувязі, 8 СВК. Зоны адпачынку мясц. значэння — Лахва, Чыгірынка. Мемарыял воінскай славы на месцы баёў у гады Вял. Айч. вайны (в. Лудчыцы), мемарыяльны комплекс у гонар Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы (каля в. Барсукі). Арх. помнікі: царква (19 ст.) у в. Балонаў Сялец, царква Казанскай Маці Божай (1904) у в. Баркалабава, палацава-паркавы ансамбль пач. 19 ст. ў в. Грудзінаўка, царква пач. 20 ст. ў в. Лубянка, Успенская царква (1865) у в. Мокрае. Выдаецца газ. «Маяк Прыдняпроўя».



*Цэнтральнабярэзінская раўніна ў Быхаўскім раёне.*



*Уборачная ў Быхаўскім раёне. 2007 г.*

**БЫХАЎ** — горад раённага падпарадкавання, цэнтр раёна; прыстань на правым беразе Дняпра. За 51 км на Пд ад Магілёва; чыг. ст. на лініі Магілёў—Жлобін, аўтадарогамі злучаны з Магілёвам, Рагачовам, Гомелем, Бабруйскам. 16,4 тыс. жыхароў (2007).

Першыя паселішчы чалавека на тэр. сучаснага Быхава і яго ваколіц паявіліся ў глыбокай старажытнасці. Ва ўрочышчы Узлужжа, што за 2 км на Пд ад горада, на левым беразе р. Рдзіца і на правым беразе Дняпра, знойдзены сляды паселішча 1-га тыс. н.э. і эпохі Кіеўскай Русі; на паўд. ускраіне горада — стараж. паселішча, у самім горадзе — гарадзішча мілаградскай, ранняга этапу зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі. Згодна з паданнем стараж. Быхаў склаўся на месцы ўмацаванага гарадзішча, дзе пазней быў узведзены замак, які размяшчаўся ў балоцістай мясцовасці і служыў надзейным схо-

вішчам ад варожых нападаў, г. зн. «быў хоў» (адсюль назва).

Паводле пісьмовых крыніц упершыню згадваецца як Стары Быхаў у 14 ст. ў складзе Кіеўскага княства ВКЛ. У 1430 г. ўпамінаецца як уладанне Свідрыгайлы (пасля смерці Вітаўта — вял. кн. літоўскі ў 1430—32 гг.). З 16 ст. ў складзе Рэчы Паспалітай. Прывілеямі караля Сігізмунда Аўгуста ад 1556 і 1568 гг. падараваны старасце жмудскаму і губернатару ліфляндскаму Яну Хадкевічу, які стаў наз. графам на Быхаве. У 1560 г. цэнтр воласці. Гетман ВКЛ Ян Кароль Хадкевіч у 1590—1610 гг. узвёў тут замак іператварыў Быхаў у магутную крэпасць. У 1600 г. засн. Старабыхаўскі кляштар, у 1613 г. пабудаваны касцёл. У 1603 г. Быхаў упамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы. З 1628 г., паводле шлюбнага дагавору дачкі Хадкевіча Ганны з літ. маршалкам Іванам Сапегам, перайшоў ва ўладанне Сапегаў. Тэрыторыя к р э п а с ц і складала каля 25 га. Размяшчаліся жылая забудова, рыначная плошча з гандл. радамі, кляштар, 2 праваслаўныя царквы, сінагога, кузня, 2 бровары. Сістэму ўмацаванняў складалі валы з бастыёнамі і равамі, утвараючы паўкруг радыусам 400 м. Сам горад знаходзіўся на роўным плато. З а м а к узмацняў усх. бок фартыфікацыйнай сістэмы горада-крэпасці, быў кампазіцыйнай дамінантай Старога Быхава. Аддзелены ад горада дадатковым ровам і пад'ёмным мостам, ён меў уласныя абарончыя прыстасаванні. Складаўся з некалькіх мураваных карпусоў, якія ўтваралі няправільны чатырохвугольнік памерам 75 × 70 м. З Пн унутраны двор замыкаўся муравай сцяной з выхадам на гар. вал. У напрамку да Дняпра быў выцягнуты 2-павярховы (з падвалам) будынак палаца, накрыты клінападобным чарапічным дахам. Да ўсх. і паўд. фасадаў далучаліся 5-ярусныя гранёныя вежы. На Пд знаходзіўся 2-павярховы службовы корпус, за якім цягнулася мураваная сцяна. З зах. боку замкавага двара размяшчаліся казармы з 8-граннымі вуглавымі вежамі і ўязная брама з



*Чыгірынскае вадасховішча зімой.*

пад'ёмным мостам. Мураваны будынак сінагогі, які з'яўляўся самастойным абарончым пунктам, быў узведзены ў пач. 17 ст. і меў рысы абарончага дойлідства, рэнесанса і барока. У канцы 16 ст., падчас антыфеад. паўстанняў на Украіне і Беларусі, у наваколлі Быхава дзейнічалі казацкія атрады пад кіраўніцтвам Мацюшы,



*Наведванне прадстаўнікамі расійскіх сродкаў масавай інфармацыі Быхаўскага раёна. Кастрычнік 2007 г.*



*Канцэрт для працаўнікоў Быхаўскага раёна.*



*Месца адпачынку каля аўтадарогі Быхаў—Кіраўск.*



*Вежа Быхаўскага палаца (замка).*

Севярына Налівайкі. У 1-й пал. 17 ст. ў адрозненне ад узнікшага мяст. Новы Быхаў сам Быхаў пачынаюць наз. Старым Быхавам; стаў цэнтрам Быхаўскага графства ў Аршанскім павеце. У снеж. 1648 г. горад асаджала, але не здолела ўзяць казацкае войска на чале з Філонам Гаркушай. Зімой 1655 г. казацкія палкі пад камандаваннем гетмана Івана Залатарэнкі авалодалі Быхавам. У баі ён быў смяротна паранены. Казацкія атрады ўзначаліў Іван Нячай, які ў хуткім часе перайшоў на бок польскіх улад і ў 1659 г. адкрыта выступіў супраць рус. войск. На падаўленне мяцежнікаў з Магілёва прыбыло войска пад камандаваннем маскоўскіх ваяводаў Далгарукава, Лабанава-Растоўскага і Змеева. І.Нячай, пацярпеўшы паражэнне пад Мсціславам, схаваўся з рэшткамі палкоў у Быхаўскай крэпасці. У маі рус. войскі акружылі горад і 4.12.1659 г. штурмам авалодалі ім. У 1655 г. граматай польскага караля Казіміра Яна Сапегі Быхаў на 20 гадоў быў вызвалены ад па-



*Пры ўездзе ў горад: стэнд з запрашэннем на Быхаўшчыну.*



*Царква ў гонар Святой Тройцы ў г. Быхаў.*





*Фрагмент Быхаўскага палаца (замка).*

*Фрагмент жылой забудовы Быхава.*

даткаў, а ў 1676 г. пастановай сейма — яшчэ на 10 гадоў. У Паўн. вайну 1700—21 гг. у 1702 г. саюзныя атрады караля Аўгуста II і Пятра I больш за месяц асаджалі ў горадзе прыхільніка Станіслава Ляшчынскага К.Сапегу. 23.6.1706 г. па дняпроўскім шляху ў Кіеў тут спыняўся Пётр I. У 1737 г. ў кляштары адкрыта школа (9 навучэнцаў). У горадзе дзейнічала гута, дзе варылі шкло «простае белае і зялёнае розных гатункаў». У 1747 г. ў Быхаве 247 двароў. Меліся паташня, лазня, саладоўня, б-ка, мост, астрог. Насельніцтва групавалася ў мяшчанскай і яўр. абшчынах. За карыстанне зямлёй уладальнік горада атрымліваў грашовы чынш. Жыхары неслі павіннасці і па падтрыманні крэпасці. У 1755 г. — 534 двары, 2522 жыхары, 9 гандл. радоў, малітоўная школа, праводзіліся 3 кірмашы на год. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, мястэчка. 12.3.1777 г. яму нададзены статус горада. 16.8.1781 г. зацверджаны герб: на чырвоным полі 2 скрыжаваныя чыгунныя гарматы. У 1783 г. — 2622 жыхары, 534 дамы, пав. вучылішча. У 1796—1806 гг. заштатны горад Беларускай губ., з 1802 г. цэнтр Старабыхаўскага, з 1852 г. Быхаўскага паветаў Магілёўскай губ.

Паводле плана 1778 г. старaж. ўмацаваная частка з замкам і гандл. плошчай захоўвалася як планіровачнае ядро, вакол якога разгортвалася новая забудова. Планам 1781 г. прадугледжвалася блізкая да рэгулярнай структура горада. Сетка ўзаемна перпендыкулярных вуліц утварала 32 кварталы. Воссю горада была прамавугольная плошча памерам 220×90 м, якую перасякала гал. вуліца. Яе шырыня складала каля 10 м, астатніх вуліц — да 4 м. Да пал. 19 ст. былі пабудаваны 3 уязныя брамы: Падольная (Дольная), што вяла да Дняпра, Магілёўская (у паўн. частцы горада) і Рагачоўская (Навабыхаўская, у паўд. частцы), людвісарня (2-я пал.

*Будынак Быхаўскага чыгуначнага вакзала.*

*Сядзібны дом у г. Быхаў.*





*Забудова г. Быхаў.*





16—18 ст.), сінагога (сярэдзіна 17 ст., з цэглы), Троіцкая царква (сярэдзіна 19 ст., з цэглы).

У 1811 г. ў Быхаве 5 тыс. чалавек. Летам 1812 г. 2-я рус. армія пад камандаваннем П.І.Баграціёна (35 тыс. чал.) пад націскам пераўзыходзячых сіл праціўніка адыходзіла да Дняпра. Заняўшы Магілёў, французскі маршал Даву спрабаваў адрэзаць рус. войскі ад ракі і знішчыць іх. 11—12 ліп. 7-ы корпус ген.-лейт. М.М.Раеўскага стрымліваў французаў на Пн ад Быхава, што дазволіла асн. войскам Баграціёна пераправіцца цераз Дняпро. У 1825 г. ў горадзе 569 дамоў, 2 навуч. ўстановы, 8 крам, 13 корчмаў, 3 лазні, 5 садоў, 5 гаспадарскіх дамоў. Існаваў замак з 2 вежамі і 8 калонамі, мелася карцінная галерэя. У 1831 г. за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830—31 гг. маёнтак перайшоў у валоданне Магілёўскай казённай палаты. У 1841 г. ў горадзе 5475 жыхароў, 652 дамы, 19 вуліц і завулкаў. У рамесных майстэрнях працавалі 14 краўцоў, 12 шаўцоў, 5 кавалёў, 4 майстры па рамонце гадзіннікаў, 3 слесары, 2 алавяншчыкі і 2 майстры-ювеліры па золаце і срэбры. Дзейнічаў скураны з-д. Галоўным таварам у гандлі была пянька (у 1841 г. яе прададзена 1690 бяркоўцаў). У сярэдзіне 19 ст. пабудаваны цагельны з-д (1850) і драўляная царква. У час паўстання 1863—64 гг. у Польшчы, Літве і на Беларусі ў крас.—маі 1863 г. дзейнічаў паўстанцкі атрад на чале з І.Анцыпам. На пач. 1880-х г. у горадзе 6078 жыхароў (з іх 36,2% пісьменныя), 766 драўляных дамоў, 809 будынкаў, у тым ліку 3 цагляныя, 2 прадпрыемствы па вырабе запалак і цэглы, крупадзёрка, 4 ветраныя млыны, двухкласнае павятовае (адкрыта ў 1865 г.) і прыходскае (з жаночай зменай) вучылішчы, 1 цагляная і 3 драўляныя царквы, 2 касцёлы, сінагога, 10 малітоўных школ; гарбарная майстэрня (з 1880), тэлегр.

*Маладыя жыхары Быхава.*



*Забудова г. Быхаў.*







*Сінагога ў г. Быхаў. Сярэдзіна 17 ст.*

*Вуліца Леніна ў г. Быхаў.*

станцыя (з 1882), меліся 84 гандл. пункты. У 1897 г. ў Быхаве каля 6,4 тыс. жыхароў, 816 дамоў. На гал. вуліцах з'явіліся дашчаныя тратуары (1876), устаноўлены газавыя ліхтары (1878), гар. гадзіннік (1879), запрацавалі бальніца (6 ложкаў), аптэка, паштовая і натарыяльная канторы. У маі—чэрв. 1900 г. пад кіраўніцтвам студэнта Харкаўскага ун-та У.Я.Бабкова (ураджэнец Быхава) была створана с.-д. група, пад уплывам якой у жн.—вер. адбыліся першыя ў горадзе эканам. забастоўкі. 8.3.1905 г. рабочыя быхаўскіх прадпрыемстваў явачным шляхам устанавілі 8-гадзінны рабочы дзень. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. праводзіліся эканам. і палітычныя стачкі, дэманстрацыі, масоўкі, у якіх удзельнічала каля 3,5 тыс. чалавек. У 1911 г. ў горадзе 6 навуч. устаноў, у ліку якіх 3-класнае гар., ніжэйшае рамеснае вучылішчы, прыходскія мужчынскае і жаночае вучылішчы, 2 царк.-прыходскія школы. У 1913 г. 8,1 тыс. жыхароў, у жн. адкрыты 1-ы кінатэатр, запрацавалі мукамольнае і лесапільнае прадпрыемствы, у 1916 г. пабудаваны мост цераз Дняпро. 5.3.1918 г. Быхаў заняты герм. войскамі і польскімі часцямі Ю.Доўбар-Мусніцкага. У тыле ворага дзейнічалі Быхаўскі падп. падраённы к-т РКП(б) на чале з Ц.І.Сарокіным, 1-ы Быхаўскі партыз. атрад (камандзір С.К. Дзергачоў). Вызвалены 16.11.1918 г. 152-м і 153-м палкамі 17-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. 18.12.1918 г. адбылася 1-я агульнапавятовая парт. канферэнцыя. З 25.12.1918 г. пачала выходзіць газ. «Известия Быховского ревкома». У барацьбе за ўстанаўленне сав. улады ў Быхаўскім р-не актыўны ўдзел прымаў 20-гадовы Н.Л.Француз. Рызыкуючы жыццём, ён арганізаваў дастаўку зброі і бальшавіцкай л-ры з перавалачнага пункта ў Оршы ў в. Студзёнка, дзе фарміраваўся партыз. атрад. У лютым 1919 г. горад у складзе Магілёўскай губ. адышоў да РСФСР. З



*Н.Л.Француз.*






*Узорны ансамбль «Надзейка» Быхаўскай школы мастацтваў.*

*Дом быту ў г. Быхаў.*



*Мемарыял ахвярам фашызму, па-зверску закатаваным у г. Быхаў восенню 1941 г.*



*Святкаванне Дня Перамогі на Кастрычніцкай плошчы ў г. Быхаў.*



крас. 1919 г. Быхаў — цэнтр павета Гомельскай губ. У 1923 г. дзейнічалі 2 няпоўныя сярэднія школы, у якіх навучалася звыш 900 дзяцей, рабочы і гар. клубы, дзіцячы сад, бальніца, урачэбная амбулаторыя, 148 дробных рамесніцкіх прадпрыемстваў, у 1924 г. адкрыты аптэка, б-ка і нар. дом.

З 20.8.1924 г. да 1930 г. Быхаў — цэнтр раёна ў Магілёўскай акрузе. У 1926 г. тут 1120 дамоў, 7657 жыхароў, у эксплуатацыю здадзена электрастанцыя ад паравой машыны магутнасцю 20 кВт (1927). У 1930 г. 8,4 тыс. жыхароў; пачала выходзіць раённая газ. «Маяк Прыдняпроўя», адкрыты дзіцячы сад (60 дзяцей). У 1930-я г. арганізуюцца калгасы «Рэвалюцыя», імя М.В.Фрунзе, «Шлях Леніна», створана Быхаўская МТС (дзейнічала да 31.3.1958 г.), у 1932 г. ўступіў у строй ацэтонавы з-д — буйное прадпрыемства хімічнай прам-сці рэспублікі. З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 11 тыс. жыхароў.

У Вял. Айч. вайну 5.7.1941 г. Быхаў акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1941 г. ўзнікла падп. арг-цыя, якая мела сувязь з гар. магілёўскім «Камітэтам садзеяння Чырвонай Арміі». Дзейнічалі падп. райкомы партыі і камсамола, у раёне была створана шырокая сетка камсамольскіх груповак, выдаваўся рукапісны часопіс «Партизан Быховщины». За годы акупацыі гітлераўцамі знішчаны 9158 жыхароў. Вызвалены горад 28.6.1944 г. войскамі 19-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту. 12 ураджэнцаў раёна і 10 чал. іншых нацыянальнасцей удастоены звання Героя Сав. Саюза. Поўнымі кавалерамі ордэна Славы сталі М.Р.Бяляеў і М.І.Перавознікаў. У пасляваенныя гады аднаўляліся тэлегр. і тэлефонная сувязь, здадзены ў эксплуатацыю радыёвузел (1945), хутка развіваліся многія прадпрыемствы. У 1959 г. ў Быхаве 13 тыс., у 1970 г. — 17,4 тыс., у 1982 г. — 18,1 тыс. жыхароў.

Гал. кампазіцыйная вось сучаснага горада — вуліца Леніна, пры ўездзе сфарміравалася Кастрычніцкая плошча. Паводле генпланаў 1986 г. і цэнтр. часткі горада 1998 г. ствараецца новы грамадскі цэнтр каля вуліцы Красоўскага, вядзецца шматпавярховая забудова па вуліцы Чырво-



Смерть немецким оккупантам!

Партизан Быховщины

орган партийной организации партизанского полка 810

№ 2

октябрь 1943 г.




*Тытульны ліст рукапіснага часопіса «Партызан Быховщины».*

*Мемарыяльная дошка К.І.Арлоўскаму на будынку дзіцячага сада № 4 у Быхаве.*

наармейскай. У 1990—2000-я г. з'явіліся будынак паліклінікі, фантан па вуліцы Красоўскага, закладзены парк 50-годдзя Перамогі, створаны мікрараён Колас і інш. Зона адпачынку — сквер па вуліцы Савецкай і ўзбярэжжа Дняпра.

У канцы 20 ст. працавалі Быхаўскае аб'яднанне па вытв-сці і прам. перапрацоўцы агароднiны і садавіны, заводы масла і сухога абястлушчанага малака, металавырабаў, ільнозавод, хлебазавод, камбінаты быт. абслугоўвання, камунальных





*Помнік М.Казлову ў Быхаве.*

*Помнік на брацкай магіле барацьбітоў за савецкую ўладу, савецкіх воінаў і партызан у г. Быхаў.*





*Першакласнікі гімназіі № 1 г. Быхаў. 1.9. 2007 г.*

*Удзельнікі венецыянскага ансамбля Быхаўскай школы мастацтваў.*

прадпрыемстваў, міжраённае аб'яднанне «Сельгастэхніка» і раённае «Сельгасхімія», леспрамгас; агульнаадукац. 3 сярэднія і базавая, муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, 13 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, кінатэатр, Дом культуры, 4 б-кі, раённая бальніца, 2 паліклінікі, ветэрынарная лячэбніца; гісторыка-краязнаўчы музей (1979). У 2005 г. ў Быхаве 17 тыс. жыхароў. У горадзе (2005) прадпрыемства харч. (Быхаўскі кансервава-агароднінасушыльны з-д, з-д сухога абястлушчанага малака, хлебазавод) і дрэваапрацоўчай галін прам-сці. Працуюць (2008) гімназіі, 4 сярэднія школы, дзіцячы сац. прытулак, школа мастацтваў, 5 дзіцячых садоў, 2 гар., цэнтр. раённая і раённая дзіцячая б-кі, 5 аптэк, Дом быту, пошта, тэлеграф, 2 аддзяленні сувязі і «Белтэлеком». Дзейнічаюць СВК «Валадарскі», раённае спажывецкае т-ва, сумеснае ЗАТ «Агралінк», ветэрынарна-санітарная ўстанова «Быхаўская раённая ветэрынарная станцыя», філіял Рэсп. унітарнага с.-г. вытв. прадпрыемства па племяннай справе «Магілёўскае дзяржплемпрадпрыемства» па Быхаўскім р-не, раённая дзярж. інспекцыя па насенняводстве, каранціне і ахове раслін. Ёсць гасцініца «Днепр». У мікрараёне Колас працуюць аддз. сувязі і ААТ «Быхаўрайаграпрамтэхзаб». Помнікі архітэктуры: замак, Троіцкая царква, сінагога. Брацкая магіла 96 барацьбітоў за сав. ўладу, сав. воінаў і партызан (помнік устаноўлены ў 1958 г.), помнікі землякам, У.І.Леніну, партыз. разведчыку піянеру М.С.Казлову, мемарыяльныя дошкі К.І.Арлоўскаму, у гонар воінаў-вызваліцеляў. Радзіма Героя Сав. Саюза К.І.Арлоўскага, удзельніка рэв. руху У.Я.Бабкова, удзельніка грамадз. вайны ў Беларусі С.С.Кандрацьева. У г. Быхаў нарадзіліся таксама бел. спартсменка, майстар спорту Беларусі міжнар. класа А.Ю.Панькіна; падпал-

*Фантан на плошчы Красоўскага ў Быхаве.*

*У цэнтры горада.*







коўнік І.І.Важнік, загінуўшы пры выкананні абавязкаў ваеннай службы ў Анголе; воіны-інтэрнацыяналісты М.Ц.Маскалькоў, С.В. Корабаў і І.Я.Міцькоў, якія загінулі ў Афганістане падчас выканання баявога задання (ім пасмяротна нададзены ордэны Чырвонай Зоркі); контр-адмірал, кандыдат ваенна-марскіх навук Н.І.Цырульнікаў.

**АБІДАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Абідавіцкага с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 60 км ад Магілёва, 3 км ад Дняпра, каля шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 246 гаспадарак, 643 жыхары (2007).

Згодна з мясц. паданнем, назва вёскі паходзіць ад слова «абіды», гэта значыць, неўраджайныя пясчаныя глебы, якія нараджалі галечу. Па іншым паданні, назвала імем асілка Абіды, які разам са сваім братам Бязумай заснаваў вёску.

Гарадзішча ранняга этапу зарубінецкай культуры за 3 км на ПдЗ ад вёскі, каля ўрочышча Чырвоная Гара, сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1600 г. сяло ў складзе маёнтка Тайманаў Рэчыцкага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. 16 двароў, у Быхаўскім графстве, памешчыцкая ўласнасць, у 1758 г. — 39 двароў, 115 жыхароў мужчынскага полу, меліся карчма, млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Старабыхаўскім (Быхаўскім) павеце. Пасля пракладкі ў 1859 г. шашы Магілёў—Доўск каля вёскі засн. паштовая станцыя (14 коней). У 1880 г. 118 двароў, 790 жыхароў, частка з іх займалася адыходным, кавальскім і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета, 178 двароў, 1197 жыхароў, хлебазапасны магазін, 3 ветраныя млыны, школа граматы (пазней земская школа; у 1905 г. 50 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак), піцейны дом; на паштовай станцыі — 2 двары, 4 жыхары. На пач. 20 ст. 1212 жыхароў. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. 60 вяскоўцаў 9.3.1905 г. правялі высечку памешчыцкага лесу. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР; у 1920 г. 209 двароў, 1232 жыхары, 885,4 дзес. ворыўнай зямлі; 3 ветраныя млыны, 2 рамонтныя майстэрні, дзейнічала школа лікбезу (3 настаўнікі, 64 вучні). У 1921 г. ў вёсцы працаваў камітэт беднаты, які ўзначальваў рабочы з Петраграда Е.З.Андрэеў, меўся культ.-асв. гурток моладзі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Журавіцкім р-не Магілёўскай акругі. У 1929 г. створаны калгас імя А.В.Чарвякова (пазней «XVIII партз'езд»), адкрыты хата-чытальня, клуб, б-ка, насенная лаба-

*На плошчы Герояў у Быхаве прымае школьнікаў у піянеры старшыня Быхаўскага райвыканкама М.М.Кароцін. 2007 г.*



*А.Ю.Панькіна.*



*І.І.Важнік.*

*Будынак «Белтэлекома» і пошты ў г. Быхаў.*



раторыя. З 8.7.1935 г. ў Доўскім (Журавіцкім) р-не. З 20.1.1938 г. ў Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 166 землякоў. З 17.12.1956 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл. У 1969 г. 883 жыхары. У 1982 г. 292 гаспадаркі, 746 жыхароў, цэнтр калгаса «XVIII партз'езд» (з 2003 г. СВК «Абідавічы»). У канцы 20 ст. працавалі сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, лазня. Ёсць аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1957 г.), 2 магазіны, стадыён, 6 спарт. пляцовак. Працуюць (2008) б-ка аграгарадка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт.

Брацкая магіла сав. воінаў, загінуўшых у 1943 г. ў баях супраць гітлераўцаў; помнік землякам. Планіровачна складаецца з дзвюх узаемна перпендыкулярных вуліц, галоўная з іх выцягнута з ПнЗ на ПдУ. Забудова пераважна драўляная.

У сельсавеце 20 вёсак і 2 пасёлкі.



*Настаўніца сярэдняй школы аграгарадка Абідавічы.*



*М.Ц.Маскалькоў.*



*С.В.Корабаў.*

**АДАМЕНКА** — пасёлак у Навабыхаўскім с/с, на левым беразе р. Адаменка, за 20 км на Пд ад горада і чыг. ст. Быхаў, 71 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Рагачоў. 9 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. згадваецца як пас. Адамінка (8 двароў, 40 жыхароў) у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета; меўся вадзяны млын. На пач. 20 ст. пасёлак, 8 двароў, 42 жыхары. У лютым—кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1920 г. 15 двароў, 84 жыхары, 18 дзес. зямлі; працавала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да сак. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў лютым 1944 г. спалілі 17 двароў. У 1982 г. 12 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (з 2003 г. СВК «Навабыхаўскі»; цэнтр — в. Новы Быхаў). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай перпендыкулярна на З да шашы. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.



*Старажытныя прылады працы, знойдзеныя каля в. Абідавічы.*

**АЛЕКСАНДРОЎ** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 32 км на У ад горада і чыг. ст. Быхаў, 68 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы.

Вядома з 19 ст. У 1846 г. фальварак Александрыя ў складзе маёнтка Царкоўны Асавец. На пач. 20 ст. хутар, 11 двароў, 99 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўска-

га павета Магілёўскай губ. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 12 двароў, 61 жыхар. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліст. 1943 г. Александроў акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі 31 двор, загубілі 10 жыхароў. У баі каля вёскі 28.11.1943 г. вызначыўся камандзір гарматы старшы сяржант Е.Б.Фрадкоў, удастоены звання Героя Сав. Саюза. У 1982 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца мае шыротную арыентацыю і двухбаковую драўляную забудову. Папярочная вуліца забудавана аднабакова. Частка сядзіб пастаўлена адвольна.

**АНТАПОЛЬ** — пасёлак у Ямніцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 59 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Лагадава і далей па аўтадарозе Быхаў—Дунаёк.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. 18.1.1924 г. створана с.-г. арцель «Звязда». З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліст. 1943 г. спалілі 9 двароў, загубілі 7 жыхароў. З 11.4.1960 г. ў Ямніцкім с/с. У 1982 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна з паўн. боку драўлянымі хатамі і гасп. пабудовамі сядзібнага тыпу.

**АСОЎШЧЫНА** — вёска ў Лудчыцкім с/с, за 7 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе праз в. Няраж і далей па шашы Быхаў—Рагачоў. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1920 г. 14 двароў, 97 жыхароў, 32,1 дзес. зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. партызаны 810-га палка Быхаўскай ваенна-апаратыўнай групы разграмілі ў вёсцы ням.-паліцэйскі гарнізон. Могілкі 3 сав. воінаў, загінуўшых у баі супраць гітлераўцаў у Вял. Айч. вайну. У 1982 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Рэвалюцыя» (з 2003 г. СВК «Валадарскі»; цэнтр — г. Быхаў). Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца мае шыротную арыентацыю, забудова двухбаковая сял. сядзібамі.

**БАЛОНАЎКА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 32 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў, на р. Балонаўка, каля Чыгрынскага вадасховішча. Побач шаша Магілёў—Бабруйск. 30 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. згадваецца як в. Абалонаўка ў Старабыхаўскай акрузе. У 1780 г. 3 двары, 17 жыхароў. У 1815 г. 8 двароў. У 1834 г. 44 жыхары, у Быхаўскім павеце. У 1897 г. — 11 двароў, 91 жыхар, вадзяны млын, сукнавальня, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. 12 двароў, 75 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920-я г. 24 гаспадаркі, 124 жыхары, 46,5 дзес. зямлі, вадзяны млын. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1931 г. створаны калгас імя І.В.Сталіна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 52 гаспадаркі, 90 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дубро-



*І.Я.Міцькоў.*



*Н.І.Цырульнікаў.*



*Бронзавая падвеска-лунніца 3—4 ст. з селішча Адаменка.*

ва»; цэнтр — в. Дуброва). У канцы 20 ст. дзейнічалі клуб, магазін. Планіроўка бессістэмная. Гал. вуліца ідзе на ПнЗ ад шашы і мае крывалінейную трасу. Радыяльна да яе сыходзяцца другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАЛОНАЎ СЯЛЕЦ 1** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 45 км ад Магілёва, на р. Балонаўка, каля шашы Магілёў—Бабруйск. 41 гаспадарка, 56 жыхароў (2007).

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вядома як с. Сялец у Старабыхаўскай акрузе. Побач існаваў аднайменны маёнтак, гаспадар якога ў 1831 г. валодаў 2690 дзес. зямлі; дзейнічалі вадзяны млын, гарбарня, сукнавальня. У 1858 г. 485 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. пабудавана драўляная царква. У 1880 г. сяло, 82 двары, 441 жыхар, у Глухскай вол. Меліся паштовая станцыя (14 коней), заезны двор. У 1897 г. — ветраны млын, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, піцейны дом, 2 драўляныя царквы, 1 раз на год праводзіўся кірмаш. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. У 1920 г. ў вёсцы 3 майстэрні па рамонце с.-г. прылад, у аднайменным маёнтку — вадзяны млын; дзейнічалі школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і 4-гадовая школа (у 1925 г. 87 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Чачэвіцкім р-не Магілёўскай акругі. З 20.8.1924 г. да 18.2.1927 г. цэнтр Балонасялецкага с/с. У 1926 г. 1118 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны пуцілавец», дзейнічалі паравы млын, крупадзёрка. З 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. партызаны Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі тут варожы гарнізон. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 150 землякоў. З 18.2. 1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 111 гаспадарак, 207 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). У канцы 20 ст. дзейнічалі лясніцтва, базавая школа, клуб, б-ка, 2 магазіны, аддз. сувязі, бальніца. Працуюць (2008) аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік архітэктуры — царква (сярэдзіна 19 ст.). Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ уздоўж берага ракі. Забудова нячшчыльная, двухбаковая, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сац. Працы І.Е.Анісімава.



*Царква ў в. Балонаў Сялец 1.*

**БАЛОНАЎ СЯЛЕЦ 2** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 47 км ад Магілёва, на р. Балонаўка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе праз в. Балонаў Сялец 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 26 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Старабыхаўскім (Быхаўскім) павеце. У канцы 19 ст. згадваецца як в. Балонаў Сялец, 100 двароў, 786 жыхароў; побач існаваў аднайменны маёнтак. У 1897 г. ў вёсцы 149 двароў, 877 жыхароў, ветраны млын, піцейны дом; у фальварку — 4 двары, 9 жыхароў, вадзяны млын. На пач. 20 ст. 164 двары, 1057 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета; адкрыты казённая вінная крама, царк.-прыходская школа, паштова-тэлегр. аддз., дзейнічала царква. У лютым—ліст. 1918 г. аку-

піравана герм. войскамі. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Балонавасялецкім с/с Чачэвіцкага р-на. У 1926 г. ў вёсцы 965 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». З 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 85 гаспадарак, 176 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы ўздоўж берага ракі, паралельнай вуліцы в. Балонаў Сялец 1. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная.

**БАРКАЛАБАВА** — вёска, цэнтр Баркалабаўскага с/с, за 12 км на Пн ад Быхава, 39 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Барсукі на лініі Быхаў—Магілёў (да 1927 г. раз'езд № 14), на шашы Магілёў—Быхаў, прыстань на Дняпры. 165 гаспадарак, 461 жыхар (2007).

Назва вёскі паходзіць ад імя ротмістра і дзісенскага старасты Баркулаба Іванавіча Корсака, які ў 1564 г. заклаў тут замак, «заклікаўшы на волю і даўшы свабоду ў год дванаццаць людзям прыхожым».

Помнікі археалогіі — гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі (на паўд. ускраіне вёскі), селішча 2—5 ст. і 6—8 ст. н.э. (у зах. частцы поймы р. Струга) і стаянка ранняга мезаліту (за 1 км на Пн ад вёскі) сведчаць аб засяленні чалавекам тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вядома з 16 ст. У 1568 г. пабудаваны 2 царквы. 24.6.1641 г. Багданам Статкевічам засн. жаночы манастыр Ушэсця, дзе пазней створаны вядомы помнік бел. гісторыка-мемарыяльнай л-ры пач. 17 ст. Баркулабаўская хроніка, складзеная, верагодна, мясц. свяшчэннікам Фёдарам Піліпавічам. Яна ахоплівае перыяд 1545—1608 гг., змяшчае замалёўкі пра Баркулабава, яго ваколіцы, расказвае аб дзярж. і прыватных дакументах, дае апісанне многіх падзей грамадска-палітычнага і



*Фрагмент забудовы в. Баркалабава.*

рэліг. жыцця канца 16 — пач. 17 ст. У 1641 г. Баркулабаў — цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1758 г. мястэчка, 64 двары, 171 жыхар мужчынскага полу, меліся саладоўня, бровар, маслабойня, манастыр, 2 гаспадарскія двары, фальварак, у Быхаўскім графстве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Быхаўскім павеце. У 1780 г. — 69 двароў, 465 жыхароў, 2 царквы, дом архірэя, 2 млыны. У канцы 18 ст. дзейнічала базыльянская школа. У 1871 г. гаспадар маёнтка валодаў 1539 дзес. зямлі, меў вадзяны млын. У 1880-я г. працавалі хлебазапасны магазін, школа пры манастыры (20 дзяўчынак), меўся заезны двор. У 1897 г. сяло ў Глухскай вол. Быхаўскага павета, 93 двары, 605 жыхароў, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, царква, карчма; у манастыры — 54 жыхары, 2 царквы, 7 крам, 2 разы (24 чэрв., 29 жн.) на год праводзіліся

*Краявід каля в. Баркалабава.*



кірмашы. Дзейнічалі медзеплавільны, лесапільны і 2 вінаробчых прадпрыемствы. Існавалі аднайменныя хутар (2 двары, 7 жыхароў), фальварак (2 двары, 5 жыхароў), сядзіба (2 двары, 4 жыхары, вадзяны млын, карчма). У 1904 г. пабудавана цагляная царква. У 1909 г. ў сяле 110 двароў, 671 жыхар, у фальварку (пры Ромен-ска-Арлоўскай чыгунцы) 2 дамы, 23 жыхары, у жаночым манастыры — 11 двароў, 93 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1919 г. ў Быхаўскім, з лютага 1923 г. ў Магілёўскім паветах Гомельскай губ. РСФСР. У 1919 г. створана с.-г. камуна імя К.Лібкнехта, на базе якой у 1930 г. арганізаваны калгас (аб'ядноўваў 14 гаспадарак, меў 67 га ворыва). З сак. 1924 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 149 двароў, 900 жыхароў. У 1927 г. раз'езд ператвораны ў чыг. станцыю. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ураджэнец вёскі А.І.Ліпскі з'яўляўся камандзірам аддзялення, узвода, атрада на Магілёўшчыне, а ў кастр. 1943 — чэрв. 1944 гг. камандзірам 122-га партыз. палка «За Радзіму». Вёска вызвалена войскамі 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З фронту не вярнуўся 81 зямляк. У пасляваенны час працаваў дзіцячы дом, пабудаваны радыёвузел (1952). Вёска радыёфікавана і электрыфікавана. У 1970 г. 596 жыхароў. У 1982 г. 199 гаспадарак, 488 жыхароў, цэнтр калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»). У 2005 г. 998 жыхароў, 465 гаспадарак. На тэр. вёскі (2005) размешчаны ферма па развядзенні буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, машынны двор, лясніцтва, піларама. Ёсць Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка аграгарадка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, піянерскі лагер, сталовая, аптэчны кіёск, бальніца, амбулаторыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, 5 спарт. пляцовак. Помнік архітэктуры — царква Казанскай Маці Божай (1904). Брацкая магіла сав. воінаў і партызан; помнік сав. воінам, якія 26.6.1944 г. фарсіравалі р. Днепр. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных вуліц, выцягнутых з Пн на Пд, уздоўж Дняпра. Забудова драўляная, бессістэмная. На Пд стараж. вуліцы зберагліся мураваныя будынкі былой царквы і заезнага двара, прыстасаваныя пад школьны інтэрнат. Перпендыкулярна да асноўных невялікія вуліцы, забудаваныя мураванымі аднапавярховымі жылымі дамамі, утвараюць развітую сетку кварталаў.



*Баркалабаўскі абраз Маці Божай.*



*Сядзібны дом у в. Баркалабава.*

У сельсавеце 10 вёсак. У канцы 1930-х г. у яго склад уваходзілі вёскі Малая Бароўка, Вялікая Бароўка, пасёлкі Батрак, Сплашное, імя К.Лібкнехта (не існуюць).

**БАРОЎКА** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 18 км на Пн ад Быхава, 33 км ад

Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Барсукі на лініі Быхаў—Магілёў, на правым беразе р. Днепр, на шашы Магілёў—Быхаў. 36 гаспадарак, 80 жыхароў (2007).

Стаянка ранняга мезаліту на ўсх. ускраіне вёскі сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вядома з 19 ст. У 1879 г. тут існаваў невялікі маёнтак. У 1897 г. вёска, 23 двары, 147 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. 27 двароў, 122 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. працавала майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. вёска, 42 двары, 295 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас імя М.І.Калініна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 80 гаспадарак, 167 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). У канцы 20 ст. ў вёсцы дзейнічалі пач. школа, магазін. Планіровачна выцягнута з Пн на Пд, уздоўж шашы. Жылая забудова двухбаковая, драўляная, сярэдняй шчыльнасці, у паўд. частцы — аднабаковая.

**БАРСУКІ** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 16 км на Пн ад Быхава, 35 км ад Магілёва; чыг. станцыя на лініі Быхаў—Магілёў. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Быхаў. 6 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У канцы 19 ст. тут быў чыг. раз'езд № 13. Пасёлак узнік у пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1927 г. раз'ездператвораны ў чыг. ст. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). Ёсць магазін. Пасёлак уключае аднапавярховыя мураваныя будынкі чыг. станцыі, склада, залы чакання, драўляны будынак, і 3 аднапавярховыя драўляныя 4-кватэрныя жылыя дамы.



*Краявід каля в. Баркалабава.*

**БАРСУКІ** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 71 км ад Магілёва, на р. Грэза. Транспартныя сувязі праз в. Дунаёк і далей па шашы Дунаёк—Быхаў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. згадваецца як в. Барсукі (яна ж Какоціна), 8 двароў, 51 жыхар, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. 12 двароў, 53 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 24 двары, 132 жыхары, 79,5 дзес. зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да сак. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. тут адбылося першае пасяджэнне Быхаўскага падп. райкома КП(б)Б на чале з Е.Ц.Андрэенкавым. З сак. 1943 г. да сак. 1944 г. каля вёскі базіраваліся атрады 11-й Быхаўскай партыз. брыгады (пазней Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы), размяшчаўся мост. У лесе, ва ўрочышчы Гулы, пад аховай партызан знаходзілася больш за 8 тыс. мірных грамадзян. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (15 двароў), загубілі 2 жыхароў. У 1982 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). Помнік у гонар падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і воінаў партыз. брыгады. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд паралельна да ракі. Забудова няшчыльная, адна-, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРСУКІ** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 42 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў, 84

км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе праз вёскі Кароўчына, Чачэвічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска, 12 двароў, 53 жыхары, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 17.7.1924 г. да 26.7.1930 г. ў Чыгірынскім с/с Чачэвіцкага, з 8.7.1931 г. Быхаўскага р-наў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. ў вёсцы 18 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе абл. зоны адпачынку «Чыгірынка». Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.



*Л.В.Дзямідаў.*

**БОЎКІ** — вёска ў Смаліцкім с/с, за 34 км на У ад горада і чыг. ст. Быхаў, 71 км ад Магілёва, на р. Ухлясць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе праз вёскі Трылесіна, Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 33 гаспадаркі, 66 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца ў 1568 г. як сяло ў Магілёўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1604 г. 13 гаспадарак, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі. У 1635 г. мелася царква. У 1742 г. 11 двароў, меліся млын, драўляная царква. У 1758 г. ўпамінаецца як в. Боўшава, 37 двароў, 108 жыхароў мужчынскага полу, у Быхаўскім графстве, дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Быхаўскім павеце. У 1780 г. 41 двор, 301 жыхар. У 1858 г. 112 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 47 двароў, 375 жыхароў, частка з якіх займалася кравецкім і іншымі промысламі. У 1897 г. 70 двароў, 566 жыхароў, у Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета. Меліся хлебазапасны магазін, крама, карчма. На пач. 20 ст. вёскі Вялікія Боўкі (105 двароў, 715 жыхароў) і Малыя Боўкі (9 двароў, 55 жыхароў) у Быхаўскім павеце. У 1920 г. ў Вялікіх Боўках 108 двароў, 718 жыхароў, 301,89 дзес. ворыўнай зямлі (у 1926 г. 136 двароў, 914 жыхароў), у Малых Боўках — 9 двароў, 57 жыхароў, 38,1 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У снеж. 1929 г. створаны калгас «Чырвоны сцяг». У 1930-х г. Вялікія Боўкі і Малыя Боўкі аб'ядналіся ў адну вёску, дзе ў 1940 г. было 298 двароў, 896 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да сак. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 174 жыхары. Пасля вайны адбудавана. 5—18.10.1943 г. каля вёскі адбыліся цяжкія баі партызан палка «Трынаццаць», часткі сіл партыз. палка 15-га, партыз. брыгады 17-й, атрада «Перамога», падраздзяленняў іншых атрадаў супраць гітлераўскіх карнікаў. У 1982 г. 148 гаспадарак, 322 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Смаліца). У канцы 20 ст. дзейнічалі жывёлагадоўчы комплекс, клуб, пач. школа, б-ка, магазін. Брацкія магілы: сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў; воінаў 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. Планіровачна складаецца з 2 частак. Былая в. Вялікія Боўкі мае развітую планіровачную структуру, блізкую да прамавугольнай; дзве асн. паралельныя паміж сабой з двухбаковай забудовай вуліцы маюць блізкую да мерыдыянальнай арыентацыю. Былая в. Малыя Боўкі складае паўн.-зах. частку, размешчаную каля в. Трылесіна, з якой злучана мостам цераз р. Ухлясць. Забудова драўляная, сярэдняй шчыльнасці, сядзібнага тыпу. Радзіма лётчыка, інструктара парашутнага спорту Л.В.Дзямідава, які загінуў у пач. Вял. Айч. вайны.

**БРАДОК** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 26 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па шашы Быхаў—Семукачы.

Засн. ў пач. 20 ст. Па ўліку 1926 г. значыцца як пасёлак. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп.

1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (цэнтр — в. Чорны Бор). Сялянская сядзіба драўляная.

**БРАСАВІНКА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 17 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў, 46 км ад Магілёва. На З цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Гарадзец і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя К.Маркса. У 1940 г. 33 двары, 178 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 60 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1956—68 гг. наз. Камуна. У 1982 г. 23 гаспадаркі, 46 жыхароў, у складзе саўгаса «Спадарожнік» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіровачна мае лінейную вуліцу шыротнай арыентацыі, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**БУДЗІШЧА** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Быхава, 36 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы, на р. Балонаўка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Кучын і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 4 гаспадаркі, 12 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. Адзін з трох памешчыкаў меў у 1853 г. 130 дзес. зямлі, дзейнічала карчма. У 1880 г. 10 двароў, 44 жыхары, частка з якіх займалася сталярным промыслам. У 1897 г. 9 двароў, 58 жыхароў. На пач. 20 ст. 8 двароў, 56 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., на хутары — 1 двор, 8 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 10 двароў, 65 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**БУТРАМЕЕЎКА** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 46 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе Давыдавічы—Гадылёва і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 24 гаспадаркі, 32 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. згадваецца як сяло. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да сак. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 32 гаспадаркі, 83 жыхары, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). Ёсць магазін. Брацкая магіла 18 сав. воінаў, якія загінулі ў абарончых баях у ліп. 1941 г. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ. Забудова шчыльная, двухбаковая, драўляная; гасп. двары блізкія да вянковых.

**БЫНАВА** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 27 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе Давыдавічы—Гадылёва і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 58 гаспадарак, 105 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе. У 1784 г. 39 двароў, 321 жыхар, хлебазапасны магазін, у Быхаўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. У 1897 г. 45 двароў, 339 жыхароў, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета; мелі-ся школа граматы, піцейны дом. На пач. 20 ст. 54 двары, 445 жыхароў, у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета. Працавала царк.-прыходская школа (ператворана з школы граматы), на базе якой пазней створана прац. школа 1-й ступені, у ёй у 1925 г. былі 53 вучні. Для яе ў б. маёнтку Мхоў-1 быў выдзелены ўчастак зямлі. З 1920 г. дзейнічала школа па

ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 84 двары, 402 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да сак. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 127 гаспадарак, 241 жыхар, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). У канцы 20 ст. працавалі клуб, магазін, пач. школа. Планіровачна складаецца з трох паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Завулкі (без забудовы) ствараюць сетку кварталаў, блізкую да прамавугольнай.

**ВАРАНІНО** — вёска ў Следзюкоўскім с/с, за 8 км на У ад горада і чыг. ст. Быхаў, 48 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе Быхаў—Трылесіна і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. На У цячэ р. Воронінка. 291 гаспадарка, 633 жыхары (2007).

Курганны могільнік (12 насыпаў) эпохі Кіеўскай Русі за 1 км на ПдЗ ад вёскі сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо Воранава (яно ж Варанцова) у Быхаўскім павеце, 16 двароў, 99 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. існаваў заезны дом (1 двор, 11 жыхароў), у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета. З 26.4.1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, 14.2.1923 г. перададзена ў Магілёўскі павет, з 1924 г. ў Магілёўскай акрузе. Створаны меліярацыйнае т-ва (1926), саўгас «Вараніно» (1929), які да 1938 г. спецыялізаваўся на вытв-сці і пастаўцы сена для кавалерыйскіх часцей Чырвонай Арміі, машынна-трактарная майстэрня (1930). З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе саўгаса створаны племзавод па конегадоўлі, у пач. 1941 г. меў 11 трактароў, 3 грузавыя аўтамашыны і іншую тэхніку. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Племзавод эвакуіраваны ў Маскоўскую і Тамбоўскую вобласці. З фронту не вярнуліся 180 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Следзюкоўскім с/с. У 1982 г. 335 гаспадарак, 770 жыхароў, цэнтр племзавода «Вараніно» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Вараніно»). Помнікі: землякам; пачынальніку снайперскага руху на Ленінградскім фронце ў Вял. Айч. вайну Герою Сав. Саюза Ф.І.Смалячкову (на перакрыжаванні дарог Магілёў—Гомель і Быхаў—Вараніно); у гонар 60-годдзя сав. ўлады ў вёсцы (устаноўлены ў 1977 г.). У канцы 20 ст. на тэр. вёскі меліся жывёлагадоўчы комплекс, 2 фермы, збожжасховішча, прам. кар'ер, машынны двор, сталярна-цяслярская майстэрня, піларама, лясніцтва. Дзейнічалі базавая школа, комплекс дзіцячы сад-яслі, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 3 магазіны, 4 спарт. пляцоўкі, лазня. Працуюць (2008) б-ка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Паводле генплана 1974 г., распрацаванага Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект», гал. вуліца — Клубная — арыентавана з Пн на Пд, уздоўж якой знаходзіцца адм.-грамадскі цэнтр. На перакрыжаванні вуліц Клубнай і Раўчакова размясціўся гандл. цэнтр. Другарадныя вуліцы ўтвараюць сетку кварталаў і забудаваны пераважна аднапавярховымі двухкватэрнымі і двухпавярховымі шматкватэрнымі мураванымі жылымі дамамі. У 1953 г. вёска радыёфікавана, пазней электрыфікавана. Непадалёку ад яе размешчаны торфамасіў «Вараніно» (пл. 2,1 тыс. га).

**ВЕРХНЯЯ ТОШЧЫЦА** — вёска, цэнтр Верхнятошчыцкага с/с, за 30 км на Пд ад Быхава, 81 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Тошчыца. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 48 гаспадарак, 108 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. згадваецца як вёска ў Рагачоўскай акрузе. У 1880 г. 58

дввароў, 369 жыхароў, частка з якіх займалася вырабам розных быт. прылад. У 1897 г. 85 двароў, 635 жыхароў, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага павета; хлебазапасны магазін. Побач быў фальварак — 2 двары, 11 жыхароў. На пач. 20 ст. заснаваны лесапільны з-д (у 1913 г. 30 рабочых, паравы рухавік магутнасцю 45 к.с.), адкрыта школа; у вёсцы 95 двароў, 708 жыхароў, у фальварку — 2 двары, 19 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Створана прац. школа 1-й ступені імя К.Цэткін (у 1925 г. 56 вучняў), дзейнічалі піянерскі атрад з 17 вучняў, драматычны гурток. У 1926 г. 180 двароў, 955 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 60 землякоў. З 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1982 г. 90 гаспадарак, 177 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). У канцы 20 ст. працавалі пач. школа, клуб, б-ка, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. Помнік землякам. Планіровачна складаецца з ўзаемна перпендыкулярных вуліц, забудаваных драўлянымі дамамі. Паралельна да ракі дзве вуліцы з двухбаковым размяшчэннем сял. сядзіб. На Пд сажалка і калгасны сад. Радзіма Т.М.Грыневіча — аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. у Рагачоўскім павеце.

На тэр. сельсавета 14 вёсак і 4 пасёлкі. У канцы 1930-х г. існавалі пасёлкі Свабода, Новы Свет, Зарэчча, Ільіч, Каронка, Сярэдні Лес, Ясная Зорка, Сталінскі Строй, Старая Пасека, Чырвоная Ніва, Ліпавы Рог, Падвялікі Лес, Маложа, Залатое Дно, Сядзіба, Барок, Пятроўка, Усянежжа. Вёска Залатое Дно спалена ў ліп. 1942 г. гітлераўскімі карнікамі і не адрадзілася.

**ВЕТРАНКА** — вёска ў Смаліцкім с/с, за 19 км на У ад горада і чыг. ст. Быхаў, 62 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе Быхаў—Смаліца. 63 гаспадаркі, 105 жыхароў (2007).

Вядома з канца 19 ст. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 25 жыхароў, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічаў Александрыйскі шклозавод, дзе выраблялася аптэкарскае і лямпавае шкло, посуд, шкляныя дэкаратыўныя ўпрыгожанні (у 1900 г. — 77, у 1913 г. 86 рабочых). Побач існаваў маёнтак, дзе ў 1909 г. быў 1 двор з 11 жыхарамі. У 1898 г. адкрыта школа. На пач. 20 ст. ў маёнтку 82 жыхары. У ліст. 1918 г. шклозавод нацыяналізаваны і перайшоў у валоданне саўнаргаса (шклозавод імя Ільіча), у 1919 г. тут створана першая камсамольская ячэйка. У 1920-я г. працавалі клуб імя К.Маркса, пры якім была б-ка (393 кнігі), культ.-асв. гурток (18 чал.), сталовая для дзяцей, меліярацыйнае т-ва (1922), фельчарскі пункт (1924). У 1926 г. ў вёсцы 49 двароў, 226 жыхароў. У 1927 г. рэканструяваны шклозавод (у 1933 г. 410 рабочых, вырабляўся розны гасп. посуд), пачаў дзейнічаць торфазавод «Ленінскі шлях». З 15.7.1935 г. да 17.11. 1948 г. рабочы пасёлак. У 1937 г. пасёлак атрымаў святло, пабудавана бальніца. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала камсамольска-маладзёжная група. На шклозаводзе «Ільіч» у падп. групе вызначыўся актыўнасцю М.С.Казлоў. Юны патрыёт у хуткім часе пайшоў у партызаны, а ў ліп. 1942 г. быў схоплены гітлераўцамі і па-зверску закатаваны. Каля пасёлка ў 1943 г. партызаны неаднаразова вялі баі супраць акупантаў, якія ў жн. 1943 г. спалілі яго (260 двароў), загубілі 287 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. З 17.11.1948 г. вёска, у Быхаўскім р-не. Працаваў дзіцячы дом. У 1982 г. 125 гаспадарак, 254 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Смаліца). У канцы 20 ст. меліся сярэдняя школа, сталовая. Помнікі: аднаму з кіраўнікоў патрыят. падполля на Быхаўшчыне, партызану К.Ц.Сіўцову; у гонар партызан. Планіроўка V-падобная. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна і з двух бакоў шчыльна забудавана драўлянымі сял.



*М.С.Казлоў.*

сядзібамі. Другая вуліца, арыентаваная пад вострым вуглом да галоўнай, мае аднабаковую забудову. Радзіма дзярж. дзеяча БССР А.І.Цёмкіна.

**ВЕЦЬ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 78 км ад Магілёва. На З цячэ р. Гутлянка. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 79 гаспадарак, 178 жыхароў (2007).

Страж. стаянка за 0,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Гутлянка, і стаянка неаліту і бронзавага веку за 0,9 км на Пд ад вёскі, на правым беразе воз. Станавое, сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 17 ст. У 1635 г. сяло ў складзе маёнтка Новы Быхаў, шляхецкая ўласнасць. У 1758 г. 11 двароў, 35 жыхароў мужчынскага полу, карчма, млын. У 1780 г. 21 двор, 179 жыхароў, у Быхаўскім павеце; меўся піцейны дом. З 1860 г. працаваў цагельны з-д. У канцы 19 ст. 72 двары, 420 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся адыходным, кравецкім, шавецкім, бандарным, кавальскім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. 102 двары, 708 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, ветраны млын. На пач. 20 ст. 94 двары, 786 жыхароў, вінная крама. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. У 1920 г. — 127 двароў, 707 жыхароў, 456 дзес. зямлі, ветраны млын, крупадзёрка, 2 майстэрні па рамонце с.-г. інвентару; створана 4-гадовая школа (у 1928 г. 63 вучні). З 14.2.1923 г. ў Рагачоўскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Абідавіцкім с/с Журавіцкага р-на Магілёўскай акругі. З 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-не. Арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'яднoўваў 13 гаспадарак, меў 116 га ворыва, 2 ветраныя млыны, крупадзёрку. З 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. У 1940 г. 145 двароў, 555 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліст. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1941 г. спалілі вёску (126 двароў), загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 17.12. 1956 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. У 1982 г. 155 гаспадарак, 331 жыхар, у складзе калгаса «XVIII партз'езд» (з 2003 г. СВК «Абідавічы»; цэнтр — в. Абідавічы). У канцы 20 ст. працавалі пач. школа, клуб, магазін. Планіроўка бессістэмная з развітой вулічнай сеткай. Забудова двухбаковая, драўляная.

**ВІЛЯГІ** — вёска ў Смаліцкім с/с, за 25 км на У ад горада і чыг. ст. Быхаў, 68 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі праз в. Смаліца па дарозе Трылесіна—Вараніно.

Засн. ў 1920-я г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 27 двароў, 186 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны дазор», які спачатку аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, меў 200 га ворыва. У 1940 г. 46 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 173 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У баях за вызваленне вёскі загінуў 41 воін 110-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1982 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Смаліца). Працаваў клуб. Брацкая магіла сав. воінаў. Драўляныя сядзібы свабодна пастаўлены ўздоўж вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**ВІЛЯХАЎКА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 30 км на Пд ад горада і чыг. ст. Быхаў, 81 км ад Магілёва, на Пд цячэ р. Днепр. Транспартныя сувязі праз вёскі Ніжняя Тошчыца, Новы Быхаў, Лудчыцы і далей па шашы Быхаў—Новы Быхаў. 88 гаспадарак, 151 жыхар (2007).

Помнікі археалогіі — 2 селішчы позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 ст. н.э.) і культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Рагачоўскай акрузе. У 1897 г. 96 двароў, 752 жыхары, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага павета; меліся вятрак, хлебазапасны магазін. Побач існаваў маёнтак, 5 двароў, 8 жыхароў.

На пач. 20 ст. ў вёсцы 112 двароў, 866 жыхароў, працавала земская школа (1908). 26.1.1918 г. каля вёскі аб'яднаныя сілы Мінскага, Віцебскага і Магілёўскага чырвонагвардз. атрадаў вялі бой супраць польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 9.5.1923 г. ў Навабыхаўскай вол., з 21.8.1925 г. ў Ніжнятошчыцкім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930 г.); дзейнічала школа, у якой у 1925 г. займаліся 60 вучняў. Існаваў хутар Каменне. У 1926 г. 195 двароў, 923 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Маяк камуны». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 177 гаспадарак, 377 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). У канцы 20 ст. дзейнічалі базавая школа, клуб, б-ка, магазін, 2 спарт. пляцоўкі, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік 42 землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з выцягнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, шчыльна забудаванай з паўд. боку, якую на З перасякае невялікая другарадная вуліца. Забудова пераважна драўляная.

**ВІШАНЬКА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 35 км на Пд ад Быхава, 86 км ад Магілёва, 6,5 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На Пд р. Гнілка. 16 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 54 землякі. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 32 гаспадаркі, 73 жыхары, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). Помнік землякам. Планіровачна складаецца з выцягнутай паралельна да ракі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВОТНЯ** — вёска ў Навабыхаўскім с/с, за 29 км на Пд ад горада і чыг. ст. Быхаў, 80 км ад Магілёва, на правым беразе р. Днепр. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Новы Быхаў, Тайманава, Лудчыцы. 20 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. як маёнтак, гаспадар якога ў 1874 г. валодаў 1151 дзес. зямлі, меў вадзяны млын. У 1897 г. фальварак Ватна (11 жыхароў) у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета; ветраны млын. На пач. 20 ст. 14 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1922 г. створана с.-г. арцель «Пралетарская рэспубліка» (у 1930 г. аб'ядноўвала 39 гаспадарак, меўся трактар). З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. пасёлак, 5 двароў, 33 жыхары; млын, крупадзёрка, сукнавальня, цыркулярка. Дзейнічалі парт. і камсамольская ячэйкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 31 гаспадарка, 84 жыхары, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (з 2003 г. СВК «Навабыхаўскі»; цэнтр — в. Новы Быхаў). У канцы 20 ст. мелася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіроўка набліжана да Р-падобнай. Забудова няшчыльная, драўляная.

**ВЫГОДА** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 61 км ад Магілёва, каля дарогі Быхаў—Дунаёк. На У ад вёскі пачынаецца р. Езва (Езаўка). 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. выселак, 5 двароў, 39 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета. На пач. 20 ст. 7 двароў, 70 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 13 двароў, 63 жыхары, 22,5 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 12 двароў, 75 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 11.4.1960 г. ў Ямніцкім с/с. У 1982 г. 24 гаспадаркі, 52 жыхары, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы меры-

дыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, сярэдняй шчыльнасці, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЗЬМА** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Быхава, 72 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Друць. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Дунаёк. 64 гаспадаркі, 122 жыхары (2007).

Помнікі археалогіі — гарадзішча ранняга этапу зарубінецкай культуры, ранняга жал. веку (2 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.) і за 30 м на Пд ад яго стараж. курган сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1745 г. згадваецца як мястэчка. У 1758 г. 18 двароў, 57 жыхароў мужчынскага полу, мелася карчма. У канцы 19 ст. 50 двароў, 210 жыхароў, частка з іх займалася адыходным промыслам. У 1897 г. 63 двары, 539 жыхароў, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, ветраны млын, драўляная царква. На пач. 20 ст. 95 дымоў, 664 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. — 76 двароў, 424 жыхары, 152,3 дзес. ворыўнай зямлі, майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. Працавала 4-гадовая школа (у 1925 г. 48 вучняў), у якой вучыліся дзеці і з суседняй в. Езва. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. 2.2.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Вязьма» (у 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, меў 106 га ворыва, 2 ветраныя млыны). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1944 г. да 16.4.1954 г. цэнтр Дунайкаўскага с/с. У 1982 г. 139 гаспадарак, 318 жыхароў, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). У канцы 20 ст. працавалі базавая школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, спарт. пляцоўка. Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка блізкая да V-падобнай. Забудова пераважна драўляная, з двухбаковым размяшчэннем сядзіб. У 1953 г. пачаў дзейнічаць радыёвузел.

**ВЯЛІКІ КРУШНІКОЎСКІ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 48 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Балонаў Сялец 2, Балонаў Сялец 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У пачатку кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі пасёлак (19 двароў), загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова з драўлянымі сял. сядзібамі, двухбаковая, сярэдняй шчыльнасці.

**ВЯЛІКІ ЛЕС** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 33 км на Пд ад Быхава, 84 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На У цячэ р. Тошчыца (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Верхняя Тошчыца, Новы Быхаў, Тайманава, Лудчыцы. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым—крас. 1942 г. дзейнічала падп. група (кіраўнік М.Л.Максімаў-Лебедзеў), якая затым улілася ў 810-ы партыз. атрад. На паўночна-ўсх. ускраіне вёскі ў брацкай магіле пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў баі супраць акупантаў. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 24 гаспадаркі, 58 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна складаецца з вуліцы, выцягнутай з Пн на Пд. Забудавана няшчыльна, двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАДЫЛЁВА** — пасёлак у Следзюкоўскім с/с, за 16 км на ПнУ ад горада і

чыг. ст. Быхаў, 32 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па шашы Санкт- Пецярбург—Адэса. 479 гаспадарак, 1055 жыхароў (2007).

Узнік у 1952 г. ў сувязі з заснаваннем торфапрадпрыемства Гадылёва (пазней торфабрыкетны з-д «Дняпроўскі»). На ПдУ паміж пас. Гадылёва і вёскамі Следзюкі, Ухлясць знаходзіцца буйнейшае ў вобласці радовішча «Гадылёва» (2,8 тыс. га), дзе вядзецца здабыча і брыкетаванне торфу. У 1951 г. пачаў дзейнічаць радыёвузел. Да 16.7.1954 г. ў Кузькавіцкім с/с Быхаўскага р-на. У пасёлку ПМК-1 трэста «Белпаліўбуд» і леспрамгас. У канцы 20 ст. працавалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, клуб, сталовая, 3 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, бальніца, аптэка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, 5 спарт. пляцовак, лазня. Дзейнічаюць Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі; турысцкая база торфабрыкетнага з-да. Брацкая магіла 5 сав. воінаў, у тым ліку 3 лётчыкаў 101-га авіяцыйнага палка далёкага дзеяння, якія загінулі ў баях супраць акупантаў у Вял. Айч. вайну. Аснову планіроўкі складае прамавугольная сетка вуліц. Забудавана адна-, двух- і трохпавярховымі мураванымі жылымі дамамі секцыйнага тыпу. На перакрыжаванні вуліц імя Гасана і Клубнай — адм.-грамадскі цэнтр.

**ГАЕЎСКІ** — пасёлак у Абідавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 71 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Балонаў Сялец 1 і Балонаў Сялец 2 і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да лютага 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса імя А.А. Жданава (цэнтр — в. Палкі). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна з паўн. боку драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАЛЕЕЎКА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 15 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў, 57 км ад Магілёва, на беразе Чыгірынскага вадасховішча. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1815 г. 8 двароў, у складзе маёнтка Лубянка. У 1847 г. цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 27 двароў, 172 жыхары, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. 25 двароў, 161 жыхар. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 23 двары, 135 жыхароў, 72 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1920-я г. працавалі 4-гадовая школа (у 1928 г. 26 вучняў), смалакурны з-д (1928). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 33 двары, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 31 гаспадарка, 37 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва »; цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, выцягнутай паралельна да шашы з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Уваходзіць у абл. зону адпачынку Чыгірынка.

**ГАЛЬКОЎКА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 41 км ад Магілёва, каля шашы Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва »; цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай пе-

раважна з зах. боку драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАМАРНЯ** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 64 км ад Магілёва, на дарозе Быхаў—Дунаёк. 20 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. згадваецца як калонія Гамарня (яна ж Уюн), 25 двароў, 171 жыхар, меліся кузня, малітоўны дом, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Існавала аднайменная вёска — 16 двароў, 67 жыхароў, млын, сукнавальня. На пач. 20 ст. ў вёсцы 27 двароў, 147 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 43 двары, 242 жыхары, 139,48 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 41 двор, 255 жыхароў. У 1928 г. створана смалакурня, у 1932 г. — хімлясгас. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17.8.1943 г. партызаны 425-га атрада Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі непадалёку ад вёскі на бальшаку Гамарня—Кіпячы буйное падраздзяленне гітлераўскіх карнікаў. У 1982 г. 33 гаспадаркі, 81 жыхар, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). У канцы 20 ст. дзейнічала лясніцтва. Брацкая магіла 6 партызан, загінуўшых у 1943 г.; помнік на месцы партыз. паста ў гады Вял. Айч. вайны. Планіровачна складаецца з дзвюх частак, падзеленых ракой Грэза. Забудова двухбаковая, драўляная, сярэдняй шчыльнасці.



*Ф.І.Лукашоў.*

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска, цэнтр Гарадзецкага с/с, за 16 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў, 65 км ад Магілёва. На З цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 221 гаспадарка, 474 жыхары (2007).

Вёска вядома з 16 ст. У 1598 г. сяло ў складзе маёнтка Быхаў Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1688 г. сяло, уласнасць памешчыка. У 1758 г. 60 двароў, 155 жыхароў мужчынскага полу, меліся карчма, млын, пякарня, 2 бровары, існаваў фальварак, у Быхаўскім графстве. У 1780 г. 69 двароў, 514 жыхароў, дзейнічала царква, у Быхаўскім павеце. У пач. 19 ст. пабудавана новая драўляная царква. З 1842 г. працавала гарбарня. У 1866 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучаліся 30 хлопчыкаў, у 1907 г. — 118 хлопчыкаў і 25 дзяўчынак. У пач. 1880-х г. 96 двароў, 618 жыхароў, частка з іх займалася кавальскім промыслам. Дзейнічала бальніца. У 1897 г. вёска, 148 двароў, 921 жыхар, цэнтр воласці, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ.; 2 ветраныя млыны, кузня, крама, піцейны дом, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 165 двароў, 966 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. Тут створана адна з першых на Быхаўшчыне камсамольская ячэйка (арганізатар К.І.Лукашоў), першапачаткова налічвала 5 камсамольцаў. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 139 вучняў). У піянерскую арг-цыю ўваходзілі 60 вучняў. У 1920-я г. меліся драматычны гурток, майстэрня па рамонце с.-г. інвентару, 2 ветраныя млыны. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.); працавала хата-чытальня. У 1926 г. 228 двароў, 1262 жыхары; створана с.-г. камуна імя К.Маркса. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Перамога» (у 1932 г. аб'ядноўваў 118 гаспадарак, меў 530 га ворыва), пабудавана памяшканне для

*Каскад крыніц у в. Гамарня.*



школы-сямігодкі, адкрыты ўрачэбны ўчасток (1935). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. партызаны 425-га атрада (камандзір М.П.Куракін) разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся тут, і вызвалілі шмат ваеннапалонных. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (297 двароў) і загубілі 460 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У канцы чэрв. 1944 г. ў баі за вызваленне вёскі загінулі 28 воінаў і партызан, у тым ліку воіны 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З фронту не вярнуліся 50 землякоў. З 1962 г. цэнтр саўгаса «Спадарожнік». У 1982 г. 293 гаспадаркі, 745 жыхароў. У канцы 20 ст. меліся машынны двор, піларама, 2 устаноўкі па прыгатаванні кармоў, лясніцтва. Працавалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, 2 магазіны, 4 спарт. пляцоўкі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Дзейнічаюць (2008) б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, с.-г. філіял ААТ «ПМК-85 «Водбуд». Помнікі: ахвярам фашызму, сав. воінам і партызанам; землякам. Планіровачна складаецца з дзвюх гал. вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, якія перакрыжоўваюцца другараднымі вуліцамі. Сярод драўлянай жылой забудовы аднакватэрныя мураваныя дамы. Радзіма акадэміка НАН Беларусі, доктара геолага-мінералагічных навук, праф. К.І.Лукашова. У вёсцы нарадзіліся таксама былы чл. Быхаўскага падп. райкома партыі Ф.І.Лукашоў, камісар 1-га батальёна 425-га партыз. палка, удзельнік вызвалення Беларусі і Польшчы Ц.М.Полаўцаў. На тэр. сельсавета 6 вёсак. У канцы 1930 г. існавалі вёскі Гута Лубяніцкая, Уюноўская Сяліба, пасёлкі Дворышча, Залачоўе, Карла Маркса, Узлужжа.

**ГЛУХІ** — вёска, цэнтр Глухскага с/с, за 18 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 40 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Семукачы. На З цячэ р. Грэза. 177 гаспадарак, 454 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1562 г. сяло, у складзе маёнтка Быхаў, шляхецкая ўласнасць. У 1758 г. вёска, 70 двароў, 156 жыхароў мужчынскага полу, меліся царква, млын, карчма. У 1770 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1784 г. 89 двароў, 689 жыхароў, у Быхаўскім павеце. У 1848 г. 63 двары. Існаваў маёнтак, гаспадар якога ў 1851 г. валодаў 3548 дзес. зямлі, меў карчму; дзейнічала паштовая станцыя. У 1858 г. сяло, царк. уласнасць. У 1880 г. 91 двор, 966 жыхароў, частка якіх займалася бандарным, кавальскім і шавецкім промысламі. Працавала школа (у 1889 г. 26 хлопчыкаў, у 1907 г. 62 хлопчыкі і 18 дзяўчынак). У 1897 г. цэнтр воласці Быхаўскага павета, 133 двары, 683 жыхары; хлебазапасны магазін, піцейны дом, драўляная царква. Побач быў фальварак — 3 двары, 10 жыхароў. У канцы 19 ст. меўся заезны двор. На пач. 20 ст. 144 двары, 843 жыхары, адкрыта казённая вінная крама. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. У 1920 г. ў вёсцы дзейнічалі 3 майстэрні па рамонце с.-г. інвентару. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі. У школе ў 1924 г. навучаліся 118 дзяцей, працавалі драматычны і прыродазнаўчы гурткі, хата-чытальня, б-ка. У 1926 г. 186 двароў, 1070 жыхароў. У 1931 г. арганіза-



*Ц.М.Полаўцаў.*

*Забудова в. Глухі.*



ваны калгас «Чырвоная ніва» (у 1932 г. аб'ядноўваў 101 гаспадарку, меў 570 га ворыва). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 35 воінаў і партызан, у тым ліку воіны 110-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. Не вярнуліся з франтоў або загінулі ў партыз. барацьбе 113 землякоў з вёсак Глухі, Ямнішча і Заброддзе. 11.4.1960 г. Глухскі с/с ліквідаваны, 15.1.1965 г. адноўлены. З 1963 г. вёска — цэнтр саўгаса «Усход». У 1976 г. да яе далучана в. Зарэчча. У 1982 г. 249 гаспадарак, 525 жыхароў. У канцы 20 ст. на тэр. сельсавета працавалі машынны двор, пілярама, устаноўка па пераапрацоўцы кармоў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, сталовая, амбулаторыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, лазня, аддз. сувязі, 2 магазіны, стадыён, 4 спарт. пляцоўкі, метэастанцыя. Дзейнічаюць (2008) б-ка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Мемарыяльная дошка маршалу авіяцыі С.А.Красоўскаму. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік землякам. Планіровачна складаецца з паўн.-заходняй (в. Глухі) і паўд.-ўсходняй (былая в. Зарэчча) частак, падзеленых ручаём (прыток р. Грэза). Забудавана індывідуальнымі жылымі пераважна драўлянымі хатамі. Радзіма Героя Сав. Саюза С.А.Красоўскага.



*С.А.Красоўскі.*



*Дзіцячая пляцоўка ў аграгарадку Грудзінаўка.*

На тэр. сельсавета 8 вёсак і 2 пасёлкі. У канцы 1930-х г. існавалі пасёлкі Буглачына, Гарадок, Дасоў, Зарачанскі, Зарэчча, Ільіч, Круглая Ніва, Кузнецкі, Куйбышава, Міжказённае, Мыліца, Навінкі, Падрадчы, Пралетарый, Скрыпель, Чарцёж, Чырвоная Зорка.

**ГЛУХСКАЯ СЯЛІБА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 34 км ад Магілёва, на перакрыжаванні шашэйных дарог Магілёў—Бабруйск і Быхаў—Семукачы. На У цячэ р. Грэза. 47 гаспадарак, 112 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1880 г. вёска, 55 двароў, 255 жыхароў. Частка з іх займалася кавальскім, бандарным і шавецкім промысламі. У 1897 г. 456 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета. На пач. 20 ст. 89 двароў, 415 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 102 двары, 600 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага (у 1932 г. аб'ядноўваў 63 гаспадаркі, меў 448 га ворыва). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуўся 41 зямляк. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 82 гаспадаркі, 169 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). У канцы 20 ст. працавалі радыёвузел, б-ка, сталовая, аддз. сувязі, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Дзейнічае аддз. сувязі. Помнік землякам. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, якая трасіравана паралельна да шашы Магілёў—Бабруйск з ПнУ на ПдЗ і перакрыжоўвае шашу Быхаў—Семукачы. Забудавана двухбакова сял. сядзібамі. Радзіма сакратара Магілёўскага падп. райкома КП(б)Б, кіраўніка Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы ў Вял. Айч. вайну І.П.Станкевіча.

**ГРАМАДА** — пасёлак у Абідавіцкім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 67 км ад Магілёва. Транспартныя

сувязі па дарозе праз в. Палянінавічы, пас. Пралетарскі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 13 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе калгаса «Расія» (з 2003 г. СВК «Калгас «Расія»; цэнтр — в. Палянінавічы). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРОНІ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва, каля шашы Магілёў—Бабруйск. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 36 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудова драўлянымі сял. сядзібамі, большшчыльная з паўн. боку.

**ГРУДЗІНАЎКА** — вёска, цэнтр Грудзінаўскага с/с, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 45 км ад Магілёва. На З возера (каля 3 га), на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Перакладавічы, Гадылёва і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 267 гаспадарак, 690 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Старабыхаўскім павеце. У 1777 г. згадваецца як ключ Грудзінаўка, гаспадарскі дом, частка буйнога феад. ўладання, у Старабыхаўскай акрузе. У канцы 18 ст. маёнтак стаў уладаннем Дз.А.Талстога, брата суvoраўскага генерала, пасла ў Парыжы П.А.Талстога. У 1812—13 гг. Дз.А.Талстой быў магілёўскім губернатарам. Гаспадарскі дом суседнічаў з велічным паркам. У 1809—37 гг. дзейнічала палатняная мануфактура (у 1830 г. 86 рабочых). У 1842 г. пабудавана мураваная царква. У 2-й пал. 19 ст. 110 жыхароў мужчынскага полу (1858), у фальварку запрацаваў пункт па вывядзенні чыстапародных коней (1879). Гаспадар маёнтка ў 1878 г. меў 2062 дзес. зямлі, 2 млыны, 5 корчмаў, смаляны з-д. У 1897 г. ў фальварку (2 двары, 78 жыхароў) дзейнічала школа (нар. вучылішча). Побач з ім існаваў царк. пагост — 3 двары, 12 жыхароў. Штогод (13 мая) праводзіўся таржок. У 1909 г. сяло — валасны цэнтр у Быхаўскім павеце, 67 двароў, 634 жыхары, у царк. пагосце — 4 двары, 13 жыхароў. У 1910 г. адкрыта паштова-тэлегр. аддз., дзейнічалі пажарная дружына, царква, малітоўны дом, а таксама вінакурны з-д (у 1913 г. 8 рабочых), які належаў кн. І.А.Куракіну. З 26.4.1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. У вёсцы ў 1920-я г. працаваў с.-г. кааператыў, арганізаваны саўгас «Грудзінаўка» (1922), які меў лесапільны з-д, маслазавод (з 1923 г.), вінзавод (з 1926 г.), паравы млын, агароднінасушыльню, кузню, у 1924 г. адкрыты б-ка і хата-чытальня, створана с.-г. т-ва. З 20.8.1924 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 1930 г.). У 1925 г. ў школе навучалася 79 вучняў. У 1928 г. вёска электрыфікавана, пазней створана машынна-



*Палац у в. Грудзінаўка.*

конная станцыя. У 1931 г. саўгас меў 636 га ворыўнай зямлі, 2 трактары, грузавую аўтамашыну, пры ім працаваў дзіцячы сад (1930). У 1934 г. пасля рэканструкцыі электрастанцыі на спіртзаводзе яе магутнасць павялічылася. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобласці. З 24.1.1939 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у 1942 г. часткова спалена гітлераўцамі. Дзейнічала падп. камсамольская група на чале з камуністам К.С.Сіўцовым. У баі ў пач. ліп. 1941 г. за вызваленне вёскі загінулі 110 воінаў, у іх ліку воіны 187-й стралк. дывізіі 13-й арміі Зах. фронту, і 1 партызан. З фронту не вярнуліся 27 землякоў. У 1948 г. абсталяваны радыёвузел. У 1982 г. 338 гаспадарак, 748 жыхароў, цэнтр саўгаса «Грудзінаўскі». У канцы 20 ст. дзейнічалі машынны двор, млын, сталярна-цяслярская майстэрня, піларама, спіртзавод, хлебапякарня, сярэдняя школа, базавая школа-інтэрнат, Дом культуры, клуб, б-ка, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, 3 магазіны, 5 спарт. пляцовак, спарт. зала, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Працуюць (2001) б-ка аграгарадка, Цэнтр культуры і адпачынку, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. У межах вёскі ёсць 4 сажалкі, злучаныя паміж сабой штучнымі каналамі. Помнікі архітэктуры: палацава-паркавы ансамбль (пач. 19 ст.), Грудзінаўскі парк. Брацкая магіла сав. воінаў і партызана, помнік землякам. Планіровачна складаецца з паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і шчыльна забудаваных сял. сядзібамі. На цэнтр. вуліцы размешчаны мураваныя будынкі. Радзіма ўдзельніка рэвалюцыі 1905—07 гг., паўстання на легендарным браняносцы «Пацёмкін» А.А.Мазурава.



*А.А.Мазураў.*



*Фрагмент парку ў в. Грудзінаўка.*

У сельсавеце 9 вёсак. У канцы 1930-х г. на яго тэрыторыі існавалі пасёлкі Вароўскага, Крупскай, Калініна.

**ГРУДЗІЧЫНА** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 40 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў, 73 км ад Магілёва, на беразе Чыгірынскага вадасховішча. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Чачэвічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. фальварак, 7 двароў, 72 жыхары, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У лютым—ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1920 г. — 18 двароў, 109 жыхароў, 45,61 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка» (у 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак, меў 110 га ворыва, вадзяны млын). Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 11 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, выцягнутай уздоўж берага вадасховішча і больш шчыльна забудаванай з усх. боку драўлянымі сял. сядзібамі. Уваходзіць у зону абл. базы адпачынку Чыгірынка. У в. Грудзічыны нарадзіўся А.А.Грыгор'еў, воін-інтэрнацыяналіст, загінуўшы ў Афганістане.

**ГУТА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 25 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў, 66 км ад Магілёва. На Пд цячэ р. Мошка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Падклённе і далей па шашы Быхаў—Семукачы.

Вядома з пач. 19 ст. У 1813—46 гг. дзейнічала прыгонніцкая шкломануфактура (у 1828 г. 10 рабочых). У 1858 г. ў вёсцы 106 жыхароў. У 1897 г. згадваецца як в. Гута Лубяніцкая, 16 двароў, 119 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. 20 двароў, 91 жыхар. У 1906 г. адкрыта школа граматы, пазней ператворана ў царк.-прыходскую. У лютым— ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. Створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 37 вучняў). У 1920 г. 21 двор, 167 жыхароў, 26 дзес. ворыва. У 1932 г. арганізаваны калгас, які першапачаткова меў 150 га ворыва. У 1940 г. 27 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 66 жыхароў. У 1982 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса «Спадарожнік» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з З на У, няшчыльна забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДАБУЖА** — вёска ў Смаліцкім с/с, за 28 км на У ад горада і чыг. ст. Быхаў, 83 км ад Магілёва, на р. Ухлясць. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Смаліца, Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 39 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).



*Курган Бессмяротнасці ў в. Дабужа.*

Гарадзішча ранняга этапу зарубінецкай культуры (3 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.) за 6 км на Пд ад вёскі сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 16 ст. У 1598 г. сяло, дзярж. ўласнасць, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1742 г. 39 гаспадарак, дзейнічалі млын і карчма. У 1780 г. 38 двароў, 396 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Грудзінаўскі Быхаўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 44 двары, 224 жыхары. Вяскоўцы займаліся земляробствам, адыходным, кавальскім і кушнерскім промысламі; працаваў хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 73 двары, 510 жыхароў, у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1920 г. ў вёсцы дзейнічалі 2 ветракі. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 105 двароў, 541 жыхар. У 1930-я г. арганізаваны калгас «1 Мая» (у 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак, меў 236 га ворыва і паравы млын), пачала дзейнічаць смалакурная арцель. У 1940 г. 124 двары, 613 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад яе дыслацыраваўся партыз. полк «Трынаццаць». Тут у кастр. 1943 г. партызаны вялі цяжкія баі супраць акупантаў. Гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 117 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 96 гаспадарак, 151 жыхар, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Смаліца). У канцы 20 ст. працавалі піларама, магазін. Курган Бессмяротнасці ў гонар партызан. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ каля дарогі Трылесіна—Смаліца. Забудова шчыльная, драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.



*А.А.Грыгор'еў.*

**ДАВЫДАВІЧЫ** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 34 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 40 км ад Магілёва. На ПнУ р. Будлянка. Транспартныя сувязі па да-



*Археалагічная стаянка каля в. Дальняе Ляда.*

розе праз вёскі Чырвоны Асавец, Грудзінаўка, Гадылёва і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 42 гаспадаркі, 60 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 17 ст. У 1742 г. 36 двароў, дзейнічала карчма. У 1780 г. 45 двароў, у 1858 г. 145 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 65 двароў, 342 жыхары, частка з іх займалася кавальскім, сталярным, бандарным і шавецкім промысламі; працаваў хлебазапасны магазін. У 1897 г. 77 двароў, 553 жыхары, у Давыдавіцкай сельскай абшчыне Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета. Мелася школа граматы, якая ў 1908 г. ператворана ў царк.-прыходскую. На пач. 20 ст. 84 двары, 715 жыхароў, у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета. У 1920-я г. ў вёсцы 2 ветраныя млыны, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. займаліся 42 вучні. У 1926 г. 133 двары, 696 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё» (у 1932 г. аб'дноўваў 22 гаспадаркі, меў 105 га ворыва, ветраны млын, кузню, ваўначоску). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. спалілі 27 двароў, загубілі 163 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 137 гаспадарак, 212 жыхароў, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). У канцы 20 ст. ў вёсцы працавалі філіял саўгаса, клуб, магазін, б-ка. Планіровачна складаецца з вуліцы, выцягнутай паралельна да берага ракі з ПнЗ на ПдУ, якую перакрыжоўваюць другарадныя вуліцы. Забудова шчыльная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ДАЛЬНЯЕ ЛЯДА** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 15 км на Пн ад Быхава, 36 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Баркалабава на лініі Быхаў—Магілёў, на правым беразе р. Днепр. Транспартныя сувязі па шашы Быхаў—Магілёў. 25 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

Помнікі археалогіі — 2 стаянкі (каменнага веку і ранняга мезаліту) сведчаць аб засяленні чалавекам гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 65 гаспадарак, 159 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). У канцы 20 ст. працаваў магазін. Гал. вуліца (адрэзак шашы) мае забудову пераважна з зах. боку, сядзібы пастаўлены адвольна. У большасці двары вянковыя і няпоўныя вянковыя. Амаль паралельна да галоўнай ідзе другарадная вуліца, аддзеленая ад яе штучнай сажалкай і выганам.

**ДАЧА** — пасёлак у Холстаўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 47 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Семукачы. На У р. Макранка.

Пасёлак вядомы з пач. 20 ст. У 1911 г. тут дзейнічаў паравы млын. У лютым—ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1930-х г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 18.3.1966 г. ў Холстаўскім с/с. У 1982 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (цэнтр — в. Холстава). Планіровачна складаецца з вуліцы, якая пачынаецца перпендыкулярна да шашы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДАЧА** (да 1977 г. Прыберажжа) — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 40 км ад Магілёва, на р. Грэза. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 6 гаспадарак, 5 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А. Смалячкова (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЗЕДАВА** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Быхава, 75 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Узбінка. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Верхняя Тошчыца, Новы Быхаў, Тайманава і Лудчыцы. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. 16 двароў, 78 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. ў Чырвонабярэжскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобласці. З кастр. 1924 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1925 г. 30 вучняў). У 1926 г. ў вёсцы 269 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут вялі баі ў лютым 1944 г. воіны 5-й стралк. дывізіі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. 24.2.1944 г. каля вёскі злучыліся партызаны Быхаўскай ваеннааператыўнай групы з войскамі 80-га стралк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1982 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Хамічы). У канцы 20 ст. працаваў магазін. Брацкая магіла 8 сав. воінаў, загінуўшых у баі за вызваленне вёскі ў гады Вял. Айч. вайны; помнік у гонар злучэння партызан Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы і войск 80-га стралк. корпуса. Планіровачна складаецца з вуліцы, выцягнутай з ПнЗ на ПдУ. Забудова драўляная, двухбаковая, няшчыльная. На Пн размешчаны летнія цялятнікі. Вёска (б. хутар Хаткі) — радзіма Героя Сав. Саюза артылерыста-зенітчыка В.І.Цемчука. У складзе артыл. разліку ў Вял. Айч. вайну ён збіў 5 варожых самалётаў, прыкрываў сав. войскі на Букрынскім плацдарме.

**ДОРКІ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 71 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Палянінавічы, пас. Пралетарскі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліст. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў пачатку ліп. 1941 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. Да 17.12.1956 г. ў Журавіцкім р-не Гомельскай вобл. У 1982 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Расія» (з 2003 г. СВК «Калгас «Расія»; цэнтр — в. Палянінавічы). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.



*В.І.Цямчук.*

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 76 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Іскань, Абідавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1932 г. створаны калгас «Доўгае», які першапачаткова аб'ядноўваў 15 гаспадарак, меў 144 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліст. 1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Да 17.12.1956 г. ў Журавіцкім р-не Гомельскай вобл. У 1982 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Іскань). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. За 1 км на У ад вёскі пачынаецца р. Чарняўка (прыток р. Гутлянка).

**ДРАЗДОВА ЛАЗА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Быхава, 31 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. На

У р. Грэза. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. вёска ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 8 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, якая трасіравана паралельна да шашы і з двух бакоў забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДРУЖБА** (да 30.7.1964 г. пасёлак імя Сталіна) — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 69 км ад Магілёва, на р. Чарняўка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Абідавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 36 гаспадарак, 73 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. У маі 1928 г. на землях фальварка Абідавічы створаны калгас імя І.В.Сталіна (у 1932 г. аб'ядноўваў 35 двароў, меў 250 дзес. ворыўнай зямлі). Пасёлку, які тут складваўся, была нададзена назва калгаса. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да канца ліст. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Да 17.12.1956 г. ў Журавіцкім р-не Гомельскай вобл. У 1967 г. да вёскі далучаны пасёлак № 29. У 1982 г. 66 гаспадарак, 149 жыхароў, у складзе калгаса «XVIII партз'езд» (з 2003 г. СВК «Абідавічы»; цэнтр — в. Абідавічы). У канцы 20 ст. працаваў ветэрынарны ўчастак. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца мае шыротную арыентацыю і падзелена р. Чарняўка на 2 часткі. Забудова драўляная, двухбаковая, шчыльная.

*Дырэктар сельскагаспадарчага комплексу «Дуброва» Ул.І.Мызнікаў напярэдадні ўборкі пшаніцы. 2007 г.*



**ДУБОЎКА** — вёска ў Лудчыцкім с/с, за 8 км на Пд ад Быхава, 59 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. Транспартныя сувязі па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя В.М.Молатава. У 1940 г. 20 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў лютым 1944 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 11.4.1960 г. ў Навабыхаўскім с/с, у падпарадкаванні Быхаўскага гар. Савета. З 15.1.1965 г. вёска ў Лудчыцкім с/с. У 1982 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 52 км ад Магілёва, на шашы Магілёў—Бабруйск. На З цячэ р. Балонаўка. 138 гаспадарак, 338 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пачатку ліп. 1941 г. з гарматамі прынялі тут няроўны бой з гітлераўскімі танкамі 300 воінаў і партызан, у іх ліку воіны-артылерысты 172-й стралк. дывізіі Зах. фронту. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 78 гаспадарак, 227 жыхароў, цэнтр саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (створаны ў 1965 г.; з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»). У канцы 20 ст. ў вёсцы дзейнічалі машынны двор, пІларама, сталярна-цяслярская

майстэрня, авечкагадоўчая ферма, установка па перапрацоўцы кармоў, пач. школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Функцыяніруюць (2008) б-ка, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ перпендыкулярна да шашы. Забудавана жылымі драўлянымі дамамі і гасп. дварамі розных тыпаў. Каля шашы грамадскі цэнтр і спарт. комплекс.

**ДУНАЁК** — вёска, цэнтр Дунайкаўскага с/с, за 24 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 65 км ад Магілёва, на р. Грэза. Транспартныя сувязі па дарозе Дунаёк—Быхаў. 153 гаспадаркі, 379 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1857 г. фальварак у Быхаўскім павеце; 20 рэвізскіх душ мужчынскага полу (1858). Гаспадар маёнтка, што існаваў побач, валодаў у 1867 г. 1456 дзес. зямлі, а гаспадар другога маёнтка — 2740 дзес. зямлі. У 1895 г. на вінакурным і соладаварным з-дах было 6 рабочых, на вінакурным працавала паравая машына. У 1897 г. фальварак, 2 двары, 10 жыхароў, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета; меліся вінакурны з-д, вадзяны млын, гарэлачны склад. На пач. 20 ст. 40 двароў, 139 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. ў Чачэвіцкім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 4-гадовай школе (у былой в. Кіпячы) у 1928 г. займаліся 59 вучняў. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны гай» (у 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, меў 110 га ворыва). З 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобласці. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 145 землякоў. З 10.1.1969 г. цэнтр сельсавета. У 1976 г. да яе далучана в. Кіпячы. У 1982 г. 204 гаспадаркі, 1570 жыхароў, цэнтр саўгаса «Кіпячы» (створаны ў 1965 г.). У канцы 20 ст. ў вёсцы дзейнічалі лясніцтва, машынны двор, млын, піларама, сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, 5 спарт. пляцовак, ветэрынарны ўчастак, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Працуюць (2008) клуб, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт; ААТ «Рапспрадукт». Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд. Паўн. частка (былая в. Кіпячы) аддзелена ад паўднёвай невялікай сажалкай і штучным каналам, цераз які ўзведзены мост; тут знаходзяцца спарт. комплекс і жылыя дамы з сілікатнай цэглы. У паўд. частцы сканцэнтравана пераважна драўляная жылая забудова.

На тэр. сельсавета 9 вёсак і 1 пасёлак.

**ЕЗВА** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Быхава, 81 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Езва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па дарозе Дунаёк—Быхаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. 35 двароў, 96 жыхароў мужчынскага полу, меліся карчма і млын, у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. У 1784 г. 42 двары, 271 жыхар, у Быхаўскім павеце. У канцы 19 ст. дзейнічалі гарбарня, шкляная вытв-сць. У 1897 г. 15 двароў, 116 жыхароў, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета; школа граматы, вадзяны млын, сукнавальня. На пач. 20 ст. 15 двароў, 139 жыхароў, вінакурны з-д (7 рабочых). У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. — 22 гаспадаркі, 186 жыхароў, 50 дзес. ворыўнай зямлі, смолзавод, на якім працавалі 6 рабочых. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з

ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі 28 двароў, загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1982 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЖЫЛІХАЎКА** — пасёлак у Верхнятошчыцкім с/с, за 36 км на Пд ад Быхава, 87 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На Пн цячэ р. Гнілка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Ніжняя Тошчыца і далей па дарозе Новы Быхаў—Быхаў.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1942 г. тут дзейнічала падп. група на чале з В.Ц.Гадунцовым (пазней 810-ы партыз. атрад). З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). Пасёлак мае вуліцу, перпендыкулярную дарозе Хамічы—Ніжняя Тошчыца і забудаваную з зах. боку драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАБАЛОТНАЕ** — пасёлак у Абідавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 72 км ад Магілёва. На У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі праз в. Палянавічы, пас. Пралетарскі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 15 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Расія» (з 2003 г. СВК «Калгас «Расія»; цэнтр — в. Палянінавічы). Планіровачна мае лінейную вуліцу шыротнай арыентацыі, забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 76 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Палкі, Балонаў Сялец 1 і Балонаў Сялец 2 і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 30 двароў, 190 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да канца ліст. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 18 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Палкі). Планіровачна мае лінейную вуліцу, арыентаваную з З на У. Забудова няшчыльная, двухбаковая, драўляная.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Глухскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 42 км ад Магілёва. На З цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска, 16 двароў, 100 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У снеж. 1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сталінскі прыліў» (у 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, меў 137 га ворыва). У 1940 г. 25 двароў, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі. Пасля вайны адбудавана. З 11.4.1960 г. ў Балонавасялецкім с/с Быхаўскага р-на. З 15.1.1965 г. ў Глухскім с/с. У 1982 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). Планіровачна мае лінейную вуліцу, арыентаваную з Пн на Пд, з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЗАВОДЧЫК** — пасёлак у Верхнятошчыцкім с/с, за 34 км на Пд ад Быхава, 85 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На Пн праця-

кае р. Гнілка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Ніжняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 14 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Зімой—вясной 1944 г. ў баях з гітлераўцамі загінулі 75 воінаў, у тым ліку воіны 80-га стралк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 25 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). Працуе фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЛАТВА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва. На З і Пд вёску агінае ручай, які ўпадае ў р. Грэза. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск. 90 гаспадарак, 162 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска, 56 двароў, 354 жыхары, мелася карчма. У 1780 г. 41 двор, 354 жыхары, у Быхаўскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. 147 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 72 двары, 425 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася земляробствам, кавальскім промыслам. У 1897 г. 111 двароў, 730 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета; працавалі школа граматы, хлебазапасны магазін, ветраны млын, вінная крама. На пач. 20 ст. ў школе (нар. вучылішчы) навучаліся 57 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак, у 1907 г. — 53 хлопчыкі і 5 дзяўчынак. У 1909 г. 130 двароў, 783 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У сак.—ліст. дзейнічала паўстанцкая група на чале з А.А.Мельнікавым. У 1920 г. — 158 двароў, 931 жыхар, 548,9 дзес. зямлі, ветраны млын, майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. Працавала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1920-я г. створана с.-г. т-ва «Араты» (аб'ядноўвала 45 гаспадарак), адкрыта хата-чытальня, прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 74 вучні). У 1926 г. вёска ўяўляла сабой некалькі размежаваных пасёлкаў, 198 двароў, 951 жыхар. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. партыйная арг-цыя, у якую ўваходзілі І.С.Зычкоў, У.І.Ляўшынскі, С.Н.Берыбулаў, К.Л.Адасёў. У чэрв. 1942 г. патрыёты ўліліся ў партыз. атрад. З фронту не вярнуліся 96 вяскоўцаў. У 1953 г. абсталяваны радыёвузел. З 18.2.1972 г. вёска ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 177 гаспадарак, 289 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Дуброва). Працуюць пач. школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік землякам. Планіровачна складаецца з трох вуліц: адна выцягнута ўздоўж берага ручая і мае двухбаковую драўляную забудову, другая накіравана ў бок шашы, трэцяя вуліца трасіравана з Пд на Пн і забудавана індывідуальнымі мураванымі дамамі.

**ЗАЛАХВЕННЕ** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 9 км на Пн ад горада і чыг. ст. Быхаў, 42 км ад Магілёва, на шашы Магілёў—Быхаў, у сутоках рэк Дняпро і Лахва. 28 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Узнікла ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 65 гаспадарак, 139 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх вуліц пераважна драўлянай забудовы. Трапляюцца індывідуальныя дамы з буйных блокаў, чырвонай і сілікатнай цэглы. Двары пастаўлены няшчыльна, арыентаваны адвольна, пераважна няпоўнага вянковага тыпу.

**ЗАМОШША** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 20 км на З ад горада і чыг. ст. Быхаў,

61 км ад Магілёва. На Пн цячэ р. Мошка (прыток р. Грэза). Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Гута, Падклённе. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. згадваецца як аколіца, 8 двароў, 46 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета. На пач. 20 ст. 9 двароў, 45 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 27 двароў, 137 жыхароў, 103,3 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 28 двароў, 166 жыхароў. У 1932 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Індустрыялізацыя» (аб'ядноўваў 21 гаспадарку, меў 153 га ворыва). У 1940 г. 30 двароў, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пачатку ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 35 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Спадарожнік» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіровачна мае лінейную вуліцу, паўн. бок якой шчыльна забудаваны.

**ЗАСМАЛЬКОЎКА** — пасёлак у Чырвонаслабодскім с/с, за 23 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 62 км ад Магілёва. На Пн цячэ р. Трасна. Транспартныя сувязі па дарозе Слаўгарад—Ніканавічы.

Вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. 19 двароў, 125 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Ніканавічы). Планіровачна ўяўляе кароткую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЯЧЭННЕ** — вёска ў Лудчыцкім с/с, за 10 км на Пд ад Быхава, 61 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. Транспартныя сувязі па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 24 гаспадаркі, 46 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 51 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Трактар» (у 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак, меў 93 га ворыва). У 1940 г. 19 двароў, 98 жыхароў. З пачатку ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі 18 двароў, загубілі 6 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі ў ліп. 1941 г. загінулі 75 воінаў, у іх ліку байцы 519-га стралк. палка 13-й арміі, у канцы лютага 1944 г. — байцы 413-й стралк. дывізіі 50-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 11.4.1960 г. ў Навабыхаўскім с/с, у падпарадкаванні Быхаўскага гар. Савета. З 15.1.1960 г. вёска ў Лудчыцкім с/с. У 1928 г. 31 гаспадарка, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). Планіровачна мае лінейную вуліцу шыротнай арыентацыі, забудаваную двухбакова шчыльна сял. сядзібамі.

**ЗВАНЦОЎКА** — вёска ў Глухскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Усходняя і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. пасёлак, 8 двароў, 56 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. 9 двароў, 57 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. дзейнічала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Глухскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 16 двароў, 124 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная праца». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобласці. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 13 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, трасіраванай з ПнУ на ПдЗ. Забудова няшчыльная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ЗЕМЛЯДЗЕЛЛЕ** — пасёлак у Навабыхаўскім с/с, за 22 км на Пд ад Быхава, 78 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. То-

шчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На Пн працякае р. Адаменка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў.

Вядомы з 19 ст. У 1885 г. згадваецца як фальварак Юзафполле. У 1920 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары. У чэрв. 1924 г. на базе былога памешчыцкага маёнтка створана с.-г. т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, якое аб'ядноўвала 19 гаспадарак. Вакол яго складваўся пасёлак, які пазней стаў наз. Сацземлядзелле (ад назвы калгаса, створанага тут у 1931 г.; у 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак, меў 84 га ворыва). З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да лютага 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 11.4.1960 г. ў падпарадкаванні Быхаўскага гар. Савета. У 1982 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (з 2003 г. СВК «Навабыхаўскі»; цэнтр — в. Новы Быхаў). Планіровачна мае лінейную вуліцу, арыентаваную з З на У. Сял. сядзібы пастаўлены на значнай адлегласці адна ад другой.

**ЗЯЛЁНЫ ГАЙ** — пасёлак у Глухскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 44 км ад Магілёва. На З цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Усходняя і далей па шашы Быхаў—Семукачы.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 8 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). Планіроўка Г-падобная. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы, якія ідуць ад перакрыжавання на Пн і на З, няшчыльна забудаваны сядзібамі з драўлянымі хатамі розных тыпаў.

**ІРДЗІЦА** (да 21.1.1967 г. Лудчыцкі дом інвалідаў) — пасёлак у Лудчыцкім с/с, за 7 км на Пд ад горада і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва. На У цякуць рэкі Рдзіца і Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 36 гаспадарак, 302 жыхары (2007).

Засн. пасля рэвалюцыі 1905—07 гг. як маёнтак Лудчыцы. У 1919 г. тут на яго базе быў створаны саўгас, які ў 1920 г. меў 44,5 дзес. ворыўнай зямлі. У канцы 1920-х г. цэнтр. сядзіба саўгаса была пераведзена ў в. Лудчыцы, а на яе месцы створаны Дом інвалідаў «Ірдзіца». Складваўся пасёлак, жыхары якога ў 1930-х г. уступілі ў калгас. З ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 11.4.1960 г. ў Навабыхаўскім с/с. З 15.1.1965 г. зноў у Лудчыцкім с/с. У 1982 г. 39 гаспадарак, 117 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). У канцы 20 ст. працаваў дом-інтэрнат для інвалідаў. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, няшчыльная.

**ІСКАНЬ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 32 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 71 км ад Магілёва, на р. Чарняўка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Абідавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 101 гаспадарка, 249 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска, 45 двароў, у Быхаўскім графстве, памешчыцкая ўласнасць. У 1780 г. 62 двары, 378 жыхароў. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1852 г. валодаў 3425 дзес. зямлі, меў крупадзёрку, 2 карчмы. У 1880 г. — 84 двары, 555 жыхароў, частка якіх займалася кавальскім і кравецкім промысламі, заезны двор. У 1897 г. 876 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, піцейны дом. Існаваў фальварак — 1 двор, 11 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. На пач. 20 ст. ў вёсцы 96 двароў, 963 жыхары, у фальварку — 1 двор, 12 жыхароў; працавала царк.-прыходская школа. У 1920 г. 4 двары, 24 жыхары, 35,5 дзес. ворыўнай зямлі, ветраны млын. У пач. 1920-х г. у былым панскім маёнтку створана калект. гаспадарка — арцель імя Я.М.Свярдлова; пачала работу школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Журавіцкага р-на Ма-

гілёўскай акругі. У 1926 г. — 1053 жыхары, створана т-ва (7 сямей) па перасяленні ва Уфімскую вобл. У вясковай 4-гадовай школе ў 1928 г. быў 101 вучань. Створаны ў 1929 г. калгас «Іскра» ў 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак, меў 290 га ворыва, 2 ветраныя млыны. З 8.7.1931 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага, з 12.2.1935 г. Доўскага, з 5.4.1935 г. Журавіцкага р-наў, з 20.8.1938 г. ў Гомельскай вобласці. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.11.1943 г. войскамі 17-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бел. фронту. З 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-не, з 11.4.1960 г. ў Абідавіцкім с/с. У 1967 г. далучана в. Ганчароўка. У 1982 г. 150 гаспадарак, 346 жыхароў, цэнтр калгаса «Іскра». У канцы 20 ст. ў вёсцы працавалі млын, машынны двор, піларама, клуб, б-ка, базавая школа, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, лазня, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, 3 спарт. пляцоўкі. Дзейнічаюць (2008) б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Брацкая магіла 156 сав. воінаў, загінуўшых за вызваленне вёскі. Планіровачна складаецца з вуліц шыротнай арыентацыі, якія ідуць паралельна да ракі і забудаваныя сял. сядзібамі.

**ІСТОПКІ** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 29 км на Пд ад Быхава, 80 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На З невялікае возера. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1758 г. згадваецца як слабодка, 19 двароў, 54 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, у Быхаўскім графстве. У 1784 г. 15 двароў, 117 жыхароў, у Быхаўскім павеце. У 1858 г. 112 жыхароў мужчынскага полу. У пач. 1880-х г. 52 двары, 373 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, адыходным і калёсным промысламі. У 1897 г. 83 двары, 609 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета. Побач існаваў фальварак — 2 двары, 3 жыхары. На пач. 20 ст. ў вёсцы 76 двароў, 597 жыхароў, у фальварку — 2 двары, 9 жыхароў; у 1912 г. працавала школа. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. У 1920 г. 88 гаспадарак, 583 жыхары, 315,4 дзес. зямлі; адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 14.2.1923 г. ў Рагачоўскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чырвонабярэжскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 105 двароў, 648 жыхароў. Побач існаваў аднайменны пасёлак — 13 двароў, 72 жыхары. Вёска і пасёлак пазней аб'ядналіся. У 1930 г. створаны калгас імя У.І.Леніна (у 1932 г. 60 гаспадарак, 467 га ворыва). З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобласці. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Барок. У 1982 г. 29 гаспадарак, 101 жыхар, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Працуюць пач. школа, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, няшчыльна забудаванай з двух бакоў сял. сядзібамі. На ПдУ ад вёскі пачынаецца р. Адаменка (прыток р. Днепр). Радзіма старшага тэхніка мотастралк. роты М.І.Анішчанкі, загінуўшага ў Афганістане пры выкананні воінскага абавязку (пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі).



*М.І.Анішчанка.*

**КАЗЁЛ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Быхава, 45 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. На З цячэ р. Балонаўка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Балонаў Сялец 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 14 гаспада-

рак, 34 жыхары, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна мае кароткую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЛІНІН** — пасёлак у Верхнятошчыцкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Быхава, 86 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На ПдУ працякае р. Гнілка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Ніжняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 22 гаспадаркі, 70 жыхароў (2007). Пасёлак названы ў памяць пра М.І.Калініна.

Засн. ў 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 20 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). Планіровачна складаецца з вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сярэдняй шчыльнасці.

**КАЛІНІНА** — пасёлак у Навабыхаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Быхава, 69 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На Пд цячэ р. Адаменка. Транспартныя сувязі па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007). Назва нададзена пасёлку ў памяць пра М.І.Калініна.

Засн. ў 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 163 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў лютым 1944 г. поўнасцю спалілі яго. Пасля вайны адбудаваны. У баі за вызваленне пасёлка ад акупантаў у 1944 г. загінуў 501 сав. воін, сярод якіх байцы 121-га стралк. корпуса 50-й арміі, а таксама Героі Сав. Саюза С.Іскаліеў, У.К.Мартынаў, Г.Якубаў. Зімой і вясной 1944 г. ў баях з гітлераўцамі загінуў 231 воін, у ліку якіх байцы 121-га стралк. корпуса 50-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1982 г. 21 гаспадарка, 57 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Тайманава). Брацкія могілкі сав. воінаў на ПдЗ і ўсх. ускраіне пасёлка. Планіровачна мае лінейную вуліцу, арыентаваную шыротна, перпендыкулярна да шашы і шчыльна забудаваную двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАМАРОЎКА** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Быхава, 42 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Пузан, Чорны Бор і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Да 18.2.1972 г. ў Балонавасялецкім с/с. У 1982 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіровачна мае лінейную вуліцу амаль шыротнай арыентацыі, няшчыльна забудаваную з двух бакоў драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАМСАМОЛЬСКІ** (да 1950 г. Байдак) — пасёлак у Лудчыцкім с/с, за 9 км на Пд ад Быхава, 60 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На У цячэ р. Рдзіца. Транспартныя сувязі па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 5 двароў, 34 жыхары. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы).

**КАРОТКІЯ** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 27 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва, на Чыгірынскім вадасховішчы. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Галееўка і далей

па шашы Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1815 г. 4 двары, у складзе фальварка Лубянка. У 1834 г. слабада, 5 двароў, 43 жыхары, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1897 г. вёска, 18 двароў, 154 жыхары, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета. На пач. 20 ст. 19 двароў, 165 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 36 двароў, 222 жыхары, 75,71 дзес. ворыўнай зямлі; працавала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У 1940 г. 43 двары, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. Да 18.2.1972 г. ў Балонавасялецкім с/с. У 1982 г. 33 гаспадаркі, 39 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна мае лінейную трасіраваную вуліцу шыротнай арыентацыі, двухбакова забудаваную драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАРОЎЧАНА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 39 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 78 км ад Магілёва, на беразе Чыгірынскага вадасховішча. Транспартныя сувязі па дарозе праз. в. Чачэвічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. згадваецца як в. Кароўчына Слабада, 13 двароў, 88 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 19 двароў, 100 жыхароў, 19,45 дзес. ворыўнай зямлі, адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. да 26.7.1930 г. ў Чыгірынскім с/с Чачэвіцкага, з 8.7.1931 г. Быхаўскага р-наў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. вёска ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна мае вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі ўздоўж берага вадасховішча. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Уваходзіць у абл. зону адпачынку Чыгірынка.

**КАСІЧЫ** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 18 км на Пн ад Быхава, 33 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Барсукі на лініі Быхаў—Магілёў. На У цячэ р. Лахва. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Залахвенне і далей па шашы Быхаў—Магілёў. 76 гаспадарак, 123 жыхары (2007).

Упершыню згадваецца ў 1562 г. як сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1566 г. аддадзена ў часовае карыстанне шляхціцу, у 1580 г. — у пажыццёвае карыстанне памешчыку. У 1660 г. побач існаваў аднайменны фальварак, а ў 1676 г. — маёнтак. У 1758 г. 25 двароў, 51 жыхар мужчынскага полу, меліся карчма і млын, уласнасць памешчыка, у Быхаўскім графстве. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1780 г. — 37 двароў, 241 жыхар, гаспадарскі двор, млын, у Быхаўскім павеце. У 1858 г. 96 жыхароў мужчынскага полу, з 1871 г. дзейнічала гарбарня. У 1880-я г. 51 двор, 298 жыхароў, частка з якіх займалася адыходным промыслам; працавала сукнавальня. У 1897 г. 72 двары, 565 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета, меліся вадзяны млын, піцейны дом. У пач. 20 ст. 88 двароў, 461 жыхар, адкрыты казённая вінная крама, земская школа. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. дзейнічалі майстэрня па рамонце с.-г. інвентару, вадзяны млын, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 120 вучняў). З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 136 двароў, 773 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», які першапачаткова аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, меў 128 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. ба-

рацьбе загінулі 50 землякоў. У 1982 г. 145 гаспадарак, 272 жыхары, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). Працуюць базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік воінам і партызанам-землякам. Планіровачна складаецца з дзвюх узаемна перпендыкулярных вуліц. Забудова шчыльная, пераважна драўляная, ёсць некалькі мураваных дамоў. Радзіма ген.-маёра А.В.Ставянкова, які ў гады Вял. Айч. вайны з'яўляўся камандзірам кавалерыйскай дывізіі, нам. камандзіра корпуса на Зах., Сталінградскім, Цэнтр. і 1-м Бел. франтах.

**КАШАЛЁЎКА** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 36 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 66 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Абідавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 66 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса «XVIII партз'езд» (з 2003 г. СВК «Абідавічы»; цэнтр — в. Абідавічы). Планіровачна мае вуліцу шыротнай арыентацыі, якую перакрыжоўвае дарога Абідавічы—Палянінавічы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КЛЯТНОЕ** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад райцэнтра і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе Дунаёк—Быхаў. 16 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 18 ст. У 1784 г. 9 двароў, 59 жыхароў, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1897 г. 21 двор, 140 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета. На пач. 20 ст. 22 двары, 152 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Дзейнічала партыз. група на чале з Дз.М. і П.М. Антонавымі. У 1920 г. 26 гаспадарак, 146 жыхароў, 73,5 дзес. ворыўнай зямлі; у 1923 г. створана меліярацыйнае т-ва «Зара». З 21.8.1925 г. да 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 43 двары, 242 жыхары, працавалі 4-гадовая школа (у 1928 г. 19 вучняў), пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З франтоў не вярнуліся 32 вяскоўцы. З 11.4.1960 г. ў Ямніцкім с/с. У 1982 г. 47 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Працуе магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх трасіраваных вуліц з V-падобнай структурай. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОЛАС** (да 21.1.1969 г. пасёлак Быхаўскай РТМС) — пасёлак у Холстаўскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 52 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Семукачы. На Пн працякае р. Макранка.

Узнік у 1958 г. як сядзіба рамонтна-трактарнай станцыі, ператворанай у 1960 г. ў рамонтна-тэхн. меліярацыйную станцыю (РТМС). У 1961 г. тут размясцілася будаўніча-мантажнае ўпраўленне, якое ў 1972 г. рэарганізавана ў ПМК-19 трэста «Магілёўбуд». З 18.3.1966 г. ў Холстаўскім с/с. У 1982 г. 543 гаспадаркі, 1820 жыхароў. Тут знаходзіліся таксама аб'яднанні «Сельгасхімія» і «Сельгастэхніка», працаваў пункт па падрыхтоўцы кадраў механізатараў і брыгадзіраў па дрэнажу. У канцы 20 ст. дзейнічалі пач. школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, Дом быту, лазня, спарткомплекс, сталовая, магазін, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі. Пасёлак спланаваны па тыпу мікрараёна са свабоднай забудовай 2-, 3-, 4- і 5-павярховымі мураванымі жылымі дамамі.

**КРАПІВА** — пасёлак у Абідавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Быхаў, 69 км ад Магілёва. На Пд працякае р. Баброўка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Сялец і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Засн. ў 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы



*А.В.Ставянкоў.*

ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Палкі). Сял. сядзібы пастаўлены побач з дарогай Сялец—Палкі.

**КРАСНАПОЛЛЕ** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Быхава, 36 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. На У цячэ р. Балонаўка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Кучын і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).



*Г.М.Надтачэеў.*

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. створаны калгас «XVI партз'езд». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Да 18.2.1972 г. ў Балонавасялецкім с/с. У 1982 г. 25 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Вёска мае Г-падобную планіроўку. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі, больш шчыльна з зах. боку.

**КРАСНІЦА 1** — вёска ў Следзюкоўскім с/с, за 23 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 42 км ад Магілёва. На У р. Ухлясць з сістэмай меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Кузькавічы, Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 61 гаспадарка, 125 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1635 г. водруб Краснага лесу ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1643 г. згадваецца як Красніца. У 1780 г. 56 двароў, 113 жыхароў. У 1880 г. вёска, 79 двароў, 434 жыхары, частка з іх займалася калёсным, кавальскім, слясарным і адыходным промысламі. У 1897 г. 92 двары, 622 жыхары, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, паштовая станцыя. На пач. 20 ст. 92 двары, 697 жыхароў, млын. У 1922 г. арганізавана 6 меліярацыйных т-ваў, дзейнічалі прац. школа 1-й ступені, ветраны млын і 2 кузні. У 1926 г. 175 двароў, 973 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.Вароўскага. З 24.1.1939 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 283 двары, 769 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі, якія тут загубілі 857 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У баях 25—27.3.1944 г., што вяліся на паўд.-зах. ускраіне вёскі, загінулі 346 воінаў, у іх ліку байцы 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З фронту не вярнуліся 95 землякоў. З 16.7.1954 г. ў Следзюкоўскім с/с. У 1982 г. 116 гаспадарак, 272 жыхары, у складзе саўгаса «Вараніно» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Вараніно»; цэнтр — в. Вараніно). Працуюць (2008) пач. школа, магазін, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі імя Вароўскага. Помнікі: сав. воінам, землякам. Планіровачна мае П-падобную структуру. Жылая забудова пераважна драўляная. Радзіма Героя Сав. Саюза Г.М.Надтачэева, які вызначыўся ў 1944 г. ў баях супраць гітлераўцаў.

**КРАСНІЦА 2** — вёска ў Следзюкоўскім с/с, за 19 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 42 км ад Магілёва. На Пд цячэ р. Бруськая. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Кузькавічы, Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Да 16.7.1954 г. ў Кузькавіцкім с/с. У 1982 г. 30 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе саўгаса «Вараніно» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Вараніно»; цэнтр — в. Вараніно). Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУГЛІЦА** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг.

ст. Быхаў, 67 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Палянінавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 9 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны пралетарый», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак, меў 106 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Да 17.12.1956 г. ў Журавіцкім р-не Гомельскай вобл. У 1982 г. 30 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса «Расія» (з 2003 г. СВК «Калгас «Расія»; цэнтр — в. Палянінавічы). Планіровачна мае лінейную вуліцу, арыентаваную з У на З і двухбакова няшчыльна забудаваную драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.Р.Бяляева, які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў.

**КУЗЬКАВІЧЫ** — вёска ў Следзюкоўскім с/с, за 14 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 40 км ад Магілёва. З З на У вёску перакрыжоўвае р. Арыя. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 154 гаспадаркі, 289 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 17 ст. як сяло. У 1742 г. 35 двароў, мелася карчма. У 1780 г. 30 двароў, 713 жыхароў. У 1848 г. сяло Куськавічы, 48 двароў, у Быхаўскім павеце, дзейнічала драўляная царква, у 1851 г. пабудавана мураваная. У 2-й пал. 19 ст. 240 жыхароў мужчынскага полу, працавалі карчма і шынок, у 1868 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1880-я г. 108 двароў, частка вяскоўцаў займалася кавальскім, адыходным, бандарным і сталярным промысламі. У 1897 г. 161 двор, 930 жыхароў, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ.; меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом, аднакласная школа (у 1889 г. навучаліся 33 хлопчыкі, у 1905 г. — 50 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак). На пач. 20 ст. 165 двароў, 1029 жыхароў, адкрыта вінная крама. Створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 80 вучняў. У 1920-я г. дзейнічалі 2 ветраныя млыны, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, 6 меліярацыйных т-ваў (1922), у 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Кузькавіцкага с/с. У 1926 г. 195 двароў, 1094 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Зара», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 56 гаспадарак, меў 225 га ворыва. У 1936 г. створана МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 57 землякоў. З 16.7.1954 г. ў Следзюкоўскім с/с. У 1982 г. 329 гаспадарак, 694 жыхары, у складзе саўгаса «Вараніно» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Вараніно»; цэнтр — в. Вараніно). У канцы 20 ст. ў вёсцы працавалі ўстаноўка па перапрацоўцы кармоў, межгасп. пункт хімізацыі, рамонтныя майстэрні. Дзейнічаюць (2008) базавая школа, дзіцячы сад, клуб, аўтаклуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, адцз. сувязі, лазня, магазін. Помнік землякам. Планіровачная структура складаная, з нерэгулярнай сеткай квадратаў. Забудова ў асн. двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная. Радзіма Героя Сав. Саюза Ф.Ф.Раўчакова, які вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у 1944 г. на тэр. Польшчы, разведчыка-кулямётчыка У.Л.Смыкава, які загінуў у Афганістане пры выкананні баявога задання (пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі).



*М.Р.Бяляеў.*



*У.Л.Смыкаў.*

**КУЛАГА** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 78 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Іскань, Абідавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Да 17.12.1956 г. ў Журавіцкім р-не Гомельскай вобл. У 1982 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Іскань).

Планіровачна мае вуліцу амаль шыротнай арыентацыі, забудаваную няшчыльна, пераважна з паўн. боку драўлянымі сядзібамі.

**КУЧЫН** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Быхава, 34 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы, на шашы Быхаў—Семукачы, на р. Балонаўка. 57 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. згадваецца як в. Кучына, 24 двары, 218 жыхароў, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. было 100 жыхароў мужчынскага полу. У 2-й пал. 19 ст. 44 двары, 256 жыхароў, частка з якіх займалася кавальскім і шавецкім промысламі, адкрыта школа. У 1897 г. 72 двары, 522 жыхары, у Глухскай вол. Быхаўскага павета. Побач існаваў маёнтак, гаспадар якога ў 1879 г. валодаў 1051 дзес. зямлі. На пач. 20 ст. ў вёсцы 73 двары, 516 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 4 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 37, а ў 1928 г. 57 вучняў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Чачэвіцкага, з 8.7.1931 г. Быхаўскага р-наў. У 1926 г. 125 двароў, 703 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 9.8.1942 г. ў час блакады Клічаўскай партыз. зоны каля вёскі 19 партызан-камсамольцаў 61-га і 255-га партыз. атрадаў на чале з пам. камісара па камсамолу 61-га атрада Я.Ф.Каўшыркам вялі няроўны бой супраць гітлераўцаў. Вораг страціў 78 чал. забітымі і 136 параненымі. Смерцю герояў загінулі 17 партызан, у тым ліку Я.Ф.Каўшырка. У ліст. 1943 г. партызаны 425-га палка Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. З 18.2.1972 г. ў Чарнаборскім с/с. У 1982 г. 109 гаспадарак, 206 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). У канцы 20 ст. працавала ўстаноўка па перапрацоўцы кармоў. Дзейнічаюць (2008) пач. школа, клуб, б-ка, сталовая, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з гал. і другарадных вуліц. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛАГАДАВА** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 55 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе Дунаёк—Быхаў. 40 гаспадарак, 66 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1848 г. тут быў маёнтак, гаспадар якога валодаў 675 дзес. зямлі. У 1897 г. 29 двароў, 190 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета. На пач. 20 ст. 40 двароў, 204 жыхары. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Ямніцкім с/с Быхаўскага р-на. Працавала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 21.8.1925 г. ў Клятнянскім с/с. У 1926 г. 56 двароў, 334 жыхары, у 1928 г. ў вясковай 4-гадовай школе было 28 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавік» (у 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, меў 111 га ворыва). У 1940 г. 39 двароў, 239 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. поўнасцю спалілі яе і загубілі 44 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 11.4.1960 г. ў Ямніцкім с/с. У 1982 г. 49 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Працуюць (2008) пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна ўяўляе выцягнутую вуліцу, арыентаваную мерыдыянальна і забудаваную пераважна драўлянымі сядзібамі.

**ЛАЗАРАВІЧЫ** — вёска ў Навабыхаўскім с/с, за 30 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 81 км ад Магілёва, на правым беразе Дняпра. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Вотня і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 65 гаспадарак, 150 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. З 1596 г. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У сярэдзі-

не 18 ст. 36 двароў, 119 жыхароў мужчынскага полу, мелася карчма. У 1780 г. 62 двары, 364 жыхары, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губерні. У жн. 1861 г. сяляне адмовіліся ад выканання павіннасці і аказалі супраціўленне паліцыі. У 1880 г. 87 двароў, 526 жыхароў, меўся заезны двор. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. 120 двароў, 880 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Працавалі хлебазапасны магазін, школа граматы, піцейны дом. У пач. 1918 г. падчас мяцяжу корпуса Доўбар-Мусніцкага вяскоўцы і жыхары суседніх вёсак арганізавалі партыз. атрад, які налічваў да 500 чал. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920-я г. 146 двароў, 928 жыхароў, 487,3 дзес. ворыўнай зямлі, меліся ветраны млын, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1926 г. 182 двары, 983 жыхары, арганізавана арцель па вырабе вапны, працавала 4-гадовая школа (у 1928 г. 81 вучань). У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе супраць ворага загінулі 100 землякоў. У 1953 г. вёска радыёфікавана. У 1976 г. далучаны пас. Прывалыжжа. У 1982 г. 135 гаспадарак, 335 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (з 2003 г. СВК «Навабыхаўскі»; цэнтр — в. Новы Быхаў). Дзейнічаюць клуб, пач. школа, магазін. Помнік землякам. Планіровачна складаецца з трох вуліц. Забудова двухбаковая, няшчыльная, з вял. інтэрваламі паміж сядзібамі, драўляная, індывідуальнага тыпу. Непадалёку ад вёскі размешчана Лазаравіцка-Пакроўскае радовішча мелу (разведаныя запасы 3,18 млн. т). Радзіма Героя Сав. Саюза А.І.Саладышава, які вызначыўся 27.6.1944 г. пры фарсіраванні Дняпра сав. войскамі ў час вызвалення Магілёўшчыны.

**ЛАПША** — пасёлак у Холстаўскім с/с, за 8,5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 44 км ад Магілёва. На ПнУ цячэ р. Макранка. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Холстава і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. хутар, 2 двары, 13 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губерні. На пач. 20 ст. 2 двары, 10 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1920 г. пасялкоўцы валодалі 16,5 дзес. ворыўнай зямлі. З 20.8.1924 г. ў Мокраўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 6 двароў, 27 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. З 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі пасёлак (16 двароў), загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. З 18.3.1966 г. ў Холстаўскім с/с. У 1982 г. 14 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Холстава»; цэнтр — в. Холстава). Планіровачна мае вуліцу, трасіраваную з ПнЗ на ПдУ і забудаваную драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАТКАЛОНІЯ** — вёска ў Следзюкоўскім с/с, за 19 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 36 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Кузькавічы, Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 38 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як калонія перасяленцаў з Латвіі. У 1870 г. адкрыта земская школа. На пач. 20 ст. 67 двароў, 634 жыхары, у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета. З 20.8.1924 г. цэнтр Грудзінаўскага 2-га (з 24.9.1926 г. да 24.1.1939 г. латышскага нацыянальнага) сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі. Дзейнічалі прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 68 вучняў), б-ка. У 1926 г. згадваецца як калонія Грудзінаўка, 86 двароў, 425 жыхароў, адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. створаны калгас «Гайсма», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, меў 150 га ворыва. У 1940 г. вёска, 124 двары, 392 жыхары. У



*А.І.Саладышаў.*

Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За час акупацыі гітлераўцы спалілі вёску (122 двары), загубілі 11 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 18.3.1966 г. ў Холстаўскім с/с. У 1982 г. 86 гаспадарак, 218 жыхароў, у складзе саўгаса «Вараніно» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Вараніно»; цэнтр — в. Вараніно). Працуюць (2008) базавая школа, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Аснову планіроўкі складаюць дзве паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** (да 1935 г. Стары Фальварак) — пасёлак у Верхнятошчыцкім с/с, за 29 км на Пд ад Быхава, 71 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна ўяўляе тры адасобленыя групы драўляных сял. сядзіб.

**ЛЕНІНА** — вёска ў Навабыхаўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Быхава, 58 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін, каля штучнага вадасховішча. Транспартныя сувязі па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 12 гаспадарак, 21 жыхар (2007). Названа вёска ў памяць пра У.І.Леніна.

Помнікі археалогіі — селішча культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 ст.) і бескурганны могільнік ранняга жал. веку сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. тут існавала арцель, 62 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. ў баі за вызваленне вёскі супраць акупантаў загінулі арганізатары камуністычнага падполля і партыз. руху на Быхаўшчыне — сакратар Быхаўскага райкома КП(б)Б С.Б.Падольцаў і член райкома КП(б)Б дырэктар Кузькавіцкай МТС А.П.Таміла. У 1982 г. 24 гаспадаркі, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Э. Дзяржынскага (цэнтр — в. Тайманава). Планіровачна ўяўляе Т-падобную структуру. Складаецца з лінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова пераважна драўляная, няшчыльная, двухбаковая.

**ЛІПА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 30 км на Пд ад Быхава, 87 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Верхняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 17 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. як вёска, 117 двароў, 797 жыхароў, у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Існавалі таксама паштовая станцыя (1 двор, 13 жыхароў), лясныя вартоўні (1 двор, 5 жыхароў), былы заезны двор (6 жыхароў). У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Верхнятошчыцкім с/с. У 1982 г. 36 гаспадарак, 73 жыхары, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). Працуе фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з лінейнай трасіраванай вуліцы з Пн на Пд, забудаванай з двух бакоў (больш шчыльна з усходняга) драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛІПАВІЦА** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг.

ст. Быхаў, 74 км ад Магілёва. На Пд канал Баброўка. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Палкі, Сялец і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. сяло, 23 двары, 255 жыхароў. У 1909 г. побач існаваў хутар, 1 двор, 9 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. вёска ў Журавіцкім р-не Гомельскай вобл. З 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім р-нах Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. У 1982 г. 18 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Палкі). Планіровачна мае лінейную вуліцу, арыентаваную з У на З, забудаваную пераважна па паўд. баку драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛІПАЎКА** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 22 км на Пн ад Быхава, 70 км ад Магілёва, 1,5 км ад чыг. ст. Барсукі на лініі Магілёў—Быхаў. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Бароўка і далей па шашы Магілёў—Быхаў. 33 гаспадаркі, 44 жыхары (2007).

Упершыню згадваецца ў Баркулабаўскай хроніцы пад 1601 г. як с. Ліпаўка. У 1780 г. 27 двароў, 208 жыхароў. У 1822 г. 31 двор. У 1880 г. 58 двароў, 331 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. 77 двароў, 503 жыхары, у Глухскай вол. Быхаўскага павета, меўся піцейны дом. На пач. 20 ст. 80 двароў, 518 жыхароў, пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920-я г. адкрыты школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, прац. школа 1-й ступені, у якой было 57 вучняў, створаны кааператыў з 21 сям'і для перасялення ў Таўрычаскую губ. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. У 1926 г. 101 двор, 700 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Чырвоны шлях» (аб'ядноўваў 29 двароў, меў 273 га ворыва). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 38 землякоў. У 1982 г. 96 гаспадарак, 146 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). Працуюць (2008) клуб, магазін. Помнік землякам. Сял. драўляныя сядзібы размешчаны па абодва бакі ўздоўж дзвюх амаль шыротнай арыентацыі вуліц, якія падзелены меліярацыйным каналам і выганам.

**ЛІПАЎКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 28 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 72 км ад Магілёва. На Пн працякае р. Ухлясць. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Чырвоная Слабада і далей па шашы Слаўгарад—Нікановічы. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. як хутар, 1 двор, 9 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З 17.7.1924 г. ў Быхаўскім р-не. У 1931 г. створаны калгас «Ліпаўка». У 1940 г. 35 двароў, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Двойчы (у снеж. 1943 г., студз. 1944 г.) гітлераўцы палілі вёску (30 двароў), загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 25 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (з 2003 г. СВК «Трасна»; цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Планіровачна ўяўляе вуліцу, арыентаваную з З на У, якую перакрыжоўваюць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛІСІЧНІК** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 36 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 35 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Давыдавічы, Грудзінаўка. 29 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

У 1635 г. згадваецца як водруб Лісічы Ручай у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 20 аселых падданых. У канцы 18 ст. сяло, 25 двароў, 296 жыха-

роў. У 1880 г. 29 двароў. Частка жыхароў займалася кравецкім промыслам. Побач існаваў маёнтак. У 1897 г. 39 двароў, 223 жыхары, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ.; у фальварку — 1 двор, 5 жыхароў; працаваў хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. ў вёсцы 39 двароў, 281 жыхар, у маёнтку — 1 двор, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Царкоўнаасавецкім, з 6.3.1925 г. ў Чырвонаасавецкім сельсаветах Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі. У 1926 г. 59 двароў, 335 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Лісічнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, меў 182 га ворыва. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1940 г. 67 двароў, 352 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1941 г. загубілі 11 жыхароў. Тут вялі баі супраць гітлераўцаў у пач. ліп. 1941 г. і загінулі 34 воіны, у іх ліку байцы 187-й стралк. дывізіі 13-й арміі Зах. фронту. У 1982 г. 75 гаспадарак, 156 жыхароў, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). Дзейнічаюць пач. школа, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з лінейнай вуліцы, арыентаванай з З на У. Забудова шчыльная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ЛОСЕЎКА** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 34 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 67 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Іскань, Давыдавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 10 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах. У 1931 г. створаны калгас «Лосеўка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, меў 50 га ворыва. З 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім р-нах Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. У 1982 г. 24 гаспадаркі, 64 жыхары, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Іскань). Планіровачна ўяўляе лінейную вуліцу шыротнай арыентацыі, якую перакрыжоўвае ў цэнтры меліярацыйная канава. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛУБЯНКА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва. На У цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Гарадзец. 43 гаспадаркі, 61 жыхар (2007).

Вёска вядома з 17 ст. У 1619 г. згадваецца як фальварак у валоданні Быхаўскага касцёла. У 1780 г. сяло, 65 двароў, 364 жыхары. У 1789—1832 гг. дзейнічала прыгонніцкая мануфактура па вырабе шклянога посуду і ліставога шкла (у 1814 г. 18 рабочых). У 1815 г. 47 двароў, 380 жыхароў, меліся карчма, млын, шкляны з-д. У 1880-я г. 62 двары, 477 жыхароў, частка з якіх займалася кавальскім і адыходным промысламі. У 1897 г. 89 двароў, 639 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Працавалі школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, вінная крама. У пач. 20 ст. пабудавана драўляная царква (часткова захавалася), адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. 80 двароў, 659 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 78 вучняў. У 1920-я г. 133 двары, 760 жыхароў, 624 дзес. ворыўнай зямлі, дзейнічала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 156 двароў, 841 жыхар. У 1930-х г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 110 гаспадарак, 230 жыхароў, у складзе саўгаса «Спадарожнік» (цэнтр — в. Гарадзец). Працуюць (2008) клуб, магазін. Помнік драўлянага дойлідства — царква 20 ст. Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліцу перакрыжоўвае другарадная, якая з'яўляецца працягам дарогі ў в. Гарадзец.

**ЛУДЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Лудчыцкага с/с, за 9 км на Пд ад Быхава, 60 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін, на шашы Быхаў—Новы

Быхаў. 226 гаспадарак, 607 жыхароў (2007).

Помнік археалогіі — паселішча эпохі мезаліту за 2 км на ПнУ ад вёскі сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з канца 16 ст. У 1598 г. згадваецца як с. Лутчыцы ў складзе маёнтка Новы Быхаў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 18 ст. 71 двор, 184 жыхары мужчынскага полу, меліся млын, бровар, 2 пякарні, фальварак, памешчыцкае ўладанне, уваходзіла ў Быхаўскае графства. У 1780 г. 96 двароў, 644 жыхары, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. З 1841 г. існаваў маёнтак, гаспадар якога валодаў 2698 дзес. зямлі, меў вадзяны млын. Пазней узнік яшчэ адзін маёнтак, дзе таксама меўся млын. У канцы 19 ст. ў Навабыхаўскай вол., 89 двароў, 630 жыхароў, заезны двор. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, бандарным і кравецкім промысламі. У 1897 г. 147 двароў, 986 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай акругі, працавалі школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, піцейны дом, дзейнічала царква. Побач існаваў фальварак — 5 двароў, 13 жыхароў. На пач. 20 ст. адкрыта царк.-прыходская школа, запрацаваў вінакурны з-д (у 1913 г. 6 рабочых). У 1909 г. ў вёсцы 127 двароў, 1372 жыхары, млын; у фальварку — 49 жыхароў. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Вяскоўцы актыўна змагаліся супраць ням. акупантаў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. Створаны саўгас «Лудчыцы», які спецыялізаваўся на вырошчванні племянной жывёлы (у 1930 г. меў 612 га зямлі, у 1931 г. атрымаў першы трактар, набыў першы радыёпрыёмнік). Дзейнічала прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 160 вучняў). У 1920 г. 219 двароў, 1370 жыхароў, 498,5 дзес. ворыва. З 14.2.1923 г. ў Рагачоўскім павеце, з 17.7.1924 г. ў Магілёўскай акрузе (да 26.7.1930 г.). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. існавалі 2 вёскі: Лудчыцы 1 і Лудчыцы 2, разам 247 двароў, 1460 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, меў 194 га ворыва. Пазней былі створаны яшчэ адзін калгас. У 1930-я г. адкрыты дзіцячыя яслі, вёска радыёфікавана, пабудавана памяшканне для школы. У 1940 г. 238 двароў, 1347 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. партызаны Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 213 двароў, загубілі 40 жыхароў. Пры вызваленні Быхаўшчыны на Дняпроўскім плацдарме на Лудчыцкім напрамку жорсткія баі вялі часці 50-й і 3-й армій. 24.6.1944 г. ў баі каля вёскі рота аўтаматчыкаў на чале з капітанам Г.Якубавым на працягу 20 гадзін адбіла 40 варожых атак. Пры вызваленні в. Лудчыцы вызначыліся: стралк. рота пад камандаваннем старшага лейтэнанта В.К.Мартынава, камандзір гарматнага разліку старшы сяржант І.Д.Барысевіч, камандзір мінамётнай роты старшы лейтэнант П.Д.Вішчэнка, аўтаматчык стралк. роты радавы С.Іскаліеў і яго камандзір капітан Г.С.Размадзе. Усім ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На франтах загінулі 65 вяскоўцаў. У 1967 г. вёскі Лудчыцы 1 і Лудчыцы 2 аб'яднаны ў адну. У 1982 г. 256 гаспадарак, 608 жыхароў, цэнтр калгаса «Беларусь». У вёсцы ў канцы 20 ст. дзейнічалі машынны двор, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, леса-

*Мемарыял воінскай славы на Лудчыцкай вышыні.*



пільня, Дом культуры, б-ка, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, сярэдняя і дзіцячая муз. школы, вучэбна-вытв. камбінат, дзіцячы сад, магазін, спарт. зала і 5 спарт. пляцовак, дом-інтэрнат. Працуюць (2008) клуб, б-ка аграгарадка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі; Дзярж. ўпраўленне сац. забеспячэння «Быхаўскі псіханеўралагічны дом-інтэрнат». Мемарыял воінскай славы, брацкая магіла 206 сав. воінаў, помнік землякам. Аснову планіровачнай структуры складаюць дзве амаль паралельныя паміж сабой вуліцы, якія на З арыентаваны перпендыкулярна да шашы Быхаў—Новы Быхаў. Забудова шчыльная, двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы У.А.Скалубы, нач. штаба 325-га палка гв. мінамётаў («кацюш») Ф.Н.Белачкіна.



*Ф.Н.Белачкін.*

У сельсавеце 6 вёсак і 5 пасёлкаў. У канцы 1930-х г. на яго тэрыторыі існавалі в. Дубавое, пасёлкі Валадарскага, Калініна. Вёска Дубавое і пас. Валадарскага зліліся з в. Нярaж.

**ЛЮДКОЎ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 54 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па шашы Быхаў—Семукачы. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Вядома з 1743 г. як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1858 г. згадваецца як в. Людкова (яна ж Слабодка), 19 жыхароў мужчынскага полу, у складзе аднайменнага маёнтка Быхаўскага павета. Гаспадар маёнтка, які знаходзіўся каля воз. Людкова, валодаў 3900 дзес. зямлі і ветраным млыном; у 1877 г. былі наладжаны шкляная (у 1890 г. 30 рабочых) і вапнавая вытв-сці. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. 23.8.1899 г. рабочыя шклозавода правялі эканам. забастоўку. На пач. 20 ст. 19 двароў, 113 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У лютым—ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Мокраўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 37 двароў, 265 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.3.1966 г. ў Холстаўскім с/с. У 1982 г. 43 гаспадаркі, 85 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Холстава»; цэнтр — в. Холстава). Працуе (2008) філіял Рэсп. унітарнага вытв. прадпрыемства «Магілёўхлебпрам» Быхаўскага хлебазавода. Аснову планіроўкі складаюць дзве паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн, двухбакова забудаваныя сял. драўлянымі хатамі.

**ЛЯЖАНКА** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 32 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 51 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па дарозе праз вёскі Красніца 1, Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 25 двароў, 146 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску (49 двароў) і загубілі 15 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). У канцы 20 ст. працаваў магазін. Брацкая магіла 3 сав. воінаў, загінуўшых у пач. Вял. Айч. вайны. Планіровачна ўяўляе лінейную вуліцу, арыентаваную з ПнЗ на ПдУ, забудаваную двухбакова драўлянымі сядзібамі. На ПдЗ ад вёскі пачынаецца р. Ухлясць (прыток Дняпра).

**МАЗКІ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 12 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 44 км ад Магілёва. На У цячэ р. Макранка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Сушчоў, Холстава. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вёска вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1871 г. маёнтак Машкі, гаспадар якога валодаў

7991 дзес. зямлі, млыном. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. далучана в. Чычылаўка. У 1982 г. 36 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Холстава»; цэнтр — в. Холстава). Планіровачна ўяўляе вуліцу шыротнай арыентацыі, забудаваную пераважна з паўн. боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАКРАНСКІЯ ХУТАРЫ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 54 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Мокрае і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак, меў 107 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 46 гаспадарак, 105 жыхароў, у складзе саўгаса «Мокраўскі» (з 2003 г. КУСП «Макранскі»; цэнтр — в. Мокрае). У 1990-х г. дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Перпендыкулярна да яе ідуць другарадныя вуліцы з няшчыльнай драўлянай забудовай. На ПнЗ вытв. сектар. Радзіма ўдзельніка партыз. руху на Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны, Героя Сац. Працы П.М.Фіткевіча.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 31 км на Пд ад Быхава, 73 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Адаменка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 29 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе саўгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі двухбакова забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 65 км ад Магілёва. На З — Малінаўскае воз., на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1932 г. арганізаваны калгас «15-ы Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 18 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Мокраўскі» (цэнтр — в. Мокрае). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова сядзібнага тыпу, няшчыльная.



*П.М.Фіткевіч.*

**МАЛЫ КРУШНІКОЎСКІ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Быхава, 47 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Балонаў Сялец 2 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 101 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1982 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ, больш шчыльна забудаваны паўн. бок. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЁЎКА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 31 км на Пд ад Быхава, 73 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. Мясцо-

васць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца шыротнай арыентацыі шчыльна двухбакова забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МОКРАЕ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 46 км ад Магілёва, на р. Макранка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Быхаў—Семукачы. 303 гаспадаркі, 828 жыхароў (2007).

Вядома па рукапісных крыніцах з 16 ст. як вёска ў складзе каралеўскіх зямель у ВКЛ. У пач. 17 ст. прыпісана да Быхаўскага замка, уладанне Хадкевічаў, потым Сапегаў. У 1745 г. 35 двароў, у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. У 1758 г. 53 двары, 152 жыхары мужчынскага полу, меліся карчма, царква, млын. У 1828 г. 54 двары, 411 жыхароў, 2 магазіны. У 1851 г. адкрыта школа, у якой у 1889 г. навучаліся 61 хлопчык і 5 дзяўчынак, у 1907 г. — 111 хлопчыкаў і 47 дзяўчынак. Для школы ў 1896 г. ўзведзены будынак. У вёсцы настаўнічаў вядомы рус. пісьменнік М.І.Караленка. У 1865 г. пабудавана новая драўляная царква, якая зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. У 1880 г. 121 двор, 667 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, бандарным, калёсным і кравецкім промысламі. У канцы 19 ст. 100 двароў, 583 жыхары, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. У 1897 г. 140 двароў, 975 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. 23.12.1905 г. сяльчане правялі недазволеную высечку памешчыцкага лесу ў маёнтку Сарочына, збілі леснікоў і аканома. 5.1.1906 г. вырубка панскага лесу адбылася зноў, а пры спробе адабраць у сялян яго адбыліся сутычкі з паліцыяй. 9.1.1906 г. ў гадавіну «крывавай нядзелі» адбыліся паніхіда па забітых, мітынг і дэманстрацыя з чырвоным сцягам. На мітынгу гучалі заклікі да паўстання. У ліп. 1906 г. на сходзе сяльчан выступаў дэпутат 1-й Дзярж. думы Ф.Буслаў, які расказаў аб дзейнасці яе членаў па сял. пытанні і заклікаў падтрымаць партыю трудавікоў. У 1909 г. 170 двароў, 1003 жыхары. Першы Савет у вёсцы ўзначальваў вясковец, адзін з арганізатараў сав. улады ў Быхаве і павеце М.П.Рудкоўскі. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 209 гаспадарак, 1243 жыхары, 894,9 дзес. ворыўнай зямлі; адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1924 г. арганізавана с.-г. т-ва па рэалізацыі с.-г. прадукцыі, якое аб'ядноўвала 33 гаспадаркі. З 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр Мокраўскага с/с. 4.6.1965 г. сельсавет адноўлены, 18.3.1966 г. перайменаваны ў Холстаўскі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 125 вучняў, дзейнічала б-ка. У 1926 г. 215 двароў, 1143 жыхары; на хутарах — 41 двор, 236 жыхароў. У крас. 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя І.В.Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 135 гаспадарак, меў 578 га ворыва. У 1933 г. створана першая ў раёне МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена часцямі 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі і 2-га Бел. фронту. У гонар вызваліцеляў у 1976 г. пастаўлена стэла. На франтах загінулі 156 землякоў, у памяць аб якіх по-

*Фрагмент забудовы в. Мокрае.*





*Успенская царква ў аграгарадку Мокрае.*

бач пастаўлена яшчэ адна стэла. У 1966 г. створаны саўгас «Мокраўскі» (з 2003 г. КУСП «Макранскі»), які спецыялізуецца на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым агароднінаводствам, мае 2877 га сельгасугоддзяў. У 1982 г. 383 гаспадаркі, 876 жыхароў. У 1990-х г. ў вёсцы працавалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 12,1 тыс. кніг, сярэдняя школа (19 настаўнікаў), дзіцячы сад, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, 3 магазіны, 3 спарт. пляцоўкі. Дзейнічаюць (2008) Дом культуры, б-ка аграгарадка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі з 1-й чаргой будаўніцтва распрацаваны ў 1974 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Трасы вуліц адпавядаюць рэльефу і парніровачна ўтвараюць замкнёны круг. На злучэнні вуліц размешчаны грамадскі цэнтр. Кварталы нерэгулярнай формы забудаваны шчыльна. Хаты пераважна драўляныя, пастаўлены тарцом да вуліцы. Двары розных тыпаў: няпоўныя вяночныя, пагонныя і сучасныя з падзелам на парадны і гаспадарчы. Цэнтр. частка вёскі з Пд і У абмежавана рэчкай і штучным каналам, цераз якія перакінуты мас-ты, што вядуць да асноўных шляхоў зносін. У паўн. частцы вытв. сектар.

**НІЖНЯЯ ТОШЧЫЦА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 40 км на Пд ад Быхава, 91 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Тошчыца. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 55 гаспадарак, 156 жыхароў (2007).

За 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Падлужжа, на левым беразе р. Ташчанка ў месцы ўпадзення яе ў Дняпро, захавалася селішча позняга этапу зарубінецкай культуры (4—5 ст.), культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 ст.) і эпохі Кіеўскай Русі. За 80 м на Пд ад селішча бескурганны могільнік ранняга жал. веку (2 ст. да н.э. — 5 ст. н.э.). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Рагачоўская Тошчыца ў Рагачоўскай акрузе. У 1897 г. вёска Ніжняя Тошчыца (яна ж Шляхавая Тошчыца), 70 двароў, 473 жыхары, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага павета. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. Побач існаваў маёнтак (4 двары, 14 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня, карчма). У 1903 г. на базе школы граматы створана земская школа і пабудаваны для яе будынак. У 1909 г. 648 жыхароў, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З лютага да



*Выхаванцы вучэбна-педагагічнага комплексу ў аграгарадку Мокрае.*

ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. 26.1.1918 г. аб'яднаныя сілы Мінскага, Віцебскага і Магілёўскага чырвонагвардз. атрадаў вялі тут бой з мяцежнікамі польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 9.5.1923 г. ў Навабыхаўскай вол., з 21.8. 1925 г. цэнтр Ніжнятошчыцкага с/с у Быхаўскім р-не Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, тэр. далучана да Верхнятошчыцкага с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 77 вучняў. У былым памешчыцкім маёнтку ў 1925 г. дзейнічала садова-агародная гаспадарка. У гэтым жа годзе ў вёсцы ўзнікла т-ва «Кастрычніцкае» (11 сямей) па перасяленні ў Амурскую вобл. У 1926 г. 566 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1941 г. гітлераўцы спалілі вёску (64 двары), загубілі 43 жыхары. Пасля вайны адбудавана. 45 вяскоўцаў загінулі на франтах. У памяць аб іх у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла.

У 1953 г. запрацаваў радыёвузел. У 1982 г. 51 гаспадарка, 156 жыхароў, цэнтр калгаса імя К.С.Заслонава. У 1990-х г. у вёсцы дзейнічалі вытв. брыгада, машынны двор, піларама, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, спарт. пляцоўка. Працуюць (2008) б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Ген. план распрацаваны ў 1982 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Забудова склалася ўздоўж вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, паралельна да р. Тошчыца, на якой у межах вёскі зроблены штучныя сажалкі. Двары пераважна вяночныя і двухрадныя пагонныя, пастаўлены няшчыльна. Жылыя дамы драўляныя і блочныя. Перпендыкулярна да галоўнай ідзе вуліца, на якой узведзены грамадскія будынкі. Паралельна да гэтых вуліц склалася рэгулярная сетка жылых кварталаў, забудаваных мураванымі дамамі (індывідуальнымі і шматкватэрнымі). Каля будынка праўлення калгаса ўстаноўлены бюст К.С.Заслонава. Вытв. сектар у паўд.-ўсходняй частцы вёскі.

**НІКАНАВІЧЫ** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 55 км ад Магілёва, на шашы Слаўгарад—Ніканавічы. На Пд цячэ р. Трасна, на ПнЗ мяжуе з лесам. 186 гаспадарак, 399 жыхароў (2007).

Вядома па рукапісных крыніцах з 16 ст. У 1555 г. сяло ў Прапойскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1821 г. пабудавана драўляная царква. У 1848 г. 70 двароў, у Быхаўскім пав. Магілёўскай губ. У 1880 г. 114 двароў, 714 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным, кавальскім, адыходным і кравецкім промысламі. У 1881 г. пачаў працаваць цагельны з-д. У 1897 г. 181 двор, 1090 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета, меліся хлебазапасны магазін, школа (нар. вучылішча), царква, карчма. У 1889 г. ў школе было 15 хлопчыкаў, 1 дзяўчынка, у 1907 г. — 67 хлопчыкаў і 13 дзяўчынак. У 1909 г. 160 двароў, 1008 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета, з 14.2.1923 г. ў Рагачоўскім павеце, з 9.5.1923 г. ў Навабыхаўскай вол. Рагачоўскага павета Гомельскай губ., з 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Ніканавіцкага с/с, Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920 г. 208 двароў, 1106 жыхароў, 771,3 дзес. ворыўнай зямлі, смалакурня, 2 ветракі, кузня, адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1924 г. 4-класнай школе перададзены былы царк. дом. У 1925 г. ў ёй было 60 вучняў. У 1926 г. 253 двары, 1238 жыхароў, дзейнічала смалакурня. У сак. 1931 г. створаны калгас «Пралетарый», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак, меў 173 га ворыва, кузню, ваўначоску, ветраны млын. У 1935 г. адкрыты ўрачэбны ўчастак. У 1940 г. 229 двароў, 739 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944

г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. гітлераўцы спалілі вёску. У брацкай магіле пахаваны 223 воіны і партызаны, у іх ліку байцы 80-га стралк. корпуса 3-й арміі Бел. фронту, што загінулі ў канцы 1943 г. — пач. 1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе — 163 землякі. У памяць аб іх у 1967 г. каля Дома культуры пастаўлены абеліск. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, вёска ўвайшла ў Чырвонаслабодскі с/с. У 1982 г. 261 гаспадарка, 623 жыхары, цэнтр калгаса імя В.У.Куйбышава. У 1990-х г. у вёсцы функцыянiравалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, млын, піларама, Дом культуры, сярэдняя школа (18 настаўнікаў), б-ка з фондам больш за 11 тыс. кніг, сталовая-кафэ. Працуюць (2008) комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад, 2 магазіны, аддз. ашчаднага банка, 5 спарт. пляцовак і зала. Генеральны план забудовы вёскі з 1-й чаргой будаўніцтва распрацаваны ў 1976 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Гал. вуліца арыентавана з У на З і ў зах. частцы паварочвае на Пн. Старая частка вуліцы забудавана традыц. драўлянымі дамамі, якія пастаўлены тарцом ці падоўжным фасадам да вуліцы. Трапляюцца глухія паўн. вулічныя фасады. Двары пераважна вяночнага тыпу. Дзве вуліцы, якія ідуць перпендыкулярна і паралельна да галоўнай, забудаваны двух- і аднапавярховымі жылымі будынкамі секцыйнымі і тыпу катэджаў. Побач створаны грамадска-адм. цэнтр. Вытв. сектар на Пн і ПдУ.

**НОВАБУДОЎЛЯ** — пасёлак у Дунайкаўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Быхава, 74 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На Пд цячэ р. Езва, абкружана лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Тартак і далей па шашы Дунаёк—Быхаў.

Засн. ў 1920-х г. Спачатку ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Пасялкоўцы ў 1930-х г. уступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). Сял. сядзіба традыцыйная, драўляная.

**НОВАЯ БАЯРШЧЫНА 1** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Быхава, 58 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Старая Баяршчына і далей па шашы Дунаёк—Быхаў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Спачатку ў Ямніцкім, з 21.8.1925 г. ў Клятнянскім сельсаветах Быхаўскага р-на. У 1926 г. на хутарах 34 двары, 199 жыхароў. У вясковай 4-гадовай школе ў 1928 г. было 28 вучняў. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 56 двароў, 293 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 54 двары, загубілі 56 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 29 гаспадарак, 73 жыхары, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Планіроўка лінейная. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі двухбакова забудавана традыц. драўлянымі сядзібамі.

**НОВАЯ БАЯРШЧЫНА 2** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Быхава, 73 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На Пд і З мяжуе з лесам, на ПдУ цячэ р. Езва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоная Беларусь, Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 19 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1917 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў ёй быў 41 вучань. У лютым—ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіра-

вана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 37 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Планіроўка Г-падобная. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы забудаваны пераважна адна — з зах., другая — з паўн. бакоў. Гал. вуліца мае шыротную арыентацыю. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі. Гасп. двары розных тыпаў.

**НОВАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Глухскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 46 км ад Магілёва. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Селішча і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

У 1858 г. 90 жыхароў. У 1897 г. 12 двароў, 73 жыхары, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1907 г. 20 двароў, 134 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Паводле прам. перапісу 1920 г. ў вёсцы дзейнічала майстэрня па рамонце сельгасінвентару; адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 156 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 36 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе «Усход» (цэнтр — в. Глухі). Планіроўка лінейная з няшчыльнай драўлянай двухбаковай забудовай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд. Размяшчэнне хат адвольнае, двары розных тыпаў.

**НОВАЯ СЯЛІБА** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 38 км ад Магілёва. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Быхаў—Семукачы, якая праходзіць каля пасёлка. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіровачна ўяўляе кароткую вуліцу, арыентаваную з ПнУ на ПдЗ, перпендыкулярную да шашы і забудаваную традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЯ ТРАСНА** (да 1944 г. Пятровічы) — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 23 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 67 км ад Магілёва. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1897 г. 19 двароў, 97 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 25 двароў, 111 жыхароў. У 1920 г. 27 двароў, 146 жыхароў, 101 дзес. ворыўнай зямлі. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў 1944 г. спалілі 34 двары, загубілі 13 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1982 г. 37 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Ніканавічы). Планіровачна ўяўляе вуліцу, арыентаваную з З на У і забудаваную двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫ БЫХАЎ** — вёска, цэнтр Набыхаўскага с/с, за 24 км на ПдУ ад Быхава, 73 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на шашы Новы Быхаў—Быхаў, на правым беразе Дняпра. 223 гаспадаркі, 548 жыхароў (2007).

За 1 км на ПнУ ад вёскі, уздоўж старога рэчышча Дняпра, захавалася селішча 2—5 ст. н.э. зарубінецкай культуры і раннефеад. часу. На паўн. ускраіне, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, захавалася стаянка эпохі неаліту, за 1,5 км на Пн ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняп-

ра — стаянка позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н.э.); на З ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Чыстая Лужа — стараж. стаянка і на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Адаменка, ва ўрочышчы Чыстая Лужа — таксама стараж. стаянка. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вёска вядома з 16 ст. як мястэчка, якое належала Хадкевічам, а пазней Сапегам. У 1598 г. цэнтр маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 17 ст. пабудаваны кальвінскі збор. У час вайны Рэчы Паспалітай супраць Маскоўскай дзяржавы 1654—67 гг. Новы Быхаў у жн. 1654 г. быў заняты казацкім гетманам І.Залатарэнкам і стаў базай для яго атрадаў у дзеяннях супраць гарнізона Сапегі, які размяшчаўся ў крэпасці Старога Быхава. У 1758 г. 119 двароў, 6 корчмаў, 3 крамы, сырніца; мелася царква. У Айч. вайну 1812 г. пасля бою супраць французаў каля в. Салтанаўка 11.7.1812 г. тут перапраўлялася 2-я рус. армія ген. П.І.Баграціёна. У 1825 г. па шляху ў Таганрог у вёсцы спыняўся цар Аляксандр І; пабудавана новая царква. У 1858 г. 435 жыхароў мужчынскага полу, меліся млын, піцейны дом, дзейнічаў паром цераз Днепр. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), пры якой у 1873 г. было арганізавана рамеснае аддз., пачала дзейнічаць крупадзёрка. Сяляне правялі самавольную вырубку памешчыцкага лесу, у 1889 г. — захоп памешчыцкай зямлі (40 дзес.), адбыліся сутычкі з паліцыяй. Непадалёку існаваў маёнтак, гаспадар якога ў 1867 г. меў 3582 дзес. зямлі і вадзяны млын. З 1877 г. працаваў цагельны з-д. У 1880 г. 307 двароў, 1813 жыхароў. У 1897 г. цэнтр воласці, 342 двары, 2374 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім, кавальскім, сталярным і кравецкім промысламі. Непадалёку была сядзіба — 2 двары, 7 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, 23 крамы, 2 ветракі, 2 карчмы, параходная прыстань, царква, 2 сінагогі, двухкласная царк.-прыходская школа. У 1909 г. 1660 пабудоў, з іх 344 жылыя, 3453 жыхары, цэнтр воласці Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічалі вінная крама, казённы вінны склад, лячэбніца, прыёмны пакой, 3 царк.-прыходскія школы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. вяскоўцы разгрмілі эканоміі памешчыкаў Сянкоўскіх і Галавацкіх. У лютым 1918 г. для барацьбы супраць войск Доўбар-Мусніцкага быў створаны чырвонагвардз. атрад на чале з С.К.Дзергачовым. Вясной 1918 г. атрад уліўся ў 152-і стралк. полк 17-й стралк. дывізіі. З лютага да ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. Супраць акупантаў тут дзейнічала падп. група. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, у 1923—24 гг. у Рагачоўскім павеце. З 1924 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені. У 1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, урачэбны ўчастак, хата-чытальня. У былым памешчыцкім маёнтку ў 1925 г. дзейнічала садова-агародная гаспадарка. У 1926 г. 445 двароў, 2062 жыхары. 27.3.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 68 гаспадарак, меў 127 га ворыва, 2 ветракі, кузню. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў чэрв. 1941 г. абарончыя баі вялі воіны 102-й стралк. дывізіі 63-га стралк. корпуса Зах. фронту. У ноч на 18.8.1943 г. партызаны Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі паліцэйскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Вызвалена 24.2.1944 г. войскамі 283-й стралк. дывізіі 3-й арміі 1-га Бел. фронту і 108-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 476 воінаў, у іх ліку байцы 102-й стралк. дывізіі 63-га стралк. корпуса, якія вялі тут баі супраць гітлераўскіх захопнікаў у 1941 г., 283-й і 108-й стралк. дывізій 3-й арміі 1-га Бел. фронту, 108-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. На

ўшанаванне памяці 102 землякоў, загінуўшых на франтах, у 1961 г. ўстаноўлена стэла. У 1982 г. 306 гаспадарак, 644 жыхары, цэнтр калгаса імя С.М.Кірава (з 2003 г. СВК «Навабыхаўскі»). У 1990-х г. у вёсцы працавалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лясніцтва, ветэрынарны ўчастак, метэаралагічны пост. Ёсць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, спарт. комплекс, аддз. сувязі. Ген. план забудовы складзены ў 1978 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Жылая забудова абмежавана на У берагам Дняпра, на З — вытв. зонай. Гал. вуліца (адрэзак шашы) трасіравана паралельна да берага ракі. Уздоўж яе ўзведзены адм.-грамадскія будынкі. Шэраг будынкаў размешчаны таксама ў паўд. частцы вёскі. Паралельна і перпендыкулярна да шашы ідуць вуліцы і завулкі, якія ўтвараюць блізкую да рэгулярнай сетку кварталаў, забудаваных драўлянымі і мураванымі індывідуальнымі жылымі дамамі. Хаты пастаўлены пераважна тарцом да вуліцы, двары ў большасці вяночныя, пагонныя.

У склад сельсавета ўваходзяць 6 вёсак і 5 пасёлкаў. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Навабыхаўскага с/с былі в. Капарцы (злілася з в. Тайманава), пасёлкі Падгорыца, Дуброўскі, Пакусіна Лашчына, Пралетарская Рэспубліка, Прываложжа, Круг, Лібатыўка 1, Лібатыўка 2, Магучы, якія зліліся з іншымі населенымі пунктамі або іх жыхары пераехалі.

**НОВЫ ГАРАДОК** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 32 км ад Магілёва. На У цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў 1920-х г. Спачатку ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (цэнтр — в. Чорны Бор). Сял. сядзіба традыцыйная, драўляная.

**НОВЫ КУЧЫН** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 33 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Быхаў—Семукачы. 22 гаспадаркі, 43 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Спачатку ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 11 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 34 гаспадаркі, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Аснову планіровачнай структуры складаюць дзве паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя дарогай, якая вядзе да шашы. Забудавана двухбакова традыц. сял. сядзібамі. Гасп. сектар на У.

**НОВЫ СВЕТ** (да 1949 г. Новыя Узнікі) — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 26 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 62 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Чырвоная Слабада і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы. 42 гаспадаркі, 77 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска Узнікі (яна ж Усохская Слабада) у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1920 г. 24 двары, 127 жыхароў, 122,8 дзес. ворыўнай зямлі. У 1931 г. створаны калгас «Новы Свет». У 1940 г. 70 двароў, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 63 двары, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 8 гаспадарак, 206 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (з 2003 г. СВК «Трасна»; цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Планіроўка Г-падобная. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы

забудаваны з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Адна вуліца трасіравана і мае арыентацыю, блізкую да шыротнай. Паралельна да яе створана новая вуліца, забудаваная сучаснымі мураванымі аднапавярховымі жылымі дамамі.

**НЯРАЖ** — вёска ў Лудчыцкім с/с, за 5 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 56 км ад Магілёва, на р. Рдзіца, якая пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 213 гаспадарак, 534 жыхары (2007).

За 2,5 км на У ад вёскі, на мысе, каля ўпадзення р. Рдзіца ў пойму Дняпра, захавалася стаянка позняга мезаліту (датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н.э.), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе ВКЛ. У 1780 г. 17 двароў, 147 жыхароў, памешчыцкае ўладанне, у Быхаўскім павеце. У 1880 г. вёска Дубовая Нераж, 63 двары, 457 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і кравецкім промысламі. У 1909 г. вёска Дубава-Няраж у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета, 88 двароў, 776 жыхароў, меўся млын. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. навучаліся 112 хлопчыкаў і дзяўчынак. Дзейнічала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 101 двор, 569 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 71 вясковец, на ўшанаванне памяці якіх у цэнтры вёскі ў 1975 г. пастаўлена стэла. У 1967 г. далучаны вёскі Дубовае, Калініна. У 1982 г. 264 гаспадаркі, 675 жыхароў, у складзе калгаса «Рэвалюцыя» (з 2003 г. СВК «Валадарскі»; цэнтр — г. Быхаў). У 1990-х г. меліся ферма буйной рагатай жывёлы, млын, машынны двор, піларама, клуб, б-ка з фондам больш за 10,8 тыс. кніг, грамадская лазня, дзіцячы сад, 8-гадовая школа (17 настаўнікаў), аддз. сувязі, магазін, 2 спарт. пляцоўкі. Працуюць (2008) б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1981—82 гг. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна ўяўляе вуліцы шыротнай арыентацыі, падзеленыя рэчкай, цераз якую ўзведзены 2 масты. Жылая забудова пераважна драўляная. Пастаноўка хат тарцом ці глухім падоўжным фасадам да вуліцы. Двары бессістэмныя, часцей за ўсё — няпоўныя вяночныя. У цэнтр. частцы сярод жылой забудовы ўзведзены адм.-грамадскія будынкі. На ПнЗ вытворчы сектар.

**ПАДГАВАРАКА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Быхава, 40 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. На У цячэ р. Балонаўка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Балонаў Сялец 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Спачатку ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 11 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі ідзе ўздоўж берага ракі і адпаведна яму мае крывалінейную трасу. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДГОР'Е** — вёска ў Чырванаслабодскім с/с, за 23 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 67 км ад Магілёва, на р. Трасна. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Слаўгарад—Нікановічы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі, на высокім правым беразе р. Трасцянка, захавалася гарадзішча, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. фальварак Падгур'е (1 двор, 12 жыха-



*Ф.А.Смалячкоў.*

роў), меліся вадзяны і ветраны млыны. У 1909 г. 22 жыхары. 4.5.1922 г. створана садова-агароднае т-ва, якое аб'ядноўвала 22 гаспадаркі. У былым панскім маёнтку дзейнічала таксама сырамаслаbooбчая арцель, а ў 1925 г. — с.-г. арцель «Згода», якая аб'ядноўвала 7 гаспадарак і ў 1930 г. атрымала трактар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Ніканавічы). Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі трасіравана паралельна да шашы, забудавана двухбакова, няшчыльна. Гасп. сектар на Пн. Радзіма Героя Сав. Саюза, аднаго з пачынальнікаў снайперскага руху на Ленінградскім фронце ў Вял. Айч. вайну Ф.А.Смалячкова (з 126 стрэлаў — 125 забітых гітлераўцаў). У памяць пра яго на ўсх. ускраіне вёскі ў 1975 г. пастаўлена стэла.

**ПАДКЛЁННЕ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 13 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва. На У працякае р. Макранка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

У 1880 г. тут быў маёнтак, гаспадар якога валодаў у розных месцах 4935 дзес. зямлі, меў вадзяны млын і сукнавальню. У 1909 г. фальварак, 1 двор, 2 жыхары, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравна герм. войскамі. У 1920 г. 55 двароў, 310 жыхароў, 315,6 дзес. ворыўнай зямлі. З 20.8.1924 г. ў Ямніцкім, з 21.8.1925 г. ў Клятнянскім сельсаветах Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У пач. 1920-х г. адкрыта працоўная школа 1-й ступені імя М.І.Калініна, для якой вяскоўцы ў 1925 г. ўзвялі будынак. У 1925 г. ў ёй навучаліся 52 вучні. Дзейнічала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. хутары, 75 двароў, 426 жыхароў. У 1928 г. працавала сыраробчая арцель. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 53 гаспадаркі, меў 287 га ворыва. У 1940 г. 84 двары, 401 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (84 двары), закатавалі 16 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 51 гаспадарка, 91 жыхар, у складзе саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Холстава»; цэнтр — в. Холстава). Планіроўка прамавугольная, квартальная. Аснову яе складаюць тры паралельныя паміж сабой вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі з двухбаковай забудовай. Іх аб'ядноўваюць дзве перпендыкулярныя вуліцы, забудаваныя часткова. Сял. сядзібы традыцыйныя. Хаты пастаўлены пераважна тарцом да вуліцы, двары няпоўныя, вяночныя. Гасп. сектар на Пд.

**ПАДЛЕССЕ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 56 км ад Магілёва. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Быхаў—Семукачы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 13 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (цэнтр — в. Холстава). Планіровачна ўяўляе вуліцу з аднабаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу, выцягнутую з З на У уздоўж лесу.

**ПАДЛЕССЕ** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Быхава, 66 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. Мясцовасць меліяраваная. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Старая Баяршчына і далей па шашы Дунаёк—Быхаў. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 35 гаспадарак, 93 жыхары, у складзе

саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Планіроўка лінейная. Вуліца мае мерыдыянальную арыентацыю, забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДЛУКА** — пасёлак у Лудчыцкім с/с, за 9 км на Пд ад Быхава, 65 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 11 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. гітлераўцы спалілі вёску (11 двароў). Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана традыц. драўлянымі сядзібамі.

**ПАДОЛЬЦАВА** (да 1947 г. Сцяпанькава) — пасёлак у Навабыхаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Быхава, 55 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Назва дадзена ў памяць пра сакратара Быхаўскага райкома КП(б)Б С.Е.Падольцава, які ў 1942 г. загінуў у баі супраць гітлераўскіх акупантаў (пахаваны ў в. Леніна).

У 1905 г. маёнтак, адбываліся сял. хваляванні. З лютага да ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1926 г. 9 двароў, 36 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 9 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса імя Ф.Э. Дзяржынскага (цэнтр — в. Тайманава). Планіроўка лінейная. Забудова драўляная, мае блізкую да мерыдыянальнай арыентацыю.

**ПАКРОЎСКІ** — пасёлак у Навабыхаўскім с/с, за 33 км на ПдУ ад Быхава, 69 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На У цячэ р. Днепр, на Пд воз. Арэхавае. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Лазаравічы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

За 0,5 км на ПдЗ ад пасёлка, на правым беразе Дняпра, захавалася селішча позняга этапу зарубінецкай культуры (2—5 ст.), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. У 1931 г. створана арцель «Маяк камуны» па выпрацоўцы вапны (13 рабочых). Пасялкоўцы ў 1930-х г. уступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (з 2003 г. СВК «Навабыхаўскі»; цэнтр — в. Новы Быхаў). Планіроўка Г-падобная. Вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Непадалёку ад пасёлка знаходзіцца Лазаравіцка-Пакроўскае радовішча мелу (разведаныя запасы 3,18 млн. т).

**ПАЛКІ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 73 км ад Магілёва. На Пд цячэ р. Баброўка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Сялец і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 84 гаспадаркі, 194 жыхары (2007).

Вядома па рукапісных крыніцах з 16 ст. У 1598 г. сяло Палой у складзе маёнтка Новы Быхаў Рэчыцкага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. 8 двароў, у Быхаўскім графстве, памешчыцкая ўласнасць. У 1758 г. 76 жыхароў мужчынскага полу. У 1858 г. дзейнічалі піцейны дом, заезны двор. У 1880 г. 75 двароў, 385 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. 119 двароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, карчма. У 1907 г. ў школе (нар. вучылішчы) навучаліся 58 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак. У 1909 г. 124 двары, 780

жыхароў, меліся млын, заезны двор, у 1911 г. — 3 ветраныя млыны. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 71 вучань. 4.2.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1920 г. 147 двароў, 817 жыхароў, 478 дзес. ворыўнай зямлі, 5 ветракоў, кузня, крупадзёрка. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-нах Магілёўскай вобл. У 1926 г. 178 двароў, 989 жыхароў. 1.4.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная гара», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак, меў 267 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі вызначыўся пам. камандзіра ўзвода старшы сяржант М.Умурдзінаў, які 4.1.1944 г. ў крытычны момант бою ўзначаліў атаку байцоў роты і захапіў варожую вышыню, што забяспечыла выкананне баявой задачы. М.Умурдзінаў за гэты подзвіг удастоены звання Героя Сав. Саюза. На ўшанаванне яго памяці за 1,5 км на У ад вёскі ўстаноўлена стэла. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 298 сав. воінаў і партызан, у тым ліку байцы 283-й і 269-й стралк. дывізій 3-й арміі Бел. фронту, якія загінулі ў канцы 1943 г. — пач. 1944 г. У памяць пра 61 земляка, загінуўшага на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1977 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1982 г. 105 гаспадарак, 271 жыхар, цэнтр калгаса імя А.А.Жданава. У 1990-х г. у вёсцы працавалі вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, машынны двор, млын, пачатковая школа, клуб, б-ка з фондам больш за 7,6 тыс. кніг, комплексна-прыёмны пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, грамадская лазня, магазін. Працуе клуб. Гал. вуліца, дзе размешчаны грамадскія будынкі і мураваныя жылыя дамы тыпу катэджаў, арыентавана з У на З. Пад вострым вуглом ад яе адыходзіць старая вуліца, забудаваная традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На З гасп. сектар.



*М.Умурдзінаў.*

**ПАЛЯНІНАВІЧЫ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 66 км ад Магілёва. На Пн праходзіць канал Баброўка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 149 гаспадарак, 367 жыхароў (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 16 ст. У 1598 г. сяло ў складзе маёнтка Новы Быхаў Рэчыцкага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. 10 двароў, у Быхаўскім графстве, памешчыцкая ўласнасць, у 1758 г. 33 двары, 96 жыхароў мужчынскага полу, мелася карчма. У 1780 г. 76 двароў, 465 жыхароў, у 1885 г. 100 двароў, 640 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., працаваў пінейны дом. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. 125 двароў, 1128 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета, дзейнічалі школа граматы, карчма, хлебазапасны магазін. У 1907 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. 135 двароў, 1237 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой навучаліся і дзеці з суседняй вёскі Пагоркі. Паводле перапісу 1920 г. ў вёсцы мелася майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. 4.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1928 г. для школы пабудавана памяшканне. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Ленінская ніва», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 116 гаспадарак, меў 400 га ворыва, ветраны млын. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 24.11.1943 г. войскамі 283-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бел. фронту. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 80 сав. воінаў. На ўшанаванне памяці 135 вяскоўцаў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, каля будынка школы ў 1967 г. пастаўлены абеліск. Уваходзіла

ў Іскансі с/с, з 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Журавіцкага р-на Гомельскай вобл., з 11.4.1960 г. ў Абідавіцкім с/с. У 1967 г. далучана в. Бугаёўка. У 1982 г. 162 гаспадаркі, 414 жыхароў, цэнтр калгаса «Расія» (з 2003 г. СВК «Калгас «Расія»). У 1990-х г. ў вёсцы дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, млын, устаноўка па вырабе кармоў, сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 8,6 тыс. кніг, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, 5 спарт. пляцовак і зала. Працуюць (2008) б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1978 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Гал. вуліца арыентавана з У на З, забудавана няшчыльна драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. Двары пераважна няпоўныя, вяночныя. Шэраг хат пастаўлены глухім фасадам да вуліцы. У цэнтры сярод забудовы размешчаны адм.-гасп. будынкі.

**ПАПОЎКА** — пасёлак у Чырвонаслабодскім с/с, за 31 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Слаўгарад—Ніканавічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Паводле перапісу 1897 г. хутар, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 6 двароў, 45 жыхароў. У 1920 г. 11 двароў, 54 жыхары, 33,6 тыс. ворнай зямлі. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (з 2003 г. СВК «Трасна»; цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Традыц. драўляная хата з гасп. дваром і прысядзібным участкам.

**ПАРТОЛЕЎКА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 33 км на Пд ад Быхава, 74 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 18 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Хата і гасп. двор традыцыйныя.

**ПАСЕКА** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Быхава, 69 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Балонаў Сялец 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чыроны Бор). Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАКЛАДАВІЧЫ** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 21 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 36 км ад Магілёва. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз пас. Гадылёва і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 50 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Упершыню ў рукапісных крыніцах згадваецца ў 1560 г. як сяло (4 дымы) у Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. сяло Прыкладавічы ў Магілёўскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., аддадзена ў пажыццёвае валоданне пану. У 1604 г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, дзярж. ўласнасць. Паводле інвентару Дубровенскай вол., прыпісана да Быхаўскага замка і знаходзілася ў цяжкадаступнай балоці-

стай мясцовасці. Шлях да яе праходзіў па кладках-часцях (адсюль і паходжанне назвы). У 1635 г. 20 двароў. У 1742 г. 15 двароў, дзярж. ўласнасць. Меўся шынок. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1780 г. 38 двароў, 408 жыхароў. У 1858 г. 113 жыхароў мужчынскага полу, была карчма. У 1880 г. 58 двароў, 244 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася адыходнымі, бандарным і сталярным промысламі. У 1897 г. 70 двароў, 481 жыхар, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 72 двары, 383 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 85 вучняў. 10.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 156 двароў, 812 жыхароў. У 1931 г. арганізавана торфараспрацоўчая арцель «Новы рассвет». Вяскоўцы ў 1930-х г. аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 6 сав. воінаў, якія загінулі ў баі летам 1941 г. У 1982 г. 135 гаспадарак, 260 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (з 2003 г. СВК «Следзюкі»; цэнтр — в. Следзюкі). У 1990-х г. працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, машынны двор, пач. школа, б-ка з фондам звыш 10,6 тыс. кніг, магазін, 2 спарт. пляцоўкі. Планіровачную структуру ўтварае прамавугольная сетка вуліц. Перпендыкулярна да дарогі ў в. Грудзінаўку ў шыротным напрамку ідуць тры паралельныя паміж сабой вуліцы, забудаваныя з двух бакоў традыц. сял. сядзібамі з драўлянымі хатамі і гасп. пабудовамі. Іх перасякаюць завулкі, якія забудаваны часткова. У цэнтры — значная па памеры плошча, дзе размешчаны грамадскія будынкі. На паўд.-ўсходняй ускраіне гасп. сектар.

**ПЕРШАЕ МАЯ** (да 1934 г. пас. Свабода) — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 28 км на Пд ад Быхава, 54 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на правым беразе р. Тошчыца. На ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Верхняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

За 0,8 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Тошчыца, ва ўрочышчы Новая Пасека, захавалася селішча 6—8 ст. н.э. (культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны) і раннефеад. часу. За 1—1,2 км ад яго, уверх па цячэнні ракі, захаваліся рэшткі майстэрні раннефеад. часу. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшай мясцовасці ў далёкай старажытнасці. Па друкаваных крыніцах вёска вядома з пач. 20 ст. як пас. Свабода ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 9.5.1923 г. ў Навабыхаўскай вол., з 21.8.1925 г. ў Ніжнятошчыцкім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У крас. 1930 г. створаны калгас «1 Мая», пазней вёска атрымала гэтую назву. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, меў 399 дзес. ворыўнай зямлі, свінагадоўчую і конегадоўчую фермы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 32 гаспадаркі, 61 жыхар, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). У 1990-х г. працавалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па прыгатаванні кармоў, ветэрынарны ўчастак, магазін, пачатковая школа. Аснову планіроўкі складаюць дзве паралельныя паміж сабой вуліцы шыротнай арыентацыі, злучаныя дарогай у в. Верхняя Тошчыца. Забудавана двухбакова традыц. сял. сядзібамі з драўлянымі хатамі і гасп. дварамі розных тыпаў. Гасп. сектар на Пд.

**ПІСАРАЎКА** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Быхава, 36 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па

мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 11 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу з арыентацыяй, блізкай да шыротнай. Забудавана няшчыльна традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПІСАРАЎКА ГЛУХСКАЯ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Быхава, 36 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы, на шашы Магілёў—Бабруйск. На З мяжуе з лесам.

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (цэнтр — в. Чорны Бор). Традыцыйныя сял. сядзібы пастаўлены з паўн.-зах. боку ад шашы.

**ПОГАРКІ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 26 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 61 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Пралетарый і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім р-нах Гомельскай вобл. У 1932 г. створаны калгас «Погаркі», які ў той час аб'ядноўваў 14 гаспадарак, меў 97 га ворыўнай зямлі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 54 воіны, сярод якіх байцы 80-га стралк. корпуса 3-й арміі Бел. фронту, загінуўшыя ў баях восенню 1943 г. З 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. У 1982 г. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Расія» (з 2003 г. СВК «Калгас «Расія»; цэнтр — в. Палянінавічы). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з У на З і няшчыльна забудавана з двух бакоў традыц. сял. сядзібамі.

**ПРАЛЕТАРЫЙ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 31 км ад Магілёва, на р. Баброўка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2007).

У былой в. Баброўка ў пач. 1920-х г. была арганізавана аднайменная с.-г. арцель. 23.2.1931 г. арцель пераўтворана ў калгас «Пралетарый», які і даў назву сучаснай вёсцы. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім р-не, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім р-нах Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. У 1982 г. 58 гаспадарак, 133 жыхары, у складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Сялец). Гал. вуліца выцягнута з З на У і забудавана з двух бакоў, перасечана другараднымі вуліцамі з аднабаковай забудовай. Некалькі сял. сядзіб размешчаны адвольна. У забудове спалучаюцца традыц. драўляныя хаты з сучаснымі мураванымі жылымі дамамі.

**ПРАТОЧНАЕ** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Быхава, 72 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на ўзбярэжжы Чыгірынскага вадасховішча. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Галееўка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

За 1 км на Пд ад вёскі, на левым беразе Чыгірынскага вадасховішча, захаваўся стараж. курганны могільнік (3 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1826 г. тут былі 2 невялікія маёнткі, у 1857 г. ўзнік яшчэ адзін. Гаспадар аднаго маёнтка меў 108 дзес., другога — 164 дзес. і трэццяга — 111 дзес. зямлі. З 1876 г. дзейнічала гарбарная майстэрня. У 1880 г. вёска, 40 двароў, 213 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. 52 двары, 388 жыхароў, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1908 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 55 двароў, 335 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 43 вучні. У 1920 г. 50 двароў, 296 жыхароў, 134,07 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1928 г. дзейнічалі лесапільня і паравы млын. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 87 двароў, 435 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 18 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 38 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). Плаціроўка бессістэмная. Планіровачна складаецца з вуліцы са шчыльнай двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Уваходзіць у абл. зону адпачынку Чыгірынка.



*Дз.Я.Бычанкоў.*

**ПРЫБАР** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 45 км ад Магілёва, на левым беразе р. Днепр пры ўпадзенні ў яго р. Трасна. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 24 гаспадаркі, 33 жыхары (2007).

Вядома па рукапісных крыніцах з 18 ст. У 1780 г. вёска, 8 двароў, 48 жыхароў. Пасля пракладкі ў 1859 г. шашы Магілёў—Доўск была створана паштовая станцыя, якая мела 14 коней. У 1897 г. 56 двароў, 300 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся хлебазапасны магазін, карчма. На паштовай станцыі — 2 двары, 8 жыхароў. У 1907 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 48 двароў, 335 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 62 вучні. У 1920 г. 62 двары, 341 жыхар, 199,5 дзес. ворыўнай зямлі. У 1920-я г. пачала дзейнічаць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, створаны 2 меліярацыйныя т-вы, с.-г. кааператыў «Згода», працавала метэаралагічная станцыя. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 29.8.1942 г. партызаны ліквідавалі варожы апорны пункт у вёсцы. 5.1.1944 г. лыжны атрад 17-й стралк. дывізіі разграміў тут штаб 267-й варожай пях. дывізіі. У брацкай магіле, што ў вёсцы, пахаваны 5 партызан і Дз.Я.Бычанкоў — адзін з арганізатараў камсамольска-маладзёжнага падполля на Быхаўшчыне, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Быхаўскім р-не. У 1982 г. 53 гаспадаркі, 97 жыхароў, у складзе калгаса імя В.У. Куйбышава (цэнтр — в. Ніканавічы). Планіровачна ўяўляе крывалінейную вуліцу, арыентаваную з Пн на Пд уздоўж Дняпра. Забудова двухбаковая, больш шчыльная з усх. боку.

**ПРЫБЕРАЖЖА** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 29 км ад Магілёва. На Пд цячэ р. Паўна. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 54 гаспадаркі, 81 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска, у Быхаўскім павеце ВКЛ, памешчыцкая ўласнасць. Побач было таксама сяльцо, 21 двор, 193 жыхары (1780) памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. вёска і фальварак у

Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. Гаспадар маёнтка меў у 1874 г. 4739 дзесяцін зямлі, млын, карчму. З 1879 г. ў фальварку пачаў дзейнічаць пункт па вывядзенні чыстапародных коней. У 1897 г. 44 двары, 280 жыхароў, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета. Меўся хлебазапасны магазін. У фальварку было 2 двары, 53 жыхары. Непадалёку знаходзіўся піцейны дом (1 двор, 11 жыхароў). У 1900 г. адкрыта школа. У ліп. 1905 г. адбылася забастоўка с.-г. рабочых, якія патрабавалі ад памешчыка паляпшэння харчавання. У 1909 г. 44 двары, 332 жыхары, у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У маёнтку — 1 двор, 12 жыхароў, дзейнічаў млын. У 1911 г. арганізавана пажарная дружына. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. займаліся 43 вучні. У 1920 г. дзейнічалі кузня і вадзяны млын. 6.7.1931 г. арганізаваны калгас «КІМ», які ў 1932 г. аб'яднoўваў 31 гаспадарку, меў 105 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 1 км на Пд ад вёскі, у лесе і ў вёсцы, на могілках пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў пач. вайны. У 1982 г. 145 гаспадарак, 248 жыхароў, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). Гал. вуліцу, забудаваную з двух бакоў і арыентаваую з З на У уздоўж ракі, па цэнтры перасякае перпендыкулярная вуліца без забудовы, якая злучае паралельныя да галоўнай вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная. Сял. сядзібы традыцыйныя, з гасп. дварамі розных тыпаў. На другім беразе ракі, на ПдЗ ад вёскі — гасп. сектар.

**ПУЗАН** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Быхава, 45 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Балонаў Сялец 1, Балонаў Сялец 2 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 24 гаспадаркі, 32 жыхары, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудавана двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На ПдУ гасп. сектар.

**ПЯНЮГІ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 13 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Падклённе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар, 1 двор, 4 жыхары, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. вёска, 20 двароў, 202 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Паводле прам. перапісу 1920 г. мелася кузня. 1.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Ямніцкім, з 21.8.1925 г. ў Клятнянскім сельсаветах Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 43 двары, 229 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «6-ы з'езд Саветаў», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, меў 100 га ворыва. У 1940 г. 48 двароў, 201 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 55 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 27 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Холстава»; цэнтр — в. Холстава). Складаецца з трох паралельных паміж сабой вуліц, якія маюць крывалінейныя трасы з арыентацыяй, блізкай да мерыдыянальнай. Забудова драўляная, няшчыльная, з вял. інтэрваламі паміж сядзібамі.

**РАБОЧЫ** — пасёлак у Верхнятошчыцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Быхава, 81 км ад Магілёва, 0,5 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Верхняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 29 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1944 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 62 гаспадаркі, 100 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Дзве вуліцы размешчаны на З ад чыгункі, арыентаваны пад вуглом да яе. Забудова пераважна двухбаковая. Жылыя дамы сядзібнага тыпу.

**РАДЗЬКАВА СЛАБАДА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 29 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 55 км ад Магілёва, на правым беразе р. Ухлясць. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Радзькаў і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 19 ст. У 1858 г. 15 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. вёска Радзькаўская Слабада, 18 двароў, 96 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1902 г. засн. вінакурны з-д (у 1913 г. 8 рабочых). Сяляне ўдзельнічалі ў рэв. падзеях 1905—07 гг. У студз. 1906 г. яны разграмілі вінакурню, а ў крас. зрабілі патравы на памешчыцкіх землях. У 1909 г. 13 двароў, 124 жыхары. У 1926 г. 34 двары, 152 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 25 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (з 2003 г. СВК «Трасна»; цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ перпендыкулярна да ракі, забудавана двухбакова драўлянымі традыц. сял. сядзібамі.

**РАДЗЬКАЎ** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 29 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 57 км ад Магілёва, на правым беразе р. Ухлясць. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (29 гаспадарак) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета. У 1869 г. ў фальварку, які быў побач, засн. смалакурня, у 1877 г. — яшчэ адна. У 1881 г. працавалі дзягцярны і смолашкіпінарны з-д (6 рабочых). У 1897 г. фальварак (5 двароў) у Баханскай вол. Быхаўскага павета. У 1909 г. 46 жыхароў. У 1925 г. ў былым маёнтку дзейнічала садова-агародная гаспадарка. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная мара». У 1940 г. 30 двароў, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943—44 гг. гітлераўцы спалілі 28 двароў, загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 30 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса «Радзіма» (з 2003 г. СВК «Трасна»; цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Аснову планіроўкі складаюць дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы. Гал. вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыцыйнымі драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАМАНЯЦКАЯ ГУТА** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Быхава, 73 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Езва. На ПдУ ад вёскі балота. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоная Беларусь, Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

У 1909 г. вёска, 6 двароў, 53 жыхары, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 14.2.1923 г. ў Рагачоўскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Ямніцкім, з 21.8.1925 г. ў Клятнянскім сельсаветах Быхаўскага р-на. У 1920 г. 10 двароў, 48 жыхароў, 30,2 дзес. ворыўнай зямлі, у 1926 г. — 12 двароў, 67 жыхароў.

У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 27 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 15 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Традыцыйныя сял. сядзібы размешчаны па баках кароткай вуліцы, якая ідзе паралельна да ракі.

**РУДКІ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Быхава, 32 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. На У цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць паблізу вёскі.

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1941 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (цэнтр — в. Чорны Бор). Сял. драўляныя сядзібы пастаўлены ўздоўж вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**РЫЖКАЎКА** — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 37 км ад Магілёва. На ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Грудзінаўка, Гадылёва і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 53 гаспадаркі, 91 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1635 г. згадваецца як с. Рызыкаўка, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 25 двароў, меліся млын, царква і карчма. У 1780 г. 48 двароў, 461 жыхар. У 1858 г. 115 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 48 двароў, 244 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным і сталярным промысламі. З ліп. 1889 г. пачаў дзейнічаць прыёмны пакой на 20 ложкаў. У часы наездаў на адпачынак тут практыкаваў вядомы вучоны-афтальмолаг праф. медыцыны Е.В.Касценіч. Пазней была створана бальніца, якой у 1939 г. прысвоена імя Леніна. У 1897 г. 67 двароў, 444 жыхары, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся хлебазапасны магазін і піцейны дом. У 1909 г. 69 двароў, 590 жыхароў, працаваў млын, у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 14.2.1923 г. ў Магілёўскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Грудзінаўскім 1-м, з 24.1.1939 г. ў Грудзінаўскім сельсаветах. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 104 вучні. 1.7.1920 г. пачала дзейнічаць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. хутары, 135 двароў, 800 жыхароў. 15.9.1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 37 гаспадарак, меў 178 га ворыва. Працавалі калгасны цагельны з-д (засн. ў 1933 г.), кузня і ваўначоска. У 1940 г. 175 двароў, 1025 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да крас. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 171 двор, загубілі 26 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 2 брацкіх магілах пахаваны 12 воінаў і партызан, у іх ліку байцы 187-й стралк. дывізіі 13-й арміі Зах. фронту, якія вялі тут баі ў 1941 г. У 1990-х г. функцыяніравалі жывёлагадоўчы комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, б-ка з фондам больш за 6 тыс. кніг, бальніца, аптэка, магазін. У 1982 г. 148 гаспадарак, 245 жыхароў, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). Планіроўка блізкая да рэгулярнай, прамавугольнай. Тры асн. паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны мерыдыянальна. Забудова сядзібнага тыпу, аднасна шчыльная, пераважна двухбаковая, драўляная.

**РЭЗКІ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 65 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 18 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. створаны калгас «Пралетарый». У 1940 г. 20 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 36 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе саўгаса «Спадарожнік» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіроўка лінейная. Адзіная вуліца выцягнута з ПнЗ на ПдУ. Жылая забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная.

**РЭКТА** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 18 км на Пн ад Быхава, 48 км ад Магілёва, 1,5 км ад чыг. ст. Барсукі на лініі Магілёў—Быхаў. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Быхаў. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар, 1 двор, 9 жыхароў, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета. У 1909 г. 1 двор, 4 жыхары. У пач. 20 ст. былі царк.-прыходская школа, казённая вінная крама, царква, якія абслугоўвалі і суседнія вёскі. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. 10.7.1920 г. пачала дзейнічаць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рэкта». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 18 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). У 1990-х г. працавала ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд. Сядзібы размешчаны няшчыльна. Драўляныя хаты пастаўлены тарцовымі фасадамі да вуліцы, двары розных тыпаў, гасп. сектар на Пн.

**САВІЧАЎ РОГ** — пасёлак у Лудчыцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 66 км ад Магілёва. На ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. партызаны 152-га партыз. палка Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі тут гітлераўскі штаб 707-га чыг. батальёна, а ў пач. лютага 1944 г. знішчылі варожы эшалон. У 1982 г. 11 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса «Рэвалюцыя» (з 2003 г. СВК «Валадарскі»; цэнтр — г. Быхаў). Планіроўка лінейная. Арыентацыя вуліцы блізкая да мерыдыянальнай. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая, сярэдняй шчыльнасці.

**САЛАЎІХА** — пасёлак у Следзюкоўскім с/с, за 10 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 42 км ад Магілёва, на шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. Мясцовасць меліяраваная. На У цячэ р. Варонінка.

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 28 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе саўгаса «Вараніно» (цэнтр — в. Вараніно). Траса вуліцы крывалінейная. Забудова сядзібнага тыпу, двухбаковая, сярэдняй шчыльнасці, пераважна драўляная.

**САПЯЖЫНКА** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 2 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 40 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Магілёў, на Пд цячэ р. Макранка. 99 гаспадарак, 207 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. гаспадарскі дом у Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1780 г. сяльцо Сапяжына, 34 двары, уласнасць памешчыка, меўся млын. У канцы 18 ст. згадваецца як яўр. паселішча ў Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 336 жыхароў. У 1812 г. ў час напалеонаўскага нашэсця тут пры адыходзе рус. войск размяшчаўся штаб камандуючага 2-й Зах.

арміяй П.І.Баграціёна (9—12.7.1812). У памяць аб гэтым на зах. ускраіне вёскі ў 1962 г. ўстаноўлена стэла. Побач з сяльцом у 1828 г. існаваў фальварак, дзе мелася шкляная гута, выраблялася 160 тыс. бутэлек у год, з'яўляўся памешчыцкай уласнасцю. У 1880 г. 35 двароў, 362 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, сталярным і кравецкім промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. 53 двары, 491 жыхар, дзейнічалі паравы млын, малітоўны і піцейны дамы. У 1912 г. створана земская школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак. З лютага да ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў. Пры ёй працаваў драматычны гурток. У 1920-я г. дзейнічалі школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, майстэрня па вырабе ботаў і 2 кузні. З 20.8.1924 г. ў Мокраўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 70 двароў, 358 жыхароў. У 1927 г. ўзведзены цагельны з-д «Чырвоны будаўнік». У 1929 г. арганізаваны калгас імя Я.М.Свярдлова, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 152 гаспадаркі, 353 жыхары, у складзе саўгаса «Мокраўскі» (з 2003 г. КУСП «Макранскі»; цэнтр — в. Мокрае). Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і абмежавана па канцах шашой і чыгункай Быхаў—Магілёў. Ва ўсх. частцы планіровачная структура набыла V-падобную форму. Забудова шчыльная, пераважна драўляная. Хаты арыентаваны тарцовым гал. фасадам да вуліцы. На Пн ад вёскі размешчаны льнозавод (пабудаваны ў 1972), пасёлак якога складаецца з мураваных двухпавярховых 24-кватэрных і некалькіх аднапавярховых мураваных жылых дамоў з гасп. пабудовамі. Па праекце раённай планіроўкі Быхаўскага адм. р-на (распрацаваны ў 1984 г. БелНДІП-горадабудаўніцтва) вёска ў перспектыве ўвойдзе ў гар. мяжу Быхава.

**САРОЧЫНА** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 11 км на Пн ад Быхава, 41 км ад Магілёва, 1,5 км ад чыг. ст. Баркалабава на лініі Магілёў—Быхаў, на р. Лахва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Залахвенне і далей па шашы Магілёў—Быхаў. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. 5 двароў, 11 жыхароў мужчынскага полу, у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. Непадалёку існаваў маёнтак, гаспадар якога ў 1867 г. валодаў 3111,5 дзес. зямлі, меў вадзяны млын. З 1874 г. ў маёнтку працаваў вінакурны з-д, дзе ў 1895 г. было 9 рабочых, дзейнічала паравая машына. У 1897 г. — 8 двароў, 28 жыхароў, вінная крама. У студз. 1906 г. адбыліся хваляванні сялян. 30.6.1906 г. з-за нязгоды з умовамі аплаты працы рабочыя зняліся з маёнтка і адказаліся працаваць на памешчыка. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. 16.2.1919 г. паводле пастановы Быхаўскай павят. партыйнай арг-цыі ў былым панскім маёнтку створана адна з першых на Беларусі с.-г. камуна (1-я Сарочынская імя К.Лібкнехта). У 1922 г. камунары адрамантавалі памяшканне для клуба, адкрылі б-ку, чытальню. На базе камуны ў 1923 г. арганізаваны калгас імя К.Лібкнехта, які атрымаў у наступным годзе першы трактар, а ў 1930 г. меў ужо 3 трактары, крупадзёрку, у 1932 г. — 74 гаспадаркі і 201 га ворыва. У вёсцы дзейнічала майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. 1.7.1920 г. запрацавала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1924 г. адбылася першая с.-г. выстаўка, на якой дэманстраваліся дасягненні калгаса імя К.Лібкнехта і саўгаса «Баркалабаў». У памяць аб камуне ў 1972 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 43 гаспадаркі, 81 жыхар, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалаба-

ва). Траса гал. вуліцы арыентавана з ПнЗ на ПдУ паралельна да ракі. Жылая забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СВІРЫДАЎКА** — пасёлак у Лудчыцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 65 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 13 двароў, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны. У 1982 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). Вуліца забудавана толькі з паўд. боку адвольна спланаванымі драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЕЛІШЧА** — пасёлак у Глухскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 52 км ад Магілёва. На З цячэ р. Забава. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Быхаў—Семукачы. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана няшчыльна з двух бакоў драўлянымі індывідуальнымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

*Жылы дом у в. Следзюкі.*



**СІНЕЖ** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Быхава, 83 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Верхняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар, 2 двары, 19 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета. У 1909 г. 1 двор, 4 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 14.2.1923 г. ў Рагачоўскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Магілёўскай акрузе (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутар. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 23 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіроўка лінейная. Вуліца мае шыротную арыентацыю, на ўсх. канцы паварочвае перпендыкулярна да чыгункі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЛАБАДА** — вёска ў Лудчыцкім с/с, за 10 км на Пд ад Быхава, 64 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска Дубовая Слабада, 10 двароў, 29 жыхароў мужчынскага полу, у Быхаўскім графстве, уладанне памешчыка. У 1784 г. 12 двароў, 109 жыхароў, у Быхаўскім павеце. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 37 вучняў, у ліп. 1920 г. — школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У крас. 1930 г. створаны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, меў 399

га ворыва. У 1940 г. 30 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі вёску (30 двароў). Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 37 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Хаты пастаўлены пераважна тарцом да вуліцы. На паўд.-ўсходняй ускраіне гасп. сектар.

**СЛАНЕЎШЧЫНА** — вёска ў Глухскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва. Мясцовасць меліяраваная. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца пад 1758 г. як вёска (3 двары) у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. У 1780 г. 17 двароў, 125 жыхароў, у Быхаўскім павеце. У 1822 г. 14 двароў. У 1858 г. 38 жыхароў мужчынскага полу, у складзе маёнтка Людкоў Быхаўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 16 двароў, 132 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. 32 двары, 208 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 39 двароў, 197 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1913 г. ўзведзены будынак. З лютага да ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 54 вучні. У 1926 г. 59 двароў, 300 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Супольная праца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак, меў 80 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 43 гаспадаркі, 74 жыхары, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з Пн на Пд. Жылая забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная. Хаты пастаўлены пераважна тарцом да вуліцы, гасп. двары няпоўныя вяночныя. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**СЛЕДЗЮКІ** — вёска, цэнтр Следзюкоўскага с/с, за 14 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 35 км ад Магілёва, на шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. На У мясцовасць меліяраваная. 375 гаспадарак, 827 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца ў 1560 г. як сяло (17 дымоў) у Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. ў Магілёўскім старостве Аршанскага павета, аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У Баркалабаўскім летапісе ўпамінаецца пад 1585 г. як в. Следнакі (16 двароў), была прыпісана да Быхаўскага замка. Сяляне неслі натуральныя павіннасці мёдам, збожжам, сенам, баброрвымі скуркамі, выплочвалі грашовыя павіннасці. У 1604 г. 63 двары, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 69 двароў, меліся млын, карчма. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1780 г. 92 двары, 822 жыхары. У 1846 г. ў складзе маёнтка Грудзінаўскі Быхаўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1858 г. — 240 жыхароў мужчынскага полу, карчма. У 1874 г. засн. смалакурны з-д (у 1881 г. 11 рабочых). У 1880 г. 110 двароў, 680 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім, сталярным, бандарным, адыходным, рамізніцкім і кравецкім промысламі. У 1894 г. адкры-



*Аграгарадок у в. Следзюкі.*



*Адкрыццё памятнай стэлы ў в. Следзюкі.*

та школа, для якой у 1911 г. пабудавана памяшканне. У 1905 г. ў школе (нар. вучылішчы) займаліся 35 хлопчыкаў, у 1907 г. — 48 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1897 г. 146 двароў, 1012 жыхароў, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом. Непадалёку быў заезны двор (22 жыхары). У 1909 г. 159 двароў, 1225 жыхароў, у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета. Існавалі таксама 2 лясныя вартоўні (2 двары, 14 жыхароў), вартоўня пры шашы (1 двор, 12 жыхароў), заезны двор (17 жыхароў). З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Быхаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Паводле прам. перапісу ў 1920 г. ў вёсцы меліся 2 ветраныя млыны і кузня. У 1922—23 гг. створаны меліярацыйныя таварыствы. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. навучаліся 64 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1926 г. 253 двары, 1388 жыхароў. У 1927 г. арганізавана смалакурная арцель. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 80 воінаў, у ліку якіх байцы 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі пры вызваленні вёскі. Побач у 1972 г. пастаўлена стэла на ўшанаванне памяці 59 землякоў, загінуўшых на франтах. З 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1982 г. 499 гаспадарак, 1161 жыхар, цэнтр калгаса імя Ільіча (з 2003 г. СВК «Следзюкі»). У 1990-х г. ў вёсцы дзейнічалі вытв. брыгада, машынны двор, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, комплекс «Днепр» па вырошчванні і адкорме буйной рагатай жывёлы, млын, рамонтна-механічныя майстэрні, 8-гадовая школа (17 настаўнікаў), дзіцячы сад, б-ка з фондам больш за 13,5 тыс. кніг, Дом культуры, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, магазін, 4 спарт. пляцоўкі. Працуюць б-ка аграгарадка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ад шашы амаль паралельна ідуць дзве найбольш стараж. вуліцы — імя Аскаленкі і Камсамольская. Пад рознымі вугламі іх перасякаюць вуліцы Цэнтральная, Клубная, Палявая, Праванабярэжная і Брадок, утвараючы сетку нерэгулярных кварталаў. Вёска шчыльна забудавана драўлянымі жылымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі. Двары пераважна вяночнага тыпу. Уздоўж вуліцы Цэнтральнай пастаўлены 3-павярховая мураваная школа і іншыя грамадскія будынкі, двухпавярховы шматкватэрны дом. На паўн. ускраіне перпендыкулярна да яе склалася новая вуліца, забудаваная аднапавярховымі мураванымі жылымі дамамі. У паўн.-ўсх. частцы — вытв. сектар. У межах вёскі размешчаны тры невялікія сажалкі і парк,

*Жылыя дамы ў аграгарадку Смаліца.*



што разам з маляўнічым рэльефам надае населенаму пункту характэрны вобраз. Радзіма Героя Сав. Саюза Дз.Я.Аскаленкі, які ў Вял. Айч. вайну пры абароне Ленінграда камандаваў эскадрылляй 26-га гвардз. знішчальнага авіяцыйнага палка, збіў 14 самалётаў праціўніка. На будынку Следзюкоўскай школы, дзе ён вучыўся, у 1970 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У склад сельсавета ўваходзяць 8 вёсак. У канцы 1930-х г. на яго тэр. існавалі вёскі Грудзінаўка 2, Мамачына, пас. Ветка.

**СМАЛІЦА** — вёска, цэнтр Смаліцкага с/с, за 23 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 55 км ад Магілёва, на аўтадарозе Трылесіна—Вараніно. На Пд мясцовасць меліяраваная. 194 гаспадаркі, 476 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1604 г. сяло. У 1635 г. 14 двароў, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць, меўся млын. У 1742 г. 45 двароў, дзейнічалі млын і шынок. У 1846 г. ў складзе маёнтка Грудзінаўка, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 82 двары, 471 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і кравецкім промысламі. У 1897 г. 114 двароў, 730 жыхароў, у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., працавалі хлебазапасны магазін, піцейны дом. Непадалёку быў хутар Смоліца, 6 двароў, 42 жыхары. У 1909 г. ў Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета, 118 двароў, 858 жыхароў. У 1909 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу мясц. прам-сці ў 1920 г. былі ветраны млын, майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. 1.8.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1922 г. створаны 6 меліярацыйных т-ваў. На базе дарэвалюцыйнай пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 102 вучні. У 1926 г. 204 двары, 1079 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 57 гаспадарак, меў 332 га ворыва. 25.3.1931 г. створаны другі калгас — «Ясная зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, меў 178 га ворыва, ветраны млын. У 1940 г. 215 двароў, 987 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 215 двароў, загубілі 140 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. Каля вёскі ў кастр. 1943 г. адбыліся цяжкія баі партызан супраць акупантаў. У партыз. баях і на франтах загінулі 65 землякоў. У памяць аб іх каля Дома культуры ў 1967 г. ўзведзены абеліск. У 1982 г. 200 гаспадарак, 490 жыхароў, цэнтр калгаса «Перамога». З 1.4.1991 г. цэнтр сельсавета. У 1990-х г. у вёсцы працавалі фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, машынны двор, устаноўка па прыгатаванні вітамінnай мукі, вытв. брыгада, магазін, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 8,4 тыс. кніг, пач. школа, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, грамадская лазня, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, спарт. пляцоўка. Дзейнічаюць (2008) Дом культуры, б-ка аграгарадка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка рэгулярная з прамавугольнай сеткай вуліц. Дарога Трылесіна—Вараніно перасякае вёску з З на У. Паралельна да яе ідзе вуліца, дзе сярод жылой забудовы знаходзяцца грамадскія будынкі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная. Зах. частка забудавана аднакватэрнымі буйнапанэльнымі жылымі дамамі. На ПдУ вытв. сектар.

*На пашы аграгарадка Смаліца.*



У склад сельсавета ўваходзяць 5 вёсак і 1 пасёлак. У канцы 1930-х г. на яго тэр. існавалі вёска Малыя Боўкі, пасёлкі Ясны, Палянскі, Фаміна, Раманаў Лог, Ільіч, Замосце, Зялёнка, Гарэлы Лес, якія зліліся з іншымі населенымі пунктамі альбо жыхары перасяліліся ў іншыя месцы.

**СТАНОК** — пасёлак у Лудчыцкім с/с, за 9 км на ПнУ ад Быхава, 66 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска Станкі (12 двароў) у Быхаўскім графстве ВКЛ, уласнасць памешчыка. У 1784 г. 12 двароў, 73 жыхары, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. пасёлак, 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Рэвалюцыя» (з 2003 г. СВК «Валадарскі»; цэнтр — г. Быхаў). Планіровачна ўяўляе кароткую вуліцу блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаваную з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАНЦЫЯ ЛУДЧЫЦЫ** — пасёлак у Лудчыцкім с/с, чыг. станцыя на лініі Быхаў—Жлобін, за 15 км на ПдУ ад Быхава, 60 км ад Магілёва. 24 гаспадаркі, 51 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. ў час будаўніцтва чыгункі Магілёў—Гомель як чыг. раз'езд №15. У лютым—ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1927 г. чыг. раз'езд пераўтвораны ў станцыю. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. пасёлак, 37 гаспадарак, 76 жыхароў. Планіровачна складаецца з пастаўленых паралельна да чыгункі будынкаў вакзала, складоў, а таксама шматкватэрных мураваных жылых дамоў і гасп. пабудоў.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Лудчыцкім с/с, за 12 км на Пд ад Быхава, 57 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў.

Вядома з 18 ст. У 1742 г. 4 двары, уласнасць памешчыка, у Быхаўскім графстве ВКЛ. У 1758 г. 13 двароў, 13 жыхароў мужчынскага полу, побач існавалі фальварак і карчма. У 1784 г. 16 двароў, 138 жыхароў, у Быхаўскім павеце, у 1828 г. 21 двор, 162 жыхары, меліся 2 магазіны. У 1897 г. 7 двароў, 46 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 8 двароў, 50 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 9 гаспадарак, 74 жыхары, 39,15 дзес. ворыўнай зямлі. У 1926 г. 8 двароў, 59 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску (18 двароў). Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 7 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). Планіроўка лінейная. Вуліца амаль шыротнай арыентацыі няшчыльна забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРАЯ БАЯРШЧЫНА** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Быхава, 60 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Лудчы-

*Жылыя дамы ў аграгарадку Смаліца.*



цы, на лініі Быхаў—Жлобін. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Дунаёк—Быхаў. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

У 1897 г. выселак, 2 двары, 21 жыхар, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З лютага да ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Ямніцкім, з 21.8.1925 г. ў Клятнянскім сельсаветах Быхаўскага р-на. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Ямнае» (цэнтр — в. Ямнае). Кароткая вуліца мае мерыдыянальную арыентацыю і двухбаковую драўляную забудову сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ ТРАСНА** — пасёлак у Чырвонаслабодскім с/с, за 17 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 46 км ад Магілёва, на левым беразе р. Трасна. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 1909 г. вёска, 15 двароў, 111 жыхароў, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1920 г. 23 двары, 127 жыхароў, 118,2 дзес. ворыўнай зямлі. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. пасёлак, 13 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса імя В.У. Куйбышава (цэнтр — в. Ніканавічы). Планіровачна ўяўляе кароткую шыротнай арыентацыі вуліцу, якая ідзе ўздоўж ракі і забудавана (больш шчыльна з паўд. боку) драўлянымі традыц. сял. сядзібамі.

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 63 км ад Магілёва. На З штучнае вадасховішча, утворанае на р. Чарняўка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Абідавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У пасёлку дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 38 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса «XVIII партз'езд» (з 2003 г. СВК «Абідавічы»; цэнтр — в. Абідавічы). У 1990-я г. працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка V-падобная. Гал. вуліца мае крыху крывалінейную трасу і выцягнута з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРОЕ ХАЗЯЙСТВА** — пасёлак у Следзюкоўскім с/с, за 9 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва, на шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. На У цячэ р. Варонінка. Мясцовасць меліяраваная.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Вараніно» (цэнтр — в. Вараніно). Планіроўка Г-падобная. Вуліца забудавана аднабакова традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАЎПАВОЕ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Быхава, 45 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Балонаў Сялец 1, Балонаў Сялец 2 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 7 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітле-

раўцы поўнасцю спалілі яго, загубілі 4 жыхароў. У 1982 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (цэнтр — в. Дуброва).

**СТАХОЎШЧЫНА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Быхава, 36 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. На У цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць паблізу вёскі. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах Магілёўскай вобл. У 1926 г. 50 двароў, 350 жыхароў. 17.3.1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ў 1932 г. аб'яднoўваў 33 гаспадаркі, меў 303 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 58 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Аснову планіровачнай структуры складаюць дзве паралельныя паміж сабой вуліцы, якія маюць шыротную арыентацыю і накіраваны перпендыкулярна да ракі. Забудова двухбаковая, сярэдняй шчыльнасці, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТУДЗЁНКА** — вёска ў Глухскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Быхава, 41 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Быхаў, на р. Грэза. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 37 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).



*Т.Сівакова з трэнерам А.І.Літвіненкам у алімпійскай вёсцы (г. Сідней, Аўстралія). 2000.*

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска, 65 двароў, 220 жыхароў мужчынскага полу, у Быхаўскім графстве ВКЛ, уласнасць памешчыка, мелася карчма. У 1780 г. 86 двароў, 466 жыхароў, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 97 двароў, 606 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, адыходным і кравецкім промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1903 г. адкрыта земская школа, для якой у 1911 г. пабудавана памяшканне. У 1909 г. 979 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1920 г. 185 двароў, 1071 жыхар, 831 дзес. ворыўнай зямлі, меўся вятрак. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. вучаліся 102 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 219 двароў, 1285 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», які ў 1932 г. аб'яднoўваў 70 гаспадарак, меў 306 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26.6.1942 г. гітлераўцы спалілі 160 двароў, загубілі 442 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 6 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях у 1942—44 гг. На ўшанаванне памяці 87 жыхароў вёсак Падрабінкі, Студзёнка і пас. Зялёны Гай, загінуўшых на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1982 г. 90 гаспадарак, 164 жыхары, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). У 1990-я г. працавалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па пераапрацоўцы кармоў, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Гал. вуліца з крывалінейнай трасай арыентавана з У на З і перакрыжоўваецца завулкамі пад рознымі вугламі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, больш шчыльная ва ўсх. частцы. На Пн вытв. сектар. Радзіма бел. спартсменкі Т.В.Сіваковай.

**СУШЧОЎ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 45 км ад Магілёва, у лукавіне р. Макранка, якая агінае вёску на Пн. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 40 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1745 г. 26 двароў, уласнасць памешчыка, у Быхаўскім графстве ВКЛ. У 1758 г. 32 двары, 88 жыхароў мужчынскага полу, меліся царква, карчма, шынок. У 1780 г. вёска Сушчова, 32 двары, 222 жыхары, у Быхаўскім павеце. У 1880 г. 76 двароў, 439 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным, калёсным і кравецкім промысламі. У 1897 г. 113 двароў, 741 жыхар, працавалі школа граматы, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У 1904 г. школа граматы ператворана ў земскую, у якой у 1905 г. навучаліся 58 хлопчыкаў, 8 дзяўчынак. У 1909 г. 130 двароў, 740 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. ў Студзёнкаўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучаліся 96 хлопчыкаў і дзяўчынак, мелася невялікая б-ка. У 1920-я г. працавала майстэрня па рамонце с.-г. інвентару, адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 164 двары, 866 жыхароў. Непадалёку існаваў аднайменны хутар — 12 двароў, 61 жыхар. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 106 вяскоўцаў. У памяць аб іх на ўсх. ускраіне ў 1969 г. пастаўлена стэла з іменамі загінуўшых. У 1967 г. далучана в. Зарэчча. У 1982 г. 106 гаспадарак, 197 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Холстава»; цэнтр — в. Холстава). Гал. вуліцу перакрыжоўвае рэчка, якая затым паварочвае паралельна да вуліцы. Забудова шчыльная, двухбаковая, пераважна драўляная. Сярод традыц. сял. сядзіб ёсць грамадскія будынкі. Ад галоўнай адыходзяць дзве другія вуліцы, накіраваныя на Пд. За р. Макранка знаходзіцца яшчэ адзін раён жылой забудовы, а таксама буйны жывёлагадоўчы комплекс.

**СЯДЗІБКА** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 55 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Семукачы. На Пн мяжуе з лесам.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 23 гаспадаркі, 59 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (цэнтр — в. Холстава). Планіроўка лінейная. Вуліца мае амаль шыротную арыентацыю і пад вуглом накіравана да шашы. Забудова двухбаковая, сярэдняй шчыльнасці, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЯДЗІЧ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 38 км ад Магілёва, на шашы Магілёў—Быхаў. На У цячэ р. Дняпро. 111 гаспадарак, 213 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Седзічы, у Старабыхаўскай акрузе. У 1780 г. 16 двароў, 138 жыхароў. У 1880 г. 40 двароў, 301 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. 76 двароў, 393 жыхары, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, вінная крама. Вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. У кастр. 1905 г. шырока вялася антыўрадавая агітацыя, у студз. 1906 г. пры арышце агітатара адбыліся сутычкі сялян з паліцыяй. У чэрв. і ліп. 1906 г. з-за нізкай аплаты працы рабочыя маёнтка адмовіліся працаваць на памешчыка. У сувязі з гэтым былі выкліканы войскі, 2 вяскоўцы былі арыштаваны. У 1906 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1910 г. ўзведзены ўласны будынак. У 1909 г. 95 двароў, 557 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцый-

най створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. навучаліся 72 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1920 г. 129 двароў, 732 жыхары, 510,3 дзес. ворыўнай зямлі; адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1923 г. створаны сыраварна-масларобчая арцель, якая аб'ядноўвала 34 гаспадаркі, створаны 2 меліярацыйныя т-вы. 1.4.1924 г. арганізавана каап. малочнае т-ва. З 20.8.1924 г. ў Мокраўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 139 двароў, 750 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Цагельны Завод. У 1982 г. 202 гаспадаркі, 394 жыхары, у складзе саўгаса «Мокраўскі» (з 2003 г. КУСП «Макранскі»; цэнтр — в. Мокрае). У 1990-х г. дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, цагельны з-д, магазін, 8-гадовая школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка з фондам больш за 3,3 тыс. кніг. Працуюць (2008) б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца (адрэзак шашы) арыентавана з Пд на Пн і шчыльна забудавана з двух бакоў. Сярод традыц. драўляных сял. сядзіб знаходзяцца мураваныя індывідуальныя жылыя дамы з сучаснымі дварамі, падзеленымі на парадную і гасп. часткі. Фронт вуліцы, на якой размешчаны грамадскія будынкі, утвараюць тарцовыя гал. фасады хат. Другая вуліца пачынаецца ад сярэдзіны вёскі і ідзе ўздоўж берага Дняпра. На З вытв. сектар.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 64 км ад Магілёва, на р. Баброўка, на шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. На З мяжуе з лесам. 167 гаспадарак, 444 жыхары (2007).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Баброўка, захавалася селішча позняга этапу зарубінецкай культуры, за 2 км на ПнЗ ад вёскі — селішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі, а ў яго паўн. частцы — курганны могільнік (30 насыпаў) эпохі Кіеўскай Русі. Вёска вядома з 18 ст. У 1758 г. вёскі Сяльцо (40 двароў) і Сялец (25 двароў, 64 жыхары мужчынскага полу, млын, карчма) у Быхаўскім графстве ВКЛ. У 1780 г. вёскі Халапея (11 двароў, 67 жыхароў) і Сяльцо (79 двароў, 435 жыхароў). У 1858 г. 167 жыхароў мужчынскага полу, піцейны дом. У 1880 г. 89 двароў, 683 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, кавальскім і кравецкім промысламі. Паблізу, на тракце Сялец—Быхаў, размяшчалася паштовая станцыя, якая мела 14 коней. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне, а ў 1905 г. зроблена прыбудова за кошт вяскоўцаў. У 1897 г. вёска Сялец Халапейскі, 71 двор, 520 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Непадалёку існавалі фальварак Сялец Халапейскі (ён жа Славянка, 6 двароў) і паштовая ст. Сялец (2 двары, 11 жыхароў). У пач. 20 ст. адкрыта паштова-тэлегр. аддзяленне. 26.6.1906 г. сяляне-падзёншчыкі з в. Сялец адмовіліся працаваць у маёнтку Букоўе з-за адказу памешчыка аплачваць працу па ранейдасягнутай згодзе. У 1909 г. вёска Сялец-Халапееў у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета, 621 жыхар. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 71 вучань. У 1920 г. 152 гаспадаркі, 911 жыхароў, 543,4 дзес. ворнай зямлі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай, затым у Магілёўскай абласцях, з 16.7.1954 г. ў Абідавіцкім с/с. У 1925 г. арганізавана т-ва «Дружба» (31 сям'я) па перасяленні ў Енісейскую губ. У 1926 г. 189 двароў, 966 жыхароў, адкрыта хата-чытальня. 29.3.1931 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, меў 123 га ворыва, ветраны млын, кузню. У 1940 г. 155

двароў, 734 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 26.11.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1941 г. гітлераўцы спалілі вёску (146 двароў), загубілі 14 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1944 г. праз вёскі Сялец, Камарычы і далей на З праходзіла лінія размежавання 1-га і 2-га Бел. франтоў. У памяць аб гэтым за 1,5 км на Пд ад вёскі, каля аўтадарогі Магілёў—Гомель, устаноўлена стэла. У брацкай магіле, што за 0,3 км на Пд ад вёскі, каля шашы Магілёў—Доўск, пахаваны 219 воінаў, у ліку якіх байцы 110-й стралк. дывізіі 50-й арміі; у брацкай магіле каля будынка аддз. сувязі — 337 воінаў і партызан, у ліку якіх байцы 283-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бел. фронту і партызаны палкоў «Трынаццаць» і 15-га, якія загінулі тут у ліст. 1943 г. і ў лютым 1944 г. Тут жа ў адзіночнай магіле пахаваны Герой Сав. Саюза П.Д.Вінічэнка, загінуўшы ў баі за вызваленне вёскі. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе Дняпра, у 1972 г. пастаўлены помнік Герою Сав. Саюза І.А.Барысевічу, які 22.2.1944 г. на чале гарматнага разліку разам з перадавым атрадам 110-й стралк. дывізіі 50-й арміі пераправіўся ў гэтым месцы на правы бераг Дняпра, адбіў некалькі атак гітлераўцаў, знішчыў 2 танкі і ўтрымаў важную пазіцыю. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 68 землякоў. У памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1976 г. пастаўлена стэла. У 1982 г. 214 гаспадарак, 539 жыхароў, цэнтр калгаса «Шлях да камунізму». У 1990-х г. у вёсцы працавалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, устаноўка па вытв-сці кармоў, кар'ер па распрацоўцы гравію, сепаратарны пункт, 8-гадовая школа, дзіцячы сад, муз. школа, клуб, б-ка з фондам больш за 9,5 тыс. кніг, 2 сталовыя, бальніца, аптэка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, 2 магазіны. Дзейнічаюць (2008) б-ка, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Ёсць прафілакторый магілёўскага з-да «Строммашына». Планіровачную аснову вёскі складаюць дзве старажытныя вуліцы. Адна з іх супадае з адрэзкам шашы і выцягнута з Пн на Пд, другая ідзе амаль перпендыкулярна да першай з У на З. Забудавана традыц. сял. сядзібамі з драўлянымі хатамі, пастаўленымі тарцом да вуліцы, і дварамі пераважна двухраднымі, пагоннымі. Каля перакрыжавання вуліц размешчаны грамадскія будынкі.

**СЯЛІБА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 13 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 60 км ад Магілёва. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Дунаёк—Быхаў. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).



*Г.М.Станкевіч.*

Засн. ў пач. 1920-х г. 1.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 52 двары, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 116 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 31 гаспадарка, 62 жыхары, у складзе саўгаса «Спадарожнік» (цэнтр — в. Гарадзец). Траса вуліцы арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Жылая забудова драўляная, двухбаковая, няшчыльная. На ПнЗ гасп. сектар. Радзіма Героя Сав. Саюза Г.М.Станкевіча, які вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў на тэр. Германіі.

**СЯРЭДНІ КРУШНІКОЎСКІ** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Быхава, 44 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Балонаў Сялец 2, Балонаў Сялец 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да

28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1982 г. 20 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудавана двухбакова традыц. сял. сядзібамі. На паўн.-заходняй ускраіне гасп. сектар.

**ТАЙМАНАВА** — вёска ў Навабыхаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Быхава, 54 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін, на шашы Новы Быхаў—Быхаў. На Пн і У цячэ р. Рдзіца. 170 гаспадарак, 428 жыхароў (2007).

За 0,1—0,3 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе Дняпра, захавалася селішча зарубінецкай культуры ранняга жал. веку, датуецца 2—4 ст. н.э.; за 1 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Грэбелька — селішча культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 ст. н.э.) і эпохі Кіеўскай Русі. Да гэтага ж часу адносіцца і селішча, размешчанае за 0,1—0,2 км на Пн ад вёскі, паміж р. Белалічка і поймай Дняпра. У паўн. і зах. частках селішча захаваўся бескурганны могільнік 2—5 ст. н.э. Пры археал. раскопках выяўлены рэшткі паўзямлянак і жытлаў слупавой канструкцыі, каменных агнішчаў і гасп. ямы, знойдзены жал. нажы, шылы, бронзавыя ўпрыгожанні, прасліцы, гладкасценная і глянцавая кераміка. Стараж. вёска размяшчалася на У ад сучаснай шашы Быхаў—Новы Быхаў, на беразе р. Рдзіца. Гал. вуліца вяла з У на З, уздоўж берага ракі. Забудова была драўляная. Хаты ставіліся пераважна тарцом да вуліцы, двары бессістэмныя. Сучасная вёска вядома з 16 ст. У 1597 г. сяло ў складзе маёнтка Новы Быхаў Аршанскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1758 г. 63 двары, 142 жыхары мужчынскага полу, у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка, меліся пабудаваная з цэглы царква, 3 млыны, карчма. У 1784 г. 82 двары, 497 жыхароў, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 165 жыхароў мужчынскага полу. У 1890 г. 80 двароў, 502 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і калёсным промысламі. У 1897 г. 107 двароў, 709 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета, дзейнічалі хлебазапасны магазін, школа граматы, царква. У 2 сумесных з сялом сядзібах — 2 двары, 11 жыхароў, 2 вадзяныя млыны, карчма. 30.12.1905 г. вяскоўцы правялі самавольныя высечкі памешчыцкага лесу; распаўсюджваліся лістоўкі, у тым ліку лістоўкі сял. групы Магілёўскай раённай арг-цыі РСДРП. У сак. 1906 г. сяляне зноў зрабілі высечку памешчыцкага лесу, а 26.6.1906 г. адмовіліся працаваць у маёнтку, не пагадзіўшыся з прапанаванымі памешчыкам новымі ўмовамі аплаты працы. На вясковым сходзе ў ліп. 1906 г. выступіў дэп. 1-й Дзярж. думы ад Магілёўскай губ. Ф.Буслаў, які пазнаёміў сялян з дзейнасцю яе членаў па аграрным пытанні і заклікаў падтрымліваць партыю трудавікоў. У 1909 г. 94 двары, 834 жыхары, царква, казённая вінная крама. Дзейнічала царк.-прыходская школа, для якой у 1915 г. пабудавана памяшканне. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 29.8.1924 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Лудчыцкім с/с. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 124 вучні.



*Бронзавая шпілька, упрыгожанне, прасліца з ручным надпісам і фрагмент бронзавага бранзалета з археалагічнага комплексу Тайманава.*

Паводле перапісу мясц. прам-сці ў 1920 г. дзейнічалі 2 ветраныя млыны. У 1926 г. 169 двароў, 1069 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 111 двароў, 531 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3.8.1943 г. партызаны Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. У лютым 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На ўшанаванне памяці 188 землякоў, якія загінулі на франтах, у 1969 г. каля Дома культуры пастаўлены абеліск. У 1976 г. далучана в. Камарычы. У 1982 г. 249 гаспадарак, 597 жыхароў. У 1990-я г. ў вёсцы меліся вытв. брыгада, 2 фермы буйной рагатай жывёлы, машынны двор, млын, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка з фондам больш за 13,4 тыс. кніг, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Працуюць (2008) Дом культуры, б-ка, 2 фельч.-акушэрскія пункты, аддз. сувязі. Адпаведна генплану забудовы, распрацаванаму ў 1978 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект», і праекту раённай планіроўкі Быхаўскага адм. р-на Магілёўскай вобл., распрацаванаму ў 1984 г. БелНДІП горадабудаўніцтва, в. Тайманава і былая в. Камарычы развіваюцца як адзіны населены пункт. Планіровачна зах. (былая в. Камарычы) частка складаецца з двюх амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі з двухбаковай няшчыльнай забудовай. Жылыя дамы пераважна драўляныя, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі. Ёсць некалькі двухпавярховых мураваных жылых дамоў секцыйнага тыпу. Перпендыкулярна да галоўнай склаліся дзве новыя вуліцы, забудаваныя тыпавымі аднапавярховымі мураванымі жылымі дамамі. Гал. вуліца ўсх. часткі арыентавана з У на З і перакрыжоўваецца шашой. Забудова цалкам драўляная, хаты пастаўлены тарцом да вуліцы, двары бессістэмныя. Вытв. сектар на Пн, ПдУ і З вёскі.

**ТАРТАК** — пасёлак у Дунайкаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Быхава, 83 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Грэза ў сутоку з р. Езва. Мясцовасць балоцістая. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясцовай дарозе і далей па шашы Дунаёк—Быхаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1897 г. 8 двароў, 67 жыхароў, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 12 двароў, 77 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 16 двароў, 92 жыхары, 26,25 дзес. ворыўнай зямлі. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). Планіроўка лінейная. Забудова драўляная з адвольным размяшчэннем сял. сядзіб.

**ТОШЧЫЦА** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 25 км на Пд ад Быхава, 76 км ад Магілёва; чыг. станцыя на лініі Быхаў—Рагачоў. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па дарозе праз в. Верхняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 55 гаспадарак, 103 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1742 г. 3 двары, у Быхаўскім графстве, уласнасць паме-



*Бронзавая фібула з сярэбранымі накладкамі з археалагічнага комплексу Тайманава.*

шчыка. У 1758 г. 10 двароў, 33 жыхары мужчынскага полу, меліся карчма, млын, рудня. У 1903 г. засн. смалакурня. У 1909 г. вёска ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага павета і станцыя на Рыга-Арлоўскай чыгунцы. У 1911 г. дзейнічалі лесазавод, паравы і ветраны млыны. 25.2.1918 г. чырвонагвардз. Рагачоўскі атрад на чале з Г.С.Старавойтавым вёў тут бой супраць войск Доўбар-Мусніцкага. З лютага да ліст. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 9.5.1923 г. ў Навабыхаўскай вол., з 21.8.1925 г. ў Ніжнятошчыцкім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1923 г. аднавілі работу лесапільня і млын. У 1925 г. створана кустарнапрам. арцель імя Калініна. Непадалёку ў лесе дзейнічала смалакурня. Меўся млын. У вясковай 4-гадовай школе ў 1928 г. было 107 вучняў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас; пачало працаваць прадпрыемства па вырабе торфабрыкету. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5.9.1943 г. партызаны Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы разграмілі тут варожы гарнізон. У 1973 г. ў гонар партызан на будынку вакзала ўстаноўлена мемарыяльная дошка. 23.2.1944 г. ў баі за станцыю вызначыўся камандзір стралк. роты капітан Г.С.Размадзе. Яго рота адбіла 5 варожых контратак. 23.7.1944 г. яму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Каля чыг. вакзала ў брацкай магіле пахаваны 520 воінаў; на Пн ад станцыі ў 7 магілах — 29 воінаў, на Пн ад чыгункі ва ўрочышчы Гарэлая Казарма — 34 воіны, каля раз'езда Залатое Дно — 89 воінаў, сярод якіх байцы 121-га стралк. корпуса 50-й арміі, якія загінулі ў 1944 г. На будынку сярэдняй школы на ўшанаванне памяці Героя Сав. Саюза В.І.Цемчука ў 1970 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1982 г. 104 гаспадаркі, 200 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). У 1990-х г. у вёсцы працавалі лясніцтва, магазін, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, бальніца, аптэка, сярэдняя школа (19 настаўнікаў), аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 3 спарт. пляцоўкі. Дзейнічае (2008) аддз. сувязі. Вуліцы пад рознымі вугламі накіраваны да чыгункі. Жылая забудова пераважна драўляная, сярэдняй шчыльнасці. Будынкі станцыі і чыг. служб мураваныя.



Г.С.Размадзе.

**ТРАСЦІВЕЦ** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 48 км ад Магілёва. На ПнУ цячэ р. Макранка, на ПдЗ праходзіць шаша Быхаў—Семукачы. 38 гаспадарак, 72 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе. У 1780 г. 7 двароў, 55 жыхароў. У 1897 г. 40 двароў, 210 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губерні. У ліп. 1906 г. на вясковым сходзе выступіў дэп. 1-й Дзярж. думы ад Магілёўскай губ. Ф.Буслаў, які пазнаёміў сялян з дзейнасцю членаў па аграрным пытанні і заклікаў падтрымліваць партыю трудавікоў. У 1909 г. 45 двароў, 232 жыхары, меўся млын. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У памяць пра ўраджэнца вёскі, арганізатара і кіраўніка камсамольскай ячэйкі ў в. Мокрае П.І.Баранкевіча ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1920 г. 32 двары, 263 жыхары, 175,7 дзес. ворыўнай зямлі. Дзейнічаў вятрак. 1.7.1920 г. пачала працаваць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Мокраўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 276 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар — 4 двары, 31 жыхар. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 5 воінаў 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі, якія загінулі 26.6.1944 г. ў баях за вызваленне вёскі. У 1982 г. 57 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе саўгаса «Мокраўскі» (з

2003 г. КУСП «Макранскі»; цэнтр — в. Мокрае). Гал. вуліца з двухбаковай забудовай мае крывалінейную трасу. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**ТРЫЛЕСІНА** — вёска ў Смаліцкім с/с, за 31 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 67 км ад Магілёва. На У цячэ р. Ухлясць. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Смаліца, Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 58 гаспадарак, 138 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1568 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1635 г. сяло Радзькава (яно ж Трылесіна), у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, дзярж. ўласнасць, меўся млын. У 1780 г. 64 двары, 494 жыхары. У 1742 г. вёска Трылесіна (яна ж Рачкова), 40 гаспадарак, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, меліся млын, карчма. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Мошкі, 117 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 53 двары, 397 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. 79 двароў, 539 жыхароў, у Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, вінная крама. У 1909 г. 100 двароў, 666 жыхароў, дзейнічаў млын. У сак. 1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 21.8.1925 г. да 1.4.1991 г. цэнтр Трылесінскага с/с. У 1926 г. вёска Трылесіна 1, 73 двары, 444 жыхары. 13.4.1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак, меў 214 га ворыва. На пункце ліквідацыі непісьменнасці навучаліся дзесяткі вяскоўцаў. Працавала хата-чытальня. У 1940 г. 160 двароў, 840 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (160 двароў), загубілі 49 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. Восенню 1943 г. ў навакольных лясах базіраваўся асобны партыз. полк «Трынаццаць». На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 62 вяскоўцы. У памяць аб іх каля клуба ў 1977 г. пастаўлены абеліск. У 1967 г. далучана в. Малыя Боўкі. У 1982 г. 136 гаспадарак, 294 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Смаліца). У 1990-х г. дзейнічалі вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, рамонтна-механічныя майстэрні, клуб, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), б-ка з фондам больш за 10,1 тыс. кніг, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, 3 спарт. пляцоўкі, ветучастак, лясніцтва. Працуюць (2008) фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Гіст. забудова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу склалася ўздоўж вуліцы, выцягнутай з Пн на Пд, па беразе р. Ухлясць. Адпаведна генплану, які распрацаваны ў 1980 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект», на З ад гал. вуліцы ўзведзены новы адм.-грамадскі цэнтр і створана прамавугольная сетка кварталаў з адна-, двухпавярховай жылой забудовай мураванымі дамамі. Усх. частка (былая в. Малыя Боўкі) злучана з зах. мостам цераз рэчку. На Пн вытв. сектар.

**ТРЫЛЕСІНА** (у 1920-я г. вёска Трылесіна 2) — пасёлак у Навабыхаўскім с/с, за 33 км на Пд ад Быхава, 67 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Новы Быхаў—Быхаў.

Вядомы з пач. 1920-х г., калі в. Трылесіна падзялілася на дзве: Трылесіна 1 і Трылесіна 2. У 1926 г. вёска Трылесіна 2, 23 двары, 184 жыхары. 11.7.1931 г. створаны калгас «Авангард», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак, меў 50 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса імя С.М. Кірава (цэнтр — в. Новы Быхаў). Драўляная сял. сядзіба каля прасёлачнай дарогі.

**ТРЫСЦІЎКА** — вёска ў Абідавіцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 67 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Іскань, Абідавічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1784 г. вёска, 7 двароў, 55 жыхароў, у Быхаўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. У 1828 г. 10 двароў, 93 жыхары, меўся магазін. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.11.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 38 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Іскань). У 1977 г. да вёскі далучаны пас. Кашалёўка Ісканская. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца мае амаль шыротную арыентацыю. Забудова двухбаковая, цалкам драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУРЛАЎКА** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Быхава, 39 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы, на р. Балонаўка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Балонаў Сялец 2, Балонаў Сялец 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца арыентавана паралельна да ракі, у мерыдыянальным напрамку. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**УЛЬЯНАВА** — вёска ў Навабыхаўскім с/с, за 22 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 73 км ад Магілёва, на левым беразе р. Адаменка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

За 0,4—0,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Адаменка, ва ўрочышчы Печышча, размешчана селішча позняга этапу зарубінецкай культуры, датуецца 2—5 ст. н.э., што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1859 г. тут быў маёнтак, гаспадар якога валодаў 756 га зямлі. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1925 г. ў былым памешчыцкім маёнтку дзейнічаў садова-агародны кааператыў. У 1926 г. пас. Ульянава 1, 15 двароў, 84 жыхары. У вясковай 4-гадовай школе ў 1928 г. было 26 вучняў. 5.8.1931 г. арганізаваны калгас «Ульянава», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, меў 95 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На зах. ускраіне ў брацкай магіле пахаваны 81 воін, у іх ліку байцы 108-й стралк. дывізіі 50-й арміі, якія вызвалілі вёску. У 1982 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (з 2003 г. СВК «Навабыхаўскі»; цэнтр — в. Новы Быхаў). Вуліца з крывалінейнай трасай арыентавана з З на У, паралельна да ракі. Забудавана двухбакова, драўлянымі традыц. сял. сядзібамі.

**УСОХІ** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 19 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 65 км ад Магілёва. На Пн цячэ р. Трасна, на У сістэма меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 33 гаспадаркі, 64 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1598 г. сяло ў складзе маёнтка Новы Быхаў Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. 20 двароў, у Быхаўскім графстве. У 1758 г. 28 двароў, 70 жыхароў мужчынскага полу. У 1784 г. 61 двор, 324 жыхары, у Быхаўскім павеце. У 1858 г. 112 жыхароў мужчынскага полу, дзейнічаў піцейны

дом. У 1880 г. 63 двары, 303 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. 74 двары, 482 жыхары, у Баханскай вол. Быхаўскага павета, меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, піцейны дом. 5, 10, 12 і 14 сак. 1905 г. вяскоўцы правялі вырубку лесу па памешчыцкіх лясных дачах, які быў вывезены на 130 падводах. У 1909 г. 63 двары, 376 жыхароў. У 1920 г. 79 двароў, 397 жыхароў, 29 дзес. ворыўнай зямлі. У 1924 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў спецыяльна купленым вяскоўцамі доме. У 1925 г. было 56 вучняў. У 1926 г. 97 двароў, 466 жыхароў. 10.3.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвонаармеец», які ў 1932 г. аб'яднаўваў 27 гаспадарак, меў 167 га ворыва. У 1940 г. 168 двароў, 370 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (103 двары), загубілі 53 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 99 гаспадарак, 188 жыхароў, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Ніканавічы). Жылая забудова ўздоўж вуліцы, якая арыентавана з Пн на Пд і мае крывалінейную трасу. Забудавана з двух бакоў індывідуальнымі драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі. На паўд. ускраіне знаходзіцца яшчэ адна вуліца, дзе ўзведзены сучасныя тыпавыя мураваныя жылыя дамы. На паўд. і паўн. ускраінах вытв. сектар.

**УСХОДНЯЯ** (да 30.7.1964 г. Язвы) — вёска ў Глухскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 42 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Семукачы. На ПдУ цячэ р. Забава. 136 гаспадарак, 307 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе. У 1780 г. 42 двары, 271 жыхар. У 1858 г. 86 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Людкоў Быхаўскага павета Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1874 г. засн. прадпрыемства па вырабе бутэлечнага і аконнага шкла, на якім у 1895 г. было 35, у 1900 г. — 26 рабочых. У 1897 г. 65 двароў, 384 жыхары, у Глухскай вол. Быхаўскага павета, меліся хлебазапасны магазін, ветраны млын, піцейны дом, царква, 3 разы на год праводзіліся кірмашы. У 1905 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў 1917 г. ператворана ў земскую. У 1909 г. 78 двароў, 451 жыхар. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 54 вучні. У 1926 г. 120 двароў, 640 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Маяк камуны», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі, меў 326 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб 81 земляку з вёсак Усходняя, Званцоўка, Новая Слабодка, Сланеўшчына, пасёлкаў Селішча і Уенск, якія загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі, у 1969 г. на паўн. ускраіне пастаўлена стэла. У 1982 г. 203 гаспадаркі, 539 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). У 1990-х г. працавалі свінагадоўчая ферма, комплекс па вырошчванні нецеляў «Рассвет», з-д вітамінная мукі, брыгада саўгаса, устаноўка па пераапрацоўцы кармоў, 8-гадовая школа (14 настаўнікаў), клуб, магазін, б-ка з фондам больш за 14,3 тыс. кніг, сталовая, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, дзіцячы сад, 2 спарт. пляцоўкі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Дзейнічаюць (2008) б-ка, клуб, аддз. сувязі. Траса гал. вуліцы плаўна выгнутая, арыентавана перпенды-



*Аграгарадок у в. Усходняя.*

кулярна да шашы. Пад вуглом да галоўнай падыходзіць другая вуліца. Забудова сядзібнага тыпу, шчыльная, пераважна драўляная. Хаты арыентаваны тарцом да вуліцы. Двары сядзіб розныя: ад традыц. вяночных да сучасных з падзелам на чысты і гаспадарчы. Сярод сядзібнай забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На ўсх. ускраіне вытв. сектар.

**УСЯНЕЖЖА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Быхава, 43 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць паблізу ад вёскі. На Пн сажалка.

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1965—69 гг. цэнтр саўгаса імя Ф.А.Смалячкова. У 1982 г. 39 гаспадарак, 80 жыхароў, у складзе гэтага саўгаса (цэнтр — в. Дуброва). Планіроўка лінейная. Вуліца ідзе паралельна да шашы з ПнУ на ПдЗ. Забудавана двухбакова драўлянымі традыц. сядзібамі. На паўд. ускраіне вытв. сектар.

**УХЛЯСЦЬ** — пасёлак у Смаліцкім с/с, за 19 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 52 км ад Магілёва. Мясцовасць лясістая, меліяраваная, на Пд цячэ р. Ухлясць. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па дарозе Трылесіна—Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 54 гаспадаркі, 104 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1950-х г. у сувязі з разгортваннем работ па распрацоўцы торфамасіву «Ухлясць—Цэнтральны» (пл. 3,3 тыс. га). У цэнтры пасёлка ў брацкай магіле пахаваны 4078 чал., якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў. Сярод іх воіны 19-га стралк. корпуса 50-й арміі, партызаны палкоў «Трынаццаць», 15-га, падпольшчыкі антыфаш. групы, што дзейнічала на шклозаводзе «Ільіч». У 1982 г. 68 гаспадарак, 192 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Смаліца). У 1990-я г. працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін, сталовая, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, аддз. ашчаднага банка, грамадская лазня, камбінат надомнай працы, аддз. сувязі. Дзейнічаюць (2008) клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіроўка блізкая да рэгулярнай, прамавугольнай. Дзве асноўныя вуліцы, паралельныя паміж сабой, маюць шыротную арыентацыю, шчыльна забудаваны з двух бакоў традыц. сял. сядзібамі. Перпендыкулярна да іх ідуць кароткія вуліцы, якія маюць аднабаковую забудову. Жылыя дамы пераважна драўляныя. На гал. вуліцы склаўся грамадскі цэнтр. На Пн гасп. сектар.

**УЮН** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 63 км ад Магілёва. На Пд цячэ р. Уюнок. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Дунаёк—Быхаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 30 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска, 15 двароў, 32 жыхары мужчынскага полу, у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. У 1828 г. 39 двароў, меліся 2 магазіны, непадалёку існаваў фальварак, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. вёска Уюнова, 29 двароў, 160 жыхароў. З 1795 г. да 1846 г. дзейнічала прыгонніцкая мануфактура па вырабе медных гузікаў (у 1812 г. 16 рабочых). У 1880 г. 41 двор, 260 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. 60 двароў, 449 жыхароў, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, кузня. Непадалёку былі (1 двор, 8 жыхароў) і ферма (2 двары, 16 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 75 двароў, 478 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 103 двары, 608 жыхароў, 252,5 дзес. ворыўнай зямлі. 18.7.1920 г. пачала дзейнічаць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з

8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У мясц. школе ў 1925 г. было 70 вучняў. У 1926 г. 110 двароў, 624 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Баявы шлях». У 1940 г. 110 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25.10.1943 г. гітлераўцы спалілі 100 двароў, загубілі 25 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1982 г. 93 гаспадаркі, 203 жыхары, у складзе саўгаса «Кіпячы» (цэнтр — в. Дунаёк). У 1990-х г. працавалі ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, клуб, магазін, пач. школа, б-ка з фондам больш за 6,9 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, спарт. пляцоўка. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца выцягнута з З на У паралельна да шашы і ракі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая, шчыльная. Хаты арыентаваны тарцом да вуліцы, гасп. двары няпоўныя вяночыя. На Пн за шашой — вытв. сектар. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца радовішча торфу.

**ФРУНЗЕ** (да 1939 г. пас. Раймандаў) — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Быхава, 35 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У пач. 20 ст. хутар, 1 двор, 7 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1922 г. створана с.-г. арцель «Колас». У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана з двух бакоў традыц. сял. сядзібамі.

**ХАДУЦІЧЫ** — вёска ў Баркалабаўскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Быхава, 35 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Баркалабава на лініі Быхаў—Магілёў, на правым беразе р. Лахва. На Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Быхаў. 25 гаспадарак, 46 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1563 г. сяло ў Магілёўскай вобл., дзярж. ўласнасць, перададзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1563 г. 41 дым. У 1580 г. ў Магілёўскім старостве Аршанскага павета, перададзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. Пад 1601 г. упамінаецца ў Баркулабаўскай хронііцы. У 1780 г. 41 двор, 263 жыхары, меўся млын, памешчыцкая ўласнасць, у Быхаўскім павеце. У 1822 г. 32 двары. У 1858 г. ў складзе маёнтка Сарочына Быхаўскага павета, 65 жыхароў мужчынскага полу, меліся млын і карчма. У 1897 г. 42 двары, 423 жыхары, у Глухскай вол. Быхаўскага павета, хлебазапасны магазін, школа граматы, піцейны дом. У 1909 г. 53 двары, 290 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1925 г. створаны кааператыў з 14 сямей па перасяленні ў Таўрычаскую вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дыктатура пралетарыяту». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 39 землякоў — воінаў і партызан — загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. У памяць аб іх у 1971 г. ў цэнтры вёскі ўзведзены абеліск. У 1982 г. 71 гаспадарка, 138 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Лібкнехта (з 2003 г. СВК «Баркалабаўскі»; цэнтр — в. Баркалабава). Аснову Г-падобнай планіроўкі складаюць дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы, якія выцягнуты з У на З і з Пн на Пд. Другарадныя вуліцы ідуць паралельна да асноўных. Забудова шчыльная, двухбаковая, пераважна драўляная. Хаты пастаўлены адносна вуліц па-рознаму, часам глухімі падоўжнымі фасадамі да іх. На перакрыжаванні гал. вуліц размешчаны грамадскія будынкі. Вытв. сектар на З.

**ХАМІЧЫ** — вёска ў Дунайкаўскім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Быхава, 88 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі

Быхаў—Жлобін, на р. Узбінка. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Дунаёк—Быхаў. 97 гаспадарак, 203 жыхары (2007).

За 3 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Друць, ва ўрочышчы Гарадок, захавалася гарадзішча мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур, а побач з гарадзішчам знаходзіцца стараж. селішча. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 16 ст. У 1579 г. сяло, уласнасць царквы ў ВКЛ. У 1653 г. ўласнасць Быхаўскага кляштара. У 1797 г. сяло і фальварак. У 1850 г. 33 двары, 268 жыхароў, у Рагачоўскім павеце, дзярж. ўласнасць. У 1911 г. пачаў дзейнічаць смалакурны з-д. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 67 вучняў. У 1926 г. 927 жыхароў. У 1928 г. для школы пабудавана памяшканне. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 182 двары, 972 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 200 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У баі за вызваленне вёскі вызначыўся камандзір кулямётнага разліку С.З.Кульбашны, які ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. На вайск. могілках, што за 4 км на У ад вёскі, пахаваны 151 воін, у іх ліку байцы 5-й і 283-й стралк. дывізій 3-й арміі, якія загінулі ў лютым і чэрв. 1944 г. ў баях супраць акупантаў. У 1982 г. 153 гаспадаркі, 357 жыхароў, цэнтр калгаса «Новае жыццё». У 1990-х г. у вёсцы дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, лясніцтва, 2 установкі па пераапрацоўцы кармоў, 8-гадовая школа, клуб, б-ка з фондам больш за 10 тыс. кніг, сталовая, грамадская лазня, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт і комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Працуюць (2008) клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіроўка Т-падобная. Гал. і перпендыкулярную да яе вуліцы перакрыжоўвае рака. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Частка забудовы адвольна размешчана на Пд вёскі. Грамадскія будынкі і гасп. сектар на Пн ад жылой забудовы.

**ХАТМІЛЛЕ** — вёска ў Следзюкоўскім с/с, за 10 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва. Мясцовасць меліяраваная, на З цячэ р. Варонінка, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Вараніно і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 39 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе саўгаса «Вараніно» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Вараніно»; цэнтр — в. Вараніно). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХАЧЫНКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 31 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 62 км ад Магілёва, на шашы Слаўгарад—Ніканавічы. Мясцовасць меліяраваная. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло Хайчына ў Старабыхаўскай акрузе. У 1780 г. 34 двары, 247 жыхароў. Непадалёку быў маёнтак (засн. ў 1828 г.), гаспадар якога валодаў 2782 дзес. зямлі, меў карчму. У 1858 г. 83 жыхары мужчынскага полу, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. вёска Хочынка, 38 двароў, 246 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, калёсным, шавецкім і кравецкім промысламі. У 1897 г. 44 двары, 323 жыхары, у Баханскай вол. Быхаўскага павета, меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, царква, вінная крама. У 1909 г. ў вёсцы 47 двароў, 354 жыхары, у фальварку — 41 жыхар. Працавалі лесапільны з-д з паравым рухавіком (нацыяналізаваны

вал. Саветам у студз. 1918 г.), млын. У 1910 г. адкрыта школа і ў тым жа годзе для яе ўзведзены будынак. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 58 вучняў. У 1925 г. ў былым памешчыцкім маёнтку дзейнічаў садова-агародны кааператыў. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1920 г. 90 двароў, 491 жыхар, 195 дзес. ворыўнай зямлі, у аднайменным маёнтку — 6 двароў, 31 жыхар, лесапільня, ветраны млын. 5.7.1920 г. пачала дзейнічаць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. ў склад в. Хачынка ўвайшлі хутар Папоўка, пасёлкі №1, Закі, Засаддзе 2, Засаддзе 3, Засаддзе 4. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.М.Галадзеда, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 56 гаспадарак, меў 380 га ворыва. У 1940 г. 129 двароў, 503 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліст. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. гітлераўцы спалілі 123 двары, загубілі 29 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. Каля вёскі 7.11.1943 г. партызаны палка «Трынаццаць» вялі бой супраць гітлераўскіх войск. У 1982 г. 95 гаспадарак, 191 жыхар, у складзе калгаса «Радзіма» (з 2003 г. СВК «Трасна»; цэнтр — в. Чырвоная Слабада). У 1990-х г. дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка з фондам больш за 10,4 тыс. кніг, пач. школа, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца ідзе перпендыкулярна да шашы і мае арыентацыю, блізкую да шыротнай, затым крута паварочвае на Пд. Частка забудовы размешчана ўздоўж шашы. Забудавана двухпавярховымі, пераважна драўлянымі традыц. сял. сядзібамі. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**ХОЛСТАВА** — вёска, цэнтр Холстаўскага с/с, за 5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 57 км ад Магілёва, на шашы Быхаў—Семукачы, на р. Макранка. 174 гаспадаркі, 425 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1758 г. вёска, 19 двароў, належала памешчыку, у Быхаўскім графстве. У 1780 г. 52 двары, 362 жыхары. У 1828 г. 36 двароў, 296 жыхароў, меліся 2 магазіны, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 48 двароў, 298 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходнымі промысламі. У 1897 г. 67 двароў, 418 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., меліся хлебазапасны магазін, вадзяны млын, вінная крама. У 1907 г. адкрыта земская школа, у якой у 1907 г. навучаліся 61 хлопчык і 11 дзяўчынак. У 1909 г. 80 двароў, 476 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Паводле перапісу мясц. прам-сці ў 1920 г. дзейнічалі вадзяны млын, 2 кузні. З 20.8.1924 г. ў Мокраўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў, мелася невялікая б-ка. У 1926 г. 135 двароў, 740 жыхароў. Непадалёку існаваў хутар Холстаў-Людкоў — 5 двароў, 57 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны 2 сав. воіны-дэсантнікі, якіх летам 1942 г. загубілі акупанты. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 67 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1969 г. пастаўлена стэла. З 18.3.1966 г. цэнтр сельсавета. У 1982 г. 161 гаспадарка, 461 жыхар, цэнтр саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Холстава»). У 1990-х г. ў вёсцы

*Забудова в. Холстава.*



дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, лесапільня, сталярна-цяслярская майстэрня, установка па пераапрацоўцы кармоў, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), дзіцячы сад-яслі, б-ка з фондам больш за 8,2 тыс. кніг, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 магазіны, 3 спарт. пляцоўкі і зала. Дзейнічаюць (2008) б-ка, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Гал. вуліца — адрэзак шашы — выцягнута з ПдУ на ПнЗ. Перпендыкулярна да яе ў паўд. частцы падыходзіць стараж. вуліца, якую на З перакрыжоўваюць завулкі. Двары пераважна вяночнай канструкцыі з драўлянымі пабудовамі. На перакрыжаванні вуліц адм.-грамадскі цэнтр. Згодна з генпланам, распрацаваным у 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект», на Пн ад цэнтра, уздоўж гал. вуліцы, узведзена некалькі мураваных 4-кватэрных аднапавярховых і адзін двухпавярховы 24-кватэрны жылы дом. На У размешчаны вытв. сектар.



Ц.Я.Сычкоў.

У склад сельсавета ўваходзяць 12 вёсак і 1 пасёлак. У канцы 1930-х г. на яго тэр. існавалі пасёлкі Востраў, Забавы, Чычылаўка.

**ХУТАР** — вёска ў Холстаўскім с/с, за 4 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 51 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 55 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца пад 1758 г., калі тут быў 1 двор, у Быхаўскім графстве ВКЛ, памешчыцкая ўласнасць. У 1780 г. 8 двароў, 59 жыхароў. У 1897 г. 50 двароў, 342 жыхары, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 65 двароў, 359 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1920 г. 70 двароў, 427 жыхароў, 219 дзес. ворыўнай зямлі. 4.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Мокраўскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 15.11.1923 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў ёй быў 41 вучань. У 1925 г. 91 двор, 454 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Уперад», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 43 гаспадаркі, меў 216 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 128 гаспадарак, 250 жыхароў, у складзе саўгаса «Холстава» (з 2003 г. КУСП «Саўгас «Холстава»; цэнтр — в. Холстава). У 1990-х г. дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, пач. школа, клуб. Чатыры асн. вуліцы ўтвараюць вял. замкнёны прамавугольнік. Забудова двухбаковая, сярэдняй шчыльнасці. Сярод драўлянай жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі і 10 мураваных жылых дамоў. За 0,5 км на Пд сажалка і вытв. сектар. Радзіма Героя Сав. Саюза Ц.Я.Сычкова, які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне Украіны ад ням.-фаш. захопнікаў.

**ЦВЁРДАВА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Быхава, 38 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца праз в. Кучын і далей па шашы Быхаў—Семукачы. 61 гаспадарка, 114 жыхароў (2007).

За 4 км на ПдЗ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць, захавалася стаянка каменнага веку, што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1745 г. вёска Цвёрдава, 14 двароў, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка ў Быхаўскім графстве. У 1758 г. 20 двароў, 51 жыхар мужчынскага полу, дзейнічала гута. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1780 г. вёска Цвёрдае, 19 двароў, 157 жыхароў, у Быхаўскім павеце. У 1858 г. 161 жыхар мужчынскага полу, мелася карчма. Непадалёку існаваў маёнтак, гаспадар якога ў

1868 г. валодаў 1907 дзес. зямлі, вадзяным млыном і карчмой. У 1880 г. вёска Цвёрдава, 62 двары, 429 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. З 1882 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1897 г. 90 двароў, 564 жыхары, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся школа граматы, піцейны дом. У фальварку — 3 двары, 6 жыхароў. У 1907 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. ў вёсцы 95 двароў, 617 жыхароў, у фальварку — 15 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. займаліся 57 вучняў. Школе быў перададзены нацыяналізаваны будынак. Паводле перапісу мясц. прам-сці ў 1920 г. працавалі майстэрня па рамонце с.-г. інвентару, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобласці. У 1926 г. 124 двары, 910 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 8 гаспадарак, меў 72 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў ліп. 1941 г. На ўшанаванне памяці 78 вяскоўцаў, загінуўшых на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1972 г. каля клуба ўстаноўлены абеліск. У 1982 г. 131 гаспадарка, 255 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Дзейнічалі свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы фермы, пач. школа, магазін, клуб, аддз. сувязі. У 1967 г. далучана в. Загор'е. Планіроўка Т-падобная. Галоўная вуліца мае шыротную арыентацыю. Вёску перакрыжоўвае ручай (прыток Друці), на Пн ад якога праходзіць вуліца мерыдыянальнай арыентацыі (б. вёска Загор'е). Забудавана двухбакова пераважна традыц. драўлянымі хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі і гасп. дварамі розных тыпаў. Сярод жылой забудовы ёсць грамадскія будынкі. На З вытв. сектар.

**ЦЕШАМ'Е** — пасёлак у Чарнаборскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 46 км ад Магілёва, на р. Балонаўка. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па дарозе праз в. Дуброва і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. далучаны пас. Стары Сад. У 1982 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіроўка лінейная. Вуліца блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі ідзе паралельна да берага ракі, забудавана (больш шчыльна з зах. боку) традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАРНАГРАЗЬ** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Быхава, 43 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семуковічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1856 г. на месцы вёскі быў маёнтак (115 дзес. зямлі), а ў 1862 г. — другі маёнтак. У 1897 г. аколіца (9 двароў, 65 жыхароў) і аднайменны хутар (1 двор, 8 жыхароў) у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1905 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў аколіцы 14 двароў, 96 жыхароў, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 62 вучні. 18.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 182 жыхары. У 1931 г. арганізаваны кал-

гас «Пралетарый», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак, меў 209 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе саўгаса «Быхаўскі» (з 2003 г. СВК «Быхаўскі»; цэнтр — в. Чорны Бор). Планіроўка бессістэмная. Вуліца зігзагападобная, арыентавана з З на У, забудавана двухбакова няшчыльна традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАРНАЛЕССЕ** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 34 км на Пд ад Быхава, 85 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў.

У 1897 г. хутар у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага павета. У 1909 г. 3 двары, 7 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 9.6.1923 г. ў Навабыхаўскай вол., з 20.8.1924 г. ў Чырвонабярэжскім с/с Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920 г. 7 двароў, 49 жыхароў, 38 дзес. ворыўнай зямлі. У 1926 г. хутары, 13 двароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг), працавала ферма буйной рагатай жывёлы. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

*Чыгірынскае вадасховішча каля в. Чачэвічы.*



**ЧАЧЭВІЧЫ** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 35 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 58 км ад Магілёва, на шашы Магілёў—Бабруйск, на беразе Чыгірынскага вадасховішча. На З мяжуе з лесам. 157 гаспадарак, 324 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло Чычэвічы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1848 г. 46 двароў, у Быхаўскім павеце. У 1858 г. 150 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 78 двароў, 460 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім і кравецкім промысламі. Каля вёскі знаходзілася паштовая станцыя, якая мела 12 коней. У 1897 г. 94 двары, 565 жыхароў, у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, вятрак, кузня. Побач існавалі аднайменныя хутар (2 двары, 22 жыхары), паштовая станцыя і карчма. У 1900 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У пач. 20 ст. пачало дзейнічаць паштовае аддзяленне. У 1909 г. 116 двароў, 794 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 55 вучняў. З 17.7.1924 г. да 8.7.1931 г. цэнтр раёна, затым у Быхаўскім р-не, з 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. — цэнтр сельсавета. У 1924 г. створана малочнае с.-г. каап. т-ва (аб'ядноўвала 60 гаспадарак), пачалі дзейнічаць хата-чытальня, бальніца, з 1926 г. — кінаўстаноўка. У 1926 г. 686 жыхароў. 4-гадовая школа ў сярэдзіне 1920-х г. ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1928 г. было 78 вучняў. Тут вучыліся таксама дзеці з суседніх вёсак Кароўчына, Грудзічына, Балонаўка, пас. Чачэвічы. У 1929 г. арганізавана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1930 г. створана трактарная калона па абслугоўванні калгасаў (7 трактароў), а ў 1932 г. — МТС. У 1930 г. арганізаваны саўгас «Чачэвічы», які меў цагельны з-д, лесапільню, кузню. У 1931 г. ў саўгасе пабудавана майстэрня па рамонце сельгастэхнікі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'яд-

ноўваў 53 гаспадаркі, меў 285 га ворыва. У 1937 г. пабудавана бальніца. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 29.8.1942 г. каля вёскі партызаны атрада № 760 разграмілі варожую аўтакалону. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 76 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1967 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. У 1982 г. 231 гаспадарка, 411 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва), меліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, сярэдняя школа, клуб, б-ка з фондам больш за 12,5 тыс. кніг, сталовая, грамадская лазня, фельч.-акушэрскі пункт, паліклініка, паляўнічая база, аптэка, дзіцячы сад, Дом быту, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 спарт. пляцоўкі, 3 магазіны. Працуюць (2008) б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Грамадскія мураваныя будынкі размешчаны ўздоўж шашы. Жылую забудову складаюць пераважна традыц., драўляныя і мураваныя сял. сядзібы. На Пд ад шашы жылая забудова фарміруецца ўздоўж берага вадасховішча. Вуліцы забудаваны пераважна двухбакова дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар на З. Вёска з'яўляецца цэнтрам абл. зоны адпачынку Чыгірынка. Тут размешчана больш за 20 баз адпачынку, у т.л. дамы адпачынку магілёўскага з-да «Электрарухавік» і супрацоўнікаў сувязі, дзіцячы санаторый «Чачэвічы». Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.І.Перавознікава, які вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у 1944 г. на тэр. Польшчы.

**ЧОРНЫ БОР** — вёска, цэнтр Чарнаборскага с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 40 км ад Магілёва, на шашы Магілёў—Бабруйск. Мясцовасць лясістая. 135 гаспадарак, 331 жыхар (2007).

З 1876 г. тут быў маёнтак, гаспадар якога меў 148 дзес. зямлі. У 1897 г. фальварак, 3 двары, 13 жыхароў, у Глухскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 2 двары, 7 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 17.7.1924 г. да 26.7.1930 г. ў Балонавасялецкім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 139 гаспадарак, 350 жыхароў, цэнтр саўгаса «Быхаўскі» (створаны ў 1959 г.; з 2003 г. СВК «Быхаўскі»), які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 5486 га сельгасугоддзяў, з іх 3684 га ворыўнай зямлі. У вёсцы дзейнічалі машынны двор, ферма буйной рагатай жывёлы, піларама, млын, механічная і сталярная майстэрні, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 10,1 тыс. кніг, сталовая, бальніца, аптэка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, стадыён, 5 спарт. пляцовак, магазін. Працуюць (2008) б-ка аграгарадка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва (з крас. 2007 г.), аддз. сувязі. Планіроўка лінейная. Уздоўж шашы размешчаны мураваныя грамадскія будынкі. Вуліцы на З ад шашы забудаваны пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У складзе сельсавета 23 вёскі і 13 пасёлкаў. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Чарнаборскага с/с былі в. Новая Залатва, пасёлкі Мясцова-Цэнтральны, Кісялёўка, Калініна, Забор'е, Громава, Стары Сад, Забroddзе, Чырвоны Араты, Майдан, Смалякі, Замосцішча, Краснагор'е, Магілёўка, Мярлогі, Загор'е, Наўмята, Новы Свет, Вільня, якія зараз не існуюць. Адны з іх аб'ядналіся з суседнімі населенымі пунктамі, жыхары другіх перасяліліся ў іншыя месцы.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** — вёска ў Ямніцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Быхава, 70 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Езва. Мясцовасць меліяраваная. Транспартныя



*М.І.Перавознікаў.*

сувязі ажыццяўляюцца праз в. Лудчыцы і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 182 гаспадаркі, 353 жыхары (2007).

Засн. ў 1929 г. як пасёлак у сувязі з пачаткам арганізаваных тут торфараспрацовак. У 1931 г. пабудаваны торфазавод «Чырвоная Беларусь», на якім у 1933 г. працавалі 277 рабочых. У 1934 г. на торфапрадпрыемстве ўстаноўлены лакамабіль, пасёлак атрымаў электраасвятленне. У 1940 г. 17 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліст. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 6 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 140 воінаў і партызан, у іх ліку байцы 19-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў канцы чэрв. 1944 г. пры вызваленні вёскі. Гітлераўцы разрабавалі і разбурылі прадпрыемства. Пасля вайны адбудавана. У 1967 г. да вёскі далучаны пасёлкі Абісінія, Грыва, Стадыён, в. Дубы. У 1982 г. 244 гаспадаркі, 677 жыхароў. Тут працавалі вытв. ўчастак торфапрадпрыемства «Дняпроўскі», філіял Рослаўскага з-да алмазных інструментаў. Былі сталовая, 3 магазіны, сярэдняя школа, клуб, б-ка з фондам больш за 8,9 тыс. кніг, дзіцячы сад, грамадская лазня, бальніца, аптэка, амбулаторыя, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 5 спарт. пляцовак. Дзейнічаюць (2008) б-ка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі. Ядром нерэгулярнай планіровачнай структуры з'яўляецца вытв. зона, да якой прылягаюць кварталы жылой забудовы. Частку вёскі ўяўляе вуліца, выцягнутая ўздоўж берага ракі і няшчыльна забудаваная з двух бакоў драўлянымі індывідуальнымі жылымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі. Паўднёва-ўсх. частка мае змешаную радыяльна-прамавугольную сетку вуліц. Сярод традыц. драўлянай забудовы ўзведзены тыпавыя адна- і двухпавярховыя мураваныя жылыя дамы секцыйнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА** (да 20.1. 1939 г. Узнікі) — вёска, цэнтр Чырвонаслабодскага с/с, за 25 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 60 км ад Магілёва, на аўтадарозе Слаўгарад—Ніканавічы. 174 гаспадаркі, 424 жыхары (2007).

Узнікла ў 18 ст. пасля далучэння Беларусі да Расіі як паселішча сялян-перасяленцаў з Урала. У 1858 г. вёска (175 жыхароў мужчынскага полу) у Быхаўскім павеце. У 1880 г. 79 двароў, 427 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, кавальскім і бандарным промысламі. У 1897 г. вёска Узнікі (яна ж Узніцкая Слабада), 113 двароў, 732 жыхары, у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 127 двароў, 918 жыхароў, дзейнічаў млын. У 1910 г. на базе школы граматы адкрыта царк.-прыходская школа, ператвораная ў 1917 г. ў земскую. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., з 14.2.1923 г. да 9.5.1923 г. ў Навабыхаўскай вол. Рагачоўскага павета, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Актыўным удзельнікам грамадз. вайны ў Беларусі быў ураджэнец вёскі П.Я.Ціханаў, які вызначыўся ў партыз. баях супраць германскіх і войск Польшчы і быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1923 г. быў перададзены нацыяналізаваны памешчыцкі будынак, перавезены з маёнтка ў вёску. У 1925 г. ў ёй 74 вучні. У 1920 г. 164 двары, 940 жыхароў, 559,5 дзес. ворыўнай зямлі, 3 ветраныя млыны, кузня. 5.2.1931 г. арганізаваны калгас «Пражэктар Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 73 гаспадаркі, меў 473 га ворыва. З 20.4.1939 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 134 двары, 485 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі 127 двароў, загубілі 37 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У брацкай магіле, што на мо-

гілках, пахаваны 880 воінаў, у ліку якіх байцы 80-га стралк. корпуса 3-й арміі Бел. фронту, загінуўшыя ў студз. 1944 г. На ўшанаванне памяці 191 земляка, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1975 г. каля будынка выканкома сельсавета пастаўлена стэла. У 1982 г. 160 гаспадарак, 401 жыхар, цэнтр калгаса «Радзіма» (з 2003 г. СВК «Трасна»), які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 3534 га сельгасугоддзяў. У вёсцы працавалі вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, ветэрынарны ўчастак, машынны двор, піларама, устаноўка па прыгатаванні кармоў, млын, клуб, б-ка з фондам больш за 9,6 тыс. кніг, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячы сад, грамадская лазня, магазін, 2 спарт. пляцоўкі. З 2003 г. цэнтр СВК «Трасна». Дзейнічаюць (2008) б-ка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1978 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Аснову планіровачнай структуры складае вуліца, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ, забудаваная драўлянымі жылымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі. На Пн ад яе разыходзяцца дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы, забудаваныя мураванымі жылымі дамамі. За 2,5 км на ПдУ ад вёскі пачынаецца р. Трасна (прыток Дняпра).

У складзе сельсавета 11 вёсак і 2 пасёлкі. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Чырвонаслабодскага с/с існавалі пасёлкі Беларусь, Шакілаўка, Сідабор'е, Чапаева, Закал, жыхары якіх перасяліліся ў інш. месцы.

**ЧЫРВОНЫ АРАТЫ** — пасёлак у Лудчыцкім с/с, за 6 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 59 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Быхаў—Новы Быхаў.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцамі спалены 14 двароў. У 1982 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Лудчыцы). Сядзіба традыцыйная, драўляная.

**ЧЫРВОНЫ АРАТЫ** — пасёлак у Верхнятошчыцкім с/с, за 37 км на Пд ад Быхава, 96 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца праз в. Ніжняя Тошчыца і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў.

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Ніжняя Тошчыца). Сядзіба традыцыйная, драўляная.

**ЧЫРВОНЫ АСАВЕЦ** (да 6.3.1925 г. Царкоўны Асавец) — вёска ў Грудзінаўскім с/с, за 32 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 37 км ад Магілёва. На ПнУ цячэ р. Будлянка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Грудзінаўка, Гадылёва, далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 64 гаспадаркі, 87 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца пад 1560 г. Тады ў в. Асавец быў 21 дым, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1580 г. сяло ў Магілёўскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. цэнтр войтаўства Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 8 гаспадарак, мелася царква. У 1643 г. дзейнічаў млын. У 1742 г. дзярж. ўласнасць, 41 двор, царква, карчма, млын. У 1780 г. 69 двароў, 438 жыхароў. У 1858 г. 120 жыхароў мужчынскага полу. У 1839 г. пабудавана новая драўляная царква. З 1879 г. непадалёку існаваў невялікі маёнтак, дзе працаваў вадзяны млын. У 1897 г. 75 двароў, 468 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. У аднайменным фальвар-

ку — 3 двары, 10 жыхароў. У 1907 г. ў вёсцы 72 двары, 525 жыхароў, у маёнтку — 6 жыхароў, у Грудзінаўскай воласці. У 1900 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак. Паводле перапісу мясц. прам-сці 1920 г. ў былым маёнтку былі крупадзёрка і кузня. 18.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. цэнтр Царкоўнаасавецкага, з 6.3.1925 г. — Чырвонаасавецкага сельсаветаў Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, вёска далучана да Грудзінаўскага с/с. 29.12.1924 г. створана с.-г. садова-агароднае т-ва «Прагрэс». На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 66 вучняў. У 1926 г. 138 двароў, 698 жыхароў. 2.5.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Асавец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 54 гаспадаркі, меў 308 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да крас. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 150 двароў, загубілі 180 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 77 воінаў і партызан, у іх ліку байцы 380-й стралк. дывізіі 121-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. У 1982 г. 157 гаспадарак, 274 жыхары, у складзе саўгаса «Грудзінаўскі» (цэнтр — в. Грудзінаўка). Дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, клуб, б-ка з фондам больш за 7,9 тыс. кніг, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Працуюць (2008) фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Паралельна да ракі ідуць дзве з крывалінейнымі трасамі вуліцы са шчыльнай двухбаковай забудовай. Некалькі кароткіх другарадных вуліц утвараюць нерэгулярную сетку кварталаў. Грамадскія будынкі ў цэнтр. частцы вёскі. Гасп. сектар на Пн ад вёскі, каля ракі.



*С.Г.Сідарэнка-Салдаценка.*

У вёсцы, каля будынка школы, пахаваны рус. вучоны ў галіне афтальмалогіі, доктар медыцынскіх навук, ураджэнец в. Азёрная (былая в. Мужычок) Хоцімскага р-на, праф. Е.В.Касценіч.

**ЧЫРВОНЫ БЕРАГ** — вёска ў Верхнятошчыцкім с/с, за 30 км на Пд ад Быхава, 63 км ад Магілёва, 4,5 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў—Жлобін, на р. Тошчыца. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Таймана-ва і далей па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 113 гаспадарак, 262 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. 4 двары, 31 жыхар, уласнасць памешчыка, у Быхаўскім павеце. У 1859 г. 95 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 43 двары, 321 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася бандарным і калёсным промысламі. У 1897 г. 63 двары, 547 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1889 г. школа ператворана ў нар. вучылішча, у якім у 1905 г. навучаліся 28 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак, у 1910 г. — у земскую школу. У 1909 г. 60 двароў, 635 жыхароў, меўся млын. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 14.2.1923 г. ў Рагачоўскім павеце, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Быхаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, вёска ўключана ў Верхнятошчыцкі с/с. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. былі 52 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. У 1920 г. 134 двары, 827 жыхароў, 237,6 дзес. ворыўнай зямлі. У 1926 г. 146 двароў, 953 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, меў 381 га ворыва. У 1931 г. арганізавана майстэрня-арцель «Чырвоная зорка» па вырабе санак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. партызаны 810-га атрада Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы (ВАГ) разграмілі каля вёскі батальён гітлераўцаў. Адным з кіраўнікоў партыз. руху ў Беларусі ў Вял. Айч. вайну быў ураджэнец

вёскі С.Г.Сідарэнка-Салдаценка, які з'яўляўся камандзірам ВАГ пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б. Ураджэнец вёскі І.П.Федзячэнка быў камандзірам Быхаўскай ВАГ. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1982 г. 156 гаспадарак, 347 жыхароў, цэнтр калгаса «Ленінскі шлях», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 3628 га с.-г. угоддзяў. У вёсцы працавалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, 2 устаноўкі па прыгатаванні кармоў, пач. школа, Дом культуры, б-ка з фондам звыш 7,7 тыс. кніг, сталовая, грамадская лазня, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Дзенічаюць (2008) б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Гіст. планіроўку складае вуліца, арыентаваная з У на З, уздоўж берага ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная. У цэнтры каля моста цераз раку размешчаны грамадскія будынкі. На Пн ад моста перпендыкулярна да старой вуліцы ідзе дарога на Быхаў. Забудоўвалася паводле ген. плана, распрацаванага ў 1976 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект».

**ЯЛЕНШЧЫНА** — вёска ў Чарнаборскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 45 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. Першапачаткова ў Чачэвіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 25 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе саўгаса імя Ф.А.Смалячкова (з 2003 г. с.-г. комплекс «Дуброва»; цэнтр — в. Дуброва). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ, перпендыкулярна да шашы, забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯМІШЧА** — вёска ў Глухскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 43 км ад Магілёва. На З цячэ р. Грэза. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1982 г. 31 гаспадарка, 66 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Глухі). Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з Пн на Пд. Забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі з гасп. дварамі розных тыпаў.

**ЯМНАЕ** — вёска, цэнтр Ямніцкага с/с, за 8 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Быхаў, 61 км ад Магілёва. Мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Дунаёк—Быхаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 152 гаспадаркі, 321 жыхар (2007).

Вядома з 1-й пал. 18 ст. У 1743 г. сяло Ямна ў Аршанскім павеце, уласнасць магілёўскіх езуітаў. У 1745 г. 22 двары, памешчыцкая ўласнасць у Быхаўскім графстве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1780 г. 35 двароў, 289 жыхароў, у Быхаўскім павеце. У 1828 г. 33 двары, 248 жыхароў, 2 магазіны. У 1897 г. 72 двары, 511 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1903 г. адкрыта школа (у 1913 г. ператворана ў земскую), у якой у 1905 г. навучаліся 51 хлопчык і 7 дзяўчынак. У 1909 г. 81 двор, 755 жыхароў, дзейнічаў млын. У 1914 г. для школы ўзведзены будынак. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета ў Быхаўскім р-не Магілёўскай акругі, з 21.8.1925 г. да 11.4.1960 г. ў Клятнянскім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920 г. меўся вятрак. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 72 вучні,



*І.П.Федзячэнка.*

дзейнічаў піянерскі атрад з 11 вучняў. У 1931 г. створаны калгас «Сталінскі заклік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак, меў 88 га ворыва, ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. 425-ы партыз. атрад пад камандаваннем М.П.Куракіна разграміў варожы гарнізон у вёсцы. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 142 землякі, у памяць аб якіх у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. З 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1982 г. 218 гаспадарак, 626 жыхароў, цэнтр саўгаса «Ямнае» (створаны ў 1961 г.), які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 2175 га сельгасугоддзяў. У вёсцы дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, лесапільня, млын, 8-гадовая школа, клуб, б-ка з фондам больш за 8,6 тыс. кніг, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, дзіцячы сад, 2 спарт. пляцоўкі. Працуюць (2008) б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Жылая забудова сядзібнага тыпу, у асн. драўляная, сканцэнтравана ўздоўж гал. вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. У паўд. частцы, адпаведна генплану, які распрацаваны ў 1979 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект», створаны адм.-грамадскі цэнтр. Перпендыкулярна да галоўнай ідзе вуліца, забудаваная мураванымі жылымі дамамі. На Пн і Пд гасп. сектар.

*Крыж і прасліцы з гарадзішча Янава.*



У складзе сельсавета 10 вёсак.

**ЯНАВА** — пасёлак у Навабыхаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Быхава, 65 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Лудчыцы на лініі Быхаў—Жлобін. На У цячэ р. Рдзіца. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Новы Быхаў—Быхаў. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

За 0,2 км на Пн ад пасёлка захавалася стараж. гарадзішча, за 1 км на Пн — курганны могільнік (5 насыпаў), паміж пасёлкам і гарадзішчам, на правым беразе Дняпра — селішча позняга этапу зарубінецкай культуры, 6—8 ст. і эпохі Кіеўскай Русі, за 1 км на Пн ад пасёлка, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра — стаянка ранняга мезаліту. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. У 19 ст. тут быў маёнтак, гаспадар якога ў 1862 г. валодаў 592 дзес. зямлі. З 1879 г. працавала ганчарня. У 1897 г. фальварак, 2 двары, 6 жыхароў, у Навабыхаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 1 двор, 17 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. хутары, 13 двароў, 72 жыхары. У 1930-х г. сяляне ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.2.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі пры спробе пераправіцца на левы бераг Дняпра ў ліп. 1942 г. загінуў адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Быхаўшчыне С.Я.Падольцаў. У лютым 1944 г. гітлераўцамі спалены 10 двароў. Пасля вайны пасёлак адбудаваны. У 1982 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Тайманава). Планіроўка лінейная. Вуліца ідзе з ПнЗ на ПдУ, паралельна да шашы і берага ракі. Забудова драўляная, пераважна двухбаковая.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 64, 323, 1103, 2450, 2877; ф. 30, воп. 1, спр. 285, 1329, 2379, 3347, 4328; воп. 2, спр. 1797; ф. 31, воп. 1, спр. 23/17, 23/21, 843, 920; ф. 42, воп. 1, спр. 115б, 930, 942, 1127, 1756, 1772, 1773, 1833, 2188; воп. 2, спр. 4002, 4004, 4007—4011, 4014—4020, 4022, 4025, 4026, 4028—4032, 4034, 4040, 4048, 4053, 4059, 4060, 4316, 4319, 4320, 4324, 4325; ф. 46, воп. 1, т. 2, спр. 519, 1834; ф. 48, воп. 1, спр. 930, 2228, 2271, 2733, 2821, 2928, 3918, 4432, 4673, 5162, 5408; ф. 60, воп. 1, спр. 17; воп. 3, спр. 87; ф. 63, воп. 1, спр. 2232; ф. 130, с/р 31, воп. 3, спр. 11; ф. 141, воп. 21, спр. 144; ф. 251, воп. 1, спр. 264; ф. 258, воп. 1, спр. 39; ф. 300, воп. 1, спр. 226; ф. 334, воп. 1, спр. 367, 470, 500; воп. 2, спр. 37; ф. 338, воп. 1, спр. 64, 140, 323, 324, 2450; ф. 1024, воп. 1, спр. 681, 697, 831.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2504, 2505; ф. 6, воп. 1, спр. 2450; ф. 389, воп. 1, спр. 65; ф. 694, воп. 4, спр. 1556, 5725; воп. 7, спр. 936; ф. 822, воп. 11, спр. 871б; ф. 1291, воп. 1, спр. 18445; ф. 1297, воп. 1, спр. 15340; ф. 1741, воп. 1, спр. 4; ф. 2001, воп. 1, спр. 158; ф. 2014, воп. 1, спр. 9, 178; ф. 2151, воп. 1, спр. 61, 79.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 436, воп. 1, спр. 6.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 44, 50, 65; ф. 1355, воп. 1, спр. 710, 719; воп. 3, спр. 710.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 23, воп. 30, спр. 42; ф. 577, воп. 19, спр. 14, 15, 19, 24, 45, 52, 65, 71, 74, 85, 179; ф. 822, воп. 12, спр. 2589, 2646; ф. 824, воп. 2, спр. 179; ф. 1290, воп. 11, спр. 1341, 1366; ф. 1350, воп. 312, спр. 96; ф. 1405, воп. 530, спр. 340.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 62, 3280, 5349; ф. КМФ-1, воп. 2, спр. 467; ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 467.

Дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 317, воп. 1, спр. 2840.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 4, спр. 4914; ф. 16, спр. 2, 162.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, ф. 4, воп. 1, спр. 1226, 1537, 1543, 1544, 2015, 4914.

Бібліятэка Чартарыйскіх у Кракаве, рук. 4568.

Расійская Нацыянальная бібліятэка, ф. 4, спр. 768.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. Т. 2. Вильна, 1867.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 4. СПб., 1873.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.

Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—2. Могилев, 1882—84.

Список населенных местностей и краткий статистический обзор Быховского уезда Могилевской губернии. Могилев, 1886.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.

Указатель фабрик и заводов Европейской России. 3 изд. СПб., 1894.

Фабрично-заводская промышленность России: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.

Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.

Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905—1906 учебный год. Могилев, 1905.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1907 г. Могилев, 1907.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—1908 учебный год. Могилев, 1908.

Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.

Фабрично-заводские предприятия Российской империи. СПб., 1914.

Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Лочмель I. Барацьба беларускага народа супраць інтэрвентаў. Мн., 1940.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 2—3. Мн., 1940—53.
Сацыялістычная перамога. 1953. 24 мая.
Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: док. и материалы. Мн., 1955.
Тарле Е.В. 1812 год. М., 1959.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959; Т. 4. Мн., 1979.
Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862 гг.). Мн., 1959.
Горбатов А. Наступление войск 3-й армии на рогачевском направлении // Военно-ист. журнал. 1961. № 1.
Хохлов А.Г. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917—март 1918 гг.). Мн., 1965.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны: док. и материалы. Т. 1 (июнь 1941—ноябрь 1942). Мн., 1967; Т. 2, кн. 2 (июль—декабрь 1943). Мн., 1978.
Почанин С.[З.] В грозовом восемнадцатом. Мн., 1969.
Поболь Л.Д. Тайманово // Археологические открытия 1968 г. М., 1969.
Алексеев Л.В. По Западной Двине и Днепру в Белоруссии. М., 1974.
Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975.
Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1975.
Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 8. Мн., 1975.
Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1976.
Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 4.
Маяк Прыдняпроўя. 1976. 9 кастр.; 1980. 29 ліп.; 1981. 8 жн.
Москвин Н.И. Партизанскими тропами. М., 1971.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Мн., 1978.
Белорусская ССР: краткая энцикл. Т. 1. Мн., 1979.
Савосіна Е. З гісторыі першых партыйных арганізацый Быхаўскага павета // Маяк Прыдняпроўя. 1980. 14 жн.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Мн., 1983; Т. 3. Мн., 1985.
Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941—июль 1944). Мн., 1983.
Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Партийное подполье в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1985.
Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са стараж. часоў да 1917 г. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 2 (1944—1980 гг.). Мн., 1987.
Памяць: гіст.-дакум. хроніка Быхаўскага р-на. Мн., 1990.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1994.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944): [зб. дак. і матэрыялаў]. Мн., 1995.
Республиканская книга памяти воинов-интернационалистов. Мн., 1999.
Долготович Б.Д. Военачальники земли белорусской: энцикл. справ. Мн., 2005.
Республика Беларусь: энцикл. Т. 2. Мн., 2006.



# БЯЛЫНІЦКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Пл. 1,4 тыс. км². Насельніцтва 22,4 тыс. чал. (2005). Сярэдняя шчыльнасць 16 чал. на 1 км². У складзе раёна 1 гар. і 8 сельскіх саветаў (Вішоўскі, Галоўчынскі, Запольскі, Ланькаўскі, Лебядзянкаўскі, Машчаніцкі, Цяхцінскі, Эсьмонскі). Мяжуе на Пд з Клічаўскім, на У з Магілёўскім, на Пн са Шклоўскім і Круглянскім р-намі Магілёўскай, на З з Бярэзінскім і Крупскім р-намі Мінскай абласцей. Паверхня раўнінная (Цэнтральнабярэзінская і Аршанска-Магілёўская раўніны). Найбольшыя рэкі Друць, Вабіч, Няропля; азёры Падазерышча, Карманоўскае. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя і дзярнова-карбанатныя заба-

*База адпачынку «Глушцовы ток» у Бялыніцкім раёне.*

*Бялыніцкі краявід.*

*Домік для пражывання на базе адпачынку «Глушцовы ток».*

*Рака Друць у Бялыніцкім раёне.*









*Супрацоўнік Бялыніцкага РУУС С.Жарноўскі.*



*Панарама г.п. Бялынічы з вышыні птушынага палёту.*



лочаныя, алювіяльныя, тарфяна-балотныя. Пад лясамі 39%, пад с.-г. ўгоддзямі 48,9% тэр. раёна. Сярэдні бал урадлівасці с.-г. угоддзяў 36, найвышэйшы 50, найніжэйшы 24. Ёсць гідралагічны заказнік Заазер'е. Прадпрыемствы размешчаны ў асн. у г.п. Бялынічы. Па тэр. раёна праходзяць аўтадарогі Мінск—Магілёў, Магілёў—Круглае, Талачын—Круглае—Нежкаў, Шклоў—Бялынічы. У раёне (2006) 12 сярэдніх, 4 базавыя, 1 пач. школы, цэнтр. дзіцячая школа мастацтваў, маладзёжны шматпрофільны цэнтр, 8 дашкольных і 24 клубныя ўстановы, 15 кінаўстановак, 26 б-к, 3 бальніцы на 157 ложкаў, 3 урачэбныя амбулаторыі, 15 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца газ. «Зара над Друццю».

**БЯЛЫНІЧЫ** — гарадскі пасёлак, цэнтр Бялыніцкага р-на, за 44 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, 44 км ад Мінска, на левым беразе р. Друць (прыток Дняпра), на шашы Мінск—Магілёў. 9,9 тыс. жыхароў (2005).

Па рукапісных крыніцах вядомы з сярэдзіны 16 ст. як сяло ў Аршанскім паве-

*Аўтадарога Бялынічы—Круглае.*



*Будынак Бялыніцкага райвыканкама.*








Запрашае кафэ «Мара» ў Бялынічах.

Філіял АСБ «Беларусбанк» у Бялынічах.

це Віцебскага ваяв. ВКЛ, у валоданні князёў Збаражскіх, адзін з якіх, Сцяпан Андрэевіч, у 1555—64 гг. быў віцебскім, а з 1566 г. трокскім ваяводам. У 1577 г. ў складзе маёнтка Цяцерын. У канцы 16 ст. прыватнаўласніцкае мястэчка. З пач. 17 ст. Бялынічы і воласць у валоданні Сапег. У 1620 г. 16 гандл. і 331 вулічны пляц. У 1622 г. ваявода віленскі і канцлер ВКЛ Леў Сапега заснаваў тут кляштар кармелітаў, пры якім быў узведзены драўляны касцёл. Яго сын Казімір у 1624 г. ўпрыгожыў касцёльны абраз каштоўнымі каменнямі, алтар — серабром; Л.Сапега зрабіў фундуш на адкрыццё прыходскага вучылішча. У 1630 г. ў Бялынічах 513 дымоў. 4.10.1634 г. Казімір Леў Сапега атрымаў для Бялыніч каралеўскі прывілей на магдэбургскае права і правядзенне кірмашоў. Фальварак Бялынічы перайшоў у 1630 г. ад М.В.Кісяля-Дагаргапіцкага да І.Бялыніцкага-Бірулі. У сярэдзіне 17 ст. пры кармеліцкім кляштары існавала друкарня.

Падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Бялынічы шмат



Панарама цэнтра г.п. Бялынічы.





*Аўтастанцыя ў г.п. Бялынічы.*

*Гандлёвы рад па вуліцы Калініна ў Бялынічах.*

пацярпелі. У жн. 1654 г. войска ВКЛ на чале з вял. гетманам Янушам Радзівілам злучылася каля Галоўчына з войскам гетмана польскага В.А.Галеўскага і пераправілася цераз р. Друць каля Бялыніч. Ім супрацьстаяла рус. войска пад камандаваннем кн. А.М.Трубяцкога. Бітва 24.8. 1654 г. каля мяст. Шапялевічы (на Пн ад Бялыніч) закончылася паражэннем Радзівіла, а 6.10.1654 г. літ. войска ў складзе 6 харугваў (эскадронаў) напала каля Бялыніч на казацкі атрад сотніка Восіпа Букаша з палка Канстанціна Паклонскага, створанага з дазволу цара Аляксея Міхайлавіча, і разбіла яго. Пасля гэтага адступілі і ўкр. казакі з палка Залатарэнкі. Палкоўнік К.Паклонскі даносіў цару, што Бялыніцкі павет разрабаваны. У 1658 г. Бялынічы зноў апынуліся ў зоне ваенных дзеянняў у сувязі з канфліктам паміж казацкім войскам на Беларусі пад камандаваннем І.Нячая і рус. войскам. Паводле ўмоў Андрусаўскага перамір'я 1667 г. Бялынічы засталіся ў складзе Рэчы Паспалітай. У 1-й пал. 18 ст. яны перайшлі да Агінскіх. У 1734 г. ў складзе Магілёўскай эканоміі, 180 двароў. У 1760 г. кармеліты замест драўлянага касцёла, пабудаванага ў 1742 г., узвялі мураваны храм у форме крыжа, падобны да нясвіжскага фарнага касцёла. Сцены кляштара былі ўпрыгожаны фрэскамі. Тут збіралася шмат паломнікаў. У 2-й пал. 18 ст. дзейнічаў невялікі кляштар марыявітак. Гандл. шлях, які праходзіў праз Бялынічы, звязваў цэнтр. раёны Беларусі з Расіяй. Сюды прыходзілі абозы нават з Масквы. У 18 ст. працаваў мытны пункт, падпарадкаваны гал. мытні ў Магілёве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Бялынічы ў Рас. імперыі, цэнтр воласці Магілёўскага павета. У 1785 г. 831 жыхар, млын, 2 драўляныя царквы. У атласе Магілёўскай губ., складзеным у 1777 г., адзначаецца, што мяст. Бялынічы «мае вельмі добра ўпа-



*На вуліцах г.п. Бялынічы.*



*Помнік воінам 1812 г. ў Бялынічах.*





*Будынак ЗАГСа ў Бялынічах.*

*Будынак аддзялення ААТ «Белаграпрамбанк» у Бялынічах.*

радкаваны і выдатна ўпрыгожаны жывапісам касцёл кармеліцкага ордэна, уніяцкую царкву, жыдоўскую школу і драўляны дом графа Агінскага. У гэтым мястэчку адбываюцца штогод 4 кірмашы... на ўсіх гэтых кірмашах збіраюцца дробныя купцы з конямі, рагатай жывёлай і іншымі таварамі, а сяляне з хатнім рукадзеллем».

Падчас вайны 1812 г. мястэчка ў зоне ваенных дзеянняў як у ходзе наступлення французскай арміі, так і ў час рус. контрнаступлення. Паводле інвентару 1825 г. ў мястэчку 287 дымоў, 783 жыхары, у фальварку Бялынічы 71 дым, 522 жыхары. У 1823 г. 556 жыхароў, у 1838 г. 325 двароў. У 1845 г. 992 двары, у фальварку — 89. У 1846 г. 940 жыхароў, прыстань на р. Друць. У сярэдзіне 19 ст. было шмат заезных дамоў, а падчас кірмашоў амаль ва ўсіх дамах мястэчка размяшчаліся прыезджыя. З 1855 г. дзейнічала піваварня. Фальварак ва ўладанні Агінскага, затым Кажухоўскіх. У 1844 г. згарэла Мікалаеўская царква, а ў 1859 г. — амаль усе дамы разам з касцёлам. У 1845 г. царква адбудавана. У 1861 г. 1945 жыхароў. Памешчык Мясаедаў меў у 1869 г. ў Бялынічах і вёсках Аксенькавічы, Аслікі, Бярозаўка, Закапулле, Ключкі, Міхалёва, Паночак, Рудня 22 092 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны, 2 сукнавальні, піцейны дом, дзягцярны, піваварны, вінакурны і цагельны з-ды. У 1864 г. адкрыта школа (двухкласнае нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучаліся 50 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак, у 1907 г. — 144 хлопчыкі і 22 дзяўчынкі. З 1870 г. працавала крупадзёрка. У пач. 1876 г. каталіцкі кляштар пераўтвораны ў праваслаўны мужчынскі манастыр, куды ў 1877 г. пераведзены Тупішчанскі мужчынскі манастыр разам з брацiяй, царк. начыннем, маёмасцю і званамі. У 1880 г. 895 жыхароў, 279 драўляных дамоў, 3 праваслаўныя царквы, з іх 2 мураваныя, 3 малітоўныя школы, бальніца, аптэка,

*Вуліца Савецкая ў г.п. Бялынічы.*

*Зона адпачынку ў г.п. Бялынічы.*





*Помнік воінам Вялікай Айчыннай вайны ў Бялынічах.*

*Помнік воінам і партызанам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у г.п. Бялынічы.*





вінакурня і цагельня, млын і крупадзёрка. У 100 гаспадарках займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, частка жыхароў — кавальскім і кравецкім промыслам. У 1895 г. на вінакурным з-дзе пачала дзейнічаць паравая машына. Паводле перапісу 1897 г. 2300 жыхароў. У 1909 г. адкрыта б-ка. У 1909 г. 417 дамоў (1 мураваны), 894 дзес. зямлі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў ліп. 1917 г. створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

З канца лютага да ліст. 1918 г. Бялынічы акупіраваны герм. войскамі. У 1919 г. дзейнічаў вал. рэўком. З 1.1.1919 г. ў складзе БССР, з канца лютага 1919 г. ў РСФСР, у сак. 1924 г. зноў у БССР. 26.5.1924 г. створаны с.-г. крэдытнае і каап. т-вы; адкрыты нар. дом, аптэка, бальніца, хата-чытальня, 4-гадовая школа ператворана ў 7-гадовую.З 17.7.1924 г. цэнтр раёна Магілёўскай акругі, з 15.1.1938 г. — вобласці. 14.10.1924 г. адбылася раённая выстаўка, на якой дэманстравалі свае да-

*Гарадскі сквер па вуліцы Савецкай у Бялынічах.*

*Фантан у скверы на Цэнтральнай плошчы ў Бялынічах.*







Помнік В.К.Бялыніцкаму-Бірулі ў Бялынічах.

сягненні 114 сял., 1 каап. гаспадарка і 6 с.-г. аб'яднанняў. У 1925 г. пачалі дзейнічаць школа сял. моладзі і с.-г. арцель. У выніку пажару 12.6.1926 г. згарэлі жылыя дамы агульнай пл. 350 кв. сажняў і нежылыя — 300 кв. сажняў. У 1926 г. 2425 жыхароў. У канцы 1920-х гг. працавалі спажывецкае т-ва, метэаралагічная станцыя, электратурбіна, ад якой мястэчка атрымлівала святло, млын, лесапільня, сукнавальня, смалакурня. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барэц», які меў 1384 дзес. зямлі, аб'ядноўваў 118 гаспадарак, пабудавана невялікая гідраэлектрастанцыя. Дзейнічалі швейная, шавецкая і кавальская арцелі, смалакурня, хлебазавод, друкарня, сукнавальня. 8.1.1932 г. пачала выходзіць раённая газ. «Чырвоны кавалерыст» (у 1938—41 пад назвай «Калектыўная праца», у 1944—62 «Зара камунізму», зараз «Зара над Друццю»). Палітаддзел Бялыніцкай МТС у 1933—34 гг. выпускаў шматтыражную газ. «Камунар». З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У пач. 1941 г. пабудаваны радыёвузел, дзейнічалі раённая б-ка, Дом культуры, яслі, дзіцячая кансультацыя, аптэка, амбулаторыя, бальніца, станцыі хуткай медыцынскай дапамогі і 2 сярэднія школы.

У Вял. Айч. вайну ў пачатку ліп. 1941 г. Бялынічы апынуліся на напрамку гал. ўдару 2-й танкавай групы ням.-фаш. войск. Тут трымалі абарону падраздзяленні 172-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. 4—5 ліп. батарэя капітана Б.Л.Хігрына вяла цяжкі бой супраць гітлераўскіх танкаў (яму пасмяротна прысвоена званне Героя Сав. Саюза). 6.7.1941 г. Бялынічы захоплены ням. войскамі, якія за час акупацыі загубілі ў гар. пасёлку і раёне 1968 чал. З ліп. 1941 г. дзейнічаў першы партыз. атрад, разгортвалася патрыят. падполле (кіраўнікі І.С.Карзун, Л.У.Бабіч), члены якога распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, перадалі парты-



Б.Л.Хігрын.



Панарама г.п. Бялынічы.



Магазін «Бакалея» ў Бялынічах.



Фантан у скверы па вуліцы Савецкай каля царквы Бялыніцкага абраза Маці Божай.

занам 4 кулямёты, каля 50 вінтовак, шмат патронаў, медыкаментаў, паведамлялі звесткі аб варожых гарнізонах, зрывалі вываз моладзі на прымусовую працу ў Германію, праводзілі дыверсіі. У ноч на 11.10.1943 г. партызаны Быхаўскага, Бялыніцкага, Бярэзінскага, Клічаўскага, Круглянскага, Магілёўскага, Шклоўскага р-наў пад кіраўніцтвам штаба ваеннааператыўнай групы (ВАГ) пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б зрабілі адначасовы налёт на 11 ням. гарнізонаў. У разгроме ням.-паліцэйскага гарнізона ў Бялынічах удзельнічалі 2 батальёны 208-га партыз. палка, 2 атрады (760-ы і 600-ы) Бялыніцкай ВАГ, а таксама атрад (120 чал.) маёра Шастакова. Ім дапамагала Бялыніцкае падполле. У ходзе бою, які працягваўся тры з паловай гадзіны, варожы гарнізон быў разгромлены. Партызаны страцілі 13 чал. забітымі і 30 параненымі. Вызвалены Бялынічы 29.6.1944 г. падраздзяленнямі 32-й і 42-й стралк. дывізій з удзелам партызан. У брацкіх магілах на могілках і ў парку на вул. Савецкай пахавана 976 сав. воінаў, якія загінулі 28—30.6. 1944 г. ў баях за вызваленне Бялыніч і бліжэйшых населеных пунктаў. На вул. Калініна ў 1971 г. ў гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлена стэла. За 1,5 км на ПдЗ ад Бялыніч пахавана больш за 1500 жыхароў гар. пасёлка і навакольных вёсак, якіх 12.12.1941 г. расстралялі ням.-фаш. захопнікі. Паводле перапісу 1959 г. тут 4244 жыхары. Да пасёлка далучаны ў 1972 г. вёска Новы Шлях, у 1977 г. вёскі Бярозаўка, Задруцкая Слабада, пас. Тарфяны.

Будынак раённага аддзела МНС у Бялынічах.



Ген. план забудовы распрацаваны ў 1967 г. Магілёўскім філіялам Белдзяржпраекта. У Мінскім філіяле Цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва ў 1974





*Алея Герояў у Ліпавым гаі г.п. Бялынічы.*

*Мастацкі музей В.К. Бялыніцкага-Бірулі ў Бялынічах.*

г. распрацаваны праект планіроўкі і забудовы цэнтр. часткі гар. пасёлка. Аснову арх.-планіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы: Савецкая, якая з Пд на Пн праходзіць праз цэнтр. частку пасёлка, і Ленінская, арыентаваная шыротна. Аўтадарога звязвае Бялынічы з Круглым. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляюцца плошчы на вул. Савецкай (аснова грамадскага цэнтра) і на скрыжаванні вуліц Савецкай і Ленінскай (былы гіст. цэнтр, з'яўляецца культ.-асв., гандл. часткай пасёлка). Дзейнічаюць масласырзавод, хлебазавод, крухмальны з-д, раённае аб'яднанне «Сельгастэхніка», саўгас «Бялынічы», рамонтна-механічныя майстэрні, лясніцтва, 2 сярэднія, муз. і дзіцячая спарт. школы, 3 дашкольныя ўстановы, 2 аддзяленні ашчаднага банка, аддз. сувязі, сельскае ПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, Дом культуры, 2 б-кі, Дом школьнікаў, кінатэатр, бальніца, аптэка. Алея Герояў Сав. Саюза з бюстамі А.М.Касаеву, Л.Дз.Лорчанку, Б.Л.Хігрыну, С.Р.Царашкевічу на Пн ад цэнтра гар. пасёлка. 29.5.1970 г. адкрыты мастацкі музей імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. Выходзіць раённая газ. «Зара». Працуе рэдакцыя раённага радыёвяшчання. Самадзейны тэатр юнага гледача ў 1968 г. ўдастоены звання народнага. Радзіма Героя Сав. Саюза І.В.Свідзінскага, сав. аграхіміка, акадэміка Акадэміі навук БССР, праф. М.К.Малюшыцкага, пісьменніка і літаратуразнаўцы І.З.Шарахоўскага, пісьменніка В.І.Найдзіна (б. вёска Бярозаўка), бел. мастачкі Л.В.Журавовіч, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР І.І.Шкляраўскага.

У склад Бялыніцкага пас. Савета да 1968 г. ўваходзіў пас. Перамога (не існуе).

За 1 км на У ад гар. пасёлка знаходзяцца балота Няропля і тарфяное радовішча Цітаўка.

**АДВЕРНІЦА** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 5 км на Пн ад Бялыніч, 48 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд воз. Няропля, побач шаша Магілёў—Круглае. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў, у 1970 г. 88 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава). Дзейнічае птушкаферма. У 2002 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары. Планіроўка лінейная, мерыдыянальная, паралельна да шашы. Забудова двухбаковая, няшчыль-



*І.В.Свідзінскі.*



*Удзельнікі 12-га Міжнароднага плэнера, прысвечанага 135-годдзю з дня нараджэння В.К.Бялыніцкага-Бірулі. 2007 г.*

ная. Жылыя дамы драўляныя, індывідуальнага тыпу.

**АДРАДЖЭННЕ** — пасёлак у Лебядзянкаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Бялыніч, 28 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 36 км ад Магілёва, на Пд і У мяжуе з лесам, побач аўтадарога Свяцілавічы—Лебядзянка. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце, 10 загублены гітлераўцамі. У 1986 г. ў складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Студзёнка). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў. Планіроўка лінейная, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.



*М.К.Малюшыцкі.*



*Я.Шарахоўскі.*

**АКСЕНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Запольскім с/с, за 35 км на Пд ад Бялыніч, 12 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 76 км ад Магілёва, на ПдУ і У р. Вядзерка (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Паводле інвентару 1825 г. 3 дымы, 26 жыхароў, у складзе фальварка Ксаверава. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце 32 рэвізскія душы. У 1868 г. адкрыта дзягцярня. У 1880 г. 13 двароў, 114 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася вырабам з дрэва посуду і іншых быт. рэчаў. У 1897 г. ў Царковішчанскай вол., 24 двары, 164 жыхары. Мелася школа граматы. У 1909 г. 40 двароў, 153 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1919 г. адкрыта школа (у 1925 г. 45 вучняў), дзейнічалі хата-чытальня і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 51 двор, 354 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ваколіцах базіраваўся 122-і партыз. атрад «За Радзіму». 14.9.1942 г. партызаны разграмілі ў вёсцы паліцэйскі ўчастак. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі 13 двароў, загубілі 7 жыхароў. На могілках пахаваны 28 сав. воінаў і партызан, а таксама сакратар Бялыніцкага падп. райкома ЛКСМБ К.Л.Калакустаў, які загінуў 4.12.1943 г. ў баі. 11 вяскоўцаў не вярнуліся з франтоў. Паводле перапісу 1959 г. 201 жыхар, у 1970 г. — 161, у 1986 г. 85 жыхароў; у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), дзейнічалі клуб, пач. школа, магазін, б-ка. У 2002 г. 19 гаспадарак, 34 жыхары. Гал. вуліца з'яўляецца працягам дарогі на в. Падзевічы і арыентавана з ПдЗ на ПнУ, другая на ПдЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная.

*Царква ў гонар Бялыніцкага абраза Маці Божай.*



**АКЦЯБРЫНА** (да 30.7.1964 г. пас. Царковішча) — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Бялыніч, 59 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарогах Галоўчын—Круглае і Бялынічы—Цяцерын. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў, у 1970 г. — 47, у 1986 г. 18 жыхароў; у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. Карот-

кая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і з'яўляецца працягам дарогі на в. Ількавічы. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, індывідуальнага тыпу.

**АЛЕШКАВІЧЫ 1** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Бялыніч, 51 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на ўсх. ускраіне р. Друць (прыток Дняпра), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Эсьмоны—Бялынічы. 77 гаспадарак, 181 жыхар (2007).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 16 ст. У 1630 г. ў Бялыніцкай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць, 36 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле інвентару 1825 г. вёска Алешкавічы ў складзе фальварка Бярозаўка, 209 жыхароў. У 1903 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 134 двары, 771 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе, у 1969 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 345 жыхароў. У хуткім часе вёска падзялілася на Алешкавічы 1 і Алешкавічы 2. Паводле перапісу 1970 г. ў в. Алешкавічы 1 было 299 жыхароў, у 1986 г. 191 жыхар, цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Дзейнічалі механічная майстэрня, ветэрынарны ўчастак, Дом культуры, б-ка, 8-гадовая школа, школа-інтэрнат, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 86 гаспадарак, 210 жыхароў. У 2007 г. Дом культуры, б-ка, базавая школа, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі вёскі распрацаваны ў 1977 г. ў БелНДІдзіпрасельбудзе. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна, другая крывалінейная, на У ад р. Друць. Уздоўж цэнтр. часткі гал. вуліцы размяшчаюцца грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі. Новае жыллёвае будаўніцтва (аднапавярховыя аднакватэрныя мураваныя дамы) вядзецца на вуліцы, што на З ад галоўнай.

**АЛЕШКАВІЧЫ 2** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Бялыніч, 53 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

Засн. ў 1960-я г. шляхам вылучэння часткі гаспадарак з в. Алешкавічы 1. Паводле перапісу 1970 г. 132 жыхары, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1). У 2002 г. 25 гаспадарак, 54 жыхары. Планіроўка лінейная. Шыротная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**АНАНЬЕЎКА** — вёска ў Запольскім с/с, за 24 км на Пд ад Бялыніч, 24 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 64 км ад Магілёва, на Пн і У мяжуе з лесам, побач аўтадарога Асавец—Заполле. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на фрон-



*Л.В.Журавовіч.*

*Бялыніцкі краявід.*



це. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна. Жылыя дамы драўляныя, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі.



*Р.С.Лахтанаў.*

**АНІСЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 18 км на У ад Бялыніч, 27 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач з р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з пачатку ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 42 жыхары, у 1970 г. — 36, у 1986 г. 16 жыхароў; у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вішоў). У 2002 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. Кароткая шыротная вуліца забудавана драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**АНТОНАВА БУДА** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Бялыніч, 22 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 36 км ад Магілёва, побач з р. Вабіч (прыток Друці), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 22 гаспадаркі, 44 жыхары (2007).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 18 ст. У 1777 г. вёска Буда ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1857 г. ў Магілёўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 38 двароў, 62 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1909 г. 53 двары, 325 жыхароў, у Вендаражскай вол. Дзейнічала земская школа. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 78 двароў, 412 жыхароў, школа (у 1925 г. 37 вучняў). У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы спалілі 44 двары, загубілі 2 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны Герой Сав. Саюза, партызан 600-га партыз. палка Л.Дз.Лорчанка, які загінуў 18.7.1943 г. 28 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 237 жыхароў, у 1970 г. — 152, у 1986 г. 117 жыхароў; у складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка). У 2002 г. 34 гаспадаркі, 64 жыхары. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Другая кароткая вуліца ідзе паралельна да яе. Забудавана двухбакова індывідуальнымі жылымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**АСАВЕЦ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 11 км на Пд ад Бялыніч, 29 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 55 км ад Магілёва, на У р. Друць (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Мінск. 81 гаспадарка, 143 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло (16 дымоў) у Магілёўскім павеце. У 1734 г. ў Магілёўскай эканоміі, 18 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле інвентару 1825 г. 26 дымоў, 244 жыхары, заезная карчма пры тракце Быхаў—Бабруйск. У 1840 г. 29 двароў. У 1858 г. 124 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. сяло (82 двары, 557 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 4 жыхары) у Бялыніцкай вол. У 1905 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. У 1909 г. 104 двары, 639 жыхароў, карчма. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 138 двароў, 788 жыхароў, школа (у 1925 г. 86 вучняў). У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.А.Жданава. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі дзейнічаў 600-ы партыз. атрад. У чэрв. 1944 г. акупанты спалілі 26 двароў, загубілі 9 жыхароў. На могілках пахаваны 18 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. 29 землякоў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. вёска

ў складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), магазін, пач. школа, клуб. У 2002 г. 108 гаспадарак, 200 жыхароў. У 2007 г. бібліятэка-клуб, магазін. Аснову арх.-планіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Першую вуліцу дарога падзяляе на зах. і ўсх. часткі. Трэцяя, кароткая вуліца размешчана адасоблена, уздоўж р. Друць. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСМАН-КАСАЕВА** (да 30.7.1964 г. Сярмяжанка) — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 27 км на Пд ад Бялыніч, 14 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 69 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бялынічы—Быхаў, на Пн і З мяжуе з лесам, на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Малыш (прыток Друці). Назва ў памяць пра Героя Сав. Саюза А.М.Касаева. 83 гаспадаркі, 151 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. Паводле інвентару 1825 г. вёска Сярмяжанка ў складзе фальварка Ксаверава, 37 дымоў, 315 жыхароў, карчма. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 141 рэвізская душа. У 1880 г. 56 двароў, 362 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым і бандарным промысламі, вырабам пражы і тканіны, а таксама посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 536 жыхароў, школа граматы, у Царковішчанскай вол. Існавала аднайменная сядзіба, 1 двор, 7 жыхароў, меліся вадзяны млын і сукнавальня. У 1900 г. школа граматы пераўтворана ў царк.-прыходскую, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. З 1905 г. працавала казённая вінная крама. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У 1936 г. на р. Малыш пабудавана гідраэлектрастанцыя. У 1940 г. 131 двор, 739 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі дзейнічаў партыз. атрад імя Асмана Касаева. За 2 км на ПнУ ад вёскі да нашага часу захаваліся партыз. зямлянкі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 69 двароў, загубілі 16 жыхароў. 60 вяскоўцаў загінулі на фронце. На ўшанаванне памяці Героя Сав. Саюза, камандзіра 121-га партыз. палка А.М.Касаева каля дарогі Цяхцін—Друць устаноўлена стэла з вывай героя (скульптар М.Рыжанкоў, архітэктары В.Занковіч, Л.Левін). Паводле перапісу 1959 г. 572 жыхары, у 1970 г. 518 жыхароў. У 1986 г. 276 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), магазін, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддз. ашчаднага банка, 8-гадовая школа. У 2002 г. 100 гаспадарак, 188 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ААТ «Новая Друць», б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая. Другая арыентавана шыротна. На Пн ад галоўнай размешчана трэцяя, кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу з прысядзібнымі ўчасткамі.



*А.М.Касаеў.*

**АСМОЛАЎКА** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 19 км на Пд ад Бялыніч, 19 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 66 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бялынічы—Быхаў, на З мяжуе з лесам. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы цалкам спалілі вёску. Пасля вайны адрадзілася. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар, у 1970 г. 110 жыхароў. У 1986 г. 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 23 гаспадаркі, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**АСНОЎНЫ** — пасёлак у Лебядзянкаўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бялыніч, 40 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. вёска ў складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Студзёнка). У 2002 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана перпендыкулярна да дарогі Свяцілавічы—Лебядзянка. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.



*Р.Яўсееў.*

**АТРАДНАЕ** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 12 км на У ад Бялыніч, 36 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Мінск. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «КІМ». У Вял. Айч. вайну з пачатку ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 39 жыхароў, у 1970 г. 37 жыхароў. У 1986 г. 21 жыхар, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін). У 2002 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова вясковымі хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БАРОК** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 26 км на Пд ад Бялыніч, 15 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 43 км ад Магілёва. На Пд, З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Мінск. 33 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска Бор у Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Сталіна. У 1940 г. 72 двары, 353 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі базіраваўся 600-ы партыз. атрад. 16.6.1942 г. каля вёскі партызаны разграмілі варожую экспедыцыю. У вер. 1942 г. гітлераўцы спалілі 56 двароў і загубілі 8 жыхароў. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 250 жыхароў, у 1970 г. 224 жыхары. У 1986 г. 126 жыхароў, у складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка), клуб, магазін. У 2002 г. 36 гаспадарак, 54 жыхары. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма двойчы Героя Сац. Працы, старшыні калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага Кіраўскага р-на В.К.Старавойтава, бел. паэта Р.Яўсеева.

**БАРСУКІ** — вёска ў Запольскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Бялыніч, 67 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Мінск. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1897 г. ўрочышча Барсукі (яно ж Забалоць, Сівое Балота), 17 двароў, 112 жыхароў. Побач і існавалі ўрочышчы Барсукі-Рафалін (2 двары, 19 жыхароў), Барсукі (1 двор, 8 жыхароў) і фальварак Барсукі (4 двары, 28 жыхароў). З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 15 двароў, 87 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У 1940 г. 17 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 16 двароў і загубілі 10 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў, у 1970 г. 75 жыхароў. У 1986 г. 38 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БАРСУКІ** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Бялыніч, 25 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асі-

повічы, 44 км ад Магілёва, на Пд р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Мінск. 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з пач. 20 ст. У 1909 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 250 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, 10 загублены акупантамі. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў, у 1970 г. 122 жыхары. У 1986 г. 58 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Студзёнка). У 2002 г. 26 гаспадарак, 45 жыхароў. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да прасёлачнай дарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БАХАНІ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 14 км на Пд ад Бялыніч, 27 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 61 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 53 гаспадаркі, 124 жыхары (2007).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 18 ст. З 1737 г. дзейнічала царква. У 1743 г. ў архіўных дакументах значыцца як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. Мясцовы памешчык у 1865 г. меў тут 1400 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. 10 двароў, 69 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым промыслам, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. ў Царковішчанскай вол. Магілёўскага павета, 19 двароў, 100 жыхароў, школа граматы. Побач існавалі вёскі Малая Бахань (6 двароў, 39 жыхароў), Новая Бахань (12 двароў, 76 жыхароў) і фальварак (1 двор). У 1909 г. ў сяле 19 двароў, 122 жыхары, у вёсках Малая Бахань — 7 двароў, 51 жыхар, Новая Бахань — 11 двароў, 77 жыхароў, у фальварку 1 двор, 3 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У пач. 1920-х г. адкрыта пач. школа. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі дзейнічалі 600-ы, 35-ы і 13-ы партыз. атрады. 31 вясковец змагаўся супраць фашызму, 17 з іх загінулі. Паводле перапісу 1959 г. 278 жыхароў, у 1970 г. 270 жыхароў. У 1986 г. 181 жыхар, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 1971 г. далучаны вёскі Малыніцы, Старыя Бахані, пас. Новыя Бахані, дзейнічалі пач. школа, б-ка, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 65 гаспадарак, 134 жыхары. У 2007 г. б-ка, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная.

**БЕЛІНКА** — пасёлак у Эсьмонскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Бялыніч, 51 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 20 ст. У 1907 г. вёска Бялаўка (12 двароў, 66 жыхароў) у Эсьмонскай вол. Бортніцкага (Бортнікаўскага) павета Мінскай губ. У 1917 г. 72 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 19 двароў, 66 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары, у 1970 г. 68 жыхароў. У 1986 г. 41 жыхар, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1), клуб, магазін. У 2002 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БІСКУПКА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 30 км на З ад Бялыніч, 49 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіпові-

чы, 63 км ад Магілёва, вакол лес, на У р. Клява (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 16 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1970 г. 148 жыхароў. У 1986 г. 89 жыхароў, у складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле), пач. школа. У 2002 г. 18 гаспадарак, 39 жыхароў. Планіроўка лінейная. Вуліца мерыдыянальная, забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БОР** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 12 км на Пн ад Бялыніч, 57 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Друць (прыток Дняпра), побач аўтадарога Бялынічы—Круглае. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1927 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Бор». Пасёлак меў такую ж назву, з 1985 г. — Бор. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 1977 г. да пасёлка далучана в. Новае Жыццё. У 2002 г. 29 гаспадарак, 72 жыхары. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БРАКАЎШЧЫНА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 25 км на У ад Бялыніч, 24 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Круглае—Магілёў. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 48 жыхароў, у 1970 г. 34 жыхары. У 1986 г. 18 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2002 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. Шыротная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БУДНІКІ** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 17 км на З ад Бялыніч, 63 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на р. Чарняўка (прыток р. Обаль). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 18 ст. У 1712 г. памешчык А.Крачатоўскі падараваў маёнтак Буднікі Віцебскай езуіцкай калегіі. Пазней тут стала складвацца вёска. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У 1940 г. 38 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі базіраваўся партыз. атрад С.Грышына. Гітлераўцы спалілі 4 двары, загубілі 2 жыхароў. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары, у 1970 г. 130 жыхароў. У 1986 г. 52 жыхары, у складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны), клуб, магазін. У 2002 г. 16 гаспадарак, 24 жыхары. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУДНІЦКІ** — пасёлак у Эсьмонскім с/с, за 16 км на З ад Бялыніч, 63 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на ПдУ р. Чарнаўка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 9 двароў, 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. пасёлак у складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны). У 2002 г. 8 гаспадарак, 24 жы-

хары. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова рэдкая, двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВАСІЛЬЕЎКА** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 4 км на Пн ад Бялыніч, 49 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Магілёў—Круглае. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 37 жыхароў, у 1970 г. 39 жыхароў. У 1986 г. пасёлак у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава). У 2002 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЬКІ** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Бялыніч, 31 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на р. Васільеўка (прыток р. Вабіч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Талачын—Круглае—Нежкаў. 55 гаспадарак, 102 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын, 42 двары, 254 жыхары. У 1880 г. 53 двары, 361 жыхар. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Памешчык у 1881 г. меў тут 103 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 67 двароў, 470 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак (5 двароў, 51 жыхар). У 1908 г. школа граматы пераўтворана ў земскую, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў вёсцы 68 двароў, 450 жыхароў, у засценку 10 двароў, 56 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Вясной 1924 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва «Васількі» (50 чал.). Вяскоўцы разам з жыхарамі суседніх вёсак (26 меліярацыйных т-ваў) уручную пракапалі канал даўжынёй 9 км, шырынёй 2,5 м. На яго адкрыцці прысутнічаў старшыня Саўнаркома БССР А.Г.Чарвякоў. Меліярацыйнае т-ва «Васількі» ў снеж. 1924 г. было ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР за № 1. У 1926 г. 106 двароў, 556 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». Вяскоўцы М.К.Брылёў, П.І.Рыбакоў і В.Г.Саўчкаў загінулі ў сав.-фінляндскую вайну. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 47 вяскоўцаў загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 419 жыхароў, у 1970 г. 363 жыхары. У 1986 г. 197 жыхароў, у складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын), магазін і клуб. У 2002 г. 75 гаспадарак, 138 жыхароў. Рака падзяляе вёску на паўд. і паўн. часткі. Вуліцы арыентаваны шыротна. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВЕТКА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бялыніч, 41 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынічы—Шклоў. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы шлях». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 36 жыхароў. У 1986 г. 20 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін). У 2002 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВІШОЎ** — вёска, цэнтр Вішоўскага с/с, за 20 км на У ад Бялыніч, 26 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Мінск—Магілёў, на З р. Вабіч (прыток

Друці). 495 гаспадарак, 1224 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1649 г. пазначана ў кнізе земскіх актаў Аршанскага павета ў матэрыялах аб падзеле маёнтка Княжыцы паміж князямі Галоўчынскімі. Пазначана таксама пад 1667 г. як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. У 1717 г. сяло вылучана з маёнтка Рафалаўка і аддадзена пад заклад ордэну бенедыкцінцаў. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 28 двароў, 243 жыхары. У 1880 г. 46 двароў, 273 жыхары. Апрача землеробства частка вяскоўцаў займалася кравецкім і кушнерскім промысламі, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 53 двары, 373 жыхары, школа граматы, заезны дом. У 1909 г. 54 двары, 417 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. цэнтр Вішоўскага с/с Магілёўскага, з 5.4.1935 г. Бялыніцкага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 104 двары, 700 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1930-я г. тут засн. Беларуская МТС. Калгас у 1940 г. быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі, 7 механізатараў удастоіліся ордэнаў і медалёў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2 брацкіх магілах у цэнтры вёскі пахаваны 69 воінаў, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1980 г. пастаўлена стэла (скульптары А. і У. Крохалевы, М.Андрэеў). Паводле перапісу 1959 г. 228 жыхароў, у 1970 г. 449 жыхароў. У 1986 г. 1373 жыхары, цэнтр калгаса «Радзіма». Дзейнічалі машынны двор, 5 магазінаў, вучэбна-вытв. камбінат, сярэдняя і муз. школы, сталовая, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, бальніца, аптэка, 2 б-кі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, Дом механізатара, стацыянарная кінаўстаноўка. У 1977 г. да вёскі далучаны пасёлкі Беларускі, Зялёны. У 2002 г. 498 гаспадарак, 1222 жыхары. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Радзіма», дзіцячы сад, сярэдняя школа, Цэнтр культуры і адпачынку, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», магазін, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ў БелНДІдзіпрасельбудзе. Асн. частка вёскі размяшчаецца ўздоўж паўн. боку аўтадарогі. Гал. вуліца далучаецца пад вуглом да дарогі. На ёй знаходзяцца грамадскія будынкі, а таксама мураваныя двухпавярховыя 16—18-кватэрныя жылыя дамы.

У склад Вішоўскага с/с уваходзілі да 1971 г. пасёлкі Бярозаўка, Гарноўшчына, да 1974 г. пас. Каменка, да 1978 г. пасёлкі Беларускі, Падвысоцкі, Чырвоны Рубеж, вёскі Малы Нежкаў, Новая Вёска.

**ВОЛЬНІЦА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Бялыніч, 37 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 56 км ад Магілёва, побач аўтадарога Мінск—Магілёў. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

У 1897 г. 46 двароў, 285 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 51 двор, 318 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У 1940 г. 72 двары, 361 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 52 двары, загубілі 20 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 252 жыхары, у 1970 г. 210 жыхароў. У 1986 г. 111 жыхароў, у складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца). У 2002 г. 50 гаспадарак, 111 жыхароў. Планіроўка лінейная. Мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна,

драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВОСЛАЎКА** – вёска ў Машчаніцкім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Бялынiч, 32 км ад чыг. ст. Друць на лiнii Магілёў–Асіповічы, 48 км ад Магілёва, на аўтадарозе Мінск–Магілёў, на З р. Аслік (прыток Друці), на Пд і Пн мяжуе з лесам. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1630 г. у архіўных дакументах пазначана як сяло ў Бялыніцкай вол. Аршанскага павета. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. Паводле інвентару 1825 г. 3 дымы, 23 жыхары. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1857 г. ў Магілёўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. У 1897 г. засценак (2 двары, 19 жыхароў) і фальварак (1 двор, 8 жыхароў). У 1909 г. 5 двароў, 9 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 26 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 6 двароў, 29 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. воіны артыл. дывізіёна пад камандаваннем Б.Л.Хігрына адбілі каля вёскі некалькі атак гітлераўцаў і затрымалі варожае наступленне. Хігрын асабіста падбіў 4 танкі і загінуў у гэтым баі. 31.8.1941 г. яму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На месцы гібелі героя ў цэнтры вёскі ў 1976 г. пастаўлена стэла, а ў 1984 г. – 76-міліметровая гармата. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр – в. Вял. Машчаніца), дзейнічаў лесаўчастак. У 2002 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна, пад прамым вуглом да шашы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВУГОЛЬШЧЫНА** – вёска ў Цяхцінскім с/с, за 25 км на Пд ад Бялыніч, 67 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў–Асіповічы, побач аўтадарога Бялынічы–Быхаў, на У р. Друць (прыток Дняпра), на Пд мяжуе з лесам. 40 гаспадарак, 64 жыхары (2007).



*В.Альшэўскі. Мелодыя Кападокіі. 2007 г.*

За 0,8 км на ПдУ ад вёскі захавалася стараж. паселішча, за 0,5 км ад яго – курганны могільнік (102 насыпы), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1798 г. вёска Вугольшчызна, 77 жыхароў мужчынскага полу, ва ўладанні Бялыніцкага кармеліцкага кляштара. У 1817 г. 25 двароў, карчма, млын. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Цяхцін Магілёўскага павета, 159 жыхароў, карчма, млын, гарбарня, сукнавальня. Гаспадар маёнтка меў у 1868 г. ў вёсках Вугольшчына і Цяхцін 231 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню, заезны дом. У 1880 г. 40 двароў, 257 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім, калёсным, кавальскім і пяньковым промысламі, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. У 1895 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў 1907 г. пераўтворана ў земскую (у 1908 г. 42 вучні). Паводле перапісу 1897 г. ў Царковішчанскай вол. Магілёўскага павета, 66 двароў, 407 жыхароў. Побач размяшчалася аднайменная сядзіба, 1 двор, 22 жыхары. У 1909

г. ў вёсцы 76 двароў, 471 жыхар, у сядзібе — 2 двары, 13 жыхароў. У 1913 г. ўзведзены будынак для школы. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр Вугальшчынскага с/с Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 105 двароў, 541 жыхар, хата-чытальня. У 1928 г. арганізаваны калгас «Перамога», для школы ў 1937 г. пабудавана новае памяшканне. У 1940 г. 112 двароў, 445 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ў ліп. 1941 г. дзейнічаў першы ў раёне партыз. атрад. 12.12.1941 г. партызаны разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. Гітлераўцы ў чэрв. 1942 г. спалілі 110 дамоў, загубілі 34 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 13 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 365 жыхароў, у 1970 г. 301 жыхар. У 1986 г. 148 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), дзейнічалі магазін, клуб, б-ка. У 2002 г. 50 гаспадарак, 80 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы ўздоўж ракі і кароткай вуліцы на З ад яе. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма эканаміста, чл.-кар. НАН Беларусі В.Ф.Мядзведзева, бел. мастака В.У.Альшэўскага.


*В.У.Альшэўскі.*

**ВУШЛАВА** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Бялыніч, 61 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на У р. Вушлаўка (прыток р. Аслік), на аўтадарозе Шклоў—Бялынічы, на Пд мяжуе з лесам. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1907 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 87 жыхароў. У 1917 г. 120 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 29 двароў, 138 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Вушлава». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 8 двароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары, у 1970 г. 99 жыхароў. У 1986 г. 52 жыхары, у складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны). У 2002 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВЫЙЛАВА** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бялыніч, 55 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Паміж вёскамі Выйлава і Ількавічы пачынаецца р. Няропля (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Круглае. 30 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Вуйлава ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Ількавічы, 78 двароў, 418 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася калёсным промыслам. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 124 двары, 674 жыхары. У ліст. 1930 г. арганізаваны калгас «Дружба». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 349 жыхароў, у 1970 г. 237 жыхароў. У 1986 г. 91 жыхар, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). Дзейнічалі пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін. У 2002 г. 41 гаспадарка, 74 жыхары. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца арыентавана перпендыкулярна да прасёлачнай дарогі і забудавана двухбакова, нямшчыльна драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВЯЛІКАЯ МАШЧАНІЦА** — вёска, цэнтр Машчаніцкага с/с, за 8 км на ПдЗ ад Бялыніч, 32 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 50 км ад Магілёва, на аўтадарозе Мінск—Магілёў, на У і Пн р. Аслік (прыток Друці), на З мяжуе з лесам. 240 гаспадарак, 579 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1630 г. сяло, у Бялыніцкай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле інвентару 1825 г. вёска, 29 дымоў, карчма. У 1848 г. ў Магілёўскім павеце, 35 двароў. У 1850 г. адкрыта сукнавальня, пачала дзейнічаць гарбарня. У 1858 г. 115 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 92 двары, 608 жыхароў, млын, школа граматы, заезны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама, у 1908 г. школа граматы ператворана ў земскую. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку, у 1925 г. было 100 вучняў, дзейнічаў чырвоны куток. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1940 г. 150 двароў, 752 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. гітлераўцы спалілі 94 двары, загубілі 18 жыхароў. 86 вяскоўцаў змагаліся на франтах, 9 — у партызанах. 52 вяскоўцы загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях у чэрв. 1941 г. і пры вызваленні вёскі ў чэрв. 1944 г. Сярод пахаваных байцы 455-га стралк. палка 42-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту. Паводле перапісу 1959 г. 775 жыхароў. У 1986 г. 673 жыхары, цэнтр саўгаса імя К.Каліноўскага, дзейнічалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, ветэрынарны ўчастак, клуб, бальніца, аптэка, сталовая, 3 магазіны, аддз. ашчаднага банка, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 251 гаспадарка, 614 жыхароў. У 2007 г. дзіцячы сад, сярэдняя школа,б-ка, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1974 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Ад гал. вуліцы, размешчанай уздоўж ракі, адыходзяць другарадныя вуліцы. Каля аўтадарогі грамадскі цэнтр. Новае будаўніцтва на Пд, дзе ўзведзены будынкі школы, канторы саўгаса, 10 мураваных аднакватэрных, 2 мураваныя 12-кватэрныя жылыя дамы. Астатняя забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

У склад Машчаніцкага с/с уваходзілі да 1969 г. пас. Гаркавобаўка, да 1972 г. вёска Прахароўніца, да 1977 г. хутар Лапцінскі Бор.

**ВЯЛІКІ КУДЗІН** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бялыніч, 36 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Бялынічы—Шклоў, на р. Домса (прыток р. Запакулка, басейн Дняпра). 38 гаспадарак, 85 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1525 г. сяло ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета. У 1567 г. пазначана як с. Кудзін у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1577 г. цэнтр маёнтка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. 2 вёскі: Вялікае Кудзінава і Малое Кудзінава, у Магілёўскай акрузе. Дзейнічала драўляная царква. У 1785 г. ў в. Вялікі Кудзін 45 двароў, 249 жыхароў. У 1844 г. на месцы састарэлай пабудавана новая драўляная Георгіеўская царква. У 1858 г. 280 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Бялыніцкай вол. Магілёўскага павета, 97 двароў, 674 жыхары. У 1916 г. ў наёмным памяшканні адкрыта земская школа. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 155 двароў, 776 жыхароў. У лютым 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў, у 1970 г. 158 жыхароў. У 1986 г. 141 жыхар, у складзе калгаса «Камінтэрн»

(цэнтр — в. Малы Кудзін), магазін. У 2002 г. 45 гаспадарак, 104 жыхары. У 2007 г. ў складзе СВК «Кудзін». Прамалінейная мерыдыянальная вуліца ўздоўж ракі, перпендыкулярна да прасёлачнай дарогі, забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ВЯЛІКІ НЕЖКАЎ** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 18 км на У ад Бялыніч, 27 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Мінск—Магілёў, на У р. Вабіч (прыток Друці). 65 гаспадарак, 126 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын, 12 двароў, 89 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1848 г. пабудавана мураваная царква, мелася карчма; цэнтр Велікакняжацкай вол. (да 9.5.1923 г.) Магілёўскага павета. У 1880 г. 28 двароў, 161 жыхар. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. У 1909 г. 165 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Нежкаўскага с/с Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, у 1930 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна». У 1937 г. пачало дзейнічаць аддз. сувязі. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 54 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 257 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Камяніца), ветэрынарны ўчастак, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, бальніца, аптэка, аддз. ашчаднага банка, б-ка, аўтастанцыя. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Вялікі Нежкаў 236 жыхароў, у в. Малы Нежкаў — 189 жыхароў, у 1970 г. адпаведна 212 і 128 жыхароў. У 2002 г. 77 гаспадарак, 148 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, ад якой на З і У адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. На скрыжаванні гал. вуліцы і аўтадарогі — аўтобусная станцыя.

**ВЯЛІКІ ТРЫЛЕСІН** — вёска ў Бялыніцкім пас. Савеце, за 10 км на У ад Бялыніч, 35 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Мінск—Магілёў, на З р. Запакулка (прыток Друці), на Пн — яе прыток ручай Баран. 70 гаспадарак, 148 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1577 г. згадваецца як с. Трылесіна ў складзе маёнтка Цяцерын Аршанскага павета ВКЛ. У 1630 г. 33 гаспадаркі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. сяло Вялікі Трылесін (225 жыхароў) у складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета. У 1840 г. ў складзе фальварка Закапулле, 42 двары, 310 жыхароў. У 1880 г. 66 двароў, 367 жыхароў. Апрача земляробства насельніцтва займалася кавальскім промыслам, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 86 двароў, 528 жыхароў, школа граматы, вятрак. Побач была сядзіба Трылесін, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. школа граматы ператворана ў земскую. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 125 двароў, 769 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная горка». У 1940 г. 145 двароў, 750 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліп. 1941 г. дзейнічала падп. маладзёжная арг-цыя (10 чал., кіраўнікі У.В. Лапухін, І.А.Марозаў). Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, перадавалі партызанам медыкаменты і зброю. 5.5.1942 г. патрыёты пайшлі ў партызаны. 3.9.1942 г. гітлераўцы спалілі 6 двароў, загубілі 23 жыхароў (пахаваны ў магіле на паўн. ускраіне). У 1969 г. ў гонар падпольшчыкаў на Пд вёскі пастаўлены абеліск. 60 вяскоўцаў загінулі на франтах, 30 — у падп. і партыз. барацьбе. На ўшанаванне памяці 120 жыхароў з вёсак саўгаса «Бялынічы», якія загінулі ў

барацьбе супраць фашызму, у 1975 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1959 г. 446 жыхароў, у 1970 г. 392 жыхары. У 1986 г. 318 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялынічы» (цэнтр — г.п. Бялынічы). Дзейнічалі клуб, школа, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аптэка, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка. У 2002 г. 90 гаспадарак, 213 жыхароў. У 2007 г. ў складзе унітарнага камунальнага с.-г. прадпрыемства «Саўгас «Бялынічы», б-ка, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. ў БелНДІдзіпрасельбудзе. Гал. вуліца арыентавана шыротна, паралельна да шашы, мае двухбаковую шчыльную забудову. Жылыя дамы пераважна драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі. На Пд ад галоўнай кароткая вуліца, на якой узведзены двухпавярховыя 12-кватэрныя мураваныя дамы. Асн. частку забудовы складаюць драўляныя жылыя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Віцебшчыне ў Вял. Айч. вайну Л.І.Сяліцкага, які з ліст. 1942 г. да крас. 1944 г. быў камандзірам партыз. брыгады 1-й імя К.С.Заслонава і адначасова з чэрв. 1943 г. 1-м сакратаром Аршанскага падп. райкома КП(б)Б.

**ГАЛОЎЧЫН** — вёска, цэнтр Галоўчынскага с/с, за 18 км на ПнУ ад Бялыніч, 30 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Магілёў—Круглае, на У р. Вабіч (прыток Друці), а на Пд яе прыток — ручай. 238 гаспадарак, 504 жыхароў (2007).

У летапісах згадваецца пад назвай Галацігаск. У 1071 г. ў баі каля вёскі полацкі кн. Усяслаў быў разбіты кн. уладзіміравалынскім і тураўскім Яраполкам Ізяславічам. У 1443 г. ўпамінаецца ў даравальнай грамаце Ю.Лугвятовіча манастыру святога Ануфрыя. 1457 г. пазначана ў іншых спадчынных запісах ВКЛ. У 1501 г. ў валоданні каралевы Алены Іванаўны, дачкі рус. цара Івана III, жонкі вял. князя літ. Аляксандра, з 1534 г. ў валоданні Ануфрыеўскага манастыра, пазней належаў князям Галоўчынскім, Патоцкім, віленскаму ваяводу Пацу. У 1573 г. засн. касцёл. У 1567 г. цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 16 ст. засн. кальвінскі збор. У 1583 г. сяло ўпамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы. У 1584 г. пазначаны як горад разам з Оршай, Копысем і Шкловам, у 1623 г. мястэчка. Пад 1646 г. пазначаны ў дакументах аб размеркаванні маёнткаў Цяцерына і Галоўчын. У рус.-польскую вайну 1654—67 гг. каля Галоўчына адбылася бітва паміж рус. і польскімі войскамі, а 3.7.1708 г. шведскі кароль Карл XII тут атрымаў сваю апошнюю перамогу над рус. войскамі. Амаль поўнасцю Галоўчын быў спалены ў 1654 і 1708 гг. Пад 1710 г. пазначаны ў матэрыялах расходнай кнігі Магілёва. У 1728 г. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 107 двароў, млын і сукнавальня. Непадалёку быў аднайменны фальварак. Каля вёскі захаваліся 2 гарадзішчы і паселішча 16—18 ст. На адным гарадзішчы зберагліся рэшткі падземных мураваных збудаванняў позняга феадалізму. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. 116 двароў, 891 жыхар, 2 царквы, млын на р. Вабіч, сукнавальня. У вайну 1812 г. каля вёскі дзейнічаў атрад Дз.Давыдава. У 1858 г. пабудавана Троіцкая царква. У 1861 г. 1402 жыхары, працаваў вінакурны з-д (8 рабочых). Два памешчыкі мелі тут у 1869 г. 1844 дзес. зямлі і карчму. Праз вёску праходзіў Віленскі паштовы тракт. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім, кравецкім, шавецкім, кавальскім, калёсным, сталярным і бандарным промысламі. У 1883 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Два разы на год праводзіліся кірмашы. Непадалёку існавалі аднайменныя фальварак (1 двор, 10 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 1 жыхар). У 1909 г. ў мястэчку 201 двор, 1603 жыхары, у сядзібе 1 двор, 2 жыхары.

З лютага да кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1923 г. арганізавана ме-



А.І.Магілёўчык.



Р.С.Аксельрод.



Е.А.Магілеўчык.

лірацыйнае т-ва, у 1924 г. адкрыта хатачытальня. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 290 двароў, 1700 жыхароў. У 1928 г. пачала дзейнічаць сыраробчая майстэрня. У снеж. 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930-х г. пач. школа ператорана ў 7-гадовую, для якой у 1936 г. пабудавана новае памяшканне, дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, ветлячэбніца, аддз. сувязі, клуб. У Вял. Айч. вайну ў раёне Галоўчын—Цяцерын—Круглае воіны 100-й і 164-й стралк. дывізій вялі ў 1941 г. цяжкія абарончыя баі супраць ням.-фаш. танкавых войск. Партыз. брыгада «Чэкіст», якая дыслацыравалася ў асн. у Шклоўскім р-не, двойчы граміла варожы гарнізон у Галоўчыне. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 178 двароў і загубілі 201 жыхара. Ураджэнка вёскі, настаўніца сярэдняй школы Н.С.Бельская была ў час вайны сакратаром Вілейскага падп. гаркома камсамола. 27.6.1944 г. воіны 42-й стралк. дывізіі вызвалілі вёску. У баі за Галоўчын вызначыўся старшы лейтэнант С.Р.Церашкевіч, які ў рашаючы момант контратакі падарваў гранатай фашысцкі танк і сам загінуў (пасмяротна прысвоена званне Героя Сав. Саюза). У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 51 воін 455-га і 472-га артыл. палкоў 42-й стралк. дывізіі 40-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ці памерлі ад ран 27—28.6.1944 г. С.К.Слукін у час вайны апынуўся ў Харкаве, быў адным з арганізатараў падполля, затрыманы гітлераўцамі і павешаны. Пасля вызвалення ў вёсцы некаторы час знаходзіліся 2 палявыя шпіталі. 258 вяскоўцаў змагаліся на франтах, 139 — у партыз. атрадах, 72 з іх загінулі. У цэнтры вёскі на ўшанаванне іх памяці ў 1970 г. пастаўлены абеліск. У 1952—56 гг. літаратурны гурток мясц. школы выпускаў рукапісны часопіс «Залаты ранак». Паводле перапісу 1959 г. 811 жыхароў, у 1970 г. 676 жыхароў.

У 1986 г. вёска, цэнтр калгаса «Наша перамога», дзейнічалі рамонта-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя і муз. школы, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, бальніца, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аптэка, б-ка, дзіцячы сад-яслі, краязнаўчы музей. У 2002 г. 246 гаспадарак, 601 жыхар. У 2007 г. сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ў БелНДІдзіпрасельбудзе. Аснову крыжападобнай планіроўкі складаюць 2 ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы. Першая — участак аўтадарогі Круглае—Магілёў, мерыдыянальнай арыентацыі, другая — участак аўтадарогі Бялынічы—Шклоў. У месцы іх перакрыжавання — грамадскі цэнтр. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. На вуліцы Садовай, што за ручаём і арыентавана шыротна, пабудаваны аднапавярховыя 1—2-кватэрныя мураваныя дамы. Радзіма вынаходцы, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР Р.С.Аксельрода, ген. арміі Я.І.Бычкоўскага, ген.-маёра С.А.Магілеўчыка, доктара медыцыны Л.Л.Галынца, засл. настаўніцы Беларусі Ю.А.Марозавай, засл. ўрача Рас. Федэрацыі І.М.Шчэлкі, чл.-кар. Акадэміі медыцынскіх навук Рас. Федэрацыі, засл. дзеяча навукі БССР, доктара медыцынскіх навук З.К.Магілеўчыка, засл. артыста Рас. Федэрацыі Г.А.Каралькова.

У склад Галоўчынскага с/с уваходзілі да 1968 г. пас. Ліпнішчына, да 1971 г. пас. Галдобуршчына, да 1974 г. пас. Новая Сакалоўка, да 1975 г. пас. Рубеж, да 1976 г. в. Старая Сакалоўка, да 1978 г. пасёлкі Сасніца, Чырвоная Звязда, да 1980 г. вёска Высокае (зараз не існуюць).

**ГАРЦАВА** — пасёлак у Лебядзянкаўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Бялыніч, 19 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 38 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і да-

лей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Беларусь». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 8 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў, у 1970 г. 62 жыхары. У 1986 г. 28 жыхароў, у складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка). У 2002 г. 18 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, якую прасёлачная дарога падзяляе на паўн. і паўд. часткі. Жылыя дамы драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГЛЫБОКІ БРОД** — вёска ў Запольскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Бялыніч, 30 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 70 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі, у лесе, захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска ўзнікла ў 1920-я г. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э. Дзяржынскага. Дзейнічала школа, для якой у 1934 г. ўзведзены ўласны будынак. З 23.8.1937 г. да 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. У 1940 г. 40 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі 7 дамоў, загубілі 6 жыхароў. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 58 воінаў 42-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі 29—30.6.1944 г., і 22 партызаны 760-й брыгады імя М.Беразоўскага, што загінулі ў лютым 1944 г. 17 землякоў не вярнуліся з фронту. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), дзейнічалі 8-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, лясніцтва. У 2002 г. 38 гаспадарак, 80 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГНЯЗДЗІН** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 21 км на У ад Бялыніч, 29 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 34 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1743 г. па архіўных звестках значыцца як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 24 двары, 189 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 34 двары, 198 жыхароў. Апрача земляробства сяльчане займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, бандарным і калёсным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 46 двароў, 302 жыхары, школа граматы. У 1909 г. 59 двароў, 368 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У былым маёнтку ў 1925 г. была створана с.-г. арцель. У 1926 г. 84 двары, 471 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Сярод іх сакратар Бялыніцкага падп. райкома ЛКСМБ К.Калакустаў. У 1977 г. да вёскі далучаны пас. Падвысоцкі. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў. У 1986 г. 118 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вішоў), клуб, магазін. У 2002 г. 40 гаспадарак, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГОЛУБАЎКА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Бялыніч, 26 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аў-



*З.К.Магілейчык.*



*Л.І.Дракін.*



*Ю.А.Марозава.*

тадарозе Мінск—Магілёў. 51 гаспадарка, 125 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пад 1777 г. пазначана ў архіўных дакументах як вёска ў Магілёўскай акрузе. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Пясчынка. У 1880 г. 18 двароў, 103 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 23 двары, 162 жыхары, школа граматы. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 59 двароў, 273 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «14 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары, у 1970 г. 229 жыхароў. У 1986 г. 191 жыхар, у складзе калгаса імя М.В. Фрунзе (цэнтр — в. Ермалавічы), магазін, пач. школа. У 2002 г. 65 гаспадарак, 156 жыхароў. Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГОРДАВА** (да 1964 г. Лапніна) — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 23 км на З ад Бялыніч, 61 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска, 12 двароў, 75 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 16 двароў, 136 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны гордавак». У 1940 г. 31 двор. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары, у 1970 г. 129 жыхароў. У 1986 г. 98 жыхароў, у складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле). У 2002 г. 14 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГОРКА** (да 21.1.1969 г. Пасёлак №4) — пасёлак у Машчаніцкім с/с, за 9 км на З ад Бялыніч, 37 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Мінск, 54 км ад Магілёва, на Пд і З р. Аслік (прыток Друці), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 17 двароў. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. пасёлак у складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца), магазін. У 2002 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГУРЫ** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Бялыніч, 32 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на У р. Вабіч (прыток Друці), побач аўтадарога Круглае—Магілёў. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

У 1982 г. тут пачаў дзейнічаць вінакурны з-д (9 рабочых). У 1897 г. фальварак (27 жыхароў) у Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета. У 1919 г. створана с.-г. арцель, 21.2.1922 г. — земляробчая арцель, у 1924 г. — садова-агароднае т-ва «Культура». У 1926 г. 7 двароў, 43 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоны калектывіст». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 59 жыхароў. У 1986 г. 28 жыхароў, у складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын). У 2002 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі

ўчасткамі. Радзіма засл. артыста Беларусі У.М.Рагаўцова.

**ГУТА** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Бялыніч, 25 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 37 км ад Магілёва, на З р. Друць (прыток Дняпра), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

У 1849 г. памешчык меў тут 117 дзес. зямлі. У 1858 г. 33 рэвізскія душы, у Магілёўскім павеце. З 1870 г. дзейнічала смалакурня. У 1880 г. 16 двароў, 92 жыхары. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 23 двары, 163 жыхары. У 1909 г. 27 двароў, 229 жыхароў. У 1915 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным сял. памяшканні. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 51 двор, 251 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі 48 двароў і загубілі 16 жыхароў. 30 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 152 жыхары, у 1970 г. 131 жыхар. У 1986 г. 85 жыхароў, у складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка), магазін, клуб. У 2002 г. 33 гаспадаркі, 64 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГУТА** — вёскаў Цяхцінскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 62 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

У 1897 г. ў Царковішчанскай вол. Магілёўскага павета, 5 двароў, 31 жыхар, вадзяны млын. У 1909 г. 50 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы быт». У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 35 жыхароў, у 1970 г. 29 жыхароў. У 1986 г. 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў. Вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ДАБРЫЛАВІЧЫ** — вёска ў Запольскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бялыніч, 26 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 66 км ад Магілёва, на паўд.-ўсх. ускраіне р. Ліпаўка (прыток р. Малыш, басейн Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 43 гаспадаркі, 60 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1500 г. як сяло ў Любашанскай вол. ВКЛ, уласнасць казны. У 1738 г. 4 дымы, у Любашанскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1775 г. 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 218 жыхароў, у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 40 двароў, 302 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 69 двароў, 928 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 329 жыхароў, у 1970 г. 301 жыхар, у 1986 г. 165 жыхароў. У складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 55 гаспадарак, 86 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна, уздоўж ракі. На Пн перпендыкулярна да яе праходзіць шыротная вуліца. Паралельна да галоўнай размешчаны 2 кароткія вуліцы. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.



*У.М.Рагаўцоў.*

**ДАЛЬНЯЯ** — вёска ў Запольскім с/с, за 32 км на Пд ад Бялыніч, 14 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 73 км ад Магілёва, на ПнУ р. Малыш (басейн Друці), на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынічы—Быхаў. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Ліпаўка захавалася гарадзішча, у культурным пласце якога знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка ранняга этапу зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур, што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска ўзнікла ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі 8 двароў, загубілі 6 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў, у 1970 г. 43 жыхары. У 1986 г. 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ДЗЕВАШЫЦКІ** — пасёлак у Эсьмонскім с/с, за 18 км на З ад Бялыніч, 61 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Крупка (прыток р. Проня), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Вядомы па пісьмовых крыніцах з пач. 20 ст. У 1907 г. ферма Дзявошыцы, 1 двор, 8 жыхароў, у Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. хутар, 57 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «1-ы партз'езд». У 1940 г. 11 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 3 двары, расстралялі 2 жыхароў. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ДЗЕВАШЫЧЫ** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 18 км на З ад Бялыніч, 61 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на р. Чарнаўка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 38 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

За 0,1 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Аслік, захавалася паселішча, за 0,1 км на У ад яго — курганны могільнік (31 насып), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 305 жыхароў, вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 1907 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета, 50 двароў, 332 жыхары. У 1917 г. 380 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1919 г. адкрыта школа (у 1925 г. 44 вучні). У 1924 г. 84 двары, 471 жыхар, хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд». У 1940 г. 102 двары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалії 55 двароў, загубілі 11 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў, у 1970 г. 280 жыхароў. У 1986 г. 134 жыхары, у складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны), клуб, магазін. У 2002 г. 52 гаспадаркі, 96 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, і адасобленых участкаў. Забудова пераважна двухбаковая, няшчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ДРОБАЎКА** (да 21.1.1969 г. Пасёлак №5) — пасёлак у Машчаніцкім с/с, за 16 км на З ад Бялыніч, 38 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 56 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 41 двор, 179 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца). У 2002 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ДРУЦЬ** — чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, у Цяхцінскім с/с, за 38 км на Пд ад Бялыніч, 76 км ад Магілёва, на У р. Друць (басейн Дняпра), на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Бялынічы—Быхаў, Магілёў—Мінск. 26 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

За 0,1 км на Пд ад станцыі на левым беразе р. Друць захавалася стаянка эпохі неаліту, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Засн. чыг. станцыя ў канцы 1920-х г. у сувязі з пачаткам руху па чыгунцы Магілёў—Асіповічы. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паблізу дзейнічалі 277-ы, 620-ы, 113-ы партыз. атрады і 121-ы партыз. полк. 9 жыхароў загінулі на фронце, 12 — у партыз. барацьбе. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), магазін. У 2002 г. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў. Працуе аграгандл. прадпрыемства «Друць». Дзве прамалінейныя вуліцы на Пн ад чыгункі арыентаваны шыротна і забудаваны двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі. На вуліцы, што побач з чыгункай, размешчаны будынак вакзала і двухпавярховы 8-кватэрны дом чыгуначнікаў.

**ДРУЧАНЫ** (да 1924 г. вёска Брасневічы) — вёска ў Запольскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 74 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 23 гаспадаркі, 49 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 192 жыхары. Непадалёку была сядзіба Дручаны (яна ж Палюўшчына), 3 двары, 33 жыхары. У 1907 г. 38 двароў, 293 жыхары. У 1911 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Дзейнічала школа (у 1925 г. 80 вучняў). З 1.10.1924 г. да 1931 г. цэнтр Дручанскага с/с Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі. У 1928 г. створана сыраробчая майстэрня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны гаспадар». Мясц. моладзь была ініцыятарам стварэння гурткоў па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (83 двары) і загубілі 21 жыхара. 30.6.1944 г. каля вёскі адбыўся бой 35-га партыз. атрада з гітлераўцамі, у якім акупанты панеслі вял. страты, а партызаны ўзялі багатыя трафеі. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 290 жыхароў, у 1970 г. 221 жыхар. У 1986 г. 136 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), клуб і магазін. У 2002 г. 31 гаспадарка, 63 жыхары. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Ад яе цэнтр. часткі перпендыкулярна адыходзяць завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма Героя Сац. Працы Г.Я.Цэдрык, ген.-маёра авіяцыі І.В.Цімаховіча і засл. настаўніка Беларусі Л.В.Цімаховіча.



*І.В.Цімаховіч.*

**ДУБРОВА** — пасёлак у Цяхцінскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы

ўступілі ў калгас. У 1940 г. 8 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 35 жыхароў, у 1970 г. 27 жыхароў. У 1986 г. 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. дамамі.

**ДУЦЬКІ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 18 км на Пд ад Бялыніч, 27 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 61 км ад Магілёва, на Пд, Пн і У мяжуе з лесам. Каля вёскі пачынаецца р. Ліпаўка (прыток р. Малыш, басейн Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 10 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў, у 1970 г. 109 жыхароў. У 1986 г. 62 жыхары, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЕРМАЛАВІЧЫ** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 22 км на У ад Бялыніч, 21 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Мінск—Магілёў. Каля вёскі пачынаецца р. Лахвіца (прыток р. Лахва, басейн Дняпра). 102 гаспадаркі, 219 жыхароў (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 17 ст. Паводле архіўных звестак у 1632 г. вёска у Аршанскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. У 1667 г. цэнтр аднайменнага маёнтка. У 1785 г. 16 двароў, 101 жыхар. У 1880 г. 38 двароў, 237 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. Памешчык у 1882 г. меў тут 1162 дзес. зямлі. У 1885 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1897 г. вёска Ермалавічы-Лохвіца ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета, 65 двароў, 445 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейная крама. У 1909 г. ў вёсцы 65 двароў, 447 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1922 г. мясц. школе перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 49 вучняў). У 1926 г. 123 двары, 681 жыхар. Дзейнічала садова-агароднае т-ва. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1940 г. за поспехі ў жывёлагадоўлі быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 98 двароў. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 255 жыхароў. У 1986 г. 361 жыхар, цэнтр калгаса імя М.В.Фрунзе, дзейнічалі рамонтна-механічная майстэрня, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, пач. школа, дзіцячы сад, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сталовая. У 1950 г. да вёскі далучаны пас. Мінёры. У 2002 г. 115 гаспадарак, 244 жыхары. У 2007 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц (2 мерыдыянальныя, паралельныя паміж сабой, 3-я паралельна да аўтадарогі з мураванымі двухпавярховымі 8-кватэрнымі дамамі). Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Каля аўтадарогі аўтобусная станцыя.

**ЖОРНАЎКА** — пасёлак у Цяхцінскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Бялыніч, 32 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 62 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 7 двароў, 40 жыха-

роў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 29 жыхароў, у 1970 г. 19 жыхароў. У 1986 г. 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Кароткая мерыдыянальная вуліца забудавана няшчыльна драўлянымі сял. дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЗААЗЕР'Е** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Бялыніч, 45 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск, 63 км ад Магілёва, на Пн і З мяжуе з лесам. На У знаходзіцца воз. Заазерскае і цячэ р. Клява (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 68 гаспадарак, 96 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1590 г. як сяло, 20 жыхароў мужчынскага полу. У 1886 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 34 двары, 297 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 515 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1914 г. адкрыта школа. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 107 двароў, 653 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны гудок», працаваў паравы млын. У 1940 г. 110 двароў, 421 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў ліп. 1941 г. сав. воіны вялі цяжкія абарончыя баі. Гітлераўцы спалілі ў ліп. 1941 г. 108 двароў, загубілі 22 жыхароў. У лясах дыслацыраваўся партыз. атрад імя Жуніна. Непадалёку знаходзіўся партыз. аэрадром, на які прыляталі самалёты з «вялікай зямлі». Каля вёскі 29.6.1944 г. партызаны Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі. На вясковых могілках пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў ліп. 1941 г., і 15 партызан, што загінулі ў 1942—44 гг. Паводле перапісу 1959 г. 378 жыхароў, у 1970 г. 463 жыхары. У 1986 г. 227 жыхароў, у складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны), дзейнічалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа, магазін. У 2002 г. 78 гаспадарак, 144 жыхары. У 2007 г. фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе ўсх. боку пачынаецца другая вуліца, што агінае возера. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Вёска на тэр. гідралагічнага заказніка Заазер'е.

**ЗАБАВЫ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Бялыніч, 30 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 59 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

Паводле інвентару 1825 г. вёска, 14 дымоў, 104 жыхары. У 1857 г. ў Магілёўскім павеце, 34 рэвізскія душы. У 1880 г. 19 двароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым промыслам, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. ў Царковішчанскай вол. Магілёўскага павета, 25 двароў, 176 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 27 двароў, 181 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. 1.10.1924 г. адкрыта 4-класная школа (у 1925 г. 56 вучняў). У 1926 г. 54 двары, 347 жыхароў. У 1926 г. арганізаваны калгас «Новы быт». У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічалі 600-ы, 35-ы



*Возера Заазерскае ў Бялыніцкім раёне.*

і 13-ы партыз. атрады. 18 вяскоўцаў загінулі ў баях з акупантамі. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў, у 1970 г. 157 жыхароў. У 1986 г. 82 жыхары, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), магазін. У 2002 г. 28 гаспадарак, 45 жыхароў. Аснову планіроўкі складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Гал. вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.



В.В.Буякова.



С.Д.Вайтовіч.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Бялыніч, 31 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Бялынічы—Шклоў, на зах. ускраіне р. Вабіч (прыток Друці). 45 гаспадарак, 86 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1632 г. сяло (10 валок зямлі), у складзе маёнтка Навасёлкі, затым падаравана Княжыцкаму кармеліцкаму касцёлу. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 62 двары, 378 жыхароў. У 1880 г. 81 двор, 419 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 103 двары, 701 жыхар, школа граматы, ператвораная ў 1908 г. ў земскую. У 1909 г. 116 двароў, 813 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 180 двароў, 914 жыхароў, школа (у 1925 г. 84 вучні). У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік». Вяскоўцы С.М.Майстраў, П.С.Майстраў, С.П. Савіцкі і С.І.Сцесяў загінулі ў час сав.-фінляндскай вайны. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны ў жн. 1943 г. разграмілі каля вёскі варожую аўтакалону. Гітлераўцы спалілі 42 двары. 49 вяскоўцаў загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе, 7 — ад рук фашыстаў. Паводле перапісу 1959 г. 486 жыхароў, у 1970 г. 332 жыхары. У 1986 г. 188 жыхароў, у складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын), дзейнічалі лясніцтва, магазін, аддз. сувязі, клуб, б-ка. У 2002 г. 56 гаспадарак, 106 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн уздоўж ракі і забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Бялыніч, 39 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 57 км ад Магілёва, побач аўтадарога Мінск—Магілёў, на У мяжуе з лесам, на З — балота. 31 гаспадарка, 52 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1595 г. як сяло, 4 дымы, памешчыцкая ўласнасць. Паводле інвентару 1825 г. ў складзе фальварка Ключы, 18 дымоў, 166 жыхароў. У 1857 г. ва ўласнасці памешчыкаў Кажушкоўскіх. У 1880 г. 20 двароў, 168 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым і кравецкім промысламі, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, а таксама посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Царковішчанскай вол. Магілёўскага павета, 35 двароў, 263 жыхары. Паблізу была сядзіба. У 1907 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 54 двары, 327 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Г.Дзімітрава. У 1940 г. 109 двароў, 538 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 68 двароў, расстралялі 8 жыхароў. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 393 жыхары, у 1970 г. 365 жыхароў. У 1986 г. 203 жыхары, у складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца), дзейнічалі Асавецкае лясніцтва, пач. школа, клуб, магазін. У 2002 г. 46 гаспадарак, 76 жыхароў. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма Героя Сац. Працы В.В.Буяковай, доктара гіст. навук С.Д.Вайтовіча.

**ЗАЛІП'Е** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 15 км на Пн ад Бялыніч, 60 км ад

абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пн р. Чыгірынка (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынічы—Круглае. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 57 жыхароў, у 1970 г. 36 жыхароў. У 1986 г. 17 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЗАМАЧУЛЛЕ** — вёска ў Запольскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Бялыніч, 18 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 67 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 43 гаспадаркі, 92 жыхары (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі захавалася паселішча, на зах. ускраіне — курганны могільнік (48 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле інвентару 1825 г. ў складзе фальварка Ксаверава, 20 дымоў, 153 жыхары. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць, 86 рэвізскіх душ. У 1880 г. 31 двор, 237 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, а таксама посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1897 г. ў Царковішчанскай вол. Магілёўскага павета, 51 двор, 369 жыхароў, школа граматы. Паблізу была памешчыцкая сядзіба. У 1909 г. 65 двароў, 480 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. на хутары Замачулле адкрыта школа (у 1925 г. 67 вучняў). З 20.8.1924 г. да 1931 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі. У 1926 г. 91 двор, 577 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная дуброва». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 7 двароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 444 жыхары, у 1970 г. 387 жыхароў. У 1986 г. 187 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, 8-гадовая школа, магазін. У 2002 г. 54 гаспадаркі, 112 жыхароў. Гал. вуліца паўн. часткі арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Паралельна ад яе праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Паўд. частка складаецца з 2 кароткіх вуліц. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма бел. гісторыка, доктара гіст. навук, праф. А.М.Малашкі.



*А.М.Малашка.*

**ЗАПАКУЛЛЕ** — вёска ў Бялыніцкім пас. Савеце, за 5 км на У ад Бялыніч, 40 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на паўн. ускраіне р. Запакулка (прыток р. Няропля). 29 гаспадарак, 59 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1630 г. сяло, 33 гаспадаркі, у Бялыніцкай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пад 1777 г. пазначана ў ліку населеных месц Магілёўскай акругі Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы, 19 двароў, 124 жыхары. Паводле інвентару 1825 г. цэнтр фальварка, у якім 71 дым, 543 жыхары. У 1845 г. ў вёсцы 53 двары. Памешчык Мясаедаў меў у 1869 г. ў Бялынічах, вёсках Аксенькавічы, Бярозаўка, Запакулле, Ключкі, Міхалева, Ослік, Пачапок, Рудня, Трылесін 22 092 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 2 сукнавальні, крупадзёрку, піцейны дом, дзягцярны, піваварны, вінакурны і цагельны з-ды. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол. Магілёўскага павета, 116 жыхароў. У 1909 г. 45 двароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 41 двор, 208 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «13-ы Кастрычнік». У 1940 г. 40 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе.



*Крыж, перароблены з язычніцкага ідала, у в. Заполле.*

Паводле перапісу 1970 г. 145 жыхароў. У 1986 г. 98 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялынічы» (цэнтр — г.п. Бялынічы), магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 40 гаспадарак, 88 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска, цэнтр Запольскага с/с, за 22 км на ПдЗ ад Бялыніч, 50 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 64 км ад Магілёва, на ўсх. ускраіне р. Ліпаўка (прыток р. Малыш), на якой у паўн. частцы створана невялікае вадасховішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 163 гаспадаркі, 448 жыхароў (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі захавалася паселішча, на зах. ускраіне — курганны могільнік (948 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. Пад 1738 г. пазначана як сяло, уласнасць казны. У 1775 г. 10 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 43 двары, 299 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 55 двароў, 480 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. і з 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. У 1926 г. 76 двароў, 487 жыхароў. У 1928 г. пачалі дзейнічаць б-ка і кінаўстаноўка. У 1929 г. арганізаваны калгас «Вызваленне», працаваў вадзяны млын. У 1937 г. адкрыта аддз. сувязі. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ваколіцах дыслацыраваўся 122-і партыз. атрад «За Радзіму». 13.4.1943 г. партызаны разграмілі ням.-паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. Гітлераўцы спалілі 8 двароў і загубілі 9 жыхароў. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 27 воінаў і 9 партызан 25-га асобнага партыз. палка, у т.л. камісар атрада А.М. Латышаў, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. 18 землякоў не вярнуліся з фронту. На ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 346 жыхароў, у 1970 г. 396 жыхароў. У 1986 г. 374 жыхары, цэнтр саўгаса «Падзевічы», меліся гандл. цэнтр, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, дзіцячы сад, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, б-ка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 156 гаспадарак, 432 жыхары. У 2007 г. цэнтр УКСП «Саўгас Падзевічы», сярэдняя школа, б-ка, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Гал. вуліца з'яўляецца працягам дарогі Дручаны—Рудня. Ад паўд. яе часткі адыходзяць на З вуліца Бельскага, на У — вуліца Школьная. У паўд. частцы на вуліцы Цэнтральнай — грамадскі цэнтр і невялікі сквер. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. На вуліцы Маладзёжнай узведзены мураваныя аднапавярховыя жылыя дамы.

**ЗОРКА** – пасёлак у Лебядзянкаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Бялыніч, 25 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 40 км ад Магілёва, на паўд. ускраіне р. Вабіч (прыток Друці), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 28 жыхароў, у 1970 г. 26 жыхароў. У 1986 г. 16 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Студзёнка). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Кароткая вуліца з двухбаковай забудовай арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Жылыя дамы драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ІВАНАЎКА** – пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 3 км на Пн ад Бялыніч, 48 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў, у 1970 г. 23 жыхары. У 1986 г. 11 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр – в. Ланькава). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Кароткая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ІГЛІЦА** — вёска ў Запольскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Бялыніч, 32 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 74 км ад Магілёва, на паўн. ускраіне р. Малыш (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1738 г. сяло, 7 дымоў, у Любашанскім старостве Аршанскага павета, уласнасць казны. У 1775 г. 11 дымоў. Паводле перапісу 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 25 двароў, 239 жыхароў. У 1907 г. 38 двароў, 316 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), клуб, магазін, пач. школа. У 2002 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 паралельныя паміж сабой мерыдыянальныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ІЗОБІШЧА** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 26 км на У ад Бялыніч, 24 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Магілёў—Круглае. 55 гаспадарак, 100 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1649 г. пазначана ў кнізе актаў Аршанскага павета ў сувязі з падзелам маёнтка Княжыцы паміж князямі Галоўчынскімі. У 1717 г. аддадзена ў залог ордэну бенедыкцінцаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Булыжыцы Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, уласнасць княжыцкага дамініканскага кляштара, 30 двароў, 272 жыхары. Па дадзеным 1845 г. мелася карчма. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол., 45 двароў, 325 жыхароў, школа граматы, якая ў 1908 ператворана ў земскую і размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). У 1909 г. 53 двары, 401 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 49 двароў, загубілі 26

жыхароў. На могілках пахаваны 4 жыхары, якія загінулі на фронце, 7 — у партыз. барацьбе Паводле перапісу 1959 г. 374 жыхары, у 1970 г. 327 жыхароў. У 1986 г. 220 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі), дзейнічалі клуб, пач. школа, магазін, Дом жывёлавода. У 2002 г. 58 гаспадарак, 113 жыхароў. Прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.



*В.І.Якубаў.*

**ІЛЬКАВІЧЫ** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 11 км на Пн ад Бялыніч, 56 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Паміж вёскамі Ількавічы і Выйлава пачынаецца р. Няропля (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы. 43 гаспадаркі, 78 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У архіўных дакументах 1777 г. пазначана як сяло ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. цэнтр маёнтка Магілёўскага павета, 56 двароў, драўляная царква. У 1846 г. ў вёсцы 367 жыхароў, у фальварку 27 жыхароў, у складзе маёнтка Круглае. Мясц. памешчык у 1873 г. меў 2494 дзес. зямлі, 2 ветраныя млыны, сукнавальню, 3 карчмы. У 1880 г. 55 двароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася калёсным і бандарным промысламі. У гэтым жа годзе адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1912 г. пабудавана памяшканне, дзейнічала б-ка. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 473 жыхары, хлебазапасны магазін, у Цяцерынскай вол.; адзін раз на год праводзіўся таржок. Побач былі фальварак (1 двор, 15 жыхароў) і заезны дом (11 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 509 жыхароў, у фальварку 24 жыхары. Дзейнічала казённая вінная крама. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 123 двары, 717 жыхароў, школа (у 1925 г. 133 вучні). У 1923 г. арганізавана камуна «Чырвоны бор», у ліст. 1930 г. — калгас «Ільіч», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 69 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 34 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў, у 1970 г. 249 жыхароў. У 1986 г. 93 жыхары, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра), 8-гадовая школа, клуб, магазін, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, радыёвузел (з 1958 г.). У 1977 г. далучана в. Каменка. У 2002 г. 58 гаспадарак, 104 жыхары. У 2007 г. фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы і паралельнай да яе кароткай прамалінейнай вуліцы. Іх аб'ядноўвае папярочная вуліца, на перакрыжаванні — грамадскі цэнтр. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма Героя Сац. Працы В.І.Якубава.

**ІСКРА** (да 1930 г. Карчы) — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 11 км на Пн ад Бялыніч, 56 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на левым беразе р. Друць (басейн Дняпра), побач аўтадарога Шклоў—Бялынічы. 90 гаспадарак, 250 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. На ўшанаванне памяці землякоў з вёсак калгаса «Іскра», загінуўшых у Вял. Айч. вайну, у 1972 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 171 жыхар, у 1970 г. 159 жыхароў. У 1986 г. 220 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ільіча, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад, пач. школа, б-ка, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. стацыя. У 2002 г. 86 гаспадарак, 255 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СПК «Ількавічы», б-ка, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1972 г. ў Магілёўскім філіяле Белкалгаспраекта. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца, дзе ўзведзены грамадскія будынкі, а таксама

двухпавярховыя 4—8-кватэрныя мураваныя жылыя дамы, пачынаецца каля аўтадарогі. Забудова двухбаковая, шчыльная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАЛІНІНА** (да 1961 г. Каліноўка) — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Бялыніч, 35 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «КІМ». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 8 землякоў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін). У 2002 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАЛІНОЎКА** (да 5.8.1929 г. Царковішча) — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 13 км на Пд ад Бялыніч, 25 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 59 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1798 г. вёска Царковішча, 48 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Бялыніцкага кармеліцкага кляштара. У 1817 г. 21 двор, дзейнічала карчма. У 1845 г. пабудавана драўляная Троіцкая царква. У 1875 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў 1916 г.ператворана ў земскую. Мясц. памешчык меў у 1878 г. 255 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1880 г. 26 двароў, 182 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным, бандарным, кравецкім промысламі, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр Царковішчанскай вол., 51 двор, 351 жыхар. Мелися царква, хлебазапасны магазін, заезны дом, адзін раз на год праводзіўся таржок. У 1909 г. 57 двароў, 369 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. цэнтр Царковішчанскага, з 5.8.1929 г. да 16.7.1954 г. Каліноўскага с/с Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд», з 1935 г. дзейнічала МТС. У 1940 г. 110 двароў, 456 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. партызаны разграмілі тут паліцэйскі ўчастак. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 43 дамы, расстралялі 11 жыхароў. Вызвалена 29.6.1944 г. воінамі 322-га стралк. палка 32-й стралк. дывізіі. У баях за вёску загінулі 23 воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі. Тут жа пахаваны 11 партызан, загінуўшыя ў 1943—44 гг. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 36 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 238 жыхароў, у 1970 г. 251 жыхар, у 1986 г. 153 жыхары, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, ветэрынарны ўчастак. У 2002 г. 45 гаспадарак, 78 жыхароў. Планіроўка лінейная. Дзве паралельныя паміж сабой вуліцы праходзяць пад вуглом да прасёлачнай дарогі, якая падзяляе вёску на паўн. і паўд. часткі. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАЛІНОЎКА** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 13 км на Пн ад Бялыніч, 25 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, на У р. Друць (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. вёска ў складзе калгаса імя С.М. Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАМЯНІЦА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 15 км на У ад Бялыніч, 30 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Мінск—Магілёў. 94 гаспадаркі, 187 жыхароў (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1681 г. у архіўных матэрыялах пазначана як вёска ў валоданні Галоўчынскага дамініканскага касцёла. У 1797 г. 32 двары. З 1737 г. дзейнічала царква. У 1834 г. ў складзе казённага маёнтка Старое Сяло Магілёўскага павета. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол. 44 двары, 321 жыхар, школа граматы, вінная крама. У 1909 г. 55 двароў, 379 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у 1914 г. пабудавана ўласнае памяшканне. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 105 двароў, 598 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці на паўд. ускраіне вёскі пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. 464 жыхары, у 1970 г. 478 жыхароў. У 1977 г. далучана в. Новая Вёска. У 1986 г. 309 жыхароў, цэнтр калгаса «Запаветы Леніна», комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, сталовая, магазін. У 2002 г. 100 гаспадарак, 124 жыхары. У 2007 г. б-ка, клуб. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1981 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Працяглая і кароткая, паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ, злучаны кароткімі другараднымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Каля аўтадарогі ўзведзены 10 мураваных аднапавярховых дамоў.

**КАРДОН** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 16 км на Пн ад Бялыніч, 61 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Друць (прыток Дняпра), побач аўтадарога Шклоў—Бялынічы. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары, у 1970 г. 40 жыхароў, у 1986 г. 14 жыхароў. У складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 2002 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАРМАНОЎКА** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Бялыніч, 60 км ад Магілёва, на З воз. Карманоўскае, на Пн, Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 17 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 269 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 37 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4.12.1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску (35 двароў) і загубілі 4 жыхароў. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў, у 1970 г. 130 жыхароў. У 1986 г. 63 жыхары, у складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны). У 2002 г. 23 гаспадаркі, 31 жыхар. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана амаль мерыдыянальна. На З ад яе адыходзіць да возера кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАРПАЎКА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 23 км на У ад Бялыніч, 25 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны

ням.-фаш. захопнікамі. 2 пасялкоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2002 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Кароткая шыротная вуліца забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАРЫТНІЦА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Бялыніч, 46 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, на зах. ускраіне р. Клява (прыток Бярэзіны), на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Мінск—Магілёў. 51 гаспадарка, 96 жыхароў (2007).

За 1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Клява, знаходзіцца курганны могільнік (18 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. Па матэрыялах 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1908 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 60 хлопчыкаў і дзяўчынак, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 315 жыхароў, у 1970 г. 314 жыхароў. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле), дзейнічалі лясніцтва, пач. школа, магазін. У 2002 г. 62 гаспадаркі, 119 жыхароў. Аснову планіроўкі складаюць 2 вуліцы, галоўная з якіх мае мерыдыянальную арыентацыю і далучаецца да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КАСТРЫЧНІК** (да 1961 г. Засценкі) — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Бялыніч, 36 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Прамалінейная кароткая вуліца шыротнай арыентацыі забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**КЛІНЫ** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Бялыніч, 33 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пн р. Лімнічанка (прыток р. Вабіч), з трох бакоў мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 31 двор, 166 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі заклік». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1958 г. 70 жыхароў, у 1970 г. 8 жыхароў. У 1986 г. 7 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КЛЯВА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 38 км на З ад Бялыніч, 53 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 81 км ад Магілёва, на У р. Клява (прыток Бярэзіны), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 27 гаспадарак, 54 жыхары (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі захаваўся курганны могільнік (6 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1644 г. у архіўных дакументах пазначана як вёска ў Аршанскім павеце, памешчыцкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета

Мінскай губ., 38 двароў, 307 жыхароў. У 1904 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 52 хлопчыкі і дзяўчынкі, працаваў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарская перамога». У 1940 г. 76 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. гітлераўцы спалілі 74 дамы, загубілі 16 жыхароў. 27 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 21 з іх загінуў. Паводле перапісу 1959 г. 267 жыхароў, у 1970 г. 250 жыхароў. У 1986 г. 121 жыхар, у складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле). У 2002 г. 31 гаспадарка, 67 жыхароў. Прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КРАЙНІ** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 8 км на Пн ад Бялыніч, 53 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар, у 1970 г. 71 жыхар. У 1986 г. 39 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 2002 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КРАСНАГОР'Е** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 10 км на Пн ад Бялыніч, 55 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 42 жыхары, у 1970 г. 31 жыхар. У 1986 г. 9 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Бялыніч, 38 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на У — воз. Краснае і забалочаная тэрыторыя. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 59 гаспадарак, 120 жыхароў (2007).

За 0,5 км на Пд ад вёскі, каля могілак, захаваўся курганны могільнік (9 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. згадваецца як в. Красна ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 44 рэвізскія душы. У 1880 г. 25 двароў, 133 жыхары. Сяляне акрамя земляробства займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, калёсным і бандарным промысламі. У 1897 г. вёска, 32 двары, 216 жыхароў, і аднайменны фальварак, 10 двароў, 101 жыхар, у Бялыніцкай вол. Магілёўскага павета. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 65 двароў, 373 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва». У 1940 г. 56 двароў, 262 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1977 г. далучана в. Звязда. Паводле перапісу 1959 г. 237 жыхароў, у 1970 г. 217 жыхароў. У 1986 г. 205 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Студзёнка). У 2002 г. 60 гаспадарак, 137 жыхароў. Дзейнічаюць магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка. Адна частка вёскі размешчана на Пн ад возера, дзе знаходзіцца вуліца Азёрная

шыротнай арыентацыі. Другая частка — на Пд ад возера, дзе праходзяць 2 паралельныя паміж сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы — Садовая і Юбілейная. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРУКІ** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Бялыніч, 27 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1649 г. пазначана ў кнізе земскіх актаў у сувязі з падзелам маёнтка Княжыцы паміж князямі Галаўчынскімі. У 1667 г. ў архіўных крыніцах значыцца як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1857 г. 54 рэвізскія душы, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 24 двары, 146 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. У 1892 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 31 двор, 212 жыхароў. Дзейнічала царква (драўляная, адкрыта не пазней 1880 г.), адзін раз на год (восенню) праводзіўся таржок. У 1909 г. 33 двары, 233 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Вясковай школе ў 1923 г. перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 52 вучні). У 1926 г. 50 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў. У 1977 г. да вёскі далучаны пас. Чырвоны Рубеж. У 1986 г. 39 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вішоў). У 2002 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КСАВЕРАВА** — вёска ў Запольскім с/с, за 35 км на Пд ад Бялыніч, 13 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 75 км ад Магілёва, на У р. Вядзерка (прыток Друці), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Паводле інвентару 1825 г. фальварак, 67 дымоў, 493 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі базіраваўся 122-і партыз. атрад «За Радзіму». Гітлераўцы спалілі 3 двары. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 142 жыхары, у 1970 г. 127 жыхароў. У 1986 г. 58 жыхароў, у складзе саўгаса «Заполле» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай у паўд. частцы двухбакова, у паўн. — аднабакова. Жылыя дамы драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КУЛАКОЎКА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бялыніч, 63 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 64 км ад Магілёва, на У р. Чарнаўка (прыток р. Аслік), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1667 г. маёнтак, млын і карчма, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1777 г. вёска Калюкоўка ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 213 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 237 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1934 г. для вясковай школы пабудавана памяшканне. У 1940 г. 60 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст.

1942 г. гітлераўцы спалілі 50 дамоў, загубілі 10 жыхароў. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 241 жыхар, у 1970 г. 167 жыхароў. У складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле), дзейнічалі сярэдняя школа, б-ка, магазін, аддз. ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 27 гаспадарак, 37 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КУНЦЫ** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 20 км на З ад Бялыніч, 58 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд р. Крупка (прыток р. Аслік), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 30 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

У 1857 г. ў архіўных матэрыялах пазначана як вёска ў Магілёўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол., 26 двароў, хлебазапасны магазін. У 1900 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 181 жыхар. Па матэрыялах 1917 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 155 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. займаліся 53 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1924 г. 36 двароў, 208 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі базіраваўся партыз. атрад імя Грышына. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 241 жыхар, у 1970 г. 235 жыхароў. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны), магазін. У 2002 г. 42 гаспадаркі, 69 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з З на У і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КУПЛЕНКА** — пасёлак у Эсьмонскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Бялыніч, 51 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд р. Цямрынка (прыток р. Аслік), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З пасялкоўцы загінулі на фронце. У 186 г. ў складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Планірочна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**КУРГАННЕ** — пасёлак у Цяхцінскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

За 1 км на ПдУ ад пасёлка знаходзіцца курганны могільнік (15 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак узнік ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 45 жыхароў, у 1970 г. 31 жыхар. У 1986 г. 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Кароткая прамалінейная мерыдыянальнай арыентацыі вуліца забудавана аднабакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛАНЬКАВА** — вёска, цэнтр Ланькаўскага с/с, за 5 км на Пн ад Бялыніч, 47 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 52 км ад Магілёва, побач аўтадарога Шклоў—Бялынічы, на У меліярацыйны канал. 79 гаспадарак, 207 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1616 г. ў архіўных дакументах зна-

чыцца як с. Лынькова. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета, 56 двароў, 286 жыхароў. Паводле інвентару Бялыніцкага маёнтка 1825 г. ў складзе фальварка Міхалоў. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 69 двароў, 473 жыхары, школа граматы. У 1909 г. пачала працаваць земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 21.10.1924 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 71 хлопчык і дзяўчынка. У 1929 г. арганізаваны калгас «Праўда». У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. На ўшанаванне іх памяці каля будынка сельсавета ў 1968 г. пастаўлены абеліск. Ураджэнец вёскі Ф.Бандудаў за подзвігі быў удастоены 6 урадавых узнагарод, а калі вярнуўся з фронту, то ўзначаліў калгас і вывеў яго ў лік перадавых. Паводле перапісу 1959 г. 399 жыхароў, у 1970 г. 315 жыхароў. У 1986 г. 340 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ф.Энгельса, дзейнічалі рамонтна-механічныя майстэрні, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, сталовая, магазін. У 2002 г. 91 гаспадарка, 260 жыхароў. У 2007 г. б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, цэнтр культуры і адпачынку, аддз. сувязі, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Паміж гал. мерыдыянальнай і паралельнай да яе кароткай вуліцы праходзяць у папярочным напрамку другарадныя. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. На гал. вуліцы грамадскі цэнтр.

У склад Ланькаўскага с/с уваходзілі да 1978 г. вёскі Васілеўшчына, Каменка, Новае Жыццё, да 1971 г. пас. Селішча (зараз не існуюць), да 1974 г. вёска Каліноўка, пасёлкі Глінішча, Малінаўка.

**ЛЕБЯДЗЯНКА** — вёска, цэнтр Лебядзянкаўскага с/с, за 17 км на ПдУ ад Бялыніч, 19 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 20 км ад Магілёва, на Пн р. Вабіч (прыток Друці), на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 82 гаспадаркі, 233 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1857 г. вёска ў Магілёўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол., 17 двароў, 128 жыхароў. У 1909 г. 21 двор, 146 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 44 двары, 220 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Вызваленне». У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі дзейнічалі 121-ы і 600-ы партыз. атрады. 32 вяскоўцы змагаліся на франтах, 19 з іх загінулі. З 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. Паводле перапісу 1970 г. 188 жыхароў. У 1986 г. вёска, цэнтр калгаса імя В.П.Чкалава, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 4 магазіны, 2 сталовыя, аддз. ашчаднага банка, 2 фельч.-акушэрскія пункты, дзіцячы сад, б-ка, сярэдняя школа, клуб, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 87 гаспадарак, 246 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СПК «Лебядзянка», школа-сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая. Праект планіроўкі распрацаваны ў 1982 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Сістэма планіроўкі прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, паралельна да ракі. Ад галоўнай на Пн і Пд адыходзяць дру-

гарадныя вуліцы. Аснову забудовы складаюць драўляныя сял. хаты з прысядзібнымі ўчасткамі. Новая забудова фарміруецца на свабоднай тэр. на З і У, дзе ўзведзены мураваныя двухпавярховыя 2-кватэрныя дамы. Грамадскія будынкі ўздоўж гал. вуліцы.

У склад Лебядзянкаўскага с/с уваходзілі да 1971 г. хутар Антонаўка, да 1977 г. вёска Брэнькаў, да 1978 г. пас. Звязда, да 1981 г. вёска Межанец (зараз не існуюць).

**ЛЕНІНА** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 10 км на Пн ад Бялыніч, 55 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 42 жыхары, у 1970 г. 13 жыхароў. У 1986 г. 10 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛЕНІНСКІ** — пасёлак у Цяхцінскім с/с, за 24 км на Пд ад Бялыніч, 17 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 68 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынічы—Быхаў. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 16 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 16 дамоў. 2 землякі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў, у 1970 г. 98 жыхароў. У 1986 г. 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 19 гаспадарак, 24 жыхары. Кароткая мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛЕНІНСКІ** (да 1961 г. Лісічкі) — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 12 км на У ад Бялыніч, 36 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1897 г. ўрочышча Лісічкі — 2 двары, 23 жыхары, побач існаваў аднайменны фальварак, 2 двары, 17 жыхароў. У 1909 г. ў фальварку 1 двор, 11 жыхароў, ва ўрочышчы 1 двор, 5 жыхароў. У 1917 г. адпаведна 20 жыхароў і 14 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас «КІМ». У 1940 г. 16 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. 10 землякоў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 53 жыхары, у 1970 г. 41 жыхар. У 1986 г. 11 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛІСАЎКА** (да 21.1.1969 г. Пасёлак № 3) — пасёлак у Машчаніцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Бялыніч, 37 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 53 км ад Магілёва, на Пд р. Аслік (прыток Друці), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса імя К.Ка-

ліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца). У 2002 г. 16 гаспадарак, 26 жыхароў. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛІЧЫНКА** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Бялыніч, 20 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Круглае—Магілёў. 91 гаспадарка, 144 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1667 г. значыцца ў архіўных дакументах як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1750 г. сяло, у валоданні Княжыцкага дамініканскага кляштара. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 40 двароў, 279 жыхароў. У 1858 г. 132 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 53 двары, 350 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася калёсным і кавальскім промысламі, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў. У 1897 г. 507 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 40 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «6-ы раённы з'езд». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 13 дамоў, расстралялі 4 жыхароў. За 3 км на ПнУ ад вёскі пахаваны настаўніца С.М.Гіра і яе 3 дачкі, якіх у 1943 г. расстралялі акупанты. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце, 13 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 618 жыхароў, у 1970 г. 527 жыхароў. У 1986 г. 344 жыхары, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі), кузня, зернесушылка, клуб, магазін, пач. школа, б-ка. У 2002 г. 110 гаспадарак, 205 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, па абодва бакі ад якой паралельна размешчаны 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛУБЯНЫ** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 9 км на Пн ад Бялыніч, 54 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З меліярацыйныя каналы і р. Друць (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы. 48 гаспадарак, 87 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. Па архіўных звестках 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. 53 двары, 269 жыхароў, у складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, памешчыцкая ўласнасць. У 1834 г. ў складзе маёнтка Круглае. У 1880 г. 57 двароў, 343 жыхары. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 73 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 384 жыхары, у 1970 г. 312 жыхароў. У 1986 г. 199 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра), асфальтавы з-д, пач. школа, клуб, аддз. ашчаднага банка, дзіцячы сад, б-ка, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 57 гаспадарак, 110 жыхароў. У 2007 г. б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛЫНЬКОЎ** — пасёлак у Запольскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Бялыніч, 24 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 74 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе

Магілёў—Мінск. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 5 землякоў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў, у 1970 г. 104 жыхары. У 1986 г. 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛЯМНІЦА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Бялынiч, 32 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд р. Лімнічанка (прыток р. Вабіч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 86 гаспадарак, 231 жыхар (2007).

На паўд.-зах. ускраіне захавалася гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У архіўных матэрыялах значыцца як вёска, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 5 двароў, 30 жыхароў. У 1834 г. 48 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Рафалава Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка І.Савіцкага, 10 двароў, 65 жыхароў. У 1880 г. 14 двароў, 82 жыхары. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 147 жыхароў, у Нежкаўскай вол. У 1909 г. 21 двор, 153 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 71 двор, 380 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 85 жыхароў. У 1986 г. 236 жыхароў, цэнтр калгаса «Ленінскі заклік», дзейнічалі комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, б-ка, 8-гадовая школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 102 гаспадаркі, 287 жыхароў. У 2007 г. б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачную структуру складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная. Непадалёку ад грамадскага цэнтра, што на гал. вуліцы, узведзены двухпавярховыя 8-кватэрныя мураваныя дамы.

**ЛЯХАЎКА** — пасёлак у Запольскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Бялынiч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 73 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. У 1897 г. сядзіба, 3 двары, 23 жыхары, у у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 4 двары, 28 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 12 жыхароў, у 1970 г. 12 жыхароў. У 1986 г. 4 жыхары, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЛЯШЧЭЎНІК** (да 1960 г. Падсавін) — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бялынiч, 41 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-

фаш. захопнікамі. 5 землякоў загінулі на фронце. У складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. Забудова драўляная з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЗКІ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 11 км на Пд ад Бялыніч, 28 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 57 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1714 г. маёнтак, кармеліцкі кляштар, касцёл, млын, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1798 г. 2 дымы, 10 жыхароў мужчынскага полу. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.А.Жданава. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў, у 1970 г. 67 жыхароў. У 1986 г. 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**МАЙСК** (да 30.7.1964 г. Пупса) — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Бялыніч, 40 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск, 58 км ад Магілёва, на У р. Асліўка (прыток Друці), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 51 гаспадарка, 82 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1924 г. 62 двары, 394 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1940 г. 61 двор, 332 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. гітлераўцы спалілі 22 двары, загубілі 25 жыхароў. У 1986 г. вёска ў складзе калгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны), клуб, б-ка, магазін, пач. школа. У 2002 г. 65 гаспадарак, 116 жыхароў. Прамалінейная вуліца, арыентаваная мерыдыянальна, уздоўж ракі забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАКАЎКА** — вёска ў Запольскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Бялыніч, 29 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 68 км ад Магілёва, на Пн р. Малыш (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

У 1897 г. ферма, 1 двор, 15 жыхароў, у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1907 г. вёска, 20 двароў, у 1917 г. 193 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 31 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 142 жыхары, у 1970 г. 108 жыхароў. У 1986 г. 65 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 18 гаспадарак, 25 жыхароў. Прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛАТОЎКІ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Бялыніч, 32 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

За 0,2 км ад вёскі захаваўся курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска ўзнікла ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 5.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 землякі загінулі на фронце. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 5 гаспадарак, 12 жыхароў. Кароткая прамалінейная мерыдыянальнай арыентацыі вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драў-

лянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛАЯ МАШЧАНІЦА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Бялыніч, 33 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 52 км ад Магілёва, на Пд р. Аслік (прыток Друці), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Паводле інвентару 1825 г. 25 дымоў, 208 жыхароў. У 1857 г. 78 рэвізскіх душ, у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 337 жыхароў, школа граматы. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 7 двароў, расстралялі 4 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 248 жыхароў, у 1970 г. 196 жыхароў. У 1986 г. 86 жыхароў, у складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца), б-ка, клуб. У 2002 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў. Прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Бялыніч, 41 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.2.1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 53 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 30 — у партыз. барацьбе. У 1986 г. ў складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца). У 2002 г. ў вёсцы ніхто не жыў. Забудова драўляная з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Бялыніч, 48 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны калектывіст». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава). У 2002 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары. Кароткая прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 19 км на Пд ад Бялыніч, 21 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 63 км ад Магілёва. На У меліярацыйныя каналы і р. Друць (басейн Дняпра), на Пд і Пн мяжуе з лесам. Непадалёку аўтадарога Бялынічы—Быхаў. 14 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 расстраляны гітлераўцамі. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў, у 1970 г. 95 жыхароў. У 1986 г. 52 жыхары, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 17 гаспадарак, 38 жыхароў. Дзве паралельныя паміж сабой шыротныя вуліцы забудаваны двухбакова, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛІНАЎКА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 23 км на У ад Бялыніч, 25 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Круглае—Магілёў. 22 гаспадаркі, 42 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі), клуб, магазін. У 2002 г. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛЫ КУДЗІН** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 9 км на У ад Бялыніч, 39 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Бялынічы—Шклоў, на У р. Домса (прыток р. Запакулка). 146 гаспадарак, 393 жыхары (2007).

За 0,7 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, захавалася гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1854 г. ў Магілёўскім павеце, памешчыцкая ўласнасць, 85 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. сяло, у Бялыніцкай вол. Магілёўскага павета, 56 двароў, 362 жыхары, меліся царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, заезны дом; адзін раз на год адбываўся таржок. Непадалёку былі фальварак (1 двор, 21 жыхар, вятрак) і хутар (1 двор, 12 жыхароў). У 1903 г. для школы пабудавана ўласнае памяшканне. У 1909 г. ў сяле 64 двары, у фальварку — 1 двор, 7 жыхароў, на хутары — 1 двор, 4 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Кудзінскага с/с Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 60 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 1928 г. дзейнічала сыраробчая майстэрня. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле каля школы пахаваны 23 сав. воіны і партызаны. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1970 г. 211 жыхароў. У 1986 г. 338 жыхароў, цэнтр калгаса «Камінтэрн», дзейнічалі млын, машынны двор, магазін, Дом культуры, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка. У 2002 г. 132 гаспадаркі, 373 жыхары. У 2007 г. цэнтр СВК «Кудзін», б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На З і У ад яе паралельна размешчаны кароткія вуліцы. Грамадскія будынкі — у зах. частцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы ўзведзены мураваныя аднапавярховыя 1—2-кватэрныя дамы.

**МАЛЫ ТРЫЛЕСІН** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Бялыніч, 35 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынічы—Шклоў. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1630 г. вёска Трылесін Васілкоўскі, 13 гаспадарак, у Бялыніцкай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. вёска Трылесін Малы, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета, 285 жыхароў. Паводле інвентару 1825 г. ў складзе фальварка Запахулле, 31 дым. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 49 двароў, 314 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак — 1 двор, 3 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 99 двароў, 383 жыхары, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 96 двароў, 485 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «КІМ». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 90 жыхароў, у 1970 г. 49 жыхароў. У 1986 г. 32 жыхары, у складзе калгаса «Камін-

тэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін), магазін, пач. школа. У 2002 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў. Ад прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы перпендыкулярна адыходзіць другарадная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАЛЫЯ ВАСІЛЬКІ** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Бялыніч, 32 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Васілеўка (прыток р. Вабіч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынічы—Шклоў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Кароткая прамалінейная, мерыдыянальнай арыентацыі вуліца забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 24 км на У ад Бялыніч, 31 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 38 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1622 і 1629 гг. пазначана ў кнізе земскіх актаў Віцебскага ваяв. ВКЛ, у валоданні Кукчэўскіх. У 1646 г. вёска, у валоданні Галоўчынскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. Паводле архіўных звестак у 1777 г. вёска, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 15 двароў, 86 жыхароў. У 1834 г. 114 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Рафалава, 21 двор, 139 жыхароў, карчма і багадзельня. У 1880 г. 34 двары, 195 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася сталярным і калёсным промысламі, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. У 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 49 двароў, 276 жыхароў, вінная крама. У 1909 г. 49 двароў, 326 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце, 16 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 291 жыхар, у 1970 г. 250 жыхароў. У 1986 г. 127 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца), клуб, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, б-ка, магазін. У 2002 г. 49 гаспадарак, 68 жыхароў. У 2007 г. базавая школа, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МАТЫГА** — вёска ў Запольскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Бялыніч, 33 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 76 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 65 жыхароў, у 1970 г. 56 жыхароў. У 1986 г. 22 жыхары, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МЕЗІНЕЦ** — пасёлак у Лебядзянкаўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Бялыніч, 20 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 40 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. засценак, 12 двароў, 64 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Бялыніч, 38 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце, 13 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары, у 1970 г. 90 жыхароў. У 1986 г. 39 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца), магазін, клуб. У 2002 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МІКАЛАЕЎКА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Бялыніч, 25 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Круглае—Магілёў. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 пасялкоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі), магазін. У 2002 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МІСТРАЎКА** — пасёлак у Цяхцінскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, на Пн р. Малуша (прыток р. Ліпаўка), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў, у 1970 г. 96 жыхароў. У 1986 г. 58 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных узаемна перпендыкулярных вуліц. Галоўная арыентавана мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МІХАЙЛАЎ** — вёска ў Бялыніцкім пас. Савеце, за 2 км на У ад Бялыніч, 42 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Бялынічы—Шклоў. На У р. Няропля (прыток Друці), на Пд мяжуе з лесам. 34 гаспадаркі, 100 жыхароў (2007).

Паводле інвентару 1825 г. фальварак пры тракце з Бялыніч на Магілёў, забудову якога складалі дом для жылля, лядоўня, збожжасховішча, гумно, хлеў, бровар, двор для жывёлы. У 1845 г. 43 двары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 29 двароў, 144 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «4-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Бялынічы» (цэнтр —г.п. Бялынічы), магазін. У 2002 г. 37 гаспадарак, 114 жыхароў. Ад прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзіць на Пн кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыль-

ная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МІХАСЁЎКА** – вёска ў Машчаніцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Бялыніч, 49 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў–Асіповічы, 71 км ад Магілёва, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў–Мінск. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 13 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў, у 1970 г. 57 жыхароў. У 1986 г. 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр – в. Стараселле). У 2002 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. Кароткая шыротная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.



*В.С.Камянкоў.*

**МІЦЬКАЎШЧЫНА** – вёска ў Вішоўскім с/с, за 24 км на У ад Бялыніч, 25 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Мінск–Магілёў. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1897 г. сядзіба Міцькаўшчына (яна ж Галубоўка), у Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 7 двароў, 48 жыхароў. У 1909 г. 10 двароў, 60 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр – в. Ермалавічы). У 2002 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. Кароткая шыротная вуліца забудавана сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МОКРАВІЧЫ** – вёска ў Эсьмонскім с/с, за 8 км на З ад Бялыніч, 50 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Магілёў–Мінск. 89 гаспадарак, 171 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1630 г. сяло, у Бялыніцкай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У вайну 1812 г. каля вёскі дзейнічаў атрад Дз.Давыдава. Паводле інвентару 1825 г. 25 дымоў, 225 жыхароў, карчма. У 1840 г. 28 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Бялыніцкай вол. Магілёўскага павета, 79 двароў, 472 жыхары. У 1903 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога ў 1914 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1903 г. 160 двароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 54 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 6 двароў, загубілі 5 жыхароў. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 661 жыхар, у 1970 г. 556 жыхароў. У 1986 г. 342 жыхары, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр – в. Алешкавічы 1), дзейнічалі клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, пач. школа, магазін. У 2002 г. 125 гаспадарак, 215 жыхароў. Аснову планіроўкі складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Галоўная з'яўляецца часткай аўтадарогі, ад якой на Пн і Пд адыходзяць другарадныя вуліцы. На месцы перакрыжавання вуліц – грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма Старшыні Гасп. суда Рэспублікі Беларусь В.С.Камянкова (н. 1956).

**МОНЕЎКА** – вёска ў Цяхцінскім с/с, за 15 км на Пд ад Бялыніч, 26 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў–Асіповічы, 37 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бялынічы–Быхаў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

За 0,7 км на Пн ад вёскі захавалася стаянка каменнага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска ўзнікла ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVII

партз'езд». У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Кароткая прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова, рэдка драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МЯЖОНКА** — вёска ў Запольскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Бялыніч, 40 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 81 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 16 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.Арджанікідзе, меўся паравы млын. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 6 дамоў і загубілі 9 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 150 жыхароў. У 1986 г. 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), магазін. У 2002 г. 17 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца арыентавана шыротна. У цэнтры перпендыкулярна да яе праходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МЯЛЬНІК** — вёска ў Бялыніцкім пас. Савеце, за 6 км на Пд ад Бялыніч, 51 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на зах. ускраіне р. Друць (басейн Дняпра), на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Паводле інвентару 1825 г. 4 дымы, 37 жыхароў. У архіўных дакументах пад 1857 г. пазначана як вёска ў Магілёўскім павеце. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 6 двароў, 63 жыхары. У 1909 г. 19 двароў, 44 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 23 двары, 149 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Авангард». У 1940 г. 35 двароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 15 дамоў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Бялынічы» (цэнтр — г.п. Бялынічы), дзейнічаў з-д мясакасцявой мукі. У 2002 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў. Крывалінейная вуліца, што праходзіць уздоўж ракі, забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**НАВАСЁЛКІ** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 2 км на ПнЗ ад Бялыніч, 47 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Шклоў—Бялынічы. 31 гаспадарка, 68 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў, у 1970 г. 100 жыхароў, у 1986 г. 94 жыхары, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава), ветэрынарны ўчастак, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. У 2002 г. 27 гаспадарак, 59 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана шыротна і забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 28 км на У ад Бялыніч, 24 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З мяжуе з лесам, побач аўтадарога Круглае—Магілёў. 112 гаспадарак, 247 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1632 г. цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 28 двароў, 184 жыхары. У 1847 г. ў складзе маёнтка Высокае, 36 двароў, 219 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 67 двароў, 466 жыхароў, школа граматы, заезны дом. У 1909 г. 81 двор, 552 жыхары. З

лютага да кастр. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Магілёўскага, з 5.4.1935 г. да 26.6.1954 г. — Бялыніцкага р-наў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Першымі ахвярамі фашысцкіх катаў былі дырэктар 7-гадовай школы У.А.Панцялееў, былы старшыня калгаса Я.Ф.Рогаўцаў, сакратар сельсавета Ф.У.Скрыцкі, калгаснікі Ф.Ф.Жук, Ф.Г.Рузанкоў, М.У.Бабкоў, якіх гітлераўцы расстралялі ў жн. 1941 г. Акупанты стварылі гарнізон, які партызаны 22.6.1942 г. разграмілі. У брацкай магіле каля школы пахаваны 4 воіны 55-га гаўбічнага артыл. палка, якія загінулі ў баі за вызваленне вёскі. 13 землякоў загінулі на фронце, 7 — у партыз. барацьбе. На ўшанаванне памяці жыхароў з вёсак калгаса імя У.І.Леніна ў 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. Вясковец Ф.А.Грышанаў быў камісарам 40-га, а потым 10-га партыз. атрада «Чэкіст». Паводле перапісу 1959 г. 332 жыхары, у 1970 г. 309 жыхароў. У 1986 г. 270 жыхароў, цэнтр калгаса імя У.І.Леніна, дзейнічалі машынны двор, рамонтна-механічная майстэрня, ветэрынарны ўчастак, магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 8-гадовая школа, Дом культуры, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка, сталовая. У 1977 г. да вёскі далучаны пасёлкі Дуброўка і Саяніца. У 2002 г. 123 гаспадаркі, 281 жыхар. У 2007 г. школа-сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі. У цэнтры сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі. Радзіма засл. настаўніцы Беларусі Г.К.Севярнёвай.

**НОВЫ ЛАНЬКАЎ** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 4 км на Пн ад Бялыніч, 49 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Побач аўтадарога Шклоў—Бялынічы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава). У 2002 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. Кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**НЯРОПЛЯ** — вёска ў Бялыніцкім пассавеце, за 13 км на У ад Бялыніч, 42 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на У р. Няропля (прыток Друці), побач аўтадарога Магілёў—Мінск. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1777 г. як сяленне ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы ў Магілёўскім павеце, 1 двор, 8 жыхароў, млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 6 двароў, 47 жыхароў. У 1909 г. 8 двароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 45 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1935 г. пачала працаваць рамонтная майстэрня Бялыніцкай МТС. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і за ракой, каля смалакурні, фашысты расстралялі 1200 сав. грамадзян яўр. нацыянальнасці, вывезеных з в. Баркулабава Быхаўскага р-на. 8 землякоў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Бялынічы» (цэнтр — в. г.п. Бялынічы), свінагадоўчы комплекс. У 2002 г. 12 гаспадарак, 39 жыхароў. Мерыдыянальная прамалінейная вуліца забудавана шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАДБОР'Е** — пасёлак у Машчаніцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Бялыніч, 66 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд і У

мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 11 двароў, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 пасялкоўцы загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАДЗЕВІЧЫ** — вёска ў Запольскім с/с, за 27 км на Пд ад Бялыніч, 19 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 67 км ад Магілёва, на Пд р. Малыш (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 37 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

За 2 км на У ад вёскі, у лесе, захаваўся курганны могільнік (75 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1738 г. сяло, 9 двароў, у Любашанскім старостве Аршанскага павета, уласнасць казны. У 1775 г. цэнтр войтаўства, 15 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1887 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 36 двароў, 280 жыхароў. Побач былі засценак Падзевічы (ён жа Сямёнаўка), 11 двароў, 93 жыхары, сядзіба Падзевічы — 3 двары, 14 жыхароў, царква і сядзіба каля вадзяного млына — 2 двары, 17 жыхароў. У 1907 г. ў сяле 44 двары, 361 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. Вясковец П.М.Ластаўкін быў у снеж. 1922 г. дэлегатам 1-га Усесаюзнага з'езда Саветаў ад Царковішчанскай вол. У 1924 г. адкрыта ўрачэбная амбулаторыя. У вясковай школе, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку, у 1925 г. навучаліся 63 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму». У 1940 г. 98 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі 23 двары, загубілі 19 жыхароў. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 371 жыхар, у 1970 г. 349 жыхароў. У 1986 г. 181 жыхар, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), бальніца, 8-гадовая школа, аптэка, магазін. У 2002 г. 51 гаспадарка, 93 жыхары. Арх.-планіровачная структура прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана шыротна. Ад яе на Пд і Пн адыходзяць кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-маёра С.М.Фамічэнкі.

**ПАДКРЭЖНІК** — вёска ў Запольскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Бялыніч, 32 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 76 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАДЧАРЭШАНЬ** — вёска ў Запольскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Бялыніч, 33 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 65 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў. Прамалінейная

кароткая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАЛІЕЎШЧЫНА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Бялыніч, 29 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Бялынічы—Шклоў, на З р. Вабіч (прыток Друці). 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце, 2 загублены фашыстамі. У 1986 г. ў складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын). У 2002 г. 12 гаспадарак, 25 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудавана пераважна аднабакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАЛІЎНІКІ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Бялыніч, 32 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 61 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАНІЗОВА** — пасёлак у Эсьмонскім с/с, за 11 км на Пн ад Бялыніч, 54 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Кароткая шыротная вуліца забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАНЬКАВА** — вёска ў Запольскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 71 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1616 г. згадваецца як с. Панкова, 2 двары, памешчыцкая ўласнасць. У 1743 г. сяло Панькевічы, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 52 жыхары. У 1907 г. вёска, 8 двароў, 65 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 20 двароў, 115 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 47 жыхароў, у 1970 г. 36 жыхароў. У 1986 г. 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. Кароткая мерыдыянальная вуліца забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАПОЎКА** — вёска ў Запольскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 73 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Заполле, Асавец і далей па шашы Магілёў—Мінск. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1646 г. пазначана ў земскай кнізе Аршанскага павета як вёска ў валоданні

Галоўчынскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол., 27 двароў, 134 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 27 жыхароў, у 1970 г. 21 жыхар. У 1986 г. 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАРАХОЎКА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Бялыніч, 42 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, на Пн, З і У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Мінск—Магілёў. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

За 1,6 км на У ад вёскі захаваўся курганны могільнік (27 насыпаў), за 1,8 км на ПдУ ад вёскі — курган, якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 10 жыхароў, у 1970 г. 71 жыхар. У 1986 г. вёска ў складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле). У 2002 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАЎЛІНКА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Бялыніч, 34 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У 1897 г. сяло Паўлін, 12 двароў, 92 жыхары, у Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. вёска, 22 двары, 146 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 31 двор, 186 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 27 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы спалілі 24 двары. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў, у 1970 г. 51 жыхар. У 1986 г. 30 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца). У 2002 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіроўка лінейная. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПАЧАПОК** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Бялыніч, 38 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З меліярацыйныя каналы, на З і Пн працякае р. Няропля (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 34 гаспадаркі, 46 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. гаспадарскі дом, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. вёска ў складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета, 32 дымы, 176 жыхароў, і фальварак. Паводле інвентару 1825 г. ў вёсцы 183 жыхары, у фальварку меліся пякарня, адрына, лядоўня, хлебазапасны магазін, піўная крама. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол. Магілёўскага павета, 63 двары, 435 жыхароў, школа граматы. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 109 двароў, 619 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы свет». У 1932 г. пабудаваны клуб. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1977 г. далучана в. Чырвоная Звязда. У 1986 г. ў складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін), ветэрынарны ўчастак, магазін. У 2002 г. 41 гаспадарка, 67 жыхароў. Планіроўка лінейная. Прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПЕРАМОГА** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 7 км на Пн ад Бялыніч, 52 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў, у 1970 г. 36 жыхароў. У 1986 г. 2 жыхары, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПІЛЬШЫЧЫ** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 19 км на Пд ад Бялыніч, 11 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 71 км ад Магілёва, на аўтадарозе Бялынічы—Быхаў. На Пд працякае р. Вядзерка (прыток Друці). на У — р. Друць (басейн Дняпра), на З мяжуе з лесам. 44 гаспадаркі, 85 жыхароў (2007).

За 0,4 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Друць, захаваўся курганны могільнік (76 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. вёска, 51 жыхар мужчынскага полу, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 27 двароў, 185 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася бандарным і сталярным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета, 34 двары, 263 жыхары, вадзяны млын, вінная крама. У 1909 г. 46 двароў, 324 жыхары. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У школе, якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак, навучаліся ў 1925 г. 45 хлопчыкаў і дзяўчынак. Працавалі хата-чытальня і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1940 г. 86 двароў, 417 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі дзейнічаў партыз. атрад імя Грышына. У студз. 1942 г. акупанты спалілі 85 двароў, загубілі 35 жыхароў. У 2 брацкіх магілах на вясковых могілках пахаваны 14 воінаў і 7 партызан, загінуўшых у баях за вызваленне вёскі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 35 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 264 жыхары, у 1970 г. 213 жыхароў. У 1986 г. 158 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), клуб, магазін. У 2002 г. 69 гаспадарак, 87 жыхароў. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца мае шыротную арыентацыю. Паралельна да яе праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПРАЖЭКТАР** — пасёлак у Запольскім с/с, за 22 км на Пд ад Бялыніч, 24 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 63 км ад Магілёва, на З р. Ліпаўка (прыток р. Малыш). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас «Вызваленне». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 46 жыхароў, у 1970 г. 55 жыхароў. У 1986 г. 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПРАЛЬНЯ** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Бялыніч, 32 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на паўд.-ўсх. ускраіне р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 32 гаспадаркі, 47 жыхароў (2007).

У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 36 рэвізскіх душ. Памешчык меў тут у 1866 г. 248,5 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 24 двары, 167 жыхароў, вінная крама.

Паблізу была ўладальніцкая сядзіба Пральня (яна ж Людзвінова). У 1909 г. 29 двароў, 215 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. У сак. 1922 г. ў былой сядзібе было створана с.-г. т-ва «Араты». У 1926 г. 44 двары, 232 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас імя П.Л.Войкава. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 13 двароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 22 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 264 жыхары, у 1970 г. 242 жыхары. У 1986 г. 140 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца), клуб, магазін. У 2002 г. 49 гаспадарак, 64 жыхары. Перпендыкулярна да гал. вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПРЫБАР** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 17 км на Пд ад Бялыніч, 62 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, на У р. Друць (прыток Дняпра), паблізу аўтадарога Бялынічы—Быхаў. 28 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1743 г. згадваецца як с. Прыборкі ў Аршанскім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1798 г. ў валоданні Бялыніцкага кармеліцкага кляштара, 22 жыхары мужчынскага полу. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Цяхцін Магілёўскага павета. У 1880 г. 10 двароў, 71 жыхар. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім, калёсным і пяньковым промысламі, а таксама вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. У 1897 г. ў Царковішчанскай вол., 19 двароў, 126 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 210 жыхароў, у аднайменным фальварку 1 двор, 6 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 47 двароў, 200 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары, у 1970 г. 229 жыхароў. У 1986 г. 92 жыхары. у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін), магазін. У 2002 г. 31 гаспадарка, 43 жыхары. Планіроўка лінейная. Дзве паралельныя паміж сабой вуліцы шыротнай арыентацыі забудаваны двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПРЫХАБЫ** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Бялыніч, 45 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на р. Вабіч (прыток Друці), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 31 гаспадарка, 63 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 4 двары, 19 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1856 г. 185 дзес., у 1876 г. — 250 дзес. зямлі. У 1858 г. 69 рэвізскіх душ, у 1880 г. 34 двары, 150 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, а таксама посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, калёсным і бандарным промысламі, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 54 двары, 357 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1907 г. школа граматы ператворана ў земскую, у якой навучаліся 37 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак. У 1909 г. 219 жыхароў. У выніку пажару 9.6.1911 г. згарэлі 47 двароў і 18 гумнаў. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, мелася б-ка. З 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 106 двароў, 465 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-

фаш. захопнікамі. У 1943 г. партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак у вёсцы. 27 землякоў загінулі на фронце, 12 расстраляны гітлераўцамі. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў. У 1986 г. 51 гаспадарка, 108 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Студзёнка), дзейнічалі клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак. У 2002 г. 40 гаспадарак, 77 жыхароў. Планіроўка лінейная. У цэнтры гал. вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, грамадскія будынкі. Жылая забудова размешчана па абодва бакі вуліцы, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ПУШЧА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бялыніч, 41 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынічы—Шклоў.

У 1897 г. пас. Пушча (ён жа Літоўск), у Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 7 двароў, 25 жыхароў. У 1909 г. 2 двары, 16 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 5 двароў. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін). У 2002 г. ў пасёлку ніхто не жыў. Забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**РАГАЧ** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 2 км на Пн ад Бялыніч, 46 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы. 71 гаспадарка, 148 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1630 г. сяло ў Бялыніцкай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета, 35 двароў, 217 жыхароў. У 1840 г. 36 двароў, 246 жыхароў. У 1858 г. памешчыцкая ўласнасць, 120 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 73 двары, 467 жыхароў, школа граматы. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. да 21.10.1924 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай акругі. У вясковай школе ў 1925 г. навучаліся 68 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў, у 1970 г. 233 жыхары. У 1986 г. 237 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава), клуб, магазін, б-ка. У 2002 г. 69 гаспадарак, 133 жыхары. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна. На У адасоблены ўчастак вёскі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**РАФАЛОВА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Бялыніч, 30 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на р. Лімнічанка (прыток р. Вабіч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1667 г. маёнтак, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1710 г. вёска, ва ўладанні магната М.К.Паца. У 1734 г. ў Магілёўскай эканоміі, 22 двары, якія павінны былі плаціць падаткі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, меўся млын. У 1847 г. вёска і фальварак у складзе маёнтка Рафалава, 10 сем'яў, 23 дваровыя, працавалі вадзяны млын, вінакурня, смалакурня, цагельня, хлебазапасны магазін. У 1876 г. пачала дзейнічаць дзягцярня. Два памешчыкі мелі тут у 1881 г. 1334 дзес. зямлі. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 30 двароў, 204 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Ма-

гілёўскага, з 5.4.1935 г. да 26.6.1954 г. — Бялыніцкага р-наў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі дыслацыраваўся 122-і партыз. полк. Партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. 19 землякоў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў, у 1970 г. 119 жыхароў. У 1986 г. 40 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца). Ёсць магазін. У 2002 г. 16 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы і адасобленай часткі, што на Пд ад гал. вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**РУБЕЖ** — вёска ў Запольскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Бялыніч, 24 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 71 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

У 1897 г. ўрочышча ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 4 жыхары, меўся дзягцярны з-д. У 1907 г. засценак — 16 двароў, 139 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У 1940 г. 41 двор, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі 8 дамоў, загубілі 32 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў, у 1970 г. 87 жыхароў. У 1986 г. 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 8 гаспадарак, 18 жыхароў. Прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**РУДНЯ** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Аслік (прыток Друці), на Пд і З мяжуе з лесам, побач аўтадарога Магілёў—Мінск. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1897 г. фальварак, 1 двор, 10 жыхароў, у Бялыніцкай вол. Магілёўскага павета. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 2 двары, 11 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў, у 1970 г. 76 жыхароў. У 1986 г. 45 жыхароў, у складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца). У 2002 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**РУДНЯ** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Бялыніч, 19 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 34 км ад Магілёва, на р. Вабіч (прыток Друці), на ПнУ і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 29 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын у Магілёўскім павеце, 9 двароў, 47 жыхароў, меліся млын і жал. завод. У 1858 г. 28 рэвізскіх душ, у 1880 г. 17 двароў, 113 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 23 двары, 184 жыхары, вадзяны млын, сукнавальня. У 1909 г. 28 двароў, 213 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. пабудавана памяшканне для школы (у 1925 г. 59 вучняў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працаваў вадзяны млын. У 1940 г. 70 двароў, 368 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы спалілі 40 двароў. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 249 жыхароў, у 1970 г. 197 жыха-

роў. У 1986 г. 93 жыхары, у складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка), клуб, магазін. У 2002 г. 37 гаспадарак, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой паўн. і паўд. частак. Забудова двухбаковая, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**РЫЖКОЎ** — пасёлак у Эсьмонскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Бялыніч, 57 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 14 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У 1940 г. 20 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў, у 1970 г. 92 жыхары. У 1986 г. 46 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1). У 2002 г. 14 гаспадарак, 26 жыхароў. Прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**САВЕЦКАЯ** (да 30.7.1964 г. Гарватка) — вёска ў Бялыніцкім пас. Савеце, за 7 км на У ад Бялыніч, 40 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Мінск—Магілёў.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1630 г. згадваецца як с. Гарватка, 16 двароў, у Бялыніцкай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета, 12 дымоў, 71 жыхар. Паводле інвентару 1825 г. ў складзе фальварка Запакула, 13 дымоў, 80 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 134 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 34 двары, 185 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 8 двароў і расстралялі 3 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар, у 1970 г. 60 жыхароў. У 1986 г. 5 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялынічы» (цэнтр — г.п. Бялынічы). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Забудова няшчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**САГЛАССЕ** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Бялыніч, 25 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Магілёў—Круглае. 12 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 69 жыхароў, у 1970 г. 49 жыхароў. У 1986 г. 40 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2002 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна і забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СВЯЦІЛАВІЧЫ** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 9 км на У ад Бялыніч, 31 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Магілёў—Мінск, на З мяжуе з лесам, на Пн невялікае возера, з якога выцякае р. Свяцілаўка. 198 гаспадарак, 508 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Віцебскім ваяв. ВКЛ. У 1577 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Аршанскага павета. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 40 дымоў, 289 жыхароў. Памешчык меў тут у 1873 г. 483 дзес. зямлі, а два другія ў 1874 г. 820 дзес. зямлі. У 1880 г. ў Свяцілавічах 1 — 23 двары, 142 жыхары, у Свяцілавічах 2 — 24 двары, 129 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася ганчарным промыслам. У 1897 г. ў Свяцілавічах 1 — 30 двароў, 226 жыхароў, у Свя-

цілавічах 2 — 28 двароў, 181 жыхар, у Нежкаўскай вол. Побач існавалі фальварак, 1 двор, 32 жыхары, засценак — 4 двары, 29 жыхароў і засценак Самадулаўка (ён жа Свяцілавічы), 2 двары, 6 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа, у якой навучаліся 42 хлопчыкі і 3 дзяўчынкі. У 1909 г. ў Свяцілавічах 1 — 37 двароў, 275 жыхароў, у Свяцілавічах 2 — 28 двароў, 219 жыхароў, у засценку 6 двароў, 34 жыхары, у засценку Самадулава (ён жа Свяцілавічы) 2 двары, 9 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 4 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У школе, якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак, навучаліся ў 1925 г. 62 хлопчыкі і дзяўчынкі, дзейнічаў драмгурток. У выніку пажару, які адбыўся 8.6.1925 г., у в. Свяцілавічы 2 згарэлі 13 пабудоў трох гаспадароў. У 1926 г. ў Свяцілавічах 1 — 77 двароў, 412 жыхароў, у Свяцілавічах 2 — 43 двары, 210 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 15 двароў, расстралялі 8 жыхароў. 73 вяскоўцы загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Свяцілавічы 1 — 380 жыхароў, у в. Свяцілавічы 2 — 269 жыхароў. У хуткім часе гэтыя вёскі аб'ядналіся ў адзін населены пункт Свяцілавічы, у якім паводле перапісу 1970 г. было 654 жыхары. У 1986 г. 541 жыхар. У складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Студзёнка), дзейнічалі цагельня, лясніцтва, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, дзіцячы сад, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, магазін, б-ка. У 2002 г. 217 гаспадарак, 548 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас імя Заслонава», сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Праект планіроўкі распрацаваны ў 1983 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой вуліц Лугавой (уздоўж ракі), Школьнай і Маладзёжнай. Уздоўж вуліцы Школьнай сярод жылой забудовы размяшчаюцца грамадскія будынкі. Па вуліцы Маладзёжнай будуюцца мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя жылыя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. Астатнюю забудову складаюць драўляныя дамы сядзібнага тыпу.

**СЕВЕР** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Бялыніч, 26 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Магілёў—Круглае. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920 г. У 1922 г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 69 жыхароў. У 1986 г. 36 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2002 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма сапраўднага чл. Расійскай і Бел. с.-г. акадэміі М.М.Севярнёва.

**СІВАІ** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Бялыніч, 35 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Магілёў—Круглае, на З мяжуе з лесам. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. вёска Сівая, у Магілёўскай акрузе. У 1849 г. ў складзе маёнтка Таргоншчына Магілёўскага павета. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 54 двары, 367 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 58 двароў, 423 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У школе ў 1925 г. навучаліся 60 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1926 г. 79 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны калектывіст». У Вял.

Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 59 двароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 221 жыхар, у 1970 г. 147 жыхароў. У 1986 г. 64 жыхары, у складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын). Ёсць магазін. У 2002 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў. Прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СІНЬКОВА** — вёска ў Запольскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Бялыніч, 30 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 69 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі 4 двары, загубілі 24 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 23 жыхары, у 1970 г. 40 жыхароў. У 1986 г. 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СІПАЙЛЫ** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 21 км на У ад Бялыніч, 30 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на ўсх. ускраіне р. Вабіч (прыток Друці), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 61 гаспадарка, 102 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. вёска, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, 34 двары, 197 жыхароў. У 1880 г. 62 двары, 379 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, бандарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 83 двары, 542 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, вінная крама. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1922 г. створана с.-г. арцель «Адраджэнне». У 1926 г. 105 двароў, 584 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Краіна Саветаў». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лесе каля вёскі ў 1942 г. дыслацыраваўся 122-і партыз. атрад «За Радзіму». 46 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 547 жыхароў, у 1970 г. 424 жыхары. У 1986 г. 22 жыхары, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Камяніца), клуб, магазін. У 2002 г. 72 гаспадаркі, 133 жыхары. На ПнЗ ад працяглай шыротнай вуліцы размешчана кароткая вуліца такой жа арыентацыі, на Пд — адасобленая частка вёскі. Забудова драўляная, двухбаковая, шчыльная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СКАВАРОДКА** — пасёлак у Запольскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Бялыніч, 26 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 64 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 8 двароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 43 жыхары, у 1970 г. 47 жыхароў. У 1986 г. 22 жыхары, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СМАГІЛЁЎКА** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Бялыніч, 35 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск, 56

км ад Магілёва, на З р. Аслік (прыток Друці), на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 1897 г. 27 двароў, 169 жыхароў. У 1907 г. 156 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У 1940 г. 25 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўцы спалілі 19 двароў, загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 98 жыхароў, у 1970 г. 65 жыхароў. У 1986 г. 21 жыхар, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1). У 2002 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў. Кароткая шыротная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СНЫТКІ** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Бялыніч, 50 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на паўд. ускраіне р. Вабіч (прыток Друці), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета, 9 двароў, 34 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У 1940 г. 33 двары, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 82 жыхары, у 1970 г. 61 жыхар. У 1986 г. 23 жыхары, у складзе калгаса імя К.С.Засланава (цэнтр — в. Студзёнка). У 2002 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Планіроўка лінейная з аднабаковай забудовай. Вуліца арыентавана шыротна, забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма доктара медыцынскіх навук І.П.Мардачова.

**СТАДОЛІШЧА** — вёска ў Запольскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Бялыніч, 29 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 72 км ад Магілёва, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

У 1897 г. сядзіба, 3 двары, 14 жыхароў, у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Побач быў фальварак Аляксандраўка (ён жа Стадолішча), 2 двары, 18 жыхароў. У 1907 г. 33 двары, 301 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў, у 1970 г. 92 жыхары, У 1986 г. 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка лінейная, забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 22 км на З ад Бялыніч, 55 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 77 км ад Магілёва, на З р. Клява (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 60 гаспадарак, 192 жыхары (2007).

На паўд. ускраіне вёскі захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. У 1681 г. ў валоданні Галоўчынскага дамініканскага касцёла. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 165 жыхароў. У 1907 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 170 жыхароў. У 1917 г. 181 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 33 двары, 185 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 29 двароў, расстралялі 3 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 98 жыхароў, у 1970 г. 81 жыхар. У 1986 г. вёска, 106 жыхароў, цэнтр калгаса «Іскра», дзейнічалі клуб, пач. школа, магазін, б-ка, аддз. сувязі, аў-

таматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 66 гаспадарак, 234 жыхары. У 2007 г. цэнтр УКСП «Саўгас «Іскра», школа-сад, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СТАРАЯ КЛЁЎКА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 23 км на З ад Бялыніч, 56 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 78 км ад Магілёва, на зах. ускраіне р. Клява (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 24 гаспадаркі, 32 жыхары (2007).

У 1885 г. згадваецца як с. Кліёўка, 26 двароў, 206 жыхароў, у Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 40 двароў, 226 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква. У 1907 г. 42 двары, 306 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 46 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 8 двароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 197 жыхароў, у 1970 г. 193 жыхары. У 1986 г. 90 жыхароў, у складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле). У 2002 г. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў. Прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СТАРОЕ ЛЯДА** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 16 км на У ад Бялыніч, 31 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Камяніца). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Будынкі драўляныя, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Бялыніч, 26 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Круглае—Магілёў, на ўсх. ускраіне р. Вабіч (прыток Друці). 54 гаспадаркі, 99 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1573 г. аддадзена Галоўчынскаму касцёлу. У 1667 г. ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1681 г. фальварак, млын і царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка і Галоўчынскага дамініканскага кляштара, 22 двары, 109 жыхароў. У 1834 г. цэнтр казённага маёнтка Магілёўскага павета, 123 жыхары. У 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 28 двароў, 183 жыхары. Побач існавалі аднайменныя аколіца, 8 двароў, 35 жыхароў, і сядзіба — 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 30 двароў, 218 жыхароў, у аколіцы 5 двароў, 36 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 58 двароў, 279 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVI партз'езд». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў, у 1970 г. 190 жыхароў. У 1986 г. 145 жыхароў, у складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын), пач. школа і магазін. У 2002 г. 57 гаспадарак, 125 жыхароў. Гал. вуліца з'яўляецца часткай аўтадарогі. Ад яе на Пн адыходзіць другая вуліца. Адасобленая частка вёскі на ПдУ. Забудова драўляная, двухбаковая, шчыльная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СТАРЫНА** — вёска ў Запольскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Бялыніч, 28 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 66 км ад Магілёва, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска ўзнікла ў 1920-я г.

У 1930 г. арганізаваны калгас «Вольная праца». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 54 жыхары, у 1970 г. 62 жыхары. У 1986 г. 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СТУДЗЁНКА** — вёска ў Запольскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Бялыніч, 31 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 39 км ад Магілёва, на Пн р. Малыш (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1777 г. вёска, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў маёнтку Галоўчын Магілёўскага павета, 9 двароў, 57 жыхароў. У 1880 г. 23 двары, 139 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. 15.2.1924 г. адкрыта школа (у 1925 г. 41 вучань). У 1926 г. 34 двары, 169 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў, у 1970 г. 55 жыхароў. У 1986 г. 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле). У 2002 г. ў вёсцы ніхто не жыў. Амаль прамалінейная кароткая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СТУДЗЁНКА** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Бялыніч, 35 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на зах. ускраіне воз. Краснае і забалочаная тэр., на У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 30 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

У 1667 г. маёнтак, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1897 г. вёска, 30 двароў, 166 жыхароў, у Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. 183 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 71 жыхар, у 1970 г. 121 жыхар. У 1986 г. 110 жыхароў, цэнтр калгаса імя К.С.Заслонава, дзейнічалі магазін, сталовая, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад. У 2002 г. 37 гаспадарак, 79 жыхароў. Амаль прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СУПШЫНКА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Бялыніч, 24 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Побач аўтадарога Круглае—Магілёў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Кароткая мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СУРДЫ** — вёска ў Галоўчынскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Бялыніч, 22 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на аўтадарозе Круглае—Магілёў, на ўсх. ускраіне р. Вабіч (прыток Друці). 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1681 г. сяло ў валоданні Галоўчынскага дамініканскага касцёла. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў маёнтку Старое Сяло Магілёўскага павета, 18 двароў, 121 жыхар. З 1847 г. ў складзе маёнтка

Ярмолавічы. У 1897 г. ў Нежкаўскай вол., 29 двароў, 176 жыхароў. У 1909 г. 190 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта земская школа. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У школе ў 1925 г. навучаліся 58 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1926 г. 51 двор, 280 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Наша перамога». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 1 км на У ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліп. 1941 г. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 жыхары загублены гітлераўцамі. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары, у 1970 г. 175 жыхароў. У 1986 г. 99 жыхароў, у складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын). У 2002 г. 32 гаспадаркі, 49 жыхароў. Планіроўка V-падобная. Гал. вуліца з'яўляецца часткай аўтадарогі. Ад яе на Пн уздоўж ракі адыходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СЦЕХАВА** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Бялыніч, 54 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на У р. Друць (басейн Дняпра), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 45 гаспадарак, 76 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, 92 рэвізскія душы, у Магілёўскім павеце. У 1880 г. 43 двары, 259 жыхароў. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася шавецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 51 двор, 364 жыхары, хлебазапасны магазін. У тым жа годзе адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 63 двары, 439 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У школе ў 1925 г. навучаліся 52 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У 1940 г. 88 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 7 двароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У брацкай магіле на могілках пахаваны 10 партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. Паводле перапісу 1959 г. 407 жыхароў, у 1970 г. 291 жыхар. У 1986 г. 156 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Алешкавічы 1), клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, пач. школа, магазін. У 2002 г. 61 гаспадарка, 112 жыхароў. Планіроўка лінейная. Шыротная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СЦЯПАНАЎКА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 23 км на У ад Бялыніч, 25 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Круглае—Магілёў, на У мяжуе з лесам. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. вёска ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2002 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары. Планіроўка лінейная. Шыротная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СЯКЕРКА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Бялыніч, 54 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Мінск—Магілёў, на Пд і З мяжуе з лесам. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2007).

Паводле інвентару 1825 г. ў складзе фальварка Ключы, 11 дымоў, 67 жыхароў. У 1847 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 23 двары, 142 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 58 двароў, 285 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 63 двары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 52 двары, загубілі 18 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 225 жыхароў, у 1970 г. 195 жыхароў. У 1986 г. 96

жыхароў, у складзе саўгаса імя К.Каліноўскага (цэнтр — в. Вялікая Машчаніца), клуб, б-ка, пач. школа, магазін. У 2002 г. 29 гаспадарак, 54 жыхары. Планіроўка лінейная. Шыротная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**СЯЛЯНСКАЯ КЛЁЎКА** — вёска ў Машчаніцкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Бялыніч, 50 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 73 км ад Магілёва, на зах. ускраіне р. Клява (прыток Бярэзіны), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 26 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

У 1897 г. засценак, 26 двароў, 193 жыхары, меўся малітоўны дом. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1923 г. адкрыта школа (у 1925 г. 60 вучняў), дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 49 двароў, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 42 двары, расстралялі 2 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 191 жыхар, у 1970 г. 185 жыхароў. У 1986 г. 99 жыхароў, у складзе саўгаса «Іскра» (цэнтр — в. Стараселле), 8-гадовая школа, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 32 гаспадаркі, 66 жыхароў. Планіроўка крыжападобная. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. У месцы перакрыжавання вуліц размешчаны грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЯМІКАЎКА** — вёска ў Запольскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Бялыніч, 28 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 67 км ад Магілёва, на паўд. ускраіне р. Малыш (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1897 г. засценак, 11 двароў, 93 жыхары, у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 19 двароў, 158 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1926 г. 38 двароў, 192 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Усход». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 4 двары, загубілі 5 жыхароў. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 114 жыхароў, у 1970 г. 129 жыхароў. У 1986 г. 61 жыхар, у складзе саўгаса «Падзевічы» (цэнтр — в. Заполле), магазін. У 2002 г. 20 гаспадарак, 33 жыхары. Планіроўка лінейная. Шыротная вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ТАРГОНШЧЫНА** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Бялыніч, 33 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, побач аўтадарога Бялынічы—Шклоў, на Пн мяжуе з лесам.

Памешчык меў тут у 1876 г. 240 дзес. зямлі. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 12 жыхароў, у Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета. З лютага да кастр. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У 1926 г. 11 двароў, 64 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «12-годдзе Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Наша перамога» (цэнтр — в. Галоўчын). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ТУАЛІН** — вёска ў Вішоўскім с/с, за 23 км на У ад Бялыніч, 23 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Мінск—Магілёў. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска, 13 рэвізскіх душ, у Магілёўскім павеце. У 1897 г. згадваецца в. Тэалін, 11 двароў, 67 жыхароў, у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета. Побач быў аднайменны пасёлак — 5 двароў, 39 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 12 двароў, 56



*М.М.Шаранкоў.*

жыхароў, у пасёлку 6 двароў, 31 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 152 жыхары, у 1970 г. 106 жыхароў. У 1986 г. 62 жыхары, у складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Ермалавічы). У 2002 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка лінейная. Шыротная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**УСХОД** (да 30.7.1964 г. Блёўка) — вёска ў Вішоўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Бялыніч, 31 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1770 г. сяло, 9 двароў, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ўпамінаецца як с. Блюўка у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў маёнтку Глухаўшчына Магілёўскага павета, 12 двароў, 72 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі заклік». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Ленінскі заклік» (цэнтр — в. Лямніца). У 2002 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ФОЙНА** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Бялыніч, 50 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на У меліярацыйны канал, на З р. Друць (басейн Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Шклоў—Бялынічы. 19 гаспадарак, 84 жыхары (2007).

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. вёска, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета, 25 двароў, 135 жыхароў. Паводле інвентару 1825 г. 24 двары, 189 жыхароў, у 1840 г. 216 жыхароў. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 49 двароў, 356 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 96 двароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Храбры араты». У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1950 г. далучаны в. Іванаўка, пас. Якушоўка. Паводле перапісу 1959 г. 214 жыхароў. У 1986 г. 206 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Ланькава), магазін, пач. школа. У 2002 г. 62 гаспадаркі, 114 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ХВАТАЎКА** — вёска ў Эсьмонскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Бялыніч, 35 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск, 56 км ад Магілёва, на ўсх. ускраіне р. Аслік (прыток Друці), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. З гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1897 г. 17 двароў, 128 жыхароў, вадзяны млын. У 1907 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 21 двор, 155 жыхароў. У 1917 г. 171 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. У 1923 г. адкрыта школа (у 1925 г. 33 вучні). У 1924 г. 29 двароў, 209 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага. У 1940 г. 35 двароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар, у 1970 г. 99 жыхароў. У 1986 г. 24

жыхары, у складзе саўгаса «Эсьмоны» (цэнтр — в. Эсьмоны), магазін. У 2002 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. Мерыдыянальная вуліца ўздоўж ракі забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЦЯХЦІН** — вёска, цэнтр Цяхцінскага с/с, за 18 км на Пд ад Бялыніч, 20 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 65 км ад Магілёва, на У р. Друць (басейн Дняпра), на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 360 гаспадарак, 938 жыхароў (2007).

За 0,2 км на Пд ад вёскі, на мысе першай надпоймавай тэрасы правага берага Друці і безназоўнага ручая, захаваліся Рэчыцкія стаянкі эпохі неаліту. За 0,5 км на Пд ад іх, на правым беразе Друці, знаходзіцца другая неалітычная стаянка. Тут жа захаваліся курганны могільнік (4 насыпы) і паселішча. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. У 1848 г. цэнтр казённага маёнтка Магілёўскага павета, 39 двароў, 268 жыхароў. Побач былі фальварак і карчма. Гаспадар маёнтка меў у 1868 г. ў вёсках Цяхцін і Вугольшчына 231 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню, заезны дом. У 1880 г. 47 двароў, 352 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым, кравецкім, калёсным, сталярным, бандарным і кавальскім промысламі, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, а таксама посуду з дрэва. У 1897 г. ў Царковішчанскай вол. Магілёўскага павета, 85 двароў, 545 жыхароў. Непадалёку былі 2 сядзібы (2 двары, 14 жыхароў, заезны дом) і фальварак (1 двор, 8 жыхароў). Школа граматы ператворана ў земскую, для якой у тым жа годзе ўзведзены ўласны будынак. У 1909 г. ў вёсцы 120 двароў, 1647 жыхароў, на ферме Цяхцін — 1 двор, 6 жыхароў, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У школе ў 1925 г. навучаліся 56 хлопчыкаў і дзяўчынак, дзейнічала хата-чытальня. У 1926 г. 210 двароў, працавала смалакурня. У 1933 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі дзейнічаў 121-ы партыз. полк. Партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. Гітлераўцы спалілі 16 двароў, расстралялі 10 жыхароў. У брацкай магіле на могілках пахаваны 8 партызан. 54 вяскоўцы загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе. На ўшанаванне памяці жыхароў з вёсак Цяхцінскага с/с, загінуўшых у барацьбе супраць фашызму, у 1968 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 5.2.1965 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 1081 жыхар. У 1960-я г. далучана в. Крынкі. У 1970 г. 1024 жыхары. У 1986 г. 891 жыхар, цэнтр саўгаса «Друць», дзейнічалі ветэрынарны ўчастак, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 365 гаспадарак, 900 жыхароў. У 2007 г. цэнтр ААТ «Новая Друць», школа-сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-



*В.К.Бялыніцкі-Біруля. Прыцемкі юнага мая. 1943 г.*

прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Праект планіроўкі распрацаваны ў 1981 г. ў БелНДІдзіпрасельбудзе. Жылая зона мае прамавугольную планіроўку. Галоўнай з'яўляецца вуліца Перамогі (зах. частка тэр.) і яе працяг — вуліца Савецкая (усх. частка), арыентаваныя шыротна. Паралельна да іх ідуць вуліцы Падгорная, Лясная, Лугавая, Саўгасная. На Пн пры ўездзе ў вёску грамадскі цэнтр. Каля сквера — мураваныя 8- і 12-кватэрныя двухпавярховыя будынкі. Астатняя забудова драўляная, з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма бел. і рус. сав. жывапісца-пейзажыста, нар. мастака Беларусі і Рас. Федэрацыі, правадз. чл. Акадэміі мастацтваў Рас. Федэрацыі, ганаровага акадэміка Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь В.К.Бялыніцкага-Бірулі (б. сядзіба Крынкі, што знаходзілася побач з в. Цяхцін).



*В.К.Бялыніцкі-Біруля.*

У склад Цяхцінскага с/с уваходзілі да 1968 г. пас. Крушынаўка, да 1971 г. вёскі Мілінік, Новыя Бахані, Старыя Бахані (не існуюць).

**ЧЫГІРЫ** — вёска ў Ланькаўскім с/с, за 16 км на Пн ад Бялыніч, 61 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на З р. Чыгірынка (прыток Друці), на У — р. Друць (басейн Дняпра). Побач аўтадарога Шклоў—Бялынічы. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. вёска, у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 21 двор, 128 жыхароў, меўся вятрак. У 1834 г. 75 жыхароў, у 1846 г. ў складзе маёнтка Круглае, 35 двароў, 228 жыхароў. У 1880 г. 49 двароў, 309 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася пяньковым, шавецкім і кравецкім промысламі. У 1909 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1916 г. вёска акупіравана герм. войскамі. 1.6.1921 г. ў былым маёнтку створана с.-г. арцель «Чырвоны бор». У выніку пажару, які адбыўся 15.5.1925 г., у вёсцы згарэлі 28 двароў. У школе ў 1925 г. навучаліся 65 хлопчыкаў і дзяўчынак, працаваў чырвоны куток. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар, у 1970 г. 105 жыхароў. У 1986 г. 48 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра), магазін. У 2002 г. 17 гаспадарак, 21 жыхар. Крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ, забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА** — пасёлак у Лебядзянкаўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Бялыніч, 18 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 42 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «XV з'езд». У 1940 г. 11 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка). У 2002 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў. Кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Лебядзянкаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Бялыніч, 20 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 42 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 29 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

За 1 км на З ад вёскі захавалася стаянка канца 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э., якая размяшчаецца на месцы мезалітычнага паселішча. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай

старажытнасці. У 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета, 10 двароў, 64 жыхары. У 1909 г. 14 двароў, 80 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 20 двароў, 86 жыхароў, працавала школа (у 1925 г. 57 вучняў). У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 47 двароў, 238 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. полк. У брацкай магіле на могілках пахаваны 8 партызан, якія загінулі 22.3.1942 г. ў баі супраць акупантаў. У др. брацкай магіле на могілках пахаваны 10 сав. воінаў, загінуўшых пры вызваленні вёскі. 12 землякоў загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 232 жыхары, у 1970 г. 185 жыхароў. У 1986 г. 107 жыхароў, у складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка), дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2002 г. 35 гаспадарак, 62 жыхары. Прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЧЫРВОНЫ АРАТЫ** — пасёлак у Галоўчынскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Бялыніч, 36 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 27 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «КІМ». У 1940 г. 19 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1970 г. 123 жыхары. У 1986 г. 90 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Малы Кудзін), клуб, магазін. У 2002 г. 28 гаспадарак, 52 жыхары. Планіроўка лінейная. Прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЧЫРВОНЫ БОР** — вёска ў Цяхцінскім с/с, за 16 км на Пд ад Бялыніч, 25 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы, 62 км ад Магілёва, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Мінск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў, у 1970 г. 63 жыхары. У 1986 г. 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Друць» (цэнтр — в. Цяхцін). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЧЫРВОНЫ САД** — пасёлак у Лебядзянкаўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Бялыніч, 19 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы, 53 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 6 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 40 жыхароў, у 1970 г. 30 жыхароў. У 1986 г. 16 жыхароў, у складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Лебядзянка). У 2002 г. 7 гаспадарак, 5 жыхароў. Кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ШЫЛАВІЧЫ** — вёска ў Бялыніцкім пас. Савеце, за 6 км на У ад Бялыніч, 38 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў, на ўсх. ускраіне р. Запакулка (прыток р. Няропля), на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Магілёў—Мінск. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1630 г. сяло, 7 двароў, у Бялыніцкай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Бялынічы Магілёўскага павета, 18 дымоў, 103 жыхары. Паводле інвентару 1825 г. 20 дымоў, 126 жыхароў. У 1897 г. ў Бялыніцкай вол., 29 двароў, 182 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У вер. 1923 г. адкрыта школа (у 1925 г. 54 вучні). З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.6.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. 46 двароў, 272 жыхары. У кастр. 1928 г. створаны калгас. У 1940 г. 462 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ураджэнка вёскі Г.Я.Гарохава ў час акупацыі зберагла сцяг 447-га палка 161-й стралк. дывізіі, за што была ўзнагароджана ордэнам Айч. вайны 1-й ступені. Гітлераўцы спалілі 15 двароў. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў, у 1970 г. 122 жыхары. У 1986 г. 53 жыхары, у складзе саўгаса «Бялынічы» (цэнтр — г.п. Бялынічы). У 2002 г. 22 гаспадаркі, 32 жыхары. Дзве кароткія мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы забудаваны двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЭСЬМОНЫ** — вёска, цэнтр Эсьмонскага с/с, за 15 км на ПнЗ ад Бялыніч, 40 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск, 58 км ад Магілёва, на р. Аслік (прыток Друці), на Пн, Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 128 гаспадарак, 295 жыхароў (2007).

На паўн.-зах. ускраіне, на правым беразе р. Аслік, захаваўся курганны могільнік (44 насыпы) канца 10 — пач. 13 ст. У вайну 1812 г. тут дзейнічаў атрад Дз.Давыдава. У 2-й чвэрці 19 ст. мястэчка, валоданне кн. Радзівіла. Мелася царква. У 1857 г. адкрыта школа, для якой у 1904 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1861 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 41 двор, 180 жыхароў. У 1885 г. цэнтр воласці (да 17.7.1924 г.), 52 двары, 260 жыхароў, меліся млын, паштовая станцыя, царк.-прыходская школа, царква. У 1897 г. мястэчка, 70 двароў, 233 жыхары, працавалі вадзяны млын, 6 крам, 2 карчмы, нар. вучылішча, царква, малітоўны дом. У тым жа годзе засн. ф-ка па выпуску калодак для вырабу абутку (у 1900 г. 13 рабочых). У 1909 г. 66 двароў, 421 жыхар. З лютага да кастр. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі. У 1924 г. 105 двароў, 528 жыхароў, школа (у 1925 г. 108 вучняў), хата-чытальня. З 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. і з 15.1.1965 г. цэнтр сельсавета Бялыніцкага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1937 г. пачало дзейнічаць аддз. сувязі. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На паўн.-ўсх. ускраіне пахаваны 106 жыхароў, якіх у жн. 1941 г. загубілі ням. акупанты. У чэрв. 1942 г. гітлераўцы спалілі 2 двары, загубілі 64 жыхароў. У студз.—чэрв. 1944 г. ў вёсцы базіраваўся штаб партыз. злучэння «Трынаццаць» С.У.Грышына. У памяць аб ім на будынку канторы саўгаса ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Непадалёку ад вёскі некаторы час дыслацыравалася і партыз. брыгада «Чэкіст». На могілках пахаваны 11 партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 15 — у партыз. барацьбе. На ўшанаванне памяці 249 землякоў з вёсак саўгаса «Эсьмоны» каля канторы саўгаса ў 1968 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў. У 1986 г. 319 жыхароў, цэнтр саўгаса «Эсьмоны», дзейнічалі машынны двор, лясніцтва, ветэрынарны ўчастак, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, дзіцячы яслі-сад, гандл. цэнтр, сталовая, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 144 гаспадаркі, 344 жыхары. У 2007 г. школа-сад, б-ка, клуб, аддз. сувязі, ста-

ловая, магазін. Праект планіроўкі распрацаваны ў 1974 г. ў Магілёўскім філіяле ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна складаецца з падзеленых ракой 2 частак: усх. (ад гал. вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі адыходзяць кароткія дугападобныя) і зах. (прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ). У зах. частцы ўзведзены двухпавярховыя 8-кватэрныя мураваныя дамы, а таксама двухпавярховыя дзвюохкватэрныя дамы з кватэрамі ў 2 узроўнях. Астатняя забудова драўляная, ва ўсх. частцы двухбаковая, шчыльная, у заходняй пераважна аднабаковая. Жылыя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ЯСНАЯ ПАЛЯНА** — пасёлак у Ланькаўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Бялыніч, 59 км ад абл. цэнтра і чыг. ст. Магілёў. На ПдУ мяжуе з лесам. Каля вёскі найвышэйшы пункт раёна (207 м). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Магілёў—Мінск. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ільіч». У 1940 г. 20 двароў, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў, у 1970 г. 54 жыхары. У 1986 г. 27 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Іскра). У 2002 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар. Кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 2, спр. 206; ф. 6, воп. 1, спр. 413; ф. 30, воп. 1, спр. 6758; воп. 2, спр. 3731; воп. 5, спр. 6758—6760; воп. 9, спр. 2392; ф. 31, воп. 1, спр. 23/21, 179, 255; воп. 3, спр. 10, 54, 1842; воп. 11, спр. 1353; ф. 42, воп. 1, спр. 681, 930, 1127, 1538, 1842, 5018; воп. 2, спр. 2973, 2976, 2977, 3942, 3943, 3948, 3949, 3952—3960, 3962—3972, 3975, 3976, 3978—3981, 3984—3987, 3991 –3996, 3998, 4000, 4001, 4210, 4216, 4224, 4228, 4247; ф. 46, воп. 1, т. 2, спр. 519; ф. 48, воп. 1, спр. 2271, 2315, 2821, 2962, 3918, 4432, 5018; ф. 221, воп. 1, спр. 22; ф. 251, воп. 1, спр. 264; ф. 258, воп. 1, спр. 33; ф. 259, воп. 1, спр. 33; ф. 334, воп. 1, спр. 447, 470; воп. 2, спр. 33, 37; ф. 338, воп. 1, спр. 140; ф. 691, воп. 3, т. 1, спр. 45, 47; ф. 1251, воп. 1, спр. 65; ф. 3500, воп. 4, т. 1, спр. 96, 96а, 96б.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 149—151, 152/1, 155; ф. 694, воп. 2, т. 4, спр. 6484, 9484; ф. 1297, воп. 1, спр. 10446, 18712; ф. 1731, воп. 1, спр. 46; ф. 2001, воп. 1, спр. 54, 81, 190, 261; ф. 2014, воп. 1, спр. 33, 34, 37, 41; ф. 2072, воп. 1, спр. 163; ф. 2189, воп. 1, спр. 225, 238—240; ф. 2221, воп. 1, спр. 11, 14, 24; ф. 3537, воп. 1, спр. 160.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 812, воп. 1, спр. 401.

Расійская Нацыянальная бібліятэка, Г4, 768.

Расійскай акадэміі навук бібліятэка, ф. 30, воп. 2, спр. 30, 113; ф. 52, воп. 1, спр. 263.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 42, воп. 2, спр. 3997; ф. 389, воп. 1, спр. 272; ф. 577, воп. 19, спр. 69, 171, 706, 721, 727, 762, 772, 784, 788, 789, 803; ф. 822, воп. 11, спр. 216, 866, 866а, 872, 873, 883, 883а; воп. 12, спр. 2589; ф. 1278, воп. 1, спр. 285; ф. 1290, воп. 11, спр. 1300, 1306, 1341, 1353; ф. 1297, воп. 1, спр. 19712; ф. 1350, воп. 312, спр. 94.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 2336, 3236, 3280, 3281, 3374; ф. 459, воп. 1, спр. 1996; ф. 716, воп. 1, спр. 4595; ф. 1135, воп. 4, спр. 509; воп. 17, спр. 147; ф. 1282, воп. 1, спр. 1027.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, ф. А, спр. 1686.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 16—2, 16—11, 16—202, доп. 264.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1—2. СПб., 1863—65.
Статистический временник Российской империи. [Вып.] 1. СПб., 1866.
Историко-юридические материалы... Вып. 13. Витебск, 1882; Вып. 18. Витебск, 1888; Вып. 20. Витебск, 1890; Вып. 22—25. Витебск, 1891—94.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2—3. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб, 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учебный год. Могилев, 1889.
Фабрично-заводская промышленность: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.
Довнар-Запольский М.В. Западно-русская сельская община в XVI в. СПб., 1897.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.
Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.
Населенные места Российской империи... СПб., 1905.
Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.
Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1907 г. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/08 учебный год. Могилев, 1907.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1. Книги записей. Т. 1. СПб., 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.
Обзор Могилевской губернии за 1911 г. Могилев, 1912.
Соха и молот. 1919. 16 сент.
Список населенных мест Б.С.С.Р. (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1. Мн., 1935.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1960.
Зара. 1971. 12 жн.
Зара камунізма. 1972. 23 вер.; 1983. 2 ліп.
Гісторыя Беларускай ССР. Т. 3—4. Мн., 1973—75.
Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.
Рыбакоў В.В. Бялынічы // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 2.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Мн., 1978.
Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Т. 2, кн. 2 (июль—декабрь 1943). Мн., 1978.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. 2 изд. Мн., 1995.
Литовская метрика. Кн. 227 (1533—1535). Вильнюс, 1999.
Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. (карта) // Атлас гісторыі Беларусі: ад старажытнасці да нашых дзён: (дадат. да 6-томнай «Энцыкл. гісторыі Беларусі»). Мн., 2004.
Республика Беларусь: энцикл. Т. 2. Мн., 2006.
Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3. Warszawa, 1846.
Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959.
Encykłopedyja powszecha. T. 3. Warszawa, 1860.
Morzy J. Eryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965. S. 39.
Słownik geografichny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 1. Warszawa, 1880.
Sapiehowie. Materiały historyczno-genealogiczne i majątkowe. Pb., 1890. T. 1. S. 405.



АСІПОВІЦКІ РАЁН
БАБРУЙСКІ РАЁН
ЛЮБАНСКІ РАЁН
САЛІГОРСКІ РАЁН
МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
АКЦЯБРСКІ РАЁН
Глуск
Арыжня
Рудня
Яўсеевічы
Сіманавічы
Завалочыцы
Ясянцы
Стар. Дарогі
Горнае
Паляна
Заполле
Дварэц
Гарадок
Бабруйск
Бабірова
Гарадзішча
Туркі
Кнышы
Масцішча
Юзафова
Макраны
Сельцы
Вільча
Бервы
Жалвінец
Макавічы
Калюга
Барысаўшчына
Карпавічы
Баравішча
Засценак-Дуброва
Пагост
Краснае
Кіраўскае
Стар. Село
Залессе
Сцяпанаўка
Дуброва
Прываравцце
Чыкілі
Вольніца
Калацічы
Мыслоціна
Кляшчоўка
Доўгі Лес
Кастрычнік
Прыплавы
Казловічы
Хваставічы
Падкаленда
Зарэчча
Балашэвічы
Усцярхі
Засценак-Усцярхі
Нязнанне
Барацiна
Карніца
Турына
Дасціжэнне
Брады
Крукаўшчына
Поблін
Падзамша
Слабодка
Лучкі
Вяснова
Поўстка
Любань
Уюнішча
Гарадзішча
Розлевічы
Падлужжа
Даколь
Красны
Вайцяхова
Жукавічы
Цяснова
Згода
Пяценка
Старына
Клетнае
Новаандрэеўка
Бярозаўка
Сялец
Байлюкі
Беражкі
Пагарэлае
Зелянковічы
Зара
Баянава
Зубарэвічы
Малінава
Барбарова
Амур
Замасточча
Заракуша
Касарычы
Бабровічы
Заеліца
Сцяг
Лціч
Слаўкавічы
Катка
Халопенічы
Чапаева
Дзяржынскі
Слабодка
Малкава
Акцябрскі
53°00'
52°50'
28°30'
28°45'
Маштаб 1:260 000



# ГЛУСКІ РАЁН

Размешчаны на ПдЗ Магілёўскай вобл. Пл. 1,3 тыс. км². Насельніцтва (на 1.1.2006 г.) 18,9 тыс. чал.; гарадскога 40,5%. Сярэдняя шчыльнасць 15 чал. на 1 км². Асн. насельніцтва беларусы (93,9%), рускія (4,5%) і інш. (1,6%). Цэнтр — г.п. Глуск. У складзе раёна 105 сельскіх населеных пунктаў, 9 сельсаветаў: Бярозаўскі, Завалочыцкі, Казловіцкі, Калаціцкі, Каткаўскі, Кіраўскі, Слаўкавіцкі, Хваставіцкі. Аўтадарогі Слуцк—Бабруйск, Бабруйск—Глуск—Любань, Глуск—Акцябрскі.

Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.). 20.8.1924 г. падзелены на 19 сельсаветаў. З 20.2.1938 г. ў Палескай вобл. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. — пач. ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты правялі на тэр. раёна карныя аперацыі «Бамберг» (сак. і крас. 1942 г.), №6 і «Гольдфельд» (жн. 1942 г.), знішчылі каля 3 тыс. чал., спалілі разам з жыхарамі вёскі Белыя, Паршчаха (пасля вайны не адноўлены), Масты, Славіна, Уюнішча. Дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (4.8.1943—28.6.1944) і ЛКСМБ (жн. 1941—28.6. 1944 г.), партыз. брыгады 99-я імя Гуляева, 100-я Глуская, 121-я імя Брагіна, 123-я Кастрычніцкая імя 25-годдзя Беларусі, 161-я імя Катоўскага, 225-я, 258-я імя Куйбышава, Глускі асобны партыз. атрад. Выходзіла падп. газ. «Сацыялістычная вёска». Вызвалены ў канцы чэрв. 1944 войскамі 1-га Бел. фронту разам з партызанамі ў ходзе Бабруйскай аперацыі 1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай, з 23.1.1960 г. ў Магілёўскай абласцях. 25.12.1967 г. Глускі р-н скасаваны, яго тэр. перададзена Бабруйскаму р-ну. 30.7.1966 г. раён адноўлены.

Раён знаходзіцца ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны і Прыпяцкага Палесся. Паверхня раўнінная, вышыня 140—160 м над узроўнем мора, макс. 177,9 м (каля в. Горнае). Карысныя выкапні: нафта, торф, калійныя солі, сапрапель, пяскі, гліны. Сярэдняя т-ра студз. -6,6 °С, ліп. — 18,1 °С Ападкаў 631 мм у год. Буйнейшая р. Пціч з прытокамі Ліса, Бежыца, Да-

*Старт уборачнай кампаніі.*

*Цэнтральнабярэзінская раўніна ў Глускім раёне.*







*Зажынкі-2007 у Глускім раёне.*

колька і інш. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, тарфяна-балотныя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, поймен-ныя і інш. Лясы пераважна сасновыя і бярозавыя. Мясамалочная жывёлагадоўля, пасевы збожжавых і кармавых культур, бульбы. Прадпрыемствы харч., драваапрацоўчай прам-сці; здабыча нафты. У раёне (на 1.1.2006 г.) 11 сярэдніх, 1 базавая, 2 пач. школы, дзіцячая школа мастацтваў, санаторная школа-інтэрнат, цэнтры пазашкольнай работы, карэкцыйна-развіваючага навучання, інфармацыйных тэхналогій; дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі, 24 клубныя ўстановы, 13 кінаўстановак, 21 б-ка, 2 бальніцы, 2 амбулаторыі, 15 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Музей баявой і прац. славы ў вёсках Катка і Завалочыцы. На тэр. раёна санаторый-прафілакторый «Пціч», дзіцячы цэнтр медыцынскай рэабілітацыі «Космас», база адпачынку «Гарадок», зоны адпачынку мясц. значэння Бярозаўка, Гарадок, Тоўсты Лес.

Археал. помнікі — курганныя і бескурганныя могільнікі (вёскі Барысаўшчына, Сіманавічы); гарадзішчы, паселішчы (вёскі Даколь, Гарадзішча, Жалвінец, Зеленковічы, Кастрычнік, Падлужжа, Поблін, Сіманавічы, Халопенічы); стаянкі (вёскі Згода, Кнышы, Падлужжа, Поблін). Захаваўся помнік архітэктуры — Свята-Касьма-Даміянаўская царква (1814) у в. Гарадок. Выдаецца газ. «Радзіма».

**ГЛУСК** — гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, 170 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, на р. Пціч, вузел аўтадарог на Бабруйск, Старыя Дарогі, Любань, Акцябрскі. 7,8 тыс. жыхароў (2006).

Тэр. сучаснага Глуска была заселена яшчэ ў глыбокай старажытнасці, калі тут, на берагах Пцічы, каля 7 тысячагоддзяў назад пасялілася абшчына мезалітычных паляўнічых, рыбакоў і збіральнікаў. Існавала паселішча таксама і ў познім каменным і ў бронзавым вяках (3-я — 1-я пал. 1-га тысячагоддзя да н.э.). У раннім жал. веку існавалі 2 раннеслав. паселішчы на паўд. ускраіне і ўмацаванае гарадзішча ў цэнтры пасёлка. Гарадзішча і прылеглую тэр. ў эпоху Кіеўскай Русі засялялі дрыгавічы.

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 14 ст. як вялікакняжацкі «двор», а ў 15 ст. як уладанне князёў Галь-

*Секцыя таэквандо.*



*Мадэлі раённага цэнтра пазашкольнай работы.*



шанскіх-Дубровіцкіх. Тут знаходзіўся замак Глуск Дубровіцкі. Вакол быў земляны вал, а побач — пасады (за сучасным цэнтр. скверам і вул. Жыжкевіча). У 1480 г. Ю.С.Гальшанскі адпісаў Глускую вол. Кіева-Пячэрскаму манастыру. 20.12.1525 г. ўладальнік мястэчка кн. Ю.І.Дубровіцкі атрымаў ад вял. князя і караля Жыгімонта Старога прывілей на кірмаш. Ва «Уставе на валокі» 1557 г. ў ліку іншых пазначана Глуская вол. Паступова Глуск ператвараўся ў гандл. цэнтр. У 1566 г., пасля смерці апошняга з князёў Гальшанскіх, у валоданні Палубінскіх, затым Хадкевічаў і Чартарыйскіх. У 16—17 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ, у 1571 г. цэнтр маёнтка (124 двары, замак, карчма, 12 лавак). У 1628 г. пабудавана праваслаўная царква. На мяжы 16—17 ст. на месцы старога драўлянага замка ўзведзены новы, умацаваны валамі, 5 бастыёнамі, глыбокім шырокім ровам; ён меў гандл. плошчу, але структурна не ўваходзіў у асн. планіровачнае ўтварэнне паселішча. Гэта быў ізаляваны самастойны комплекс, які ў сярэдзіне 18 ст. набыў рысы абарончай замкава-палацавай рэзідэнцыі. У 1677 г. ў ім пабудаваны мураваны бернардзінскі касцёл. Панарама Глуска значна ўзбагацілася.

Асн. заняткам насельніцтва былі жывёлагадоўля, земляробства і гандаль. Уладальнік Глуска К.Палубінскі пісаў у 1628 г., што частымі ў мястэчку былі «бунты і разрухі», таму што ён хацеў «празбою і гразбою» прывесці жыхароў да уніі. У 1638 г. ў Глуску 7 вуліц, 332 участкі зямлі. У 1646 г. граматай караля Уладзіслава IV пацверджаны дазвол на штогадовы кірмаш. У 1648 г. Глуск быў у віры антыфеад. барацьбы на Украіне і Беларусі. У кастр. 1648 г. яго занялі паўстанцы — бел. сяляне і ўкр. казакі. З 1672 да 1677 г. ў Глуску жыў бел. гравёр А.Тарасевіч, які меў тут майстэрню. Ім былі створаны гравюры каляндарнага цыкла, тытульны ліст і 40 ілюстрацый да кнігі «Разарыум».

У 2-й пал. 17 ст. ўладанне Радзівілаў. У Паўн. вайну 1700—21 гг. моцна пацярпеў ад шведаў, якія ў 1706 г. спалілі 2 трэці дамоў. У 1727 г. 673 жыхары, 36 лавак, у сярэдзіне 18 ст. 320 двароў. Пабудовы размяшчаліся на 12 вуліцах, сярод якіх гал. з'яўляліся дарогі на Мінск, Слуцк, Мазыр, Бабруйск. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўлялася 12-вугольная гандл. плошча, дзе размяшчаліся драўляныя Уваскрэсенская і Троіцкая цэрквы, 47 крам і 25 камор, якія ўтваралі замкнёныя гандл. рады. Прадмесце Карпілаўка было самастойным паселішчам, спланаваным на перакрыжаванні 2 дарог. Знойдзены ў 1960 г. ў Глуску манетны скарб (76 білонавых і сярэбраных манет Рэчы Паспалітай, Прусіі, Прыбалтыкі 17—18 ст.) сведчыць аб значных гандл. сувязях мястэчка. У 1775 г. ў выніку спусташальнага пажару жыхары пакінулі мястэчка. Варшаўскі



*Сучасны герб г.п. Глуск.*

*Музей хлеба ў Глускай раённай гімназіі.*



*Дзіцячы гарадок у г.п. Глуск.*





Басейн у г.п. Глуск.



Паліклініка ў г.п. Глуск.

сейм з мэтай вярнуць людзей у Глуск вызваліў іх на 10 гадоў ад падацей. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, цэнтр воласці Бабруйскага павета Мінскай губ., уладанне графа І.Юдзіцкага. У 1798 г. 143 двары, 1336 жыхароў, замак, 2 касцёлы, 3 царквы, гаспадарскі двор, 48 лавак, паштовая станцыя. Працаваў медналіцейны з-д. У час нашэсця Напалеона праз Глуск у ліп. 1812 г. адступала 2-я рус. армія на чале з Баграціёнам. Французы трымалі тут пікет, які ўдзельнічаў у аблозе Бабруйскай крэпасці. У вер. 1812 г. пад Глускам рус. корпус пад камандаваннем ген.-лейт. Эртэля разбіў войскі ген. Дамброўскага, якія служылі французам. У 1818 г. Глуск уяўляў сабой рэгулярную, дробнаквартальную горадабудаўнічую структуру, цэнтрам якой з'яўлялася квадратная гандл. плошча з гандл. радамі ў выглядзе пастаўленых у форме карэ драўляных карпусоў. Плошча была звязана мастом з умацаваным замкам, 5-гранная тэр. якога выступала за межы гар. забудовы ў бок р. Пціч. Арх. дамінантамі забудовы былі 2 драўляныя царквы (на тэр. замка і на Пн ад плошчы). На паўд.-ўсх. баку меўся мост праз Пціч. У 1861 г. 430 двароў, 3278 жыхароў, мураваны касцёл і кляштар, 2 драўляныя царквы, 5 малітоўных школ. У 1-й чвэрці 19 ст. ў валоданні Бжастоўскіх. Расла гандл.-прам. дзейнасць. У 1885 г. дзейнічалі 5 скураных з-даў, 82 лаўкі, выраблялісія палотны «спарты» з асінавых стружак, ажыццяўлялася перагонка дзёгцю, смалаі вінакурэнне. Паводле перапісу 1897 г. 675 двароў, 4778 жыхароў, 3 медаварні, 2 нар. вучылішчы, царк.-прыходская школа, лячэбніца, паштова-тэлегр. аддз., 125 лавак, 9 заезных дамоў. У 1907 г. 870 двароў, 6680 жыхароў.

У студз. 1918 г. мястэчка захоплена легіянерамі Доўбар-Мусніцкага. Члены рэўкома пайшлі ў падполле. Быў сфармі-



Цэнтральны парк у г.п. Глуск.



Фантан у г.п. Глуск.





*Кафэ «Галіёціс» у г.п. Глуск.*

*Глуская раённая гімназія.*

раваны партыз. атрад (звыш 300 чал.). У лютым 1918 г. Глуск захапілі войскі кайзераўскай Германіі. Найбольш буйным з на тэр. Глускай і Рудабельскай валасцей быў партыз. атрад пад кіраўніцтвам А.Р.Салаўя (800 чал.). Для каардынацыі дзеянняў партыз. атрадаў меўся штаб на чале з С.Л.Вілюгам. 28.11.1918 г. воіны Чырвонай Арміі разам з партызанамі вызвалілі Глуск. У 1918 г. ўведзена ў дзеянне электрастанцыя на 20 кВт. У жн. 1919 г. Глуск акупіраваны польскімі войскамі. Зноў арганізуюцца партыз. атрады. 12.7.1920 г. вызвалены часцямі 2-й дывізіі 16-й арміі. У 1921 г. пачалі дзейнічаць тэлеграф, аптэка, у 1922 г. — 7-гадовая школа (у 1929 г. 369 вучняў). 4.5.1922 г. створана с.-г. т-ва, якое ў 1924 г. аб'ядноўвала 34 гаспадаркі, у 1923 г. меліярацыйнае, у 1924 г. — крэдытнае т-вы. У б. маёнтку Глуша пачаў працаваць агранамічны ўчастак. У 1922 г. адкрыты хата-чытальня, ветэрынарны ўчастак, у 1923 г. бальніца. На дапамогу галадаючым Паволжа ў 1922 г. ў Глускай Богаяўленскай царкве былі ўзяты сярэбраныя чаша, дыска, лжыца, крыж — усяго срэбра вагой 3 фунты 88 залатнікоў, у Глускай Уваскрэсенскай царкве — падобнае ж начынне агульнай вагой 4 фунты 64 залатнікі 48 долей. З 17.7.1924 г. цэнтр раёна Бабруйскай акругі, налічваў 4600 жыхароў. 31.7.1925 г. створана спажывецкае т-ва. У 1926 г. тут давала канцэрты і дэманстравала свае пастаноўкі трупа Галубка. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. У 1928 г. 755 гаспадарак, 538 кустароў, якія потым аб'ядналіся ў арцелі. З 1929 г. дзейнічалі Нар. дом, рабоча-сял. клуб, Дом селяніна. У сярэдзіне 1920-х г. з мястэчка вылучаны пас. Міхалёўка. У 1928 г. пачала дзейнічаць невялікая ўстаноўка па выпрацоўцы электраэнергіі, а ў 1932 г. здадзена ў эксплуатацыю электрастанцыя магутнасцю 20 кВт. З прадпрыемстваў найбольш

*Выпуск 2007 г. ў Глуску.*

*Адкрыццё Алеі Славы ў г.п. Глуск.*





*Свята-Богаяўленская царква ў г.п. Глуск (1998).*



*Богаяўленская царква ў Глуску (1863 г., у 1960-я г. знесена).*



значнымі былі паравы і вадзяны млыны, электрастанцыя, стужкавая арцель «Спарта» (269 рабочых), абутковая (57 рабочых) і кравецкая (70 рабочых) арцелі. З ліст. 1930 г. выходзіла раённая газ. «Камунар Глушчыны». У 1932 г. створана МТС (у 1938 г. 56 трактароў і шмат іншай тэхнікі). У 1936 г. пабудавана электрастанцыя на 44 кВт, дзейнічалі паравы млын, леспрамгас, прадукцыяй якога забяспечваліся новабудоўлі Беларусі і Украіны, РСФСР. У 1932 г. здадзены ў эксплуатацыю радыёвузел (у 1933 г. 127, у 1938 г. 322 радыёкропкі). З 1938 г. гар. пасёлак. У 1939 г. 5125 жыхароў, сярэдняя і пач. школы.

У Вял. Айч. вайну 27.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, але супраціўленне акупантам працягвалася. У ліп. тут вяла баі Самара-Ульянаўская дывізія пад камандаваннем ген. К.М.Галіцкага, якая трапіла ў акружэнне. Кавалерыйская група ген.-палкоўніка А.І.Гарадавікова прарвалася ў варожы тыл і выз-

*Дзень Перамогі.*



*Помнік Герою Сав. Саюза С.Ф.Шутаву ў г.п. Глуск.*



валіла Глуск, але пасля цяжкіх баёў вымушана была адступіць. Разгортваўся партыз. рух. На базе знішчальнага батальёна быў створаны партыз. атрад, які ўзначаліў У.Ц.Шантар. У ліп. 1941 г. быў 1944 г. пачалі функцыяніраваць 2 электрастанцыі, 2 паравыя млыны, 2 лесапільні, ваўначоска, сукнавальня. 15.8.1944 г. аднавілі працу гарбарны з-д, раённая бальніца, амбулаторыя, аптэка, затым Глуская



*Мемарыяльны комплекс землякам у г.п. Глуск.*

сфарміраваны Глускі партыз. атрад (камандзір М.С.Марціновіч, камісар А.М. Кавалёнак). Глускі падп. райком КП(б)Б, створаны 4.8.1943 г., базіраваўся ў 225-й і 100-й партыз. брыгадах. Выходзіла падп. раённая газ. «Сацыялістычная вёска» (рэдактар С.Ф.Шумскі). Вызвалены Глуск 26.6.1944 г. войскамі 28-й арміі 1-га Бел. фронту пры ўзаемадзеянні з партызанамі. У баях за гар. пасёлак вызначыліся воіны батальёна І.М.Філіпоўскага (удастоены звання Героя Сав. Саюза). У канцы ліп. МТС, лясніцтва. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай, з 23.1.1960 г. ў Магілёўскай абласцях. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Бабруйскім р-не. Тэр. гар. пасёлка ў 1955 г. склала 1,4 км². У 1959 г. 4326 жыхароў. У 1956 г. пабудаваны плодаагароднінны, у 1971 г. — масласырзавод, у 1975 г. — мэблевая ф-ка. Дзейнічаюць 4 дзіцячыя сады, 3 сярэднія школы і школа-інтэрнат, дзіцячая школа мастацтваў, дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі, цэнтр пазашкольнай работы,

*Помнік С.І.Грахоўскаму ў г.п. Глуск.*

*Адкрыццё памятнага знака воінам-інтэрнацыяналістам у г.п. Глуск.*







*І.Л.Акуліч.*



*В.К.Іваноў.*

кінатэатр, стадыён, Дом культуры, раённая б-ка, бальніца, паліклініка, пошта, аддз. ашчаднага банка, 2 аптэкі, 3 магазіны, сталовая, хлебакамбінат, гасцініца. Магіла ахвяр фашызму. Мемарыяльны комплекс землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнік двойчы Герою Сав. Саюза С.Ф.Шутаву. У 1965 г. ўведзена ў дзеянне аўтаматычная тэлеф станцыя. Выдаецца раённая газ. «Радзіма», дзейнічае раённае радыёвяшчанне. Свята-Богаяўленская царква (1998).

Праект генплана гар. пасёлка распрацаваны Бел. цэнтр. н.-д. ін-там горадабудаўніцтва ў 1974 г. Яго карэкціроўка ажыццёўлена ў 1983 г. Планіровачная структура падпарадкавана накірунку ракі. Нізкая пойма расчляняе пасёлак на паўн. і паўд. раёны. У паўн. раёне размешчаны асноўны жылы фонд і адм.-гасп. цэнтр, у паўд. — прам-сць і частка жылой забудовы. Вулічная сетка ў асн. прамавугольная, падзелена на дробныя кварталы. Уздоўж ракі размешчана гал. вул. Кірава, да якой дапасуецца шэраг паралельных вуліц (Вялюгі, Пралетарская), аб'яднаных завулкамі. Цэнтр. частка (вул. Кірава) забудавана 2—5-павярховымі мураванымі дамамі. Вакол цэнтр. плошчы склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Катэджная мураваная забудова склалася пры выездзе з гар. пасёлка па вул. Кірава. Астатняя забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Найбольш спрыяльны напрамак развіцця гар. пасёлка — паўн., уздоўж р. Пціч, у бок в. Калацічы.

Радзіма бел. паэта Я.Бобрыка (памёр у блакадным Ленінградзе), доктара эканам. навук І.Л.Акуліча, засл. дзеяча мастацтваў Беларусі В.К.Іванова, бел. мастака Г.Ф.Сурмы, доктара тэхн. навук, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР Я.А.Райхмана, бел. гравёра А.Тарасевіча. Ганаровымі грамадзянамі Глуска з'яўляюцца: А.М.Валошын, А.У.Глаз, С.І.Грахоўскі, І.М.Грышын, К.Г.Кавалёў, П.С.Кітчанка, С.М. Крывашэін, А.В.Львоў, П.І.Мішарын, У.Ф.Раманоўскі, Н.Р.Рафіеў, П.І.Сіненка, В.У.Шчэцька, У.К.Якавенка.

**АМУР** (да 1964 г. Шумяцічы) — вёска ў Слаўкавіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 204 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

У 1897 г. фальварак (1 двор, 33 жыхары) у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 115 жыхароў. 6.10.1922 г. створана с.-г. арцель «Іскра», у 1929 г. — калгас «Амур», які ў 1936 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі, меў 517 га с.-г. угоддзяў. У 1940 г. 24 двары, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1942 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 155 жыхароў, у 1986 г. 32 гаспадаркі, 63 жыхары, магазін. У 2002 г. 18

*Раённы дом культуры ў г.п. Глуск.*



*Жылы дом па вуліцы Савецкай ў г.п. Глуск.*



гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе цэнтра адыходзіць другая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая, шчыльная.

**АРЫЖНЯ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Глуска, 8 км ад чыг. ст. Дараганава на лініі Асіповічы—Старыя Дарогі, 163 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнЗ цячэ р. Арыжня (прыток Пцічы), вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сіманавічы і далей па шашы Старыя Дарогі—Бабруйск. Зараз у вёсцы ніхто не жыве.

У 1907 г. засценак (16 двароў, 99 жыхароў) у Навадарожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. хутар у Гарадкоўскай вол. У 1926 г. хутары, 19 двароў, 119 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Майскі прамень», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13, а ў 1937 г. 25 гаспадарак. Паводле перапісу 1970 г. 98 жыхароў, у 1986 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная.

**БАБІРАВА** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Глуска, 162 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Старыя Дарогі—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Макавічы, Краснае і далей па шашы Глуск—Дачнае. 174 гаспадаркі, 380 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1790 г. вёска (12 двароў), прыватнафеад. ўладанне ў Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяв. У 1847 г. цэнтр маёнтка ў Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка, 32 двары, 230 жыхароў. У 1897 г. ў Новадарожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 68 двароў, 427 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, царква. Побач быў другі населены пункт пад такой жа назвай (34 двары, 194 жыхары). У 1907 г. ў вёсцы 84 двары, 468 жыхароў, у аднайменным засценку 21 двор, 153 жыхары. У 1907 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 108 двароў, 711 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 29.8.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Макавіцкім с/с Глускага р-на Бабруйскай акругі БССР (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай, з 23.1.1960 г. Магілёўскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Бабруйскім, з 30.7.1966 г. зноў у Глускім р-нах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 57 вучняў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі ў абарончых баях супраць гітлераўцаў у 1941 г. загінулі сав. воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле на вяс-



*Г.Ф.Сурма.*



*Я.А.Райхман.*



*Новабудоўля 2007 г. ў г.п. Глуск.*



*Вуліца Пушкінская ў г.п. Глуск.*



С.І.Грахоўскі.



І.М.Грышын.

ковых могілках. Вызвалена 26.6.1944 г. На фронце загінулі 87 вяскоўцаў. У памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1969 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 752 жыхары, у 1986 г. 222 гаспадаркі, 508 жыхароў. У 2002 г. 194 гаспадаркі, 495 жыхароў. Дзейнічаюць комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. ашчаднага банка, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, базавая школа, б-ка, хлебапякарня, кафэ, 2 магазіны, спарт. пляцоўка, аддз. сувязі. Планіроўка набліжана да квартальнай. Гал. вуліца плаўна выгнута, арыентавана мерыдыянальна. Ад яе на У і З адыходзяць другарадныя вуліцы. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры вёскі сярод жылой забудовы. Пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу.

**БАБРОВІЧЫ** — вёска ў Каткаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Глуска, 21 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 159 км ад Магілёва, на У і ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 52 гаспадаркі, 87 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1568 г. як сяло ў Навагрудскім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1845 г. ў складзе маёнтка Халопенічы Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 14 двароў, 108 жыхароў. Пасля рэформы 1861 г. ў вёску перасяліліся 12 сял. сем'яў. Паводле перапісу 1897 г. ў Ляскавіцкай вол., 37 двароў, 289 жыхароў. У 1908 г. 47 двароў, 370 жыхароў, у 1917 г. 65 двароў, 433 жыхары. З лютага да ліст. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. 1.10.1924 г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 78 вучняў), для якой у 1926 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1926 г. 81 двор, 423 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны востраў». Летам 1931 г. ў выніку пажару згарэла 50 двароў. З дапамогай дзяржавы і калгаса вёска ў хуткім часе была адбудавана. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты 27.2.1944 г. загубілі 27 жыхароў (пахаваны ў магіле на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі). Вызвалена 28.6.1944 г. Загінулі на фронце ці сталі ахвярамі фаш. тэрору 130 землякоў, у памяць аб якіх у 1966 г. ўзведзена стэла. Паводле перапісу 1970 г. 486 жыхароў, у 1986 г. 107 гаспадарак, 220 жыхароў. У 2002 г. 72 гаспадаркі, 125 жыхароў. Ёсць магазін, спарт. пляцоўка. Планіроўка П-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна, да яе далучаюцца 2 другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАЙЛЮКІ** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Глуска, 25 км ад




Вуліца Кірава ў г.п. Глуск.



Універмаг «Глусчанка» ў г.п. Глуск.

чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 183 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1692 г. прыселак, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ, 10 дымоў. У 1727 г. вёска Буйлухі, у складзе маёнтка Глуск. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1847 г. ў складзе маёнтка Машнічы Бабруйскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 78 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол., 24 двары, 136 жыхароў. Побач быў аднайменны выселак (1 двор, 5 жыхароў), у 1917 г. 33 двары, 205 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942 г. загубілі 27 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 139 жыхароў, у 1986 г. 39 гаспадарак, 83 жыхары. У 2002 г. 26 гаспадарак, 41 жыхар. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую і арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з двухбаковай шчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**БАЛАШЭВІЧЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 7 км на У ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 164 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, на Пд р. Пціч (прыток Прыпяці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 166 гаспадарак, 360 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло ў Глускай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1571 г. 10 жыхароў мужчынскага полу. У 1581 г. ў складзе маёнтка Глуск. У 1708 г. цэнтр войтаўства ў Глускім графстве. У 1727 г. шляхецкая ўласнасць, 37 двароў, 41 жыхар мужчынскага полу, у 1756 г. — 55 двароў, 63 жыхары мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Па звестках 1818 г. на З ад вёскі быў панскі двор, які займаў квадратны ўчастак мясцовасці на беразе ракі, з паўн. боку абмежаваны дарогай Глуск—Парычы і забудаваны драўлянымі будынкамі. У 1844 г. ў складзе маёнтка Зарэчча, 52 двары, 226 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 128 двароў, 712 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1907 г. 135 двароў, 766 жыхароў, у 1917 г. 148 двароў, 860 жыхароў. У студз. 1918 г. ў час акупацыі легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага тут быў сфарміраваны партыз. атрад (250 чал.). У 1921 г. адкрыта школа (у 1925 г. 81 вучань). У 1926 г. 170 двароў, 881 жыхар. У 1927 г. для школы пабудавана ўласнае памяшканне. У 1932 г. ў вёсках Балашэвічы і Зарэчча арганізаваны калгас «15-годдзе Кастрычніка», які ў 1936 г. меў 1564 га с.-г. угоддзяў. У Вял. Айч. вайну 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. На ўшанаванне іх памяці ў 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1970 г. 762 жыхары, у 1986 г. 232 гаспадаркі, 493 жыхары. У 2002 г. 200 гаспадарак, 428



*К.Г.Кавалёў.*



*Універмаг у г.п. Глуск.*



*Будынак райвыканкама ў г.п. Глуск.*



І.І.Бобрык.

жыхароў. Дзейнічаюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, базавая школа, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, магазін, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, грамадская лазня, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі. У цэнтры сярод сял. сядзіб грамадскія будынкі.

**БАРАВІШЧА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратмiравiчы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 191 км ад Магілёва, на ПнЗ і ПдУ мяжуе з лесам, на паўд. ускраіне пачынаецца р. Ольніца (прыток р. Даколька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Старыя Дарогі. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1626 г. як сяло ў складзе маёнтка Глуск Дубровіцкі Глускай вол. Навагрудскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 26 двароў, 70 жыхароў. Побач быў хутар Баравішча (ён жа Курган), 2 двары, 11 жыхароў. У 1926 г. 45 двароў, 267 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка» (у 1932 г. аб'ядноўваў 22, у 1936 г. — 59 гаспадарак). Паводле перапісу 1970 г. 129 жыхароў, у 1986 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2002 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. Прамалінейная кароценькая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана рэдка, драўлянымі сял. хатамі.

**БАРАЦІНА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 10 км на З ад Глуска, 32 км ад чыг. ст. Ратмiравiчы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 182 км ад Магілёва, вакол лес, на Пн р. Ольніца (прыток р. Даколька). Паблізу аўтадарога Глуск—Любань. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

У 1917 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 261 жыхар. У 1926 г. 46 двароў. У 1935 г. арганізаваны калгас імя Г.Дзімітрава, які ў 1937 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 13 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках). Паводле перапісу 1970 г. 99 жыхароў, у 1986 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў. У 2002 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўлянымі сял. хатамі.

**БАРБАРОВА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 13 км на Пд ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Ратмiравiчы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 187 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Акцябрскі, на Пн мяжуе з лесам. 57 гаспадарак, 81 жыхар (2007).

У 1897 г. вёска і маёнтак, у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1912 г. адкрыта земская школа, для якой сяляне, у т. л. з бліжэйшых вёсак сабралі грошы і купілі будынак. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1923 г. 91 вучань). У 1922 г. адкрыта хата-чытальня, у 1931 г. арганізаваны калгас «3-і рашаючы» (у 1932 г. аб'ядноўваў 77, у 1936 г. 116 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942—43 гг. загубілі 77 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 54 вяскоўцы, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1970 г. 393 жыхары, у 1986 г. 107 гаспадарак, 198 жыхароў. У 2002 г. 77 гаспадарак, 118 жыхароў, магазін. Планіроўка Г-падобная. Асн. прамалінейная вуліца арыентавана шыротна. На Пн ад яе адыходзіць другая вуліца, на У адасобленая частка забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова. У цэнтры сярод жылой забудовы грамадскія будынкі. Радзіма бел. пісьменніка А.Н.Марціновіча.

Каля вёскі ў водазаборы р. Даколька знаходзіцца радовішча торфу.

**БАРЫСАЎШЧЫНА** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 10 км на Пн ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Ратмiравiчы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 184 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, на У р. Пціч (прыток Прыпяці). Паблізу аўтадарога Глуск—

Дачнае. 57 гаспадарак, 106 жыхароў (2007).

За 2 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Камарынка (прыток Пцічы) захаваўся бескурганны могільнік бронзавага веку, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1597 г. як с. Барысавічы ў Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 6 дымоў. У 1626 г. ў складзе маёнтка Глуск Дубровіцкі ў Глускай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1847 г. цэнтр маёнтка ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 15 двароў, 115 жыхароў. У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол., 34 двары, 256 жыхароў, царква. Побач быў аднайменны маёнтак (7 двароў, 61 жыхар, вадзяны млын). У 1907 г. ў сяле 57 двароў, 382 жыхары, у маёнтку 55 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 73 двары, 406 жыхароў, у маёнтку 67 жыхароў. З 1964 да 1973 г. цэнтр Барысаўшчынскага с/с. З 1921 г. дзейнічаў вадзяны млын. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. ў вёсцы 83 двары, 405 жыхароў, у былым маёнтку 10 двароў, 74 жыхары. У 1931 г. адкрыта 4-гадовая школа і арганізаваны калгас «Чырвоная ніва». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 5 жыхароў. 35 вяскоўцаў загінулі на фронце, на ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1968 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 374 жыхары, у 1986 г. 106 гаспадарак, 195 жыхароў, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАЯНАВА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 12 км на Пд ад Глуска, 16 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 187 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Акцябрскі, на У мяжуе з лесам, на Пн р. Дакалька (прыток Пцічы). 42 гаспадаркі, 57 жыхароў (2007).

У 1844 г. вёска (20 двароў, 122 жыхары) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Глускай вол., 32 двары, 183 жыхары. Побач быў аднайменны маёнтак, 2 двары, 15 жыхароў, вадзяны млын, заезны дом. У 1916 г. ў вёсцы было 35 двароў, 206 жыхароў, у маёнтку 22 жыхары, адкрыта аднакласная школа. У 1917 г. ў вёсцы 38 двароў, 224 жыхары, у маёнтку 16 жыхароў. У 1922 г. адкрыта 4-гадовая школа, для якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1924 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі, дзейнічала меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. вёска (51 двор, 262 жыхары) і пасёлак (4 двары, 27 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 52, у 1937 г. — 84 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942—43 гг. загубілі 35 жыхароў. Партызаны ў 1942 г. падарвалі каля вёскі мост праз раку. Паводле перапісу 1970 г. 274 жыхары, у 1986 г. 68 гаспадарак, 140 жыхароў. У 2002 г. 57 гаспадарак, 87 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі. Частка жылой забудовы размешчана на З адасоблена.

**БЕРВЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Бабруйск, 166 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам, на ПдЗ пачынаецца р. Ліса (прыток Пцічы). Побач аўтадарога Глуск—Бабруйск. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1621 г. вёска, уласнасць казны, у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1790 г. 13 дымоў, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 65 жыхароў. У 1908 г. 15 двароў, 86 жыхароў, у 1917 г. 19 двароў, 121 жыхар. У 1926 г. 23 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 жніўня», які аб'ядноўваў у 1932 г. 19, у 1935 г. — 31 гаспадарку. У 1940 г. 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў кастр. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жы-



*А.Н.Марціновіч.*

хароў. Паводле перапісу 1970 г. 85 жыхароў, у 1986 г. 30 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2002 г. 10 гаспадарак, 10 жыхароў. Прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**БРАДЫ** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 179 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Любань, вакол лес, на У меліярацыйны канал. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1847 г. в. Чорныя Брады (9 двароў, 81 жыхар) у складзе казённага маёнтка Брожа. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 19 двароў, 102 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 54 жыхары, у 1986 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2002 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка ў адну кароценькую плаўна выгнутую, шыротна арыентаваную вуліцу з двухбаковай няшчыльнай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска, цэнтр Бярозаўскага с/с (з 24.8.1924 г.), за 15 км на ПдУ ад Глуска, 17 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 177 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, на У р. Пціч (прыток Прыпяці). Побач аўтадарога Глуск—Ратміравічы. 130 гаспадарак, 327 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 49 рэвізскіх душ. У 1847 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, 20 двароў, 146 жыхароў. З 1877 г. дзейнічаў вінакурны з-д (у 1890 г. 8 рабочых). У 1887 г. ў Глускай вол., 32 двары, 226 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1917 г. ў вёсцы 44 двары, 294 жыхары, у маёнтку 91 жыхар. У 1917 г. адкрыта школа. У 1919 г. ў баі супраць польскіх інтэрвентаў у наваколлі загінулі 14 партызан (пахаваны ў брацкай магіле за 2 км на У ад вёскі). 20.7.1920 г. ў былым панскім маёнтку быў створаны саўгас, дзейнічалі вінакурны з-д, вадзяны млын. У 1924 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 24.8.1924 г. цэнтр Бярозаўскага с/с Глускага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 30.7. 1966 г. зноў Глускага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 20.9.1944 г. — Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай, з 23.1.1960 г. ў Магілёўскай абласцях 8.5.1925 г. арганізавана с.-г. арцель «Серп». У 1926 г. 55 двароў, 317 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавіцкая перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 62, у 1935 г. — 117 гаспадарак. У 1934 г. пабудаваны магазін, у 1936 г. ўзведзены новы будынак для школы. У 1937 г. адкрыты ветэрынарны пункт. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. Паводле перапісу 1970 г. 292 жыхары, у 1986 г. 108 гаспадарак, 276 жыхароў. У 2002 г. 128 гаспадарак, 354 жыхары. Дзейнічаюць 2 майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, кузня, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, гандл. цэнтр, сталовая, аддз. сувязі, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПнЗ на ПдУ. На яе скрыжаванні з завулкам грамадскія будынкі. Пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу. На ПнЗ і ПдУ ад асноўнай адасобленыя ўчасткі забудовы. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Мінскай і Палескай абласцей у Вял. Айч. вайну М.Б.Храпко (быў камісарам 37-й партыз. брыгады імя А.Я.Пархоменкі).

**БЯРЭЖКІ** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 10 км на Пд ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 185 км ад Магілёва, на Пд р. Далолька (прыток Пцічы), непадалёку аўтадарога Глуск—Акцябрскі. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

У 1897 г. в. Бярэжкі (яна ж Горкі) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 82 жыхары. У 1907 г. 10 двароў, 82 жыхары, у 1917 г. 14 двароў. У 1924 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой

памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. сяляне ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 88 жыхароў, у 1986 г. 20 гаспадарак, 34 жыхары. У 2002 г. 17 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ВАЙЦЯХОВА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 4 км на Пд ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 191 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам, на З р. Цюрынка (прыток р. Даколька), непадалёку аўтадарога Глуск—Акцябрскі. 31 гаспадарка, 42 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1677 г. вёска ва ўладанні касцёла і кляштара бернардзінцаў у Глуску. У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 28 жыхароў. У 1907 г. 26 двароў, 136 жыхароў, у 1917 г. 29 двароў, 167 жыхароў. У 1926 г. 36 двароў, 185 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942 г. загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 234 жыхары, у 1986 г. 62 гаспадаркі, 112 жыхароў, магазін. У 2002 г. 40 гаспадарак, 52 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ВЕСНАВА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 184 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Непадалёку аўтадарога Глуск—Любань. 58 гаспадарак, 259 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1772 г. в. Весно, 12 дымоў, 13 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкае уладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1874 г. засн. вінакурны з-д, на якім у 1884 г. ўстаноўлена паравая машына. У 1879 г. ў маёнтку працавалі ўжо 2 вінакурныя з-ды (15 рабочых). У 1897 г. в. Вясно (яна ж Добчыцы) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 121 жыхар. Побач аднайменны маёнтак (4 двары, 25 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы 20 двароў, 145 жыхароў, на хутары 1 двор, 10 жыхароў, у маёнтку 86 жыхароў. 13.1.1921 г. на былых памешчыцкіх землях створаны саўгас. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. Дзейнічаў вінакурны з-д. У 1931 г. адкрыта пач. 4-гадовая школа. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 29, у 1936 г. — 52 гаспадаркі. У 1939 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну ўраджэнец вёскі І.М.Тараховіч быў адным з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Міншчыне. Паводле яго партыз. псеўданіма в. Лапухі Капыльскага р-на перайменавана ў Дунаева. Паводле перапісу 1970 г. 229 жыхароў, у 1986 г. 79 гаспадарак, 178 жыхароў. У 2002 г. 74 гаспадаркі, 151 жыхар. Ёсць дзіцячы сад, магазін, ветэрынарны ўчастак. Скарочаная схема планіроўкі развіцця вёскі распрацавана ў ін-це «Белгіпрасельбуд» у 1964 г. Прамалінейная вуліца арыентавана шыротна і забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ВІЛЬЧА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Глуска, 33 км ад чыг. ст. Бабруйск, 165 км ад Магілёва, на ПнЗ мяжуе з лесам, на У р. Ліса (прыток Пцічы). Побач аўтадарога Глуск—Бабруйск. 48 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

Упершыню ў рукапісных крыніцах упамінаецца пад 1583 г. як с. Велча ў Ноўскай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. цэнтр маёнтка Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 29 двароў, 167 жыхароў. У 1874 г. адкрыта школа (з 1903 г. земская) і пабудавана для яе ўласнае памяшканне. У 1885 г. сяло (25 двароў, 210 жыхароў, царква) у Гарадкоўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 404 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач быў фальварак, 8

двароў, 64 жыхары, вінакурны з-д (засн. ў 1885 г., 6 рабочых, паравая машына), ветраны млын. У 1907 г. ў сяле 67 двароў, 445 жыхароў, у маёнтку 18 жыхароў, у 1917 г. ў сяле 84 двары, у маёнтку 5 жыхароў, у засценку 5 двароў, 26 жыхароў. У час польскай акупацыі з жн. 1919 г. ліп. 1920 г. каля вёскі партызаны вялі баі супраць польскіх войск. У пач. 1920-х г. вясковая школа пераўтворана ў 4-гадовую (у 1925 г. 76 вучняў). 5.3.1923 г. створана каап. т-ва «Пралетарый». У 1926 г. вёска (110 двароў, 478 жыхароў) і хутар (17 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога» (у 1932 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі). У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 338 жыхароў, у 1986 г. 86 гаспадарак, 169 жыхароў. У 2002 г. 59 гаспадарак, 85 жыхароў. Ёсць магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка квартальная. Дзве прамалінейныя вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і злучаны завулкамі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на паўн. ускраіне.

**ВОЛЬНІЦА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 13 км на З ад Глуска, 18 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 190 км ад Магілёва, вакол лес, на З р. Ольніца (прыток р. Даколька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 47 гаспадарак, 106 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1516 г. як с. Вольніца ў Глускай вол. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уладанне царквы. У 1602 г. млын, у складзе маёнтка Глуск Пагарэлы, 26 дымоў. У 1784 г. ў складзе маёнтка Палажэвічы Глускага графства, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 49 рэвізскіх душ. У 1844 г. пабудавана драўляная царква. У 1865 і 1890 гг. сяляне праводзілі самавольныя парубкі памешчыцкага лесу. У 1885 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 17 двароў, 126 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 201 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1905 г. адкрыта земская школа, для якой у 1912 г. пабудавана памяшканне. У 1917 г. ў сяле 48 двароў, 294 жыхары, у маёнтку, што знаходзіўся побач, 15 жыхароў. Да крас. 1915 г. працаваў у маёнтку вінакурны з-д №278, засн. ў 1908 г. У 1917 г. быў выбраны аб'яднаны сельскі камітэт вёсак Вольніца і Міжлессе. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1923 г. 34 вучні). У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый». Паводле перапісу 1970 г. 363 жыхары, у 1986 г. 86 гаспадарак, 192 жыхары. У 2002 г. 55 гаспадарак, 130 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка Г-падобная, у 2 прамалінейныя вуліцы, гал. з якіх арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі. У месцы злучэння вуліц — сквер і грамадскія будынкі.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 5 км на Пд ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 177 км ад Магілёва, на Пд р. Цюрынка (прыток р. Даколька). Побач аўтадарога Глуск—Акцябрскі. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

У 1847 г. вёска (12 двароў, 93 жыхары) у складзе маёнтка Глуша Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1917 г. ў Глускай вол., вёска і хутар. У 1926 г. 8 двароў, 47 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 58 жыхароў, у 1986 г. 11 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2002 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 160 км ад Магілёва, на З р. Пціч і яе прыток р. Красная. Побач аўтадарога Глуск—Дачнае. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Праз 0,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Царковішча, на левым беразе Пцічы захавалася паселішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі, якое сведчыць аб

засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1626 г. як сяло ў складзе маёнтка Глуск Дубровіцкі Глускай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1846 г. ў складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 2 вёскі — у адной 29 двароў, 179 жыхароў, царква, у другой — 2 двары, 12 жыхароў. У 1907 г. 40 двароў, 245 жыхароў, у 1917 г. 48 двароў, 281 жыхар. У 1926 г. 54 двары, 272 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі. Паводле перапісу 1970 г. 97 жыхароў, у 1986 г. 31 гаспадарка, 57 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ГАРАДОК** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 17 км на ПнУ да Глуска, 36 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Слуцк—Асіповічы, 158 км ад Магілёва, на р. Пціч (прыток Прыпяці) і аўтадарозе Глуск—Дачнае, на З і У мяжуе з лесам. 48 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

У 1814 г. ў сяле пабудавана з дрэва царква (зараз помнік нар. драўлянага дойлідства з выкарыстаннем стылізаваных элементаў класіцызму). У 1846 г. мястэчка (30 двароў) і сяло (24 двары, 148 жыхароў) у складзе маёнтка Дварэц Бабруйскага павета Мінскай губ., уладанне памешчыка. У 1866 г. пабудавана з дрэва другая царква. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 48 двароў, 342 жыхары, вадзяны млын, 3 лаўкі, у сяле 52 двары, 337 жыхароў, хлебазапасны магазін, лаўка. Побач быў маёнтак (6 жыхароў). У 1917 г. ў сяле 99 двароў, 466 жыхароў, у мястэчку 66 двароў, 473 жыхары, у маёнтку 4 жыхары, цэнтр Гарадоцкай вол. У студз. 1918 г., калі вёска была акупіравана легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага, тут быў сфарміраваны партыз. атрад (каля 70 чал.). У 1922 г. адкрыта хата-чытальня, у 1923 г. — бальніца. 20.5.1925 г. створана спажывецкае т-ва. У 1926 г. ў сяле 75 двароў, 459 жыхароў, у мястэчку 66 двароў, 456 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камуніст», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 66 гаспадарак. Дзейнічаў паравы млын. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942—43 гг. загубілі 89 жыхароў. 62 вяскоўцы загінулі на фронце, на ўшанаванне іх памяці ў 1982 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 290 жыхароў, у 1986 г. 89 гаспадарак, 162 жыхары. У 2002 г. 57 гаспадарак, 95 жыхароў. Дзейнічаюць лясніцтва, сярэдняя школа імя двойчы Героя Сав. Саюза С.Ф.Шутава, хлебапякарня, магазін, клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, прафілакторый Бабруйскага шыннага камбіната. Рака падзяляе вёску на паўд.-зах. і паўд.-ўсх. часткі, звязаныя мастом і аўтадарогай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне, на ўзгорку, размешчаны двухпавярховы будынак сярэдняй школы са спарт. пляцоўкай. Радзіма бел. вучонага ў галіне меліярацыі, доктара, тэхн. навук, праф., засл. дзеяча навукі Беларусі В.М.Зубца.

Каля зах. і паўд. ускраін размешчана радовішча пяску (перспектыўныя запасы 771 тыс. м$^3$).

**ГОРНАЕ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Слуцк—Асіповічы, 156 км ад Магілёва. Побач аўтадарога



*Касьма-Даміянаўская царква ў в. Гарадок.*

Бабруйск—Старыя Дарогі. За 0,5 км ад вёскі найвышэйшы пункт раёна (177,9 м). 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

У 1897 г. фальварак (2 двары, 33 жыхары) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. хутары Горнае 1 (935 жыхароў) і Горнае 2 (59 жыхароў). У 1926 г. хутары: Горнае (1 двор, 5 жыхароў), Горнае 1 (7 двароў, 54 жыхары), Горнае 2 (12 двароў, 85 жыхароў). У 1931 г. адкрыта 4-гадовая пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец». Паводле перапісу 1970 г. 121 жыхар, у 1986 г. 42 гаспадаркі, 69 жыхароў. У 2002 г. 31 гаспадарка, 57 жыхароў. Ёсць магазін. Дзве вуліцы прамяніста разыходзяцца, гал. з іх арыентавана шыротна, паралельна да аўтадарогі. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы В.І.Барысіка.


*С.А.Калінкоўскі.*

**ДАКОЛЬ** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 192 км ад Магілёва, на Пн р. Даколька (прыток Пцічы), на Пд, З і У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Любань. 123 гаспадаркі, 337 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1558 г. як сяло ў Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1579 г. ва ўладанні царквы. У 1692 г. 42 дымы, цэнтр войтаўства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1847 г. ў складзе маёнтка Весна Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 49 двароў, 240 жыхароў. У 1885 г. ў Глускай вол., 314 жыхароў, царква. Летам 1891 г. сяляне аказалі супраціўленне ўладам пры размежаванні зямель. Паводле перапісу 1897 г. 85 двароў, 502 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач аднайменны выселак (2 двары, 6 жыхароў). У 1905 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога ў 1910 г. ўзведзены ўласны будынак. У 1907 г. 95 двароў, 525 жыхароў. У 1917 г. 119 двароў, 756 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 г. пад акупацыяй герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскіх войск. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 67 вучняў), у 1922 г. — хата-чытальня, у 1923 г. — фельч. пункт. Да вёскі ў 1923 г. далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 161 двор, 729 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Дакольскага с/с Глускага р-на Бабруйскай (да 20.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 20.9.1944 г. зноў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай, з 21.1.1960 г. ў Магілёўскай абласцях. У сярэдзіне 1920-х г. з вёскі вылучыліся пасёлкі Булякова, Лапаты, Майдан, Гарожы, Камень, Старына, Храсцішча, Ямінец, Свабода, Бярозка, Заграбелле, якія затым у сваёй большасці зліліся з вёскай. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 127 гаспадарак. У 1936 г. ўзведзены новы школьны будынак, у 1937 г. пабудаваны магазін. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942—43 гг. загубілі 58 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 7 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1970 г. 410 жыхароў, у 1986 г. 150 гаспадарак, 291 жыхар. У 2002 г. 150 гаспадарак, 401 жыхар. Дзейнічаюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, лясніцтва, магазін, сталовая, аддз. сувязі, Дом культуры, грамадская лазня, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, б-ка, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, пераважна сял. хатамі. Радзіма Героя Сав. Саюза С.А.Калінкоўскага.

**ДАСЦІЖЭННЕ** — вёска ў Хвастравіцкім с/с, за 1,5 км на Пд ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 174 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Глуск—Любань. 36 гаспадарак, 73 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Дасягненне» (у 1935 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі). Паводле перапі-



*Фрагмент забудовы в. Дварэц.*

су 1970 г. 153 жыхары, у 1986 г. 38 двароў, 90 жыхароў. У 2002 г. 35 гаспадарак, 77 жыхароў. Планіроўка Т-падобная, 2 прамалінейныя вуліцы, больш працяглая з якіх арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ДЗЯРЖЫНСКІ** — пасёлак у Каткаўскім с/с, за 25 км на Пд ад Глуска, 13 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 196 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 15 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з хутароў. Для пасёлка ў 1926 г. быў выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак. Паводле перапісу 1970 г. 156 жыхароў, у 1986 г. 27 гаспадарак, 64 жыхары. У 2002 г. 6 гаспадарак, 26 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 19 км на Пн ад Глуска, 32 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Слуцк—Асіповічы, 154 км ад Магілёва, на З і Пд мяжуе з лесам, на Пн р. Пціч (прыток Прыпяці). Побач аўтадарога Глуск—Дачнае. 29 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло ў Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1626 г. ў складзе маёнтка Глуск Дубровіцкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка, 9 двароў, 51 жыхар. У 1907 г. ў Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 60 жыхароў, у 1917 г. 76 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар (3 двары, 23 жыхары). У 1922 г. ў былым памешчыцкім маёнтку створаны саўгас «Праца». У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Дварэц». Паводле перапісу 1970 г. 187 жыхароў, у 1986 г. 49 гаспадарак, 124 жыхары. У 2002 г. 38 двароў, 84 жыхары. Планіроўка Г-падобная, складаецца з 2 невялікіх прамалінейных вуліц, больш працяглая з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза С.Ф.Шутава.



*С.Ф.Шутаў.*

**ДОЎГІ ЛЕС** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 15 км на У ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 160 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 135 жыхароў, у 1986 г. 29 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2002 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Глуска, 29 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 186 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 122 гаспадаркі, 296 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1579 г. як сяло ў Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, уладанне царквы. У 1602 г. ў складзе маёнтка Глуск Пагарэлы, шляхецкая ўласнасць, 23 дымы. У 1692 г. 30 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. ў складзе маёнтка Палажэвічы, у Глускім графстве. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 55 двароў, 322 жыхары, хле-

базапасны магазін, заезны дом. Побач быў аднайменны фальварак. У 1917 г. ў вёсцы 79 двароў, 494 жыхары, у фальварку 7 двароў, 67 жыхароў. 1.4.1919 г. адкрыта школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 50 вучняў). У 1926 г. вёска (108 двароў, 592 жыхары) і засценак (8 двароў, 53 жыхары). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 89, у 1937 г. — 116 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 4 сав. воіны і 10 партызан (пахаваны на вясковых могілках). Паводле перапісу 1970 г. 547 жыхароў, у 1986 г. 159 гаспадарак, 385 жыхароў. У 2002 г. 141 гаспадарка, 332 жыхары. Дзейнічаюць майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, піларама, аддзяленні паштовае і ашчаднага банка, прамтаварны і прадуктовы магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая. Планіроўка ў 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, трасіраваныя з ПдЗ на ПнУ. Грамадска-адм. цэнтр на ПнУ ускраіне. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

*Сядзібны дом у в. Завалочыцы. 19 ст.*



*Будынак спіртзавода ў в. Завалочыцы. Канец 1880-х г.*




**ЖАЛВІНЕЦ** — вёска ў Калацішкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 189 км ад Магілёва, на Пн р. Пціч (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 27 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

На правым беразе Пцічы, ва ўрочышчы Селішча, захавалася паселішча позняга этапу зарубінецкай культуры (6—8 ст.). Да гэтага ж часу адносіцца і паселішча, што знаходзіцца за 0,9—0,4 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Старыя Клады, на левым беразе Пцічы. Пазначаныя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1597 г. як сяло (12 дымоў) у Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1878 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне ўладам пры правядзенні размежавання зямель, і ў выніку каморнік не быў дапушчаны да землямерных работ. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 70 двароў, 487 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 разы ў год праводзіліся таржкі. У 1907 г. 107 двароў, 743 жыхары, у 1917 г. 138 двароў. У 1908 г. адкрыта школа, для якой у 1913 г. ўзведзены будынак. У студз. 1918 г., у час акупацыі легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага, быў сфарміраваны партыз. атрад (каля 70 чал.). З пач. 1920-х г. працавала 4-гадовая школа (у 1925 г. 92 вучні). У 1926 г. 150 двароў, 696 жыхароў, адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 101 гаспадарку, меў

вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 18 жыхароў. На фронце загінулі 75 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у цэнтры вёскі ў 1969 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 340 жыхароў, у 1986 г. 90 гаспадарак, 148 жыхароў. У 2002 г. 41 гаспадарка, 74 жыхары. Планіроўка Т-падобная. Больш працяглая вуліца плаўна выгнута, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. На Пд перпендыкулярна да асноўнай падыходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў цэнтры, на скрыжаванні вуліц.

**ЖУКАВІЧЫ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Глуска, 21 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 182 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Ратміравічы, на З мяжуе з лесам. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1677 г. сяло ў валоданні Глускага бернардзінскага касцёла. У 1692 г. ў складзе маёнтка Глуск Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 13 дымоў. У 1756 г. 16 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 22 двары, 163 жыхары. У 1917 г. 24 двары. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1926 г. 29 двароў, 169 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, які аб'ядноўваў у 1932 г. 33, у 1935 г. — 42 гаспадаркі. Паводле перапісу 1970 г. 106 жыхароў, у 1986 г. 27 гаспадарак, 56 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай, няшчыльнай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЗАВАЛОЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Завалочыцкага с/с (з 24.6.1960 г.), за 20 км на Пн ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Слуцк—Асіповічы, 150 км ад Магілёва, на Пн р. Пціч (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 237 гаспадарак, 565 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1626 г. як сяло ў маёнтку Глуск Дубровіцкі Навагрудскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 15 жыхароў мужчынскага полу. У 1860 г. цэнтр аднайменнага маёнтка Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1888 г. засн. вінакурны з-д (у 1890 г. 10 рабочых, паравая машына). У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол., 21 двор, 277 жыхароў, заезны дом. У 1922 г. ў былым маёнтку створаны першы ў раёне саўгас. У адным будынку з канторай саўгаса размяшчалася школа, адкрытая ў 1924 г. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. У 1928 г. пабудавана невялікая гідраэлектрастанцыя, вёска была электрыфікавана. Дзейнічалі млын, лесапільня. У 1931 г. пабудавана майстэрня па рамонце трактароў і іншай с.-г. тэхнікі. У 1933 г. адкрыты дзіцячыя яслі, дзейнічалі паравы і вадзяны млыны. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 54 сав. воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У 1944 г. пачалі дзейнічаць рамонтныя майстэрні, саўгасны маслазавод. У 1949 г. пабудавана электрастанцыя. Паводле перапісу 1959 г. 658 жыхароў, у 1986 г. 263 гаспадаркі, 617 жыхароў. У 2002 г. 265 гаспадарак, 654 жыхары, цэнтр КСУП «Саўгас «Завалочыцы». Дзейнічаюць спіртзавод, машынны двор, піларама, хлебапякарня, аддзяленні сувязі і ашчадная

*Гандлёвы цэнтр у в. Заеліца.*



банка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 магазіны, сталовая, сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, амбулаторыя, аўтаматычная тэлеф. станцыя, спарт. пляцоўка. Гал. вуліца арыентавана амаль мерыдыянальна. Ад яе на ПдЗ і ПдУ адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу. У цэнтры парк, вакол якога грамадскія будынкі.

**ЗАЕЛІЦА** — вёска ў Слаўкавіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Глуска, 45 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 204 км ад Магілёва, на З і Пн мяжуе з лесам, на ПнЗ — меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 384 гаспадаркі, 912 жыхароў (2007).

У 1897 г. в. Заеліца (яна ж Стражы) у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. 46 двароў, 284 жыхары. Побач быў заезны дом (1 двор, 6 жыхароў). У 1926 г. 87 двароў, 429 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты 5.2.1944 г. зажыва спалілі 92 вяскоўцаў і 58 жыхароў суседніх вёсак (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1970 г. 305 жыхароў, у 1986 г. 95 гаспадарак, 150 жыхароў. У 2002 г. 374 гаспадаркі, 926 жыхароў. Цэнтр СПК «Калгас «Слаўгарадскі». Ёсць сярэдняя школа, Дом культуры, магазін, аптэка, амбулаторыя, гандл. цэнтр, б-ка. Планіроўка ў 2 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 267 кватэр для перасяленцаў з месцаў, забруджаных радыяцыяй пасля чарнобыльскай катастрофы.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 188 км ад Магілёва, на ПнЗ р. Трасцянка (прыток Пцічы), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. У вёсцы ніхто не жыве.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1626 г. як сяло ў складзе маёнтка Глуск Дубровіцкі ў ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 115 жыхароў. У 1926 г. 10 двароў, 51 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 54 жыхары, у 1986 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2002 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу. Забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**ЗАМАСТОЧЧА** — вёска ў Каткаўскім с/с, за 17 км на Пд Глуска, 21 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 199 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Ак-

*Аграгарадок у в. Заеліца.*



цябрскі. 28 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст., калі ў гэтыя месцы перасяліліся 4 сял. сям'і з в. Касарычы. Спачатку вёска мела назву Новыя Касарычы. У 1847 г. ў складзе маёнтка Касарычы Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 15 двароў, 192 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. в. Замасточча (яна ж Новае сяло) у Ляскавіцкай вол., пры паштовым тракце, 33 двары, 284 жыхары. У 1917 г. 71 двор, 423 жыхары. У 1920 г. часткова спалена польскімі акупантамі. У крас. 1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 86 двароў, 517 жыхароў. Восенню 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Замасточча». У 1931 г. адкрыта пач. школа. У Вял. Айч. вайну 1.3.1943 г. ням.-фаш. акупанты расстралялі 73 жыхароў, на ўшанаванне памяці якіх у цэнтры вёскі ў 1969 г. пастаўлены абеліск. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 272 жыхары, у 1986 г. 64 гаспадаркі, 116 жыхароў. У 2002 г. 40 гаспадарак, 59 жыхароў. Планіроўка ў 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ перпендыкулярна да аўтадарогі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАПОЛЛЕ** – вёска ў Хваставіцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад Глуска, 23 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 178 км ад Магілёва, на У р. Пціч (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Глуск—Дачнае. 54 гаспадаркі, 105 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска (11 двароў, 75 жыхароў) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У сярэдзіне 19 ст. цэнтр маёнтка. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол., 32 двары, 225 жыхароў. Побач быў маёнтак Заполле (ён жа Востраў), 20 жыхароў, вадзяны млын. У 1917 г. 54 двары, 334 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа. У 1926 г. 70 двароў, 363 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд». Паводле перапісу 1970 г. 306 жыхароў, у 1986 г. 84 гаспадаркі, 176 жыхароў. У 2002 г. 65 гаспадарак, 125 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка Т-падобная, у 2 прамалінейныя вуліцы, больш працяглая з якіх арыентавана з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара юрыд. навук, праф. М.І.Нікалайчыка.

**ЗАПОЛЛЕ** – вёска ў Завалочыцкім с/с, за 17 км на Пн ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 152 км ад Магілёва, на ПнУ р. Пціч. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 38 гаспадарак, 65 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1597 г. як сяло (11 дымоў) у Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1602 г. ў складзе маёнтка Глуск Пагарэлы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. У 1897 г. 2 вёскі — у адной 76 двароў, 494 жыхары, у другой — 1 двор, 5 жыхароў. У 1917 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 111 двароў, 628 жыхароў, У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 120 двароў, 648 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1936 г. аб'ядноўваў 84 гаспадаркі. На ўшанаванне памяці вяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны, у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 305 жыхароў, у 1986 г. 95 гаспадарак, 150 жыхароў. У 2002 г. 53 гаспадаркі, 90 жыхароў. Ёсць магазін. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі. Радзіма нар. артыста Беларусі, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР Ц.М.Сяргейчыка.



*М.І.Нікалайчык.*



*Ц.М.Сяргейчык.*

**ЗАРА** – пасёлак у Клятнянскім с/с, за 12 км на Пд ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 148 км ад Магілёва, на Пн р. Даколька (прыток Пцічы), на Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Акцябрскі. У пасёлку ніхто не жыве.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1923 г. для пасёлка быў вылучаны вял. ўчастак былой памешчыц-

кай зямлі. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 73 жыхары, у 1986 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2002 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАРАКУША** — вёска ў Каткаўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Глуска, 11 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 160 км ад Магілёва, на У р. Пціч (прыток Бярэзіны), на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Акцябрскі. 32 гаспадаркі, 44 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1597 г. як сяло (13 дымоў) у Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1602 г. ў складзе маёнтка Глуск Пагарэлы, 19 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. у складзе маёнтка Касарычы Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. 14 двароў, 109 жыхароў. У 1897 г. ў Ляскавіцкай вол., 45 двароў, 271 жыхар, у 1917 г. 66 двароў, 398 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новазаракуша». У 1940 г. 89 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў сак. 1942 г. спалілі 58 двароў і загубілі 29 жыхароў. 62 вяскоўцы загінулі на фронце, у памяць аб іх на паўн. ускраіне вёскі ў 1972 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 257 жыхароў, у 1986 г. 66 гаспадарак, 132 жыхары. У 2002 г. 44 гаспадаркі, 62 жыхары. Планіроўка Г-падобная, у 2 прамалінейныя вуліцы, больш працяглая з якіх арыентавана шыротна. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 4 км на У ад Глуска, 23 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 162 км ад Магілёва, на Пд р. Пціч (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Глуск—Бабруйск. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 20 жыхароў. У 1917 г. ў маёнтку 51 жыхар, на хутары Зарэчча 1 — 1 двор, 6 жыхароў, на хутары Зарэчча 2 — 2 двары, 14 жыхароў. У 1926 г. 9 двароў, 53 жыхары. У 1932 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1936 г. пабудаваны крухмальны з-д. Паводле перапісу 1970 г. 123 жыхары, у 1986 г. 31 гаспадарка, 96 жыхароў. У 2002 г. 21 гаспадарка, 44 жыхары. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную шыротна вуліцу з аднабаковай (паўн.) шчыльнай, драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЗАСЦЕНАК ДУБРОВА** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Глуска, 48 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 188 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

У 1846 г. ў складзе маёнтка Сямны Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 1 двор, 4 жыхары. У 1917 г. ў Глускай вол., 8 двароў, 48 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1986 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2002 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Кароценькая прамалінейная вуліца арыентавана шыротна і забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ЗАСЦЕНАК УСЦЯРХІ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 12 км на У ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 53 км ад Магілёва, вакол лес, на Пн р. Ліса (прыток Пцічы). Побач аўтадарога Глуск—Ратміравічы. 88 гаспадарак, 258 жыхароў (2007).

У 1917 г. засценак (26 двароў, 281 жыхар) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара камуны» (у 1932 г. аб'ядноўваў 43 гаспадаркі). Паводле перапісу 1970 г. 163 жыхары, у 1986 г. 59 двароў, 162 жыхары. У 2002 г. 88 гаспадарак, 269 жыхароў. Ёсць 2 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, сталовая, базавая школа, спарт. пляцоўка, б-ка. Планіроўка квартальная. Больш працяглая прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўля-

нымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на паўд. ускраіне.

**ЗГОДА** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Глуска, 14 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 179 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Ратміравічы, на З і Пд мяжуе з лесам, на У р. Пціч (прыток Бярэзіны). 13 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

За 1 км на У ад вёскі, на правым беразе Пцічы захавалася стаянка бронзавага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У 1897 г. сядзіба (3 двары, 41 жыхар) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1923 г. на былых памешчыцкіх землях быў створаны агранамічны ўчастак. У 1926 г. 4 двары, 25 жыхароў. У 1930-я г. сяляне ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. Паводле перапісу 1970 г. 131 жыхар, у 1986 г. 27 гаспадарак, 61 жыхар. У 2002 г. 18 гаспадарак, 27 жыхароў. Прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, з двухбаковай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**ЗЕЛЯНКОВІЧЫ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Глуска, 6 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 188 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Ратміравічы, на Пн і З мяжуе з лесам. 83 гаспадаркі, 178 жыхароў (2007).

За 0,3—0,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Мікуціна, знаходзіцца паселішча раннефеад. часу, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 18 двароў, млын. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. 10 двароў і 40 пустых участкаў, 42 жыхары мужчынскага полу. У 1776 г. пабудавана драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. фальварак, 17 двароў, 118 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Брожа Бабруйскага павета Мінскай губ., 25 двароў, 240 жыхароў. У 1897 г. ў Брожскай вол., у сяле 72 двары, 430 жыхароў, на аднайменным хутары 4 двары, 38 жыхароў. У 1890 г. адкрыта школа граматы, пераўтвораная ў 1913 г. ў царк.-прыходскую, а ў 1915 г. ў земскую. У 1917 г. ў сяле 666 жыхароў, на хутары 8 двароў, 55 жыхароў. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 55 вучняў). У 1926 г. вёска (89 двароў, 648 жыхароў) і хутар (6 двароў, 40 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «11-годдзе вызвалення БССР ад белапалякаў», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак. У 1937 г. для школы пабудаваны новы будынак. У 1940 г. 189 двароў, 805 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. каля вёскі воіны кавалерыйскай групы ген.-палкоўніка А.І.Гарадавікова вялі цяжкія баі супраць ням.-фаш. захопнікаў. Загінуў 31 сав. воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Тут жа пахаваны 6 партызан, якія загінулі ў 1942—43 гг. У Зелянковіцкіх лясах былі створаны і разгарнулі баявыя дзеянні партыз. атрады У.Н.Шваякова, М.Б.Храпко, М.П.Сэзіка, якія са студз. 1943 г. ўваходзілі ў склад 37-й партыз. брыгады імя А.Я.Пархоменкі. Летам 1942 г. партызаны разграмілі ў вёсцы ням.-фаш. гарнізон. У ліст. 1942 г. акупанты спалілі 178 дамоў, загубілі 61 жыхара. Працяглы час вёска ахоўвалася партызанамі і жыла па сав. законах. Тут жа адбылася першая ва ўмовах акупацыі сесія суседняга Казловіцкага с/с, на якой вырашаліся пытанні ўборкі хлеба, дапамогі сялянам і аб адкрыцці школы. Дзеці вяскоўцаў і партызан вучыліся ў школе, выкладанне ў якой вялі 4 настаўнікі. Непадалёку, у лесе базіраваліся Бабруйскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, выдавалася газ. «Бабруйскі партызан». У памяць аб гэтым у цэнтры вёскі ў 1965 г. пастаўлены абеліск. Вёска вызвалена 26.6. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 506 жыхароў, у 1986 г. 144 гаспадаркі, 322 жыхары. У 2002 г. 96 гаспадарак, 209 жыхароў.

Дзейнічаюць лясніцтва, клуб, магазін, б-ка, аддз. сувязі, базавая школа. Планіроўка ў 2 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і забудаваныя двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на ПдУ.

**ЗОРКА** — вёска ў Слаўкавіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад г.п. Глуск, 35 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 180 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 444 жыхары, у 1986 г. 58 гаспадарак, 106 жыхароў. У 2002 г. 39 гаспадарак, 69 жыхароў. Планіроўка Т-падобная, у 2 прамалінейныя вуліцы, больш працяглая з якіх арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗУБАРЭВІЧЫ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Глуска, 6 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 183 км ад Магілёва, на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Глуск—Ратміравічы, якая праходзіць праз вёску. 57 гаспадарак, 102 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1529 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1677 г. ў валоданні касцёла бернардзінцаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Рудабельскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., вёскі Зубарэвічы 1 і Зубарэвічы 2, 59 двароў, 409 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач былі маёнткі Зубарэвічы 1 (15 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня) і Зубарэвічы 2 (6 жыхароў), сядзіба Зубарэвічы 2 (2 двары, 12 жыхароў, кузня). У 1910 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 133 двары, 781 жыхар, у маёнтку 10 жыхароў. 2.3.1922 г. створана с.-г. т-ва. У былым памешчыцкім будынку размясціліся фельч. пункт (створаны ў 1923 г.) і школа (у 1925 г. 61 вучань). У 1926 г. 96 двароў, 770 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942—43 гг. спалілі 100 двароў. 112 вяскоўцаў загінулі на фронце, на ўшанаванне іх памяці ў 1972 г. на ўсх. ускраіне вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 403 жыхары, у 1986 г. 106 гаспадарак, 219 жыхароў. У 2002 г. 77 гаспадарак, 152 жыхары. Дзейнічаюць лясніцтва, аддз. сувязі, магазін, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка квартальная з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана шыротна. Грамадскія будынкі на паўн.-ўсх. ускраіне.

Радзіма аднаго з арганізатараў Мінскага падполля ў Вял. Айч. вайну М.Ф. Малаковіч і ўдзельніка партыз. руху ў Беларусі ў грамадз. вайну, дзярж. дзеяча БССР П.Д.Малаковіча.

**КАЗЛОВІЧЫ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 17 км на У да Глуска, 13 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 146 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага

*Магазін-кафэ ў в. Калацічы.*



павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 27 дымоў. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. Казловічы Старыя (27 двароў, 58 жыхароў мужчынскага полу) і Казловічы Новыя (26 двароў, 82 жыхары мужчынскага полу). У 1765 г. мелася карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. У 1858 г. ў складзе казённага маёнтка Брожа Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Казловічах 1 (яна ж Старое Сяло) 47 двароў, 531 жыхар, у Казловічах 2 — 54 двары, 365 жыхароў, малітоўны дом. У 1908 г. ў в. Казловічы 1 — 67 двароў, 422 жыхары, у в. Казловічы 2 — 69 двароў, 451 жыхар. У 1913 г. адкрыта школа. У 1917 г. ў в. Казловічы 1 — 90 двароў, 527 жыхароў, у в. Казловічы 2 — 71 двор, 455 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 74 вучні). З вер. 1926 г. цэнтр Казловіцкага с/с Глускага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 30.7.1966 г. зноў Глускага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай, з 21.1.1960 г. Магілёўскай абласцей. У 1926 г. ў в. Казловічы 1 — 110 двароў, 567 жыхароў, у в. Казловічы 2 (яна ж Зайцы) 71 двор. У 1929 арганізваны калгас «6-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942—43 гг. расстралялі 54 жыхароў. Многія вяскоўцы летам і восенню 1942 г. папоўнілі партыз. атрад імя В.І.Чапаева, які з 8.1.1943 г. дзейнічаў самастойна, а са студз. 1943 г. — у складзе 37-й партыз. брыгады. Паводле перапісу 1970 г. 153 жыхары, у 1986 г. 34 гаспадаркі, 65 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. 17 гаспадарак, 27 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу з двухбаковай шчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**КАЛАЦІЧЫ** — вёска, цэнтр Калаціцкага с/с (з 6.4.1973 г.), за 4 км на ПнУ ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 174 км ад Магілёва, на Пд р. Пціч (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Глуск—Дачнае. 248 гаспадарак, 621 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1597 г. як сяло (37 дамоў) у Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1602 г. ў складзе маёнтка Глуск Пагарэлы, 2 млыны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. в. Калычычы (82 жыхары мужчынскага полу) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Радзівіла. У пач. 19 ст. вёска мела адну прамалінейную вуліцу, трасіраваную паралельна да р. Пціч з ПдЗ на ПнУ і забудаваную з паўд.-ўсх. боку драўлянымі сял. хатамі. У паўн.-зах. напрамку адасоблена стаялі 2 двары. На зах. ускраіне размяшчаўся памешчыцкі двор у выглядзе прамавугольнага, забудаванага па перыметры ўчастка. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол., 18 двароў, 117 жыхароў. Побач быў фальварак (22 двары, 135 жыхароў, заезны дом). У 1917 г. ў вёсцы 28 двароў, 150 жыхароў, у фальварку 26 двароў, 163 жыхары, на хутары 1 двор, 5 жыхароў. У студз. 1918 г., у час акупацыі легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага, у вёсцы быў створаны партыз. атрад (каля 200 чал.). У 1921 г. пачала дзейнічаць школа. У 1926 г. ў вёсцы 74 двары, 337 жыхароў, у засценку 24 двары, 63 жыхары. Для школы ў 1926 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1934 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які ў 1936 г. аб'ядноўваў 75 гаспада-

*Аграгарадок у в. Калацічы.*



рак. Непадалёку размяшчалася Калацікая МТС. У Вял. Айч. вайну 45 вяскоўцаў загінулі на фронце, у памяць аб іх у 1972 г. каля клуба ўзведзены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 614 жыхароў, у 1986 г. 259 гаспадарак, 633 жыхары. У 2002 г. 240 гаспадарак, 643 жыхары. Цэнтр эксперыментальнай базы «Глуск». Дзейнічаюць машынны двор, дрэваапрацоўчая майстэрня, аддз. сувязі, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, сталовая, магазін, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, б-ка, пач. школа. Планіроўка квартальная з двухбаковай, шчыльнай, пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Працяглая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. У цэнтры сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі. Радзіма бел. пісьменніка А.Р.Абуховіча.

**КАЛЮГА** — вёска ў Калацікім с/с, за 10 км на Пн ад Глуска, 32 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 197 км ад Магілёва, на р. Зубіха, на Пд — р. Галавіч (прыток р. Камарынка), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 33 гаспадаркі, 66 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1626 г. як сяло ў складзе маёнтка Глуск Дубровіцкі Глускай вол. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1692 г. ў Пагосцкім войтаўстве, 16 дымоў. У 1708 г. сяло ў Глускім графстве. У 1727 г. ў складзе маёнтка Глуск, 20 дымоў, 15 жыхароў мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. У 1847 г. вёскі Калюга 1 (16 двароў, 98 жыхароў), Калюга 2 (5 двароў, 39 жыхароў) і Калюга 3 (8 двароў, 54 жыхары). Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 52 двары, 364 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1916 г. адкрыта школа. У 1917 г. ў сяле 90 двароў, 503 жыхары, у маёнтку 40 жыхароў. У былым маёнтку ў 1920 г. было 305 дзес. зямлі. Аднавіла работу школа. У 1926 г. ў вёсцы 94 двары, 380 жыхароў, у былым маёнтку 7 двароў, 42 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камуніст», які ў 1937 г. аб'ядноўваў 150 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 5 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На фронце загінулі 30 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1968 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 269 жыхароў, у 1986 г. 58 гаспадарак, 115 жыхароў. У 2002 г. 33 гаспадаркі, 80 жыхароў. Ёсць фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб. Рака Зубіха падзяляе вёску на паўд.-ўсх. і паўн.-зах. часткі. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**КАРНІЦА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 8 км на З ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 185 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Любань. 36 гаспадарак, 73 жыхары (2007).

У 1897 г. в. Карніца (яна ж Выгада) ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 20 двароў, 133 жыхары. У 1907 г. 23 двары, 149 жыхароў, у 1917 г. 30 двароў, 194 жыхары. У 1926 г. 36 двароў, 210 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава, які ў 1936 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку. Паводле перапісу 1970 г. 235 жыхароў, у 1986 г. 51 двор, 110 жыхароў. У 2002 г. 41 гаспадарка, 87 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**КАРПАВІЧЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 163 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Бабруйск, на Пн мяжуе з лесам. 28 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

У 1838 г. сяло ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 51 рэвізская душа. У 1847 г. ў складзе маёнтка Вільча, 13 двароў, 114 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадкоўскай вол. 27 двароў, 196 жыхароў. У 1908 г. 37 двароў, 341 жыхар. У 1926 г. 69 двароў, 698

жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 14 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1969 г. на паўн. ускраіне. Паводле перапісу 1970 г. 194 жыхары, у 1986 г. 43 двары, 79 жыхароў. У 2002 г. 28 гаспадарак, 49 жыхароў. Планіроўка Г-падобная, у 2 прамалінейныя вуліцы, больш працяглая з якіх арыентавана мерыдыянальна, перпендыкулярна да аўтадарогі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — адасоблены ўчастак забудовы.

**КАСАРЫЧЫ** — вёска ў Каткаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Глуска, 10 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 199 км ад Магілёва, на У р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Глуск—Акцябрскі. 49 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1539 г. як сяло ў Глускай вол. Навагрудскага ваяв. ВКЛ. У 1560 г. шляхецкая ўласнасць. Па дакументах 1692 г. мелася царква. У 1712 г. замест састарэлага пабудаваны новы драўляны будынак царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1862 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак (у 1891 г. 48 вучняў). У 1885 г. ў Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 25 двароў, 260 жыхароў. У 1894 г. пачало працаваць мукамольнае прадпрыемства, абсталяванае паравой машынай. У 1897 г. 74 двары, 460 жыхароў, хлебазапасны магазін, лаўка. Побач царк. сядзіба (3 двары, 30 жыхароў), заезны дом (2 двары, 16 жыхароў), маёнтак (3 двары, 42 жыхары), паравы млын. У 1917 г. ў сяле 82 двары, 517 жыхароў, у маёнтку 43 жыхары. У 1922 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1923 г. адкрыты фельч. пункт. Пачала працаваць 4-гадовая школа, якой у 1924 г. перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 115 вучняў). 29.12.1924 г. створана рыбалоўная арцель. У 1926 г. ў вёсцы 108 двароў, 487 жыхароў, у фальварку 17 двароў, 62 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну летам 1942 г. партызаны атрадаў А.І.Патрына, М.Б.Храпко, Дз.Ц.Гуляева, Г.М.Сталярова разграмілі ням.-фаш. гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. 94 вяскоўцы загінулі на фронце, на ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1972 г. пастаўлены абеліск. 17.7.1967 г. да вёскі далучаны пасёлкі Касарычы і Каткаўскі. Паводле перапісу 1970 г. 408 жыхароў, у 1986 г. 102 гаспадаркі, 208 жыхароў. У 2002 г. 63 гаспадаркі, 104 жыхары. Ёсць клуб, магазін, б-ка. Планіроўка набліжана да квартальнай з пераважна драўлянай сядзібнай забудовай, расчлянёнай завулкамі. Працяглая прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна. У цэнтры сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі.

**КАТКА** — вёска, цэнтр Каткаўскага с/с (з 20.8.1924 г.), за 23 км на Пд ад Глуска, 16 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 194 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 235 гаспадарак, 597 жыхароў (2007).

У 1897 г. сяло пры паштовым тракце ў Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 64 двары, 460 жыхароў. Побач аднайменны фальварак (1 двор, 9 жыхароў). У 1907 г. ў сяле 66 двароў, 473 жыхары, у фальварку 1 двор, 15 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа і пабудавана для яе памяшканне. У 1917 г.



*Дом культуры і будынак сельсавета ў в. Катка.*

ў сяле 96 двароў, 639 жыхароў, у фальварку 2 двары, 11 жыхароў. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 123 вучні). У 1926 г. ў сяле 122 двары, 627 жыхароў, у фальварку 21 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э. Дзяржынскага. У 1936 г. пабудаваны магазін і новы будынак для школы. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1942 г. спалілі 92 двары, загубілі 26 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 70 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле паблізу будынка сельсавета). 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 395 жыхароў, у 1986 г. 269 двароў, 476 жыхароў. У 2002 г. 215 гаспадарак, 612 жыхароў. Цэнтр СПК «Калгас «Зара». Размешчаны машынны двор, сталярна-цяслярская майстэрня, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, швейны цэх, гандл. комплекс, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлефонная станцыя, Дом культуры, б-ка, сярэдняя і муз. школы. Планіроўка набліжана да квартальнай, забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Найбольш працяглая, плаўна выгнутая вуліца арыентавана мерыдыянальна. Грамадскія будынкі ў цэнтры сярод жылой забудовы.

**КАСТРЫЧНІК** – пасёлак у Казловіцкім с/с, за 16 км на У ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск–Акцябрскі, 149 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам, на Пн р. Чаромуха (прыток Пцічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск–Ратміравічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 38 двароў, 193 жыхары. Пачалі працаваць 4-гадовая школа і хата-чытальня. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1934 г. ўзведзены будынак для школы. У 2002 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Драўляныя сял. хаты пастаўлены рэдка, каля мясц. дарогі.

**КІРАЎСКІ** (да 1961 г. Дзікае) – пасёлак, цэнтр Кіраўскага с/с (з 1971 г.), за 12 км на ПнУ ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск–Акцябрскі, 156 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Глуск–Бабруйск. 62 гаспадаркі, 101 жыхар (2007).

Пачатак сучаснаму пасёлку паклаў невялікі хутар побач з воз. Дзікае. У 1930-я г. тут былі выяўлены вялікія запасы торфу, а ў 1956 г. з пашырэннем торфараспрацовак пачаў стварацца пасёлак, у якім зараз размешчаны ўчастак торфапрадпрыемства «Рэдкі Рог». Паводле перапісу 1970 г. 418 жыхароў, у 1986 г. 93 гаспадаркі, 246 жыхароў. Ёсць аддз. сувязі, гандл. цэнтр, сталовая, аддз. ашчаднага банка. У 2002 г. 71 гаспадарка, 114 жыхароў. Планіроўка Г-падобная, у 2 прамалінейныя вуліцы, больш працяглая з якіх арыентавана шыротна. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

Пад пластом залежаў торфу Дзікае Балота выяўлена радовішча сапрапеляў (запасы 1,9 млн. м$^3$).

**КЛЯШЧОЎКА** – вёска ў Кіраўскім с/с, за 14 км на У ад Глуска, 17 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск–Акцябрскі, 163 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск–Ратміравічы. 21 гаспадарка, 30 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар (2 двары, 7 жыхароў) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай

*Аграгарадок у в. Катка.*



губ. У 1917 г. 10 двароў, 78 жыхароў. У 1931 г. адкрыта пач. школа і арганізаваны калгас «Чырвоная Кляшчоўка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12, у 1938 г. — 40 гаспадарак. Паводле перапісу 1970 г. 200 жыхароў, у 1986 г. 31 гаспадарка, 99 жыхароў. У 2002 г. 31 гаспадарка, 44 жыхары. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную шыротна і забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**КЛЯТНОЕ** — вёска, цэнтр Клятнянскага с/с (з 20.8.1924 г.), за 11 км на ПдЗ ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 181 км ад Магілёва, на р. Даколька (прыток Пцічы), на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 144 гаспадаркі, 288 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1692 г. як прыселак у Дакольскім войтаўстве Навагрудскага павета, шляхецкая ўласнасць, 13 дымоў. У 1727 г. ў складзе маёнтка Глуск. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 30 рэвізскіх душ. У 1885 г. с. Клятное (яно ж Машніцы) у Глускай вол., 16 двароў, 110 жыхароў, царква. Сяляне ў 1885 г. правялі самавольную высечку памешчыцкага лесу. У 1897 г. 37 двароў, 230 жыхароў, хлебазапасны магазін, лаўка, заезны дом, царква. У 1917 г. 58 двароў, 328 жыхароў. У 1926 г. 83 двары, 433 жыхары. У 1931 г. адкрыта пач. школа, арганізаваны калгас, пабудаваны млын, а ў 1936 г. — магазін. У 1937 г. адкрыты ветэрынарны пункт. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942 г. загубілі 13 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі ў чэрв. 1941 г. экіпаж сав. самалёта і пры вызваленні вёскі 27.6.1944 г. 10 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У 1950 г. пабудавана гідраэлектрастанцыя магутнасцю 15 кВт, якая забяспечвала вёску электрычнасцю. 17.7.1967 г. да вёскі далучаны пас. Янкі Купалы. Паводле перапісу 1970 г. 465 жыхароў, у 1986 г. 156 двароў, 358 жыхароў. У 2002 г. 154 гаспадаркі, 359 жыхароў. Дзейнічаюць машынны двор, участак па вырабе будаўнічых дэталей з драўніны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, сярэдняя і муз. школы, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. ашчаднага банка, б-ка, гандл. цэнтр. Ракой падзелена на паўн. (2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя мерыдыянальна) і паўд. (Т-падобная планіроўка, больш працяглая прамалінейная вуліца арыентавана шыротна) часткі. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў паўн. частцы сярод жылой забудовы. Радзіма засл. дзеяча на-



*У в. Клятное.*

вукі Беларусі, доктара філалагічных навук, праф. Ф.М.Янкоўскага.

**КНЫШЫ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Глуска, 23 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 161 км ад Магілёва, на паўн.-ўсх. ускраіне р. Пціч (прыток Бярэзіны), вакол лес. Побач аўтадарога Глуск—Дачнае. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе Пцічы, каля дарогі на в. Гарадок захавалася стаянка бронзавага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1621 г. с. Кнышавічы, уласнасць казны, у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1639 г. паводле інвентару Бабруйскага староства 30 валок, з якіх 15 пустых. У 1765 г. 14 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 31 рэвізская душа. У 1897 г. ў Гарадоцкай вол., 17 двароў, 167 жыхароў. У 1907 г. 35 двароў, 277 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа. У 1917 г. 47 двароў. У 1926 г. вёска (50 двароў) і пасёлак (6 двароў). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 85 жыхароў, у 1986 г. 25 двароў, 34 жыхары. У 2002 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. Кароценькая плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі і забудавана аднабакова, рэдка, драўлянымі сял. хатамі.



*Ф.М.Янкоўскі.*

*Малочна-таварная ферма ў в. Клятное.*



**КРАСНАЕ** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Глуска, 35 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 185 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2007).

У 1897 г. маёнтак Краснае (ён жа Новы Двор) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 28 жыхароў. У 1917 г. 29 жыхароў. У 1926 г. 3 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічаў вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы і жыхары засценка Дуброва загінулі на фронце, на ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 162 жыхары, у 1986 г. 39 гаспадарак, 78 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Глуск» (цэнтр — в. Калацічы). Ёсць магазін. У 2002 г. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў. Планіроўка Т-падобная, у 2 прамалінейныя вуліцы, больш працяглая з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На ПнЗ размешчаны адасоблены ўчастак вёскі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**КРАСНЫ** — пасёлак у Клятнянскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 182 км ад Магілёва на У р. Цюрынка (прыток р. Даколька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1917 г. маёнтак (1 двор, 29 жыхароў) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1923 г. для пасёлка выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 53 жыхары, у 1986 г. 10 двароў, 19 жыхароў. У 2002 г. 7 гаспадарак, 7 жыхароў. Планіроўка ў адну кароценькую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ і забудаваную рэдка, драўлянымі сял. хатамі

**КРУКАЎШЧЫНА** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 18 км на У ад Глуска, 12 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Баб-

руйск—Акцябрскі, 149 км ад Магілёва, на ПнУ пачынаецца р. Бежыца (прыток Пцічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Ратміравічы. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска (12 двароў, 72 жыхары) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 19 двароў, 118 жыхароў. У 1926 г. 23 двары. У 1933 г. арганізаваны калгас «Новая Крукаўшчына», які ў 1936 г. меў 368 га с.-г. угоддзяў. У Вял. Айч. вайну ў наваколлі ў 1943—44 г. баі супраць акупантаў вялі партызаны атрадаў імя Шчорса і імя Кірава 37-й партыз. брыгады імя Пархоменкі. У 8 брацкіх магілах на партыз. могілках на паўд. ускраіне вёскі пахаваны 14 партызан. Паводле перапісу 1970 г. 108 жыхароў, у 1986 г. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. 14 гаспадарак, 31 жыхар. Дзве невялікія вуліцы прамяніста разыходзяцца на З, забудаваны драўлянымі сял. хатамі. На Пн — невялікі адасоблены ўчастак жылой забудовы.

**ЛУЧКІ** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 4 км на Пд ад Глуска, 23 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 176 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1756 г. як вёска ў складзе маёнтка Глуск, шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 5 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол., 6 двароў, 49 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 97 жыхароў. У 1929 г. жыхары вёсак Лучкі і Падзамша аб'ядналіся ў калгас «Рэўузрыў». Паводле перапісу 1970 г. 112 жыхароў, у 1986 г. 26 гаспадарак, 56 жыхароў. У 2002 г. 17 гаспадарак, 45 жыхароў. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**ЛЮДЗІНАВА** — пасёлак у Хваставіцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Глуска, 16 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 197 км ад Магілёва, на З р. Даколька (прыток Пцічы), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае.

У 1897 г. в. Людзвінава (яна ж Шчыты) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 15 двароў, 101 жыхар. У 1917 г. в. Шчыты Людзвінавы, 23 двары, 151 жыхар. У 1930-я г. арганізаваны калгас імя П.Л.Войкава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У 2002 г. 1 гаспадарка, 7 жыхароў. Драўляная сядзіба каля прасёлачнай дарогі.

**МАКАВІЧЫ** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 187 км ад Магілёва, на З р. Зарудзеча (прыток Пцічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 79 гаспадарак, 162 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло ў Глускай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1692 г. ў складзе прыватнага маёнтка Глуск, 12 дымоў. У 1727 г. 13 дымоў, 14 жыхароў мужчынскага полу, млын. У 1790 г. 26 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 43 двары, 272 жыхары, хлебазапасны магазін. У другой вёсцы такой жа назвы 16 двароў, 94 жыхары, заезны дом. У 1907 г. ў вёсцы 49 двароў, 335 жыхароў, у засценку 10 двароў, 96 жыхароў, у 1917 г. ў вёсцы 69 двароў, 384 жыхары, у маёнтку 132 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Макавіцкага с/с Глускага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 30.7.1966 г. зноў Глускага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай, з 23.1.1960 г. Магілёўскай абласцей. У 1931 г. адкрыта пач. школа і арганізаваны калгас «Клім Варашылаў», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі. У 1936 г. адкрыты фельч. ўчастак, пабудаваны магазін. У Вял. Айч. вай-

ну летам 1942 г. партызаны атрадаў Я.І.Патрына, М.Б.Храпко, Д.Ц.Гуляева, Г.М.Сталярова разграмілі ў вёсцы ням.-фаш. гарнізон. У баях у наваколлі загінулі 29 сав. воінаў і партызан (пахаваны на могілках). 53 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, памяць аб іх ушаноўвае абеліск, узведзены ў 1967 г. каля школы. Паводле перапісу 1970 г. 496 жыхароў, у 1986 г. 145 гаспадарак, 320 жыхароў. У 2002 г. 102 гаспадаркі, 228 жыхароў. Ёсць фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны, аддзяленні сувязі ашчаднага банка, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, сярэдняя школа. Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе перпендыкулярна адыходзяць завулкі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы грамадскія будынкі. Радзіма Героя Сац. Працы А.А.Шаплыка.

**МАКРАНЫ** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 12 км на Пн ад Глуска, 35 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 185 км ад Магілёва, на ПдУ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Дачнае. 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1897 г. маёнтак (35 жыхароў) у Гарадоцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 66 жыхароў. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 44 сав. воіны (пахаваны ў брацкай магіле). Ням.-фаш. акупанты загубілі 7 жыхароў, на фронце загінулі 15 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1986 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 100 жыхароў, у 1986 г. 28 двароў, 37 жыхароў. У 2002 г. 16 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіроўка Г-падобная, у 2 узаемна перпендыкулярныя прамалінейныя вуліцы з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На У невялікі адасоблены ўчастак забудовы.

**МАЛІНАВА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Глуска, 24 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 185 км ад Магілёва, на паўд. ускраіне меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

У 1857 г. засценак Малінаў, уладанне памешчыка. У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 17 двароў, 136 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 161 жыхар. У 1921 г. адкрыта пач. школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце (у 1923 г. 19 вучняў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», дзейнічаў паравы млын. У 1940 г. 48 двароў, 236 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў лютым 1942 г. спалілі 41 двор, загубілі 24 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 182 жыхары, у 1986 г. 38 гаспадарак, 75 жыхароў. У 2002 г. 31 гаспадарка, 57 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную мерыдыянальна вуліцу, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**МАЛКАЎ** — вёска ў Слаўкавіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 206 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1897 г. аколіца (23 двары, 151 жыхар) у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., паравы млын. У 1907 г. 25 двароў, 241 жыхар. У 1926 г. 37 двароў, 187 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Армія» (у 1932 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі). Паводле перапісу 1970 г. 110 жыхароў, у 1986 г. 22 гаспадаркі, 48 жыхароў. У 2002 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіроўка ў адну кароценькую, арыентаваную шыротна вуліцу з двухбаковай няшчыльнай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Глуска, 22 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 163 км ад Магілёва, на р. За-

рудзеча (прыток Пцічы), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

У 1857 г. засценак у Бабруйскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Новадарожскай вол., 4 двары, 32 жыхары. Побач былі засценак Масцішча Падрэблей (5 двароў, 33 жыхары) і фальварак Масцішча (4 двары, 24 жыхары, вятрак). У 1917 г. ў засценку Масцішча 1 — 9 двароў, 56 жыхароў, на хутары Масцішча 2 — 19 жыхароў. У 1926 г. вёска, 38 двароў, 216 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. Паводле перапісу 1970 г. 89 жыхароў, у 1986 г. 12 гаспадарак, 42 жыхары. Ёсць магазін. У 2002 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары. Планіровачна арганізавана ў адну кароткую прамалінейную, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Невялікая частка забудовы размешчана адасоблена, на ПнЗ.

**МЫСЛОЦІНА** — вёска ў Хвастаціцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 178 км ад Магілёва, на Пн р. Зарудзеча (прыток Пцічы), на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 73 гаспадаркі, 127 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1597 г. сяло ў Глускай вол. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, 13 дымоў. У 1692 г. 18 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. 23 двары, 170 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач аднайменны хутар, 6 двароў, 36 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 41 двор, 265 жыхароў, на хутары 5 двароў, 22 жыхары. У студз. 1918 г., у час акупацыі легіянерамі Доўбар-Мусніцкага, у вёсцы быў створаны партыз. атрад (каля 70 чал.). У 1926 г. 55 двароў, 305 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Мыслоціна». У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 77 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, устаноўлены ў 1970 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1970 г. 433 жыхары, у 1986 г. 110 гаспадарак, 232 жыхары. У 2002 г. 86 гаспадарак, 158 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка набліжана да квартальнай. Гал., прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу, падзеленая шэрагам вуліц і завулкаў. Грамадскія будынкі ў цэнтры сярод жылой забудовы. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі М.І.Васілеўскага.

**НОВА-АНДРЭЕЎКА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 186 км ад Магілёва, на Пн р. Даколька (прыток Пцічы) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 36 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У 1838 г. в. Андрэеўка (43 рэвізскія душы) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1917 г. ў Глускай вол., 57 двароў, 329 жыхароў. У 1926 г. 61 двор, 373 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны франтавік». У 1931 г. адкрыта пач. школа. Паводле перапісу 1970 г. 289 жыхароў, у 1986 г. 70 гаспадарак, 134 жыхары. У 2002 г. 48 гаспадарак, 80 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую, арыентаваную шыротна вуліцу з 3 завулкамі. Забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯЗНАННЕ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 20 км на У ад Глуска, 10 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 184 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Ратміравічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1798 г. як вёска (3 двары, 20 жыхароў) у Бабруйскім старостве Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць казны. У 1897 г. ў Брожскай вол., 5 двароў, 56 жыхароў, у 1917 г. 18 двароў, 116 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 73 жыхары, у 1986 г. 4 гаспадаркі, 22 жыхары. У 2002 г. 4 гаспа-

даркі, 5 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАГАРЭЛАЕ** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 9 км на Пд ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, на аўтадарозе Глуск—Акцябрскі, вакол лес, на Пд р. Даколька (прыток Пцічы). 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1897 г. пасёлак (6 двароў, 42 жыхары) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 7 двароў, 61 жыхар. У 1924 г. да вёскі далучаны ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 16 двароў, 75 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, створаны сумесна з сялянамі в. Пяценка. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942 г. загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 95 жыхароў, у 1986 г. 20 двароў, 42 жыхары. У 2002 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую прамалінейную, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПАГОСТ** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 184 км ад Магілёва, вакол лес. На ПдУ р. Зарудзеча (прыток Пцічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 43 гаспадаркі, 64 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1571 г. як сяло ў Глускай вол. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1581 г. ў складзе маёнтка Глуск. У 1692 г. 14 дымоў. У 1708 г. ў Глускім графстве, цэнтр войтаўства. У 1727 г. 18 дымоў, 14 жыхароў мужчынскага полу, уладанне памешчыка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 29 двароў занятых і 4 пустуючых, 103 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 49 двароў, 338 жыхароў. Побач аднайменны хутар (2 двары, 13 жыхароў). У 1907 г. 56 двароў, 381 жыхар, у 1917 г. ў сяле 72 двары, 421 жыхар, у фальварку і на хутары 4 жыхары. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. ў вёсцы 81 двор, 407 жыхароў, на хутары 3 двары, 19 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пераможац». У Вял. Айч. вайну летам 1942 г. партызаны атрадаў А.І.Патрына, М.Б.Храпко, Д.Ц.Гуляева, Г.М.Сталярова разграмілі ў вёсцы ням.-фаш. гарнізон. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 31 вясковец, у памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1970 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 346 жыхароў, у 1986 г. 101 гаспадарка, 202 жыхары. У 2002 г. 60 гаспадарак, 107 жыхароў. Ручаём (прыток р. Зарудзеча) падзелена на зах. і ўсх. часткі. Планіроўка ў адну выгнутую, арыентаваную шыротна вуліцу з двухбаковай шчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на Пн, сярод жылой забудовы.

**ПАДЗАМША** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 1 км на Пд ад Глуска, 22 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 175 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Акцябрскі. 43 гаспадаркі, 97 жыхароў (2007).

Па плане, зробленым у 1818 г., тут быў вялізны двор, які займаў квадратны ўчастак тэр. на Пд ад Глуска, абмежаваны на З лесам. Драўляная забудова двара была пастаўлена па перыметры ўчастка, а ў цэнтры — памешчыцкі дом. У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 3 двары, 34 жыхары. У 1917 г. 86 жыхароў. У былым памешчыцкім маёнтку ў 1920 г. была арганізавана нар. гаспадарка, якая мела 411 дзес. зямлі. Дзейнічалі паравы млын і сукнавальня. У 1926 г. 18 двароў, 86 жыхароў. У 1929 г. жыхары вёсак Падзамша і Лучкі аб'ядналіся ў калгас, які ў канцы 1930-х г. вядомы пад назвай імя С.Арджанікідзе. Паводле перапісу 1970 г. 130 жыхароў, у 1986 г. 46 двароў, 103 жыхары. У 2002 г. 44 гаспадаркі, 95 жыхароў. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую, арыентаваную мерыдыянальна вуліцу з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу, расчлянёную завулкам.

**ПАДКАЛЕНДА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 3 км на З ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 173 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Любань. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 56 жыхароў, у 1986 г. 11 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2002 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую прамалінейную, арыентаваную шыротна вуліцу. Забудавана аднабакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ПАДЛУЖЖА** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 182 км ад Магілёва, на Пн і У р. Пціч (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Ратміравічы. 44 гаспадаркі, 77 жыхароў (2007).

На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе Пцічы захавалася стараж. паселішча, за 0,4 км на Пн, ва ўрочышчы Замікальшчына — другое паселішча, а за 0,5 км на З ад вёскі, на пясчаных узгорках — стаянка эпохі неаліту і бронзавага веку. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1765 г. в. Полаж (5 дымоў), уласнасць казны, у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 44 двары, 295 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач быў выселак, 1 двор, 9 жыхароў. У 1916 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1917 г. 50 двароў, 328 жыхароў. У 1921 г. школа пераўтворана ў 4-гадовую. У 1924 г. да вёскі далучаны ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 84 двары, 428 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камсамольская перамога». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. Паводле перапісу 1970 г. 346 жыхароў, у 1986 г. 82 гаспадаркі, 187 жыхароў. У 2002 г. 55 гаспадарак, 100 жыхароў. Ёсць клуб, магазін, швейная майстэрня. Планіроўка ў адну лінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і з двух бакоў шчыльна забудаваную драўлянымі сядзібамі. На паўн. ускраіне, уздоўж ракі адасобленая частка забудовы. Грамадскія будынкі на Пн сярод жылой забудовы.

**ПАЛЯНА** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 18 км на Пн ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 152 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 23 гаспадаркі, 53 жыхары (2007).

У 1897 г. фальварак (2 двары, 6 жыхароў) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 25 жыхароў, у 1917 г. 31 жыхар. Паводле перапісу 1970 г. 174 жыхары, у 1986 г. 28 гаспадарак, 61 жыхар. У 2002 г. 24 гаспадаркі, 62 жыхары. Планіроўка неарганізаваная, забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ПОБЛІН** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 8 км на У ад Глуска, 16 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 186 км ад Магілёва, на Пн і У р. Пціч (прыток Бярэзіны), на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Ратміравічы. 47 гаспадарак, 78 жыхароў (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі захавалася паселішча позняга этапу зарубінецкай культуры, датуецца 2—5 і 6—8 ст., на паўн.-зах. ускраіне, на правым беразе Пцічы — стараж. стаянка. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1692 г. прыселак, 14 дымоў у ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1727 г. вёска (12 двароў, 18 жыхароў мужчынскага полу) у складзе маёнтка Глуск. У 1756 г. 14 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 26 двароў, 153 жыхары, млын. У 1862 г. пабудавана драўляная царква, у 1884 г. адкрыта школа гра-

маты. У 1885 г. 2 царквы. У 1897 г. 66 двароў, 420 жыхароў, вадзяны млын, хлебазапасны магазін. Школа граматы ў 1899 г. пераўтворана ў царк.-прыходскую, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1903 г. 2 царк.-прыходскія школы — асобна для хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1917 г. 77 двароў, 462 жыхары. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа, адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 85 двароў, 460 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Юны барацьбіт», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў загінулі 45 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх у 1984 г. каля клуба пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 398 жыхароў, у 1986 г. 95 гаспадарак, 207 жыхароў. У 2002 г. 65 гаспадарак, 118 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка набліжана да П-падобнай. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Мураваныя грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтр. частцы гал. вуліцы сярод жылой забудовы.

**ПОЎСТКА** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 14 км на У ад Глуска, 12 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 159 км ад Магілёва, вакол лес. На З р. Пціч (прыток Прыпяці). Побач аўтадарога Глуск—ст. Ратміравічы. 50 гаспадарак, 119 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1692 г. прыселак (12 дымоў), шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1727 г. вёска Пустка (18 дымоў, 19 жыхароў мужчынскага полу) у складзе маёнтка Глуск. У 1756 г. 20 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 31 двор, 214 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол. 188 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 38 двароў, 224 жыхары. У 1926 г. 43 двары, 300 жыхароў. У 1931 г. адкрыта пач. школа. Вяскоўцы ў 1930-я г. уступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 227 жыхароў, у 1986 г. 58 двароў, 128 жыхароў. У 2002 г. 58 гаспадарак, 128 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу, двухбакова забудаваную драўлянымі сял. хатамі.

**ПРЫВАРАЦЦЕ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Глуска, 21 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 166 км ад Магілёва, на З і У мяжуе з лесам, на ПнЗ — воз. Дзікае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Ратміравічы. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар (6 двароў, 47 жыхароў) у Брожскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 15 двароў, 86 жыхароў. У 1926 г. 17 двароў, 103 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 74 жыхары, у 1986 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў. У 2002 г. 12 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з завулкам, забудаваную двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ПРЫПЛАВЫ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 14 км на У ад Глуска, 16 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 150 км ад Магілёва, на У р. Чаромуха (прыток Пціччы), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Ратміравічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска (8 двароў, 52 жыхары) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1926 г. 9 двароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 66 жыхароў, у 1986 г. 9 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2002 г. 10 гаспадарак, 21 жыхар. Планіроўка ў адну кароткую, плаўна выгнутую, арыентаваную шыротна вуліцу з драўлянай забудовай сял. хатамі.

**ПЦІЧ** (да 21.1.1969 г. Халопенскі спіртзавод) — пасёлак у Каткаўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Глуска, 12 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 155 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Акцябрскі, на У р. Пціч (прыток Прыпяці), на ПдЗ мяжуе з лесам. 24 гаспадаркі, 44 жыхары (2007).

Вядома з пач. 1930-х г. як пасёлак Халопеніцкага спіртзавода. У Вял. Айч. вайну 25.1.1944 г. ням.-фаш. акупанты спалілі жывымі 47 жыхароў (пахаваны на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі). Вызвалены 26.6.1944 г. воінамі 43-га стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту з удзелам партызан Палескага злучэння. 20 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 228 жыхароў, у 1986 г. 54 гаспадаркі, 135 жыхароў. Дзейнічаюць спіртзавод, лясніцтва, магазін. У 2002 г. 40 гаспадарак, 74 жыхары. Планіроўка набліжана да Г-падобнай. Больш працяглая, прамалінейная вуліца арыентавана шыротна, перпендыкулярна да аўтадарогі. На супрацьлеглым, усх. баку дарогі адасобленая частка вёскі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў цэнтры, сярод жылой забудовы.

**ПЯЦЕНКА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Глуска, 28 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 188 км ад Магілёва, на аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1835 г. пабудавана драўляная царква. У 1847 г. ў складзе маёнтка Рылавічы Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1885 г. ў Глускай вол., 5 двароў, 48 жыхароў. У 1897 г. 11 двароў, 63 жыхары. Побач быў аднайменны хутар (5 двароў, 34 жыхары). У 1907 г. ў вёсцы 17 двароў, 79 жыхароў, на хутары 6 двароў, 27 жыхароў, у 1917 г. ў вёсцы 101 жыхар, у засценку 45 жыхароў. У 1924 г. да вёскі далучаны вял. ўчасток былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. вёска (17 двароў, 106 жыхароў) і засценак (8 двароў, 51 жыхар). Разам з суседняй в. Пагарэлае ў 1931 г. арганізаваны калгас. Для школы ў 1934 г. ўзведзены ўласны будынак. Паводле перапісу 1970 г. 105 жыхароў, у 1986 г. 34 гаспадаркі, 61 жыхар. У 2002 г. 13 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіровачна арганізавана ў адну плаўна выгнутую, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу з двухбаковай шчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**РОЗЛЕВІЧЫ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 186 км ад Магілёва, на У р. Пціч (прыток Прыпяці), на З мяжуе з лесам. Непадалёку аўтадарога Глуск—Ратміравічы. 26 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1677 г. частку сваіх прыбыткаў вяскоўцы аддавалі ў карысць касцёла бернардзінцаў у Глуску. У 1682 г. 13 дымоў у ВКЛ. У 1727 г. ў складзе маёнтка Глуск, уласнасць памешчыка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у Рас. імперыі. Па перапісу 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 66 жыхароў. Побач быў фальварак (3 двары, 15 жыхароў). У 1917 г. 16 двароў, 108 жыхароў. У 1931 г. адкрыта пач. школа і арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь». 23.8.1968 г. да вёскі далучана в. Рылавічы. Паводле перапісу 1970 г. 238 жыхароў, у 1986 г. 46 гаспадарак, 100 жыхароў. У 2002 г. 32 гаспадаркі, 44 жыхары. Планіровачна складаецца з адасобленых паўн. (Г-падобная планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу) і паўд. (прамалінейная, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ вуліца) частак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 25 км на Пн ад Глуска, 29 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 153 км ад Магілёва, на Пд р. Пціч (прыток Прыпяці), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол., 17 двароў, 139 жыхароў. У 1917 г. 34 двары, 209 жыхароў. У 1926 г. 38 двароў, 216 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 131 жыхар, у 1986 г. 37 гаспадарак, 76 жыхароў. У 2002 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіроўка набліжана да Т-падобнай. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЕЛЬЦЫ** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Глуска, 25 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 189 км ад Магілёва, на ПнУ р. Зубіха (прыток р. Камарынка), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 47 гаспадарак, 91 жыхар (2007).

У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне кн. Вітгенштэйна. У 1844 г. 4 двары, 22 жыхары, у складзе маёнтка Сельцы. Паводле перапісу 1897 г. ў Глускай вол., 23 двары, 141 жыхар, хлебазапасны магазін. Побач аднайменны маёнтак (3 двары, 31 жыхар). У 1907 г. ў вёсцы 31 двор, 191 жыхар, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 37 двароў, 234 жыхары, у маёнтку 14 жыхароў. У 1926 г. 51 двор, 158 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Сельцы». У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце, на ўшанаванне іх памяці ў 1969 г. каля клуба пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 262 жыхары, у 1986 г. 78 гаспадарак, 147 жыхароў. У 2002 г. 52 гаспадаркі, 101 жыхар. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай шчыльнай драўлянай забудовай. У цэнтры — парк.

**СІМАНАВІЧЫ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 20 км на Пн ад Глуска, 26 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 153 км ад Магілёва, на Пн р. Пціч (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 102 гаспадаркі, 187 жыхароў (2007).

*Будынак паштовай станцыі ў в. Сіманавічы. 19 ст.*



За 0,5 км на З ад паўд.-ўсх. ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Селішча, захавалася паселішча ранняга жал. веку і раннефеад. часу (6—8 і 10—13 ст.). За 0,1—0,2 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Цёмшавае Поле, на правым беразе Пцічы — другое паселішча (адносіцца да позняга этапу зарубінецкай культуры) і бескурганны могільнік ранняга жал. веку. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Глускай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1571 г. 7, у 1597 г. — 13 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1844 г. в. Сыманавічы (42 двары, 202 жыхары) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1885 г. 45 двароў, 374 жыхары, царква. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадкоўскай вол. 98 двароў, 634 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменныя пасёлак (3 двары, 17 жыхароў, вадзяны млын), шашэйная вартоўня (1 двор, 12 жыхароў) і паштовая станцыя (2 двары, 23 жыхары). У 1907 г. ў вёсцы 129 двароў, 917 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 186 двароў, 948 жыхароў, на паштовай станцыі 7 двароў, 33 жыхары, у шашэйнай вартоўні 2 двары, 4 жыхары. З 1924 г. да 1954 г. цэнтр Сіманавіцкага с/с Глускага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 30.7.1966 г. зноў Глускага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай, з 23.1.1960 г. Магілёўскай абласцей. З 1921 г. дзейнічаў вадзяны млын. 15.2.1925 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 201 двор, 981 жыхар. У 1931 г. адкрыта пач. школа і арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 175 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на Пд ад вёскі). Паводле перапісу 1970 г. 870 жыхароў, у 1986 г. 261 гаспадарка, 478 жыхароў. У 2002 г. 146 двароў, 249 жыхароў. Размешчаны Завалочыцкае лясніцтва, клуб, б-ка, хлебапякарня, магазін, аддз. сувязі, базавая школа. Планіроўка квартальная. Дзве мерыдыяналь-

ныя вуліцы перакрыжаваны шыротнай. Уздоўж шашы адасоблены ўчастак забудовы. На зах. вуліцы грамадскі цэнтр. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Каткаўскім с/с, за 28 км на Пд ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 197 км ад Магілёва. Самы паўд. у раёне і вобласці населены пункт. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1692 г. як сяло (6 дымоў) у маёнтку Глуск Пагарэлы Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1845 г. ў маёнтку Халопенічы Бабруйскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 44 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. вёска пры тракце Бабруйск—Мазыр (25 двароў, 52 жыхары), у Ляскавіцкай вол. Побач аднайменны маёнтак (48 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы 30 двароў, 226 жыхароў, у маёнтку 93 жыхары. Каля вёскі ў 1920 г. адбыліся цяжкія баі партызан супраць польскіх акупантаў (загінуўшыя партызаны пахаваны на могілках). У 1926 г. в. Слабодка (34 двары, 168 жыхароў), в. Слабодка 2 (32 двары, 124 жыхары), былы маёнтак (18 двароў, 95 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 186 жыхароў, у 1986 г. 49 двароў, 103 жыхары. У 2002 г. 28 гаспадарак, 52 жыхары. Ёсць магазін. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Частка забудовы размешчана адасоблена на Пд. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Глуска, 33 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 188 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам, на ПдЗ р. Даколька (прыток Пцічы). Побач аўтадарога Глуск—Любань. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1844 г. вёска (10 двароў, 77 жыхароў) у складзе маёнтка Ксаверполле Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1916 г. ў Глускай вол., 41 двор, 203 жыхары. У 1935 г. арганізаваны калгас «Сцяг працы». Паводле перапісу 1970 г. 76 жыхароў, у 1986 г. 18 двароў, 31 жыхар. У 2002 г. 9 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіроўка ў адну кароценькую прамалінейную, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з двухбаковай, драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**СЛАЎКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Слаўкавіцкага с/с (з 20.8.1924), за 25 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 200 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 175 гаспадарак, 415 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. У 1769 г. пабудавана драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. сяло (206 жыхароў) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уладанне памешчыка. У 1845 г. цэнтр маёнтка, 67 двароў, 396 жыхароў. У 1890—93 гг. сяляне вялі спрэчкі з мясц. памешчыкам, самавольна пасвілі жывёлу на спрэчных угоддзях. Паводле перапісу 1897 г. 138 двароў, 843 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, заезны дом, 2 лаўкі. Побач была царк. сядзіба (2 двары, 10 жыхароў) і маёнтак (78 жыхароў), вінакурны з-д. У 1906 г. сял. выступленне супраць памешчыцкага прыгнёту было падаўлена атрадам казакоў, які прыбыў з Бабруйска. У 1907 г. ў сяле 130 двароў, 910 жыхароў, у маёнтку 103 жыхары. У 1911 г. адкрыта земская школа, для якой у 1914 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1917 г. ў сяле 198 двароў, 1184 жыхары, у маёнтку 306 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Слаўкавіцкага с/с Глускага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 30.7.1966 г. зноў Глускага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г.

Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай, з 23.1.1960 г. Магілёўскай абласцей. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 234 двары, 1835 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1935 г. пачала дзейнічаць прам. арцель «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну вяскоўцы-патрыёты аб'ядналіся з групай сав. ваеннаслужачых (11 чал.), якія апынуліся ў акупацыі, гэтым быў пакладзены пачатак партыз. атраду імя В.І.Чапаева. У снеж. 1943 г. з жыхароў вёскі быў сфарміраваны партыз. атрад імя К.Я.Варашылава, які ў час злучэння з Чырвонай Арміяй налічваў 146 чал. У наваколлі ў 1943 г. дыслацыраваліся глускія падп. райкомы КП(б)Б, ЛКСМБ і рэдакцыя газ. «Сацыялістычная вёска». У памяць аб гэтым у цэнтры вёскі ў 1977 г. пастаўлена стэла. У баях каля вёскі загінулі 48 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). Ням.-фаш. акупанты загубілі 37 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 544 жыхары, у 1986 г. 156 гаспадарак, 384 жыхары. У 2002 г. 80 гаспадарак, 467 жыхароў. Дзейнічаюць машынны двор, піларама, Дом культуры, аддз. сувязі, лясніцтва, аддз. ашчаднага банка, магазін, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, базавая школа, б-ка. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПнЗ адыходзяць 2 кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі сял. хатамі. Грамадскі цэнтр — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Глуска, 18 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 164 км ад Магілёва, на У р. Ліса (прыток Пцічы), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 113 гаспадарак, 222 жыхары (2007).

У 1897 г. ўрочышча Старое Сяло (яно ж Завод) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 7 жыхароў. У 1907 г. 15 двароў, 93 жыхары, у 1917 г. 18 двароў, 118 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1941 г. пачала дзейнічаць падп. антыфаш. група. Паводле перапісу 1970 г. 58 жыхароў, у 1986 г. 155 двароў, 343 жыхары. У 2002 г. 133 гаспадаркі, 293 жыхары. Цэнтр СПК «Звязда». Дзейнічаюць машынны двор, піларама, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, базавая школа, дзіцячы сад, б-ка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Больш працяглая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На Пд ад яе адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. На Пн адасоблены ўчастак забудовы. Грамадскія будынкі на паўд.-зах. ускраіне. Жылыя дамы пераважна драўляныя, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На Пд сучасная забудова катэджнага тыпу.

**СТАРЫНА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Глуска, 31 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 192 км ад Магілёва на ПнУ р. Даколька (прыток Пцічы), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 37 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар (1 двор, 6 жыхароў) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У сярэдзіне 1920-х г. сюды перасяліліся частка жыхароў з в. Даколь. Паводле перапісу 1970 г. 275 жыхароў, у 1986 г. 65 гаспадарак, 155 жыхароў. Ёсць магазін. У 2002 г. 41 гаспадарка, 75 жыхароў. Больш працяглая прамалінейная вуліца арыентавана шыротна, ад яе на У адыходзяць 2 кароткія, паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЦЯГ** (да 1967 г. Заграбелле) — вёска ў Слаўкавіцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 202 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 54 гаспадаркі, 88 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 287 жыхароў, у 1986 г. 60 гаспадарак, 127 жыхароў. У 2002 г. 50 гаспадарак, 77 жыхароў. Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой на ПдУ адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**СЦЯПАНАЎКА** – вёска ў Казловіцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск–Акцябрскі, 152 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск–Бабруйск. 45 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1798 г. вёска (5 двароў, 53 жыхары, млын), уласнасць казны, у Бабруйскім старостве Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1838 г. 61 жыхар. У 1847 г. 9 двароў, 95 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 8 зямельных участкаў, у складзе казённага маёнтка Брожа. У 1897 г. ў Брожскай вол., 31 двор, 234 жыхары. У 1907 г. 38 двароў, 270 жыхароў, у 1917 г. 57 двароў, 336 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліст. 1941 г. дзейнічала падп. антыфаш. група, якая перадала партызанам 6 кулямётаў, 5 аўтаматаў, ротны мінамёт з камплектам мін, больш за 50 вінтовак, шмат гранат і патронаў. Многія вяскоўцы ў вер. 1942 г. пайшлі ў партыз. атрад, які быў сфарміраваны на базе ініцыятыўнай групы, вылучанай атрадам імя М.А.Шчорса. Паводле перапісу 1970 г. 295 жыхароў, у 1986 г. 63 гаспадаркі, 123 жыхары. У 2002 г. 55 гаспадарак, 118 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**СЯЛЕЦ** – вёска ў Клятнянскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск–Акцябрскі, 190 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск–Любань. 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1571 г. як сяло ў Глускай вол. Навагрудскага павета ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1626 г. ў складзе маёнтка Глуск Дубровіцкі. Па звестках 1677 г. сяляне частку свайго прыбытку ўносілі ў карысць глускіх бернардзінцаў. У 1692 г. 7 дымоў. У 1727 г. 12 дымоў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 21 двор, 102 жыхары. У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 121 жыхар. У 1917 г. 22 двары, 149 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа (у 1923 г. 18 вучняў). У крас. 1924 г. створана меліярацыйнае т-ва «Сялецкае». У 1926 г. 28 двароў, 165 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». Паводле перапісу 1970 г. 134 жыхары, у 1986 г. 30 гаспадарак, 72 жыхары. У 2002 г. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТУРКІ** – вёска ў Завалочыцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Глуска, 30 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск–Акцябрскі, 162 км ад Магілёва, на У р. Пціч (прыток Бярэзіны) і мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск–Дачнае. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 23 жыхары. У 1917 г. 27 жыхароў. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 5 двароў, 35 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 73 жыхары, у 1986 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2002 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіроўка ў адну кароценькую прамалінейную, арыентаваную мерыдыянальна вуліцу, з двухбаковай няшчыльнай забудовай драўлянымі сял. хатамі.

**ТУРЫНА** — вёска ў Хваставіцкім с/с, за 9 км на З ад Глуска, 37 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 179 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Глуск—Любань. 92 гаспадаркі, 278 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1688 г. ў Мінскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. цэнтр маёнтка, 12 двароў, 46 жыхароў. У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 54 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны засценак (24 двары, 173 жыхары). У 1907 г. ў вёсцы 11 двароў, 80 жыхароў, у засценку — 22 двары, 204 жыхары. У 1926 г. вёска (7 двароў, 33 жыхары), засценак (17 двароў, 108 жыхароў) і хутар (8 двароў, 48 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Будаўнік сацыялізму», які ў 1936 г. аб'ядноўваў 61 гаспадарку. Паводле перапісу 1970 г. 159 жыхароў, у 1986 г. 70 двароў, 196 жыхароў. Цэнтр СПК «Дружба». Дзейнічаюць майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, Дом культуры, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад-яслі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка. Скарочаная схема планіроўкі развіцця вёскі распрацавана ін-там «Белгіпрасельбуд» у 1964 г. Планіроўка набліжана да рэгулярнай. Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе на ПдЗ адыходзяць 3 невялікія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне ўчастак сучаснай мураванай забудовы. Грамадскія будынкі на Пд.

**УСЦЯРХІ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 12 км на У ад Глуска, 12 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 153 км ад Магілёва, на Пд р. Ліса (прыток Пцічы), на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Глуск—Ратміравічы. 26 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1888 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Глускай вол., 35 двароў, 138 жыхароў. Побач быў аднайменны засценак (34 двары, 226 жыхароў). У 1907 г. ў вёсцы 39 двароў, 204 жыхары, у засценку 28 двароў, 257 жыхароў, у 1917 г. ў вёсцы 44 двары, 254 жыхары, у засценку 26 двароў, 281 жыхар. У 1921 г. пачала дзейнічаць 4-гадовая школа. У 1926 г. вёска, 50 двароў, 340 жыхароў і засценак, 40 двароў, 250 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны волат», які ў 1936 г. аб'ядноўваў 76 гаспадарак. З 1937 г. дзейнічаў паравы млын. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1942—43 гг. спалілі 37 двароў. Партызаны разграмілі варожы гарнізон. У 1950 г. ўзведзена гідраэлектрастанцыя магутнасцю 20 кВт, якая забяспечыла электрычнасцю шэраг населеных пунктаў. Паводле перапісу 1970 г. 170 жыхароў, у 1986 г. 49 гаспадарак, 94 жыхары. 30 гаспадарак, 55 жыхароў. Цэнтр СПК «Калгас «Зара камуны». Дзейнічаюць машынны двор, піларама, сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. сувязі, 2 магазіны, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 30 гаспадарак, 55 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную шыротна вуліцу, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УЮНІШЧА** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Глуска, 12 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 188 км ад Магілёва, на У р. Бежыца (прыток р. Пціч), вакол лес. Побач аўтадарога Глуск—Ратміравічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, захавалася старажытнае паселішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1880-я г. тут дзейнічала школа граматы (у 1890 г. закрыта). У 1897 г. вёска (929 двароў, 139 жыхароў) у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 32 двары, 152 жыхары. У 1926 г. 175 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае Уюнішча», які ў 1936 г. аб'ядноўваў 45 гаспа-

дарак. У 1940 г. 48 двароў, 192 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў крас. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 14 партызан атрада імя С.М.Кірава 37-й партыз. брыгады імя А.Я.Пархоменкі (пахаваны на вясковых могілках). Паводле перапісу 1970 г. 66 жыхароў, у 1986 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**ХАЛОПЕНІЧЫ** — вёска ў Каткаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Глуска, 15 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 195 км ад Магілёва на р. Пціч (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 40 гаспадарак, 59 жыхароў (2007).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча захавалася гарадзішча мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур, датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н.э. — пач. 1-га тысячагоддзя н.э. За 0,7 км на ПдУ ад гарадзішча знаходзіцца паселішча ранняга жал. веку і эпохі феадалізму. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. У 1842 г. ў маёнтку засн. вінакурны з-д (у 1879 г. 8 рабочых). У 1897 г. вёска (336 жыхароў, хлебазапасны магазін) у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Побач былі дом арандатара вадзянога млына (13 жыхароў), маёнтак (4 двары, 89 жыхароў, вінакурны з-д), вартоўня каля маста праз р. Пціч (1 двор, 10 жыхароў). У 1907 г. ў вёсцы 44 двары, 359 жыхароў, у маёнтку 67 жыхароў, у 1917 г. ў вёсцы 67 двароў, 478 жыхароў, у маёнтку 165 жыхароў, дзейнічаў вінзавод. У 1920 г. ў былым панскім маёнтку быў створаны саўгас, які затым уваходзіў у Мінскі малочна-прам. трэст. У пач. 1920-х г. стала дзейнічаць 4-гадовая школа (у 1923 г. 51 вучань), у 1922 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 87 двароў, 575 жыхароў. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. У 1920-я г. арганізаваны калгас, у 1934 г. адкрыты дзіцячая пляцоўка і яслі. Непадалёку ў маі 1938 г. на базе саўгаса «Халопенічы» была створана Рудабельская МТС, якая першапачаткова налічвала 28 трактароў. З 26.3.1945 г. гэта МТС вядома пад назвай Каткаўская (рэарганізавана 31.3.1958 г.). У 1936 г. рэканструяваны вінзавод, дзейнічаў вадзяны млын. У 1940 г. 128 двароў, 515 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1941 г. з жыхароў вёскі і групы партызан, вылучанай атрадам «Чырвоны Кастрычнік», быў сфарміраваны партыз. атрад імя М.Ф.Гастэла. У 1944 г. ням.-фаш. карнікі спалілі 103 двары, загубілі 55 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 44 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 402 жыхары, у 1986 г. 100 гаспадарак, 206 жыхароў. У 2002 г. 53 гаспадаркі, 94 жыхары. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну прамалінейную, арыентаваную мерыядыянальна вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХВАСТАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Хваставіцкага с/с (з 24.9.1926 г.), за 1 км на З ад Глуска, 29 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 172 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Глуск—Любань. 162 гаспадаркі, 360 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1559 г. сяло ў Глускай вол. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1692 г. ў складзе прыватнафеад. ўладання. У 1727 г. с. Фаставічы (18 двароў, 16 жыхароў мужчынскага полу), шляхецкая ўласнасць, у 1756 г. 23 двары. У 1841 г. ў маёнтку засн. вінакурны з-д (у 1890 г. 7 рабочых). У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 37 двароў, 239 жыхароў, хлебазапасны магазін.У маёнтку 4 двары, 28 жыхароў, вінакурны з-д, вадзяны млын. У маі 1906 г. сяляне зрабілі патраву памешчыцкіх пасеваў. За выступленне супраць памешчыка 3 вяскоўцы былі арыштаваны і зняволены ў Бабруйскую турму. У 1907 г. ў сяле 46 двароў, 275 жыхароў, у маёнтку 21 жыхар, у 1917 г. ў сяле 57 двароў, 343 жыхары, у маёнтку 72 жыхары. З 24.9.1926 г. цэнтр Хваставіцкага с/с Глускага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 30.7.1966 г. зноў Глускага

р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай, з 23.1.1960 г. Магілёўскай абласцей. У 1926 г. вёска (62 двары, 242 жыхары) і пасёлак (14 двароў, 83 жыхары). У маі 1931 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі каля 50 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў магіле за 600 м на З ад вёскі, на Мыслоцінскай гары). Паводле перапісу 1970 г. 468 жыхароў, у 1986 г. 155 гаспадарак, 381 жыхар. У 2002 г. 157 гаспадарак, 346 жыхароў. Дзейнічаюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сталярна-цяслярская і дрэваапрацоўчая, магазін, Дом культуры, аддз. сувязі, б-ка. Планіроўка квартальная, з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна. Ад яе адыходзяць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Грамадскі цэнтр на У.

**ЧАПАЕВА** — вёска ў Слаўкавіцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Глуска, 24 км ад чыг. ст. Бумажкова на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 201 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 25 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1970 г. 226 жыхароў, у 1986 г. 40 гаспадарак, 80 жыхароў. У 2002 г. 28 гаспадарак, 43 жыхары. Планіроўка ў адну прамалінейна трасіраваную, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ вуліцу, забудаваную двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ЧЫКІЛІ** — вёска, цэнтр Казловіцкага с/с (з 20.8.1924 г.), за 20 км на ПнУ ад Глуска, 14 км ад чыг. ст. Брожа на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 149 км ад Магілёва, на Пд р. Чаромуха (прыток р. Ліса). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Бабруйск. 51 гаспадарка, 106 жыхароў (2007).

У 1838 г. 30 рэвізскіх душ. У 1858 г. вёска (8 зямельных участкаў) у складзе казённага маёнтка Брожа Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў Брожскай вол., 30 двароў, 215 жыхароў. У 1907 г. 37 двароў, 222 жыхары, у 1917 г. 47 двароў, 294 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр с/с Глускага, з 25.12.1962 г. Бабруйскага, з 30.7.1966 г. зноў Глускага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай, з 21.1.1960 г. Магілёўскай абласцей. У 1926 г. 55 двароў, 308 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», які ў 1936 г. аб'ядноўваў 72 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з ліст. 1941 г. да пач. 1944 г. дзейнічала падп. антыфаш. група. У вер. 1942 г. частка вяскоўцаў, якая пайшла ў лес, склала аснову партыз. атрада імя В.І.Чапаева. У баях супраць акупантаў каля вёскі загінулі 16 партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля клуба). У 1950 г. пачала дзейнічаць цеплавая электрастанцыя магутнасцю 15 кВт, якая забяспечыла першыя патрэбы ў электрычнасці калгаса і вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 235 жыхароў, у 1986 г. 69 гаспадарак, 163 жыхары. У 2002 г. 59 гаспадарак, 132 жыхары. Дзейнічаюць аддз. сувязі, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Скарочаная схема планіроўкі вёскі распрацавана ў БелНДІгорадабудаўніцтва ў 1965 г. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую, шыротную вуліцу, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы грамадскія будынкі. Каля будынкаў складваецца плошча з гандл. цэнтрам і мураванымі жылымі дамамі. На зах. ускраіне вядзецца забудова мураванымі дамамі катэджнага тыпу.

**ЦЯСНОВА** — вёска ў Клятнянскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Глуска, 35 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 194 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Любань. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў (2007).

У 1858 г. сяленне Цясноў у Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска і фальварак Цяснова (ён жа Вялікая Цесна). У 1931 г. арганізаваны калгас «Баявік». Паводле перапісу 1970 г. 209 жыхароў, у 1986 г. 53 гаспадаркі, 137

жыхароў. 33 гаспадаркі, 69 жыхароў (2002). Ёсць магазін. Планіроўка набліжана да П-падобнай. Дзве працяглыя (адна прамалінейная, другая плаўна выгнутая) вуліцы арыентаваны шыротна і на З злучаны невялікай прамалінейнай вуліцай. Забудавана аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮЗАФОВА** — вёска ў Калаціцкім с/с, за 15 км на Пн ад Глуска, 40 км ад чыг.ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск—Акцябрскі, 187 км ад Магілёва, на З р. Камарынка (прыток Пцічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1798 г. фальварак (1 двор) у складзе маёнтка Глуск. У 1889 г. засн. вінакурны з-д (у 1890 г. 5 рабочых). У 1897 г. ў Глускай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 26 жыхароў. У 1917 г. вёска (18 двароў, 123 жыхары) і фальварак (2 двары, 30 жыхароў). У 1926 г. ў вёсцы 22 двары, 190 жыхароў, у былым маёнтку 4 двары, 25 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, у памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1969 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 194 жыхары, у 1986 г. 46 гаспадарак, 76 жыхароў. Ёсць магазін, клуб. У 2002 г. 22 гаспадаркі, 27 жыхароў. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПнЗ і ПдУ адыходзяць 3 невялікія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ЯСЯНЦЫ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Глуска, 20 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 156 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1897 г. в. Буда Ясеньская (11 двароў, 78 жыхароў) у Гарадкоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 110 жыхароў, у 1917 г. 14 двароў, 146 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў



*У.А.Рыбак атрымлівае Зорку Героя Савецкага Саюза.*

калгас. Паводле перапісу 1970 г. 39 жыхароў, у 1986 г. 11 гаспадарак, 28 жыхароў. У 2002 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіроўка ў адну кароценькую, прамалінейную, арыентаваную шыротна вуліцу, забудаваную рэдка, драўлянымі сял. хатамі.

**ЯЎСЕЯВІЧЫ** — вёска ў Завалочыцкім с/с, за 25 км на Пн ад Глуска, 28 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі на лініі Асіповічы—Слуцк, 152 км ад Магілёва, на Пд р. Пціч (прыток Бярэзіны), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Глуск—Дачнае. 46 гаспадарак, 91 жыхар (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. У 1597 г. сяло (16 дымоў) у Глускай вол. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай(1793) у складзе Рас. імперыі. У 1844 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 28 двароў, 191 жыхар. У 1897 г. ў Гарадкоўскай вол., 55 двароў, 437 жыхароў. У 1907 г. 73 двары, 574 жыхары, у 1917 г. 102 двары, 485 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа (у 1925 г. 39 вучняў). У 1926 г. 496 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 32 вяскоўцы загінулі на фронце, у памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1965 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 319 жыхароў, у 1986 г. 83 гаспадаркі, 149 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ вуліцу з 2 завулкамі. На Пд — адасоблены ўчастак забудовы (кароткая прамалінейня вуліца). Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. хатамі. Радзіма Героя Сав. Саюза У.А.Рыбака.

**КРЫНІЦА І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 27, 2458; ф. 30, воп. 2, спр. 3332; воп. 5, спр. 3300, 4881; воп. 9, спр. 2392; ф. 31, воп. 1, спр. 23/21, 255; воп. 3, спр. 10; ф. 42, воп. 1, спр. 658, 687, 1007, 1033, 1064, 1746, 1833; воп. 2, спр. 47, 50, 104, 2138, 2142, 2150; ф. 46, воп. 1, спр. 146; воп. 18, спр. 421; ф. 48, воп. 1, спр. 659, 2931, 2962, 4024, 4432; ф. 53, воп. 1, спр. 15; ф. 93, воп. 1, спр. 452; ф. 142, воп. 1, спр. 144; ф. 258, воп. 1, спр. 90; ф. 334, воп. 1, спр. 500, 659; воп. 2, спр. 13, 31; ф. 338, воп. 1, спр. 329.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 27, воп. 6, спр. 80; ф. 142, воп. 1, спр. 57, 142, 161, 178; ф. 183, воп. 2, спр. 184; ф. 295, воп. 1, спр. 8603; ф. 333, воп. 2, спр. 2185; ф. 694, воп. 1; спр. 161; воп. 7, спр. 177, 220, 221, 846; ф. 1727, воп. 1, спр. 23; ф. 1737, воп. 1, спр. 6.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці ў Бабруйску, ф. 511, воп. 1, спр. 3; ф. 1569, воп. 1, спр. 54; ф. 2125, воп. 21. спр. 37.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 20, воп. 12, спр. 112; ф. 142, воп. 1, спр. 178; ф. 823, воп. 1, спр. 99, 211; ф. 1290, воп. 11, спр. 1294.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 1350, воп. 312, спр. 89.
Расійскі архіў Акадэміі навук, ф. 30, воп. 2, спр. 29.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 11, воп. 2, спр. 65.
Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, B2-205.
Бутурлин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 г.: Пер. с фр. Ч. 1. СПб., 1823.
Приложения к Трудам редакционных комиссий для составления положений о крестьянах, выходящих из крепостной зависимости. Т. 6. СПб., 1860.
Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 4. СПб., 1863.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. Т. 1. Вильна, 1867.
Статистические сведения о церквах и причтах Минской епархии. Мн., 1880.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1881; 3 изд. СПб., 1894.
Отчет о церковноприходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890—91 учебный год. Мн., 1891.
Фабрично-заводская промышленность России: перечень фабрик и заводов. Спб., 1897.
Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Т. 25. Вильна, 1898.
Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии. Мн., 1903.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905—06 учебный год. Могилев, 1906.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест БССР (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Палікарповіч К.М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930—31 гг. // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932. Т. 3.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
История Великой Отечественной войны Советского Союза, 1941—45. Т. 4. 2 изд. М., 1964.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918—20 гг.: сб. док. и материалов. Т. 2. Мн., 1971.
Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1975.
Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Мн., 1983.
Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии: железный век. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—44. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Памяць: Глускі р-н. Мн., 1999.
Республика Беларусь: энцикл. Т. 3. Мн., 2006.






Маштаб 1:340 000



# ГОРАЦКІ РАЁН

Размешчаны на ПнУ вобласці. Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Аршанскай акругі, у якую ўваходзіў да 26.7.1930 г. З 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Пл. тэр. раёна 1,3 тыс. км². Насельніцтва 51,5 тыс. чал. (2007). Цэнтр раёна — г. Горкі. У раён уваходзяць 173 сельскія населеныя пункты. Адміністрацыйна раён падзяляецца на 12 сельсаветаў: Аўсянкаўскі, Горскі, Добраўскі, Копцеўскі, Ленінскі, Маслакоўскі, Паршынскі, Рудкаўшчынскі, Рэкценскі, Саўскі, Ходараўскі.

Праз тэр. раёна праходзяць чыгунка Орша—Крычаў, а таксама аўтадарогі на Оршу, Магілёў, Мсціслаў.

Амаль $^{2}/_{3}$ тэр. раёна заняты Аршанска-Магілёўскай раўнінай, на ПнУ заходзіць частка Смаленскага ўзвышша. Рэльеф пласкахвалісты, прарэзаны рачнымі далінамі і ярамі. Найвышэйшы пункт раёна (231,4 м) знаходзіцца каля в. Майсеева. З карысных выкапняў ёсць торф, пяскі, гліны.

Па тэр. раёна цякуць р. Проня з прытокамі Парасіца, Быстрая, Вербаўка, Галыша, р. Бася з прытокамі Паўна і Галубіна і інш. рэкі. Пад лесам знаходзіцца 17,9% тэр. раёна. Найбуйнейшы лясны масіў — Горацкая лясная дача на Пн раёна. Балоты займаюць 4,1% тэр.

Пл. с.-г. угоддзяў складае 92,5 тыс. га, з іх 19,1 тыс. га асушаных. У гасп. комплексе пераважае с.-г. вытв-сць. Асн. галіны — малочна-мясная жывёлагадоўля, ільнаводства. Вырошчваюцца збожжавыя і кармавыя культуры, бульба. Працуюць с.-г. прадпрыемствы, фермерскія гаспадаркі, ААТ «Горацкая райаграпрамтэхніка».

На тэр. раёна знаходзіцца Бел. дзярж. с.-г. акадэмія. У сістэме адукацыі таксама пед. каледж, 12 сярэдніх, 5 базавых, 10 пач. школ. Ёсць муз. школа, 25 клубаў, 27 б-к. Дзейнічаюць 118 калектываў мастацкай самадзейнасці, у т.л. 14 народных і ўзорных.

**ГОРКІ** — горад абл. падпарадкавання, цэнтр раёна, за 86 км ад Магілёва, 3 км ад ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Кры-

*Горацкія краявіды.*





Мікрараён па вуліцы Калініна ў Горках.



чаў, вузел аўтадарог на Оршу, Магілёў, Чавусы, Мсціслаў, Смаленск, на р. Проня. 37,7 тыс. жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў «Літоўскай метрыцы» ў сярэдзіне 16 ст. як маёнтак і вёска, якія належалі князям Друцкім-Горскім. З 1584 г. уладанне Сапег. У 1619 г. Горкі атрымалі «Устаў аб вольнасці», які ўяўляў сабою разнавіднасць малога магдэбургскага права. Дазвалялася праводзіць таргі і кірмашы. З 1626 г. мястэчка належала Горацкаму касцёлу, у 1656 г. перайшло ў валоданне Мірскага. У 1777 г. мела сваё самакіраванне і суд.

У час вайны 1654—67 гг. у кастр. 1654 г. пры ўдзеле палкоўніка бел. казацкага палка К.Паклонскага горад перайшоў на бок Маскоўскай дзяржавы. Пасля Андрусаўскага перамір'я 1667 г. ў складзе Рэчы Паспалітай, належалі А.Палубенскаму. У 1676 г. Горацкае праваслаўнае брацтва адкрыла школу. Паводле інвентару 1683 г. 510 двароў з прадмесцямі Зарэчча і Казіміраўская Слабада. На кірмашах гандлявалі купцы з Смаленска, Мсціслава, Магілёва, Шклова, Оршы. Працавалі рамеснікі 28 спецыяльнасцей, у іх ліку гарбары, збройнікі, ткачы і ганчары. У 1683 г. мястэчка ў складзе маёнтка Горы, у Віцебскім ваяв., дзярж. уласнасць. З 1685 г. уладанне Ю.Сапегі.

У час Паўн. вайны 1700—21 гг. Горкі знаходзіліся ў зоне ваенных дзеянняў. 9.7—16.8.1708 г. тут размяшчаліся рус. войскі пад камандаваннем Пятра І. Узвышша, дзе дыслацыравалася рус. войска, зараз завецца Пятровай горкай. У 1711 г. Пётр І разам са сваёй жонкай, будучай царыцай Кацярынай І, зноў наведаў Горкі. У тым жа годзе кн. А.Меншыкаў купіў Горацкі маёнтак і валодаў ім да ссылкі ў Сібір у 1727 г., калі маёнтак быў канфіскаваны і адышоў да казны. З сярэдзіны 18 ст. ў складзе Мсціслаўскага ваяв., у 2-й пал. 18 ст. уладанне графа Салагуба.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) мястэчка ў складзе Аршанскай правінцыі, з 1777 г. ў Аршанскім, потым у Копыскім паветах Магілёўскай губ. Далучэнне да Расіі садзейнічала развіццю эканомікі, гандлю і рамёстваў. У 1785 г. 1491 жыхар, цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка. Меліся 2 млыны, гаспадарскі

Шаша Горкі—Мсціслаў.



Панарама вуліцы Якубоўскага ў Горках.







*Кінатэатр «Крыніца» ў Горках.*

*На адным з горацкіх скрыжаванняў.*

драўляны дварэц, 2 царквы. У 1790 г. засн. парусінавая, у 1795 г. — суконная мануфактуры. 14.7.1812 г. ў час напалеонаўскага нашэсця праз Горкі адступаў корпус данскіх казакоў на чале з Платавым. Французы разрабавалі і знішчылі мануфактуры, спалілі аранжарэі. Страты Горы-Горацкага маёнтка склалі звыш 3 млн. руб., 2070 чал. былі забіты і загінулі ад пабояў. У наваколлі горада дзейнічаў партыз. атрад Дз.Давыдава. Вызвалены ў пач. ліст. 1812 г. рус. войскамі пад камандаваннем ген. Ажароўскага.

У жн. 1829 г. маёнтак за даўгі быў канфіскаваны і перайшоў да казны. 24.4.1836 г. царскім указам у казённым маёнтку (больш за 55 тыс. дзес. зямельных і лясных угоддзяў) была адкрыта Горы-Горацкая земляробчая школа. 30.5.1837 г. адбылася ўрачыстая закладка яе будынка (цяпер корпус №4). У будаўніцтве ўдзельнічала ўсё насельніцтва акругі, арцелі майстроў з розных губерняў. 15.8.1840 г. школа пачала дзейнічаць. Складалася яна з вышэйшага і ніжэйшага разрадаў. Тэрмін навучання — 3 гады, выпускнікі атрымлівалі вышэйшую агранамічную адукацыю. Ніжэйшы разрад (выкладаліся асновы агранаміі) камплектаваўся з дзяцей прыгонных і сялян.

У 1840 г. ў Горках 445 дамоў, 2528 жыхароў. Дзейнічалі 2 гарбарні, адна з 1833 г., другая з 1836 г. Пры Горы-Горацкай земляробчай школе ў 1843 г. пачала дзейнічаць ферма па вырошчванні высокапародных коней, у 1844 г. — вучэбная ферма, якая рыхтавала сялян да вядзення гаспадаркі. 30.6.1848 г. вышэйшы разрад земляробчай школы рэарганізаваны ў земляробчы ін-т з 4-гадовым тэрмінам навучання, а ніжэйшы — у земляробчае вучылішча з 6-гадовым тэрмінам навучання, якое давала сярэднюю спец. адукацыю. У 1859 г. адкрыты землямерна-таксатарскія курсы. Інстытут выдаваў

*Стаматалагічная паліклініка ў Горках, размешчаная ў будынку 19 ст.*

*Сонечны гадзіннік у Горках.*









*Горацкія краявіды.*

«Запіскі Горы-Горацкага земляробчага інстытута» (1852—59), дзе друкаваліся справаздачы і навук. працы выкладчыкаў. Усё гэта садзейнічала росту папулярнасці Горы-Горацкіх вучэбных устаноў, у якіх у 1862 г. займаліся 542 навучэнцы амаль з усіх губерняў Расіі. Многія з іх пакінулі яркі след у гісторыі айчыннай с.-г. навукі. Сярод іх А.В.Светаў, І.А.Сцебут, А.М.Бажанаў, А.П.Людагоўскі, І.М.Чарнапятаў, Я.С.Фалькоў, І.У.Палімпсестаў, Ю.Ю.Жабенка, А.М.Казлоўскі, С.С.Касовіч, М.С.Міцуль і інш. Дзейнасць земляробчых навучальных устаноў стымулявала развіццё Горак. Пачалі працаваць бальніца, аптэка, паштовая кантора, гар. вучылішча. У 1859 г. адкрыты чыгуналіцейны з-д (27 рабочых, выпрацоўвалася 700—1000 пудоў металу ў год). Механічная майстэрня выпускала с.-г. машыны. У снеж. 1861 г. Горкі сталі горадам, цэнтрам павета Магілёўскай губ. Тут у гэты час было 566 дамоў, 4464 жыхары. Дзейнічалі 6 цэркваў, касцёл, 4 малітоўныя школы, 3 разы на год праводзіўся кірмаш.

У канцы 1862 г. ў горадзе сфарміравалася падп. студэнцкая арг-цыя на чале з к-там, у склад якога ўваходзілі С.Віскоўскі, В.Дамарацкі, В.Антановіч, П.Козел, К.Дэконскі, Д.Кілдыш, С.Маргулец, Р.Чарвінскі, З.Міткевіч, Ф.Чудоўскі, С.Дымкевіч. Апошні да студз. 1863 г. кіраваў к-там. Яго змяніў С.Віскоўскі, які ўстанавіў сувязь з Літ. правінцыяльным к-там у Вільні, ездзіў у Пецярбург і Маскву, адкуль прывёз для паўстанцаў 24 рэвальверы. У сак. 1863 г. Віленскі правінцыйны к-т вырашыў пачаць паўстанне, кіраўніком якога на Магілёўшчыне быў Л.Звяждоўскі (Тапор), баявы саратнік К.Каліноўскага. Пасля папярэдняй пад-

*Майстры саломапляцення з г. Горкі.*



рыхтоўкі ў ноч на 24.4.1863 г. атрад Л.Звяждоўскага напаў на Горкі, захапіў зброю, грошы. Да паўстанцаў далучыліся студэнты. Кіраўніку Горацкага падп. к-та была ўручана пастанова ад 13.3.1863 г. аб тым, што «падпольны ўрад прызначае грамадзяніна С.Віскоўскага начальнікам г. Горкі». Паўстанцы падзяліліся на 5 груп і адначасова напалі на кватэру начальніка ўнутранай аховы, казарму, цэйхгауз, пошту і казначэйства. У баі загінулі В.Дамарацкі, К.Пржэбольскі, 3 чал. былі паранены. Затым атрад (200 чал., 50 павозак) выйшаў у напрамку да Крычава, да яго далучыўся атрад Е.В.Жукоўскага. Аднак паўстанцам не ўдалося прыцягнуць на свой бок сялянства. 30.4.1863 г. Звяждоўскі, пасля таго як яго атрад акружылі больш як 400 царскіх салдат, прыняў рашэнне прабівацца на 3 невялікімі групамі. Удалося гэта толькі нязначнай частцы, 145 паўстанцаў былі схоплены і адпраўлены ў Магілёўскую турму. У сак. 1864 г. царскі суд асудзіў 26 чал. на катаргу, 33 адправіў у ссылку. За ўдзел у паўстанні студэнтаў і выкладчыкаў земляробчы ін-т у 1864 г. быў пераведзены ў Пецярбург, а ў 1877 г. аб'яднаны з Пецярбургскім лясным ун-там.

У жн. 1867 г. было зацверджана палажэнне аб гербе г. Горкі. У ім гаварылася: «Намаляваць у сім гербу, як гласную эмблему г. Горкі тры гары, сярэдняя вышэй за іншыя, а для таго, каб паказаць на занятак жыхароў горада земляробствам — вырастаючыя з гор каласы, у вольнай частцы шчыта размясціць герб Магілёўскай губерні. Шчыт упрыгожыць вежай з трыма зубцамі». У 1880 г. ў Горках налічвалася 838 дамоў, 4686 жыхароў, меліся 2 гарбарныя, драждживы, 5 крухмальных з-даў, 4 крупарушкі, 4 маслабойні (адкрыты ў 1861, 1872, 1873 і 1876). Дзейнічалі 4 навуч. ўстановы: земляробчая школа, землямерна-таксатарскія курсы, рамеснае вучылішча (з 1872) і нар. школа. Размяшчалася станцыя на трактах Орша—Клімавічы—Касцюковічы і Шклоў—Горкі—Ляды, якая ў 1880 г. мела 12 коней. 23.7.1881 г. адкрыта тэлегр. станцыя.



*Майстар разьбы па дрэве з г. Горкі.*

Меліся 93 гандл. кропкі. Дзейнічала бальніца 10 ложкаў. Калі ў 1880 г. насельніцтва складала 4686 чал., то ў 1897 г. — 6737 чал. (з іх паводле перапісу 41,3% былі непісьменнымі), у 1904 г. — 7137 чал., у 1911 г. — 7519 чал. Прам-сць у канцы 19 — пач. 20 ст. была прадстаўлена дробнымі прадпрыемствамі, колькасць якіх складала ў 1888 г. — 7, у 1900 г. — 29, у 1904 г. — 34 (158 рабочых). У 1904 г. меўся 821 дом, з іх толькі 22 мураваныя. У 3 земляробчых навуч. установах атрымлівалі спец. адукацыю 437 навучэнцаў. У канцы 19 ст. ў

*Вырабы майстроў саломапляцення з г. Горкі.*



цэнтр. частцы горада пабудавана муравеная царква.

У 1875 г. ў Горках узнікла некалькі народніцкіх гурткоў, аб'яднаных затым у цэнтр. гурток. Члены гэтых гурткоў былі звязаны са студэнтамі Пецярбургскага ун-та. Для правядзення агітацыйнай работы і наладжвання сувязі з народніцкімі гурткамі ў Горкі прыязджаў чл. выканаўчага к-та «Народнай волі» Р.П.Ісаеў. У Горках нарадзіліся браты Я.І. і У.І. Бычковы — актыўныя ўдзельнікі народніцкага руху 1870—80-х г.

У студз. 1902 г. ў Горках арганізавана група сацыял-дэмакратаў іскраўцаў, ініцыятарам стварэння і членамі якой былі навучэнцы землямерна-таксатарскіх класаў. 18.4.1903 г. пад кіраўніцтвам групы іскраўцаў адбылася сходка, на якой прысутнічалі 90 чал. з ліку навучэнцаў і сял. моладзі. 1.5.1903 г. адбылася забастоўка навучэнцаў рамеснага вучылішча. У канцы 1903 — пач. 1904 г. створана арг-цыя РСДРП. Узначальвалі яе Р.Гернгрос, Т.Гоманаў, В.Станкевіч і інш. У студз. 1904 г. яна ўвайшла ў Палескі к-т РСДРП і на 1-м з'ездзе арг-цый РСДРП Палескага р-на (май 1905) прызнана паўнамоцнай. 1.1.1904 г. горацкія сацыял-дэмакраты перадрукавалі брашуру У.І.Леніна «Да вясковай беднаты» і распаўсюдзілі яе сярод насельніцтва суседніх вёсак. 15.1.1905 г. па ініцыятыве групы РСДРП адбыўся сход рабочых і навучэнцаў земляробчага вучылішча, на якім было вырашана арганізаваць дэманстрацыю ў знак пратэсту супраць расстрэлу пецярбургскіх рабочых. 16.1.1905 г. сацыял-дэмакраты правялі палітычную дэманстрацыю, у якой удзельнічала каля 250 чал. У час яе загінулі члены арг-цыі П.Бруцэр і Ф.Ярафееў. Вуліца, дзе гэта адбылося, зараз носіць іх прозвішчы, у 1978 г. тут устаноўлены мемарыяльны знак. У сак. 1905 г. с.-д. арг-цыя выдала пракламацыю «Да сялян. Тры ўказы...» і адозву «Таварышы сяляне». 4.7.1905 г. адбылася ўсеагульная забастоўка рабочых з удзелам сялян з навакольных вёсак. У ліп. 1905 г. адбылася стачка ў знак пратэсту супраць расстрэлу рабочых Адэсы і Лодзі. Працоўныя Горак пад кіраўніцтвам арг-цыі РСДРП актыўна ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. У час Снежаньскай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905 г. быў створаны баявы атрад для дапамогі пралетарыяту Масквы, але своечасова дабрацца да Масквы ён не змог. 5.12.1905 г. вучні Горацкага земляробчага вучылішча арганізавалі мітынг з удзелам 200 навабранцаў і сялян, заклікалі не падпарадкоўвацца афіцэрам. У 1906 г. адбылася першамайская забастоўка рабочых і навучэнцаў, у ліп. таго ж года — галадоўка палітзняволеных у турме.



*Будынак гасцініцы ў Горках.*



*Галоўны корпус Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.*

У 1909 г. ў Горках было 825 дамоў, 7493 жыхары, 2 плошчы, 48 вуліц і завулкаў, 1 бульвар, меліся тэлефон (12 абанентаў), друкарня, бальніца, 5 аптэкарскіх магазінаў, б-ка, 3 гасцініцы, пачало дзейнічаць аддз. пед. т-ва.

5(18).3.1917 г. створаны Горацкі Савет рабочых і сял. дэпутатаў. Большасць у ім належала эсэрам і меньшавікам. Улада знаходзілася ў руках пав. камісара Часовага ўрада. У канцы кастр. 1917 г. бальшавікі арганізавалі чырвонагв. атрад (80 чал.) на чале з ваенным камісарам Горацкага павета С.Дз.Пагодзіным (яго імя носіць чыг. станцыя). У канцы снеж. 1917 г. на 1-м пав. з'ездзе Саветаў рабочых, чырвонаармейскіх і сял. дэпутатаў перамаглі бальшавікі. 28.1.1918 г. ў Горках канчаткова ўстаноўлена сав. ўлада. Горацкі Савет пачаў фарміраваць атрад Чырвонай Арміі, які быў забяспечаны зброяй, атрыманай з Петраграда. 6—7.3.1918 г. контррэвалюцыянеры ўзнялі мяцеж, разгромілі выканком пав. Савета, забілі ваенкома Пагодзіна. Мяцеж быў хутка падаўлены. 19.7.1918 г. адбылася 1-я парт. канферэнцыя РКП(б) Горацкага павета. Парт. арг-цыя ў гэты час налічвала 217 камуністаў і спачуваючых. У жн. 1918 г. сфарміраваны бальшавіцкі выканком Горацкага павета (старшыня І.Д.Караблёў). 18.1.1919 г. створаны Горацкі Саюз камуністычнай моладзі (сакратар А.І.Лівак).

У 1918 г. адкрыта школа 2-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку, у 1924 г. налічвала 402 вучні, мелася б-ка. З сярэдзіны студз. 1919 г. дзейнічаў пав. камісарыят па ваенных справах. З 2.2.1919 г. г. Горкі ў РСФСР, з 26.4.1919 г. ў складзе Гомельскай губ. 7.4.1919 г. рашэннем калегіі Наркамасветы РСФСР на базе сярэдніх земляробчых вучэбных устаноў адноўлены Горацкі с.-г. інстытут. У 1920 г. ў сувязі з наступленнем белапалякаў горад апынуўся ў прыфрантавой паласе. Пачаў дзейнічаць Ваенна-рэв. к-т, які падпарадкоўваўся Рэўваенсавету 16-й арміі.

13.9.1921 г. адбылася канферэнцыя рабочых, сялян і чырвонаармейцаў Горацкага павета, якая адобрыла лінію сав. улады ў галіне эканам. палітыкі на 10-м з'ездзе РКП(б). Горацкая парт. арг-цыя ў гэты час была адной з самых вялікіх пав. арг-цый губерні — 52 парт. ячэйкі аб'ядноўвалі 242 чл. партыі. Дзейнічала пав. парт. школа, дзе ў 1921 г. навучалася 20 чал. Да канца 1923 г. ў горадзе і павеце было адноўлена 186 прам. і рамесных прадпрыемстваў, у якіх было занята 885 чал. За 3 км ад горада была пабудавана чыг. ст. Беларускія Горкі (цяпер ст. Пагодзіна). У сак. 1924 г. Горацкі павет разам з г. Горкі быў вернуты БССР. 17.7.1924 г. Горкі сталі цэнтрам раёна Аршанскай акругі. Яшчэ 26.10.1923 г. двухгадовыя Горацкія каморніцка-таксатар-



*Вучэбны корпус № 4 Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі. Галоўны фасад.*



*Уваходная брама Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.*

скія курсы былі пераўтвораны ў каморніцка-землеўпарадкавальны ін-т з 4-гадовым тэрмінам навучання. У 1922—24 гг. выходзілі «Материалы ЗапОМО» (Западной опытно-мелиоративной организации), у 1923—24 гг. часопіс выканаўчага бюро прафсекцыі Горацкага сельгасінстытута «Голос революционного студенчества», у 1924—26 гг. «Запіскі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута», у 1926—30 гг. «Запіскі Беларускай дзяржаўнай Акадэміі сельскай і лясной гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі» і «Працы Горы-Горацкага навуковага таварыства», у 1931—32 гг. «Працы Горацкай занальнай вопытнай станцыі малочнай гаспадаркі», у 1935—58 гг. «Працы Беларускага сельскагаспадарчага інстытута». У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1925 г. арганізаваны камбінат, які аб'яднаў электрастанцыю, жывёлабойню і млын. Працавалі 2 лесапільні, гарбарны з-д. Усяго ў 1925 г. ў Горках дзейнічалі 83 дробныя прадпрыемствы, у т.л. прадзільная ф-ка з уласным лакамабілем, 2 млыны. У 1924 г. дзейнічалі цэнтр. школьная б-ка, парт. клуб і хата-чытальня пры ім, школы палітграматы і для малапісьменных. Па ініцыятыве Горацкага аддз. секцыі навук. работнікаў пры Бел. с.-г. акадэміі ў 1927 г. арганізаваны сял. ун-т з мэтай павышэння ведаў сялян аб агратэхніцы і жывёлагадоўлі, а таксама для павышэння кваліфікацыі рабочых саўгасаў. Дзейнічалі рабфак, с-г. вучэбная ферма. У 1927 г. ў горадзе пачалася пракладка водаправода па вуліцах Пралетарскай, Леніна, Інтэрнацыянальнай. Насельніцтва ў гэты час складала 8,5 тыс. чал. У 1928 г. пачалі дзейнічаць кравецкая і абутковая майстэрні, невялікая электрастанцыя, маслазавод, у 1929 г. — хлебазавод, у 1930 г. кавальская і трыкатажная майстэрні, а таксама харч. арцель, ільнозавод, у 1931 г. лесапільня і арцель інвалідаў, у 1932 г. сталярна-бандарныя майстэрні. У 1929 г. пабудавана электрастанцыя, якая зняла праблему забеспячэння электраэнергіяй прадпрыемстваў і камунальнай гаспадаркі, а ў 1931 г. завершаны работы па электрыфікацыі горада і с.-г. акадэміі. У гады 1-й пяцігодкі пабудаваны 2 цагельная з-ды і мукамольнае прадпрыемства. У 1929 г. ў Зарэцкай слабадзе быў арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход». У наступныя гады арганізаваны яшчэ 2 калгасы — «Шлях сацыялізму» і імя Бел. с.-г. акадэміі, а таксама саўгас «Горкі». У ліст. 1930 г. створана Горацкая МТС, у якой у лютым 1931 г. мелася 40 трактароў і іншая тэхніка. У 1932 г. пры МТС пачала дзейнічаць майстэрня па рамонце трактароў і іншай с-г. тэхнікі. Яе паслугамі карысталіся таксама Мсціслаўская і Раснянская МТС. Палітаддзел МТС выдаваў газету «За бальшавіцкія калгасы» (з 8.7.1933), газету

*Студэнты Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.*



*Гадзіннік, які адлічвае час у Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.*



для жанчын «Ударніца калгасных палёў» (з 1.9.1934).

У 1939 г. ў горадзе налічвалася 22 475 жыхароў, меліся 2 сярэднія школы, 3 б-кі, Дом культуры, кінатэатр, паліклініка, бальніца, Дом калгасніка, дзіцячая амбулаторыя. Дзейнічаў радыёвузел, з кожным годам павялічвалася колькасць радыёкропак. Хутка развівалася Бел. с-г. акадэмія (у 1919—1925 і 1933—1948 яна мела назву Бел. с.-г. ін-т). Тут былі 4 ф-ты: агранамічны з 3 аддзяленнямі (жывёлагадоўчае, раслінаводчае і эканам.), землеўпарадкавальны, лясны і меліярацыйны. У 1927 г. вучэбны курс выкладалі 35 прафесараў. Былі пабудаваны 2 новыя вучэбныя корпусы, 5 жылых дамоў, 3 студэнцкія інтэрнаты, клуб-тэатр, пераабсталявана б-ка. З 1919 г. дзейнічала друкарня. 1.5.1927 г. пры акадэміі пачаў працаваць першы ў СССР нядзельны ун-т з двухгадовым навучаннем. Яго слухачамі сталі батракі, беднякі і працаўнікі саўгасаў. У гаспадарках сельгасакадэміі ўкараняліся навейшыя дасягненні агратэхнікі, заатэхнікі. У 1928 г. пачалася распрацоўка мясц. залежаў торфу для выкарыстання ў якасці паліва і ўгнаення для палёў. 4.10.1929 г. пачала выходзіць шматтыражка «За пралетарскія кадры». У 1930 г. выходзіў «Бюлетэнь Горацкай сельскагаспадарчай доследнай станцыі». У 1940 г. ў сувязі са 100-гадовым юбілеем Горацкі с.-г. ін-т узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. У гэты час раённую камсамольскую арг-цыю ўзначальваў малады камуніст — аграном Ф.А.Сурганаў, які ў 1940 г. вылучаны на пасаду 1-га сакратара Магілёўскага абкома КП(б)Б, а ў пасляваенны час працаваў старшынёй Прэзідыума Вярх. Савета БССР.

У Вял. Айч. вайну 12.7.1941 г. ням.-фаш. захопнікі занялі горад і ўстанавілі жорсткі акупац. рэжым. У вучэбным корпусе №1 акадэміі размясціўся фаш. засценак, у аўдыторыі №81 — «камера смерці» (тут былі закатаваны многія сав. патрыёты). У першыя дні акупацыі гітлераўцы забілі 130 дзяцей з мясц. дзіцячага дому. Праз 0,8 км на Пн ад Горак ва ўрочышчы Белы Ручай пахавана каля 2 тыс. сав. грамадзян, расстраляных гітлераўцамі 17.10.1941 г. З кастр. 1941 г. да ліст. 1942 г. дзейнічала Горацкае антыфаш. падполле, у якое ўваходзілі 67 чал. (11 груп). У чэрв. 1942 г. частка падпольшчыкаў пайшла ў лес і далучылася да патрыят. групы А.В.Шульгіна—Д.В.Вайстрова. У ліп. 1942 г. фашысты напалі на след падпольшчыкаў. Пасля катаванняў был расстраляны А.П.Кузняцоў, П.І.Яцун, А.С. Магазіншчыкаў, І.С.Марчанка, больш за 40 іншых падпольшчыкаў і іх сваякоў. На тэр. акадэміі, па вул. Ціміразева, пахавана каля 10 тыс. мірных грамадзян, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ад рук гітлераўцаў. У парку акадэміі акупанты

*Мемарыяльны знак на месцы выступлення Я.Купалы ў 1925 г. на гары Парнас у парку Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.*



*Аранжарэя ў батанічным садзе Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.*



стварылі лагер смерці, дзе было закатавана больш за 300 сав. ваеннапалонных. 26.6.1944 г. сав. войскі занялі горад. На ўсх. ускраіне, на могілках пахаваны 3 сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні Горак. На скрыжаванні вуліц Якубоўскага і Вакзальнай, каля аўтавакзала ў 1982 г. ўстаноўлены помнік у гонар воінаў 33-й і 49-й армій 2-га Бел. фронту, 1-й і 4-й паветр. армій, якія вызвалілі горад і раён ад гітлераўскіх акупантаў.

Адразу пасля вызвалення была адноўлена тэлегр. і тэлеф. сувязь, якая з кожным годам пашыралася, у 1950-я г. адкрыта аўтаматычная тэлеф. станцыя. Да канца 1945 г. ў Горках уступілі ў строй хлебазавод, прамкамбінат, маслазавод, арцелі «Прагрэс» і «Харчавік», раённая друкарня і электрастанцыя. 25.12.1945 г. пачаў дзейнічаць радыёвузел, што дазволіла разгарнуць радыёфікацыю не толькі райцэнтра, але і бліжэйшых вёсак. 1.12.1945 г. аднавіліся заняткі ў Бел. с.-г. ін-це (з 1948 Бел. с.-г. акадэмія). У горадзе меўся дзіцячы дом.

*Фрагменты батанічнага саду пры Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.*





Вучэбная гаспадарка Бел. с.-г. акадэміі (БСГА), цэнтр якой размяшчаецца ў горадзе, спецыялізуецца на мясамалочнай жывёлагадоўлі, насенняводстве збожжавых культур, мае 9797 га с.-г. угоддзяў, у т.л. 6971 га ворыўнай зямлі, 118 трактароў, 24 збожжаўборачныя камбайны, 120 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку, 5 вытв. участкаў, 18 жывёлагадоўчых ферм.

У горадзе дзейнічаюць 4 сярэднія школы, 8 дашкольных устаноў, дзіцячаюнацкая спарт. і конна-спарт. школы, Дом піянераў і школьнікаў, станцыя юных натуралістаў, 3 б-кі, Дом культуры, раённыя паліклініка і бальніца, аграметэастанцыя, грамадская лазня, ветэрынарная лячэбніца, лясгас. Атрымалі вядомасць ансамбль песні і танца «Радасць» БСГА, які ў 1974 г. ўдастоены звання народнага, Горацкі нар. духавы аркестр і нар. музей рэв., баявых і прац. традыцый. Выдаецца газ. «Ленінскі шлях» (р 22.10.1930), дзейнічае раённае радыёвяшчанне. На 12 ф-тах БСГА навучаецца звыш 11 тыс. студэнтаў і слухачоў 42 нацыянальнасцей нашай краіны, а таксама 51 краіны свету. На 62 кафедрах працуе 660 выкладчыкаў, 17 дактароў і 297 кандыдатаў навук. У 1971 г. вучэбна-вопытная гаспадарка ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны». У БСГА ёсць б-ка, бальніца. Выдаецца шматтыражная газ. «Советский студент».

Архітэктурна-планіровачная структура горада падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Рака Проня і яе прытокі. Пароціца і Копылка расчляняюць горад на 3 раёны: Слабада (зона індывідуальнай забудовы), Зарэчны (цэнтр горада, зона змешанай забудовы) і раён БСГА (вучэбныя карпусы, жылы пасёлак, грамадскаспарт. комплекс, батанічны сад, парк). Да жылой забудовы каля чыг. ст. Пагодзіна

далучаецца прам. зона. Тут знаходзяцца з-д жалезабетонных вырабаў, маслазавод, хлебазавод, ільнозавод, вытв. ўчастак Шклоўскага мэблевага аб'яднання, раённае аграпрам. аб'яднанне, элеватар, аўтабаза №17, друкарня, ПМК-251.

Планіровачная структура цэнтральнай часткі прамавугольная. Гал. магістраллю з'яўляецца вул. Якубоўскага, якая арыентавана з ПдУ на ПнЗ і звязвае аўтавакзал з тэр. БСГА. У паўн. частцы яна выходзіць да шашы Орша—Мсціслаў. Паралельна да галоўнай, на У праходзіць вул. Мсціслаўская. Асн. вуліцамі папярочнага напрамку з'яўляюцца вуліцы Леніна (пачынаецца ад плошчы імя Якубоўскага і арыентавана на У) і Вакзальная (пачынаецца ад аўтавакзала і звязвае цэнтр. вуліцу з Прывакзальнай плошчай на чыг. ст. Пагодзіна). Цэнтр. плошчу на вул. Якубоўскага вылучаюць вуліцы Калініна, Гастэла, Молакава, Заслонава, якія ідуць на З ад гал. магістралі. Тэр. БСГА звязвае з вул. Якубоўскага вул. Ціміразеўская і яе працяг — вул. Ярафеева.

Асн. гар. магістралі — вуліцы Якубоўскага, Леніна, Вакзальная, Ціміразева забудаваны мураванымі шматсекцыйнымі 2—5-павярховымі жылымі дамамі з магазінамі на 1-м паверсе. На вуліцах Вакзальнай і Ціміразева склаліся новыя мікрараёны, забудаваныя сучаснымі 5—9-павярховымі жылымі дамамі і будынкамі культурна-быт. характару. На астатняй тэр. — індывідуальная жылая забудова, якая складаецца з аднапавярховых муравaных і драўляных дамоў сядзібнага тыпу. У 1960—70-я г. пабудаваны новы мост праз ручай Копылка, у выніку чаго вул. Якубоўскага злучылася з вул. Вакзальнай.

Грамадскі цэнтр мае лінейны характар, уключае цэнтр. частку вул. Якубоўскага з плошчамі Вакзальнай, Цэнтральнай, імя Якубоўскага. Вакзальная плошча склалася перад будынкам аўтавакзала і звязана вул. Вакзальнай з Прывакзальнай плошчай. Насупраць будынка аўтавакзала ў 1982 г. ўстаноўлены помнік у гонар воінаў, якія ў чэрвені 1944 г. вызвалілі г. Горкі. На плошчы каля чыг. вакзала ўстаноўлены помнік С.Дз.Пагодзіну.

Гал. з'яўляецца Цэнтральная плошча. Яе ансамбль фарміруюць мураваныя грамадскія і жылыя будынкі, сярод якіх Дом Саветаў, 5-павярховыя жылыя дамы з магазінамі і кафэ на 1-м паверсе, Дом абрадаў і экскурсійнае бюро. У цэнтры, перад Домам Саветаў у 1982 г. ўстаноўлены помнік У.І.Леніну. Плошчу Якубоўскага вылучаюць вуліцы Леніна і Савецкая. Тут у цэнтры, у невялікім скверы ўстаноўлены ў 1972 г. бюст двойчы Героя Сав. Саюза І.І.Якубоўскага. Ансамбль гэтай плошчы фарміруюць будынкі Дома культуры, гаркома партыі (на рагу вуліц Якубоўскага і Леніна), аддз. сувязі, рэстарана.

*Фрагмент дэндрапарку.*

*Фрагмент парку «Ніжняе возера».*





На адрэзку вул. Якубоўскага паміж плошчамі Цэнтральнай і імя Якубоўскага размяшчаюцца асн. гандл. і быт. будынкі, узведзеныя ў 1950-я г. Далейшае развіццё горада паводле ген. плана, распрацаванага ў БелНДІПгорадабудаўніцтва ў 1972 і 1984 гг., прадугледжваецца ў паўд.-ўсх. і ўсх. напрамках. На р. Паросіца намячаецца стварэнне вадасховішча.

Захаваўся шэраг помнікаў архітэктуры, гал. з якіх з'яўляюцца карпусы БСГА. Помнікамі прыроды з'яўляюцца дэндралагічны парк, дзе растуць 500 відаў дрэў і кустарнікаў, 2 сажалкі на ручаі Копылка («Ніжняе возера» і «Верхняе возера»), пладовы сад вучэбнай гаспадаркі акадэміі. На тэр. БСГА устаноўлены помнікі вучоным-аграномам, якія скончылі Горы-Горацкі земляробчы ін-т — аднаму з заснавальнікаў навук. раслінаводства ў Беларусі, першаму доктару сельскай гаспадаркі ў Расіі А.В.Саветаву, І.А.Сцебуту, вучонаму-агроному, аднаму з заснавальнікаў навуковага гароднінаводства, садаводства Беларусі М.В.Рытаву, сав. вучоным у галіне жывёлагадоўлі М.Ф.Іванову і Герою Сац. Працы, акадэміку АН БССР, УАСГНІЛ Дз.М.Пранішнікаву. У 1972 г. ў парку ўзведзены помнік на ўшанаванне памяці 210 выкладчыкаў, студэнтаў і служачых БСГА, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе ў Вял. Айч. вайну.

Горкі — радзіма Л.С.Абэцэдарскага (12.7.1916—6.7.1975), бел. сав. гісторыка, чл.-кар. Акадэміі пед. навук; В.М.Лубякі (26.4.1891—16.6.1950), акадэміка АН БССР; арганізатараў гурткоў нарадавольцаў У.І.Бычкова (1861—30.8.1883) і Я.І.Бычкова, а таксама аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну П.Г.Шапавалава (1904—30.9.1941), чл.-кар. АН БССР І.С.Цітовіча (30.6.1917—12.6.1985), бел. мастачкі М.З.Савіцкай (н. 16.4.1928), ген.-маёра М.М.Кідалінскага (7.5.1907—1952).

*Панарама г. Горкі.*



*Царква Узнясення Гасподняга ў г. Горкі.*



**АЗАРАВІЧЫ** — вёска ў Добраўскім с/с, за 6 км на Пд ад г. Горкі, 106 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Слабодкі і Кіеў—Санкт-Пецярбург. 29 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Сапрыкі ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. сяло ў Чавускім павеце, 3 двары, у 1784 г. 2 двары, 20 жыхароў. У канцы 18 ст. ў складзе Горы-Горацкага маёнтка (да 1829), 5 двароў, 48 жыхароў. У 1840—46 гг. ўваходзіла ў склад вучэбнай гаспадаркі Горы-Горацкай земляробчай школы. Паводле перапісу 1897 г. ў Горскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 216 жыхароў, у 1909 г. 29 двароў, 226 жыхароў. Меўся млын. З 26.4.1919 г. ў

Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 25 двароў, 127 жыхароў, на хутары 21 двор, 122 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, меліся ветраны млын, кузня па рамонце с.-г. інвентару. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1930-я г. ў вёсцы былі пабудаваны школа, клуб, авечкагадоўчая, свінагадоўчая і птушкагадоўчая фермы, пчалапасека. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі ўсе гасп. будынкі, 12 дамоў. Пасля вайны адбудавана. Уваходзіла ў склад вучгаса БСГА . З 1954 г. ў Панкратаўскім, з 1966 г. ў Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 29 гаспадарак, 134 жыхары. З 26.3.1987 г. ў Горацкім, з 2006 г. ў Добраўскім сельсаветах. Размешчаны (у зах. частцы) вытв. ўчастак, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Жылая забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АКУШКІ** — вёска ў Горскім с/с, за 20 км на У ад г. Горкі, 147 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Жалезня (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Аршаны, Горы і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 37 гаспадарак, 72 жыхары (2007).

У 1683 г. в. Акушкіна ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 9 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў складзе маёнтка Горкі Мсціслаўскага павета Мсціслаўскага ваяв., 8 двароў, 50 жыхароў. У 1772 г. 12 двароў, 75 жыхароў. У 1785 г. с. Акушкі ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 21 двор, 157 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 42 двары, 311 жыхароў. У снеж. 1905 г. сяляне правялі самавольную парубку памешчыцкага і казённага лесу. У 1909 г. 44 двары, 313 жыхароў, меўся млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах. У 1926 г. 51 двор, 337 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны марак», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Дзейнічала школа для малапісьменных. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. На франтах загінулі 25 вяскоўцаў. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. Уваходзіла ў склад калгаса «Савец-



*Фрагмент дэндрапарку.*



*Дэндрапарк у Горках.*

кая Беларусь». Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з Пн на Пд. Жылая забудова драўляная, двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу.

**АЛЬХАВЕЦ** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 22 км на У ад г. Горкі, 149 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Жалезня (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Акушкі, Аршані, Горы і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).



*М.М.Кідалінскі.*

У 1683 г. вёска ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 3 двары, дзярж. ўласнасць. У 1784 г. ў Аршанскім павеце, 14 двароў, 66 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 101 жыхар. У 1909 г. 17 двароў, 97 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Горскім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах Горацкага р-на. У 1926 г. хутары, 22 двары, 122 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», які меў ветраны млын, аб'ядноўваў у 1932 г. 27 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. На франтах загінулі 16 вяскоўцаў. Уваходзіла ў склад калгаса «Савецкая Беларусь». З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. У 1986 г. 15 гаспадарак, 36 жыхароў. З 2002 г. ў Ходараўскім с/с. Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Дзве кароткія вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн і з З на У, перакрыжоўваюцца ў цэнтры вёскі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 27 км на З ад г. Горкі, 120 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Якаўлевічы, Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 20 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Заснавана ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. хутар (3 двары, 27 жыхароў) у Маслакоўскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 40 вучняў, дзейнічалі гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Альхоўка», які меў 426,5 га зямлі, у 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак. У 1930-я г. сюды перасяліліся жыхары пас. Барончына, у 1940 г. — пас. Каменка. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 40 гаспадарак, 72 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «Шлях Леніна». Свінагадоўчая ферма, магазін, б-ка. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца арыентавана з З на У. На Пд ад галоўнай перпендыкулярна адыходзіць другая, невялікая вуліца. У месцы іх злучэння размяшчаюцца грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНДЗЕКАЛАВА** — вёска ў Ленінскім с/с за 13 км на ПнУ ад Горак, 117 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Лебядзёўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Леніна. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1750 г. 36 двароў, 222 жыхары. У 1772 г. 31 двор, 234 жыхары, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. с. Андзекава ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, 48 двароў, 225 жыхароў. У вайну 1812 г. спустошана французскімі акупантамі, з 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1858 г. 42 двары, 269 жыхароў, у Аршанскім павеце. У 1880 г. 54 двары, 394 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 76 двароў, 511 жыхароў. У 1909 г. 73 двары, 559 жыхароў. Меўся

млын. З 26.4.1919 г. ў Ленінскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.08.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. Асталопаўскім сельсаветах (з 20.11.1934 Варашылаўскі). У 1926 г. хутары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». Меліся ветраны млын і кузня. Калгас абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 61 двор, 305 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. цалкам спалена гітлераўцамі. Вызвалена 24.6.1944 г. войскамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Старасельскі». Ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНДРУХІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 10 км на ПнУ ад г. Горкі, 107 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Гарадок (прыток р. Дняпрэц). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Леніна, якая праходзіць побач з вёскай. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

У 1667 г. с. Андрукі ў Аршанскім павеце. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 23 двары, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў Мсціслаўскім павеце Мсціслаўскага ваяводства, 6 двароў, 26 жыхароў. У 1772 г. ў Горацкім павеце, 8 двароў, 60 жыхароў. У 1784 г. 13 двароў, 90 жыхароў. У вайну 1812 г. спустошана французскімі войскамі, з 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1858 г. вёска ў Аршанскім павеце, 16 двароў, 71 жыхар, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета, 24 двары, 180 жыхароў. У 1909 г. 28 двароў, 235 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім сельсаветах. У 1926 г. 40 двароў, 237 жыхароў. 13.2.1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак, меў 309 га ворыва і кузню па рамонце с.-г. інвентару. У 1940 г. 38 двароў, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. 18 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 16 гаспадарак, 34 жыхары. З 28.3.1987 г. ў Горацкім с/с. Уваходзіла ў склад вучгаса БСГА. Ферма буйной рагатай жывёлы. З 2002 г. ў Ленінскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНІКАВІЧЫ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 26 км на З ад г. Горкі, 122 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Мілаўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Шапялёўка, Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў.

У 1670 г. вёска, цэнтр войтаўства ў Копыскім графстве Аршанскага павета, 51 двор, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. 62 двары. З 1858 г. дзейнічалі сукнавальня, млын, гарбарня і крупарушка. Гаспадар маёнтка, што быў побач, меў 2278 дзес. зямлі, млын і карчму. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 67 двароў, 430 жыхароў. Мелася царк.-прыходская школа. Непадалёку былі аднайменныя фальварак (6 двароў, 37 жыхароў, вадзяны млын, крухмальны з-д, засн. ў 1897) і карчма (1 двор, 6 жыхароў). У 1905 г. пачаў дзейнічаць лесапільна-багорны з-д (90 рабочых). У снеж. 1905 г. на ім адбылася забастоўка, якую ўлады падавілі з дапамогай салдат. У 1909 г. 71 двор, 482 жыхары, у фальварку 2 двары, 8 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены былы царк. будынак, у 1925 г. 82 вучні. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Маскоўскім с/с

Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. хутары, 20 двароў, 106 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны агароднік», мелася кузня па рамонце с.-г. інвентару. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У 1940 г. 30 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1.9.1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 7 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна», дзейнічалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АРШАНІ** — вёска ў Горскім с/с, за 18 км на У ад г. Горкі, 145 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Па паўд. ускраіне цячэ р. Быстрая. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Горы і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 21 гаспадарка, 27 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. уласнасць. У 1857 г. вёска ў Чавускім павеце. У 1890 г. адкрыта школа граматы, а ў 1905 г. царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 43 двары, 363 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 51 двор, 391 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 64 вучні. У 1926 г. хутары, 85 двароў, 464 жыхары. 14.5.1931 г. арганізаваны калгас «Барэц за пяцігодку», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 1.10.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 63 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. Уваходзіла ў склад калгаса «Савецкая Беларусь». У 1986 г. 50 гаспадарак, 96 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. З 2002 г. ў Ходараўскім с/с. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з З на У. Паміж імі — папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСІПОВІЧЫ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад г. Горкі, 120 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн ад вёскі цячэ р. Дранец (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пална, Маслакі, Якаўлевічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 19 гаспадарак, 109 жыхароў (2007).

За 0,1 км на Пн ад вёскі захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1777 г. вёска ў Копыскім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сялец, у Копыскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 36 двароў, 220 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 35 двароў, 224 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 17.7.1924

*Горацкі краявід.*



г. ў Горацкім р-не, з 20.08.1924 г. ў Любіжскім с/с. У 1926 г. 70 двароў, 352 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Свабода». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1959 г. ў Аўсянкаўскім с/с, уваходзіла ў склад калгаса «XVII партз'езд». У 1986 г. 52 гаспадаркі, 109 жыхароў. Ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Падзяляецца ракой на паўн. і паўд. часткі. Вуліцы арыентаваны з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АРЛОЎШЧЫНА** — вёска да 1997 г. ў Аўсянкаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад г. Горкі, 120 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Зубры на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Карасі, Гарадзішча, Слабодка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў.

У 1795 г. вёска ў Аршанскім павеце, 3 двары, 22 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горацкай вол. Горацкага павета, 7 двароў, 45 жыхароў. У 1909 г. 6 двароў, 56 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.07.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Сенькаўскім, з 21.8.1925 г. ў Ліхачоўскім (у 1926—31 Паlёнкаўскі) сельсаветах. У 1926 г. 32 двары, 179 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. зноў у Палёнкаўскім с/с, уваходзіла ў склад калгаса «XVII партз'езд». У 1986 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Вуліца арыентавана з З на У. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**АРЛЫ** — вёска ў Рэкценскім с/с, за 8 км на Пн ад Горак, 108 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Парасіца. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Халмы і далей па шашы Горкі—Орша. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

За 0,5 км на У ад вёскі захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 5 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1784 г. засценак у Аршанскім павеце, 12 двароў, 80 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горацкай вол. Горацкага павета, 10 двароў, 72 жыхары. У 1909 г. 11 двароў, 101 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Сенькаўскім, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім сельсаветах. У 1926 г. 15 двароў, 78 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Арлы», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 20 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 19 двароў. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў Рэкценскім с/с. У 1986 г. 17 гаспадарак, 20 жыхароў. Зараз у складзе аграгандл. прадпрыемства «Горацкае». Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн. Ад яе пад вуглом адыходзіць другарадная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

Каля паўн.-ўсх. ускраіны размешчана радовішча пяску (запасы 2,74 млн. м$^3$), якое распрацоўваецца Горацкім з-дам жалезабетонных вырабаў.

*Горацкі краявід.*



**АЎСЯНКА** — вёска, цэнтр Аўсянкаўскага с/с, за 22 км на ПдЗ ад г. Горкі, 60 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі вадасховішча, утворанае запрудай на р. Галубіна. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка і далей па шашы Кіеў—Санкт-Пецярбург. 283 гаспадаркі, 838 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Кішчыцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 12 двароў. У 1785 г. ў Копыскім павеце, 28 двароў, 151 жыхар. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 71 рэвізская душа. Мелася лесапільня. Гаспадар маёнтка меў у 1878 г. 194 дзес. зямлі. У 1880 г. 35 двароў, 160 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам, вырабам розных бытавых рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 42 двары, 285 жыхароў. У 1909 г. 50 двароў, 374 жыхары, меліся млын, магазін, школа, лесапільны з-д (у 1898 — 20 рабочых). На вясковых могілках пахаваны студэнт Горацкага рамеснага вучылішча, ураджэнец вёскі Ф.П.Ерафееў, забіты ў час рэв. дэманстрацыі 16.1.1905 г., калі ён падхапіў сцяг, што выпаў з рук забітага дэманстранта П.Бруцара. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с. У 1926 г. 76 двароў, 410 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд» (у далейшым вёска стала цэнтрам узбуйненага калгаса). У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З кастр. 1941 г. да ліст. 1942 г. дзейнічала падп. група (кіраўнік В.К.Асюцін), якая ўваходзіла ў Горацкае антыфаш. падполле. У сак. і вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (82 двары), загубілі 7 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. На зах. ускраіне вёскі на ўшанаванне памяці 264 землякоў з вёсак сельсавета (43 з іх жыхары в. Аўсянка), што загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, а таксама мірных грамадзян, загубленых гітлераўцамі, у 1973 г. пастаўлена стэла. 28.9.1959 г. ў вёску перанесены цэнтр сельсавета. Цэнтр СВК «Аўсянка». У вёсцы ферма буйной рагатай жывёлы, свінагадоўчы комплекс, машынны двор, асфальтавы з-д, а таксама цэхі: камбікормавы, па перапрацоўцы скур і пашыве футраных вырабаў. У вёсцы гандл. цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аптэка, бальніца, паліклініка, спарт. комплекс з басейнам, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, муз. і сярэдняя агульнаадукац. школы, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, гасцініца, спарт. комплекс. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн, перпендыкулярна да шашы. Ад яе на З адыходзіць другая вуліца, уздоўж якой размяшчаюцца асн. грамадскія будынкі, а таксама 2—3-павярховыя мураваныя жылыя дамы. У зах. частцы знаходзіцца прамалінейная вуліца, арыентаваная з Пд на Пн. Асноўная частка жылой забудовы драўляная, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар у паўн. частцы гал. вуліцы. Уздоўж вадасховішча старая частка вёскі, прамалінейная вуліца якой арыентавана з Пд на Пн, мае двухбаковую, шчыльную забудову.

**БАЛБЕЧАНА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад г. Горкі, 73 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Галыша. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 33 гаспадаркі, 64 жыхары (2007).

Вядома па рукапісных крыніцах з 17 ст. У 1683 г. вёска ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 15 двароў. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы ў Чавускім павеце, 20 двароў, 191 жыхар, памешчыцкая ўласнасць. У канцы 18 ст. 32 двары, 226 жыхароў, з 1829 г. ў валоданні Магілёўскай казённай палаты. У 1880 г. 32 двары, 236 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным і рамізніцкім промысламі. Па-

водле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета, 42 двары, 348 жыхароў. Меліся ветраны млын, школа граматы. У 1909 г. 53 двары, 409 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 21 двор, 102 жыхары, на хутарах 65 двароў, 366 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Для вясковай школы ў 1932 г. ўзведзены асобны будынак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1942 г. партызаны разбілі фаш. цягач, які звозіў з наваколля разбітую ваенную тэхніку. З 18.2.1972 г. ў Добраўскім с/с. Уваходзіла ў склад калгаса «Праўда». У 1986 г. 68 гаспадарак, 136 жыхароў. Планіровачна складаецца з зах. і ўсх. частак, якія размяшчаюцца па абодва берагі ракі. Крывалінейныя вуліцы праходзяць уздоўж ракі, з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма ўдзельніка грамадз., сав.-фінляндскай і Вял. Айч. войн, ген.-палкоўніка Ф.І.Кузняцова (29.9.1898—22.3.1961).

**БАРСУКІ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 38 км на З ад г. Горкі, 117 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе Паўна—Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

У 1639 г. тут быў маёнтак, дзейнічалі 2 млыны. Вёска склалася ў 1920-я г. пры землеўпарадкаванні суседніх населеных пунктаў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Барсукі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак. У 1940 г. 31 двор, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 27 двароў, загубілі 13 чал. Вызвалена 27.6.1944 г. войскамі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. Уваходзіла ў склад калгаса «Шлях Леніна». У 1986 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да дарогі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАЦВІННЕВА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Горак, 120 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Старына і далей па шашы Леніна—Горкі. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).



*Ф.І.Кузняцоў.*

У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Баеўскай вол. Горацкага павета, 32 двары, 220 жыхароў. У 1909 г. 30 двароў, 269 жыхароў. У 1914 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. хутары, 53 двары, 279 жыхароў. У 1925 г. ў вясковай школе было 60 вучняў, з іх 4 піянеры. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сталінец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 4 двары. Вызвалена 2.10.1943 г. войскамі Зах. фронту. На ўскраіне, на вайск. могілках, у 74 магілах пахаваны 349 сав. воінаў 344-й і 352-й стралк. дывізій, якія вялі баі з ворагам на гэтым участку фронту і ўдзельнічалі ў вызваленні раёна. На франтах загінулі 16 вяскоўцаў. Уваходзіла ў склад племзавода «Леніна». У 1986 г. 35 гаспадарак, 62 жыхары. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з З на У, мае крывалінейны абрыс. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЛАЖКІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Горак, 120 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі

Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Лебядзёўка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Андзекалава і далей па шашы Леніна—Горкі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1683 г. в. Блазкі ў складзе маёнтка Горы, у Віцебскім ваяв., 7 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. ў Мсціслаўскім павеце, 8 двароў, прыватнафеад. ўладанне. У 1772 г. в. Блашкі ў Аршанскім павеце, 11 двароў, 103 жыхары, дзярж. ўласнасць. У канцы 18 ст. 13 двароў, 66 жыхароў, у складзе маёнтка Горкі ў Аршанскім павеце, памешчыцкая ўласнасць. У вайну 1812 г. спустошана французскімі войскамі. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 28 двароў, 201 жыхар. У 1909 г. 32 двары, 232 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Асталопаўскім (з 20.11.1934 Варашылаўскі) сельсаветах. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1926 г. хутары, 47 двароў, 257 жыхароў. Арганізаваны ў вёсцы калгас «Ленінскі шлях» аб'ядноўваў у 1932 г. 115 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 39 двароў, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 26.6.1944 г. войскамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 7 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны вёска адбудавана. Уваходзіла ў склад саўгаса «Старасельскі». У 1986 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Вуліца лінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУДА** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад г. Горкі, 76 км ад Магілёва,12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Рамясцвянка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 49 гаспадарак, 100 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1850 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 4 двары, 19 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 44 двары, 299 жыхароў. У 1909 г. 47 двароў, 356 жыхароў, школа граматы. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). У 1926 г. 80 двароў, 403 жыхары. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Аганёк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. 50 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 28.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. Уваходзіла ў склад саўгаса «Копцеўскі». Малочнатаварная ферма, магазін. У 1967 г. да вёскі далучана в. Буда Новая. У 1986 г. 64 гаспадаркі, 165 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУДЫ** — вёска Будскага с/с, за 5 км на У ад г. Горкі, 130 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Дняпрэц, на Пд ад вёскі — яе прыток р. Быстрая. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 75 гаспадарак, 209 жыхароў (2007).

У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1784 г. сяло ў Чавускім павеце, 31 двор, 267 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Горскай вол. Чавускага павета, 48 двароў, 368 жыхароў. У 1909 г. 56 двароў, 367 жыхароў. Дзейнічаў млын. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў на-

ёмным памяшканні. З 8.4.1918 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў. РСФСР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. быў 61 вучань. Дзейнічала таксама школа для малапісьменных, у 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. Арганізаваны ў вёсцы калгас «Спартак» аб'ядноўваў у 1932 г. 27 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 64 двары, 417 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 63 двары, загубілі 3 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. 34 вяскоўцы загінулі на франтах. Пасля вайны вёска адбудавана. З 6.7.1954 г. цэнтр Будскага с/с. Цэнтр калгаса імя С.Дз.Пагодзіна. У 1986 г. 68 гаспадарак, 193 жыхары. З 22.2.2001 г. ў Паршынскім с/с. У вёсцы размешчаны 2 малочна-таварныя і 2 свінагадоўчыя фермы, машынны двор з рамонтнай майстэрняй, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, грамадская лазня. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн, уздоўж ракі. Ад яе перпендыкулярна на З і У адыходзяць вуліцы. Уздоўж паўн. часткі гал. вуліцы па абодва бакі размешчаны грамадскія будынкі і аднапавярховыя аднакватэрныя мураваныя жылыя дамы. Астатняя забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўн.-зах. ускраіне.

**БЫСТРАЯ** — вёска ў Горскім с/с, за 20 км на У ад г. Горкі, 147 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У ад вёскі цячэ р. Быстрая. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць паблізу ад вёскі. 30 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

Узнікла ў пач. 20 ст. пры высяленні на хутары часткі Горскай абшчыны і першапачаткова займала былыя сенакосныя ўгоддзі і лясныя ўчасткі маёнтка Горы. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 43 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 93 жыхары. У 1990 г. ў складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова. Малочна-таварная ферма, клуб. Планіровачна складаецца з зах. і ўсх. частак. Дзве невялікія прамалінейныя вуліцы зах. часткі арыентаваны з Пд на Пн. Вуліца ўсх. часткі больш працяглая, праходзіць паралельна да вуліц зах. часткі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАЛОЎЦЫ** — вёска ў Рудкаўшчынскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад г. Горкі, 114 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Руміна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн ад вёскі цячэ р. Бася. Транспартныя сувязі па шашы Орша—Горкі—Крычаў, якая праходзіць побач з вёскай. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1785 г. вёска ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, 12 двароў, 106 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У канцы 18 ст. 21 двор, 111 жыхароў. Вял. страты вёсцы і яе жыхарам нанеслі французскія войскі ў вайну 1812 г. З 1829 г. ў валоданні Магілёўскай казённай палаты. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 21 двор, 93 жыхары, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 28 двароў, 194 жыхары. У 1909 г. 34 двары, 228 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 17.7.1924 г. ў Аршанскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Рудкаўшчынскім с/с.

У 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 226 жыхароў, у пасёлку № 1 — 10 двароў, 61 жыхар, у пасёлку № 2 — 27 двароў, 45 жыхароў, у пасёлку № 3 — 10 двароў, 56 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». З 5.4.1935 г. ў Горацкім р-не. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 131 жыхар. Вёска ўваходзіла ў склад калгаса імя У.І.Леніна. Малочна-таварная ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць клуб. Планіроўка Т-падобная. Галоўная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. На Пд перпендыкулярна да яе праходзіць другая, кароткая вуліца. На Пн размешчаны адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены шчыльна па абодва бакі вуліц.

**ВАЛЫНЦАВА** — вёска ў Горскім с/с, за 21 км на У ад г. Горкі, 148 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Быстрая. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Горы і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 26 гаспадарак, 55 жыхароў (2007).

У 1683 г. вёска ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 22 двары, дзярж. уласнасць. У 1750 г. 40 двароў, 220 жыхароў. У 1772 г. вёска ў Аршанскім павеце, 61 двор, 410 жыхароў. У 1784 г. 75 двароў, 423 жыхары. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 84 двары, 586 жыхароў. У 1904 г. адкрыта царк.-прыходская школа, пераўтвораная ў 1909 г. ў земскую. У 1909 г. 82 двары, 618 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 118 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 197 жыхароў, на хутарах 84 двары, 448 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Раннія ўсходы», дзейнічала кузня па рамонце с.-г. інвентару. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 76 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 57 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 97 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя Я.М.Свярдлова. Малочна-таварная ферма, магазін. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца ламанага абрысу арыентавана з Пд на Пн. Ад яе на З перпендыкулярна адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма бел. сав. глебазнаўцы, чл.-кар. АН БССР і Акадэміі с.-г. навук БССР, доктара с.-г. навук, праф., засл. дзеяча навукі БССР, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР С.Н.Іванова.

**ВАРКАВА** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 28 км на З ад г. Горкі, 123 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Мілаўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Шапялёўка, Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 28 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У 1670 г. вёска ў Анікаўскім войтаўстве Копыскага графства Аршанскага павета, 22 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. 17 двароў. У 1858 г. 85 рэвізскіх душ, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 23 двары, 165 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 49 двароў, 334 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 55 двароў, 459 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Маслакоўскай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Маслакоўскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. Горацкага р-на. У 1926 г. вёскі Варкава 1 (37 двароў, 216 жыхароў) і Варкава 2 (45 двароў, 233 жыхары). У 1930 г. арганіза-

ваны калгас «Чырвонае звяно», які меў кузню па рамонце с.-г. інвентару і ў 1932 г. аб'ядноўваў 58 гаспадарак, Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. Уваходзіла ў склад калгаса «40 гадоў Кастрычніка». У 1986 г. 69 гаспадарак, 148 жыхароў. Малочна-таварная ферма. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, пераважна шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАЎКОЎШЧЫНА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 8 км на ПнУ ад г. Горкі, 103 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Дняпрэц, на ПнЗ — яе прыток р. Гарадок. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Леніна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Капылка, ва ўрочышчы Курган захавалася гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 9 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў Мсціслаўскім павеце, 23 двары, 118 жыхароў. У 1772 г. 15 двароў, 113 жыхароў, мелася карчма. У вайну 1812 г. поўнасцю разрабавана французскімі войскамі. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1897 г. вёска ў Горацкай вол. Горацкага павета, 22 двары, 137 жыхароў. Непадалёку быў аднайменны выселак (2 двары, 26 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 179 жыхароў, на выселку 4 двары, 37 жыхароў, меўся млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім (з 21.8.1925 Макараўскі) с/с. У 1926 г. ў вёсцы 10 двароў, 50 жыхароў, на хутары 41 двор, 245 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «III Інтэрнацыянал», які меў ветраны млын і кузню. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 32 двары, 163 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Поўнасцю спалена гітлераўцамі ў ліп. 1941 г. Вызвалена 26.6.1944 г., 20 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны вёска адбудавана. Уваходзіла ў склад вучгаса БСГА (цэнтр — г. Горкі). У 1986 г. 20 гаспадарак, 44 жыхары. З 28.3.1987 г. ў Горацкім, з 13.6.2002 г. ў Ленінскім с/с. Малочна-таварная ферма. Мясц. дарога падзяляе вёску на паўн.-зах. і паўд.-ўсх. часткі. Першая мае 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з З на У. Другая частка мае крыжападобную планіроўку. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВІШНЯ** (да 16.12.1959 П'янькава) — вёска ў Саўскім с/с, за 16 км на Пн ад г. Горкі, 115 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Парасіца (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Юркава, Куртасы, Жаўлачоўка і далей па шашы Горкі—Леніна. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

У 1599 г. с. Піянкі ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1609 г. ў складзе маёнтка Шышова Аршанскага павета. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, 23 двары, 140 жыхароў. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета, 23 двары, 189 жыхароў. У 1909 г. 31 двор, 228 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1925 г. ў Шарыпскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 31 двор, 173 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», меўся ветраны млын. З 1932 г. калгас абслугоўвала Горацкая МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-

фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 16 гаспадарак, 28 жыхароў. З 28.3.1987 г. ў Саўскім с/с. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.Горкага. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЫСОЦКІЯ** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 20 км на У ад г. Горкі, 147 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на ліні Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Быстрая, на Пн — яе прыток Жалезня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Аршані, Горы і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1683 г. вёска ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 16 двароў, дзярж. уласнасць. У 1772 г. ў Аршанскім павеце, 23 двары, 221 жыхар, дзярж. уласнасць. У 1784 г. ў складзе прыватнага маёнтка Горкі, 28 двароў, 211 жыхароў. У канцы 18 ст. 26 двароў, 174 жыхары, з 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1857 г. ў Чавускім павеце, дзярж. уласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 41 двор, 272 жыхары. У 1909 г. 39 двароў, 288 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 34 двары, 187 жыхароў, на хутарах 24 двары, 130 жыхароў. 4.3.1931 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў. У 1986 г. 26 гаспадарак, 41 жыхар. Уваходзіла ў склад калгаса «Савецкая Беларусь». Свінагадоўчая ферма. Вуліца лінейная, арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЯ КАРАЛЁЎКА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 6 км на ПдУ ад г. Горкі, 108 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Дрыбін—Расна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 30 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

У 1622 г. с. Каралёва ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета. У 1640 г. памешчыцкая ўласнасць, меўся млын. У 1683 г. 20 двароў, дзярж. уласнасць. Паводле перапісу 1897 г. в. Каралёўка ў Горскай вол. Чавускага павета, 34 двары, 467 жыхароў. У 1909 г. 37 двароў, 258 жыхароў. Дзейнічаў млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 37 двароў, 180 жыхароў, на хутарах 25 двароў, 126 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Красавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 65 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 58 двароў, загубілі 4 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 116 жыхароў. Уваходзіла ў склад племсаўгаса імя В.П.Чкалава. Малочна-таварная ферма. Вуліца крывалінейнага абрысу арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ АНІКАВІЧЫ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 27 км на З ад г. Горкі, 123 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ ручай Мілаўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Анікавічы, Шапялёўка, Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Узнікла ў 1920-я г. пры землеўпарадкаванні сяла Анікавічы. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 55 гаспада-

рак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 38 гаспадарак, 94 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «40 гадоў Кастрычніка». На паўд.-зах. ускраіне машынна-трактарны парк, фермы малочнатаварная і свінагадоўчая. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн. На З ад гал. ідзе другая, паралельная да яе вуліца. Паміж гэтымі — другарадныя, папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ГАЛЁНКІ** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад г. Горкі, 76 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Рамясцвянка. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Копцеўка і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 23 гаспадаркі, 25 жыхароў (2007).

У 1683 г. вёска ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1750 г. 20 двароў, 158 жыхароў, прыватнафеад. ўласнасць. У 1772 г. 29 двароў, 195 жыхароў, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 27 двароў, 182 жыхары. У 1909 г. 31 двор, 203 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 2.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). У 1924 г. адкрыта школа. У 1926 г. 56 двароў, 326 жыхароў. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы быт», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 56 гаспадарак. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. У 1940 г. да вёскі далучаны пас. Лысая Гара. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 20 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 28.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 115 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Копцеўскі». Планіровачна складаецца з паўн., усх. і паўд. частак, якія падзяляе ручай (прыток р. Рамясцвянка). Вуліцы паўн. і паўд. частак арыентаваны з ПдУ на ПнЗ, усх. часткі — з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАЛЫШАНА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 9 км на Пд ад г. Горкі, 73 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. станцыі Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі цячэ р. Галыша. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Слабодка і Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

У 1609 г. сяло ў складзе маёнтка Шышова Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1622 г. с. Галышын (яно ж Панкратаў) у складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. 32 двары, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. 31 двор, 236 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1880 г. 31 двор. Апрача земляробства сяляне займаліся кравецкім і рамізніцкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета, 42 двары, 268 жыхароў. Меліся ветраны млын, школа граматы. У 1909 г. 45 двароў, 345 жыхароў. Дзейнічала земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім, з 18.2.1925 г. ў Добраўскім сельсаветах. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1925 г. ў вясковай школе было 87 вучняў, дзейнічала б-ка. У 1926 г. вёска (49 двароў, 280 жыхароў) і хутары (9 двароў, 46 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 72 жыхары, уваходзіла ў склад калгаса «Праўда». Размешчаны фермы

малочна-таварная і свінагадоўчая. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска ў Ходараўскім с/с, 26 км на ПнУ ад Горак, 120 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў, на р. Гародня. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стараселле і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

У 1785 г. сяло, цэнтр маёнтка Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 30 двароў, 206 жыхароў, мелася драўляная царква. У 1847 г. ў складзе маёнтка Сцефанова, 29 двароў, 220 жыхароў, дзейнічала карчма. У 1882 г. адкрыта царкоўнапрыходская школа, для якой у 1914 г. ўзведзены асобны будынак, меліся царква і млын. У 1909 г. 59 двароў, 382 жыхары, вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета. З кастр. 1918 г. ў Ленінскай вол. Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай, з 27.7.1992 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета, потым да 1954 г. ў Асталопаўскім с/с (з 1934 Варашылаўскі). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 54 вучні. У 1926 г. 92 двары, 445 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 72 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 73 двары, 336 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (65 двароў), загубілі 14 жыхароў. На франтах загінулі 35 вяскоўцаў. Вызвалена 2.10.1943 г. войскамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў Ленінскім с/с. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 53 жыхары, у складзе саўгаса «Старасельскі». З 7.9.2000 г. ў Ходараўскім с/с. Малочна-таварная ферма, магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з Пд на Пн. Рака падзяляе вуліцу на паўн. і паўд. часткі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

*Панарама в. Горы.*



**ГЛІНЬКАВА** — вёска ў Рэкценскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад Горак, 102 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску з Пн на Пд цячэ ручай (прыток р. Парасіца). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Орша, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 25 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

У 1599 г. с. Глінкава ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. 13 двароў, дзярж. уласнасць. У 1777 г. ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 47 двароў, 193 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У вайну 1812 г. абрабавана французскімі войскамі, з 1829 ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 28 двароў, 130 жыхароў, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горацкай вол. Горацкага павета, 30 двароў, 235 жыхароў. У 1909 г. 38 двароў, 291 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Рэкценскім с/с. У 1921 г. арганізавана с.-г. арцель. У 1926 г. вёска (20 двароў, 102 жыхары), хутары (37 двароў, 178 жыхароў) і пасёлак (7 двароў, 37 жыхароў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сад», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У

Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 32 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1986 г. 66 гаспадарак, 114 жыхароў. Зараз у складзе аграгандл. прадпрыемства «Горацкае». Тры паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдУ усходу на ПнЗ. На Пн гэтыя вуліцы злучаны папярочнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГОРЫ** — вёска, цэнтр Горскага с/с, за 15 км на У ад г. Горкі, 142 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З ад вёскі цячэ р. Быстрая (прыток р. Дняпрэц), на У — р. Карчоўка (прыток р. Быстрая) і возера. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць на паўд.-зах. ускраіне вёскі. 224 гаспадаркі, 591 жыхар (2007).

За 0,3 км на ПнЗ ад вёскі, каля сутокі рэк Карчаваха і Быстрая, на мысе захавалася гарадзішча культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 ст.) і ранняга феадалізму. На паўн. ускраіне за 0,2 км на У ад гарадзішча знаходзіцца Замчышча (мясцовая назва Вал). Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 14 ст. У 1303 г. тут быў маёнтак. У 1495 г. сяло, цэнтр маёнтка. У 1508 г. па грамаце кн. М.І.Мсціслаўскага прыпісана да тутэйшага Нікольскага манастыра. У 1560 г. шляхецкая ўласнасць. У 1590 г. мястэчка. У 1654 г. занята рус. войскамі на чале з А.М.Трубяцкім. У 1683 г. 169 двароў. У час Паўн. вайны 1700—21 гг. у вер. 1708 г. спалена войскамі Карла XII. З 1772 г. пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. 146 двароў, 930 жыхароў, памешчыцкае ўладанне, меліся кузня, памешчыцкі дом, царква. У 1811 г. пачала працаваць палатняная ф-ка, якая ў канцы 1820-х — пач. 1830-х г. была самай вял. прыгоннай ф-кай на Беларусі. У 1828 г. прадпрыемства размяшчалася ў 4 флігелях, налічвала 85 станкоў, 137 прыгонных рабочых. Фабрыка перапрацоўвала пражу, якая рыхтавалася па хатах сялянкамі з ільну і пянькі. Аплата працы была вельмі нізкая, а жанчыны атрымлівалі ў 2 разы менш, чым мужчыны. У 1844 г. фабрыка была закрыта. У 1812 г. мястэчка разрабавана французскімі войскамі. Толькі па Горскім замку (гаспадарскі дом), які складаўся з 3 вял. драўляных будынкаў на каменным падмурку, страты ад варожага нашэсця склалі 80 тыс. руб. З 1829 г. маёнтак і мястэчка ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1860 г. ў мястэчку 140 драўляных дамоў, 1199 жыхароў, царква, малітоўная школа, сукнавальнае прадпрыемства з млынам (засн. ў 1841), школа (адкрыта ў 1846, у 1907 — 40 вучняў). У 1880 г. 223 двары, 1322 жыхары, вадзяны млын, 11 крам, драўляная царква. Частка жыхароў займалася кравецкім, шавецкім і кавальскім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр воласці, 273 двары, 1665 жыхароў. Побач былі царк. сядзіба (4 двары, 26 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 9 жыхароў). У 1909 г. 285 двароў, 1615 жыхароў. Дзейнічалі прыёмны пакой (1 фельчар), паштова-тэлегр. аддзел, пажарная дружына, паштовая станцыя на шляху Горкі—Шамава, вадзяны млын. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918 г. 5.4.1918 г. адбыўся вал. сход, на якім быў выбраны вал. выканком Саветаў рабочых, сял. і салдацкіх дэпутатаў. Першым яго старшынёй быў ураджэнец

*Аграгарадок у в. Горы.*



в. Запруддзе Дз.І.Пагуляеў (потым прафесар, загадчык кафедры геалогіі Смаленскага пед. ін-та). У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 2-й ступені. Актыўна дзейнічаў к-т беднаты. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.31924 г. ў складзе БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва, дзейнічаў зернеачышчальны пункт. У вясковай школе ў 1924 г. было 104 вучні, пачалі дзейнічаць хатачытальня, б-ка, ячэйка «Далоў непісьменнасць». У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», дзе працавала кузня па рамонце с.-г. інвентару. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 101 гаспадарку, абслугоўваўся Горацкай МТС. Дзейнічалі вадзяны і нафтавы млыны, маслазавод, ільнозавод (з 1933). З 2-й пал. 1930-х г. і да 1958 г. дзейнічала Горская МТС, якая абслугоўвала суседнія калгасы. У канцы 1930-х г. дзейнічалі сярэдняя школа, бальніца, аптэка, 2 магазіны, нарыхтоўчы і харч. ларкі. У 1940 г. 200 двароў, 530 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 180 двароў, загубілі 93 вяскоўцаў. 29.9.1943 г. вызвалена воінамі 70-й стралк. дывізіі 49-й арміі Зах. фронту. 539 сав. воінаў загінулі ў баях за вызваленне вёскі і ў 1943—44 гг., калі паблізу праходзіла лінія фронту. Пахаваны ў цэнтры



Аграгарадок у в. Горы.



На вуліцы в. Горы.

вёскі ў 2 брацкіх магілах. 474 жыхары з 10 вёсак сельсавета загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1986 г. 216 гаспадарак, 518 жыхароў, цэнтр калгаса імя Я.М.Свярдлова — цэнтр с.-г. закрытага акц. т-ва «Горы». У вёсцы малочнатаварная ферма, гасп. двор, млын, клуб, б-ка, амбулаторыя, аптэка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 4 магазіны. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе адыходзяць другарадныя вуліцы. На паўн. ускраіне гал. вуліцы — сквер, вакол якога групуюцца асн. грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Паўд. ўскраіна забудавана мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі жылымі дамамі. Астатнія жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма ўдзельніка барацьбы за Сав. ўладу на Чукотцы, першага старшыні Анадырскага рэўкома М.С.Мандрыкава (1888—2.2.1920).

У склад сельсавета ўваходзяць 22 населеныя пункты.

**ГОШЧ-ЧОРНЫ** — вёска ў Добраўскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад г. Горкі, 72 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн ад вёскі — меліярацыйныя каналы, на У цячэ ручай (прыток р. Галыша). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка, якая праходзіць побач з вёскай. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920 г. спачатку як пасёлкі Гошч і Чорнае (у 1926 адпаведна 6 двароў, 31 жыхар і 7 двароў, 39 жыхароў) у Панкратаўскім (з 1972 Добраўскі) с/с. У 1930 г. ў пас. Гошч арганізаваны калгас «Гошч», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 8 гаспадарак, у пас. Чорнае — калгас «Чорны», аб'ядноўваў 10 гаспадарак. Калгасы абслугоўваліся Горацкай МТС. У канцы 1930-х г. калгасы аб'ядналіся, пасёлкі склалі адну вёску. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 29 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА (цэнтр — г. Горкі). Ручай падзяляе вёску на зах. і ўсх. часткі. Вуліца зах. часткі арыентавана з Пд на Пн, усх. — з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРЫВЕЦ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад г. Горкі, 114 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Паўна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кукшынава, Зубры і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У сярэдзіне 17 ст. вёска ў Шарсцілаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1668 г. сяло ў складзе маёнтка Сялец у Аршанскім павеце. У 1683 г. слабада (3 двары) у складзе маёнтка Горы, дзярж. ўласнасць. У 1771 г. 18 гаспадарак, 111 жыхароў. У канцы 18 ст. 17 двароў, 133 жыхары, у складзе маёнтка Маслакі Копыскага павета, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 27 двароў, 179 жыхароў. У 1909 г. 31 двор, 260 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Палёнкаўскім (з 21.8.1925 да 24.9.1926 і з 1931 да 1954 Ліхачоўскі) с/с. У 1926 г. вёска (39 двароў, 239 жыхароў) і хутары (5 двароў, 31 жыхар). У 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьба», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак. У 1940 г. 46 двароў, 251 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 26.6.1944 г. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 27 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГУЛІДАЎКА** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 20 км на З ад г. Горкі, 66 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Галубіна (прыток р. Бася). На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Аўсянка і далей па аўтадарогах Горкі—Слабодка, Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 35 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1695 г. 10 гаспадарак, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 15 двароў, 117 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 59 рэвізскіх душ. У 1880 г. 23 двары, 123 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. Паводле перапісу вёска ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 33 двары, 232 жыхары, хлебазапасны магазін. Непадалёку была лясная

*Пачатак працоўнага дня ў в. Горы.*



кантора (1 двор, 1 жыхар). У 1909 г. 46 двароў, 328 жыхароў.

З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с. З 1924 г. працаваў ветраны млын. У 1926 г. 85 двароў, 460 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, мелася кузня. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 34 гаспадаркі. У 1940 г. 89 двароў, 421 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 89 двароў, загубілі 8 жыхароў. Вызвалена 25.6.1944 г. 26 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 69 гаспадарак, 133 жыхары, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Малочна-таварная ферма, магазін. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ, уздоўж ракі. Паралельна да яе на ПдЗ праходзяць 2 невялікія вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГУШЧЫНА** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад г. Горкі, 151 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ ад вёскі цячэ ручай (прыток р. Калінаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Каменка, Горы і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

У 1683 г. сяло ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 33 двары. У 1750 г. 17 двароў, 92 жыхары, прыватнафеад. ўласнасць. У 1772 г. 20 двароў, 177 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. 31 двор, 172 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У вайну 1812 г. абрабавана французскімі войскамі. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 42 двары, 274 жыхары. У 1909 г. 42 двары, 310 жыхароў, млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ходараўскім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 62 двары, 338 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьба», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Працавала кузня. У 1940 г. 40 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 28 двароў. Вызвалена 29.10.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 24 вяскоўцы загінулі на франтах. Пасля вайны вёска адбудавана. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. У 1986 г. 10 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь». З 7.9.2000 г. ў Ходараўскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма ўдзельніка барацьбы за сав. ўладу на Беларусі, арганізатара Чырвонай Гвардыі ў Горацкім павеце, першага пав. ваенкома С.Дз.Пагодзіна (1890—15.3.1918), які загінуў ад рук контррэвалюцыянераў. Пахаваны ў роднай вёсцы на могілках.

**ДОБРАЯ** — вёска, цэнтр Добраўскага с/с, за 9 км на Пд ад г. Горкі, 70 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На У ад вёскі цячэ р. Дабранка (прыток р. Галышча). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 142 гаспадаркі, 412 жыхароў (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі, на правым беразе р. Лоша (левы прыток р. Дабранка), на мысе, утвораным 2 ярамі, захавалася гарадзішча (мясц. назва Гарадок), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 31 двор, дзярж. ўласнасць, у 1784 г. ў Чавускім павеце, 38 двароў, 279 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета, 44 двары, 312 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 54 двары, 395 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім

павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім с/с. У 1926 г. вёска (54 двары, 281 жыхар) і хутары (13 двароў, 82 жыхары). У 1931 г. арганізаваны калгас «Пэўны шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Працавала бандарная майстэрня. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З кастр. 1941 г. да ліст. 1942 г. дзейнічала падп. група пад кіраўніцтвам Дз.Ф.Вайстрова (уваходзіла ў Горацкае антыфаш. падполле). Вызвалена 26.6.1944 г. 263 жыхары з вёсак сельсавета загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у 1978 г. каля будынка Дома культуры пастаўлена стэла. З 18.2.1972 г. цэнтр сельсавета. Вёска — цэнтр УКСП «Саўгас-камбінат «Горкі». Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі і сталярнацяслярская, лесанарыхтоўчае прадпрыемства, малочна-таварная ферма, магазін, Дом культуры, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка. Гал. вуліца ламанага профілю арыентавана з Пд на Пн. Ад яе цэнтра на У ідзе невялікая папярэчная вуліца, на якой знаходзяцца асн. мураваныя грамадскія будынкі і мураваныя двухпавярховыя, 8—12-кватэрныя жылыя дамы. Астатнія жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Забудова двухбаковая, шчыльная. На паўн.-зах. ускраіне вытв. сектар. Вёска — радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. ў Вял. Айч. вайну, чл. Мсціслаўскага падп. райкома КП(б)Б, камісара 61-й партыз. брыгады Дз.Ф.Вайстрова (н. 7.11.1906).

У склад сельсавета ўваходзяць 12 населеных пунктаў.

**ДРУЖНАЯ** (да 30.7.1964 Каравяк) — вёска ў Ленінскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Горак, 120 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Івета (прыток р. Мярэя), на Пд — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Старына і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Каравякі ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета, 15 двароў, 146 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Баеўскай вол. Горацкага павета, 27 двароў, 220 жыхароў. Побач карчма (1 двор, 9 жыхароў). У 1909 г. 26 двароў, 194 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. вёска (38 двароў, 200 жыхароў) і хутары (20 двароў, 128 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 30 двароў. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе племзавода «Леніна». Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБОВЫ ВУГАЛ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 18 км на З ад г. Горкі, 117 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Калужанка (прыток р. Паўна). Транспартныя сувязі па дарозе Паўна—Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 70-й стралк. дывізіі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 38 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе кал-

гаса «Шлях Леніна». Малочна-таварная ферма. Вуліца арыентавана з Пд на Пн, перпендыкулярна да дарогі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУШКІ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад г. Горкі, 64 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У ад вёскі вадасховішча, утворанае на р. Галубіна. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 85 гаспадарак, 175 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1695 г. 8 гаспадарак, у Кішчыцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 25 двароў, 188 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 28 двароў, 198 жыхароў, хлебазапасны магазін. Непадалёку быў аднайменны фальварак, 3 двары, 20 жыхароў. У 1909 г. 29 двароў, 224 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с. У 1919 г. на базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 40 вучняў. У 1924 г. пачалі дзейнічаць хата-чытальня і пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. хутары (18 двароў, 85 жыхароў), пасёлак (7 двароў, 40 жыхароў) і фальварак (6 двароў, 16 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Авангард», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 52 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 30 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 100 гаспадарак, 267 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Лінейная вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

На Пд ад вёскі пункт лінейнай дыспетчарскай службы нафтаправода «Дружба», дзе ўзведзены 3 мураваныя аднапавярховыя жылыя дамы.

**ЕРМАКІ** — вёска ў Добраўскім с/с, за 8 км на Пд ад г. Горкі, 73 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі цячэ р. Галыша, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Галышана і далей па шашы Горкі—Слабодка, Санкт-Пецярбург—Кіеў. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Ермакі Галышын (яно ж Сенкава) у складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1784 г. ў Чавускім павеце, у складзе маёнтка Горы, 16 двароў, 189 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 17 двароў, 124 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 213 жыхароў. Меўся ветраны млын. У 1909 г. 27 двароў, 227 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім с/с. У 1926 г. 38 двароў, 194 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Барэц», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1972 г. ў Добраўскім с/с. У 1986 г. 12 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда». Лінейная вуліца арыентавана з З на У, уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЕРМАЛОЎКА** — вёска ў Рудкаўшчынскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Горак, 117 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Зубры на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі — меліярацыйныя каналы, на У цячэ ручай Волы (прыток р.

Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рудкаўшчына і далей па аўтадарозе Орша—Горкі. 34 гаспадаркі, 60 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Маслакі ў Копыскім павеце, 14 двароў, 122 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 33 двары, 210 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 50 двароў, 324 жыхары. У 1898 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 406 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Аршанскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Рудкаўшчынскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 83 вучні. У 1926 г. вёска (89 двароў, 464 жыхары) і хутары (9 двароў, 59 жыхароў). У 1929 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. На вясковых могілках пахаваны арганізатар і першы старшыня калгаса І.А.Лосеў (ураджэнец в. Міхайлавічы Горацкага р-на) і яго жонка Алена Данілаўна, якія былі па-зверску забіты ворагамі сав. улады ў 1935 г. З 5.4.1935 г. ў Горацкім р-не. У калгасе ў 1940 г. 159 гаспадарак, 4 жывёлагадоўчыя фермы, кузня. У 1940 г. ў вёску пераселены жыхары пас. Круглае. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. войскамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 41 вясковец загінуў на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 94 гаспадаркі, 172 жыхары, у складзе калгаса імя У.І.Леніна. Малочна-таварная ферма, магазін, клуб. Гал. вуліца ламанага абрысу арыентавана з Пд на Пн, пад вуглом да дарогі ў в. Рудкаўшчына. У цэнтры яе перпендыкулярна перасякае другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖАЎЛАЧОЎКА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Горак, 119 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Гарадок (прыток р. Дняпрэц), на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 18 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Жаўлачонка ў Аршанскім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 7 двароў, 62 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Ленінскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 16 двароў, 95 жыхароў. У 1928 г. арганізаваны калгас «Таварыш», які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 46 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 57 двароў, 364 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі. Вызвалена 24.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 24 вяскоўцы загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 91 жыхар, у складзе племзавода «Леніна». Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн, мае плаўны абрыс. У цэнтры яе перасякае другая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАВІДАЎКА** — вёска ў Горскім с/с, за 10 км на ПдУ ад г. Горкі, 147 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн і З ад вёскі цячэ р. Быстрая. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Нікадзімава і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Дз.Беднага, які ў 1932 г. аб'ядноў-

ваў 17 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 46 двароў, 235 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў кастр. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Вызвалена 1.10.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 26 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова. Малочна-таварная ферма. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.



*І.І.Якубоўскі.*

**ЗАДАРОЖЖА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 3 км на ПнУ ад г. Горкі, 98 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Леніна, якая праходзіць побач з вёскай. 96 гаспадарак, 197 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1609 г. сяло ў складзе маёнтка Шышова, у 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. 28 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1772 г. ў Аршанскім павеце, 41 двор, 165 жыхароў. У 1785 г. 48 двароў, 247 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1909 г. 85 двароў, 602 жыхары. Меўся млын. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва, адкрыта хата-чытальня, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. хутары (106 двароў, 620 жыхароў) і пасёлак (10 двароў, 69 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які меў ветраны млын і кузню. У 1932 г. аб'ядноўваў 76 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 93 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1986 г. 126 гаспадарак, 380 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА. З 13.6.2002 г. ў Паршынскім с/с. Малочна-таварная ферма, магазін, б-ка, клуб. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, паралельна да шашы. Па абодва бакі галоўнай праходзяць другарадныя вуліцы, паміж імі — папярочныя. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЙЦАВА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 10 км на Пн ад г. Горкі, 105 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ ад вёскі пачынаецца р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло ў складзе маёнтка Раманава, у Аршанскім павеце, 6 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. в. Зайцова ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета, 7 двароў, 66 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горацкай вол., 13 двароў, 95 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 114 жыхароў, меўся млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім (з 21.8.1925 Макараўскі) с/с. У 1926 г. 23 двары, 149 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 9 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе вучгаса БСГА. З 13.6.2002 г. ў Ленінскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма сав. ваеннага дзеяча, Маршала Сав. Саюза, двойчы Героя Сав. Саюза, Героя ЧССР І.І.Якубоўскага (25.12.1911—30.11.1976).

**ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Горскім с/с, за 13 км на У ад г. Горкі, 144 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У ад вёскі цячэ р. Быстрая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 48 гаспадарак, 96 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. пры правядзенні Сталыпінскай аграрнай рэформы і высяленні часткі Горскай абшчыны на хутары. З 26.4.1919 г. ў гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. У 1926 г. хутары, 50 двароў, 284 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Запруддзе» (потым меў назву «Чырвоны баец»), дзейнічала кузня, у 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. У 1940 г. 58 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 22 двары. Вызвалена ў вер. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 36 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 68 гаспадарак, 176 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова. Свінагадоўчая ферма, камбікормавы цэх. Планіровачна складаецца з паўн. і паўд. частак. У паўн. частцы прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Паўд. частка мае Г-падобную планіроўку. Гал. вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Дз.І.Пагуляева (22.12.1895—19.9.1974), доктара геалагічных навук, прафесара, актыўнага ўдзельніка ўстанаўлення сав. улады на радзіме, першага старшыні Горскага валвыканкама.

**ЗІМНІК** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 32 км на З ад г. Горкі, 127 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Любінічы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях, у Копыскім р-не Аршанскай акругі. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 21 двор, 126 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Зімнік» (пазней атрымаў назву імя С.М.Кірава), у 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 51 жыхар, у складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка». Малочна-таварная ферма. Прамалінейная вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗУБРЫ** — вёска ў Саўскім с/с, чыг. прыпынак на лініі Орша—Крычаў, за 13 км на ПнЗ ад г. Горкі, 112 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Пагодзіна. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У, Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Орша. 55 гаспадарак, 94 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. слабада Зуброва ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 14 двароў. У 1737 г. мелася царква. У 1772 г. 25 двароў, 135 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. ў Копыскім павеце, 27 двароў, 179 жыхароў. У 1845 г. вёска без жыхароў у складзе маёнтка Горы. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 41 двор, 277 жыхароў. У 1905 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1907 г. ў ёй навучаліся 32 хлопчыкі і 6 дзяўчынак. У 1909 г. 48 двароў, 356 жыхароў, млын. У маі 1917 г. пачаў дзейнічаць лесапільны з-д, які вырабляў матэрыялы для будаўніцтва чыгункі. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918 г. У хуткім часе быў выбраны к-т беднаты. 14.1.1919 г. лесапільны з-д нацыяналізаваны. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Рудкаў-

шчынскім с/с, з 5.4.1935 г. ў Горацкім раёне, з 26.6.1954 г. ў Саўскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 63 вучні. У 1926 г. вёска (59 двароў, 308 жыхароў), хутары (21 двор, 122 жыхары), яшчэ адзін хутар (9 двароў, 30 жыхароў), лесазавод і млын (15 двароў, 43 жыхары). У 1930-я г. арганізаваны калгас «XX МЮД». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944—58 гг. на тэр. вёскі размяшчалася Зубраўская МТС. Зараз у складзе калгаса імя І.У.Мічурына. Малочна-таварная ферма, пач. школа, аддз. сувязі, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, лясніцтва. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца, арыентаваная з Пн на Пд, паварочвае ў цэнтры на З, да чыг. вакзала. Паралельна да гал. праходзяць яшчэ 3 вуліцы, паміж імі — кароткія папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы каля чыг. вакзала размяшчаюцца асн. грамадскія будынкі. Вёска — радзіма ген.-лейтэнанта авіяцыі Н.Э.Глушанкова (14.3.1902—20.2.1959).



*Н.Э.Глушанкоў.*

**ІВАНОВА** — былая вёска ў Паршынскім с/с, за 4 км на ПдУ ад г. Горкі, 99 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Нівішчы і далей па аўтадарозе Орша—Мсціслаў.

Вядома з 18 ст. У 1785 г. 18 двароў, 82 жыхары. З 1840 г. ў складзе маёнтка Горы-Горацкай земляробчай школы (з 1848 Горы-Горацкі земляробчы ін-т), з 1844 г. ў складзе вучэбнай фермы, якая рыхтавала сялян для вядзення гаспадаркі. Паводле перапісу 1897 г. Іванова-Горацкая с.-г. ферма (3 двары, 42 жыхары) у Горскай вол. Чавускага павета. У 1909 г. казённая ферма (41 жыхар). З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.71924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1926 г. — с.-г. апорная станцыя (4 двары, 68 жыхароў), прыпісны саўгас «Іванова» с.-г. ін-та (375,3 дзес. зямлі, у т.л. 219 дзес. ворыва). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1944 г. аддз. вучгаса Бел. с.-г. ін-та (з 1948 Бел. с.-г. акадэмія). З 1954 г. ў Будскім, з 20.6.1966 г. ў Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 18 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе вытв. ўчастка «Нівішчы» вучгаса БСГА. З 28.3.1987 г. ў Горацкім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЗЛЫ** — вёска ў Рудкаўшчынскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Горак, 114 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Орша—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло, 5 двароў, у складзе маёнтка Раманава, у 1785 г. 3 двары, 29 жыхароў, у складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, памешчыцкая ўласнасць. У вайну 1812 г. французскія войскі абрабавалі вёску. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казны. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 19 двароў, 125 жыхароў. 22.12.1905 г. вяскоўцы правялі самавольную вырубку казённага лесу. У 1909 г. 26 двароў, 174 жыхары. З 24.4.1919 г. ў Саўскай вол. Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Аршанскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Рудкаўшчынскім с/с. У 1926 г. 44 двары, 207 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». З 5.4.1935 г. ў Горацкім р-не. У 1940 г. 41 двор, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 41 двор, загубілі 8 жыхароў. Вызвалена 24.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. 24 вяскоўцы загінулі на фран-

тах і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 41 гаспадарка, 68 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна. Малочна-таварная ферма. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Частка забудовы размяшчаецца ўздоўж шашы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**КАЛАЦІЛЫ** — вёска ў Саўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад г. Горкі, 114 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Маханаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Маралёўка, Сава і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Калацілава (яно ж Таўкачова) у складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 3 двары, у 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 17 двароў. У 1858 г. дзярж. ўласнасць, 16 двароў, 120 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 216 жыхароў, у Саўскай вол. Горацкага павета. У 1909 г. 37 двароў, 256 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1925 г. ў Шарыпскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 46 двароў, 268 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 71 жыхар, у складзе калгаса імя М.І.Калініна. Свінагадоўчая ферма, клуб. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Дзве іншыя вуліцы праходзяць перпендыкулярна да галоўнай. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАЎКА** — былая вёска ў Рудкаўшчынскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Горак, 115 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Бася, за якой — лясны масіў. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Орша.

Вёска як населены пункт склалася ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях у Аршанскім р-не, з 5.4.1935 г. ў Горацкім р-не. У 1930-я г. сяляне ўступілі ў калгас. У 1940 г. 29 двароў, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 17 двароў. Вызвалена 24.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 7 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 13 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна. Вуліца прамалінейная, арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 18 км на У ад г. Горкі, 148 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Каменка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Орша—Мсціслаў. 104 гаспадаркі, 294 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1750 г. вёска ў складзе маёнтка Горкі Мсціслаўскага павета Мсціслаўскага ваяв., 15 двароў, 86 жыхароў, прыватнафеад. ўласнасць. З 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 20 двароў, 146 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Гаспадар маёнтка ў 1878 г. меў 1017 дзес. зямлі і карчму. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 32 двары, 226 жыхароў. У 1909 г. 39 двароў, 275 жыхароў, дзейнічалі млын і аднакласная царк.-прыходская школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Ходараўскім с/с, з 21.8.1925 г. — цэнтр Каменскага с/с. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені. Дзейнічала школа для малапісьменных. У 1926 г. хутары, 58 двароў, 323 жыхары. У 1930 г. аргані-

заваны калгас «Ленінскі шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Тут працавалі ветраны млын, кузня. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. На вайск. могілках, што каля будынка праўлення калгаса, пахаваны 440 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі і раёна. Сярод іх воіны 58-й, 70-й, 247-й, 352-й стралк. дывізій. 33 вяскоўцы загінулі на франтах. У памяць аб іх, а таксама аб іншых жыхарах з вёсак сельсавета, якія загінулі ў баях супраць фашызму, каля будынка праўлення калгаса ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 26.6.1954 г. вёска ў Горскім с/с. У 1986 г. 79 гаспадарак, 202 жыхары, цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». З 7.9.2000 г. ў Ходараўскім с/с. Цэнтр СВК «Каменская Ніва». У вёсцы размешчаны майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, малочна-таварная ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Планіровачная структура прамавугольная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Паралельна і перпендыкулярна ад яе адыходзяць другарадныя вуліцы. У паўн. частцы гал. вуліцы пабудаваны мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя жылыя дамы, на другім яе баку — некалькі мураваных двухпавярховых 8-кватэрных дамоў. Астатнія жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Забудова двухбаковая, шчыльная. Вытв. сектар на зах. і паўн.-ўсх. ускраінах.

**КАНЮХІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Горак, 119 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Лебядзёўка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Андзекалава і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1609 г. ў складзе маёнтка Шышова, у 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. 14 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. 22 двары, 118 жыхароў, у Аршанскім павеце. У 1785 г. 37 двароў, 218 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 28 двароў, 229 жыхароў. У 1909 г. 32 двары, 305 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта земская школа. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Асталопаўскім сельсаветах (у 1934 перайменаваны ў Варашылаўскі). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 74 вучні. У 1926 г. 70 двароў, 367 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар», які меў ветраны млын і кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 94 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 43 двары, 176 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 23.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. 7 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 13 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Старасельскі». Малочна-таварная ферма. Вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАСЦЮШКАВА** (да 21.1.1969 г. Трыгубава) — вёска ў Ленінскім с/с, за 20 км на ПнУ ад г. Горкі, 115 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 43 гаспадаркі, 53 жыхары (2007).

За 1 км на ПдУ ад вёскі, на стрэлцы мыса трохвугольнай формы захавалася гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вя-

дома з 1647 г. як с. Трыгубава ў складзе маёнтка Раманава ў Аршанскім павеце, 34 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце. У 1785 г. 28 двароў, 166 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. 75 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 41 двор, 327 жыхароў. У 1909 г. 44 двары, 329 жыхароў. Побач знаходзіўся пас. Трыгубава, 1 двор, 5 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, у Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 75 двароў, 442 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ясная раніца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 57 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 45 двароў, загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 23.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. 21.1.1969 г. ў гонар 1-й польскай дывізіі імя Т.Касцюшкі, якая ўдзельнічала каля вёскі 12—13.10.1943 г. ў баях супраць фашысцкіх захопнікаў в. Трыгубава перайменавана ў в. Касцюшкава. У 1986 г. 57 гаспадарак, 139 жыхароў, у складзе племзавода «Леніна». Малочна-таварная ферма, б-ка, клуб. Аснову планіроўкі складаюць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, якія арыентаваны з З на У і аб'яднаны папярочнай вуліцай.

**КАЦЯЛЁВА** (да 17.7.1967 вёскі Вялікае Кацялёва і Малое Кацялёва) — вёска ў Паршынскім с/с, за 6 км на ПнУ ад г. Горкі, 133 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. Праз вёску з Пн на Пд цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 51 гаспадарка, 90 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета. У 1609 г. ў складзе маёнтка Шышова. У 1683 г. 29 двароў, у складзе маёнтка Горы, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. сяло (10 двароў, 90 жыхароў, 2 млыны, драўляная царква, кузня, 2 сажалкі) і вёска (42 двары, 354 жыхары) у Чавускім павеце, памешчыцкая ўласнасць. У 1885 г. ў сяле 20 двароў, 102 жыхары, 2 царквы, багадзельня. Паводле перапісу 1897 г. сяло (21 двор, 168 жыхароў, царк.-прыходская школа), сядзіба царкоўнікаў (3 двары, 12 жыхароў) і вёска (67 двароў, 499 жыхароў, ветраны млын) у Горскай вол. Чавускага павета. У 1909 г. ў вёсцы 76 двароў, 524 жыхары, у сяле 22 двары, 177 жыхароў, 2 драўляныя царквы, хлебны магазін. З 8.4.1918 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай губ., з 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Кацялёўскага с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. быў 81 вучань. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1924 г. вясковай школе перададзены былы царк. будынак, 2,5 дзес. зямлі. У 1925 г. было 75 вучняў. У 1924 г. пачало дзейнічаць с.-г. крэдытнае т-ва. У 1926 г. ў сяле Малое Кацялёва 45 двароў, 271 жыхар, у в. Вялікае Кацялёва 127 двароў, 648 жыхароў. У 1930 г. ў Малым Кацялёве арганізаваны калгас «Праўда», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, у Вялікім Кацялёве — калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 43 гаспадаркі. Дзейнічала кузня. З 1932 г. калгасы абслугоўваліся Горацкай МТС. У 1940 г. ў абодвух населеных пунктах 140 двароў, 687 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 138 двароў, загубілі 17 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 70-й стралк. дывізіі 2-га Бел. фронту. На паўдн.-зах. ускраіне ў брацкай магіле пахаваны 70 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. 82 вяскоўцы загінулі на франтах. На ўшанаванне іх памяці на паўд.-зах. ускраіне вёскі ў 1975 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. З 1954 г. ў Будскім

с/с. У 1986 г. 98 гаспадарак, 240 жыхароў, у складзе калгаса імя С.Дз.Пагодзіна. Малочна-таварная ферма, магазін, базавая школа, клуб. Рака падзяляе вёску на зах. (былая в. Малое Кацялёва) і ўсх. (былая в. Вялікае Кацялёва) часткі. Планіроўка ўсх. часткі прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПнЗ і ПдУ адыходзяць другарадныя вуліцы. У зах. частцы вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, ад яе адыходзяць невялікія завулкі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на зах. ускраіне.

**КВАРЦЯНЫ** — вёска ў Паршынскім с/с, за 7 км на У ад г. Горкі, 131 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З ад вёскі цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 40 гаспадарак, 77 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1689 г. в. Кварцяны (яна ж Буды Харцяны) у складзе маёнтка Горы, дзярж. ўласнасць. З 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 31 двор, 267 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1840 г. 27 двароў, 139 жыхароў. У 1880 г. 37 двароў, 209 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горскай вол. Чавускага павета, 47 двароў, 279 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам. У 1909 г. 41 двор, 288 жыхароў. Меліся млын, хлебазапасны магазін, школа граматы. Непадалёку, на р. Дняпрэц быў вадзяны млын (1 двор, 4 жыхары). З 8.4.1918 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай губ., з 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1926 г. вёска (38 двароў, 192 жыхары) і хутары (33 двары, 176 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», які меў ветраны млын, аб'ядноўваў у 1932 г. 50 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 61 двор, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі. Вызвалена 25.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 16.7.1954 г. ў Будскім с/с. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 145 жыхароў, у складзе калгаса імя С.Дз.Пагодзіна. Малочна-таварная ферма. Вуліца арыентавана з Пд на Пн, уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы даяркі Е.М. Гаўрыленка.

**КЛІМАЦІЧЫ** — вёска ў Паршынскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Горак, 121 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Андрухі і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі.

Вядома з 17 ст. У 1683 г. слабада (8 двароў), у складзе маёнтка Горы, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 12 двароў, 76 жыхароў, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска Клімацічы (яна ж Сухабаі) у Раманаўскай вол. Горацкага павета, 25 двароў, 183 жыхары. У 1909 г. 29 двароў, 185 жыхароў, млын. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 40 двароў, 214 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 28 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. і кастр. 1943 г. акупанты спалілі 28 двароў, загубілі 10 жыхароў. Вызвалена 2.10.1943 г. войскамі Зах. фронту. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе саўгаса «Старасельскі». Малочна-таварная ферма, грамадская лазня. Вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы А.А.Анюхоўскай.

**КЛІН** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 27 км на З ад г. Горкі, 122 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарогах праз вёскі Анікавічы, Альхоўка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. ўрочышча (4 двары, 17 жыхароў) у Маслакоўскай вол. Горацкага павета. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Копыскім р-не, у Маслакоўскім с/с. У 1926 г. 18 двароў, 135 жыхароў. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Клін», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак.—маі 1943 г. каля вёскі дыслацыраваўся партыз. атрад Дз.Ф.Вайстрова (у крас. 1943 атрад узначаліў М.І.Кітаеў) і партыз. групы А.Палікарпава, М.Кітаева. Б.Сяргеева, В.Быкава, П.Саўчанкі, М.Ліпіна, І.Прахарэнкі, І.Стукалава, А.Харашылава. У чэрв. 1943 г. карнікі расстралялі, а потым спалілі ў іх роднай хаце сям'ю Яўсеевых. Вызвалена вёска 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1950—54 гг. цэнтр калгаса «2-я пяцігодка» (2 вёскі), з 1954 г. ў складзе калгаса «Шлях Леніна». У 1986 г. 55 гаспадарак, 112 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць магазін. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОПЦЕЎКА** — вёска, цэнтр Копцеўскага с/с, за 23 км на ПдУ ад г. Горкі, 74 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн ад вёскі цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 126 гаспадарак, 300 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 18 ст. У 1701 г. «дзяржава» Копцеўка ў Мсціслаўскім ваяв., казённая ўласнасць. У 1742 г. сяло, цэнтр воласці, дзярж. ўласнасць. Паводле Ген. межавання Рас. імперыі ў 1784 г. сяло (15 двароў, 91 жыхар), цэнтр маёнтка, меліся царква, млын, гаспадарскі дом. З 1814 г. працавала невялікая сукнавальня. Памешчык Цеханавецкі меў тут у 1860 г. 2045 дзес. зямлі, 2 млыны і сукнавальню. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 62 жыхары, мураваная царква, царк.-прыходская школа. У аднайменным фальварку, што знаходзіўся непадалёку, 1 двор, 19 жыхароў, вадзяны млын, лесапільня, сукнавальня. У снеж. 1905 г. і студз. 1906 г. адбыліся палітычныя сходкі сялян. У 1909 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, у сяле 8 двароў, 71 жыхар, у фальварку 27 жыхароў. У 1913 г. ў маёнтку пачаў працаваць вінакурны з-д (8 рабочых). У 1916 г. адкрыта школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў былым маёнтку, у 1925 г. было 70 вучняў. У хуткім часе пасля рэвалюцыі на базе маёнтка арганізаваны саўгас, працаваў вадзяны млын, з 1925 г. — вінакурны з-д. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с Дрыбінскага р-на. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. З 12.2.1935 г. вёска зноў ў Дрыбінскім р-не. У 1926 г. сяло (16 двароў, 66 жыхароў) і вёска (14 двароў, 30 жыхароў). У 1930 г. пабудаваны спіртзавод, у 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які

*Аўтадарога Горкі—Мсціслаў.*



ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. 25.8.1931 г. арганізаваны яшчэ адзін калгас — «Пралетарый», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў ліпені 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. У брацкай магіле каля будынка выканкома сельсавета пахаваны 24 воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. Сярод пахаваных воіны 362-й, 343-й стралк. дывізій. 531 жыхар з вёсак сельсавета загінуў на франтах і ў партыз. барацьбе, у т.л. 54 жыхары в. Копцеўка. У памяць аб іх у 1968 г. каля будынка канторы саўгаса пастаўлены абеліск. З 28.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Копцеўка. У 1986 г. 150 гаспадарак, 429 жыхароў, цэнтр саўгаса «Копцеўскі».

Цэнтр СВК «Копцеўская Ніва». У вёсцы машынны двор з рамонтнай майстэрняй, спіртзавод, млын, зерняток, піларама, комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы, гандл. цэнтр, сярэдняя школа з інтэрнатам, сталовая, б-ка з фондам звыш 10 тыс. кніг, амбулаторыя, аптэка, цэнтр культуры і адпачынку, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Адна з іх арыентавана з Пд на Пн, другая праходзіць перпендыкулярна да першай. Ад іх перпендыкулярна і паралельна адыходзяць другарадныя вуліцы. На паўн. баку, за рэчкай, размешчана невялікая адасобленая частка вёскі. У цэнтры вёскі — мураваныя грамадскія будынкі і двухпавярховыя 8-кватэрныя жылыя дамы. Астатняя жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу, размешчана двухбакова, шчыльна. На зах. ускраіне гасп. сектар.

У склад сельсавета ўваходзяць 15 населеных пунктаў.

**КРАСУЛІНА** — вёска ў Саўскім с/с, за 12 км на Пн ад г. Горкі, 113 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Горкі. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Парасіца (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 102 гаспадаркі, 301 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. вёска, 28 двароў, у складзе маёнтка Горы, дзярж. уласнасць. З 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце. У 1785 г. в. Красуліна (47 двароў, 247 жыхароў) і засценак Красулін (4 двары, 27 жыхароў) у складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 17 двароў, 141 жыхар, дзярж. уласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета, 43 двары, 277 жыхароў. Непадалёку быў фальварак Красуліна (ён жа Спаск), 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. 47 двароў, 331 жыхар, царк.-прыходская школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр Красулінскага с/с, з 21.8.1925 г. ў Шарыпскім с/с. У 1926 г. 74 двары, 374 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рассвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 55 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 15 двароў. 24 вяскоўцы загінулі на франтах. З 1954 г. вёска ў Саўскім с/с. У 1986 г. 84 гаспадаркі, 252 жыхары, цэнтр калгаса імя М.Горкага. У вёсцы майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Рака падзяляе вёску на зах. і ўсх. часткі. Дзве асн., паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваны з Пд на Пн. Ад іх перпендыкулярна адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. На паўд. ускраіне ўзведзены мураваныя двух- і 1—2-кватэрныя жылыя

дамы. Астатняя жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Ва ўсх. частцы, уздоўж прамалінейнай вуліцы, сярод жылой забудовы размешчаны асн. грамадскія мураваныя будынкі. Вытв. сектар на паўн. ускраіне.

**КРЫЎЦЫ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад г. Горкі, 61 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі вадасховішча на р. Галубіна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка, якая праходзіць побач з вёскай, і далей па аўтадарозе Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. як вёска ў Кішчыцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 7 двароў, у 1771 г. 10 двароў, 64 жыхары. У 1777 г. ў Копыскім павеце. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 32 рэвізскія душы. У 1880 г. 17 двароў, 48 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 22 двары, 169 жыхароў, хлебазапасны магазін. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1909 г. 27 двароў, 232 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с. У 1926 г. 56 двароў, 274 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі. У 1940 г. 55 двароў, 289 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 26.6. 1944 г. Пасля вайны адбудавана. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 25 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУЗАВІНА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 8 км на ПдУ ад г. Горкі, 104 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Проня, на Пн — яе прыток р. Крывая. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Расна—Горкі. 51 гаспадарка, 106 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Кузовіна (яно ж Сутокі) у складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. сяло Кузовін у Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 41 двор, 312 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле 1897 г. ў Горскай вол. Чавускага павета, 61 двор, 442 жыхары. Дзейнічаў ветраны млын. У 1909 г. 65 двароў, 426 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 128 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1926 г. 102 двары, 572 жыхары. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас «Новы свет», які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 2.10.1943 г. З 1954 г. ў Панкратаўскім, з 1966 г. зноў ў Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 88 гаспадарак, 205 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя В.П.Чкалава. У вёсцы малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца ў паўн. частцы прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, забудавана шчыльна. Ад яе перпендыкулярна адыходзяць другарадныя вуліцы. Паўд. частка гал. вуліцы крывалінейная, арыентавана з Пд на Пн, забудавана аднабакова. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне вытв. сектар. На Пд ад вёскі саўгасны сад. Вёска — радзіма ген.-маёра А.С. Люхцікава (14.7.1898—6.11.1976).



*А.С.Люхцікаў.*

**КУКШЫНАВА** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад г. Горкі, 116 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. прыпынку Зубры і 26 км ад чыг. станцыі Пагодзін на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і Пд ад вёскі цячэ р. Паўна (прыток р. Бася). На Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Зубры, Сава і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Кукшына ў Копыскім павеце. У 1784 г. 1 двор, 8 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. У 1897 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Палёнкаўскім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Варашылава. У 1940 г. 40 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 6 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. На франтах загінулі 24 вяскоўцы. У 1986 г. 41 гаспадарка, 98 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з З на У. Ад яе ўсх. канца адыходзіць на Пд другая, невялікая вуліца. На Пд, за ракой, адасобленая частка забудовы.

**КУРГАННЕ** — вёска ў Горскім с/с, за 18 км на У ад г. Горкі, 145 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З цячэ р. Быстрая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 45 гаспадарак, 66 жыхароў (2007).

За 0,4 км на ПнЗ ад вёскі, за 0,3 км ад р. Быстрая, знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку (мілаградская культура), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска ўзнікла ў пач. 20 ст. пры правядзенні Сталыпінскай аграрнай рэформы і высяленні часткі Горскай абшчыны на хутары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. У 1926 г. хутары, 80 двароў, 410 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае Курганне», працавала кузня. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 88 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 95 двароў, 422 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 39 двароў. Вызвалена ў вер. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 61 вясковец загінуў на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 69 гаспадарак, 136 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М. Свярдлова. Малочна-таварная ферма. Планіроўка прамавугольная. Аснову яе складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя, прамалінейныя вуліцы, якія арыентаваны з Пд на Пн і з З на У. Другарадныя вуліцы праходзяць паралельна да гэтых дзвюх. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КУРТАСЫ** — вёска ў Саўскім с/с, за 15 км на Пн ад г. Горкі, 110 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ускраіне цячэ р. Альхоўка (прыток р. Парасіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Жаўлачоўка і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 41 гаспадарка, 63 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло (27 двароў) у складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 43 двары, 319 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Баеўскай вол. Горацкага павета, 58 двароў, 413 жыхароў. У 1907 г. ў нар. вучылішчы навучаліся 42 хлопчыкі і 15 дзяўчынак. У 1908 г. нар. вучылішча пераўтворана ў земскую школу, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 60 двароў, 462 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Ляднянскай вол. Горацкага павета. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім сельсаветах. У вясковай

прац. школе 1-й ступені, якая створана пасля рэвалюцыі на базе земскай, у 1925 г. было 70 вучняў. У 1926 г. 86 двароў, 541 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.Дз.Пагодзіна, працавала кузня, у 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 39 двароў. На франтах загінулі 32 вяскоўцы. У 1986 г. 66 гаспадарак, 169 жыхароў, у складзе калгаса імя М.Горкага. З 26.3.1987 г. ў Саўскім с/с. Дзейнічаюць паляводчая брыгада, малочна-таварная ферма, пач. школа, магазін, клуб. Планіроўка прамавугольная. Аснову яе складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы, арыентаваныя з З на У і з Пд на Пн. У месцы іх перакрыжавання — грамадскі цэнтр. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУСТОЎКА** — вёска ў Рудкаўшчынскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Горак, 124 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Руміна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн ад вёскі цячэ р. Крапівенка (прыток Дняпра), на У — меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па мясц. дарогах і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Казловіцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 2 гаспадаркі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Маслакі, у Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 11 двароў, 80 жыхароў. У 1872 г. гаспадар маёнтка, што быў побач з вёскай, меў 626 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 8 двароў, 72 жыхары. У 1909 г. 13 двароў, 50 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Копыскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Рудкаўшчынскім с/с. У 1926 г. 27 двароў, 134 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Авангард», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак, меў 221 га ворыва, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.4.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 27 гаспадарак, 62 жыхары, у складзе калгаса імя У.І.Леніна. Малочна-таварная ферма, клуб. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕБЯДЗЁВА** — вёска ў Горскім с/с, за 10 км на У ад г. Горкі, 147 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Лебядзёўка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 61 гаспадарка, 105 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. в. Лебядзёўка ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў складзе маёнтка Горкі Мсціслаўскага павета, 44 двары, 206 жыхароў, прыватнафеад. ўласнасць. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 50 двароў, 412 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты, у 1840—44 гг. ў складзе Горы-Горацкай земляробчай школы. У 1894 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горскай вол. Чавускага павета, 100 двароў, 655 жыхароў, меўся ветраны млын. У 1909 г. 104 двары, 655 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горскім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 73 вучні. У 1926 г. 143 двары, 769 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Барэц Аршаншчыны» (у 1932 аб'ядноўваў 43 гаспадаркі) і імя Дз.Беднага. Працаваў млын. У 1940 г. 150 двароў, 650 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 30.9.1943

г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 63 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1986 г. 93 гаспадаркі, 223 жыхары, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова. У вёсцы малочна-таварная ферма, магазін, клуб, б-ка. Галоўная крывалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Ад яе на З і У адыходзяць 2 невялікія вуліцы. Адасобленая частка забудовы знаходзіцца на паўд. баку шашы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** (да кастр. 1918 Раманава) — вёска, цэнтр Ленінскага с/с, за 19 км на ПнУ ад г. Горкі, 112 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На У ад вёскі вадасховішча на р. Мярэя. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Леніна—Горкі. 530 гаспадарак, 1242 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. па звестках аб пагранічных спрэчках паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай. Уваходзіла ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяв. Рэчы Паспалітай. У 1596 г. мястэчка, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. У 1647 г. 56 двароў, гаспадарскі дом, фальварак, вінакурня, млын, сукнавальня, карчма, царква. У час рус.-польскай вайны 1654—67 гг. каля вёскі ў маі—чэрв. 1665 г. дзейнічаў атрад «шышоў», удзельнікаў масавага сял. вызваленчага руху. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 59 двароў, 447 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць, дзейнічалі млын на р. Мярэя, 2 царквы, штогод 25 снеж. праводзіўся кірмаш. З 2-й пал. 18 ст. належала князям Дандуковым-Корсакавым, якія заснавалі тут цаглянае прадпрыемства, суконную мануфактуру (у 1809 г. 86 рабочых, існавала да 1814), вінаробчы з-д (засн. ў 1821, у 1880 г. 11 рабочых). Другі вінаробчы з-д засн. ў 1850 г. (у 1890 — 10 рабочых). 8.11.1812 г. ў мястэчку размяшчалася гал. кватэра М.І.Кутузава. З 1819 г. дзейнічала гарбарня. У 1860 г. ў Горацкім павеце, 492 жыхары. Гаспадар маёнтка меў у 1872 г. ў вёсках Раманава, Собалева, Стараселле, Логавіна і Майсеева 1913 дзес. зямлі, вінакурны з-д, 2 млыны, карчму. У 1880 г. 90 двароў, 728 жыхароў, вадзяны млын, бальніца, паштовая станцыя на тракце Шклоў—Горкі—Ляды (мела 5 коней), мураваная царква, малітоўная школа. У 1895 г. нашчадкі кн. Дандукова-Корсакава заснавалі вінакурна-рэктыфікацыйны з-д (17 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. 128 двароў, 958 жыхароў. Дзейнічалі гарбарны і клеяварны з-ды, 7 кузняў, царк.-прыходская школа і нар. вучылішча, фельч. ўчастак, паштовае аддз., 21 лаўка, піцейны дом, царква, 2 малітоўныя дамы, 4 разы ў год праводзіліся кірмашы, па нядзелях — таржкі. У 1902 г. ў нар. вучылішчы навучаліся 53 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. У час 1-й рус. рэвалюцыі 6.11.1905 г. група навучэнцаў Горацкага рамеснага вучылішча па даручэнні с.-д. арг-цыі раздавала сялянам лістоўкі, потым адбыўся мітынг. 8.11.1905 г. зноў адбыўся мітынг і сутыкненні з мясц. ўладамі. У 1909 г. ў мястэчку 143 двары, 754 жыхары, у маёнтку 5 двароў, 110 жыхароў. Гаспадары маёнтка валодалі 1697 дзес. зямлі, з якой 1560 дзес. былі прыдатныя для земляробства. На развіццё рэв. руху вял. ўплыў аказалі бальшавіцкія агітатары з Горак. 29.5.1917 г. адбыўся агульны сход с.-г. рабочых эканоміі князёў Дандуковых, на якім было вырашана патрабаваць павелічэння заработнай платы. Пасля перамогі Кастр. рэвалюцыі 1917 пры ўдзеле ваен-

*Аграгарадок у в. Леніна.*



нага камісара Горацкага павета бальшавіка С.І.Пагодзіна актывісты і бедната стварылі Раманаўскі вал. Савет рабочых і сял. дэпутатаў. Узнікла парт. ячэйка, якая ў жн. 1918 г. аб'ядноўвала 12 членаў РКП(б). На сумесным пасяджэнні камбеда і Савета 1.12.1918 г. была прынята пастанова аб нарыхтоўцы збожжа і фуражу для Чырвонай Арміі. Пасля замаху на жыццё Леніна ў 1918 г. на сходзе мястэчковай бедната было вырашана на базе былога маёнтка арганізаваць саўгас і назваць яго і мястэчка імем Леніна. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. 8.12.1922 г. рабочыя і служачыя саўгаса на агульным сходзе прынялі тэлеграму Леніну, у якой віншавалі правадыра з выздараўленнем і святам Кастр. рэвалюцыі, а таксама прасілі яго ўзяць шэфства над гаспадаркай. Ленін адказаў падзякай за віншаванні, пажадаў поспехаў у працы і згадзіўся быць шэфам саўгаса. У 1923 г. ў якасці шэфскай дапамогі Уладзімір Ільіч прыслаў сялянам у падарунак трактар «Фардзон». У 1934 г. саўгас меў ужо 6 трактароў. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. Дзейнічала школа 2-й ступені, у якой у 1925 г. было 249 вучняў, у т.л. 2 камсамольцы, 56 піянераў. У 1924 г. адкрыты хата-чытальня, б-ка. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і аграпункт. У 1924 г. пачалі дзейнічаць пункты зернеачышчальны і па пракаце с.-г. машын. Упершыню ў раёне ў 1925 г. пачалася распрацоўка мясц. запасаў торфу на паліва і ўгнаенне. У 1926 г. 192 двары, 765 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 75 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. На базе саўгаса ў 1937 г. арганізавана Ленінская МТС (размяшчалася каля в. Майсеева, рэарганізавана 31.3.1958), якая абслугоўвала калгасы Ленінскага, Варашылаўскага, Макараўскага, Будскага і Шарыпскага сельсаветаў. Працавалі кузня, ветраны і паравы млын, маслазавод (з 1925), шавецкая майстэрня (з 1933). У 1940 г. 198 двароў, 335 жыхароў.

У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. і снеж. 1943 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі, загублены 186 жыхароў, разрабавана маёмасць сялян, калгаса і МТС. Вызвалена 12.10.1943 г. войскамі Зах. фронту. 12—13.10.1943 г. тут атрымалі баявое хрышчэнне воіны 1-й польскай дывізіі імя Т.Касцюшкі (камандзір З.Берлінг), сфарміраванай у СССР па ініцыятыве Саюза польскіх патрыётаў. У двухдзённых баях за вёску савецкія і польскія воіны фарсіравалі р. Мярэя, уклініліся ў варожую абарону на 1,5—2 км і ўтрымалі захоплены рубеж. Было знішчана каля 1500 і ўзята ў палон 329 ням. салдат і афіцэраў, захоплена 58 гармат і мінамётаў. У гэтых баях загінула 502 польскія і 1711 сав. воінаў. 5 воінам за праяўлены гераізм прысвоена званне Герояў Сав. Саюза: палякам — намесніку камандзіра батальёна капітану У.Высоцкаму, стралку, радавой А.Т.Кжывань (абодвум пасмяротна), сав. воінам — радавому В.Барсукову, камандзіру батарэі лейтэнанту Р.Р.Лахіну (пасмяротна), камандзіру стралк. ўзвода малодшаму лейтэнанту Д.Р.Юркову. 239 воінаў-палякаў, удзельнікаў бітвы, узнагароджаны сав. ордэнамі і медалямі, 247 — польскімі ўзнагародамі. У гонар бою пад Леніна, які стаў сімвалам братэрства па зброі паміж сав. і польск. на-

*Музей савецка-польскай баявой садружнасці ў в. Леніна.*



родамі, польска-сав. дружбы, днём нараджэння Нар. войска Польскага, у 1968 г. адкрыты мемарыяльны комплекс. Ён уключае будынак Музея савецка-польскай баявой садружнасці, брацкія магілы сав. і польскіх воінаў. Дамінантай комплексу з'яўляецца музей, стэнды якога адлюстроўваюць гісторыю ўтварэння і фарміравання Нар. войска Польскага. У цэнтры памяшкання музея — карта-схема бою 12—13.10.1943 г. і дыярама «Бітва пад Леніна» (мастакі М.Авечкін, А.Інтэзараў). Перад уваходам у музей устаноўлена стэла са скульптурнай выявай сцяга, дрэўка якога трымаюць 2 рукі. На тэр. вёскі, па вул. Леніна, на месцы былых баявых пазіцый сав. воінаў у брацкай магіле пахавана 1711 байцоў і афіцэраў, якія загінулі 12—13.10.1943 г. На магіле ўстаноўлены помнік — блок з чырвонага граніту пад вуглом 45°, сячэнне якога ўяўляе пяціканцовую зорку. Праз 500 м ад гэтай магілы па вул. Леніна, на месцы былых польскіх пазіцый пахаваны 502 польскія воіны, сярод якіх Героі Сав. Саюза У.Высоцкі і А.Т.Кжывань. На магіле ўстаноўлены помнік — сцяна з шэрага граніту, на якой надпіс-прысвячэнне на польскай і бел. мовах. На франтах загінулі 16 вяскоўцаў. У 1986 г. 435 гаспадарак, 2153 жыхары, цэнтр сельсавета і племзавода «Леніна».

Цэнтр РСУП «Племзавод «Леніна». У вёсцы размешчаны свінагадоўчы комплекс, малочна-таварная ферма, машынны двор, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, Дом культуры, гандл. цэнтр, рэстаран, гасцініца, урачэбная амбулаторыя з пунктам хуткай дапамогі, сярэдняя школа, б-ка, муз. школа. У 1975 г. тут адкрыта Горацкае педвучылішча, якое рыхтуе настаўнікаў пач. класаў агульнаадукац. школ. Жылая зона падзяляецца на паўн. і паўд. планіровачныя раёны. Структура вулічнай сеткі свабодная і падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн і з'яўляецца часткай аўтадарогі Горкі—Леніна. Вуліца імя А.Кжывань ідзе перпендыкулярна да вул. Леніна і з'яўляецца гал. праездам да Музея сав.-польскай баявой садружнасці. Зах. частку вёскі складае вуліца імя Героя Сав. Саюза Д.Юркова. Тут узведзены мураваныя 2—5-павярховыя секцыйныя і блочныя дамы (1—2-кватэрныя, з кватэрамі на 2 узроўнях). Другарадныя вуліцы забудаваны блочнымі дамамі з кватэрамі на 2 узроўнях і з прысядзібнымі ўчасткамі. На вуліцы імя маёра Пятрова ўзведзены чатыры 5-павярховыя жылыя дамы вежавага тыпу (10-кватэрныя аднасекцыйныя). Грамадскі цэнтр размешчаны на вул. Леніна, якая завяршаецца ў паўн.-ўсх. частцы паркам Дружбы на беразе вадасховішча. Вытв. сектар на Пн. У сувязі з 25-годдзем баёў пад Леніна вёска 10.10.1968 г. ўзнагароджана

*Фрагмент экспазіцыі Музея савецка-польскай баявой садружнасці ў в. Леніна.*



*Надмагільныя пліты з Вечным агнём на ўшанаванне памяці савецкіх і польскіх воінаў, якія загінулі ў баі каля в. Леніна 12—13.10.1943 г.*



Дзярж. саветам ПНР ордэнам «Крыж Грунвальда» 2-й ступені.

У склад сельсавета ўваходзяць 22 вёскі.

**ЛІХАЧОВА** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 22 км на З ад г. Горкі, 114 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. прыпынка Зубры і 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Паўна (прыток р. Бася), на Пд і У ад вёскі мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Зубры і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскім павеце. У 1784 г. 13 двароў, 88 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. У 1909 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 19 двароў, 135 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паленкаўскім с/с. З 25.8.1925 г. да 24.9.1926 г. і з 1931 г. да 6.7.1954 г. гэты сельсавет называўся Ліхачоўскім і вёска была яго цэнтрам. У вясковай школе 1-й ступені, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным памяшканні, у 1925 г. быў 71 вучань, дзейнічаў драмгурток. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. вёска (52 двары, 157 жыхароў) і хутары (5 двароў, 16 жыхароў). 22.1.1931 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак. У 1940 г. 42 двары, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 6 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на франтах. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 70-й стралк. дывізіі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 21 гаспадарка, 41 жыхар, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн, уздоўж ракі. Ад яе паўн. боку адыходзіць на У кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛОГАВІНА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Горак, 116 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Дубраўка (прыток р. Мярэя). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стараселле і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 29 двароў, 200 жыхароў, у складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 261 жыхар. У 1909 г. 35 двароў, 259 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 71 двор, 418 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы будаўнік», мелася кузня, у 1932 г. аб'ядноўваў 52 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 13 двароў. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 18 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе саўгаса «Старасельскі». Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

*Музей савецка-польскай баявой садружнасці ў в. Леніна.*



**ЛУГІНЫ** — вёска ў Саўскім с/с, за 10 км на Пн ад г. Горкі, 109 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Парасіца (прыток р. Проня), на Пд — яе прыток р. Альхоўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шалаханаўка і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

За 0,2 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Парасіца, на могілках захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вядома з 17 ст. У 1683 г. 7 двароў, у складзе маёнтка Горы. У 1784 г. ў Аршанскім павеце, 11 двароў, 63 жыхары. У 1858 г. 13 двароў, 83 жыхары, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 120 жыхароў. У 1909 г. 17 двароў, 151 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім сельсаветах. У 1926 г. 28 двароў, 158 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 62 жыхары, у складзе калгаса імя М.Горкага. З 26.3.1987 г. ў Саўскім с/с. Вуліца арыентавана з Пд на Пн, уздоўж р. Парасіца. Адасоблены ўчастак нерэгулярнай забудовы размешчаны ўздоўж р. Альхоўка. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЛУКІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Горак, 116 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Мярэя (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Андзекалава і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 17 двароў. У 1772 г. ў Аршанскім павеце, 21 двор, 141 жыхар, дзярж. ўласнасць, у 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі, 19 двароў, 139 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 20 двароў, 116 жыхароў, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 40 двароў, 259 жыхароў. У 1909 г. 41 двор, 289 жыхароў, млын. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Асталопаўскім (у 1934 г. перайменаваны ў Варашылаўскі) сельсаветах. У 1930 г. арганізаваны калгас «Варашылавец», мелася кузня, у 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Працаваў ветраны млын. У 1940 г. 52 двары, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. Вызвалена 30.9.1943 г. войскамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. 23 вяскоўцы загінулі на франтах. З 6.7.1954 г. ў Ленінскім с/с. З 1986 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе саўгаса «Старасельскі». У вёсцы свінагадоўчая ферма, магазін. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЮБІЖ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад г. Горкі, 63 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі цячэ р. Галубіна, на У — яе прыток р. Залатушка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка, якая праходзіць праз вёску і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 49 гаспадарак, 120 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1737 г. тут дзейнічала праваслаўная царква. У 1777 г. сяло ў Копыскім павеце. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 57 два-

роў, 418 жыхароў. У 1786 г. пабудавана другая драўляная царква. Гаспадар маёнтка меў у 1879 г. 2147 дзес. зямлі і млын. У 1880 г. 75 двароў, 314 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Дзейнічала паштовая станцыя на тракце Шклоў—Горкі—Ляды. У 1885 г. сяло пры паштовым тракце, у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 65 двароў, 436 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 105 двароў, 585 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 царквы. На коннай паштовай станцыі 2 двары, 4 жыхары. У час 1-й рус. рэвалюцыі ў вёсцы вялі агітацыю навучэнцы Горацкага земляробчага вучылішча. У 1909 г. 106 двароў, 694 жыхары, меліся млын, магазін, царк.-прыходская школа, царква. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр Любіжскага с/с. 4.10.1924 г. адкрыты школа, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку, і хата-чытальня. У гэтым жа годзе было створана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1925 г. ў школе было 86 вучняў, у ліку якіх 2 камсамольцы і 23 піянеры. У 1926 г. 160 двароў, 824 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Адраджэнне», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. Меліся ветраны млын, кузня, магазін. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі ў 2 брацкіх магілах пахаваны 11 сав. воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. 35 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1959 г. цэнтр Любіжскага с/с перанесены ў в. Аўсянка. У 1986 г. 87 гаспадарак, 191 жыхар, у складзе калгаса «XVII партз'езд». З 1987 г. ў Аўсянкаўскім с/с. Малочна-таварная ферма, участковая бальніца, магазін, б-ка, клуб. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн, перпендыкулярна да шашы. Ад яе адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЯНПОЛЛЕ** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад г. Горкі, 80 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. выселак (3 двары, 19 жыхароў) і пасёлак (3 двары, 26 жыхароў) у Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. вёска, 5 двароў, 36 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 17.7.1924 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с. У 1926 г. 16 двароў, 93 жыхары. З 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. зноў у Дрыбінскім р-не. У 1930 г. арганізаваны калгас «Лянполле», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 28 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЙСЕЕВА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 19 км на ПнУ ад г. Горкі, 114 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Каля вёскі найвышэйшы пункт раёна (231,4 м). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Леніна—Горкі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 77 гаспадарак, 205 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 18 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. в. Масееўка ў Аршанскім павеце. У 1785 г. 29 двароў, 145 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 39 двароў, 264 жыхары. У 1909 г. 36 двароў, 314 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Го-

мельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 52 двары, 317 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара», які меў ветраны млын, у 1932 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 42 двары, 208 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўскія карнікі ў кастр. 1943 г. спалілі 42 двары, загубілі 1 жыхара. 21 вясковец загінуў на франтах і ў партыз. барацьбе. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. Каля вёскі размяшчалася Ленінская МТС. У 1986 г. 64 гаспадаркі, 181 жыхар, у складзе племзавода «Леніна». Размешчаны свінагадоўчы комплекс і малочна-таварная ферма. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе ідуць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МАКАРАЎКА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 8 км на Пн ад г. Горкі, 103 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1785 г. вёска ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета, 5 двароў, 40 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Мелася драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горацкай вол. Горацкага павета, 5 двароў, 59 жыхароў. У 1909 г. 4 двары, 59 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім с/с, з 21.8.1925 г. цэнтр Макараўскага с/с. У 1926 г. 11 двароў, 86 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кааператыўны шлях». У 1940 г. да вёскі далучана в. Шыманоўка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 8 дамоў. 34 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 58 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА. З 26.3.1987 г. ў Горацкім с/с. Малочна-таварная ферма, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Крывалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ КАРАЛЁЎКА** (да 1937 Ваўкалакі) — вёска ў Паршынскім с/с, за 6 км на Пд ад г. Горкі, 102 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікая Каралёўка і далей па аўтадарозе Расна—Горкі. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Ваўкалакі ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы Чавускага павета, 4 двары, 39 жыхароў. У 1909 г. 22 двары, 171 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1932 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 81 жыхар, у складзе племсаўгаса імя В.П.Чкалава. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЬКІ** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 21 км на У ад г. Горкі, 146 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Быстрая, на З — яе прыток р. Каменка. Транспартныя сувязі па мясц.дарозе праз в. Горы і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. вёска ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1784 г. ў Чавускім павеце, 6

двароў, 46 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1777 г. в. Малкі ў Аршанскім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, 4 двары, 62 жыхары, уласнасць касцёла. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 23 двары, 165 жыхароў. У 1909 г. 29 двароў, 202 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не. З 20.8.1924 г. ў Горацкім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 32 двары, 169 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. З 16.7.1954 г. ў Горскім с/с. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 50 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь». Малочна-таварная ферма. З 7.9.2000 г. ў Ходараўскім с/с. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. На З паралельна да яе праходзіць другая, кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ АНІКАВІЧЫ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, цэнтр калгаса «40 гадоў Кастрычніка», за 28 км на З ад г. Горкі, 122 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ ручай Мілаўка (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Заброддзе і далей па аўтадарозе Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 63 гаспадаркі, 194 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. с. Анікавічы ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. сяло ў Горацкім павеце, 98 рэвізскіх душ, памешчыцкая ўласнасць. У 1885 г. 41 двор, 250 жыхароў, драўляная царква, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 67 двароў, 430 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1909 г. 71 двор, 482 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Маслакоўскім с/с. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 36 гаспадарак, 122 жыхары, цэнтр калгаса «40 гадоў Кастрычніка». У вёсцы малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, млын, лесапільня, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, базавая школа, аддз. сувязі, магазін, сталовая, гасцініца. Вуліца арыентавана з Пд на Пн, перпендыкулярна да дарогі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На злучэнні вуліцы з дарогай размяшчаюцца грамадскія будынкі, узведзены мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя жылыя дамы.

**МАРАЛЁЎКА** — вёска ў Саўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад г. Горкі, 113 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Пнёўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сава і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 24 гаспадаркі, 63 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. в. Муралёўка (15 двароў) у складзе маёнтка Горы, дзярж. ўласнасць. У 1784 г. в. Марэлаўка ў Аршанскім павеце, 21 двор, 86 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У пач. 19 ст. ў складзе Горы-Горацкага маёнтка (да 1829). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 20 двароў, 153 жыхары. У 1909 г. 22 двары, 165 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1925 г.

ў Шарыпскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 39 двароў, 215 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны камбайн», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. У 1986 г. 40 гаспадарак, 97 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна. Малочна-таварная ферма. Аснову планіроўкі складаюць 2 амаль паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн. У цэнтры яны злучаны папярочнай вуліцай. Адасобленая частка забудовы размешчана на процілеглым беразе ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРОЗАВА ВЯЛІКАЕ** — вёска ў Горацкім с/с, за 8 км на ПнУ ад г. Горкі, 135 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На Пн ад вёскі цячэ р. Лебядзёўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кацялёва і далей па аўтадарозе Мсціслаў—Орша. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горскай вол. Чавускага павета, 35 двароў, 258 жыхароў. У 1909 г. 41 двор, 267 жыхароў. З 8.4.1918 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай, з 26.4.1918 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губерняў РСФСР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 40 двароў, 189 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў кастр. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. Вызвалена 25.6.1944 г. воінамі 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. 13 вяскоўцаў загінулі на франтах. Уваходзіла ў склад калгаса імя С.Дз.Пагодзіна. У 1986 г. 21 гаспадарка, 32 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, якія арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРОЗАВА МАЛОЕ** — вёска ў Горскім с/с, за 10 км на У ад г. Горкі, 137 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На У ад вёскі цячэ ручай (прыток р. Лебядзёўка). 21 гаспадарка, 50 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. с. Марозава ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1609 г. ў складзе маёнтка Шышова, у 1612 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. 30 двароў, 304 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. в. Марозава Малое ў Горскай вол. Чавускага павета, 35 двароў, 263 жыхары, 4 ветраныя млыны. У 1909 г. 34 двары, 263 жыхары. З 8.4.1919 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай губ. РСФСР, з 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1926 г. хутары, 27 двароў, 133 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «За ўладу Саветаў», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 48 двароў, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Будскім с/с. У 1986 г. 21 гаспадарка, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя С.Дз.Пагодзіна (цэнтр — в. Буда). З 22.2.2001 г. ў Горскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МАСАЛЫКІ** — вёска ў Саўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад г. Горкі, 114 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Кушнераўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і

далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 33 гаспадаркі, 62 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы, 43 двары, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. в. Мазалыкі ў Аршанскім павеце. У 1784 г. ў складзе маёнтка Горкі ў Аршанскім павеце, 61 двор, 363 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У пач. 19 ст. ўваходзіла ў склад Горы-Горацкага маёнтка (да 1829). У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 53 двары, 332 жыхары, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 81 двор, 563 жыхары. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. сяляне ў снеж. 1905 г. адмовіліся ад выплаты падаткаў. У 1909 г. 88 двароў, 661 жыхар, млын, школа граматы. З 26.4.1919 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Сенькаўскім, з 21.8.1925 г. ў Шарыпскім сельсаветах. У 1926 г. хутары (92 двары, 502 жыхары) і пасёлак (9 двароў, 45 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Сталінскі заклік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. З 6.7.1954 г. ў Саўскім с/с. У 1986 г. 66 гаспадарак, 133 жыхары, у складзе калгаса імя М.І.Калініна. Малочна-таварная ферма, клуб, магазін. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАСЛАКІ** — вёска, цэнтр Маслакоўскага с/с, за 20 м на ПнЗ ад г. Горкі, 115 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Бася. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 252 гаспадаркі, 607 жыхароў (2007).

На паўн.-зах. ускраіне, на левым беразе р. Бася, на стрэлцы мыса, які меў нахіл у паўд. напрамку, знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, у вёсцы, за будынкам школы, на тэр. могілак — курганны могільнік (5 насыпаў). Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 17 ст. У сярэдзіне 17 ст. вёска ў Казловіцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 26 гаспадарак. У 1737 г. мелася драўляная царква. У 1771 г. 54 гаспадаркі, 321 жыхар. Паводле Ген. межавання Рас. імперыі (1784) сяло, 65 двароў, 586 жыхароў, уладанне С.Г.Зорыча. У 1830 г. засн. сукнавальня і гарбарня. Гаспадар маёнтка меў у 1855 г. 554,5 дзес. зямлі, карчму і млын. У 1885 г. 99 двароў, 558 жыхароў, вал. праўленне, школа (з 1875), бальніца, царква. Паводле перапісу 1897 г. вёска, цэнтр Маслакоўскай вол. Горацкага павета, паштовая станцыя, 4 хлебазапасныя магазіны, крама, 2 царквы. Непадалёк былі фальварак Маслакі (ён жа Ягараўск, 1 двор, 20 жыхароў), вадзяны млын, карчма (2 двары, 14 жыхароў) і царк. сядзіба (5 двароў, 13 жыхароў). У 1905 г. пачала дзейнічаць казённая вінная лаўка. У 1907 г. ў аднакласным нар. вучылішчы навучаліся 76 хлопчыкаў, 28 дзяўчынак. У 1909 г. 152 двары, 994 жыхары. Каля сяла знаходзіўся маёнтак (4 двары, 7 жыхароў), гаспадар якога валодаў 579 дзес. зямлі. Апрача земляробства сяляне займаліся калёсным, паравозным, шавецкім, бандарным і кавальскім промысламі, выраблялі розныя быт. рэчы з лыка, кары і дрэва. У 1909 г. засн. лесапільны з-д, на якім у 1913 г. працавалі 40 рабочых, меўся паравы рухавік. Першым старшынёй валвыканкома быў А.Драздоў — жыхар в. Кустоўка. У жн. 1918 г. валвыканком сумесна з прадстаўнікамі сял. беднаты размеркаваў паміж беззямельнымі і малазямельнымі ўраджай на былых памешчыцкіх землях. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1920 г. ў вёсцы 198 двароў, 1132 жыхары, у 27 гаспадарках займаліся рознымі промысламі. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 26.4.1919 г. цэнтр воласці Гомельскай, з 27.7.1922 г.

Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Копыскага, з 8.7.1931 г. Горацкага р-наў. У 1924 г. адкрыты хата-чытальня і б-ка. У школе ў 1925 г. было 127 вучняў, дзейнічаў харавы гурток. У 1926 г. сяло (215 двароў, 1113 жыхароў) і хутары (18 двароў, 89 жыхароў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», дзе працавала кузня, у 1932 г. аб'ядноўваў 65 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У цэнтры вёскі, у скверы, пахаваны 2 сав. воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі і сельсавета. 337 жыхароў Маслакоўскага с/с загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у 1958 г. ўстаноўлена стэла. У 1986 г. 261 гаспадарка, 776 жыхароў, цэнтр калгаса «Шлях Леніна». Цэнтр СВК «Маслакі».

У вёсцы свінагадоўчая і малочна-таварная фермы, млын, лесапільня, машынны двор з рамонтнай майстэрняй, зерняток, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, ветэрынарная лячэбніца, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, гандл. комплекс, сталовая, гасцініца, аўтаматычная тэлеф. станцыя, радыёвузел. Аснову планіровачнай структуры складаюць амаль прамалінейная вуліца (частка дарогі в. Паўна), якая арыентавана з ПдУ на ПнЗ і перпендыкулярная да яе вуліца з ламаным абрысам і арыентаваная з ПдЗ на ПнУ уздоўж р. Бася. Другарадныя праходзяць перпендыкулярна да гэтых вуліц. У цэнтр. частцы, на скрыжаванні асн. вуліц — грамадскі цэнтр. Побач узведзены 2-, 3-, 5-павярховыя мураваныя жылыя будынкі. Астатняя забудова драўляная, двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўн. ускраіне.

**МАСТАВЫ** — пасёлак у Паршынскім с/с, за 12 км на ПдУ ад г. Горкі, 111 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У ад вёскі цячэ р. Быстрая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паршына і далей па аўтадарозе Расна—Горкі. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях, у Кледнявіцкім с/с Дрыбінскага р-на. У 1926 г. 48 двароў, 273 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарская перамога». З 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах. У 1940 г. 60 двароў, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 60 двароў, загубілі 29 жыхароў. Вызвалены 26.6.1944 г. Пасля вайны адбудаваны. З 26.6.1954 г. ў Чурылаўскім с/с, з 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім, з 21.4.1978 г. ў Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 51 гаспадарка, 105 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя В.П.Чкалава. Авечкагадоўчая ферма, магазін. Вуліца ламанага абрысу арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЦЮТЫ** — вёска ў Добраўскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад г. Горкі, 75 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Галыша (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Слабодка і па іншых аўтадарогах праз г. Горкі. 131 гаспадарка, 332 жыхары.

Вядома з 17 ст. У 1683 г. 7 двароў, у складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1784 г. 20 двароў, 138 жыхароў. У 1785 г. в. Мацюкі ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 20 двароў, 132 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. в. Мацюты, 18 двароў, 113 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1880 г. 22 двары, 175 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горацкай вол. Горацкага павета, 31 двор, 212 жыхароў. У 1909 г. 39 двароў, 303 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Го-

рацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім, з 21.8.1925 г. ў Рэкценскім сельсаветах. У 1926 г. ў вёсцы 43 двары, 183 жыхары, на хутарах 28 двароў, 135 жыхароў. У канцы 1920-х г. арганізаваны саўгас «Мацюты», у якім меліся кузня, дзіцячыя яслі. 7.10.1935 г. саўгас ліквідаваны. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У 1940 г. 68 двароў, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі і поўнасцю спалена. Вызвалена 26.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў Панкратаўскім, з 18.2.1972 г. ў Добраўскім сельсаветах. У 1986 г. 76 гаспадарак, 164 жыхары, у складзе вучгаса БСГА. З 26.3.1987 г. ў Горацкім, з 13.6.2002 г. ў Добраўскім сельсаветах. Малочна-таварная ферма, майстэрня па рамонце с.-г. машын, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Аснову планіроўкі складаюць 2 вуліцы. Адна прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн. Перпендыкулярна да яе ў цэнтры праходзіць другая вуліца (частка дарогі на г. Горкі). На першай вуліцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца мураваныя грамадскія будынкі. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар, на паўд.-ўсх. — сад.

**МАШКОВА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 18 км на Пд ад г. Горкі, 82 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. Вакол лес, на З ад вёскі цячэ р. Касічка (прыток р. Дабранка). Транспартныя сувязі па мясц. дарогах, далей па аўтадарогах Горкі—Слабодка і Горкі—Дрыбін—Магілёў. 29 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Машкова ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1667 г. ў Аршанскім павеце. У 1683 г. с. Машкова, 35 двароў, дзярж. ўласнасць, у складзе маёнтка Горы. У 1777 г. с. Машкоўка ў Чавускім павеце. У 1785 г. 20 двароў, 181 жыхар, памешчыцкая ўласнасць. У 1845 г. 18 двароў, карчма. У 1880 г. 24 двары, 137 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары, а таксама калёсным і бандарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. с. Машкоў у Гарадзецкай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 258 жыхароў. У 1909 г. 35 двароў, 272 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ., з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол., з 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Дрыбінскага р-на. У 1926 г. 61 двор, 360 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі заклік». З 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не. З 20.6.1966 г. ў Панкратаўскім, з 18.2.1972 г. ў Добраўскім сельсаветах. У 1986 г. 69 гаспадарак, 143 жыхары, у складзе калгаса «Праўда». Размешчаны Добраўскае лясніцтва, малочна-таварная ферма, магазін. Вуліца ламанага абрысу арыентавана з Пд на Пн, забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІКОЛЕНКА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 24 км на ПнУ ад г. Горкі, 119 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі цячэ р. Дубраўка (прыток р. Мярэя). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Майсеева і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Мікулінка ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 10 двароў, 83 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Баеўскай вол. Горацкага павета, 19 двароў, 121 жыхар. У 1909 г. 18 двароў, 126 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай гу-

берняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 25 двароў, 160 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рабочы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 30 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 18 двароў. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах У 1986 г. 10 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе племзавода «Леніна». Вуліца ламанага абрысу арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІКОЛЬСК** — пасёлак у Копцеўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад г. Горкі, 81 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ ад вёскі цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Садок, Чурылава і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў.

Заснаваны ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с Дрыбінскага, з 8.7.1931 г. Горацкага, з 12.2.1935 г. зноў Дрыбінскага р-наў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 37 двароў, загубілі 18 жыхароў. Вызвалены 30.9.1943 г. воінамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудаваны. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Прамалінейная вуліца арыентавана з З на У. Забудова аднабаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**МІКУЛІНА** — вёска ў Горскім с/с, за 10 км на У ад г. Горкі, 137 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З ад вёскі цячэ р. Лебядзёўка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лебядзёва і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 77 гаспадарак, 203 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1647 г. 4 двары, у 1683 г. 17 двароў. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы Чавускага павета, 18 двароў, 187 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1840 г. 32 двары, 137 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горскай вол. Чавускага павета, 34 двары, 284 жыхары. Меліся 3 ветраныя млыны. У 1909 г. 37 двароў, 307 жыхароў, млын, хлебазапасны магазін. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. і з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1926 г. хутары (37 двароў, 198 жыхароў) і пасёлак (17 двароў, 84 жыхары). У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Поўнасцю была спалена гітлераўцамі (знішчаны 88 двароў). Вызвалена 30.9.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. На ўшанаванне памяці 91 земляка з вёсак былога калгаса «Сцяг камунізму», у т.л. 38 жыхароў в. Мікуліна, якія загінулі на франтах, у 1975 г. насупраць клуба пастаўлены абеліск. Пасля вайны вёска адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Будскім с/с. У 1986 г. 86 гаспадарак, 274 жыхары, у складзе калгаса імя С.Дз.Пагодзіна. Машынны двор, малочна-таварная ферма, магазін, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, дом рамёстваў, дом нар. творчасці. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Мікуліна. Пларіровачна складаецца з паўн. і паўд. частак. Паўн. частка мае П-падобную планіроўку. Адна вуліца з'яўляецца часткай дарогі на г. Горкі і арыентавана з У на З. Тут сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Ад яе на Пд адыходзяць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы.

Паўд. частка складаецца з працяглай вуліцы ламанага абрысу, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Паміж гэтымі часткамі размяшчаецца вытв. сектар. Забудова двухбаковая, у паўн. частцы шчыльная, у паўд. няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАВІЧЫ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад г. Горкі, 119 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Лімна (прыток р. Бася). На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Альхоўка, Засценкі і далей па шашы. 25 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1784 г. вёска у Копыскім павеце, 31 двор, 315 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. Непадалёк быў фальварак і 2 млыны. У 1845 г. ў складзе казённага маёнтка Міхайлавічы Чавускага павета, 34 двары, 239 жыхароў. У 1895 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 61 двор, 389 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным промыслам і вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1909 г. вёска (66 двароў, 437 жыхароў) і ферма (10 двароў, 65 жыхароў). Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918 г. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 49 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 17.7.1924 г. ў Копыскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Маслакоўскім с/с. У 1926 г. 98 двароў, 529 жыхароў. У 1929 г. створана камсамольская ячэйка, арганізаваны калгас «Калгаснік Беларусі», які першапачаткова аб'ядноўваў 29 гаспадарак, меў кузню. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 85 гаспадарак, 196 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Маслакі). Размешчаны малочна-таварная ферма, зерняток, магазін. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЯДЗВЕДЗЕВА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 13 км на ПдУ ад г. Горкі, 111 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У ад вёскі цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Расна—Горкі. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Мядзведкава, у складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв. 17 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1784 г. ў Чавускім павеце, 38 двароў, 340 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1750 г. ў складзе маёнтка Горкі Мсціслаўскага павета Мсціслаўскага ваяв., 29 двароў, 134 жыхары, прыватнафеад. ўласнасць. У 1777 г. с. Мядзведзеў у Чавускім павеце. У 1880 г. 67 двароў, 428 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горскай вол. Чавускага павета, 77 двароў, 630 жыхароў. Меўся вадзяны млын. У 1907 г. ў земскай школе навучалася 48 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1909 г. 74 двары, 658 жыхароў, млын. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 83 вучні. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ., з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Дрыбінскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кледнявіцкім с/с. З 8.7.1932 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Чурылаўскім с/с. У 1928 г. 168 жыхароў. У 1931 г. арганізавана жывёлагадоўчае т-ва і калгас «Пралетарская перамога» (39 гаспадарак, 362,7 га сельгасугоддзяў). У 1940 г. 76 двароў, 374 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 72 жыхароў. Вызвалена 25.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не,

з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім, з 22.11.1983 г. ў Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 60 гаспадарак, 112 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя В.П.Чкалава. Малочна-таварная ферма. Арыентаваная з Пд на Пн вуліца плаўнага абрысу расчлянёна завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЯДЗВЁДАЎКА** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад г. Горкі, 83 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Студзянец, Чурылава і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 28 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1750 г. вёска ў складзе маёнтка Горкі Мсціслаўскага павета, прыватнафеад. ўласнасць. 16 двароў, 92 жыхары. У 1772 г. 20 двароў, 177 жыхароў, у Чавускім павеце, дзярж. ўласнасць. У 1850 г. 30 двароў, 258 жыхароў, у Мсціслаўскім павеце. У 1880 г. 34 двары. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 50 двароў, 305 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім промыслам. У 1909 г. 50 двароў, 373 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 17.7.1924 г. ў Дрыбінскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кледнявіцкім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 45 двароў, 232 жыхары, на хутарах 31 двор, 167 жыхароў. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя ўсходы», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. Адначасова з пач. школай, дзе вучыліся дзеці, дзейнічала школа для малапісьменных дарослых. У 1940 г. 70 двароў, 339 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 50 жыхароў. Вызвалена 2.10.1943 г. воінамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 26.6.1954 г. ў Чурылаўскім с/с, з 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не. З 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 108 жыхароў, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. Складаецца з падзеленых ручаём зах. і ўсх. частак. Амаль прамалінейная, агульная для абодвух частак вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на У адыходзяць кароткія другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На У гасп. сектар.

**НАПРАСНАЎКА** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 24 км на З ад г. Горкі, 119 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і Пн ад вёскі цячэ р. Лімна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Альхоўка, Засценкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Орша—Кіеў. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Краснаўка ў Копыскім павеце. У 1880 г. 30 двароў, 125 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1885 г. аколіца Нова-Напраснаўка. Паводле перапісу 1897 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 27 двароў, 181 жыхар, малітоўная школа. У 1909 г. 228 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР 1924 г. ў Маслакоўскім с/с Копыскага, з 8.7.1931 г. Горацкага р-наў. У 1924 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 46 вучняў. У 1926 г. 49 двароў, 203 жыхары. У гэтым жа годзе створана с.-г. т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак. У 1940 г. 30 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1942 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 240 жыхароў (пахаваны за 1 км на З ад вёскі). Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 20 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Планіровачна складаецца з паўд. (арыентавана з З на У) і паўн. (ары-

ентавана з Пд на Пн) вуліц. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НЕЖКАВА** — вёска ў Рэкценскім с/с, за 6 км на Пн ад Горак, 109 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З ад вёскі цячэ ручай (прыток р. Парасіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шышова і далей па шашы Горкі—Орша. 29 гаспадарак, 46 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. с. Мешкава ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1609 г. с. Нешкава ў складзе маёнтка Шышова, у 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. 32 двары, дзярж. ўласнасць. У канцы 18 ст. ў складзе маёнтка Горкі, у Аршанскім павеце, 46 двароў, 340 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета, 70 двароў, 616 жыхароў. У 1909 г. 78 двароў, 640 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім сельсаветах. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 118 двароў, 773 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», які меў ветраны млын, у 1932 г. аб'ядноўваў 68 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. 30 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 62 гаспадаркі, 115 жыхароў. Зараз у складзе аграгандл. прадпрыемства «Горацкае». Свінагадоўчая ферма. Планіроўка набліжана да прамавугольнай. Яе аснову складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Паміж імі — папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НІВІШЧЫ** — вёска ў Паршынскім с/с, за 5 км на ПдУ ад г. Горкі, 100 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. На Пн і З ад вёскі цячэ ручай (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Расна—Горкі, якая праходзіць праз вёску. 69 гаспадарак, 182 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы 25 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 30 двароў, 205 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1840—46 гг. ў складзе вучэбнай гаспадаркі Горы-Горацкай земляробчай школы. У 1886 г. адкрыта школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Горскай вол. Чавускага павета, 56 двароў, 398 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 53 двары, 404 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1925 г. ў вясковай школе 1-й ступені, створанай пасля рэвалюцыі на базе земскай, было 129 вучняў, у ліку якіх 1 камсамолец і 40 піянераў. У 1926 г. 78 двароў, 471 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Адказ шкоднікам» (потым імя В.П.Чкалава), які меў кузню. У 1932 г. аб'ядноўваў 59 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 6.7.1954 г. ў Будскім, з 20.6.1966 г. зноў у Паршынскім с/с. У 1986 г. 95 гаспадарак, 254 жыхары, у складзе вучгаса БСГА (цэнтр — г. Горкі). 26.3.1987—13.6.2002 г. ў Горацкім с/с. Машынны двор, малочнатаварная ферма, магазін, пач. школа, клуб. Гал. вуліца з'яўляецца часткай шашы і арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе па абодва бакі адыходзяць другарадныя вуліцы. У цэнтры гал. вуліцы размешчаны грамадскія будынкі. Жылая забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НІКАДЗІМАВА** — вёска ў Горскім с/с, за 12 км на У ад г. Горкі, 145 км ад

Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Быстрая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 44 гаспадаркі, 76 жыхароў (2007).

За 1,2 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Быстрая, размешчана гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1785 г. сяльцо, у складзе маёнтка Горы Чавускага павета, памешчыцкая ўласнасць, меліся млын і сукнавальня. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты, у 1840—44 гг. — Горы-Горацкай земляробчай школы. У 1857 г. в. Нікадзімаў у Чавускім павеце, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Нікадзімава Вялікае (23 двары, 166 жыхароў) і Нікадзімава Малое (яна ж Дуброва, 6 двароў, 40 жыхароў) у Горскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Непадалёк быў хутар (5 двароў, 41 жыхар). У 1909 г. ў Вялікім Нікадзімаве 23 двары, 170 жыхароў, у Малым Нікадзімаве 6 двароў, 42 жыхары, на хутары 4 двары, 49 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. У 1926 г. 44 двары, 256 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Першамайскі №1», дзе працавала кузня, у 1932 г. аб'ядноўваў 55 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 60 двароў. 363 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 50 двароў. Вызвалена 30.9.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 36 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 66 гаспадарак, 177 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова. Свінагадоўчая ферма. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Другая невялікая вуліца праходзіць паралельна на У ад галоўнай. Гэтыя вуліцы злучаны папярочнымі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЁНКА** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 20 км на З ад г. Горкі, 112 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн ад вёскі цячэ р. Паўна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 30 гаспадарак, 61 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Палонка ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У канцы 18 ст. ў складзе маёнтка Сялец Копыскага павета, 26 двароў, 273 жыхары, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 37 двароў, 240 жыхароў. У 1909 г. 35 двароў, 278 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр Палёнкаўскага с/с, з 21.8.1925 г. ў Ліхачоўскім с/с. На могілках пахаваны 4 члены вясковага к-та беднаты, забітыя бандытамі ў час сял. сходу 21.7.1924 г. У 1926 г. 71 двор, 423 жыхары. З 24.9.1926 г. зноў цэнтр сельсавета. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт», мелася кузня. З 1931 г. ў Ліхачоўскім с/с. У студз. 1936 г. каля вёскі была арганізавана Ліхачоўская МТС, якая абслугоўвала калгасы Ліхачоўскага, Шарыпскага і Рэкценскага сельсаветаў, а пазней і гаспадаркі Маслакоўскага, Рудкаўшчынскага, Любіжскага сельсаветаў. У 1940 г. 92 двары, 447 жыхароў (2007). У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З кастр. 1941 г. да ліст. 1942 г. ў вёсцы дзейнічала група падпольшчыкаў пад кіраўніцтвам Ф.М.Дзям'янава (уваходзіла ў Горацкае антыфаш. падполле). 20.8.1942 г. партызаны брыгады «Звязда» (камандзіра М.І.Іўлеў) разграмілі ў вёсцы вал. ўправу акупантаў. Двойчы (у сак. і вер. 1943) гітлераўцы поўнасцю палілі вёску, загубілі 21 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахавана 15 сав. воінаў, якія загінулі ў баях суп-

рацъ гітлераўцаў у 1944 г. 56 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У цэнтры вёскі, каля брацкай магілы, на бетоннай сцяне пазначаны 173 прозвішчы жыхароў вёсак Грывец, Кукшынава, Ліхачова, Палёнка, Паўна, Тушавая, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў на франтах і ў партыз. барацьбе. Вызвалена 26.6.1944 г. З 6.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1986 г. 67 гаспадарак, 140 жыхароў, цэнтр сельсавета (у якім 10 вёсак), у складзе калгаса «XVII партз'езд». З 1987 г. ў Аўсянкаўскім с/с. Магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Гал. вуліца крывалінейнага абрысу арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Паралельна да яе на ПдЗ праходзіць невялікая прамалінейная вуліца. У цэнтры гал. вуліцу расчляняе дарога. Тут размешчаны грамадскія будынкі. Жылая забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЛІШЫНА** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад г. Горкі, 154 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У ад вёскі цячэ р. Гародня (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ходараўка, Стараселле і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Гарадзец Аршанскага павета, 29 двароў, 198 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 27 двароў, 276 жыхароў, меўся піцейны дом. У снеж. 1905 г. вяскоўцы правялі самавольную парубку лесу, які належаў памешчыку. У 1909 г. 30 двароў, 272 жыхары, меўся млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ходараўскім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах. У 1926 г. 48 двароў, 270 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 46 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 25 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. У 1986 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь». Вуліца плаўнага абрысу арыентавана з ПнЗ на ПдУ уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма бел. сав. літаратуразнаўца А.Ф. Каршунова (н. 4.3.1924).

**ПАЛЯШЧЫЦЫ** — вёска ў Паршынскім с/с, за 8 км на ПдУ ад г. Горкі, 106 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 43 гаспадаркі, 72 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. с. Палашыцы ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1609 г. сяло ў складзе маёнтка Шышова, у 1622 г. — маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы 29 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў складзе маёнтка Горкі, у Мсціслаўскім павеце Мсціслаўскага ваяв., 49 двароў, 226 жыхароў, прыватнафеад. ўласнасць. У 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 39 двароў, 372 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У пач. 19 ст. вёска ў складзе Горы-Горацкага маёнтка (да 1829), у 1840—46 гг. у складзе вучэбнай гаспадаркі Горы-Горацкай земляробчай школы. У 1840 г. ў Чавускім павеце, 46 двароў, 310 жыхароў. Паводле 1897 г. сяло пры паштовым тракце Горкі—Мсціслаў, 74 двары, 506 жыхароў, у Горскай вол. Чавускага павета. Меўся ветраны млын. У 1909 г. 81 двор, 591 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губер-

нях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У вёсцы размяшчалася Лебядзёўская прац. школа 1-й ступені, якая была створана на базе дарэв. земскай. У 1925 г. ў школе было 59 вучняў. У 1926 г. хутары, 111 двароў, 680 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які меў ветраны млын і кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 90 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 120 двароў, 383 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 6.7.1954 г. ў Будскім, з 20.6.1966 г. зноў у Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 84 гаспадаркі, 153 жыхары, у складзе племсаўгаса імя В.П.Чкалава. Авечкагадоўчая ферма, магазін. Планіровачную аснову складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн. Паміж імі папярочныя, кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАНКРАТАЎКА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 10 км на Пд ад г. Горкі, 105 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Галыша (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Слабодка, якая праходзіць побач з вёскай. 47 гаспадарак, 80 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. сяло ў Віцебскім ваяв., у складзе маёнтка Горы, 29 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. с. Панкратава ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 25 двароў, 198 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 32 двары, 216 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, калёсным, бандарным і рамізніцкім промысламі. Паводле 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета, 43 двары, 322 жыхары, ветраны млын, школа граматы. У 1909 г. 53 двары, 414 жыхароў, земская школа. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол., з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр Панкратаўскага с/с. У 1926 г. вёска (48 двароў, 290 жыхароў) і хутары (35 двароў, 194 жыхары). У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1932 г. адкрыты дзіцячыя яслі, у 1933 г. — хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 50 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. З 18.2.1972 г. ў Добраўскім с/с. У 1986 г. 75 гаспадарак, 189 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда». Малочна-таварная ферма, магазін, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа. Гал. вуліца крывалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. На Пд ад яе, на другім беразе ракі адасоблены ўчастак забудовы. На гал. вуліцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца грамадскія будынкі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, няшчыльна. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ПАПКОЎКА** — вёска ў Рэкценскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Горак, 102 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ульяшына і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Упершыню згадваецца ў 1683 г. як слабада Папоўка ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1785 г. 6 двароў, 77 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горацкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 181 жыхар. У 1909 г. 29 двароў, 201 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў

РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Сенькаўскім, з 21.8.1925 г. ў Рэкценскім, з 24.9.1926 г. зноў у Сенькаўскім сельсаветах. У 1926 г. 35 двароў, 193 жыхары. З 1931 г. зноў у Рэкценскім с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. На вясковых могілках пахаваны сав. лётчык Дз.К. Крыўчакаў і жыхарка вёскі Е.Е.Яфімава, якія былі забіты гітлераўцамі ў ліп. 1941 г. У 1986 г. 35 гаспадарак, 67 жыхароў, у складзе аграгандл. прадпрыемства «Горацкае». Вуліца ламанага абрысу арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАРШЫНА** — вёска, цэнтр Паршынскага с/с, за 7 км на ПдУ ад г. Горкі, 101 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Крывая (прыток р. Проня), на ўсх. ускраіне сажалка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Расна, якая праходзіць праз вёску. 232 гаспадаркі, 641 жыхар (2007).

За 0,3 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік (2 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. 47 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. с. Паршын у Чавускім павеце. У 1785 г. 46 двароў, 325 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1840 г. 42 двары, 252 жыхары. Паводле перапісу сяло ў Горскай вол. Чавускага павета, 70 двароў, 545 жыхароў. У 1909 г. 69 двароў, 510 жыхароў, млын, нар. вучылішча. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 49 двароў, 257 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Прамень», які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1932 г. пабудавана новая школа. У 1940 г. 97 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. Пасля вайны вёска адбудавана. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 114 сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г. Сярод пахаваных воіны 173-й, 344-й, 352-й, 390-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях на рубяжы р. Проня. 255 землякоў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, 4 расстраляны карнікамі. На ўшанаванне іх памяці на ўсх. ускраіне вёскі ў 1968 г. пастаўлена стэла. З 6.7.1954 г. ў Будскім с/с, з 20.6.1966 г. зноў цэнтр сельсавета. У 1986 г. 186 гаспадарак, 543 жыхары, цэнтр племсаўгаса імя В.П.Чкалава.

Цэнтр РУП «Вучэбна-вопытная гаспадарка Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі». У вёсцы малочнатаварная і свінагадоўчая фермы, лесапільня, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, машынны двор, клуб, 2 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы. Гал. з іх з'яўляецца часткай шашы, арыентавана з Пд на Пн і мае ламаны абрыс. У цэнтр. частцы гал. вуліцы грамадскі цэнтр — невялікая прамавугольная плошча, вакол якой узведзены мураваныя грамадскія і жылыя будынкі (у 1 і 2 паверхі). Забудова іншых вуліц двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне вытв. сектар.

**ПАТАШЫ** — вёска, у Саўскім с/с, за 17 км на Пн ад г. Горкі, 115 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ ручай (прыток р. Парасіца).

Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1772 г. 15 двароў, 124 жыхары, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. в. Поташа ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. в. Поташ у складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, 19 двароў, 107 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 18 двароў, 116 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1906 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 31 двор, 258 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол., з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1925 г. ў Шарыпскім сельсаветах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 84 вучні. У 1926 г. вёска (30 двароў, 168 жыхароў) і хутары (17 двароў, 114 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 53 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 32 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1986 г. 25 гаспадарак, 63 двары, у складзе калгаса імя М.Горкага. З 26.3.1987 г. ў Саўскім с/с. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 прамалінейныя, амаль паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Паміж імі — папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЎНА** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад г. Горкі, 112 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і Пд ад вёскі цячэ р. Паўна, на З — яе прыток р. Калужанка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Зубры і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 56 гаспадарак, 152 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У сярэдзіне 17 ст. вёска ў Шарсціслаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 15 гаспадарак. У 1777 г. в. Поўна ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Маслакі, 24 двары, 174 жыхары, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 23 двары, 136 жыхароў, непадалёку фальварак Паўна (ён жа Аляксандраўка), 3 двары, 28 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1909 г. 21 двор, 134 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Палёнкаўскім, з 21.8.1925 г. ў Ліхачоўскім сельсаветах. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 43 двары, 243 жыхары. З 24.9.1926 г. ў Палёнкаўскім, з 1931 г. зноў у Ліхачоўскім сельсаветах. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі. Дзейнічала пач. школа. У 1940 г. 49 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 11 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 31 вясковец. З 6.7.1954 г. ў Палёнкаўскім с/с. У 1986 г. 69 гаспадарак, 197 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, машынны двор, збожжасушыльная ўстаноўка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка з фондам больш за 13 тыс. кніг, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячы сад, Дом культуры. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з З на У. Сярод жылой забудовы размяшчаюцца мураваныя грамадскія будынкі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Забудова двухбаковая, шчыльная. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ПЕРАМОЖНАЯ** (да 30.7.1964 Паўзухі) — вёска ў Ленінскім с/с, за 20 км на ПнУ ад г. Горкі, 115 км ад Магілёва, 22 км

ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Мярэя (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Леніна—Горкі. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. с. Паўзухі (20 двароў) у складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. сяло ў Аршанскім павеце. У 1785 г. 21 двор, 190 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Баеўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 212 жыхароў. У 1909 г. 28 двароў, 234 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 49 двароў, 270 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Свабода», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 30 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі. Вызвалена 23.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 23 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1986 г. 18 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе племзавода «Леніна». Планіроўка Г-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе паўн. боку адыходзіць на Пн другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШЫНО** — вёска ў Горскім с/с, за 24 км на У ад г. Горкі, 154 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Гародня (прыток в. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Гарадзец, 29 двароў, 227 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У канцы 18 ст. 32 двары, 281 жыхар. У 1848 г. ў Аршанскім павеце, у складзе маёнтка Сцефанова, 28 двароў, 211 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. ў Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 396 жыхароў. У снеж. 1905 г. вяскоўцы праводзілі самавольную парубку памешчыцкага лесу. У 1909 г. 54 двары, 432 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ходараўскім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах. У 1926 г. 80 двароў, 433 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Першамайскі», які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Дзейнічала школа для малапісьменных. У 1940 г. 66 двароў, 202 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 46 двароў. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 63 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны адбудавана. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. У 1986 г. 39 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь». Свінагадоўчая ферма, магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Паміж імі — папярочная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПНЕЎШЧЫНА** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад г. Горкі, 77 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Па паўд. ускраіне цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чурылава і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 28 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца ў 1683 г. як вёска ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1750 г. 15 двароў, 84 жыхары, прыватнафеад. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 40 двароў, 279 жыхароў. У 1909 г. 39 двароў, 226 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў

Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с Дрыбінскага р-на, з 1931 г. цэнтр гэтага сельсавета, з 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 57 двароў, 320 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які меў кузню, у 1932 г. аб'ядноўваў 52 гаспадаркі. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. Да вёскі ў 1940 г. далучаны пас. Дубовае Балота. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 65 гаспадарак, 146 жыхароў, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Свінагадоўчая і малочна-таварная фермы, магазін. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн. Ад яе перпендыкулярна адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўд.-ўсх. ускраіне.

**ПУПЛЫ** — вёска ў Паршынскім с/с, за 9 км на ПдУ ад г. Горкі, 106 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паршына і далей па аўтадарозе Горкі—Расна. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. слабада Пуплы ў складзе маёнтка Горы, 9 двароў. У 1784 г. сяльцо, жыхароў не было. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце. З 1840 г. ў складзе вучэбнай гаспадаркі Горы-Горацкай земляробчай школы (з 1848 інстытут). Памешчык у 1870 г. меў тут 456 дзес. зямлі, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Горскай вол. Чавускага павета, 4 двары, 47 жыхароў, ветраны млын. Непадалёк быў аднайменны фальварак, 3 двары, 23 жыхары, вадзяны млын, сукнавальня. У 1909 г. вёска (5 двароў, 45 жыхароў) і фальварак (3 двары, 17 жыхароў). З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім сельсаветах. У 1926 г. фальварак (10 двароў, 47 жыхароў) і калонія (10 двароў, 56 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 95 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 30 двароў, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 26.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 6.7.1954 г. ў Будскім, з 20.6.1966 г. зноў у Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя В.П.Чкалава. На Пн вёскі авечкагадоўчы комплекс. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Ад яе на З адыходзіць другарадная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЯСОЧНЯ** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад г. Горкі, 76 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ ручай (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 69 гаспадарак, 197 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1742 г. с. Пясечна ў Копцеўскай вол. Паводле Ген. межавання Рас. імперыі ў 1784 г. сяло ў Мсціслаўскім павеце, 19 двароў, 162 жыхары. Памешчык у 1870 г. меў тут 948 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 22 двары, 175 жыхароў. У 1909 г. 28 двароў, 186 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 17.7.1924 г. ў Дрыбінскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с. У 1926 г. 46 двароў, 245 жыхароў, з 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 4.10.1943 г. воінамі Зах. фронту. 14

вяскоўцаў загінулі на франтах. З 16.9. 1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с у складзе саўгаса «Копцеўскі». Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад паўн. боку галоўнай на У адыходзіць другарадная невялікая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАВЯЧЫНА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 9 км на Пд ад г. Горкі, 104 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паршына і далей па аўтадарозе Горкі—Расна. 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1595 г. с. Равяцічы Малыя, 1 двор, уласнасць Саколінскага касцёла. У 1683 г. слабада Равякі, у складзе маёнтка Горы, 9 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў Мсціслаўскім павеце, 10 двароў, 28 жыхароў, прыватнафеад. ўласнасць. У 1777 г. в. Равятня ў Чавускім павеце. У 1785 г. в. Равякі, 13 двароў, 84 жыхары. У пач. 19 ст. ў складзе Горы-Горацкага маёнтка (да 1829). У 1845 г. 11 двароў, 46 жыхароў. У 1880 г. 18 двароў, 111 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета, 23 двары, 154 жыхары. У 1909 г. 28 двароў, 202 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім сельсаветах. У 1926 г. 32 двары, 180 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 6.7.1954 г. ў Панкратаўскім, з 20.6.1966 г. зноў у Паршынскім с/с. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 100 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя В.П.Чкалава. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАДЗІВОНАЎКА** — вёска ў Саўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад г. Горкі, 109 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Проня, на Пд яе прыток — ручай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 26 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. в. Радзівонаўская Слабада ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1668 г. сяло ў складзе маёнтка Сялец. У 1683 г. 12 двароў, у складзе маёнтка Горы, дзярж. ўласнасць. У 1772 г. 17 двароў, 134 жыхары. У 1785 г. 22 двары, 145 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. 21 двор, 134 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. в. Радзівонаўка ў Саўскай вол. Горацкага павета, 31 двор, 239 жыхароў. У 1909 г. 36 двароў, 292 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Аршанскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Рудкаўшчынскім с/с. У 1926 г. аднайменныя вёска (58 двароў, 320 жыхароў) і пасёлак (14 двароў, 84 жыхары), побач хутар Радзівонава (5 двароў, 26 жыхароў). З 5.4.1935 г. ў Горацкім р-не. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная Проня». Выбраны ў 1935 г. старшынёй гэтага калгаса Ф.С.Касянкоў быў у 1936 г. забіты ворагамі калгаснага ладу. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Саўскім с/с. У 1986 г. 65 гаспадарак, 142 жыхары, у складзе калгаса імя І.У.Мічурына. Малочна-таварная ферма, клуб, магазін. Гал., плаўнага абрысу вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Ад яе перпендыкулярна адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДКАЎШЧЫНА** — вёска, цэнтр Рудкаўшчынскага с/с, за 22 км на ПнЗ ад Горак, 80 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. прыпынку Зубры і 25 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд і У ад вёскі цячэ р. Бася (прыток р. Проня), на Пд вёска мяжуе з

лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Орша—Горкі, якая праходзіць праз вёску. 132 гаспадаркі, 291 жыхар (2007).

Упершыню згадваецца ў 1683 г. як слабада ў складзе маёнтка Горы ў Віцебскім ваяв., 1 двор, дзярж. ўласнасць. У 1772 г. засценак, 4 двары, 14 жыхароў. У 1784 г. 1 двор, 6 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У канцы 18 ст. сяльцо (7 жыхароў) у складзе маёнтка Горы, у Аршанскім павеце. У вайну 1812 г. французы абрабавалі вёску, а таксама вінакурны з-д, млын і карчму. У 1844 г. 5 гаспадарак. Гаспадар маёнтка меў тут у 1875 г. 158 дзес. зямлі. Паштовая станцыя пры тракце Орша—Клімавічы—Касцюковічы ў 1880 г. мела 8 коней. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 68 жыхароў. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918 г. У хуткім часе быў створаны к-т беднаты, які дапамагаў мясц. Савету. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Аршанскім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. сяльцо Рудкаўшчына (яно ж Сталыпінскі хутар), 19 двароў, 92 жыхары і хутары (9 двароў, 46 жыхароў). У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Рудкаўшчына». З 5.4.1935 г. ў Горацкім р-не. У канцы 1930-х г. праз вёску прайшла шаша, была пабудавана сярэдняя школа, меліся б-ка і стадыён. У 1940 г. 103 двары, 618 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 13 двароў, загубілі 32 жыхароў і 360 вывезлі на прымусовую працу ў Германію. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. На паўд. ускраіне, каля шашы, у брацкай магіле пахаваны 12 сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г. На франтах загінулі 53 вяскоўцы. Каля будынка выканкома сельсавета на ўшанаванне памяці 112 землякоў з вёсак Рудкаўшчына, Валаўцы, Казлы, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1968 г. пастаўлены абеліск. У 1986 г. 178 гаспадарак, 380 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна. Машынны двор, малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, магазін, аддз. сувязі, базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіроўка набліжана да прамавугольнай. Гал. вуліца (адрэзак шашы) арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе на Пн пад вуглом адыходзіць другая вуліца, ламанага профілю. Перпендыкулярна і пад вуглом гэтыя вуліцы перакрыжоўваюцца другараднымі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Асн. грамадскія будынкі размяшчаюцца па абодва бакі галоўнай вуліцы ў месцы яе перакрыжавання з паўночнай. На ПнЗ вытв. сектар.

У склад Рудкаўшчынскага с/с уваходзяць 6 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага сельсавета існавала в. Слабада.

**РУДНЯ** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад в. Горкі, 77 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Лядня (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1742 г. сяло ў Копцеўскай вол. Паводле Ген. межавання Рас. імперыі ў 1784 г. у складзе маёнтка Копцеўка, 15 двароў, 114 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць, меўся млын. У 1858 г. у Горацкім павеце, 70 рэвізскіх душ, памешчыцкая ўласнасць. Памешчык меў тут у 1868 г. 1346 дзес. зямлі. У 1871 г. засн. сукнавальня, у 1891 г. вінакурны з-д (у 1895 — 6, у 1913 — 13 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 23 двары, 144 жыхары. У 1909 г. 23 двары, 180 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 17.7.1924 г. ў Дрыбінскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с. У 1926 г. 40 двароў, 190 жыхароў. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1930 г. арганізаваны кал-

гас «Новы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Вуліца плаўнага абрысу арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЭКАТКА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 19 км на Пд ад г. Горкі, 78 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На У ад вёскі цячэ р. Касічка (прыток р. Дабранка). На Пд, З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Добрая і далей па аўтадарозе Горкі—Слабодка. 39 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Рэкатка ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. дзярж. ўласнасць. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 19 двароў, 162 жыхары, памешчыцкая ўласнасць, меліся млын і сажалка. У 1845 г. 24 двары, 88 жыхароў, карчма. У 1880 г. 49 двароў, 255 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 55 двароў, 442 жыхары, школа граматы. Непадалёку быў аднайменны вадзяны млын (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. 58 двароў, 456 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім, з 21.2.1925 г. ў Ходараўскім, з 21.8.1925 г. ў Панкратаўскім сельсаветах. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва, адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. вёска (59 двароў, 316 жыхароў) і хутары (26 двароў, 137 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Праўда», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З кастр. 1941 г. да ліст. 1942 г. ў вёсцы дзейнічала падп. арг-цыя (кіраўнік Я.Е.Дзмітрыеў, уваходзіла ў Горацкае антыфаш. падполле). Вызвалена 26.6.1944 г. На вясковых могілках пахаваны 5 партызан брыгады «Звязда», якія загінулі ў баях супраць акупантаў у студз. 1943 г. З 18.2.1972 г. ў Добраўскім с/с. У 1986 г. 64 гаспадаркі, 139 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда». Малочна-таварная ферма, клуб. Крывалінейнага абрысу вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На Пд ад гал. вуліцы, на другім беразе ракі — адасобленая частка забудовы. Дамы пастаўлены двухбакова, няшчыльна, драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма бел. сав. пісьменніка Г.М.Шчарбатава (7.5.1919—2.2.1957).

**РЭКТА** — вёска, цэнтр Рэкценскага с/с, за 5 км на ПнЗ ад Горак, 100 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і З ад вёскі цякуць ручаі (прытокі р. Проня). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Орша—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 217 гаспадарак, 647 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць У 1609 г. ў складзе маёнтка Шышова, у 1622 г. — маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы, 20 двароў. У 1777 г. ў Аршанскім павеце. У 1785 г. 61 двор, 353 жыхары. У вайну 1812 г. абрабавана французскімі войскамі. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 67 двароў, 476 жыхароў. У 1904 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 80 двароў, 617 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Сма-

ленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. быў 71 вучань. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. хутары, 103 двары, 574 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны асветнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі ўсе грамадскія пабудовы, знішчылі калгасную тэхніку і с.-г. інвентар. 26.6.1944 г. вызвалена воінамі 2-га Бел. фронту. У цэнтры вёскі, каля школы, пахаваны 10 сав. воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. У 1986 г. 201 гаспадарка, 521 жыхар, цэнтр аграгандл. прадпрыемства «Горацкае».

Цэнтр УКСП «Горацкае». У вёсцы машынны двор з майстэрняй, малочна-таварная ферма, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, базавая школа, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячы сад-яслі. Аснову планіроўкі складаюць 3 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн. Ад паўд. канца сярэдняй вуліцы пад вуглом на ПдЗ і ПдУ адыходзяць яшчэ 2 вуліцы. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі, на ПнУ, каля школы, мураваныя адм. будынак і 1—2-павярховыя дамы. Астатняя забудова драўляная, сядзібнага тыпу, пастаўлена двухбакова, шчыльна. Вытв. сектар на ўсх. і паўд. ускраінах.

**САВА** — вёска, цэнтр Саўскага с/с, за 15 км на ПнЗ ад г. Горкі, 107 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З ад вёскі цячэ р. Проня (прыток Сожа). На ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Орша—Горкі, якая праходзіць праз вёску. 167 гаспадарак, 371 жыхар (2007).

Вядома з 1303 г. як сяло. У 1495 г. с. Сова ўпамінаецца ў сувязі з размежаваннем маёнткаў. У 1668 г. с. Савы ў складзе маёнтка Сялец у Аршанскім павеце. У 1683 г. 17 двароў, у складзе маёнтка Горы, дзярж. ўласнасць У 1785 г. памешчыцкая ўласнасць, 51 двор, 320 жыхароў, царква, млын. У вайну 1812 г. каля вёскі дзейнічаў атрад Дз.Давыдава. У 1885 г. 43 двары, 280 жыхароў, цэнтр воласці Горацкага павета, вадзяны млын, нар. вучылішча, драўляная царква. У 1889 г. ў школе навучаліся 22 хлопчыкі і 7 дзяўчынак, у 1902 г. — 64 хлопчыкі і 5 дзяўчынак. Паводле перапісу 66 двароў, 427 жыхароў. Адзін раз на год праводзіўся таржок. Непадалёк былі аднайменныя выселак (4 двары, 38 жыхароў), калонія (2 двары, 7 жыхароў, піцейны дом), яшчэ адна калонія (3 двары, 22 жыхары, 2 хлебазапасныя магазіны) і хутар (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. 71 двор, 525 жыхароў, царква, казённая вінная лаўка, хлебазапасны магазін, вучылішча, млын. На выселку 3 двары, 32 жыхары. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1818 г. У хуткім часе быў выбраны вал. Савет рабочых, сял. і чырвонаармейскіх дэпутатаў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Сенькаўскім, з 21.8.1925 г. ў Шарыпскім сельсаветах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 110 вучняў, для школы былі выдзелены 3 дзес. зямлі. У 1926 г. аднайменныя вёска (134 двары, 660 жыхароў), выселкі (12 двароў, 50 жыхароў), калонія (8 двароў, 31 жыхар). У 1920-я г. дзейнічала с.-г. арцель, а ў 1929 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўсх. ускраіне ў брацкай магіле пахаваны 3 сав. воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. З 6.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1986 г. 192 гаспадаркі, 46 жыхароў, цэнтр калгаса імя І.У.Мічурына. У вёсцы мехдвор, дом механізатара, малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, сярэдняя школа, клуб, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва,

фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца (частка шашы) арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Перпендыкулярна да яе па абодва бакі праходзяць другарадныя вуліцы. У цэнтр. частцы каля шашы — грамадскі цэнтр. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўн.-зах. ускраіне. Вёска — радзіма бел. сав. пісьменніка В.П.Каваля (4.8.1907—29.10.1937).

У склад сельсавета ўваходзяць 19 вёсак.

**САДОК** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад г. Горкі, 77 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. На У і Пн ад вёскі цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Студзянец, Чурылава і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях як пасёлак. Сюды перасялілася частка жыхароў з в. Студзянец. Уваходзіла ў Чурылаўскі с/с Дрыбінскага р-на. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Садок», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Складаецца з зах. і ўсх. частак. Прамалінейная вуліца зах. часткі арыентавана з З на У, усх. — з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**САКАЛОВА** — вёска ў Горскім с/с, за 14 км на У ад г. Горкі, 146 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У ад вёскі цячэ р. Быстрая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Запруддзе і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 41 гаспадарка, 78 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1595 г. вёска ў валоданні касцёла. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 29 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. 28 двароў, 196 жыхароў, прыватнафеад. ўласнасць. У 1772 г. ў Аршанскім павеце, дзярж. ўласнасць, 35 двароў, 236 жыхароў, дзярж. ўласнасць, у 1785 г. ў складзе маёнтка Горы Аршанскага павета, 45 двароў, 235 жыхароў. У 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты, у 1840—44 гг. у складзе маёнтка Горы-Горацкай земляробчай школы. Паводле перапісу 1897 г. ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 50 двароў, 317 жыхароў. У 1909 г. 54 двары, 343 жыхары. У маі 1909 г., калі вяскоўцам прапанавалі перасяліцца на хутары, больш за палову з іх адмовіліся ад перасялення. 4.6.1909 г. зноў большая частка вяскоўцаў адмовілася ад выхаду на хутары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. У 1926 г. вёска і хутары, 74 двары, 454 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС, мелася кузня. У 1940 г. 66 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 31 двор. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 43 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 166 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова. Малочна-таварная ферма, магазін. Планіроўка прамавугольная. Тры паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы арыентаваны з Пд на Пн. Паміж імі ідуць папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**САЛЬНІКІ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад г. Горкі, 122 км ад

Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Карасі і далей па аўтадарогах Горкі—Слабодка і Орша—Магілёў. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1871 г. тут быў маёнтак, гаспадар якога меў 1419,5 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 30 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с. У 1926 г. 32 двары, 165 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Ліхачоўскім, з 16.7.1954 г. Палёнкаўскім сельсаветах. У 1986 г. 13 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Зараз у Аўсянкаўскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САРАКАПУДЫ** — вёска ў Горскім с/с, за 20 км на ПнУ ад г. Горкі, 150 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Калінаўка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе вёскі Каменка, Горы і далей па аўтадарозе Горкі—Мсціслаў. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2007).

Вядома з 1622 г. як с. Саракапуты ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. дзярж. ўласнасць. У 1750 г. 13 двароў, 62 жыхары, прыватнафеад. ўладанне. У 1772 г. 16 двароў, 117 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. в. Саракапуддзе ў Аршанскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 19 двароў, 106 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 17 двароў, 117 жыхароў, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 37 двароў, 259 жыхароў. У 1909 г. 39 двароў, 293 жыхары, млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Каменскім с/с. У 1926 г. хутары, 55 двароў, 306 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Парыжскай камуны, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Дзейнічала школа для малапісьменных. Меўся млын. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 4.10.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 26 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. У 1986 г. 43 гаспадаркі, 87 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Каменка). Малочна-таварная ферма. Аснову планіроўкі складаюць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн. Паміж імі — адна невялікая папярочная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САФОНАВА** (да 30.7.1964 Пузікі) — вёска ў Ходараўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад г. Горкі, 115 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Дубраўка (прыток р. Мярэя). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Майсеева і далей па шашы Леніна—Горкі. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. с. Пузікі ў складзе маёнтка Раманава, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 9 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 25 двароў, 156 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Баеўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 136 жыхароў. Непадалёк быў фальварак, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 17 двароў, 150 жыхароў, у фальварку 2 двары, 15 жыхароў. З 26.4.1919 г.

ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. вёска (13 двароў, 73 жыхары) і хутары (39 двароў, 213 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Маяк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 39 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 33 двары, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. і кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 31 двор, загубілі 4 жыхароў. Вызвалена 4.10.1943 г. войскамі Зах. фронту. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 59 жыхароў, у складзе саўгаса «Старасельскі» (цэнтр — в. Стараселле). З 7.9.2000 г. ў Ходараўскім с/с. Гал. вуліца ламанага абрысу арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САХАРАЎКА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 11 км на Пд ад г. Горкі, 73 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд ад вёскі цячэ р. Лоша (прыток р. Галыша). На Пд і З вёска мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Горкі—Слабодка, якая праходзіць побач з вёскай, далей па шашы Магілёў—Орша. 40 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. слабада, у складзе казённага маёнтка Горы, 8 двароў. У 1750 г. 7 двароў, 40 жыхароў, прыватнафеад. ўласнасць. У 1785 г. 12 двароў, 82 жыхары. У 1880 г. 27 двароў, 169 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 265 жыхароў, ветраны млын. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1909 г. 38 двароў, 292 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім с/с. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 55 двароў, 282 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сахараўка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 18.2.1972 г. ў Добраўскім с/с. У 1986 г. 61 гаспадарка, 148 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда». Малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, клуб і магазін. Гал. вуліца ламанага профілю арыентавана з З на У, паралельна да шашы. На Пн і Пд ад цэнтра галоўнай адыходзяць перпендыкулярна другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**СВЕТЛАЯ** (да 20.11.1934 Асталопава, з 20.11.1934 да 21.1.1969 Варашылава) — вёска ў Ленінскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Горак, 118 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і Пд ад вёскі цячэ р. Мярэя (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Леніна—Горкі.

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Асталопава ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. вёскі Асталопавічы (35 двароў, 261 жыхар) у складзе маёнтка Раманава і Асталопава (22 двары, 147 жыхароў) у складзе маёнтка Гарадзец, у Аршанскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 200 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 214 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 21.8.1925 г. цэнтр Асталопаўскага с/с. У 1926 г. 43 двары, 201 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС, меў кузню. З 20.11.1934 г. цэнтр Варашылаўскага с/с. У 1940 г. 27 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітле-

раўцы поўнасцю спалілі вёску. На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. Вызвалена 4.10.1943 г. войскамі Зах. фронту. З 16.7.1954 г. ў Ленінскім с/с. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Старасельскі». Вуліца арыентавана з Пд на Пн. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СЕНЬКАВА** — вёска ў Рэкценскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Горак, 103 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па шашы Орша—Горкі, якая праходзіць праз вёску, 157 гаспадарак, 363 жыхары (2007).

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Проня знаходзіцца старажытнае гарадзішча, умацаванае 2 кальцавымі валамі, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1609 г. ў складзе маёнтка Шышова, у 1622 г. — маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета. У 1683 г. в. Сенкава, 14 двароў. У 1785 г. 39 двароў, 226 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У вайну 1812 г. абрабавана французамі. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Гаспадар маёнтка, што быў побач, меў у 1868 г. 139 дзес. зямлі і млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., у вёсцы 35 двароў, 222 жыхары, у аднайменным фальварку 3 двары, 5 жыхароў. 9.1.1906 г. сяляне правялі вырубку памешчыцкага лесу. У 1909 г. ў вёсцы 31 двор, 265 жыхароў, у маёнтку 10 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 85 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. і з 24.9.1926 г. да 1931 г. цэнтр Сенькаўскага с/с, у 1925—26 гг. і з 1931 г. ў Рэкценскім с/с. У 1924 г. адкрыты аграгэхнічны пункт, ператвораны ў хуткім часе ў аграцэнтр. Дзейнічалі зернеачышчальны пункт і пункт па пракаце с.-г. тэхнікі. У 1926 г. вёска (57 двароў, 325 жыхароў) і аграпункт (1 двор, 6 жыхароў). У 1929 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 62 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. Меліся кузня і вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 187 гаспадарак, 492 жыхары, у складзе агра-. гандл. прадпрыемства «Горацкае». Малочна-таварная ферма, магазін, б-ка, клуб. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца (частка шашы) арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Другарадныя вуліцы праходзяць перпендыкулярна да галоўнай, па абодва яе бакі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**СЛАБАДА** — вёска ў Горскім с/с, за 16 км на У ад г. Горкі, 143 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Быстрая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Горы і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 56 гаспадарак, 101 жыхар (2007).

Вядома з 19 ст. У 1826 г. вёска ў складзе фальварка Целех Магілёўскага павета, 2 двары, 12 жыхароў, царкоўная ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Горскай вол. Чавускага павета, 61 двор, 472 жыхары. Меўся ветраны млын. У 1909 г. 64 двары, 476 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім с/с. У 1926 г. 114 двароў, 600 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Слабада», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, абслугоўваўся Горацкай МТС, мелася кузня. У 1940 г. 105 двароў,

437 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 16 двароў. Вызвалена 29.9.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 76 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 102 гаспадаркі, 233 жыхары, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова. Малочна-таварная ферма. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн. Паміж імі праходзяць папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза Ф.А.Угначова (н. 2.1.1913).

**СЛАБАДА** — вёска ў Саўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад г. Горкі, 112 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. прыпынку Зубры і 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Орша. 21 гаспадаркі, 47 жыхароў (2007).

Пачатак вёсцы паклаў хутар Зубры, вакол якога ў 1920 г. на былых памешчыцкіх землях пачалі рассяляцца выхадцы з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Верны шлях». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 110 жыхароў, у складзе калгаса імя І.У.Мічурына. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн. Ад яе на Пн адыходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАВІКІ** — вёска ў Паршынскім с/с, за 4 км на У ад г. Горкі, 132 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ ручай Быстры (прыток р. Дняпрэц). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 28 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Словікі ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1784 г. ў складзе маёнтка Горы ў Чавускім павеце, 20 двароў, 124 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 362 жыхары, у Горскай вол. Чавускага павета. У 1909 г. 43 двары, 330 жыхароў. З 8.4.1918 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай губ., з 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1926 г. 61 двор, 315 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 48 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Вызвалена 25.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Будскім с/с. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 80 жыхароў, у складзе калгаса імя С.Дз.Пагодзіна. З 22.2.2001 г. ў Паршынскім с/с. Малочна-таварная ферма. Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. У цэнтры яе пад прамым вуглом перасякае другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.


*Ф.А.Угначоў.*

**СТАН** — вёска ў Добраўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад г. Горкі, 74 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Галыша (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Панкратаўка і далей па аўтадарогах Горкі—Слабодка і Магілёў—Орша. 117 гаспадарак, 239 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. в. Станок, у складзе маёнтка Горы, 23 двары, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г 39 двароў, 280 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 49 двароў, 362 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 72 двары, 521 жыхар, у Гарадзецкай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Мелася школа граматы. У 1909 г. 81 двор, 651 жыхар. Апрача сельскай гаспадаркі вяскоўцы займаліся

рамізніцкім промыслам. 1.10.1912 г. школа граматы ператворана ў земскую, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ., з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 120 вучняў, у 1925 г. — 97 вучняў, з якіх 6 камсамольцаў, 25 піянераў. У 1926 г. вёска (129 двароў, 724 жыхары) і выселак (5 двароў, 27 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 175 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1965 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 18.2.1972 г. ў Добраўскім с/с. У 1986 г. 164 гаспадаркі, 393 жыхары, у складзе вучгаса БСГА. Лесапільня, малочна-таварная ферма, магазін, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, базавая школа, б-ка. Аснову планіроўкі складаюць 2 крывалінейныя вуліцы, якія праходзяць па абодвух берагах ракі і арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. Ад іх на З і У адыходзяць другарадныя вуліцы. У цэнтр. частцы вёскі сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Горак, 115 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На ПнЗ ад вёскі цячэ р. Дубраўка (прыток р. Мярэя). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Леніна—Горкі. 116 гаспадарак, 296 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло ў складзе маёнтка Раманава, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 28 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1652 г. было 20 валок ворыўнай зямлі. У 1785 г. 34 двары, 218 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1843 г. засн. сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 42 двары, 324 жыхары, хлебазапасны магазін. Непадалёку была сядзіба (1 двор, 6 жыхароў) і вадзяны млын. Сяляне ў 1905 г. ўдзельнічалі ў рэв. выступленнях. 9.11.1905 г. яны захапілі памешчыцкі млын і разам з жыхарамі навакольных вёсак зрабілі самавольную высечку панскага лесу. У 1909 г. ў сяле 47 двароў, 394 жыхары, на сядзібе — 1 двор, 2 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1926 г. 84 двары, 457 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 63 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 72 двары, 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. 33 вяскоўцы загінулі на франтах. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. На вясковых могілках у 4 брацкіх і адзіночнай магілах пахаваны 358 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. У 1986 г. 128 гаспадарак, 376 жыхароў, цэнтр саўгаса «Старасельскі». З 7.9.2000 г. ў Ходараўскім с/с. У вёсцы машынны двор з рамонтнай майстэрняй, 2 малочна-таварныя фермы, магазін, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. Гал. крывалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПдУ адыходзяць другарадныя вуліцы. У цэнтры гал. вуліцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца асн. грамадскія мураваныя будынкі. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**СТАРЫНА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 24 км на ПнУ ад г. Горкі, 119 км ад Ма-

гілёва, 27 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі вадасховішча, утворанае на ручаі (прыток р. Мярэя). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Леніна—Горкі. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло ў складзе маёнтка Раманава, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 32 двары. У 1785 г. 21 двор, 182 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Баеўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 31 двор, 228 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 232 жыхары. У 1914 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 75 вучняў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Надзея», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 38 двароў, 199 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 24 двары, загубілі 7 жыхароў. Вызвалена ў 1943 г. войскамі Зах. фронту. На вайск. могілках, што на ўсх. ускраіне, пахаваны 128 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. Сярод іх воіны 144-й, 352-й стралк. дывізій, 1-й польскай дывізіі імя Т.Касцюшкі, бел. сав. пісьменнік П.А.Леванові (3.11.1914—20.12.1943). На франтах загінулі 23 вяскоўцы. У 1986 г. 42 гаспадаркі, 91 жыхар, у складзе племзавода «Леніна». Малочна-таварная ферма, б-ка, магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з З на У і аб'яднаныя папярочнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТРЫКІЛІ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 27 км на З ад г. Горкі, 122 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ ручай Мілаўка (прыток р. Лімна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Міхайлавічы, Шапялёўка, Засценкі і далей па шашы Магілёў—Орша. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1858 г. сяло ў Горацкім павеце, 114 рэвізскіх душ, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. в. Стрыкілі (яна ж Камары), 72 двары, 495 жыхароў, у Маслакоўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 77 двароў, 506 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Маслакоўскім с/с Копыскага, з 8.7.1931 г. Горацкага р-наў. У 1929 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У 1940 г. 52 двары, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1.5.1943 г. партыз. група на чале з камісарам І.П.Шарснёвым зрабіла на трафейнай машыне рэйд па мн. вёсках, правяла шэраг сустрэч з жыхарамі вёсак Варкава, Анікавічы, Альхоўка, Клін і інш. Каля в. Стрыкілі партызаны натрапілі на варожную засаду. У баі загінуў І.П.Шарснёў. 15.5.1943 г. партызаны ў баі паміж вёскамі Ферма і Стрыкілі разграмілі гітлераўскіх карнікаў. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 вяскоўцаў. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Малочна-таварная ферма і зерняток. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сац. Працы П.І.Афіцэрава.

**СТУДЗЯНЕЦ** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад г. Горкі, 81 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўд. ускраіне цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чурылава і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 35 гаспадарак, 58 жыхароў.

За 0,1 км на ПдУ ад вёскі, на могілках знаходзіцца курган, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 17 ст. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 29 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў Мсціслаўскім павеце Мсціслаўскага ваяв., 41 двор, 128 жыхароў, прыватнафеад. ўладанне. У 1772 г. 45 двароў, 236 жыхароў. У 1848 г. ў Мсціслаўскім павеце, 49 двароў. У 1880 г. 52 двары, 394 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1891 г. адкрыта школа. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 75 двароў, 520 жыхароў. Меліся вадзяны і ветраны млыны, хлебазапасны магазін, драўляная царква. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1909 г. 70 двароў, 597 жыхароў, царк.-прыходская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 114 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с (у 1927—31 цэнтр гэтага сельсавета) Дрыбінскага, з 8.7.1931 г. Горацкага, з 12.2.1935 г. зноў Дрыбінскага р-наў. У 1926 г. 112 двароў, 595 жыхароў, дзейнічала с.-г. т-ва. У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, меліся кузня, вадзяны млын. У 1940 г. да вёскі далучаны пасёлкі Дуброва, Асіннік, Пралетарый. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. На вясковых могілках пахаваны 67 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. 73 вяскоўцы загінулі на франтах. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 77 гаспадарак, 165 жыхароў, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Размешчаны сушыльная гаспадарка, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт. Аснову планіроўкі складаюць 2 крывалінейныя вуліцы, арыентаваныя з З на У. Паміж імі — невялікія папярочныя вуліцы. На З і У адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**СУРАЎЦОВА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 7 км на ПнУ ад г. Горкі, 109 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На У цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Леніна—Горкі. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. слабада ў складзе маёнтка Горы, у Віцебскім ваяв., 6 двароў, дзярж. ўласнасць У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 7 двароў, 57 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 6 двароў, 54 жыхары, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 11 двароў, 83 жыхары. У 1909 г. 12 двароў, 88 жыхароў. З 8.4.1918 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай губ., з 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1926 г. 23 двары, 109 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вясёлае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 26 двароў, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. гітлераўцы спалілі 25 двароў. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 252-га стралк. палка 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 27 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Будскім с/с. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 88 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА. З 26.3.1987 г. ў Горацкім с/с. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе ўсх. боку на Пн адыходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЦЕФАНОВА** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Горак, 119 км ад

Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ ад вёскі цячэ р. Мярэя (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стараселле і далей па шашы Леніна—Горкі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1848 г. маёнтак Аршанскага павета, памешчыцкае ўладанне. У 1890 г. ў маёнтку Сцефанова засн. вінакурны з-д (8 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 32 жыхары. 1.12.1905 г. забаставалі рабочыя, якія працавалі ў памешчыка. Яны патрабавалі павышэння платы за працу. У 1909 г. 2 двары, 29 жыхароў. Памешчыку належалі лепшыя землі і навакольны лес — усяго 1000 дзес. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1925 г. ў Асталопаўскім (20.11.1934 перайменаваны ў Варашылаўскі) с/с. У 1926 г. хутары (з 1922 называліся Кангрэс), 29 двароў, 162 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможац», у які ўваходзілі і сяляне в. Асталопава, у 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 2 двары. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. На вайсковых могілках, што на зах. ускраіне, пахаваны 488 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. Сярод пахаваных байцы 139-й, 164-й, 247-й, 252-й, 338-й, 344-й, 352-й стралк. дывізій, 1-й польскай дывізіі, французскі лётчык Бон Марыс, якія ваявалі на гэтым участку фронту. 13 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 16.7.1954 г. ў Ленінскім с/с. У 1986 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе саўгаса «Старасельскі». З 13.6.2002 г. ў Ходараўскім с/с. З 13.6.2002 г. ў Ходараўскім с/с. Малочна-таварная ферма буйной рагатай жывёлы. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЫСОЕВА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Горак, 114 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Леніна—Горкі. 16 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 16 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 25 двароў, 183 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Баеўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 31 двор, 221 жыхар. У 1909 г. 34 двары, 257 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 50 двароў, 332 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зорка сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1930 г. пачала працаваць торфараспрацоўчая арцель «Сысоўка». У 1940 г. 50 двароў, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена ў кастр. 1943 г. войскамі Зах. фронту. Пасля вайны адбудавана. 21 вясковец загінуў на франтах. У 1986 г. 36 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе племзавода «Леніна». Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Ад яе пад вуглом на У адыходзіць другарадная вуліца. Забудова гал. вуліцы двухбаковая, шчыльная, другараднай — таксама двухбаковая, але няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 20 км на З ад г. Горкі, 117 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Паўна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Палёнка, Маслакі, Засценкі і далей

па шашы Магілёў—Орша. 91 гаспадарка, 228 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1668 г. вёска, цэнтр маёнтка, у Аршанскім павеце. У 1777 г. сяло ў Копыскім павеце. У 1785 г. 31 двор, 359 жыхароў, у складзе маёнтка Сялец, у Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, памешчыцкая ўласнасць. Меліся царква і млын. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 360 жыхароў, царк.-прыходская школа. Побач быў фальварак Стары Сялец (7 двароў, 25 жыхароў), карчма Сялец (1 двор, 4 жыхары), вадзяны млын (2 двары, 11 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 56 двароў, 402 жыхары, у маёнтку 2 двары, 7 жыхароў, млын. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Палёнкаўскім с/с. У 1924 г. пачалі дзейнічаць пункты зернеачышчальны, па пракаце с.-г. тэхнікі, агранамічны. З 21.8.1925 г. ў Ліхачоўскім, з 24.9.1926 г. зноў у Палёнкаўскім сельсаветах. У 1926 г. сяло (119 двароў, 636 жыхароў), былы маёнтак (5 двароў, 23 жыхары). У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны батрак», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 75 гаспадарак. З 1931 г. ў Ліхачоўскім с/с. У 1931 г. для школы пабудавана памяшканне. Меліся кузня, вадзяны млын, сярэдняя школа. У 1940 г. 149 двароў, 611 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 19 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Палёнкаўскім с/с. У 1986 г. 133 гаспадаркі, 349 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Цяпер у Аўсянкаўскім с/с. Машынны двор з майстэрняй, малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, базавая школа, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, б-ка, магазін, сталовая, клуб. Гал. вуліца плаўнага абрысу арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на У і З адыходзяць другарадныя вуліцы. Сярод жылой забудовы гал. вуліцы размяшчаюцца драўляныя і мураваныя грамадскія будынкі і мураваныя аднакватэрныя жылыя дамы сядзібнага тыпу. Астатняя жылая забудова драўляная, пастаўлена двухбакова, шчыльна. Вытв. сектар на паўд.-ўсх. ускраіне.

**ТОСНА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 3 км на ПдУ ад г. Горкі, 98 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Расна і Горкі—Мсціслаў. 34 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1609 г. сяло ў складзе маёнтка Шышова Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы, 3 двары, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. с. Тосна ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 8 двароў, 43 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У 1840—46 гг. у складзе Горы-Горацкай земляробчай школы, потым перададзена Магілёўскай палаце дзярж. маёмасці. Паводле перапісу 1897 г. ў Горскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 200 жыхароў. У 1909 г. 32 двары, 194 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 39 двароў, 249 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будаўнік». У 1940 г. 53 двары, 165 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 51 двор. Вызвалена 26.6.1944 г. З 16.7.1954 г. ў Кацялёўскім, з 20.6.1966 г. ў Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 161 жыхар, у складзе вучгаса БСГА. Фермы райспажыўсаюза, таксама вучгасаўскія малочна-таварная і свінагадоўчая. 26.3.1987—13.6.2002 гг. у складзе Горацкага с/с. Аснову планіроўкі складаюць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. У цэнтры іх перасякае папярочная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

На Пд адасобленая частка забудовы. На ПдЗ вытв. сектар.

**ТРАСНОЕ** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад г. Горкі, 128 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Орша. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар Трасное (ён жа Гарэлы) у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Маслакоўскім с/с Копыскага, з 8.7.1931 г. Горацкага р-наў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прасвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, працавала кузня. У 1940 г. 42 двары, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 41 двор. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў, у складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка». Малочна-таварная ферма. Прамалінейная вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУДАРАЎКА** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 30 км на З ад г. Горкі, 125 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Орша. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях, у Маслакоўскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7. 1930), з 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 31 двор, 171 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, меў кузню. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак.—маі 1943 г. каля вёскі базіраваўся партыз. атрад Дз.Ф.Вайстрова (з крас. 1943 атрад узначальваў М.І.Кітаеў) і партыз. групы А.Палікарпава, М.Кітаева, Б.Сяргеева, В.Быкава, П.Саўчака, М.Ліпіна, Т.Прахарэнкі, І.Стукалава, А.Харашылава. 25.5.1943 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 17 вясковых камсамольцаў (з іх 7 дзяўчат). У 1966 г. на вясковых могілках на ўшанаванне іх памяці пастаўлена стэла. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 20 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка». Прамалінейная вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУРЫШЧАВА** — вёска ў Горскім с/с, за 12 км на ПнУ ад г. Горкі, 138 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Лебядзёўка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па шашы Каменка—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 25 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1772 г. ў Аршанскім павеце, 15 двароў, 110 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы, 28 двароў, 167 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Раманаўскай вол. Горацкага павета, 52 двары, 367 жыхароў. У 1909 г. 55 двароў, 392 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Ленінскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Кацялёўскім с/с. У 1926 г. хутары, 70 двароў, 433 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сацыялізм», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС, меў млын і кузню. У 1940 г. 52 двары, 254 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі. Вызвалена 4.10.1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 18 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Будскім с/с. У

1986 г. 33 гаспадаркі, 73 жыхары, у складзе калгаса імя С.Дз.Пагодзіна. З 22.2.2001 г. ў Горскім с/с. Свінагадоўчая і малочнатаварная фермы. Крывалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУШАВАЯ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 18 км на З ад г. Горкі, 114 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Паўна, Маслакі, Засценкі і далей па шашы Магілёў—Орша. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1772 г. вёска, 18 двароў, 101 жыхар, дзярж. ўласнасць. У канцы 18 ст. ў Копыскім павеце, 25 двароў, 146 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 180 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных быт. рэчаў з лёну і кары. У 1909 г. 31 двор, 214 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. і з 24.9.1926 г. да 1931 г. ў Палёнкаўскім, у 1925—26 гг. і з 1931 г. ў Ліхачоўскім сельсаветах. У 1926 г. 71 двор, 423 жыхары. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камуністычны шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак. У 1940 г. 60 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. і вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 34 жыхары. Вызвалена 26.6.1944 г. У брацкай магіле, якая знаходзіцца за 1 км на З ад вёскі, пахаваны 34 сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1941 г., і 4 партызаны 115-га партыз. атрада, якія загінулі ў лют. 1944 г. На паўн.-ўсх. ускраіне пахаваны 36 вяскоўцаў, загубленых гітлераўцамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 37 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Палёнкаўскім с/с. У 1986 г. 39 гаспадарак, 82 жыхары, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Цяпер у Аўсянкаўскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУШКАВА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 6 км на Пд ад г. Горкі, 101 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Проня (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Слабодка, якая праходзіць побач з вёскай. 68 гаспадарак, 128 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. дзярж. ўласнасць. У 1784 г. 34 двары, 284 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 41 двор, 218 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 58 двароў, 347 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны, школа граматы. У 1909 г. 65 двароў, 454 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Панкратаўскім с/с. У 1926 г. вёска (75 двароў, 386 жыхароў) і хутар (1 двор, 6 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. да вёскі далучаны пас. Карнаты. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.6.1966 г. ў Паршынскім с/с. У 1986 г. 108 гаспадарак, 269 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА. Машынны двор, малочна-таварная ферма, магазін, пач. школа. З 26.3.1987 г. вёска ў Горацкім, з 13.6.2002 г. ў Добраўскім сельсаветах. Вуліца ламанага абрысу арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На З, на другім баку шашы, адасоблены ўчастак забудовы. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**УЛЬЯШЫНА** — вёска ў Рэкценскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад г. Горкі, 102 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Проня (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сенькава і далей па шашы Горкі—Орша. 30 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. сяло ў складзе маёнтка Горы, у Віцебскім ваяв., 9 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1784 г. ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета, 21 двор, 126 жыхароў, уласнасць памешчыка. У вайну 1812 г. абрабавана французскімі войскамі. З 1829 г. падпарадкоўвалася Магілёўскай казённай палаце. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 24 двары, 161 жыхар, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 31 двор, 212 жыхароў. У 1909 г. 34 двары, 266 жыхароў. Меўся млын. З 26.4.1919 г. ў Саўскай, з 18.2.1923 г. ў Горацкай валасцях Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. і з 24.9.1926 г. ў Сенькаўскім, у 1925—26 гг. і з 1931 г. ў Рэкценскім сельсаветах. У 1921 г. арганізавана с.-г. арцель «Ульяшына», якая ў 1925 г. аб'ядноўвала 4 гаспадаркі. У 1926 г. хутары, 54 двары, 323 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 55 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе аграгандл. прадпрыемства «Горацкае» (цэнтр — в. Рэкта). Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн, уздоўж ракі. Ад яе на З перпендыкулярна адыходзяць другарадныя вуліцы. Гал. вуліца забудавана аднабакова, астатнія — двухбакова, шчыльна. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ФЕРМА** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 25 км на З ад г. Горкі, 120 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Лімна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Орша. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ферма Міхайлавічы ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 60 жыхароў. У 1909 г. 10 двароў, 65 жыхароў. У 1924 г. вёска (17 двароў, 102 жыхары) у Маслакоўскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі, з 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 19 двароў, 112 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ферма», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, меў кузню. У 1940 г. 29 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Вызвалена 27.6.1944 воінамі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ФІЛІПАВА** — вёска ў Саўскім с/с, за 9 км на Пн ад г. Горкі, 108 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Парасіца (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясцовай дарозе і далей па шашы Леніна—Горкі. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1599 г. слабада Піліпава ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць У 1609 г. ў складзе маёнтка Шышова, у 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. в. Філіпы ў складзе маёнтка Горы, 16 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. 24 двары, 142 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 278 жыхароў. У 1909 г.

40 двароў, 336 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім с/с, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 69 вучняў. У 1926 г. 53 двары, 287 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС, меў ветраны млын і кузню. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 17 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса імя М.Горкага. З 26.3.1987 г. ў Саўскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХАЛМЫ** — вёска ў Рэкценскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад г. Горкі, 104 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сенькава і далей па шашы Горкі—Орша. 26 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1609 г. с. Голмец у складзе маёнтка Шышова Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1622 г. ў складзе маёнтка Вялікія Горы. У 1683 г. с. Холм, 22 двары, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. сяло ў Аршанскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі ў Аршанскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 29 двароў, 170 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У вайну 1812 г. абрабавана французскімі войскамі. З 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 48 двароў, 292 жыхары. У 1909 г. 43 двары, 340 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Саўскай, з 18.2.1923 г. ў Горацкай валасцях Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. і з 24.9.1926 г. да 1931 г. ў Сенькаўскім, у 1925—26 гг. і з 1931 г. ў Рэкценскім сельсаветах. У 1926 г. хутары Халмы (56 двароў, 348 жыхароў) і хутары Халмы Новыя (9 двароў, 47 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны трактар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 25 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 70 гаспадарак, 147 жыхароў, у складзе аграгандл. прадпрыемства «Горацкае». Размешчаны свінагадоўчая і малочна-таварная фермы. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на Пд адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**ХАМІНІЧЫ** — вёска ў Рудкаўшчынскім с/с, цэнтр калгаса імя У.І.Леніна, за 30 км на ПнЗ ад г. Горкі, 119 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Бася). На паўн. ускраіне сажалка — невялікае вадасховішча на ручаі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Орша. 112 гаспадарак, 244 жыхары (2007).

Вядома з 16 ст. У 1522 г. сяло ў Магілёўскай вол., шляхецкая ўласнасць. У 1650 г. ў Копыскім графстве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 17 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1670 г. 5 двароў. У 1695 г. ў Казловіцкім ваяв. Шклоўскага графства, 9 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. 24 двары, 166 жыхароў, у 1785 г. 31 двор, 209 жыхароў, памешчыцкае уладанне, у 1880 г. 56 двароў, 282 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 76 двароў, 481 жыхар, У 1907 г. адкрыта царк.-

прыходская школа. У 1909 г. 81 двор, 552 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Маслакоўскім с/с Копыскага, з 3.7.1931 г. Горацкага р-наў. У 1926 г. вёска (80 двароў, 370 жыхароў) і хутары (37 двароў, 193 жыхары). Непадалёк у лесе была смалакурня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў канцы 1930-х г. меў 2 аўтамашыны, матацыкл, жняяркі, касілкі, 2 малатарні з электрарухавікамі і 15 з конным прывадам, 6 ільнамялак і іншую тэхніку, дзейнічала лесапільня. Меліся клуб, школа-сямігодка. У 1940 г. 180 двароў, 601 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 17 двароў, усе калгасныя пабудовы, разрабавалі маёмасць. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 72 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне памяці 133 жыхароў вёсак Хамінічы, Калінаўка, Ермалоўка, Кустоўка, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў, у цэнтры вёскі каля будынка праўлення калгаса ў 1968 г. пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 201 гаспадарка, 444 жыхары, цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Цэнтр СВК «Калгас імя Леніна». У вёсцы машынны двор з майстэрняй, лесапільня, сталярна-цяслярская майстэрня, 2 малочна-таварныя фермы, базавая школа, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, магазін, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн. На У і З праходзяць паралельныя да галоўнай вуліцы, а паміж імі — папярочныя. На ПдУ адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На гал. вуліцы сярод забудовы размяшчаюцца грамадскія будынкі. Вытв. сектар на ПнЗ. На паўд. ускраіне, па абодва бакі дарогі — сад.

**ХАРКАЎКА** — вёска ў Саўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад г. Горкі, 110 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Орша. 19 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. слабада Харкава ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1668 г. сяло ў складзе маёнтка Сялец у Аршанскім павеце. У 1683 г. сяло, дзярж. ўласнасць. У 1784 г. ў Аршанскім павеце, 18 двароў, 103 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 154 жыхары. У 1909 г. 29 двароў, 208 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Рудкаўшчынскім с/с Аршанскага, з 5.4.1935 г. Горацкага р-наў. У 1926 г. 43 двары, 214 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У 1940 г. 57 двароў, 278 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 54 двары. З 26.6.1954 г. ў Саўскім с/с. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 107 жыхароў, у складзе калгаса імя І.У.Мічурына. Малочна-таварная ферма. Дзве паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. Яны злучаны папярочнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ХОДАРАВІЧЫ** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад г. Горкі, 83 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З ад вёскі цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Студзянец, Чурылава і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 43 гаспадаркі, 71 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 38 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў Мсціслаўскім павеце Мсціслаўскага

ваяв., 29 двароў, 134 жыхары, прыватнафеад. ўласнасць. У 1850 г. 47 двароў, 221 жыхар, дзярж. ўласнасць. У 1880 г. 54 двары, 372 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1895 г. адкрыта школа, для якой у 1901 г. ўзведзены асобны будынак. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 60 двароў, 458 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 76 двароў, 508 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.6.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с Дрыбінскага, з 8.7.1931 г. Горацкага р-наў. У 1926 г. 87 двароў, 483 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 42 вучні. У 1931 г. школа атрымала новы будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак, меў кузню. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. У 1940 г. 119 двароў, 543 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. і кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 61 жыхара. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 59 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Кледнявіцкім с/с. У 1986 г. 80 гаспадарак, 205 жыхароў, у Копцеўскім с/с, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Малочнатаварная ферма, магазін, пач. школа. Крывалінейная гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. На Пд і Пн яе перасякаюць папярочныя вуліцы. На ПдЗ ад гал. вуліцы размешчана адасобленая частка забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На гал. вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**ХОДАРАЎКА** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад г. Горкі, 63 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Галубіна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Аўсянка і далей па шашы Горкі—Слабодка і Магілёў—Орша. 20 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1643 г. вёска (19 гаспадарак) у Кішчыцкім войтаўстве Шклоўскага графства, у 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 16 двароў, 134 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 56 рэвізскіх душ. У 1880 г. 21 двор, 116 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1905 г. адкрыта школа, для якой у 1907 г. ўзведзены асобны будынак. У 1909 г. 41 двор, 305 жыхароў, у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 84 вучні. У 1926 г. 77 двароў, 419 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 54 гаспадаркі, меліся 2 млыны і кузня. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. У 1986 г. 51 гаспадарка, 98 жыхароў, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Малочна-таварная ферма. Цяпер у Аўсянкаўскім с/с. Планіроўка Г-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн уздоўж ракі. Ад яе паўн. боку на З ідзе другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХОДАРАЎКА** — вёска, цэнтр Ходараўскага с/с, за 20 км на ПнУ ад г. Горкі, 152 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Калінаўка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Леніна—Горкі. 135 гаспадарак, 389 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Гарадзец Аршанскага

павета Магілёўскага намесніцтва, 32 двары, 250 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1848 г. ў складзе маёнтка Сцефанова Аршанскага павета, 31 двор, 230 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 404 жыхары, у Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 54 двары, 457 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр Ходараўскага с/с, з 21.8.1925 г. ў Каменскім с/с. У 1924 г. адкрыта школа. У 1926 г. 88 двароў, 497 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Клім Варашылаў», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Дзейнічала школа для малапісьменных, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў вер. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 32 вяскоўцы загінулі на франтах. У памяць аб земляках з вёсак калгаса «Усход» у 1967 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлена стэла. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с. У 1967—82 гг. цэнтр калгаса «Усход». У 1986 г. 42 гаспадаркі, 99 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь». Размешчаны майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, малочна-таварная ферма, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб, б-ка, пач. школа. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На ПнЗ паралельна да галоўнай праходзіць другая, кароткая вуліца, а паміж імі — папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне вытв. сектар. Вёска — радзіма бел. сав. фізіка, акадэміка АН БССР, доктара фізіка-матэматычных навук, праф., засл. дзеяча навукі БССР Б.Б.Бойкі (н. 6.8. 1923).

**ЦЕЛЯШОЎКА** — вёска ў Паршынскім с/с, за 5 км на ПдУ ад г. Горкі, 103 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Крывая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паршына і далей па шашы Горкі—Расна. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Целяшоў у Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горы Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 6 двароў, 40 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1840—46 гг. у складзе Горы-Горацкай земляробчай школы, потым перададзена Магілёўскай палаце дзярж. маёмасцей. Паводле перапісу 1897 г. ў Горскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 11 двароў, 85 жыхароў. Меўся ветраны млын. У пасяленні Асада-Целяшоўка было 12 двароў, 86 жыхароў. У 1909 г. ў в. Целяшоўка было 12 двароў, 83 жыхары, у пасяленні Асада-Целяшоўка — 12 двароў, 88 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Паршынскім с/с. У 1926 г. 18 двароў, 108 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звяно камуны», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 29 двароў, 82 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 25.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Будскім, з 20.6.1966 г. зноў у Паршынскім сельсаветах. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе племсаўгаса імя Чкалава. Амаль прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЦІМОХАЎКА** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад г. Горкі, 64 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і Пд ад вёскі — вадасховішча на р. Галубіна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Слабодка, якая праходзіць побач з вёскай, і далей па шашы Магілёў—Орша. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1635 г. с. Галубінка (яна ж Цімохаўка) у Чамаданаўскім войтаўстве Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. Меўся млын. У 1742 г. 7 гаспадарак. У 1777 г. сяло ў Копыскім павеце. У 1785 г. 15 двароў, 105 жыхароў, меўся млын. Гаспадар маёнтка, што быў побач з вёскай, меў у 1869 г. 245 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 23 двары, 162 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменныя фальварак (3 двары, 23 жыхары) і карчма (1 двор, 6 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1907 г. ў школе (нар. вучылішчы) навучаліся 50 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак. У 1909 г. ў вёсцы 29 двароў, 193 жыхары, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары. З 1913 г. пачалі працаваць лесапільны з-д і млын. 11.6.1918 г. сял. сход (250 чал.) адзінагалосна вырашыў застацца ў межах РСФСР. У 1918 г. лесапільны з-д быў нацыяналізаваны. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с Горацкага р-на. У 1926 г. адны хутары налічвалі 27 двароў, 145 жыхароў, другія — 28 двароў, 148 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «4-ы рашаючы». У 1940 г. 71 двор, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхары. Вызвалена 26.6.1944 г. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 41 гаспадарка, 92 жыхары, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Цяпер у Аўсянкаўскім с/с. Малочна-таварная ферма, б-ка. Вуліца плаўнага абрысу арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне каля шашы гасп. сектар.

**ЧАПЛЯЁЎКА** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 31 км на ПдУ ад г. Горкі, 78 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўн. і ўсх. ускраінах цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Копцеўка і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст У 1609 г. с. Чаплюшына ў складзе маёнтка Шышова Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. сяло ў Копцеўскай вол. У 1784 г. 7 двароў, 70 жыхароў, памешчыцкае уладанне. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 13 двароў, 125 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 128 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с Дрыбінскага, з 8.7.1931 г. Горацкага, з 12.2.1935 г. зноў Дрыбінскага р-наў. У 1926 г. 35 двароў, 211 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Гарадок», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 28 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Кледнявіцкім с/с. У 1986 г. 37 гаспадарак, 97 жыхароў, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Малочна-таварная ферма. Гал. вуліца ламанага абрысу арыентавана з Пд на Пн. Ад яе на З адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАПЯЛІНКА** — вёска ў Добраўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад г. Горкі, 82 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Галыша (правы прыток р. Проня), якая пачынаецца на Пн ад вёскі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мацюты і далей па шашы Горкі—Слабодка і Магілёў—Орша. 49 гаспадарак, 89 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. слабада ў складзе маёнтка Горы, у Віцебскім ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 21 двор, 116 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. 25 двароў, 174 жыхары, дзярж.

ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 41 двор, 307 жыхароў. У 1909 г. 52 двары, 384 жыхары. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с, з 1926 г. ў Сенькаўскім, з 1931 г. ў Рэкценскім сельсаветах. На базе дарэв. створана працоўная школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. быў 51 вучань, у 1925 г. 70 вучняў, у ліку якіх 25 піянераў. У 1926 г. хутары, 103 двары, 544 жыхары. У 1928 г. пачаў працаваць торфазавод, які праіснаваў да 1974 г. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 53 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС, мелася кузня. У вёсцы дзейнічаў таксама саўгас «Чапялінка», які спецыялізаваўся на вырошчванні лёну і канапель. У 1940 г. 110 двароў, 500 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 65 жыхароў. З кастр. 1941 г. да ліст. 1942 г. дзейнічала падп. група пад кіраўніцтвам Я.Р.Ленчыкава (уваходзіла ў Горацкае антыфаш. падполле). Вызвалена 26.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 93 гаспадаркі, 236 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА. Малочна-таварная ферма, магазін, пач. школа. У 1967 г. да вёскі далучаны пасёлак торфапрадпрыемства «Чапялінка». Рака падзяляе вёску на паўд. і паўн. часткі. Прамалінейная вуліца паўд. часткі арыентавана з З на У. Планіроўка паўн. часткі Г-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з З на У. Ад яе ўсх. боку на Пн ідзе другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАРНІЧНЫ** — пасёлак у Саўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад г. Горкі, 110 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Проня (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Орша—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Засн. як пасёлак ў 1920-я г. пры правядзенні землеўпарадкавання в. Масалыкі. У 1926 г. ў Шарыпскім с/с Горацкага р-на, 26 двароў, 136 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У 1940 г. 42 двары, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Пасля вызвалення адбудавана. З 26.6.1954 г. ў Саўскім с/с. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца плаўнага абрысу арыентавана з З на У. Другая вуліца ідзе ад цэнтра галоўнай на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАШНІКІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 10 км на ПнУ ад г. Горкі, 105 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Гарадок (прыток р. Дняпрэц). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Леніна, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

Вядома з 1596 г. як сяло ў складзе маёнтка Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1622 г. с. Чашнікі (яно ж Андрухоўшчына) у складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1647 г. ў складзе маёнтка Раманава, у Аршанскім павеце, 27 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. сяло ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 22 двары, 155 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 140 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 50 двароў, 375 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1909 г. 43 двары, 324 жыхары. Апрача земляробства сяляне займаліся калёсным промыслам. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919

г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. цэнтр Чашніцкага с/с, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім с/с. На базе дарэвалюцыйнай створана працоўная школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 52 вучні, у 1925 г. — 69 вучняў, у ліку якіх 20 піянераў. У 1926 г. 59 двароў, 337 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны трактарыст», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС, меліся ветраны млын і кузня. У 1940 г. 48 двароў, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 40 двароў, 16 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 95 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА. З 26.3.1987 г. ў Горацкім, з 13.6.2002 г. ў Ленінскім сельсаветах. Малочна-таварная ферма. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧУРЫЛАВА** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад г. Горкі, 78 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1652 г. ў сяле было 20 валок ворыўнай зямлі. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 32 двары. У 1750 г. ў Мсціслаўскім павеце Мсціслаўскага ваяв., 39 двароў, 184 жыхары, прыватнафеадальная ўласнасць. У 1772 г. 41 двор, 284 жыхары, дзярж. уласнасць. У 1850 г. ў Мсціслаўскім павеце, 40 двароў, 288 жыхароў. Гаспадар маёнтка, што быў побач, меў тут у 1876 г. 210 дзес. зямлі. У 1894 г. засн. мукамольна-крупяное прадпрыемства (у 1895 — 2 рабочыя). Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 54 двары, 406 жыхароў. У 1909 г. 75 двароў, 480 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Калінінскім павеце, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с (цэнтр гэтага сельсавета да 1927) Дрыбінскага р-на. У 1924 г. адкрыта школа. У 1926 г. хутары, 90 двароў, 495 жыхароў. З 8.7.1931 г. ў Горацкім р-не. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы свет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 50 гаспадарак, меў кузню. З 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-не. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі Зах. фронту. 54 вяскоўцы загінулі на франтах. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1986 г. 31 гаспадарка, 61 жыхар, у складзе саўгаса «Копцеўскі». Малочна-таварная ферма. Крывалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫСЦІКІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 25 км на ПнУ ад г. Горкі, 120 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Леніна—Горкі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Чысцік у Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Раманава Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 11 двароў, 103 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 213 жыхароў, у Баеўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 26 двароў, 202 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкім павеце Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас «Авангард», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 5 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 45 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 7 двароў. У вер. 1943 г.

вызвалена воінамі Зах. фронту. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе племзавода «Леніна». Плаўнага абрысу вуліца арыентавана з ПдУ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШАВАРОЎКА** – вёска ў Рэкценскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Горак, 102 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Папкоўка, Сенькава і далей па шашы Горкі—Орша. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1683 г. слабада, у складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., ніхто не жыў. У 1777 г. вёска ў Аршанскай акрузе Магілёўскай губ. У 1784 г. ў Аршанскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 16 двароў, 76 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 13 двароў, 79 жыхароў, дзярж. уласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 151 жыхар. У 1909 г. 25 двароў, 182 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. і з 24.9.1926 г. да 1931 г. ў Сенькаўскім, у 1925—26 гг. і з 1931 г. ў Рэкценскім сельсаветах. У 1926 г. вёска (32 двары, 173 жыхары) і хутары (12 двароў, 55 жыхароў). У 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 36 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе агарагандл. прадпрыемства «Горацкае». Гал. крывалінейная вуліца арыентавана з З на У. Ад яе на Пн і Пд адыходзяць другарадныя вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**ШАЛАХАНАЎКА** – вёска ў Ленінскім с/с, за 8 км на ПнУ ад г. Горкі, 105 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўд.-зах. ускраіне цячэ р. Дняпрэц (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Леніна, якая праходзіць праз вёску. 24 гаспадаркі, 54 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1647 г. сяло ў складзе маёнтка Раманава, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., 22 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. сяло ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 9 двароў, 75 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 16 двароў, 58 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 115 жыхароў. У 1909 г. 17 двароў, 125 жыхароў. У 1915 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чашніцкім, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім сельсаветах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая ў 1922 г. была аб'яднана са школай у в. Ваўкоўшчына, а ў 1923 г. зноў пераведзена ў Шалаханаўку. У 1925 г. ў школе было 48 вучняў. У 1926 г. хутары, 27 двароў, 146 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1940 г. 26 двароў, 133 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 16 двароў, 21 вясковец загінуў на франтах. У 1986 г. 36 гаспадарак, 115 жыхароў, у складзе вучгаса БСГА. З 26.3.1987 г. ў Горацкім, з 13.6.2002 г. ў Ленінскім сельсаветах. Машынны двор, клуб, пач. школа, магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Прамалінейная гал. вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Ад яе на ПнЗ перпендыкулярна адыходзіць другая пра-

малінейная вуліца. Забудова гал. вуліцы аднабаковая, другараднай — двухбаковая, шчыльная. На гал. вуліцы размяшчаюцца асн. грамадскія мураваныя будынкі і мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя дамы. Астатняя жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШАПЯЛЁЎКА** — вёска ў Маслакоўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад г. Горкі, 118 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Лімна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Орша. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Казловіцкім войтаўстве Шклоўскага графства, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 7 гаспадарак, у 1771 г. 10 гаспадарак, 78 жыхароў. У 1785 г. ў Копыскім павеце Мсціслаўскага намесніцтва, 11 двароў, 127 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. 38 двароў, 209 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 336 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных бытавых рэчаў з кары і лыка, а таксама калёсным і сталярным промысламі. У 1909 г. 51 двор, 409 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Маслакоўскім с/с Копыскага, з 8.7.1931 г. Горацкага р-наў. У 1926 г. 74 двары, 413 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 48 гаспадарак, 99 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Малочна-таварная ферма. Аснову planіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ШАРЫПЫ ВЯЛІКІЯ** — вёска ў Саўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад г. Горкі, 112 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і Пн ад вёскі цячэ р. Маханаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Масалыкі і далей па аўтадарозе Орша—Горкі. 102 гаспадаркі, 243 жыхары (2007).

За 1,5 км на Пд ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня пры ўпадзенні ў яе р. Пнёўка захавалася стаянка каменнага веку, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. У 1683 г. сяло ў складзе маёнтка Горы, у Віцебскім ваяв., 31 двор. У 1777 г. в. Шарыпы ў Аршанскім павеце. У 1785 г. в. Вялікія Шарыпы, 39 двароў, 263 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета, 76 двароў, 513 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1909 г. 88 двароў, 586 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1926 г. ў Шарыпскім сельсаветах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 100 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Авангард», які меў ветраны млын і кузню для рамонту с.-г. інвентару, у 1932 г. аб'ядноўваў 67 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1931 г. арганізаваны другі калгас — імя Варашылава. У 1932 г. калгасы аб'ядналіся. У 1940 г. да вёскі далучаны пасёлкі Ржаўкі, Сапрыкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Саўскім с/с. З'яўлялася цэнтрам калгаса імя Калініна.

Цэнтр СВК «Калгас імя Калініна». У вёсцы механічны двор, малочна-таварная ферма, аддз. сувязі, магазін, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. Амаль паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і злучаны дарогай на в. Масалыкі. На Пд і Пн ад дарогі перпендыку-

лярна да гэтых праходзяць другарадныя вуліцы. У цэнтры размяшчаюцца мураваныя грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, на зах. ускраіне мураваная, сядзібнага тыпу.

**ШАРЫПЫ МАЛЫЯ** — вёска ў Саўскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад г. Горкі, 111 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Пнёўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сава і далей па аўтадарозе Горкі—Орша. 28 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

За 0,3 км на Пд ад вёскі, на мысе, утвораным 2 ярамі, якія выходзяць у пойму р. Пнёўка, захавалася стараж. гарадзішча, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Сучасная вёска вядома з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Шышоўскай вол. Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 34 двары, дзярж. ўласнасць. У 1784 г. ў Аршанскім павеце, 24 двары, 162 жыхары, уласнасць памешчыка. Мелася драўляная царква. У 1864 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1885 г. 32 двары, 200 жыхароў, дзейнічала багадзельня. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 53 двары, 329 жыхароў. Штогод 15 жн. праводзіўся таржок. У 1909 г. 63 двары, 382 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім с/с, з 21.8.1925 г. цэнтр Шарыпскага с/с. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 109 вучняў, размяшчалася ў былым царк. будынку. У 1924 г. арганізавана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1926 г. хутары, 88 двароў, 518 жыхароў. У 1928 г. арганізаваны калгас «Куст» (з 1930 «Шлях волі»). Меўся ветраны млын (пабудаваны ў 1917). У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 48 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У 1928 г. пабудаваны масларобчы з-д, у 1930-я г. — ільнозавод. У 1936 г. адчынены медыцынскі пункт і радзільнае аддз. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. З 26.6.1954 г. ў Саўскім с/с. У 1986 г. 73 гаспадаркі, 115 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна. Малочна-таварная ферма, базавая школа, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн, уздоўж ракі. На З ад галоўнай праходзіць другая, амаль паралельная да яе вуліца. Паміж імі — папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**ШАЎНЕВА** — вёска ў Ходараўскім с/с, за 18 км на У ад г. Горкі, 147 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі цячэ р. Быстрая, на З — р. Калінаўка, на У — р. Каменка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Запруддзе і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 37 гаспадарак, 69 жыхароў (2007).

За 250 м на У ад вёскі, на левым беразе р. Каменка, на мысе і ў цэнтры вёскі, на ўзвышшы знаходзяцца гарадзішчы раннефеад. часу. Каля паўд. боку першага гарадзішча ёсць паселішча культуры тыпу верхняга пласту Банцараўшчыны (6—8 ст.) і эпохі Кіеўскай Русі. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. в. Шаўкава (яна ж Шашнева), 29 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1750 г. ў Мсціслаўскім павеце Мсціслаўскага ваяв., 20 двароў. У 1772 г. 25 двароў, 220 жыхароў. У 1785 г. 28 двароў, 286 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. У 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1858 г. 32 двары, 206 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1880 г. 320 жыхароў, нар. вучылішча. Частка вяскоўцаў займалася

кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Раманаўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 45 двароў, 353 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 53 двары, 443 жыхары, млын. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Горскім, з 21.8.1925 г. ў Каменскім сельсаветах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1926 г. 106 двароў, 477 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 46 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. Мелася кузня. Дзейнічала школа для малапісьменных. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі 33-й арміі Зах. фронту. 40 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. З 26.6.1954 г. ў Горскім с/с, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь». Свінагадоўчая ферма. З 7.9.2000 г. ў Ходараўскім с/с. Амаль прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШАЦІЛАЎКА** – вёска ў Маслакоўскім с/с, за 23 км на З ад г. Горкі, 118 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша–Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У ад вёскі цячэ р. Паўна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Барсукі, Маслакі, Засценкі і далей па шашы Магілёў–Орша. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. пры землеўпарадкаванні хутароў Маслакі. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1986 г. 18 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». Малочна-таварная ферма. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЫРОКІЯ** – вёска ў Саўскім с/с, за 14 км на Пн ад г. Горкі, 109 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша–Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У, Пн і З цячэ р. Альхоўка (прыток р. Парасіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Куртасы, Жаўлачоўка і далей па шашы Леніна–Горкі. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Гаспадар маёнтка, што быў тут, меў у 1862 г. 3000 дзес. зямлі, вінакурны з-д, карчму і млын. Паводле перапісу 1897 г. пасёлак у Баеўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 198 жыхароў. У 1909 г. вёска, 26 двароў, 198 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Ляднянскай вол. Горацкага павета. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1925 г. ў Макараўскім сельсаветах. У 1926 г. хутары (26 двароў, 153 жыхары) і пасёлак (10 двароў, 61 жыхар). У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, дзейнічаў пабудаваны ў 1917 г. ветраны млын. У 1932 г. калгас абслугоўваўся Горацкай МТС, аб'ядноўваў 29 гаспадарак. У 1940 г. 48 двароў, 240 жыхароў, далучана в. Цяплянкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 11 двароў. 13 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе калгаса імя М.Горкага. З 26.3.1987 г. ў Саўскім с/с. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЫШАВА** – вёска ў Рэкценскім с/с, за 6 км на Пн ад г. Горкі, 105 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша–Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Парасіца (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сенькава і далей па шашы Горкі–Орша. 73 гаспадаркі, 137 жыхароў (2007).

Згадваецца ўпершыню ў 1303 г. як сяло. У 1495 г. цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. У 1590 г. мястэчка ў Аршанскім

павеце, непадалёку быў фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., 20 двароў, дзярж. ўласнасць. Тут была крэпасць. У 1777 г. сяло ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. 38 двароў, 223 жыхары, памешчыцкая ўласнасць. Меліся млын, драўляная царква. У вайну 1812 г. поўнасцю разрабавана французскімі войскамі. У 1829 г. ў падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты. У 1858 г. ў Аршанскім павеце, 36 двароў, 216 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1885 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 257 жыхароў. Дзейнічалі 2 царквы. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 434 жыхары, царк.-прыходская школа, багадзельня. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам посуду з дрэва. У 1909 г. 67 двароў, 443 жыхары, двухкласная і аднакласная мужчынскія царк.-прыходскія школы (адкрыты ў 1889), 2 мураваныя царквы. З 26.4.1919 г. ў Горацкай вол. Горацкага павета Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губерняў РСФСР, з 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. ў Сенькаўскім, і з 24.9.1926 г. да 1931 г., у 1925—26 гг. і з 1931 г. ў Рэкценскім с/с. У 1923 г. ў памяшканні школы размясціўся дзіцячы дом, а ў 1924 г. яго зноў заняла школа, у якой у 1925 г. было 135 вучняў. Вясковая школа займала таксама былое царк. памяшканне. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. сяло (26 двароў, 139 жыхароў) і хутары (70 двароў, 408 жыхароў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Культура», які меў ветраны млын і кузню. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 87 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. 37 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1986 г. 107 гаспадарак, 238 жыхароў, у складзе аграгандл. прадпрыемства «Горацкае». Малочна-таварная ферма, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, сярэдняя школа. Планіроўка прамавугольная. Дзве паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. Іх перасякаюць невялікія папярочныя вуліцы. У цэнтры размешчаны мураваныя грамадскія будынкі і непадалёку — вытв. сектар. Жылая забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЭДЫ** — вёска ў Аўсянкаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад г. Горкі, 63 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд ад вёскі цячэ р. Галубіна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Слабодка, якая праходзіць побач з вёскай. 33 гаспадаркі, 72 жыхары (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Шарсцілаўскім войтаўстве Шклоўскага графства Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 12 гаспадарак. У 1771 г. 23 гаспадаркі, 140 жыхароў. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 28 двароў, 231 жыхар, памешчыцкае ўладанне. У 1895 г. засн. вінакурны з-д (у 1900 — 9 рабочых). У 1897 г. фальварак Шэды (ён жа Ходараўка) у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета. Меўся паравы млын. У 1909 г. побач знаходзіўся маёнтак. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Любіжскім с/с. У маі 1919 г. каля вёскі кулацка-памешчыцкая банда «зялёных» акружыла 11 прадатрадаўцаў з Горак і на вачах у сялян закатавала іх (загінуўшых пахавалі ў Горках). У 1926 г. хутары, 42 двары, 206 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак, меў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 12 двароў. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. 21 вясковец загінуў на франтах. У 1986 г. 58 гаспадарак, 131 жыхар, у складзе калгаса «XVII партз'езд». Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой

прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн, перпендыкулярна да шашы і падзеленыя ручаём (прыток р. Галубіна). Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЮРКАВА** — вёска ў Саўскім с/с, за 14 км на Пн ад г. Горкі, 113 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Парасіца (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Красуліна, Куртасы, Жаўлачоўка і далей па шашы Леніна—Горкі. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1565 г. сяло, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. У 1683 г. 15 двароў, у складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1750 г. 47 двароў, 212 жыхароў, прыватнафеад. уладанне, у Мсціслаўскім павеце Мсціслаўскага ваяв. У 1777 г. в. Юркаўшчына ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Горкі, у Аршанскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 31 двор, 135 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Саўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 213 жыхароў. У снеж. 1905 г. сяляне правялі масавую вырубку памешчыцкага лесу, адбыліся сутыкненні з лясной вартай. У 1909 г. 32 двары, 245 жыхароў, школа граматы. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 27.7.1922 г. Смаленскай губернях РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Горацкай вол. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Горацкім р-не, з 20.8.1924 г. ў Красулінскім, з 21.8.1925 г. ў Шарыпскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 50 двароў, 306 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак, абслугоўваўся Горацкай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 26.6.1954 г. ў Макараўскім с/с. У 1986 г. 40 гаспадарак, 89 жыхароў, у складзе калгаса імя М.Горкага. Малочна-таварная ферма, сярэдняя школа. З 26.3.1987 г. ў Саўскім с/с. Планіроўка Г-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн уздоўж ракі. Ад яе паўд. боку на З перпендыкулярна ідзе другая, кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯРЦАЎКА** — вёска ў Копцеўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад г. Горкі, 77 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Рамясцвянка). На З, Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Копцеўка і далей па шашы Горкі—Мсціслаў. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

За 1 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Рамясцвянка, на мысе знаходзіцца гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 17 ст. У 1622 г. с. Ярцава ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1722 г. 18 двароў, 99 жыхароў, дзярж. ўласнасць. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскай губ., 11 двароў, 83 жыхары. У 1909 г. 12 двароў, 110 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Смаленскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.6.1924 Калінінскім павеце, з 17.7.1924 г. ў Дрыбінскім р-не, з 20.8.1924 г. ў Чурылаўскім с/с. У 1926 г. 26 двароў, 139 жыхароў. З 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. зноў у Дрыбінскім р-нах. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ярцаўка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.9.1943 г. воінамі Зах. фронту. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 19.1.1960 г. ў Копцеўскім с/с. У 1989 г. 39 гаспадарак, 82 жыхары, у складзе саўгаса «Копцеўскі» (цэнтр — в. Копцеўка). Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Аснову планіроўкі складаюць 2 вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. ДП, воп. 1905, спр. 4, 2550; ф. 6, воп. 1, спр. 2466, 2481, 2883; ф. 30, воп. 1, спр. 377, 380, 648, 2475; воп. 2, спр.1518, 6139, 6140, 6142, 6148; ф. 31, воп. 1, спр. 23, 920; ф. 42, воп. 1, спр. 316, 428, 936, 1727, 1756; воп. 2, спр. 1527, 1529—1532, 1535, 1539—1543, 1567, 1572, 1574, 1589, 1591, 1597, 1599, 1601—1603, 4636—4639, 4642—4647, 4650—4652, 4655, 4656, 4658, 4660, 4661, 4663—4665, 4677, 4684, 4687, 4691, 4700—4702, 5377; ф. 48, воп. 1, спр. 2105, 2837, 2881, 4433, 4434, 4930, 4937; ф. 60, воп. 1, спр. 531; ф.141, воп. 1, спр. 682; ф. 165, воп. 1, спр. 30; ф. 169, воп. 1, спр. 5; ф. 202, воп. 3, спр. 32; ф. 251, воп. 1, спр. 264; ф. 258, воп. 1, спр. 44; ф. 334, воп. 2, спр. 68; ф. 338, воп. 1, спр. 323; ф. 433, воп. 1, спр. 511; ф. 1024, воп. 1, спр. 715, 831.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 467а, 2505, 3550; ф. 694, воп. 4, спр. 5729; ф. 1772, воп. 1, спр. 32; ф. 1781, воп. 26, спр. 1440; ф. 1928, воп. 1, спр. 68, 69; ф. 2001, воп. 1, спр. 23, 24, 81, 315; ф. 2014, воп. 1, спр. 275, 278, 284; ф. 2151, воп. 1, спр. 88, 140, 150, 176; воп. 2, спр. 4, 5; ф. 2189, воп. 1, спр. 250, 295, 298, 302.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна, ф. 1143, воп. 1, спр. 371, 372, 375; ф. 1146, воп. 3, спр. 8.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 5, воп. 10, спр. 7; ф. 205, воп. 1, спр. 2; ф. 1432, 1435; ф. 2283, воп. 1, спр. 2221; ф. 2433, воп. 1, спр. 2; ф. 2463, воп. 1, спр. 637; ф. 2533, 2543, 2545, 2611.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 484, воп. 1, спр. 59; ф. 822, воп. 1, спр. 883б; воп. 11, спр. 873а, 879а; воп. 12, спр. 2588; ф. 1290, воп. 11, спр. 1347, 1356, 1375, 1538; ф. 1350, воп. 312, спр. 94.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 577, воп. 19, спр. 183, 199; ф. 1350, воп. 312, спр. 95, 96.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 262; ф. 1355, воп. 1, спр. 716, 721, 724, 732.

Архіў Пецярбургскага аддзялення Расійскай акадэміі навук, ф. 30, воп. 2, спр. 30.

Архіў Пецярбургскага аддзялення Інстытута гісторыі Расійскай акадэміі навук, ф. 52, воп. 1, спр. 263.

Расійская Нацыянальная бібліятэка: аддзел рэдкай і рукапіснай кнігі, ф. Эрм., спр. 235; ф. IV, спр.768.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 3236; ф. 439, воп. 1, спр. 11; ф. 1276, воп. 1, спр. 564; ф. 1280, воп. 1, спр. 2207, 2473.

Дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 317, воп. 1, спр. 2929, 3605; ф. 318, воп. 1, спр. 540, 940.

Аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 18, спр. 143.

Аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі Вільнюскага універсітэта, ф. А-1792; ф. 4, спр. 4045.

Бібліятэка Чартарыйскіх у Кракаве, РА, IV, спр. 450, 860, 4502, 4506.

Бутурлин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 г. Ч. 2. 2 изд. СПб., 1838.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 г. Могилев, 1861.

Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.

Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1. Могилев, 1882; Кн. 2—3. Могилев, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14. СПб., 1889.

Указатель фабрик и заводов Европейской России. 3 изд. СПб., 1894.

Фабрично-заводская промышленность: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.

Список церковно-приходских школ и школ грамоты в Могилевской епархии. СПб., [Б.г.].

Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1902/03 учебный год. Могилев, 1903.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Пролетарий. 1905. 4 июля.
Смоленский вестник. 1906. 9 дек.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/08 учебный год. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1909.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 г. Могилев, 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912.
1905 год на Аршаншчыне. Орша, 1926.
Васілеўскі Д.М. Кароткі нарыс гісторыі Горацкага раёна і г. Горак // Працы навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі. Горкі, 1927. Т. 3.
Ленінскі шлях. 1931. 3, 18 ліст., 28 снеж.; 1935. 17 крас.; 1936. 18 студз., 20 сак., 24 мая, 5 чэрв.; 1939. 30 кастр.; 1940. 1 студз., 15 лют., 2 кастр.; 1947. 2, 9 кастр.; 1969. 1 вер.; 1980. 27 мая, 26 жн., 1984. 31 студз.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Сообщения Советского Информбюро. Т. 5. М., 1944.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 1—2. Мн., 1957.
Комитеты бедноты Белоруссии. Мн., 1958.
Тарле Е.В. Северная война и шведское нашествие на Россию. М., 1958.
Цитович С.Г. Горы-Горецкий земледельческий институт — первая в России высшая сельскохозяйственная школа (1836—1864 гг.). Горки, 1960.
Труды Белорусской сельскохозяйственной академии. Т. 33. Т. XXXIII. Горки, 1960.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. Мн., 1961.
Письма и бумаги императора Петра Великого. Т. 2, вып. 1, М., 1962.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Могилев: ист.-эконом. очерк. Мн., 1971.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т.3. Мн., 1971.
Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975.
Беларуская ССР: кароткая энцыкл. Т.1 Мн., 1978.
Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Лившиц В.М. Горки: ист.-эконом. очерк. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Войстров Д.Ф. В горецком редколесье. Мн., 1986.
Денис Давыдов, Надежда Дурова: сочинения. М., 1987.
Лившиц В.М. Горки. Мн., 1989.



# ДРЫБІНСКІ РАЁН

Размешчаны ў паўн.-ўсх. частцы Магілёўскай вобл. Утвораны 17.7.1924 г. ў Аршанскай акрузе. 20.8.1924 г. падзелены на 9 сельсаветаў: Бельскі (Кішчыцкі), Гарадзецкі, Гаспадаўскі (Трылесінскі), Дрыбінскі, Карэбскі, Кледнявіцкі, Пакуццянскі, Суслаўскі, Чурылаўскі (Студзянецкі). 2.3.1931 г. да раёна далучаны Жданавіцкі, Кароўчынскі і Чэрнеўскі сельсаветы ліквідаванага Лупалаўскага р-на. Да 1930 г. ў раёне лесапільня, 3 вінакурныя з-ды, 2 саўгасы, калгас, 30 школ, б-ка, 3 хаты-чытальні, бальніца. 8.7.1931 г. раён скасаваны, 12.2.1935 г. адноўлены, уключаў 18 сельсаветаў. У 1935—37 гг. ў раёне 3 МТС, 9 млыноў, 28 кузняў. Са студз. 1938 г. ў складзе Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгады 14-я Цемналеская, 17-я, 35-я, 115-я Горацкая, «Звязда», асобныя партыз. атрады 3-і, П.Казанкава, М.Кохана. За час акупацыі захопнікі знішчылі ў раёне 3148 чал. У пач. кастр. 1943 г. Дрыбін і частка раёна вызвалены ў выніку Смаленскай аперацыі, у чэрв. 1944 г. зах. частка раёна — у ходзе Магілёўскай аперацыі. 16.9.1959 г. зноў скасаваны, яго тэр. ўвайшла ў Горацкі, Мсціслаўскі, Чавускі і Шклоўскі р-ны. 29.12.1989 г. Дрыбінскі р-н адноўлены для перасялення жыхароў Краснапольскага р-на, які пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы ў 1986 г. Пл. раёна 0,8 тыс. км$^2$. Насельніцтва 13,6 тыс. чал. (2007). Асн. насельніцтва — беларусы (92,1%), жывуць таксама рускія (6,2%), украінцы (1%) і інш. (0,7%). Цэнтр раёна — г.п. Дрыбін. У раён уваходзяць 102 сельскія населеныя пункты. Адміністрацыйна падзяляецца на 6 сельсаветаў: Кароўчынскі, Міхееўскі, Першамайскі, Раснянскі, Цемналескі, Чэрнеўскі.

Праз тэр. раёна праходзяць чыгунка Орша—Крычаў, а таксама аўтадарогі Магілёў—Мсціслаў, Масток—Дрыбін—Горкі. Тэр. раёна знаходзіцца ў межах Аршанска—Магілёўскай раўніны. Па-

*Краявід Дрыбіншчыны каля в. Расна.*

*Зона адпачынку ў Дрыбінскім раёне.*





*Фрагмент экспазіцыі Дрыбінскага гісторыка-этнаграфічнага музея.*



*Абразы з фондаў Дрыбінскага гісторыка-этнаграфічнага музея.*



верхня раўнінная. Найвышэйшы пункт раёна (236 м) знаходзіцца каля в. Еськаўка. З карысных выкапняў у раёне ёсць пясок, гравій, торф, гліна, мел. Па тэр. раёна працякае р. Проня, якая належыць да басейна Дняпра, а таксама яе прытокі Бася, Быстрая, Вербаўка і інш. На некаторых рэках створаны вадасховішчы і сажалкі.

27% пл. раёна знаходзяцца пад лесам. Балоты і забалочаныя землі займаюць каля 1,5 тыс. га, размешчаны пераважна ў паўн. частцы раёна. На тэр. раёна існуюць гідралагічныя заказнікі Галамукскае, Жэваньскае, Брацтва, Жэваньскі Мох, а таксама паляўнічыя заказнікі Раснянскае і Даманоўскі.

Пл. с.-г. угоддзяў 37,8 тыс. га. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя і інш. У гасп. комплексе пераважае сельская гаспадарка. Яе асн. галіна — малочна-мясная жывёлагадоўля. Вырошчваюць

*Гліняныя цацкі з г.п. Дрыбін.*



збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу, лён. Працуюць с.-г. вытв. кааператывы, унітарныя с.-г. камунальныя прадпрыемствы, фермерскія гаспадаркі. Дзейнічаюць прадпрыемствы харч. прам-сці.

Па тэр. раёна праходзіць нафтаправод Унеча (Расія) — Полацк.

У 2006 г. ў раёне 5 сярэдніх, 2 базавыя, 3 комплексы школа-сад, дапаможная школа-інтэрнат, дзіцячая школа мастацтваў, цэнтр фізкультурна-масавай і спарт. работы, 7 дзіцячых дашкольных, 14 клубных устаноў, 8 кінаўстановак, 13 б-к, 2 бальніцы, 5 амбулаторый, 7 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Дзейнічаюць раённыя Палац культуры і гісторыка-этнаграфічны музей. Зона адпачынку мясц. значэння Нікольскае. У раёне 8 рэліг. абшчын, у т.л. 5 праваслаўных. Выдаецца газ. «Савецкая вёска». Помнікі археалогіі: стаянкі каменнага веку (Дрыбін, вёскі Асінаўка, Вуглы, Карэбы, Крукаўшчына, Малаўё, Палоскі), гарадзішча днепра-дзвінскай культуры (в. Навасёлкі), курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (в. Карэбы) і інш. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан (Дрыбін, вёскі Галавічы, Крычаватка, Расна, Робцы, Чэрнеўка, Шчокатава), магілы ахвяр фашызму (в. Чэрнеўка). Помнік на месцы выступлення сялян у 1905 г. (в. Кішчыцы). Помнікі архітэктуры: Свята-Пакроўская царква (1845, в. Кішчыцы), сядзіба (канец 19 ст.) і касцёл святога Казіміра (1818) у в. Расна.

**ДРЫБІН** — гар. пасёлак, цэнтр Дрыбінскага р-на і Міхееўскага с/с, за 64 км на ПнУ ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў, на скры-

жаванні аўтадарог, якія злучаюць гар. пасёлак з Магілёвам, Горкамі, вёскамі Цёмны Лес і Расна. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Проня. 3,5 тыс. жыхароў (2007).

Помнікі археалогіі — курган эпохі Кіеўскай Русі (за 1 км на ПдЗ ад пасёлка) і 2 стаянкі каменнага веку сведчаць аб засяленні тэр. пасёлка ў старажытнасці. У пісьмовых крыніцах Дрыбін вядомы з 16 ст. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ; прыватнаўласніцкае мястэчка. У Паўн. вайну 1700—21 гг. у вер. 1708 г. ген. Баўр разам з кавалерыйскімі войскамі размясціўся тут і дакладваў Пятру I пра дыслакацыю шведскіх войск у наваколлі. Рус. конніца паліла на шляху ворага населеныя пункты, каб знішчыць запасы харчавання. Разам з іншымі быў спалены і Дрыбін. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, мястэчка ў Мсціслаўскай правінцыі Магілёўскай губ., з 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай, у 1796—1802 гг. Бел. губерняў. У 1776 г. мяст. Дрыбін належала М.А.Абрамовічавай, налічвала 499 жыхароў; у суседняй в. Стары Дрыбін было 82 жыхары. Паводле Ген. межавання Рас. імперыі, у 1784 г. Дрыбін — мястэчка, цэнтр маёнтка Чавускага павета, уладанне Цеханавецкіх (да 1864), 181 двор, 657 жыхароў, 25 лавак, млын, царква. У 1830 г. засн. вінакурнае прадпрыемства (у 1884 — 9 рабочых, з 1900 дзейнічала паравая машына). У 1848 г. ў Дрыбіне 95 двароў, драўляная царква, мост на сваях праз р. Проня. У 1840-х г. сяляне мястэчка 6 разоў падавалі прашэнне на імя цара Мікалая I са скаргай на жорсткі прыгнёт з боку памешчыка. У 1845 г. адбылося выступленне сялян маёнтка, якое пачалося з іску аб вызваленні ад прыгоннага стану, дзе дрыбінцы сцвярджалі, што яны ўсе вольныя адпаведна дакументу, выдадзенаму быццам бы іх продкам у 1773 г., а Цеханавецкі незаконна завалодаў імі. Выступленне было жорстка падаўлена з дапамогай салдат Магілёўскага гарнізона (частка сялян памерла ад катаванняў, некаторыя былі адпраўлены у Чавускую турму), аб чым сведчыць сял. скарга (падпісалася 84 чал.) ад 10.5.1847 г. Мікалаю I. У 1860 г. ў мястэчку 883 жыхары, 167 драўляных дамоў, царква, 2 яўр. малітоўныя школы, вінакурны з-д, з 1862 г. працавала нар. вучылішча (у 1889/90 навуч. годзе тут вучыліся 50 хлопчыкаў і 16 дзяўчынак). 24.4.1863 г. на шляху да Расна ў Дрыбіне (у маёнтку) спыніўся на адпачынак Горацкі паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам Л.Д.Звяждоўскага. У 1872 і 1883 гг. ў мястэчку засн. 3 маслабойні, развіваўся дробны гандаль. У 1880 г. мяст. Дрыбін — цэнтр воласці; 1080 жыхароў, 250 дамоў, 30 лавак, царква, 2 малітоўныя школы, вал. праўленне, вясковая лячэбніца, 2 млыны, школа граматы (з 1883). Адзін раз на год праводзіўся кірмаш. У 1890 г. быў засн. другі вінакурны з-д (у 1900 — 8 рабочых), а ў 1899 г. яшчэ адзін (у 1813 — 11 рабочых, дзейнічаў паравы рухавік). З 1877 г. маёнтак і мястэчка знаходзіліся ва ўладанні Урангеля фон Гюбенталя, які меў у Дрыбіне і ў в. Картыжы 3225 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, піцейны дом,



*Сучасны герб г.п. Дрыбін.*

*Панарама г.п. Дрыбін.*



*Забудова г.п. Дрыбін.*



вінакурны з-д. Акрамя земляробства жыхары займаліся шматлікімі промысламі — кравецкім, шавецкім, сталярным, бандарным, ганчарным, кавальскім, вырабам пячных кафляў, скур і жорнаў для млына. Аднак самымі вядомымі сярод рамеснікаў былі местачковыя шапавалы, якія нават распрацавалі сваю ўмоўную мову «катрушніцкі лемезень». Яе ў свой час вывучаў вядомы бел. этнограф Е.Р. Раманаў. Назва «дрыбінскія шапавалы» ўвайшла ў прымаўку, а сам Дрыбін дзякуючы сваім майстрам стаў вядомы ў губерні і за яе межамі. Паводле перапісу 1897 г., Дрыбін — мястэчка Чавускага павета, каля р. Проня і шляху з Дрыбіна ў мястэчкі Горкі і Чавусы; 330 двароў, 2105 жыхароў, царква з багадзельняй, 4 сінагогі, малітоўны дом, школа граматы, нар. вучылішча, вал. праўленне, хлебазапасны магазін, 34 лаўкі, вадзяны млын, 2 піцейныя дамы. У 10-ю пятніцу пасля Вялікадня праводзіліся ярмаркі. Побач з мястэчкам знаходзіліся фальварак Дрыбін (каля сажалкі, 3 гаспадаркі, 27 жыхароў, капліца і млын), в. Стары Дрыбін (81 двор, 460 жыхароў), сядзіба святара Дрыбінскай царквы (4 жыхары). У 1909 г. Дрыбін налічваў 1959 жыхароў, 315 драўляных будынкаў, знаходзіўся ва ўладанні памешчыка М.М.Епіфанава. У 1905/06 навуч. годзе у Дрыбінскім нар. вучылішчы (падпарадкоўвалася Магілёўскай дырэкцыі нар. вучылішчаў) вучыліся 68 хлопчыкаў і 20 дзяўчынак, а ў 1907/08 навуч. годзе 72 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. Працавала таксама царк.-прыходская школа. З 1902 г. дзейнічалі пажарныя т-ва і добраахвотная дружына, у 1904 г. пры вал. праўленні былі адкрыты паштовыя аперацыі, у 1910 г. паштова-тэлегр. аддз., у 1911 г. ашчадная каса, працавалі аптэка, паштовая станцыя (у 1915 — 3 кані). У рэвалюцыю 1905—07 гг. у мястэчку ў крас. 1905 г. баставалі рабочыя і рамеснікі. 24.1.1906 г. сяляне адмовіліся плаціць казённыя і мірскія зборы. У 1-ю сусветную вайну ў 1915 г. ў Дрыбіне дзейнічаў прызыўны пункт. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918 г. Створаны чырвонагв. атрад. З 26.4.1919 г. Дрыбін у складзе Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 17.7.1924 г. да 8.7.1931 г., з 12.2.1935 г. да 16.9.1959 г. і з 29.12.1989 г. цэнтр раёна Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. Адначасова з 20.8.1924 г. да 15.11.1995 г. Дрыбін — цэнтр Дрыбінскага с/с, з 15.11.1995 г. — Міхееўскага с/с. З 15.7.1935 г. — мястэчка, з 27.9.1938 г. вёска. з 19.11.1997 г. — гар. пасёлак. У 1923 г. 1997 жыхароў. У 1921 г. адкрыты дзіцячы сад, у 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва, пачалі дзейнічаць пункты агранамічны, зернеачышчальны і па пракаце с.-г. тэхнікі, хата-чытальня. У Дрыбіне і былым маёнтку былі ство-

*Плошча ў г.п. Дрыбін.*



*Зона адпачынку ў г.п. Дрыбін.*







*Дом гандлю ў г.п. Дрыбін.*

*Дом правасуддзя ў г.п. Дрыбін.*

раны с.-г. арцелі: «Чырвоны сцяг» (1920; у 1924 30 га зямлі), «Гасцілаўка» (1921, па іншых звестках у 1923; у 1924 43 га зямлі), «Культура» (1923; у 1924 69 га зямлі), «Майскі дзень» (1924; 143 га зямлі), «Дрыбіна» (30 дзес. зямлі); саўгас «Дрыбін (309 дзес. зямлі), які ўваходзіў у лік прыпісных саўгасаў Бел. с.-г. ін-та (цяпер БСГА). У 1926 г. Дрыбін — мястэчка (427 двароў, 1522 жыхары) і сяло (44 жыхары). У 1930-я г. працавалі вадзяны і нафтавы млыны, кузня, кравецкая майстэрня «Чырвоная ігла» (з 1907; 22 рабочыя), шавецкая майстэрня арцелі «Смычка» (з 1930; 16 рабочых), смалакурны з-д арцелі «Смалапрадукцыя» (з 1927; 23 рабочыя), хлебапякарня (з 1930; 2 рабочыя), крухмальны з-д (з 1929), масларобча-сыраварны з-д (з 1929), шапавальны з-д. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях Ільіча», у 1930 г. — саўгас «Дрыбін» свінагадоўчага напрамку. У 1931 г. ў саўгасе ўзведзены 6 памяшканняў для жывёлы, пабудовы для с.-г. машын і захоўвання карняплодаў, жылы будынак для 40 рабочых; для жылля (на 10 кватэр) былі прыстасаваны памяшканні былога вінзавода. У 1936 г. пачала працаваць Дрыбінская МТС (у 1936 — 41 трактар), якая абслугоўвала навакольныя калгасы. У 1927 г. ў Дрыбіне дзейнічалі Нар. дом (меўся радыёпрыёмнік), б-ка (у 1940 яе фонд склаў каля 11 тыс. экз. кніг), бальніца (у 1931 — 35 ложкаў, стаматалагічны кабінет), аптэка, паштова-тэлегр. аддз., яўр. і 7-гадовая школы. У 1935 г. працаваў заатэхнікум. У 1941 г. ў Дрыбіне 320 двароў, 1200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут лагер смерці, дзе загінулі 2496 сав. грамадзян. У сак. і вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 300 двароў, знішчылі 380 вяскоўцаў. 120 дрыбінцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію (70 з іх вярнуліся), 393 вяскоўцы загінулі на фронце, 12 — у партыз. барацьбе. 2.10.1943 г. Дрыбін вызвалены воінамі 49-й арміі Зах. фронту. 695 землякоў — жыхароў вёсак саўгаса «Дрыбінскі» (Абраімаўка, Асінаўка, Бестрань, Гарадзецк, Дрыбін, Стары Дрыбін, Калінка, Кледнявічы, Крукаўшчына, Лядзешня, Міхееўка, Нікольск, Палоскі, Прыбужжа Новае, Старакожаўка, Язычкава, Ярыгі) загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1984 г. ў памяць аб воінах-вызваліцелях і земляках, якія загінулі ў баях супраць фашызму, на цэнтр. вуліцы пасёлка ўстаноўлены помнік — скульптура салдата. З 1944 г. адноўлены калгас «Шлях Ільіча», з 1945 г. — Дрыбін-

*У цэнтры г.п. Дрыбін.*





*А.І.Зевелей.*

ская МТС (у 1948 абслугоўвала калгасы Гарадзецкага, Дрыбінскага і Кледнявіцкага сельсаветаў). З 1960 г. вёска — цэнтр саўгаса «Дрыбінскі» (створаны на базе Дрыбінскай МТС і калгасаў імя Жданава, «Пражэктар», «3-і рашаючы», «Полымя», імя Варашылава, «Расія»). 22.2.1961 г. з яго складу выдзелены саўгас «Копцеўскі» (цэнтр — в. Копцеўка). У 1985 г. ў Дрыбіне 612 гаспадарак, 1556 жыхароў, у 1992 г. — 1,5 тыс. жыхароў. З 3.1.1992 г. Дрыбін цэнтр калгаса «Дрыбінскі» (паводле іншых звестак арганізаваны 13.12.1996; раней эксперыментальная база «Дрыбінская»), 4,5 тыс. га зямлі. 29.11.2002 г. на базе калгаса «Дрыбінскі» створаны СВК «Дрыбін» (цэнтр г.п. Дрыбін), пл. 3928 га, у т.л. с.-г. угоддзяў 3576 га.

У ліст. 1996 г. ў межы г.п. Дрыбін уключана в. Стары Дрыбін. 26.2.2003 г. зацверджаны герб Дрыбіна, які быў распрацаваны дзярж. геральдычнай службай Рэспублікі Беларусь. Шчыт герба, прамавугольны ў плане, з закругленай ніжняй часткай, мае фон у выглядзе чырвонага цаглянага мура ў 14 радоў. У цэнтры шчыта сіметрычна яго вертыкальнай восі размешчана выява падковы. Да верхняй часткі падковы прымыкае кавалерскі крыж. Да асновы падковы прымыкаюць яшчэ 2 кавалерскія крыжы, размешчаныя пад вуглом 45° да вертыкальнай восі шчыта. У 2006 г. ў Дрыбіне меліся 7 магазінаў, універмаг «Арсенал», кафэ «Проня», рэстаран «Фламінга», кандытарскі і каўбасны цэхі, УП «Аўтабаза Дрыбінскага раённага спажывецкага таварыства», унітарна-камунальнае прадпрыемства (УКП) «Жылкамгас», ДРБУ-217, электрасеткі, УКП «Бытпаслугі», раённыя ветэрынарная і племянная станцыі, унітарна-камунальнае вытв. прадпрыемства «Рамбуд», Дрыбінскі цэнтр фізкультурна-масавай і спарт. работы, Дрыбінскі раённы цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, цэнтр. раённая бальніца, Дрыбінская цэнтр. раённая аптэка, ААТ «Дрыбінскі масларобчы завод», філіялы АСБ «Беларусбанк» і «Белаграпрамбанк», дзіцячы сад № 1, яслі-сад «Светлячок», сярэдняя школа, вочна-завочная школа «Алімп», раённы Палац культуры, раённая цэнтр. б-ка, дзіцячая б-ка, Дрыбінская цэнтралізаваная дзіцячая школа мастацтваў, раённы гісторыка-этнаграфічны музей.

*Алея Герояў у г.п. Дрыбін.*



Папярэдні праект планіроўкі і забудовы быў распрацаваны ў 1982 г. БелНДІ горадабудаўніцтва. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з З на У. На ёй размяшчаюцца асн. мураваныя грамадскія будынкі. На Пд і Пн ад гал. праходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1990-я г. ў сувязі з аднаўленнем Дрыбінскага р-на і змяненнем статуса Дрыбіна тут разгарнулася значнае будаўніцтва. Былі ўзведзены новыя жылыя дамы, будынкі райвыканкома, райваенкамата, райспажыўсаюза, Дома культуры, Дома быту, гасцініцы, Дома правасуддзя, раённага аддзела міліцыі, пажарнага дэпо, камбіната грамадскага харчавання, аўтавакзала, філіялаў «Беларусбанка» і «Аграпрамбанка», раённага вузла электрычнай і паштовай сувязі, магазіны і інш. Дрыбін — радзіма рас. гісторыка, акадэміка Рас. акадэміі прыродазнаўчых навук А.І.Зевелева (н. ў 1921).

**АБРАІМАЎКА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 8 км на З ад Дрыбіна, 78 км ад

Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 21 гаспадарка, 36 жыхароў (2007).

У 1630 г. слабада Абраімаўская, 20 валок зямлі, у складзе Горы-Горацкага маёнтка, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкае ўладанне. У 1683 г. с. Горскай вол. таго ж маёнтка; 3 дымы, 24 валокі зямлі. У 1750 г. 12 двароў, 58 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва (у 1796—1802 у Бел. губ.); 21 двор, 163 жыхары, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1848 г. ў складзе казённага Горы-Горацкага маёнтка, 14 двароў, 88 жыхароў. У 1897 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 20 двароў, 130 жыхароў. У 1909 г. 158 жыхароў; у 1924 г. 43 двары, 235 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 26.6. 1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. Абраімаўка — хутары, 45 двароў, 248 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 57 двароў, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6.1944 г. воінамі 2-га Бел. фронту. У 1941—45 гг. 15 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 22 жыхары загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 1960 г. вёска ў складзе саўгаса «Дрыбінскі», з 1990 г. ў калгасе «Мір», з 2002 г. у СВК «Мір» (цэнтр в. Міхееўка). У 1985 г. ў вёсцы 59 гаспадарак, 116 жыхароў, дзейнічалі магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1998 г. 36 гаспадарак, 68 жыхароў, у 2004 г. 20 гаспадарак, 42 жыхары. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, мае прамалінейны напрамак. Ад яе перпендыкулярна адыходзяць 2 другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**АЛЮТЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 46 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 27 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1604 г. як с. Алюціна, 13 дымоў, у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уладанне. У 1636 г. сяло, 14 валок зямлі, мелася карчма. У 1742 г. сяло, 14 валок зямлі, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1784 г. вёска, 29 двароў, 263 жыхары, млын; у складзе маёнтка Ждановічы. У 1845 г. Алюты — казённы маёнтак і вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 20 двароў, 139 жыхароў. Пры вёсцы меўся сельскі хлебазапасны магазін. З 1870 г. маёнтак Алюты, 62 дзес. зямлі, уладанне Г.В.Бурскага. У 1880 г. вёска (26 двароў, 142 жыхары) і аднайменная аколіца (8 двароў, 30 жыхароў) у Чэрнеўскай вол. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. аколіца налічвала 14 двароў, 113 жыхароў, вёска — 35 двароў, 236 жыхароў. У снеж. 1905 г. вяскоўцы склалі ліст да цара, у якім размова ішла аб зямлі і волі, аб канфіскацыі памешчыцкай зямлі. Сяляне мелі намер накіраваць хадака ў Пецярбург, але губернатар забараніў ім гэта. У 1909 г. ў вёсцы 37 двароў, 277 жыхароў, у аколіцы 8 двароў, 65 жыхароў. З 20.8.1924 г. Алюты ў Жданавіцкім с/с Лупалаўска-

га р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1926 г. ў вёсцы 62 двары, 297 жыхароў, у аколіцы 22 двары, 113 жыхароў. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, з 1925 г. — хата-чытальня; арганізаваны піянерскі атрад. На працягу 1931 г. вёска разам з сельсаветам перадавалася ў склад Дрыбінскага (з 2.3.1931), Чавускага (з 8.7.1931), Горацкага (з 5.9.1931) р-наў. З 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім, з 16.9.1959 г. ў Шклоўскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Чэрнеўскім с/с. У 1931 г. ў вёсцы створаны калгас «Пралетарый» (13 гаспадарак), у аколіцы — калгас «Вольная праца» (11 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. 46 гаспадарак, 82 жыхары, працавалі клуб, магазін, жывёлагадоўчая ферма. З 1996 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (раней вяскоўцы працавалі ў саўгасе «Прагрэс», цэнтр — в. Чэрнеўка), з 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка), дзейнічала жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 34 гаспадаркі, 49 жыхароў, у 2004 г. 33 гаспадаркі, 53 жыхары. Аснову планіроўкі складаюць 2 вуліцы, размежаваныя шырокім выганам, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя на Пн 2 кароткімі, прамалінейнымі вуліцамі. Забудова пераважна двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На Пн гасп. сектар.



*С.З.Гаўрусёў.*

Вёска — радзіма вучонага ў галіне сельскай гаспадаркі, педагога, акадэміка УАСГНІЛ С.Г.Каляснёва (18.8.1896—27.6.1970).

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 40 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Даманы, Пудаўня і далей па шашы Масток—Дрыбін. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1924 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіўся пас. Новая Аляксандраўка, 21 двор, 123 жыхары. Уваходзіў у склад Еганаўскага с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Шклоўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 11.3.1960 г. ў Чэрнеўскім с/с. У 1926 г. вёска, 22 двары, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. 19 гаспадарак, 19 жыхароў, у саўгасе «Даманы»; у 1998 г. 7 двароў, 7 жыхароў. У 2004 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, на тэр. калгаса «Даманы» (створаны на аснове былога саўгаса; цэнтр — в. Пудаўня). Прамалінейная вуліца вёскі амаль мерыдыянальнай арыентацыі няшчыльна забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Вёска — радзіма бел. паэта, перакладчыка, крытыка С.З.Гаўрусёва (1931—88).

**АСІНАЎКА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 8 км на Пн ад Дрыбіна, 78 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ярыгі, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Помнік археалогіі — стаянка каменнага веку, якая знаходзіцца за 0,4 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Проня (каля старыцы), сведчыць аб засяленні тэр. сучаснай вёскі ў глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц, у 1683 г. Асінаўка — сяло ў складзе Горскай вол. Горы-Горацкага маёнтка, у Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, 4 валокі зямлі, 7 дымоў. У 1750 г. вёска таго ж маёнтка, уладанне Салагубаў, 8 двароў, 30 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска Горы-Горацкага маёнтка, 10 двароў, 85 жыхароў. У 1847 г. 9 гаспадарак, 53 жыхары; у 1880 г. 12 двароў, 88 жыхароў. Акрамя сельскай гаспадаркі частка вяскоўцаў займалася кравецкім і рамізніцкім промысламі. У 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 18 двароў, 134 жыхары, працаваў ветраны млын. У 1909 г. 18 два-

роў, 140 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 22.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. З 24.6.1960 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. існавалі аднайменныя вёска (12 двароў, 71 жыхар), пасёлак (7 двароў, 39 жыхароў) і хутары (14 двароў, 71 жыхар). У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена» (у 1932 — 34 гаспадаркі, кузня). У 1940 г. 46 двароў, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. Асінаўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941—45 гг. 5 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 21 жыхар загінуў на фронце. З 1.11.1950 г. вёска ў складзе калгаса «Полымя», з 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі», з 1990 г. ў калгасе «Мір», з 2002 г. ў СВК «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 1985 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары, лаўка; у 1998 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2004 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн, забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БАБІНКІ** — вёска ў Раснянскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Дрыбіна, 73 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ ручай Горлаўскі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1785 г. в. Бабенкі, 4 двары, 29 жыхароў, прыватнае уладанне ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва (у 1796—1802 у Бел. губ.) Рас. імперыі. У 1810 г. ў Магілёўскай губ., аколіца, 150 дзес. зямлі, 10 душ мужчынскага полу аколічнай шляхты. У 1825 г. в. Бабінка, 8 двароў, царк. ўласнасць. У 1857 г. вёска, памешчыцкае ўладанне. У 1897 г. ў Раснянскай вол. Чавускага павета, 10 двароў, 85 жыхароў. У 1909 г. 9 двароў, 57 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-не, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-нах. У 1926 г. 19 двароў, 103 жыхары. У 1931 г. тут арганізаваны калгас «6-ы з'езд Саветаў» (у 1932 — 25 гаспадарак). У 1940 г. 20 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў кастр. 1943 г. воінамі 49-й арміі Зах. фронту. У гады вайны 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 7 жыхароў загінулі ў барацьбе з ворагам на франтах. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Араты» (цэнтр — в. Баброва), з 13.3.1959 г. ў калгасе імя Калініна, які 2.4.1962 г. атрымаў назву імя Кірава (цэнтр — в. Навасёлкі). У 1985 г. ў вёсцы 7 гаспадарак, 12 жыхароў, працавала жывёлагадоўчая ферма. З 29.11.2001 г. вёска знаходзілася на тэр. СВК імя Кірава (створаны на базе былога калгаса, цэнтр в. Навасёлкі). У 2004 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**БАБРОВА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Баброўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

У 1620 г. Баброва — шляхецкае ўладанне, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. Пасля 1-я падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1855 г. вёска і маёнтак (425 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальня), уладанне І.Д.Мянжынскага. У 1858 г. вёска, 22 рэвізскія душы. У 1862 г. ў вёсцы, адпаведна Устаўной грамаце, 15 душ мужчынскага полу атрымалі 67 дзес. 1200 кв. сажняў зямлі. Выкупная сума за зямлю склала 2

тыс. руб. У 1880 г. вёска, 6 двароў, 63 жыхары. Акрамя земляробства частка вяскоўцаў займалася кушнерскім промыслам. У 1897 г. фальварак Баброва (4 двары, 17 жыхароў, вадзяны млын с сукнавальняй) і аднайменная вёска (11 двароў, 79 жыхароў) у Раснянскай вол. У 1909 г. ў вёсцы налічвалася 14 двароў, 82 жыхары, 80 дзес. зямлі; у фальварку 2 жыхары, 216 дзес. зямлі. Меўся млын (6 жыхароў). У 1912 г. адкрыта школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 1928 г. вёска — цэнтр Баброўскага сельсавета, з 5.12.1931 г. ў Заходскім с/с, з 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім раёнах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 1939 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 100 вучняў. У сак. 1920 г. на месцы былога маёнтка створана камуна «Араты» (у 1925 — 89 чалавек). У 1924 г. ў вёсцы адкрылася хата-чытальня. У 1926 г. вёска налічвала 18 двароў, 82 жыхары, камуна — 93 чал. У 1931 г. арганізаваны калгас «Араты» (у 1932 — 18 гаспадарак, кузня). У 1941 г. да вёскі далучаны вёскі Баброва 2 і Гарадок; агульная колькасць двароў складала 38, жыхароў — 173. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі 18 двароў, вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 4 чал. У кастр. 1943 г. вёска вызвалена воінамі 49-й арміі Зах. фронту. У баях загінулі 23 вяскоўцы. З 1949 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Араты» (5 вёсак), з 13.3.1959 г. ў складзе калгаса імя Калініна (з 2.4.1962 калгас імя Кірава). У 1985 г. вёска, 14 гаспадарак, 26 жыхароў, пач. школа, жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. З 29.11.2001 г. вёска знаходзілася ў складзе СВК імя Кірава (створаны на базе былога калгаса, цэнтр в. — Навасёлкі). У 2004 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана амаль з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БАРАДЗЁНКІ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 55 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Зерня (прыток р. Проня). На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін—Горкі, якая праходзіць праз вёску. 31 гаспадарка, 52 жыхары (2007).

У 1635 г. с. Макарына, у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уладанне. У 1722 г. в. Барадзёнкі (яна ж Макарына), 6 валок зямлі, 2 дымы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска (22 двары, 65 жыхароў) у складзе маёнтка Галавічы Чавускага павета, уладанне В.Я.Чычагава. У 1847 г. ў вёсцы, якая знаходзілася ў складзе маёнтка Трылесіна (уладанне памешчыка Перасвет-Солтана), налічваўся 21 двор, 125 жыхароў, 240 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета, 40 двароў, 255 жыхароў, працавалі ветраны млын, школа граматы. У 1909 г. 43 двары, 297 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Господаўскім (з 1939 Першамайскі) с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. У 1926 г. ў вёсцы 74 двары, 424 жыхары. У 1929 г. створаны калгас «Бальшавік» (у 1932 аб'ядноўваў 31 гаспадарку). У 1940 г. 36 двароў, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 31 двор, загубілі 7 жыхароў вёскі. Вызвалена 24.6. 1944 г. Падчас акупацыі 11 вяскоўцаў

былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 43 — загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. З 19.4.1957 г. ў складзе саўгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. ў вёсцы 62 гаспадаркі, 129 жыхароў, меліся магазін, клуб, жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 45 гаспадарак, 74 жыхары. З 30.5.2001 г. ў складзе КСУП «Першамайскі» (створаны на базе былога саўгаса, цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 36 гаспадарак, 56 жыхароў, працаваў магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Гал. вуліца (частка шашы) арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне раней знаходзіўся вытв. сектар.

**БЕЛАЯ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 27 км на З ад Дрыбіна, 56 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Вёску перасякае р. Чарніцы (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 283 гаспадаркі, 659 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1604 г. як с. Белае, у Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўладанне. У 1643 г. сяло, 47 валок зямлі (паводле іншых звестак 32 валокі), у Магілёўскай эканоміі. У 1742 г. 18 валок зямлі, 18 дымоў, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1855 г. Белая — маёнтак і аднайменная вёска, уладанне памешчыка М.О. Талпыгі. З 1861 г. маёнтак, 510 дзес. зямлі (1882), уладанне М.А.Красоўскай. Вёска ў 1860 г. налічвала 23 двары, 122 жыхары. У 1880 г. 25 двароў, 182 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары, калёсным промыслам. У 1897 г. вёска (45 двароў, 341 жыхар) і лясная кантора (2 жыхары) у Чэрнеўскай вол. Чавускага павета. У 1909 г. ў вёсцы 56 двароў, 427 жыхароў. Побач знаходзіліся выселкі Засценкі Белыя, 9 двароў, 54 жыхары. З 1910 г. працавала земская школа. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр сельсавета (да 1931) Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.9.1959 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 54 вучні. У 1926 г. вёскі Белая (94 двары, 537 жыхароў) і Засценкі Белыя (25 двароў, 151 жыхар); працавала 4-гадовая школа. У 1931 г. для школы пабудавалі новае памяшканне. У 1932 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас (12 гаспадарак), у засценку — калгас «Чырвоны ўсход» (створаны у 1931, аб'ядноўваў 23 гаспадаркі). У 1940 г. 120 двароў, 654 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. Белая акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі і чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 200 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана, адноўлены калгас. У 1965 г. да вёскі далучаны в. Шпульнікі і аднайменны пасёлак, у 1967 г. — в. Засценкі Белыя. У 1985 г. вёска налічвала 171 гаспадарку, 344 жыхары, уваходзіла ў склад саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка); дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, магазін, жывёлагадоўчая ферма. З снеж. 1996 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 319 гаспадарак, 740 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 2004 г. 293 гаспадаркі, 705 жыхароў, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, магазін, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», пажарнай аховы, ферма. У 2007 г. сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, сталовая. Аснову планіроўкі складае працяглая, плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, да якой на У перпендыкулярна далучаецца кароткая прама-

лінейная вуліца. Адасоблена, на значнай адлегласці на Пн, размешчана кароткая, прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі (былы пас. Вузкі), а на Пд, за рэчкай — плаўна выгнутая вуліца амаль шыротнай арыентацыі (былы пас. Замакранскі). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Па другі бок рэчкі — гасп. сектар і 2 кароткія вуліцы (былая в. Белая Замакранская). У 1990-я г. ў межах вёскі пабудаваны пасёлак для перасяленцаў з тэр., забруджанай у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**БЕСТРАНЬ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Дрыбіна, за 74 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Дрыбін—Расна, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1777 г. в. Бестрань у Чавускім павеце Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.) Рас. імперыі. У 1785 г. в. Быстрыцы (15 двароў, 119 жыхароў) у складзе маёнтка Дрыбін, уладанне памешчыка Цеханавецкага. У 1880 г. ў Дрыбінскай вол., 18 двароў, 51 жыхар. Некаторыя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся валяльным промыслам. У 1909 г. 25 двароў, 193 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Карэбскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 201 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая» (у 1932 — 40 гаспадарак, кузня). У 1941 г. 53 двары, 269 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 6 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска знаходзілася ў складзе ўзбуйненага калгаса «Шлях Ільіча» (3 вёскі), потым у калгасе імя Жданава, з 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі», пазней у эксперыментальнай базе «Дрыбінская», з 3.1.1992 г. ў калгасе «Дрыбінскі» (паводле іншых звестак з 13.12.1996). У 1985 г. ў вёсцы 30 гаспадарак, 57 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, стайня, лаўка. У 1998 г. 18 гаспадарак, 27 жыхароў. З 29.11.2002 г. ў СВК «Дрыбін» (цэнтр — г.п. Дрыбін). У 2004 г. 7 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіроўка лінейная. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1980-я г. на паўн. ускраіне знаходзіўся гасп. сектар.

**БІР** — вёска ў Першамайскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 57 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Барадзёнкі і далей па шашы Горкі—Дрыбін—Масток. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1643 г. сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, 7 валок зямлі, дзярж. ўласнасць. У 1722 г. вёска, 7 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 12 двароў, 116 жыхароў, уладанне В.Я.Чычагава. У 1847 г. в. Біры ўваходзіла ў склад маёнтка Трылесіна (уладанне памешчыка Перасвет-Солтана), налічвала 22 двары, 141 жыхара, 240 дзес. зямлі сял. карыстання. У 1897 г. ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета, 11 двароў, 88 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 123 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Гаспадаўскім (з 1939 Першамайскі) с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў

Дрыбінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 33 двары, 168 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоны сад» (у 1932 — 14 гаспадарак). У 1940 г. 45 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 29 дамоў, загубілі 13 вяскоўцаў, 7 чал. былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 14 — загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Бальшавік», з 1956 г. ў калгасе «Камінтэрн», з 19.4.1957 г. ў саўгасе «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. ў вёсцы 40 гаспадарак, 64 жыхары, дзейнічала жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 26 гаспадарак, 34 жыхары. З 30.5.2001 г. ў КСУП «Першамайскі» (створаны на базе былога саўгаса, цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 14 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЬЕЎКА** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 27 км на З ад Дрыбіна, 62 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чэрнеўка і далей па шашы Масток—Дрыбін. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1925 г. на месцы сучаснай вёскі размяшчаўся пас. Новая Васілеўка. У 1926 г. тут налічвалася 17 двароў, 86 жыхароў. У 1931 г. вёска ў складзе Бельскага с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.9.1959 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска, 13 гаспадарак, 20 жыхароў, знаходзілася на тэр. саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка). З снеж. 1996 г. — у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 2004 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай, зігзагападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 54 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць праз вёску. 20 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Помнік археалогіі — стаянка каменнага веку, якая захавалася за 0,5 км на Пд ад вёскі, сведчыць аб засяленні наваколля вёскі ў глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло (14 дымоў) у Магілёўскай вол. Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1566 г. аддадзена шляхціцу ў часовае, а ў 1580 г. — у пажыццёвае валоданне. У 1604 г. ў Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскага староства. У 1623 г. Вуглы — маёнтак і аднайменнае сяло, уладанне Мілядоўскага (раней знаходзіліся ва ўладанні Ст. Хамца), у Аршанскім павеце. У 1681 г. маёнтак за 8 тыс. коп літ. грошаў набылі шляхціцы Крыўцы (3 браты). У склад маёнтка ўваходзілі сёлы Вуглы, Сінякова, Карзееўшчына, Палуі, Шатнеўшчына (Шашнеўшчына) і слабодка Барсукі. Каля с. Вуглы на р. Бася знаходзіўся млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1784 г. с. Вуглы (8 двароў, 105 жыхароў) і аднайменнае сяльцо, якое размяшчалася побач (10 двароў, 98 жыхароў); дзейнічалі млын, царква (драўляная). З 1833 г. працавала сукнавальня. У 1855 г. ў раёне сучаснай вёскі знаходзіліся 2 маёнткі: Вуглы (уладанне І.В.Жапіна), Вуглы і Чартаўшчына (5 вёсак, уладанне І.Д.Мянжынскага). У 1862

г. 24 гаспадары з вёскі Вуглы маёнтка Мянжынскага атрымалі ў карыстанне 108 дзес. зямлі. У 1864 г. маёнтак Вуглы і Чартаўшчына (1309 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальня) перайшоў ва ўладанне Е.І.Бялеўскай. У 1878 г. маёнтак Вуглы 2 (185 дзес. зямлі) купіў І.В.Даманскі. Згодна з перапісам насельніцтва 1897 г. існавалі вёскі: Вуглы 1 (10 двароў, 76 жыхароў) і Вуглы 2 (10 двароў, 100 жыхароў), якія знаходзіліся на тэр. Чэрнеўскай вол. Чавускага павета. Побач знаходзіўся фальварак Вуглы (23 жыхары). У 1909 г. Вуглы 1 налічвалі 84 жыхары; Вуглы 2 — 14 двароў, 102 жыхары. У маёнтку Бялеўскіх налічвалася 445 дзес. зямлі, 4 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Чэрнеўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 25.7.1931 г. ў Горацкім р-нах. У 1921 г. ў былым маёнтку засн. камуна «Новая багіня» (у 1925 — 40 чалавек). У 1926 г. — 2 вёскі: Вуглы (25 двароў, 135 жыхароў) і Вуглы 1 (15 двароў, 96 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава (у 1932 — 23 гаспадаркі, кузня). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.9.1959 г. да 29.12.1989 г. ў Шклоўскім р-не. У 1985 г. ў вёсцы, якая ўваходзіла ў склад саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка), 38 гаспадарак, 81 жыхар, працавалі клуб, жывёлагадоўчая ферма. З снеж. 1996 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. — 32 гаспадаркі, 40 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 2004 г. 26 гаспадарак, 29 жыхароў, працавала жывёлагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якую перакрыжоўвае кароткая прамалінейная вуліца (участак шашы). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн гасп. сектар.

**ВЯРБА** — вёска ў Цемналескім с/с, за 9 км на ПдУ ад Дрыбіна, 82 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Вербаўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шаблавы і далей па шашы Горкі—Дрыбін—Расна. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Гарадзішча зарубінецкай культуры і культуры штрыхаванай керамікі, якое захавалася за 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Залатая Гара і паселішча, што знаходзіцца на Пд ад гарадзішча (абодва на левым беразе р. Вербаўка), сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Згодна з археал. даследаваннямі, паселішча адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з канца 16 ст. як дзярж. ўладанне ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1664 г. вёска, уладанне Я.Котлы, у 1752 г. леннае сяло, на якое Аўгуст III выдаў прывілей А.Гедвіну. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. сяло, 26 двароў, 105 жыхароў, уладанне І.Ф.Цеханавецкага, з 1734 г. дзейнічала драўляная царква. Побач размяшчалася аднайменная вёска, якая належала сыну І.Ф.Цеханавецкага. У 1848 г. Вярба — маёнтак, 745 дзес. зямлі, 85 сялян (у іх карыстанні 163 дзес. зямлі), уладанне Даўнаровіч. У 1855 г. існавалі маёнткі: Вярба, уладанне В.Хлюдзінскай (аддадзены ў арэнду Сушчэўскаму); Вярба і Чыгіраўшчына, уладанне Мацкевіч (у 1882 — 194 дзес. зямлі). У 1862 г. в. Вярба знаходзілася ў складзе маёнтка Карэбы (уладанне Дзявонскіх). Адпаведна Устаўной грамаце, 13 вясковых гаспадароў атрымалі 58 дзес. 1200 сажняў зямлі. У 1867 г. ў сял. карыстанні было каля 85 дзес. зямлі. У 1866 г. маёнтак Вярба належаў Ракуса-Сушчэўскай (356 дзес. зямлі ў 1882, вадзяны млын). У 1897 г. на месцы сучаснай в. ў Дрыбінскай вол. існавалі 3 вёскі: Вярба Зяньковіча (21 двор, 140 жыхароў); Вярба Мацкевіча (6 двароў, 31 жыхар) і Вярба—Шаблавы (12 двароў, 88 жыхароў).

Побач знаходзіўся фальварак Вярба. У 1909 г. ў вёсках адпаведна: 32 двары, 199 жыхароў; 8 двароў, 44 жыхары; 18 двароў, 125 жыхароў. Фальварак налічваў 4 двары, 29 жыхароў. З 26.4.1919 г. вёска ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. З 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. Вярба — вёска (50 двароў, 243 жыхары) і хутары (20 двароў, 91 жыхар). У 1930 г. створаны калгас «Новы шлях», працаваў млын. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Авангард», з 1958 г. ў саўгасе імя Леніна (з 1962 саўгас «Запаветы Леніна), з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — Цёмны Лес), з 2001 г. ў КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ў КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр в. — Заполле). У 1985 г. ў вёсцы 36 гаспадарак, 59 жыхароў; у 1998 г. 15 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2004 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з З на У. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ГАЛАБУРДЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 57 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Галубіна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з 1604 г. як сяло (19 дымоў) у Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. На р. Галубіна працаваў млын. У 1643 г. сяло таго ж войтаўства і эканоміі, 28 валок зямлі. У 1742 г. 20 валок зямлі, 20 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1847 г. маёнтак і вёска Галабурды, 144 жыхары, памешчыцкае ўладанне. У 1860 г. вёска, 20 двароў, 118 жыхароў. З 1879 г. маёнткам (382 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальня з 1830) валодаў Е.С.Краніхфельд. У 1897 г. валоданне Галабурдаў — вёска (38 двароў, 266 жыхароў) і фальварак (18 жыхароў) у Чэрнеўскай вол. Чавускага павета. Побач знаходзіліся млын, сукнавальня і піцейная ўстанова (2 двары, 18 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 44 двары, 344 жыхары, у маёнтку (уладанне памешчыкаў Пара-Лявовічаў, 333 дзес. зямлі) 3 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.9.1959 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 91 двор, 464 жыхары, працавала 4-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. ў вёсцы, якая ўваходзіла ў склад саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка), 52 гаспадаркі, 87 жыхароў, працавалі клуб, магазін, жывёлагадоўчая ферма. З снеж. 1996 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка), з 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 24 гаспадаркі, 33 жыхары. У 2004 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, уздоўж ракі. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу, пастаўлена двухбакова, шчыльна. На паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ГАЛАВІЧЫ** (да 1980 вёска і пасёлак) — вёска ў Першамайскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Дрыбіна, 57 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па

мясц. дарозе праз в. Трылесіна і далей па шашы Горкі—Дрыбін—Масток. 44 гаспадаркі, 60 жыхароў (2007).

У 1560 г. Галавічы — сяло ў Магілёўскай вол. Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1563 г. сяло, 20 дымоў, аддадзена ў часовае карыстанне шляхціцу. У 1604 г. сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, 34 дымы, дзейнічаў млын. У 1643 г. 26 валок зямлі. У 1742 г. сяло той жа эканоміі, 61 дым. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. сяло аднайменнага маёнтка, 15 двароў, 568 жыхароў (паводле іншых дакументаў 44 двары, 386 жыхароў), уладанне В.Я.Чычагава. Тут меліся царква, млын, кожны год 20 ліп. адбываліся ярмаркі. Частка вяскоўцаў вырабляла драўляны посуд. У вайну 1812 г. 13 ліп. праз сяло ў Смаленскім напрамку прайшла 2-я рус. армія пад камандаваннем П.І.Баграціёна. З 1814 г. на хутары Галавічы (знаходзіўся побач з сялом) працавалі млын з сукнавальняй. У 1834 г. ў Галавічах 57 двароў, 322 жыхары. У 1846 г. пры Троіцкай царкве працавала вучылішча (12 вучняў). У 1848 г. Галавічы (аднайменныя сяло і фальварак) у складзе маёнтка Трылесіна, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана. Сяло налічвала 57 двароў, 322 жыхары; у карыстанні сялян знаходзілася 698 дзес. зямлі. У 1880 г. ў Дрыбінскай вол., 72 двары, 430 жыхароў. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі фальварак (1 жыхар) і сяло (105 двароў, 609 жыхароў, Троіцкая царква, аднакласная царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, ветраны млын). Побач знаходзілася сядзіба царквы, 7 жыхароў. У 1909 г. сяло, 109 двароў, 757 жыхароў, мелася казённая вінная лаўка. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Карэбскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Першамайскім с/с, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 146 двароў, 737 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 86 вучняў. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны партызан», працавала кузня, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. вёска (131 двор, 616 жыхароў) і аднайменны пасёлак (38 двароў, 165 жыхароў). У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску, загубілі 8 жыхароў, у вер. 1943 г. спалілі пасёлак. 23.6.1944 г. Галавічы вызвалены воінамі 222-й стралк. дывізіі 69-га стралк. корпуса. Падчас акупацыі 31 вясковец быў вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 50 жыхароў загінулі на фронце. На паўн. ускраіне вёскі пахаваны 114 воінаў Сав. Арміі, якія загінулі ў баях у 1943—44 гг. У 1978 г. на магіле ўстаноўлены помнік. Пасля вайны вёска і пасёлак адбудаваны. З 1950 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Чырвоны партызан», з 19.4.1957 г. ў складзе саўгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. вёска, 109 гаспадарак, 187 жыхароў, меліся клуб, магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 68 гаспадарак, 106 жыхароў. З 30.5.2001 г. ў КСУП «Першамайскі» (створаны на базе былога саўгаса, цэнтр — в. Трылесіна), працаваў магазін. У 2004 г. 54 гаспадаркі, 85 жыхароў. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн, уздоўж берага ракі. Паралельна да гал. праходзяць 2 кароткія вуліцы. Паміж імі — невялікія папярочныя. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1980-я г. на Пн вёскі размяшчаўся вытв. сектар.

**ГАЛАЛОБАЎКА** — вёска ў Цемналескім с/с, за 9 км на ПдУ ад Дрыбіна, 79 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Вярбоўка. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя су-

вязі па мясц. дарозе праз в. Шаблавы і далей па шашы Горкі—Дрыбін—Расна. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

У 1664 г. Галалобаўка-Вярбоўшчына — вёска, уладанне А.Котла ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1764 г. вёска ў складзе Хіславіцкага староства, дзярж. ўладанне. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 16 двароў, 93 жыхары, уладанне Цеханавецкіх. У 1837 г. Галалобаўка ў складзе маёнтка Горлава, уладанне Парчэўскіх, 4 двары, 34 жыхары. У 1850 г. вёску набылі Ф. і С. Петкуны; у 1862 г. 16 душ сялян мужчынскага полу атрымалі 72 дзес. зямлі. Выкупная сума за зямлю склала 1607 руб. У 1880 г. вёска ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета, 25 двароў, 82 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася валяльным, калёсным і кравецкім промысламі, вырабляліся таксама розныя быт. рэчы з дрэва. У 1890 г. працавала школа граматы (15 хлопчыкаў). У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся пасёлак (3 двары, 21 жыхар) і 2 вёскі: Галалобаўка Петкуна (15 двароў, 100 жыхароў) і Галалобаўка Сушчэўскага (16 двароў, 121 жыхар), дзе знаходзіліся школа граматы, ветраны млын. У 1905 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1907 г. вучыліся 70 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. У 1909 г. Галалобаўка Петкуна налічвала 21 двор, 140 жыхароў, Галалобаўка Сушчэўскага — 19 двароў, 118 жыхароў; пасёлак — 18 жыхароў. У 1912 г. вучылішча пераўтворана ў земскую школу, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с, з 1927 г. вёска — цэнтр таго ж сельсавета Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. З 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. 101 вучань, літ., драматычны і харавы гурткі. У 1930 г. для школы пабудавалі новае памяшканне. У 1926 г. вёска (44 двары, 213 жыхароў), хутары (18 двароў, 72 жыхары) і пасёлак (21 двор, 92 жыхары). У 1931 г. створаны калгас імя 6-га раённага з'езда Саветаў Дрыбіншчыны (у 1932 — 31 гаспадарка, кузня). У 1930-я г. вясковая школа ператворана ў сямігодку. У Вял. Айч. вайну Галалобаўка з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Ленінскі прызыў», з 1956 г. ў калгасе «17-ы партз'езд» Пакуццянскага с/с, з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. 30 гаспадарак, 40 жыхароў. У 1998 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў. З 2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ў КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова аднабаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ГАНТОЎЛЯ** — вёска ў Цемналескім с/с, за 5 км на У ад Дрыбіна, 81 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Расна. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1909 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіўся пасёлак (4 двары, 8 жыхароў), у Дрыбінскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. З 26.4.1919 г. ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з

20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 43 жыхары. У 1931 г. 13 гаспадарак пас. Гантоўля і суседняй в. Карапышкі аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны куст». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. Гантоўля акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. З 1944 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Бальшавік Дрыбінец», з 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненай гаспадаркі «Ленінскі прызыў», з 1956 г. ў калгасе «17-ы партз'езд» Пакуццянскага с/с, з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. ў вёсцы 23 гаспадаркі, 43 жыхары, у 1998 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў. З 2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. — КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў. Вясковая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗЕЦК** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Галыша, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новае Прыбужжа і далей па шашы Горкі—Расна. 26 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

У 1622 г. с. Гарадзецкае (26 гаспадарак, 30 валок зямлі) у складзе Горы-Горацкага маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1683 г. сяло Горскай вол., 23 дымы, 30 валок зямлі. У 1750 г. 32 двары, 172 жыхары, у маёнтку Горкі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. сяло таго ж маёнтка, 43 двары, 279 жыхароў, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1838 г. пабудавана драўляная царква. З 1846 г. пры царкве працавала вучылішча (19 вучняў). У 1847 г. Гарадзецк — сяло казённага Горы-Горацкага маёнтка (27 гаспадарак, 213 жыхароў), у якім размяшчаліся сельскае кіраванне, царква Пятра і Паўла, царк. вучылішча, сельскі запасны магазін, карчма. У 1885 г. цэнтр Гарадзецкай вол., 41 двор, 202 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам, выраблялa з дрэва посуд і іншыя быт. рэчы. У 1897 г. ў сяле 47 двароў, 341 жыхар, вал. праўленне, нар. вучылішча (адчынена ў 1866), капліца, багадзельня, хлебазапасны магазін, конскі двор, цагельны з-д, карчма, 29 ліп. праводзіўся кірмаш. Побач з пабудовамі сялян знаходзіўся царк. прычт (2 царквы, 5 двароў, 24 жыхары) і сядзіба Шчэрбава (7 жыхароў, ветраны млын). У нар. вучылішчы ў 1889 г. навучаўся 81 хлопчык, у 1902 г. — 82 хлопчыкі і 1 дзяўчынка, у 1907 г. — 56 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1901—10 гг. працавала царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў Гарадзецку 409 жыхароў, дзейнічаў прыёмны пакой. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 18.2.1923 г. ў Дрыбінскай вол., з 20.8.1924 г. цэнтр Гарадзецкага с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 67 вучняў, пачала дзейнічаць б-ка. У 1926 г. Гарадзецк — хутары, 90 двароў, 499 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Полымя» (у 1932 — 31 гаспадарка, кузня). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 22.8.1942 г. партызаны брыгады «Звязда» разграмілі ў вёсцы гарнізон гітлераўцаў. Падчас акупацыі 5 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 26 жыхароў загінулі на фронце. З 1960 г. вёска ў складзе саўгаса «Дрыбінскі», з 1990 г. ў калгасе «Мір» (цэнтр в. Міхееўка). У 1985 г. ў вёсцы 57 гаспадарак, 101 жыхар, меліся магазін, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, стайня. У 1998 г. 36 гаспадарак, 67

жыхароў. З 2002 г. вёска ў СВК «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка), працаваў магазін. У 2004 г. 23 гаспадаркі, 56 жыхароў. Гал. працяглая вуліца арыентавана з Пд на Пн, ад яе на З адыходзяць другарадныя. Сярод жылой забудовы на гал. вуліцы размяшчаюцца грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза М.В.Аўдзеева (1913—79).

**ГОРЛАВА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Дрыбіна, 72 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ ручай Горлаўскі (прыток р. Вярбоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. ў ВКЛ. У 1589 г. с. Горлавічы ў Мсціслаўскай вол., дзярж. уласнасць. У 1666 г. Горлаў — дзяржава ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ; у 1752 г. належала Я.Гарадзенскаму. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 8 двароў, 67 жыхароў, млын, уладанне Цеханавецкага. У 1837 г. Горлава — маёнтак (уваходзілі аднайменны фальварак і 4 вёскі), 28 дваровых сялян, уладанне братоў Парчэўскіх. У фальварку размяшчаліся панскі дом, млын і інш. гасп. пабудовы. У 1848 г. маёнтак налічваў 155 сялян (у іх карыстанні знаходзіліся 284 дзес. зямлі), 1000 дзес. памешчыцкай зямлі. З 1850 г. валоданне Ф.А.Петкуна. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак Цеханавецкіх (у 1848 — 9 двароў, 81 жыхар, звыш 307 дзес. памешчыцкай зямлі). У 1852 г. маёнтак належаў Дунін-Жухоўскай (вадзяны млын, 203 дзес. зямлі ў 1882). У 1880 г. в. Горлава, 11 двароў, 80 жыхароў; частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. існавалі аднайменныя маёнтак (8 жыхароў, млын), фальварак (7 жыхароў, уладанне Мізгайлы) і вёска (20 двароў, 128 жыхароў). У 1909 г. вёска налічвала 23 двары, 148 жыхароў; фальваркі: Горлава 1 — 7 жыхароў, млын, 208 дзес. зямлі; Горлава 2 — 9 жыхароў, звыш 131 дзес. зямлі. У 1914 г. пры землеўпарадкаванні вёскі створаны хутар Горлава. У 1918 г. на месцы фальварка Горлава 2 была арганізавана камуна «Маяк». З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. Горлава — хутары, 35 двароў, 188 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Камуністычны шлях». У 1931 г. 12 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «14-годдзе Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 5 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 6 жыхароў загінулі на фронце. З 1959 г. вёска ў складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Навасёлкі; да 2.4.1962 калгас імя Калініна). У 1985 г. ў вёсцы 20 гаспадарак, 35 жыхароў; у 1998 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. З 29.11.2001 г. вёска ў складзе СВК «Калгас імя Кірава» (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2004 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.



*М.В.Аўдзееў.*

**ГУБІНА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўд. ускраіне цячэ р. Зерня (прыток р. Проня), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Расна. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1622 г. сяло Горы-Горацкага маёнтка ў Аршанскім павеце ВКЛ, 28 валок зямлі, 21 гаспадарка, у тым ліку 4 гаспадаркі слабодскія. У 1683 г. сяло ў Горскай

вол. таго ж маёнтка, 42 дымы. Да 1687 г. побач з сялом знаходзілася слабада, якая налічвала 8 валок зямлі. У 1750 г. ў сяле 29 двароў, 164 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска Горы-Горацкага маёнтка, 25 двароў, 190 жыхароў, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1897 г. вёска (іншая назва Саф'янполле) і аднайменны фальварак (15 жыхароў) у Гарадзецкай вол. Чавускага павета. У 1909 г. ў вёсцы 40 двароў, 281 жыхар, у фальварку 3 жыхары, працаваў млын. З 26.4. 1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 18.2.1923 г. ў Дрыбінскай вол., з 20.8.1924 г. ў Господаўскім (з 1931 Трылесінскі, з 20.4.1939 Першамайскі) с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. З 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 63 двары, 314 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Зерне» (24 гаспадаркі ў 1932, млын). У 1940 г. 65 двароў, 251 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 62 двары, загубілі 36 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1956 г. ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Старое Прыбужжа). У 1985 г. ў вёсцы 32 гаспадаркі, 58 жыхароў, працавала жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў. З 30.5.2002 г. вёска ў складзе сял. фермерскай гаспадаркі «Прагрэс» (цэнтр в. Старое Прыбужжа). У 2004 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Другая невялікая вуліца адыходзіць ад зах. канца гал. вуліцы на Пд. Забудова двухбаковая шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне ў 1980-я г. размяшчаўся гасп. сектар.

**ДАМАНЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 41 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пудаўня і далей па шашы Масток—Дрыбін. 62 гаспадаркі, 85 жыхароў (2007).

У 1560 г. Даманы — сяло (41 дым) у Магілёўскай вол. (старостве) Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўладанне. У 1569 г. цэнтр войтаўства таго ж староства (з 1588 эканоміі). У 1604 г. Даманавіцкае войтаўства Магілёўскай эканоміі ўключала 13 сёл. У 1636 г. с. Даманы налічвала 57 валок зямлі. У 1742 г. 48 дымоў, 57 валок зямлі, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1773 г. ў Магілёўскім, з 1861 г. ў Горацкім паветах. У 1785 г. вёска ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, памешчыцкае ўладанне. У 1848 г. — 48 двароў. У 1897 г. вёска (90 двароў, 641 жыхар, 2 хлебазапасныя магазіны) і аднайменны фальварак (5 двароў, 3 жыхары, уладанне Ф.Казлоўскай) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета. У 1908 г. пачала працаваць школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў вёсцы 108 двароў, 779 жыхароў, у фальварку (уладанне Тамашэвічаў) 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Еганаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Шклоўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 11.3.1960 г. ў Чэрнеўскім с/с, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. Даманы — хутары, 145 двароў, 867 жыхароў, створана прац. школа 1-й ступені (адкрыта на базе дарэв.). У 1924 г. створана садоваагародніцкае т-ва «Пераможац» (8 чал. у 1925). У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях праўды». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска, 134 гаспадаркі, 234 жыхары, у складзе саўгаса «Даманы» (цэнтр в. — Пудаўня, з

12.2.1992 калгас, паводле іншых дадзеных з 21.11.1996); працавалі свінагадоўчы комплекс, ферма буйной рагатай жывёлы, лесапільня, пач. школа, клуб, магазін. У 1998 г. 80 гаспадарак, 134 жыхары. З 2003 г. вёска ў складзе СВК «Калгас «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня), працавалі магазін, сельскі Дом культуры, Дом сац.-культурных паслуг. У 2004 г. 65 гаспадарак, 77 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (адна перасякаецца ракой), арыентаваных з ПнУ на ПдЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн і Пд гасп. сектар.

**ДРАЗДОЎКА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 7 км на Пд ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Сярпенка, на Пн — яе безыменны прыток. Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Расна, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1636 г. абруб Драздоўшчына ў Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1742 г. вёска той жа эканоміі, 11 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1848 г. Драздоўка — маёнтак (уваходзілі фальварак Драздоўка і абруб Затоны), уладанне Рымскіх-Корсакаў (193 селяніны маёнтка карысталіся 368 дзес. зямлі, у памешчыка было звыш 1393 дзес. зямлі, млын). З 1876 г. маёнтак Драздоўка і Затоны знаходзіўся ва ўладанні Г.А.Юнгера (1061 дзес. зямлі, вадзяны млын). У 1897 г. фальварак (3 двары, 8 жыхароў) у Дрыбінскай вол. Чавускага павета. У 1904 г. пасёлак, 4 двары, 27 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Карэбскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. З 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах; з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 67 жыхароў. У 1928 г. створаны калгас «Авангард». У 1940 г. 26 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 4 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 12 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Праўда», з 1959 г. ў калгасе «Світанне» (з 1981 некалькі гадоў уваходзіла ў склад калгаса «Прагрэс»). У 1985 г. 19 гаспадарак, 39 жыхароў, у 1998 г. 16 гаспадарак, 28 жыхароў. З 26.6.2003 г. вёска ў складзе СВК «Сонечны прамень» (утвораны на базе калгаса «Рассвет»; цэнтр — в. Карэбы). Планіроўка Г-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе паўд. боку адыходзіць перпендыкулярна другарадная невялікая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сац. Працы А.А.Байкова (н. ў 1929).

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 16 км на Пд ад Дрыбіна, 73 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Вярбоўка, на Пн — яе прыток р. Чарнарэчка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1764 г. Дубраўка — вёска, дзярж. ўласнасць у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, пажыццёвае ўладанне М.Прыклонскай. У 1845 г. Дубраўка ў складзе маёнтка Расна; 26 двароў, карчма. У 1851 г. вёска маёнтка Раснянска-Карпецкае, 25 гаспадарак, 164 жыхары. У 1897 г. ў Раснянскай вол. 31 двор, 184 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 56 двароў, 343 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г.

ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Затонскім (з 21.8.1925 Робцаўскі) с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі (з 9.6.1927 да 26.7.1930 у Аршанскай акрузе). З 25.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У кастр. 1925 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 50 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 74 двары, 374 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны партызан», працавала кузня. У 1940 г. 58 двароў, 251 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр.—ліст. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 50 двароў, загубілі 4 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Леніна, з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. 29 гаспадарак, 57 жыхароў, працавала жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 23 гаспадаркі, 41 жыхар. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр в. Заполле), працаваў магазін. У 2004 г. 19 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка зігзагападобная. Гал. вуліца арыентавана з З на У. Ад яе зах. боку на Пн і ад ўсх. — на Пд адыходзяць невялікія вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне размяшчаўся гасп. сектар.

**ЕГАНЫ** (да 24.4.1991 вёскі Еганы 1 і Еганы 2) — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 37 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць каля вёскі. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

У 1604 г. Еганы — сяло, дзярж. уласнасць у Даманавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1636 г. сяло той жа эканоміі, 36 валок зямлі, карчма. У 1742 г. вёска Магілёўскай эканоміі, 36 валок зямлі, 28 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 35 двароў, 274 жыхары, прыватнае ўладанне. У 1897 г. ў Чэрнеўскай вол. 38 двароў, 241 жыхар. У 1909 г. ў вёсцы 47 двароў, 316 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Еганаўскім с/с (цэнтр — в. Пудаўня) Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Шклоўскім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. вёска, 70 двароў, 426 жыхароў; у 1926 г. пасёлак, 19 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1944 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. вёска — цэнтр сельсавета, з 16.9.1959 г. да 29.12.1989 г. ў Шклоўскім р-не, з 11.3.1960 г. ў Чэрнеўскім с/с. У 1985 г. вёска Еганы 1 налічвала 48 гаспадарак, 64 жыхары, працавалі жывёлагадоўчая ферма, лесапільня, зернедрабільня, фельч.-акушэрскі пункт. У вёсцы Еганы 2 — 12 гаспадарак, 21 жыхар. 24.4.1991 г. вёскі Еганы 1 і Еганы 2 аб'яднаны, у складзе калгаса «Даманы» (раней саўгас, цэнтр в. Пудаўня). З 2003 г. вёска ў СВК «Калгас «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня). У 2004 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПнЗ далучаецца перпендыкулярна кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЕСЬКАЎКА** — вёска ў Цемналескім с/с, за 10 км на У ад Дрыбіна, 82 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, навокал лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пічоўка і далей па шашы Горкі—Расна. 31 гаспадарка, 58 жыхароў (2007).

У 1622 г. сяло Горы-Горацкага маёнтка ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, прыватнае ўладанне. У 1683 г. сяло Горскай вол. таго

ж маёнтка, 38 дымоў, 30 валок зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска таго ж маёнтка, 49 двароў, 368 жыхароў, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1897 г. ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета, 39 двароў, 245 жыхароў, працавала школа граматы. У 1909 г. 48 двароў, 295 жыхароў. Некаторыя вяскоўцы займаліся рамізніцкім промыслам. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Дрыбінскай вол. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. З 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 71 двор, 382 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Майская кветка» (у 1932 — 23 гаспадаркі). У 1940 г. ў вёсцы 95 двароў, 486 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 38 жыхароў вёскі загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «17-ы партз'езд», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. вёска, 60 гаспадарак, 161 жыхар, працавалі жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1998 г. 53 гаспадаркі, 108 жыхароў. З 2001 г. ў КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ў КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 40 двароў, 76 жыхароў. Гал. вуліца арыентавана з З на У. Ад яе на Пд і Пн адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

Каля зах. ускраіны вёскі знаходзіцца Манькаўскае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 4,2 млн. м$^3$). Вёска — радзіма бел. паэтэсы Н.Д.Кавалёвай (н. ў 1949).

**ЖАВАНЬ** (да 17.7.1967 вёскі Жавань Вялікая і Жавань Малая) — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 56 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд і Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Шыпаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць побач з вёскай і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Кіеў. 46 гаспадарак, 85 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах вядома з 1604 г. як абруб Жывань у складзе Бардзілаўскага войтаўства Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1643 г. Жавань — сяло таго ж войтаўства і эканоміі, 21 валока зямлі. У 1742 г. вёска Магілёўскай эканоміі, 21 валока зямлі; меліся карчма і млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 25 двароў, 195 жыхароў, уладанне В.Я.Чычагава. У 1880 г. 32 двары, 213 жыхароў. Акрамя земляробства вяскоўцы займаліся калёсным, кравецкім і возным промысламі. У 1897 г. Жавань — вёска (62 двары, 461 жыхар, школа граматы) і аднайменны хутар Чаплінскіх (6 жыхароў) у Чэрнеўскай вол. У 1909 г. ў вёсцы 70 двароў, 515 жыхароў, на хутары 2 двары, 10 жыхароў. Школа граматы пераўтворана ў земскую. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 18.2.1923 г. ў Дрыбінскай вол., з 9.5.1923 г. да 30.6.1923 г. ў Нічыпаравіцкай вол. З 20.8.1924 г. ў Гаспадаўскім, з 20.4.1939 г. ў Першамайскім сельсаветах Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.6.1966 г. ў Кароўчынскім с/с, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 126 двароў, 725

жыхароў. У 1927 г. пабудавана 4-гадовая школа. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Світанне» (паводле інш. звестак «Чырвоны гай», у 1932 — 32 гаспадаркі) і «Камінтэрн» (у 1932 — 8 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 157 двароў, 532 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.6.1944 г. батальён Сав. Арміі пад камандаваннем маёра Н.І.Кашына адбіў контратаку ворага і вызваліў вёску. У гэтым баі вызначыліся рота пад камандаваннем Ю.Ф.Зарудзіна і радавы Н.Н.Юзін, якія былі ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. Падчас акупацыі 20 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 103 жыхары загінулі на фронце. У 1950 г. аднаўленыя даваенныя калгасы аб'ядналіся ў калгас «Камінтэрн»; з 19.4.1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Першамайскі», з 1.3.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. вёска налічвала 116 гаспадарак, 225 жыхароў, працавалі жывёлагадоўчая ферма, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, клуб. У 1998 г. 81 гаспадарка, 130 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (утворана на базе былога саўгаса; цэнтр — в. Кароўчына), працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У 2004 г. 60 гаспадарак, 112 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца, на якой сярод жылой забудовы размяшчаюцца грамадскія будынкі, арыентавана з Пд на Пн. На З ад яе праходзіць другая прамалінейная вуліца. Паміж імі — папярочныя вуліцы. Невялікая адасобленая частка забудовы размешчана на Пн вёскі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На У сад.



*Дз.Г.Сухавараў.*

**ЖАКАЎКА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 60 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Расна і далей па шашы Расна—Горкі. 15 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

У 1909 г. Жакаўка — пасёлак у Радамльскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 37 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 9.6.1923 г. ў Сухараўскай вол. З 20.8.1924 г. ў Суслаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Першамайскім с/с Горацкага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. аднайменныя вёска (21 двор, 117 жыхароў), і пасёлак (8 двароў, 44 жыхары). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі ў вёсцы 19 дамоў, 4 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 14 жыхароў загінулі на фронце. З 1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. ў вёсцы 38 гаспадарак, 63 жыхары, працавала жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 22 гаспадаркі, 30 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Першамайскі» (створаны на базе былога саўгаса, цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 16 гаспадарак, 20 жыхароў. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. На У знаходзіцца адасобленая прамалінейная частка забудовы ў выглядзе невялікай вуліцы. Паміж вуліцамі ў 1980-я г. размяшчаўся гасп. сектар. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза Дз.Г.Сухаварава (1904—83).

**ЖДАНАВІЧЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 44 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўніннаўзгорысты. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 41 гаспадарка, 54 жыхары (2007).

У 1560 г. Жданавічы — сяло ў Магілёўскай вол. (староства, з 1588 эканоміі), у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. ўлас-

насць. У 1563 г. аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу; меўся млын. У 1604 г. сяло Бардзілаўскага войтаўства Магілёўскай эканоміі, 29 двароў, вадзяны млын. У 1636 г. сяло, 33 валокі зямлі. У 1742 г. вёска, 33 валокі зямлі, 19 дымоў, млын, карчма, капліца. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. сяло аднайменнага маёнтка, 56 двароў, 343 жыхары, драўляная царква. У 1844 г. памешчык Савіцкі купіў маёнтак (уваходзілі с. Жданавічы і в. Мілаўе) у графа Меліна. У 1861 г. ў Жданавічах засн. сукнавальня, мелася карчма. Адпаведна Устаўной грамаце 1862 г., у с. Жданавічы 110 сял. душ мужчынскага полу атрымалі ў карыстанне 495 дзес. зямлі. З 1882 г. маёнтак ва ўладанні Э.В.Шнэйдара (1777 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальня). У 1885 г. сяло ў Чэрнеўскай вол., 46 двароў, 312 жыхароў; дзейнічала царква Ушэсця. Вяскоўцы займаліся кравецкім, кавальскім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. 74 двары, 543 жыхары, царква, школа граматы; праводзіліся штогадовыя таржкі. Побач з сялом знаходзіўся аднайменны фальварак (1 двор, 47 жыхароў, вадзяны млын з крупадзёркай). З 1904 г. працавала аднакласная царк.-прыходская школа, для якой было пабудавана памяшканне. У 1906 г. рабочыя маёнтка Жданавічы патрабавалі ад памешчыка палепшанага харчавання. У выніку многія з іх пазбавіліся працы. У 1909 г. ў сяле налічвалася 83 двары, 630 жыхароў, у маёнтку — 3 жыхары (326 дзес. зямлі, уладанне Ю.Бехлі). Дзейнічала жаночая школа малочнай гаспадаркі (1 двор, 3 жыхары). З 20.8.1924 г. — цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 8.9.1931 г. ў Горацкім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. вучыліся 113 дзяцей. У 1925 г. на месцы сяла існавалі хутары (126 двароў, 704 жыхары, школа); на месцы былога маёнтка — хутар (3 двары, 16 жыхароў). У 1926 г. створана цагельнае т-ва, у 1931 г. — калгас «Чырвоны гай» (у 1932 — 39 гаспадарак). У 1932 г. дзейнічалі таксама калгасы імя Якаўлева (14 гаспадарак) і «Чырвоная рэчка» (18 гаспадарак), адкрыты дзіцячыя яслі. У 1940 г. ў вёсцы 140 двароў, 424 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 46 двароў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 26.6.1954 г. ў складзе Зарэсцянскага с/с Дрыбінскага р-на, з 16.9.1959 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989). У 1985 г. вёска, 96 гаспадарак, 163 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін, аддз. сувязі; у складзе саўгаса «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня). З 20.12.1990 г. вёска знаходзілася на тэр. міжгасп. кармавога прадпрыемства «Высокаборскае». З 3.5.1998 г. вёска — цэнтр саўгаса «Высокаборскі» (арганізаваны на аснове кармапрадпрыемства «Высокаборскае» і часткі зямельных угоддзяў калгасаў «Даманы» і «Беларусь»). У 1998 г. 53 гаспадаркі, 78 жыхароў. У 2004 г. вёска — цэнтр КСУП «Саўгас «Высокаборскі», 49 гаспадарак, 65 жыхароў, працавалі магазін, сельскі Дом культуры, Дом сац.-культ. паслуг. Планіровачна вёска складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Ад паўн. вуліцы адыходзіць на ПнЗ кароткая прамалінейная вуліца, ад паўд. вуліцы на ПдУ — 3 прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд гасп. сектар.

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 20 км на З ад Дрыбіна, 51 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам, на У і Пн цячэ р. Чарніцы (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

У пісьмовых крыніцах вядома з 1604 г. як сяло ў Шклоўскай вол. Аршанскага павета ВКЛ, шляхецкае ўладанне. У 1623 г. Забор'е — сяло таго ж павета, уладанне Мілядоўскага. У 1636 г. сяло ў Магілёўскай эканоміі, 10 валок зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска Малое Забор'е (30 двароў, 139 жыхароў), уладанне Мянжынскага. У 1897 г. в. Забор'е (20 двароў, 156 жыхароў), у Чэрнеўскай вол. Чавускага павета. У 1909 г. 23 двары, 161 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Чэрнеўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 25.7.1931 г. ў Горацкім р-нах, з 16.9.1959 г. да 19.12.1989 г. ў Шклоўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 40 двароў, 212 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Новы шлях» (у 1932 — 18 гаспадарак, кузня). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска, 47 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка); дзейнічалі свінагадоўчая ферма, клуб. З снеж. 1996 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 35 гаспадарак, 65 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 2004 г. 24 гаспадаркі, 44 жыхары. Планіровачна вёска складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Раснянскім с/с, за 12 км ПдУ ад Дрыбіна, 71 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Вярбоўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 103 гаспадаркі, 229 жыхароў (2007).

У 1785 г. Малое Заполле — вёска Чавускага павета Магілёўскай губ. Рас. імперыі, уладанне графа А.М.Пацея, 22 двары, 185 жыхароў. У 1880 г. 26 двароў, 191 жыхар. Акрамя земляробства вяскоўцы займаліся сталярным промыслам. У 1897 г. в. Малое Заполле (40 двароў, 287 жыхароў) і аколіца Заполле (8 двароў, 49 жыхароў) у Раснянскай вол. У 1909 г. 44 двары, 330 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с (з 1928 да 1939 у Баброўскім і Заходскім сельсаветах) Раснянскага р-на Калінінскай акругі, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не; з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. в. Малое Заполле, 66 двароў, 292 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога» (у 1932 — 40 гаспадарак). У 1939 г. вёска злілася з аколіцай у адну вёску з назвай Заполле. У 1940 г. 78 двароў, 358 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 5 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 41 жыхар вёскі загінуў на фронце. З 25.4.1957 г. вёска — цэнтр саўгаса «Запаветы Леніна» (да жн. 1963 саўгас імя Леніна), які ўключаў 13 вёсак; 6,8 тыс. га зямлі. У 1968 г. на ўшанаванне памяці жыхароў вёсак саўгаса «Запаветы Леніна», якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—45 гг., у вёсцы пастаўлены абеліск. У 1985 г. вёска, 137 гаспадарак, 327 жыхароў, дзейнічалі саўгасны машынны двор, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, жывёлагадоўчая ферма, Раснянскі спіртзавод (пабудаваны ў 1930), дзіцячы сад-яслі, магазін. У 1998 г. 128 гаспадарак, 302 жыхары. З 20.5.2001 г. вёска — цэнтр КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (у 2004 яго пл. складала 6011 га.). У 2004 г. 108 гаспадарак, 270 жыхароў, працаваў магазін.

**ЗАСЦЕНКІ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 55 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на

лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Прадзёрка (прыток р. Шыпаўка). Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Расна і далей па шашы Расна—Горкі. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

У 1785 г. Засценкі — вёска маёнтка Галавічы Чавускага павета Магілёўскай губ. Рас. імперыі, уладанне В.Я.Чычагава, 7 двароў, 82 жыхары. У 1847 г. ў складзе маёнтка Трылесіна, 17 двароў, 85 жыхароў, 168 дзес. зямлі, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана. У 1897 г. ў Дрыбінскай вол. 23 двары, 157 жыхароў. У 1909 г. 23 двары, 198 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Суслаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Першамайскім с/с Горацкага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. арганізаваны калгас «16-ы партз'езд», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 23.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 21 двор. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «1 Мая», з 19.4.1957 г. ў саўгасе «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. вёска, 48 гаспадарак, 89 жыхароў, працавалі жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1998 г. 29 гаспадарак, 46 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 21 гаспадарка, 35 жыхароў. Гал. вясковая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе перпендыкулярна на ПнЗ ідзе другая вуліца. На З размешчана адасобленая частка забудовы. Паміж імі ў 1980-я г. знаходзіўся гасп. сектар. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАТОНЫ 1** — вёска ў Раснянскім с/с, за 11 км на Пд ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Проня, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 22 гаспадаркі, 44 жыхары (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Проня, на мысе паміж 2 ручаямі, што выходзяць у пойму р. Проня, знаходзіцца гарадзішча (было ўмацавана кальцавым валам). За 0,6 км на З ад вёскі, 0,1 км ад гарадзішча, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага Проні захаваліся рэшткі паселішча, якое адносіцца да ранняга жал. веку. За 0,6 км на З ад вёскі, 50 м на Пд ад паселішча і 150 м на Пд ад гарадзішча размяшчаецца стаянка, якая адносіцца да каменнага веку. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тэр. сучаснай вёскі ў далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з пач. 17 ст. У 1604 г. Затоны — сяло, 20 дымоў, у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі. У 1643 г. сяло той жа эканоміі, 32 валокі зямлі. У 1742 г. вёска Затоны разам з Татаршчызнай налічвала 44 дымы, меліся млын і карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1847 г. абруб Затоны ў складзе маёнтка Драздоўка, уладанне Рымскіх-Корсакаў. У 1880 г. вёска ў Раснянскай вол., 39 двароў, 271 жыхар. Частка жыхароў займалася шавецкім промыслам. У 1885 г. існаваў таксама маёнтак Затоны, уладанне нашчадкаў Рымскіх-Корсакаў. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі размяшчаліся вёска (50 двароў, 380 жыхароў), аднайменная сядзіба (2 жыхары) і хутар (7 жыхароў, млын). У 1909 г. ў вёсцы 72 двары, 462 жыхары. Побач знаходзіўся выселак Затоны 1, 5 жыхароў. Працавалі хлебазапасны магазін, земская школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр сельсавета, з 21.5.1925 г. ў Робцаўскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў

Аршанскай акрузе. З 25.7. 1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.7.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1927 г. было 46 вучняў. У 1920 г. арганізавана камуна «Росквіт». З 1924 г. дзейнічала хата-чытальня. У 1926 г. хутары, 112 двароў, 609 жыхароў, і камуна, 35 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Росквіт». У 1940 г. 44 двары, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску. Падчас акупацыі 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 19 жыхароў вёскі загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Росквіт» (аб'яднаўся з калгасам в. Затоны 2), з 1956 г. ў калгасе імя Леніна, з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна» (цэнтр в. Заполле). У 1985 г. ў вёсцы 14 гаспадарак, 19 жыхароў; у 1998 г. 32 гаспадаркі, 73 жыхары. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 24 гаспадаркі, 54 жыхары. Гал. прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з Пд на Пн. Ад яе ў цэнтры адыходзіць перпендыкулярна на З кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАТОНЫ 2** — вёска ў Раснянскім с/с, за 12 км на Пд ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З мяжуе з лесам, цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі.

У 1909 г. выселак (1 двор, 2 жыхары) у Раснянскай вол. Чавускага павета. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Затонскім, з 21.8.1925 г. ў Робцаўскім сельсаветах Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.7.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Усходняя зара». У 1940 г. 59 двароў, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску. Падчас акупацыі 2 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 36 жыхароў вёскі загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 25.4.1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. ў вёсцы 41 гаспадарка, 93 жыхары; у 1998 г. — 7 двароў, 7 жыхароў. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**ЗАХОДЫ** — вёска ў Раснянскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Дрыбіна, 72 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам, на З цячэ р. Вербаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 18 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

У 1837 г. Заходы — вёска маёнтка Горлава ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., уладанне памешчыкаў Парчэўскіх, 7 двароў, 46 жыхароў. З 1850 г. знаходзілася ва ўладанні Ф. і С. Петкуноў. У 1862 г., адпаведна Устаўной грамаце, у вёсцы налічвалася 11 душ дваровых мужчынскага полу і 25 душ сялян. Яны атрымалі ў сваё карыстанне 112 дзес. 1200 кв. сажняў зямлі. Выкупная сума за зямлю склала 2667 руб. 20 кап. Другая в. Заходы ўваходзіла ў склад маёнтка Гарадок, уладанне Кубліцкага, у 1848 г. налічвала 8 двароў, 51 жыхара, у 1825 г. — 7 жыхароў (150 дзес. зямлі). У 1862 г. 22 сял. гаспадаркі гэтай вёскі атрымалі 99 дзес. зямлі. У 1897 г. Заходы — вёска ў Раснянскай вол., 25 двароў, 160 жыхароў, у 1909 г. 30 двароў,

185 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с (з 1928 у Баброўскім с/с, з 5.12.1931 да 1939 — цэнтр сельсавета) Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 32 двары, 173 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавік» (у 1932 — 12 гаспадарак). У 1940 г. 35 двароў, 166 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі ў вёсцы 14 двароў, 10 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 18 жыхароў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1949 г. цэнтр узбуйненага калгаса імя М.І.Калініна (4 калгасы), які 13.3.1959 г. быў аб'яднаны з калгасам «Араты» (цэнтр — в. Баброва), а 2.4.1962 г. атрымаў імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Навасёлкі). У 1985 г. вёска, 32 гаспадаркі, 70 жыхароў, працавалі свінагадоўчая ферма, б-ка. У 1998 г. ў вёсцы 22 гаспадаркі, 50 жыхароў. З 29.11.2001 г. вёска ў складзе СВК «Калгас імя Кірава» (цэнтр — в. Навасёлкі). У 2004 г. 22 гаспадаркі, 48 жыхароў. Дзве дугападобныя вясковыя вуліцы зліваюцца ў адну ў цэнтры вёскі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗУБАЎКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 14 км на Пд ад Дрыбіна, за 73 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Чарнарэчка (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1746 г. в. Зубаўшчына ў Раснянскай вол. Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1845 г. Зубаўка — вёска казённага маёнтка Расна, 4 двары. У 1851 г. вёска маёнтка Раснянска-Карпецкае, 5 двароў, 49 жыхароў. У 1897 г. ў Раснянскай вол., 10 двароў, 63 жыхары. У 1909 г. вёска (14 двароў, 77 жыхароў), і аднайменны хутар (11 жыхароў). З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Затонскім, з 21.8.1925 г. ў Робцаўскім сельсаветах Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Аршанскай акругі. З 25.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.7.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1929 г. арганізавана с.-г. меліярацыйнае т-ва. У 1940 г. 26 двароў, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі ў вёсцы 23 двары, 1 вясковец быў вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 14 жыхароў вёскі загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. 18 гаспадарак, 38 жыхароў; у 1998 г. 13 гаспадарак, 28 жыхароў. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў. Вясковая вуліца крывалінейнага абрысу арыентавана з Пд на Пн і забудавана няшчыльна драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯМЦЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 66 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Галубіна (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

У 1604 г. Зямцы (або Галубіна) — сяло ў Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскай

эканоміі. У 1636 г. сяло той жа эканоміі, 20 валок зямлі. У 1650 г. вёска ў складзе Шклоўскіх уладанняў Сяняўскіх. У 1742 г. в. Зямцы (ці Галубіна), 16 дымоў, у Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.). У 1785 г. 27 двароў, 195 жыхароў, у Копыльскім павеце (з 1861 у Горацкім). У 1867 г. вёска і аднайменны маёнтак (361 дзес. зямлі), уладанне Е.С.Краніхфельда, у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета. У 1909 г. 27 двароў, 169 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.9.1959 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989). У 1926 г. 47 двароў, 266 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска, 26 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка), працавала жывёлагадоўчая ферма. З снеж. 1996 г. ў калгасе «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка), з 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2004 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛІНКА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 6 км на З ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

У 1931 г. вёска на тэр. Дрыбінскага с/с Дрыбінскага, з 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. Горацкага, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. зноў Дрыбінскага р-наў, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім с/с. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоная Калінка». У 1940 г. 32 двары, 163 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі знішчылі 17 двароў, загубілі 22 вяскоўцы, 17 жыхароў вёскі загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1960 г. ў складзе саўгаса «Дрыбінскі» (цэнтр — в. Дрыбін). У 1985 г. вёска, 19 гаспадарак, 24 жыхары. З 1990 г. ў калгасе «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка), з 2002 г. ў СВК «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 1998 г. 12 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2004 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 18 км на Пд ад Дрыбіна, за 78 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і Пн мяжуе з лесам, на З цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рабцы і далей па шашы Расна—Горкі. 28 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

У 1764 г. Каменка — вёска ў Раснянскай вол. Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўладанне, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1772 г. 17 двароў, 143 жыхары. У 1845 г. на тэр. казённага маёнтка Расна, 47 гаспадарак. У 1851 г. вёска маёнтка Раснянска-Карпецкае, 48 двароў, 379 жыхароў, дзейнічала карчма. У 1880 г. 52 двары, 429 жыхароў. Частка вяскоўцаў акрамя земляробства займалася кравецкім, бандарным, кавальскім промысламі. З 1872 г. працавала сукнавальня з млынам. У 1897 г. вёска ў Раснянскай вол., 81 двор, 571 жыхар. У 1909 г. 103 двары, 675 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 1910 г. дзейнічала земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1919 г. на базе гэтай школы была створана прац. школа 1-й ступені (у 1924 — 69 вучняў). З

26.4.1919 г. вёска ў складзе Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 21.8.1925 г. ў Робцаўскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.7.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 114 двароў, 585 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны баец». У 1940 г. 122 двары, 537 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы знішчылі ў вёсцы 27 двароў, вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 13 вяскоўцаў, 53 жыхары загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны баец» (аб'яднаны з калгасам «Серп і молат» в. Робцы), з 1956 г. ў калгасе імя Леніна, з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. вёска, 66 гаспадарак, 118 жыхароў, дзейнічалі жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1998 г. 45 гаспадарак, 82 жыхары. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле), працаваў магазін. У 2004 г. 35 гаспадарак, 65 жыхароў. Гал. вясковая вуліца плаўнага абрысу арыентавана з Пд на Пн. Другарадныя вуліцы праходзяць перпендыкулярна да галоўнай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАМЕНСКАЯ ГОРКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 18 км на Пд ад Дрыбіна, за 78 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і Пн мяжуе з лесам, на З цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рабцы і далей па шашы Расна—Горкі. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1845 г. Каменская Горка — вёска казённага маёнтка Расна (пазней наз. Раснянска-Карпецкае) Чавускага павета Магілёўскай губ., 7 гаспадарак. У 1851 г. в. Горка таго ж маёнтка, 61 жыхар. У 1897 г. вёска ў Раснянскай вол., 14 двароў, 94 жыхары. У 1909 г. 17 двароў, 133 жыхары. З 26.4.1919 г. вёска ў складзе Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 21.8.1925 г. ў Робцаўскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.7.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў, у 1998 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў. З 20.5.2001 г. ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў. Лінейная вуліца вёскі арыентавана з З на У. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАМУНА** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 46 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1918 г., калі на месцы б. маёнтка Вуглы Чавускага павета Магілёўскай губ. была створана камуна «Чырвоная зара». З 20.8.1924 г. камуна (101 чал.) уваходзіла ў склад Чэрнеўскага с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. ў гаспадарцы было 100 чал., 135 га ворыва, працавалі паравы млын, цагельны і скураны з-ды, майстэрня. У 1926 г. 68 жыхароў. Пазней камуна была рэарганізавана ў калгас з той жа назвай, які ў 1932 г. налічваў 44 гаспадаркі, 667 га зямлі, у т.л. 500 га ворыва. Паступова калгасная сядзіба ператварылася ў вёску, якая атрымала сучасную назву і знаходзілася на тэр. Дрыбінскага (з

2.3.1931, з 12.2.1935, з 29.12.1989), Чавускага (з 8.7.1931), Горацкага (з 25.7.1931) і Шклоўскага (з 16.9.1959 да 29.12.1989) р-наў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска налічвала 24 гаспадаркі, 52 жыхары, уваходзіла ў склад саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка). З 4.12.1996 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь», з 16.1.2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 18 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2004 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з 4 кароткіх, прамалінейных вуліц мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі, якія ўтвараюць прамавугольнік. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРАТЫШКІ** — вёска ў Цемналескім с/с, за 7 км на ПдУ ад Дрыбіна, 80 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цёмны Лес і далей па шашы Горкі—Расна.10 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

У 1785 г. вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 171 жыхар, уладанне І.Ф.Цеханавецкага. У 1880 г. ў Дрыбінскай вол., 4 двары, 18 жыхароў. У 1897 г. 7 двароў, 55 жыхароў; у 1909 г. 9 двароў, 76 жыхароў. Частка вяскоўцаў акрамя земляробства займалася валяльным і калёсным промысламі. З 26.4.1919 г. вёска ў складзе Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 98 жыхароў. У 1931 г. 31 гаспадарка з в. Каратышкі і пас. Гантоўля аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны куст». У 1940 г. 19 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 вяскоўцаў на фронце. З 25.4.1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. вёска — 14 гаспадарак, 35 жыхароў; у 1998 г. — 14 двароў, 26 жыхароў. З 2001 г. ў складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ва КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр в. Заполле). У 2004 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары. Адзіная вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАРЗЕЕВА** (Карзееўшчына, Кардзеева) — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 28 км на З ад Дрыбіна, 42 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 43 гаспадаркі, 53 жыхары (2007).

Згодна з пісьмовымі крыніцамі ў 1623 г. Карзееўшчына — сяло ў складзе маёнтка Вуглы Аршанскага павета ВКЛ, уладанне Мілядоўскага; з 1681 г. ва ўладанні Крыўцоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1847 г. Кардзеева — маёнтак (складаўся з аднайменных фальварка і вёскі), належаў памешчыкам Казлінскім. У 1855 г. ў маёнтку было 136 сялян, якія карысталіся 418 дзес. зямлі; у гаспадара налічвалася 642 дзес. 1112 сажняў зямлі. У 1880 г. ў вёсцы 32 двары, 321 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. вёска, 47 двароў, 299 жыхароў, працавала школа граматы. Фальварак налічваў 18 жыхароў, мелася капліца (у 1882 — 269 дзес. зямлі). У 1909 г. вёска (58 двароў, 385 жыхароў) і маёнтак (уладанне Суліма Селівела, 7 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Еганаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Шклоўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з

11.3.1960 г. ў Чэрнеўскім с/с. На базе маёнтка ў 1921 г. была створана камуна «Усход №1» (у 1925 — 36 жыхароў). У 1926 г. вёска (70 двароў, 375 жыхароў) і пас. Усход (9 двароў, 43 жыхары). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска налічвала 92 гаспадаркі, 203 жыхары, уваходзіла ў склад саўгаса «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня), дзейнічалі жывёлагадоўчая ферма, магазін, пач. школа. З 18.12.1991 г. вёска — цэнтр малога прадпрыемства «Снежань» (пл. 419 га ў 2004). У 1998 г. 63 гаспадаркі, 104 жыхары. У 2004 г. 49 гаспадарак, 69 жыхароў, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц, па абодва бакі ручая, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, і злучаных завулкам. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На ПнЗ гасп. сектар.

**КАРОЎЧЫНА** (да 1967 вёскі К а р о ў ч ы н а 1 і К а р о ў ч ы н а 2) — вёска, цэнтр Кароўчынскага с/с, за 20 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 50 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Касінка (прыток р. Бася), на якой у 1981 г. пабудавана вадасховішча. Транспартныя сувязі па дарозе Дрыбін—Масток, якая праходзіць непадалёку ад вёскі, і далей па шашы Кіеў—Пецярбург. 364 гаспадаркі, 925 жыхароў (2007).

Помнік археалогіі — курганны могільнік, які знаходзіцца за 3 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Бася, у лесе, сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 16 ст. У 1560 г. Кароўчына — сяло ў Магілёўскай вол., у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. сяло той жа воласці, аддадзена ў пажыццёвае валоданне шляхціцу. У 1604 г. сяло (22 дымы), у складзе Бардзілаўскага войтаўства Магілёўскай эканоміі, дзярж. уладанне. У 1643 г. сяло, 36 валок зямлі. У 1695 г. ў Кароўчыне 21 дым, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1784 г. сяло і аднайменны фальварак, 62 двары, 438 жыхароў, уладанне В.Я.Чычагава. У 1810 г. Кароўчынская Георгіеўская царква мела 2 дымы, 8 душ мужчынскага полу, 16 дзес. зямлі. З 1846 г. пры царкве працавала вучылішча (15 вучняў). У 1848 г. маёнтак Кароўчына знаходзіўся ва ўладанні Любамірскіх (5379 дзес. зямлі, 985 сялян). У 1867 г. ў маёнтку 2663 дзес. зямлі, 2 млыны, 2 карчмы, вінакурня (засн. ў 1862). З 1874 г. працавала другая вінакурня. У 1875 г. адкрыта школа, для якой у 1903 г. пабудавана памяшканне. У 1885 г. с. Кароўчына ў складзе Чэрнеўскай вол., 440 жыхароў, меліся царква, прыватная багадзельня, млын, вінакурня. Частка вяскоўцаў займалася калёсным і кравецкім промысламі. У 1897 г. Кароўчына — фальварак (62 жыхары, вінакурня, млын) і сяло (93 двары, 743 жыхары), дзе знаходзіліся драўляная прыходская царква (сядзіба прычту налічвала 16 жыхароў), царк.-прыходская школа (у 1890 — 44 вучні), хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова (12 жыхароў). У дзень св. Ілы (20 ліп.) праводзіліся таржкі. У 1909 г. ў сяле 112 двароў, 812 жыхароў; у маёнтку — 5 жыхароў (уладанне Р.Э.Рэго). З устанаўленнем сав. улады ў пач. 1918 г. быў выбраны к-т беднаты. На базе былога маёнтка створаны саўгас «Кароўчына» (19 чал. у 1925).



*Рыбацкае падвор'е ў Дрыбінскім раёне.*

З 20.8.1924 г. Кароўчына — цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г., з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 16.9.1969 г. ў Горацкім р-не, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім с/с. У 1925 г. Кароўчына — хутары, 140 гаспадарак, 833 жыхары; дзейнічалі прац. школа 1-й ступені (створана на базе дарэв.; у 1925 — 99 вучняў), хата-чытальня (з 1924). У 1928 г. працавала масларобчая арцель. У 1929 г. арганізаваны калгас «16-ы партз'езд», пазней — калгас «Кастрычнік», у якім меліся 2 кузні. У 1940 г. 150 двароў, 600 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі знішчылі ў вёсцы 60 двароў, забілі 64 вяскоўцаў, 58 чал. былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 73 жыхары загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Кастрычнік», з 1960 г. ў саўгасе «Першамайскі», з 25.2.1961 г. цэнтр саўгаса «Кароўчына» (9 вёсак). У 1971 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 341 жыхара сельсавета, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—45 гг., пастаўлены абеліск. У 1985 г. вёска налічвала 167 гаспадарак, 377 жыхароў, дзейнічалі машынны двор, лесапільня, сталярная майстэрня, млын, жывёлагадоўчая ферма, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка з фондам звыш 10 тыс. кніг, клуб, сярэдняя школа (19 настаўнікаў), дзіцячы сад, сталовая. У 1998 г. 398 гаспадарак, 1035 жыхароў. З 3.5.2001 г. вёска — цэнтр КСУП «Саўгас «Кароўчына» (пл. 4879 га). У 2004 г. 384 гаспадаркі, 969 жыхароў, працавалі сярэдняя школа, урачэбная амбулаторыя, дзіцячы сад, сельскі Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, аддз. сувязі, аддзел філіяла АСБ «Беларусбанк», комплексна-прыёмны пункт. У 2007 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, Дом рамёстваў, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1977 г. БелНДІП горадабудаўніцтва. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Да іх далучаюцца другарадныя вуліцы. У месцы злучэння асн. вуліц — грамадскі цэнтр. Тут жа знаходзіцца абеліск на ўшанаванне памяці воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне вытв. сектар. На З размяшчаецца сад. У 1990-я г. пабудаваны пасёлак для перасяленцаў з тэр., забруджанай у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**КАРЭБЫ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 8 км на Пд ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На З цячэ р. Сярпенка (прыток р. Проні), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз р. Ляскоўка і далей па шашы Расна—Горкі. 39 гаспадарак, 83 жыхары (2007).

За 2 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня, ва ўрочышчы Царкавішча знаходзіцца помнік археалогіі — стаянка, якая адносіцца да каменнага веку. Другая стаянка размешчана за 1,3 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Сярпенка, за 0,7 км ніжэй ад вусця, каля дарогі з в. Карэбы да ракі. Стаянка 3 і паселішча эпохі Кіеўскай Русі размяшчаюцца за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня, насупраць вусця р. Шыпаўка (правы прыток Проні), за 0,6 км на Пд ад вусця р. Сярпенка, за 0,4 км ад стаянкі 2. Стаянкі 2 і 3 адносяцца да верхнедняпроўскай культуры эпохі неаліту (5—4-е тысячагоддзі да н.э.). За 1,5 км на З ад в. Карэбы і 1 км на У ад в. Галавічы, на левым беразе р. Проня, ва ўрочышчы Царкавішча, за 0,5 км ад стаянкі-1, у лесе знаходзіцца курганны

могільнік эпохі Кіеўскай Русі. Помнікі археалогіі ў вясковым наваколлі сведчаць аб засяленні гэтай тэр. ў глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з пач. 17 ст. як сяло Мішанава ці Карэбы, у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. ўладанне. У 1643 г. сяло той жа эканоміі, меўся млын. У 1742 г. в. Карэбы ці Мішанава, 9 валок зямлі, 14 дымоў, млын, сукнавальня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. в. Карэбы, 19 двароў, 114 жыхароў, уладанне І.Ф.Цеханавецкага. У 1848 г. Карэбы — маёнтак, уладанне Ігнацевых (949 дзес. зямлі ў памешчыка; 151 селянін карыстаўся 307,5 дзес. зямлі). З 1851 г. маёнтак належаў Дзявонскім, мелася 587 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальня (з 1852). У 1863 г., адпаведна Устаўной грамаце, 60 сял. душ мужчынскага полу атрымалі 270 дзес. зямлі (выкупная сума за зямлю склала 1500 руб. 30 кап.). У 1897 г. Карэбы — фальварак у Дрыбінскай вол., 4 двары, 22 жыхары, вадзяны млын і сукнавальня. Побач знаходзілася аднайменная вёска, 31 двор, 138 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. ў вёсцы, 42 двары, 303 жыхары; у фальварку 2 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. да 26.6.1954 г. вёска — цэнтр сельсавета Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.7.1954 г. да 15.11.1995 г. ў Дрыбінскім с/с. У 1922 г. створана с.-г. камуна «Колас» (у 1925 — 38 чал.), на месцы дарэв. адкрылася прац. школа 1-й ступені (у 1925 — 105 вучняў), з 1924 г. працавала хата-чытальня. У 1926 г. Карэбы — хутары, 54 двары, 310 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Колас №2» (у 1932 — 35 гаспадарак, кузня). Працаваў млын (пабудаваны ў 1917) калгаса «Авангард» (в. Драздоўка), 7-гадовая школа. У 1940 г. 69 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 60 двароў. Пасля вайны адбудавана. На вясковых могілках пахаваны 36 воінаў Сав. Арміі, якія загінулі ў баях з ворагам ў кастр. 1943 — чэрв. 1944 гг. (у 1964 на магіле ўстаноўлены абеліск). У 1968 г. на ўшанаванне памяці 119 землякоў з 5 вёсак калгаса «Світанне» каля школы пастаўлена стэла. У 1950—81 гг. і з 6.6.1988 г. вёска — цэнтр калгаса «Світанне» (да 1962 калгас «Праўда», уваходзілі 5 вёсак, 2 тыс. га зямлі). У 1981—88 гг. вёска ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Старое Прыбужжа). У 1985 г. ў вёсцы 60 гаспадарак, 124 жыхары, працавалі рамонтныя майстэрні, жывёлагадоўчая ферма, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка з фондам звыш 9 тыс. кніг, клуб, аддз. сувязі, 8-гадовая школа. У 1998 г. 48 гаспадарак, 102 жыхары. З 26.6.2003 г. вёска — цэнтр СВК «Сонечны прамень» (пл. 1906 га), арганізаванага на базе былога калгаса. У 2004 г. 34 гаспадаркі, 87 жыхароў, працавалі базавая школа, магазін, сельскі Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Гал. прамалінейная вуліца вёскі арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на У адыходзіць на Пд невялікая вуліца. Вытв. сектар на паўн.-зах. ускраіне. На Пн размешчаны адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**КІШЧЫЦЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 54 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 37 гаспадарак, 54 жыхары (2007).

Страчаны помнік археалогіі — курганны могільнік (вядомы з 1873, налічваў 4 насыпы; пры абследаванні ў 1991 не выяўлены), які знаходзіўся на левым беразе р. Бася, у лесе, сведчыў аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц Кішчыцы вядомы з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. ўладанне. У 1580 г. сяло аддадзена ў пажыццёвае валоданне шляхціцу. У 1650 г. Кішчыцы згадваюцца сярод Шклоўскіх уладанняў Сяняўскіх як сяло аднайменнага войтаўства. У 1695 г. 16 двароў, у 1771 г. 68 двароў, 407 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1784 г. Кішчыцы — маёнтак і сяло, 73 двары, 589 жыхароў, царква, млын; уладанне графа Зорыча ў Чавускім павеце. У 1848 г. 67 двароў, 2 царквы (адна з іх мураваная Свята-Пакроўская пабудавана ў 1845 і захавалася да нашага часу). З 1846 г. працавала сукнавальня; у 1847 г. пры Свята-Пакроўскай царкве адкрыта вучылішча (9 вучняў). У 1851 г. маёнтак (уваходзілі фальварак і с. Кішчыцы, в. Насыры) ва ўладанні А. фон Дрэбуша. У фальварку налічвалася 15 дваровых сялян, у сяле 64 двары, 419 жыхароў, карчма, вадзяны млын, вінакурня і піваварня. У 1885 г. 80 двароў, 532 жыхары; у Чэрнеўскай вол. Акрамя земляробства часткa сялян займаліся сталярным, калёсным, кравецкім, кушнерскім промысламі. У 1897 г. сяло, 116 двароў, 760 жыхароў, Свята-Пакроўская царква, царк.-прыходская школа, карчма (11 жыхароў), вадзяны млын з сукнавальняй; 2 разы на год праводзіліся таржкі (23 крас. і 1 кастр.). У фальварку Кішчыцы (ён жа Пакроўск), які размяшчаўся побач з сялом, было 76 жыхароў, вінакурня і кузня. З 1903 г. ў сяле працавала земская школа. У 1904 г. 2 сял. сям'і (17 чалавек) перасяліліся у Сібір. Вясной 1905 г. жыхары Кішчыц зрабілі спробу вярнуць сабе луг, які быў адабраны памешчыкам ў 1868 г. На лузе вяскоўцы пачалі пасвіць сваю жывёлу. 17.6.1905 г., калі пад аховай салдат і паліцыі каморнікі праводзілі межаванне на карысць памешчыка, сяляне, узброеныя віламі, косамі і каменнем, аказалі ім супраціўленне. У адказ салдаты і паліцыя расстралялі ўдзельнікаў выступлення, 8 сялян былі забіты, 15 паранены. Кіраўнікі выступлення былі асуджаны, некаторых адправілі на катаргу. На ўшанаванне памяці падзей 1905 г., вядомых як Кішчыцкі расстрэл, у 1955 г. за 1 км ад вёскі, на лузе пастаўлены абеліск. У 1909 г. сяло, 130 двароў, 807 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 1931 г. — цэнтр сельсавета, з 8.7.1931 г. Горацкага, з 12.2.1935 г. Дрыбінскага р-наў. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 170 двароў, 865 жыхароў, 4-гадовая школа (у 1925 — 86 вучняў). На месцы былога фальварка працавала аграбаза «Пакроўск» (17 жыхароў). У 1931 г. ў вёсцы створаны калгас «Зарава» (у 1932 — 39 гаспадарак), працавалі вадзяны млын (пабудаваны ў 1928), медпункт, дзіцячыя яслі (адкрыты ў 1927). У 1932 г. акрамя калгаса дзейнічала камуна «Праўда» (24 гаспадаркі). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16.9.1959 г. вёска перададзена ў склад Чэрнеўскага с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989). У 1985 г. вёска, 112 гаспадарак, 209 жыхароў, у складзе саў-



*Пакроўская царква ў Кішчыцах. 1845 г.*

гаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка), дзейнічалі жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1998 г. 63 гаспадаркі, 92 жыхары. З 4.12.1996 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь», з 16.1.2003 г. — у СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 2004 г. 42 гаспадаркі, 62 жыхары, працавалі сельскі Дом культуры, Дом сац.-культ. паслуг, фельч.-акушэрскі пункт, царква. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, да якіх з ПдУ далучаюцца працяглая, плаўна выгнутая кароткая, прамалінейная вуліцы. Забудаваны двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На У гасп. сектар.

**КЛЕДНЯВІЧЫ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Дрыбіна, 76 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і Пд цячэ р. Быстрая (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Расна, якая праходзіць праз вёску. 99 гаспадарак, 172 жыхары (2007).

У 1622 г. Кледнявічы — сяло ў складзе Горы-Горацкага маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1683 г. сяло ў Горскай вол. таго ж маёнтка, 30 валок зямлі, 93 дымы. У 1750 г. 88 двароў, 406 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. сяло таго ж маёнтка, 96 двароў, 644 жыхары, млын, Мікалаеўская царква (драўляная, пабудавана да 1734). Пры царкве ў 1846 г. было адкрыта вучылішча (15 вучняў). У 1885 г. ў Гарадзецкай вол., 91 двор, 521 жыхар, вадзяны млын з сукнавальняй (засн. ў 1852), царква і багадзельня. У 1897 г. сяло, 111 двароў, 800 жыхароў, царква, багадзельня, цaрк.-прыходская школа (у 1890 вучыліся 70 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі), ветраны млын, карчма, вадзяны млын з сукнавальняй (11 жыхароў). Побач знаходзіліся сядзібы царк. прычту (13 жыхароў) і памешчыцы Кох. Штогод 9 мая праводзіліся таржкі. У 1909 г. 126 двароў, 926 жыхароў, казённая вінная лаўка. Акрамя земляробства вяскоўцы займаліся рамізніцкім промыслам. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр сельсавета Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.7.1954 г. ў Гарадзецкім, з 24.6.1960 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У вёсцы на базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 — 70 вучняў). У 1926 г. вёска, 202 двары, 1050 жыхароў. У 1927 г. працавала хата-чытальня, у 1930 г. — масласырзавод. У 1931 г. створаны калгас «3-і рашаючы» (у 1932 — 20 гаспадарак), працавалі кузня, вадзяны млын з сукнавальняй, школа па ліквідацыі непісьменнасці для дарослых. У 1940 г. ў вёсцы 220 двароў, 840 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 215 двароў, загубілі 15 жыхароў. Падчас акупацыі 155 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 103 жыхары загінулі на фронце. У цэнтры адбудаванай пасля вайны вёскі пахаваны 4 воіны Сав. Арміі, якія загінулі ў баях з фашыстамі ў 1943—44 гг. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Пражэктар», з сак. 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі» (з 1996 — калгас). У 1985 г. вёска, 154 гаспадаркі, 383 жыхары, працавалі жывёлагадоўчая ферма, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі. У 1998 г. 137 гаспадарак, 285 жыхароў. З 29.11.2002 г. Кледнявічы ў складзе СВК «Дрыбін» (цэнтр — г.п. Дрыбін). У 2004 г. 97 гаспадарак, 168 жыхароў, працавалі магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана

з ПнЗ на ПдУ і з'яўляецца часткай шашы. Паралельна і перпендыкулярна да гал. адыходзяць другарадныя вуліцы. На гал. вуліцы размяшчаюцца асн. мураваныя грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар. Вёска — радзіма вучонага-геадэзіста, педагога А.А.Саламонава (н. ў 1925) і інжынера-канструктара П.А.Саламонава (1922—92).



*П.А.Саламонаў.*

**КРУКАЎШЧЫНА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 7 км на Пн ад Дрыбіна, 80 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Расна. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

Помнік археалогіі — стаянка эпохі мезаліту, якая знаходзіцца за 2 км на Пд ад вёскі, на дзюннай узгорыстасці левага берага р. Проня, пры ўпадзенні безыменнага ручая, каля дарогі на в. Старакожаўка, сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц Крукаўшчына (Крукава) вядома з 1-й пал. 17 ст. У 1622 г. — сяло Горы-Горацкага маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ, шляхецкае ўладанне. У 1683 г. сяло Горскай вол., 18 дымоў, 14 валок зямлі. У 1750 г. 28 двароў, 146 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска Горы-Горацкага маёнтка, 32 двары, 277 жыхароў, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1880 г. 36 двароў, 286 жыхароў. Некаторыя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся рамізніцкім і кавальскім промысламі. У 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 52 двары, 363 жыхары (складалася з 2-х частак). У 1909 г. 61 двор, 452 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 28.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. Крукаўшчына — вёска (34 двары, 178 жыхароў) і пасёлак (30 двароў, 177 жыхароў). У 1931 г. створаны калгас «Пражэктар» (у 1932 — 21 гаспадарка), працавала школа. У 1932 г. для школы пабудавана ўласнае памяшканне. У 1940 г. 110 двароў, 650 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г., напярэдадні вызвалення, гітлераўскія карнікі спалілі 92 хаты, загубілі 5 жыхароў. Падчас акупацыі 10 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 72 жыхары загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Пражэктар» (увайшлі 3 калгасы), з сак. 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі» (з 1996 калгас). У 1985 г. ў вёсцы 69 гаспадарак, 105 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін, клуб. У 1998 г. 35 гаспадарак, 58 жыхароў. З 29.11.2002 г. вёска ў складзе СВК «Дрыбін» (цэнтр — г.п. Дрыбін). У 2004 г. 25 гаспадарак, 48 жыхароў. Планіроўка прамавугольная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне сад.



*А.А.Саламонаў.*

**КРЫЧАВАТКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 18 км на Пд ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і У мяжуе з лесам, на Пн цячэ р. Баброўка (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Заходы і далей па шашы Расна—Горкі. 27 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

У 1620 г. Крычаватка — вёска, шляхецкае ўладанне ў Мсціслаўскім ваяв. У 1667 г. перададзена Мсціслаўскаму кляштару кармелітаў. У 1768 г. шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магі-

лёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1840 г. в. Крычаватка Бескакаўскага паманастырскага маёнтка далучана да казённага маёнтка Раснянска-Карпецкае. У 1851 г. 11 двароў, 84 жыхары. З 1864 г. Крычаватка — маёнтак (343 дзес. зямлі) і вёска ва ўладанні Трупчынскіх. У 1880 г. ў Раснянскай вол., 14 двароў, 167 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. 26 двароў, 195 жыхароў; у 1909 г. 33 двары, 247 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. хутары, 52 двары, 272 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка ў 4 гады» (у 1932 — 19 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 9 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. У цэнтры вёскі пахаваны 111 воінаў Сав. Арміі, якія загінулі ў баях з фашыстамі ў 1943 — чэрв. 1944 г. У 1941—45 гг. на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 233 жыхары з вёсак калгаса імя Кірава (у т.л. з в. Крычаватка — 27 чал.). На ўшанаванне іх памяці ў 1948 г. пастаўлены помнік. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя М.І.Калініна (увайшлі 3 калгасы), з 13.3.1959 г. ў калгасе імя С.М.Кірава (да 2.4.1962 называўся імя Калініна). У 1985 г. ў вёсцы 53 гаспадаркі, 102 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін, клуб. У 1998 г. 39 гаспадарак, 68 жыхароў. З 29.11.2001 г. вёска ў складзе СВК імя Кірава (створаны на базе былога калгаса, цэнтр — в. Навасёлкі), працаваў магазін. У 2004 г. 30 гаспадарак, 52 жыхары. Паўн. частку вёскі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн. На Пд ад іх ідзе 3-я мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНСКІ** — пасёлак у Цемналескім с/с, за 7 км на ПдУ ад Дрыбіна, 78 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ праходзіць чыгунка, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз г.п. Дрыбін і далей па шашы Расна—Горкі. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Створаны ў 1920-я г. пры землеўпарадкаванні в. Галалобаўка на тэр. Пакуцянскага с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. пасёлак ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі прызыў» (в. Цёмны Лес і пас. Ленінскі). У 1940 г. 17 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Ленінскі прызыў», з 1956 г. ў калгасе «17-ы партз’езд», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. 24 гаспадаркі, 59 жыхароў; у 1998 г. — 15 гаспадарак, 24 жыхары. З 2001 г. пасёлак у складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ва КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 15 гаспадарак, 21 жыхар. Вуліца пасёлка арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЛУКАЦЬ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 57 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З, Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Суслаўка і далей па шашы Расна—Горкі. 23 гаспадаркі, 30 жыхароў (2007).

У 1785 г. вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 117 жыхароў, прыватнае ўладанне. У 1849 г. ў складзе казённага Мсціслаўскага маёнтка, 12 двароў, 88 жыхароў, карчма. У 1897 г. вёска ў Радамльскай вол., 19 двароў, 127 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 112 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. ў Сухараўскай вол. З 20.8.1924 г. ў Суслаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Першамайскім с/с Горацкага р-на. У 1926 г. 29 двароў, 153 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У 1940 г. 53 двары, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі ў вёсцы 17 двароў, загубілі 9 жыхароў, 11 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 8 жыхароў загінулі на фронце. З 1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Першамайскі» (цэнтр в. Трылесіна). У 1985 г. ў вёсцы 59 гаспадарак, 107 жыхароў, зерняток, жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1998 г. 40 гаспадарак, 63 жыхары. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 32 двары, 44 жыхары. Аснову планіроўкі складаюць 3 амаль паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. На Пд яны злучаны папярочнай невялікай вуліцай. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма рас. дзярж. дзеяча, кіраўніка прам-сці М.А.Панічава (н. ў 1934).

**ЛЯДЗЕШНЯ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 2 км на ПдУ ад Дрыбіна, 73 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Радзебка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дрыбін і далей па шашы Расна—Горкі. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У 1785 г. вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 76 жыхароў, уладанне І.Ф.Цеханавецкага. У 1880 г. 17 двароў, 62 жыхары. Акрамя земляробства жыхары вёскі займаліся валяльным промыслам. У 1897 г. вёска ў Дрыбінскай вол., 25 двароў, 144 жыхары. У 1909 г. 28 двароў, 153 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Дрыбінскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім с/с. У 1926 г. 44 двары, 202 жыхары. У 1929 г. створаны калгас «Зарава» (у 1932 — 32 гаспадаркі). У 1940 г. 43 двары, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 5 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 29 жыхароў вёскі загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе калгаса імя Жданава, з 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі» (з 1996 калгас). У 1985 г. ў вёсцы 22 гаспадаркі, 34 жыхары; у 1998 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў. З 29.11.2002 г. ў СВК «Дрыбін» (цэнтр — г.п. Дрыбін). У 2004 г. 5 двароў, 10 жыхароў. Прамалінейная вуліца вёскі арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЛЯСКОЎКА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 6 км на Пд ад Дрыбіна, 76 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Сярпенка). Транспартныя сувязі па шашы Расна—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1753 г. вёска ў валоданні Раснянскай езуіцкай місіі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У

1785 г. вёска, 8 двароў, 66 жыхароў, уладанне І.Ф.Цеханавецкага. У 1840 г. маёнтак Ляскоўка (складаўся з аднайменных фальварка і вёскі) уключаны у склад казённага Раснянска-Карпецкага маёнтка. У 1851 г. вёска ў Дрыбінскай вол., 6 двароў, 50 жыхароў; у 1897 г. 11 двароў, 93 жыхары; у 1909 г. 13 двароў, 50 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Карэбскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. 26 двароў, 134 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Новая сіла» (у 1932 — 10 гаспадарак). У 1940 г. 34 двары, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 5 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 17 жыхароў вёскі загінулі ў баях з ворагам на франтах вайны. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Праўда», які ў 1962 г. атрымаў назву «Світанне» (цэнтр — в. Карэбы). У 1981—88 гг. вёска ў складзе калгаса «Прагрэс». У 1985 г. ў вёсцы 21 гасадарка, 39 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў. З 26.6.2003 г. вёска ў складзе СВК «Сонечны прамень», арганізаванага на базе былога калгаса. У 2004 г. 4 гаспадаркі, 13 жыхароў. Аснову планіроўкі складаюць дзве паралельныя паміж сабой вуліцы, якія арыентаваны з ПдЗ на ПнУ. Забудова аднабаковая шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МІКОЛЬСК** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Быстрая), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Расна—Горкі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 65 гаспадарак, 124 жыхары (2007).

У 1683 г. с. Алейнікава (Аленева) у Горы-Горацкім маёнтку, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, 26 валок зямлі, 46 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1880 г. в. Мікольск, яна ж Алейнікава (Алейнікі) у Гарадзецкай вол., 52 двары, 318 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім і рамізніцкім промысламі. У 1897 г. 72 двары, 449 жыхароў, працавалі вадзяны і 2 ветраныя млыны. Побач знаходзілася аднайменная сядзіба казённай лясной аховы, 7 жыхароў. У 1909 г. 78 двароў, 569 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Кледнявіцкім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскіх р-нах, з 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1924 г. 105 двароў, 642 жыхары. У 1926 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі пасёлкі: Мікольск 1 (36 двароў, 214 жыхароў), Мікольск 2 (38 двароў, 236 жыхароў), Мікольск 3 (11 двароў, 64 жыхары) і Мікольск 4 (24 двары, 154 жыхары). У 1931 г. ў пасёлках 1 і 2 створаны калгас «Чырвоная горка» (у 1932 — 54 гаспадаркі), у якім працавалі кузня і ваўначоска, школа для малапісьменных. Адначасова ў пас. Мікольск 4 арганізаваны калгас «Колас №1» (у 1932 — 17 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 140 двароў, 672 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 104 двары, загубілі 4 жыхароў, 10 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію; 59 жыхароў вёскі загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З сак. 1960 г. ў складзе саўгаса «Дрыбінскі» (з 1996 калгас). У 1985 г. ў вёсцы 116 гаспадарак, 249 жыхароў, працавалі фермы свінага-

доўчая і буйной рагатай жывёлы, пач. школа, магазін. У 1998 г. 78 гаспадарак, 184 жыхары. З 29.11.2002 г. вёска ў складзе СВК «Дрыбін» (цэнтр — г.п. Дрыбін), працавалі магазін, клуб, б-ка. У 2004 г. 65 гаспадарак, 139 жыхароў. У 2007 г. б-ка, клуб, магазін. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 паралельныя паміж сабой, арыентаваныя з Пд на Пн вуліцы, якія падзяляе ручай. Усх., больш працяглая вуліца мае двухбаковую, шчыльную забудову. Сярод жылых сядзіб размяшчаюцца грамадскія будынкі. Зах. вуліца кароткая, з аднабаковай забудовай. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма поўнага кавалера ордэна Славы У.М.Пасікава (1922—84), бел. вучонага і дзярж. дзеяча М.М.Анікеева (н. ў 1949).



*У.М.Пасікаў.*

**МІЛАЎЕ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 45 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ в. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 18 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Помнік археалогіі — стаянка каменнага веку за 0,3 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бася, сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц Мілаўе вядома з 1-й пал. 17 ст. У 1604 г. сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканогіі, у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1616 г. сяло, 11 валок зямлі, было вядома бабровымі гонамі. У 1636 г. сяло, 11 валок зямлі, меўся млын. У 1742 г. вёска таго ж войтаўства і эканоміі, 11 валок зямлі, 5 дымоў, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Жданавічы Чавускага павета існавалі 2 вёскі: Вялікае Мілаўе (30 двароў, 208 жыхароў) і Малое Мілаўе (15 двароў, 106 жыхароў). У 1862 г. вядома в. Мілаўе таго ж маёнтка. Адпаведна Устаўной грамаце, сяляне (41 душа мужчынскага полу) атрымалі тут у карыстанне 184 дзес. 1200 сажняў зямлі. Выкупная сума склала 4373 руб. 33 кап. У 1865 г. ў Мілаўі 47 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска ў Чэрнеўскай вол., 27 двароў, 231 жыхар. У 1909 г. 43 двары, 279 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Жданавіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Горацкім р-нах. У 1926 г. хутары, 66 двароў, 359 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Звязда» (у 1932 — 5 гаспадарак, 60 га зямлі). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. вёска ў складзе Зарасцянскага с/с Дрыбінскага р-на, з 16.9.1959 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989). У 1985 г. 34 гаспадаркі, 60 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 20.12.1990 г. вёска знаходзілася на тэр. міжгасп. кармавога прадпрыемства «Высокаборскае», з 5.5.1998 г. ў саўгасе «Высокаборскі», з 2001 г. ў складзе КСУП «Саўгас «Высакаборскі» (цэнтр — в. Жданавічы). У 1998 г. вёска, 21 гаспадарка, 33 жыхары. У 2004 г. 19 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХЕЕЎКА** — вёска, цэнтр Міхееўскага с/с, за 5 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 76 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Галыша (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дрыбін і далей па шашы Расна—Горкі. 316 гаспадарак, 903 жыхары (2007).

У 1750 г. Міхееўка — вёска, 8 двароў, 52 жыхары, у складзе Горы-Горацкага маёнтка, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ.

(з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска таго ж маёнтка, 9 двароў, 80 жыхароў, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1847 г. 11 двароў. У 1880 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 22 двары, 120 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам. У 1897 г. 26 двароў, 183 жыхары, 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 26 двароў, 222 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім с/с, з 15.11.1995 г. цэнтр Міхееўскага с/с. У 1926 г. ў вёсцы 47 двароў, 244 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоная Міхееўка» (у 1932 — 12 гаспадарак). У 1940 г. 50 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 43 двары, загубілі 3 жыхароў. Падчас акупацыі 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 17 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «3-і рашаючы», з 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі». У 1985 г. ў вёсцы 38 гаспадарак, 77 жыхароў. З 1990 г. вёска — цэнтр калгаса «Мір» (створаны на частцы зямель эксперыментальнай базы «Дрыбінская»; уваходзілі 8 вёсак; 2,1 тыс. га зямлі), з 26.12.2002 г. цэнтр СВК «Мір» (пл. 1933 га). У 1998 г. 295 гаспадарак, 876 жыхароў, працавалі школа-сад, сельскі Дом культуры, б-ка, мінірынак, 2 магазіны, філіял АСБ «Беларусбанк», аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт. У 2004 г. 295 гаспадарак, 893 жыхары. У 2007 г. школа-сад, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, сталовая. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, зах. з якіх арыентавана з Пд на Пн і мае прамалінейны абрыс, а ўсх. — праходзіць з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1990-я г. ў вёсцы пабудаваны пасёлак для перасяленцаў з тэр., забруджанай у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**МОКРАДЗЬ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 53 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Прадзёрка (прыток р. Шыпоўка). На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Суслаўка, Заложжа і далей па шашы Расна—Горкі. 20 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

У 1667 г. Мокрадзь — сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1850

*Забудова в. Міхееўка.*





г. вёска, 20 двароў, 127 жыхароў, у складзе маёнтка Радучы, уладанне А.Хадкевіча. У 1864 г. засн. сукнавальня. У 1897 г. Мокрадзь — вёска (32 двары, 220 жыхароў) і хутар (5 жыхароў, вадзяны млын) у Радамальскай вол. Чавускага павета. У 1909 г. 40 двароў, 218 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. ў Сухараўскай вол. З 20.8.1924 г. ў Суслаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Першамайскім с/с Горацкага р-на. У 1926 г. 68 двароў, 363 жыхары. У 1940 г. вёска, 50 двароў, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі ў вёсцы 39 дамоў, 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 26 жыхароў вёскі загінулі на фронце. З 19.4.1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. 64 гаспадаркі, 131 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, магазін, клуб. У 1998 г. 34 гаспадаркі, 51 жыхар. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна), працаваў магазін. У 2004 г. 27 гаспадарак, 46 жыхароў. Крывалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе ў цэнтры адыходзяць на З 2 невялікія вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Раснянскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Дрыбіна, 73 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Баброўка (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 62 гаспадаркі, 159 жыхароў (2007).

Помнік археалогіі — гарадзішча (7 ст. да н.э. — 4 ст. н.э.), якое знаходзіцца за 1,5 км на З ад вёскі, 1,5 км на ПдЗ ад шашы Расна—Краснае, на левым беразе р. Баброўка, на мысе пры сутоку 2 безымянных ручаёў, ва ўрочышчы Гарадок, сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц, у 1785 г. Навасёлкі — вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 83 жыхары, уладанне графа А.М.Пацея. У 1863 г. вёска ў складзе маёнтка Расна (да сярэдзіны 1863 належала С.Л.Стахоўскаму), 32 душы мужчынскага полу, 144 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска ў Раснянскай вобл. (24 двары, 156 жыхароў) і аднайменны хутар (6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 25 двароў, 171 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7. 1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. вёска, 28 двароў, 164 жыхары. У 1931 г. створаны калгас «Вольная праца». У 1940 г. 29 двароў, 128 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі ў вёсцы 3 двары, 1 вяскоўца вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 13 жыхароў загінулі на фронце. З 1949 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Араты» (цэнтр — в. Баброва), з 13.3.1959 г. ў калгасе імя Калініна, які 2.4.1962 г. перайменаваны ў калгас імя С.М.Кірава. Вёска з'яўлялася цэнтрам калгаса (уваходзілі 7 вёсак; 2,6 тыс. га зямлі). У 1985 г. ў вёсцы 48 гаспадарак, 116 жыхароў, машынны двор, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, зерняток, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. У 1998 г. — 56 гаспадарак, 151 жыхар. З 29.11.2001 г. вёска — цэнтр СВК «Калгас імя Кірава» (пл. 2337 га). У 2004 г. 56 гаспадарак, 153 жыхары, працавалі магазін, дзіцячы сад. У 2007 г. клуб, б-ка. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1983 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПнЗ адыходзяць 2 другарадныя вуліцы. У цэнтры гал. вуліцы — плошча і парк. Тут жа размешчаны

грамадскія будынкі. Жылая забудова двухбаковая, шчыльная, дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне вытв. сектар.

**НЕМЕРКА** – вёска ў Раснянскім с/с, за 10 км на Пд ад Дрыбіна, 73 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На У цячэ р. Вербаўка (прыток р. Проня). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Расна—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 37 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

У 1785 г. вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 28 двароў, 208 жыхароў, уладанне графа А.М.Пацея. У 1863 г. вёска маёнтка Расна (да сярэдзіны 1863 уладанне С.Л.Стахоўскага), 56 душ мужчынскага полу, 252 дзес. зямлі. У 1880 г. 19 двароў, 158 жыхароў. Акрамя сельскай гаспадаркі вяскоўцы займаліся сталярным, бандарным і перавозным промысламі. У 1897 г. вёска ў Раснянскай вол., 28 двароў, 229 жыхароў. Побач знаходзілася ўрочышча Немерскі лес, 3 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 44 двары, 288 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Затонскім, з 21.8.1925 г. ў Раснянскім сельсаветах Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 14.10. 1959 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. вёска, 42 двары, 227 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «3-і рашаючы» (у 1932 – 25 гаспадарак). У 1940 г. 42 двары, 188 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі знішчылі ў вёсцы 20 двароў, 5 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 21 жыхар вёскі загінуў на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Перамога», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна» (цэнтр – в. Заполле). У 1985 г. ў вёсцы 51 гаспадарка, 118 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1998 г. 40 гаспадарак, 80 жыхароў. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр – в. Заполле), працаваў магазін. У 2004 г. 37 гаспадарак, 74 жыхары. Аснову планіроўкі вёскі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Паміж імі невялікія папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ПРЫБУЖЖА** – вёска ў Міхееўскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 74 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Галыша (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па дарозе праз г.п. Дрыбін і далей па шашы Расна—Горкі. 73 гаспадаркі, 129 жыхароў (2007).

У 1622 г. Новае Прыбужжа (яно ж Студзянец) – сяло Горы-Горацкага маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ, прыватнае ўладанне. У 1683 г. сяло ў Горскай вол., 55 дымоў, 31 валока зямлі. У 1750 г. 51 двор, 242 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска таго ж маёнтка, 30 двароў, 375 жыхароў, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1847 г. 47 двароў, карчма, млын, сажалка. У 1880 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 70 двароў, 448 жыхароў. Частка сялян акрамя земляробства займалася рамізніцкім промыслам, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1897 г. 103 двары, 724 жыхары, школа граматы (з 1887), вадзяны млын, сукнавальня (з 1870), карчма (7 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 106 двароў, 734 жыхары, аднакласная царк.-прыходская школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Дрыбінскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з

29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім с/с. У 1926 г. 160 двароў, 798 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «3-і рашаючы», у якім працавала кузня па рамонце с.-г. інвентару (у 1932 — 24 гаспадаркі). У 1940 г. вёска, 178 двароў, 726 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Двойчы — у сак. і вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (165 двароў, загубілі 233 жыхароў). Падчас акупацыі 43 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 99 жыхароў вёскі загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «3-і рашаючы» (аб'ядноўваў 4 калгасы), з сак. 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі», з 1990 г. ў калгасе «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 1985 г. ў вёсцы 134 гаспадаркі, 261 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. У 1998 г. 107 гаспадарак, 188 жыхароў. З 2002 г. вёска ў складзе СВК «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 2004 г. 48 гаспадарак, 136 жыхароў, працавалі магазін, клуб сац. паслуг.

**НОВАЯ ЧЭРНЕЎКА** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 19 км на З ад Дрыбіна, 51 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. На Пн і У ручай (прыток р. Касінка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Узнікла ў 1920-я г. У 1924 г. Новая Чэрнеўка — вёска, 21 двор, 120 жыхароў, у Чэрнеўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 25.7.1931 г. ў Горацкім р-нах, з 12.2.1935 г. зноў у Дрыбінскім р-не. У 1926 г. 26 двароў, 130 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.9.1959 г. да 29.12.1989 г. ў Шклоўскім р-не. У 1985 г. вёска, 27 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка). З снеж. 1996 г. ў калгасе «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка), з 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 19 гаспадарак, 24 жыхары. У 2004 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з прамавугольнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ЖДАНАВІЧЫ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 52 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Алюты, Чэрнеўка і далей па шашы Масток—Дрыбін. 6 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Узнікла ў 1920-я г. У 1925 г. Новыя Жданавічы — пасёлак, 8 двароў, 60 жыхароў; у 1926 г. 10 двароў, 57 жыхароў. Знаходзіўся ў складзе Жданавіцкага с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. і з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 5.9.1931 г. ў Горацкім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Чэрнеўскім с/с, з 16.9.1959 г. да 29.12. 1989 г. ў Шклоўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска, 19 гаспадарак, 38 жыхароў, на тэр. саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка). З 20.12.1990 г. ў складзе міжгасп. кармавога прадпрыемства «Высокаборскае», з 5.5.1998 г. ў саўгасе «Высокаборскі», з 2001 г. ў складзе КСУП «Саўгас «Высокаборскі» (цэнтр — в. Жданавічы). У 1998 г. 10 гаспадарак, 28 жыхароў. У 2004 г. 10 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАКУЦЦЕ** — вёска ў Цемналескім с/с, за 5 км на ПдУ ад Дрыбіна, 81 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз г.п. Дрыбін і далей па

шашы Расна—Горкі. 38 гаспадарак, 86 жыхароў (2007).

У 1664 г. Пакуцце — вёска, уладанне Я.Котла, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. сяльцо, 24 двары, 141 жыхар, млын, уладанне І.Ф.Цеханавецкага. У 1880 г. вёска ў Дрыбінскай вол., 20 двароў, 62 жыхары. Частка вяскоўцаў акрамя земляробства займаліся калёсным, бандарным, валяльным і іншымі промысламі. У 1897 г. 32 двары, 202 жыхары, хлебазапасны магазін, школа граматы (размяшчалася ў наёмнай хаце, у 1890 вучыліся 10 хлопчыкаў). У 1909 г. 39 двароў, 261 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Пакуццянскага с/с (да 1927) Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах. У 1926 г. 63 двары, 311 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Бальшавік Дрыбіншчыны». У 1940 г. вёска, 49 двароў, 239 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 30 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Ленінскі прызыў» (4 калгасы), з 1956 г. ў калгасе «17-ы партз'езд», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. ў вёсцы 60 гаспадарак, 121 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, клуб, пач. школа, магазін. У 1998 г. — 51 гаспадарка, 113 жыхароў. З 2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ва КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 48 гаспадарак, 100 жыхароў, працаваў магазін. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Шапавал з в. Пакуцце Дрыбінскага раёна У.Зюлікаў.*

**ПАЛОСКІ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 4 км на Пд ад Дрыбіна, 72 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Расна—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

За 2 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Проня знаходзіцца курганны могільнік (10 — пач. 13 ст.). Побач, за 1,7 км на ПнЗ, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня размяшчаецца стаянка, якая адносіцца да верхнедняпроўскай культуры эпохі неаліту. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Згодна з пісьмовымі крыніцамі ў 1785 г. Палоскі — вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 7 двароў, 53 жыхары, уладанне Цеханавецкага. Меліся млын і сукнавальня. З 1881 г. выраблялася вапна. У 1897 г. вёска ў Дрыбінскай вол., 20 двароў, 138 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 21 двор, 186 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Карэбскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. 43 двары, 213 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камбайн» (у 1932 аб'ядноўваў 6

гаспадарак), працавала кузня, з 1924 г. школа (у 1925 — 32 вучні). У 1940 г. вёска, 50 двароў, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 5 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 15 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Шлях Ільіча», з сак. 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі» (з 1996 — калгас). У 1985 г. ў вёсцы 38 гаспадарак, 75 жыхароў; у 1998 г. 25 гаспадарак, 36 жыхароў. З 29.11.2002 г. вёска ў складзе СВК «Дрыбін» (цэнтр — г.п. Дрыбін). У 2004 г. 10 гаспадарак, 21 жыхар. Невялікі ручай (прыток р. Проня) падзяляе вёску на паўн. (арыентаваную з ПдЗ на ПнУ) і паўд. (арыентаваную з З на У) вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.



*А.А.Астапаў.*

**ПАЛУІ** — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 52 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Касінка (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кароўчына, Барадзёнкі, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

У 1623 г. Палуі — сяло ў складзе маёнтка Вуглы Аршанскага павета ВКЛ, прыватнае ўладанне. У 1639 г. маёнтак, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 23 двары, 143 жыхары, уладанне Мянжынскага. У 1862 г., згодна з Устаўной граматай, у Палуях (уваходзілі ў маёнтак Вуглы) 59 душ мужчынскага полу атрымалі ў карыстанне 265 дзес. 1200 сажняў зямлі. У 1897 г. вёска ў Чэрнеўскай вол., 28 двароў, 216 жыхароў, ветраны млын. У 1909 г. 39 двароў, 269 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. да 30.6.1923 г. ў Нічыпаравіцкай вол. З 20.8.1924 г. ў Кароўчынскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. зноў у Дрыбінскім р-нах, з 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім с/с. У 1926 г. хутары, 47 двароў, 280 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны партызан» (па іншых звестках «Чырвоны брыгадзір»), працавала кузня. У 1940 г. вёска, 48 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Кастрычнік», з 1960 г. ў саўгасе «Першамайскі», з 1.3.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. ў вёсцы 33 гаспадаркі, 46 жыхароў; у 1998 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 2004 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары. Гал. прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з Пд на Пн, уздоўж ракі. Ад яе паўн. боку адыходзіць перпендыкулярна на З другая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма бел. вучонага-медыка А.А.Астапава (н. ў 1938).

**ПАНЕЧА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 8 км на Пд ад Дрыбіна, 76 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Сярпенка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ляскоўка і далей па шашы Горкі—Расна. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2007).

У 1604 г. Панеча — сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, дзярж. ўласнасць у пажыццёвым валоданні шляхціца. У 1636 г. Панеча — абруб таго ж войтаўства і эканоміі, 12 валок зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае

намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1848 г. маёнтак, складаўся з аднайменных фальварка і вёскі, налічваў 51 селяніна, 360 дзес. зямлі ў памешчыка, уладанне Матусевіча. У 1862 г., згодна з Устаўной граматай, у вёсцы, якая знаходзілася ва ўладанні памешчыкаў Дзявонскіх, 9 душ мужчынскага полу атрымалі 40 дзес. 1200 кв. сажняў зямлі. Выкупная сума за зямлю склала 225 руб. З 1879 г. маёнткам Панеча валодалі памешчыкі Цвёрдыя (223 дзес. зямлі). У 1897 г. вёска ў Дрыбінскай вол., 18 двароў, 165 жыхароў. Працавала школа граматы. Побач з вёскай знаходзілася аднайменная аколіца, 12 двароў, 65 жыхароў. У 1909 г. вёска налічвала 32 двары, 145 жыхароў, аколіца — 4 двары, 25 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Карэбскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. да 15.11.1995 г. ў Дрыбінскім с/с. У 1926 г. хутары, 50 двароў, 253 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вольная праца» (у 1932 — 23 гаспадаркі), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Праўда», які ў 1962 г. атрымаў назву «Світанне» (цэнтр — в. Карэбы). У 1981—88 гг. вёска ўваходзіла ў склад калгаса «Прагрэс». У 1985 г. ў вёсцы 37 гаспадарак, 74 жыхары; працавала жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 30 гаспадарак, 61 жыхар. З 26.6.2003 г. вёска ў складзе СВК «Сонечны прамень» (цэнтр — в. Карэбы), арганізаванага на базе былога калгаса. У 2004 г. 14 гаспадарак, 46 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц. Гал. прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Другая вуліца ідзе на У пад вуглом да першай. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАТАШНЯ** — вёска ў Цемналескім с/с, за 4 км на ПдУ ад Дрыбіна, 83 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне цячэ р. Радзебка (прыток р. Проня). На ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ляскоўка і далей па шашы Расна—Горкі. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У канцы 16 ст. вёска ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць царквы. У 1664 г. уладанне пана Я.Котла. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 13 двароў, 63 жыхары, валоданне І.Ф.Цеханавецкага. У 1850 г. Паташня — маёнтак і вёска, уласнасць І.Каланкоўскага, 48 сялян, 5 дваровых сялян, 210 дзес. зямлі ў гаспадара. У 1880 г. ў вёсцы 23 двары, 80 жыхароў. Частка сялян займалася калёсным і валяльным промысламі, выраблялі з дрэва посуд. У 1897 г. побач існавалі 2 вёскі: Паташня Каланкоўскага (17 двароў, 124 жыхары), і Паташня Цеханавецкага (14 двароў, 79 жыхароў). У 1909 г. ў вёсках адпаведна 25 двароў, 184 жыхары і 14 двароў, 77 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах. У 1926 г. вёска (56 двароў, 277 жыхароў), і хутары (4 двары, 23 жыхары). У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік» (у 1932 — 17 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 60 двароў, 243 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 20 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Авангард», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы

Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. ў вёсцы 35 гаспадарак, 53 жыхары; у 1998 г. 17 гаспадарак, 21 жыхар. З 2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ў КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў. Крывалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАЛОГІ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На Пд і З цячэ р. Зерня (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Старое Прыбужжа і далей па шашы Горкі—Дрыбін—Масток і Кіеў—Пецярбург. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1683 г. Пералогі — вёска ў Горскай вол. Аршанскага павета, у складзе Горы-Горацкага маёнтка, 9 валок зямлі, 10 дымоў. У 1750 г. вёска таго ж маёнтка, 14 двароў, 38 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска Горы-Горацкага маёнтка, 15 двароў, 132 жыхары, уладанне Н.Салагуб. У 1847 г. 16 двароў, 133 жыхары; у 1880 г. 29 двароў, 150 жыхароў. Некаторыя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся рамізніцкім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 35 двароў, 200 жыхароў. У 1909 г. 38 двароў, 257 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Дрыбінскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 59 двароў, 317 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Новы свет». У 1940 г. вёска, 83 двары, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. і вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Прагрэс» (уключаў 3 калгасы), з 1956 г. ў калгасе «Прагрэс» (цэнтр — в. Старое Прыбужжа). У 1985 г. ў вёсцы 29 гаспадарак, 34 жыхары, у 1998 г. 16 гаспадарак, 24 жыхары. З 30.5.2002 г. вёска ў складзе сял. фермерскай гаспадаркі «Прагрэс» (цэнтр — в. Старое Прыбужжа). У 2004 г. 6 гаспадарак, 20 жыхароў. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. На У ад яе паўд. боку адыходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАМАЙСК** (да 20.4.1939 Гасподы) — вёска ў Першамайскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 52 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Шыпаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Дрыбін—Масток, якая праходзіць непадалёку ад вёскі, і далей па шашы Пецярбург—Кіеў. 27 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

У 1604 г. Гасподы — сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1636 г. сяло таго ж войтаўства і эканоміі, 32 валокі зямлі, млын. У 1742 г. вёска, 32 валокі зямлі, 19 дымоў, дзейнічалі млын і карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска маёнтка Галавічы, уладанне В.Я.Чычагава, 59 двароў, 336 жыхароў, млын. У 1848 г. вёска маёнтка Трылесіна, 42 двары, 254 жыхары, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана (у сял. карыстанні знаходзілася 488 дзес. зямлі). У 1897 г. вёска ў Дрыбінскай вол., 69 двароў, 400 жыхароў, школа граматы, вадзяны млын (6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 79 двароў, 501 жыхар, казённая вінная лаўка; у сядзібе каля млына 5 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР,

з 20.8.1924 г. да 1931 г. вёска — цэнтр Гасподаўскага с/с (з 20.4.1939 Першамайскі) Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. У 1926 г. 115 двароў, 777 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена» (у 1932 — 13 гаспадарак, працаваў млын). У 1940 г. вёска, 83 двары, 412 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі ў вёсцы 17 двароў, загубілі 11 жыхароў, 17 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 43 жыхары загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоная змена» (2 калгасы), з 1956 г. ў калгасе «Камінтэрн», з 19.4.1957 г. ў саўгасе «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). Да 1967 г. існавалі 2 вёскі: Першамайск Малы і Першамайск Вялікі. У 1985 г. ў вёсцы 78 гаспадарак, 154 жыхары, зерняток, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1998 г. 45 гаспадарак, 76 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 33 гаспадаркі, 49 жыхароў. Складаецца з паўн. (асн.) і паўд. частак, якія падзяляе рака. Гал. вуліца паўн. часткі прамалінейная, арыентавана з З на У. На Пн ад яе праходзіць другая прамалінейная вуліца. У паўд. частцы вуліца ламанага профілю арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПІЧАЎКА** — вёска ў Цемналескім с/с, за 5 км на У ад Дрыбіна, 82 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз г.п. Дрыбін і далей па шашы Расна—Горкі. 16 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

У 1683 г. Пічаўка — слабада, у складзе Горы-Горацкага маёнтка, 5 валок зямлі, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 2 двары, 14 жыхароў, уладанне І.Ф.Цеханавецкага. У 1880 г. 3 двары, 12 жыхароў. Акрамя земляробства жыхары вёскі займаліся бандарным і валяльным промысламі. У 1897 г. ў Дрыбінскай вол., 4 двары, 28 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзілася калонія Анінгоф, яна ж Манькаўка ці Пічаўка, 25 двароў, 184 жыхары, ветраны млын. У 1909 г. вёска, 33 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах. У 1926 г. існавалі вёскі: Старая Пічаўка, 12 двароў, 54 жыхары (з 20.8.1924 да 26.6.1954 у складзе Дрыбінскага с/с, знята з уліку 12.8.1986); Новая Пічаўка (ці Пічаўка), 43 двары, 200 жыхароў. У 1931 г. 11 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зорка» (у 1932 — 18 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 39 двароў, 182 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «17-ы партз'езд», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. ў вёсцы 37 гаспадарак, 75 жыхароў, працавала жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 25 гаспадарак, 46 жыхароў. У 2004 г. 17 гаспадарак, 23 жыхары. Гал. прамалінейная вуліца вёскі арыентавана з Пд на Пн. Ад яе паўд. боку адыходзіць на З другая, кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПРААБРАЖЭНСК** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 52 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Чарніцы (прыток

р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 59 гаспадарак, 87 жыхароў (2007).

Помнікі археалогіі — курганны могільнік, які знаходзіцца за 50 м на ПнЗ ад вёскі на левым беразе р. Бася, за 0,8 км на ПнУ ад вусця р. Чарніца ў лесе, і курган, які размяшчаецца за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на паўд. ускраіне сада, у лесе, сведчаць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. У 1848 г. Праабражэнск — маёнтак у Чавускім павеце Магілёўскай губ., уладанне памешчыцы Чарамісавай, 55 двароў, 464 жыхары (23 дваровыя), 1008 дзес. зямлі. У 1870 г. ў маёнтку, які належаў Афанасьевым, было 728 дзес. зямлі, вадзяны млын. У 1885 г. с. Праабражэнск (яно ж Кулішава) у складзе Чэрнеўскай вол., 34 двары, 259 жыхароў, дзейнічалі драўляная царква, млын. У 1897 г. сяло, 45 двароў, 315 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, 28 жыхароў, млын. У 1909 г. ў сяле 49 двароў, 413 жыхароў, 393,5 дзес. зямлі; у маёнтку 1 жыхар, 787,5 дзес. зямлі. У 1922 г. на месцы былога маёнтка створана камуна «Святло» (у 1924 — 22 жыхары). У 1924 г. арганізавана камуна «Беларусь» (ці Праабражэнск), 46 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чэрнеўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 25.7.1931 г. ў Горацкім р-нах. У 1926 г. сяло, 92 двары, 465 жыхароў, школа (у 1925 — 60 вучняў); пас. Святло (6 двароў, 27 жыхароў), і камуна «Беларусь» (11 двароў, 51 жыхар). У 1932 г. дзейнічалі 2 калгасы: «Беларусь» (былая камуна, 44 гаспадаркі) і «3-і рашаючы пяцігодкі» (26 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 160 двароў, 589 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Напярэдадні вызвалення, у чэрв. 1944 г. гітлераўскія карнікі спалілі 130 двароў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 16.9.1959 г. да 29.12.1989 г. ў складзе Шклоўскага р-на. У 1985 г. ў вёсцы, якая ўваходзіла ў саўгас «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка), 133 гаспадаркі, 260 жыхароў, комплекс па адкорме свіней, зернедрабільня, магазін, клуб, б-ка, пач. школа, аддз. сувязі. З снеж. 1996 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка), з 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 1998 г. 92 гаспадаркі, 136 жыхароў. У 2004 г. 71 гаспадарка, 105 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж правага берага ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З, за ракой, адасоблены участак забудовы. На ПдЗ гасп. сектар.

**ПРЫЛЁПАЎКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 12 км на Пд ад Дрыбіна, 73 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1785 г. Прылепаўка — вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., уладанне А.М.Пацея, 13 двароў, 79 жыхароў. У 1845 г. ў складзе казённага маёнтка Расна, 5 незаселеных участкаў зямлі. У 1863 г. вёска маёнтка Расна, якая да сярэдзіны 1863 г. належала С.Л.Стахоўскаму, 24 душы мужчынскага полу, 108 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска ў Раснянскай вол., 15 двароў, 94 жыхары. У 1909 г. 16 двароў, 109 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Затонскім, з 21.8.1925 г. ў Робцаўскім сельсаветах Раснянскага р-на Калінінскай акругі, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 21 двор, 123 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Леніна. У 1940 г. вёска, 24 двары, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (23 двары), загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. З

1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. ў вёсцы 9 гаспадарак, 17 жыхароў; у 1998 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы К.П.Кармызавай (н. ў 1920).

**ПУДАЎНЯ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 37 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць праз вёску. 492 гаспадаркі, 1135 жыхароў (2007).

У 1604 г. Пудаўня — сяло ў складзе Даманавіцкага войтаўства Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1636 г. сяло таго ж войтаўства і эканоміі, 56 валок зямлі, карчма. У 1742 г. вёска ў Магілёўскай эканоміі, 56 дымоў, 56 валок зямлі, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1783 г. вёска маёнтка Сухары, 59 двароў, 360 жыхароў, памешчыцкае ўладанне. У 1858 г. вёску разам з маёнткам Пудаўня і Астравец (889 дзес. зямлі, карчма) купіў В.А.Дзем'яновіч. У 1862 г. 125 душ мужчынскага полу атрымалі ў вёсцы ў сваё карыстанне 562 дзес. 1200 сажняў зямлі. Выкупная сума за зямлю склала 13 333 руб. 33 кап. У 1897 г. вёска ў Чэрнеўскай вол., 52 двары, 342 жыхары, школа граматы, карчма (2 жыхары). Побач знаходзіўся фальварак Пудаўня, 15 жыхароў. У 1909 г. вёска (57 двароў, 436 жыхароў), і маёнтак (2 жыхары; школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні). У 1922 г. на базе маёнтка створана камуна (пазней ператворана ў калгас) «Шлях праўды» (у 1925 — 53 жыхары). З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. вёска — цэнтр Еганаўскага с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Шклоўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 11.3.1960 г. ў Чэрнеўскім с/с. У 1925 г. 78 двароў, 487 жыхароў, прац. школа 1-й ступені (66 вучняў, створана на базе дарэв.); у 1926 г. 48 двароў, 285 жыхароў. Пасёлак калгаса налічваў 10 двароў, 53 жыхары (у 1932 — 16 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. да вёскі далучана в. Гараншчына. У 1985 г. Пудаўня — вёска, 178 гаспадарак, 380 жыхароў, цэнтр саўгаса «Даманы» (5824 га сельгасугоддзяў), дзейнічалі машынны двор, свінагадоўчая ферма, клуб, б-ка, 2 магазіны, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, сярэдняя школа. У 1990-я г. пабудаваны пасёлак для перасяленцаў з тэр., забруджанай у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У 1998 г. 497 гаспадарак, 1362 жыхары. З 21.11.1996 г. Пудаўня — цэнтр калгаса «Даманы» (7 вёсак), з 15.5.2003 г. цэнтр СВК «Калгас «Даманы» (пл. 3307 га), працавалі школа, сельскі Дом культуры, дзіцячы сад, сельская ўчастковая бальніца, гандл. цэнтр, магазін, аддз. унітарнага камунальнага прадпрыемства «Жылкамгас», аддз. сувязі, філіял АСБ «Беларусбанк», комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2004 г. 461 гаспадарка,

*Сельскі Дом культуры ў аграгарадку Пудаўня.*



1122 жыхары. У 2007 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1978 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсках. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. На У, за ракой — адасоблены ўчастак забудовы, які складаюць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З, каля шашы, мураванымі будынкамі забудаваны адм.-грамадскі цэнтр. Жыллёвае будаўніцтва вядзецца двухпавярховымі шматкватэрнымі дамамі тыпу катэджаў. Гасп. сектар — на ПдУ і З.

**ПЯСКІ** — вёска ў Раснянскім с/с, за 12,5 км на ПдУ ад Дрыбіна, 71 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Вербаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 20 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

У 1920 г. на месцы б. маёнтка Расна і побач былі арганізаваны с.-г. арцель «Май» (у 1925 — 38 чал.), таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі «Праца» (у 1925 — 40 чал.) і «Прагрэс» (у 1925 — 43 чал.). У 1923 г. ў былым маёнтку створаны аграпункт. У 1925 г. на тэр. былога маёнтка таксама існавалі 8 гаспадарак, жыхары якіх (39 чал.) карысталіся хутарскай зямлёй (з 20.8.1924 тэр. Раснянскага с/с Раснянскага р-на). У кастр. 1929 г. ў выніку аб'яднання 3 калектыўных гаспадарак створаны калгас «Камуністычны шлях» з цэнтрам у б. маёнтку Расна, з аграпунктам, садам. Калгасу былі перададзены ўсе будынкі маёнтка акрамя памяшкання школы-сямігодкі. У 1932 г. яўр. нац. калгас «Камуністычны шлях» налічваў 25 сем'яў, 145 га зямлі, спецыялізаваўся на жывёлагадоўлі. Пазней калгасная сядзіба стала вёскай і атрымала сучасную назву. У 1940 г. вёска, 16 двароў, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі ў вёсцы 7 двароў, загубілі 8 жыхароў, 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Перамога», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. 25 гаспадарак, 55 жыхароў; у 1998 г. 20 гаспадарак, 44 жыхары. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з Пд на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

*Вадасховішча каля в. Расна.*



**РАБКІ** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 57 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 19 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1650 г. Рабкі — вёска ў Кішчыцкім войтаўстве, у складзе Шклоўскіх уладанняў («добр») Сяняўскіх. У 1695 г. ў вёсцы 8 двароў, у 1771 г. 10 двароў, 69 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1784 г. вёска, 16 двароў, 154 жыхары, уладанне графа Зоры-

ча. У 1860 г. 22 двары, 118 жыхароў. У 1870 г. вёску і аднайменны маёнтак (368 дзес. зямлі) набыў Д.Ф.Бараноўскі. Некаторыя жыхары вёскі акрамя земляробства займаліся калёсным і бандарным промысламі, выраблялі розныя хатнія рэчы з дрэва. У 1897 г. вёска ў Чэрнеўскай вол., 19 двароў, 146 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 179 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.9.1959 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на (да 29.12.1989). У 1926 г. вёска, 55 двароў, 313 жыхароў. У 1931 г. 13 гаспадарак стварылі калгас «Чырвоны баявік» (у 1932 — 48 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 62 двары, 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 34 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1985 г. вёска, 49 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Чэрнеўка), працавалі жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. У 1998 г. 28 гаспадарак, 40 жыхароў. З снеж. 1996 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Чэрнеўка), з 2003 г. ў СВК «Чэрнеўскі» (цэнтр — в. Чэрнеўка). У 2004 г. 24 гаспадаркі, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (адна мерыдыянальнай, другая — шыротнай арыентацыі), забудаваных двухбакова, шчыльна, традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАСНА** — вёска, цэнтр Раснянскага с/с, за 13 км на ПдУ ад Дрыбіна, 70 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Вербаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Расна—Горкі. 317 гаспадарак, 905 жыхароў (2007).

Вядома з 14 ст. як горад, які ў 1335 г. быў спалены па загадзе вял. кн. Маскоўскага Івана Каліты, каб адпомсціць за напад войск літ. князёў на Наваторжскую вол. У 1430 г. Расна згадваецца ў ліку уладанняў кн. Свідрыгайлы пры ўзвядзенні яго на прастол. З 1499 г. горад знаходзіўся ва ўладанні мсціслаўскага кн. М.Жаслаўскага. У пач. 16 ст. ў Мсціслаўскім княстве. Неаднаразова (у 1535, 1580, 1654, 1663, 1665) падвяргаўся нападам і разбурэнням падчас ваенных дзеянняў паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ, з 1569 г. — Рэччу Паспалітай. У 1667 г. мястэчка, меўся замак. У Паўн. вайну 1700—21 гг. у 1708 г. ў Расне размяшчалася рус. кавалерыя, а ў жніўні таго ж года горад наведаў Пётр І, які агледзеў свае войскі і выступіў разам з імі на Чавусы. У 1753 г. засн. Раснянская езуіцкая місія (меліся школа, місіянерскі дом і касцёл, да 600 прыхаджан) з фундушам уладальніка графа Пацея, стражніка літ., уладальніка Расна і наваколля. Місія ліквідавана ў 1773 г., на яе месцы засталося так званае «паселішча езуітаў» (у 1810 — 10 дымоў, 390 дзес. зямлі, 31 душа мужчынскага полу). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Расна ў складзе Рас. імперыі. У 1784 г. мястэчка Чавускага павета Магілёўскай губ., уладанне графа А.М.Пацея; 65 двароў, 218 жыхароў, драўляныя царква (пабудавана ў 1776) і касцёл (узведзены ў 1769, згарэў у 1804), школа. Побач знаходзілася сяльцо Расна, дзе размяшчаўся панскі дом з садам. Акрамя земляробства жыхары мястэчка займаліся кавальскім, кравецкім, ганчарным (14 чал.) промысламі. Уладальнік Расна А.М.Пацей, стражнік літ., адмовіўся прысягнуць



*Царква ў в. Расна Дрыбінскага раёна.*

імператрыцы Кацярыне II. У 1791 г. казённы маёнтак Расна быў пажалаваны ў пажыццёвае ўладанне М.Прыклонскай. У 1810 г. ў мястэчку 90 дымоў, 369 душ мужчынскага полу. У 1838 г. пры Мікалаеўскай царкве (пабудавана ў 1830, у 1860 храм пашыраны і асвячоны ў гонар Св. Тройцы) адкрылася вучылішча, у якім у 1840 г. вучыліся 18 хлопчыкаў. У 1846 г. мястэчка (63 двары, 311 душ) і маёнтак (2285 дзес. зямлі) знаходзіліся ва ўладанні М.Ф.Еляшэвіча. У 1855 г. частка мястэчка (135 дзес. зямлі, 30 душ сялян мужчынскага полу, 2 крамы, млын, сад, драўляная прыходская царква Св. Тройцы, касцёл св. Казіміра, іншыя пабудовы) належала С.Л.Стахоўскаму. Маёнтак Расна С.Стахоўскага налічваў 2367 дзес. 360 сажняў зямлі, 306 душ сялян мужчынскага полу (уключаў фальваркі Расна і Міхалова, 8 навакольных вёсак). З 1861 г. Расна — цэнтр воласці Чавускага павета Магілёўскай губ., 638 жыхароў, 93 драўляныя дамы, царква (з дрэва), мураваны касцёл св. Казіміра (пабудаваны ў 1819, помнік класіцызму), сінагога, 2 малітоўныя школы. У 1845 г. засн. сукнавальнае прадпрыемства, дзейнічаў млын. У 1862 г. (паводле іншых звестак у 1867) адкрыта нар. вучылішча. 25.4.1863 г. паўстанцкі атрад з Горак на чале з Л.Зв'яждоўскім прыбыў у мястэчка, захапіў і спаліў усе справы, што захоўваліся ў кватэры станавога прыстава. За ўдзел у паўстанні маёнтак С.Л.Стахоўскага ў жн. 1863 г. быў апісаны і канфіскаваны ўладамі. У 1870 г. маёнткам Расна валодаў А.А.Спыткоў. У 1882 г. тут было 832 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальня, крупадзёрка (з 1875), маслабойня (з 1881), лаўка і піцейны дом. З 1890 г. працавала вінакурнае прадпрыемства. У 1897 г. Расна — мястэчка, 137 двароў, 931 жыхар, мураваная царква (пабудавана ў 1891—94), касцёл, сінагога, 3 яўр. малітоўныя дамы, паштова-тэлегр. аддз. (з 1887), багадзельня, царк.-прыходская школа (з 1885, у 1897 вучыліся 45 хлопчыкаў і 9 дзяўчынак), 2 крупадзёркі (конныя), 39 лавак (з іх 27 дробязных), вадзяны млын з сукнавальняй, 2 піцейныя дамы. Каля царквы існавала сядзіба святара (24 жыхары). На зямлі сял. т-ва Раснянскай вол., якая належала Раснянскаму і Дубраўскаму т-ствам, знаходзілася другая частка мястэчка (60 дамоў, 347 жыхароў), дзе меліся вал. праўленне, нар. вучылішча (58 хлопчыкаў, 10 дзяўчынак). Побач размяшчаўся фальварак Расна, 44 жыхары, вінакурня і цагельны з-д. У 1909 г. ў мястэчку 1336 жыхароў, 320 будынкаў (з дрэва), адна вуліца забрукавана, прыёмны пакой. Праз Расна праходзіла паштовая дарога з Магілёва ў Мсціслаў. 31.12.1917 г. ў мястэчку адбыўся сход звыш 100 грамадзян Раснянскай вол., які сваім рашэннем падтрымаў Петраградскі Савет рабочых, салдацкіх і сял. дэпутатаў. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918 г., створаны чырвонагв. атрад, парт. ячэйка РСДРП(б) (40 членаў). З 26.4.1919 г. Расна ў складзе Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. Смаленскай губ. РСФСР. З 17.7.1924 г. цэнтр Раснянскага р-на БССР, з 20.8.1924 г. цэнтр Раснянскага с/с і р-на Калінінскай акругі, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 15.7.1935 г. мястэчка, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 27.9.1938 г. вёска, з 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1920 г. створана с.-г. камуна «Маяк» (у 1925 — 6 чал.). У 1925 г. 311 двароў, 1438 жыхароў,

*Ушэсцеўская царква ў в. Расна.*



райвыканком, раённыя к-ты КПБ(б) і ЛКСМБ, Раснянскае крэдытнае т-ва, сінагога, дзіцячы сад (з 1921), хата-чытальня, пракатны пункт сельгасмашын, урачэбны пункт з бальніцай, нар. дом, б-ка, школа, ветэрынарны пункт, базар. На тэр. Раснянскага с/с размяшчаліся 24 населеныя пункты, 5 с.-г. арцелей і камун, 10 кузняў, 20 лавак. У 1928 г. ў Расне адчынена шавецкая майстэрня арцелі «Чырвоны Кастрычнік» (16 рабочых), у 1929 г. кавальская майстэрня арцелі «Серп і молат» (13 рабочых); арганізаваны арцелі возчыкаў (15 чалавек), будаўнікоў, краўцоў «Чырвоная ігла»; пабудаваны маслаboard з-д, у 1930 г. спіртз-д (35 рабочых). У 1933 г. адчынена кравецкая майстэрня арцелі «2-я пяцігодка» (5 рабочых). У 1940 г. ў вёсцы 216 двароў, 986 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы стварылі ў Расне лагер смерці, дзе загубілі 800 чал., 6 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. У сак. і вер. 1943 г. карнікі спалілі 109 двароў, загубілі 410 жыхароў. У 1943—44 гг. непадалёку ад Расна па р. Проня праходзіла лінія абароны сав. войск. У цэнтры вёскі пахаваны 642 сав. воіны, якія загінулі ў баях з фашыстамі ў кастр. 1943 г. — ліст. 1944 г., ці памерлі ад ран у шпіталі, які знаходзіўся ў вёсцы. У 1964 г. на брацкай магіле ўстаноўлены помнік. 71 жыхар Расна загінуў на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана, адчынены дзіцячы дом, адноўлены спіртз-д і адкормачны пункт для жывёлы. З 25.4.1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна» (да жн. 1963 саўгас імя Леніна). У 1985 г. 216 гаспадарак, 651 жыхар, лясніцтва, сталовая, дапаможная школа-інтэрнат, Дом культуры, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, бальніца, паліклініка, аптэка, універмаг, 3 магазіны, сярэдняя школа, б-ка. У 1990-я г. пабудаваны пасёлак для перасяленцаў з тэр., забруджаных у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У 1998 г. 342 гаспадаркі, 996 жыхароў. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле), працавалі сельскі Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, 4 магазіны, школа-сад, спецшкола, дом ветэранаў, лясніцтва, аддз. сувязі, філіял АСБ «Беларусбанк», пажарны пост, хлебапякарня, жыллёва-камунальная гаспадарка, комплексна-прыёмны пункт, участак ветэрынарнай станцыі, участак УКП «Жылкамгас». У 2004 г. 326 гаспадарак, 988 жыхароў. У 2007 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры. б-ка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, сталовая.

Праект планіроўкі і забудовы Расна быў распрацаваны ў 1983 г. ў ін-це «Бельсельпраект». Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана з З на У. Другая вуліца арыентавана з Пд на Пн, перпендыкулярна ад цэнтра галоўнай. Другарадныя вуліцы праходзяць перпендыкулярна і паралельна да гэтых 2 асн. вуліц. У месцы злучэння асн. вуліц — грамадскі цэнтр, дзе размешчаны мураваныя грамадскія будынкі. На другім беразе ракі адасобленая частка забудовы. На зах. ускраіне каля штучнага возера захавалася сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму з рысамі нар. драўлянага дойлідства. Вёска — радзіма бел. празаіка і драматурга У.П.Бутрамеева (н. ў 1953), бел.



*У.П.Бутрамееў.*



*Касцёл святога Казіміра ў в. Расна. 1819 г.*



*Б.Казанаў.*

пісьменіка, журналіста Б.М.Казанава (сапр. Лапіцкі; н. ў 1938).

**РОБЦЫ** — вёска ў Раснянскім с/с, за 15 км на Пд ад Дрыбіна, 77 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Расна—Горкі. 42 гаспадаркі, 97 жыхароў (2007).

У 1604 г. Робцы — сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, 18 гаспадарак, у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. уладанне. У 1643 г. сяло, 21 валока зямлі. У 1742 г. вёска ў складзе Магілёўскай эканоміі, 14 дымоў, 21 валока зямлі, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1862 г. Робцы — аднайменныя маёнтак і вёска, карчма; уладанне памешчыцы Дабраканскай. Згодна з Устаўной граматай, 59 сялян вёскі атрымалі ў карыстанне 581 дзес. 1429 сажняў зямлі. Выкупная сума за зямлю склала 6293 руб. 33 кап. У 1890 г. ў вёсцы працавала школа граматы, дзе вучыліся 15 хлопчыкаў. У 1897 г. вёска ў Раснянскай вол., 40 двароў, 266 жыхароў. У 1905 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў вёсцы 50 двароў, 312 жыхароў, млын. Побач знаходзіўся хутар, 4 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Затонскім с/с, з 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7. 1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 69 двароў, 352 жыхары. У 1929 г. ў вёсцы арганізавана с.-г. перасяленчае т-ва, у 1931 г. калгас «Серп і молат», працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. вёска, 65 двароў, 265 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі ў вёсцы 53 двары, 15 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 24 жыхары вёскі загінулі на фронце. З 1950 г. вёска знаходзілася ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны баец», з 1956 г. ў калгасе імя Леніна, з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. 40 гаспадарак, 90 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 1998 г. 54 гаспадаркі, 138 жыхароў. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле), працавалі магазін, клуб-бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт. У 2004 г. 45 гаспадарак, 108 жыхароў. У 2007 г. б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з З на У і аб'яднаных кароткімі папярочнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На гал. (паўн.) вуліцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца грамадскія будынкі. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.

*Старадаўнія яўрэйскія магілкі каля в. Расна.*



**РУСЕНКА** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 32 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць паблізу вёскі. 17 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

У 1636 г. сяло ў Даманавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім

павеце ВКЛ, дзярж. ўладанне. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.). У 1784 г. вёска, 15 двароў, 109 жыхароў. У 1909 г. в. Тапароўская Русенка (30 двароў, 180 жыхароў), і выселак Русінка (7 двароў, 41 жыхар) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета. З 20.8.1924 г. ў Мастокскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не. У 1926 г. хутары Русінкі-Тапары, 16 двароў, 82 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. вёска, 39 гаспадарак, 76 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін; у складзе саўгаса «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня) Чэрнеўскага с/с Шклоўскага р-на. З 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-не. У 1998 г. 16 гаспадарак, 27 жыхароў. З 21.11.1996 г. вёска ў складзе калгаса «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня), з 15.5.2003 г. ў СВК «Калгас «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня). У 2004 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З і У далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБОДКА** (Кароўчынская Слабодка) — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 55 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кароўчына, Губіна, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў (2007).

У 1785 г. Слабодка — вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 22 двары, 159 жыхароў, млын, уладанне В.Я.Чычагава. У 1897 г. вёска ў Чэрнеўскай вол., 61 двор, 451 жыхар, школа граматы. Побач, на зямлі, якая была набыта сялянамі пры садзейнічанні сял. пазямельнага банка, размяшчаўся аднайменны выселак, 8 двароў, 31 жыхар. У 1909 г. 78 двароў, 575 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1922 г. да 30.6.1923 г. ў Нічыпаравіцкай вол. З 20.8.1924 г. ў Кароўчынскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 6 двароў, 37 жыхароў (вылучылася в. Хасеўка). У 1931 г. створаны калгас «Звязда», працавала кузня. У 1940 г. вёска, 41 двор, 204 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі ў вёсцы 4 двары, загубілі 5 жыхароў, 6 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 15 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Звязда» (3 калгасы), з крас. 1960 г. ў саўгасе «Першамайскі», з 25.2.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. ў вёсцы 50 гаспадарак, 91 жыхар; у 1998 г. 39 гаспадарак, 58 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 2004 г. 28 гаспадарак, 43 жыхары. Аснову планіроўкі вёскі складаюць 2 паралельныя паміж сабой, прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя папярочнымі кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СЛАБОДКА** (Шчокатаўская Слабодка) — вёска ў Першамайскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 56 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Прадзёрка (прыток р. Шыпаўка). На ПдЗ мяжуе з лесам Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Шчокатава, Трылесіна, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1785 г. вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 54 жыхары, пры-

ватнае ўладанне. У 1849 г. 9 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе казённага Мсціслаўскага маёнтка. У 1897 г. ў Радамльскай вол., 16 двароў, 116 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Суслаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Першамайскім с/с Горацкага р-на. У 1931 г. створаны калгас «Шлях бедняка» (пазней атрымаў назву «Чырвоная Слабодка»). У 1940 г. вёска, 31 двор, 160 жыхароў. У 1940 г. вёска, 31 двор, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 4 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 13 жыхароў вёскі загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны кастрычнік» (3 калгасы), з 19.4.1957 г. ў саўгасе «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). у 1985 г. ў вёсцы 17 гаспадарак, 28 жыхароў; у 1998 г. 12 гаспадарак, 13 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, няшчыльна.



*В.С.Кудлачоў.*

**СЛАСЦЁНЫ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 55 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У цячэ р. Зерня (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 17 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

У 1636 г. Сласцёны — сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ, 13 валок зямлі, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. в. Азерня ці Сласцёны таго ж войтаўства і эканоміі, 18 валок зямлі, 8 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, уладанне В.Я.Чычагава, 27 двароў, 162 жыхары. У 1847 г. ў складзе маёнтка Трылесіна, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана, 22 двары, 112 жыхароў. У 1897 г. ў Дрыбінскай вол., 28 двароў, 177 жыхароў. У 1909 г. 30 двароў, 201 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце. З 20.8.1924 г. ў Гаспадаўскім (з 1939 Першамайскі) с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. У 1926 г. 55 двароў, 297 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны волат» (у 1932 — 12 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 61 двор, 278 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 17 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 32 жыхары загінулі на фронце. Праз 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, у гаі, пахаваны 22 сав. воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. пры вызваленні тэр. сельсавета. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны волат» (2 калгасы), з 19.4.1957 г. ў саўгасе «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. 45 гаспадарак, 77 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 27 гаспадарак, 40 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 2004 г. 18 гаспадарак, 23 жыхары. Аснову планіроўкі вёскі складаюць 2 вуліцы: першая арыентавана з ПдУ на ПнЗ, другая — перпендыкулярна да першай. Другарадныя вуліцы праходзяць перпендыкулярна да гэтых дзвюх. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма бел. вучонага ў галіне ветэрынарыі А.І.Гаўрылава (1906—57), бел. паэта, педагога В.С.Кудлачова (н. ў 1936).

**СОНЕЧНАЯ** (да 21.1.1969 Чартаўшчына) — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 62 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Касінка (прыток р. Бася).

Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць побач з вёскай і далей па шашы Кіеў—Пецярбург. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

У 1785 г. Чартаўшчына — сяльцо ў складзе маёнтка Чэрнеўка Чавускага павета Магілёўскай губ., уладанне Мянжынскага, 10 двароў, 109 жыхароў. У 1862 г. вёска маёнтка Вуглы Чэрнеўскай вол., у якой, згодна з Устаўной граматай, 48 сял. душ атрымалі ў карыстанне 216 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска (16 двароў, 114 жыхароў), і аднайменны хутар (9 жыхароў). У 1909 г. Чартаўшчына — вёска (18 двароў, 147 жыхароў) і аколіца (10 двароў, 55 жыхароў). З 16.4.1919 г. ў Чэрнеўскай вол. Чавускага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. да 30.6.1923 г. ў Нічыпаравіцкай вол. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Кароўчынскім, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім сельсаветах. У 1926 г. вёска (32 двары, 174 жыхары), і аколіца (18 двароў, 94 жыхары). У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У 1940 г. вёска, 45 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 19 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 29 жыхароў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны ўсход» (3 калгасы), з 1960 г. ў саўгасе «Першамайскі», з 25.2.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. ў вёсцы 45 гаспадарак, 92 жыхары, працавала б-ка. У 1998 г. — 26 гаспадарак, 45 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 2004 г. 19 гаспадарак, 30 жыхароў. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з Пд на Пн, перпендыкулярна да шашы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма бел. пісьменніка, журналіста С.Ф.Сідарава (н. ў 1924).

**СТАРАКОЖАЎКА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 74 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Проня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 53 гаспадаркі, 99 жыхароў (2007).

У 1622 г. с. Старакожа ў Горскай вол. Горы-Горацкага маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1683 г. сяло, 12 валок зямлі, 29 дымоў. У 1750 г. в. Старакожаўка, яна ж Старакожава, 30 двароў, 164 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, уладанне Н.Л.Салагуб, 43 двары, 385 жыхароў. У 1880 г. 72 двары, 440 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Некаторыя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся рамізніцкім, кавальскім, калёсным, кравецкім і кушнерскім промысламі. З 1889 г. працавала царк.-прыходская школа. У 1897 г. 85 двароў, 336 жыхароў. У лют. 1904 г. ў вёсцы былі знойдзены рэв. лістоўкі з заклікамі да сялян, пав. іспраўнік праводзіў сваё даследаванне. У 1909 г. вёска, 87 двароў, 673 жыхары, працавалі млын, царк.-прыходская школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Дрыбінскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім с/с. У 1926 г. ў вёсцы 131 двор, 732 жыхары, працавала 4-гадовая школа (у 1925 — 64 вучні), гурток па ліквідацыі непісьменнасці для дарослых. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны араты» (у 1932 — 38 гаспадарак), у якім дзейнічалі кузня і млын. У 1940 г. да вёскі далучаны пасёлкі Арол і Перадавы. У 1940 г. 137 двароў, 720 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак.

і вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 170 жыхароў. Падчас акупацыі 65 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 53 жыхары загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Пражэктар» (3 калгасы), з сак. 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі» (з 1996 — калгас). У 1985 г. ў вёсцы 140 гаспадарак, 284 жыхары; жывёлагадоўчая ферма, стайня, магазін. У 1998 г. 97 гаспадарак, 192 жыхары. З 29.11.2002 г. вёска ў складзе СВК «Дрыбін» (цэнтр — г.п. Дрыбін), працавалі магазін, сельскі Дом культуры. У 2004 г. 53 гаспадаркі, 133 жыхары. Рака падзяляе вёску на ўсх. і зах. часткі. Планіроўка зах. часткі прамавугольная. Яе гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, інш. вуліцы праходзяць паралельна і перпендыкулярна да яе. Крывалінейная вуліца ўсх. часткі арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне ўсх. часткі гасп. сектар. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза Ц.Р. Сянькова (1917—85).



*Ц.Р.Сянькоў.*

**СТАРОЕ ПРЫБУЖЖА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць побач з вёскай. 82 гаспадаркі, 178 жыхароў (2007).

Вядома з канца 16 ст. як с. Прыбуж Аршанскага павета ВКЛ, шляхецкае уладанне. У 1683 г. с. Прыбужжа Старое (раней слабада) у складзе Горы-Горацкага маёнтка, 30 валок зямлі, 33 дымы. У 1750 г. 30 двароў, 154 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска таго ж маёнтка, 48 двароў, 276 жыхароў, уладанне Н.Л.Салагуб. У час вайны 1812 г. вёска пацярпела ад напалеонаўскіх войск, а ў фальварку Прыбуж быў значна пашкоджаны памешчыцкі дом. У 1847 г. вёска, 43 гаспадаркі, 323 жыхары, мелася карчма. У 1880 г. 69 двароў, 382 жыхары. У 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 92 двары, 684 жыхары, школа граматы, ветраны млын. Частка вяскоўцаў акрамя земляробства займалася кравецкім, рамізніцкім промысламі, выраблялі посуд з дрэва. У 1909 г. 93 двары, 654 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Дрыбінскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім с/с. У 1926 г. 134 двары, 797 жыхароў, прац. школа 1-й ступені (у 1925 — 83 вучні, з 1932 новы будынак). У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У 1940 г. вёска, 87 двароў, 372 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 17 жыхароў. Падчас акупацыі 9 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 32 жыхары загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. Адноўлены калгас, які атрымаў назву «Прагрэс». У 1970 г. на паўн. ускраіне вёскі на ўшанаванне памяці 63 жыхароў вёсак тэр. калгаса «Прагрэс», якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—45 гг., пастаўлены абеліск. З 1950 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Прагрэс» (аб'ядналіся 3 калгасы), да якога ў студз. 1956 г. быў далучаны калгас «Зерне» Першамайскага с/с (цэнтр — в. Губіна). У 1981—88 гг. у склад гаспадаркі ўваходзіў калгас «Світанне» (цэнтр — в. Карэбы). У 1985 г. ў вёсцы 112 гаспадарак, 250 жыхароў, рамонтныя майстэрні, машынны двор, комплексны збожжаачышчальна-сушыльны пункт, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, клуб, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, б-ка. У 1998 г. 104 гаспадаркі, 244 жыхары. З 30.5.2002 г. вёска — цэнтр сял. фермер-

скай гаспадаркі «Прагрэс», працавалі аддз. сувязі, клуб-бібліятэка, магазін. У 2004 г. 89 гаспадарак, 225 жыхароў. У 2007 г. клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1969 г. ў Магілёўскім філіяле «Белкалгаспраекта». Гал. вуліца арыентавана з Пд на Пн і выходзіць да шашы. Другая прамалінейная вуліца праходзіць на З паралельна да гал. Паміж імі папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. баку гал. вуліцы размяшчаюцца асн. грамадскія будынкі. Вытв. сектар на ўсх. ускраіне.

**СТАРОЕ ПРЫБУЖЖА** (Пасёлак 17-ы) — пасёлак ў Міхееўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 74 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць побач з пасёлкам. 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2007).

Створаны ў 1930-я г. на тэр. Дрыбінскага с/с, калі быў арганізаваны калгас «17-ы Кастрычнік». У 1940 г. 47 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 45 двароў, загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны паселак адбудаваны. Падчас акупацыі 4 жыхары пасёлка былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 16 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Старое Прыбужжа), з 1956 г. ў калгасе той жа назвы. У 1985 г. ў пасёлку 50 гаспадарак, 89 жыхароў, працавала жывёлагадоўчая ферма. З 15.11.1995 г. ў Міхееўскім с/с. З 30.5.2002 г. ў складзе сял. фермерскай гаспадаркі «Прагрэс» (цэнтр в. Старое Прыбужжа). У 2004 г. 38 гаспадарак, 59 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе ўсх. канца на Пд перпендыкулярна адыходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СУСЛАЎКА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 56 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Прадзерка). На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Заложжа і далей па шашы Расна—Горкі. 32 гаспадаркі, 46 жыхароў (2007).

У 1690 г. Суслаўка — вёска, прыватнае ўладанне ў Аршанскім павеце ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1834 г. — 145 жыхароў. У 1847 г. сяло маёнтка Радучы Чавускага павета, уладанне А.Хадкевіча, 23 двары, 171 жыхар. Дзейнічала Вазнясенская царква. У 1880 г. 23 двары, 195 жыхароў. Некаторыя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся сталярным промыслам. У 1897 г. сяло ў Радамльскай вол., 21 двор, 133 жыхары, царква (мураваная), царк.-прыходская школа (38 вучняў-хлопчыкаў). Сядзіба святара налічвала 3 двары, 10 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны пасёлак, 23 двары, 123 жыхары. У 1909 г. 27 двароў, 150 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. ў Сухараўскай вол. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Першамайскім с/с Горацкага р-на. У 1926 г. сяло, 13 двароў, 54 жыхары, і пасёлак, 36 двароў, 188 жыхароў; працавала 4-гадовая школа (у 1925 — 64 вучні). У 1935 г. дзейнічалі 2 кузні калгасаў «Чырвоны сцяг» і «Чырвоная зара». У 1940 г. ў вёсцы 96 двароў, 409 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19.9.1942 г. партызаны атрадаў пад камандаваннем М.Н.Іванова, М.Т.Перапечкіна, І.В.Кананыхіна разграмілі ў вёсцы вал. ўправу акупантаў. За гады вайны гітлераўскія карнікі спалілі 56 двароў, загубілі 7 жыхароў, 6 вяскоўцаў былі выве-

зены на прымусовыя работы ў Германію, 43 жыхары загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «1 Мая», з 19.4.1957 г. ў саўгасе «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1967 г. з вёскай зліўся пас. Суслаўка. У 1985 г. ў вёсцы 84 гаспадаркі, 155 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, зерняток, клуб, магазін, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 1998 г. 49 гаспадарак, 85 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна), працавалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2004 г. 39 гаспадарак, 60 жыхароў. У 2007 г. фельч.-акушэрскі пункт. Ручай падзяляе вёску на паўд.-зах. і паўн.-ўсх. часткі. Аснову планіроўкі паўн.-ўсх. часткі складаюць 2 узаемнаперпендыкулярныя вуліцы, арыентаваныя з Пд на Пн і з З на У. Паўд.-зах. частку складае крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўд. ускраіне паўн.-ўсх. часткі.

**ТАЎКАЧЫ** — вёска ў Цемналескім с/с, за 10 км на ПдУ ад Дрыбіна, 84 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Вярбоўка (прыток р. Проня). На Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шаблавы і далей па шашы Расна—Горкі. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1855 г. Таўкачы — маёнтак і вёска (9 двароў, 48 жыхароў у 1860), уладанне С.А.Зянькевіча ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. З 1875 г. маёнтак, 312 дзес. зямлі, належаў памешчыкам Казачковым. У 1897 г. фальварак у Дрыбінскай вол., 3 двары, 11 жыхароў. У 1909 г. ў фальварку 1 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. ў Цемналескім сельсаветах. У 1920 г. на базе былога маёнтка створана камуна «Хлеб і воля», 99 дзес. зямлі. У 1924 г. ў камуне 33 жыхары, у 1926 г. 50 жыхароў. У 1932 г. камуна рэарганізавана ў калгас (аб'ядноўваў 32 гаспадаркі). У 1940 г. вёска, 41 двор, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 жыхароў загінулі на фронце. З 25.4.1957 г. вёска ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1998 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары. З 2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ў КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 14 гаспадарак, 9 жыхароў. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з З на У. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ТРЫЛЕСІНА** — вёска, цэнтр Першамайскага с/с, за 11 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 50 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На паўд. ускраіне цячэ р. Шыпаўка (прыток р. Проня). На Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Расна. 495 гаспадарак, 1295 жыхароў (2007).

У 1604 г. Трылесін — сяло (17 дымоў) у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уладанне. У 1636 г. сяло таго ж войтаўства і эканоміі, 22 валокі зямлі. У 1742 г. вёска ў Магілёўскай эканоміі, 19 дымоў, 22 валокі зямлі, карчма, вадзяны млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 45 двароў, 251 жыхар, уласнасць В.Я.Чычагава. У 1847 г. Трылесіна — маёнтак, уладанне памешчыка А.Н.Перасвет-Солтана. У склад маёнтка ўваходзілі 2 фальваркі, сяло, 5 вёсак, 4 млыны, вінакурня, кузня, цагельны з-д. Фальварак Трылесіна налічваў 19 сем'яў дваровых сялян (77 чал.). Пабудовай палаца і дваровай забу-

довы кіраваў архітэктар А.Ідзькоўскі. З 1862 г. маёнтак знаходзіўся ва ўладанні М.А.Хлюдзінскай; у 1882 г. тут было 2226 дзес. зямлі, 3 млыны, сукнавальня, карчма, вінакурня (у 1879 — 8 рабочых). У 1897 г. фальварак, 4 двары, 33 жыхары, вадзяны млын і сукнавальня. У 1909 г. ў фальварку (уладанне Дэ-Леноры) 4 жыхары; з 1908 г. працаваў вінакурны з-д (у 1918 нацыяналізаваны). У 1922 г. ў былым маёнтку створана с.-г. арцель «Асвета» (у 1925 — 4 сям'і, 15 чал., 50 га зямлі). З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Гасподаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 1931 г. цэнтр таго ж сельсавета (з 1939 Першамайскі с/с), з 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах. У 1926 г. 27 двароў, 105 жыхароў. У 1930 г. ў вёсцы працавалі вадзяны млын, масласыраробчае, садавінагароднiннае, цагельнае і ганчарнае прадпрыемствы, 7-гадовая школа, магазін, фельч.-акушэрскі пункт; арганізаваны калгас «Майскі дзень» (у 1932 — 32 гаспадаркі). У 1940 г. 58 двароў, 348 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 23.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19.9.1942 г. партызаны брыгады «Звязда» (камандзір М.І.Іўлеў) разграмілі ў вёсцы ням.-паліцэйскі гарнізон. За гады акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 40 двароў, загубілі 6 жыхароў, 21 вяскоўца вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 41 жыхар загінуў. У 1968 г. на ўшанаванне іх памяці на Пд ад вёскі пастаўлены помнік. Пасля вайны вёска адбудавана, з 1946 г. тут працавала Трылесінская (Першамайская) МТС (рэарганізавана 31.3.1958). З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны волат», з 19.4.1957 г. цэнтр саўгаса «Першамайскі» (уключаў 13 вёсак, 6,8 тыс. га зямлі). У 1985 г. ў вёсцы 210 гаспадарак, 482 жыхары; працавалі машынны двор, цагельны з-д, жывёлагадоўчая ферма, лясніцтва, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, клуб, аптэка, бальніца, амбулаторыя, сярэдняя школа з інтэрнатам, дзіцячы сад-яслі, магазін, сталовая, Дом быту, гасцініца, б-ка. У 1990-я г. на тэр. вёскі пабудаваны пасёлак для жыхароў Краснапольскага р-на, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У 1998 г. ў вёсцы 548 гаспадарак, 1379 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска — цэнтр КСУП «Саўгас «Першамайскі» (пл. 6213 га), працавалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, лясніцтва, цэхі безалкагольных напояў і кандытарскі, участак унітарнага камунальнага прадпрыемства «Жылкамгас», абл. псіхіятрычная бальніца, школа-сад, муз. школа, сельскі Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял АСБ «Беларусбанк», гандл. цэнтр, магазін. На тэр. Першамайскага с/с знаходзілася 13 населеных пунктаў (2004). У 2004 г. 506 гаспадарак, 1263 жыхары. У 2007 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, сталовая. Праект забудовы і планіроўкі Трылесіна распрацаваны ў 1985 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіроўка прамавугольная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Паралельна і перпендыкулярна да яе праходзяць другарадныя вуліцы. У цэнтр. частцы гал. вуліцы — грамадскі цэнтр. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на З. Вёска — радзіма бел. гісторыка, краязнаўца, педагога В.Ф.Капыціна (1942—2002).

**ТУГАЛЬДАВА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Бабpоўка (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Расна—Горкі. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1845 г. Тугальдава — вёска, 13 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе казённага маёнтка Раснянска-Карпецкае Чавускага павета Магілёўскай губ. У 1897 г. ў Раснянскай вол., 28 двароў, 183 жыхары. У

1909 г. 31 двор, 211 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Раснянскім с/с Раснянскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім, з 12.2.1935 г. і 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 41 двор, 190 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень Кастрычніка» (у 1932 — 11 гаспадарак). У 1940 г. вёска, 47 двароў, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 5 двароў, 3 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 30 жыхароў вёскі загінулі на фронце. У 1944 г. адноўлены даваенны калгас пад новай назвай «Чырвоны Кастрычнік». З 1949 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Араты» (цэнтр — в. Баброва), з 1959 г. ў калгасе імя Калініна, які 2.4.1962 г. перайменаваны ў калгас імя Кірава (цэнтр — в. Навасёлкі). У 1985 г. вёска, 28 гаспадарак, 46 жыхароў; у 1998 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары. З 29.11.2001 г. вёска ў складзе СВК «Калгас імя Кірава» (цэнтр в. Навасёлкі). У 2004 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. Прамалінейная вясковая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.



*М.Казакоў.*

**ХАЛІПЫ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 6 км на Пд ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф узгорысты. На Пд і Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Проня (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ляскоўка і далей па шашы Расна—Горкі. 62 гаспадаркі, 143 жыхары (2007).

У 1880 г. Халіпы — вёска ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 20 двароў, 77 жыхароў. Асобныя жыхары вёскі акрамя земляробства займаліся валяльным і сталярным промысламі. У 1897 г. ў вёсцы 13 двароў, 220 жыхароў; у 1909 г. 30 двароў, 262 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Карэбскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. вёска (14 двароў, 49 жыхароў) і аднайменныя хутары (52 двары, 304 жыхары). У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень» (у 1932 — 15 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Праўда» (уваходзілі 5 калгасаў), які ў 1962 г. быў перайменаваны ў калгас «Світанне» (цэнтр — в. Карэбы). У 1981—88 гг. вёска знаходзілася ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Старое Прыбужжа). У 1985 г. 76 гаспадарак, 186 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 80 гаспадарак, 192 жыхары. З 26.6.2003 г. вёска ў складзе СВК «Сонечны прамень» (цэнтр в. Карэбы), арганізаванага на базе былога калгаса. У 2004 г. 64 гаспадаркі, 168 жыхароў. Планіровачна вёска складаецца з зах. і ўсх. частак. Прамалінейная вуліца ўсх. часткі арыентавана з Пд на Пн. Зах. частка мае Г-падобную планіроўку. Яе асн. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе паўн. боку на З адыходзіць другая вуліца, на Пд ад якой ідзе трэцяя невялікая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма паэта, перакладчыка, журналіста М.А.Казакова (н. ў 1938).

**ХАСЕЎКА** — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 53 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Слабодка, Кароўчына, Барадзенкі і далей па шашы Горкі—Расна. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. ў выніку перасялення часткі жыхароў в. Слабодка (Кароўчын-

ская Слабодка) Кароўчынскага с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.07.1930). У 1926 г. в. Хасеўка, 45 двароў, 269 жыхароў. З 2.3.1931 г. вёска ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім р-нах, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. зноў у Дрыбінскім, з 16.9.1959 г. ў Горацкім р-не, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім с/с. У 1940 г. 50 двароў, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 11 двароў, 5 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 18 жыхароў загінулі на фронце. З 1960 г. вёска ў складзе саўгаса «Першамайскі», з 1.3.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. 51 гаспадарка, 97 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1998 г. 32 гаспадаркі, 52 жыхары. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 2004 г. 20 гаспадарак, 33 жыхары. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе паўн. боку перпендыкулярна адыходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЦЁМНЫ ЛЕС** — вёска і чыг. станцыя на лініі Орша—Крычаў, цэнтр Цемналескага с/с, за 10 км на ПдУ ад Дрыбіна, 76 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ляскоўка і далей па шашы Расна—Горкі. 196 гаспадарак, 479 жыхароў (2007).

У 1897 г. Цёмны Лес (яно ж К у л а к о в а) — урочышча ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 19 жыхароў. У 1909 г. паселак, 13 двароў, 70 жыхароў. У 1911 г. ў пасёлку пачалі працаваць лесапільны з-д і млын, з 1916 г. пачалося будаўніцтва чыгункі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім с/с, з 20.6.1966 г. цэнтр Цемналескага с/с. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадз. вайны было аднаўлена будаўніцтва чыгункі і засн. ст. Цёмны Лес (у 1924 — 39 жыхароў). У 1922—23 гг. праз чыг. ст. Цёмны Лес было адпраўлена 938 пудоў грузаў, на станцыю прыбыло 87 тыс. пудоў грузаў. У 1926 г. Цёмны Лес — вёска (31 двор, 169 жыхароў), чыг. станцыя (20 двароў, 59 жыхароў), і лесазавод (18 двароў, 46 жыхароў, не працаваў з кастр. 1923 да ліп. 1924 у сувязі з рамонтам). Каля вёскі праходзіла мяжа паміж Дрыбінскім і Раснянскім р-намі, Аршанскай і Калінінскай акругамі. Чыг. станцыя і завод былі ўключаны ў склад Раснянскага р-на. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі прызыў» (у 1932 — 16 гаспадарак). У 1940 г. да вёскі далучаны пас. Курган; агульная колькасць двароў склала 93, жыхароў — 368. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі 3 двары, загубілі 7 жыхароў, 6 чал. вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 245 жыхароў з 12 вёсак тэр. сельсавета (26 чал. з в. Цёмны Лес) загінулі на фронце. На ўшанаванне іх памяці ў 1968 г. на паўд.-зах. ускраіне в. Цёмны Лес устаноўлены абеліск. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Ленінскі прызыў» (увайшлі 4 калгасы), з 1956 г. ў калгасе «17-ы партз'езд», з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна», з 24.4.1965 г. — цэнтр саўгаса «Слава» (12 вёсак, 3,5 тыс. га зямлі). У 1967 г. да вёскі далучаны пасёлкі Гудок і Копцеўскі. У 1985 г. 235 гаспадарак, 536 жыхароў, свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы фермы, рамонтная майстэрня, б-ка, 8-гадовая школа, клуб, дзіцячы сад-яслі, сталовая, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны, лясніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1998 г. 227 гаспадарак, 571 жыхар. З 2001 г. вёска — цэнтр КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ў складзе КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле), працавалі магазін, аддз. сувязі, філіял АСБ «Беларус-

банк», клуб-бібліятэка, дзіцячы сад, базавая школа, лясніцтва, чыг. станцыя. На тэр. Цемналескага с/с знаходзілася 12 населеных пунктаў (2004). У 2004 г. 214 гаспадарак, 533 жыхары. У 207 г. баз. школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін.Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1981 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Чыгунка падзяляе вёску на паўн.-ўсх. і паўд.-зах. часткі. Паўн.-ўсх. частка складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Гал. вуліца паўд.-зах. часткі арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Ад яе на З адыходзяць другарадныя вуліцы. Сярод драўлянай жылой забудовы на гал. вуліцы размяшчаецца чыг. станцыя, мураваныя 2-павярховыя 4—8-кватэрныя жылыя дамы і мураваныя грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Астатняя забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на зах. ускраіне. На ПдЗ ад вёскі пачынаецца р. Вербаўка, якая цячэ па тэр. Горацкага, Дрыбінскага і Чавускага р-наў.

**ЦІНЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 41 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1604 г. сяло Цінькавічы, 16 двароў, у Даманаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. ўладанне. У 1635 г. сяло таго ж войтаўства і эканоміі, 13 валок зямлі, карчма. У 1742 г. вёска Магілёўскай эканоміі, 8 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1897 г. Цінькаўшчына — вёска ў Чэрнеўскай вол., 21 двор, 161 жыхар. У 1909 г. 30 двароў, 180 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Жданавіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 5.9.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. зноў у Дрыбінскім р-нах; з 26.6.1954 г. ў Еганаўскім с/с, з 16.9.1959 г. да 29.12.1989 г. ў Шклоўскім р-не, з 11.3.1960 г. ў Чэрнеўскім с/с. У 1926 г. 31 двор, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1980-я г. знаходзілася на тэр. калгаса «Даманы» (да 12.2.1996 саўгас, цэнтр — в. Пудаўня). У 1985 г. 30 гаспадарак, 50 жыхароў; у 1998 г. 17 гаспадарак, 30 жыхароў. З 15.5.2003 г. вёска ў СВК «Калгас «Даманы» (цэнтр — в. Пудаўня). У 2004 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧАРНАРЭЧКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 12 км на Пд ад Дрыбіна, 72 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. На Пд пачынаецца р. Чарнарэчка (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па шашы Расна—Горкі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1785 г. вёска Чавускага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 101 жыхар, уладанне графа А.М.Пацея. У 1880 г. ў Раснянскай вол., 9 двароў, 104 жыхары. Асобныя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся кушнерскім промыслам. У 1897 г. вёска, 25 двароў, 147 жыхароў; у 1909 г. 27 двароў, 185 жыхароў. З 1913 г. працавала земская школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Затонскім, з 21.8.1925 г. ў Робцаўскім сельсаветах Раснянскага р-на Калінінскай акругі, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. З 25.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Раснянскім с/с, з 14.10.1959 г. ў Горацкім р-не. У 1926 г. 28 двароў, 158 жыхароў, прац. школа 1-й ступені (у 1925 — 51 вучань). У 1929 г. арганізавана каап. перасяленчае т-ва. У

1940 г. вёска, 25 двароў, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 24 гаспадаркі, 2 жыхары былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 1985 г. 16 гаспадарак, 27 жыхароў; у 1998 г. 8 гаспадарак, 20 жыхароў. З 20.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле). У 2004 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з Пд на Пн пад вуглом да шашы. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма акадэміка АН Беларусі, засл. дзеяча навукі і тэхнікі Я.Р.Канавалава (1914—74).

**ЧЭРНЕЎКА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 21 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 48 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць праз вёску. 129 гаспадарак, 274 жыхары (2007).

Помнік археалогіі — курганны могільнік, за 1 км на Пн ад вёскі на левым беразе р. Бася, каля дарогі на в. Праабражэнск, сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Згодна з пісьмовымі крыніцамі ў 1636 г. ў складзе Бардзілаўскага войтаўства Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ існавалі: с. Чарнаўцы (30 валок зямлі) і с. Чарна (22 валокі зямлі). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.). У 1777 г. мястэчка і в. Чарніца (яна ж Чарняўка). У 1785 г. мястэчка (32 двары, 165 жыхароў, царква) і маёнтак Чавускага павета, уладанне графа Зорыча. Пазней маёнтак належаў Альшэўскім, з 1839 г. Вайзбунам, да якіх перайшоў з пасагам сястры Альшэўскага. У 1841—44 гг. маёнтак знахо- дзіўся ў арэндзе ў памешчыцы Кубліцкай. У 1848 г. мястэчка, 42 двары, 164 жыхары (1846). У 1870 г. маёнтак разам з вадзяным млыном, піваварняй (1013 дзес. зямлі ў 1882 атрымалі ў спадчыну 3 браты Мацкевічы). У 1885 г. Чэрнеўка — сяло, цэнтр Чэрнеўскай вол., 24 двары, 195 жыхароў, меліся царква, школа, 2 яўр. малітоўныя дамы, 6 лавак. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся аднайменныя сяло (37 двароў, 243 жыхары), мястэчка (51 двор, 444 жыхары) і маёнтак (16 жыхароў, уладанне Л.Ф.Мацкевіча). На тэр. сяла размяшчаліся вал. праўленне, нар. вучылішча (з 1874), прытулак для бедных, цэнтр. хлебазапасны магазін. У мястэчку знаходзіліся мураваная царква, 2 яўр. малітоўныя дамы, 14 лавак, крупадзёрка, піцейны дом. Царк. прычт налічваў 14 жыхароў. У 1909 г. ў мястэчку 380 жыхароў, 68 дамоў, царква, сінагога, прыёмны пакой, казённая вінная лаўка, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча; у сяле 44 двары, 288 жыхароў; у маёнтку 4 жыхары, 1023 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. Чэрнеўка — цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 25.7.1931 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. зноў у Дрыбінскім р-нах. У 1920 г. на базе былога маёнтка арганізавана камуна «Перамога» (у 1925 — 7 гаспадарак, 29 жыхароў). У 1922 г. створана с.-г. т-ва «Чэрнеўка» (у 1925 — 120 чал.). У 1923 г. адк-



*Я.Р.Канавалаў.*



*Дрыбінскі краявід каля в. Чэрнеўка.*

рыліся б-ка і хата-чытальня. У 1926 г. мястэчка налічвала 110 двароў, 473 жыхары, сяло — 55 двароў, 300 жыхароў. Працавалі хата-чытальня, б-ка, кузня, 3 млыны, аддз. сувязі, 7-гадовая школа (размяшчалася на тэр. хутара Чэрнеўка, 7 двароў, 159 жыхароў). У 1932 г. адкрыты дзіцячыя яслі. Дзейнічалі 2 калгасы: «Ленінскі шлях» (у 1932 — 52 гаспадаркі) і імя Чапаева (у 1932 — 30 гаспадарак, кузня). У 1940 г. пачала працаваць Чэрнеўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. Чэрнеўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях з гітлераўцамі за вызваленне вёскі і навакольных населеных пунктаў загінуў 571 воін Чырвонай Арміі. Яны пахаваны ў брацкай магіле каля будынка аддз. сувязі (сярод іх Герой Сав. Саюза І.С.Яшкоў). У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск. На паўд. ускраіне вёскі пахаваны жыхары, якія былі расстраляны ням. карнікамі 6—26.10.1941 г. (у 1960 на магіле пастаўлены абеліск). З 16.9. 1959 г. да 29.12.1989 г. вёска ў складзе Шклоўскага р-на. З'яўлялася цэнтрам Чэрнеўскага с/с (24 вёскі) і саўгаса «Прагрэс», з 17.2.1992 г. аднайменага калгаса (уключаў 13 вёсак, 5,8 тыс. га зямлі). У 1985 г. ў вёсцы 128 гаспадарак, 430 жыхароў, дзейнічалі жывёлагадоўчая ферма, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, сепаратарны пункт, зернедрабільня, лесапільня, ветэрынарны участак, устаноўка па прыгатаванню вітамінай мукі, хлебапякарня, механічная і швейная майстэрні, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 4 магазіны, сталовая, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня. У 1998 г. 187 гаспадарак, 444 жыхары. З снеж. 1996 г. вёска — цэнтр калгаса «Беларусь», з 2003 г. — СВК «Чэрнеўскі» (пл. 5158 га), працавалі б-ка, сельскі Дом культуры, школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, філіял АСБ «Беларусбанк». У 2004 г. 154 гаспадаркі, 354 жыхары. У 2007 г. баз. школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1979 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных (адна працяглая, другая кароткая) вуліц з завулкамі, арыентаваных амаль мерыдыянальна, уздоўж ракі, і злучаных у цэнтры шашой. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн грамадскі цэнтр, дзе ўзведзены грамадскія будынкі і 2—3-павярховыя мураваныя жылыя дамы. Гасп. сектар — на Пн і ПдУ.

*Троіцкая царква ў в. Чэрнеўка. 19 ст.*



**ШАБЛАВЫ** — вёска ў Цемналескім с/с, за 9 км на ПдУ ад Дрыбіна, 84 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускране цячэ р. Вербаўка (прыток р. Проня), на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Немерка і далей па шашы Расна—Горкі. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска Вярба-Шаблавы (12 двароў, 88 жыхароў) у Дрыбінскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Побач знаходзіўся хутар Вярба (ён жа Шаблавы), 5 двароў, 31 жыхар. У 1909 г. хутар Шаблавы, 4 двары, 35 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 4.5.1922 г. ў Горацкім павеце, з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Пакуццянскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з

29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Раснянскім, з 20.6.1966 г. у Цемналескім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 36 двароў, 186 жыхароў, працавала 4-гадовая школа (у 1925 — 48 вучняў). У 1931 г. створаны калгас «Перамога» (у 1932 — 31 гаспадарка, 214 га ворыва). У 1940 г. вёска, 34 двары, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі 3 двары, 3 жыхары былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Авангард» (аб'яднаў 4 калгасы), з 25.4.1957 г. ў саўгасе «Запаветы Леніна», з 24.3.1965 г. ў саўгасе «Слава» (цэнтр — в. Цёмны Лес). У 1985 г. ў вёсцы 24 гаспадаркі, 41 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1998 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар. З 2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Слава», з 2002 г. ў КСУП «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Заполле), працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У 2004 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн уздоўж ракі. Забудова двухбаковая няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ШАСТАКІ** — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 51 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кароўчына, Барадзенкі, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 29 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Помнік археалогіі — стаянка каменнага веку, якая знаходзіцца за 2 км на ПдЗ ад вёскі, за 0,5 км на ПдУ ад вусця безыменнага ручая (левага прытока р.બася), сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Згодна з пісьмовымі крыніцамі ў 1604 г. Шастакі — сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1636 г. сяло таго ж войтаўства і эканоміі, 15 валок зямлі. У 1742 г. вёска Магілёўскай эканоміі, 20 валок зямлі, 41 дым, млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 56 двароў, 417 жыхароў, уладанне В.Я.Чычагава. У 1897 г. вёска ў Чэрнеўскай вол., 79 двароў, 564 жыхары, меліся школа граматы, ветраны млын, капліца. У 1909 г. 87 двароў, 666 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. да 30.6.1923 г. ў Нічыпаравіцкай вол. З 20.8.1924 г. ў Кароўчынскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. зноў у Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім с/с. У 1926 г. хутары, 94 двары, 558 жыхароў, працавала хата-чытальня (з 1924). У 1940 г. вёска, 102 двары, 511 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўцы спалілі 8 двароў, загубілі 6 жыхароў, 19 чал. вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 47 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1960 г. вёска ў складзе саўгаса «Першамайскі», з 1.3.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. 100 гаспадарак, 176 жыхароў, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, б-ка, магазін. У 1998 г. 58 гаспадарак, 89 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына), працаваў магазін. У 2004 г. 34 гаспадаркі, 46 жыхароў. Аснову планіроўкі вёскі складаюць 3 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Паміж імі — папярочныя вуліцы. На цэнтр. вуліцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца драўляныя грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне вытв. сектар. Вёска — радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.Ф.Сафонава (1925—96).



*М.Ф.Сафонаў.*

**ШАТНЕВА** — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 17 км на З ад Дрыбіна, 62 км ад

Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Касінка (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Барадзенкі, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 1623 г. Шатнеўшчына — сяло маёнтка Вуглы Аршанскага павета ВКЛ, прыватнае ўладанне. У 1639 г. сяло і маёнтак таго ж павета, шляхецкае ўладанне. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 11 двароў, 65 жыхароў, уладанне Мянжынскіх. У 1855 г. Шатнева — маёнтак і вёска. У 1862 г. вёска маёнтка Вуглы, уладанне Мянжынскіх, 28 рэвізскіх душ. Адпаведна Устаўной грамаце, для размежавання цераспалосіцы памешчыцкай і сял. зямель паводле распараджэння міравога сходу частку жыхароў вёскі планавалася перасяліць у вёскі Палуі і Чартаўшчына (цяпер Сонечная). У 1897 г. 11 двароў, 91 жыхар; у Чэрнеўскай вол. У 1909 г. 13 двароў, 113 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. да 30.6.1923 г. ў Нічыпаравіцкай вол. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Кароўчынскім, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім сельсаветах. У 1926 г. 25 двароў, 126 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У 1940 г. вёска, 25 двароў, 100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 23.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі 1 вясковец быў вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 6 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Ударнік», з 1960 г. ў саўгасе «Першамайскі», з 1.3.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў; у 1998 г. 12 гаспадарак, 14 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 2004 г. 7 двароў, 9 жыхароў. Крывалінейная вясковая вуліца арыентавана з Пд на Пн уздоўж ракі. Забудова аднабаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ШЧОКАТАВА** (да 17.7.1967 вёскі Вял. Шчокатава і Малое Шчокатава) — вёска ў Першамайскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 54 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Прадзерка (прыток р. Шыпаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Трылесіна, Барадзенкі, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 61 гаспадарка, 96 жыхароў (2007).

У 1785 г. Шчокатава — вёска, 36 двароў, 264 жыхары, прыватнае ўладанне ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. Размяшчалася па берагах ракі, працаваў млын. У 1849 г. ў складзе казённага Мсціслаўскага маёнтка існавалі фальварак Шчокатава і 2 вёскі: Вял. Шчокатава (34 двары, 233 жыхары, карчма, млын і сажалка) і Малое Шчокатава (5 двароў, 46 жыхароў, млын і сажалка). У фальварку меўся свіран, якім карысталіся жыхары вёсак. З 1879 г. маёнтак Шчокатава (134 дзес. зямлі) знаходзіўся ва ўладанні Ф.Бушынскага. У 1897 г. вёскі Вял. Шчокатава (62 двары, 459 жыхароў, хлебазапасны магазін) і Малое Шчокатава (12 двароў, 84 жыхары) у Радамльскай вол. У 1909 г. ў вёсках адпаведна 74 двары, 445 жыхароў і 15 двароў, 86 жыхароў; працавала школа. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 4.5.1922 г. ў Магілёўскім павеце, з 9.5.1923 г. ў Сухараўскай вол. З 20.8.1924 г. ў Суслаўскім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 14.10.1959 г. ў Першамайскім с/с Горацкага р-на. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. налічвалася 114 вучняў; у 1927 г. школа абслугоўвала 7 населеных пунктаў. У 1926 г.

на месцы сучаснай вёскі існавалі 8 населеных пунктаў: в. Вял. Шчокатава, 65 двароў, 358 жыхароў; аднайменныя хутары — № 1 (3 двары, 10 жыхароў), № 2 (4 двары, 26 жыхароў); пасёлкі — № 1 (9 двароў, 98 жыхароў), № 2 (5 двароў, 27 жыхароў), № 3 (15 двароў, 80 жыхароў), № 4 (28 двароў, 159 жыхароў) і в. Малое Шчокатава, 30 двароў, 152 жыхары. У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік». У 1940 г. 146 двароў, 625 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. Шчокатава акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 61 гаспадарку, загубілі 3 жыхароў, 25 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 64 жыхары загінулі на фронце. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на ўскраіне лесу пахаваны 50 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі і наваколля. З 19.4.1957 г. вёска ў саўгасе «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна). У 1985 г. 137 гаспадарак, 285 жыхароў, дзейнічалі жывёлагадоўчы комплекс, Дом жывёлавода, пач. школа, клуб, магазін, б-ка. У 1998 г. 83 гаспадаркі, 137 жыхароў. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Першамайскі» (цэнтр — в. Трылесіна), працаваў магазін. У 2004 г. 67 гаспадарак, 112 жыхароў. Гал. вуліца ламанага абрысу арыентавана з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. Кароткая вуліца праходзіць амаль паралельна ўздоўж процілеглага берага ракі. Іх перакрыжоўваюць папярочныя вуліцы. На ПдУ па абодва берагі ракі размешчана адасобленая частка забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены пераважна двухбакова, шчыльна. Вытв. сектар на ПнУ. У вёсцы нарадзіўся засл. работнік сельскай гаспадаркі Беларусі В.А.Папкоў (1935—99).

**ЮРАЎКА** — вёска ў Кароўчынскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 53 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Касінка (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Барадзенкі, г.п. Дрыбін і далей па шашы Расна—Горкі. 25 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

Узнікла ў 1920-я г. У 1925 г. Юраўка — хутары, у 1926 г. пасёлак, 13 двароў, 52 жыхары, на тэр. Бельскага с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 14.10.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 26.6.1954 г. ў Кароўчынскім, з 24.6.1960 г. да 20.6.1966 г. ў Першамайскім сельсаветах. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прагрэс». Пазней (1933) былі створаны калгасы «Ударнік» і «Чырвонае Узмошша». У 1940 г. Юраўка налічвала 44 двары, 176 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады акупацыі 15 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 12 жыхароў загінулі на фронце. З 1950 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Ударнік», з 1956 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік», з 19.4.1957 г. ў саўгасе «Першамайскі», з 1.3.1961 г. ў саўгасе «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына). У 1985 г. 43 гаспадаркі, 89 жыхароў, працавалі жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1998 г. 37 гаспадарак, 83 жыхары. З 30.5.2001 г. вёска ў складзе КСУП «Саўгас «Кароўчына» (цэнтр — в. Кароўчына), працаваў магазін. У 2004 г. 30 гаспадарак, 63 жыхары. Вуліца плаўнага абрысу арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЯЗЫЧКАВА** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 80 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Галыша (прыток р. Проня). На ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Галышына, Сахараўка і далей па шашы Горкі—Слабодка і Кіеў—Пецярбург. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1683 г. Язычкава — сяло Горы-Горацкага маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ, 10 валок зямлі, 16 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ.

(з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска, 11 двароў, 73 жыхары, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1847 г. — 9 двароў, 70 жыхароў; у 1880 г. 18 двароў, 91 жыхар. Асобныя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся рамізніцкім промыслам. У 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 19 двароў, 133 жыхары. У 1909 г. 139 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. вёска (13 двароў, 71 жыхар) і хутары (14 двароў, 95 жыхароў). У 1930 г. створаны калгас «Майская раніца» (у 1932 — 13 гаспадарак). У 1940 г. ў вёсцы 28 двароў, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 11 двароў, загубілі 4 жыхары, 4 чал. былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1950 г. знаходзілася ў складзе ўзбуйненага калгаса «Полымя» (аб'ядноўваў 4 калгасы), з 1960 г. ў саўгасе «Дрыбінскі», з 1990 г. ў калгасе «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 1985 г. вёска, 21 гаспадарка, 40 жыхароў; у 1998 г. 16 гаспадарак, 21 жыхар. З 2002 г. ў СВК «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 2004 г. 5 гаспадарак, 13 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн, уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.



*І.С.Серакоў.*

Вёска — радзіма бел. вучонага ў галіне ветэрынарыі І.С.Серакова (н. ў 1946).

**ЯРЫГІ** — вёска ў Міхееўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Дрыбіна, 75 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня, на зах. ускраіне — яе прыток р. Галыша. На ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Старакожаўка, г.п. Дрыбін і далей па шашы Горкі—Расна. 15 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

У 1622 г. Ярыгі — сяло Горы-Горацкага маёнтка, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1683 г. сяло, 10 валок зямлі, 17 дымоў. У 1750 г. вёска таго ж маёнтка, 17 двароў, 86 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскай губ. (з 1778 Магілёўскае намесніцтва, у 1796—1802 у Бел. губ.), з 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1785 г. вёска Горы-Горацкага маёнтка, 22 двары, 174 жыхары, уладанне Н.Л.Салагуб. У 1880 г. 39 двароў, 230 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Гарадзецкай вол., 42 двары, 342 жыхары, 2 ветраныя млыны. Асобныя вяскоўцы акрамя земляробства займаліся рамізніцкім промыслам. У 1909 г. 47 двароў, 335 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ., з 27.7.1922 г. ў Смаленскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Дрыбінскага р-на Аршанскай акругі БССР (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. і з 16.9.1959 г. ў Горацкім, з 12.2.1935 г. і з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 24.6.1960 г. ў Дрыбінскім, з 15.11.1995 г. ў Міхееўскім сельсаветах. У 1926 г. хутары, 71 двор, 397 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ударнік» (у 1932 — 19 гаспадарак). У 1940 г. ў вёсцы 71 двор, 321 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас акупацыі гітлераўскія карнікі спалілі 57 двароў, загубілі 17 жыхароў, 14 чал. былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1960 г. ў складзе саўгаса «Дрыбінскі», з 1990 г. ў калгасе «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 1985 г. 32 гаспадаркі, 54 жыхары, жывёлагадоўчая ферма. У 1998 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў. З 2002 г. ў СВК «Мір» (цэнтр — в. Міхееўка). У 2004 г. 15 гаспадарак, 37 жыхароў. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Паміж імі — папярочныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЯСЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Чэрнеўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Дрыбіна, 43 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Масток—Дрыбін, якая праходзіць непадалеку ад вёскі. 31 гаспадарка, 36 жыхароў (2007).

У 1867 г. Яськаўшчына — вёска аднайменнага маёнтка, уладанне нашчадкаў І.Д.Мянжынскага, у Чэрнеўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Адпаведна Устаўной грамаце, 56 вяскоўцаў мужчынскага полу атрымалі ў сваё карыстанне звыш 352 дзес. зямлі. Выкупная сума за зямлю склала 5506 руб. 66 кап. У 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 294 жыхары, школа граматы (у 1907 — 48 вучняў-хлопчыкаў). У 1909 г. 47 двароў, 346 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Жданавіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 2.3.1931 г. і з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім, з 8.7.1931 г. ў Чавускім, з 5.9.1931 г. ў Горацкім р-нах. У 1926 г. вёска, 75 двароў, 405 жыхароў, дзейнічалі прац. школа 1-й ступені (створана на базе дарэв., у 1925 — 86 вучняў), гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Молатава (у 1932 — 13 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Еганаўскім с/с, з 16.9.1959 г. ў Шклоўскім р-не, з 11.3.1960 г. ў Чэрнеўскім с/с, з 29.12.1989 г. ў Дрыбінскім р-не. У 1985 г. ў вёсцы 64 гаспадаркі, 126 жыхароў, жывелагадоўчая ферма, магазін, грамадская лазня. З 20.12.1990 г. вёска знаходзілася на тэр. міжгасп. кармавога прадпрыемства «Высокаборскае», з 5.5.1998 г. ў саўгасе «Высокаборскі», з 2001 г. ў складзе КСУП «Саўгас «Высокаборскі» (цэнтр — в. Жданавічы). У 1998 г. 48 гаспадарак, 68 жыхароў. У 2004 г. 40 гаспадарак, 44 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза І.А.Лапянкова (1912—72).



*І.А.Лапянкоў.*

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 1379—1381, 2095, 2213, 2466, 2508, 2530, 2585, 2883; ф. 30, воп. 1, спр. 71, 375, 876, 878, 1682, 2143; воп. 2, спр. 1474, 1497, 1498, 1519, 1655, 5369, 5373, 5896, 6009, 6013, 6014, 6016, 6025, 6033, 6036, 6125, 5140, 6149; ф. 31, воп. 1, спр. 23/6, 23/10, 23/12, 23/13, 23/19, 23/21, 861; ф. 42, воп. 1, спр. 936, 1064, 1756, 1780; воп. 2, спр. 1156, 1546, 4151, 4636, 4667, 4672—4674, 5377; ф. 48, воп. 1, спр. 2105, 2881, 3838, 3918, 5137; ф. 334, воп. 1, спр. 440, 470; ф. 338, воп. 1, спр. 3223.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 318, воп. 1, спр. 940; ф. 1297, воп. 1, спр. 14 274, 18 718, 21 390, 25 219; ф. 1729, воп. 1, спр. 78; ф. 1781, воп. 236, спр. 1435; ф. 1928, воп. 1, спр. 66—71; ф. 2001, воп. 1, спр. 17, 59, 315; ф. 2014, воп. 1, спр. 843, 2917; ф. 2151, воп. 1, спр. 88; ф. 2189, воп. 1, спр. 287, 288, 291, 293—295, 299, 303, 304; ф. 2221, воп. 1, спр. 55—57, 60, 63, 67, 92; ф. 2254, воп. 1, спр. 75, 243; ф. 3314, воп. 1, спр. 263; КМФ-5, воп. 1, спр. 467а, 2503—2505.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 540, воп. 1, 4, 6; ф. 574, воп. 1, спр. 1; ф. 1582, 1668, 2431, 2432, 2460, 2541, 2546, 2592, 2618, 2619, 2622, 2954.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 65, 73, 4670; ф. 1355, воп. 1, спр. 716, 721, 722, 724, 732—734.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 577, воп. 19, спр. 1489, 1529; ф. 822, воп. 11, спр. 873а, 979а; воп. 12, спр. 2589; ф. 1290, воп. 11, спр. 1375; ф. 1350, воп. 312, спр. 94, 95; ф. 3896, воп. 1, спр. 50,65.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 3236, 3806; ф. 1135, воп. 4, спр. 509; ф. 1276, воп. 1, спр. 564.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта, ф. 4, спр. А-1951, 4914.
Бібліятэка Чартарыйскіх у Кракаве, РА, спр. 860, IV, спр. 4506, IV.
Список церковно-приходских школ и школ грамоты в Могилевской епархии. СПб., [Б.г.].
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8. Ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.
Приложения к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. Минская губерния. СПб., 1860.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 г. Могилев, 1861.
Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—3. Могилев, 1882—84.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учебный год. Могилев, 1889.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14. СПб., 1889.
Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской... Вып. 28. Витебск, 1900.
Обзор Могилевской губернии за 1901 г. Могилев, 1902.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции на 1905/06 учебный год. Могилев, 1905.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции на 1907/08 учебный год. Могилев, 1908.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1909.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 г. Могилев, 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1914 г. Могилев, 1914.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1915 г. Могилев, 1915.
Календарь-справочник Могилевского земства на 1917 г. Могилев, 1916.
Всероссийская сельскохозяйственная перепись 1916 г.: Могилевская губерния. Могилев, 1916.
БССР: эканоміка-стат. давед. Мн., 1931.
Майзель Л.Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: хроніка падзей. Мн., 1934.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Сообщения Советского Информ. бюро. Т. 5. М., 1944.
Савецкая вёска. 1946—50 гг.
Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 3—4. Мн., 1961—79.
Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969.
Чепко В.В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Мн., 1972.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Мн., 1978.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Мн., 1985—87.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.
Acta Bałtico-Slavica. 1970. № 7.
Loza St. Architekci i budowniczowie w Polsce. Warszawa, 1954.
Topolska M.B. Dobra Szkłowskie na Białorusi Wschodniej w. XVII i XVIII w. Warszawa, 1969.



# КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁН

Размешчаны на У Магілёўскай вобл. Пл. 1,5 тыс. км². Насельніцтва 27,6 тыс. чал. (2007); гарадскога 43 %. Сярэдняя шчыльнасць 18 чал. на 1 км². Асн. насельніцтва — беларусы (89,4%). Цэнтр — г. Касцюковічы. У раёне 123 сельскія населеныя пункты, 7 сельсаветаў: Бароньскаўскі, Беладубраўскі, Бялынкавіцкі, Дзямідавіцкі, Забычанскі, Пралетарскі, Сялецкі. Па тэрыторыі раёна праходзяць чыгунка Орша—Унеча, аўтадарогі на Клімавічы, Хоцімск, Чэрыкаў, Сураж; адгалінаванне нафтаправода «Дружба» Унеча—Полацк. Раён пацярпеў ад катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, адселены 40 населеных пунктаў, у т.л. вёскі Азярэц, Астравок, Блудземля, Вараноўка, Віроўка,





*Лясны масіў Баравец у Касцюковіцкім раёне.*

*Сядзіба Касцюковіцкага доследнага лясгаса.*





*На пашы ў Касцюковіцкім раёне.*

*Рака Беседзь у Касцюковіцкім раёне.*





*Будынак цэнтральнай раённай бальніцы г. Касцюковічы.*

*Будынак Касцюковіцкага краязнаўчага музея.*

*Народны духавы аркестр Касцюковіцкага раённага цэнтра культуры.*

*У час святкавання 64-й гадавіны вызвалення Касцюковіцкага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у г. Касцюковічы.*

Восаў, Вялікі Бор, Гутка, Дубраўка, Дубяец, Зарэчча, Калодзецкая, Клеявічы 2, Краснамаскоўскі, Малы Хоцімск, Мамонаўка, Мокрае, Мялоўка, Паламка, Скалін, Стараселле, Тарасаўка, Хамінкі, Чырвоны Вугал, Чытавыя, пасёлкі Гар, Ленінскі.





Утвораны 17.7.1924 г. ў Калінінскай акрузе, 9.6.1927—26.7.1930 г. ў Магілёўскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 20.8.1924 г. падзелены на 16 сельсаветаў: Беладубраўскі, Брацькавіцкі, Вётухнаўскі, Дзямідавіцкі (у 1931 г. перайменаваны ў Тупічынскі), Забычанскі, Касцюковіцкі (скасаваны ў 1926 г.), Красніцкі (у 1931 г. перайменаваны ў Дзяржненскі), Негінскі, Нізькаўскі, Прусінскі, Пячарскі, Саматэвіцкі, Сілічоўскі, Студзянецкі, Хоцімскі, Царковішчанскі (у 1936 г. перайменаваны ў Пралетарскі). 4.8.1927 г. да Касцюковіцкага р-на далучаны Баронькаўскі, Батаеўскі, Бялынкавіцкі, Велікаборскі, Гаўрыленскі, Каніцкі, Машаўскі, Мокраўскі, Смолькаўскі, Сялецкі сельсаветы скасаванага Бялынкавіцкага р-на, 8.7.1931 г. — 11 сельсаветаў скасаванага Хоцімскага р-на, якія (у тым ліку Батаеўскі с/с) 12.2.1935 г. перададзены ў адноўлены Хоцімскі р-н. На 1.1.1941 г. ў раёне г. Касцюковічы, 24 сельсаветы; працавалі пеньказавод, маслазавод, цагельны з-д. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут 846 чал., спалілі горад, вёскі Баравая, Зацішша, Панькаўская Буда, Саматэвічы (часткова). У раёне дзейнічалі партыз. брыгады 13-я Касцюковіцкая, 5-я Клятнянская, «Уперад»; асобныя партыз. атрады 44-ы, 124-ы Касцюковіцкі, 2-і Хоцімскі, «Валянціна Маёрава»; падп. Касцюковіцкія райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, выдавалася падп. газ. «Сталинский призыв». Вызвалены ў канцы вер. 1943 г. воінамі 3-й арміі Бранскага фронту ў ходзе Бранскай





*Касцюковіцкі краязнаўчы музей. Фрагменты экспазіцыі.*

аперацыі. 17.4.1962—30.7.1966 гг. ў склад Касцюковіцкага р-на ўваходзілі г.п. Хоцімск і 6 сельсаветаў (Батаеўскі, Баханскі, Бярозкаўскі, Бяседавіцкі, Велікаліпаўскі, Чарняўскі) скасаванага Хоцімскага р-на (30.7.1966 г. адноўлены, сельсаветы і г.п. Хоцімск вернуты ў яго склад).

Тэрыторыя Касцюковіцкага р-на размешчана на ПдУ Аршанска-Магілёўскай раўніны. Паверхня хвалістая. Пераважаюць вышыні 160—180 м, вышэйшая кропка 190,6 м (на Пн ад в. Пралетарскае). Карысныя выкапні: цэментная сыравіна (мел і мергель), цагляная сыравіна, будаўнічыя пяскі, гравій, торф. Рака Беседзь з прытокамі Крупня, Сураў, Жадунька, Дзяражня, Зубар; воз. Святое. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярновыя і дзярнова-карбанатныя забалочаныя, тарфяна-балотныя і інш. Пад лясамі (сасновыя, бярозавыя, яловыя, дубовыя) 43% тэр. раёна, пад балотамі — 1%.

С.-г. ўгоддзі займаюць 45% тэр. раёна. Развіта мясамалочная жывёлагадоўля (СВК «Дуброва», «Прагрэс», «Сялецкі»). Пасевы зернавых і кармавых культур, бульбы. Прадпрыемствы харч., лёгкай, будматэрыялаў (цэмент) прам-сці. У раёне (на 1.1.2006 г.) 15 сярэдніх, 1 пач. школа, 5 комплексаў дзіцячы сад-школа, школа-інтэрнат для дзяцей-сірот, школа мастацтваў з філіяламі ў аграгарадках Новыя Саматэвічы і Муравілле, дзіцячая школа мастацкіх рамёстваў з філіяламі ў аграгарадках Новыя Саматэвічы і Тупічын, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, 15 дашкольных устаноў, цэнтры пазашкольнай работы, сацыяльна-пед. з прытулкам карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, дзіцячага турызму і экскурсій. Працуюць 23 клубныя ўстановы, Касцюковіцкі краязнаўчы музей, літ. музей А.А.Куляшова (пас. Новыя Саматэвічы), 12 кінаўстановак, 16 б-к. Ёсць 3



*Будынак Касцюковіцкага раённага выканаўчага камітэта.*



*Будынак камбіната бытавога абслугоўвання ў г. Касцюковічы.*





Фрагменты гістарычнай забудовы горада.



В.В.Гутнік.

бальніцы на 205 ложкаў, 2 паліклінікі, 8 амбулаторый, 12 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца газ. «Голас Касцюкоўшчыны». Зона адпачынку мясц. значэння Трасцянка. У раёне 9 рэліг. абшчын, у т.л. 3 праваслаўныя. Археал. помнікі: селішча (былая в. Гайкоўка), курганны могільнік (былая в. Калодзецкая) і інш. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан (г. Касцюковічы, вёскі Барэйкі, Бялынкавічы, Валаскоўня, Студзянец), магілы ахвяр фашызму (Касцюковічы, вёскі Баравая, Мартынаўка, Саматэвічы, чыг. ст. Камунары), помнікі ў гонар сав. воінаў і партызан Вял. Айч. вайны ў Касцюковічах, каля чыг. ст. Бялынкавічы, былой в. Восаў і інш. Захаваліся помнікі архітэктуры: Свята-Троіцкая царква (1842) у в. Саматэвічы, царква ў в. Забычанне (1897), Свята-Пакроўская царква ў в. Гаўрыленка (2-я пал. 19 ст.), царква (2-я пал. 19 ст.), касцёл (19—20 ст.) і бровар (1914) у в. Канічы.

У раёне нарадзіліся Героі Сав. Саюза Ф.М.Аўхачоў, А.Н.Варанцоў, М.І.Зіньковіч, У.А.Скугар, М.П.Судзілоўскі, кавалеры ордэна Славы 3 ступеней В.В. Гутнік, І.Р.Зайцаў, Героі Сац. Працы Л.І.Барыскін, П.П.Кандрашоў, М.Я.Мялешчанка, дзеяч рэв. руху, публіцыст і педагог П.М.Лепяшынскі, нар. паэт Беларусі А.А.Куляшоў, жывапісец А.С.Бархаткоў, пісьменнік В.Ф.Хомчанка, нар. пісьменнік Беларусі І.Г.Чыгрынаў, паэты А.С.Русецкі, А.Пісьмянкоў.

**КАСЦЮКОВІЧЫ** — горад, адм. цэнтр раёна і гар. Савета, чыг. ст. Камунары на лініі Магілёў—Унеча, за 160 км на ПдУ ад Магілёва, на р. Жадунька (прыток р. Беседзь), вузел аўтадарог на Клімавічы, Краснаполле, Сураж, Хоцімск. 15,6 тыс. чалавек (2007).

За 2,5 км на Пд ад горада, на левым беразе р. Жадунька, знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай стара-

Народны ансамбль «Калініна».



Будынак Касцюковіцкай раённай дзяржаўнай гімназіі.







*Будынак раённага аддзялення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ў г. Касцюковічы.*

*Будынак вакзала на чыгуначнай станцыі Камунары ў г. Касцюковічы.*

жытнасці. Касцюковічы вядомы з 16 ст. ў ВКЛ як уладанне казны, у Крычаўскім старостве ВКЛ. У сярэдзіне 18 ст. жыхары ўдзельнічалі ў паўстанні пад кіраўніцтвам В.М.Вашчылы. У 1768 г. побач быў аднайменны маёнтак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, прыватнаўладальніцкае мяст. Старыя Касцюковічы, цэнтр Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Беларускай, з 1796 г. Магілёўскай губерняў. У 1784 г. дзейнічаў францысканскі касцёл. У 1800 г. 88 двароў, 412 жыхароў. У 1826 г. пав. вучылішча замест Клімавіч, як намячалася першапачаткова, было адкрыта ў Касцюковічах (у 1865 г. 62 вучні). У 1827 г. 1845 жыхароў. Да мястэчка былі прыпісаны 3 вёскі з 2475 дзес. зямлі. Славілася конскімі кірмашамі (2 разы на год). Меліся 14 крам. У 1858 г. 224 двары, 1036 жыхароў, у 1861 г. 1661 жыхар, 9 гарбарань (адкрыты ў 1860—80 гг.). З 1865 г. працавала пенькатрапальня, затым яшчэ 3 такія прадпрыемствы, з 1875 г. — сукнавальня, з 1880 г. — 2 маслабойні, у 1876—81 гг. — 3 крупадзёркі. Памешчыку ў 1855 г. ў вёсках Касцюковічы, Канічы, Вішанькі, Малінаўка, Дзямідаўка належалі 6027 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 2 сукнавальні, піцейны дом, 2 карчмы, 94 крамы, вінакурня. У 1880 г. 327 двароў, 2148 жыхароў, 7 скураапрацоўчых майстэрань, прыёмны пакой, паштовая станцыя, школа, аптэка, мураваная царква, драўляная сінагога, 3 малітоўныя школы, штогод (9 мая, 6 снеж.) праводзіліся кірмашы. Частка жыхароў займалася адыходным, кавальскім, ганчарным, кравецкім і шавецкім промысламі. У 1894 г. адкрыта царк.-прыходская школа ў в. Слабада (цяпер у складзе горада). У 1902 г. пабудавана бальніца. Паводле перапісу 1897 г. 411 двароў, 3240 жыхароў, 2 пенькатрапальныя, 6 скураапрацоўчых, 5 маслабойных, 2 абараначныя прадпрыемствы, вадзяны млын, сукнавальня, 3 кру-



*Сучасны герб г. Касцюковічы.*





*На тэрыторыі дзіцячых ясляў-сада № 9 у г. Касцюковічы.*

*Народны вакальна-інструментальны ансамбль «Этыкет».*





*Фрагмент гістарычнай забудовы г. Касцюковічы.*

*Дошка гонару Беларускага цэментнага завода.*





*Крыжаўзвіжанская царква ў г. Касцюковічы.*

*Забудова г. Касцюковічы.*

падзёркі, 20 ганчарань, 5 кузняў, школа, 104 гандл. крамы, 3 заезныя двары, 3 карчмы, піцейны дом, хлебазапасны магазін, царква, 4 малітоўныя дамы, сінагога. У 1900 г. пачала дзейнічаць паштова-тэлегр. кантора. Створанае ў 1908 г. гар. вучылішча (у 1912 г. 164 вучні) было ў 1913 г. ператорана ў вышэйшае пачатковае. Мелася бібліятэка-чытальня. У 1909 г. 10 мураваных і 355 драўляных дамоў, 4-класнае вучылішча (у 1913 г. 4 настаўнікі, 170 вучняў). У снеж. 1917 г. створаны вал. рэўком, а ў студз. 1918 г. адбыўся першы вал. з'езд сял. дэпутатаў. З крас. 1919 г. ў складзе Гомельскай губ. РСФСР, з сак. 1924 г. ў БССР. 17.7.1924 г. па рашэнні 2-й сесіі ЦВК БССР 6-га склікання Касцюковічы сталі цэнтрам раёна ў складзе Калінінскай, у 1927—30 гг. — Магілёўскай акруг, з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1918 г. пачала дзейнічаць с.-г. механічная майстэрня, 25.1.1923 г. — с.-г. таварыства, у 1924 г. — пракатны пункт с.-г. ма-

*Мемарыял памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны ў г. Касцюковічы.*







*Помнік В.П.Маргелаву ў г. Касцюковічы.*

*Помнік У.І.Леніну ў г. Касцюковічы.*





*Памятны знак у скверы «Цэментнік», закладзеным у г. Касцюковічы ў гонар 10-гадовага юбілею Беларускага цэментнага завода.*

*Добраўпарадкаваная тэрыторыя кар'ера Высокае Беларускага цэментнага завода.*

шын. У 1930-я г. створаны таварыствы пазыка-збытавое «Працы», пчалярнае, затым спажывецкае. 11.10.1935 г. адбылася першая с.-г. выстаўка. У 1926 г. пачала працаваць гантарэзня (18 рабочых у 1933 г.), у 1931 г. — ільнапеньказавод (81 рабочы ў 1933 г.), друкарня (18 рабочых у 1933 г.), у 1932 г. — прам. камбінат і маслазавод (71 рабочы ў 1933 г.), у 1931 г. — МТС (першапачаткова 16, у 1938 г. — 58 трактароў) і рамонтныя майстэрні пры ёй (рэарганізавана 31.3.1958 г.). У 1924 г. ў школе займаліся 349 вучняў. Ёй быў перададзены нацыяналізаваны будынак, адкрыта б-ка. У выніку пажару, які адбыўся 23.9.1924 г., згарэлі 84 пабудовы. З 1926 г. дзейнічалі кінаўстаноўка, раённая бальніца, у 1927 г. ўзведзена новае памяшканне для школы, пры якой у 1928 г. для дзяцей сялян-беднякоў быў адкрыты інтэрнат. У 1931 г. пачала выходзіць раённая газета, ад паравога лакамабіля запрацавала электрастанцыя. У 1933 г. палітаддзел

*Будынак дзіцячай школы мастацтваў на вуліцы Леніна ў г. Касцюковічы.*





*Памятны знак у г. Касцюковічы з нагоды 20-годдзя чарнобыльскай катастрофы.*




*Мікрараён «Маладзёжны» ў г. Касцюковічы.*



МТС выпускаў шматтыражную газ. «Ударнік сацыялістычных палёў»; пабудаваны радыёвузел. Дзейнічала цагельня, былі створаны калгасы «Парыжская камуна» і «1 Мая». Шматтыражную газ. «Чырвоны лесаруб» выпускаў у 1934 г. Касцюковіцкі леспрамгас. У 1938 г. пачалося будаўніцтва новай, больш магутнай электрастанцыі. Электраўстаноўкі мелі-ся таксама на спіртзаводзе і ільнапенькazaводзе. Працавалі бел. і рус. сярэднія школы, дзіцячыя дом (96 выхаванцаў), сад і тэхн. станцыя, раённая калгасная школа па падрыхтоўцы рахункаводаў, брыгадзіраў-паляводаў і жывёлаводаў, раённая бальніца, радзільнае аддзяленне, Дом Саветаў, Дом культуры.

27.9.1938 г. Касцюковічы атрымалі статус горада. Паводле перапісу 1939 г. 6,1 тыс. жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1-й пал. ліп. 1941 г. ў Касцюковічы перабазіравалася Магілёўская абл. друкарня, што дазволіла выпускаць тут не толькі шматтыражную інфармацыйна-прапагандысцкую л-ру, але і некаторыя рэсп. перыяд. выданні. У горадзе ў гэты час знаходзіліся кіруючыя парт. і сав. работнікі Магілёўскай вобл. 12.8.1941 г. ням.-фаш. захопнікі прарвалі фронт абароны 13-й арміі на р. Сож і вечарам 13 жн. каля 50 ням. танкаў уварваліся ў горад, але былі спынены падаспеўшымі часцямі Чырвонай Арміі і Касцюковіцкім знішчальным батальёнам. 14 жн. пасля жорсткіх баёў сав. войскі вымушаны былі адступіць. Баявыя дзеянні разгортвалі партызаны і падпольшчыкі. У ноч з 27 на 28 вер. 1943 г. Касцюковічы вызвалены 120-й і 283-й дывізіямі 3-й арміі Бел. фронту. У баях за горад загінулі 58 сав. воінаў і 4 партызаны (пахаваны ў брацкіх магілах на паўн.-ўсх. ускраіне). Адна з вуліц названа імем Героя Сав. Саюза Ф.М.Аўхачова, ураджэнца в. Машавое. На паўночна-ўсх. ускраіне і па вуліцы Карабанаўскай у магілах пахаваны 471 чал. — ахвяр фашызму. Пасля вызвалення горада аднаўляліся тэлегр. і тэлеф. сувязь, якая з кожным го-

дам пашыралася. Ужо восенню 1943 г. запрацавала раённая б-ка, а ў 1954 г. адкрыта дзіцячая. У 1944 г. пачала даваць ток электрастанцыя прамкамбіната. Затым уступіў у строй дзеючых шэраг іншых прадпрыемстваў, у тым ліку спіртзавод, лясгас, быткамбінат, хлебазавод, ільназавод, маслазавод. Працавала школа малодшых ветфельчараў Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. У 1973 г. адкрыты раённы краязнаўчы музей. Паводле перапісу 1959 г. — 7495 жыхароў. У 1977 г. далучана в. Слабада. У 2008 г. ў горадзе дзейнічаюць прадпрыемствы будаўнічых матэрыялаў (Бел. цэментны з-д), харч. (малака- і хлебазавод), паліграфічнай (друкарня), металургічнай (цэх РУП «Магілёўдругмет»), лёгкай галін прам-сці. Працуюць леспрамгас, лясгас, райплемстанцыя, райаграсервіс, будаўнічыя, рамонтныя, гандл. і дарожныя арг-цыі, 4 сярэднія агульнаадукац., муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, 5 дзіцячых садкоў, Дом школьнікаў, раённы Цэнтр культуры, Дом нар. творчасці, раённы Дом рамёстваў, клуб вольнага часу, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца, гідраметэастанцыя. Ёсць двухпраграмны рэтранслятар тэлевізійнага вяшчання і рэдакцыя раённага радыёвяшчання. Выходзіць раённая газета. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1973 г. Мінскім філіялам ЦНДІПгорадабудаўніцтва, у 1974 г. праект дэталёвай планіроўкі. Тэр. Касцюковіч арыентавана амаль мерыдыянальна. Горадаўтваральнай асновай з'яўляецца прам-сць, а таксама адм.-гасп. арг-цыі і ўстановы. Паўн. частку складае раён чыг. ст. Камунары. Забудова невялікімі кварталамі па прамавугольнай сетцы вуліц. Кампазіцыйны цэнтр — пойма р. Жадунька. У апошнія гады развіццё горада адбываецца ў паўд. і паўднёва-зах. напрамках. На гал. вуліцы размешчаны будынкі райвыканкама, гарсавета і іншых раённых арганізацый. У жыллёвай забудове пераважаюць індывідуальныя аднапавярховыя драўляныя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. У цэн-



*Зернесушылка СВК «Калгас «Прагрэс».*

*Беларускі цэментны завод у г. Касцюковічы.*

*Аддзяленне «Беларусбанка» ў г. Касцюковічы.*





тры вядзецца забудова 2—3, 5—9-павярховых мураваных дамоў. Ёсць парк, скверы каля Дома культуры і на вуліцы Першамайскай. Радзіма бел. пісьменніка З.Піваварава.

Каля чыг. ст. Камунары размешчана радовішча мергелю і мелу (разведаныя запасы 422,7 млн. т).

**АЗОЕЎКА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Журбін. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з 1783 г. як в. Агееўка, 8 двароў, 70 жыхароў, у Клімавіцкім павеце, шляхецкая ўласнасць. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 150, у 1970 г. 128 жыхароў. У 1986 г. 21 гаспадарка, 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае), працаваў магазін. У 2002 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Забудова драўляная традыц. сял. хатамі.

*Добраўпарадкаваныя куткі г. Касцюковічы.*





**АЗЯРЭЦ** — былы пасёлак у Бароньkaўскім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 20 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 205 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Журбін. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (10 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-х г. у выніку перасялення на былыя памешчыцкія землі сялян з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 18 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. —59 жыхароў. У 1986 г. 10 двароў, 30 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Забудова рэдкая, аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЛЕСЕНКАВА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 15 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 190 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Журбін. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. Уваходзіла ў Бялынкавіцкі, з 4.8.1927 г. — у Касцюковіцкі р-ны. У 1926 г. 8 двароў. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. —118 жыхароў. У 1986 г. 43 гаспадаркі, 107 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялец-

кае). У 2002 г. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана рэдка, двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСЕЕЎКА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Касцюковіч, 14 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 189 км ад Магілёва, праз вёску мерыдыянальна праходзіць меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Журбін. 11 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. Уваходзіла ў Бялынкавіцкі, з 4.4.1927 г. — у Касцюковіцкі р-ны. У 1926 г. 28 двароў. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. —111 жыхароў. У 1986 г. 18 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае), працаваў магазін. У 2002 г. 12 гаспадарак, 28 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ і забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 17 км на Пн ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 143 км ад Магілёва, на р. Альшанка (прыток р. Жадунька), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Родня. 21 гаспадарка, 30 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1752 г. сяло (19 двароў) у Мсціслаўскім ваяв., уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. вёска ва ўладанні памешчыка І.А.Бонч-Асмалоўскага. У 1880 г. ў в. Антонаўка 1 — 32 двары, 156 жыхароў, у в. Антонаўка 2 — 7 двароў, 32 жыхары. 22 вяскоўцы займаліся рамізніцкім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. вёска Антонаўка Вялікая, 43 двары, 264 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Побач існавалі заезны двор Антонаўка (1 двор, 14 жыхароў) і такой жа назвы фальварак (2 двары, 34 жыхары). У 1902 г. пачала дзейнічаць вінакурня, у якой у 1913 г. было занята 7 рабочых. У 1909 г. ў вёсцы 45 двароў, 269 жыхароў, у заезным двары — 10, у фальварку — 45 жыхароў. У б. фальварку Антонаўка восенню 1918 г. створана камуна. У адным з памешчыцкіх будынкаў пачала дзейнічаць школа (у 1925 г. 42 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР у складзе Касцюковіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 298, у 1970 г. 183 жыхары. У 1986 г. 41 гаспадарка, 99 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Валаскоўня), працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 25 гаспадарак, 31 жыхар. Працуе фельч.-акушэрскі пункт. Планіро-

*Гандлёвы цэнтр у г. Касцюковічы.*



*На Цэнтральнай плошчы г. Касцюковічы.*



вачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі. На ПдУ за ракой адасоблены ўчастак забудовы.

**АРЦЮХІ** – вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Касцюковіч, 5 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў–Сураж, 178 км ад Магілёва, на З р. Зубар, на Пд – яе прыток р. Грэбля, на ПдУ мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Крычаў–Сураж. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 10 двароў, 92 жыхары, уладанне памешчыка. У 1834 г. 19 двароў, 109 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. вёска, 117 жыхароў, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У школе граматы ў 1893 г. 21 вучань. У 1895 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 283 жыхары, у Бялынкавіцкай вол. У 1909 г. 291 жыхар. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 44 вучні). У 1926 г. 44 двары. У 1931 г. на землях вёсак Арцюхі, Белы Камень, якія ў гэты час не выкарыстоўваліся, быў створаны саўгас «Бялынкавічы». У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. – 156, у 1970 г. 109 жыхароў. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр – в. Бялынкавічы). У 2002 г. 16 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж р. Зубар. Забудавана двухбакова, рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**АСІНАЎКА** – пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, за 3 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў–Сураж, 163 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Касцюковічы–Хоцімск. 16 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. вёска і фальварак, 31 жыхар, у валоданні памешчыка Свадкоўскага. Гаспадар маёнтка, што быў у аднайменным урочышчы, меў у 1871 г. 228 дзес. зямлі. У 1882 г. заснавана шкляная вытв-сць. У маёнтку ў 1920 г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, а на былых памешчыцкіх землях сталі размяшчацца перасяленцы з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. ў складзе калгаса «Дружба» (цэнтр – в. Прусіна). У 2002 г. 16 гаспадарак, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**АСТРАВОК** – вёска ў Беладубраўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў–Сураж, 179 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Касцюковічы–Саматэвічы.

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. 14 двароў, 64 жыхары, у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. – 164, у 1970 г. 120 жыхароў. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе саўгаса «Дуброва» (цэнтр – в. Белая Дуброва), працаваў магазін. У 2002 г. 24 гаспадаркі, 65 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРАВАЯ** – вёска ў Бароньскаўскім с/с, за 33 км на Пд ад Касцюковіч, 29 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў–Сураж, 193 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў–Сураж. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1756 г. вёска, у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 4 двары, 7 жыхароў мужчынскага полу, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Баравая (яна ж Анаполле), 16 двароў, 126 жыхароў. З сак.

1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1940 г. 45 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі ў 1943 г. расстралялі і спалілі 32 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, за 0,5 км на Пд ад вёскі), а ў лютым 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 24 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. —168, у 1970 г. 110 жыхароў. У 1986 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Бароньні», працаваў магазін. У 2002 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі. Непадалёку знаходзіцца Бароньнаўскае радовішча мелу (разведаныя запасы 720,1 млн. т), мергелю (разведаныя запасы 253,6 млн. т) і суглінкаў (разведаныя запасы 537 тыс. м$^3$).

**БАРОНЬКІ** — вёска, цэнтр Бароньнаўскага с/с, за 25 км на ПдУ ад Касцюковіч, 12 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва, на р. Зубар (прыток р. Беседзь), на Пн дзве сажалкі. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 176 гаспадарак, 428 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як сяло ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв., уласнасць казны. У 1727 г. 17 дымоў, у 1747 г. меліся млын і карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. вёска Бароньнава, 20 двароў, 162 жыхары, у Клімавіцкім павеце, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. 23 двары, 175 жыхароў, у 1816 г. 41 двор, 296 жыхароў, у 1848 г. 56 двароў, уладанне памешчыцы Ш.О.Мартынавай. У 1880 г. 117 двароў, 645 жыхароў. 11 вяскоўцаў займаліся кушнерскім, кравецкім, калёсным і бандарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 151 двор, 1095 жыхароў, крама і піцейны дом, у Мошаўскай вол. У 1900 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне (у 1907 г. 31 вучань). У 1909 г. 1189 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 68 вучняў), у 1930 г. ўзведзены новы школьны будынак. У былым маёнтку дзейнічала садова-агародніцкае т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. 269 землякоў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у памяць аб іх у 1975 г. пастаўлена стэла. У 1975 г. да вёскі далучаны пас. Бароньні (у 1970 г. 147 жыхароў). Паводле перапісу 1959 г. —761, у 1970 г. 646 жыхароў. У 1986 г. 223 гаспадаркі, 572 жыхары, цэнтр саўгаса «Бароньні». Дзейнічалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, 5 спарт. пляцовак, грамадская лазня. У 2002 г. 197 гаспадарак, 492 жыхары. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1980 г. Магілёўграмадзянпраектам. Гал. крывалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе з У далучаюцца тры другарадныя вуліцы. На Пн адасоблены ўчастак забудовы (б. пас. Бароньні). Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы ўзведзены 6 аднапавярховых 4-кватэрных і 4 аднакватэрныя мураваныя дамы. Грамадскія будынкі — сярод жылой забудовы.



*Будынак сельсавета ў в. Бароньні.*

**БАРОЎКА** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 169 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь) і аўтадарозе Касцюковічы—Саматэвічы. 29 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1756 г. вёска, у Мошаўскім войтаўстве Крычаўскага староства, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1779 г. 40 двароў, 263 жыхары, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1799 г. 53 двары, 343 жыхары. У 1834 г. 496 жыхароў, у 1847 г. 70 двароў, 621 жыхар, у складзе маёнтка Студзянец Чэрыкаўскага павета, уладанне памешчыцы М.Свінінавай. У 1885 г. 109 двароў, 801 жыхар. У 1890 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. 166 двароў, 1117 жыхароў, вятрак, у Студзянецкай вол. У 1908 г. дзейнічала таксама земская школа. У 1919 г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 91 вучань). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 427, у 1970 г. 322 жыхары. У 1986 г. 75 гаспадарак, 143 жыхары, у складзе саўгаса «Дуброва» (цэнтр — в. Белая Дуброва), дзейнічалі б-ка, магазін. У 2002 г. 43 гаспадаркі, 82 жыхары. Дзве крывалінейныя вуліцы шыротнай арыентацыі перакрыжоўвае на У кароткая вуліца. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**БАРЭЙКІ** — вёска ў Бароньkаўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на р. Зубар (прыток р. Беседзь), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 45 двароў, 218 жыхароў. У 1850 г. 46 двароў, у іх ліку 10 пустуючых, 236 жыхароў, у Клімавіцкім павеце, уласнасць казны. У 1858 г. 47 двароў, 266 жыхароў. У школе граматы ў 1893 г. 29 вучняў. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 542 жыхары, заезны двор, у Бялынкавіцкай вол. У 1909 г. царк. ведамства адкрыла школу, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 46 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 129 двароў. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У баях каля вёскі загінулі 30 воінаў 110-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту (пахаваны ў брацкай магіле за 0,5 км на З ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. — 466, у 1970 г. 317 жыхароў. У 1986 г. 92 гаспадаркі, 125 жыхароў, у складзе саўгаса «Баронькі» (цэнтр — в. Баронькі), працаваў магазін. У 2002 г. 39 гаспадарак, 59 жыхароў. Працуюць сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. У цэнтры яе перакрыжоўвае шыротная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі з гасп. будынкамі.

**БЕЛАЯ ДУБРОВА** — вёска, цэнтр Беладубраўскага с/с і СВК «Дуброва», за 12 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 172 км ад Магілёва, на аўтадарозе Касцюковічы—Сураж і на р. Беседзь. 291 гаспадарка, 774 жыхары (2007).

За 1 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Дзяражня, і на Пд каля аўтадарогі захаваліся стараж. гарадзішчы, там жа на левым беразе р. Дзяражня — стараж. курганны могільнік (3 насыпы), што сведчыць

аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 1762 г. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 107 двароў, 714 жыхароў. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 750 жыхароў. У 1848 г. 105 двароў, цэнтр маёнтка, 2 царквы. Памешчык меў тут у 1865 г. 2107 дзес. зямлі і карчму. У 1885 г. 127 двароў, 908 жыхароў, заезны двор, царква, у Студзянецкай вол. У 1887 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1912 г. пабудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. 176 двароў, 1209 жыхароў, вадзяны і 2 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама, у пач. 1920-х г. — 4-гадовая школа (у 1925 г. 70 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У кастр. 1929 г. арганізаваны калгас імя газеты «Беларуская вёска». У 1940 г. 250 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 140 двароў. Вызвалена вёска 28.9.1943 г. На яе тэр. знаходзяцца 2 брацкія магілы сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1943 гг. Паводле перапісу 1959 г. —858 жыхароў. У 1986 г. 273 гаспадаркі, 639 жыхароў, цэнтр саўгаса «Дуброва». Дзейнічалі машынны двор, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 магазіны, 2 сталовыя, аддз. сувязі, 6 спарт. пляцовак. Працуюць сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2002 г. 296 гаспадарак, 764 жыхары. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1982 г. БелНДІгіпрасельбудам. Да крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі далучаюцца на З і У завулкі. Забудова пераважна двухбаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Узводзяцца таксама мураваныя адна- і двухкватэрныя дамы. На гал. вуліцы размешчаны і асн. грамадскія будынкі. Радзіма аднаго з заснавальнікаў сучаснай бел. археалогіі, кандыдата гіст. навук К.М.Палікарповіча. Побач залежы гліны і пяскоў. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Беладуброўскага с/с знаходзіліся вёскі Паламка, Саматэвічы 2, пасёлкі Ленінскі, Аляксандраўскі (не існуюць).

**БЕЛЫ КАМЕНЬ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Касцюковіч, 3 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 174 км ад Магілёва, на р. Зубар (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Крычаў—Сураж. 27 гаспадарак, 53 жыхары (2007).

Вядома з 1756 г. як вёска ў Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 10 двароў, 66 жыхароў. У 1834 г. 26 двароў, 107 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. ва ўладанні памешчыкаў Булгарынава і Іосіфава. У 1875 г. побач былі 2 невялікія фальваркі, гаспадар аднаго з якіх меў 115, другога — 530 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 231 жыхар, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. вёска і хутар. У 1918 г. адкрыта школа (у 1925 г. 35 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. ў вёсцы 37, на хутары 20 двароў. У 1931 г. на землях вёсак Белы Камень, Арцюхі, якія не выкарыстоўваліся, быў створаны саўгас «Бялынкавічы». У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 321, у 1970 г. 252 жыхары. У 1986 г. 67 гаспадарак, 106 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы), працавалі пач. школа і магазін. У 2002 г. 40 гаспадарак, 72 жыхары. Крывалінейная вуліца арыентавана амаль мерыдыянальна уздоўж ракі і забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**БЛУДЗЕМЛЯ** (да 1969 г. вёскі Блудземля 1 і Блудземля 2) — вёска ў Брацькавіцкім с/с, за 28 км на З ад Касцюковіч

і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва, на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Краснаполле.

За 1 км на ПдУ ад вёскі, у лесе, захаваўся курганны могільнік — 40 насыпаў, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вядома з 1552 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, уласнасць казны. У 1594 г. ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць, у 1604 г. ў Крычаўскай «дзяржаве» (дзярж. зямельным уладанні, перададзеным на пэўных умовах у распараджэнне прыватнай асобы). Паводле інвентару Крычаўскага староства (б. «дзяржавы») 1712 г. 12, у 1713 г. 15 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Блудзімль у Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. вёскі Блудземля 1 і Блудземля 2 у Чэрыкаўскім павеце. Памешчык Бялецкі меў тут у 1860 г. 158, у 1872 г. — 432 дзес. зямлі і вадзяны млын. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1937 г. для школы ўзведзена новае памяшканне. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — у в. Блудземля 1 — 140, у в. Блудземля 2 — 36 жыхароў, у 1970 г. ў вёсках адпаведна 136 і 4 жыхары. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Брацкі» (цэнтр — в. Брацькавічы), працаваў магазін. У 1993 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, жыхары пераселены ў в. Шарэйкі. У 2002 г. 32 гаспадаркі, 77 жыхароў. Складаецца з крывалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы з двума завулкамі. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**БОНІ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Касцюковіч, 8 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 181 км ад Магілёва, на р. Грэбля (прыток р. Зубар), на ПнЗ мяжуе з лесам. Непадалёку аўтадарога Касцюковічы—Сураж. 22 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 9 двароў, 77 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. 54 жыхары, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1850 г. 10 двароў, 58 жыхароў. У 1880 г. 28 двароў, 145 жыхароў. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася вырабам розных рэчаў і посуду з дрэва. У школе граматы ў 1893 г. 13 вучняў. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 246 жыхароў, у Бялынкавіцкай вол. Духоўнае ведамства ў 1904 г. адкрыла школу, якая тады размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 281 жыхар. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 46 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 55 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. —189, у 1970 г. 160 жыхароў. У 1986 г. 59 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы), працавалі пач. школа, магазін. У 2002 г. 30 гаспадарак, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай і крывалінейнай вуліц амаль шыротнай арыентацыі, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**БРАЦЬКАВІЧЫ** — былая вёска ў Забычанскім с/с (да 1993), за 23 км на З ад Касцюковіч і 27 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 185 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Краснаполле.

За 1 км на Пн ад вёскі, у лесе, захаваўся стараж. курганны могільнік (24 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 16 ст. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1552 г. сяло ў Крычаўскай «дзяржаве» (дзярж. зямельным уладанні), уласнасць казны. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1709 г. 12 дымоў, 4 валокі зямлі. У 1747 г. 13 дымоў, карчма, млын. У 1768 г. шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы

Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. сяло Браткавічы, 12 двароў, 56 жыхароў, уладанне графа Р.А.Пацёмкіна, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 182 жыхары, уладанне памешчыка Я.К.Усакоўскага. З 1824 г. дзейнічала сукнавальня. У 1848 г. 44 двары, царква, у Чэрыкаўскім павеце. Памешчык меў тут у 1865 г. 880 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога на сродкі вяскоўцаў было пабудавана ўласнае памяшканне (у 1889 г. 45 вучняў). У 1885 г. 285 жыхароў, вадзяны млын, школа, бальніца (адкрыта не пазней 1880 г.), заезны двор, царква, цэнтр воласці. Частка вяскоўцаў займалася бандарным і кавальскім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 392 жыхары, 2 хлебазапасныя магазіны, піцейны дом. Штогод 26 верасня праводзіўся таржок. Побач былі аднайменныя аколіца (26 двароў, 168 жыхароў, вятрак) і фальварак (1 двор, 15 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня, крама, карчма). У 1909 г. ў вёсцы 72 двары, 519 жыхароў, у аколіцы — 30 двароў, 222 жыхары, у фальварку 1 двор, 1 жыхар. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 131 вучань). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 10.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. Паспяхова дзейнічаў створаны ў вёсцы саўгас «Брацькавічы». У 1933 г. арганізаваны дзіцячыя пляцоўка і яслі. У 1935 г. вёска атрымала электраэнергію ад Бялынкавіцкай гідраэлектрастанцыі. У 1937 г. на базе ліквідаванага саўгаса створана МТС. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 102 вяскоўцы, у памяць аб якіх у 1967 г. ў скверы пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. —494, у 1970 г. 535 жыхароў. У 1986 г. 142 гаспадаркі, 354 жыхары, цэнтр саўгаса «Брацкі». У 1993 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, жыхары пераселены ў в. Шарэйкі. У 1993 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, жыхары пераселены ў в. Шарэйкі. Дзейнічалі машынны двор, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, магазін, 2 сталовыя, 3 спарт. пляцоўкі. У 2002 г. 142 гаспадаркі, 354 жыхары. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1980 г. Магілёўграмадзянпраектам. Рака падзяляе вёску на паўд.-заходнюю і паўн.-ўсходнюю часткі. Гал. вуліца паўн.-ўсх. часткі дугападобная, амаль шыротнай арыентацыі. На Пд ад яе кароткая вуліца. Планіроўка паўднёва-зах. часткі Г-падобная. Асн. вуліца мае шыротную арыентацыю. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Адм.-грамадскі цэнтр у паўн.-ўсходняй частцы.

У склад Брацькавіцкага с/с у канцы 1930-х г. уваходзілі вёскі Прыкіпаўка і Пуцітаўка (не існуюць).

**БЯЛЫНКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Бялынкавіцкага с/с і СВК «Бялынкавічы», за 14 км на ПдУ ад Касцюковіч, 2 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 175 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож) і аўтадарозе Крычаў—Сураж. 190 гаспадарак, 490 жыхароў (2007).

У цэнтры вёскі захаваўся стараж. курганны могільнік (33 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з сярэдзіны 18 ст. як сяло ў Крычаўскім старостве. У 1762 г. ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць, 2 шынкі, 2 млыны. У 1768 г. побач быў фальварак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У статыстычным апісанні Магілёўскай губ. 1784 г. сяло названа мястэчкам. У 1779 г. 21 двор, 118 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. цэнтр Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., уладанне Бобрыкавых. Дзейнічала царква, якая ў 1846 г. капітальна рамантавалася. У 1858 г. 36 двароў, 153 жыхары. У 1861 г. 255 жыха-

роў. Гаспадар фальварка меў у 1872 г. 1197 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. 76 двароў, 339 жыхароў, драўляная царква, малітоўная школа і нар. вучылішча. Частка мястэчкоўцаў займалася кравецкім і кавальскім промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 607 жыхароў, скураапрацоўчы з-д, 2 кузні, хлебазапасны магазін, піцейны дом, 2 крамы, царква. Штогод 15 жн. праводзіўся таржок. Непадалёку была аднайменная сядзіба — 1 двор, 10 жыхароў, вятрак. У 1901 г. засн. вінакурня з паравым рухавікам (у 1913 г. 7 рабочых). У 1909 г. 129 двароў, 680 жыхароў, прыёмны пакой, казённая вінная крама. У 1924 г. пачало працаваць аддз. сувязі. 15.1.1925 г. створана кааператыўнае, 6.3.1925 г. — с.-г. крэдытнае т-вы. 20.9.1925 г. адбылася выстаўка дасягненняў у развіцці с.-г. вытв-сці. У гэтым жа годзе адкрыты нар. дом, у 1927 г. — дзіцячая пляцоўка. У 1926 г. 187 двароў. У 1920-х г. запрацавала 4-гадовая школа. Для дзяцей беднякоў пры ёй у 1928 г. быў адкрыты інтэрнат, дзейнічала бальніца. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. цэнтр Бялынкавіцкага р-на, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-не. Спіртзавод арганізаваў торфараспрацоўку. У 1935 г. пабудаваны электрастанцыя на р. Беседзь, вінзавод; створана МТС (у 1935 г. 27 трактароў, рэарганізавана 31.3.1958 г.). У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У баях каля вёскі загінуў 31 сав. воін і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На ўшанаванне памяці 347 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. — 583, у 1970 г. 741 жыхар. У 1986 г. 209 гаспадарак, 631 жыхар, цэнтр саўгаса «40 гадоў Кастрычніка». Дзейнічалі машынны двор, сярэдняя школа з навуч.-вытв. камбінатам, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, гандл. цэнтр, сталовая, Дом культуры, б-ка, бальніца, 5 спарт. пляцовак. У 2002 г. 198 гаспадарак, 486 жыхароў. Працуюць школа-сад, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1983 г. БелНДІгіпрасельбудам. Гал. вуліца (адрэзак аўтадарогі) арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе далучаюцца другарадныя вуліцы з завулкамі. На ПнЗ — адм.-грамадскі цэнтр. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі і мураванымі дамамі сядзібнага тыпу. Побач запасы пяскоў.

У склад Бялынкавіцкага с/с да канца 1930-х г. уваходзіў пас. Бабры, да 1940 г. пас. Ліпава-Ручай (не існуюць).

**ВАЛАСКОЎНЯ** (да 1977 г. вёскі Вялікая Валаскоўня і Малая Валаскоўня) — вёска ў Пралетарскім с/с, за 14 км на Пн ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 146 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Крычаў—Сураж. 73 гаспадаркі, 132 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1766 г. згадваецца як в. Валаскова ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 12 двароў, 61 жыхар. У 1880 г. пазначана як в. Валаскоўня, 40 двароў, 176 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. вёскі Валаскоўня Вялікая (44 двары, 250 жыхароў) і Валаскоўня Малая (21 двор, 199 жыхароў). У 1909 г. ў Валаскоўні Вялікай 49 двароў, 357 жыхароў, у Валаскоўні Малой 21 двор, 138 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Мелася нар. вучылішча. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 67 вучняў), дзейнічаў харавы гурток. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1928 г. пабудавана новае памяшканне для школы. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. каля вёскі цяжкія баі супраць ням.-фаш. войск вялі 137-я стралк. дывізія і атрад апалчэнцаў з г. Касцюковічы. У брацкай магіле, што на паўн. ускраіне, пахаваны 179 воінаў, якія загінулі ў тых баях. У 1977 г. вёскі Вялікая Валаскоўня і Малая Валас-

коўня аб'ядналіся і склалі адзін населены пункт — в. Валаскоўня. Працуюць аддзяленне сувязі, сельскі клуб. У 1986 г. цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Працуюць пач. школа, б-ка, аддз. сувязі, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2002 г. 118 гаспадарак, 245 жыхароў. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1966 г. БелНДІгіпрасельбудам. Адм.-грамадскі цэнтр на ПнУ. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры аднапавярховыя двух- і аднакватэрныя мураваныя дамы.

**ВАЛЫНЕЖ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 136 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Хоцімск. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вядома з 1582 г. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1727 г. — 11, у 1747 г. 24 дымы, у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 18 двароў, 119 жыхароў, у маёнтку графа Р.А.Пацёмкіна. У 1816 г. 23 двары, 162 жыхары, у складзе Тупічанскага маёнтка М.К.Галынскага. У 1834 г. 35 двароў, 246 жыхароў, уладанне І.І.Цеханавецкага. У 1880 г. 49 двароў, 366 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 490 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. У 1908 г. 84 двары, 557 жыхароў, млын. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1977 г. да вёскі далучаны пас. Багатыр. Паводле перапісу 1959 г. — 103, у 1970 г. 63 жыхары. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары), працаваў магазін. У 2002 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх вуліц, арыентаваных мерыдыянальна ўздоўж ракі. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі з гасп. пабудовамі.

**ВАРАНОЎКА** — вёска ў Бароньнаўскім с/с (да 1994), за 37 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 21 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 197 км ад Магілёва, на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Беседзь. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. У сувязі з высокай радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (34 сям'і) перасялены ў 1994 г. ў в. Крапіўня.

Вядома з 18 ст. У 1779 г. сяло Варанова, 14 двароў, 63 жыхары. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 22 двары, 91 жыхар, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 130 жыхароў, ва ўладанні памешчыка Л.І.Беліковіча. У 1880 г. 32 двары, 220 жыхароў. 16 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся кавальскім і рамізніцкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 355 жыхароў, у Машаўской вол. Побач быў аднайменны хутар — 1 двор, 14 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 45 жыхароў. Разам з жыхарамі суседніх вёсак яны захапілі ў пач. жніўня 1917 г. памешчыцкія лугі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 83 двары. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 253, у 1970 г. 186 жыхароў. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 96 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — б. вёска Вялікі Бор). Размешчаны пач. школа і магазін. Планіровачна складалася з двух паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі (усх. — дугападобная, працяглая, зах. — кароткая, прамалінейная). Была забудавана пераважна двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАРАШЫЛАВА** (да 1935 г. Мікалаеўка) — пасёлак у Беладубраўскім с/с, за 7 км на Пд ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 167 км ад Магілёва, на Пд мяжуе з лесам, на ПдЗ — возера. Транспартныя сувязі па прасёлач-

най і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Саматэвічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. 9 двароў, 71 жыхар, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У складзе калгаса «Парыжская камуна». У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЁЎКА** — вёска ў Забычанскім с/с, за 4 км на З ад Касцюковіч, 4 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 164 км ад Магілёва, на р. Жадунька (прыток р. Беседзь), на З, У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

На ўсх. ускраіне захаваўся стараж. курганны могільнік (22 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1777 г. як в. Васілева ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. 10 двароў, 50 жыхароў, у валоданні князя Р.А.Пацёмкіна. У 1909 г. 24 двары, 192 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 51 жыхар. У 1986 г. 20 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна», працаваў магазін. У 2002 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў. Прамалінейная шыротная вуліца забудавана рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЁТУХНА** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 12 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 172 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 18 ст. У 1747 г. пазначана як в. Веатухні (23 двары), уласнасць казны, у Крычаўскім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 37 двароў, 188 жыхароў, у 1799 г. 40 двароў, 257 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 277 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., у 1834 г. 384 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным і кавальскім промысламі. У 1850 г. 392 жыхары, уладанне памешчыка А.І.Камара. У 1885 г. 86 двароў, 582 жыхары, заезны двор, у Студзянецкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 116 двароў, 900 жыхароў, ветраны млын. У 1909 г. 130 двароў, 953 жыхары. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у 1912 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У пач. 1920-х г. адкрыліся пач. школа (у 1925 г. 96 вучняў) і с.-г. арцель «Чырвоны Кранштат». З 30.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Вётухнаўскага с/с Касцюковіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У скверы каля школы ў брацкай магіле пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях у 1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 799, у 1970 г. 638 жыхароў. У 1986 г. 223 гаспадаркі, 584 жыхары, цэнтр калгаса «Кранштат». Працавалі сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад-яслі, участковая бальніца, аптэка, клуб, 2 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары адселены ў в. Муравілле. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1983 г. БелНДІгіпрасельбудам. Аснову планіровачнай структуры складаюць дзве крывалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя невялікімі другараднымі вуліцамі. Адм.-грамадскі цэнтр у геагр. цэнтры вёскі. Забудавана двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Ва ўсх. частцы мураваная забудова: узведзены 7 двухпавярховых 4- і 8-кватэрных, 2 аднапавярховыя і 11 аднакватэрных дамоў.

**ВІДУЙЦЫ** – вёска ў Беладубраўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў–Сураж, 192 км ад Магілёва, на р. Алешня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы–Касцюковічы. 43 гаспадаркі, 100 жыхароў (2007).

За 3 км ад вёскі, на правым беразе р. Алешня, захаваўся стараж. курганны могільнік (9 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 16 ст. Пад 1604 г. пазначана як сяло ў Крычаўскай «дзяржаве», уласнасць казны. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1713 г. 10 дамоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 26 двароў, 195 жыхароў. У 1834 г. 324 жыхары. Памешчык у 1854 г. меў на дачы Відуйцы 1196 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 105 двароў, 915 жыхароў, царк.-прыходская школа, піцейны дом, у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. Побач быў аднайменны фальварак — 1 двор, 2 жыхары. У 1905 г. адкрыта казённая крама. У студз. 1906 г. вяскоўцы разграмілі маёнтак. Адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне (у 1907 г. 50 вучняў). У 1909 г. ў сяле 120 двароў, 774 жыхары, у маёнтку — 1 двор, 13 жыхароў. У пач. 1920-х г. працавала пач. школа (у 1925 г. 72 вучні). 7.6.1922 г. створана сельскагаспадарчае, 7.11.1926 г. – закупачна-збытавое т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 163 землякоў, якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны, у 1975 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. — 754, у 1970 г. 449 жыхароў. У 1986 г. 114 гаспадарак, 308 жыхароў, цэнтр к-са імя К.Маркса. Працавалі машынны двор, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, базавая школа, Дом культуры, б-ка, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2002 г. 56 гаспадарак, 123 жыхары. Працуе фельч.-акушэрскі пункт. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1981 г. Магілёўскім філіялам Белкалгаспраекта. Аснову планіровачнай структуры складаюць дзве падзеленыя ракой вуліцы: зах. (працяглая, крываліне йная, з завулкам) і ўсходняя (амаль прамалінейная), арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Адм.-грамадскія будынкі ўздоўж зах. вуліцы. Цэнтр забудаваны аднапавярховымі аднакватэрнымі мураванымі дамамі. Жылая забудова двухбаковая, у асн. драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВІРОЎКА** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 48 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 21 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў–Сураж, 204 км ад Магілёва, на р. Свінка (прыток р. Беседзь), на З невялікае возера. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў–Сураж. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (35 сямей) пераселены ў 1994 г. ў в. Крапіўня.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1765 г. вёска, 4 дымы, у Прапойскім старостве, уласнасць казны. У 1769 г. слабада Вірава, гута і млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. 10 двароў, 47 жыхароў, у Быхаўскім павеце. У 1799 г. 15 двароў, 92 жыхары, у 1834 г. 26 двароў, 116 жыхароў, уладанне памешчыка І.І.Цеханавецкага. У 1858 г. 37 двароў, 230 жыхароў, ва ўладанні памешчыка Л.І.Беліковіча, у Клімавіцкім павеце. У 1880 г. 52 двары, 36 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 531 жыхар, піцейны дом, у Машаўской воласці. У 1909 г. 70 двароў, 535 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыты 4-гадовая школа (у 1925 г. 36 вучняў), хата-чытальня, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, с.-г. арцель «Чырвоная зорка» і т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1927 г. пабудавана ўласнае памяшканне для школы. Паводле перапісу 1959 г. – 231, у 1970 г. 179 жыхароў. У 1986 г. 35 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе калгаса «Зарэчны»

(цэнтр — в. Вялікі Бор), працаваў магазін. Планіровачна складалася з дугападобнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У сувязі з надзвычай высокай радыяцыйнай забруджанасцю будынкі разбураны і пахаваны пад тоўстым пластом зямлі.

**ВІТУНЬ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 73 гаспадаркі, 112 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло (31 дым) у Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 129 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 47 двароў, 256 жыхароў, уладанне памешчыцы К.Ф.Цеханавецкай. У 1858 г. 139 жыхароў мужчынскага полу, у Клімавіцкім павеце. У 1880 г. 63 двары, 400 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся адыходным і рамізніцкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 511 жыхароў, хлебазапасны магазін і піцейны дом, у Бярозаўскай вол. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1906 г. 81 двор, працавала царк.-прыходская школа і для яе пабудавана памяшканне. У 1920-х г. створана пач. школа (у 1925 г. 90 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 204 землякі загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у памяць аб якіх у 1970 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. — 480, у 1970 г. 341 жыхар. У 1975 г. далучаны вёскі Вялікая Мухаўка і Малая Мухаўка. У 1986 г. 153 гаспадаркі, 361 жыхар, цэнтр калгаса «Радзіма», працавалі машынны двор, базавая школа, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін. У 2002 г. 95 гаспадарак, 149 жыхароў. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1974 г. Белкалгаспраектам. Гал. вуліца крывалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Перпендыкулярна да яе на З праходзяць дзве вуліцы. На Пн плошча і адм.-грамадскі цэнтр. Забудавана двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Побач залежы пяскоў.

**ВІШАНСКІ** — пасёлак у Бялынкавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 176 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. Спачатку быў у Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 122 жыхары, у 1986 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Канічы» (цэнтр — в. Канічы), працавалі фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2002 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў. Забудавана індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВІШАНЬКІ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 9 км на ПдУ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 175 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 23 гаспадаркі, 32 жыхары (2007).

На паўночна-ўсх. ускраіне захаваўся стараж. курганны могільнік (8 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло, меўся млын, у Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1722) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 4 двары, 23 жыхары, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета. У 1799 г. 10 двароў, 68 жыхароў, уласнасць памешчыцы Гайковай, у 1816 г. 24 двары, 135 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 172 жыхары. Памешчык

у 1855 г. меў у вёсках Вішанькі, Касцюковічы, Канічы, Малінаўка і Дзямідаўка 2561 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 2 сукнавальні, піцейны дом, 2 карчмы, вінакурны з-д. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. ў валоданні памешчыка Зуба. У 1880 г. 41 двор, 203 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва і адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 444 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Побач быў аднайменны фальварак. У 1909 г. ў вёсцы 57 двароў, 409 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 6 жыхароў. У гэтым жа годзе працавала земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У пач. школе, адкрытай у пач. 1920-х г., у 1925 г. было 39 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1940 г. 76 двароў, 304 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 69 двароў. Паводле перапісу 1959 г. — 353, у 1970 г. 294 жыхары. У 1986 г. 61 гаспадарка, 163 жыхары, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). У 2002 г. 30 гаспадарак, 52 жыхары. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У адасоблены ўчастак забудовы.

**ВІШНІ** — вёска ў Бароньkаўскім с/с, за 40 км на Пд ад Касцюковіч, 21 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 195 км ад Магілёва, на р. Свінка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 38 гаспадарак, 55 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1747 г. 20 дымоў, у Крычаўскім старостве, пасесія. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. згадваецца як в. Вішанькі — 5 двароў, 52 жыхары, у Клімавіцкім павеце. Гаспадар аднайменнага маёнтка ў 1843 г. меў у вёсках Вішні і Стаянічы 289 дзес. зямлі і карчму. Гаспадар другога маёнтка ў 1878 г. — 400 дзес. зямлі. У 1880 г. 54 двары, 290 жыхароў. 21 вясковец займаўся калёсным і рамізніцкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 469 жыхароў, піцейны дом, нар. вучылішча (у 1907 г. 45 вучняў), у Машаўской вол. Побач быў аднайменны фальварак — 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 68 двароў, 572 жыхары, на хутары — 1 двор, 7 жыхароў. Разам з жыхарамі суседніх паселішчаў вяскоўцы 3.6.1917 г. падзялілі памешчыцкія лугі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У пач. школе ў 1925 г. займалася 57 вучняў, працаваў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1927 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 626, у 1970 г. 509 жыхароў. У 1986 г. 96 гаспадарак, 256 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Машавое). Працавалі базавая школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2002 г. 55 гаспадарак, 86 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн і Пд далучаюцца пяць кароткіх вуліц. На У невялікая плошча. Забудавана пераважна двухбакова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОСАЎ** — вёска ў Забычанскім с/с (да 1993), за 33 км на ПнЗ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 193 км ад Магілёва, на р. Канава Восаўская (прыток р. Дзяражня), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 1777 г. як сяло ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. 77 двароў, 39 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 24 жыхары, уладанне памешчыка В.А.Макавецкага. У 1834 г. вёска (15 двароў) і фальварак, уладанне памешчыцы Харыцевічавай. У 1850 г. 173 жыхары. У 1877 г. памешчык меў тут 867 дзес. зямлі. У 1885 г. сяло каля тракту Клімавічы—Краснаполле (18 двароў), меліся млын, заезны двор, царква, у

Брацькавіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 231 жыхар, школа граматы. Побач былі фальварак (1 двор, 16 жыхароў) і вадзяны млын. У 1909 г. 37 двароў, 274 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну непадалёку ад вёскі базіраваўся партыз. атрад № 45 «За Радзіму», які сфарміраваўся ў ліст. 1942 г. з дыверсійных груп І.С.Салдаценкі і Ф.Ф.Сігаева і групы У.І.Маркава з брыгады імя С.Г.Лазо Арлоўскай вобл. Ва ўрочышчы Харавынь, што за 2 км на ПнУ ад вёскі (тут знаходзілася база партыз. атрада), у 1978 г. пастаўлена стэла ў гонар партызан. Вёска вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 30.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 269, у 1970 г. 200 жыхароў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 106 жыхароў, у складзе саўгаса «Брацкі» (цэнтр — в. Брацькавічы), працаваў магазін. У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай станцыі жыхары ў 1993 г. пераселены ў в. Шарэйкі. У 2002 г. 39 гаспадарак, 106 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 0,5 км на У ад вёскі размешчана радовішча мелу (перспектыўныя запасы 538 млн. т), мергелю (разведаныя запасы 117 млн. т), глін і суглінкаў (разведаныя запасы 11,2 млн. т).

**ВУГЛЫ** — пасёлак у Бароньkаўскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 30 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 200 км ад Магілёва, вакол лес. На ПнЗ меліярацыйны канал, злучаны з р. Беседзь. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Вядомы з 19 ст. У 1860 г. хутары, 5 двароў, 38 жыхароў, у складзе аднайменнага маёнтка Чавускага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — былая в. Вялікі Бор). У 2002 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў Забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Забычанскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 162 км ад Магілёва, на р. Альшанка (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 18 ст. У інвентары Крычаўскага староства 1713 г. пазначана як сяло, 4 дымы, паўвалокі зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 33 двары, 183 жыхары, у валоданні памешчыка І.Ф.Зубава, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 42 двары, 213 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 341 жыхар, у Касцюковіцкай вол. У 1909 г. 51 двор, 338 жыхароў. У 1933 г. працавалі дзіцячыя яслі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 160 жыхароў. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 143 жыхары, у складзе саўгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Нізькі). У 2002 г. 42 гаспадаркі, 104 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЗАВЕЦ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 154 км ад Магілёва. На ПнУ меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Крупня, на ПнЗ мяжуе з лесам. 28 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

У 1811 г. вёска, 21 жыхар мужчынскага полу, уладанне памешчыка Д.І.Загеранскага, у Клімавіцкім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 15 двароў, 78 жыхароў, цэнтр маёнтка Асмалоўскіх. У 1849 г. гаспадар маёнтка меў 147 дзес. зямлі. У

1857 г. пазначана як в. Вязавец (яна ж Кісялёўка), у Клімавіцкім павеце, ва ўладанні памешчыка Баграмава. У 1880 г. 20 двароў, 157 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 228 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Побач былі фальварак (1 двор, 6 жыхароў) і хутар (1 двор, 12 жыхароў). У 1909 г. 237 жыхароў. У 1918 г. аб'ядналіся ў с.-г. арцель «Рэспубліка», да якой адышлі былыя памешчыцкія землі. 6.6.1922 г. створана с.-г. т-ва «Праца». У 1924 г. адкрыта школа (у 1925 г. 33 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1938 г. пабудавана новае памяшканне для школы. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 146, у 1970 г. 79 жыхароў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 32 гаспадаркі, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЯ КРАПІЎНЯ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад Касцюковіч, 7 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на р. Трасцянка (прыток р. Беседзь), на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 25 гаспадарак, 54 жыхары (2007).

У 1897 г. 37 двароў, 296 жыхароў, школа граматы, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 46 двароў, 305 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1925 г. 33 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 83 двары. У 1927 г. для школы ўзведзены ўласны будынак. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 33, у 1970 г. 251 жыхар. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 91 жыхар, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). Працуюць аддз. сувязі, сярэдняя школа, урачэбная амбулаторыя. У 2002 г. 33 гаспадаркі, 68 жыхароў. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІ БОР** — вёска ў Бароньскаўскім с/с (да 1994 г.), за 34 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 25 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва, на паўн. ускраіне — невял. возера, на Пн і ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Вядома з 18 ст. У 1747 г. слабада Вялікі Барок (6 дымоў) у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 41 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 13 двароў, 87 жыхароў, у 1816 г. 18 двароў, 145 жыхароў, уладанне Галынскіх. У 1841 г. ў складзе маёнтка Панькі Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1847 г. 24 двары, 204 жыхары, у складзе маёнтка Студзянец. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 26 двароў, 255 жыхароў, у валоданні памешчыка А.Н.Камара. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 466 жыхароў, у Машаўской воласці. У 1909 г. 74 двары, 527 жыхароў. У 1911 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1925 г. ў вясковай школе 70 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 87 двароў. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Велікабродскага с/с. У 1920-х г. функцыяніравала т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. У 1927 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У 1940 г. 122 двары, 444 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. 228 землякоў загінулі на франтах, у памяць аб іх у 1967 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. — 351, у 1970 г. 319 жыхароў. У 1986 г. 85 гаспадарак, 245 жыхароў, цэнтр саўгаса «Зарэчны». Пра-

цавалі машынны двор, базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, 2 сталовыя. У 1994 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары пераселены ў в. Крапіўня. Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. У цэнтры да яе з ПнЗ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы. На паўднёва-зах. ускраіне ўзведзены двухпавярховыя мураваныя 4-кватэрныя дамы. Радзіма нар. пісьменніка Беларусі, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР і літаратурнай прэміі імя А.Фадзеева І.Г.Чыгрынава.



*І.Г.Чыгрынаў.*

**ГАЙКОЎКА** — вёска ў былым Дзяражненскім с/с (да 1989 г.), за 17 км на ПдЗ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 177 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі (паўн.-ўсх. схіл урочышча Печанеж) захавалася паселішча позняга мезаліту (датуецца 5-м тысячагоддзем да н.э.), якое сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло, млын, шляхецкая ўласнасць, у Мсціслаўскім ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. 10 двароў, 67 жыхароў, уладанне касцёла. У 1834 г. 49 жыхароў мужчынскага полу, у складзе казённага маёнтка Ваўчанскае. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 85 жыхароў. Гаспадар аднайменнага маёнтка меў у 1865 г. ў вёсках Гайкоўка, Міхайлава, Янаўка 777 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1870 г. заснавана сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 221 жыхар, у Студзянецкай вол. У 1909 г. 34 двары, 262 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 296, у 1970 г. 184 жыхары. У 1986 г. 40 гаспадарак, 82 жыхары, у складзе саўгаса «Печанеж» (цэнтр — в. Печанеж). Крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі была забудавана пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі. У 1989 г. злілася з в. Печанеж.

**ГАЛАЧОЎКА** — вёска ў Забычанскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 179 км ад Магілёва. На Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вядома з 1722 г. як сяленне ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1727 г. 15 двароў. У 1748 г. пачала дзейнічаць маслабойня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 30 двароў, 103 жыхары, у маёнтку графа Р.А.Пацёмкіна, у 1785 г. 152 жыхары. Прыкладна палову жыхароў складалі стараверы, якія тут пасяліліся. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 174 жыхары, ва ўладанні памешчыка В.І.Галынскага. У 1880 г. 31 двор, 206 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 342 жыхары, у Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Працавала кузня. У 1909 г. 56 двароў, 341 жыхар. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 47 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. Паводле перапісу 1959 г. — 232, у 1970 г. 184 жыхары. У 1986 г. 31 гаспадарка, 72 жыхары, у складзе саўгаса «Забычанне» (цэнтр — пас. Забычанне), працаваў магазін. У 2002 г. 7 гаспадарак, 18 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАР** — пасёлак у Беладубраўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 168 км ад Магілёва. На Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Касцюковічы.

Засн. ў 1920-х г., калі тут, на былых памешчыцкіх землях, пачалі размяшчацца перасяленцы з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса «Кранштат» (цэнтр — в. Вётухна). Кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі была забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ГАРАДОК** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 14 км на У ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 175 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Краснаполле—Хоцімск. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 22 жыхары, уладанне памешчыцы Каменскай. Гаспадар маёнтка, што быў непадалёку, меў у 1871 г. ў вёсках Гарадок і Чарняўка 1998 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны і карчму. Паводле перапісу 1897 г. ў Бярозаўскай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. хутары, 22 двары, 140 жыхароў і фальварак. У былым фальварку ў чэрв. 1918 г. была створана камуна. Калгас «Чырвоны гарадок» арганізаваны ў 1931 г. У 1940 г. 62 двары, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 27 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 37 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). У 2002 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРБАВІЧЫ** — вёска ў Беладубраўскім с/с (да 1997 г.), за 13 км на ПдЗ ад Касцюковіч, і чыг. станцыі Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 168 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 16 ст. Пад 1589 г. пазначана як с. Гарбачэвічы, уласнасць казны. У 1604 г. сяло ў Крычаўскай «дзяржаве». У 1694 г. 18 дымоў. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1713 г. 6 валок зямлі. У 1741 г. 21 дым. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. сяло Грабовічы, 37 двароў, 171 жыхар, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. 190 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. ўладанне памешчыка В.І.Галынскага. У 1834 г. 259 жыхароў. У 1880 г. 77 двароў. Частка вяскоўцаў апрача землябробства займалася кравецкім і бандарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 105 двароў, 769 жыхароў, у Студзянецкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1908 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 113 двароў, 748 жыхароў. У 1923 г. для вясковай школы пабудавана ўласнае памяшканне (у 1925 г. 89 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупацыі. Паводле перапісу 1959 г. — 383, у 1970 г. 294 жыхары, у 1986 г. 84 гаспадаркі, 221 жыхар, у складзе калгаса «Кранштат» (цэнтр — в. Вётухна). Працавалі пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.У 1997 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, жыхары пераселены ў в. Муравілле. Планіровачна складаецца з чатырох паралельных паміж сабой рознай даўжыні вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і забудаваных двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРБАЧОЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 175 км ад Магілёва, на ПнЗ, Пн і ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях, спачатку ў Бялынкавіцкім, а з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім

р-нах. У 1926 г. 9 двароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 67 жыхароў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе саўгаса «Канічы» (цэнтр — в. Канічы). У 2002 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**ГАЎРЫЛЕНКА** — вёска ў Бароньваўскім с/с, за 32 км на Пд ад Касцюковіч, 192 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, на р. Зубар (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 93 гаспадаркі, 252 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. сяло, 10 двароў, 68 жыхароў, царква, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. 15 двароў, 154 жыхары. У 1880 г. 35 двароў, 195 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным і бандарным промысламі. У 1884 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. Меўся піцейны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 39 двароў, 290 жыхароў, млын. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Гаўрыленкаўскага с/с. У 1924 г. пабудавана ўласнае школьнае памяшканне (у 1925 г. 67 вучняў, меўся гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых). У 1926 г. 73 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У 1933 г. пачалі працаваць дзіцячыя яслі. У 1935 г. вёска атрымала электраэнергію ад Бялынкавіцкай гідраэлектрастанцыі. У Вял. Айч. вайну 170 жыхароў з вёсак калгаса імя М.І.Калініна загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у памяць аб якіх у 1980 г. ў скверы пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. — 255, у 1970 г. 225 жыхароў. У 1986 г. 107 гаспадарак, 270 жыхароў, цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Працавалі машынны двор, ветэрынарны пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 2002 г. 120 гаспадарак, 302 жыхары. Працуюць сельскі клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1965 г. Аблміжкалгаспраектам. Аснову планіроўкі складаюць дзве злучаныя паміж сабой крывалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. На ПдУ адасоблены ўчастак вёскі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У аднапавярховыя двухкватэрныя мураваныя дамы. Помнік архітэктуры — Свята-Пакроўская царква (2-я пал. 19 ст.).

**ГЕРАНІМАЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Касцюковіч, 8 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 181 км ад Магілёва, на З, Пд і У мяжуе з лесам. На Пн, З і У каналы, злучаныя з р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

У 1846 г. цэнтр маёнтка, 3 двары, 8 жыхароў, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 28 жыхароў, у валоданні памешчыка А.Е.Судзілоўскага. Паводле перапісу ў 1897 г. пазначана як в. Геранімаўка (яна ж Кісялёўка), 13 двароў, 101 жыхар, у Касцюковіцкай вол. Побач быў аднайменны фальварак — 1 двор, 9 жыхароў. У час 1-й рас. рэвалюцыі 2.1.1906 г. сяляне спалілі ў маёнтку адну пабудову. У 1918 г. адкрыта школа і пабудавана для яе памяшканне (у 1925 г. 42 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1937 г. ўзведзена новае памяшканне для школы. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вёска вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2000 г. 4 гаспадаркі, 5

жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГЛЫБОКАЕ** — пасёлак у Беладубраўскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 165 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Касцюковічы—Саматэвічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. 5 двароў, 38 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 97 жыхароў. У 1986 г. 9 двароў, 19 жыхароў. У 2002 г. пасёлак, 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна». Кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ГУМНІЦКАЕ** — вёска ў Забычанскім с/с (да 1999 г.), за 5 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 163 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска, уласнасць казны, у Крычаўскім старостве. З 1753 г. дзейнічала маслабойня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 14 двароў, у маёнтку графа Р.А.Пацёмкіна. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 71 жыхар, уладанне памешчыка С.Л.Майтвіда. У 1880 г. 27 двароў, 129 жыхароў. 10 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся вырабам быт. рэчаў з лыка і кары, а таксама адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 180 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Побач быў аднайменны фальварак — 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 33 двары, 235 жыхароў, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 132, у 1970 г. 103 жыхары. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 71 жыхар, у складзе саўгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Нізькі). Працаваў магазін. У 1993 г. вёска перастала існаваць у сувязі з будаўніцтвам Бел. цэментнага з-да. Прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі была забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Побач залежы мергелю.

**ГУТКА** — вёска ў Бароньскаўскім с/с (да 1994 г.), за 36 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 21 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 197 км ад Магілёва. На ПдУ меліярацыйны канал, злучаны з р. Беседзь. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (18 сямей) пераселены ў в. Крапіўня.

У 1834 г. фальварак, 3 двары, 18 жыхароў, уладанне памешчыкаў Сурыновічаў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. вёска, 33 жыхары, у валоданні памешчыцы М.Антонавай. Гаспадар маёнтка, што быў побач, меў у 1864 г. 140 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 97 жыхароў, у Машаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 14 двароў, 100 жыхароў. У 1920-х г. вёска Гутка 1 (у 1926 г. 18 двароў) і хутар Гутка 2 (у 1926 г. 2 двары). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 94, у 1970 г. 82 жыхары. У 1986 г. 18 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Планіроўвачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. хатамі. На ўсх. ускраіне — адасоблены ўчастак забудовы.

**ДВОРАЦКАЯ БУДА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Касцюковіч, 15 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 190 км ад Магілё-

ва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. вёска, 8 двароў. У 1909 г. 41 жыхар, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 34 двары. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 233, у 1970 г. 182 жыхары. У 1986 г. 28 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае), працаваў магазін. У 2002 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў. Крывалінейная кароткая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЯМІДАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дзямідавіцкага с/с і СВК «Дзямідавіцкі», за 12 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 172 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Краснаполле—Хоцімск. 103 гаспадаркі, 297 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1712 г. 4 дымы, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1747 г. 17 двароў, уласнасць казны, пасесія. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 6 двароў, 28 жыхароў, у маёнтку графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. 53 жыхары, у 1799 г. 11 двароў, 73 жыхары, у 1816 г. 20 двароў, 164 жыхары, уладанне памешчыка Ю.І.Галынскага. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 32 двары, 214 жыхароў, уладанне І.І.Цеханавецкага. У 1855 г. ў в. Дзямідавічы, Касцюковічы, Канічы, Вішанькі, Малінаўка памешчык меў 6027 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 2 сукнавальні, піцейны дом, 2 карчмы, 94 крамы, вінакурны з-д. У 1880 г. 49 двароў, 250 жыхароў. 22 вяскоўцы займаліся адыходным промыслам. Пажар 1893 г. прынёс вёсцы страт на 6880 рублёў. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 360 жыхароў, у Бярозаўскай вол. Клімавіцкага павета. Меўся хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак — 1 двор, 7 жыхароў. У 1-ю рус. рэвалюцыю сяляне 2—3.1.1906 г. разгрямілі маёнтак. У 1909 г. ў сяле 52 двары, 406 жыхароў, у маёнтку — 21 жыхар. У былым маёнтку ў чэрв. 1919 г. створана с.-г. арцель «Чырвоная звязда», а ў крас. 1920 г. — с.-г. т-ва «Ручай». У 1920 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. Дзейнічала т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможац». У канцы 1930-х г. ў вёсцы жылі перасяленцы з суседняга хутара Пятроўка. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1977 г. далучана в. Паўлаўка. У 1986 г. ў складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). Працавалі машынны двор, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 2002 г. 106 гаспадарак, 303 жыхары. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1982 г. Магілёўграмадзянпраектам. Працуюць базавая школа, аддзяленне сувязі, Дом ультуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Дугападобная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў цэнтр. частцы вёскі сярод жылой забудовы. На ПнЗ 12 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. Радзіма Героя Сац. Працы П.П. Кандрашова.

У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Дзямідавіцкага с/с былі вёскі Тупічын 2, Рэспубліка, Зацішша, Аляксандраўск, Вялікая Мухаўка, Малая Мухаўка, Паўлаўка, 13-ы Кастрычнік, Кульгаеўка, Кулыгі, пас. Чырвоны Сцяг (зараз не існуюць).

**ДЗЯРАЖНЯ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 172 км ад Магілёва, на р.

Дзяражня (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Краснаполле—Хоцімск. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (231 сям'я) перaсeлены ў чыстыя мясцовасці. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Дзяражня, захавалася старaж. гарадзішча, за 2 км на ПдУ ад вёскі — старaж. курганны могільнік (9 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска ўпершыню ўпамінаецца пад 1777 г. як в. Дзяражна ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1816 г. 8 двароў, 66 жыхароў, ва ўладанні памешчыка В.І.Галынскага. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 116 жыхароў, уладанне памешчыка А.І.Камара. У 1852 г. засн. сукнавальня. У 1880 г. 27 двароў, 237 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, вадзяны млын, карчма, царква, у Студзянецкай вол. Чэрыкаўскага павета. У пач. 20 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1907 г. 30 вучняў). У 1909 г. 238 жыхароў, казённая вінная крама. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 5.12.1931 г. цэнтр Дзяражненскага с/с. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 336, у 1970 г. 290 жыхароў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Печанеж» (цэнтр — в. Печанеж). Працавалі Дзяражненскае лясніцтва, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ, забудавана двухбакова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтр. частцы вёскі сярод жылой забудовы размяшчаліся грамадскія будынкі.

**ДЗЯРЖЫННЕ** — пасёлак у Бароньkаўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 21 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 198 км ад Магілёва, вакол лес. На Пн выцякае ручай Машоўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Засн. ў 1920-х г. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Сядзіба драўляная, каля прасёлачнай дарогі.

**ДОЎГІ ЛОГ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 16 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 176 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска (13 двароў) у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. ў вёсцы 22 двары, 131 жыхар, у аднайменным фальварку — 1 двор, 39 жыхароў. Памешчык меў тут і ў суседніх вёсках у 1864 г. 2000 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, сукнавальню і карчму. З 1895 г. дзейнічаў вінакурны з-д (4 рабочыя). У 1919 г. ў фальварку створана камуна «Чырвоны Кранштат». З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 258, у 1970 г. 186 жыхароў, у 1986 г. 42 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе калгаса «Кранштат», працаваў магазін. Гал. вуліца шыротнай арыентацыі праходзіць паралельна аўтадарозе. Да яе перпендыкулярна з Пн далучаюцца тры кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Бароньkаўскім с/с, за 31 км на Пд ад Касцюковіч, 15 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 189 км ад Магілёва, на З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска, у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 6 двароў, 45 жыхароў, у маёнтку графа Р.А. Пацёмкіна. У 1785 г. 7 двароў, 56 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. 33 жыхары мужчынскага полу, у валоданні памешчыка І.О.Галынскага. У 1846 г. ў складзе маёнтка Панькі Клімавіцкага павета, а ў 1847 г. ў складзе маёнтка Студзянец. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 86 жыхароў, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 52 жыхары, у 1986 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Машавое), працаваў магазін. У 2002 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў. Забудавана няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Забычанскім с/с (да 1993 г.), за 32 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 191 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 18 ст. У 1779 г. вёска, 5 двароў, 47 жыхароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна, у Крычаўскім старостве. У 1785 г. 9 двароў, 68 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце, у 1850 г. 16 двароў, 60 жыхароў мужчынскага полу, у Клімавіцкім павеце. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 304 жыхары, млын, у Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 53 двары, 38 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 301, у 1970 г. 559 жыхароў, у 1986 г. 51 гаспадарка, 120 жыхароў, у складзе саўгаса «Брацкі» (цэнтр — в. Брацькавічы), працаваў магазін. У 1993 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена. Гал. дугападобная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе ў цэнтры далучаецца з З кароткая крываліне́йная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБЯЕЦ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 15 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 171 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 17 ст. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1694 г. 4 дымы, 2 валокі зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1789 г. 21 двор, 121 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 469 жыхароў, у Студзянецкай вол. У 1909 г. 79 двароў, 538 жыхароў, царк.-прыходская школа. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. Калгас імя Камінтэрна, які быў створаны ў вёсцы, аб'ядноўваў у 1931 г. 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 284, у 1970 г. 203 жыхары, у 1986 г. 55 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе калгаса «Кранштат» (цэнтр — в. Вётухна), працаваў магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖАБЫКІ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 6 км на ПдУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 165 км ад Магілёва. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1857 г. слабодка Ігнатаўка (яна ж Жабыкі), 30 жыхароў, у валоданні памешчыка А.М.Дзянісава, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 107 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. У 1909 г. 17 двароў, 157

жыхароў, школа, якая ў 1920-х г. ператворана ў 4-гадовую (у 1924 г. 78 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 12.4.1942 г. з групы ваеннаслужачых, якія не змаглі выйсці з акружэння, і мясц. жыхароў быў створаны партыз. атрад «За Савецкую Беларусь». Вызвалена 30.9.1943 г. войскамі Бранскага фронту. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Канічы» (цэнтр — в. Канічы). У 2002 г. 10 гаспадарак, 23 жыхары. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза У.А.Скугара.

**ЖАРКІ** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 195 км ад Магілёва, на р. Свінка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 1727 г., калі ў паселішчы былі 3 двары, уваходзіла ў Крычаўскае староства Мсціслаўскага ваяв., уласнасць казны. У 1747 г. 11 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 21 двор, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. ўладанне І.М.Цеханавецкага. У 1858 г. 88 жыхароў, ва ўладанні памешчыка Беліковіча. У 1880 г. 156 жыхароў. 10 вяскоўцаў займаліся перавозным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 262 жыхары, 3 крамы, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 5 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 287 жыхароў, у фальварку — 3 жыхары. У 1913 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 40 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1940 г. 63 двары, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 60 двароў. У 1975 г. далучана в. Будзішча. Вызвалена вёска 30.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 167, у 1970 г. 140 жыхароў. У 1986 г. 62 гаспадаркі, 205 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Працавалі пач. школа, клуб, магазін. У 2002 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары. Рака падзяляе вёску на паўночна-ўсх. і паўд.-заходнюю часткі. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУКАЎКА** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 33 км на Пд ад Касцюковіч, 20 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва. Каля вёскі пачынаецца р. Зубар (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2007).



*У.А.Скугар.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 7 двароў, 33 жыхары, у Крычаўскім старостве, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. 72 жыхары. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 11 двароў, 78 жыхароў, ва ўладанні Жукоўскіх. У 1858 г. 16 двароў, 134 жыхары, ва ўладанні памешчыка Арцімовіча. У 1880 г. вёска Жукаўка (яна ж Карастоўка), 32 двары, 192 жыхары. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася колавым промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 332 жыхары, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета. У 1905 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1912 г. для яе ўзведзены ўласны будынак. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 48 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 55 двароў. Дзейнічала т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі (22 гаспадаркі), а затым арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 193 жыхары, у 1986 г. 30 гаспадарак, 82 жыхары, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Гаўрыленка), працаваў магазін. У 2002 г. 24 гаспадаркі, 53 жыхары. Кароткая крывалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на

ПнЗ і забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУРБІН** — вёска і чыг. ст. на лініі Крычаў—Сураж, у Сялецкім с/с, за 27 км на ПдУ ад Касцюковіч, 188 км ад Магілёва, на р. Грэбля (прыток р. Зубар). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 52 гаспадаркі, 31 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Меліся вінакурня і шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 14 двароў, 98 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1734 г. 34 двары, 186 жыхароў, уладанне І.І.Цеханавецкага. У 1858 г. 131 жыхар мужчынскага полу, у Клімавіцкім павеце. У 1880 г. 63 двары, 391 жыхар. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары, а таксама бандарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 91 двор, 605 жыхароў, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета. У пач. 20 ст. адкрыты нар. вучылішча (у 1907 г. 58 вучняў), казённая вінная крама. У 1909 г. 116 двароў, 791 жыхар, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа, для якой у 1930 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1926 г. 137 двароў. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 549, у 1970 г. 495 жыхароў. У 1986 г. 110 гаспадарак, 255 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае). Працавалі пач. школа, б-ка, клуб, магазін. У 2002 г. 60 гаспадарак, 116 жыхароў. Ад прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, адыходзяць на ПдЗ тры другарадныя вуліцы з завулкамі. На ПдЗ чыг. станцыя. Забудавана вёска пераважна двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУРБІНСКАЯ БУДА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 39 км на ПдУ ад Касцюковіч, 7 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 19 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

У 1857 г. пазначана як в. Буда Журбінская, у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 41 двор, 211 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных быт. драўляных рэчаў і посуду. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 381 жыхар, у Бялынкавіцкай вол. У 1909 г. 70 двароў, 513 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 30.9. 1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 273, у 1970 г. 218 жыхароў. У 1986 г. 41 гаспадарка, 91 жыхар, у складзе саўгаса «Смольскі» (цэнтр — в. Смолькі). Працавалі б-ка, магазін. У 2002 г. 27 гаспадарак, 45 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБЫЧАННЕ** — пасёлак, цэнтр Забычанскага с/с, за 19 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 160 км ад Магілёва, на р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 154 гаспадаркі, 390 жыхароў (2007).

Вядомы з 16 ст. як паселішча ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1527 г. Крычаў і мястэчкі Мілаславічы, Хоцімск, Забычанск і Студзянец былі аб'яўлены староствамі. Паводле інвентару Крычаўскага старостваа 1713 г. 3 дымы, 2 валокі зямлі. Затым сяло ў Крычаўскай вол., уласнасць казны. У 1727 г. ў Крычаўскім старостве ВКЛ. У сярэдзіне 18 ст. сяльчане ўдзельнічалі ў паўстанні пад кіраўніцтвам В.М.Вашчылы. У сяле знаходзіўся цэнтр паўстання, дзе на барацьбу супраць прыгнятальнікаў уздымаў народ паплечнік В.М.Вашчылы Стэся (Стась Папетышак, па іншых крыніцах Папялышка). У лютым 1744 г. стачка жорстка падаўлена

войскам кн. І.Радзівіла. У 1747 г. 10 двароў, царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, 34 двары, 173 жыхары. У 1779 г. 47 двароў, 208 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце. З 1798 г. ва ўладанні адстаўнога палкоўніка М.О.Галынскага, з 1813 г. належыла стацкаму саветніку В.І.Галынскаму. У 1858 г. 52 двары, 275 жыхароў, уладанне А.І.Камара. У 1865 г. заснавана вінакурня (у 1895 г. 12 рабочых), дзейнічала паравая машына. Гаспадар маёнтка валодаў у 1837 г. 1149 дзес. зямлі, вадзяным млыном, 2 корчмамі, 2 крамамі. У 1880 г. працавала сукнавальня. Мелася школа граматы (у 1893 г. 17 вучняў). У канцы 19 — пач. 20 ст. замест спарахнелай драўлянай пабудавана мураваная царква (помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі неаготыкі). У час 1-й рас. рэвалюцыі 1905—07 гг. 30.12.1905 г. натоўп сялян (каля 600 чал.) спыніў работу памешчыцкай вінакурні, адбыліся сутычкі з паліцыяй, у выніку якіх ахоўнік быў забіты, а паліцэйскія абяззброены. У 1909 г. — 322, у фальварку 65 жыхароў, 3 разы на год праводзіліся кірмашы. У 1923 г. створаны саўгас «Забычанне», які ў 1925 г. меў 669,7 га зямлі, уваходзіў у Віцебскі малочнапрам. трэст, а ў 1931 г. на яго палях працавалі 3 трактары. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. На базе саўгаса ў 1937 г. створана МТС (рэарганізавана 31.3.1958 г.), якая ў 1938 г. мела 13 трактароў. У 1933 г. пачалі функцыяніраваць дзіцячыя яслі, у 1935 г. ад Бялынкавіцкай гідраэлектрастанцыі вёска атрымала электраэнергію. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 470 жыхароў, у 1986 г. 82 гаспадаркі, 178 жыхароў, цэнтр саўгаса «Забычанне». Працавалі машынны двор, сярэдняя школа, б-ка, участковая бальніца, аптэка, Дом культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 магазіны, аддз. сувязі, 2 сталовыя, дзіцячы сад-яслі, грамадская лазня, 8 спарт. пляцовак. У 2002 г. 174 гаспадаркі, 445 жыхароў. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1980 г. Магілёўграмадзянпраектам. Рака падзяляе вёску на зах. (крывалінейная вуліца з завулкамі амаль мерыдыянальнай арыентацыі) і ўсходнюю (Г-падобная планіроўка) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў цэнтры ўсх. часткі. Тут жа ўзведзены 12 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў.

У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Забычанскага с/с былі вёскі Мая, Гарадок, пасёлкі Негін, Чырвоная Іскра (не існуюць).

**ЗАБЫЧАННЕ** — пасёлак у Забычанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Касцю-





*Царква ў в. Забычанне: агульны выгляд і фрагмент.*

ковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 165 км ад Магілёва, на паўн. ускраіне — сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1712 г. 4 дымы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 10 двароў, у Чэрыкаўскім павеце. У 1816 г. 18 двароў, 86 жыхароў, уласнасць памешчыка М.О.Галынскага. У 1827 г. 170 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. ў сяле і фальварку 25 двароў, 145 жыхароў, ва ўладанні памешчыка А.І.Камара, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 38 двароў, 276 жыхароў, царква і малітоўны дом. У 1897 г. 56 двароў, 367 жыхароў, крупадзёрка, 6 крам, піцейны дом, царква, малітоўны дом. Штогод 29 чэрв. праводзіўся кірмаш. У 1898 г. адкрыта царк.-прыходская школа, замест якой у пач. 1920-х г. створана 4-гадовая (у 1925 г. 83 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 470, у 1970 г. 309 жыхароў. У 1986 г. 97 гаспадарак, 293 жыхары, у складзе саўгаса «Забычанне» (цэнтр — пас. Забычанне). Крывалінейная вуліца з завулкамі арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ЗАЗУБЕР'Е** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Касцюковіч, 4 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 179 км ад Магілёва, на ПнУ р. Зубар (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 13 двароў. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2002 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 176 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 17 двароў. Паводле перапісу 1959 г. — 189, у 1970 г. 163 жыхары. У 1986 г. 59 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе саўгаса «Канічы» (цэнтр — в. Канічы). У 2002 г. 59 гаспадарак, 104 жыхары. Складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Бароньkаўскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 33 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 200 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (32 сям'і) пераселены ў чыстыя мясцовасці.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 227, у 1970 г. 162 жыхары. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 70 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор), меўся магазін. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач залежы мелу.

**ЗАЦІШША** (да 1965 г. Панькі) — вёска ў Бароньгаўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 13 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва, працякае ручай Машоўка (прыток р. Беседзь), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Бялынкавічы—Сураж.

Вядома з 1604 г. як с. Панькі Крычаўскай «дзяржавы», уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 9 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 14 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1940 г. 33 двары, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. акупанты спалілі вёску і загубілі 37 жыхароў. 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 131, у 1970 г. 87 жыхароў. У 1986 г. 18 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЦІШША** — пасёлак у Пралетарскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 150 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам і працякае безымянны ручай (прыток р. Сураў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІВАНАЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Касцюковіч, 7 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на р. Зубар (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 14 двароў. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў, у 1986 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2002 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі. Радзіма пісьменніка А.У.Пісьмянкова.



*А.У.Пісьмянкоў.*

**ІВАНАЎКА** (да 1935 г. Мізірычы) — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 9 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, працякае безымянны ручай (прыток р. Сураў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1850 г. сяло ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. згадваецца як в. Іванаўка (яна ж Мізірычы), 13 двароў, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ІЗБУЖАР** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 162 км ад Магілёва, на аўтадарозе Касцюковічы—Саматэвічы. На Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). 27 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. 8 двароў, 64 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Кас-

цюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары, у 1986 г. 45 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна» (цэнтр — былая в. Слабада), працаваў магазін. У 2002 г. 32 гаспадаркі, 66 жыхароў. Складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак аўтадарогі), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАВЫЧЫЦЫ** — вёска ў Бароньказскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва, працякае ручай Машоўка (прыток р. Беседзь), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 27 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1668 г. сяло ў Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Паводле інвентару 1709 г. 5 дымоў, 2 валокі зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 19 двароў, 149 жыхароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна, у 1916 г. 35 двароў, 209 жыхароў, уладанне памешчыка Галынскага. У 1847 г. 38 двароў, у складзе маёнтка Студзянец. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 269 жыхароў, ва ўладанні памешчыка А.Н.Камара. У 1880 г. 54 двары, 371 жыхар. 5 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся калёсным, бандарным і кавальскім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 72 двары, 510 жыхароў, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета. У 1898 г. адкрыта школа, для якой праз год пабудавана ўласнае памяшканне, а ў пач. 1920-х гг. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 58 вучняў). 19.8.1923 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1928 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У 1940 г. 85 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў лютым 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 24 жыхароў. 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 215 жыхароў. У 1975 г. далучана в. Гарадок (у 1970 г. 144 жыхары). У 1986 г. 110 гаспадарак, 285 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор), працавалі пач. школа, магазін. У 2002 г. 41 гаспадарка, 64 жыхары. Планіровачна складаецца з дзвюх крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛАСОЎКА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Касцюковіч, 13 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 195 км ад Магілёва, на р. Трасцянка (прыток р. Беседзь), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 157 жыхароў, у 1986 г. 23 гаспадаркі, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае), працаваў магазін. У 2002 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**КАЛОДЗЕЗКІ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 143 км ад Магілёва, на р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 27 двароў, 230 жыхароў, у 1811 г. 47 двароў, у Клімавіцкім павеце, уладанне памешчыка М.Ф.Падкоўскага. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася кавальскім, адыход-

ным і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 402 жыхары, хлебазапасны магазін, у Раднянскай вол. У 1909 г. 63 двары, 437 жыхароў, млын. У 1912 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У пач. 1920-х г. была створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 53 вучні). У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 201, у 1970 г. 158 жыхароў. У 1986 г. 29 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары), працаваў магазін. У 2002 г. 16 гаспадарак, 38 жыхароў. Складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, забудаваных рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛОДЗЕЦКАЯ** — вёска ў Забычанскім с/с (да 1997 г.), за 23 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 182 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь) і аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

За 1,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Дзяражня, захаваўся курганны могільнік (4 насыпы) эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. згадваецца як в. Калодзеск, у Чэрыкаўскім павеце. У 1779 г. 32 двары, 199 жыхароў, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 465 жыхароў, уладанне памешчыка А.І.Камара. У 1885 г. 93 двары, млын, заезны двор, у Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1897 г. 150 двароў, 973 жыхары, вадзяны млын, школа граматы, крама, піцейны дом. У 1909 г. 159 двароў, 1234 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 120 вучняў). У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. 100 землякоў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у памяць аб іх у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. 648, у 1970 г. 214 жыхароў. У 1986 г. 163 гаспадаркі, 374 жыхары, у складзе саўгаса «Брацкі» (цэнтр — в. Брацькавічы), працавалі пач. школа, б-ка, клуб, магазін. У 1997 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, жыхары перасалены ў в. Шарэйкі. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, падзеленых ручаём і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛОДЛІВА** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 23 км на Пд ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў — Сураж, 170 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Беседзь, захаваўся курганны могільнік (6 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 1747 г. як Калодз'ева, 9 двароў, меліся карчма і млын, уласнасць казны, у Крычаўскім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 38 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 43 жыхары, у Клімавіцкім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 17 сямей, 123 жыхары, у валоданні В.І.Галынскага. У 1847 г. 26 двароў, 172 жыхары, у складзе маёнтка Студзянец Чэрыкаўскага павета. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 32 двары, 203 жыхары, ва ўладанні памешчыка А.Н.Камара. У 1865 г. заснавана гарбарня. У 1880 г. 45 двароў, 249 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 560 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. У 1902 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 53 двары, 416 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 58 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924

г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Дуброва» (цэнтр — в. Белая Дуброва), працавалі б-ка, клуб, магазін. У 2002 г. 42 гаспадаркі, 72 жыхары. Планіроўка крыжападобная. Больш працяглася вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**КАМЕНКА** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 29 км на Пд ад Касцюковіч, 15 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 189 км ад Магілёва, на ПнУ і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 20 двароў. У 1940 г. 30 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў лютым 1943 г. поўнасцю спалілі пасёлак. Вызвалены 29.9.1943 г. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Бароньki» (цэнтр — в. Бароньki), працаваў магазін. У 2002 г. вёска, 11 гаспадарак, 19 жыхароў. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**КАМЕНЬ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за10 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 150 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. вёска, 6 гаспадарак, 7 жыхароў. Забудавана рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАНІЧЫ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Касцюковіч, 9 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 175 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 153 гаспадаркі, 366 жыхароў (2007).

За 2 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Беседзь, захавалася гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 1594 г. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. сяло, адкрыта царква. У 1768 г. сяло і маёнтак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. мястэчка, 154 жыхары. Пазначана ў рэвізскіх матэрыялах 1811 г. У маёнтку дзейнічала прадпрыемства па вырабе сукна (да 1832 г.). У 1834 г. цэнтр маёнтка К.Р.Цеханавецкай, мястэчка (50 двароў, 206 жыхароў) і сяло (69 двароў, 380 жыхароў). У 1848 г. 142 двары, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 2 драўляныя царквы, мураваны касцёл. З 1872 г. працавала сукнавальня. У 1880 г. 902 жыхары. Апрача земляробства 37 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1893 г. сяляне самавольна пасвілі сваю жывёлу на памешчыцкіх лугах, захапілі млын і сукнавальню, аказалі супраціўленне ўладам, пры праверцы межаў землекарыстання. 3—4.1.1893 г. вяскоўцы разграмілі маёнтак і забралі памешчыцкае збожжа. У 2-й пал. 19 ст. на паўд. ускраіне замест састарэлай пабудавана новая царква (помнік драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму). Дзейнічала школа граматы (у 1893 г. 20 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. мястэчка, 54 двары, 419 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. піцейны дом, царква, аднайменнае сяло — 19 двароў, 864 жыхары і фальварак — 2 двары, 32 жыхары, вінакурны з-д, вадзяны млын, сукнавальня). На ўсх. ускраіне ў пач. 20 ст. пабудаваны мураваны касцёл

(помнік архітэктуры з рысамі барока). У студз. 1906 г. сяляне разграмілі маёнтак. У 1909 г. ў мястэчку і сяле 204 двары, двухкласная царк.-прыходская школа, нар. вучылішча, казённая вінная крама, у фальварку — 48 жыхароў. У 1914 г. на паўд. ускраіне пабудаваны з цэглы бровар (зараз помнік грамадз. архітэктуры з рысамі неабарока). У былым маёнтку ў 1918 г. пачала працаваць с.-г. школа, якая выпускала пам. аграномаў (да 1924 г. 3 выпускі). У 1921 г. створана сельскагаспадарчае, 28.1.1923 г. — закупачна-збытавое, 4.5.1923 г. — меліярацыйнае т-вы. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 161 вучань). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. Дзейнічалі хата-чытальня і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 227 двароў. Саўгас, які быў арганізаваны ў вёсцы, уваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст. У 1933—34 гг. палітаддзел саўгаса выдаваў шматтыражную газ. «Саўгасная іскра» (№ 1 выйшаў 24.9.1933 г.), у 1933 г. арганізаваў дзіцячую пляцоўку і яслі. Вёска ў 1934 г. атрымала тэлеф. сувязь, у 1935 г. — электраэнергію ад электрастанцыі на р. Беседзь у в. Бялынкавічы. У Вял. Айч. вайну 12.4.1942 г. з групы ваеннаслужачых, якія не змаглі выйсці з акружэння, а таксама жыхароў в. Канічы і іншых створаны партыз. атрад «За Савецкую Беларусь». У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 9 сав. воінаў і 12 вяскоўцаў, загубленых гітлераўцамі. Вызвалена 29.9.1943 г. 145 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у памяць аб якіх у 1957 г. ў скверы пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. — 714, у 1970 г. 513 жыхароў. У 1986 г. 151 гаспадарка, 276 жыхароў, цэнтр саўгаса «Канічы». Працавалі машынны двор, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 сталовыя, 2 магазіна, аддз. сувязі, грамадская лазня, дзіцячы сад-яслі, 3 спарт. пляцоўкі. У 2002 г. 186 гаспадарак, 441 жыхар. Працуюць базавая школа, аддз. сувязі, сельскі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1972 г. Магілёўскім філіялам Белдзяржпраекта. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы. Радзіма бел. пісьменніка В.Ф.Хомчанкі (1918—92).

За 0,5 км на Пн і ПнУ ад вёскі размешчана Прашчава-Каніцкае радовішча мелу (перспектыўныя запасы 2,08 млн. т), на ПдУ — радовішча пяскоў (перспектыўныя запасы 648 тыс. $м^3$).





*Будынак бровара ў в. Канічы: агульны выгляд і фрагмент.*

**КАРАБАНАВА** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 4 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 157 км ад Магілёва, на р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 25 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Вядома з пач. 19 ст. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. 39 жыхароў мужчынскага полу, у складзе маёнтка Касцюковічы, уладанне І.М.Цеханавецкага. У 1834 г. 14 двароў, 83 жыхары. У 1880 г. 136 жыхароў. Апрача земляробства 5 вяскоўцаў займаліся вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, а таксама адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 264 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Побач быў аднайменны пасёлак —1 двор, 2 жыхары. У 1909 г. 32 двары, 267 жыхароў. У 1922 г. на свае сродкі вяскоўцы адкрылі школу (у 1925 г. 34 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. 29.9. 1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 157, у 1970 г. 112 жыхароў. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 86 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Пралетарскае). У 2002 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КІСЯЛЁЎКА** (да 1938 г. Слабодка) — вёска ў былым Саматэвіцкім с/с (да 1994 г.), за 28 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва, на р. Чарняўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы.

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. згадваецца як в. Слабада, у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., і сяльцо — 25 двароў, 188 жыхароў, уладанне памешчыка. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. ў валоданні памешчыкаў Ільінічаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Кісялёўцы 1 (яна ж Слабодка) 54 двары, 470 жыхароў, школа граматы, піцейны дом, у Кісялёўцы 2 (яна ж Слабодка) 39 двароў, 413 жыхароў. Побач існавалі фальваркі Кісялёўка 1 (1 двор, 7 жыхароў, вадзяны млын) і Кісялёўка 2 (1 двор, 3 жыхары, вадзяны млын). У студз. 1906 г. сяляне разграмілі памешчыцкі маёнтак. У 1909 г. ў в. Кісялёўка 1 — 62 двары, 321 жыхар, у в. Кісялёўка 2 — 45 двароў, 306 жыхароў, у фальварку — 2 двары, 20 жыхароў. У 1909 г. адкрыта школа, якой у 1917 г. быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 73 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 12 воінаў 269-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баі каля вёскі. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 364, у 1970 г. 289 жыхароў. У 1986 г. 79 гаспадарак, 194 жыхары, у складзе саўгаса «Саматэвічы» (цэнтр — в. Саматэвічы) працаваў магазін. Рака падзяляе вёску на зах. (крывалінейная мерыдыянальнай арыентацыі і прамалінейная шыротнай арыентацыі вуліцы) і ўсходнюю (крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Побач залежы гліны.

**КІСЯЛІ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Касцюковіч, 5 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на р. Грэбля (прыток р. Зубар), на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Крычаў—Сураж. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 10 двароў, 51 жыхар, уладанне памешчыка. У 1909 г. ў Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 15 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле

перапісу 1959 г. — 124, у 1970 г. 84 жыхары. У 1986 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2002 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў. Кароткая крывалінейная вуліца ўздоўж ракі забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**КЛЕТКІ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. На ПнЗ штучная сажалка, на ПнУ меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарняўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы.

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. 14 двароў, 92 жыхары. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 117 жыхароў. Памешчык меў тут у 1868 г. 140 дзес. зямлі. У 1909 г. 19 двароў, 162 жыхары, у Саматэвіцкай вол. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 347 жыхароў, у 1986 г. 63 гаспадаркі, 143 жыхары, у складзе саўгаса «Дуброва» (цэнтр — в. Белая Дуброва). Працавалі клуб, б-ка, магазін. У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі большасць жыхароў адселена ў в. Белая Дуброва. У 2002 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў. Планіроўка прамавугольная. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**КЛЕЯВІЧЫ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 177 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на поплаву берага р. Беседзь, ва ўрочышчы Гарадок, захаваліся рэшткі гарадзішча — 2 валы і край пляцоўкі, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 1762 г. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. згадваецца як с. Клевічы ў Чэрыкаўскім павеце. У 1799 г. 42 двары, 240 жыхароў, уладанне памешчыка. У 1858 г. 252 жыхары. У 1880 г. 55 двароў, 274 жыхары. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася кравецкім і бандарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 92 двары, 721 жыхар, у Саматэвіцкай вол. Клімавіцкага павета. У 1910 г. адкрыта нар. вучылішча. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа, для якой у 1930 г. пабудавана ўласнае памяшканне. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 676, у 1970 г. 406 жыхароў. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 118 жыхароў, у складзе саўгаса «Дуброва» (цэнтр — в. Белая Дуброва). У 2002 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Побач залежы пяскоў.



*Вышыўка з в. Клеявічы Касцюковіцкага раёна. 1900-я г.*

**КЛЕЯВІЧЫ 2** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 19 км ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 177 км ад Магілёва, на ПдУ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па

прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы.

Засн. ў пач. 1920-х г. у выніку выдзялення часткі забудовы з в. Клеявічы. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 88 гаспадарак, 236 жыхароў, у складзе саўгаса «Дуброва» (цэнтр — в. Белая Дуброва), працаваў магазін. Планіровачна склалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**КРАПІЎНЯ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 179 км ад Магілёва, на р. Трасцянка (прыток р. Беседзь), на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 143 гаспадаркі, 374 жыхары (2007). Пабудавана побач з в. Вял. Крапіўня у 1991—92 гг. для жыхароў населеных пунктаў, якія пацярпелі ад радыёактыўнага забруджвання ў выніку аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Сюды былі пераселены жыхары вёсак Вял. Бор, Гутка, Зарэчча, Мокрае, Мамонаўка і пас. Ленінскі. У сяр. 2000-х г. на базе вёскі ўтвораны аграгарадок. Працуюць сельскі клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва.



*Жылая забудова ў аграгарадку Крапіўня.*



*Фельчарска-акушэрскі пункт аграгарадка Крапіўня.*

**КРАСНАМАСКОЎСКІ** — пасёлак у Беладубраўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 187 км ад Магілёва, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (6 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Саматэвічы» (цэнтр — в. Саматэвічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЯ ЗВЯЗДА** (да 1951 г. Каўшоўка) — пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, за 12 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 170 км ад Магілёва, на ПдУ р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1940 г. 22 двары, 28 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 20 двароў. Пасёлак вызвалены 29.9.1943 г. У 1986 г. 13 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). У 2002 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў. Забудаваны драўлянымі сял. хатамі.



Аграгарадок Крапіўня.

**КРАСНІЦА** — вёска ў былым Дзяражненскім с/с, 16 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 176 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 18 ст. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1709 г. 5 дымоў, 2 валокі зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. вёска, у Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1779 г. 21 двор, 131 жыхар. У 1816 г. 35 двароў, 183 жыхары, у Чэрыкаўскім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 267 жыхароў, ва ўладанні памешчыка А.І.Камара. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 514 жыхароў, у 1909 г. 103 двары, 618 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне (у 1925 г. 60 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1940 г. 180 двароў, 720 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 157 двароў. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 620, у 1970 г. 516 жыхароў. У 1986 г. 135 гаспадарак, 535 жыхароў, у складзе саўгаса «Печанеж» (цэнтр — в. Печанеж), працаваў магазін. Была далучана да в. Дзяражня. Планіроўка прамавугольная. Вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ** — пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, за 6 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 166 км ад Магілёва. На У меліярацыйны канал, злучаны з р. Сураў (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Краснаполле—Хоцімск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1926 г. 12 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 20 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Прусіна). У 2002 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

Будынкі сельскіх цэнтра культуры і бібліятэкі ў аграгарадку Крапіўня.



**КРУПНЯ** — вёска ў Забычанскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 150 км ад Магілёва, на р. Крупнянка (прыток р. Альшанка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 27 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Вядома з 1756 г. як вёска ў Мушынскім войтаўстве Крычаўскага староства, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 18 двароў, 119 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 20 двароў, 133 жыхары, у валоданні памешчыкаў Галынскіх і Жукоўскіх. У 1858 г. 31 двор, 219 жыхароў, у валоданні памешчыка А.І.Камара, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 48 двароў, 252 жыхары. Апрача земляробства 16 вяскоўцаў займаліся вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, а таксама адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 480 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 309, у 1970 г. 261 жыхар. У 1986 г. 62 гаспадаркі, 29 жыхароў, у складзе саўгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Нізькі), працаваў магазін. У 2002 г. 37 гаспадарак, 54 жыхары. Вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**КРУТЫ РОЎ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 11 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 171 км ад Магілёва, на У р. Сураў (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Хоцімск—Краснаполле. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2007 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас, які першапачаткова аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). У 2002 г. 7 гаспадарак, 13 жыхароў. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**КРЫВАЯ НІВА** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 19 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 173 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Крычаўскай «дзяржавы», уласнасць казны. У 1663 г. ў валоданні памешчыка Падабеда. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1694 г. сяло, 4 дымы, 1,5 валокі зямлі. У 1747 г. 11 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 49 двароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. 63 жыхары, у Чэрыкаўскім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. ўладанне памешчыкаў І.А.Міткевіча і Д.М.Хойніцкага. У 1858 г. 59 жыхароў мужчынскага полу, заезны двор. Памешчык меў тут у 1873 г. 160 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 205 жыхароў, кузня, у Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. Побач былі аднайменныя аколіца (75 двароў, 365 жыхароў) і фальварак (1 двор, 8 жыхароў, вадзяны і ветраны млыны). Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1909 г. ў вёсцы 37 двароў, 306 жыхароў, у аколіцы — 80 двароў, 558 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 3 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У пач. 1920-х г. запрацавала 4-гадовая школа (у 1925 г. 42 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. за-

хопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 338, у 1970 г. 297 жыхароў. У 1986 г. 70 гаспадарак, 172 жыхары, у складзе калгаса «Краншатат» (цэнтр — в. Вётухна). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. Забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**КУБРАКОЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Касцюковіч, 5 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 177 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 19 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. вёска ва ўладанні памешчыка. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 40 жыхароў, у 1847 г. 8 двароў, 62 жыхары, у складзе маёнтка Студзянец памешчыцы М.Свініцовай Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 99 жыхароў, у Студзянецкай вол. У 1909 г. 17 двароў, 120 жыхароў. У 1926 г. 27 двароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 91, у 1970 г. 60 жыхароў. У 1986 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2002 г. 21 гаспадарка, 53 жыхары. Складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Побач залежы пяскоў.

**КУДЛАЧОЎ** — пасёлак у Сялецкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 16 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Смольскі» (цэнтр — в. Смолькі). Забудаваны драўлянымі сял. хатамі.

**КУЗЬМІНКА** — вёска ў Бароньскаўскім с/с, за 34 км на Пд ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 191 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з 19 ст. У 1880 г. тут быў маёнтак. У 1897 г. 1 двор, 5 жыхароў, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 3 жыхары. У пач. 1920-х г. тут пачалі актыўна размяшчацца перасяленцы з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 22 двары. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 128, у 1970 г. 86 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Гаўрыленка). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНСКІ** — пасёлак у Бароньскаўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 29 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 204 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары пераселены ў в. Крапіўня.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 4 двары. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЛЕСАВЫ** — пасёлак у Пралетарскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 148 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе

Хоцімск—Краснаполле. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛІПАЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 6 км на Пд ад Касцюковіч, 8 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 165 км ад Магілёва, на аўтадарозе Крычаў—Сураж. На У мяжуе з лесам, на З р. Жадунька (прыток р. Беседзь). 66 гаспадарак, 150 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. ў ВКЛ. У 1747 г. 34 двары, карчма, уласнасць казны, у Крычаўскім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 48 двароў, 244 жыхары, у 1785 г. 50 двароў, 390 жыхароў, у Клімавіцкім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 478 жыхароў, уладанне М.І.Галынскага. У 1850 г. 67 двароў. Апрача земляробства 16 жыхароў у 1880 г. займаліся адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. пазначана як в. Ліпаўка (яна ж Ліпавы Ручай), 91 двор, 651 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 728 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа, для якой у 1929 г. пабудавана ўласнае памяшканне. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ліпаўка». У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Канічы» (цэнтр — в. Канічы), працаваў магазін. У 2002 г. 77 гаспадарак, 161 жыхар. Працуе аддзяленне сувязі. Гал. вуліца (адрэзак аўтадарогі) арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе з З далучаецца крывалінейная з завулкам, з У — кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 214 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку чарнобыльскай катастрофы мясцін. Побач залежы гліны.

**ЛЮБЛІН** — пасёлак у Беладубраўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 167 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. У 1986 г. 15 двароў, 39 жыхароў, у складзе калгаса «Кранштат» (цэнтр — в. Вётухна). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ КРАПІЎНЯ** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Касцюковіч, за 4 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 178 км ад Магілёва, на р. Трасцянка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1897 г. 18 двароў, 149 жыхароў, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Побач былі хутар і лясная кантора. У 1909 г. 22 двары, 174 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7. 1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 42 двары. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 108, у 1970 г. 99 жыхароў. У 1986 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2002 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад Касцюковіч, 5 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 181 км ад Магілёва, на р. Грэбля (прыток р. Зубар). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Памешчык у 1880 г. меў тут і ў суседніх вёсках 6191,5 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны. У 1897 г. фальварак, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях актыўна размяшчаліся перасяленцы з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 12 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 79, у 1970 г. 100 жыхароў. У 1986 г. 25 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2002 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. хатамі.

**МАМОНАЎКА** — пасёлак у Бароньkаўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 29 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 194 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (6 сямей) перасёлены ў в. Крапіўня.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 5 двароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 14 сав. воінаў і 8 партызан атрада «За Савецкую Беларусь» 5-й Клятнянскай партыз. брыгады, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў. Вызвалена 29.9.1943 г. У 1986 г. 6 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАНАСТЫРОК** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 177 км ад Магілёва, на р. Грэбля (прыток р. Зубар) і аўтадарозе Крычаў—Сураж.

У 1897 г. фальварак (1 двор), у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 5 жыхароў. У пач. 1920-х г. тут, на былых памешчыцкіх землях, актыўна размяшчаліся перасяленцы з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 19 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 85, у 1970 г. 69 жыхароў. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МАРОЗАЎКА** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 194 км ад Магілёва, на зах. ускраіне працякае ручай (прыток р. Алешня). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1940 г. 37 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 29.9.1943 г. У 1986 г. 35 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Відуйцы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**МАРЦІНАЎКА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Касцюковіч, 5 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 193 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтада-

розе Крычаў—Сураж. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 4 двары, 22 жыхары, ва ўладанні памешчыка. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 12 двароў, 182 жыхары, у Клімавіцкім павеце. У 1897 г. 35 двароў, 250 жыхароў, 3 кузні, хлебазапасны магазін, крама, малітоўны дом, у Бялынкавіцкай вол. У 1909 г. 270 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 44 двары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты 9.8.1943 г. расстралялі 11 жыхароў (пахаваны на паўд. ускраіне вёскі) і поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 30.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 47 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае). У 2002 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. Будынак драўляны, сядзібнага тыпу.



*Ф.М.Аўхачоў.*

**МАШАВОЕ** — вёска ў Бароньkaўскім с/с, цэнтр СВК «Машавое», за 34 км на Пд ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 189 км ад Магілёва. Праз вёску працякае ручай Машоўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 123 гаспадаркі, 322 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. сяло, 16 двароў, 115 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. сяло Машова, уладанне І.М. Цеханавецкага, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1834 г. 20 двароў. У 1861 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1889 г. 31 вучань). У 1880 г. 35 двароў, 306 жыхароў. Апрача земляробства 20 вяскоўцаў займаліся калёсным, бандарным і рамізніцкім промысламі. У 1885 г. 39 двароў, ветраны млын, школа, царква, цэнтр Машаўской вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 424 жыхары, цэнтр. хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом. У 1909 г. 65 двароў, 464 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 46 вучняў). 10.3.1920 г. створана арцель, 10.5.1923 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Машаўскога с/с. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня, у 1926 г. — фельч.-акушэрскі пункт. У 1926 г. 102 двары. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. Дзейнічаў вузел сувязі. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў ліст. 1941 г. спалілі 90 двароў. Вызвалена 30.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 374, у 1970 г. 319 жыхароў. У 1975 г. да вёскі далучаны пас. Мядзвежына. У 1986 г. 93 гаспадаркі, 276 жыхароў, цэнтр калгаса «Праўда». Дзейнічалі машынны двор, сярэдняя школа, б-ка, клуб, дзіцячы сад-яслі, урачэбна-медыцынская амбулаторыя, аптэка, 3 спарт. пляцоўкі, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2002 г. 119 гаспадарак, 336 жыхароў. Працуюць аддзяленні сувязі, сярэдняя школа, сельскі клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1964 г. БелНДІдзіпрасельбудам. Аснову планіровачнай структуры складае амаль прамалінейная шыротная вуліца, якую на У перакрыжоўвае дугападобная вуліца з завулкамі. Паралельна да галоўнай на Пд кароткая прамалінейная вуліца, на У — адасоблены ўчастак забудовы (б. пас. Мядзвежына). Адм.-грамадскі цэнтр на невялікай плошчы, што на перакрыжаванні вуліц. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры ўзведзены 14 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. Радзіма Героя Сав. Саюза Ф.А.Аўхачова.

**МІКАЛАЕЎКА** — пасёлак у Бароньkaўскім с/с, за 34 км на Пд ад Касцюковіч, 15 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 194 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў

Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 14 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Гаўрыленка). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МОКРАЕ** (да 1968 г. вёскі Мокрае 1 і Мокрае 2) — вёска ў Бароњкаўскім с/с (да 1994), за 42 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 25 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 200 км ад Магілёва, на р. Свінка (прыток р. Беседзь), на З яе прыток — р. Каровіч, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (78 сямей) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя мясцовасці.

Вядома з 16 ст. як с. Мокрае ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1585 г. сяло, у Крычаўскай вол., уласнасць казны. У 1604 г. ў Крычаўскай «дзяржаве». Паводле інвентару Крычаўскага староства 1709 г. 2 дымы, 1,5 валокі зямлі. У 1747 г. 10 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. згадваецца як в. Мокрая, 55 жыхароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. меўся млын. У 1916 г. 15 двароў, 74 жыхары. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 109 жыхароў, уладанне Р.І.Галынскага. У 1858 г. 20 двароў, 215 жыхароў, уладанне памешчыкаў Д.Г.Галынскага і Л.І.Белівовіча. Гаспадар маёнтка меў у вёсцы ў 1855 г. 3426 дзес. зямлі, шкларобчы з-д (выпускаў ліставое шкло), вадзяны млын. Дзейнічала вапнавая вытв-сць. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Мокрае 1 (35 двароў, 256 жыхароў, піцейны дом) і Мокрае 2 (яна ж Іванаўка, 33 двары, 255 жыхароў). У пач. 20 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1905 г. 37 вучняў). У 1909 г. ў Мокрам 1 35 двароў, 264 жыхары, у Мокрам 2 — 36 двароў, 269 жыхароў. Разам з сялянамі з суседніх вёсак 3.6.1917 г. вяскоўцы падзялілі памешчыцкія лугі. З пач. 1920-х г. дзейнічала 4-гадовая школа, для якой у 1930 г. пабудавана ўласнае памяшканне. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім р-не. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. ў в. Мокрае 1 — 63, у в. Мокрае 2 — 43 двары. З 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1931 г. створаны калгас «Іскра». У 1940 г. 71 двор, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 29.9. 1943 г. 179 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у скверы пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. — 468, у 1970 г. 379 жыхароў. У 1986 г. 78 гаспадарак, 220 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Працавалі сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін, аддз. сувязі, 3 спарт. пляцоўкі. У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары пераселены ў в. Крапіўня. Рака Свінка падзяляе вёску на паўн. (крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі) і паўд. (планіроўка Г-падобная) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў паўд. частцы.

**МУРАВІЛЛЕ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 154 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Крычаў—Сураж. 277 гаспадарак, 676 жыхароў (2007).

Вядома з 1799 г. як сяльцо, 14 двароў, 100 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. ў сяле 23 двары, 114 жыхароў, у вёсцы 11 двароў, 71 жыхар, уладанне памешчыцы М.І.Гаркоўскай. У 1885 г. 44 двары, 300 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Мелася царква. Штогод 8 вер. праводзіўся таржок. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 547 жыхароў, вятрак. Побач існаваў аднайменны фальварак — 1 двор, 16 жыхароў. У 1897 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў вёсцы 65 двароў, у фальварку — 1 двор, 16 жыхароў. У пач. 1920 г.

створана 4-гадовая школа, якой былі перададзены нацыяналізаваныя будынкі (у 1925 г. 87 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1931 г. створаны 2 калгасы. У 1933 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую і пабудавана для яе новае памяшканне. 20.9.1943 г. вёска вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 400, у 1970 г. 342 жыхары. У 1986 г. 100 гаспадарак, 239 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая». Дзейнічалі сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, 3 спарт. пляцоўкі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 297 гаспадарак, 752 жыхары. У сярэдзіне 2000-х г. на базе в. Муравілле створаны аграгарадок. Працуюць сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Ген. план распрацаваны ў 1972 г. Белкалгаспраектам. Планіровачна складаецца з дзвюх крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пд невялікай плошчай. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на плошчы і сярод жылой забудовы. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 120 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй мясцовасцей у выніку чарнобыльскай катастрофы.



*Аграгарадок у в. Муравілле.*



*Панарама аграгарадка Муравілле.*



*Цэнтр культуры ў в. Муравілле.*

**МУРЫН-БОР** — вёска ў Забычанскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 168 км ад Магілёва, на р. Крупнянка (прыток р. Альшанка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 98 гаспадарак, 246 жыхароў (2007).

Вядома з 1752 г. як сяло (38 двароў) у Мсціслаўскім ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 45 двароў, 221 жыхар. Гаспадар аднайменнага маёнтка меў у 1870 г. 654 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. 74 двары, 359 жыхароў. Апрача земляробства 22 сяльчаніны займаліся адыходным промыслам і вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У школе граматы ў 1893 г. займаўся 21 вучань. Паводле перапісу

1897 г. 91 двор, 642 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў сяле 103 двары, 695 жыхароў, у фальварку 1 двор, 13 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа, для якой у 1926 г. пабудавана ўласнае памяшканне. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 86 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у цэнтры вёскі пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. 384 жыхары, у 1986 г. 88 гаспадарак, 215 жыхароў, у складзе саўгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Нізкі). Дзейнічалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, магазін, сталовая, 4 спарт. пляцоўкі. У 2002 г. 108 гаспадарак, 285 жыхароў. Працуюць сярэдняя школа, б-ка. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1980 г. Магілёўграмадзянпраектам. Крывалінейная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана пераважна двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў цэнтр. частцы сярод жылой забудовы. У 1933 г. ўзведзены мураваныя дамы на 36 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй мясцовасцей у выніку чарнобыльскай катастрофы.

**МЯЛОЎКА** — вёска ў Беладубраўскім с/с (да 1997), за 13 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 176 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (22 сям'і) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя мясцовасці.

Вядома з 1777 г. як вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. ў Крычаўскім старостве, 14 двароў, 103 жыхары. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 135 жыхароў, уладанне памешчыка В.І.Галынскага. У 1834 г. 166 жыхароў. Памешчык меў у 1864 г. 2537 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, сукнавальню і карчму. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 313 жыхароў, у Студзянецкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 43 двары. У 1914 г. адкрыта земская школа, для якой у тым



*На адной з вуліц аграгарадка ў в. Муравілле.*




*Комплексны прыёмны пункт па аказанні бытавых паслуг у в. Муравілле.*



*Фельчарска-акушэрскі пункт у в. Муравілле.*

жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. У пач. 1920 г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 52 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1940 г. 50 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 46 двароў. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 166, у 1970 г. 86 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Печанеж» (цэнтр — в. Печанеж). Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі ў цэнтры і на Пн. Забудавана пераважнааднабакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАСЕЦКАЯ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 168 км ад Магілёва. Паблізу аўтадарога Краснаполле—Хоцімск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. у выніку перасялення на былыя памешчыцкія землі жыхароў з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена да ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 107, у 1970 г. 83 жыхары. У 1986 г. 18 двароў, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Кранштат» (цэнтр — в. Вётухна). У 2002 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**НЕГІНА** — вёска ў Забычанскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Касцюковіч, 10 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 165 км ад Магілёва, на р. Жадунька (прыток р. Беседзь), на паўн. ускраіне яе прыток — р. Альшанка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 54 гаспадаркі, 136 жыхароў (2007).

Вядома у ВКЛ з 18 ст. У 1737 г. дзейнічала царква. У 1752 г. сяло, 14 двароў, уласнасць памешчыка, у Мсціслаўскім ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. ў мястэчку 18 двароў, 85 жыхароў, у аднайменнай вёсцы — 6 двароў, 55 жыхароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. уладанне памешчыка Б.І.Свадкоўскага. У 1861 г. ў мястэчку 42 двары, 138 жыхароў, царква і малітоўны дом, у вёсцы ў 1880 г. 17 двароў, 105 жыхароў, драўляная царква і малітоўны дом. Памешчык меў у 1877 г. ў вёсках Негіна і Гарадок 867 дзес. зямлі, у 1878 г. ў в. Негіна — 400 дзес. зямлі і 2 карчмы. У школе граматы ў 1893 г. было 15 вучняў. У 1910 г. дзейнічала казённая вінная крама. У 1912 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 43 вучні). У былым маёнтку дзейнічала камуна. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Негінскага с/с. У сярэдзіне 1920-х г. на месцы былога маёнтка ўзніклі выселкі Першамайскі і Чырвоная Іскра. Калгас «Арлен», які быў арганізаваны ў вёсцы, аб'ядноўваў у 1931 г. 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі ў вер. 1943 г. загінулі 17 воінаў 283-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту (пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках). Вызвалена 28.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 108 вяскоўцаў, у памяць аб якіх каля будынка клуба пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. 322 жыхары. У 1986 г. 75 гаспадарак, 183 жыхары, у складзе саўгаса «Забычанне» (цэнтр — в. Забычанне). Дзейнічалі пач. школа, б-ка, аддзяленне сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 3 спарт. пляцоўкі, клуб, магазін. У 2002 г. 63 гаспадаркі, 173 жыхары. Працуе аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з трох вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ (паўд. і сярэдняя крывалінейныя, паўн. Г-падобная) і злучаных кароткай вуліцай. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У сярэдняй вуліцы — невялікая плошча. Гра-

мадскія будынкі размешчаны на плошчы і сярод жылой забудовы.

**НІЗЬКІ** — вёска ў Забычанскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 158 км ад Магілёва, на З р. Альшанка (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 119 гаспадарак, 285 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1752 г. сяло, 35 двароў, у Мсціслаўскім ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 27 двароў, 130 жыхароў, уладанне Б.І.Свадкоўскага. У 1857 г. 141 жыхар, ва ўладанні памешчыка Ф.П.Багушэўскага, у Клімавіцкім павеце. У 1880 г. 36 двароў, 197 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 310 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Побач быў аднайменны фальварак — 1 двор, 8 жыхароў. У 1898 г. адкрыта земская школа, для якой у 1900 г. пабудавана памяшканне (у 1902 г. 45 вучняў). У 1909 г. 52 двары, 376 жыхароў. У пач. 1920-х г. пачала дзейнічаць 4-гадовая школа (у 1925 г. 119 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Нізькаўскага с/с. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас «Новыя Нізькі». У Вял. Айч. вайну ў час абарончых баёў 1941 г. загінулі каля вёскі 7 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля клуба). Вызвалена 29.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 116 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх каля будынка клуба пастаўлена стэла. У 1986 г. цэнтр саўгаса «Ленінскі шлях». Дзейнічалі машынны двор, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, магазін, сталовая. У 2002 г. 129 гаспадарак, 317 жыхароў. Працуюць аддз. сувязі, сельскі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна складаецца з дзвюх працяглых, крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры ўзведзены 2 аднапавярховыя 4-кватэрныя і 13 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы.

**НОВАЯ ІВАНАЎКА** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Касцюковіч, 13 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва. На З мяжуе з лесам, на ПдУ невялікая сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар, 3 двары, 14 жыхароў, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9. 1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 126, у 1970 г. 87 жыхароў. У 1986 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Бароњкі» (цэнтр — в. Бароњкі). У 2002 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў. Складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**НОВАЯ СЛАБАДА** — пасёлак у Беладубраўскім с/с, за 13 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 169 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. У пасёлку ніхто не жыве.

Засн. ў 1920-х г. у выніку перасялення на былыя памешчыцкія землі сялян з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Кранштат» (цэнтр — в. Вётухна). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ САМАТЭВІЧЫ** — пасёлак у Бялынкавіцкім с/с, цэнтр СВК «Калгас «Прагрэс», за 7 км на Пд ад Касцюковіч і 9 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Кры-



Аграгарадок Новыя Саматэвічы.

Дзіцячыя яслі-сад у пас. Новыя Саматэвічы.

Будынак сярэдняй школы ў пас. Новыя Саматэвічы.





чаў—Сураж, 166 км ад Магілёва, на аўтадарозе Клімавічы—Сураж. На Пд мяжуе з лесам, на З р. Жадунька (прыток р. Беседзь). 340 гаспадарак, 866 жыхароў (2007).

Назва пасёлку прысвоена 11.3.1994 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыёактыўным забруджаннем населеных пунктаў саўгаса «Саматэвічы», быў пабудаваны пасёлак, у які былі ссялены жыхары вёсак Саматэвічы, Кісялёўка, Прудок, Тарасаўка і пас. Чырвона-Маскоўскі. У сярэдзіне 2000-х г. на базе пас. Новыя Саматэвічы утвораны аднайменны аграгарадок. Працуюць аддз. сувязі, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, сельскі клуб-бібліятэкака, літаратурны музей А.Куляшова, філіял «Беларусбанка», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва.

**НОРКІНА** — вёска ў Забычанскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 160 км ад Магілёва. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1767 г. сяло, 33 двары, у Мсціслаўскім ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. Норкіна Слабада, 497 жыхароў, уладанне памешчыкаў Р.А.Астрэйкі і Б.І.Свадкоўскага. У 1844 г. згадваецца як с. Норкі, 90 двароў, 659 жыхароў, хле-





*У літаратурным музеі А.Куляшова ў пас. Новыя Саматэвічы.*

базапасны магазін, у складзе аднайменнага казённага маёнтка. Памешчык у 1865 г. меў 564 дзес. зямлі. У 1909 г. дзейнічала нар. вучылішча, у Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. 22.3.1922 г. арганізавана закупачна-збытавое т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі загінулі 10 воінаў 283-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту і 9 партызан 13-й Касцюковіцкай брыгады (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы). Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 396 жыхароў. У 1986 г. 80 гаспадарак, 163 жыхары, у складзе саўгаса «Забычанне» (цэнтр — пас. Забычанне), працаваў магазін. У 2002 г. 32 гаспадаркі, 64 жыхары. Планіровачна складаецца з трох кароткіх крывалінейных вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных паміж сабой завулкам. Забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**ПАДГАРОДАК** — вёска ў Забычанскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 168 км ад Магілёва, на р. Жадунька (прыток р. Беседзь), на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 5 двароў, 34 жыхары, у валоданні памешчыка В.А.Кашуры. Гаспадар маёнтка меў у 1863 г. 231 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 59 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Побач былі

*Аграгарадок Новыя Саматэвічы.*

*У аграгарадку Новыя Саматэвічы.*








*Аграгарадок Новыя Саматэвічы.*



*Зварачныя работы ў СВК «Калгас «Прагрэс».*

аднайменныя хутары (1 двор, 9 жыхароў) і фальварак (1 двор, 11 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 68 жыхароў, на хутары — 1 двор, 10 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 16 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У 1986 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Забычанне» (цэнтр — пас. Забычанне). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудавана рэдка, уздоўж ракі, у асн. драўлянымі сял. хатамі.

**ПАДРАЙСК** — пасёлак у Бароньkaўскім с/с, за 31 км на Пд ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 191 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г., калі сюды, на былыя памешчыцкія землі, перасялілі сялян з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Машавое). У 2002 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПАДЦЕХАНІЧЫ** — пасёлак у Пралетарскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Касцюковіч, 21 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 140 км ад Магілёва, на У р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г., калі сюды, на былыя памешчыцкія землі, перасялілі сялян з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Складаецца з кароткай, крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПАКРОЎКА** — пасёлак у Бароньkaўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Касцюковіч, 16 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 194 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Засн. ў 1920-х г., калі сюды, на былыя памешчыцкія землі, перасялілі сялян з

суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 18 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 70, у 1970 г. 67 жыхароў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Гаўрыленка). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Забудова сядзібнага тыпу.

**ПАЛАМКА** — вёска ў былым Дзяражненскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 181 км ад Магілёва, на р. Дзеражня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы.

Паводле перапісу 1897 г. вёска, 10 двароў, 105 жыхароў, у Студзянецкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 21 двор, 148 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Печанеж» (цэнтр — в. Печанеж). Забудавана ўздоўж ракі драўлянымі сял. хатамі.

**ПАНЬКАЎСКАЯ БУДА** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 26 км на Пд ад Касцюковіч, 14 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 190 км ад Магілёва, на ПнЗ і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 36 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1727 г. як вёска ў Крычаўскім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 13 двароў, 99 жыхароў, у 1785 г. меліся млын, сукнавальня, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна, у Клімавіцкім павеце. У 1816 г. 25 двароў, 173 жыхары, уладанне Галынскіх. У 1834 г. 193 жыхары, уладанне Мяшчарскага. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 246 жыхароў, у валоданні памешчыка А.Н.Камара. У 1897 г. 74 двары, 541 жыхар. Дзейнічала нар. вучылішча. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1940 г. 185 двароў. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 34 жыхароў. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 342, у 1970 г. 295 жыхароў. У 1975 г. далучана в. Ігнатаўка. У 1986 г. 116 гаспадарак, 249 жыхароў, у складзе саўгаса «Бароньki» (цэнтр — в. Бароньki). Працавалі школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Складаецца з усх. (дзве працяглыя амаль прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі) і паўн.-заходняй (працяглая прамалінейная шыротная вуліца) частак. Забудавана пераважна аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Н.Варанцова.

**ПАПАРАТНАЯ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва, на р. Алешня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1756 г. як в. Папротна ў Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 25 двароў, 159 жыхароў. У 1816 г. 32 двары, 179 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 55 двароў, 310 жыхароў. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася кравецкім і бондарным промысламі. У 1897 г. 75 двароў, 632 жыхары, піцейны дом, у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 83 двары. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1918 г. для яе ўзведзены ўласны будынак. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 42 вучні, б-ка). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1940 г. 110 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Выз-

валена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 386, у 1970 г. 264 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Відуйцы). У 1986 г. 5 гаспадарак, 166 жыхароў. У 2002 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПАПОЎКА** — пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, за 3 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 163 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Хоцімск—Краснаполле. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).



*А.Н.Варанцоў.*

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 21 жыхар, 12 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Прусіна). У 2002 г. 6 гаспадарак. Кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПАСЕКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Касцюковіч, 1 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 180 км ад Магілёва, на ПнЗ мяжуе з лесам, на ПнУ чыгунка. Побач аўтадарога Крычаў—Сураж. 43 гаспадаркі, 100 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. фальварак, 1 двор, 6 жыхароў, вінакурня, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 23 двары. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1967 г. да вёскі далучаны пасёлак спіртзавода (у 1959 г. 328 жыхароў). Паводле перапісу 1970 г. 356 жыхароў. У 1986 г. 89 гаспадарак, 196 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). Працавалі спіртзавод, б-ка, магазін. У 2002 г. 55 гаспадарак, 134 жыхары. Планіроўка радыяльная, ад невялікай плошчы адыходзяць у розныя бакі чатыры кароткія і адна больш працяглая вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЎЛЕНКА** — пасёлак у Бароньkaўскім с/с, за 28 км на Пд ад Касцюковіч, 14 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 190 км ад Магілёва, на ПнЗ мяжуе з лесам, на ПдУ штучная сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж.

Засн. ў 1920-х г., калі сюды перасяліліся сяляне з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў лютым 1943 г. поўнасцю спалілі пасёлак. Вызвалены 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 84, у 1970 г. 49 жыхароў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе саўгаса «Бароньkі» (цэнтр — в. Бароньkі). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРВАЕ МАЯ** (да 1941 г. Філіял) — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 175 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г., калі сюды перасяліліся сяляне з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 127, у 1970 г. 78 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. хатамі.

**ПЕЧАНЕЖ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 178 км ад Магілёва, на Пн штучная сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял.

Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 405, у 1970 г. 364 жыхары. У 1986 г. 66 гаспадарак, 162 жыхары, цэнтр саўгаса «Печанеж». Працавалі машынны двор, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, аддз. сувязі. У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары адселены. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1968 г. Магілёўскімі абл. праектнымі майстэрнямі Белдзяржпраекта. Складаецца з трох кароткіх, прамалінейных шыротных вуліц, забудаваных двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ адасоблены ўчастак забудовы.

**ПЛОСКАЕ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Касцюковіч, 7 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 181 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

У 1897 г. лясная кантора, 1 двор, 7 жыхароў, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. хутары, 14 двароў, 101 жыхар. У сярэдзіне 1920-х г. адкрыта школа, для якой у 1928 г. пабудавана памяшканне. У 1926 г. 43 двары. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. У 1986 г. 21 гаспадарка, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае). У 2002 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна аднабакова драўлянымі сял. хатамі.

**ПРАВІДЭНЕЦ** — вёска ў Беладубраўскім с/с (да 1997 г.), за 22 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 197 км ад Магілёва. На паўд. ускраіне меліярацыйны канал, злучаны з р. Алешня (прыток р. Беседзь), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 19 ст. Памешчык у 1878 г. меў тут 408 дзес. зямлі. У 1897 г. фальварак Правідзенцыя, 1 двор, 6 жыхароў, у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. хутары, 175 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1940 г. 25 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 112, у 1970 г. 86 жыхароў. У 1986 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Відуйцы). У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары адселены ў в. Сялецкае. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПРАЛЕТАРСКАЕ** (да 1917 г. Царковішча) — вёска, цэнтр Пралетарскага с/с, за 8 км на ПнУ ад Касцюковіч і ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 150 км ад Магілёва. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Крупня (прыток р. Жадунька). Побач аўтадарога Крычаў—Сураж. За 4 км на Пд знаходзіцца вышэйшы пункт раёна (290,6 м). 117 гаспадарак, 301 жыхар (2007).

Вядома з 1604 г. як с. Царковішча Крычаўскай «дзяржавы», уласнасць казны. У 1645 г. ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1799 г. 70 двароў, 420 жыхароў. У 1811 г. ўладанне памешчыка І.А.Астроўскага. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 482 жыхары, ва ўладанні памешчыка Н.П.Лапкевіча. У 1880 г. 117 двароў, 525 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Апрача земляробства 20 жыхароў займаліся адыходным промыслам. У школе граматы ў 1893 г. было 48 вучняў. Паводле перапісу 1897 г. 135 двароў, 884 жыхары. У пач. 20 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1902 г. 74, у 1907 г. 100 вучняў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У студз. 1906 г. вяскоўцы

выбралі часовы рэв. к-т, гал. мэтай якога была канфіскацыя памешчыцкай зямлі і размеркаванне яе паміж сялянамі. У памяшканні к-та часта праходзілі сял. сходы. У 1909 г. 127 двароў, 900 жыхароў. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. ўзведзены будынак школы, 116 вучняў). Створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, а ў 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 1936 г. цэнтр сельсавета. У 1939 г. ў вёску сселены 32 хутары. У 1940 г. 220 двароў, 597 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жніўня 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 123 двары, загубілі 6 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 14 сав. воінаў, якія загінулі ў жн. 1941 г. і ў баях за вызваленне вёскі. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 522, у 1970 г. — 484 жыхары. У 1986 г. 383 жыхары, цэнтр калгаса «1 Мая». Працавалі машынны двор, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб вольнага часу, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аддз. сувязі. У 2002 г. 137 гаспадарак, 376 жыхароў. Працуюць аддз. сувязі, базавая школа, сельскі клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1983 г. Белкалгаспраектам. Планіроўка прамавугольная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ уздоўж аўтадарогі. Ад яе перпендыкулярна адыходзяць дзве другарадныя вуліцы. На Пд гал. вуліцы, пры перакрыжаванні яе з другараднай, склалася невялікая прамавугольная плошча. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры ўзведзены 8 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. Грамадскія будынкі на плошчы і сярод жылой забудовы гал. вуліцы. Радзіма Героя Сац. Працы М.Е.Мялешчанка.



*М.Я.Мялешчанка.*

У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Пралетарскага с/с знаходзіліся вёскі Муравінне, Чырвоная Паляна, Сохлік, Багатыр, пасёлкі Новая Зара і Крыніцкае (не існуюць).

**ПРАЛЕТАРСКАЯ КАМУНА** (да 1919 г. Феліксберг) — вёска ў Пралетарскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 145 км ад Магілёва. На ПдЗ меліярацыйны канал, злучаны з р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. фальварак, 57 жыхароў, уладанне памешчыка Л.І.Арэшкі. З 1865 г. працавала вінкурня (у 1890 г. 13 рабочых), з 1897 г. дзейнічаў ветраны млын. У 1909 г. 75 жыхароў. Восенню 1918 г. ў былым маёнтку 30 сямей беднякоў з в. Царковішча стварылі камуну. 26.6.1919 г. арганізавана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Паводле перапісу 1959 г. — 144, у 1970 г. 102 жыхары. У 1986 г. 21 гаспадарка, 53 жыхары, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Пралетарскае). У 2002 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПРАЛЕТАРЫЙ** — пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, за 4 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 163 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Прусіна). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. Забудаваны рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПРУДОК** (да 1938 г. Вусаўка) — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 23 км на ПдЗ

ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 183 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

За 0,3 км на ПдЗ ад вёскі, на мысе правага берага р. Беседзь, захавалася старaж. гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 1799 г., 12 двароў, 111 жыхароў, уладанне памешчыка. У 1897 г. пазначана як в. Прудок (яна ж Вусаўка), 261 жыхар, у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. Побач быў фальварак — 1 двор, 3 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 35 двароў, у фальварку — 1 двор, 8 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным памяшканні (у 1925 г. 42 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. Калгас «Пераможац» створаны ў вёсцы ў 1931 г. У 1940 г. 77 двароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 21 воін 269-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі 28.9.1943 г. ў баі за вызваленне вёскі. Паводле перапісу 1959 г. — 217, у 1970 г. 137 жыхароў. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 62 жыхары, у складзе саўгаса «Саматэвічы» (цэнтр — в. Саматэвічы), працаваў магазін. Планіроўка Т-падобная. Больш працяглая з вуліц крывалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. Перпендыкулярна да яе праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі. У 1991 г. жыхары вёскі пераселены ў пас. Новыя Саматэвічы.

За 1 км на Пд ад вёскі размешчана радовішча гліны (30,3 тыс. м$^3$), якое распрацоўваецца Слаўгарадскім прамкамбінатам.

**ПРУСІНА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 2 км на ПдУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 163 км ад Магілёва, на р. Крупня (прыток р. Жадунька). Побач аўтадарога Хоцімск—Краснаполле. 191 гаспадарка, 191 жыхар (2007).

Вядома з 1772 г. як вёска ў Крычаўскім старостве. У 1747 г. 42 двары, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 187 жыхароў, царква, у Клімавіцкім павеце, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1811 г. 169 жыхароў мужчынскага полу. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 423 жыхары, у валоданні памешчыка Ф.Ростэра. Гаспадар аднайменнага маёнтка ў 1860 г. меў 1249 дзес. зямлі, вадзяны і ветраны млыны, 3 карчмы. У 1880 г. 92 двары. 20 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся адыходным промыслам. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1885 г. 571 жыхар, дзейнічані вінакурня, ветраны і вадзяны млыны, царква, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 113 двароў, 800 жыхароў, у аднайменным фальварку — 30 жыхароў. У 1909 г. 118 двароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 107 вучняў). Фальварак Прусін у 1922 г. згарэў, застаўся толькі вадзяны млын. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Прусінскага с/с. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 103 двары і загубілі 3 жыхароў. У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса, у брацкай магіле пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў у 1941 і 1943 гг. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 270, у 1970 г. 248 жыхароў. У 1975 г. далучана в. Кульгаеўка. У 1986 г. 190 гаспадарак, 437 жыхароў, цэнтр калгаса «Дружба». Дзейнічалі базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. У 2002 г. 186 гаспадарак, 445 жыхароў. Працуюць аддз. сувязі, сельскі клуб-

бібліятэка. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1983 г. Магілёўграмадзянпраектам. Рака падзяляе вёску на зах. (крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, былая в. Кульгаеўка) і ўсх. (дзве амаль прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя невял. прамалінейнай вуліцай) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры ўсх. часткі ўзведзены 8 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы.

**ПРУСІНСКАЯ БУДА** – вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 5 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 166 км ад Магілёва, на аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сураў (прыток р. Беседзь).

Вядома з 1799 г. як сяло, 23 двары, 160 жыхароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1834 г. 26 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 258 жыхароў, уладанне памешчыка Ф.Ростэра. У 1880 г. 63 двары, 353 жыхары. Апрача земляробства 13 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У гэтым жа годзе засн. лесапільны з-д (у 1881 г. 20 рабочых). У 1881 г. пачала працаваць маслабойня. Паводле перапісу 1897 г. 600 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Побач існаваў аднайменны хутар – 1 двор, 5 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1907 г. 46 вучняў). У 1909 г. 88 двароў, 683 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 925 г. 57 вучняў), працаваў драматычны гурток. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 65 двароў і загубілі 1 жыхара. Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. – 112, у 1970 г. 88 жыхароў. У 1975 г. далучана в. Зацішша. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 51 жыхар, у складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Прусіна), працавалі б-ка, магазін. У 2002 г. 43 гаспадаркі, 67 жыхароў. Меліярацыйны канал падзяляе вёску на паўн.-заходнюю (крывалінейная працяглая вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, разгаліноўваецца і далучаецца да аўтадарогі) і паўднёва-ўсх. (адна амаль прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, былая в. Зацішша) часткі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРЫВАЛАЎ** – вёска ў Сялецкім с/с, за 27 км на ПдУ ад Касцюковіч, 3 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 187 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 7 двароў. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Смольскі» (цэнтр — в. Смолькі). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. На У — саўгасны сад.

**ПУШКОВА** – вёска ў Бароньказўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Касцюковіч, 12 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж. 186 км ад Магілёва, на ПнУ, Пн і ПнЗ штучныя сажалкі. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. пасёлак вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 112, у 1970 г. 88 жыхароў. У 1986 г. вёска, 24 гаспадаркі, 51 жыхар, у складзе саўгаса «Баронькі» (цэнтр — в. Баронькі). У 2002 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова драўлянымі сял. хатамі.

**ПУШКОВА** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 6 км на Пн ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 167 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 41 гаспадарка, 80 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1768 г. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 20 двароў, 124 жыхары. У 1811 г. 22 двары, у Клімавіцкім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 29 двароў, 171 жыхар, ва ўладанні памешчыцы М.І.Гаркоўскай. У 1880 г. 40 двароў, 229 жыхароў. Апрача земляробства 10 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 346 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. У 1909 г. 53 двары, 376 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. 8 воінаў экіпажа сав. браняпоезда загінулі каля вёскі (пахаваны за 2,5 км на З ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. — 412, у 1970 г. 315 жыхароў. У 1986 г. 83 гаспадаркі, 195 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Пралетарскае). У 2002 г. 53 гаспадаркі, 99 жыхароў. Складаецца з дзвюх амаль прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных невялікай трэцяй вуліцай. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ПЯТРОЎСКІ** — пасёлак у Бароньскаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Касцюковіч, 8 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 183 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (цэнтр — в. Бароньki), у складзе саўгаса «Бароньki». У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЯЧАРЫ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 143 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 29 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

За 0,2 км на Пд ад вёскі, каля сучасных могілак, захаваўся стараж. курганны могільнік (12 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома ў ВКЛ з 1737 г., тут мелася уніяцкая царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 7 двароў, 77 жыхароў, уласнасць памешчыка. Гаспадар аднайменнага маёнтка ў сярэдзіне 19 ст. меў 420 дзес. зямлі. У 1885 г. 15 двароў, 75 жыхароў, царква, у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася шавецкім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 301 жыхар, школа граматы, царква, піцейны дом, штогод 18 жн. праводзіўся таржок. У 1909 г. адкрыта нар. вучылішча, пабудавана для яго ўласнае памяшканне (у 1905 г. 61 вучань). У 1909 г. ў сяле 15 двароў, 107 жыхароў, у аколіцы 29 двароў, 151 жыхар, у фальварку 2 двары, 17 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 92 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Пячарскага с/с. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 111 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». Працавалі пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аддз. сувязі. У 2002 г. 35 гаспадарак, 88 жыхароў. Планіровачна складаецца з дзвюх крывалінейных, размешчаных абапал ракі вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных мостам. Забудова пераважна аднабако-

вая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На зах. беразе, амаль у цэнтры вёскі, пабудаваны 12 аднапавярховых мураваных аднакватэрных дамоў. На ПнЗ — адасоблены ўчастак забудовы. Радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-маёра танкавых войск М.І.Зіньковіча і бел. вучонага, чл.-кар. Акадэміі навук БССР М.М.Бадзякі.

**РАЗРЫТАЕ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Касцюковіч, 10 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 35 гаспадарак, 59 жыхароў (2007).



*М.П.Судзілоўскі.*



*М.І.Зіньковіч.*

Вядома з 1799 г. як вёска, 20 двароў, 155 жыхароў, у Забычанскім войтаўстве, уладанне памешчыка. У 1862 г. 138 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 564 жыхары, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета. У 1905 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 99 двароў, 659 жыхароў. У пач. 1920-х г. арганізавана 4-гадовая школа (у 1925 г. 46 вучняў), працавала б-ка. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 112 двароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 352, у 1970 г. 270 жыхароў. У 1986 г. 67 гаспадарак, 144 жыхары, у складзе саўгаса «Смольскі» (цэнтр — в. Смолькі), працаваў клуб. У 2002 г. 46 гаспадарак, 84 жыхары. Планіроўка крыжападобная з кароткімі вуліцамі шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**РАЁК** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 37 км на Пд ад Касцюковіч, 19 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 193 км ад Магілёва. На ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з ручаём Машоўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 1 двор, 4 жыхары, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. 21.8.1922 г. створана с.-г. т-ва «Праца», якое аб'ядноўвала 8 гаспадарак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 11 двароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 164, у 1970 г. 98 жыхароў. У 1975 г. далучана в. Віктараўка. У 1986 г. 20 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Машавое). У 2002 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў. Складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. хатамі.

**РАКІТНІК** (да 1951 г. Петухоўка) — пасёлак у Дзямідавіцкім с/с, за 10 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 172 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 69 жыхароў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма». У 2002 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**РАСОХІ** — вёска ў Забычанскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 163 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. вёска Расохавіцы, 5 двароў, уладанне памешчыцы Шамбеляншай, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1834 г. 22 двары, 118 жыхароў, уладанне І.І.Цеханавецкага. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. аку-

пантаў. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары, у 1986 г. 25 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе саўгаса «Забычанне». Складаецца з дзвюх кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных аднабакова драўлянымі сял. хатамі.

**РАСОХІ 2** — вёска ў Касцюковіцкім гар. Савеце, за 3 км на ПнЗ ад Касцюковіч, 2 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з 1799 г. як вёска, 14 двароў, 100 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 27 двароў, 137 жыхароў. 22.7.1882 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне паліцыі пры спрэчках аб памешчыцкай зямлі. У 1897 г. 32 двары, 234 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1909 г. 35 двароў, 266 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 54 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна», працаваў магазін. Планіроўачна складаецца з дзвюх кароткіх прамалінейных вуліц. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**РВЕНСК** — вёска ў Беладубраўскім с/с (да 1997 г.), за 20 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 176 км ад Магілёва, на З — штучная сажалка і меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарнавутка (прыток р. Чарняўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 1777 г. як в. Крвенск у Чэрыкаўскай акрузе. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. 74 жыхары мужчынскага полу. У 1834 г. 171 жыхар, у Чэрыкаўскім павеце. У 1858 г. 102 жыхары мужчынскага полу, заезны дом. У 1880 г. 40 двароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 586 жыхароў, школа граматы, у Саматэвіцкай вол. У 1909 г. 70 двароў. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 58 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 523, у 1970 г. 424 жыхары. У 1986 г. 101 гаспадарка, 208 жыхароў, у складзе саўгаса «Печанеж» (цэнтр — в. Печанеж). Дзейнічалі пач. школа, магазін. У 1997 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, жыхары перасялены ў в. Тупічына. Планіроўка прамалінейная. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Па абодва бакі паралельна да яе праходзяць дзве кароткія вуліцы, якія ў цэнтры перпендыкулярна перакрыжоўвае прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУЧАЙ** (да 1941 г. Купрэеўка) — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 9 км на У ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 169 км ад Магілёва, на аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. На З выцякае ручай (прыток р. Сураў), на ПнЗ мяжуе з лесам.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 87 жыхароў, у 1986 г. 15 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь). У 2002 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў. Кароткая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**САЗАНЫ** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с (да 1985 г.), за 7 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 167 км ад Магілёва. На Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Сураў (пры-

ток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 19 ст. Гаспадар маёнтка ў 1828 г. меў тут 103 дзес. зямлі. У 1857 г. слабада Падвішанькі (яна ж Сазаны, Паўлаўка) у Клімавіцкім павеце. У 1897 г. слабада Сазаны (яна ж Падвішанькі), 7 двароў, 40 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. Побач існаваў аднайменны хутар — 1 двор, 18 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Прусіна). Каля былой вуліцы стаіць драўляная сял. хата.





*Свята-Троіцкая царква ў в. Саматэвічы: агульны выгляд і фрагмент.*

**САКАЛОЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 5 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 5 гаспадарак, 5 хароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 4 двары. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 88, у 1970 г. 117 жыхароў. У 1986 г. 18 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы). У 2002 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. хатамі.

**САМАТЭВІЧЫ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 185 км ад Магілёва, на р. Чарняўка і яе прыток — р. Чарнавутка, на аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1585 г. як сяло ў Крычаўскай вол., уласнасць казны. У 1604 г. ў Крычаўскай «дзяржаве». У 1668 г. мелася царква. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1694 г. 4 дымы, паводле інвентару 1709 г. 8 дымоў, 6 валок зямлі. У 1747 г. 23 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Побач з сялом было аднайменнае мястэчка, 42 двары, 197 жыхароў, у 1779 г. 46 двароў, 220 жыхароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна, у Чэрыкаўскім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 289 жыхароў. У 1834 г. 349 жыхароў. У 1842 г. пабудавана мураваная царква. У 1848 г. ў сяле 60 двароў. Па рэвізскіх

матэрыялах 1858 г. 408 жыхароў. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 54 вучні). Памешчык меў у 1866 г. ў сёлах Саматэвічы і Кісялёўка 107 дзес. зямлі. Дзейнічала вінакурня (у 1879 г. 9 рабочых). У 1880 г. мяст. Самацеевічы (яно ж Дзмітрыеўка) цэнтр воласці, (цэнтр — в. Бялынкавічы). 83 двары, 473 жыхары, 4 крамы. У сяле ў 1885 г. 94 двары, 523 жыхары, ветраны млын, бальніца, заезны дом, царква, касцёл. Апрача земляробства 85 жыхароў займаліся бандарным і кавальскім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 77 двароў, 494 жыхары, меліся фельчарскі ўчастак, багадзельня, крама, карчма, малітоўны дом. У сяле — 162 двары, 953 жыхары, хлебазапасны магазін, царква. У 1909 г. ў мястэчку 97 двароў, 744 жыхары, у сяле 144 двары, 1006 жыхароў. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў былым памешчыцкім доме, ператвораная ў 1924 г. ў 7-гадовую (у 1924 г. 121, у 1927 г. 321 вучань). У 1928 г. ў школе меліся класы са спецыялізацыяй па пчалярстве. Дзейнічалі с.-г. т-ва, хатачытальня, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, з 1.3.1922 г. — каап. т-ва, з 18.11.1923 г. — сельскагаспадарчае, з 28.3.1924 г. — с.-г. крэдытнае т-вы. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1926 г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. Саўгас, які быў створаны ў сяле, меў у 1930 г. 2 тыс. га зямлі, уваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст. У 1933 г. арганізаваны дзіцячая пляцоўка і яслі, вузел сувязі. У 1935 г. мястэчка і сяло атрымалі электраэнергію ад Бялынкавіцкай гідраэлектрастанцыі. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі 16 двароў, загубілі 276 жыхароў. На паўд.-ўсх. ускраіне, у брацкай магіле, пахаваны вяскоўцы, расстраляныя фашыстамі. Паводле перапісу 1959 г. — 1048, у 1970 г. 9711 жыхароў. У 1986 г. 424 гаспадаркі, 1098 жыхароў, у 1977 г. далучаны вёскі Зелянковічы 1 і Зелянковічы 2, цэнтр саўгаса «Саматэвічы». Працавалі лесапільня, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад-яслі, участковая бальніца, аптэка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 сталовыя, 6 магазінаў, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 5 спарт. пляцовак. У 1991 г., у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, жыхары перасelены ў пас. Новыя Саматэвічы. Складаецца з чатырох асн. вуліц, арыентаваных амаль мерыдыянальна, уздоўж р. Чарнавутка і р. Чарняўка (б. вёскі Зелянковічы 1 і Зелянковічы 2). У сутоках рэк дзве кароткія прамалінейныя шыротныя вуліцы забудаваны двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры і на Пд пабудаваны двух- і аднапавярховыя чатырох-, двух- і аднакватэрныя мураваныя дамы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю — Свята-Троіцкая царква (1842). Радзіма нар. паэта БССР, засл. работніка культуры УССР, лаўрэата Дзярж. прэмій СССР і БССР А.А.Куляшова (з 1984 г. працуе яго літаратурны музей) і аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну, дзярж. дзеяча БССР І.Дз.Вятрова.



*А.А.Куляшоў.*

У канцы 1930-х г. на тэр. былога Саматэвіцкага с/с былі вёскі Астравок, Сямёнаўка, Рудакоўка, Церахоўка, Бондараўка, пасёлкі Уладзімірскі, Новаўладзіміраўскі, Маскоўскі (не існуюць).



*У наваколлі в. Саматэвічы.*

**САСНАВЕЦ** — пасёлак у Сялецкім с/с, за 37 км на ПдУ ад Касцюковіч, 3 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 190 км ад Магілёва, на ПнУ — 3 штучныя сажалкі, на ПдЗ — чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 16 двароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае), працаваў магазін. У 2002 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**САФОНАЎКА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 26 км на ПдУ ад Касцюковіч, 9 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 193 км ад Магілёва, на р. Трасцянка (прыток р. Беседзь), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

У 1897 г. лясная кантора ва ўрочышчы Дварэцкае, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. хутар, 1 двор, 4 жыхары. У пач. 1920-х г. пачалося актыўнае перасяленне ў гэтыя месцы з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах.У 1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 30 двароў. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар, у 1986 г. 42 гаспадаркі, 90 жыхароў, у складзе саўгаса «Смольскі» (цэнтр — в. Смольскі). Дзейнічалі пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2002 г. 21 гаспадарка, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх прамалінейных і паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных пераважна двухбакова, рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**СІГЕЕЎКА** — вёска ў Баронькаўскім с/с, за 35 км на ПдУ ад Касцюковіч, 19 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 191 км ад Магілёва, на Пд, У і ПнУ меліярацыйны канал, злучаны з р. Зубар (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 1779 г. як вёска, 7 двароў, 49 жыхароў, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета. У 1799 г. 9 двароў, 84 жыхары, у 1816 г. 15 двароў, 87 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 99 жыхароў, уладанне памешчыцы Ш.О.Мартынавай. У 1880 г. 28 двароў, 193 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным промыслам. У 1897 г. 37 двароў, 302 жыхары, у Машаўской вол. У 1907 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У пач. 1920-х г. пачалі працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 28 вучняў і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых пры ёй). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 67 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях». У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 304 жыхары, у 1986 г. 42 гаспадаркі, 115 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Гаўрыленка), працаваў магазін. У 2002 г. 19 гаспадарак, 28 жыхароў. Складаецца з дзвюх кароткіх крывалінейных мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, забудаваных двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**СІЛІЧЫ** — вёска ў Беладубраўскім с/с за 25 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва, на р. Алешня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1720 г. У 1727 г. — 35, у 1747 г. 39 двароў, у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 279 жыхароў. Па

рэвізскіх матэрыялах 1816 г. ўладанне памешчыка І.І.Глінкі. У 1858 г. меліся заезны дом, цагельны і вапнавы з-ды. Памешчык у 1878 г. меў 1234 дзес. зямлі, ветраны млын, карчму. 7 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся ў 1880 г. кравецкім, бандарным і кавальскім промысламі. У 1885 г. 94 двары, 519 жыхароў, млын, заезны дом, драўляная царква, у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1897 г. 121 двор, 1010 жыхароў. Побач існавалі аднайменныя фальварак (1 двор, 5 жыхароў, ветраны млын) і пасёлак (1 двор, 13 жыхароў). У 1905 г. адкрыта земская школа, для якой сяляне ў тым жа годзе ўзвялі будынак (у 1907 г. 71 вучань). У 1-ю рус. рэвалюцыю 28—29.12.1905 г. і ў студз. 1906 г. вяскоўцы грамілі маёнтак. У 1909 г. ў сяле 145 двароў, 972 жыхары, у маёнтку — 1 двор, 19 жыхароў. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 50 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Сіліцкага с/с. У Вял. Айч. вайну каля вёскі ў жн. 1941 г. загінулі 2 сав. воіны, у баі за вызваленне вёскі 7 воінаў 283-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). Паводле перапісу 1959 г. — 791, у 1970 г. 497 жыхароў. У 1986 г. 117 гаспадарак, 243 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Відуйцы). Працавалі аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін. У 2001 г. 18 гаспадарак, 37 жыхароў. Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ абапал ракі і забудаваных двухбакова, пяшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі размешчана радовішча мелу і мергелю (перспектыўныя залежы 130 млн. т).

**СКАЛІН** — вёска ў Забычанскім с/с (да 1993 г.), за 33 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 190 км ад Магілёва. Праз вёску працякае меліярацыйны канал Восаўская Канава (прыток р. Дзяражня), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (43 сям'і) пераселены ў в. Шарэйкі.

Вядома з 1777 г., у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1834 г. ўладанне памешчыка В.Кашуры, 60 жыхароў. Памешчыкі Віскоўскія мелі тут у 1858 г. 148, у 1866 г. — 251 дзес. зямлі. У 1897 г. 11 двароў, 62 жыхары, у Брацькаўскай вол. Чэрыкаўскага павета. Побач існавалі аднайменныя аколіца (36 двароў, 194 жыхары, крама, піцейны дом) і фальварак (1 двор, 12 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 7 двароў, 41 жыхар, у аколіцы — 45 двароў, 224 жыхары, у фальварку — 1 двор, 4 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 53 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў, у 1986 г. 42 гаспадаркі, 115 жыхароў, у складзе саўгаса «Брацкі». Працавалі пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін. Асн. частка забудовы на зах. беразе ракі. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СМОЛЬКАЎСКАЯ БУДА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 31 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 185 км ад Магілёва. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Зубар, на аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 45 гаспадаркі, 111 жыхароў (2007).

Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 29 двароў, 152 жыхары, уладанне Чудоўскіх. У 1880 г. 64 двары, 309 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным промыслам, вырабам розных быт. рэчаў з дрэва. У школе граматы ў 1893 г. займаліся 12 вучняў. Паводле перапісу 1897 г. 90 двароў, 614 жыхароў, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 616 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з

17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 130 двароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 433 жыхары, у 1986 г. 97 гаспадарак, 248 жыхароў, у складзе саўгаса «Сялецкі». Працавалі базавая школа, б-ка, магазін, клуб. У 2002 г. 62 гаспадаркі, 128 жыхароў. Планіроўка прамавугольная. Складаецца з чатырох узаемна перпендыкулярных вуліц шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі, галоўная з якіх з'яўляецца адрэзкам аўтадарогі. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СМОЛЬКІ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 33 км на ПдУ ад Касцюковіч, 4 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 185 км ад Магілёва, на аўтадарозе Клімавічы—Сураж. На ПнЗ меліярацыйны канал, злучаны з р. Зубар (прыток р. Беседзь). 95 гаспадарак, 257 жыхароў (2007).

Вядома з 1762 г. ў ВКЛ як сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 208 жыхароў. У 1850 г. 23 двары, у Клімавіцкім павеце, уласнасць казны. У школе граматы ў 1893 г. займаўся 21 вучань. У 1897 г. 80 двароў, 557 жыхароў, у Бялынкавіцкай вол. У 1909 г. 729 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Смольскага с/с. У 1926 г. 105 двароў. Саўгас, які дзейнічаў у вёсцы, уваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст, меў у 1933 г. 2 трактары. У 1933 г. арганізаваны дзіцячыя яслі. У 1935 г. вёска атрымала электраэнергію ад Бялынкавіцкай гідраэлектрастанцыі. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 412 жыхароў, у 1986 г. 110 гаспадарак, 297 жыхароў, цэнтр саўгаса «Смольскі». Дзейнічалі машынны двор, Дом культуры, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 2002 г. 116 гаспадарак, 322 жыхары. Працуюць базавая школа, клуб-б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1984 г. Магілёўграмадзянпраектам. Складаецца з дзвюх узаемнаперпендыкулярных вуліц з завулкамі, адна з якіх (аўтадарога) арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы.

**СТАНЦЫЯ БЯЛЫНКАВІЧЫ** — пасёлак і чыг. станцыя (на лініі Крычаў—Сураж) у Бялынкавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Касцюковіч, 176 км ад Магілёва, вакол лес. Побач аўтадарога Крычаў—Сураж. 48 гаспадарак, 105 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г., калі будавалася, а затым пачала дзейнічаць чыгунка Орша—Унеча (1923). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 14 двароў. У 1933 г. электрыфікавана. Жыхары працавалі на чыгунцы і ў калгасе. У Вял. Айч. вайну 10.11.1941 г. дыверсійна-разведвальны атрад НКУС на чале з Дз.М.Мядзведзевым разграміў варожы гарнізон, які размяшчаўся на станцыі, знішчыў 28 гітлераўцаў, узарваў вадакачку і чыг. мост. У ноч на 22.4.1943 г. партызаны 2-й асобнай Клятнянскай брыгады пад камандаваннем Ц.М.Каротчанкі ўзарвалі 120-мятровы чыг. мост цераз р. Беседзь і знішчылі паліцэйскі гарнізон, які ахоўваў мост, пашкодзілі чыг. рэйкі і дратавую сувязь. У выніку чыгунка месяц не працавала. Станцыя вызвалена 30.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 398, у 1970 г. 318 жыхароў. У 1986 г. 92 гаспадаркі, 193 жыхары, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы), працаваў магазін. У 2002 г. 60 гаспадарак, 141 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, паралельна да чыгункі. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі і мураванымі дамамі.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 16 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 173 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы.

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска ў Студзянецкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. Калгас імя С.М.Будзённага, які ў 1931 г. быў арганізаваны ў вёсцы, аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе саўгаса «Дуброва». У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары адселены. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. хатамі.

**СТУДЗЯНЕЦ** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 5 км на Пд ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 165 км ад Магілёва, на р. Жадунька (прыток р. Беседзь) і аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. 92 гаспадаркі, 197 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1527 г., калі Мсціслаўскае княства было падаравана Сігізмунду Аўгусту, Крычаў і належныя да яго мястэчкі Мілаславічы, Хоцімск, Забычанік і Студзянец былі аб'яўлены староствамі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, 15 двароў, 62 жыхары. У 1779 г. 35 двароў, 168 жыхароў, у маёнтку графа Р.А.Пацёмкіна, драўляная царква. У 1785 г. 62 двары, 291 жыхар, у Чэрыкаўскім павеце, 1 раз на год праводзіўся кірмаш. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. мястэчка ў валоданні Галынскіх. У 1847 г. побач з мястэчкам аднайменнае сяло, якое было цэнтрам маёнтка. У 1850 г. засн. маслабойня, у 1855 г. — сукнавальня, у валоданні памешчыцы А.М.Камар. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 64 вучні). Памешчык меў тут у 1867 г. 440 дзес. зямлі. У 1879 г. пачала дзейнічаць канатна-льнотрапальнае прадпрыемства. У 1880 г. цэнтр воласці, у мястэчку і сяле 130 двароў, 1571 жыхар, 2 маслабойні, 2 царквы, малітоўная школа. Частка жыхароў займалася кавальскім і сталярным промысламі. У 1885 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1911 г. пабудавана ўласнае памяшканне. У 1897 г. ў мястэчку 77 двароў, 621 жыхар, 6 крам, фельчарскі ўчастак, у сяле — 90 двароў, 510 жыхароў, карчма. Побач быў аднайменны фальварак, дзейнічалі вадзяны млын і сукнавальня. У 1909 г. ў мястэчку і сяле 203 двары, 1531 жыхар. У 1919 г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 100 вучняў, б-ка). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 8.12.1959 г. цэнтр Студзянецкага с/с. У лютым 1930 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна», які аб'ядноўваў 165 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 42 воіны 269-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 28.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 551, у 1970 г. 480 жыхароў. У 1986 г. 156 гаспадарак, 370 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна». Дзейнічалі пач. школа, б-ка, аддз. сувязі, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, 3 спарт. пляцоўкі. У 2002 г. 115 гаспадарак, 242 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай, арыентаванай амаль мерыдыянальна вуліцы (адрэзак аўтадарогі), ад якой на З і У адыходзяць кароткія крывалінейныя вуліцы. На ПдУ, каля ракі, невялікі адасоблены П-падобны ўчастак забудовы. Будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. На ПдУ, каля ракі, парк. Радзіма дзеяча рэв. руху, чл. КПСС з 1898 г., літаратара-публіцыста і педагога, доктара гіст. навук П.М.Лепяшынскага і бел. пісьменніка А.С.Русецкага.



*П.М.Лепяшынскі.*

**СЯЛЕЦКАЕ** — вёска, цэнтр Сялецкага с/с і СВК «Сялецкае», за 30 км на ПдУ ад Касцюковіч, 4 км ад чыг. ст. Журбін на

лініі Крычаў—Сураж, 185 км ад Магілёва, на р. Грэбля (прыток р. Зубар), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 246 гаспадарак, 643 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. У 1722 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв., уласнасць казны. У 1727 г. 18 дымоў. У 1747 г. 21 дым. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 64 жыхары, царква, у Клімавіцкім павеце, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1816 г. 117 жыхароў. У 1834 г. 164 жыхары. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 32 двары, 202 жыхары, у валоданні памешчыка В.М.Галынскага. У 1868 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1885 г. 51 двор, 297 жыхароў, царква, у Бялынкавіцкай вол. У 1887 г. сяляне зрабілі высечку памешчыцкага лесу на пл. 250 дзесяцін. Паводле перапісу 1897 г. 79 двароў, 542 жыхары, заезны двор. Апрача земляробства многія жыхары займаліся вырабам розных быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары, а таксама бандарным промыслам. У 1909 г. 94 двары, 672 жыхары. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 45 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім р-не. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-не. 3.4.1925 г. арганізавана закупачна-збытавое т-ва. У 1926 г. 129 двароў. Створаны ў вёсцы саўгас меў у 1931 г. 1500 га зямлі, уваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст. У 1931 г. адкрыта хата-чытальня, у 1933 г. — дзіцячая пляцоўка і яслі. У 1935 г. вёска атрымала электраэнергію ад Бялынкавіцкай гідраэлектрастанцыі. Дзейнічаў вузел сувязі. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 29.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 472 землякі, на ўшанаванне якіх у 1965 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1959 г. 435 жыхароў, у 1986 г. 173 гаспадаркі, 480 жыхароў, цэнтр саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкае). Працавалі машынны двор, сярэдняя школа, б-ка, урачэбная амбулаторыя, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, гандл. цэнтр, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 270 гаспадарак, 789 жыхароў. Працуюць сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1977 г. Магілёўграмадзянпраектам. Планіроўка прамавугольная. У яе аснове дзве амаль паралельныя паміж сабой шыротныя вуліцы, злучаныя завулкамі. Ад іх перпендыкулярна на Пд і Пн адыходзяць другарадныя вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 62 кватэры, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй пасля чарнобыльскай катастрофы мясцін.



*На тэрыторыі Сялецкай сярэдняй школы.*

У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Сялецкага с/с былі вёскі Новая Фралаўка і Іванаўка (не існуюць).

**ТАРАСАЎКА** — пасёлак у Беладубраўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял.

Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 135, у 1970 г. 83 жыхары. У 1986 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Саматэвічы» (цэнтр — в. Саматэвічы). У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары адселены. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова драўлянымі сял. хатамі.

**ТРАЯНАЎКА** (да 1979 г. Новажукаўка) — пасёлак у Бароньkаўскім с/с, за 34 км на Пд ад Касцюковіч, 20 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 194 км ад Магілёва, на ПдЗ і ПнУ мяжуе з лесам, на зах. ускраіне — сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядомы з 19 ст. Гаспадар маёнтка меў тут у 1869 г. 1784 дзес. зямлі. У 1920-х г. ў гэтыя месцы актыўна перасяліліся жыхары з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 19 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Гаўрыленка). У 2002 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ТРУСАК** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Касцюковіч, 10 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 183 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 36 двароў. У 1940 г. 60 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 12.4.1942 г. 3 групы ваеннаслужачых, якія не змаглі выйсці з акружэння, разам з вяскоўцамі і жыхарамі суседніх вёсак стварылі партыз. атрад «За Савецкую Беларусь». Вызвалена 28.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 219, у 1970 г. 203 жыхары. У 1986 г. 41 гаспадарка, 86 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы), магазін. У 2002 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. Складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ТУПІЧЫНА** — вёска ў Дзямідавіцкім с/с, за 4 км на У ад Касцюковіч, 16 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 172 км ад Магілёва, на р. Сураў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 281 гаспадарка, 675 жыхароў (2007).

На ПдУ, за 0,2 км на Пн ад школы, захаваўся стараж. курганны могільнік (6 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэ-

*Сельскі клуб у в. Тупічына.*

*Школа ў в. Тупічына.*





тых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вядома ў ВКЛ з 17 ст. пад 1653 г. пазначана наяўнасць тут манастыра. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1694 г. 7 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У



*Аграгарадок у в. Тупічына.*

1799 г. значылася як в. Тупічына, 39 двароў, 278 жыхароў. У 1811 г. 49 двароў, 209 жыхароў, уладанне М.К.Галынскага, у Клімавіцкім павеце. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 68 двароў, 461 жыхар, уладанне І.І.Цеханавецкага. У 1880 г. засн. сукнавальня, у 1884 г. — вінакурня (у 1895 г. 16 рабочых), дзейнічала дрэваапрацоўчае прадпрыемства, 45 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1885 г. 92 двары, 560 жыхароў, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 130 двароў, 946 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, у Бярозаўскай вол. У аднайменным фальварку 1 двор, 3 жыхары, вінакурня. У 1902 г. царк.-прыходская школа ператворана ў земскую, для якой у 1907 г. пабудавана ўласнае памяшканне (у 1905 г. 36 вучняў). У студз. 1906 г. вяскоўцы правялі самавольную высечку лесу, знялі рабочых з вінакурнага з-да. Пры выбарах сельскага старасты і пошуках у сялян памешчыцкага лесу адбыліся ўзброеныя сутыкненні з мясц. уладамі. У 1907 г. аднакласная земская школа ператворана ў двухкласнае вучылішча з рамесніцкім класам. У 1909 г. ў вёсцы 135 двароў, 999 жыхароў, у фальварку — 17 жыхароў. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 146 вучняў). У кастр. 1920 г. арганізавана с.-г. арцель, а затым т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. У 1934 г. пабудавана цагельня. З 5.12.1931 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Тупічанскага с/с. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 9 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках). Вызвалена 29.9.1943 г. 102 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, на ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. У 1975 г. далучаны вёскі Аляксандраўка, Рэспубліка. У 1986 г. ў складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Вітунь), працавалі сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін,

*Возера каля в. Тупічына.*



*На асабістым падвор'і ў в. Тупічына.*



аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 306 гаспадарак, 753 жыхары. У сярэдзіне 2000-х г. на базе в. Тупічына створаны аграгарадок. Працуюць сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных працяглых вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. На Пн гэтыя вуліцы злучаны кароткай прамалінейнай вуліцай з мостам цераз раку. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы на левабярэжнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 268 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй у выніку чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Сац. Працы Л.І.Барыскіна.

**ФЁДАРАЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Касцюковіч, 6 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 175 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж.

Вядома з 1799 г., 5 двароў, 29 жыхароў, уласнасць памешчыка. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. 48 жыхароў мужчынскага полу, уладанне памешчыка І.Б.Краенскага, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1834 г. 11 двароў, 99 жыхароў. У 1858 г. 124 жыхары. У 1920-х г. дзейнічала т-ва па суменснай апрацоўцы зямлі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 28.9. 1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 89, у 1970 г. 240 жыхароў. У 1986 г. 61 гаспадарка, 161 жыхар, у складзе саўгаса «Канічы» (цэнтр — в. Канічы), працаваў магазін. Складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ФЁДАРАЎКА** (да 1935 г. Кручкоўка) — вёска ў Касцюковіцкім гар. Савеце, за 2 км на поўдзень ад Касцюковіч, 4 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 162 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам, на Пн р. Крупня (прыток р. Жадунька). Побач аўтадарога Клімавічы—Сураж.

У 1857 г. згадваецца як в. Фёдараўка (яна ж Кручкоўка) у Клімавіцкім павеце. У 1880 г. 27 двароў, 200 жыхароў. Апрача земляробства 20 вяскоўцаў займаліся адыходным і перавозным промысламі. У 1897 г. 37 двароў, 280 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 28.9. 1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 131 гаспадарка, 364 жыхары, у складзе калгаса «Парыжская камуна», працаваў магазін. З 1977 г. ў межах г. Касцюковічы. Гал. вуліца прама-



*Л.І.Барыскін.*





*Прыём хворых у фельчарска-акушэрскім пункце в. Тупічына.*

*Ваколіца в. Тупічына.*

лінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе з ПнЗ і ПдУ амаль перпендыкулярна адыходзяць прамалінейныя другарадныя вуліцы. Частка забудовы ўздоўж аўтадарогі. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ФРАЛОЎКА** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Касцюковіч, 17 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 134 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 24 гаспадаркі, 58 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1834 г. 16 двароў, 78 жыхароў, уласнасць памешчыка В.Мілашова. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. ў валоданні памешчыка І.Лявонава. У 1862 г. заснавана сукнавальня. Гаспадар маёнтка меў у 1878 г. 1405 дзес. зямлі. У 1880 г. 20 двароў, 142 жыхары. 6 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1897 г. 25 двароў, 193 жыхары, у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 26 двароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. Створаны ў 1931 г. калгас «Чырвоная паляна» аб'ядноўваў 21 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 31 гаспадарка, 85 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары), працаваў магазін. У 2002 г. 28 гаспадарак, 91 жыхар. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна ўздоўж ракі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ФРАЛОЎКА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Касцюковіч, 5 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Крычаў—Сураж, 186 км ад Магілёва, на р. Грэбля (прыток р. Зубар), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Крычаў—Сураж. 48 гаспадарак, 95 жыхароў (2007).

У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., уладанне памешчыка. У 1897 г. 22 двары, 151 жыхар, у Бялынкавіцкай вол. У 1909 г. 159 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1926 г. ў вёсках Старая Фралоўка 34 двары, Новая Фралоўка — 13 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Сялецкі» (цэнтр — в. Сялецкая), працавалі пач. школа, магазін. У 2002 г. 59 гаспадарак, 126 жыхароў. Рака падзяляе вёску на ПнЗ (адна прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі) і ПдУ (дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



Царква Марыі Магдаліны ў в. Фёдараўка.

Непадалёку ёсць Вароньkаўскае радовішча мелу (перспектыўныя запасы 720,1 млн. т), мергелю (перспектыўныя запасы 253,6 млн. т) і суглінкаў (перспектыўныя запасы 537 тыс. м$^3$).

**ХАМІНКА** — вёска ў Забычанскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 191 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пас-

ля чарнобыльскай катастрофы жыхары (7 сямей) пераселены ў чыстыя мясціны.

Вядома з 19 ст. Памешчык меў тут у 1877 г. 108 дзес. зямлі. У 1897 г. 4 двары, 29 жыхароў, у Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. Побач існавалі 2 аднайменныя фальваркі (2 двары, 12 жыхароў) і хутар (1 двор, 3 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 5 двароў, 32 жыхары, і на двух хутарах — 2 двары, 10 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 47 жыхароў, у 1986 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Брацкі» (цэнтр — в. Брацькавічы). Забудова няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**ХАРАШОЎКА** — вёска ў Забычанскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 162 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Вядома з 1747 г., 10 двароў, у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 31 жыхар, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. У 1785 г. 53 жыхары, у Чэрыкаўскім павеце, у 1811 г. 15 двароў, 25 жыхароў мужчынскага полу, у Клімавіцкім павеце. У 1834 г. 64 жыхары, уладанне памешчыцы М.С.Курскай. Гаспадар маёнтка меў у 1858 г. 285 дзес. зямлі. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 17 двароў, у валоданні памешчыкаў А.І.Краеўскага і Валюжыніча. У 1897 г. 18 двароў, 155 жыхароў, у Касцюковіцкай вол. У аднайменным фальварку — 1 двор, 3 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 168 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 7 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 122, у 1970 г. 108 жыхароў. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 70 жыхароў, у складзе саўгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Нізькі). У 2002 г. 26 гаспадарак, 60 жыхароў. Забудова пераважна аднабаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХОЦІМСК** — вёска ў Беладубраўскім с/с (да 1994 г.), за 31 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 192 км ад Магілёва, на р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Саматэвічы—Касцюковічы. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары (105 сямей) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло ў Крычаўскай «дзяржаве», уласнасць казны. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1694 г. 2 дымы, 1 валока зямлі, у 1712 г. 4 дымы. У 1727 г. вядома як с. Хоцімск Малы ў Крычаўскім старостве. У 1747 г. 5 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 10 двароў, 74 жыхары, у Клімавіцкім павеце, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 188 жыхароў. У 1858 г. 28 двароў, у валоданні памешчыка В.М.Галынскага. З 1885 г. дзейнічала гарбарня, з 1880 г. — запалкавая ф-ка. У 1880 г. 49 двароў, 202 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1890 г. засн. кардонная ф-ка (у 1895 г. 30 рабочых). У 1897 г. вёскі Хоцімск 1 (67 двароў, 560 жыхароў) і Хоцімск 2 (64 двары, 362 жыхары, школа граматы, піцейны дом), у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. Побач існавалі фальваркі Хоцімск (43 жыхары, кардонная ф-ка) і Хоцімск 2 (1 двор, 8 жыхароў). У 1908 г. школа граматы ператворана ў земскую. У 1909 г. ў в. Хоцімск 1 — 77 двароў, 476 жыхароў, у в. Хоцімск 2 — 79 двароў, 457 жыхароў, на хутары Хоцімск — 25 жыхароў, у фальварку Хоцімск 2 — 1 двор, 9 жыхароў. У 1918 г. вяскоўцы пабудавалі памяшканне для школы (у 1925 г. 112 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Хоцімскага с/с. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баі каля вёскі загінулі 6 сав. воінаў (паха-

ваны ў брацкай магіле ў цэнтры). Вызвалена 29.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. — 535, у 1970 г. 392 жыхары. У 1986 г. 105 гаспадарак, 244 жыхары, у складзе саўгаса «Саматэвічы», (цэнтр — в. Саматэвічы). Дзейнічалі аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, базавая школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі. Да яе з Пн далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы І.Р.Зайцава (1917—52). Каля вёскі залежы мергелю.



*І.Р.Зайцаў.*

**ЦЕХАНІЧЫ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 136 км ад Магілёва, на р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле.

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1762 г сяло з шынком, у Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 12 двароў, 126 жыхароў, у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка І.А.Мілашэўскага. Гаспадар аднайменнага маёнтка ў 1856 г. меў 365 дзес. зямлі. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 238 жыхароў, ва ўладанні памешчыка І.Ф.Маліноўскага. У 1880 г. 53 двары, 377 жыхароў. Апрача земляробства частка сяльчан займалася кушнерскім, кравецкім, шавецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. 68 двароў, 491 жыхар, у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. У аднайменным фальварку — 2 двары, 9 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 70 двароў, 524 жыхары, млын, у фальварку — 1 двор, 13 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа. У чэрв. 1921 г. арганізавана с.-г. арцель, затым с.-г. т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. Калгас «Верны шлях» аб'ядноўваў у 1931 г. 10 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 209, у 1970 г. 118 жыхароў. У 1986 г. 27 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 16 гаспадарак, 36 жыхароў. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАРЧОНАЎКА** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 143 км ад Магілёва, на р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 1799 г. як сяльцо, 10 двароў, 68 жыхароў, уладанне памешчыка. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 15 двароў, у валоданні памешчыка В.Мілашова. У 1858 г. 55 рэвізскіх душ, у Клімавіцкім павеце. У 1880 г. 26 двароў, 168 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. 31 двор, 236 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Раднянскай вол. У 1909 г. 37 двароў, 269 жыхароў. У 1919 г. ў былым памешчыцкім маёнтку адкрыта школа (у 1925 г. 50 вучняў), якая да 1924 г. ўтрымлівалася на сродкі камуны. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. Калгас «Энергія» арганізаваны ў 1931 г., аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 97, у 1970 г. 57 жыхароў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 35 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў. Забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ЧЫРВОНАЯ ЗАРА** — вёска ў Беладубраўскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 167 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам, на ПнЗ меліярацыйны канал, злучаны з р. Дзяражня (прыток р. Беседзь).

Побач аўтадарога Краснаполле—Хоцімск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса «Кранштат» (цэнтр — в. Вётухна). У 2002 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ЧЫРВОНАЯ ЗАРА** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 144 км ад Магілёва, на ПнЗ р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА** (да 1947 г. Гібалы) — вёска ў Забычанскім с/с, за 8 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 161 км ад Магілёва, на р. Жадунька (прыток р. Беседзь), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 33 гаспадаркі, 47 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як с. Гіблы Крычаўскай «дзяржавы» уласнасць казны. Паводле інвентару Крычаўскага староства 1694 г. 2 дымы. У 1747 г. 18 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 190 жыхароў, уладанне памешчыка, стацкага саветніка В.І.Галынскага. У 1897 г. 73 двары, 567 жыхароў, у Студзянецкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 86 двароў, 602 жыхары, адкрыта школа, для якой у хуткім часе было пабудавана памяшканне. У 1920-х г. пачала працаваць 4-класная школа (у 1925 г. 68 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 486, у 1970 г. 396 жыхароў, у 1986 г. 97 гаспадарак, 183 жыхары, у складзе саўгаса «Забычанне» (цэнтр — пас. Забычанне), працаваў магазін. У 2002 г. 44 гаспадаркі, 60 жыхароў. Складаецца з дзвюх (паўночнай прамалінейнай і паўднёвай дугападобнай) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

За 1,8 км на ПнУ размешчана Гібалаўскае радовішча глін і суглінкаў (перспектыўныя запасы 194 тыс. м³).

**ЧЫРВОНЫ КУРГАН** — пасёлак у Забычанскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 148 км ад Магілёва, на ПнЗ мяжуе з лесам, на ПдУ сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2007).

Засн. ў 1975 г. ў сувязі з будаўніцтвам газаправода «Дружба». Тут размяшчалася адна з яго станцый. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 111 жыхароў, у складзе саўгаса «Забычанне» (цэнтр — пас. Забычанне), працаваў магазін. У 2002 г. 30 гаспадарак, 69 жыхароў. Складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫТАВЫЯ** — вёска ў Забычанскім с/с, за 29 км на З ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва, на р. Дзяражня (прыток р. Беседзь), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Краснаполле—Хоцімск.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з

17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 60, у 1970 г. 35 жыхароў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Брацкі» (цэнтр — в. Брацькавічы). У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхары адселены. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Будынак філіяла дзіцячай школы мастацтваў у в. Шарэйкі.*



*Магазін у в. Шарэйкі.*



*Каля школы ў в. Шарэйкі.*

**ШАБЛІ** — вёска ў Бароньkаўскім с/с, за 41 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 23 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 196 км ад Магілёва, на р. Свінка (прыток р. Беседзь), на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1765 г. як сяло (14 двароў) у складзе маёнтка Геаргінава ў Мсціслаўскім ваяв. У 1787 г. мелася карчма. У 1799 г. 146 жыхароў, у складзе маёнтка графа Р.А.Пацёмкіна. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. ў валоданні памешчыка І.О.Галынскага. У 1834 г. 185 жыхароў, уладанне памешчыка М.І.Валовіча. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 161 жыхар, у Машаўской вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 17 двароў, 183 жыхары, нар. вучылішча. Разам з сялянамі суседніх паселішч вяскоўцы 3.6.1917 г. падзялілі памешчыцкія лугі маёнтка Райкі. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1930-х г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 160, у 1970 г. 131 жыхар. У 1986 г. 29 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Машавое). У 2002 г. 13 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ШАРЭЙКІ** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 150 км ад Магілёва, на ПдЗ меліярацыйны канал, злучаны з р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімаві-

чы—Сураж. 243 гаспадаркі, 636 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Крычаўскай «дзяржавы», уласнасць казны. У 1727 г. 33 гаспадаркі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1811 г. ўладанне памешчыка І.А.Астроўскага. У 1834 г. 96 жыхароў, уладанне І.Барташэвіча. Гаспадар маёнтка меў тут у 1872 г. 210 дзес. зямлі. У 1880 г. 45 двароў, 240 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У школе граматы ў 1893 г. было 20 вучняў. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 354 жыхары, у Касцюковіцкай вол. Клімавіцкага павета. У 1908 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 56 двароў, 384 жыхары. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1926 г. 45 вучняў). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 226, у 1970 г. 188 жыхароў. У 1986 г. 59 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У сярэдзіне 2000-х г. на базе в. Шарэйкі створаны аграгарадок. У 2002 г. 263 гаспадаркі, 694 жыхары. Працуюць аддз. сувязі, сярэдняя школа, сельскі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой на З далучаецца кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры два двухпавярховыя 4-кватэрныя дамы. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 205 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку чарнобыльскай катастрофы тэрыторый.

**ШЧАГЛОЎКА** — вёска ў Бялынкавіцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Касцюковіч, 4 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 142 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 19 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 20 двароў, 92 жыхары, у Клімавіцкім павеце. У 1858 г. 57 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 30 двароў, 189 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых рэчаў з дрэва. У 1897 г. вёска Шчыглоўка, 44 двары, 305 жыхароў, у Бялынкавіцкай вол. Школа граматы ў 1900 г. ператворана ў царк.-прыход-



*Дзіцячыя яслі-сад у в. Шарэйкі.*



*Аддзяленне «Беларусбанка» ў в. Шарэйкі.*

скую і для яе пабудавана ўласнае памяшканне. У 1909 г. 47 двароў, 235 жыхароў. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 42 вучні). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 75 двароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 267, у 1970 г. 240 жыхароў. У 1986 г. 51 гаспадарка, 100 жыхароў, у складзе саўгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Бялынкавічы), працаваў магазін. У 2002 г. 21 гаспадарка, 43 жыхары. Планіроўка радыяльная. Ад невялікай плошчы адыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака А.С. Бархаткова.



*А.С.Бархаткоў.*

**ШЧАРБАКОЎКА** — пасёлак у Пралетарскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 137 км ад Магілёва, на ПнУ ручай (прыток р. Сураў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г., калі сюды перасяліліся сяляне з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Касцюковіцкім р-не. 1.1.1932 г. арганізаваны калгас, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЯВУЛІНА** (да 1935 г. Туры) — вёска ў Пралетарскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 140 км ад Магілёва, на У р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж.

Вядома з 19 ст. У 1834 г. 9 жыхароў, уладанне І.Ф.Градскага, які купіў вёску ў А.Свадкоўскага. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 5 двароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Драўляная сял. сядзіба размешчана на правым беразе ракі.

**ЯГОРАЎКА** — вёска ў Бароньаўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Касцюковіч, 14 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 188 км ад Магілёва, на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Зубар (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Клімавічы—Сураж. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У 1926 г. 15 двароў. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 9 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Бароньκі» (цэнтр — в. Бароньκі). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЯГОРАЎКА** — вёска ў Бароньаўскім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Касцюковіч, 23 км ад чыг. ст. Бялынкавічы на лініі Крычаў—Сураж, 196 км ад Магілёва, на Пн р. Свінка (прыток р. Беседзь), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Клімавічы—Сураж.

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. 3 двары, 27 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце. У 1834 г. 40 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну 29.9.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. — 107, у 1970 г. 87 жыхароў. У 1986 г. 19 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Вялікі Бор). У 2002 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў. Забудавана аднабакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ЯНГЕЛАЎКА** — вёска ў Пралетарскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Касцюковіч і чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж, 140 км ад Магілёва, на З р. Сураў (прыток р. Сураў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Хоцімск—Краснаполле. 6 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну 28.9. 1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. У 1986 г. 9 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Пячары). У 2002 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. Складаецца з кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА


Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 40, воп. 1а, спр. 107.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 28, спр. 102, 524; ф. 6, воп. 1, спр. 894, 896, 984, 1350, 1360, 2485; ф. 7, воп. 1, спр. 465; ф. 30, воп. 5, спр. 2392, 6758, 6770; воп. 9, спр. 2392; воп. 78, спр. 1655; ф. 31, воп. 2, спр. 54; ф. 40, воп. 1а, спр. 107; ф. 42, воп. 1, спр. 730, 1064, 1124, 1834, 2021, 2127; воп. 2, спр. 320, 942, 1588, 2127, 3202, 3223—3225, 3227, 3231, 3235—3237, 3242, 3243, 3245, 3298—3301, 3303—3313, 3317—3328, 3331—3343, 3486; ф. 46, воп. 2, спр. 3226, 3228—3233, 3239; ф. 48, воп. 1, спр. 292, 500, 2137, 2198, 2850, 2861, 2962, 4962, 5174, 5408; воп. 2, спр. 38; воп. 9, спр. 460; ф. 93, воп. 1, спр. 1235; ф. 102, справаводства 1880 г., спр. 89; ф. 141, воп. 1, спр. 144, 177, 252, 454; ф. 165, воп. 1, спр. 39; ф. 334, воп. 1, спр. 292, 500, 621; воп. 2, спр. 28, 37, 38.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 1928—1930; ф. 694, воп. 2, спр. 1155, 1156, 3981, 3982, 3982 а, 3983; воп. 4, спр. 1155; ф. 1297, воп. 1, спр. 15340; ф. 1729, воп. 1, спр. 60, 70, 77, 78; ф. 1772, воп. 1, спр. 19; ф. 2001, воп. 1, спр. 81, 331, 1353, 1359; ф. 2014, воп. 1, спр. 108, 110, 113, 575; ф. 2120, воп. 1, спр. 25; ф. 2151, воп. 1, спр. 10, 12, 15—17, 107—116, 117 (т. 1—3), 168, 177, 179, 179/1, 180—183, 188, 190, 191, 199, 212; ф. 2189, воп. 1, спр. 306; ф. 2221, воп. 1, спр. 78; ф. 2254, воп. 2, с. 36.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. ДП, 1906, спр. 700, ч. 17; ф. 577, воп. 19, спр. 411, 1598, 1692, 1740; ф. 1290, воп. 11, спр. 1350, 1375.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 30, воп. 2, спр. 30; ф. 1350, воп. 312, спр. 95, 96.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 73; ф. 1355, воп. 1, спр. 109, 713, 735, 736.
Архіў Інстытута гісторыі Расійскай акадэміі навук, ф. 11, спр. 62/488; ф. 52, воп. 1, спр. 263.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 92, 3002; ф. 459, воп. 1, спр. 2300.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 16, спр. 127; ф. 40, спр. 8314, 8316.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. СПб., 1848.
Приложения к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. Могилевская губерния. СПб., 1860.
Городские поселения в Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Акты Южной и Западной России. Т. 1—15. СПб., 1863—92.
Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 3. СПб., 1866.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1881; СПб., 1894.
Живописная Россия. Т. 3, ч. 1—2. СПб.; М., 1882.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2—3. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учебный год. Могилев, 1889.

Перечень фабрик и заводов. СПб., 1894.
Фабрично-заводская промышленность России: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 25, ч. 1—2. СПб.; Вильна, 1898.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1901 г. Могилев, 1901.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1902/03 учебный год. Могилев, 1902.
Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Могилев, 1905.
Могилевский голос. 1906. 15, 23 янв., 15 июня.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/08 учебный год. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 год. Могилев, 1909.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 год. Могилев, 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 год. Могилев, 1911.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1914.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 г. Вильна, 1915.
Правда. 1930. 29 сент.
Статистическо-экономический справочник. Мн., 1936.
Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: док. и материалы. Мн., 1955.
Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 1. Мн., 1957.
Крестьянское движение в России в 1881—1889 гг. М., 1960.
Крестьянское движение в России в 1890—1900-х гг. М., 1960.
Спірыдонаў М.Ф. Структура феадальнай зямельнай уласнасці; гіст. карта // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мн., 1975. Т. 12.
Мелешко В. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Краткие сведения об орг. структуре партиз. соединений, бригад (полков), отрядов (батальонов) и их личном составе. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.


МАГІЛЁЎ
Маштаб 1:86 000
Гаі
Шклоў
Палыкавічы 2
Палыкавічы 1
вул. Крупскай
вул. Кулібіна
Днепр
Нов. Пашкава
Стар. Пашкава
Шклоўская шаша
Мікалаеўка 2
Агееўка
Орша
сан.
вул. Крывуліна
вул. Гурава
Першамайская вул.
Аксёнаўская вул.
вул. Каманіна
Пашкоўская вул.
Мікалаеўка 3
Краснаполле
Бярозаўка
Мікалаеўка 1
сан.
Мінск
Мінская шаша
вул. Кірава
вул. Бялыніцкага
вул. Грышына
Магілёў 1
Магілёў 3
Загарадная шаша
вул. Якубоўскага
Камінтэрн
Сенькава
Магілёў 2
праспект Міру
Цімразеўская вул.
Ленінская вул.
вул. Грышына
вул. Каралёва
Палавінны Лог
Гарадзічына
вул. Будаўнічая
вул. Касманаўтаў
Садовая вул.
Першамайская вул.
Піянерская вул.
Любуж
Падгорная
вул. Ламаносава
Мсціслаў
Цішоўка
Астоўічы
Гаражны пер.
вул. Чалюскінцаў
Чаромушкі
Лакамабільная вул.
Палтаўская вул.
Вял. Бароўка
Заводская вул.
Віцебскі праспект
Лупалава
вул. Гагарына
Пушкінскі праспект
вул. Астроўскага
вул. Мечнікава
праспект Дзімітрава
вул. Кірэева
Чавусы
Станцыйная вул.
Садовая вул.
Бароўка
Крычаў
бульвар Няскораных
праспект Шмідта
вул. Смалякова
Габроўская вул.
пас. Буйнічы
Буйнічы
Гарадок
вул. Сапава
Алтайская вул.
вул. Навіцкага
Гомельская шаша
Спаўгарадская шаша
вул. Акад. Паўлава
вул. Багдановіча
Быхаў
Зарэчная вул.
Зацішша
Палетнікі
Падгор'е
Сялец
Вейна
Гомель
Зімніца
Спаўгарад
Кварталы гарадской забудовы
Сельскія населеныя пункты
Асноўныя праезды
Іншыя праезды
Аўтамабільныя дарогі
аўтамагістралі
з удасканаленым пакрыццём
з пакрыццём
без пакрыцця
грунтавыя дарогі
Чыгункі, чыгуначныя станцыі, прыпыначныя пункты і іх назвы
Масты
Лясы, паркі, скверы
Садовыя ўчасткі
Могілкі

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ




абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадукац. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
археал. — археалагічны
асн. — асноўны
афіц. — афіцыйны
аўтадарога — аўтамабільная дарога
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
біягр. — біяграфічны
б-ка — бібліятэка
быт. — бытавы
в. — вёска (пры назве ў адз. ліку)
вайск. — вайсковы
вал. — валасны
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)

выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад/гара (пры назве ў адз. ліку)
г. — год (1921 г.), гады (1950-я г.)
гг. — гады (1830—31 гг., 1935 і 1937 гг.)
газ. — газета
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі
гарсавет — гарадскі савет
гасп. — гаспадарчы
гв. — гвардзейскі
геагр. — геаграфічны
ген. — генеральны
ген. — генерал (пры імені)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант
ген.-маёр — генерал-маёр
ген.-палкоўнік — генерал-палкоўнік
герм. — германскі
гіст. — гістарычны
г.п. — гарадскі пасёлак (пры назве)
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
губ. — губерня (пры назве ў адз. ліку)
дакум. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
дэп. — дэпутат
еўрап. — еўрапейскі
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад (напрамак)
засл. — заслужаны
засн. — заснаваны
зах. — заходні
з-д — завод
індустр. — індустрыяльны
ін-т — інстытут
каап. — кааператыўны
каап. — кааперацыйны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве)
кн. — князь (пры імені)
крас. — красавік
к-т — камітэт
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
ліп. — ліпень
літ. — літоўскі
ліст. — лістапад
л-ра — літаратура
манум. — манументальны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
найб. — найбольш(ы)
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
наз. — называецца
нам. — намеснік
нар. — народны
нар.-гасп. — народна-гаспадарчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
н. с. — новы стыль
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
паветр. — паветраны
падп. — падпольны
пал. — палавіна
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
патрыят. — патрыятычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пас. — пасялковы
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
пач. — пачатковы
Пд — поўдзень (напрамак)
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
перыяд. — перыядычны
пл. — плошча
Пн — поўнач (напрамак)
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
правадз. — правадзейны
прам. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны

прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
р. — рака (пры назве)
р-н — раён
р.п. — рабочы пасёлак (пры назве)
рас. — расійскі
рус. — рускі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка
с. — сяло (пры назве ў адз. ліку)
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
сапр. — сапраўдны
сац. — сацыяльны
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы
СВК — сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў
СВП — сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
слав. — славянскі
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
спарт. — спартыўны
с/с — сельсавет (пры назве ў адз. ліку)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе (пры лічбе)
ст. — станцыя (пры назве)
стараж. — старажытны
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сухап. — сухапутны
сял. — сялянскі
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя
тэхн. — тэхнічны
У — усход (напрамак)
узбр. — узброены
укл. — уключна
укр. — украінскі
ун-т — універсітэт
унутр. — унутраны
усх. — усходні
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
фельч.-акушэрскі — фельчарска-акушэрскі
харч. — харчовы
царк. — царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чал. — чалавек (пры колькасных паказчыках)
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгуначны
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак (пры назве)
чыг. ст. — чыгуначная станцыя (пры назве)
чэрв. — чэрвень
шматнац. — шматнацыянальны
эканам. — эканамічны
юрыд. — юрыдычны
яўр. — яўрэйскі

## ЗМЕСТ

Аўтары:

*У.У.Бянько, Т.В.Габрусь, Г.І.Дулеба, М.М.Казлоўская, В.М.Князева, А.М.Кулагін, С.В.Марцэлеў, А.Ю.Пятросава, Г.Ф.Раманаў, В.М.Удальцоў, Т.І.Чарняўская, Т.Р.Чуракова.*

У пошуках гістарычных звестак аб населеных пунктах удзельнічалі:

*З.Е.Абезгаўз, Я.К.Анішчанка, С.П.Бараноўская, М.В.Біч, В.В.Гарбачова, В.Ф.Голубеў, Л.С.Іванова, А.В.Кандраценка, А.Г.Каралёва, У.П.Крук, С.А.Кузняева, М.А.Марцюхова, В.І.Мялешка, Я.П.Насытка, М.Ф.Спірыдонаў, А.М.Спірыдонаў, З.В.Шыбека.*

**ГАРАДЫ І ВЁСКІ БЕЛАРУСІ**

**Энцыклапедыя**

Том 5

Кніга 1

Магілёўская вобласць

Рэдактары: *І.Б.Клепікаў, Дз.В.Кашавар, В.М.Лапцева, Д.Дз.Лемехава, М.Г.Нікіцін, Т.І.Нішт, Л.У.Языковіч*

Мастацкае афармленне *Н.У.Кузьмянковай* пры ўдзеле *Р.У.Кондрада*

Мастацкія рэдактары: *І.А.Грынь, М.Г.Раманенкава*

Картограф *Г.Р.Шыкунова*

Літаратурныя рэдактары: *В.М.Лапцева, Д.Дз.Лемехава*

Карэктары: *В.А.Кульбіцкая, Д.Дз.Лемехава, В.М.Чудакова*

Камп'ютэрны набор: *Р.У.Дзявочка, Н.М.Зубкевіч, Н.У.Мітраховіч, Т.М.Саленік*

Камп'ютэрная вёрстка: *І.М.Кузьмянкова, А.Л.Шалканаўцава*

У томе змешчаны фотаздымкі *А.Л.Дыбоўскага, А.В.Кляшчука, Л.В.Смаляковай*, Дзяржаўнага геральдычнага рэгістра Рэспублікі Беларусь, раённых выканаўчых камітэтаў Магілёўскай вобласці.



Падпісана да друку 23.06.2008. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Пецярбург. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 76,4. Ум. фарб.-адб. 306,18. Ул.-выд. арк. 72,073. Тыраж 2000 экз. Заказ 203.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0131958 ад 25.05.2007 г. Рэспубліка Беларусь. 220012, г. Мінск, завулак Калініна, 16.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Мінская фабрыка каляровага друку». ЛИ № 330/0056853 ад 30.04.2004 г. Рэспубліка Беларусь. 220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

ISBN 978-985-11-0409-9

9 789851 104099